Дадзеная праца ставіць перад сабой мэту шырока даследаваць гісторыю савецкага партызанскага руху ў час Другой сусветнай вайны на прыкладзе Беларусі, а менавіта на аснове крыніц, якія да гэтага часу не былі шырока даступнымі. Беларусь належала не толькі да краін, што найбольш пацярпелі пад нямецкай акупацыяй. Савецкі партызанскі рух і іншыя групы супраціўлення прыдалі краіне да таго ж асаблівае становішча. Беларусь была ў Другой сусветнай вайне апорай партызанскага руху ў Савецкім Саюзе і ў Еўропе.



ISBN 978-5-00076-041-3

Багдан МУСЯЛ Савецкія партызаны ў 1941—1944 гг.

Богдан МУСЯЛ

# Савецкія партызаны ў 1941—1944 гг.

## Міфы і рэчаіснасць



Богдан **МУСЯЛ**

# Савецкія партызаны у 1941–1944 гг.

## Міфы і рэчаіснасць



Смаленск
Інбелкульт
2018

УДК 355.425.4(476)(091) "1941/1944"+94(476) "192/194"
ББК 63.3(4Беи)
М91

**Мусял, Б.**

**М91** Савецкія партызаны ў 1941—1944 гг. Міфы і рэчаіснасць / Багдан Мусял; пераклад з нямецкай мовы Уладзіміра Папковіча, нав. рэд. Уладзімір Калаткоў. — Смаленск: Інбелкульт, 2018. — 592 с.

ISBN 978-5-00076-041-3

У гэтай працы на прыкладзе Беларусі шырока даследуецца гісторыя савецкага партызанскага руху ў час Другой сусветнай вайны. Робіцца гэта на аснове крыніц з беларускіх, расійскіх, нямецкіх, а таксама часткова польскіх і літоўскіх архіваў, якія да гэтага часу не былі ўведзеныя ў шырокі навуковы ўжытак. У кнізе храналагічна рэканструюецца развіццё савецкага партызанскага руху ў Беларусі ад яго пачатку летам 1941 г. да роспуску летам 1944 г., а таксама аналізуюцца яго сацыяльна-гістарычныя ды этнічныя аспекты. Акрамя пытанняў, на якіх традыцыйна акцэнтуюць увагу беларускія даследчыкі, аўтар кнігі не абыходзіць увагай і тыя праблемы, якія традыцыйна лічацца на постсавецкай прасторы «нязручнымі». Выданне прызначана для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Другой сусветнай вайны.

**УДК 355.425.4(476)(091) "1941/1944"+94(476) "192/194"**
**ББК 63.3(4Беи)**

Пераклад зроблены паводле выдання: Musial, Bogdan. Sowjetische Partisanen : 1941—1944: Mythos und Wirklichkeit. — Paderborn—München: Schöningh, 2009. — 592 S.

Пры афармленні вокладкі выкарыстаныя здымкі, зробленыя журналістамі тэлеканала «Белсат» на выставе ў Старым замку ў Гродне, прысвечанай войнам і рэвалюцыям на Гродзеншчыне ў першай палове XX ст.: «Чалавек з ружжом», або топ-5 экспанатаў ваеннай выставы ў Горадні // http://belsat.eu/news/chalavek-zruzhzhom-abo-top-5-ekspanatau-vaennaj-vystavy-u-goradni/ (27.02.2017)

**ISBN 978-5-00076-041-3**



# Змест

# Уводзіны

Нямецка-савецкая вайна, цэнтральная і самая крывавая падзея Другой сусветнай вайны, з 1945 г. зрабілася прадметам незлічонай колькасці даследаванняў. Нягледзячы на гэта, да сённяшняга дня многія важныя пытанні яшчэ не асветлены. Галоўная прычына палягае ў тым, што да распаду Савецкага Саюза не было доступу да адпаведных архіўных фондаў савецкага паходжання і гістарыяграфія ў краінах рэальнага сацыялізму была падпарадкавана палітычным перадумовам — паводле дэвіза: «Гісторыя — гэта палітыка, звернутая да мінулага» (Міхаіл М. Пакроўскі, 1868—1932).

Адной з найбольш ідэалагізаваных тэм была гісторыя савецкага партызанскага руху. Яна паказвалася не толькі амаль выключна ў гераізаваным і міфалагізаваным выглядзе, але шырока выключаліся і ігнараваліся істотныя праблемныя палі, як, напрыклад, адносіны партызанаў да насельніцтва, этнічныя канфліктныя моманты і ўнутраныя праблемы. Недахоп савецкіх крыніц таксама ставіў крытычныя падыходы ў заходніх даследаваннях у вузкія рамкі. Да сённяшняга дня не пераадоленыя вынікі ідэалагізаванай гістарычнай карціны, якія ў мадыфікаванай форме часам пранікаюць нават у апісанні заходніх даследчыкаў.

Дадзеная праца ставіць перад сабой мэту шырока даследаваць гісторыю савецкага партызанскага руху ў час Другой сусветнай вайны на прыкладзе Беларусі, а менавіта на аснове крыніц, якія да гэтага часу не былі шырока даступнымі. Беларусь належала не толькі да краін, што найбольш пацярпелі пад нямецкай акупацыяй. Савецкі партызанскі рух і іншыя групы супраціўлення прыдалі краіне да таго ж асаблівае становішча. Беларусь была ў Другой сусветнай вайне апорай партызанскага руху ў Савецкім Саюзе і ў Еўропе.

Так, у снежні 1942 г., паводле сучасных савецкіх падлікаў, 49,1% усіх савецкіх партызанаў змагаліся ў Беларусі, 39,4% — у Расіі, 8,7% — ва Украіне і 2,8% — у астатніх савецкіх рэспубліках[1]. Па дадзеных жа Цэнтральнага штаба партызанскага руху, якому належала кіраўніцтва і арганізацыя савецкага партызанскага руху, у студзені 1944 г. на акупаваных немцамі тэрыторыях СССР дзейнічалі ўвогуле 1 156 партызанскіх атрадаў і груп з 187 571 партызанам. З іх 723 атрады і групы з усяго 121 903 байцамі знаходзіліся на беларускай тэрыторыі. Адзін той факт, што нашмат больш, чым палова ўсіх савецкіх партызанаў дзейнічала ў Беларусі, патрабуе грунтоўнага крытычнага даследавання гэтай прасторы з пункту гледжання названых аспектаў[2].

Пры гэтым варта заўважыць, што на тэрыторыі сённяшняй Беларусі, акрамя савецкіх партызанаў, змагаліся яшчэ іншыя партызанскія групы і злучэнні, а менавіта яўрэйскія, польскія і ўкраінскія. Іх матыва-

[1] Slepyan K. Stalin's Guerrillas. Soviet Partisans in World War II. University Press of Kansas, 2006. P. 51 і наст.

[2] Гл. главу VIII, раздзел 1 («Асабовы склад»).



цыя весці ўзброеную барацьбу супраць нямецкіх акупантаў часткова адрознівалася ад матывацыі савецкіх партызанаў.

Мэтай савецкіх партызанаў было выгнанне нямецкіх акупантаў і наступнае ўзнаўленне савецкай улады на ўсёй тэрыторыі СССР у межах 1941 г. Пры гэтым таксама тысячы мужчын і жанчын далучаліся да савецкіх партызанаў не з палітычных перакананняў, а з прычыны нямецкай акупацыйнай палітыкі і тэрору. Частка партызанаў была таксама мабілізавана ў вёсках праз загад аб прызыве, а нярэдка была рэкрутавана прымусова[3].

Хоць польскія партызаны ў прынцыпе таксама змагаліся супраць нямецкіх акупантаў, аднак адначасова яны былі і за незалежную, некамуністычную Польшчу. Яны разглядалі землі сённяшняй Заходняй Беларусі, на якіх яны дзейнічалі, як складовую частку Польшчы. Таму яны адмаўляліся прызнаваць прэтэнзіі на кіраўніцтва савецкіх партызанскіх камандзіраў. На гэтым фоне справа даходзіла да канфліктаў і нават сапраўдных баёў паміж польскімі і савецкімі партызанамі.

Большасць яўрэйскіх партызанаў пайшлі ў лясы таму, што для іх гэта была адзіная рэальная магчымасць выжыць. Яны далучаліся да савецкіх партызанскіх атрадаў, але ўтваралі таксама яўрэйскія групы і атрады, якія, аднак, падпарадкоўваліся савецкаму партызанскаму кіраўніцтву. Іх мэтай было выжыванне і адначасова барацьба супраць нямецкіх акупантаў і іх калабарантаў.

Многія ж украінскія партызаны змагаліся за незалежную Украіну. Іх дзеянні часта былі накіраваныя як супраць савецкіх і польскіх партызанаў, так і супраць нямецкіх акупантаў.

## 1. Стан даследавання

Па гісторыі савецкага партызанскага руху ўвогуле і ў Беларусі ў прыватнасці ў Савецкім Саюзе пасля вайны з'явіліся незлічоныя публікацыі: манаграфіі, зборнікі, агляды, навуковыя артыкулы і нарысы. Усе гэтыя працы, аднак, узнаўляюць скажоную, нават фальсіфікаваную карціну савецкага партызанскага руху ў Беларусі. Яны падтрымліваюць партызанскі міф, які больш утойваў, чым высвятляў, і служыў выключна легітымацыі савецкага панавання. Гэты міф утрымліваў у сабе, сярод іншага, тэзіс, што партызанскі рух нібыта меў усенародны характар, што Камуністычная партыя кіравала рухам з самага пачатку, што савецкія партызаны атрымлівалі шырокую падтрымку з боку мясцовага насельніцтва[4].

Нягледзячы на гэтыя скажэнні, відавочныя недахопы і прагалы, у афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі ў пачатку XXI ст. у гэтых адносінах мала што адбываецца. Клімат для крытычных і плён-

[3] Гл. главу VIII, раздзел 3 («Прымусовыя мабілізацыі»).

[4] Падрабязна пра стан даследаванняў гл.: Sowjetische Partisanen in Weißrußland: Innenansichten aus dem Gebiet Baranoviči 1941—1944. Eine Dokumentation / Hrsg. von B. Musial. München, 2004. S. 22—26.

ных гістарычных дэбатаў у цяперашні час у Беларусі неспрыяльны[5]. Сённяшняя беларуская дзяржава не зацікаўлена ў пераглядзе скажонай гістарычнай карціны партызанскага руху[6]. Наадварот, яна выкарыстоўвае яго як інструмент для актуальных палітычных мэт[7]. Крытычныя артыкулы могуць быць апублікаваны толькі ў нешматлікіх сродках масавай інфармацыі, якія крытычна настроеныя да рэжыму і маюць адносна малыя наклады[8].

У Расіі ж з 1990 г. з'явіліся шматлікія працы і зборнікі дакументаў, у якіх таксама разглядаецца савецкі партызанскі рух. У першую чаргу тут варта назваць некаторыя публікацыі Ільі Старынава, аднаго з найважнейшых арганізатараў савецкага партызанскага руху і дыверсій падчас Другой сусветнай вайны, які даволі адкрыта піша пра слабасці і недахопы савецкага партызанскага руху[9]. Варта таксама згадаць апублікаваны ў 2001 г. зборнік па гісторыі савецкага партызанскага руху[10] ці зборнік дакументаў «Партизанское движение в годы Великой Отечественной войны, 1941—1944», што пабачыў свет у 1999 г.[11].

---

[5] 6 чэрвеня 2004 г. у газеце «Frankfurter Allgemeine Zeitung» з'явіўся артыкул аўтара «Злачынствы партызанаў. Савецкая легенда і рэчаіснасць усенароднай барацьбы» («Verbrechen der Partisanen. Sowjetische Legende und Wirklichkeit des allgemeinen Volkskrieges»), які праз тыдзень быў перакладзены на рускую (на інтэрнэт-сайце «inoСМИ.Ru» 21 чэрвеня 2004 г.: http://www.inosmi.ru/inrussia/20040621/210507.html) і на беларускую мову. Як у Расіі, так і ў Беларусі артыкул выклікаў шмат часам вельмі адмоўных і эмацыйных, але нярэдка і станоўчых каментароў. Першы беларускі дзяржаўны тэлеканал таксама скарыстаўся з магчымасці выказацца на гэтую тэму 27 і 29 чэрвеня 2004 г. Там аўтара, сярод іншага, называлі «фашыстам», які ачарняе партызанаў-герояў.

[6] Калі ў 2004 г. з'явіўся выдадзены аўтарам зборнік дакументаў «Sowjetische Partisanen in Weißrußland...» («Савецкія партызаны ў Беларусі»), то беларускі Камітэт дзяржаўнай бяспекі пачаў расследаванне адносна яго і спрабаваў высветліць, ці бралі ўдзел у гэтым праекце беларускія гісторыкі.

[7] Самы свежы прыклад — наступнае выданне: Великая Отечественная война советского народа (в контексте Второй мировой войны). Минск, 2004, з прадмовай Аляксандра Лукашэнкі, у якой, як і ў старыя савецкія часы, падтрымліваецца міф пра партызанаў.

[8] Як, напрыклад, крытычны матэрыял Змітра Бартосіка «"Лінія Сталіна": "Ніхто не хацеў абараняць савецкую ўладу"». Гл.: http://www.svaboda.org/content/article/757495.html (09.05.2007).

[9] Старинов И. Фронт без командования // Новая и новейшая история. 1990. № 3. С. 110—122; Старинов И. Подрывники на коммуникациях агрессора // Вопросы истории. 1988. № 7. С. 43—49; Старинов И. Записки диверсанта. Москва, 1997; Старинов И. Мины замедленного действия. Москва, 1999.

[10] Партизанское движение. По опыту Великой Отечественной войны 1941—1945 гг. / Н. Ф. Азясский, М. С. Долгий, А. С. Князьков, В. А. Пережогин, Ю. И. Чернов. Москва, 2001. У зборніку, аднак, не былі выкарыстаныя крытычныя выказванні Ільі Старынава, у ім утрымліваецца традыцыйны погляд на савецкі партызанскі рух.

[11] Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение в годы Великой Отечественной войны 1941—1945 гг. Москва, 1998. Выдаўцы гэтага зборніка выкарысталі шматлікія дакументы і часткова выправілі гераічны малюнак партызанскага руху, створаны ў савецкі час. Аднак яны пры гэтым адмовіліся ад публікацыі



Нельга недаацэньваць значэнне для тэмы шматтомнага зборніка дакументаў па гісторыі органаў савецкай дзяржаўнай бяспекі падчас Другой сусветнай вайны[12]. У тамах 2 і 3 апублікаваныя шматлікія дакументы пра савецкі партызанскі рух з Архіва расійскай службы бяспекі (ФСБ), раней НКУС/КДБ[13].

---

асабліва «абцяжарваючых» дакументаў, часткова ўжо вядомых, як, напрыклад, указанні Цэнтральнага штаба партызанскага руху адносна вырашэння «польскага пытання» ад 22 ліпеня 1943 г. (гл.: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 241—247). Перабольшаныя поспехі ў данясеннях крытычна не каментуюцца, а наконт ролі асобых аддзелаў НКУС у асобных партызанскіх падраздзяленнях ніякія дакументы не друкуюцца. Такім самым чынам выдаўцы абыходзяцца і з іншымі «абцяжарваючымі» крыніцамі. На с. 126 і наступных яны апублікавалі праект загада па інтэнсіфікацыі партызанскага руху, які Панцеляймон Панамарэнка 11 ліпеня 1942 г. прадставіў Іосіфу Сталіну. У гэтым праекце наконт партызанскага руху ўтрымліваецца шмат крытычных фармулёвак. У тым жа самым дакуменце (пад шыфрам: Российский государственный архив социально-политической истории (РГАСПИ). Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 11—16) знаходзіцца дакладная запіска ад 5 ліпеня 1942 г. пра стан партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., якую П. Панамарэнка адрасаваў Іосіфу Сталіну, Георгію Малянкову і Лаўрэнцію Берыі. Дакладная запіска — гэта даведка пра стан партызанскага руху на той момант, якая ўтрымлівае пэўную знішчальную крытыку гэтага становішча. Няма сумневу, што гэта — ключавы дакумент. Аднак дадзеная запіска выдаўцамі апублікаваная не была, хоць яна куды больш выразная, чым вышэй згаданы накід загада, які знаходзіцца ў той жа самай справе праз некалькі аркушаў. Гл.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 78—83.

[12] Органы государственной безопасности СССР в Великой Отечественной войне. Сборник документов. Том 1: Накануне. Кн. 1 (ноябрь 1938 г. — декабрь 1940 г.). Москва, 1995; Кн. 2 (1 января — 21 июня 1941 г.). Москва, 1995; Т. 2: Начало. Кн. 1 (22 июня — 31 августа 1941 г.). Москва, 2000; Кн. 2 (1 сентября — 31 декабря 1941 года). Москва, 2000; Т. 3: Крушение «Блицкрига». Кн. 1 (1 января — 30 июня 1942 г.). Москва, 2003; Кн. 2 (1 июня — 31 декабря 1942 г.). Москва, 2003.

[13] Абыходжанне выдаўцоў гэтага зборніка дакументаў з крыніцамі, аднак, не адпавядае навуковым крытэрыям. Яны пры перадруку прапусцілі відавочна непрыемныя ім месцы ў тэксце, не спаслаўшыся звычайным чынам на пропуск. Так здарылася ў кнізе 1 тома 2 у дакуменце № 415 (с. 342—345). Гаворка тут ідзе пра рашэнне ЦК УсеКП(б) ад 18 ліпеня 1941 г. аб арганізацыі барацьбы ў нямецкім тыле. Там пропуск не абазначаны ні квадратнымі дужкамі [...], ні ўказаннем на тое, што прапушчана. Параўнанне з тым жа дакументам, які захоўваецца ў РГАСПИ (ф. 17, оп. 162, д. 36, ч. I, л. 55 і наст.), паказала, што выдаўцы выкінулі ў другім абзацы дакумента два наступныя сказы пра баязлівасць і панічныя ўцёкі кіраўнічых партыйна-савецкіх функцыянераў: «Яшчэ здараюцца нярэдкія выпадкі, калі кіраўнікі партыйных і савецкіх органаў у раёнах, якім пагражае акупацыя нямецкімі фашыстамі, ганебным чынам пакідаюць свае ваенныя пасты і ўцякаюць у глыбокі тыл, у больш небяспечныя месцы; такім чыным яны ператвараюцца ў дэзерціраў і нікчэмных баязліўцаў. Пры гэтам партызанскае кіраўніцтва ў рэспубліках і абласцях не прадпрымае ў шмат якіх выпадках ніякіх крокаў, каб рашуча супрацьстаяць гэтым ганебным з'явам». Яшчэ адзін прыклад — даклад Аператыўна-вучэбнага цэнтра ад 8 верасня 1941 г. (т. 2, кн. 3, с. 36—39, дакумент № 539). У РГАСПИ (пад шыфрам: ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 7—14) захоўваецца даклад Аператыўна-вучэбнага цэнтра, які ідэнтычны з апублікаваным, за выключэннем толькі ўводнага сказа. У апублікаваным дакуменце маюцца тры пропускі: два ў квадратных дужках, а адзін пазначаны шматкроп'ем. Прапусцілі ж

Расійскім экспертам па савецкім партызанскім руху сёння лічыцца Аляксей Папоў, малады гісторык. Ён апублікаваў, сярод іншага, у 2003 г. працу пра НКУС і савецкі партызанскі рух[14]. Аднак ягоныя публікацыі вызначаюцца вузкай базай крыніц і перш за ўсё некрытычным абыходжаннем з крыніцамі і старымі савецкімі публікацыямі, што мы часта будзем закранаць у гэтай працы[15]. Але ў Расіі ёсць і падыходы з цалкам крытычным поглядам на савецкі партызанскі рух[16]. Тым не менш, у шырокіх колах грамадскасці дамінуе неасавецкі погляд на савецкі партызанскі рух[17].

На Захадзе таксама выйшлі з друку шматлікія публікацыі па гісторыі савецкіх партызанаў падчас Другой сусветнай вайны. Першыя навуковыя працы па тэме з'явіліся ўжо ў 1950-я гг.[18]. Усе гэтыя публікацыі грунтуюцца амаль выключна на нямецкіх архіўных дакументах, часам яны дапаўняюцца савецкімі трафейнымі дакументамі, якія міжволі з'яўляюцца выпадковымі знаходкамі. Такім чынам, савецкі партызанскі рух адлюстроўваецца з абмежаванай перспектывы нямецкіх крыніц[19].

---

выдаўцы зборніка важную інфармацыю, напрыклад, адносна грубых памылак пры мабілізацыі курсантаў для партызанскай школы, якая да таго ж праводзілася не добраахвотна, ці, напрыклад, адносна дэзерцірства курсантаў, эўфемістычна названага «адсевам». Параўнанне ж з арыгінальным дакументам было для іншых даследчыкаў абцяжарана, бо выдаўцы публікавалі дакументы без сігнатурных дадзеных, а доступ да архіва расійскага ФСБ нікому не гарантаваны.

[14] Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение. Факты и документы. Москва, 2003; гл. таксама: Попов А. Ю. Диверсанты Сталина. НКВД в тылу врага. Москва, 2004.

[15] У 2002 г. ён апублікаваў кнігу інтэрв'ю з генералам КДБ Сяргеем Бельчанкам, былым старшым афіцэрам НКУС і адным з арганізатараў савецкага партызанскага руху. Гл.: Попов А. Ю. 15 встреч с генералом КГБ Бельченко. Москва, 2002. Бельчанка ўдзельнічаў у незлічоных савецкіх масавых злачынствах (дэпартацыі, забойствы, катаванні), але А. Ю. Папоў малюе яго як удумлівага савецкага патрыёта з яскрава выяўленым сямейным пачуццём. Акрамя таго, Папоў без каментароў дазваляе Бельчанку ў кнізе абвінавачваць і хлусліва абзываць сваіх незлічоных ахвяр «фашыстамі», «нямецкімі шпіёнамі» і г. д.

[16] Гл., напрыклад: Соколов Б. В. Оккупация: правда и мифы. Москва, 2002.

[17] Bonwetsch B. Die Sowjetunion im Zweiten Weltkrieg 1941 bis 1945: der «Große Vaterländische Krieg» // Jahrbuch für Historische Kommunismusforschung. Berlin, 2005. S. 13—43. Бернд Бонвеч не без падстаў канстатаваў, «што з часоў Брэжнева на доўгую перспектыву ў расійскай мемарыяльнай культуры мала што змянілася» (с. 42).

[18] Самымі важнымі з іх з'яўляюцца: Dixon C. A., Heilbrunn O. Communist Guerilla Movement 1941—1944. London, 1954; Howell E. M. The Soviet Partisan Movement 1941—1944. Washington, 1956; Soviet Partisans in World War II. / Ed. by J. A. Armstrong. Madison (Wisconsin), 1964 (гэты зборнік да сёння лічыцца лепшым выданнем на гэтую тэму); Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg 1941 bis 1944 im Spiegel deutscher Kampfanweisungen und Befehle. Zürich—Frankfurt am Main, 1969, другое, перапрацаванае выданне: Göttingen—Zürich, 1993; Cooper M. The Phantom War. The German struggle against soviet partisans 1941—1944. London, 1979.

[19] Варта згадаць некаторыя працы, створаныя гісторыкамі з «Усходу», а апублікаваныя на «Захадзе», як, напрыклад: Wilenchik W. Die Partisanenbewegung in Weißrußland 1941—1944 // Forschungen zur Osteuropäischen Geschichte. Bd. 34. 1984. S. 129—297;



У 1994 г. у Мічыганскім універсітэце з'явілася доктарская дысертацыя Кенэта Д. Сляпяна пад загалоўкам: «"Народныя мсціўцы": савецкія партызаны, сталінскае грамадства і палітычны супраціў», які для свайго даследавання прыцягнуў савецкія крыніцы. Праз 12 гадоў Сляпян апублікаваў кнігу «Сталінская герылья. Савецкія партызаны ў Другой сусветнай вайне», што галоўным чынам грунтуецца на вышэйзгаданай доктарскай дысертацыі. У 2004 г. выйшла дакументальная публікацыя са шматлікімі перакладзенымі на нямецкую мову савецкімі крыніцамі «Савецкія партызаны ў Беларусі. Унутраныя погляды з Баранавіцкай вобласці 1941—1944», якая разглядае савецкі партызанскі рух у былой Баранавіцкай вобласці ў сённяшняй Заходняй Беларусі[20]. Праз год Аляксандр Гіль апублікаваў сваю доктарскую дысертацыю «Вайна за Усходнім фронтам. Савецкі партызанскі рух у Паўночна-Заходняй Расіі ў 1941—1944 гг.». У 2007 г. выйшаў артыкул пра праблематычныя паводзіны савецкіх партызанаў у Баранавіцкай вобласці[21]. Гэтыя працы выйграюць ад адкрыцця былых савецкіх архіваў і грунтуюцца на багатых наяўных сучасных савецкіх крыніцах.

Таксама ў Польшчы пасля краху камунізму ва Усходняй Еўропе выйшлі некалькі манаграфій, зборнікаў дакументаў і навуковых прац, якія спецыяльна прысвечаныя гісторыі польскага руху супраціву ва ўсходняй частцы міжваеннай Польшчы і яго адносінам з савецкімі партызанамі[22]. Яны грунтуюцца пераважна на польскіх і савецкіх крыніцах, у прыватнасці з мінскіх архіваў.

Тут таксама варта звярнуць увагу на шматлікія заходнія публікацыі пра яўрэйскіх партызанаў, што дзейнічалі ці ў складзе савецкіх партызанскіх падраздзяленняў, ці як чыста яўрэйскія партызанскія групы. Праблематыка яўрэйскіх партызанаў адыгрывае ў ізраільскім і амерыканскім даследаваннях Халакосту адметную ролю, бо іх барацьба абвяргае тэзіс аб уяўнай пасіўнасці яўрэйскіх ахвяр Халакосту. З'явіліся і з'яўляюцца шматлікія манаграфіі і артыкулы на тэму, а так-

---

Grenkevich L. The Soviet Partisan Movement 1941—1944. A Critical Historio-graphical Analysis. London—Portland (Oregon), 1999. Развагі Віленчыка абапіраюцца на нямецкія першасныя крыніцы і навукова сумнеўную савецкую другасную літаратуру. Грэнкевіч абагульняе заходнюю і савецкую літаратуру па гэтай тэме, крытычна, аднак, яе не аналізуючы. Гл.: Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 27.

[20] Sowjetische Partisanen in Weißrußland…

[21] Brakel A. «Das allergefährlichste ist die Wut der Bauern»: Die Versorgung der Partisanen und ihr Verhaltnis zur Zivilbevölkerung. Eine Fallstudie zum Gebiet Baranowicze 1941—1944 // Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte. 2007. № 3. S. 393—424.

[22] Прыклады манаграфій: Krajewski K. Na ziemi nowogródzkiej. «Now» — Nowogródzki Okręg Armii Krajowej. Warszawa, 1997; Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody. Polsko-sowiecka wojna partyzancka na Nowogródczyźnie 1943—1944. Warszawa, 1999. Публікацыі крыніц: Armia Krajowa na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie (1942—1944) w świetle dokumentów sowieckich / Z. Boradyn, A. Chmielarz, H. Piskunowicz. Warszawa, 1997, а таксама публікацыі ў часопісе «Studia Podlaskie»: T. V. 1995. S. 211—317; T. VI. 1996. S. 219—326.

сама мемуары былых яўрэйскіх партызанаў[23]. Даследаванне Халакосту абапіраецца, аднак, пераважна на гэтыя мемуары, як і на паведамленні і інтэрв'ю з былымі яўрэйскімі партызанамі і іх сваякамі.

Шмат увагі ў апошні час прысвечана барацьбе савецкіх партызанаў з нямецкімі акупантамі, праўда, амаль выключна з нямецкай перспектывы[24]. Другі бок, ці то мясцовае насельніцтва, ці то партызаны, ці то савецкае кіраўніцтва, разглядаецца пры гэтым як фон.

Уся гісторыя савецкага партызанскага руху павінна быць нанава напісана на аснове багатых наяўных савецкіх крыніц, якія з 1990-х гг. шырока даступныя, дзесяцігоддзі даступных і адкрытых фондаў у нямецкіх архівах, а таксама польскіх, яўрэйскіх і ўкраінскіх крыніц. Пачатак для такой гістарыяграфіі павінен быць пакладзены тут.

## 2. Крыніцы і метадалагічныя праблемы

Крыніцавую аснову дадзенай працы ўтвараюць да сёння ледзьве адкрытыя, затое багатыя наяўныя сучасныя рускамоўныя крыніцы, якія захоўваюцца ў беларускіх і расійскіх архівах. Да гэтага дадаюцца дзесяцігоддзямі даступныя фонды ў заходніх і ў польскіх архівах.

Найважнейшыя архіўныя матэрыялы па савецкім партызанскім руху ў Беларусі знаходзяцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у Мінску (НАРБ) і ў Расійскім дзяржаўным архіве сацыяльна-палітычнай гісторыі ў Маскве (РГАСПИ). У НАРБ захоўваюцца, сярод іншага, вялікія фонды Беларускага штаба партызанскага руху, асобных партызанскіх злучэнняў і падраздзяленняў, а таксама дакументы партыйнага падполля[25]. Там захоўваюцца і інтэрв'ю з былымі партызанамі (НАРБ, ф. 750, воп. 1), якія праводзіла гістарычная Камісія па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў час вайны і пасля яе. Таксама там знаходзяцца нямецкамоўныя крыніцы па нямецкай акупацыйнай палітыцы і па барацьбе з партызанамі.

[23] Напрыклад: Eckman L., Lazar Ch. The Jewish Resistance: The History of the Jewish Partisans in Lithuania and White Russia during the Nazi Occupation 1941—1945. New York 1977; Lazar Ch. Destruction and Resistance. New York 1985; Anthology on Armed Jewish Resistance, 1939—1945 / Ed. by I. Kowalski. Vol. 1. New York, 1984; Levin D. Fighting Back: Lithuanian Jew's Armed Resistance to the Nazis, 1941—1945. New York, 1985; Kagan J., Kohen D. Surviving the Holocaust with the Russian Jewish Partisans. London—Portland (Oregon), 1998; Tec N. Defiance. The Bielski Partisans. New York—Oxford 1993; нямецкае выданне: Tec N. Bewaffneter Widerstand. Judische Partisanen im Zweiten Weltkrieg. Gerlingen, 1996; Cohen R. The Avengers. New York, 2000.

[24] Гл. на гэты конт, напрыклад: Richter T. C. «Herrenmensch» und «Bandit» Deutsche Kriegsführung und Besatzungspolitik als Kontext des sowjetischen Partisanenkrieges (1941—1944). Münster, 1998; Gerlach K. Kalkulierte Morde. Die deutsche Wirtschafts- und Vernichtungspolitik in Weißrußland 1941—1944. Hamburg, 1999. S. 859—1054; Arnold K. J. Die Wehrmacht und die Besatzungspolitik in den besetzten Gebieten der Sowjetunion: Kriegfuhrung und Radikalisierung im «Unternehmen Barbarossa». Berlin, 2005; Shepherd B. War in the Wild East. The German Army and Soviet Partisans. Cambridge (Massachusetts) — London, 2004; Cüppers M. Wegbereiter der Shoah. Die Waffen-SS, der Kommandostab Reichsführer-SS und die Judenvernichtung 1939—1945. Darmstadt, 2005.

[25] Параўн.: Dokumente zur Geschichte des Zweiten Weltkrieges in den Staatsarchiven der Republik Belarus. Ein Nachschlagewerk / Hrsg. von S. Karner. Graz—Wien—Minsk, 2001.



У РГАСПИ знаходзяцца, сярод іншага, шматлікія справы Цэнтральнага штаба партызанскага руху, якія побач з дакументамі ў НАРБ маюць вырашальнае значэнне для дадзенай працы. Плённай аказалася таксама літаратурная спадчына Панцеляймона Панамарэнкі, начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху ў час Другой сусветнай вайны. Да гэтага ж дадаюцца дакументы Палітбюро і Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, асобных савецкіх кіраўнікоў, такіх, як Іосіф Сталін, Клімент Варашылаў, Георгій Малянкоў, Вячаслаў Молатаў ці Андрэй Жданаў, а таксама Дзяржаўнага Камітэта Абароны (ДКА).

Апрача таго, была праведзена праца ў рэгіянальных дзяржаўных архівах у Беларусі (Гродна і Гомель), у Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі ў Маскве (ГАРФ), у Цэнтральным архіве Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі (ЦАМО РФ), у Расійскім дзяржаўным ваенным архіве ў Маскве (РГВА), у Цэнтральным дзяржаўным архіве грамадскіх аб'яднанняў Украіны ў Кіеве (ЦДАГОУ), у Літоўскім спецыяльным архіве ў Вільні (Lietuvos ypatingasis archyvas). Праўда, не ўдалося атрымаць доступ да архіваў расійскай і беларускай службаў бяспекі, у якіх захоўваюцца дакументы НКУС.

У адкрытых крыніцах названых архіваў гаворка ідзе, сярод іншага, пра наступныя сучасныя дакументы: справаздачы пра дзейнасць і становішча партызанскіх кіраўнікоў, якія былі адрасаваныя начальнікам у Цэнтры, загады і ўказанні камандзіраў злучэнняў, брыгад і атрадаў, дакументальныя нататкі, паведамленні пра ваенныя, дыверсійныя і сабатажныя акцыі, пратаколы нарад і інтэрв'ю, скаргі і заявы, тысячы радыёграм, шматлікія дакладныя запіскі і выніковыя справаздачы. Гэтыя дакументы распавядаюць пра канкрэтныя справы, падзеі і асоб. Яны перадаюць клімат і настрой, што панавалі ў партызанскіх атрадах. Яны паказваюць, як гэтыя атрады арганізоўваліся і кіраваліся, іх дзейнасць, паводзіны іх членаў, адным словам: штодзённае жыццё партызанаў. Але яны дазваляюць таксама рэканструяваць структуры, дзейнасць і задачы асобных органаў савецкага партызанскага руху.

Цэнтральнае значэнне для дадзенай працы маюць дакументы, якія з'явіліся не ў рамках звычайнай справаздачы ў Цэнтр, а мелі задачу канстатаваць праблемы, непарадкі і недахопы ўнутры, каб іх потым выправіць або ліквідаваць. Як асабліва каштоўныя аказаліся розныя дакладныя пра стан партызанскага руху і іншыя звязаныя з партызанскім рухам пытанні, што, сярод іншага, былі накіраваныя Сталіну і яго бліжэйшым супрацоўнікам. Яны маюць асаблівую крыніцазнаўча-гістарычную каштоўнасць, бо перадаюць, з аднаго боку, стан ведання савецкім кіраўніцтвам асобных аспектаў і праблем. З другога боку, яны даюць уяўленне пра савецкую пазіцыю ў канкрэтных пытаннях. У сувязі з іншымі крыніцамі і дакументамі яны даз-

валяюць, сярод іншага, дакладна і часткова дэталёва рэканструяваць пазіцыю савецкага кіраўніцтва ў адносінах як да партызанскага руху ў цэлым, так і да яго асобных аспектаў.

Не менш цікавымі з'яўляюцца пратаколы нарад з асобнымі партызанскімі кіраўнікамі ці, напрыклад, пасяджэнняў асобных падпольных камітэтаў, якія займаліся праблемамі партызанскага руху. Яны часта перадаюць натуральны погляд на асобныя аспекты партызанскага руху на месцах. Падобную каштоўнасць маюць дакументы, што былі створаныя асобымі аддзеламі пры дзеючых партызанскіх падраздзяленнях і падпольнымі партыйнымі арганізацыямі[26].

Вельмі цікавай, але адначасова цяжкай крыніцай аказаліся да гэтага часу амаль што не адкрытыя незлічоныя радыёграмы асобных партызанскіх падраздзяленняў у Цэнтр і наадварот, якія выкарыстоўваліся ў рамках дадзенага даследавання. Яны з-за сваіх кароткіх і сціслых тэкстаў часта няпроста паддаюцца тлумачэнню і сістэматызацыі. Аднак у спалучэнні з іншымі дакументамі яны аказаліся вельмі каштоўнай крыніцай.

З асаблівай асцярогай пры даследаванні давялося абыходзіцца з афіцыйнымі справаздачамі і паведамленнямі аб ваенных дзеяннях і поспехах партызанаў, бо яны часцей за ўсё з'яўляюцца тэндэнцыйнымі. Змешчаная ў іх інфармацыя адпавядала, як правіла, спадзяванням начальнікаў і адлюстроўвала рэальнасць скажона або фальсіфікавана: варожыя страты паказваліся завышанымі ці нават прыдумляліся, уласныя поспехі раздзьмухваліся або ў сапраўднасці іх увогуле не было; непарадкі ж і няўдачы вуаліраваліся ці зусім утойваліся. Таму гэтыя дакументы ў дадзенай працы па магчымасці былі верыфікаваныя з іншымі крыніцамі, з нямецкімі паведамленнямі, з іншымі ўнутранымі савецкімі дакументамі. Праблеме савецкай справаздачнасці прысвечаны асобны раздзел.

У Архіве новых актаў і ў архіве Інстытута нацыянальнай памяці (абодва ў Варшаве) захоўваюцца архіўныя дакументы па гісторыі Арміі Краёвай у сённяшніх заходніх рэгіёнах Беларусі. У архіве дома-музея Яд Вашэм і ў архіве Яўрэйскага гістарычнага інстытута ў Варшаве былі прагледжаныя і выкарыстаныя паведамленні пра перажытае і ўспаміны былых партызанаў-яўрэяў. Нямецкамоўныя сучасныя дакументы, перш за ўсё пра барацьбу з партызанамі і пра канкрэтныя партызанскія акцыі, знаходзяцца ў Ваенным архіве ў Фрайбургу, у Федэральным архіве ў Берліне, у архіве Інстытута сучаснай гісторыі ў Мюнхене (копіі), а таксама ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у Мінску (НАРБ) і ў Расійскім дзяржаўным ваенным архіве ў Маскве (РГВА).

[26] Галоўнай задачай асобых аддзелаў быў кантроль за становішчам у партызанскіх падраздзяленнях і на aпературных тэрыторыях. Асобыя аддзелы мелі шмат магчымасцей для збору інфармацыі: у іх была шырокая агентурная сетка ў атрадах і на аператыўных тэрыторыях, яны расследавалі і выносілі прысуды. Яны былі таксама абавязаныя дакладваць пра найважнейшыя падзеі вышэйстаячым органам, вельмі часта выклікаючы незадаволенасць камандзіраў адпаведных партызанскіх падраздзяленняў. Партыйныя арганізацыі ў атрадах і на адпаведных аператыўных тэрыторыях таксама ажыццяўлялі важную кантрольна-наглядную функцыю адносна асобных партызанскіх атрадаў.



У той час як адпаведныя крыніцы на Захадзе і ў Польшчы цалкам даступныя, доступ да беларускіх і расійскіх архіваў падлягае некаторым абмежаванням. Пры гэтым дакладных правілаў няма. 4 лютага 2004 г. аўтар замовіў у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у Мінску некалькі спраў па савецкім партызанскім руху, але некаторыя не былі выдадзеныя. На датычны гэтага запыт кампетэнтная супрацоўніца архіва патлумачыла, што частка архіўных дакументаў мае пазнаку «абмежаваны допуск». З гэтымі архіўнымі дакументамі, паводле паведамлення супрацоўніцы архіва, належыць абыходзіцца наступным чынам: «Дырэктар правярае, ці не знаходзіцца ў дакументах нечага жудаснага [sic]». Калі не, яна выдасць замоўленыя справы, а калі так, то доступ да іх атрыманы не будзе.

Гэтыя абмежаванні дзейнічаюць у першую чаргу для замежных даследчыкаў, як было дадзена зразумець аўтару. Паляпшэння ў найбліжэйшыя гады не варта чакаць. Наадварот: ужо некалькі гадоў назіраецца тэндэнцыя зноў закрыць архіўныя фонды, зробленыя даступнымі пасля 1990 г.; гэта, праўда, датычыць таксама мясцовых даследчыкаў. З падтрымкай на месцах, аднак, у рамках гэтага даследавання ўдалося асвоіць важныя крыніцы. Увогуле знаходкі ва ўсходніх архівах з'яўляюцца вынікам каманднай працы, тое ж дзейнічае для ўліку і выкарыстання, дзякуючы менавіта гэтай сумеснай працы, вельмі вялікай колькасці выяўленых крыніц.

Нарэшце варта назваць адзін від крыніц, што праз некалькі гадоў больш не зможа быць выкарыстаны, але які ў дадзенай працы адыгрывае важную ролю. Гаворка тут ідзе пра інтэрв'ю і апытанні былых партызанаў, савецкіх і польскіх, беларускіх, польскіх, рускіх і яўрэйскіх сведак, а таксама былых нямецкіх салдат. Частку гэтых інтэрв'ю і апытанняў правёў сам аўтар, многія на гістарычных месцах дзеянняў у Беларусі. Праўда, выказванні сведак, калі прайшло так шмат гадоў, з-за вялікай часавай аддаленасці ад падзей і вынікаючых з гэтага прабелаў ва ўспамінах, ёсць небеспраблемныя. Але пры гэтым трэба ўлічваць не толькі часавую адлегласць. Эмпірычнае даследаванне адзінае і ў тым, што ўспаміны маюць заганы з прычыны перажытых траўмаў. «Пад вялікім напружаннем чалавечае ўспрыняцце недасканалае, таму што стрэс абмяжоўвае ўвагу»[27]. Вось чаму варта абыходзіцца з такімі крыніцамі асцярожна.

## 3. Будова кнігі

Гэтая праца падзяляецца на дзве вялікія часткі. Главы I—VII храналагічна разглядаюць развіццё савецкага партызанскага руху ў Беларусі ад пачатку летам 1941 г. да роспуску летам 1944 г. Заключныя главы VIII і IX аналізуюць сацыяльна-гістарычныя і этнічныя аспекты партызанскага руху ў Беларусі.

[27] «Ва ўмовах вялікага стрэсу людзі менш успрымальныя, бо стрэс абумоўлівае звужэнне ўвагі». Гл.: Loftus E. F., Doyle J. M. Eyewitness Testimony: Civil and Criminal. Charlottesville, 1997. S. 21—31.

Уступ, акрамя ўводзінаў у тэматыку і стану даследаванняў, разглядае таксама гістарычныя перадумовы ў Беларусі, у прыватнасці, катастрафічныя вынікі савецкай палітыкі і савецкага тэрору, як ва ўсходніх, так і ў заходніх частках сённяшняй Беларусі. Толькі на гэтым фоне можна зразумець падзеі ў Беларусі ў час нямецкай акупацыі. Гэтая частка працы займаецца таксама савецкай падрыхтоўкай да партызанскай вайны ў 1925—1937 гг., якая раптам была спынена, а створаныя да таго часу структуры ліквідаваныя.

У наступных главах робіцца спроба дэталёва храналагічна рэканструяваць заснаванне, развіццё і дзеянні савецкага партызанскага руху ў Беларусі. Спачатку тут разглядаецца ваенная катастрофа Чырвонай Арміі летам 1941 г. на беларускай зямлі і яе вынікі. У цэнтры ўвагі знаходзяцца стварэнне арганізацыйных структур партызанскага руху і звязаныя з ім цяжкасці, поспехі і няўдачы. Пры гэтым спынімся на ролі Камуністычнай партыі, НКУС і Чырвонай Арміі.

У асобнай главе разглядаецца паварот (з вясны 1942 г.) у партызанскім руху ў Беларусі. Трэба было на прыкладах наглядна паказаць гэтае, большай часткай спантаннае развіццё. Са стварэннем Цэнтральнага штаба партызанскага руху 30 мая 1942 г. савецкі партызанскі рух уступіў у новую фазу. Была зроблена спроба паставіць партызанскія атрады, якія ў асноўным узніклі спантанна, пад кантроль і кіраваць імі цэнтралізавана. Гэтая глава яшчэ разглядае ўсё большае ў 1942 г. значэнне партызанскага руху ў планаванні савецкага ваеннага кіраўніцтва, у прыватнасці пазіцыю Сталіна ў адносінах да партызанскага руху.

1943 год азначаў кульмінацыю савецкага партызанскага руху, гэта таксама асобна разглядаецца ў адной главе. Шмат увагі прысвечана таксама «Рэйкавай вайне», спробе разбурыць нямецкія лініі забеспячэння.

Наступныя главы разглядаюць ваенную разведку і контрразведку партызанаў, ролю асобых аддзелаў унутры партызанскіх атрадаў, спецыяльныя заданні і аперацыі (замахі). Таксама ў гэтай частцы даследуецца барацьба партызанаў супраць мясцовай паліцыі, самакіравання і «мясцовых» фармаванняў. Шмат месца займае праблема забеспячэння партызанаў зброяй, амуніцыяй і прадуктамі харчавання. У гэтым раздзеле працы разглядаюцца таксама страты жывой сілы сярод партызанаў, як і нямецкія страты ад партызанаў. У гэтай сувязі аналізуецца праблема «прыхарошвання» ў справаздачнасці партызанаў.

Гэтую частку кнігі заканчвае глава пра партызанскі рух у 1944 г. Тут разглядаюцца, сярод іншага, апошнія — даволі паспяховыя — нямецкія антыпартызанскія аперацыі, роспуск партызанскіх падраздзяленняў пасля прыходу Чырвонай Арміі і роля былых партызанаў пры будаўніцтве савецкага апарату ў Беларусі.

Главы VIII і IX займаюцца сацыяльна-гістарычнымі і этнічнымі аспектамі савецкага партызанскага руху на прыкладзе Беларусі: складам савецкага партызанскага руху і метадамі яго фармавання, а таксама жаночым пытаннем у партызанскім руху. Далей разглядаюцца



штодзённае жыццё, у тым ліку хваробы і ўнутраныя канфлікты сярод партызанаў, як і часам напружаныя адносіны паміж партызанамі і групамі НКУС і ГРУ, а таксама такія негатыўныя з'явы, як п'янства, марадзёрства, акты гвалту і злоўжыванні ў адносінах да цывільнага насельніцтва, у тым ліку спальванне і знішчэнне цэлых населеных пунктаў.

У апошняй главе даследуецца лёс асобных груп насельніцтва падчас нямецкай акупацыі. У прыватнасці, гаворка тут ідзе пра адносіны савецкіх партызанаў да беларусаў, яўрэяў і палякаў. Гэтая частка таксама падрабязна аналізуе генезіс і ход польска-савецкай партызанскай вайны ў заходніх абласцях сённяшняй Беларусі.

Гэтая структура дае магчымасць рэканструяваць гісторыю савецкага партызанскага руху як зверху, так і знізу. На гэтым фоне паказваюцца і аналізуюцца ваенныя, сацыяльна-гістарычныя аспекты, а таксама этнічныя і палітычныя канфлікты. Але і нямецкі бок не застаецца па-за ўвагай. У прыватнасці, метады, няўдачы і поспехі ў нямецкай барацьбе з партызанамі ўяўляюць важны элемент дадзенага даследавання. Яны разглядаюцца часткова асобна, часткова дадаткова. У заключнай главе абагульняюцца і аналізуюцца вынікі.

У бібліяграфію ўключаныя толькі тыя творы, што непасрэдна цытуюцца ці прыводзяцца ў працы. Яна не прэтэндуе на паўнату.

## 4. Гістарычныя перадумовы ў Беларусі

Каб зразумець працэсы ў Беларусі ў час Другой сусветнай вайны, неабходна кінуць позірк на падзеі на гэтай тэрыторыі ў 1920-я і асабліва ў 1930-я гг. Савецкая Беларусь у межах з восені 1939 г. да чэрвеня 1941 г. распадалася на дзве часткі, на Усходнюю Беларусь і Заходнюю Беларусь, якія вельмі адрозніваліся. Усходнія вобласці знаходзіліся з 1920 г. у складзе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР) пад савецкім панаваннем. Там жылі перш за ўсё беларусы, а ў гарадах — вялікая яўрэйская меншасць. Пэўныя долі насельніцтва складалі таксама рускія і ўкраінцы. Польская меншасць у 1930-я гг. была савецкімі ўладарамі значна вынішчана.

Заходняя частка сённяшняй Беларусі належала ў міжваенны час да Польшчы і была часткай «крэсаў», усходнепольскага памежжа. Гаворка ідзе пра тэрыторыю, нацыянальна і канфесійна вельмі разнародную, але адначасова з дамінуючай польскай доляй насельніцтва. Гэтыя вобласці ў верасні 1939 г. трапілі пад савецкае панаванне.

Тэрыторыя Савецкай Беларусі з восені 1939 г. да чэрвеня 1941 г. адпавядала прыблізна сённяшнім межам Беларусі, за выключэннем ваколіц Беластока і Ломжы. Летам 1944 г. гэтая тэрыторыя зноў адышла да Польшчы. Тэрыторыя БССР у межах з 1939 г. да 1944 г. ахоплівала 225 500 км², якія адміністрацыйна былі падзелены на 10 абласцей: Баранавіцкая (23 300 км²), Беластоцкая (20 900 км²), Брэсцкая (17 200 км²), Вілейская (20 700 км²), Віцебская (28 300 км²), Гомельская (15 800 км²), Мінская (28 300 км²), Магілёўская (28 900 км²),

Пінская (16 300 км$^2$) і Палеская (26 000 км$^2$)[28]. На гэтай тэрыторыі ў чэрвені 1941 г. жыло звыш 10 мільёнаў чалавек.

*а) Савецкая Беларусь у 1920-я і 1930-я гг.*

У 1921 г. Савецкая Беларусь ахоплівала толькі 59 600 км$^2$, паласу тэрыторыі вакол Мінска, і налічвала каля 1,6 мільёна жыхароў. У 1924 г. Палітбюро Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) вырашыла ўзбуйніць БССР за кошт тэрыторый, якія да таго часу належалі да Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі, а праз два гады яшчэ на два раёны, што да той пары ўваходзілі ў склад Украінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Дзякуючы гэтаму тэрыторыя БССР падвоілася да 1926 г. да 125 000 км$^2$. Таксама насельніцтва вырасла амаль да 5 мільёнаў[29].

Насельніцтва БССР у 1926 г. мела наступны склад: 80,6 % (4 017 300) беларусаў, 8,2 % (407 100) яўрэяў, 7,7 % рускіх, 2 % палякаў[30], 0,7 % украінцаў, 0,3 % латышоў, 0,13 % немцаў і іншых нацыянальнасцей. Праз 10 гадоў насельніцтва, паводле савецкіх дадзеных, вырасла на 200 000 да 5 198 900 чалавек. З іх было 83,9 % (4 361 800) беларусаў, 7 % (363 200) яўрэяў, 4,8 % (248 200) рускіх, 2,3 % (119 900) палякаў, 1,3 % (104 200) украінцаў і 0,7 % (51 100) іншых[31].

Гэтыя лічбы, аднак, трэба лічыць толькі як прыблізныя, таму што савецкія ўстановы маніпулявалі статыстычнымі дадзенымі, як ім было патрэбна, сярод іншага, для таго, каб у гэтых дадзеных хаваць здзейсненыя масавыя злачынствы. Так, насельніцтва БССР у 1939 г. нібыта вырасла да 5 569 000 чалавек, адбыўся прырост на 370 000 на працягу двух гадоў, у той час як рост у папярэднія 11 гадоў (з 1926 да 1937) склаў толькі 200 000. Але лічбы 1939 г. былі «здабытыя» толькі пасля Другой сусветнай вайны. Даследчыкі зыходзяць з таго, што гэтым спрабавалі схаваць масавыя злачынствы 1930-х гг.[32].

---

[28] Справаздача пра баявыя дзеянні беларускіх партызан у 1943 г., частка 2, [1944 г.] (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 328 і наст.).
[29] Казлоў Л., Цітоў А. Беларусь на сямі рубяжах. Мінск, 1993. С. 52 і наст.
[30] Гэтая лічба, аднак, не ўлічвае 200 000 каталікоў, якія лічылі сябе палякамі, хоць за родную мову падавалі беларускую; іх рэгістравалі беларусамі. Гл.: Стэнаграма пасяджэння арганізацыйнага бюро ЦК РКП(б) аб працы КП(б)Б ад 4 лістапада 1925 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 112, д. 723, л. 149—155).
[31] Mironowicz E. Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSSR (1921—1939) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. T. 22. Białystok, 2004. S. 43, 56.
[32] Тамсама. S. 56. Такім чынам, напрыклад, ні пры якіх абставінах польская меншасць, якая налічвала ў 1926 г. 97 500 чалавек, не магла вырасці ў 1937 г. да 119 000. Палякі ў 1930-х гг. былі ў БССР групай насельніцтва, якую найбольш пераследавалі менавіта на этнічных падставах. Гл. адносна гэтага: Замойский А. Польская диаспора Советской Беларуси в условиях тоталитарной советской системы 1920—1930-ых годов // Российско-польский исторический альманах. Ставрополь—Волгоград, 2006. С. 119—133; Iwanow M. Pierwszy Naród Ukarany. Polacy w Związku Radzieckim. 1921—1939. Warszawa—Wrocław, 1991. Каб затушаваць у статыстычных дадзеных злачынствы, датычныя палякаў, савецкія ўлады аб'яўлялі палякамі беларусаў альбо рускіх. За



БССР была намінальна аўтаномнай, аднак у сапраўднасці кіравалася з Масквы. Урадавыя ўстановы і партыйныя органы ў БССР, персанальны склад якіх прызначаў цэнтр у Маскве, ажыццяўлялі распараджэнні цэнтра на месцы. У кіраўнічым і партыйным апараце дамінавалі нацыянальныя меншасці: яўрэі, рускія і палякі, апошнія, праўда, толькі да канца 1920-х гг. Беларуская большасць, наадварот, была прадстаўлена безнадзейна слаба. Яна складалася амаль выключна з сельскага насельніцтва, што ў большасці не ўмела ні чытаць, ні пісаць. Яшчэ ў 1926 г. непісьменныя складалі палову насельніцтва рэспублікі. Беларускай інтэлігенцыі і сярэдняга пласта амаль не было[33].

Бюро КП(б)Б вырашыла ў 1920-я гг. спрыяць беларускай мове, якая да таго часу лічылася сялянскай, і развіццю беларускай інтэлігенцыі, што спачатку суправаджалася заўважнымі поспехамі. Пазней, аднак, справа дайшла да змены курсу, і Бюро з 1927 г. пачало пераследаваць тым часам колькасна памацнелую інтэлігенцыю, а беларуская мова стала зноў выціскацца рускай. Гэтая кампанія радыкалізавалася і перайшла ў брутальнае пераследаванне носьбітаў нацыянальнай беларускай культуры. З 1929 г. многія з іх былі арыштаваныя і асуджаныя да шматгадовага турэмнага зняволення, што пазней часта ператваралася ў смяротныя прысуды і прывядзенне іх у выкананне[34].

Але гэта было толькі пачаткам масавага тэрору 1930-х гг., які перш за ўсё напаткаў сельскае насельніцтва. Кампанія калектывізацыі, што інтэнсіўна праводзілася з 1928 г., праходзіла з пункту погляду бальшавікоў недастаткова хутка. Сялянскі супраціў станавіўся ўсё больш жорсткім; колькасць падпальванняў у сувязі з калектывізацыяй, напады на калгасных і партыйных актывістаў і масавыя мітынгі бунтарскага характару множыліся з 1927 г. па ўсёй тэрыторыі СССР, у тым ліку і ў БССР[35].

На пачатак 1930 г. сялянскі супраціў працягваў мацнець паралельна з інтэнсіфікацыяй кампаніі па калектывізацыі. У студзені 1930 г. АДПУ паведамляла пра 401 масавы мітынг, у лютым — 1 066 і ў сакавіку — 6 512 з усяго каля 1,8 мільёнаў удзельнікаў. Гэтыя масавыя

---

гэтую інфармацыю я дзякую беларускаму даследчыку Андрэю Замойскаму, які ўжо на працягу многіх гадоў займаецца гісторыяй калектывізацыі ў Беларусі ў 1930-х гг.
[33] Протько Т. С. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941). Минск, 2002; Mironowicz E. Kształtowanie się struktury...
[34] Mironowicz E. Kształtowanie się struktury... S. 43—49.
[35] Так, АДПУ (ОГПУ) у 1927 г. дакладвала пра 78 пажараў, якія звязваліся з кампаніяй калектывізацыі, у 1928 г. іх было 307, а ў 1929 — 1 604. Колькасць нападаў на калгасных і партыйных актывістаў (з забітымі і параненымі) вырасла з 901 у 1927 г. да 1 153 у 1928 г. і да 9 137 у 1929 г. Гэткім самым чынам выглядалі справы з выступленнямі і масавымі мітынгамі, у першую чаргу супраць калектывізацыі і дзяржаўных нарыхтовак збожжа. Іх колькасць вырасла з 32 у 1927 г. да 709 у 1928 г., а ў 1929 г. яны дасягнулі ўжо 1 307. Гл.: Советская деревня глазами ВЧК—ОГПУ—НКВД. Документы и материалы. Т. 3: 1930—1934. Кн. 1: 1930—1931. Москва, 2003. С. 519—527 (справаздача асобага аддзела АДПУ пра ход аперацыі па раскулачванні і перасяленні кулакоў ад 17 лістапада 1930 г.).

мітынгі былі скіраваныя ў першую чаргу супраць калектывізацыі і ліквідацыі гаспадарак кулакоў, а таксама супраць закрыцця цэркваў. У іх удзельнічалі, па дадзеных АДПУ, да 75 % жанчын (каля 1,35 мільёна). Таксама хутка вырасла колькасць замахаў, з 808 у студзені 1930 г. да 1 368 у лютым 1930 г. Далей АДПУ паведамляла з 1 лютага да 30 мая 1930 г. усяго пра 33 узброеныя паўстанні з 30 310 паўстанцамі[36].

Як ва ўсім СССР, у пачатку 1930 г. адбываліся хваляванні і ў БССР. Беларускія сяляне таксама адчайна і трывала супраціўляліся. АДПУ ў Гомелі паведамляла вясной 1930 г. пра падпалы, агітацыю супраць калгасаў, падарваныя ці цалкам разбураныя памяшканні, дзе праводзіліся прапагандысцкія сходы, напады на калгасных актывістаў, а таксама лістоўкі, якія заклікалі да супраціву калектывізацыі[37]. Наколькі жорсткім і пашыраным быў супраціў, паказвае наступная канстатацыя аднаго калгаснага актывіста з Васількоўска Церахоўскага раёна ў Гомельскай акрузе: «Мірным шляхам усё адно нашых сялян у калектывы не ўцягнем, трэба расстраляць чалавек з 20, і тады нашая справа [калектывізацыя] пойдзе на лад»[38].

Да падобных заключэнняў прыйшлі Сталін і яго давераныя не пазней чым у студзені 1930 г. 30 студзеня 1930 г. Палітбюро вырашыла ліквідаваць кулацкія гаспадаркі. Яны падзялілі кулакоў на тры катэгорыі. Першую катэгорыю, актыўных кулакоў і ўцекачоў, неабходна было зняволіць у канцэнтрацыйных лагерах, найбольш упартыя сярод іх мусілі быць расстраляны. Для Беларусі Палітбюро вызначыла кантынгент ад 4 000 да 5 000 кулакоў першай катэгорыі. Да другой катэгорыі належалі члены сем'яў расстраляных ці зняволеных у канцэнтрацыйных лагерах кулакоў. Яны мусілі быць дэпартаваны ў паўночныя вобласці СССР. Для Беларусі Палітбюро вызначыла кантынгент ад 6 000 да 7 000 сем'яў. Да трэцяй катэгорыі адносіліся раскулачаныя і іх сем'і, якія мусілі быць «перасяленыя» ўнутры адпаведных раёнаў. Для іх Палітбюро не вызначыла кантынгент, але рэкамендавала ліквідаваць у кожным раёне ў сярэднім ад 3 да 5 % усіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў як кулацкіх гаспадарак[39].

Праз тры дні, 2 лютага 1930 г., Генрых Ягода, кіраўнік ДПУ, выдаў загад на ліквідацыю кулакоў як класа, праз які павінна было

[36] Тамсама. Гл. таксама: Musial B. Kampfplatz Deutschland. Stalins Kriegsplane gegen denWesten. Berlin, 2008. S. 252—265.

[37] Параўн., напрыклад: Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гомельскай вобласці. Ф. 3, воп. 1, спр. 714 (паведамленні АДПУ пра інцыдэнты ў Гомельскай вобласці ў перыяд са студзеня да мая 1930 г.).

[38] Трагедия советской деревни. Коллективизация и раскулачивание. Документы и материалы. 1927—1939. Т. 2: ноябрь 1929 — декабрь 1930. Москва, 2000. С. 302 (справаздача начальніка АДПУ Г. Ягоды І. Сталіну пра перагібы ў ходзе калектывізацыі і раскулачвання ад 7 сакавіка 1930 г.).

[39] Дадатак № 2 да пратакола № 116 пастановы Палітбюро ЦК УсеКП(б) ад 30 студзеня 1930 г. «Аб мерапрыемствах па ліквідацыі кулацкіх гаспадарак у раёнах суцэльнай калектывізацыі» (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 16, д. 8, л. 60, 64—69). Як дадатак № 2 надрукаваны ў: Трагедия советской деревни... С. 126—130. Падрабязна гл.: Musial B. Kampfplatz Deutschland... S. 252—273.



ажыццявіцца рашэнне Палітбюро ад 30 студзеня[40]. Механізм тэрору быў запушчаны, і ва ўсім Савецкім Саюзе, у тым ліку ў БССР, пачаліся арышты, расстрэлы і дэпартацыі. Колькасць ахвяр 1930 г. у БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, была жахлівай. Да 10 снежня 1930 г. АДПУ і партыйныя органы дэпартавалі з БССР, паводле іх уласных дадзеных, 11 079 сем'яў, ці 53 914 чалавек, больш чым 1 % усяго насельніцтва, ва ўсім Савецкім Саюзе было 112 828 такіх сем'яў, ці 550 558 чалавек[41].

У Беларусі і Украіне бальшавіцкія ўладары надавалі асаблівую ўвагу польскай меншасці, якая колькасна была найбольш прадстаўлена ў заходніх абласцях Украінскай і Беларускай савецкіх рэспублік. 5 сакавіка 1930 г. Палітбюро вырашыла «ачысціць» памежныя рэгіёны ад палякаў, незалежна ад матэрыяльнага статусу ахвяр. У гэтым выпадку была вырашальнай не прыналежнасць да сацыяльнага класа (кулакоў), а этнічная прыналежнасць. Для Беларусі Палітбюро вызначыла кантынгент ад 3 000 да 3 500 польскіх сем'яў, а для Украіны — ад 10 000 да 15 000 польскіх сем'яў, што мусілі быць раскулачаныя і выселеныя[42]. Гэтае рашэнне было вынікам антыпольскага псіхозу савецкіх уладароў, які ў 1920-я і 1930-я гг. панаваў у Савецкім Саюзе і зноў і зноў падаграваўся прапагандай. Ён ператварыўся ў калектыўнае пераследаванне польскай меншасці ва ўсім Савецкім Саюзе ў другой палове 1930-х гг.[43].

Захады тэрору 1930 г. канчаткова не зламалі жорсткі сялянскі супраціў калектывізацыі, і камуністычны тэрор супраць сялян працягваўся. Лічыцца, што ў 1929—1932 гг. савецкія органы ў БССР ліквідавалі ўсяго 48 000—64 000 кулацкіх двароў, што непасрэдна закранула каля 300 000 чалавек (прыблізна 6 % усяго насельніцтва), г. зн. яны страцілі ў лепшым выпадку сваю жыццёвую аснову, свае дамы, сваю зямлю і ўсю сваю маёмасць. Невядома, як шмат з іх было дэпартавана, арыштавана ці расстраляна[44]. Але толькі з мая 1932 г. да канца 1933 г. органы АДПУ арыштавалі ў беларускіх вёсках да 30 000 «контррэвалюцыйных кулацкіх, бандыцкіх, белагвардзейскіх элементаў»[45].

Агульная колькасць ахвяр савецкага тэрору ў Беларусі ў першай палове 1930-х гг. невядомая, бо адпаведныя дакументы недаступныя да сённяшняга дня. Для другой паловы гэтага дзесяцігоддзя лічыцца, што ў Беларусі былі непасрэдна рэпрэсаваныя каля 480 000 чалавек,

[40] Трагедия советской деревни... С. 163—167 (загад АДПУ аб мерапрыемствах па ліквідацыі кулацтва як класа, падпісаны Г. Ягодам 2 лютага 1930 г.).

[41] Трагедия советской деревни... С. 745 і наст. (даведка Асобага аддзела АДПУ пра колькасць раскулачаных і выселеных кулакоў па стане на 10 снежня 1930 г.).

[42] Пратакол № 119: Рашэнне Палітбюро ад 5 сакавіка 1930 г., пункт 5 пра польскія пасяленні ў памежных рэгіёнах і дадатак да гэтага (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 162, д. 8, л. 103, 109 і наст.).

[43] Параўн.: Musial B. Kampfplatz Deutschland... S. 57—61, 292—301; Iwanow M. Pierwszy naród ukarany...

[44] Протько Т. С. Становление... С. 536—554.

[45] Платонаў Р. Беларусь у міжваенны перыяд: Старонкі палітычнай гісторыі ў святле гістарычных крыніц. Мінск, 2001. С. 158.

50 000 з іх былі расстраляныя[46]. Сімвалам камуністычнага тэрору таго часу ў Беларусі з'яўляецца ўрочышча Курапаты паблізу Мінска. Там савецкія злачынцы перад 22 чэрвеня 1941 г. закопвалі свае ахвяры з турмаў у Мінску. Паводле ацэнак, там былі закапаныя целы як мінімум 100 000 чалавек, але па ўсёй верагоднасці куды больш[47]. Неабходна зыходзіць з таго, што падобныя месцы ёсць і паблізу ад іншых буйнейшых гарадоў былой БССР, якія ў той час мелі турмы НКУС, як, напрыклад, пад Гомелем[48].

Масавы тэрор у 1930-я гг. у рэшце рэшт зламаў актыўны сялянскі супраціў супраць калектывізацыі ў Беларусі, як і ва ўсім Савецкім Саюзе. У 1939 г. у Беларусі былі калектывізаваныя звыш 90 % усіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў[49].

Эканамічныя, сацыяльныя і дэмаграфічныя вынікі савецкага тэрору ў Беларусі ў 1930-я гг. былі разбуральнымі. На мяжы 1933/34 гг. у Маскве былі распрацаваны планы па стварэнні новых вайсковых акруг і па ачышчэнні гэтых акруг ад «варожых элементаў». Знаёмыя з планамі супрацоўнікі Цэнтральнага камітэта пісалі ў заключэнні да дадзеных праектаў:

> Арышты [у БССР] трэба праводзіць толькі пры канкрэтных падставах, а не ў рамках масавай аперацыі. Перасяленне максімум 3 000 сем'яў, прычым дзве трэціны з іх перасяліць унутры БССР. Прычына: у многіх вёсках і мястэчках памежных рэгіёнаў у выніку рэпрэсій і папярэдніх высяленняў не засталося амаль ніводнага дарослага і ўвогуле працаздольнага мужчыны[50].

Польскі консул у Мінску ў маі 1939 г. зрабіў кругавую паездку ад Мінска праз Магілёў і Оршу і апісаў свае назіранні ў адным паведамленні ў Цэнтр:

> Праездам я бачыў шмат неапрацаваных палёў; увогуле кідалася ў вочы пустэча і беднота нешматлікіх вёсак/калгасаў. […] Стан сялянскіх хат жудасны, гаспадарчыя будынкі калгасаў таксама ў вельмі дрэнным стане. Жывёла і коні […] вельмі занядбаныя. Можна было ўбачыць трохі большыя авечыя і казіныя статкі[51].

[46] Кузняцоў I. Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў 1930—40-ыя гады // Беларусь у XX стагоддзі. Вып. 1. Мінск, 2002. С. 81.

[47] Параўн., напрыклад: Iou A. V., Kryval'cevič M. M. u. a. Kuropaty. Ausgrabungen eines Graberfeldes aus dem Stalinismus, Rundbrief Nr. 21, Anlage Nr. 1 des Vereins für Geschichte des Weltsystems e.V. / Hrsg. von H.-H. Nolte. Hannover—Barsinghausen, 1997.

[48] Паблізу Гомеля ў лесе ў 90-я гг. мінулага стагоддзя было знойдзена некалькі масавых пахаванняў. Студэнты і выкладчыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта пачалі там раскопкі і выявілі, што гэта, напэўна, парэшткі ахвяр 1930-х гг. Дзяржаўныя органы распарадзіліся пасля гэтага спыніць раскопкі, а адпаведная пракуратура заявіла, што гэта — ахвяры нямецкіх акупантаў. Ад удзельнікаў раскопак запатрабавалі пацвердзіць гэта пісьмова.

[49] Протько Т. С. Становление... С. 536—565.

[50] Заўвагі Л. Закоўскага і Ратнека да праекта рашэння пра стварэнне [ахоўных] зон у памежных раёнах Беларусі, без даты, [прыблізна канец 1934 г. ці пачатак 1935 г.] (РГАСПИ. Ф. 77, оп. 3, д. 12, л. 5 і наст.).



Не без прычыны крытычныя беларускія гісторыкі асуджаюць савецкую палітыку 1920-х і 1930-х гг. у Беларусі як «нацыянальную катастрофу», хоць увесь памер савецкага тэрору ў Беларусі і яго-ныя вынікі яшчэ далёка не даследаваныя[52]. Некаторыя ж заходнія аўтары, здаецца, былі зачараваныя савецкай прапагандай аб быццам квітнеючых ландшафтах у БССР. Яны відавочна ашукваліся афіцыйнымі статыстычнымі дадзенымі аб выраблёных трактарах, пабудаваных фабрыках і заводах, узрослымі лічбамі рабочых і студэнтаў. Яны верылі, што сённяшняя Усходняя Беларусь у 1930-я гг. мела выдатны цывілізатарскі прагрэс і адзначалі пераломам, ад якога атрымала выгаду вялікая частка насельніцтва[53].

Факт, што бальшавікі ў 1930-я гг. зламалі сялянскі супраціў супраць калектывізацыі, не азначае, што ахвяры раптам сталі прыхільнікамі камуністычнай ідэалогіі і савецкага рэжыму. Наадварот, атмасфера, якая ў той час панавала ў вёсцы, была адзначана абыякавасцю, адчаем, страхам перад тэрорам, а таксама нянавісцю да злачынцаў і пераможцаў савецкай сістэмы, як і жаданнем помсты. Пра гэта сведчылі, сярод іншага, падзеі лета 1941 г., пра што яшчэ пойдзе гаворка.

### *б) Заходняя Беларусь да 1939 г. — польскія «крэсы»*

Заходняя частка сённяшняй Беларусі належала ў міжваенны час да Польшчы. Насельніцтва гэтых абласцей этнічна і канфесійна было вельмі разнародным. Яно складалася на прыкладна 48 %, ці 1,9 мільёна, з беларусаў, 36 % (каля 1,5 мільёна) палякаў і прыблізна 9 %, ці 388 000 яўрэяў, пры агульным насельніцтве ў 4,15 мільёна чалавек[54].

Прамысловасці ў гэтых абласцях амаль не было. Пераважная большасць жыхароў (звыш 80 %) жыла на вёсцы. Там існавалі, як правіла, малыя, адсталыя сялянскія гаспадаркі. Беднае сялянскае насельніцтва, якое мала вырабляла прадукцыі для рынку, складалася галоўным чынам з беларусаў, а таксама з палякаў. Так, палякі складалі большасць у мясцовасцях вакол Ліды, Шчучына, Валожына, Гродна, Брэста, а ў абласцях вакол Беластока і Ломжы яны дамінавалі цалкам. На астатніх тэрыторыях пераважалі ці дамінавалі беларусы. Да гэтага дадаваліся буйныя землеўладальнікі, якія ў большасці былі палякі. У нешматлікіх гарадах і мястэчках жылі перш за ўсё яўрэі і палякі. Бела-

[51] Archiwum Akt Nowych (AAN) w Warszawie. Ministerstwo Spraw Zagranicznych 1918—1939. Sygn. 322, B23042, k. 20 (справаздача Генеральнага консульства Польскай Рэспублікі ў Мінску Амбасадзе Польшчы ў Маскве, 15 мая 1939 г.).

[52] Iwanou M. Terror, Deportation, Genozid: Demografische Veränderungenin Weißrußland im 20. Jahrhundert // Handbuch der Geschichte Weißrußlands / Hrsg. von D. Beyrau und R. Lindner. Göttingen, 2001. S. 429.

[53] Параўн., напрыклад: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 38 і наст.

[54] Eberhardt P. Polska granica wschodnia 1939—1945.Warszawa, 1993. S. 53.

русы былі, як правіла, праваслаўнай, палякі — рымска-каталіцкай, а яўрэі — іўдзейскай веры.

Нацыянальная свядомасць беларусаў, у большасці бедных сялян, была адносна слаба развітая. Яны былі ў перадваеннай Польшчы моцна абдзеленыя, так што для іх амаль не мелася шанцаў на сацыяльны і эканамічны прагрэс. Перанаселенасць і недахоп зямлі вызначалі агульную карціну. Таму не дзіўна, што беларусы часта варожа супрацьпастаўляліся польскай дзяржаве. Культурная, моўная і школьная палітыка польскай дзяржавы, якая была нацэлена на паланізацыю, пагаршала сітуацыю яшчэ больш. Многія беларусы ў гэтых абставінах былі ўспрымальныя да камуністычнай і прасавецкай агітацыі.

Гарады, асабліва мястэчкі, вызначаліся шырокім слоем дробных гандляроў і рамеснікаў, якія былі пераважна яўрэямі. Яны выконвалі традыцыйную шарнірную функцыю паміж горадам і вёскай. Большасць крам і майстэрняў былі прадпрыемствамі аднаго чалавека з невялікім абаротам. Эканамічна адсталая краіна давала вялікай групе яўрэйскіх гандляроў і рамеснікаў толькі невялікія магчымасці працы, і мелася толькі адносна рэдкая праслойка заможных гандляроў і прадпрымальнікаў. Да гэтага дадавалася вялікая група так званых *Luftmenschen*, г. зн. яўрэяў без сталай працы, капіталу і прафесіі, якія перабіваліся з хлеба на ваду выпадковымі працамі. Асабліва адчувала сябе прыгнечанай яўрэйская моладзь, бо яна фактычна не мела перспектыў. З прычыны беднасці і бесперспектыўнасці ў «штэтлах» амаль не з'яўляецца дзіўным, што сярод яўрэйскай моладзі левыя ідэі карысталіся вялікай папулярнасцю.

Паліцэйскімі, чыгуначнымі служачымі, дзяржаўнымі служачымі і служачымі кіраўніцкага апарату, настаўнікамі, юрыстамі ды прафесійнымі вайскоўцамі былі, як правіла, палякі. Колькасць рабочых не мела вялікага значэння, бо амаль не існавала буйных прамысловых прадпрыемстваў. У вольных прафесіях, перш за ўсё сярод лекараў і адвакатаў, былі прадстаўленыя як палякі, так і яўрэі, але толькі нямногія беларусы.

Палякі ўвогуле і ў цэлым належалі да слоя, які дэ-факта быў прывілеяваны. Палітыка польскай дзяржавы мела намер умацоўваць польскасць у гэтай шматнацыянальнай вобласці, каб замацоўваць польскую нацыянальную дзяржаву. Гэта выяўлялася, між іншым, у школьнай і моўнай палітыцы, у пасяленні асаднікаў і мэтанакіраванай падтрымцы польскіх гандляроў і рамеснікаў. Яўрэі і беларусы справядліва ўспрымалі гэтую палітыку як прычыненне ім страт і прыгнечанне. Гэтыя эканамічныя, сацыяльныя і палітычныя ўмовы на доўгі час абцяжарылі адносіны паміж палякамі ды непалякамі, у якіх часткова пачалі праяўляцца моцныя антыпольскія эмоцыі[55].

[55] «Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen». Die Brutalisierung des deutsch-sowjetischen Krieges im Sommer 1941 / Hrsg. von B. Musial. Berlin—München, 2000. S. 25—30.



### *в) Савецкае панаванне ў былой Усходняй Польшчы ў 1939—1941 гг.*

Сённяшнія заходнія вобласці Беларусі, разам з іншымі ўсходняпольскімі тэрыторыямі, у верасні 1939 г. былі занятыя і анексаваныя Чырвонай Арміяй. Новыя ўладары адразу ўзяліся гвалтам усталёўваць у акупаванай краіне савецкую сістэму. Да ўжываных пры гэтым метадаў належалі арышты, катаванні, масавыя дэпартацыі, прымусовыя перасяленні і масавыя расстрэлы. Саветы да таго ж інструменталізавалі наяўныя этнічныя і сацыяльныя напружаныя адносіны, каб замацаваць сваё панаванне.

Асобныя нацыянальныя групы былі закранутыя гэтым у рознай ступені. Палякаў савецкі тэрор закрануў найбольш жорстка. Асабліва ў першыя месяцы савецкага панавання яны панеслі шмат ахвяр. Усе польскія дзяржаўныя служачыя страцілі сваю працу і ўвайшлі ў склад першых, каго арыштоўвалі і дэпартавалі. Польскіх буйных землеўладальнікаў і прадпрымальнікаў экспрапрыіравалі і шмат разоў сілком вывозілі, нярэдка забівалі. Усе польскія асаднікі, якія ў 1920-я і 1930-я гг. прыехалі ў гэта край, былі са сваімі сем'ямі дэпартаваныя ў Сібір. Значная няўдалая спроба арганізаваць антысавецкае падполле прывяла да таго, што тысячы палякаў, якія належалі да яго або падтрымлівалі, пераследаваліся. Палякі раптам ператварыліся з прывілеяванага і ўпэўненага ў сабе дзяржаўнага народа ў пераследаваную, дыскрымінаваную і прыніжаную групу насельніцтва[56].

Пасля 17 верасня 1939 г. большасць беларускага насельніцтва вітала ўваходжанне Чырвонай Арміі; яны спадзяваліся, што іх цяжкае становішча палепшыцца. Аднак неўзабаве ў вялікай частцы беларускага насельніцтва з-за агульнага эканамічнага становішча (дэфіцытная эканоміка), але перш за ўсё з прычыны савецкай аграрнай палітыкі, пашыралася працвераджэнне. Праўда, у першыя месяцы многія з іх атрымалі выгаду ад саветызацыі за кошт польскіх памешчыкаў і асаднікаў. Аднак неўзабаве Саветы абклалі край прымусовымі павіннасцямі, высокімі падаткамі і іншымі цяжарамі. Акрамя таго, вясной 1940 г. быў дадзены старт калектывізацыі. Гэтыя мерапрыемствы выклікалі пасіўны супраціў беларускіх сялян, якія ставіліся да Саветаў усё больш варожа[57].

Падобна як беларусы, вялікая частка яўрэйскага насельніцтва адчула крах польскай дзяржавы як палёгку. Нямала з іх спачатку атрымалі выгаду ад саветызацыі. Так, напрыклад, савецкія ўстановы і прадпрыемствы, якія хутка пашыраліся, масава прымалі на працу яўрэйскую рабочую сілу, якая займала сярэднія і ніжэйшыя пасады.

[56] Głowacki A. Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939—1941. Łódź, 1998. S. 170—410; «Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen»...; Gross J. T. «Und wehe, du hoffst...». Die Sowjetisierung Ostpolens nach dem Hitler-Stalin-Pakt 1939—1941. Freiburg im Bresgau, 1988.

[57] «Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen»... S. 37—41, 55 і наст.; Wierzbicki M. Polacy i Białorusini w zaborze sowieckim na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką 1939—1941. Warszawa, 2000. S. 59—246, 306—331.

Ключавыя пазіцыі пакідаліся прыкамандзіраваным савецкім кадрам. Многія маладыя яўрэі захапіліся савецкімі ідэямі, для іх раптам з'явіліся шматлікія рабочыя месцы. Таксама ім былі адкрытыя школы і ўніверсітэты. Упершыню яўрэі ў сваёй большасці былі не абдзеленыя, а атрымалі фармальнае раўнапраўе. У вачах многіх неяўрэяў яны ўяўляліся нават прывілеяванымі[58].

Але фактычна яўрэі таксама пераследаваліся. Так, старыя сацыяльныя і эканамічныя эліты, гэта значыць заможныя гандляры, прадпрымальнікі і часткова прадстаўнікі вольных прафесій, трапілі ў лік тых, хто панёс страты ад саветызацыі. Да ахвяр савецкіх рэпрэсій належала і адна адносна вялікая група яўрэяў: яўрэйскія ўцекачы з Заходняй Польшчы, якія адмовіліся прыняць савецкае грамадзянства. Савецкія ўлады класіфікавалі іх як палітычна нядобранадзейных і вывезлі ў чэрвені 1940 г. каля 70 000 з іх у Сібір. Мясцовых яўрэяў не дэпартавалі, калі іх не кваліфікавалі як «варожых элементаў». Звыш таго, з прычыны савецкай рэальнасці ў многіх яўрэяў, падобна як у беларусаў, хутка настала працверажэнне[59]. На гэтым фоне не здзіўляе, што меліся і спробы арганізаваць яўрэйскае антысавецкае падполле[60].

Вынікам менш як дваццаціаднамесячнага савецкага панавання ва Усходняй Польшчы былі паміж 330 000 і 400 000 дэпартаваных, звыш 100 000 арыштаваных і тысячы закатаваных і забітых. Толькі ў рамках гэтак званай Катынскай бойні злачынцы з НКУС расстралялі каля 22 000 прадстаўнікоў польскіх кіраўнічых эліт. Ахвярамі савецкіх рэпрэсій былі палякі, украінцы, яўрэі і беларусы. Сюды дадаюцца вынікі іншых мерапрыемстваў, якія з'яўляліся тыповымі для савецкага камуністычнага грамадскага і эканамічнага ладу: экспрапрыяцыя і калектывізацыя, дэфіцытная эканоміка і безгаспадарчасць, чорны рынак, карупцыя і кумаўство[61].

Усе гэтыя мерапрыемствы і іх вынікі абвастрылі наяўныя нацягнутыя адносіны і стварылі адначасова новыя ачагі канфліктаў паміж групамі насельніцтва. У надзвычай цяжкае становішча трапіла яўрэйскае насельніцтва. З аднаго боку, яго эліты пераследаваліся і многія ўцекачы (каля 70 000) з Заходняй Польшчы былі дэпартаваныя ў Сібір, так што яўрэйскае насельніцтва было раздроблена і страціла сваю традыцыйную кіруючую эліту. З другога боку, савецкая сістэма дала частцы яўрэяў новую перспектыву. Для многіх з іх, асабліва для моладзі, савецкае панаванне прынесла з сабой сацыяльны ўздым. Гэта выклікала ў іншых груп насельніцтва зайздрасць і жаданне помсты. Многія цяпер асацыявалі савецкае панаванне з сацыяльнымі прывілеямі яўрэяў і іх удзелам ва ўладзе. Такім чынам, антыяўрэйскія эмоцыі ў час савецкага панавання набылі новыя памеры. Побач з

[58] Pinchuk B. Shtetl Jews under Soviet Rule. Eastern Poland on the Eve of the Holocaust, Oxford, 1990. P. 25—50; «Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen»... S. 57—70.
[59] Тамсама.
[60] Musial B. Jewish Resistance in Poland's Eastern Borderlands during the Second World War, 1939—41 // Patterns of Prejudice. Vol. 38. 2004. № 4. P. 371—382.
[61] «Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen»... S. 31—70.



традыцыйнымі забабонамі, што мелі карані ў эканамічных, рэлігійных і сацыяльных адрозненнях і канфліктах, з'явіўся вобраз яўрэяў як людзей, што атрымліваюць уяўную карысць ад саветызацыі, і хаўруснікаў савецкіх акупантаў[62].

Напярэдадні германа-савецкай вайны міжэтнічныя адносіны ў былой Усходняй Польшчы, а таксама ў сённяшняй Заходняй Беларусі значна разладзіліся, і нават у большай ступені, чым у час перад вераснем 1939 г. Гэта мела разбуральны ўплыў падчас нямецкай акупацыі.

## 5. Асноўныя рысы нямецкай акупацыі ў Беларусі ў 1941—1944 гг.

Гісторыя нямецкай акупацыі ў Беларусі між тым адносна добра даследавана. Асноўнай з'яўляецца выдадзеная ў 1999 г. аб'ёмістая праца Крысціяна Герлаха «Калькуляваныя забойствы. Нямецкая палітыка гаспадарання і знішчэння ў Беларусі ў 1941—1944 гг.». Але і даследаванне Бернгарда К'яры «Штодзённасць за лініяй фронту. Акупацыя, калабарацыянізм і супраціў у Беларусі ў 1941—1944 гг.», якое з'явілася на год раней, робіць свой важкі ўклад у вывучэнне гісторыі нямецкай акупацыі ў Беларусі.

Несумненна, што вайна супраць СССР і наступная акупацыя нацыстамі Беларусі, Украіны, балтыйскіх краін і расійскіх абласцей з самага пачатку была запланавана як вайна захопу, заняволення і знішчэння. Яе мэтай было заваяваць на Усходзе «жыццёвую прастору» і потым засяліць яе немцамі. Такім чынам, не можа быць і гаворкі пра тое, што справа была ў вызваленні прыгнечаных народаў Савецкага Саюза ад бальшавіцкага тэрарыстычнага панавання, як гэта прадстаўляла нацыянал-сацыялістычная прапаганда. Больш таго, Гітлер верыў, што савецкі тэрор і яго вынікі дапамогуць яму ажыццявіць ягонае ўяўленне пра жыццёвую прастору. Ён думаў, што бальшавікі ў пэўнай ступені выканаюць для яго падрыхтоўчую працу. Ужо ў 1923 г. ён пісаў:

> Але калі мы сёння гаворым пра новую зямлю, то мы ў першую чаргу можам думаць толькі пра Расію і падначаленыя ёй ускраінныя дзяржавы. Здаецца, тут сам лёс хоча даць нам знак. Аддаючы сябе на волю бальшавізму, Расія [пры дапамозе тэрору] пазбавіла рускі народ той інтэлігенцыі, якая раней прывяла яго да дзяржаўнасці і гарантавала яе[63].

Для нямецкага боку яшчэ да 22 чэрвеня 1941 г. было зразумела, што вайна супраць Савецкага Саюза будзе знішчальнай, і немцы рыхтаваліся да яе адпаведна. Варта толькі згадаць выдадзены за два тыдні да пачатку вайны «Камісарскі загад»[64] (згодна з ім усіх палітычных камісараў пасля ўзяцця ў палон неабходна было рас-

[62] «Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen»... S. 71—78.
[63] Hitler A. Mein Kampf. München, 1942. S. 742.
[64] Параўн., напрыклад: Arnold K. J. Die Wehrmacht... S. 140—146.

стрэльваць), стварэнне аператыўных груп (*Einsatzgruppen*), якія павінны былі «з расстрэламі дайсці да Урала» і генеральны план «Ост» (*Generalplan Ost*), што прадугледжваў забойствы і выгнанне мільёнаў людзей на акупаваных тэрыторыях, у тым ліку ў Беларусі.

Задачай аператыўных груп у вайне супраць Савецкага Саюза на тылавых тэрыторыях было, па-першае, «знішчэнне актыўна выступаючых працаўнікаў». Па-другое, у якасці «прафілактычных захадаў неабходна было вынішчаць такія элементы, якія з прычыны іх перакананняў ці мінулага маглі б пры спрыяльных таму абставінах актыўна выступаць як ворагі»[65]. Адным словам, аператыўныя групы павінны былі «ачышчаць» тыл фронту ад фактычных і патэнцыйных дыверсантаў, стралкоў з засады, партызанаў і іншых варожых сіл, г. зн. яны падлягалі «ліквідацыі».

Генеральны план «Ост» прадугледжваў фізічнае знішчэнне мясцовых кіраўнічых слаёў, «канчатковае вырашэнне» яўрэйскага пытання спачатку яшчэ праз дэпартацыю, а потым праз масавыя забойствы, дэпартацыю «лішняга» славянскага насельніцтва ў Сібір ці знішчэнне яго голадам, каб такім чынам вызваліць месца для нямецкіх пасяленцаў. Частка славянскага насельніцтва, што паводле нацысцкай расавай тэорыі лічылася недачалавекамі, павінна была, наадварот, заставацца на сваіх тэрыторыях, якія будуць належаць потым Германскаму рэйху, каб выконваць рабскую працу для нямецкай пануючай расы. Увесь генеральны план «Ост» мусіў быць рэалізаваны пасля канчатковай перамогі. Аднак ужо ў час вайны нямецкія акупанты ажыццяўлялі некаторыя складовыя часткі гэтага плана, у прыватнасці, яны амаль цалкам вынішчылі яўрэйскае насельніцтва[66].

Пасля 22 чэрвеня 1941 г. вермахт на працягу некалькіх тыдняў заняў тэрыторыю БССР. Праз кароткі перыяд ваеннага кіравання нямецкія акупанты ўсталявалі ў заходніх і цэнтральных частках БССР Генеральны камісарыят Беларусь [нацысты называлі акупаваную Беларусь «Вайсрутэнія». — *Рэд. перакладу.*] з рэзідэнцыяй у Мінску. Выключэннем стала тэрыторыя вакол Беластока і Ломжы, што ў якасці Беластоцкай акругі была далучаная да Усходняй Прусіі, як і тэрыторыі вакол Кобрына, Пінска і Брэста, што да пачатку 1944 г. належалі да Рэйхскамісарыята Украіна, каб потым на шэсць месяцаў трапіць пад кіраванне генеральнага камісара ў Мінску[67].

Усходнія рэгіёны Беларусі заставаліся пад ваенным кіраваннем як тылавы раён групы армій «Цэнтр», што з сакавіка 1942 г. быў амаль ідэнтычны тэрыторыі Усходняй Беларусі. Пасаду камандуючага

[65] Цыт. паводле: Krausnick H. Hitlers Einsatzgruppen. Die Truppen des Weltanschauungskrieges 1938—1942. Frankfurt am Main, 1985. S. 130.

[66] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 44—59; Vom Generalplan Ost zum Generalsiedlungsplan. Dokumente / Hrsg. Cz. Madajczyk. München, 1994.

[67] Chiari B. Alltag hinter der Front. Besatzung, Kollaboration und Widerstand in Weißrußland 1941—1944. Düsseldorf, 1998. S. 51—59; беларускамоўная версія: К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту: Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941—1944 г.) / Пераклад з ням. Л. Баршчэўскага; нав. рэд. Г. Сагановіч. Мінск, 2005 (2-е выд., папраўл. Мінск, 2008). С. 66—74; Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 128—230.



займаў да сваёй смерці ў пачатку ліпеня 1943 г. генерал Максімільян фон Шэнкендорф, ягоным пераемнікам быў генерал Людвіг Кюблер. Фон Шэнкендорф фармальна і дысцыплінарна падпарадкоўваўся галоўнакамандуючаму групы армій «Цэнтр». Тылавы раён групы армій «Цэнтр» быў падзелены на зоны дывізій бяспекі, палявыя камендатуры, гарадскія камендатуры і часткова мясцовыя камендатуры. Тылавы раён групы армій «Цэнтр» як адміністрацыйная адзінка быў скасаваны восенню 1943 г.[68].

Генеральны камісарыят Беларусь належаў да Рэйхскамісарыята Остланд (рэйхскамісар Гінрых Лозэ), што ў сваю чаргу падпарадкоўваўся Міністэрству Усходу (*Ostministerium*), якім кіраваў Альфрэд Розенберг. Генеральным камісарам у Мінску быў гаўляйтар Курмарка і обер-прэзідэнт Брандэнбурга і Заходняй Прусіі Вільгельм Кубэ, што стаў ахвярай замаху ў верасні 1943 г. Яго пераемнікам стаў вышэйшы начальнік СС і паліцыі брыгадэфюрар СС Курт фон Готберг. Генеральны камісарыят Беларусь быў падзелены на адзінаццаць абласных камісарыятаў: Ліда, Слонім, Навагрудак, Баранавічы, Ганцавічы, Вілейка, Глыбокае, Мінск-раён, Мінск-горад, Барысаў і Слуцк. Аграрнае кіраванне было сфармавана асобна і падпарадкавалася нямецкім акруговым ландвіртам (сельскім гаспадарам) ці кіраўнікам сельскай гаспадаркі. Персанал нямецкага кіраўнічага апарату набіраўся перш за ўсё з камандзіраваных і вербаваных немцаў з рэйху[69].

Ніжэй абласных камісарыятаў знаходзілася мясцовая структура кіравання: адміністрацыйна свабодныя гарады, раёны, абшчыны і вёскі. Мясцовае кіраванне мела «толькі задачу выконваць прадпісанні адпаведных нямецкіх устаноў»[70]. Не было такой сферы, у якой мясцовае кіраванне магло б дзейнічаць самастойна, нямецкія ўстановы маглі ўмяшацца ў любы момант. На практыцы ж, аднак, утварылася поле дзейнасці для мясцовага кіравання. Персанал рэкрутаваўся з мясцовых людзей, настроеных па-антысавецку (перш за ўсё з беларусаў, спачатку і палякаў). Тамтэйшыя супрацоўнікі мясцовага кіравання сталі з 1942 г. пераважнай мэтай нападу савецкіх партызанаў[71].

Доўгатэрміновыя планы нямецкіх акупантаў у Беларусі былі падобныя да планаў у іншых абласцях Усходняй Еўропы, г. зн. часткова знішчаць мясцовае насельніцтва, часткова дэпартаваць, часткова прыгнятаць. Кароткатэрміновыя ж мэты, наадварот, складаліся ў тым, каб па-нямецку «ўціхамірваць» краіну, бо праз Беларусь праходзілі самыя важныя шляхі забеспячэння для Усходняга фронту. Бяспека ліній паставак была першаступеннай і яе трэба было забяспечваць любымі сродкамі. «Уціхамірванне» Беларусі меркавалася дасягнуць у першую

[68] Падрабязна гл.: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 134—142.

[69] Тамсама. S. 128—230; Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 51—59; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 66—74.

[70] Цыт. паводле: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 200.

[71] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 196—202; Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 123—129; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 138—144; Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 28.

чаргу шляхам фізічнага знішчэння яўрэйскага насельніцтва, савецкіх актывістаў і работнікаў.

Акрамя таго, нямецкія акупанты мелі на мэце эканамічна эксплуатаваць краіну за кошт мясцовага насельніцтва, прытым любой цаной. Трэба было нарыхтоўваць прадукты харчавання для вермахта, што прыводзіла да катастрафічнага голаду ў гарадах. Важнасць уяўлялі сабой таксама рамонтна-забеспячэнскія прадпрыемствы, якія працавалі для патрэб вермахта. З 1942 г. вялікую ролю адыгрывала рэкрутаванне прымусовых рабочых для працы як у рэйху, так і на месцы. Лічыцца, што з тэрыторыі сённяшняй Беларусі на прымусовую працу было вывезена каля 380 000 чалавек[72].

Нягледзячы на доўгатэрмінова супастаўляльныя мэты адносна асобных груп насельніцтва, нямецкія акупанты на беларускай тэрыторыі ў дачыненні да трох найважнейшых частак насельніцтва, беларусаў, яўрэяў і палякаў, праводзілі ўсё ж з самага пачатку дыферэнцыраваную палітыку.

У Беларусі ў межах да 22 чэрвеня 1941 г. жылі каля 6,3 мільёны беларусаў. Нямецкія акупанты спачатку імкнуліся прыцягнуць беларускае насельніцтва на свой бок і выкарыстаць яго ў гульні супраць палякаў, яўрэяў, а таксама супраць савецкіх актывістаў і работнікаў. Яны падтрымлівалі беларускую культуру і мову, а таксама садзейнічалі развіццю беларускага кіраўнічага слоя, з умовай, што яго прадстаўнікі будуць гатовыя супрацоўнічаць з нямецкімі акупантамі і працаваць на іх[73].

У рамках барацьбы з партызанамі нямецкія акупанты абавязвалі беларускае насельніцтва супрацоўнічаць з імі таксама ў пераследаванні сапраўдных і патэнцыйных народных змагароў і іх прыхільнікаў. Адначасова акупанты запалохвалі насельніцтва, аб'яўляючы і практыкуючы калектыўную адказнасць за напады на нямецкія войскі. Дамы, паселішчы, вёскі і цэлыя раёны, якія аб'яўляліся «партызанскімі апорнымі пунктамі» ці «партызанскімі зонамі», спусташаліся і паліліся ўшчэнт, іх жыхароў альбо вывозілі, альбо забівалі.

З ростам партызанскага руху з 1942 г. становішча насельніцтва ўсё пагаршалася. На лавінападобны рост колькасці партызанскіх акцый і нападаў нямецкія акупанты рэагавалі меншымі ці большымі аперацыямі, якія фармальна былі накіраваныя супраць партызанаў. У першую чаргу ад гэтага пакутавала насельніцтва тых тэрыторый, дзе вяліся баі.

Нямецкія акупанты яшчэ больш узмацнілі свой тэрор і распрацавалі канцэпцыю «мёртвых зон», сістэматычнае спусташэнне ад насельніцтва (шляхам забойстваў ці вывазу), рабаўніцтва і выпальванне цэлых раёнаў, якія лічыліся «заражанымі партызанствам». Крысціян Герлах шляхам даследаванняў выявіў, што нямецкія акупацыйныя

[72] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 456—479.

[73] Параўн. главу «Насельніцтва ў партызанскай барацьбе: беларусы, яўрэі, палякі»; падрабязней гл.: Chiari B. Alltag hinter der Front...; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту...



сілы ў Беларусі правялі 55 буйных антыпартызанскіх акцый, падчас якіх яны знішчылі мінімум 150 000 чалавек. Сюды трэба дадаць шматлікія дробныя акцыі, агульная колькасць ахвяр якіх невядомая. Лічыцца, што ў ходзе барацьбы з партызанамі ў Беларусі было забіта ад 200 000 да 250 000 чалавек. Большасць ахвяр былі этнічныя беларусы, але таксама яўрэі і палякі[74].

Аднак гэтыя буйныя знішчэнні дасягалі эфекту, дакладна супрацьлеглага задуманаму: замест задушэння партызанскага руху яны выклікалі яго ўзмацненне. Яны па сутнасці заганялі пацярпелае насельніцтва да партызанаў і радыкалізавалі антынямецкія пачуцці. Тыя, хто змог выжыць у гэтых бойнях, ва ўсякім выпадку, не мелі іншага выйсця, як далучацца да партызанаў. З улікам доўгатэрміновых акупацыйных мэт немцаў у Беларусі беларускае насельніцтва таксама не мела іншай альтэрнатывы для супраціву.

У адносінах да яўрэяў нямецкія акупанты з самага пачатку праводзілі палітыку знішчэння. У межах сённяшняй Беларусі летам 1941 г. жылі звыш 500 000 яўрэяў. Знішчэнне беларускіх яўрэяў пачалося з прыходам нямецкіх войскаў. У першыя тыдні вайны нямецкія знішчальныя каманды аператыўнай групы «В», паліцэйскія батальёны і кавалерыя СС забівалі пераважна яўрэяў-мужчын, гэтак званую «яўрэйскую інтэлігенцыю». У жніўні і верасні 1941 г. масавае забойства яўрэяў было пашырана на жанчын і дзяцей, былі цалкам знішчаны першыя дробныя яўрэйскія абшчыны з колькасцю да 1 000 чалавек.

У пачатку кастрычніка 1941 г. пачалося татальнае знішчэнне яўрэяў ва ўсходніх частках Беларусі. Не пашкадавалі і заходніх абласцей, там нямецкія аператыўныя каманды «скарачалі» яўрэйскія абшчыны, аднак спачатку не знішчаючы іх цалкам. Сельская мясцовасць — большасць яўрэяў жыла ў гарадах — да канца 1941 г. у асноўным «была ачышчана» ад яўрэяў. Ахвяр часткова забілі, часткова перасялілі ў гета, абсталяваныя ў гарадах. Ва ўсходніх частках Беларусі ў пачатку 1942 г. былі яшчэ жывыя каля 30 000 яўрэяў[75].

Астатнія яўрэі з лета 1941 г. былі пазбаўленыя правоў, маёмасці, зnative гета і прыцягнутыя да прымусовай працы. Але і іх лёс быў прадвызначаны. Да лета 1942 г. знішчальныя каманды забілі большасць яўрэяў з усходніх абласцей Беларусі, якія яшчэ засталіся жывыя. У заходняй частцы Беларусі з пачатку 1942 г. таксама адбыліся масавыя забойствы яўрэяў. Але там вялікая хваля знішчэнняў пачалася «толькі» ў маі 1942 г.

У пачатку 1943 г. у Беларусі жылі толькі каля 30 000 яўрэяў, сагнаныя ў гета ў вялікіх гарадах, як, напрыклад, у Мінску, Лідзе ці Навагрудку. Да канца 1943 г. і гэтыя гета былі «ачышчаныя», г. зн. іх зняволеныя былі на месцы расстраляны ў ямах ці вывезены ў лагеры смерці (галоўным чынам у Траблінку і Асвенцім) і там забіты. Лічыцца, што мінімум 500 000 беларускіх яўрэяў сталі ахвярамі Халакосту. Выжылі

[74] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 955—958; падрабязна гл. главу: «Насельніцтва ў партызанскай барацьбе: беларусы, яўрэі, палякі».

[75] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 536—627, 683 і наст.

толькі тыя некалькі тысяч, якія ўцяклі ад наступаючых нямецкіх войскаў і трапілі ў схованкі, а найчасцей у лясы як партызаны ці ў партызанскія атрады[76].

Яўрэі, якім пагражала татальнае знішчэнне, аказвалі актыўны і пасіўны супраціў, аднак адзіным рэальным шанцам выжыць былі ўцёкі. Многія яўрэі ўцякалі з гета ў мясцовыя лясы, дзе яны аб'ядноўваліся ў групы выжывання. Найбольшы шанц выжыць мелі тыя яўрэі-ўцекачы, якія далучыліся да савецкіх партызанаў.

Другой па колькасці групай насельніцтва ў межах сённяшняй Беларусі былі палякі, каля 1,5 мільёна, што жылі на былых польскіх тэрыторыях. Там яны складалі каля 36 % насельніцтва. У той час, як для яўрэяў нямецкая акупацыя з самага пачатку азначала знішчэнне, большасць польскага насельніцтва гэтых абласцей летам 1941 г. вітала прыход немцаў, бо такім чынам праганяліся савецкія акупанты.

Рэгіянальныя нямецкія акупацыйныя ўлады ў першыя тыдні і месяцы давалі працу многім палякам у акупацыйнай адміністрацыі на ніжэйшым узроўні, як і ў дапаможнай паліцыі, бо ў іх быў моцны антысавецкі настрой, а таксама яны мелі вопыт кіраўнічай працы. Гэтая тэндэнцыя сутыкнулася, аднак, з прынцыпамі тагачаснай нямецкай палітыкі ў адносінах да палякаў, якая была скіравана на тое, каб знішчыць польскі кіраўнічы слой, а астатніх палякаў ператварыць у свайго кшталту рабоў нямецкага народа. Цэнтральныя ўлады, у прыватнасці служба бяспекі, а таксама СС і паліцыя, рашуча выказваліся супраць уключэння палякаў у органы акупацыйнай адміністрацыі і ўвесь час папярэджвалі пра польскую небяспеку[77].

У Беларусі нямецкія акупанты ўжо восенню 1941 г. пачалі «ачышчаць» ад палякаў шэрагі дапаможнай паліцыі і адміністрацыйных органаў кіравання. Адначасова яны сістэматычна выступалі супраць усіх палякаў, якія былі падазроныя, належалі да польскага супраціву ці падтрымлівалі яго, асабліва супраць прадстаўнікоў польскага кіраўнічага слоя. На працягу 1942—1944 гг. тысячы палякаў у рамках гэтай акцыі былі арыштаваныя, вывезеныя ў канцэнтрацыйныя лагеры ці расстраляныя. Такія ўмовы заставаліся да канца нямецкай акупацыі. Яшчэ незадоўга перад уваходжаннем Чырвонай Арміі нямецкія акупанты правялі вялікую хвалю арыштаў сярод палякаў, пры гэтым многія з іх былі расстраляныя.

Нямецкая палітыка адносна палякаў у Беларусі, сістэматычнае знішчэнне польскай інтэлігенцыі, вываз на прымусовую працу ці дыскрымінацыя і прычэпкі ў штодзённым жыцці хутка прывялі да працвяражэння сярод палякаў. Антысавецкі настрой неўзабаве змяніўся антынямецкім. Вельмі хутка ўтварыліся і польскія падпольныя структуры ў гарадах і на вёсцы, якія падпарадкоўваліся

[76] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 733—743; Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians: Collaboration, Extermination and Anti-Partisan Warfare in Byelorussia, 1941—1944. New York, 2003. S. 304—310.

[77] Падрабязна гл. главу «Насельніцтва ў партызанскай барацьбе: беларусы, яўрэі, палякі».



польскаму ўраду ў выгнанні ў Лондане. З 1943 г. з'явіліся таксама польскія партызанскія атрады, што, аднак, неўзабаве мусілі змагацца не толькі супраць нямецкіх акупантаў, але і супраць савецкіх партызанаў.

Трохгадовая нямецкая акупацыйная палітыка ў Беларусі мела спусташальныя вынікі для краіны. Большасць гарадоў і сотні вёсак былі разбураныя і абязлюднелі, іх жыхары забітыя, прымушаныя да ўцёкаў ці вывезеныя на прымусовую працу ў Германію. Трагічны лёс спазнала яўрэйскае насельніцтва, толькі нямногія перажылі генацыд. Але ахвярамі акупацыйнага тэрору сталі таксама беларусы і палякі, першыя ў асноўным у рамках «барацьбы з партызанамі», калі цэлыя населеныя пункты былі спаленыя, а іх жыхары знішчаныя.

Лічыцца, што з прыблізна 10 мільёнаў чалавек, якія летам 1941 г. жылі на тэрыторыі сённяшняй Беларусі, каля 800 000 цывільных асоб загінулі ад нямецкай гвалтоўнай палітыкі: ад 500 000 да 550 000 яўрэяў, прыблізна ад 200 000 да 250 000 ахвяр «барацьбы з партызанамі» (большасць — беларусы), каля 100 000 прадстаўнікоў іншых груп народа. Сюды дадаюцца 700 000 ваеннапалонных, якія ў большасці памерлі ад голаду ў лагерах для палонных[78].

## 6. Савецкая падрыхтоўка да партызанскай вайны ў 1920-я і 1930-я гг.

Як напярэдадні нямецкага нападу на Савецкі Саюз, так і ў 1920-я і 30-я гг. у Савецкім Саюзе панавала ваенна-стратэгічная канцэпцыя «наступальнай вайны» ці «палітыка наступлення», г. зн. наступальнай вайны на Захад, да якой Савецкі Саюз масіўна ўзбройваўся як мінімум з 1930 г. Савецкая прапаганда маскавала гэтую канцэпцыю пад стратэгію «наступальнай абароны» і шмат хто з заходніх даследчыкаў, у тым ліку і аўтар, паддаліся на гэтую хітрасць[79]. Гэтая ваенная дактрына не прадугледжвала стратэгічнага адступлення і ніякай часовай акупацыі савецкіх тэрыторый, а ў выніку — ніякай партызанскай вайны на ўласнай зямлі. Значыць, непатрэбна была і ніякая падрыхтоўка да яе.

Але фактам з'яўляецца тое, што Савецкі Саюз да 1937 г. на тагачаснай заходняй мяжы меў добра распрацаваныя і глыбока законспіраваныя структуры для вядзення партызанскай вайны і дыверсій на ўласнай тэрыторыі. Сённяшнія расійскія даследаванні памылкова зыходзяць з таго, што канцэпцыя партызанскай вайны на ўласнай тэрыторыі, ад якой адмовіліся пасля 1937 г., бярэ свой пачатак ад камандзіра Чырвонай Арміі Міхаіла Фрунзэ — у 1925 г. народнага камісара па ваенных і марскіх справах. Гісторыкі, што займаюцца гэтым, спасылаюцца пры гэтым на артыкул Фрунзэ 1921 г., у якім ён тлумачыць значэнне «малой

[78] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 1158—1161. К. Герлах называе лічбу ў 345 000 ахвяр нямецкай «барацьбы з партызанамі», але здаецца, што гэтая лічба перабольшаная, пра што яшчэ будзе гаворка.

[79] Падрабязна гл.: Musial B. Kampfplatz Deutschland...; Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 16.

вайны» (партызанскай вайны)[80]. На самай жа справе гэтыя мерапрыемствы бяруць свой пачатак ад Фелікса Дзяржынскага, заснавальніка і першага кіраўніка сумнавядомай чэка (ДПУ/АДПУ, папярэдніка НКУС/КДБ) і аднаго з самых уплывовых бальшавікоў аж да яго смерці ў ліпені 1926 г.

Гэтая падрыхтоўка грунтавалася відавочна на страху прэвентыўнай вайны Польшчы супраць Савецкага Саюза, бо Савецкі Саюз заўсёды выношваў ваенныя планы супраць адроджанай Польшчы і спрабаваў ажыццявіць іх першы раз яшчэ вясной 1920 г. Аднак у жніўні 1920 г. савецкія войскі пацярпелі паражэнне пад Варшавай. Савецкія планы вайны супраць Польшчы бралі свой пачатак у камуністычнай ідэалогіі сусветнай рэвалюцыі. Менавіта Польшча загароджвала Савецкаму Саюзу шлях у цэнтр Еўропы, у Германію. У той жа час якраз Германіі ў планах бальшавікоў датычна сусветнай рэвалюцыі адводзілася ключавая роля з-за яе прамысловага патэнцыялу, моцы рабочага класа і геапалітычнага становішча[81].

Пасля паражэння пад Варшавай у жніўні 1920 г. бальшавікі не адмовіліся ад сваіх планаў адносна Германіі, ды і Польшчы, а пачалі чакаць спрыяльнага выпадку для нападу і рыхтаваліся да яго. Пры гэтым, сярод іншага, яны рабілі стаўку на партызанскую вайну на польскай тэрыторыі, каб дэстабілізаваць краіну з сярэдзіны. Указ на гэты конт Палітбюро выдала яшчэ падчас падрыхтоўкі да нападу на Польшчу вясной 1920 г. У пратаколе № 49 пасяджэння Палітбюро ад 8 сакавіка 1920 г. пад пунктам 19 б гаворыцца: «Надзвычай пажадана развіццё партызанскіх дзеянняў у тарыбскай Літве [Літва ў межах 1920 г.] і на тэрыторыях пад польскай акупацыяй [тут разумеецца тэрыторыя сённяшняй Заходняй і Цэнтральнай Беларусі]»[82]. У пачатку красавіка 1920 г., яшчэ да савецка-польскай вайны, савецкія партызаны ў польскім тыле пачалі праводзіць першыя дзеянні супраць польскіх устаноў і носьбітаў польскага панавання, памешчыкаў і паліцэйскіх[83].

Пасля заканчэння польска-савецкай вайны савецкі бок працягваў партызанскую вайну на польскай тэрыторыі. Створаныя ДПУ партызанскія групы і атрады ажыццяўлялі напады на дзяржаўныя і грамадскія ўстановы, цягнікі, салдат, паліцэйскіх, бургамістраў, памешчыкаў і іншых асоб, каб ахапіць краіну неспакоем і хаосам[84]. Адным з такіх партызанскіх камандзіраў быў Кірыл Арлоўскі, які па даручэнні ДПУ арганізоўваў і асабіста практыкаваў савецкі тэрор у тагачасных паўночна-ўсходніх абласцях Польшчы, сённяшняй

[80] Фрунзэ М. Единая военная доктрина и Красная армия // Красная новь. 1921. № 1. С. 94—106; Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 26 і наст.

[81] Musial B. Kampfplatz Deutschland... S. 26—61.

[82] Пратакол № 49 пасяджэння Палітбюро РКП (б) ад 8 сакавіка 1920 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 3, д. 65, л. 3).

[83] Справаздача І. Уншліхта пра дзейнасць ваеннай арганізацыі за мяжой пры Рэвалюцыйным ваенным савеце Заходняга фронту ад 9 ліпеня 1920 г. (Тамсама. Оп. 109, д. 101, л. 20—25).

[84] Pobóg-Malinowski W. Najnowsza historia polityczna Polski. T. 2: 1914—1939. Gdańsk, 1990. S. 628 і наст.



Заходняй Беларусі[85]. Напрыклад, ён са сваім атрадам ажыццявіў зімой 1923 г. напад на маёнтак у Лунінецкім павеце. Арлоўскі і яго таварышы абрабавалі маёнтак і застрэлілі «памешчыка, паліцэйскіх [што вартавалі маёнтак] і аднаго шпіёна». Пры гэтым, па дадзеных Арлоўскага, яны яшчэ і помсцілі за смерць аднаго партызана з ДПУ, які быў застрэлены раней недалёка ад маёнтка[86].

Аднак вясной 1925 г. савецкае кіраўніцтва спыніла партызанскую барацьбу ва Усходняй Польшчы. Замест «актыўнай разведкі», як Дзяржынскі называў арганізаваны тэрор, ён прапанаваў стварыць на савецкай тэрыторыі ў памежных раёнах канспіратыўныя партызанска-дыверсійныя групы, што пачалі б дзейнічаць у тыле праціўніка ў выпадку польскага нападу. 25 лютага 1925 г. Палітбюро зацвердзіла гэтыя прапановы[87]. 25 мая 1925 г. Камісія па абароне пры Рэвалюцыйным Ваенным Савеце СССР і АДПУ даручыла на працягу аднаго месяца распрацаваць для гэтага планы. Дзяржынскі абгрунтаваў гэтыя запланаваныя мерапрыемствы такім чынам:

> Гаворка ідзе пра тое, каб мы маглі за 30 дзён мабілізаваць нашую армію, у той час як палякі ў стане зрабіць гэта за 14 дзён. Калі нам не ўдасца дэзарганізаваць іх тыл і адцягнуць іх уступленне на нашую тэрыторыю, гэта вызначыць ход пачатку вайны[88].

Бальшавікі відавочна баяліся польскага контрудару, як у 1920 г., у выпадку, калі Савецкі Саюз зноў вырашыць напасці на Польшчу, каб стварыць жаданы тэрытарыяльны калідор да Германіі. Іншых прычын страху польскага нападу не было, бо Польшча з часу заключэння міру ў Рызе ў 1921 г. не высоўвала да Савецкага Саюза ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій.

8 ліпеня 1925 г. Дзяржынскі на пасяджэнні Палітбюро дакладваў, як і было прадугледжана, аб запланаваных мерапрыемствах па ўмацаванні савецкіх войскаў у памежных з Польшчай раёнах. Пасля гэтага Палітбюро стварыла камісію, што за адзін тыдзень павінна была вызначыць неабходныя для гэтага сродкі і меры. У склад камісіі ўвайшлі Дзяржынскі, які замяшчаў Ягоду, Чуцкаеў, Сакольнікаў і Фрунзэ[89]. 20 ліпеня 1925 г. камісія канчаткова вызначыла выпрацаваныя для

[85] Аўтабіяграфія, напісаная Кірылам Арлоўскім 21 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 124, л. 6 і наст.).

[86] Стэнаграма размовы з Кірылам Арлоўскім пра барацьбу партызанаў супраць «польскіх паноў» у 1920—1925 гг., ад 4 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 33 і наст.).

[87] Праект рашэння камісіі В. Куйбышава пра актыўную разведку, напісаны Ф. Дзяржынскім, ад 18 лютага 1925 г. (РГАСПИ. Ф. 76, оп. 3, д. 354, л. 1—6); пратакол № 37 пасяджэння Палітбюро ЦК РКП(б) ад 25 лютага 1925 г., пункт 17 і дадатак (Тамсама. Ф. 17, оп. 162, д. 2, л. 78—81).

[88] Ліст Ф. Дзяржынскага да В. Мянжынскага ад 26 мая 1925 г. (РГАСПИ. Ф. 76, оп. 3, д. 364, л. 1).

[89] Пратакол № 70 пасяджэння Палітбюро ЦК РКП(б) ад 8 ліпеня 1925 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 162, д. 2, л. 148—152).

гэтага планы, што праз тры дні блаславіла Палітбюро. Між іншым, былі ўхваленыя: 25 000 кавалерыйскіх вінтовак з неабходнай колькасцю амуніцыі, 1 000 вінтовак Роса, 30 000 гранат, 19 000 процівагазаў, 450 000 патронаў для рэвальвера «наган» і 100 кулямётаў. Усе запланаваныя мерапрыемствы павінны былі ў выніку каштаваць пяць мільёнаў рублёў, што таксама было ўхвалена[90]. Значная частка гэтых сродкаў была прадугледжана, вядома, на падрыхтоўку партызанскай вайны ў Беларусі і ва Украіне, за якую адразу ж і ўзяліся.

Неўзабаве для падрыхтоўкі будучых партызанаў і дыверсантаў былі створаныя спецыяльныя партызанскія школы. Чырвоная Армія і ДПУ (з 1934 г. НКУС) абсталявалі патаемныя лагеры са зброяй, амуніцыяй і выбухоўкай. У адной Украінскай вайсковай акрузе (сённяшняя Усходняя Украіна) у 1929 г. мелася звыш 60 навучаных і замаскаваных дыверсійных груп з усяго 1 460 дыверсантамі, якія набіраліся з мясцовых людзей і чакалі свайго ўдзелу ў выпадку вайны. На найважнейшых чыгуначных і дарожных мастах, усяго 120, былі абсталяваныя гнёзды для выбухоўкі, каб адразу ж у патрэбны момант выклікаць іх дэтанацыю і такім чынам разбурыць мост. Акрамя таго, на найважнейшых збудаваннях знаходзіліся звыш 1 640 буйных зарадаў і тысячы меншых, якія таксама былі падрыхтаваныя да неадкладнага падрыву[91].

І на тэрыторыі тагачаснай БССР Чырвоная Армія і ДПУ займаліся падобнай падрыхтоўкай. У пачатку 1930-х гг. там мелася шэсць канспіратыўных атрадаў ад 300 да 500 партызанаў у кожным, што жылі і працавалі, замаскаваныя пад мясцовых грамадзян, і чакалі свайго ўводу ў бой. Акрамя таго, рыхтаваліся сакрэтныя групы сабатажу і асобныя дыверсанты, якія ў выпадку вайны павінны былі дзейнічаць у памежных гарадах і на найважнейшых транспартных вузлах. У сакрэтных лагерах захоўвалася каля 50 000 вінтовак, 150 кулямётаў, міны і выбухоўка. Падобную падрыхтоўку Саветы рабілі і ў Ленінградскай вайсковай акрузе[92].

Па прынятых захадах можна зрабіць выснову, што савецкае кіраўніцтва рабіла стаўку на Украіне на сабатаж, а ў Беларусі — на партызанскую барацьбу, што, напэўна, было абумоўлена рознымі геаграфічнымі абставінамі. У адрозненне ад Украіны, у Беларусі былі вялізныя тэрыторыі з лясамі і балотамі, якія значна палягчалі партызанскую барацьбу.

У пачатку 1930-х гг. Савецкі Саюз быў добра, як, мусіць, ніякая іншая краіна свету, падрыхтаваны да вядзення партызанскай вайны на ўласнай тэрыторыі. Але праз некалькі гадоў гэта раптоўна памянялася. Найпазней у 1937 г. Сталін і ягоныя паплечнікі прыйшлі да перакanання, што падрыхтоўка да партызанскай вайны на ўласнай

[90] Пратакол № 72 пасяджэння Палітбюро ЦК РКП(б) ад 23 ліпеня 1925 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 162, д. 2, л. 156 і наст.); пратакол пасяджэння камісіі па ўмацаванні мяжы ад 20 ліпеня 1925 г. (Тамсама. Л. 148—160).

[91] Старинов И. Подрывники... С. 100—111; Старинов И. Записки диверсанта... С. 28—41; гл. таксама: Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 25—39.

[92] Старинов И. Подрывники...



тэрыторыі азначаюць паражэнства і дзяржаўную здраду. Яшчэ не выяўлена, што было прычынай гэтай перамены ў мазгах. Ва ўсякім разе, вядома, што большасць тых, хто займаўся падрыхтоўкай да партызанскай вайны, былі расстраляныя ў ходзе «вялікіх чыстак». Усе тайныя лагеры з амуніцыяй, зброяй і выбухоўкай у 1937—1938 гг. былі ліквідаваныя, а пра некаторыя нават забыліся. Партызанскія школы, дыверсійныя групы і партызанскія атрады былі распушчаныя, а іх выкладчыкі, выпускнікі і члены падвергліся ганенням. Мала хто выжыў. Напрыклад, выжыў названы ў пачатку Ілья Старынаў, бо ён у той момант знаходзіўся ў Іспаніі, дзе ўдзельнічаў у арганізацыі ў тыле войскаў Франка партызанскай вайны і дыверсій на карысць рэспубліканскага ўрада[93].

Такім чынам, савецкі рэжым знішчыў структуры па кіраванні партызанскай вайной на ўласнай тэрыторыі, што з 1925 г. ствараліся з такімі вялікімі выдаткамі. Кадры, якія маглі б зноў стварыць гэтыя структуры ў выпадку неабходнасці, былі ліквідаваныя — з сур'ёзнымі вынікамі для будучай нямецка-савецкай вайны.

[93] Старинов И. Подрывники...; Старинов И. Записки диверсанта... С. 182 і наст.

# I. 1941 год: цяжкі пачатак

## 1. Крах савецкага Заходняга фронту ў Беларусі летам 1941 г.

Пасля таго як 22 чэрвеня 1941 г. пачаўся нямецкі напад на Савецкі Саюз, савецкія лініі абароны парушыліся за некалькі дзён. На фронце і ў тылавых савецкіх раёнах з першых гадзін вайны панаваў хаос. Цэлыя арміі ў паніцы пакідалі свае пазіцыі, сотні тысяч чырвонаармейцаў — байцы і камандзіры — трапілі ў нямецкі палон, да 20 снежня 1941 г. усяго 3 550 639, з іх 15 179 камандзіраў[1]. Мільёны байцоў і цывільных асоб уцякалі на ўсход. Савецкае ваеннае камандаванне ўжо ў пачатку вайны страціла кантроль над уласнымі войскамі.

Асабліва цяжкім было становішча на цэнтральным участку фронту (сёння Беларусь), на якім група армій «Цэнтр» вермахта нанесла галоўны ўдар у накірунку Масквы. Генерал-фельдмаршал Гюнтэр фон Клюге дакладваў 29 чэрвеня 1941 г. сваім начальнікам:

> *Рэшткі і моцна патрапаныя часткі Чырвонай Арміі* [...] заціснутыя ў раёне вакол Ваўкавыска 4-й і 9-й арміямі. Усе варожыя часці варта разглядаць *як больш небаяздольныя*. Узаемазвязанага кіраўніцтва больш не існуе. На *адчайны супраціў* і спробы лакальных прарываў не варта і надалей разлічваць[2].

22 чэрвеня 1941 г. групе армій «Цэнтр» на савецкім баку супрацьстаялі агулам 627 300 байцоў і камандзіраў[3]. Войскі групы армій «Цэнтр» узялі ў палон з 22 чэрвеня да 24 ліпеня 1941 г., паводле іх дадзеных, 520 058 савецкіх байцоў і камандзіраў, захапілі 5 211 танкаў, 3 748 гармат і 591 самалёт[4]. Да савецкіх страт дадаюцца яшчэ сотні тысяч загінулых і збеглых чырвонаармейцаў. Апошнія часта спрабавалі, пасля таго як па іх пракаціўся фронт ці патрапіўшы ў кацёл, пазбегнуць палону.

Савецкая прапаганда і гістарыяграфія на працягу дзесяцігоддзяў табуізавалі гэтае бяспрыкладнае ваеннае паражэнне. Яны паказвалі гэтую ваенную катастрофу як цяжкі пачатак Вялікай Айчыннай вайны і адначасова перабольшвалі адвагу і рашучасць чырвонаармейцаў абараняць сваю Савецкую Радзіму. Пры гэтым яны замоўчвалі як памеры страт, так і ход ды прычыны гэтага паражэння. У сённяшняй дзяржаўнай беларускай і расійскай мемарыяльнай палітыцы з гэтага

[1] Kriegstagebuch des Oberkommandos der Wehrmacht, 1940—1941. Teilband II / Eingeleitet underlautert von P. E. Schramm. München, 1982. S. 1106.

[2] Армейскі загад «Барбароса» № 3 генерал-фельдмаршала Г. Г. фон Клюге ад 29 чэрвеня 1941 г. (Bundesarchiv-Militärarchiv (BA-MA). RH 24—7/41, Bl. 17). Вылучана ў арыгінале.

[3] Иринархов Р. С. Западный особый... Минск, 2002. С. 474.

[4] Kriegstagebuch des Oberkommandos... T. II. S. 539.



пункту гледжання не шмат што змянілася, хоць пра страты гаворыцца адносна адкрыта[5].

Да сённяшняга дня няма яшчэ даследавання гэтых падзей, якое адпавядала б навуковым стандартам. Даступныя ж цяпер крыніцы супярэчаць актуальнай па сёння прапагандысцкай карціне, быццам летам 1941 г. савецкія байцы і камандзіры, як і ўвесь савецкі народ, у тым ліку беларускі, аказвалі нямецкаму агрэсару гераічны і самаахвярны супраціў. Паколькі гэтая праблематыка адыгрывае важную ролю для нашай тэмы, тут робіцца спроба рэканструяваць тыя падзеі на грунце тагачасных савецкіх крыніц.

Пазнякоў, партыйны работнік з Гродна, быў выкліканы 22 чэрвеня 1941 г. у 3.45 да камандуючага 3-й арміі генерал-лейтэнанта Кузняцова. Той паведаміў яму, што прыйшла тэлеграма, у якой ішла гаворка пра магчымасць нямецкай правакацыі ў ноч з 22 на 23 чэрвеня. Калі Пазнякоў намерыўся пакінуць штаб 3-й арміі, нямецкія самалёты пачалі бамбіць горад. Пазнякоў апісаў паводзіны Чырвонай Арміі ў сваім дакладзе так:

> У пачатку раптоўнага нападу ворага часці паказалі сябе разгубленымі, яны трапілі ў замяшанне, сувязь паміж імі была страчана; адсутнічала строгае кіраўніцтва. [...] Разлікі новых зенітак і 60-тонных танкаў не ўмелі з імі як след абыходзіцца, не хапала харчавання для байцоў, паліва, амуніцыі[6].

Падобнае адбывалася ва ўсіх месцах акупаванай на той час Саветамі Польшчы, якія знаходзіліся паблізу нямецка-савецкай дэмаркацыйнай лініі. У Сямяцічах (сёння зноў у Польшчы) з першым нямецкім авіяналётам парвалася ўсялякая сувязь з цэнтрам. Войскі ў паніцы кінуліся наўцёкі, як і савецкія актывісты[7]. Такія ж паводзіны панавалі ў Брэсце, як паведамляў адзін партыйны работнік:

> Уварванне нямецкіх войскаў на нашую тэрыторыю далося ім лёгка, бо ніводная часць і ніводнае падраздзяленне не былі падрыхтаваныя ўступіць у бой. [...] У ніводнай часці не было амуніцыі. Сярод войскаў 4-й арміі пачалася паніка. [...] Тысячы камандзіраў (пачынаючы ад маёраў і палкоўнікаў да ніжэйшых чыноў) і салдат кінуліся наўцёкі. Гэта небяспечна, таму што паніка і дэзерцірства працягваюцца да сённяшняга дня [25.07.1941]. [...] Многія камандзіры і палітычныя актывісты [...] уцяклі з горада [Брэст-Літоўск], яны ў першую чаргу ратавалі свае сем'і, а чырвонаармейцы ўцякалі на злом галавы[8].

[5] Параўн. наконт гэтага, сярод іншага: Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Т. 1. Минск, 1983. С. 50—138; Великая Отечественная война советского народа (в контексте Второй мировой войны). Минск, 2004. С. 55—78; Bonwetsch B. Die Sowjetunion im Zweiten Weltkrieg...

[6] Даклад Пазнякова для ЦК КП(б)Б ад 5 жніўня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 131).

[7] Даклад сакратара Сямяціцкага райкама КП(б)Б С. С. Максіменкі, ад 25 ліпеня 1941 г. (Тамсама. Л. 14—20).

[8] Даклад сакратара Брэсцкага гаркама партыі Тупіцына Сталіну і П. Панамарэнку, 25 ліпеня 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 237).

Падобна апісала пачатак вайны ў Брэсце партыйная работніца Новікава:

> Калі пачалася вайна, многія камандзіры, паліткамісары і чырвонаармейцы пабеглі з горада, амаль што без усялякай зброі, паўголыя. Камандзіры па дарозе распавядалі, што ў крэпасці быццам сканцэнтравана вялікая колькасць гармат, а боепрыпасаў для іх не даставілі[9].

Аўксенцій Мінчанка, партыйны работнік з Пінска, дакладваў Цэнтральнаму камітэту КП(б)Б у пачатку ліпеня 1941 г.:

> Ніводная з часцей, якія базаваліся ў Пінскай вобласці альбо праходзілі праз вобласць, не ўступіла ў бой з немцамі. Яны адступалі, калі толькі можна было пачуць праціўніка на адлегласці 40—60 км[10].

Нешта падобнае адбывалася і на ўсход ад Пінска, у Палескай вобласці. Генерал Георгій Жукаў, начальнік Генштаба Чырвонай Арміі, патрабаваў 7 ліпеня 1941 г. ад камандуючага 21-й арміі генерала Васіля Герасіменкі:

> 75-я сд (стралковая дывізія) без баёў адступае ў накірунку Мазыра, [...]. Загадайце камандзіру 75-й сд [...] зараз жа спыніць баязлівыя паводзіны і злачыннае адступленне. Калі ён не зробіць гэтага, Стаўка загадала паведаміць яму, што ён будзе расстраляны як баязлівец[11].

Горад Магілёў быў таксама здадзены войскамі Чырвонай Арміі без баёў[12].

Жыжанкоў, партыйны работнік з Гомеля, дакладваў 29 чэрвеня Сталіну пра паніку, якая пачалася пасля пачатку вайны ў Гомельскай вобласці:

> Дэмаралізуючыя паводзіны даволі вялікай часткі камандзірскага складу: уцёкі з фронту пад маркай суправаджэння сем'яў у эвакуацыю. Масавыя ўцёкі дэмаралізуюча дзейнічаюць на насельніцтва і выклікаюць паніку ў тылавых раёнах[13].

Падобнае было на ўсіх франтах. Савецкае Вярхоўнае галоўнакамандаванне, Стаўка, звярнулася да камандуючых усіх франтоў 26 ліпеня 1941 г.:

[9] Даклад сакратара Брэсцкага абкама КП(б)Б Т. Новікавай у ЦК КП(б)Б, 19 ліпеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 31).

[10] Даклад сакратара Пінскага абкама партыі Аўксенція Мінчанкі ў ЦК КП(б)Б, 8 ліпеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 22).

[11] Ліст Георгія Жукава Герасіменку, 7 ліпеня 1941 г. (Центральный архив Министерства обороны Российской Федерации (ЦАМО РФ). Ф. 48А, оп. 1554, д. 4/2, л. 207).

[12] Ліст Г. Жукава Цімашэнку і начальніку штаба Заходняга фронту Сакалоўскаму, 21 ліпеня 1941 г. (копія дакумента ва ўласнасці аўтара).

[13] Радыёграма сакратара Гомельскага абкама партыі Флавіяна Жыжанкова тав. Сталіну, 29 чэрвеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 558, оп. 11, д. 66, л. 29).



> Праз лінію загараджальных атрадаў[14] у глыбокі тыл пранікае даволі вялікая колькасць камандзіраў і чырвонаармейцаў. [...] Іх з'яўленне і іх перабольшаныя паведамленні дэзарганізуюць насельніцтва і выклікаюць паніку[15].

З 208-й матарызаванай дывізіі, што базавалася ў Гайнаўцы пад Беластокам, толькі праз некалькі дзён вайны засталося ўсяго 60 байцоў і камандзіраў, а астатнія «байцы і камандзіры з розных прычын адбіліся ад часці»[16]. Ад 86-й пяхотнай дывізіі, якая ў чэрвені 1941 г. размяшчалася ў Беластоцкай вобласці, у канцы чэрвеня засталося каля 300 чалавек[17]. Камандаванне 21-га пяхотнага корпуса ў першыя дні вайны намагалася «стрымаць паток асобна адступаючых часцей на Мінскім участку». Дарэмна: 5 ліпеня з 21-га корпуса, што першапачаткова складаўся з трох пяхотных дывізій, засталося толькі некалькі сотняў байцоў і камандзіраў, якія спрабавалі прабіцца з акружэння[18].

Хаос і паніка першых тыдняў вайны дэмаралізавалі байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі. Разведчык НКУС апісаў у сваім паведамленні становішча на толькі што акупаваных тэрыторыях Беларусі наступным чынам:

> Большасць беларусаў здаліся добраахвотна ў палон, частка з іх дэзерціравала. [...] Пасля вяртання на радзіму дэзерціры лаялі Савецкую ўладу, што Чырвоная Армія не можа параўноўвацца з нямецкай арміяй, што байцоў з вінтоўкамі пасылаюць супраць танкаў. Камандзіры, па іх словах, паўцякалі і пакінулі чырвонаармейцаў на волю лёсу[19].

[14] Загараджальныя атрады былі створаны ў першыя дні вайны, каб спыніць салдат і афіцэраў, якія масава беглі з фронту. Загадам ад 12 верасня 1941 г. іх стварэнне стала абавязковым. Гл.: Загад Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандавання № 1919 ад 12 верасня 1941 г., падпісаны Сталіным (ЦАМО РФ. Ф. 251, оп. 646, д. 465, л. 231 і наст.). У першыя дні вайны загараджальныя атрады называліся яшчэ «знішчальнымі атрадамі». Гэта вынікае з загаду Г. Жукава, які генерал Аляксандр Васілеўскі асабіста ўручыў 10 ліпеня 1941 г. камандуючаму Паўночна-Заходнім фронтам. У гэтым загадзе гаворка ідзе пра знішчальныя атрады (*истребительные отряды*), якія павінны былі выступаць супраць «баязліўцаў і здраднікаў» у шэрагах Чырвонай Арміі і стабілізаваць фронт. Гаворка зусім відавочна ідзе пра пазнейшыя загараджальныя атрады (копія дакумента ва ўласнасці аўтара).

[15] Загад Стаўкі № 533 ад 26 ліпеня 1941 г., падпісаны Г. Жукавым (копія ва ўласнасці аўтара).

[16] Даклад камандзіра 208-га партызанскага атрада імя Сталіна (былога камандзіра 208-й матарызаванай дывізіі) палкоўніка Уладзіміра Нічыпаровіча Ваеннаму савету Заходняга фронту ад 2 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 21—26).

[17] Стэнаграма размовы Канстанціна Шашкіна ад 1 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 71 і наст.).

[18] Інфармацыя камандзіра 170-га артылерыйскага палка маёра Несцярэнкі пра становішча 21-га пяхотнага корпуса і сітуацыю на акупаваных тэрыторыях ад 16 ліпеня 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 69, арк. 309—314).

[19] Справаздача Міхаіла Ермакова, сяржанта дзяржаўнай бяспекі, пра свае баявыя дзеянні на акупаваных тэрыторыях, кастрычнік 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 62, арк. 54).

Уцякаючы, байцы і камандзіры часта пакідалі сваю зброю і амуніцыю. На дарогах, у полі, у лясах і балотах знаходзілася процьма кінутай зброі і амуніцыі, ваеннага рыштунку. Таксама там стаялі аўтамашыны, гарматы і нават танкі. У жніўні 1941 г. партызаны пазнейшай 2-й Беларускай брыгады сабралі ў лясах Мехаўскага раёна (на паўночны захад ад Віцебска) пакінутую зброю і амуніцыю. За чатыры дні (9—12 жніўня 1941 г.) яны знайшлі тры цяжкія кулямёты, 30 вінтовак, 250 мільёнаў камплектаў боепрыпасаў і гранатамёты[20].

Таму Стаўка бачыла сябе вымушанай выдаць загад камандуючым усіх франтоў: «Растлумачыць усім камандзірам, палітычнаму персаналу і ўсім байцам, што страта зброі на полі бою азначае дзяржаўную здраду. Вінаватыя будуць прыцягвацца да адказнасці па законе ваеннага часу»[21]. І. Сталін асабіста 16 ліпеня 1941 г., сярод іншага, выказаў рэзкае незадавальненне, што байцы і камандзіры кідаюць зброю ды аб'явіў пра строгае пакаранне[22].

Вялікая колькасць кінутай зброі і боепрыпасаў пазней стварыла сур'ёзную праблему для нямецкіх акупантаў. 403-я ахоўная дывізія выдала 4 верасня 1941 г. наступны загад сваім падраздзяленням, якія ў гэты час дзейнічалі ў паўночна-ўсходніх раёнах Беларусі (Лепель, Полацк, Віцебск, Бабруйск): «Усімі сродкамі неабходна абясшкодзіць вялікую колькасць *зброі, боепрыпасаў (асабліва выбуховых рэчываў)*, што ўсё яшчэ ляжаць раскіданыя па мясцовасці»[23].

У загадзе па корпусе камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» ад 19 верасня 1941 г. гаворыцца:

> Збор зброі і боепрыпасаў, якія засталіся ад мінулых баёў і цяпер ляжаць паўсюдна раскіданыя, мае асаблівае значэнне для барацьбы з партызанамі, што імі ўзбройваюцца. Надзейнае захоўванне зброі — важная частка баявых дзеянняў[24].

І яшчэ праз дзевяць месяцаў, у чэрвені 1942 г., камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» выказваў незадавальненне:

> *Нямецкія і рус. пях.-боепрыпасы, арт.-боепрыпасы, міны* масава ляжаць у лясах. Нам яны пільна патрэбны, а партызаны папаўняюць свае запасы. Наладзіць *буйную аперацыю* па зборы[25].

[20] Справаздача таварыша Дзячкова пра дзейнасць 2-й Беларускай партызанскай брыгады за перыяд з 6 ліпеня 1941 г. да 2 ліпеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 73, арк. 13).

[21] Загад Г. Жукава камандуючым усіх франтоў, [14 ліпеня 1941 г.] (ЦАМО РФ. Ф. 48А, оп. 1554, д. 16, л. 16).

[22] Рашэнне ДКА № 169 ад 16 ліпеня 1941 г., падпісанае Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 3, л. 95 і наст.).

[23] Спецзагад па 403-й ахоўнай дывізіі, Іа, пра задачы ў новым аператыўным раёне дывізіі, 4 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 22/225, Bl. 20). Вылучана ў арыгінале.

[24] Загад № 54 па корпусе Камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» ад 19 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 22/225, Bl. 68).

[25] Пытанні парадку дня пасяджэння камандавання дывізіяй, 12 чэрвеня [1942 г.] (BA-MA. RH 22/230, Bl. 305). Вылучана ў арыгінале.



## 2. Насельніцтва Беларусі: непрыняцце савецкага рэжыму

Панічныя ўцёкі і хаос на савецкім баку, а таксама хуткі рух наперад нямецкіх войскаў надоўга паўплывалі на настрої насельніцтва Беларусі. Маёр Чырвонай Арміі Несцярэнка ў ліпені 1941 г. сцвярджаў: «Насельніцтва бяздзейнае і чакае кіраўніцтва зверху; упэўненасць страчана, асабліва дрэннае ўражанне пакінула неарганізаванае адступленне арміі»[26]. Ігар Сляпцоў, дыверсант, група якога ў жніўні 1941 г. была разбіта ў раёне вакол Шклова Магілёўскай вобласці, вярнуўся ў верасні 1941 г. у савецкі тыл і паведаміў:

> Калгаснікі не вераць у нашую перамогу. Пры гэтым іх падтрымліваюць дэзерціры. Я сам бачыў, як нашыя байцы, што пабывалі ў катле, добраахвотна здаваліся нямецкім салдатам. Калі ў іх ёсць вінтоўка, то нямецкія салдаты разбіваюць яе, калі аўтамат, тады яны яго забіраюць і кажуць: «Рус, иди домой»[27].

У дадатку да даклада Сляпцоў пісаў, што сяляне казалі: «Раней сцвярджалі, што мы, маўляў, непераможныя. [...] А што адбываецца цяпер? Самі яны [савецкія актывісты] усе паўцякалі, а нас [сялян] пакінулі на здзек немцам»[28].

Адзін разведчык з НКУС, які быў засланы для дзейнасці ў Віцебск, паведамляў: «Большасць насельніцтва ў Віцебску задаволена прыходам нямецкай арміі. [...] Па дарозе я сустрэў шмат дэзерціраў Чырвонай Арміі»[29]. Другі супрацоўнік НКУС, што ў жніўні 1941 г. завербаваў некалькі разведчыкаў і паслаў іх у акупаваныя раёны Палескай вобласці, апісваў адносіны насельніцтва да «фашызму» наступным чынам: «Нам [насельніцтву] усё роўна, у каго будзе ўлада, у немцаў ці Саветаў. Так ці інакш мы павінны падпарадкоўвацца тым ці гэтым. [...] Байцоў апалчэння, што накіроўваюцца ў тыл, жанчыны просяць вярнуцца дадому»[30].

У вёсцы Вярхоўе на возеры Вярхоўе, у паўднёвай частцы Калінінскай вобласці, партызанскі атрад НКУС, які накіроўваўся ў

[26] Інфармацыя камандзіра 170-га артылерыйскага палка маёра Несцярэнкі пра стан 21-га пяхотнага корпуса і становішча на акупаваных тэрыторыях, 16 ліпеня 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 69, арк. 309—314).

[27] Даклад начальніка аператыўнай групы Шклоўскага раёна Ігара Сляпцова, 8 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 66, арк. 48; РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 196 і наст.).

[28] Дапаўненне да даклада Ігара Сляпцова ад 8 кастрычніка 1941 г., 11 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 66, арк. 51; РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 198—201).

[29] Справаздача Міхаіла Аверына, сяржанта дзяржаўнай бяспекі, пра сваю дзейнасць у Віцебску, 29 верасня 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 62, арк. 94, 95).

[30] Даклад аператыўнага ўпаўнаважанага НКУС па Капаткевіцкім раёне Васіля Болцікава, 13 верасня 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 62, арк. 8 і наст.).

раён сваіх дзеянняў вакол Полацка, сустрэў па-антысавецку настроеных сялян. «Яны аддалі ўсю сваю жывёлу немцам, што размясціліся на супрацьлеглым беразе возера. Некаторыя гаварылі, што немцы прыйшлі, каб вызваліць іх, як, напрыклад, адна жанчына, […], якую мы потым расстралялі»[31]. Далей дакладчыкі спасылаліся яшчэ на адзін феномен тых дзён — на масавае адмаўленне беларускіх мужчын ад вайсковай службы: «Неабходна заўважыць, што ў Беларусі каля 90 % усіх баяздольных мужчын засталіся дома, яны дэзерціравалі з Чырвонай Арміі»[32].

Другі агент НКУС апісваў становішча ў Старобінскім раёне (на поўдзень ад Мінска) наступным чынам: «Некаторыя ваеннаабавязаныя хаваліся ад мабілізацыі ў лясах, яны дэзерціравалі»[33]. У адпаведных архівах знаходзяцца тагачасныя савецкія паведамленні, што дэзерцірства ў тыя дні ў Беларусі было масавым феноменам[34].

Савецкія скаргі, што беларускія мужчыны адмаўляліся са зброяй у руках змагацца за савецкую Радзіму і партыю, у сваёй сутнасці адпавядаюць рэчаіснасці. Праўда, здаецца, што адной з найважнейшых прычын гэтага было не толькі агульнае нежаданне змагацца са зброяй у руках за савецкі тэрарыстычны рэжым, але і бессэнсоўная гібель на франтах і ў тылавых раёнах, як і пры мабілізацыі ды эвакуацыі[35].

Адзін партыйны работнік з Гомеля 29 чэрвеня перадаваў па радыё Сталіну: «Бяззбройныя мабілізаваныя пасылаюцца ў раёны, дзе дзейнічае вораг (27 ліпеня на падставе загада камандзіра ў Жлобіне ў Мінск былі пасланыя 10 000 чалавек)»[36]. Сакратар Цэнтральнага камітэта КП(б)Б Эйдзінаў паведамляў у канцы ліпеня 1941 г.:

> Ваенныя органы ў тылавых раёнах працуюць абсалютна нездавальняюча. […] Яны пасылаюць вялікія кантынгенты мабілізаваных на зборныя пункты. Мабілізаваныя маршыруюць па 400 чалавек у цяжкім становішчы 8—10 дзён, знясіленыя. […] Перавозка па чыгунцы забаронена. Цяпер, каб паскорыць мабілізацыю, неабходна дазволіць падвоз па чыгунцы. […] Эвакуацыя прамысловых заводаў, каштоўных грузаў і запасаў скончана. Шмат якія заводы не маглі быць вывезеныя[37].

[31] Справаздача пра дзейнасць камандзіра партызанскага атрада Іванова і камісара атрада Нароенкі (намеснік пракурора БССР), 29 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 66, арк. 60 і наст., 64).
[32] Тамсама.
[33] Агентурнае данясенне разведчыка «Нянькіна» маёру дзяржаўнай бяспекі Духовічу ад 14 ліпеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 99, д. 480, л. 7—11).
[34] Гл., напрыклад: Паведамленне Стральцова і Грыгор'ева маёру дзяржаўнай бяспекі Духовічу, [пасля 14 ліпеня 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 99, д. 480, л. 12 і наст.).
[35] Пастанова Вярхоўнага Савета СССР ад 22 чэрвеня 1941 г. аб мабілізацыі, надрукавана ў: Горьков Ю. Государственный комитет обороны постановляет (1941—1945). Цифры, документы. Москва, 2002. С. 492 і наст.
[36] Радыёграма сакратара Гомельскага абкама Ф. Жыжанкова тав. Сталіну, 29 чэрвеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 558, оп. 11, д. 66, л. 29).
[37] Даклад сакратара ЦК КП(б)Б Рыгора Эйдзінава ў ЦК УсеКП(б) Шамбергу, [канец ліпеня 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 3—6).



У іншых месцах Усходняй Беларусі было падобнае становішча, як, напрыклад, у Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласці. Там большасць грузаў з-за нястачы транспартных магчымасцей не былі вывезеныя, яны потым былі знішчаныя адступаючымі партыйнымі актывістамі ці размеркаваныя сярод насельніцтва, гаворыцца ў адным паведамленні. Мабілізацыя таксама была праведзена толькі ў канцы ліпеня 1941 г. Мабілізацыя таксама была праведзена толькі часткова. У пяці сельсаветах і ў самім Рагачове ваеннаабавязаныя ўвогуле не паслухаліся мабілізацыйнага закліку. І ў гэтых сельсаветах хаваліся многія байцы, якія раней дэзерціравалі з шэрагаў Чырвонай Арміі[38].

У заходніх раёнах эвакуацыя і мабілізацыя праходзілі яшчэ горш. У Лідскім раёне ўлады аб'явілі аб мабілізацыі ў першы ж дзень вайны. Паводле аднаго паведамлення, яе змаглі правесці ў 16-ці сельсаветах. У шмат якіх сельсаветах мабілізацыя праходзіла «слаба» і туды «трэба было пасылаць аператыўныя групы»[39]. Але ў поспеху мабілізацыі ўсё-такі можна сумнявацца, бо ўжо 23 чэрвеня ўсе партыйныя работнікі, супрацоўнікі НКУС і іншыя савецкія актывісты паспешліва пакінулі горад, як гаворыцца ў адным дакладзе. Як затым урэшце закончылася мабілізацыя ў Лідзе, паказвае прыклад мястэчка Воранава, на ўсход ад Ліды. Там 23 чэрвеня 1941 г. сабраліся прызваныя ваеннаабавязаныя. У 19.00 ваенны камендант раёна лейтэнант Камышанскі аддаў загад: «Усе мабілізаваныя ідуць дадому!»[40].

Пётр Калінін, партыйны дзеяч і з верасня 1942 г. кіраўнік беларускага партызанскага руху, у 1964 г. канстатаваў: «Ні для каго не сакрэт, што з-за хуткага прасоўвання праціўніка на ўсход у пачатку вайны мы не здолелі па-сапраўднаму правесці мабілізацыю нават ва ўсходніх абласцях БССР, не кажучы ўжо пра заходнія»[41]. Сённяшнія афіцыйныя беларускія даследаванні, аднак, і надалей сцвярджаюць супрацьлеглае і нават пераўзыходзяць у сваіх лічбавых дадзеных тагачасныя савецкія сцвярджэнні[42].

Але і тыя, што ўжо былі мабілізаваныя, часта ваявалі за савецкі рэжым даволі неахвотна. 17 ліпеня 1941 Г. Жукаў звярнуўся да камандзіраў паўночна-заходняга, заходняга і паўднёва-заходняга ўчасткаў фронту:

[38] Інфармацыя сакратара Рагачоўскага райкама Самуіла Свердлава ад 29 ліпеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 65—68).
[39] Справаздача намесніка старшыні Лідскага райвыканкама Зайцава, 1 жніўня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 72 і наст.).
[40] Вытрымка са справаздачы інструктара Воранаўскага райкама Ф. С. Малешанкі, [жнівень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 56—62).
[41] Калинин П. З. Партизанская республика. Москва, 1964. С. 109.
[42] Так, аўтары кнігі «Великая Отечественная война советского народа», якая выйшла ў свет у 2004 г., на с. 59 сцвярджаюць: «Толькі ў Беларусі было мабілізавана [у Чырвоную Армію] 600 000 чалавек». Пры гэтым запэўніваецца, што па меншай меры частка гэтых мабілізаваных былі добраахвотнікамі. Аўтары трохтомнага твора «Всенародная борьба в Белоруссии», якая выйшла ў свет у 1983 г., у сваю чаргу, сцвярджаюць у томе 1 на с. 53: «На працягу чэрвеня—жніўня 1941 г. у дзеючую армію ўступілі ў [Беларускай Савецкай] рэспубліцы больш за 500 тыс. чалавек».

У 3-га ўпраўлення Народнага камісарыята абароны ёсць інфармацыя, паводле якой байцы і малодшыя камандзіры, што былі мабілізаваныя ў заходніх абласцях Украіны і Беларусі, а таксама ў Бесарабіі і Паўночнай Букавіне, распаўсюджваюць падбухторваючыя чуткі і паражэнчы настрой; у гэтым кантынгенце здараюцца масавыя ўцёкі і здрада Радзіме[43].

Сапраўды, дэзерцірства ў шэрагах Чырвонай Арміі ў першыя месяцы вайны было масавым феноменам, які, аднак, не абмяжоўваўся толькі ўкраінцамі ці беларусамі. Да канца 1941 г. органы НКУС арыштавалі на тэрыторыі СССР, паводле ўласных дадзеных, 710 755 дэзерціраў і 71 541 адмаўленцаў ад вайсковай службы[44]. Пры гэтым, праўда, яшчэ не ўлічаныя тыя, якія былі ўключаныя ў вайсковыя спецыяльныя падраздзяленні, тыя, каго расстрэльвалі на месцы, і тыя, якія не былі злоўленыя. Паколькі, напрыклад, па Беларусі няма лічбаў дэзерціраў і адмаўленцаў ад вайсковай службы на 1941 г., агульная колькасць дэзерціраў і адмаўленцаў толькі за 1941 г., напэўна, значна пераўзышла адзін мільён[45]. Дэзерцірамі ж называлі і тых адзіночных байцоў з разбітых падраздзяленняў, якія блукалі ў раёне фронту і ў тыле.

Ёсць шмат сведак, што ставяць пад сумнеў афіцыйныя заявы пра ўсеагульную волю савецкіх грамадзян гераічна змагацца і памерці за савецкі рэжым. Пра настрой у заходніх раёнах БССР, што раней належалі да Польшчы, маюцца, напрыклад, тагачасныя крыніцы, якія сведчаць пра яго ўстойлівы антысавецкі характар. Казлоў, сакратар Мінскага падпольнага абкама КП(б)Б, паведамляў у 1942 г., што ў першыя дні вайны ў заходніх частках БССР панаваў моцны антысавецкі настрой, асабліва ў палякаў. Сярод іх нібыта былі такія, хто выдаваў немцам чырвонаармейцаў, камандзіраў і савецкіх актывістаў, якія з'явіліся там паміж 1939 і 1941 гг.[46].

У адным савецкім дакладзе пра адносіны палякаў у Глыбокім летам 1941 г. гаворыцца:

> Большая частка палякаў [...] адкрыта сімпатызавала акупантам, выдаючы актывістаў, камуністаў і камсамольцаў. На сходах і мітынгах, ладжаных немцамі, палякі адкрыта выступалі і заяўлялі, што яны вітаюць вызваленне ад бальшавікоў. Так палякі гаварылі і на вуліцах[47].

[43] Загад Г. Жукава камандуючым Паўночна-Заходнім, Заходнім і Паўднёва-Заходнім участкамі фронту ад 17 ліпеня 1941 г. (ЦАМО РФ. Ф. 48А, оп. 1554, д. 16, л. 47).

[44] Падрахунак капітана дзяржаўнай бяспекі Забоева аб колькасці затрыманых дэзерціраў з Чырвонай Арміі і адмаўленцаў ад вайсковай службы за тры гады Вялікай Айчыннай вайны на 20 кастрычніка 1944 г. (Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ). Ф. 9478, оп. 1, д. 137, л. 9 і наст.).

[45] Гл. адносна гэтага: Musial B. Erbarmungslose Abrechnung mit Deserteuren // Frankfurter Allgemeine Zeitung. 2003. 11. August. № 184. S. 38.

[46] Справаздача сакратара Мінскага падпольнага партыйнага камітэта Казлова, [восень 1942 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 184).

[47] Справаздача партызанаў Ісака Блата і Абрама Фейгельмана пра становішча ў горадзе Глыбокае Вілейскай вобласці, 25 жніўня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 181, без нумарацыі аркушаў).



Адзін агент НКУС дакладваў пра сведак, якія распавядалі пра банды ў заходніх абласцях, «што складаюцца галоўным чынам з палякаў. Яны змагаюцца супраць тых, хто лаяльна ставіцца да Савецкага Саюза. Гэтыя банды забілі шмат бежанцаў і праходзячых чырвонаармейцаў»[48]. Недалёка ад Маладзечна ўяўныя «бандыты-кулакі» абстралялі ўцякаючых партыйных актывістаў, а праз некалькі кіламетраў іх закідалі, як быццам таксама «кулакі», камянямі[49]. У Пінскай вобласці «актывісты сельсаветаў і калгасаў хаваліся ад немцаў і мясцовых антысавецкіх элементаў у лясах і балотах». У горадзе Пінску «варожыя элементы», якія жылі ў горадзе і «падтрымлівалі» немцаў, абстралялі ўцякаючых супрацоўнікаў НКУС і партыйных актывістаў[50].

Тагачасныя паведамленні пацвярджаюць, што польскае, ды і беларускае насельніцтва вітала прыход нямецкіх войскаў як вызваленне. Так, камандуючы паліцыяй бяспекі і СД у Генерал-губернатарстве ў канцы чэрвеня 1941 г. паведамляў, што «польскае насельніцтва на тэрыторыі рускіх інтарэсаў усюды выказвае задавальненне прыходам немцаў. У розных вёсках для нямецкіх войскаў узводзіліся трыумфальныя аркі»[51]. Падобна гучаць і тагачасныя паведамленні вермахта[52]. Напрыклад, армейскае Галоўнае камандаванне (афіцэр Ic) 18 жніўня 1941 г. паведамляла пра настрой у акупаваных беларускіх абласцях:

> У былых польскіх частках тэрыторыі засталася радасць вызвалення ад савецкага ярма, якая перш за ўсё выявілася ў гатоўнасці з боку польскага і беларускага насельніцтва супрацоўнічаць у адбудаванні. [...] Сярод насельніцтва былой Беларускай Савецкай Рэспублікі ў апошні час можна было канстатаваць часткова негатыўную змену настрою, якую можна перш за ўсё тлумачыць усё яшчэ маючымі месца рабаўніцтвамі і рэквізіцыямі з боку нямецкіх войскаў у горадзе і вёсцы. Але, нягледзячы на гэта, адносіны насельніцтва да немцаў усюды, у тым ліку ў раёне Віцебска, Оршы, Магілёва, адзначаюцца як дружалюбныя. Адмаўленне бальшавіцкага панавання можна адзначыць усюды, аднак, галоўным чынам, з эканамічных і сацыяльных прычын[53].

[48] Агентурная справаздача разведчыка «Нянькіна» маёру дзяржаўнай бяспекі Духовічу ад 13 ліпеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 99, д. 480, л. 7—11).

[49] Вытрымка з даклада партыйнага інструктара Воранаўскага райкама Ф. С. Малешанкі, [жнівень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 99, д. 480, л. 56—62).

[50] Даклад сакратара Пінскага абкама партыі А. Мінчанкі ў ЦК КП(б)Б, 8 ліпеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 99, д. 480, л. 21—24).

[51] Паведамленне № 6 ад 27 чэрвеня 1941 г. (BA. R 58/214, Bl. 31 і наст.).

[52] Гл., напрыклад, данясенне афіцэра абвера (Ic) пяхотнай дывізіі ад 3 ліпеня 1941 г. пра настрой у Ашмянах: «Назіраючы настрой насельніцтва, можна ўвогуле атрымаць уражанне, што жыхары былых польскіх тэрыторый, як і літоўцы, разглядаюць прыход нямецкіх салдат як вызваленне ад бальшавіцкага ярма». Гл.: BA-MA. RH 26-6/63, Bl. 11.

[53] Данясенне афіцэра абвера (Ic) камандавання 9-й арміі, 18 жніўня 1941 г. (BA-MA. RH 26-6/63, Bl. 45 і наст.). Больш на гэтую тэму гл.: «Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen»... S. 215—221.

Умовы, якія пераважалі летам 1941 г. на тэрыторыі сённяшняй Беларусі, не былі спрыяльнымі, каб стварыць шырокі савецкі партызанскі рух супраць нямецкіх агрэсараў. Насельніцтва Беларусі не было гатова змагацца за савецкі рэжым.

## 3. Абвяшчэнне партызанскай вайны

Савецкі бок быў зусім не падрыхтаваны да партызанскай вайны на ўласнай тэрыторыі, бо тагачасная савецкая ваенная дактрына, якая была скіравана на наступальную вайну, не прадугледжвала баявых дзеянняў на сваёй тэрыторыі. Пасля нямецкага нападу савецкія лініі былі парушаныя ў першыя гадзіны, і нямецкія войскі за некалькі дзён занялі тэрыторыі, якія СССР атрымаў у 1939—1940 гг. праз пакт Гітлера — Сталіна, а потым хутка прарваліся далей на савецкую тэрыторыю.

Беларусь была асабліва хутка страчана. Заходнюю частку вермахт заняў за адзін тыдзень. У Мінск нямецкія салдаты ўвайшлі 28 чэрвеня, у Віцебск, размешчаны найдалей на паўночны ўсход буйнейшы беларускі горад на шляху ў Маскву, — 11 ліпеня. Адно паўднёва-ўсходнія тэрыторыі нямецкія войскі занялі «толькі» ў жніўні, таму што ім з нямецкага пункту гледжання адводзілася другараднае ваеннае значэнне[54]. Падобнае, як у Беларусі, адбывалася ў першыя тыдні вайны на іншых участках фронту[55].

Катастрафічнае становішча на ўсіх франтах і здача ўсё большых тэрыторый прымусілі Сталіна і яго паплечнікаў перадумаць і перайсці да радыкальных захадаў. Яны аб'явілі Айчынную народную вайну і заклікалі ўвесь савецкі народ да бязлітаснай вайны супраць нямецкіх агрэсараў. Ужо раніцай 22 чэрвеня Сталін заявіў сваім бліжэйшым супрацоўнікам: «Савецкі народ вядзе Айчынную вайну супраць фашысцкай Германіі»[56]. Вось аснова таго, што нямецка-савецкая вайна ўвайшла ў савецка-расійскую гісторыю як Вялікая Айчынная вайна. Адным з важных элементаў «Айчыннай народнай вайны» мусіў стаць шырокі партызанскі рух на акупаваных ворагам тэрыторыях.

29 чэрвеня 1941 г. Сталін як старшыня Савета Народных Камісараў выдаў дырэктыву № П509, у якой ён прапанаваў усім партыйным і дзяржаўным органам стварыць у прыфрантавых раёнах партызанскія атрады і дыверсійныя групы[57]. Праз дзень Цэнтральны камітэт КП(б)Б выдаў дырэктыву № 2, што абавязвала ўсе партыйныя, камсамольскія і дзяржаўныя арганізацыі БССР:

[54] Иринархов Р. С. Западный особый... С. 689.

[55] Kriegstagebuch des Oberkommandos... T. II. S. 417—448, 490—549 (дзённыя зводкі аператыўнага аддзела).

[56] Dimitroff G. Tagebücher 1933—1943 / Hrsg. B. H. Bayerlein. Berlin, 2000. S. 393 (запіс ад 22 чэрвеня 1941 г.).

[57] Дырэктыва № П509 ад 29 чэрвеня 1941 г. Савета Народных Камісараў СССР і ЦК УсеКП(б) партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей, падпісаная І. Сталіным і В. Молатавым, надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 121—123.



> Усе мясцовасці Беларусі, занятыя ворагам, павінны неадкладна пакрыцца густой сеткай партызанскіх атрадаў, якія павядуць няспынную жорсткую барацьбу на знішчэнне ворага. [...] Дзеля гэтай мэты ўсе камуністы і камсамольцы, здольныя насіць зброю, застаючыся на тэрыторыі, занятай ворагам, [...] галоўная задача якіх — мабілізацыя народа на бязлітасную расправу з ворагам[58].

Толькі праз тры дні, 3 ліпеня 1941 г., Сталін у славутай прамове па радыё асабіста заклікаў увесь савецкі народ да бязлітаснай партызанскай вайны:

> У занятых ворагам раёнах трэба ствараць партызанскія атрады, конныя і пешыя, ствараць дыверсійныя групы для барацьбы з часцямі варожай арміі, для распальвання партызанскай вайны, для падрыву мастоў і дарог, пашкоджання тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі паўсюль і ўсюды, для ўзрывання мастоў, дарог, псавання тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі, падпальвання лясоў, складоў, абозаў. У захопленых раёнах ствараць невыносныя ўмовы для ворага і ўсіх яго памагатых, праследаваць і знішчаць іх на кожным кроку, зрываць усе іх мерапрыемствы[59].

Праз тыдзень, 10 ліпеня 1941 г., Сталін як старшыня Дзяржаўнага камітэта абароны (ДКА) выдаў загад, у якім гаварылася:

> Усе камандзіры абавязваюцца распаўсюджваць з паветра на ўсе тылавыя тэрыторыі невялікія лістоўкі з заклікам да насельніцтва змагацца з тылавымі часцямі нямецкай арміі, разбураць масты і чыгуначныя шляхі, падпальваць лясы, ісці ў партызаны, не даваць нямецкім прыгнятальнікам спакою. У закліку павінна быць напісана, што Чырвоная Армія неўзабаве вернецца і выратуе іх ад нямецкага прыгнёту[60].

Заклік павінны былі падпісаць адпаведныя камандзіры. Тагачасныя нямецкія даклады і паведамленні часта напамінаюць, што савецкі бок сапраўды вёў прапаганду з паветра. Так, напрыклад, у справаздачы пра дзейнасць афіцэра Іс пры камандуючым тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за ліпень 1941 г. напісана: «Вораг спрабуе весці прапаганду, скідваючы лістоўкі. Не адзін раз нам перадавалі экзэмпляры такіх лістовак, і мы іх адсылалі ў Аддзел прапаганды Галоўнакамандавання вермахта»[61].

[58] Дырэктыва № 2 ЦК КП(б)Б ад 1 ліпеня 1941 г., падпісаная П. Панамарэнкам, надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 138—139.

[59] Выступленне па радыё І. Сталіна ад 3 ліпеня 1941 г., надрукаванае сярод іншага ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 161—165; у нямецкім перакладзе яна, сярод іншага, надрукавана ў: «Unternehmen Barbarossa». Der deutsche Überfall auf die Sowjetunion 1941. Berichte, Analysen, Dokumente / Hrsg. G. R. Ueberschär und W. Wette. Paderborn, 1984. S. 326—329.

[60] Распараджэнне ДКА № 83 ад 10 ліпеня 1941 г., падпісанае Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 2, л. 1 і наст.).

[61] Справаздача пра дзейнасць афіцэра Іс тылавога раёна групы армій «Цэнтр» за ліпень 1941 г. (BA-MA. RH 22/228, Bl. 72 і наст.); тое ж за кастрычнік 1941 г. (Тамса-

Усе гэтыя дырэктывы з'явіліся арганізацыйна-прававой асновай для стварэння савецкага партызанскага руху на занятых немцамі тэрыторыях. Паколькі вермахт заняў большую частку захаду БССР да 30 чэрвеня і ці зусім парушыў сувязь у незанятых яшчэ раёнах, ці, у лепшым выпадку, ускладніў яе, часта гэтыя дырэктывы не маглі ўвогуле быць ажыццёўленыя, а калі маглі, то толькі з прамаруджваннем. У адным дакладзе з ліпеня 1941 г. гаворыцца: «ЦК КП(б)Б знаходзіцца ў Гомелі. Тэлефонная сувязь толькі праз штаб [Заходняга] фронту. Усе астатнія сувязі парушаныя»[62]. У іншым дакладзе з канца ліпеня 1941 г. гаворыцца: «Да апошняга часу ўдавалася падтрымліваць сістэматычную сувязь з ваенным саветам заходняга ўчастка фронту. Цяпер сувязь вельмі абцяжарана, яна ажыццяўляецца праз кур'ераў»[63]. Каб перадаць партыйным органам у Пінску і Брэсце распараджэнне пра стварэнне партызанскіх атрадаў, паслалі кур'ераў, якія выправіліся ў шлях толькі 2 ліпеня 1941 г.[64].

Праўда, першыя партызанскія атрады ў Беларусі з'явіліся яшчэ да таго, як былі выдадзеныя адпаведныя дырэктывы. Органы бяспекі і партыйныя органы 26 чэрвеня 1941 г. пачалі ствараць першыя партызанскія атрады. У гэты дзень былі сфармаваныя 14 атрадаў, у якія ўвайшлі 1 162 партызаны, 539 з іх былі супрацоўнікамі НКУС і 623 — НКДБ і міліцыі[65]. Гэтыя атрады атрымалі заданне накіравацца на вызначаныя ім аператыўныя тэрыторыі, што ўсе знаходзіліся ва ўсходніх раёнах і былі яшчэ не занятыя, і рыхтавацца да партызанскай барацьбы[66]. У заходніх раёнах, наадварот, нельга было прыняць адпаведных захадаў, бо часу было мала, а хаос першых дзён вайны — занадта вялікі[67]. Выключэннем тут з'яўляецца Пінская вобласць, якая была

ма. Bl. 80 і наст.); дэкадная зводка афіцэра Ia камандавання тылавога раёна групы армій «Цэнтр» у Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў, 30 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 22/227, Bl. 37 і наст.). Савецкія партызаны таксама гэта пацвярджаюць. Гл., напрыклад: Справаздача пра дзейнасць атрада Сямёна Юрына (Васільева) у Бярэзінскім раёне ад 21 лютага 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 14).

[62] Даклад сакратара ЦК КП(б)Б Р. Эйдзінава ў ЦК УсеКП(б) Шамбергу, [ліпень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 1 і наст.).

[63] Ліст сакратара ЦК КП(б)Б Р. Эйдзінава ў ЦК УсеКП(б) Шамбергу, [канец ліпеня 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 3—6).

[64] Справаздача Абрасімава сакратару абкама КП(б)Б, [ліпень—жнівень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 130). Абрасімаў дакладваў таксама, што ён са сваім партнёрам цалкам выканаў заданне. Праўда, варта сумнявацца, ці сапраўды яны абодва інфармавалі партыйныя органы ў Брэсце, бо тых ужо не было. Іх супрацоўнікі ўжо ў першы дзень вайны ўцяклі з Брэста ці пайшлі ў падполле. Абросімаў таксама дакладваў, што ён стварыў партызанскі атрад у Брэсцкай вобласці ў колькасці 41 чалавека, іх раёны дзеяння — Дзівінскі і Антопальскі.

[65] Дакладная запіска НКДБ БССР у НКУС і НКДБ СССР, 5 ліпеня 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 187—192.

[66] Справаздача ад 21 лютага 1942 г. партызанскага атрада пад камандаваннем лейтэнанта дзяржаўнай бяспекі С. Юрына ў Бярэзінскім раёне (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 1—34).

[67] Сяргей Бельчанка, былы начальнік НКДБ у Беластоцкай вобласці, праўда, сцвярджаў, што ён распарадзіўся стварыць дзве разведвальна-дыверсійныя групы пад



акупавана ўжо ў першыя два тыдні ліпеня. Там змаглі быць створаныя шматлікія партызанскія атрады, як яшчэ пакажа ў далейшым аналіз тагачасных дакладаў.

Праз некалькі дзён пасля пачатку вайны партыйныя органы і НКУС/НКДБ, то разам, то паасобку пачалі ствараць партызанскія атрады і дыверсійныя групы, якія павінны былі потым заставацца і змагацца на акупаваных тэрыторыях. Ужо 2 ліпеня 1941 г. Панамарэнка як першы сакратар Цэнтральнага камітэта КП(б)Б дакладваў Сталіну пра разгортванне партызанскага руху на тэрыторыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі:

> У Беларусі разгарнуўся партызанскі рух; напрыклад, у Палескай вобласці кожнае сяло, калгас маюць партызанскі атрад. Камуністы пакінутыя намі на падпольнай працы для арганізацыі і кіравання. Пакінута, адабрана і паслана каля 1 500 чалавек. Сёння мной паслана 50 атрадаў у занятыя раёны з асабліва важным заданнем[68].

Гэтыя 50 атрадаў Панамарэнка сфармаваў разам з маршалам Варашылавым з прыкладна 500 партыйных работнікаў, савецкіх актывістаў і супрацоўнікаў НКУС ды міліцыі з заходніх раёнаў, што знайшлі прытулак у Магілёве[69].

Па дадзеных Панамарэнкі, дакладзеных Сталіну 18 жніўня 1941 г., у Беларусі да 1 жніўня 1941 г. агулам дзейнічаў 231 атрад з больш як 12 000 партызанамі[70]. Аднак пасля вайны Панамарэнка называў лічбы, што моцна адрозніваліся ад гэтых дадзеных. Паводле іх, партыйныя органы з ліпеня да снежня 1941 г. сфармавалі 104 партызанскія атрады і 323 арганізацыйныя і дыверсійныя групы з 8 307 партызанамі і дыверсантамі, што пачалі дзеянні ў Беларусі. Усяго ў варожым тыле, паводле пасляваенных дадзеных Панамарэнкі, да канца 1941 г. у барацьбу ўступілі звыш 200 партызанскіх атрадаў з

камандаваннем С. Юрына і Сотнікава, перш чым 23 чэрвеня пакінуць горад. Гл.: Попов А. Ю. 15 встреч... С. 130. Ва ўсялякім выпадку, С. Юрын 26 чэрвеня 1941 г. быў прызначаны камандзірам партызанскага атрада, які павінен быў дзейнічаць у Бярэзінскім раёне, за некалькі соцень кіламетраў на ўсход ад Беластока. Гл.: Дакладная запіска НКДБ БССР у НКУС і НКДБ СССР, 5 ліпеня 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 187—196. Гл. таксама: Справаздача партызанскага атрада пад камандаваннем лейтэнанта дзяржаўнай бяспекі С. Юрына ў Бярэзінскім раёне ад 21 лютага 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 1—34).

[68] Данясенне П. Панамарэнкі І. Сталіну аб разгортванні партызанскага руху на тэрыторыі рэспублікі, 2 ліпеня 1941 г., надрукаванае ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 149—150.

[69] Стэнаграма размовы са Сцяпанам Шупенем ад 1 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 81); стэнаграма размовы з Васілём Чарнышовым ад 4 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 125 і наст.).

[70] Даклад П. Панамарэнкі І. Сталіну пра становішча на акупаваных тэрыторыях Беларусі, 19 жніўня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 160).

Са студзеня 1942 г. цэнтр у параўнанні з першымі ваеннымі месяцамі накіраваў нават адносна менш дыверсійна-партызанскіх груп у Беларусь[81]. Са студзеня да 1 чэрвеня 1942 г. існавала ўжо толькі 33 групы з 215 курсантамі[82]. Апошнія 12 груп з 60 чалавекамі, якія цэнтр самастойна сфармаваў для дзеянняў у Беларусі, былі пасланыя 12 чэрвеня 1942 г.[83]. Усяго цэнтр з 13 ліпеня 1941 г. да 1 ліпеня 1942 г., паводле яго ўласных дадзеных, падрыхтаваў 4 119 партызанаў і дыверсантаў, што былі задзейнічаныя ў акупаванай Беларусі[84].

Акрамя таго, цэнтр летам 1941 г. абсталяваў пры 3-й, 13-й і 21-й арміях, якія змагаліся на цэнтральным (беларускім) участку фронту, аператыўныя кропкі для падрыхтоўкі партызанскіх кадраў, што складаліся з 2—3 супрацоўнікаў і інструктара кожная. Аператыўныя кропкі адыгрывалі важную ролю пры адпраўцы груп, якія фармаваў цэнтр. Адначасова аператыўныя кропкі самі навучалі будучых партызанаў і дыверсантаў і з іх фармавалі партызанскія групы, што яны потым пасылалі ў варожы тыл. Аператыўная кропка пры 3-й арміі самастойна падрыхтавала да пачатку верасня 1941 г. 61 чалавека і па даручэнні ваеннага савета 3-й арміі 28 чалавек, якія былі ці мусілі быць накіраваныя для дзеянняў у Магілёўскай, Гомельскай і Мінскай абласцях. Аператыўныя кропкі пры 21-й і 13-й арміях падрыхтавалі адпаведна 66 і 57 дыверсантаў, што таксама мусілі быць накіраваныя для дзеянняў у акупаваныя раёны Беларусі[85].

Усяго цэнтр з 13 ліпеня 1941 г. да 11 мая 1942 г. падрыхтаваў роўна 10 691 партызана і дыверсанта. З іх, як ужо згадана, 4 119 мусілі быць задзейнічаныя ў Беларусі, акрамя таго, сярод іншага, 373 чалавекі (51 група) — ва Украіне, 138 (28 груп) у Арлоўскай вобласці, 134 чалавекі ў Латвіі і Эстоніі. Цэнтр рыхтаваў і інструктараў для іншых партызанскіх школ (Арол, Харкаў, Разань, Вязьма, Кіеў)[86]. Курсантаў і групы, дзеянні якіх вызначаў не сам цэнтр, — да 11 мая

л. 7—14. Магчыма, гэтыя розныя дадзеныя абумоўленыя арганізацыйным хаосам, які быў выкліканы шматразовым пераездам Цэнтра ў іншыя месцы.

[81] Паведамленне Аператыўна-вучэбнага цэнтра ад 15 мая 1942 г., падпісанае начальнікам Цэнтра Іванам Куцейнікавым і камісарам Цэнтра Макаравым (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 65 і наст.). Паводле яго, Цэнтр падрыхтаваў у перыяд з 13 ліпеня 1941 г. да 11 мая 1942 г. звыш 3 500 партызан і дыверсантаў для дзейнасці ў Беларусі і самастойна накіраваў туды 253 групы колькасцю ў 1508 чалавек.

[82] Паведамленне начальніка Цэнтра І. Куцейнікава пра падрыхтоўку кадраў дыверсійных груп для барацьбы на тэрыторыі Беларусі за перыяд з ліпеня 1941 г. да 1 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 97, л. 10).

[83] Спіс 12-ці груп, з прыпіскай ад рукі на палях: «накіраваныя ў партызанскія атрады 12 чэрвеня 1942 г., БССР» (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 116, л. 53 і наст.).

[84] Паведамленне начальніка Цэнтра І. Куцейнікава пра падрыхтоўку кадраў дыверсійных груп для барацьбы на тэрыторыі Беларусі за перыяд з ліпеня 1941 г. да 1 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5. д. 97, л. 10).

[85] Справаздача начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра палкоўніка І. Старынава ад 5 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 7—14).

[86] Паведамленне начальніка Цэнтра І. Куцейнікава ад 15 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 65 і наст.).



1942 г. гэта былі 8 608 чалавек — школа адкамандзіроўвала ў штабы Заходняга, Бранскага і Паўднёва-Заходняга франтоў, у органы НКУС і ў абласныя камітэты, што займаліся партызанскім рухам[87].

Цэнтр з лета 1941 г. займаўся і падрыхтоўкай парашутыстаў[88]. Але з-за адсутнасці належных самалётаў іх перадалі НКУС ці Чырвонай Арміі.

З сярэдзіны чэрвеня 1942 г. дзейнасць цэнтра абмежавалася падрыхтоўкай будучых партызанаў і дыверсантаў. Пасля заканчэння курса школа накіроўвала сваіх выпускнікоў, у залежнасці ад рашэння, у Цэнтральны штаб партызанскага руху, у рэгіянальныя партызанскія штабы, НКУС ці ваенныя ўстановы, у прыватнасці, у Галоўнае разведвальнае ўпраўленне (ГРУ) пры Генеральным штабе Чырвонай Арміі. Гэтыя органы арганізоўвалі потым свае групы ці задзейнічалі выпускнікоў паасобку[89].

Курсантаў набіралі сярод членаў партыі і камсамола, супрацоўнікаў НКУС і міліцыі, савецкіх работнікаў, а таксама актыўных рабочых і калгаснікаў[90] — пры гэтым не толькі добраахвотнікаў. Старынаў скардзіўся 6 верасня 1941 г.: «Не ўсюды захоўваецца прынцып добраахвотнасці пры адборы [курсантаў партыйнымі органамі], што перашкаджала працы школы. Таму былі страты падчас курса і пры пасылцы за лінію фронту»[91].

Склад груп, сфармаваных цэнтрам у 1941 г., а таксама адсутнасць іх поспехаў[92], магчыма, з'яўляюцца прычынамі таго, чаму са-

[87] Даклад І. Старынава П. Панамарэнку ад 21 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 42, арк. 94 і наст.); паведамленне начальніка Цэнтра І. Куцейнікава ад 15 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 65 і наст.).

[88] Рыгор Эйдзінаў пісаў Шамбергу, відаць, у жніўні 1941 г.: «Цяпер мы арганізуем у Арлоўскай вобласці школу парашутыстаў. Мы набіраем да 1 000 членаў камсамола і маладых людзей, надзейных, мужных, якіх мы за кароткі час навучым». Гл.: РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 4. У пачатку верасня 1941 г. Цэнтр меў намер выпусціць 920 будучых партызан, з іх — 350 парашутыстаў. Гл.: Даклад начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра палкоўніка І. Старынава ад 5 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 14).

[89] На гэты конт ёсць шматлікія тагачасныя паведамленні пра накіраваных туды курсантаў Цэнтра. Гл.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 116.

[90] Насуперак праўдзе, П. Панамарэнка ў дакладной запісцы ад 26 верасня 1941 г., якая была накіравана І. Сталіну, сцвярджаў: «Для школы [Аператыўна-вучэбнага цэнтра] [ЦК КП(б)Б] набіраў галоўным чынам калгаснікаў». Гл.: РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 69, л. 49.

[91] Даклад начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра палкоўніка І. Старынава ад 5 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 7—14). У дакладзе ў пункце «Высновы» сярод іншага гаворыцца: «Пры наборы курсантаў неабходна выконваць прынцып добраахвотнасці».

[92] 21 лістапада 1941 г. І. Старынаў дакладваў П. Панамарэнку: «Не ўдалося наладзіць сувязь з партызанамі і дыверсантамі ў Беларусі. [...] Адсутнасць сувязі не дазваляе выявіць поўны аб'ём баявых дзеянняў падрыхтаваных намі кадраў». Гл.: НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 42, арк. 94 і наст. Пра 39 груп з 167 партызанамі, якіх Цэнтр у верасні і кастрычніку накіраваў для барацьбы ў Беларусь, ён праз дзесяць месяцаў не меў

вецкая гістарыяграфія замоўчвала дзеянні цэнтра пры фармаванні партызанскіх груп і атрадаў, хоць праца цэнтра ставіла пад сумненне ўяўную спантаннасць пры фармаванні савецкага партызанскага руху.

## 5. Камуністычная партыя

Партыйныя органы ў Беларусі з самага пачатку праявілі заўважную ініцыятыву пры фармаванні партызанскіх атрадаў і груп. У першыя два тыдні вайны, напрыклад, Пінскі абкам КП(б)Б сфармаваў 15 атрадаў з 397 партызанамі, у якіх была задача пасля прыходу немцаў пачаць партызанскую барацьбу на адведзеных ім аператыўных тэрыторыях[93]. 22 ліпеня Пінскі абласны камітэт усталяваў два цэнтры, што мусілі арганізаваць у вобласці партыйнае падполле і партызанскі рух. Акрамя таго, абласны камітэт прадпісаў усім сакратарам раённых камітэтаў і старшыням райвыканкамаў вярнуцца ў свае раёны, каб арганізаваць там партызанскі рух і партыйнае падполле[94].

У Мінскай вобласці ў першыя тыдні вайны з'явіліся шэсць атрадаў, у якіх было па 280—310 партызанаў, што складаліся з партыйных актывістаў і супрацоўнікаў НКУС. Потым асобныя рэгіянальныя партыйныя работнікі атрымалі заданне арганізаваць у сваіх раёнах партыйнае падполле і партызанскі рух. Таксама былі наладжаныя тры цэнтры (Мінск, Бабруйск, Слуцк), перад якімі стаяла задача арганізаваць на сваіх тэрыторыях партызанскі рух і падполле ды кіраваць імі[95]. Магілёўскі абкам КП(б)Б, наадварот, паведаміў, што ў вобласці створана 19 партызанскіх атрадаў у 15 раёнах з агулам 994 чалавекамі. Сюды дадаюцца падпольныя структуры партыі ў 18 раёнах і горадзе Магілёве з агулам 339 камуністамі[96].

У Палескай вобласці абкам КП(б)Б стварыў абласную тройку, якая мусіла займацца арганізацыяй партызанскага руху[97]. Гомельскі абкам КП(б)Б таксама далажыў пра стварэнне падпольных структур партыі і партызанскіх атрадаў у кожным раёне вобласці[98]. Паводле яшчэ аднаго даклада ад 3 жніўня 1941 г., гаворка ішла пра 50 атрадаў; Віцебскі абкам КП(б)Б таксама быццам сфармаваў «вялікую колькасць» партызанскіх атрадаў[99].

ніякіх дадзеных. Гл.: Інфармацыя намесніка кіраўніка аператыўнага аддзела па разведцы Ермалаева ад 25 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 116, л. 61). Спіс гэтых груп з асабовым складам і месцам дзеяння: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 116, л. 62—71.

[93] Даклад сакратара Пінскага абкама А. Мінчанкі сакратару ЦК КП(б)Б Р. Эйдзінаву, 8 ліпеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 21—24).

[94] Даклад сакратара Пінскага абкама А. Мінчанкі сакратару ЦК КП(б)Б Р. Эйдзінаву, [пасля 22 ліпеня 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 107 і наст.).

[95] Даклад сакратара Мінскага абкама Аляксандра Кольшкіна аб партызанскіх атрадах у Мінскай вобласці, [пасля 12 жніўня 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 114—117).

[96] Даклад сакратара Магілёўскага абкама Івана Макарава П. Панамарэнку, [жнівень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 118 і наст.).

[97] Вытрымка з пратакола № 102 пасяджэння Палескага абкама (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 36 і наст.).

[98] Даклад сакратара Гомельскага абкама Ф. Жыжанкова сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку, [ліпень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 105 і наст.).



Спіс партызанскіх атрадаў і груп з канца 1941 ці з 1942 г., што былі створаныя летам 1941 г. у Беларусі, налічвае 405 груп і атрадаў са звыш 6 000 партызанамі. Аднак у шматлікіх груп адсутнічаюць дадзеныя пра іх колькасць і склад. Толькі некаторыя з гэтых груп / атрадаў дзейнічалі ў заходніх раёнах: у Беластоцкай вобласці — 1 група, у Вілейскай — 4 групы, у Брэсцкай — 3 (91 чалавек), у Баранавіцкай — 7 (70 чалавек). Выключэнне ўяўляла тут Пінская вобласць з 35 групамі і 916 партызанамі. Большасць груп і атрадаў дзейнічалі ва ўсходніх раёнах: у Гомельскай вобласці — 107 (2 476 чалавек), у Магілёўскай — 62 (1 408 чалавек), у Мінскай — 52 (720 чалавек), у Віцебскай — 74 (каля 700 чалавек), у Палескай — 60 (каля 600 чалавек)[100].

Усе гэтыя групы і атрады былі сфармаваныя ў Беларусі паводле цытаванага ўжо даклада рэгіянальных партыйных органаў (абласных і раённых камітэтаў) або самастойна, або разам з органамі НКУС. Спіс, відавочна, не ўлічвае групы, што былі сфармаваныя і выпушчаны Аператыўна-вучэбным цэнтрам. Сюды трэба дадаць яшчэ шматлікія групы і атрады, якія былі створаныя і засталіся на месцах. Але пра гэта маюцца толькі фрагментарныя ўрыўкі інфармацыі[101].

## 6. НКУС/НКДБ і партызанскі рух у 1941 г.

Важную ролю пры фармаванні савецкага партызанскага руху адыгрывалі летам 1941 г. у Беларусі, як і ў астатніх савецкіх раёнах, органы Народнага камісарыята ўнутраных спраў ці Народнага камісарыята дзяржаўнай бяспекі (НКУС/НКДБ). У першыя дні вайны з'явіўся неафіцыйны кіраўнічы цэнтр на чале з Цэнтральным камітэтам КП(б)Б, які займаўся разгортваннем партызанскага руху. Кіраўнік НКУС БССР Лаўрэнцій Цанава і НКДБ БССР Аляксандр Мацвееў пры гэтым адыгрывалі вырашальную ролю. У пачатку ліпеня 1941 г. Панамарэнка прапанаваў Сталіну надаць гэтаму цэнтру афіцыйны статус, а Цанаву і Мацвеева прызначыць яго намеснікамі[102]. Аднак Сталін на гэта не пайшоў.

[99] Справаздача арганізацыйна-інструктарскага аддзела ЦК УсеКП(б) сакратарам ЦК УсеКП(б) пра дзейнасць партызанскіх атрадаў і дыверсійных груп у Беларусі ад 3 жніўня 1941 г., надрукаваная ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 21 і наст.

[100] Спіс дыверсійных груп і партызанскіх атрадаў у Беларусі, [лета—восень 1941 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 1, арк. 1—33).

[101] Напрыклад, у пачатку 1941 г. у Клічаўскім раёне былі сфармаваныя пяць партызанскіх груп, якія павінны былі дзейнічаць пасля прыходу немцаў. Гл.: Стэнаграма размовы з тав. Брухaнавым ад 1 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 31—34).

[102] Данясенне П. Панамарэнкі І. Сталіну аб разгортванні партызанскага руху на тэрыторыі рэспублікі, 2 ліпеня 1941 г., надрукаванае ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 149—150.

Першыя партызанскія атрады, што з'явіліся ў Беларусі, былі сфармаваныя органамі НКУС/НКДБ разам з партыйнымі арганізацыямі. Гаворка ідзе пра ўжо згаданыя 14 атрадаў з агульнай колькасцю 1 162 партызаны, з якіх 539 былі супрацоўнікамі НКУС і 623 супрацоўнікамі НКДБ і міліцыі. Іх камандзірамі былі таксама афіцэры бяспекі (14), адзін афіцэр пагранічных часцей НКУС і два афіцэры міліцыі. Іх месцы дзеяння знаходзіліся ва ўсходніх абласцях БССР[103]. Акрамя таго, органы НКУС БССР да пачатку жніўня 1941 г. накіравалі 15 дыверсійна-разведвальных груп, а таксама асобных дыверсантаў і разведчыкаў, агулам 400 чалавек, у акупаваныя раёны Беларусі[104].

Пры фармаванні партызанскіх атрадаў партыйнымі арганізацыямі органы НКУС таксама адыгрывалі важную ролю. Яны правяралі будучых партызанаў і дыверсантаў на іх палітычную надзейнасць і пасылалі сваіх прадстаўнікоў у створаныя атрады. Пры многіх атрадах і групах яны бралі на сябе і камандаванне[105]. Напрыклад, 8 з 15 атрадаў, якія сфармаваў Пінскі абкам КП(б)Б у пачатку ліпеня 1941 г., трапілі пад камандаванне аператыўных супрацоўнікаў НКУС, яшчэ двума камандавалі супрацоўнікі міліцыі, а адным — дырэктар турмы. Астатнія афіцыйна падпарадкоўваліся НКУС[106]. У Мінскай вобласці абкам КП(б)Б у ліпені 1941 г. стварыў тры падпольныя цэнтры (Мінск, Барысаў і Слуцк), якія павінны былі каардынаваць падпольную дзейнасць і кіраваць ёй. У гэтых цэнтрах важную ролю адыгрывалі кіраўнічыя супрацоўнікі НКУС; яны павінны былі дапамагаць партыйным арганізацыям у падпольнай дзейнасці і наладжваць сувязь паміж цэнтрамі[107].

У справаздачы НКУС БССР за верасень 1941 г. гаворка ідзе таксама і пра 10 аператыўных груп па 8—9 чалавек, якія былі адкамандзіраваныя ў акупаваныя вобласці — Віцебскую, Палескую, Гомельскую і Мінскую — для арганізацыі партызанскага руху[108]. Сцвярджаецца таксама, што з ліпеня да снежня 1941 г. НКУС БССР стварыў усяго 60 аператыўных груп з 1 893 чалавекамі і заслаў іх на акупаваныя тэрыторыі Беларусі[109].

---

[103] Дакладная запіска НКДБ БССР у НКУС і НКДБ СССР аб арганізацыі партызанскіх атрадаў і груп, 5 ліпеня 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 187—192.

[104] Запіска народнага камісара ўнутраных спраў СССР Л. Берыі ў Дзяржаўны Камітэт Абароны, 8 жніўня 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 464—465.

[105] Спецпаведамленне НКДБ БССР у НКДБ СССР пра выніκі аператыўнай працы па стане на 18 ліпеня 1941 г., падпісанае намеснікам наркама Сяргеем Духовічам, без даты, надрукаванае ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 355—358.

[106] Даклад сакратара Пінскага абкама А. Мінчанкі ад 8 ліпеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 21—24).

[107] Даклад сакратара Мінскага абкама А. Колышкіна для ЦК КП(б)Б, [жнівень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 114—117).

[108] Дакладная запіска НКУС БССР і НКУС СССР пра выніκі разведвальна-дыверсійнай дзейнасці ў тыле праціўніка, [пасля 10 верасня і да 21 верасня 1941 г.], публікацыя ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 71.

[109] Гэтыя дадзеныя належаць выдаўцам зборніка дакументаў «Органы государственной безопасности...», праўда, без указання крыніцы. Гл.: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 193.



НКУС у сваёй дзейнасці часам праяўляў і пэўнае наватарства. НКУС у Гжацку пад Вязьмай сфармаваў з жыхароў дома інвалідаў і іншых старых і лядашчых людзей «запасны партызанскі атрад» з прыблізна 60 чалавек. Гэтыя запасныя партызаны атрымлівалі ад НКУС інструктаж і заданне хадзіць няўзброенымі «старцамі» па занятых нямецкімі войскамі тэрыторыях і прамаўляць сярод насельніцтва: у «Айчынную вайну» 1812 г. разам з Напалеонам у Расію ўварваліся і прусакі, але ўрэшце былі разгромленыя. І тады старыя людзі ішлі разам з войскамі захопнікаў і прадказвалі іх паражэнне. Іх прадказанні ажыццявіліся. Зараз будзе тое ж[110].

Акрамя партызанскіх груп органы НКУС стваралі на акупаванай тэрыторыі Беларусі дыверсійна-агентурную сетку. У жніўні 1941 г. аддзел разведкі НКУС БССР паведаміў, што ён стварыў сетку ў складзе 35 рэзідэнтаў з 131 дыверсантам. Паводле паведамлення, яны знаходзіліся ва ўсходніх раёнах; у заходніх раёнах — за выключэннем Пінскай вобласці (6 груп) — такіх груп не было[111].

Праз месяц кіраўніцтва НКУС далажыла, што НКУС БССР завербаваў усяго 1 192 агентаў і накіраваў іх у акупаваныя раёны Беларусі. Сярод іх — 379 агентаў для «дыверсійна-тэрарыстычнай працы», 274 дыверсанты-разведчыкі, 62 агенты для догляду за канспіратыўнымі кватэрамі, 63 агенты ў якасці кур'ераў і сувязных і 414 сігнальшчыкаў (для самалётаў). З іх было арганізавана кола дыверсантаў у складзе 73 рэзідэнтаў з 287 агентамі, што ахапіла Мінскую, Віцебскую, Магілёўскую, Гомельскую, Палескую і Пінскую вобласці[112].

12 жніўня НКУС БССР наладзіў школу дыверсантаў, якая спачатку месцілася ў вёсцы Чонкі пад Гомелем. Першы 131 удзельнік курсаў, што працягваліся 6 дзён, быў набраны з супрацоўнікаў міліцыі, НКУС і іншых, якія паходзілі з заходніх рэгіёнаў Беларусі (былой Польшчы). Адна група з 10 курсантаў была задзейнічана ва Украіне, яшчэ 121 курсант быў дастаўлены ў Маскву ў Асобную авіяцыйную брыгаду войскаў НКУС, каб адтуль высадзіцца з самалётаў на варожую тэрыторыю. Наступны курс з 244 чалавек быў набраны з супрацоўнікаў міліцыі і НКУС, якія паходзілі з усходніх рэгіёнаў Беларусі і там жа павінны былі дзейнічаць[113].

У астатніх акупаваных раёнах, ва Украіне і ў расійскіх абласцях, такіх, як Смаленская, Арлоўская, Бранская ці Маскоўская, НКУС выявіў яшчэ большую, чым у Беларусі, ініцыятыву ў разгортванні

---

[110] Абверκаманда II (разведкаманда II) афіцэру абвера (Ic) групы армій «Цэнтр», 5 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 655, воп. 1, спр. 1, арк. 339).

[111] Даведка разведаддзела НКУС БССР пра колькасны склад дыверсійных рэзідэнтур у тыле праціўніка, падпісаная начальнікам 1-га аддзялення разведаддзела Рыгорам Сямыкіным, 8 жніўня 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 466—467.

[112] Дакладная запіска НКУС БССР і НКУС СССР пра выніκі разведвальна-дыверсійнай дзейнасці ў тыле праціўніка, [пасля 10 верасня і да 21 верасня 1941 г.], публікацыя ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 75.

[113] Тамсама. С. 70—81.

партызанскага руху[114]. Так, органы НКУС у ліпені 1941 г. сфармавалі ва Украіне тры партызанскія палкі па 1 000 байцоў кожны. Але такія вялікія падраздзяленні не апраўдалі сябе. Яны з-за сваіх памераў былі непаваротлівымі; меліся цяжкасці з забеспячэннем іх харчаваннем і амуніцыяй. Пастаўленыя перад імі задачы яны таксама не выконвалі. З гэтых прычын яны неўзабаве былі распушчаныя і перафармаваныя ў меншыя атрады (20—25 байцоў). З ліпеня да канца верасня 1941 г. органы НКУС Украіны сфармавалі 122 атрады з 5 809 партызанамі і накіравалі іх у акупаваныя раёны. Сюды дадаваліся 69 дыверсійных груп з 743 дыверсантамі. Акрамя таго, на акупаваных тэрыторыях засталіся 192 партызанскія атрады і дыверсійныя групы з агулам 5440 чалавекам[115]. На іншых тэрыторыях, за выключэннем балтыйскіх дзяржаў, органы НКУС паказалі сябе вельмі актыўнымі ў развіцці партызанскага руху[116].

У Беларусі з восені 1941 г. актыўная дзейнасць НКУС пры разгортванні партызанскага руху, праўда, значна знізілася. Гэта было звязана з перамяшчэннем фронту на сотні кіламетраў на ўсход і абумоўленымі гэтым цяжкасцямі забеспячэння і баявога ўдзелу партызанаў і дыверсантаў. Большасць з іх мусілі адольваць напружаныя і небяспечныя пераходы праз лінію фронту і нямецкія тылавыя тэрыторыі да адпаведных зон дзеяння, бо мелася толькі некалькі транспартных самалётаў, якімі іх можна было б даставіць туды[117]. Але ў канцы 1941 г. заўважна адбылося пераасэнсаванне намераў кіраўніцтва НКУС адносна партызанскага руху. Адсутнасць поспехаў ці іх нязначнасць у параўнанні з выдаткамі, здаецца, з'явіліся прычынай таго, што кіраўніцтва НКУС адвярнулася ад былой стратэгіі партызанскага руху як масавага і паставіла карту на меншыя партызанскія і дыверсійныя групы.

У снежні 1941 г. Лаўрэнцій Берыя звярнуўся да Сталіна з дакладной запіскай, у якой ён выказаўся супраць ідэі шырокамаштабнага партызанскага руху пад адзіным кіраўніцтвам:

[114] Параўн. шматлікія даклады наконт гэтага ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1—2.

[115] Дакладная запіска НКУС УССР № 40/378 у ЦК КП(б) Украіны пра дзейнасць знішчальных батальёнаў і партызанскіх атрадаў за ліпень—верасень 1941 г., 6 кастрычніка 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 173—182.

[116] Напрыклад, восенню 1941 г. органы НКУС сфармавалі ў Арлоўскай вобласці партызанскія атрады агульнай колькасцю ў 900 байцоў. Гл.: Даклад начальніка НКУС па Арлоўскай вобласці ад 12 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 2—9); гл. таксама шматлікія даклады ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1—2.

[117] 30 жніўня 1942 г. П. Панамарэнка заявіў на нарадзе з партызанскімі камандзірамі, якія прыляцелі ў Маскву: «У нас вялікія цяжкасці з самалётамі, таму што мы ў свой час мала клапаціліся пра транспартныя самалёты. [...] Транспартны флот яшчэ нездавальняючы, ён выкарыстоўваецца на франтах». Гл.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 18. 7 лістапада 1940 г. І. Сталін крытыкаваў у прамове перад сваімі самымі блізкімі паплечнікамі, што савецкі вайсковы паветраны транспарт слабы. Гл.: Dimitroff G. Tagebücher 1933—1943... S. 316 (запіс ад 7 лістапада 1940 г.).



Партызанскія дзеянні на акупаваных тэрыторыях маюць ізаляваны і спантанны характар, імі нельга кіраваць з Цэнтра. [...] Людзі з народу не могуць займацца такімі дыверсіямі, якія дасягнулі б аператыўнага эфекту. Яны не падрыхтаваныя да гэтага. Такія аперацыі могуць праводзіць толькі падрыхтаваныя, навучаныя дыверсанты. Для іх падрыхтоўкі і кіраўніцтва імі ўнутры МДБ [Міністэрства дзяржаўнай бяспекі] ёсць спецыяльнае ўпраўленне. Таму гэтыя задачы трэба перадаць начальніку ўпраўлення Судаплатаву[118].

Тут гаворка ідзе пра створаную 5 ліпеня 1941 г. спецгрупу НКУС СССР пад кіраўніцтвам Паўла Судаплатава, які падпарадкоўваўся непасрэдна народнаму камісару па ўнутраных справах Берыі[119]. Яе галоўнай задачай было арганізаваць на тэрыторыях, што мелі стратэгічнае значэнне для фронту (Беларусь, Украіна і балтыйскія дзяржавы), дыверсійную і разведвальную працу, а таксама партызанскі рух. У наступныя месяцы спецгрупа, якая займалася дыверсіямі і разведкай за мяжой, атрымала дадатковыя задачы і правы. 26 жніўня 1941 г. аператыўныя групы рэгіянальных органаў НКУС, што займаліся барацьбой з ворагам у памежных раёнах, былі перайменаваныя ў 4-я аддзелы і падпарадкаваныя спецгрупе на чале з Судаплатавым. 4-м аддзелам падпарадкаваліся, сярод іншага, знішчальныя батальёны[120]. 3 кастрычніка 1941 г. Берыя распусціў спецгрупу НКУС СССР і перафармаваў яе ў 2-гі аддзел НКУС СССР[121].

Сталін пагадзіўся з прапановай Берыі ад снежня 1941 г. 18 студзеня 1942 г. Берыя загадам № 145 распусціў 2-гі аддзел і замест яго заснаваў 4-е ўпраўленне НКУС СССР, якое ён паялічыў дадатковым персаналам. Начальнікам 4-га ўпраўлення ён і на гэты раз прызначыў Паўла Судаплатава. Задачы 4-га ўпраўлення НКУС СССР заключаліся ў правядзенні ў тыле ворага «спецыяльнай працы» і арганізацыі разбурэння прамысловых прадпрыемстваў ды іншых важных збудаванняў на тэрыторыях, якім пагражаў вораг[122]. Гэткім чынам 4-е ўпраўленне, сярод іншага, і надалей было адказным за партызанскі рух на акупаваных тэрыторыях, а таксама за ажыццяўленне сталінскай палітыкі «спаленай зямлі» пры адступленні Чырвонай Арміі[123].

Аднак з часу стварэння 4-га ўпраўлення ў студзені—чэрвені 1942 г. НКУС зрабіў даволі мала для таго, каб актывізаваць арганізацыю

[118] Вытрымка з дакладной запіскі Л. Берыі, якую П. Панамарэнка зрабіў ад рукі (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1. д. 29, л. 119). П. Панамарэнка мяркуе, што Л. Берыя напісаў гэтую дакладную ў снежні 1941 г.

[119] Загад НКУС СССР № 00882 ад 5 ліпеня 1941 г., надрукаваны ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 186.

[120] Гл. главу I, раздзел 7 («Знішчальныя батальёны»), с. 65—68.

[121] Загад НКУС СССР № 001435 ад 3 кастрычніка 1941 г., надрукаваны ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 163. Гл. таксама: Судоплатов П. А. Разные дни тайной войны и дипломатии. 1941 год. Москва, 2003. С. 253—263.

[122] Загад народнага камісара ўнутраных спраў СССР Л. Берыі № 00145 ад 18 студзеня 1942 г., надрукаваны ў: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 1. С. 40—41.

[123] Судоплатов П. А. Разные дни... С. 253—263. Аднак апошнюю задачу Павел Судаплатаў замоўчвае.

партызанскага руху і дыверсій на тэрыторыі Беларусі. У маі 1942 г. Лаўрэнцій Цанава, кіраўнік аператыўна-чэкісцкай групы БССР, дакладваў пра выкананую працу, якая была даручана яму 20 студзеня 1942 г. Пасля гэтага яго органы сфармавалі тры аператыўна-чэкісцкія групы з даручэннем арганізаваць і актывізаваць партызанскі рух ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі: адна група з 75 чалавек на чале з капітанам дзяржаўнай бяспекі Юрыным прыбыла для выканання задання ў Віцебскую вобласць, другая група з 81 чалавека — у Гомельскую і Магілёўскую вобласці, а трэцяя група з 9 чалавек — у Мінскую вобласць. Чацвёртая група, якая павінна была дзейнічаць у Палескай вобласці, была распушчана з-за «распуцці», што зрабіла немагчымым пераход у зону дзеяння ў[124].

Акрамя таго, Цанава даў распараджэнне сфармаваць шэсць партызанскіх атрадаў, якія былі адкамандзіраваныя ў раёны вакол Віцебска/Оршы/Смаленска (87 партызанаў), Полацка/Віцебска/Оршы/Лепеля (50 партызанаў), у Магілёўскую вобласць (50 партызанаў), у Віцебскую вобласць (два атрады па 130 і 25 партызанаў) і Гомельскую вобласць (29 партызанаў). У раён Багушэўска і Лёзна (Віцебская вобласць) былі адкамандзіраваныя арганізатары, што павінны былі на месцы арганізаваць партызанскія атрады. Гэтае ж заданне мелі і пасланыя партызанскія атрады, якія адначасова павінны былі патурбавацца пра тое, каб актывізаваць дзеянні ўжо наяўных атрадаў. У пачатку мая 1942 г. былі падрыхтаваныя дзве разведвальна-дыверсійныя групы па 14 байцоў і адна група са спецзаданнем, што павінны былі дзейнічаць у Мінскай вобласці[125].

За май і чэрвень 1942 г. органы НКУС планавалі сфармаваць 31 аператыўную групу з агулам 700 чалавек і заслаць іх у Беларусь[126]. Але гэтыя планы не ажыццявіліся, бо 31 мая 1942 г. быў утвораны Цэнтральны штаб партызанскага руху пад кіраўніцтвам Панамарэнкі, які атрымаў заданне цэнтралізаваць і развіць увесь партызанскі рух. Такім чынам, 4-е ўпраўленне НКУС і яго ўстановы (4-я аддзелы) пры рэгіянальных органах НКУС страцілі сваю адказнасць за партызанскі рух. Аднак заданне арганізоўваць дыверсійна-разведвальную працу на акупаваных тэрыторыях засталося. 1 чэрвеня 1942 г. Берыя выдаў дзеля гэтага наступны загад: «Ускласці на 4-е Упраўленне НКУС СССР і на 4-я аддзелы НКУС-УНКУС арганізацыю і кіраўніцтва агентурна-разведвальнай і дыверсійнай дзейнасцю ў тыле праціўніка»[127].

[124] Дакладная запіска кіраўніка аператыўна-чэкісцкай групы НКУС БССР Лаўрэнція Цанавы ў НКУС СССР пра арганізацыю і дзейнасць аператыўна-чэкісцкіх груп і партызанскіх атрадаў у Беларусі, 2 мая 1942 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 1. С. 393—397.

[125] Тамсама.

[126] Тамсама.

[127] Загад народнага камісара ўнутраных спраў СССР Л. Берыі № 001124 ад 1 чэрвеня 1942 г., надрукаваны ў: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 1. С. 519.



## 7. Знішчальныя батальёны

Паводле планаў НКУС і партыйных арганізацый, знішчальным батальёнам надавалася асаблівая роля. Органы НКУС і НКДБ стваралі гэтыя падраздзяленні ў першыя дні вайны ў памежных рэгіёнах. Іх байцы набіраліся галоўным чынам з партыйных і савецкіх актывістаў, але і з палітычна «надзейных» рабочых, служачых і — праўда, рэдка — калгаснікаў. Знішчальныя батальёны падпарадкоўваліся НКУС і мелі задачу «знішчаць» варожых дыверсантаў, сігнальшчыкаў і парашутыстаў; ахоўваць прамысловыя збудаванні, важныя ўстановы, масты і іншыя значныя вайсковыя аб'екты, аднак разбураць іх непасрэдна перад прыходам нямецкіх войскаў. Яны дапамагалі міліцыі і органам НКУС у падтрыманні «савецкага парадку» на тылавых тэрыторыях, г. зн. выкрывалі «антысавецкія элементы» і пераследавалі іх. Аднак знішчальныя батальёны змагаліся, і, відавочна, у першую чаргу, супраць сапраўдных і ўяўных дэзерціраў Чырвонай Арміі і адмаўленцаў ад вайсковай службы[128].

На 1 жніўня 1941 г., паводле ўнутраных дадзеных НКУС, мелася агулам 1 755 знішчальных батальёнаў з 328 450 чалавекамі, кожны атрад налічваў у сярэднім 187 байцоў[129]. Многія знішчальныя батальёны атрымалі загад пасля адступлення Чырвонай Арміі заставацца на месцах і пачынаць барацьбу супраць нямецкіх акупантаў[130]. Ва Украіне на 1 кастрычніка 1941 г., па дадзеных НКУС, дзейнічалі 139 знішчальных батальёнаў з агульнай колькасцю 25 188 байцоў. Іх таксама вучылі ў партызанскіх школах і рыхтавалі да таго, каб пасля прыходу немцаў ператварыцца ў партызанскія атрады[131]. Да 1 кастрычніка 1941 г. з 6 236 байцоў украінскіх знішчальных батальёнаў былі сфармаваныя

[128] Пастанова Палітбюро ЦК УсеКП(б) ад 24 чэрвеня 1941 г. аб мерапрыемствах па барацьбе з парашутнымі дэсантамі і дыверсантамі праціўніка ў прыфрантавой паласе, надрукаваная ў: З архівів ВУЧК—ГПУ—НКВД—КГБ. Київ, 2000. № 1 (12). С. 35 і наст.; таксама ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 64—65; дакладная запіска НКУС УССР № 40/378 у ЦК КП(б)Б Украіны ад 6 кастрычніка 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 173—182. Напрыклад, знішчальныя батальёны і НКУС арыштавалі ў Кіеўскай вобласці за перыяд з 22 да 24 ліпеня 1941 г. толькі 4-х варожых лётчыкаў, затое 211 чалавек былі арыштаваныя за контррэвалюцыйную агітацыю, затрыманыя былі таксама 1392 «дэзерціры», з якіх 4 былі забітыя. Гл.: Справаздача капітана дзяржаўнай бяспекі Чараваценкі пра дзейнасць знішчальных батальёнаў і НКУС Кіеўскай вобласці за перыяд з 22 да 24 ліпеня 1942 г., 25 ліпеня 1972 г. (Центральний державний архів громадських об'єднань України (ЦДАГОУ). Ф. 62, оп. 8, спр. 58, арк. 37—42).

[129] Даклад пра стан і дзейнасць знішчальных батальёнаў у перыяд з 25 чэрвеня 1941 г. да 15 лютага 1944 г., 10 сакавіка 1944 г. (ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 276, л. 11).

[130] Дакладная запіска НКУС УССР № 40/378 у ЦК КП(б) Украіны ад 6 кастрычніка 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 173—182.

[131] Дакладная запіска НКУС УССР № 40/358 у штаб знішчальных батальёнаў НКУС СССР ад 4 кастрычніка 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 165—170.

стварыць аснову будучага партызанскага руху. Але гэта не атрымалася, бо не існавала сувязі паміж самімі батальёнамі і цэнтрам. Сюды ж дадаліся «панікёрства і тэндэнцыя таварышаў адступаць з войскамі Чырвонай Арміі»[143].

7 ліпеня 1941 г. у Суражскім раёне з'явіўся знішчальны батальён, які павінен быў весці партызанскую барацьбу пасля нямецкай акупацыі, што пачалася 12 ліпеня. У лясы на самай справе пайшла толькі адна група ў 12 чалавек, якая і распалася праз некалькі тыдняў. Некаторыя яе члены прабіліся на савецкі бок, іншыя дэзерціравалі, а астатнія засталіся працаваць у калгасах[144]. У верасні 1941 г. у раёне з'явіліся яшчэ некалькі партызанскіх груп і атрадаў, якія, праўда, складаліся пераважна з адзіночных чырвонаармейцаў, афіцэраў і паліткамісараў, што адбіліся ад сваіх часцей[145].

## 8. Чырвоная Армія і партызанскі рух

Чырвоная Армія ў 1941 г. не вельмі вызначылася ў арганізацыі партызанскага руху на беларускай тэрыторыі. Занадта хутка гэтыя вобласці былі страчаныя, і ў шэрагах Чырвонай Арміі занадта вялікімі былі паніка і хаос. У гэты час вайсковае кіраўніцтва ў першую чаргу намагалася стрымаць распад Чырвонай Арміі і вярнуць кантроль над войскамі.

Аднак савецкае Вярхоўнае камандаванне неўзабаве зразумела, якую ролю маглі б адыграць партызанская барацьба і дыверсіі ў нямецка-савецкай вайне. У адной дырэктыве ад 15 ліпеня 1941 г. начальнік Генштаба Чырвонай Арміі генерал Жукаў рэкамендаваў задзейнічаць для рэйдаў у варожым тыле кавалерыйскія атрады:

> Цяперашняе становішча на франтах такое, што тыл праціўніка працягваецца на сотні кіламетраў, не маючы забяспечанай засцярогі ад шырокамаштабных дыверсій з нашага боку. Пры такіх абставінах у расцягнутым тыле праціўніка вырашальную ролю маглі б адыгрываць рэйды чырвоных коннікаў. Яны маглі б дэзарганізаваць камандаванне і забеспячэнне нямецкіх войскаў і такім чынам садзейнічаць іх знішчэнню. Калі нашыя кавалерыйскія падраздзяленні, якія цяпер разгульваюць на франтах і перад імі, пасланць у варожы тыл, гэта магло б прывесці праціўніка ў крытычнае становішча[146].

І вось 23 ліпеня 1941 г. 32-я і часткі 43-й і 47-й кавалерыйскіх дывізій атрымалі загад пратачыцца праз лінію фронту і дэзарганізаваць

[143] Партызанскі рух у Суражскім раёне да 10 верасня 1942 г., брыгада Шмырова, [верасень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 62 і наст.).
[144] Стэнаграма размовы з Данілам Райцавым, 30 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 92—97).
[145] Партызанскі рух у Суражскім раёне да 10 верасня 1942 г., брыгада Шмырова, [верасень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 62 і наст.).
[146] Дырэктыва Стаўкі № 1 ад 15 ліпеня 1941 г., падпісаная Г. Жукавым (ЦАМО РФ. Ф. 48А, оп. 1554, д. 16, л. 40 і наст.).



нямецкія тылавыя тэрыторыі, у прыватнасці шляхі забеспячэння на ўсход ад Мінска. Аднак аперацыя пацярпела няўдачу. На працягу двух тыдняў нямецкія падраздзяленні разбілі савецкую кавалерыю, не даўшы ёй нанесці сур'ёзную шкоду нямецкім тылавым тэрыторыям і шляхам забеспячэння[147].

Уласна партызанскім рухам ваенныя арганізацыі спачатку не займаліся. Толькі 16 ліпеня 1941 г. начальнік Галоўнага палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі Леў Мехліс прадпісаў усім падпарадкаваным яму ўстановам з боку партыйных органаў ва ўсіх адносінах падтрымліваць фармаванне партызанскіх атрадаў і дыверсійных груп[148]. Гэты загад пацвярджае другарадную ролю арміі пры стварэнні партызанскіх атрадаў летам 1941 г.

Здаецца, выключэннем тут быў Паўночна-Заходні фронт[149]. Начальнік палітычнага ўпраўлення Паўночна-Заходняга фронту брыгадны камісар Рабчы ў пачатку ліпеня 1941 г. загадаў утварыць спецыяльны аддзел (10-ы аддзел) з задачай арганізаваць партызанскі рух

[147] 21 ліпеня 1941 г. Г. Жукаў перадаў камандуючаму кавалерыі Чырвонай Арміі генерал-палкоўніку Аку Гарадавікову загад І. Сталіна задзейнічаць падраздзяленні кавалерыйскай дывізіі ў варожым тыле. Яны павінны былі перайсці лінію фронту на ўсход ад Бабруйска і дзейнічаць галоўным чынам на камунікацыйных лініях паміж Магілёвам і Оршай, прычым варта было пазбягаць баёў з буйнымі нямецкімі падраздзяленнямі. Гл.: Пратакол тэлефоннай размовы паміж Г. Жукавым і А. Гарадавіковым ад 21 ліпеня 1941 г. (2:50—3:50 гадзін) (РГАСПИ. Ф. 588, оп. 11, д. 482, л. 8 і наст.). 26 ліпеня 1941 г. генерал Максімільян фон Шэнкендорф, камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», далажыў пра «кавалерыю ворага, якая, маючы шмат падрыўной амуніцыі, перайшла шашу 1 з паўднёвага напрамку і сур'ёзна пагражае тылавой сувязі галоўнага камандавання 2-й арміі. Былі [...] захопленыя Сіманавічы, і вораг адкінуты назад з поўдня праз Глуск. Шаша свабодная, становішча выпраўлена і ахова гарантаваная» (BA-MA. RH 22/226, Bl. 17). 29 ліпеня 1941 г. генерал М. фон Шэнкендорф дакладваў групе армій «Цэнтр»: «Акрамя кавалерыі пад Асіповічамі, пра якую дакладвалася ў прамежкавых паведамленнях, варожыя падраздзяленні прасоўваюцца з паўднёвага ўсходу ў лясны масіў на поўнач ад Пасекі» (BA-MA. RH 22/226, Bl. 20). На парадку дня камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» 3 жніўня 1941 г. стаяла тое, што «162-я пяхотная дывізія ў зацятым баі пацясніла варожую кавалерыю, якая ўпарта абараняецца. [...] Вораг панёс крывавыя страты, страціў 100 палонных, некалькі коней і 5 гармат. [...] Палонныя 86-га кавалерыйскага палка 32-й кавалерыйскай дывізіі» (BA-MA. RH 22/226, Bl. 25). У наступныя дні прыйшлі паведамленні пра іншыя разбітыя падраздзяленні савецкай кавалерыі пад Асіповічамі, пра шматлікіх ваеннапалонных, трафеі (коні, гарматы), адначасова з гэтым і пра адносна малыя страты немцаў. Пра сур'ёзныя пашкоджанні нямецкіх ліній папаўнення фронту ў гэты час і ў гэтай мясцовасці немцы не паведамлялі. Гл.: BA-MA. RH 22/226, а таксама параўн. апісанне гэтых баёў, якое гераізуе савецкую кавалерыю: Иринархов Р. С. Западный особый... С. 618 і наст., 624—627.
[148] Загад Льва Мехліса членам Ваенных саветаў на франтах і начальнікам палітычных упраўленняў франтоў, 16 ліпеня 1941 г. (копія ва ўласнасці аўтара).
[149] Гэта нядаўна пацвердзіў англійскі даследчык Аляксандр Хіл. Гл.: Hill A. The Warbehind the Eastern Front: The Soviet Partisan Movement in North-West Russia, 1941—1944. London, 2005. S. 73—79.

на ўласным адрэзку фронту і кіраваць ім. Кіраўнік аддзела Асмолаў падкрэсліваў неабходнасць адзінага кіраўніцтва партызанскім рухам і адначасова скардзіўся, што разведвальны аддзел Паўночна-Заходняга фронту хоча прысвоіць сабе камандаванне партызанскім рухам. Асмолаў рашуча выказаўся супраць гэтага. Ён аперыраваў аргументам, што партызанскі рух трэба разгортваць як масавы рух і таму ім трэба кіраваць і палітычна, тым больш што разведвальны аддзел у першую чаргу зацікаўлены ў аператыўнай разведцы, а таксама ў разведцы праз агентуру[150].

Відавочна, на аснове вопыту на Паўночна-Заходнім фронце Леў Мехліс 19 жніўня 1941 г. загадаў утварыць пры палітычных упраўленнях асобных франтоў аддзелы, якія б займаліся партыйна-палітычнай працай сярод насельніцтва і часцей Чырвонай Арміі, што засталіся на акупаваных тэрыторыях. Ім даручалася, сярод іншага, арганізоўваць партызанскі рух і кіраваць ім[151]. Гэтыя аддзелы былі паступова ўтвораныя ў наступныя месяцы[152].

Нягледзячы на гэтыя меры, вайсковыя ўстановы і надалей адыгрывалі другарадную ролю ў разгортванні партызанскага руху і дыверсій. У канцы верасня 1941 г. Панамарэнка ў дакладной Сталіну пісаў:

> Франты і арміі не праводзяць шырокамаштабных дыверсій. Разведвальныя ўпраўленні (*разведупры*) і *асобыя аддзелы* пасылаюць дыверсантаў, колькасць якіх не вартая гаворкі. Гэтыя людзі, калі іх разглядаць паасобку, працуюць нядрэнна, аднак разам іх дзейнасць не мае аператыўнага значэння[153].

Што тычыцца беларускай тэрыторыі, то да 1943 г., калі войскі Чырвонай Арміі адваявалі першыя беларускія вобласці, змянілася мала — за выключэннем паўночна-ўсходніх раёнаў вакол Віцебска, пра што

[150] Даклад начальніка 10-га аддзела Паўночна-Заходняга фронту капітана дзяржбяспекі Асмолава ад 12 ліпеня 1941 г. (ЦАМО РФ. Ф. 221, оп. 4896, д. 6, л. 249 і наст.). Начальнік палітычнага ўпраўлення Паўночна-Заходняга фронту брыгадны камісар Рабчы напісаў 15 ліпеня 1941 г. на аснове даклада Асмолава свой даклад начальніку Галоўнага палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі Л. Мехлісу. Дакумент трапіў у рукі немцаў, калі самалёт-кур'ер 16 ліпеня вымушаны быў прызямліцца на тэрыторыі, акупаванай імі. Даклад быў перакладзены на нямецкую мову, бо ён утрымліваў інфармацыю пра колькасць і асабовы склад партызанскіх атрадаў, іх узбраенне і падпарадкаванне. У 1942 г. гэты варыянт, перакладзены на нямецкую мову, трапіў зноў у савецкія рукі і быў зноў перакладзены на рускую мову. Гл.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1. д. 818, л. 177 і наст.

[151] Дырэктыва начальніка Галоўнага палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі камісара арміі 1-га ранга Л. Мехліса ад 19 жніўня 1941 г., надрукаваная ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 23 і наст.

[152] Параўн. на гэты конт некаторыя тагачасныя дакументы, надрукаваныя ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 93—110.

[153] Дакладная запіска П. Панамарэнкі І. Сталіну пра стан і пытанне дыверсій ад 26 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 69, л. 51 і наст.).



яшчэ будзе гаворка. Галоўнае разведвальнае ўпраўленне (ГРУ) усё ж паслала ў акупаваную Беларусь невялікія дыверсійна-разведвальныя групы. А на іншых тэрыторыях, наадварот, ваенныя арганізацыі з восені 1941 г. выявілі значна больш ініцыятывы адносна партызанскага руху, праўда, выключна ў прыфрантавых раёнах адпаведных участкаў фронту. Яны стваралі партызанскія атрады, вызначалі ім месцы дзеянняў, ставілі канкрэтныя задачы і забяспечвалі іх, праўда, часцей за ўсё недастаткова, прадуктамі харчавання, зброяй, амуніцыяй і выбухоўкай[154].

Але гэта не значыць, што байцы і камандзіры Чырвонай Арміі адыгрывалі падпарадкаваную ролю ў беларускім партызанскім руху. Наадварот, адзіночныя байцы і камандзіры, якія адбіліся ад сваіх часцей, гэтак званыя *акружэнцы*, а таксама збеглыя ці адпушчаныя ваеннапалонныя з вясны 1942 г. з'явіліся нават касцяком савецкага партызанскага руху ў Беларусі.

## 9. Байцы і камандзіры, якія адбіліся ад сваіх часцей, і партызанскі рух у 1941 г.

Летам 1941 г. на беларускай тэрыторыі, як і ў іншых раёнах, спантанна з'явіліся шматлікія групы і атрады, што складаліся з камандзіраў і байцоў Чырвонай Арміі, якія адбіліся ад сваіх часцей, і часткова з савецкіх актывістаў, што былі адсечаныя вермахтам. Толькі асобныя з іх зноў уключыліся ў барацьбу, цяпер ужо як партызаны. У большасці ж гаворка ішла пра ўласна групы выжывання: яны арганізаваліся, каб пазбегнуць нямецкага пераследу, і ў першыя месяцы, як правіла, не праводзілі ваенных аперацый.

Толькі з вясны 1942 г. многія з гэтых груп ператварыліся ў партызанскія групы і атрады, што распачалі ўзброеную барацьбу. Іншыя ж, са свайго боку, вырадзіліся ў звычайныя крымінальныя банды, якія наводзілі жах на мясцовае насельніцтва. Даволі часта гэтыя межы былі няпэўнымі. Згаданы вышэй палкоўнік Нічыпаровіч у кастрычніку 1942 г. напісаў дакладную пра партызанскі рух у Беларусі, адрасаваную маршалу Варашылаву. Нічыпаровіч у ёй сярод іншага канстатаваў:

> У варожым тыле засталася вялікая колькасць байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі. Іх лепшая частка працягнула сваю барацьбу супраць нямецкіх акупантаў, перайшоўшы да партызанскіх дзеянняў. [...] Большасць партызанскіх атрадаў [у БССР] арганізавалася спантанна [з камандзіраў і байцоў, што адбіліся ад сваіх часцей] без кіраўніцтва партызанскім падполлем[155].

[154] Параўн. на гэты конт шматлікія тагачасныя дакументы, надрукаваныя ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 93—110, 228—260, 424—432, 592—602.

[155] Дакладная запіска палкоўніка У. Нічыпаровіча маршалу К. Варашылаву пра рэарганізацыю партызанскага руху ў БССР ад 29 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 136—139).

Нічыпаровіч 22 чэрвеня 1941 г. камандаваў 208-й матарызаванай дывізіяй, якая была разбітая ў першыя тыдні вайны на захад ад Мінска. Пасля гэтага Нічыпаровіч сабраў вакол сябе неарганізаваную групу камандзіраў, што адбіліся ад сваіх часцей і хаваліся ў Мінску і ў наваколлі[156]. На мяжы 1941—1942 гг. яны далучыліся да партызанскага атрада, які дзейнічаў у мясцовасці вакол Узды (на поўдзень ад Мінска). Атрад з'явіўся ў снежні 1941 г. пасля аб'яднання дзвюх груп, што таксама складаліся ў асноўным з камандзіраў і чырвонаармейцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей. Камандаванне новым атрадам, што цяпер называўся 208-м партызанскім атрадам імя І. В. Сталіна, узяў на сябе Нічыпаровіч. Са студзеня 1942 г. атрад пачаў хутка расці[157].

Капітан Пётр Сергін быў камандзірам у штабе 204-й механізаванай дывізіі 3-й арміі, якая да 22 чэрвеня 1941 г. размяшчалася ў Ваўкавыску. Летам 1941 г. ягоная дывізія была знішчаная, і ён, як і шмат іншых, трапіў у кацёл на ўсход ад Мінска. Праз год ён дакладваў:

> Людзі, якія засталіся ў акружэнні, блукалі ў лясах. Але неўзабаве яны прыйшлі да высновы, што гэтае блуканне нічога ім не дасць, і вырашылі арганізаваць атрад, каб нешта зрабіць, у прыватнасці супраць мясцовай паліцыі, якая была даволі шматлікай. [...] Спачатку група занялася здабычай зброі. [...] Савецкая зброя валялася ў лясах[158].

Група першапачаткова складалася з дзевяці чалавек і размяшчалася паблізу вёскі Кандратавічы Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Першыя ваенныя аперацыі група правяла толькі вясной 1942 г. супраць «паліцаяў і здраднікаў». Яна неўзабаве перарасла ў атрад з 322 партызанаў, які атрымаў назву «Мсцівец»[159].

У кастрычніку 1941 г. у Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці ўтварылася партызанская група з сямі чалавек, што да канца 1941 г. перарасла ў атрад з прыблізна 40 чалавек. З вясны 1942 г. атрад пасылаў арганізацыйныя групы ў некалькі суседніх раёнаў (Веткаўскі, Кармянскі, Святлавіцкі), у якіх на гэты час не было партызанскіх атрадаў[160].

[156] Даклад палкоўніка У. Нічыпаровіча Ваеннаму савету Заходняга фронту ад 2 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 21—26); падрабязней гл. главу II, раздзел 1 («Палкоўнік Уладзімір Нічыпаровіч і 208-ы партызанскі атрад імя Сталіна»).

[157] Дакладная запіска начальніка 3-га аддзялення 208-га партызанскага атрада імя Сталіна Рыгора Гінзбурга ў Асобы аддзел НКУС Заходняга фронту аб баявой дзейнасці і агентурным забеспячэнні атрада (па стане на 20 ліпеня 1942 г.) (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 21—26). Надрукаваны ў: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 2. С. 58—60.

[158] Пратакол размовы, у тым ліку з капітанам Сергіным, начальнікам штаба партызанскага атрада «Мсцівец», ад 21 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 148—173).

[159] Тамсама.

[160] Справаздача пра дзейнасць 1-й Гомельскай партызанскай брыгады за перыяд з кастрычніка 1941 г. да 2 кастрычніка 1943 г., 20 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 159, л. 107—116).



У жніўні 1941 г. у Клічаўскім раёне Магілёўскай вобласці некалькі чырвонаармейцаў, што адбіліся ад сваіх часцей, і мясцовых «ваеннаабавязаных» аб'ядналіся ў партызанскую групу з 12 чалавек. Сваю першую аперацыю яны правялі, паводле іх дадзеных, толькі вясной 1942 г.[161]. У Лагойскім і Плешчаніцкім раёнах (Мінская вобласць) у верасні 1941 г. з чырвонаармейцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей, і мясцовых камуністаў утварыліся тры партызанскія атрады, што ў красавіку 1942 г. аб'ядналіся ў атрад «Барацьба». Пра ваенныя аперацыі асобных груп да красавіка 1942 г. не маецца дадзеных[162].

Цімафей Ермаковіч, старшыня аднаго з калгасаў у Чашніцкім раёне Віцебскай вобласці, у жніўні 1941 г. арганізаваў з адзіночных чырвонаармейцаў, якія працавалі ў яго калгасе, партызанскі атрад з 25 чалавек. Спачатку яны былі ўзброеныя трыма вінтоўкамі і адным пісталетам. У жніўні група правяла некалькі ваенных аперацый, галоўным чынам па разбурэнні мастоў, аднак ужо ў пачатку верасня нямецкая каманда разбіла атрад. Шмат партызанаў загінула, некаторыя былі арыштаваны. Засталіся 12 чалавек, якія далучыліся да атрада Рыгора Лінькова[163].

Атрад Лінькова быў утвораны таксама ў жніўні 1941 г. і налічваў першапачаткова звыш 100 чалавек. У баі з нямецкай камандай у канцы жніўня 28 партызанаў загінулі, астатнія разбегліся. Частка прапала без вестак, адна група прабілася на савецкі бок. З Ліньковым засталася група з 60 партызанаў, якая да сакавіка 1942 г. не мела сувязі з савецкім тылам і, паводле ўласных дадзеных, правяла толькі некалькі аперацый, у першую чаргу супраць паліцэйскіх[164].

Мікалай Такіеў летам 1941 г. трапіў у палон, з якога ён, паводле ўласных дадзеных, змог уцячы ў жніўні 1941 г. Ён пасяліўся ў вёсцы Чарнава Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці як «прымпіснік». Гэта былі палонныя, што былі выпушчаныя з палону і знаходзіліся ў пэўным месцы, абавязаныя там працаваць. Гэтая акалічнасць сведчыць пра тое, што Такіеў у сапраўднасці быў адпушчаны з палону. У сакавіку 1942 г. Такіеў з адзіночных байцоў, якія таксама жылі ў навакольных вёсках, арганізаваў групу пад сваім камандаваннем, што разам пайшла ў лясы[165].

Падобных прыкладаў груп і атрадаў, якія спантанна фармаваліся ў 1941 г. і вясной 1942 г., можна прывесці шмат для ўсіх абласцей Беларусі[166]. Але большасць такіх груп, асабліва тых, што распачалі ўзброеную барацьб-

[161] Справаздача камандзіра 14-й партызанскай брыгады Ялецкага ад 28 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 159, л. 144—172).

[162] Паведамленне пра брыгаду «Дзядзькі Васі» ад 5 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 163, л. 31).

[163] Даклад аб партызанскіх атрадах у Мінскай вобласці і назіранні на тэрыторыі вобласці, напісаны Цімафеем Ермаковічам, 29 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 142, л. 67—73; д. 1081, л. 55—58).

[164] Тамсама.

[165] Пратакол размовы з Мікалаем Такіевым, начальнікам штаба атрада «Знамя» Мінскай вобласці, 27 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 79—82 об.).

[166] Шматлікія прыклады па Баранавіцкай вобласці і Заходняй Беларусі ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 33 і наст., 43—53.

бу летам альбо восенню 1941 г., праіснавала нядоўга. Яны былі разбітыя ці разагнаныя познім летам і ўвосень 1941 г. ды зімой 1941/42 гг. нямецкімі камандамі ці дапаможнай паліцыяй, утворанай нямецкімі акупантамі. Вось некалькі прыкладаў, якія гавораць за многія іншыя.

Летам 1941 г. у лесе каля вёскі Мораўшчына, каля 20 км на захад ад Мінска, знайшла прытулак група з шасці мужчын (камандзіраў) і дзвюх жанчын, што былі ўзброены. Прадукты харчавання яны здабывалі сабе ў бліжнім калгасе. Якіх-небудзь ваенных аперацый яны не праводзілі. Адзін з калгаснікаў у іх прысутнасці пакпіў з Савецкага Саюза і высмяяў яго. Пасля гэтага яны прыгразілі яму: «Ты дрэнна скончыш!» Селянін напалохаўся, заявіў пра групу немцам. Нямецкая каманда застала групу ў адрыне. Група не захацела здавацца, і немцы падпалілі адрыну. Мужчыны і адна жанчына нарэшце здаліся, другую жанчыну яны да гэтага застрэлілі[167].

У пачатку верасня 1941 г. група байцоў і камандзіраў, якія адбіліся ад сваіх часцей, разбіла ў Ігнатоўскім лесе лагер, сярод балота і лесу, прыкладна за 15 км на паўночны ўсход ад Асіповічаў, і пачала яго абсталёўваць. Да 9 верасня група правяла ўжо чатыры аперацыі. Сярод іншага, яна з дзевяццю чалавекамі напала з засады каля Ліпеня на транспарт з амуніцыяй на 17 машынах (15 км на паўночны ўсход ад Асіповічаў). Пры гэтым дзве машыны былі знішчаныя і адна пашкоджана, астатнія аўтамабілі змаглі ўцячы. Усяго партызаны застрэлілі восем немцаў, а самі страт не панеслі. Спаліць мост на рацэ Свіслач каля Вяззя, за 4 км на ўсход ад Асіповічаў, ім, аднак, не пашанцавала, таму што не падаспела своечасова выбухоўка[168].

Нямецкі 692-гі пяхотны полк, які ў верасні 1941 г. «уціхамірваў» мясцовасць вакол Асіповічаў, атрымліваў «амаль рэгулярна паведамленні пра рабаўніцтвы жывёлы, прадуктаў харчавання ўсіх відаў, вопраткі і прадметаў хатняга ўжытку, нават абцугі, цвікі, дровы і г. д.» у вёсках, што знаходзіліся ў лясной мясцовасці за 10—20 км на поўнач ад Асіповічаў. У дакладзе палка гаворыцца: «На аснове […] паведамленняў гаворка, пэўна, ідзе пра вялікую партызанскую банду, прытулак якой, мусіць, знаходзіцца на востраве сярод балота за 3 км на паўночны захад ад Ігнатоўкі»[169]. 18 верасня часці 692-га пяхотнага палка рушылі на «ачыстку названага партызанскага гнязда на поўнач ад вёскі Ігнатоўка»[170].

Праз два дні 221-я ахоўная дывізія, у якую ўваходзіў 692-гі полк, дакладвала:

> Пях. 692-гі полк 20.9 з самага ранку […] пачаў маштабную ачыстку лесу і балота вакол Ігнатоўкі […]. Партызаны абараняліся на непраходнай, непраглядннай мясцовасці пры дапамозе гранатамётаў, кулямётаў і вінтовак. За час паўторных баёў былі панесеныя наступныя страты: 1 забіты, 3 параненыя (у тым ліку 1 афіцэр). Аперацыя яшчэ працягваецца[171].

[167] Інтэрв'ю аўтара з Паўлам Васільевічам Д., узятае 7 ліпеня 2004 г. у Мінску.
[168] Трафейны дзённік «групы партызанаў» (запіс ад 9 верасня 1941 г. у нямецкім перакладзе) (BA-MA. RH 26-221/21, Bl. 332 і наст.).
[169] Папярэдняе паведамленне афіцэра Ia 692-га пяхотнага палка аб правядзенні 20 верасня 1941 г. акцыі па зачыстцы ў ваколіцах Ігнатоўкі, 21 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/21, Bl. 332—333).
[170] Дзённая зводка афіцэра Ia 221-й ахоўнай дывізіі ад 18 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/19, Bl. 185 і наст.).



На наступны дзень 221-я дывізія паведамляла пра ход «аперацыі»:

> Завадатар банды (капітан) ~~трапіў паранены ў палон і~~ [sic] быў застрэлены. Акрамя таго, былі застрэленыя 1 рускі лейтэнант, 1 камісар і 1 партызан, а 46 падазраваных у сувязі з партызанамі затрыманыя. Са зброі і амуніцыі былі захопленыя: 2 цяжкія кулямёты, 2 лёгкія кулямёты, 4 вінтоўкі, 3 000 патронаў да кулямётаў, вінтовак і пісталетаў, 1 прыбор для сувязі, ручныя гранаты і снарады да гранатамёта. Аперацыя яшчэ не закончаная[172].

У сапраўднасці ж, аднак, пры нападзенні на лагер толькі завадатар «банды», капітан, быў паранены ў нагу, а потым застрэлены. Пры гэтым немцам у рукі трапіў яго дзённік з дадзенымі пра — як яны назвалі яго — «любімчыкаў і сяброў партызанаў». Астатнія партызаны ўцяклі. Што тычыцца іншых застрэленых, то гаворка ідзе пра людзей, якія былі затрыманыя яшчэ да нападу на партызанскі лагер. Перад аперацыяй на самай справе падраздзяленні-ўдзельнікі акружылі вёскі гэтай мясцовасці вакол Ігнатоўскага лесу і прачасалі іх. Сярод застрэленых аказаўся «яўрэй», які нібыта «садзейнічаў партызанам», а пазней у дакладзе дывізіі быў аб'яўлены застрэленым «партызанам». Да партызанскага лагера прывялі каманду адзін «фольксдойчэ» і адзін «рускі»[173].

Яшчэ адным прыкладам з'яўляецца паведамленне 221-й ахоўнай дывізіі ад 4 кастрычніка 1941 г.

> Пры [адной] ачыстцы ў раёне на поўнач ад чыгункі Чавусы — Крычаў батальёнам па барацьбе з партызанамі [было] знойдзена партызанскае гняздо і застрэлена 11 партызанаў (у тым ліку 1 рус. афіцэр). Былі захопленыя 36 рус. салдат, якія адбіліся ад сваіх часцей. Аперацыя па ачыстцы будзе працягнута ў названым раёне 5.10.41 г.[174].

Падобныя тагачасныя нямецкія даклады і паведамленні пра аперацыі супраць «партызанскіх бандаў», «партызанскіх гнёздаў», «сховішчаў», схованак і г. д. знаходзяцца ў вельмі вялікай колькасці ў адпаведных дакументацыях[175].

[171] Дзённая зводка афіцэра Ia 221-й ахоўнай дывізіі ад 20 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/19, Bl. 187).
[172] Дзённая зводка афіцэра Ia 221-й ахоўнай дывізіі ад 21 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/19, Bl. 189). Закрэслена ў арыгінале.
[173] Папярэдняе паведамленне афіцэра Ia 692-га пяхотнага палка пра правядзенне 20 верасня 1941 г. акцыі па зачыстцы ў ваколіцах Ігнатоўкі, 21 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/21, Bl. 332—333).
[174] Дзённая зводка афіцэра Ia 221-й ахоўнай дывізіі ад 4 кастрычніка 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/21, Bl. 201).
[175] Параўн., напрыклад, дзённыя зводкі 221-й ахоўнай дывізіі за 1941 г. пра «пацыфікацыйныя акцыі» ў зоне Мінск — Магілёў — Гомель (BA-MA. RH 26-221/19),

Вельмі частыя дадзеныя пра затрыманых ці застрэленых салдат і афіцэраў сведчаць пра тое, што пры гэтым часта, калі не ў большасці, гаворка ішла пра спантанна сфармаваныя групы з чырвонаармейцаў і афіцэраў, якія адбіліся ад сваіх часцей.

Сапраўды, летам і восенню 1941 г. гэта было ў Беларусі масавым феноменам. Адны імкнуліся прабіцца малымі групамі праз лінію фронту. У адным нямецкім дакладзе з кастрычніка 1941 г. гаворыцца: «Гэтыя групы часта блукаюць, здаецца, што ёсць імкненне прабіцца на ўсход да баявых часцей. Знойдзеныя пры іх карты былі недакладныя. [...] Затрыманыя нічога не ведалі пра становішча на вайне»[176]. Іншыя, як, напрыклад, група з Ігнатоўскага лесу, вырашылі пачаць партызанскую вайну на месцы.

Але і няма сумнення, што большасць чырвонаармейцаў і камандзіраў, што адбіліся ад сваіх часцей, як і збеглыя ваеннапалонныя ў 1941 г., увогуле не думалі пра партызанскую барацьбу. Яны шукалі прытулак у аддаленых вёсках, малых мястэчках і калгасах, дзе яны зараблялі сабе на хлеб на зямлі. Яны спачатку не ўяўлялі сабой для нямецкіх акупантаў ніякай непасрэднай небяспекі. Ва ўсякім разе, яны імкнуліся пазбегнуць нямецкага палону і нярэдка аказвалі супраціў, калі іх затрымлівалі нямецкія каманды ці мясцовыя паліцэйскія. У адным паведамленні за верасень 1941 г. пра становішча ў раёне Віцебска гаворыцца:

> Партызанскі рух [...] атрымаў вялікі штуршок ад таго, што адзіночныя чырвонаармейцы, якія працуюць у калгасах, праз трохразовы выклік на рэгістрацыю з пагрозай смяротнай кары і наступныя арышты пабеглі ў лес да партызанаў[177].

Прычыны гэтага відавочныя. Па-першае, хутка распаўсюдзілася вестка пра трагічны лёс савецкіх байцоў і камандзіраў у нямецкім палоне. У першыя месяцы вайны сотні тысяч палонных памерлі ад голаду, страты сіл і хвароб, тысячы былі застрэленыя, асабліва паліткамісары, яўрэі і камуністы[178]. Уцёкі з палону былі адным з нямногіх шанцаў вы-

шматлікія паведамленні ад падраздзяленняў і палявой камендатуры з той жа самай зоны, падпарадкаваных 221-й ахоўнай дывізіі (BA-MA. RH 26-221/21), месячныя справаздачы камандуючага войскамі ў Беларусі за кастрычнік і лістапад 1941 г. (BA-MA. RH 26-707/2).

176 Даклад пра вопыт барацьбы з партызанамі 45-га «тутэйшага ахоўнага палка» ад 8 кастрычніка 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/226, 3 Bl., без нумарацыі аркушаў).

177 Паведамленне афіцэра абвера (Ic) дулага 112, 25 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 23/227, без нумарацыі аркушаў).

178 У адной справаздачы ад 23 лістапада 1941 г. аб аперацыях у Смаленску (BA-MA. RH 22/225, Bl. 194—198) сярод іншага напісана: «Усе палонныя *пасля баявых акружэнняў пад Бранскам і Вязьмай паступаюць такімі згаладнелымі, што харчовых пайкоў недастаткова, каб уратаваць іх ад смерці*. Ва ўсіх лагерах тое ж самае! *Смяротнасць кожны дзень 0,6—2,2 %*. Каб высветліць, *ці ёсць тут недагляд*, варты абвінавачвання, я распарадзіўся правесці ў Вязьме *вайскова-судовае расследаванне*». Вылучана ў арыгінале. Падрабязней пра гэта гл.: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 788—813; Arnold K. J. Die Wehrmacht... S. 384—397.



жыць. І тысячам гэта ўдалося, асабліва ў першыя месяцы палону, бо вермахт меў мала ахоўных камандаў адносна празмернай колькасці ваеннапалонных. Катастрафічныя ўмовы на зборных пунктах і ў лагерах для палонных, жорсткасць ахоўнікаў, але і іх недахоп, якраз падштурхоўвалі да спроб уцячы[179].

Па-другое, у пачатку вайны камандзіры і паліткамісары Чырвонай Арміі ўнушалі сваім салдатам, што немцы вельмі жорстка абыходзяцца з савецкімі ваеннапалоннымі[180]. Ды і сталінскі сумнавядомы загад № 270 ад 16 жніўня 1941 г. мог паўплываць на такія паводзіны. У ім Сталін заявіў пра самыя жорсткія рэпрэсіі супраць усіх, хто здасца ворагу, — у тым ліку іх сем'яў. Гэты загад мусіў быць аб'яўлены ва ўсіх часцях[181]. Да нас дайшло, што паліткамісары і афіцэры сапраўды так дзейнічалі[182]. Але гэта, мусіць, для чырвонаармейцаў на беларускай тэрыторыі не адыгрывала ніякай ролі, бо іх часці былі разгромленыя яшчэ ў пачатку ліпеня 1941 г.

Нельга недаацэньваць і савецка-патрыятычную ды ідэалагічную матывацыю, як, напрыклад, у згаданай вышэй групы ў Ігнатоўскім лесе. 11 верасня 1941 г. кіраўнік групы, што мела радыёстанцыю, запісаў у сваім дзённіку: «Вялікая радасць апанавала групу, калі яна пачула знаёмы голас Масквы»[183]. Адной з задач, якую паставіла група перад сабой, было распаўсюджванне прасавецкай прапаганды ў навакольных мясцовасцях. І ў палкоўніка Уладзіміра Нічыпаровіча ідэалагічная матывацыя, відаць, адыгрывала вырашальную ролю. Ён яшчэ ў Грамадзянскую вайну змагаўся за бальшавікоў і быў з 1928 г. членам партыі[184]. У красавіку 1942 г. ён абвясціў пра ўсталяванне ў Клічаўскім раёне Магілёўскай вобласці, што быў пад пераважным кантролем ягонага 208-га партызанскага атрада імя І. В. Сталіна, савецкай улады[185].

179 Падрабязней гл.: Arnold K. J. Die Wehrmacht... S. 340—377.

180 «Konterrevolutionäre Elemente sind zu erschießen»... S. 225 і наст.

181 Загад Стаўкі № 270 ад 16 жніўня 1941 г., надрукаваны ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 482—486.

182 Гл., напрыклад, справаздачу палкоўніка Леаніда Брэжнева з Паўднёвага фронту намесніку начальніка Палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі пра барацьбу са здраднікамі Айчыны, 23 лістапада 1941 г. (ЦАМО РФ. Ф. 228, оп. 747, д. 4, л. 161—169). Будучы Генеральны сакратар ЦК КПСС паведамляў, што падпарадкаваныя яму паліткамісары «прасвяцілі» салдат і афіцэраў пра пакаранне за здраду (загад № 270).

183 Трафейны дзённік «групы партызанаў» (запіс ад 9 верасня 1941 г. у нямецкім перакладзе) (BA-MA. RH 26-221/21, Bl. 332 і наст.).

184 Дакладная запіска начальніка 3-га аддзялення 208-га партызанскага атрада імя Сталіна Рыгора Гінзбурга ў Асобы аддзел НКУС Заходняга фронту аб баявой дзейнасці і агентурным забеспячэнні атрада (па стане на 20 ліпеня 1942 г.), надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 2. С. 58—60. Таксама гл. зноску 2 на с. 59 гэтага зборніка.

185 Загад № 41 208-га Чырвонага партызанскага атрада імя таварыша Сталіна ад 2 красавіка 1942 г., падпісаны палкоўнікам У. Нічыпаровічам (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 19 і наст.).

Як камандзіры, так і байцы Чырвонай Арміі ў папярэднія гады былі пад уздзеяннем масіраванай савецкай прапаганды, і гэта не засталося без вынікаў. Шмат хто з іх, асабліва камандзіры, былі сапраўды перакананымі камуністамі. На гэтым фоне не здзіўляе, што тысячы чырвонаармейцаў, і асабліва камандзіры, рабілі ўсё, каб пазбегнуць палону.

Паводле адной зводкі ад 1 жніўня 1946 г., у шэрагах савецкіх партызанаў у Беларусі змагаліся 13 461 баец і камандзір Чырвонай Арміі, якія адбіліся ад сваіх часцей і паходзілі не з Беларусі, а найбольш былі рускага паходжання. Байцы, што адбіліся ад сваіх часцей і паходзілі з Беларусі, як правіла, вярталіся дадому і не ўлічваліся як тыя, што адбіліся ад сваіх. Іх колькасць перавышала, напэўна, вайскоўцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей, з небеларускіх тэрыторый. Сюды дадаваліся, паводле тых самых дадзеных, 27 305 збеглых ваеннапалонных, што змагаліся ў шэрагах савецкіх партызанаў. 19 731 з іх паходзілі з Беларусі, яны ў сапраўднасці ў большасці выпадкаў былі адпушчаныя дамоў. Астатнія 7 574 ваеннапалонныя паходзілі з абласцей па-за межамі Беларусі і найчасцей былі рускага паходжання. Толькі нязначная частка з іх, паводле гэтых дадзеных, уступіла ў партызанскую барацьбу яшчэ ў 1941 г., ва ўсякім выпадку значна менш чым 10 %[186].

## 10. Лёс партызанскіх фармаванняў у 1941 г.

Пра лёс партызанскіх атрадаў і груп, якія былі ўтвораныя летам 1941 г. і ўзніклі спантанна, каб змагацца супраць нямецкіх акупантаў на беларускай тэрыторыі, у адпаведных архівах знаходзяцца толькі фрагментарныя ўрыўкі інфармацыі. Нягледзячы на гэта, яны ўсё-ткі даюць права сцвярджаць, што вялікая большасць гэтых атрадаў і груп пераставала існаваць непасрэдна ці неўзабаве пасля іх фармавання. Да канца 1941 г. у Беларусі заставаліся толькі некаторыя атрады і групы, і яшчэ меншая іх колькасць сапраўды вяла ўзброеную барацьбу супраць нямецкіх захопнікаў.

Напрыклад, партыйныя органы стварылі ў Клічаўскім раёне Магілёўскай вобласці пяць партызанскіх груп. Аднак пасля прыходу нямецкіх войскаў 2 ліпеня 1941 г. іх завадатары збеглі. Засталася толькі адна з пяці груп, ды і тая не цалкам. Але да верасня 1941 г. яна вырасла ў атрад з 60 чалавек, пасля таго, як да яго далучыліся байцы, што адбіліся ад сваіх часцей, і «некалькі мясцовых жыхароў». Аднак нямецкія каманды моцна цяснілі атрад. Частка групы, якая складалася з былых байцоў і камандзіраў, вырашыла прабівацца на савецкі бок. У раёне засталіся толькі 25 мясцовых камуністаў і беспартыйных,

[186] Даведка пра колькасць партызанаў, якія падчас Вялікай Айчыннай вайны ваявалі на тэрыторыі БССР у партызанскіх атрадах, 1 жніўня 1946 г., аўтары В. Раманаў і Разанаў (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 8). Паводле яе, у 1941 г. барацьбу вялі толькі 4 618 партызанаў, якія былі сабраныя з розных груп, напрыклад, з камуністаў, супрацоўнікаў НКУС, міліцыі і інш.



а «нямецкі ціск» рабіўся ўсё мацнейшым. У снежні 1941 г. у раёне з'явілася яшчэ адна група чырвонаармейцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей, а ў наступныя месяцы — яшчэ пяць[187].

У пачатку ліпеня 1941 г. кіраўнічыя супрацоўнікі партыйных і дзяржаўных устаноў, а таксама супрацоўнікі НКУС і міліцыі паспешліва пакінулі горад Віцебск. 14—15 ліпеня яны былі на ўцёках пад Вязьмай. Цэнтральны камітэт КП(б)Б асудзіў усіх (бальшавікоў) Віцебскай вобласці за «ганебныя ўцёкі» і распарадзіўся стварыць з уцекачоў 20 атрадаў па 18—20 чалавек. Супрацоўнікі НКУС і міліцыі павінны былі ўзначаліць гэтыя атрады, якія неабходна было неадкладна накіраваць у Віцебск. Спешна створаныя атрады адразу ж накіраваліся ў Віцебск. Усе 20 атрадаў ужо на наступны дзень, 17 ліпеня, зноў вярнуліся ў Вязьму[188].

Іншыя групы распаліся ці вярнуліся назад, як толькі былі абстраляныя нямецкімі падраздзяленнямі. Палкоўнік Старынаў паведамляў 5 верасня 1941 г. Галоўнаму разведвальнаму ўпраўленню Чырвонай Арміі пра групы, створаныя Аператыўна-вучэбным цэнтрам: «Былі выпадкі, што пасланыя групы вярталіся, пасля таго як былі абстраляныя ворагам»[189]. Як, напрыклад, група Б-78, якая была ўтворана 21 ліпеня 1941 г. у Гомелі. Пасля трохдзённага курса ў Аператыўна-вучэбным цэнтры група 24 ліпеня рушыла маршам за лінію фронту. 29 ліпеня яна была абстраляна немцамі і ў паніцы разбеглася[190].

НКУС БССР 8 ліпеня 1941 г. паслаў 18 груп, па 9 чалавек кожная, у акупаваныя вобласці Беларусі, дзе яны павінны былі праводзіць дыверсійныя аперацыі. Аднак тры групы неўзабаве вярнуліся назад, не перайшоўшы лінію фронту, пра дзейнасць астатніх і праз два месяцы не было ніякіх звестак[191]. У распараджэнні ад 20 ліпеня 1941 г. Упраўленне НКДБ БССР рэзка крытыкавала НКДБ Палескай вобласці за памылкі пры фармаванні партызанскіх атрадаў, прычым яно, сярод іншага, звяртала ўвагу на наступнае: «Маюцца выпадкі, калі сфармаваныя партызанскія атрады пад ціскам часцей праціўніка адступаюць разам з насельніцтвам. Такія выпадкі спыніць»[192].

Дырэктыва намесніка народнага камісара ўнутраных спраў Усевалада Мяркулава ад 27 ліпеня 1941 г., які крытыкаваў грубыя памылкі ў разгортванні партызанскага руху, указвае на тое, што гэта было

[187] Заснаванне партызанскіх атрадаў у Клічаўскім раёне: размова з тав. Зайцам ад 1 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 31—34).

[188] Даклад Іванова і Нароенкі ад 29 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 66, арк. 59—64).

[189] Справаздача І. Старынава пра працу Аператыўна-вучэбнага цэнтра, 6 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 11).

[190] Даклад кіраўніка групы В-78 «Радзіума» ад 18 жніўня 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 66, арк. 9—12).

[191] Дакладная запіска НКУС БССР у НКУС СССР пра вынікі разведвальна-дыверсійнай дзейнасці ў тыле праціўніка, [не раней за 10 верасня], публікацыя ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 74 і наст.

[192] Указанне НКДБ БССР № 174 УНКДБ Палескай вобласці ад 20 ліпеня 1941 г., надрукавана ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 374—375.

шырока распаўсюджаным феноменам. Ён канстатаваў: «У выніку такія атрады і групы ў лепшым выпадку развальваюцца, не даходзячы да лініі фронту, а ў горшым — трапляюць у рукі праціўніка і расстрэльваюцца»[193].

Іншыя групы і атрады, якія сапраўды заставаліся ў сваіх зонах дзеянняў ці з'явіліся туды, неўзабаве зноў пакідалі іх. Галоўнай прычынай быў «нямецкі ціск». Сюды трэба дадаць цяжкасці з забеспячэннем і адсутнасць сувязі з цэнтрам. Пасля шматтыднёвага ці радзей шматмесячнага знаходжання ў нямецкім тыле яны вырашалі зноў прабівацца на савецкі бок. Як, напрыклад, атрад пад камандаваннем лейтэнанта дзяржбяспекі Пашуна, у якога было яшчэ і заданне кіраваць усім партызанскім рухам у Палескай вобласці. Паводле ўласных дадзеных, ягоны атрад, як і падначаленыя яму групы і падраздзяленні правялі шмат аперацый супраць немцаў. Але, па яго словах, іх увесь час пераследавала нямецкая кавалерыя (магчыма, падраздзяленні кавалерыйскай брыгады СС, што сапраўды дзейнічала ў той мясцовасці), а ў лясах іх абстрэльвалі з дапамогай артылерыі[194].

Нарэшце Пашун у канцы верасня 1941 г. вырашыў пакінуць з групай з 80 чалавек (партыйныя работнікі, супрацоўнікі НКУС і афіцэры, якія адбіліся ад сваіх часцей) Палескую вобласць і прабівацца на савецкі бок. Па дарозе група раздзялілася на некалькі меншых. Пашун з чатырма таварышамі перайшоў лінію фронту 10 кастрычніка 1941 г. Пашун назваў наступныя прычыны прыпынення партызанскай барацьбы: «За тры месяцы, якія я знаходзіўся з маім чэкісцкім апаратам у варожым тыле, у мяне не было ні баз забеспячэння, ні дапамогі з боку кіраўніцтва, ні сувязі з кіраўніцтвам». Ад таго, што яго байцы галадалі, ён вырашыў вывесці аслабелых партызанаў з варожага тылу[195].

Падобным быў лёс партызанскага падраздзялення з прыблізна 60 чалавек, якім камандаваў былы кіраўнік 3-га аддзела НКДБ Віцебскай вобласці Іваноў. 19 ліпеня ён атрымаў ад Панамарэнкі загад знайсці штаб нямецкай 9-й арміі, што ў той час быццам знаходзіўся ў раёне Полацка, і знішчыць яго. На пераходзе да месца дзеянняў атрад страціў 18 чалавек, некаторыя дэзерціравалі, іншыя прапалі без вестак, а частка загінула ў баях з немцамі. 8 жніўня атрад прыбыў у Мехаўскі раён Віцебскай вобласці, каля 100 км на паўночны ўсход ад Полацка. Там Іваноў падзяліў свой атрад на тры групы, якія адпаведна павінны былі дзейнічаць у Суражскім, Гарадоцкім і Мехаўскім раёнах (на поўнач і паўночны ўсход ад Віцебска)[196].

---

[193] Дырэктыва НКУС СССР № 252 аб арганізацыі партызанскіх атрадаў і дыверсійных груп, прызначаных для закідання ў тыл праціўніка, 27 ліпеня 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 409—410.

[194] Даклад лейтэнанта дзяржаўнай бяспекі Пашуна ад 10 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 62, арк. 166—184).

[195] Тамсама.

[196] Даклад Іванова (камандзіра атрада) і Нароенкі (камісара атрада) ад 29 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 66, арк. 59—64).



Ад першапачатковага плана разбіць штаб 9-й арміі Іваноў з-за «складанага становішча» адмовіўся. У пачатку кастрычніка 1941 г. адна з нямецкіх камандаў разграміла групу ў Мехаўскім раёне. Тыя, хто выжыў з гэтай групы, прыбіліся да групы ў Гарадоцкім раёне, якая 9 кастрычніка была акружана і атакавана нямецкімі падраздзяленнямі. Група своечасова змагла ўцячы ў балоты. У той самы дзень немцы разбілі групу ў Суражы. Пасля гэтага кіраўніцтва атрада прыняло рашэнне спыніць партызанскую барацьбу і прабівацца да лініі фронту. 1 лістапада 1941 г. 8 чалавек, якія засталіся ад атрада, перайшлі лінію фронту[197].

У расійскіх і беларускіх архівах знаходзіцца шмат падобных даняненняў. Але і нямецкія тагачасныя крыніцы яскрава сведчаць пра трагічны канец гэтых груп і атрадаў. З канца жніўня да снежня 1941 г. у штаб камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» штодня прыходзілі паведамленні пра знішчаныя, разбітыя ці разагнаныя партызанскія групы і атрады. Варта прывесці некаторыя прыклады гэтага.

Дзённае паведамленне камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» ад 2 верасня 1941 г.: *«403-я ахоўная дывізія* натрапіла на замаскаваную партызанскую банду, кіраўнік якой быў захоплены. Склад амуніцыі і выбухоўкі, які належаў гэтай бандзе, абясшкоджаны». Дзённая зводка ад 19 верасня: «Ва ўсіх дывізій аперацыі па ачышчэнні ад партызанаў». Дзённая зводка ад 6 кастрычніка: «Захопленыя рускія парашутысты з радыёстанцыяй на паўночны захад ад Асіповічаў». Дзённая зводка ад 24 кастрычніка: «У лесе 25 км на паўночны захад ад Віцебска знішчаны партызанскі лагер. Жыхары вылаўленыя». Дзённая зводка ад 10 лістапада: «Каля Цяхціна (40 км на захад ад Магілёва) ачышчана і знішчана партызанскае гняздо». Дзённая зводка ад 29 лістапада: «Бой на паўночны захад ад Асіповічаў, лагер і партызаны знішчаны. На паўднёвы захад ад Лепеля знойдзены і разбураны недабудаваны партызанскі лагер». Дзённая зводка ад 10 снежня: «У балясным масіве на паўднёвы захад ад Клічава (39 км на поўнач ад Бабруйска) пасля працяглага бою захопленыя два партызанскія гнязды. Банда, якая зацята абаранялася, знішчана без астатку»[198].

Большасць нямецкіх аперацый канчаліся, аднак, тым, што хоць «партызанскае гняздо» было знойдзена і знішчана, самі ж партызаны ўцякалі. Але гэты ціск, здавалася, для многіх атрадаў і груп рабіўся невыносным, і яны разбягаліся ці спрабавалі прабіцца малымі групамі на савецкі бок, праўда, не заўсёды паспяхова. Да канца 1941 г. у Беларусі засталіся толькі некалькі дзясяткаў ад сотняў створаных летам 1941 г. атрадаў і груп, якія сапраўды яшчэ вялі партызанскую барацьбу[199].

---

[197] Даклад Іванова (камандзіра атрада) і Нароенкі (камісара атрада) ад 29 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 66, арк. 59—64).

[198] Дзённыя зводкі камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» (BA-MA. RH 22/226, Bl. 55 (2 верасня 1941 г.), 72 (19 верасня 1941 г.), 89 (6 кастрычніка 1941 г.), 107 (24 кастрычніка 1941 г.), 124 (10 лістапада 1941 г.), 143 (29 лістапада 1941 г.), 154 (10 снежня 1941 г.).

[199] У студзені 1942 г., паводле савецкіх дадзеных, у Беларусі налічвалася 50 атрадаў. Гл.: Старинов И. Фронт без командования... С. 117. Гэтая лічба, аднак, таксама падаецца завышанай.

Адзін з партызанскіх камандзіраў першага прызыву з Мінскай вобласці Цімчук заявіў у 1975 г.:

> У канцы 1941 г. і пачатку 1942 г. былі [у Мінскай вобласці] толькі малыя партызанскія групы, і ўласна кажучы, было б няправільна называць іх партызанскімі групамі, бо многія з іх не ваявалі; яны толькі павыкопвалі зямлянкі[200].

У большасці раёнаў Беларусі ў канцы 1941 г. амаль не было партызанскіх груп у поўным сэнсе слова, не кажучы ўжо пра партызанскія атрады.

Гэта пацвярджае і савецкая гістарыяграфія, праўда, толькі ўскосна і ў завуаляванай форме. Так, аўтары трохтомнай працы «Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны», што выйшла ў 1985 г., пішуць: «Паводле няпоўных дадзеных, усяго ў 1941 г. у Беларусі былі арганізаваныя 99 атрадаў і амаль столькі ж партызанскіх груп, якія дзейнічалі ў тыле акупантаў. Пры гэтым, аднак, трэба нагадаць, што не ўсе яны працягвалі сваю барацьбу ў 1942 г.»[201]. Адначасова аўтары ўскосна пацвярджаюць, што большасць створаных у 1941 г. атрадаў і груп існавалі толькі на паперы[202]. Лічба 200 як быццам створаных партызанскіх атрадаў і груп у Беларусі, відаць, павінна зменшыць памеры няўдач савецкага партызанскага руху ў 1941 г.

На астатніх савецкіх тэрыторыях, якія ў 1941 г. былі занятыя нямецкімі войскамі, у канцы 1941 г. справы з партызанскім рухам былі не лепшыя. Старынаў пісаў у 1990 г.:

> Аналагічная [як у Беларусі] карціна была і на паўночна-заходнім напрамку. Трохі лепш стаяла справа на акупаванай тэрыторыі Смаленскай, Калінінскай і Арлоўскай абласцей, дзе было больш часу для падрыхтоўкі партызанскіх фармаванняў[203].

На ўчастку 8-й арміі (Ленінградскі фронт), паводле аднаго даклада Ваеннага савета 8-й арміі ад 22 верасня 1941 г., былі «ўсе атрады дрэнна арганізаваныя, ізаляваныя і некіроўныя. [...] Яны амаль

[200] Стэнаграма прамовы Івана Цімчука на абмеркаванні праекта першага тома трохтомнай працы па гісторыі партызанскага руху ў Беларусі, 30 мая 1974 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 76 і наст.).

[201] Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 1. С. 117 і наст.

[202] Аўтары твора называюць лічбу ў 99 партызанскіх атрадаў, якія былі створаныя і дзейнічалі ў Беларусі ў 1941 г. У заўвазе аўтары падаюць лічбу ў 231 партызанскі атрад, што, паводле дадзеных ЦК КП(б)Б, былі створаныя да 1 жніўня 1941 г.: «Аналізуючы гэтыя дадзеныя, неабходна заўважыць, што не ўсе атрады, створаныя да гэтага часу, змаглі прыступіць да сваёй дзейнасці непасрэдна ў тыле ворага». Некаторыя з іх «па розных прычынах» не здолелі перайсці праз лінію фронту. Гл.: Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 1. С. 117—118.

[203] Старинов И. Фронт без командования... С. 117.



не дзейнічаюць у варожым тыле і вяртаюцца назад, не выканаўшы пастаўленых перад імі задач»[204].

У Курскай вобласці на 16 лістапада 1941 з 32 сфармаваных раней партызанскіх атрадаў актыўна дзейнічалі толькі пяць-шэсць[205]. Але і гэтыя зімой 1941/1942 гг. спынілі сваю дзейнасць, бо сярод партызанаў панаваў

> вялікі страх, што іх схопяць. Таму яны не праводзілі амаль ніякіх баявых аперацый. Яны канспіраваліся, глыбока закопваліся, хаваліся, адрошчвалі бароды, прыдумлялі сабе мянушкі, каб мясцовае насельніцтва не ідэнтыфікавала іх як савецкіх актывістаў[206].

Ва Украіне і ў балтыйскіх дзяржавах справы з партызанскім рухам былі яшчэ больш крытычнымі[207]. У апошніх увогуле не было партызанскіх атрадаў і груп, гэтаксама, як і ў заходніх раёнах сённяшняй Украіны. З соцень партызанскіх атрадаў і груп, што засталіся ва ўсходніх раёнах сённяшняй Украіны ці былі засланыя туды, у канцы 1941 г. наўрад ці якія дзейнічалі. У адным афіцыйным дакладзе пра гэта гаворыцца: «Толькі малая частка атрадаў прыстасавалася да ўмоў, акліматызавалася ў тыле ворага і праводзіла на працягу двух-трох гадоў паспяховыя баявыя дзеянні»[208].

## 11. Прычыны няўдач савецкага партызанскага руху ў 1941 г.

Савецкая гістарыяграфія замоўчвала вялікія цяжкасці савецкага партызанскага руху ў пачатку вайны. Пісалі толькі пра цяжкія ўмовы ў першыя месяцы вайны (нямецкі тэрор, амаль адсутнасць баявога вопыту, недахоп амуніцыі, зброі), аднак не закранаючы дэталяў[209]. Панамарэнка сам пісаў у сваёй кнізе, якая выйшла ў 1986 г., што зіма 1941/42 гг. «была цяжкім часам» для партызанаў[210]. Але і сённяшняя

[204] Даклад Ваеннага савета 8-й арміі Андрэю Жданаву пра стан і дзейнасць партызанскіх атрадаў на ўчастку 8-й арміі ў верасні 1941 г., 22 верасня 1941 г. (ЦАМО РФ. Ф. 217, оп. 1258, д. 66, л. 40 і наст.).

[205] Вытрымка з пратакола № 148 пасяджэння бюро Курскага абкама УсеКП(б) ад 16 лістапада 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 310.

[206] Справаздача пра дзейнасць былога начальніка палітычнага аддзела 1-й Курскай партызанскай брыгады палкавога камісара Георгія Памеранцава начальніку ЦШПР П. Панамарэнку за перыяд з мая 1942 г. па сакавік 1943 г., [красавік 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 22—30).

[207] П. Панамарэнка ў сваёй кнізе «Всенародная борьба...» на с. 65 пісаў пра Украіну: «У найскладанейшым становішчы быў партызанскі рух у заходніх абласцях Украіны».

[208] Вытрымка з даклада аператыўнага аддзела ЦШПР ад 16 ліпеня 1945 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 4).

[209] Гл.: Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 1. С. 117 і наст.

[210] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 65.

расійская гістарыяграфія стрыманая ў гэтых адносінах[211]. Адкрытых і крытычных дыскусій пра прычыны няўдач савецкага партызанскага руху ў 1941 г. да гэтага часу яшчэ не было.

Аднак прычыны няўдач можна адносна дакладна рэканструяваць па даступных сёння крыніцах. Яны былі разнастайныя і сягалі ад дылетантызму пры фармаванні партызанскіх груп і атрадаў, улічваючы адсутнасць матывацыі ў саміх партызанаў, што нярэдка заканчвалася перабяганнем да ворага, да адсутнасці падтрымкі ў насельніцтва. Яно, наадварот, даволі часта падтрымлівала нямецкіх акупантаў у барацьбе супраць партызанаў.

*а) Дылетанцкая актыўнасць*

Увогуле, савецкія намаганні першай фазы вайны арганізаваць маштабны партызанскі рух на акупаваных тэрыторыях наўрад ці можна назваць прафесійнымі. Наадварот, меры, што прымаліся для гэтага, вылучаліся хутчэй дылетанцкай актыўнасцю, якая сваіх уяўных ваенных поспехаў найчасцей «дамагалася» на паперы, менавіта ў дакладах вышэйшаму партыйнаму і дзяржаўнаму кіраўніцтву, а таксама ў савецкай прапагандзе.

Прычыны палягаюць, сярод іншага, у тым, што летам 1941 г. савецкі бок ніякім чынам не быў падрыхтаваны да вядзення партызанскай вайны на ўласнай тэрыторыі. Не было ні навучаных партызанскіх камандзіраў, ні спецыялістаў па падрыўной справе, ні дыверсантаў, ні баз забеспячэння, адпаведнай амуніцыі (напрыклад, спецыяльных мін, радыёстанцый), зброі і выбухоўкі. Не існавала нават адзінай канцэпцыі па кіраванні партызанскай вайной.

Тым, хто летам 1941 г. займаўся арганізацыяй партызанскага руху і кіраўніцтвам ім, не хапала, як правіла, неабходных ведаў пра партызанскую барацьбу. Так, намеснік начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху Сяргей Бельчанка праз 60 гадоў заўважыў: «Я ў гэты момант [у першыя дні вайны] не меў ніякага ўяўлення пра партызанскую вайну»[212].

У гэтых умовах заставалася толькі імправізаваць. І ці варта здзіўляцца, што пры гэтым было зроблена шмат сур'ёзных памылак.

Усевалад Мяркулаў, намеснік народнага камісара ўнутраных спраў, у адной дырэктыве ад 27 ліпеня 1941 г. ганьбіў сур'ёзныя недахопы, якія наносяць шмат шкоды прынятым да гэтага мерам па разгортванні партызанскага руху. Між іншым, ён выказаў незадавальненне:

> 1. Атрады і групы збіваюцца спехам, літаральна за некалькі гадзін, з асоб, якія адзін аднаго не ведаюць, не ўмеюць абыходзіцца са зброяй, у прыватнасці з гранатамі і выбуховымі рэчывамі.
> 2. Для атрадаў і груп не выдзяляюцца праваднікі з мясцовых жыхароў, не выдаюцца карты і компасы.

[211] Гл., напрыклад: Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 39—53.
[212] Попов А. Ю. 15 встреч... С. 130.



> 3. Атрады і групы інструктуюцца коратка, у выніку чаго яны не атрымліваюць дастаткова яснага ўяўлення пра тое, што і як яны павінны рабіць.
> 4. Пытанні вопраткі, харчавання зусім не прадумваюцца.
> У выніку такія атрады і групы ў лепшым выпадку развальваюцца, не даходзячы да лініі фронту, а ў горшым — трапляюць у рукі праціўніка і расстрэльваюцца.
> Такая арганізацыя атрадаў і груп не толькі недапушчальная, але і злачынная. Кіраўнічыя таварышы, вінаватыя ў такой арганізацыі справы, будуць прыцягнутыя да найстражэйшай адказнасці[213].

Гэтыя папярэджанні і пагрозы мала дапамагалі. Так, НКУС БССР у верасні 1941 г. дакладваў пра грубыя памылкі пры фармаванні партызанскіх атрадаў і груп, якія перашкаджалі развіццю партызанскага руху ў Беларусі:

> Атрады фармаваліся са складу супрацоўнікаў НКУС і міліцыі з задачай заставацца на тэрыторыі, акупаванай праціўнікам, не забяспечыўшы іх вопраткай, дастатковым узбраеннем; не былі створаныя харчовыя базы, не ўсталяваная сувязь з партыйнымі арганізацыямі і савецкім актывам, што застаўся для падпольнай працы; [...] Акрамя таго, з атрадамі, што ствараліся, не была ўсталяваная сувязь[214].

Шматлікія іншыя крыніцы пацвярджаюць гэтае становішча. Партыйны дзеяч Эйдзінаў, які ў першыя месяцы вайны займаўся ў Цэнтральным камітэце КП(б)Б партызанскім рухам, скардзіўся летам 1941 г.:

> Як мы ўжо паведамлялі Вам [ЦК УсеКП(б)], недапушчальна блага стаяць справы з узбраеннем камуністаў і атрадаў. Нягледзячы на абяцанні, яны [ваенныя ўстановы] не выдаюць зброі. У шмат якіх выпадках гэта прывяло і прыводзіць партыйныя арганізацыі ў раёнах [што павінны фармаваць партызанскія атрады] у вельмі цяжкае становішча[215].

Калі 22 жніўня 1941 г. Чырвоная Армія адступіла з Ельскага раёна (Палеская вобласць), у лес пайшлі 243 партызаны. Яны, праўда, былі нездавальняюча ўзброеныя, толькі 40 % з іх мелі вінтоўкі, і гэта былі ў большасці вучэбныя вінтоўкі[216]. Былы баец створанага ў канцы чэрвеня 1941 г. партызанскага атрада ў Ленінскім раёне Пінскай вобласці скардзіўся ў пачатку жніўня 1941 г.:

[213] Дырэктыва НКУС СССР № 252 аб арганізацыі партызанскіх атрадаў і дыверсійных груп, прызначаных для закідання ў тыл праціўніка, 27 ліпеня 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 409—410.
[214] Дакладная запіска НКУС БССР і НКУС СССР пра выніковы разведвальна-дыверсійнай дзейнасці ў тыле праціўніка, [пасля 10 верасня і да 21 верасня 1941 г.], публікацыя ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 74 і наст.
[215] Даклад Р. Эйдзінава Шамбергу, [жнівень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 4).
[216] Дзеянні партызанскага атрада з Ельска Палескай вобласці ў перыяд з 22 жніўня 1941 г. па 10 снежня 1942 г., [снежань 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 256—259).

Акрамя вінтовак і некалькіх гранат, у партызанаў не было ніякай зброі. Акрамя таго, кіраўніцтва атрада да канца не мела сапраўднага ўяўлення пра задачы атрада. [...] У атрадзе была група людзей, якая ўвогуле не хацела весці баёў. Яна ставіла сабе за мэту любой цаной трапіць на савецкую тэрыторыю. Гэтая група раскладала атрад, паралізавала яго баявы дух[217].

Максім Макаранка камандаваў партызанскім атрадам, які дзейнічаў з канца жніўня да пачатку лістапада 1941 г. у Мазырскім раёне Палескай вобласці. У лістападзе развaліліся рэшткі атрада з-за «нямецкага ціску». Частка партызанаў, што паходзіла з той мясцовасці, растварылася сярод мясцовых, астатнія паспрабавалі малымі групамі прабіцца на савецкі бок. Макаранка са сваёй групай перайшоў лінію фронту ў ноч з 19 на 20 лістапада 1941 г. У сваёй справаздачы Макаранка спасылаўся на памылкі, якія былі зробленыя пры фармаванні яго атрада: «Недастатковай была праверка набраных у атрад людзей, так што ў атрад трапілі ненадзейныя элементы, баязліўцы і дэзерціры»[218].

Сапраўды, будучыя ці свежаспечаныя партызаны часта паказвалі сябе даволі непрыдатнымі да бою, хоць, як правіла, былі прысланыя партыйнымі органамі ці НКУС для партызанскіх дзеянняў. Палкоўнік Старынаў звяртаў увагу ў сваім дакладзе ад 6 верасня 1941 г. на «недахопы» пры наборы курсантаў у Аператыўна-вучэбны цэнтр:

1) Не ўсюды партыйныя арганізацыі растлумачваюць людзям, якіх яны накіроўваюць у школу, што яны пасля заканчэння будуць дзейнічаць у варожым тыле. 2) Не ўсюды захоўваецца прынцып добраахвотнасці пры наборы, што значна перашкаджае рабоце школы. Таму былі адсевы ў час вучобы, як і пры накіраванні за лінію фронту[219].

Такіх «адсеваў», здаецца, здаралася даволі вялікая колькасць, пра што сведчыць наступны прыклад. 6 верасня 1941 г. цэнтр сфармаваў атрад з 104 курсантаў, які павінен быў арганізаваць і весці партызанскую барацьбу ў Сумскай вобласці (Усходняя Украіна). «Пры пераходзе праз лінію фронту 9 верасня многія таварышы пакінулі амуніцыю і пабеглі з войскамі Чырвонай Арміі. Засталіся толькі 7 чалавек»[220].

У цытаваным вышэй дакладзе ад 6 верасня 1941 г. Старынаў згадаў і пра выпадкі, калі курсантаў трэба было адлічаць падчас курсаў, а таксама пасля іх заканчэння, з прычыны здароўя[221]. Напрыклад, са 154 чалавек, якія былі ў пачатку верасня 1941 г. накіраваныя з Оршы ў цэнтр, 39 з

[217] Даклад тав. Харужага пра партызанскія атрады ў Ленінскім раёне Пінскай вобласці, 6 жніўня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 77).

[218] Справаздача Макаранкі пра дзейнасць партызанскага атрада ў Мазырскім раёне, 15 студзеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1072, л. 54).

[219] Даклад начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра палкоўніка І. Старынава ад 5 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 8).

[220] Ліст камандзіра групы Юхновіча П. Панамарэнку ад 7 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 574 і наст.).

[221] Даклад начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра палкоўніка І. Старынава ад 5 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 8).



прычыны здароўя, а таксама немагчымасці іх удзелу ў аператыўнай працы адкамандзіраваныя ў ваенную камендатуру. Чатыры чалавекі, што адмовіліся выконваць заданне ЦК КП(б)Б, былі перададзеныя органам НКУС для прыцягнення да адказнасці[222].

На відавочна распаўсюджанае летам 1941 г. нежаданне пачынаючых савецкіх партызанаў ваяваць, мусіць, ідэалагічныя матывы мала паўплывалі. Партыйныя органы і органы НКУС мабілізавалі партызанаў у першую чаргу сярод партыйных актывістаў, супрацоўнікаў НКУС і міліцыі, г. зн. асоб, якія раней падтрымлівалі савецкі тэрарыстычны рэжым і мелі ад таго выгоду, у большасці самі ўдзельнічалі непасрэдна ці ўскосна ў савецкіх масавых злачынствах. Прычына нежадання ваяваць, відаць, палягала ў першую чаргу ва ўсеагульных з'явах разлажэння на савецкім баку і ў ваенных поспехах нямецкіх войскаў. Летам 1941 г. толькі нямногія ў Беларусі, ды і на іншых акупаваных тэрыторыях, верылі, што Савецкі Саюз выйграе вайну.

Безумоўна, для паспяховага разгортвання партызанскага руху неабходныя падрыхтаваныя і вопытныя кадры і кіраўнікі. Аднак летам 1941 г. іх не было, як і адпаведных падрыхтоўчых устаноў. Іх трэба было тэрмінова ствараць. Побач з першай партызанскай школай, створанай 13 ліпеня 1941 г. у Гомелі, падобныя ўстановы з'явіліся неўзабаве ў Кіеве, Арле, Ленінградзе, Вязьме, Растове, Астрахані і ў іншых рэгіёнах[223]. Яны пачалі паспешліва рыхтаваць будучых партызанаў і дыверсантаў.

Старынаў паведамляў 6 верасня 1941 г., што з 13 ліпеня да 5 верасня Аператыўна-вучэбны цэнтр падрыхтаваў агулам 2 472 партызаны і дыверсанты і забяспечыў іх спецыяльнай тэхнікай[224]. Праўда, хуткатэрміновыя курсы, якія праводзіў цэнтр, наўрад ці маглі падрыхтаваць паўнавартасных партызанаў і дыверсантаў. Курсы працягваліся 30 вучэбных гадзін, з іх 2 гадзіны палітычнай падрыхтоўкі, 14 гадзін «Разбурэнне тылу і інжынеразнаўства» [падрыўная справа], 3 гадзіны разведкі, сувязі і канспірацыі, 5 гадзін абыходжання са зброяй, 2 гадзіны санітарнай падрыхтоўкі. Не без прычыны Старынаў лічыў у верасні 1941 г. неабходным падоўжыць курсы на дзесяць дзён[225].

Большасць савецкіх партызанаў, якіх рыхтавалі ў 1941 г., не скончылі, аднак, нават такіх паскораных курсаў. Так, Панамарэн-

[222] Даклад намесніка начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра І. Куцейнікава І. Старынаву ад 22 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 30).

[223] Са справаздачы аддзела кадраў ЦШПР ад 28 лютага 1944 г. за перыяд з 15 чэрвеня 1942 г. да 15 лютага 1944 г., надрукаванай у: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 467—471; справаздача начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра палкоўніка І. Старынава ад 5 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 7—14).

[224] Даклад начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра палкоўніка І. Старынава ад 5 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 7—14).

[225] Тамсама.

ка і Варашылаў распарадзіліся 1 ліпеня з прыкладна 500 партыйных работнікаў, актывістаў, супрацоўнікаў НКУС і міліцыі заходніх абласцей, якія знайшлі прытулак у Магілёве, тэрмінова ствараць партызанскія атрады. Перад іх адпраўкай на справу маршал Варашылаў прамовіў перад свежаспечанымі партызанамі 15-хвілінную прамову, у якой ён гаварыў пра іх задачы[226].

Партызаны, падрыхтаваныя павярхоўна ці ўвогуле непадрыхтаваныя, як правіла, былі дрэнна ўзброеныя. Напрыклад, у верасні 1941 г. цэнтр сфармаваў, сярод іншага, 22 групы ў складзе 111 чалавек, што былі накіраваныя ў акупаваныя раёны Беларусі. Яны былі ўзброеныя наступным чынам: па адной-дзве англійскія вінтоўкі на групу (г. зн. у сярэднім на пяць чалавек); рэвальвераў і пісталетаў хапіла толькі на тры групы[227]. Да канца 1941 г. цэнтр і школы ў Арле, Кіеве і Харкаве падрыхтавалі звыш 7 770 партызанаў і дыверсантаў. Яны былі забяспечаныя 446 вінтоўкамі, 382 рэвальверамі, 444 баявымі нажамі («фінкамі»), 21 142 штукамі боезарадаў[228].

У гэтых умовах не выклікае здзіўлення, што шмат якія групы проста адмаўляліся пераходзіць праз лінію фронту, бо былі няўзброеныя. Так зрабілі, напрыклад, 17 аператыўных груп, якія сфармаваў цэнтр паміж 5 і 12 верасня 1941 г. і хацеў накіраваць у акупаваную Беларусь[229].

Міны і выбуховыя матэрыялы, якія адыгрываюць у партызанскай барацьбе і дыверсіях вырашальную ролю, адсутнічалі. Недахоп выбуховых матэрыялаў быў такім актуальным, што ў цэнтры былі вымушаныя эксперыментаваць з заменнымі сродкамі. Палкоўнік Старынаў паведамляў 21 лістапада 1941 г.: «З-за недахопу выбуховых матэрыялаў мы распрацавалі выраб выбухоўкі з аміячных угнаенняў»[230]. Да канца 1941 г. цэнтр і падпарадкаваныя яму школы забяспечылі 7 770 падрыхтаваных імі партызанаў і дыверсантаў 18 700 кг выбуховых матэрыялаў[231]. Сярод іх была і выбухоўка, выробленая з аміячных угнаенняў. Яшчэ больш крытычным было становішча з мінамі. Старынаў скардзіўся ў верасні 1941 г.:

[226] Стэнаграма размовы са Сцяпанам Шупенем ад 1 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 81); стэнаграма размовы з Васілём Чарнышовым ад 4 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 125).
[227] Даклад намесніка начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра І. Куцейнікава І. Старынаву ад 22 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 30).
[228] Даклад намесніка начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра І. Куцейнікава, [канец 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 16 і наст.).
[229] Даклад намесніка начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра І. Куцейнікава І. Старынаву ад 22 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 30—33).
[230] Справаздача палкоўніка І. Старынава П. Панамарэнку пра дзейнасць Аператыўна-вучэбнага цэнтра за перыяд з 1 верасня 1941 г. да 20 лістапада 1941 г., 21 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 42, арк. 94 і наст.); даклад І. Старынава І. Сталіну ад 21 лістапада 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 38 і наст.).
[231] Даклад намесніка начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра І. Куцейнікава, [канец 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 16 і наст.).



У першыя дні вайны наша [ваенная] прамысловасць не вырабляла ніякага партызанскага рыштунку, як, напрыклад: 1) аўтамабільныя міны, 2) чыгуначныя міны, *boobytraps* (схаваныя падрыўныя пасткі) і 4) простыя запальныя снарады. А яны ж безумоўна неабходныя як галоўны рыштунак партызанскіх і дыверсійных груп[232].

Толькі ў ліпені 1941 г. пачаўся выраб мін для патрэб партызанаў, спачатку ў Рослаўлі, дзе было выраблена толькі 50 мін, затым — у Гомелі. Там да пачатку верасня 1941 г. было выраблена ўсяго 380 аўтамабільных мін, 450 чыгуначных мін, 70 рычаговых мін, 400 мін з ампуламі (з хімічным запальваннем) і 40 *boobytraps* (мін-пастак). Сюды трэба дадаць 10 000 ампул з сернай кіслатой, якія вырабляліся ў Кіеве. Праўда, імі забяспечваліся не толькі партызаны ў Беларусі, але і іншыя партызанскія школы, а таксама падраздзяленні Чырвонай Арміі і органы НКУС[233].

Да канца 1941 г. цэнтр і падначаленыя яму філіялы забяспечылі звыш 7 770 падрыхтаваных імі партызанаў і дыверсантаў 2 540 штукамі мін і запальнікаў. Але яшчэ больш крытычным было становішча з забеспячэннем вопраткай, абуткам і бялізнай. Тыя 7 770 партызанаў і дыверсантаў атрымалі ўсяго 440 пар абутку, 638 касцюмаў, 330 зімовых куртак, 260 штук бялізны[234].

Сувязь з партызанскімі атрадамі і групамі, што дзейнічалі ў Беларусі, адсутнічала зусім. Атрады і групы, якія сфармаваў і накіраваў на акупаваныя тэрыторыі цэнтр, не мелі радыёстанцый. Усе спробы наладзіць і падтрымліваць сувязь праз кур'ераў праваліліся[235]. Да чэрвеня 1942 г. у гэтых адносінах нічога не змянілася[236]. На гэтым фоне не здзіўляе, што нямецкія акупанты сведчаць пра савецкі партызанскі рух 1941 г. як «дылетанцкія паводзіны»[237].

### *б) Насельніцтва і партызанскі рух: «здрада»*

Дылетанцкія дзеянні і распаўсюджанае нежаданне ваяваць савецкіх партызанаў былі не адзінымі прычынамі няўдач савецкага партызанскага руху ў Беларусі і на іншых тэрыторыях у 1941 г. Магчыма, яшчэ больш важкім фактарам з'явілася адсутнасць падтрымкі ад насельніцтва. Мясцовае насельніцтва часта нават падтрымлівала нямецкіх захопнікаў

[232] Даклад начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра палкоўніка І. Старынава ад 5 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 7—14).
[233] Тамсама.
[234] Даклад намесніка начальніка Аператыўна-вучэбнага цэнтра І. Куцейнікава, [канец 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 96, л. 16 і наст.).
[235] Справаздача І. Старынава П. Панамарэнку ад 25 верасня 1941 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 42, арк. 83 і наст.); справаздача І. Старынава П. Панамарэнку ад 21 лістапада 1941 г. (Тамсама. Арк. 94 і наст.).
[236] Ліст (запіска) намесніка кіраўніка аператыўнага разведаддзела Ермалаева ад 25 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 116, л. 61).
[237] У дакладзе 203-й ахоўнай брыгады ад 10 сакавіка 1942 г. гаворыцца пра «партызанскія банды» пад Бабруйскам і Старымі Дарогамі: «іх камандаванне спачатку было дылетанцкім, цяпер стала строгім і добрым» (BA-MA. RH 22/230, Bl. 195).

у барацьбе супраць партызанаў. Савецкая гістарыяграфія доўга цалкам замоўчвала гэтыя факты і сцвярджала дакладна супрацьлеглае. Але і сённяшняя расійская і беларуская гістарыяграфія пакутуюць з гэтай тэмай[238]. У 1990 г. Ілья Старынаў, між іншым, закрануў у адным артыкуле савецкі тэрор 1930-х гг., які пашкодзіў разгортванню партызанскага руху ў 1941 г. Нямецкія акупанты інструменталізавалі ахвяр гэтага тэрору ў барацьбе супраць партызанаў[239]. Сур'ёзныя дэбаты пра гэта ў Расіі яшчэ не разгарнуліся, таксама як і ў Беларусі і ва Украіне.

Тагачасныя савецкія паведамленні з Беларусі і іншых тэрыторый, аднак, у гэтым сэнсе адназначныя. Так, адзін партыйны работнік з Пінска паведамляў летам 1941 г.:

> Па існуючай інфармацыі ў раёнах Пінскай вобласці актывізаваліся антысавецкія варожыя элементы (кулакі). [...] Варожыя элементы праследуюць партызанскія атрады, яны забілі пракурора Лунінецкага раёна таварыша Панцялеева і паранілі яшчэ аднаго таварыша[240].

Камісар партызанскага атрада ў Лельчыцкім раёне Палескай вобласці, што самараспусціўся ў лістападзе 1941 г., паведамляў у студзені 1942 г.: «Сітуацыя, у якой мы павінны былі дзейнічаць, была вельмі неспрыяльнай. З прыходам немцаў ажылі кулакі, бандыты і контррэвалюцыйныя элементы і паднялі свае галовы. З названых вышэй складаецца гітлераўская агентура»[241].

У адным дакладзе НКУС БССР з верасня 1941 г. гаворыцца:

> Контррэвалюцыйны і нацыяналістычны элемент часова акупаванай немцамі тэрыторыі БССР актыўна падтрымлівае мерапрыемствы нямецкіх войскаў, з'яўляючыся простай агентурай органаў гестапа, выконваючы заданні апошніх па вышукванні камуністаў і савецкіх работнікаў[242].

Падобных дакладаў пра «кулакоў», «антысавецкіх элементаў» і інш., якія «здрадзілі Савецкай уладзе» і падтрымліваюць нямецкіх акупантаў у барацьбе з савецкімі партызанамі, можна прывесці яшчэ вялікую колькасць.

Сапраўды, нямецкія падраздзяленні, што мусілі змагацца з партызанамі, без падтрымкі мясцовага насельніцтва былі б бездапаможнымі. Тэрыторыі, што яны павінны былі «ўціхамірваць», ахоплівалі сотні тысяч квадратных кіламетраў, а сілы, якія знаходзіліся ў іх распараджэнні, былі сціплымі. Напрыклад, у верасні 1941 г. 221-я ахоўная дывізія,

[238] Параўн. на гэты конт: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 22—26.
[239] Старинов И. Фронт без командования... С. 117.
[240] Даклад сакратара абкама А. Мінчанкі, [пасля 22 ліпеня 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 107 і наст.).
[241] Даклад камісара атрада Эрлаха ад 15 студзеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1072, л. 36).
[242] Дакладная запіска НКУС БССР і НКУС СССР пра вынікі разведвальна-дыверсійнай дзейнасці ў тыле праціўніка, [пасля 10 верасня і да 21 верасня 1941 г.], публікацыя ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 78.



што дзейнічала ў Беларусі, павінна была «ўціхамірыць» тэрыторыю ў 44 800 квадратных кіламетраў «з сярэдняй глыбінёй каля 250 км»[243]. Тэрыторыя амаль такая ж па велічыні, як Ніжняя Саксонія (47 618 км²). Шырокамаштабныя сістэматычныя «аперацыі па ачыстцы» ў гэтых умовах былі невыканальнымі, падтрымка з боку насельніцтва была безумоўна неабходная, каб па магчымасці мэтанакіравана выступаць супраць партызанаў. Як было паказана вышэй, савецкія крыніцы пацвярджаюць, што гэтая падтрымка часта аказвалася. Нямецкія паведамленні ў гэтым сэнсе яшчэ адназначней.

Генерал фон Шэнкендорф, камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», паведамляў у верасні 1941 г.:

> Найлепшыя паведамленні пра выступленні партызанаў заўсёды прыходзяць дзякуючы мясцовым жыхарам. Увогуле радасна ўсведамляць, што мясцовае насельніцтва менавіта ў гэтым раёне настроена выключна дружалюбна[244].

13 лістапада 1941 г. фон Шэнкендорф дакладваў Вярхоўнаму камандаванню пра поспехі ў барацьбе з партызанамі і пры гэтым канстатаваў: «Падтрымка з боку насельніцтва, чый давер да нямецкага кіраўніцтва вырас дзякуючы апошнім поспехам немцаў, пры гэтым мае вырашальнае значэнне»[245]. І іншыя нямецкія службы пацвярджаюць гэтае становішча, як, напрыклад, афіцэр Іс пры камандуючым тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» у верасні 1941 г.: «Потым пры дапамозе давераных асоб удалося перадаць СД розныя гнёзды партызанаў і камуністаў, а таксама асобных людзей з НКУС і г. д.»[246].

Нямецкія падраздзяленні, якія павінны былі змагацца з партызанамі, некалькі разоў чулі напамін, каб яны абапіраліся на падтрымку насельніцтва, як гэта рабіла кіраўніцтва 403-й ахоўнай дывізіі:

> Яшчэ раз указваецца на тое, што пры недахопе патрэбных сіл неабходна вербаваць *надзейных прадстаўнікоў насельніцтва як давераных асоб*, каб праз гэта натрапіць на след схованак бандаў і партызанаў[247].

[243] Даклад афіцэра Іа 221-й ахоўнай дывізіі камандуючаму тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» ад 18 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26/221, Bl. 712 і наст.).
[244] Дзесяцідзённая зводка камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», Іа, Галоўнаму камандаванню групы армій, 10 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 22/227, Bl. 25 і наст.). У дакладзе таго ж самага органа ад 30 верасня 1941 г. гаворыцца: «У шмат якіх выпадках у барацьбе з партызанамі выявілася радаснае супрацоўніцтва з вясковымі жыхарамі. Але дапамога была б яшчэ большай, каб не страх, што вернецца Чырвоная Армія, які падтрымліваецца ў насельніцтве прапагандай праз улёткі і чуткі». Гл.: Тамсама. Bl. 377 і наст.
[245] Даклад аддзела камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», Іа, Галоўнаму камандаванню армій, 13 лістапада 1941 г. (BA MA, RH 22/225, Bl. 167 і наст.).
[246] Справаздача пра дзейнасць афіцэра разведкі (афіцэра Іс) тылавога раёна групы армій «Цэнтр» за верасень 1941 г. (BA-MA. RH 22/228, Bl. 76—79); такая ж справаздача за кастрычнік 1941 г. (BA-MA. RH 22/228, Bl. 80—83).
[247] Спецзагад па 403-й ахоўнай дывізіі пра задачы ў новым раёне дзеянняў, Іа, 4 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 22/225, Bl. 20). Вылучана ў арыгінале.

Камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» аб'явіў умацаванне «супрацоўніцтва з добраахвотным насельніцтвам» «баявой задачай» падначаленых яму кіраўнікоў падраздзяленняў. «*Насельніцтва* трэба прыцягваць шляхам падбору К-асоб (інфарматараў). Гэта — кампетэнцыя камандзіра падраздзялення. Мэтазгодна аддаваць перавагу жыхарам лімітрофаў (памежных дзяржаў) ці тым, чые сем'і пацярпелі ад бальшавікоў»[248].

Не толькі беларускае насельніцтва падтрымлівала нямецкія аперацыі супраць савецкіх партызанаў, але і частка расійскага насельніцтва. У нямецкім дакладзе ад 6 лютага 1942 г. пра становішча ў рэгіёне вакол Арла і Курска гаворыцца: «Для выяўлення партызанаў і барацьбы супраць іх неабходна самым шырокім чынам прыцягваць насельніцтва. Да гэтага часу выкарыстанне расійскіх жыхароў часцей за ўсё прыносіла добрыя вынікі». Але далей там таксама гаворыцца:

> Калі ж у асобных месцах выявіцца, што насельніцтва не цалкам супрацоўнічае ў барацьбе супраць партызанаў, тады з ім трэба абыходзіцца з усёй строгасцю і дзейнічаць у адпаведнасці з прынцыпам, што страх нямецкіх захадаў павінен быць большым, чым боязь перад пагрозамі партызанаў[249].

У сапраўднасці нямецкія акупанты пакладаліся не толькі на «добрую волю» мясцовых жыхароў, але і абавязвалі іх. Адначасова яны запалохвалі, абвяшчаючы калектыўную адказнасць за напад на нямецкія падраздзяленні[250]. І гэты прынцып нямецкія акупанты з самага пачатку ажыццяўлялі на практыцы. Дамы, паселішчы і цэлыя вёскі, якія яны вызначалі сабе як уяўныя ці сапраўдныя «партызанскія апорныя пункты», спальваліся дашчэнту, а жыхароў ці вывозілі, ці забівалі. Аднак у 1941 г. на беларускай тэрыторыі гэта здаралася яшчэ рэдка. У расійскіх абласцях, наадварот, за «падтрымку партызанаў» нямецкія каманды з самага пачатку палілі цэлыя вёскі[251].

Выключэннем у Беларусі было яўрэйскае насельніцтва. У пэўнай ступені прэвентыўна — з нагоды «падтрымкі партызанаў» ці «спрыяння партызанам» — нямецкія акупанты ў 1941 г. забілі вялізную частку яўрэйскага насельніцтва Беларусі, большасць з тых, якія засталіся, —

[248] Чарнавік дакладной запіскі камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр»: «Партызан. Яго арганізацыя і барацьба з ім», 12 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/225, Bl. 123, 124v). Вылучана ў арыгінале.

[249] Даклад аддзела Ic / афіцэра па партызанскіх справах камандавання 55-га армейскага корпуса, 6 лютага 1942 г. (BA-MA. RH 26-221/28, без нумарацыі аркушаў).

[250] Памятка для бургамістраў 551-й палявой камендатуры ў Гомелі, 4 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/21, Bl. 304 і наст.).

[251] Афіцэр Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» дакладваў 8 кастрычніка 1941 г.: «Па шашы Вялікія Лукі — Таропец некалькі вёсак спаленыя за падтрымку партызанаў». Гл.: BA-MA. RH 22/226, Bl. 91. Тое ж самае пісалася 12 кастрычніка 1941 г.: «Пад Вяліжам спалена некалькі населеных пунктаў за падтрымку партызанаў». Гл.: Тамсама. Bl. 100. Тое ж занатавана і 4 снежня 1941 г.: «У адплату за напад на Пагарэльцы (гл. Дзённую зводку ад 3 снежня 1941 г.) спаленыя навакольныя населеныя пункты». Гл.: Тамсама. Bl. 148.



у 1942 г., а астатніх яшчэ жывых — у 1943 г., пра што яшчэ будзе гаворка.

Як выглядала падтрымка з боку мясцовага насельніцтва ў барацьбе супраць партызанаў, будзе паказана на наступным прыкладзе. 1-ы кавалерыйскі полк СС 25 жніўня 1941 г. прыбыў у Любань, на паўднёвы ўсход ад Мінска, і атрымаў паведамленне ад «мясцовых жыхароў», што за 25 км на поўдзень ад Старобіна ў калгасе размясціўся вялікі партызанскі атрад, узброены цяжкай зброяй.

> Пацвярджалася гэтае паведамленне беларускім старшым ляснічым, які выклікаўся быць праваднікам. [...] 26.8.41 і 27.8.41 г. адбылося планавае выступленне палка, так што названая партызанская група 28.8.41 г. вечарам [...] была акружана. 28.8.41 г. у 13.45 адна варожая група паспрабавала вырвацца з акружэння і была пры гэтым знішчана 4-м (кулямётным) эскадронам. У рускіх пры гэтым быў 21 забіты. Уласных страт панесена не было[252].

Пазней камандзір палка распарадзіўся накрыць лясны ўчастак, у якім знаходзіліся астатнія партызаны, «коннай батарэяй» з «непакоячым агнём», «з паспяховым вынікам, што партызаны павыходзілі малымі групамі з лесу і здаліся. Пры гэтым былі ўзятыя ў палон 50 чалавек. [...] Шмат асобных двароў, якія служылі апорнымі пунктамі партызанаў, былі спаленыя»[253].

692-гі пяхотны полк 20 верасня дакладваў пра дзеянні па «аперацыях зачысткі» ў раёне Асіповічаў: «Усе застрэленыя ці арыштаваныя асобы вылаўленыя пры падтрымцы бургамістраў ці на грунце дадзеных *мясцовых* этнічных немцаў. На загараджальнай лініі *ніхто* не быў затрыманы»[254]. Такія і падобныя прыклады падтрымкі з боку мясцовага насельніцтва за 1941 год можна ў вялікай колькасці прыводзіць таксама для расійскіх абласцей. Генерал Готхард Хейнрыцы, напрыклад, запісаў у паведамленні з вайны сваёй сям'і 19 лістапада 1941 г.: «Да гэтых партызанаў можна падступіцца толькі пры падтрымцы рускага насельніцтва. Яно часцей за ўсё выдае іх ахвотна, бо яно само тэрарызуецца гэтымі рабаўнікамі, забірае іх прадукты харчавання і г. д.»[255].

Праўда, паведамленні ад бургамістраў прыходзілі не заўсёды своечасова, таму нямецкае кіраўніцтва рэкамендавала праводзіць сістэматычную разведку. У адным дакладзе пра вопыт барацьбы з партызанамі ад 8 кастрычніка 1941 г. знаходзім:

[252] Паведамленне пра дзейнасць кавалерыйскай брыгады СС у перыяд з 25 жніўня да 3 верасня 1941 г., 3 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 22/224, Bl. 239—243). У паведамленні гаворыцца і пра далейшыя поспехі ў барацьбе з партызанамі.

[253] Тамсама.

[254] Заўвагі да справаздачы пра акцыі зачысткі, праведзеныя пяхотным палком 16—18 верасня 1941 г., 20 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/21, Bl. 330 і наст.).

[255] Паведамленне з вайны Готхарда Хейнрыцы сваёй сям'і ад 19 лістапада 1941 г., апублікаванае ў: Ein deutscher General an der Ostfront. Die Briefe und Tagebücher des Gotthard Heinrici 1941/42 / Hrsg. von J. Hürter. Erfurt, 2001. S. 111.

*Разведка* ажыццяўляецца найлепш праз пэўных цывільных асоб, напрыклад, былых партызанаў, сем'і якіх пад нашай уладай. Ім абяцаем жыццё і існаванне. Пры кампетэнтным выкарыстанні гэтых людзей і вывучэнні іх паведамленняў падраздзяленне не так часта прамахваецца, як пры неадкладных дзеяннях пасля паведамлення бургамістра[256].

Падтрымка мясцовага насельніцтва ў барацьбе з партызанамі, аднак, не абмяжоўвалася толькі звесткамі пра месца знаходжання ці схованкі сапраўдных і ўяўных партызанаў ці камуністаў і камсамольцаў, выжыўшых пад катком вайны, супрацоўнікаў НКУС і міліцыі ды савецкіх актывістаў. Наадварот, жыхары, як мы ўжо паказвалі, актыўна ўдзельнічалі ў пераследаванні партызанаў і іншых савецкіх актывістаў.

У Клічаўскім раёне (Магілёўская вобласць), напрыклад, становішча партызанаў значна пагоршылася, калі нямецкія акупанты непасрэдна пасля акупацыі раёна наладзілі адміністрацыйныя структуры і дапаможную паліцыю з мясцовых «амаль ва ўсіх населеных пунктах». Партызанскі камандзір «першага прызыву» з рэгіёна праз год паведамляў:

> Гэтыя паліцэйскія атрады аб'ядналіся і вялі пад камандаваннем карных атрадаў барацьбу супраць партызанаў. У гэты час мы панеслі вялікія страты, бо было цяжка змагацца з мясцовай паліцыяй: яны нападалі на нас ва ўсіх вёсках і ведалі лясы ў наваколлі не горш за нас[257].

У Мазырскім раёне (Палеская вобласць) нямецкія акупанты для барацьбы з партызанамі сфармавалі «банды» з «антысавецкіх» элементаў[258]. І ў Пінскай вобласці летам 1941 г. былі «ўзброеныя банды з мясцовых, у якіх была задача высочваць і затрымліваць таварышаў, засланых у вобласць»[259], скардзіўся мясцовы партыйны работнік.

Падобнае становішча было ў Суражскім раёне Віцебскай вобласці. Там з'явіліся ў верасні 1941 г. некалькі атрадаў і груп з чырвонаармейцаў і афіцэраў, якія адбіліся ад сваіх часцей і дзейнічалі ізалявана. Яны правялі толькі некалькі аперацый, бо баяліся такім чынам навесці праціўніка на след партызанаў. У канчатковым выніку восенню 1941 г. немцы актывізавалі барацьбу з партызанамі. Іх становішча яшчэ больш пагоршылася, калі немцы стварылі групы паліцэйскіх з мясцовых. Гэтыя людзі вельмі добра ведалі мясцовасць і наводзілі нямецкія каманды на след партызанаў. У канчатковым выніку восенню 1941 г. партызанскія атрады ў раёне былі часткова разагнаныя,

[256] Даклад пра вопыт барацьбы з партызанамі «тутэйшага» 45-га ахоўнага палка ад 8 кастрычніка 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/226, без нумарацыі аркушаў).
[257] Размова з тав. Зайцам пра заснаванне партызанскіх атрадаў у Клічаўскім раёне, 1 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 31—34).
[258] Справаздача пра дзейнасць партызанскага атрада ў Мазырскім раёне яго камандзіра Макаранкі, 15 студзеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1072, л. 48).
[259] Даклад сакратара Пінскага абкама Шапавалава, [жнівень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 137 і наст.).



часткова знішчаныя. У канцы снежня 1941 г. засталося толькі некалькі груп, што не праводзілі больш ніякіх аперацый[260].

У шмат якіх іншых тагачасных дакладах і паведамленнях знаходзяцца спасылкі на «банды», кулакоў і антысавецкіх элементаў, што высочвалі, пераследавалі і «тэрарызавалі» савецкіх актывістаў, камуністаў, супрацоўнікаў міліцыі і НКУС[261]. І нямецкія крыніцы пацвярджаюць актыўны ўдзел мясцовых дапаможных паліцэйскіх у барацьбе з партызанамі. Камандуючы тылавым раёнам групы армій паведамляў 15 снежня 1941 г.: «На паўднёвы захад ад Лепеля бой паміж службай парадку і партызанамі». Ён жа 16 снежня 1941 г: «23 км на паўднёвы захад ад Талачына службай парадку знішчаны партызанскі лагер». І 19 снежня 1941 г.: «12 км на паўдн. усх. ад Любані служба парадку вяла бязлітасны бой і прычыніла ворагу цяжкія страты. Нашыя страты — 4 салдаты службы парадку»[262].

Не варта доўга шукаць матывацыю гэтай падтрымкі. Яна ў першую чаргу зыходзіла з таго, каб разлічыцца з ненавісным савецкім рэжымам за панесеную несправядлівасць (масавыя забойствы, дэпартацыі, выгнанні, разбой і рабаванне). Пра гэта сведчаць, сярод іншага, савецкія паведамленні таго часу, у якіх часта гаворка ідзе пра «кулакоў», «здраднікаў Радзімы», «контррэвалюцыйных» і «антысавецкіх» элементаў, што старанна падтрымлівалі нямецкіх акупантаў.

Піліп Пестрак, савецкі актывіст, які з лета 1941 г. да вясны 1943 г. хаваўся ў адной вёсцы ў Лельчыцкім раёне Палескай вобласці, паведамляў у ліпені 1943 г.:

> Немцы абапіраліся ва ўсіх сваіх мерапрыемствах на мясцовых. Гэта ў большасці сыны кулакоў, мясцовыя злодзеі, бандыты і іншыя крымінальнікі, якія за сваю шкодніцкую дзейнасць былі дэпартаваныя органамі Савецкай улады. Гэта былі нямецкія кадры. [...] Іх праца была большай, чым саміх немцаў. Некаторыя выдавалі гебітскамісару, што яны пры Савецкай уладзе пераследаваліся, што яны былі кулакамі і цяпер павінны карыстацца прывілеямі. [...] Былі выпадкі, калі завербаваныя выдавалі партызанаў[263].

Пра становішча ў Мазырскім раёне паведамляў партызанскі камандзір у студзені 1942 г.:

> [У Мазырскім раёне] пасля адыходу Чырвонай Арміі актывізаваліся элементы, якія былі варожымі і чужымі ў адносінах да Савецкай улады: кулакі,

[260] Партызанскі рух у Суражскім раёне да 10 верасня 1942 г., брыгада Шмырова, [верасень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 62 і наст.).
[261] Гл., напрыклад: Даклад партыйнага дзеяча з Брэста Іофе, [жнівень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, д. 480, л. 140—145); даклад сакратара Тураўскага райкама Палескай вобласці, [жнівень 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, д. 480, л. 146—149); даклад камісара атрада Эрлаха ад 15 студзеня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1072, л. 29—43).
[262] Дзённыя зводкі камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» ад 15, 16 і 19 снежня 1941 г. (BA-MA. RH 22/226, Bl. 159 і наст., 163).
[263] Інфармацыя пра Піліпа Пестрака і пратакол размовы з ім ад 10 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 62 об.).

дэзерціры і іншая погань. Яны занялі свае былыя дамы, адабралі сабе ў калгаснікаў збожжа, жывёл, транспартныя сродкі, вупраж і інш. [...] Яны абрабавалі жытло эвакуіраваных [збеглых дзеячаў савецкага дзяржаўнага і партыйнага апаратаў]. [...] Гэтыя прадажныя сабакі былі прызначаныя старастамі, паліцэйскімі і інш. Яны пачалі пераследаваць сем'і савецкіх актывістаў і партызанаў. [...] Супраць гэтых прадажных сабак партызанскі атрад [які дзейнічаў у раёне] накіраваў агонь сваёй нянавісці[264].

Максім Дадзеркін, напрыклад, працаваў летам 1941 г. у калгасе «Бальшавік» пад Ляхавам Віцебскай вобласці. 27 жніўня 1941 г. ён паведаміў у мясцовую камендатуру I / 532 пра з'яўленне савецкіх партызанаў у наваколлі Ляхава. Ён пры гэтым заявіў пад пратакол:

Прычына для мяне заявіць пра выпадак нямецкаму вермахту палягала ў тым, што я за адмаўленне ад працы ў калгасе быў асуджаны на тры гады прымусовай працы, з якіх я адзін год адседзеў у турме, а рэшту правёў у Сярэдняй Азіі на прымусовай працы. Я не жадаю звароту прыгнёту і пакут пад бальшавіцкім панаваннем[265].

Прыведзеныя вышэй прыклады былі не выключэннем, а правілам. НКУС СССР паведамляў 13 верасня 1941 г.: «Галоўную апору нямецкіх фашыстаў уяўляюць сабой кулакі і бандыты»[266]. Бандытамі Фіцін, аўтар даклада, называў «контррэвалюцыйных элементаў», што пераследаваліся да 22 чэрвеня 1941 г. Саветамі. І Панамарэнка пісаў Сталіну 19 жніўня 1941 г.:

Ва ўсходніх абласцях [Беларусі] [немцы] прызначаюць старастамі былых кулакоў ці антысавецкіх і крымінальных элементаў, якія пераследаваліся Савецкай уладай, а таксама — у некаторых выпадках — здраднікаў Радзімы[267].

Пад «здраднікамі Радзімы» Панамарэнка меў на ўвазе былых супрацоўнікаў савецкага партыйнага і дзяржаўнага апарату. Сапраўды, сярод саміх партызанаў і сярод савецкіх партыйных і дзяржаўных работнікаў нярэдка бывала здрада. Макаранка, камандзір партызанскага атрада ў Мазырскім раёне, паведамляў:

Сярод здраднікаў, дэзерціраў і баязліўцаў знаходзілася немалая група былых кіраўнічых савецкіх калгасных актывістаў. Адна частка з іх была спачатку ў партызанскім атрадзе, а пазней дэзерціравала. Яны здалі сваю

[264] Справаздача пра дзейнасць партызанскага атрада ў Мазырскім раёне яго камандзіра Макаранкі, 15 студзеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1072, л. 48).
[265] Справаздача допыту, зробленая аддзелам Іс камендатуры тылавой тэрыторыі 582-й арміі, 27 жніўня 1941 г. (BA-MA. RH 23/227, без нумарацыі аркушаў).
[266] Спецдаклад начальніка 1-га ўпраўлення НКУС СССР Фіціна пра дзейнасць нямецкіх фашыстаў на часова акупаванай тэрыторыі Беларусі, 12 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 125, д. 52, л. 55).
[267] Даклад П. Панамарэнкі І. Сталіну пра становішча на акупаваных тэрыторыях Беларусі, 19 жніўня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 153).



зброю нямецкаму камандзіру і зрабіліся актыўнымі памагатымі фашыстаў. Яны выдавалі дэталёвую інфармацыю пра колькасць, месцазнаходжанне і дзейнасць партызанскага атрада[268].

«Здраднікамі» былі, сярод іншага, два старшыні і адзін сакратар сельскіх саветаў, тры старшыні калгасаў, адзін супрацоўнік міліцыі і адзін дэпутат Вярхоўнага Савета. Апошні быў палітkамісарам у адным партызанскім атрадзе[269].

У Брагінскім раёне Палескай вобласці не засталося ніводнай партызанскай групы, што былі сфармаваныя па распараджэнні Цэнтральнага камітэта КП(б)Б, акрамя адной групы з шасці чалавек на чале з нейкім Сапоненкам. Прабыўшы шэсць дзён у падполлі, Сапоненка сам пайшоў да «паліцыі» і выдаў групу. Толькі адзін удзельнік групы, Пётр Зіновіч, змог выратавацца. Усе базы забеспячэння, якія перад адступленнем савецкіх войскаў былі закладзеныя для партызанаў у раёне, Сапоненка выдаў немцам. Толькі ў маі 1942 г. Зіновіч арганізаваў новы атрад з 45 партызанаў[270].

Шмат падобных тагачасных паведамленняў, у якіх ідзе гаворка пра здраду партызанаў, камуністаў і іншых савецкіх актывістаў, супрацоўнікаў НКУС і міліцыі, знаходзяцца ў маскоўскіх і мінскіх архівах[271]. На іншых тэрыторыях, як, напрыклад, ва Украіне, становішча было падобным[272]. Тое, што Саветы лічылі паводзіны такой групы асоб за здраду, можна зразумець. Але Саветы называлі і «кулакоў» ды іншых ахвяр свайго тэрору, якія выявілі гатоўнасць супрацоўнічаць з нямецкімі акупантамі, таксама «здраднікамі», «прадажнымі сабакамі» і г. д. Ва ўсякім разе наўрад ці можна зразумець, чаму гэтыя ахвяры павінны былі заставацца лаяльнымі ў адносінах да злачынцаў. Наадварот, шмат хто з іх спадзяваўся адпомсціць Саветам за перанесеную несправядлівасць. І гэтыя пачуцці помсты былі выкарыстаныя нямецкімі акупантамі, каб у зародку задушыць савецкі супраціў. У 1941 г. гэта ім вельмі добра ўдалося.

Барацьбу з партызанамі ў 1941 г. палегчыла немцам і суровая зіма, якая прыйшла раней, чым звычайна. Снег абцяжарыў партызанам хаванне сваіх слядоў у лесе і балотах і палегчыў нямецкім

[268] Справаздача пра дзейнасць партызанскага атрада ў Мазырскім раёне яго камандзіра Макаранкі, 15 студзеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1072, л. 48).
[269] Тамсама. Л. 49 і наст.
[270] Справаздача атрада імя Катоўскага ЦШПР ад 7 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 6 і наст.); спіс груп, накіраваных у Палескую вобласць, [1941 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 1, арк. 4—8).
[271] Гл., напрыклад: Справаздача сакратароў Кіраўскага (Стромы) і Быхаўскага (Падольцава) райкамаў партыі ад 5 жніўня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 129); справаздача пра дзейнасць партызанскага атрада з Ельска Палескай вобласці за перыяд з 22 жніўня 1941 г. да 10 снежня 1942 г, [снежань 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 256—259).
[272] У дакладзе аператыўнага аддзела УШПР ад 16 чэрвеня 1945 г. гаворка ідзе пра «выпадкі перабегаў ненадзейных элементаў [сярод партызанаў] да ворага і здрады ў атрадах» (ЦДАГОУ. Ф. 62, оп. 1, спр. 1, арк. 6 і наст.).

супрацьпартызанскім камандам і мясцовым паліцэйскім высочванне і знішчэнне іх. Акрамя таго, холад гнаў партызанаў у вёскі, дзе яны маглі быць выкрытыя нямецкімі камандамі і мясцовымі паліцэйскімі.

На гэта і разлічвалі немцы. У адным паведамленні ад 20 кастрычніка 1941 г. гаворыцца:

> Пры снегападзе, які прагназуецца на гэтай тэрыторыі [Беларусь], адшуканне і пераследаванне партызанаў, дзякуючы адбіткам слядоў, значна спрашчаецца. [...] Для барацьбы з партызанамі ў лесе зімой неабходна, каб пры кожнай аперацыі мінімум 2 групы былі забяспечаныя лыжамі. Неабходна неадкладна пачаць фармаваць гэтыя спецыяльныя групы[273].

У пачатку снежня 1941 г. афіцэр Іс пры камандуючым тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» паведамляў: «Ёсць асобныя паведамленні [...], якія сведчаць пра з'явы разлажэння сярод партызанаў. Яны абумоўленыя асабліва ранняй зімой са снегам і холадам»[274].

Сапраўды, шматлікія партызанскія камандзіры абгрунтоўвалі сваё рашэнне спыніць партызанскую барацьбу восенню 1941 г. надышоўшай зімой. Так, партызанскі атрад, арганізаваны ў канцы чэрвеня 1941 г. лейтэнантам Юрыным у раёне Беразіно (Мінская вобласць), у кастрычніку 1941 г. спыніў сваю партызанскую барацьбу, бо, па словах Юрына, «калі прыйшла восень, мы былі вымушаныя перайсці лінію фронту, бо ў нас не было баз забеспячэння, не было зімовай вопраткі»[275].

На фоне абмаляваных вышэй умоў не павінна здзіўляць, што савецкія спробы стварыць у 1941 г. шырокі партызанскі рух у Беларусі і на іншых акупаваных тэрыторыях былі асуджаныя на правал.

[273] Афіцэр Іа камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, 10 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 130, арк. 18 і наст.).

[274] Справаздача пра дзейнасць афіцэра Іс тылавога раёна групы армій «Цэнтр» за лістапад 1941 г. (BA-MA. RH 22/228, Bl. 84 і наст.).

[275] Справаздача атрада С. Юрына (Васільева) у Бярэзінскім раёне ад 21 лютага 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 31).

# II. Вясна 1942 г.: паваротны пункт партызанскага руху ў Беларусі

У канцы 1941 г. — як выкладалася — на беларускай тэрыторыі меліся толькі нямногія партызанскія групы ці атрады, што актыўна змагаліся. Структур, якія партыйныя арганізацыі, НКУС, Аператыўна-вучэбны цэнтр спрабавалі стварыць пасля 22 чэрвеня 1941 г., не існавала. Большая частка насельніцтва адносілася да партызанаў і падпольшчыкаў ці варожа, ці, у лепшым выпадку, абыякава. Нямала яно ўдзельнічала і ў барацьбе з партызанамі. Гэта вырашальна спрыяла поспехам немцаў летам і восенню 1941 г. у змаганні з партызанамі. Нямецкія акупанты спадзяваліся, што неўзабаве канчаткова «ачысцяць» ад партызанаў захопленыя вобласці, бо, нягледзячы на ўсе ранейшыя поспехі, акупаваныя тэрыторыі былі яшчэ далёка не «ўціхаміраныя».

Нямецкія акупанты былі ўпэўненыя, што наступная зіма выраашальным чынам паспрыяе канчатковаму «ўціхамірванню»[1]. Адначасова яны зыходзілі з таго, што самым дзейсным метадам у барацьбе супраць партызанаў з'яўляюцца шырокамаштабныя і сістэматычныя акцыі:

> Уціхамірванне тэрыторыі, на якой раўнамерна размясціліся партызаны, адбываецца самым дзейсным чынам дзякуючы хуткаму наступу шырокім фронтам і па магчымасці раптоўнаму захопу тэрыторыі пры шырокім размеркаванні падраздзялення. [...] Падраздзяленне неабходна размясціць у закрытых збудаваннях, школах ці адрынах і абсталяваць іх для надзейнай абароны. Яно пачынае грунтоўна абшукваць населеныя пункты і асобныя двары свайго сектара і мясцовасць, а таксама правяраць насельніцтва на наяўнасць прышлых ці асоб, якія падтрымліваюць партызанаў[2].

Аднак увосень 1941 г. не было дастаткова падраздзяленняў, каб мець магчымасць праводзіць такія шырокамаштабныя і сістэматычныя акцыі, таму спачатку рабілі стаўку на малыя мабільныя каманды. Перад гэтымі камандамі ставілася задача, з аднаго боку, дзейнічаць мэтанакіравана супраць партызанаў, пра якіх меліся звесткі, з другога боку, праз «старанную разведку» на мясцовасці непакоіць партызанаў, рабіць на іх ціск.

Праўда, гэтага было недастаткова. Так, камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі паведамляў 10 лістапада 1941 г.:

[1] Афіцэр Іа камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, 10 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 130, арк. 18 і наст.).

[2] Чарнавік дакладной запіскі камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» М. фон Шэнкендорфа: «Партызан. Яго арганізацыя і барацьба з ім», 12 кастрычніка 1941 г. (BA-MA. RH 22/225, Bl. 124v і наст.).

Зводкі за дні 7. і 8.11.41 г. паказваюць, што дзякуючы стараннаму патруляванню партызанам самым яўным чынам наносіцца шкода, і перш за ўсё яны не маюць магчымасці без перашкод знаходзіцца на адным месцы ці збірацца. Але справа палягае не ў тым, каб праганяць і непакоіць партызанаў, галоўнае, каб, сустрэўшы, знішчыць іх[3].

Сапраўды, адмыслова вялікія і цяжкадаступныя лясы і балоты на ўсход і на паўднёвы ўсход ад Мінска ператварыліся позняй восенню 1941 г. у «накапляльныя рэзервуары» партызанаў[4]. Гаворка ішла пры гэтым найбольш пра камандзіраў і байцоў Чырвонай Арміі, якія адбіліся ад сваіх часцей. Але ў лістападзе і снежні 1941 г. большасць наяўных да таго часу груп і атрадаў распадаліся і імкнуліся перазімаваць паасобку ці групамі ў вёсках і калгасах. Ніякіх аперацый супраць нямецкіх акупантаў яны звычайна не праводзілі[5].

Гэта быў спрыяльны момант для немцаў, каб сістэматычна «прачэсваць» і «ачышчаць» «неўціхаміраныя» тэрыторыі. Падзеі на фронце, праўда, перашкаджалі гэтаму. У пачатку снежня 1941 г. пачаўся савецкі контрнаступ, які цягнуўся да вясны 1942 г. Чырвоная Армія часам адкідала нямецкія войскі на некалькі кіламетраў на захад[6]. І без таго сціплыя сілы, што былі выдзеленыя для барацьбы з партызанамі, перакідаліся на фронт. Камандуючы тылавым раёнам групы армій дакладваў 13 студзеня 1942 г.: «Падзеі на фронце, як і раней, засланяюць дзейнасць у тылавым раёне групы армій. У выніку далейшага абвастрэння становішча цяпер апошнія баяздольныя вайсковыя падраздзяленні камандуючага адбілі для дзеянняў на фронце»[7].

Са снежня 1941 г. да канца лютага 1942 г. камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» мусіў, сярод іншага, адаслаць на фронт тры дывізіі, адну кавалерыйскую брыгаду СС і адну матарызаваную брыгаду СС, тры палкі, сем батальёнаў паліцыі, чатыры вартавыя батальёны і сем ахоўных батальёнаў[8]. А 1 сакавіка 1942 г. ён з трывогай пісаў:

> *З часцямі, якія ёсць яшчэ ў нашым распараджэнні, немагчымая актыўная барацьба супраць партызанаў*. […] У той час, калі раней мы знішчалі ў баях

---

[3] Загад № 21 камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, 10 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 130, арк. 27 і наст.).

[4] 10 сакавіка 1942 г. 203-я ахоўная брыгада дакладвала пра размяшчэнне ворага ў лясных масівах на поўдзень ад Бабруйска: «На гэтых […] тэрыторыях з пачаткам наступлення сапраўдную ўладу маюць вялікія партызанскія банды». Гл.: BA-MA. RH 22/230, Bl. 195.

[5] Параўн. адносна гэтага, напрыклад, загад № 30 камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі (аддзел 707-й пяхотнай дывізіі), Ia, Мінск, 18 снежня 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 130, арк. 47 і наст.).

[6] Overy R. Russlands Krieg. 1941—1945. Reinbeck—Hamburg, 2003. S. 181—197.

[7] Даклад афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» у Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў ад 13 студзеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/230, Bl. 12).

[8] Камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр»: прапановы па знішчэнні партызанаў у тылавым раёне групы армій і ў тылавых раёнах армій ад 1 сакавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/230, Bl. 138).



> *за дзень у сярэднім 300—400 партызанаў*, з часу рускага наступлення, у выніку паменшанай з таго часу баяздольнасці часцей камандуючага з прычыны адцягнення яго баявых падраздзяленняў на фронт і абумоўленай гэтым немагчымасці прадпрымаць наступы на партызанаў, колькасць штодня забітых партызанаў складае толькі 10—15. У той час, калі да снежня 1941 г. тэрыторыя камандуючага тылавым раёнам гр. а. «Цэнтр» магла лічыцца даволі чыстай ад партызанаў, шмат якія ўчасткі цяпер варта называць забруджанымі партызанамі[9].

Без сумнення, савецкае зімовае наступленне стала паваротным пунктам партызанскага руху ў Беларусі, які пачаў дынамічна развівацца праз некалькі месяцаў. Вырашальную ролю пры гэтым адыгрывалі камандзіры і байцы Чырвонай Арміі, што адбіліся ад сваіх часцей, а таксама збеглыя ваеннапалонныя, шмат тысяч якіх трапілі ў нямецкі тыл.

Значная большасць вайскоўцаў, што адбіліся ад сваіх часцей, і збеглых палонных знайшлі потым сабе працу на сяле, у вёсках і калгасах. З вясны 1942 г. яны ўсё больш ішлі ў лясы і далучаліся да наяўных ужо груп і атрадаў ці самі стваралі іх. У гэтым спантанным і некіроўным працэсе выбітную ролю адыгрывалі асобныя моцныя асобы, якія ўмелі праявіць сябе і былі па-савецку ідэалагічна загартаваныя. Гэта можна прадэманстраваць на прыкладзе ўжо згаданага палкоўніка Уладзіміра Нічыпаровіча.

## 1. Палкоўнік Уладзімір Нічыпаровіч і 208-ы партызанскі атрад імя Сталіна

Палкоўнік Нічыпаровіч у чэрвені 1941 г. камандаваў 208-й матарызаванай дывізіяй, якая ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1941 г. была разгромлена на паўночны захад ад Мінска. Пасля ён, паводле яго пазнейшага сведчання, паспрабаваў арганізаваць паўстанне ў Мінску, але беспаспяхова. У верасні 1941 г. Нічыпаровіч з невялікай групай афіцэраў пачаў партызанскую барацьбу ў лясах пад Уздой, каля 50 км на поўдзень ад Мінска. З часам група, да якой далучыліся іншыя вайскоўцы, што адбіліся ад сваіх часцей, перарасла ў атрад. Атрад у першую чаргу праводзіў аперацыі супраць мясцовых дапаможных паліцэйскіх і ўпраў. У гэты час група дзейнічала прыблізна ад 60 да 100 км на поўдзень і ўсход ад Мінска, на тэрыторыі вакол Узды, Рудзенска і Смілавічаў[10].

---

[9] Тамсама. Bl. 134—145. Вылучана ў арыгінале.

[10] Даклад У. Нічыпаровіча Ваеннаму савету Заходняга фронту, 2 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 21—26); пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—15). У абодвух дакументах У. Нічыпаровіч часам прыводзіў супярэчлівыя дадзеныя адносна сваіх дзеянняў летам 1941 г. У другой запратакаляванай размове ён паведамляе пра дыверсію, якую ўчыніў са сваёй групай ужо ў ліпені 1941 г. У жніўні 1941 г. ён быццам бы з групай з 60—70-ці чалавек пачаў партызанскую барацьбу. У паведамленні ж ад 2 ліпеня 1942 г. ён піша, што са сваёй групай пачаў партызанскую барацьбу ў верасні 1941 г.

У снежні 1941 г. ягоны атрад, па словах Нічыпаровіча, аб'яднаўся яшчэ з дзвюма групамі з Рудзенскага раёна (на поўдзень ад Мінска), якія таксама складаліся пераважна з вайскоўцаў, што адбіліся ад сваіх часцей. Партызаны назвалі новы атрад 208-м партызанскім атрадам імя Іосіфа Сталіна, а камандаванне падраздзяленнем, што налічвала ўжо каля 250 партызанаў, узяў на сябе палкоўнік Нічыпаровіч, які карыстаўся «ў байцоў надзвычайна высокім аўтарытэтам»[11].

Аднак штосьці гаворыць пра тое, што звесткі Нічыпаровіча пра сваю партызанскую дзейнасць летам—восенню 1941 г. як мінімум перабольшаныя. Так сцвярджаў у лістападзе 1942 г. сакратар Рудзенскага падпольнага райкама КП(б)Б Мікалай Пакроўскі[12], які быў у сур'ёзнай сварцы з Нічыпаровічам. Паводле ягоных слоў, Нічыпаровіч з лета 1941 г. быў у Мінску. У лістападзе 1941 г. ён нібыта з'явіўся ў адной вёсцы на поўдзень ад Мінска, каб пазбегчы пагрозы арышту. Там яго і сустрэў Пакроўскі, атрад якога дзейнічаў у Рудзенскім раёне. І вось Нічыпаровіч папрасіўся ў атрад. Пакроўскі даў згоду і зрабіў яго начальнікам штаба атрада, бо былы начальнік штаба незадоўга да гэтага быў забіты ў баі з немцамі[13]. Пакроўскі, аднак, пацвердзіў, што Нічыпаровіч сабраў вакол сябе групу камандзіраў, што адбіліся ад сваіх часцей[14].

Таксама ў снежні 1941 г., паводле слоў Пакроўскага, атрад па яго ініцыятыве аб'яднаўся ў адно падраздзяленне з іншай групай, якая таксама дзейнічала ў мясцовасці вакол Рудзенска пад камандаваннем Сяргеева, супрацоўніка НКУС. Абедзве групы складаліся пераважна з чырвонаармейцаў, што адбіліся ад сваіх часцей[15]. 6 студзеня 1942 г. адбыўся партыйны сход партызанаў, каб вызначыць кіраўніцтва аб'яднаным атрадам. Камандзірам выбралі Нічыпаровіча, таму што

[11] Тамсама; дакладная запіска начальніка 3-га аддзялення 208-га партызанскага атрада імя Сталіна Рыгора Гінзбурга ў Асобы аддзел НКУС Заходняга фронту аб баявой дзейнасці і агентурным забеспячэнні атрада (па стане на 20 ліпеня 1942 г.), надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 2. С. 58—60.

[12] Летам 1942 г., за некалькі месяцаў да таго, як Мікалай Пакроўскі напісаў сваю дакладную на У. Нічыпаровіча, апошні назваў атрад Пакроўскага амаральным, у якім пануюць п'янства і распуста. У сакавіку 1942 г. думалі нават аддаць Пакроўскага пад партызанскі суд за яго распусны лад жыцця. Пасля гэтага Пакроўскі з групай партызанаў у 50 чалавек адлучыўся і вярнуўся назад у Рудзенскі раён. Гл.: Даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне ад 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.). У. Нічыпаровіч вінаваціў Пакроўскага таксама ў страху перад ворагам. Гл.: Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16); вытрымка з заявы камандзіра ўзвода 208-га партызанскага атрада лейтэнанта [прозвішча ў копіі не называецца] ад [даты няма] снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 4, д. 3359, л. 5 і наст.). Гл. таксама: Slepyan K. Stalin's Guerrillas... P. 179 і наст.

[13] Дакладная М. Пакроўскага ў ЦК КП(б)Б, якая паступіла 3 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 207 і наст.).

[14] Тамсама; пратакол размовы з Мікалаем Пакроўскім ад [дата нечытэльная] снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 65, 81 і наст.).

[15] Тамсама.



ў яго былі самае высокае вайсковае званне і найбольшы ваенны вопыт. Пакроўскі стаў камісарам, а Сяргееў — камандзірам адной з рот[16]. У студзені і лютым 1942 г. група камандзіраў Чырвонай Арміі, якія хаваліся ў Мінску, а таксама яўрэі з Мінскага гета, што мелі кантакты з Нічыпаровічам, далучыліся да атрада[17]. Гэтых камандзіраў Нічыпаровіч прызначыў на найважнейшыя пасады ў атрадзе, які ён рэарганізаваў паводле ваеннага прынцыпу[18].

Такім чынам, здаецца адносна пэўным, што Нічыпаровіч летам і восенню 1941 г. сабраў вакол сябе слабую групу афіцэраў, якія адбіліся ад сваіх часцей, хаваліся ў Мінску і наваколлі. Нічыпаровіч вельмі добра ведаў горад і наваколле, бо перад вайной ён шмат гадоў жыў у Мінску. Група, відавочна, спрабавала арганізаваць падпольную барацьбу ў Мінску і партызанскі рух, што тры іншыя члены гэтай групы пацвердзілі незалежна адзін ад аднаго. Праводзіліся таксама ізаляваныя дзеянні (падрывы чыгункі). Яны, праўда, не былі такімі шматлікімі, як гэта пазней сцвярджаў Нічыпаровіч. Група налічвала каля 30 чалавек[19].

Неаспрэчна, аднак, тое, што аб'яднаны атрад са студзеня 1942 г. пад камандаваннем палкоўніка Нічыпаровіча пачаў хутка расці і дамогся ў барацьбе супраць нямецкіх акупантаў значных поспехаў. У першыя тры месяцы 1942 г. падраздзяленне дзейнічала прыблізна ад 50 да 100 км на ўсход і на паўднёвы ўсход ад Мінска, у рэгіёне ва-

[16] Пратакол размовы з Ганнай Рубінчык ад 21 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 211 і наст.); Дакладная запіска начальніка 3-га аддзялення 208-га партызанскага атрада імя Сталіна Рыгора Гінзбурга ў Асобы аддзел НКУС Заходняга фронту аб баявой дзейнасці і агентурным забеспячэнні атрада (па стане на 20 ліпеня 1942 г.), надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 2. С. 58—60. Пакроўскі сцвярджаў, што ён разам з Сяргеевым прапаноўваў У. Нічыпаровічу ўзяць камандаванне над аб'яднаным атрадам, які тады налічваў каля 170 партызанаў. З гэтым У. Нічыпаровіч, быццам бы, пагадзіўся «з вялікай радасцю». Гл.: Пратакол размовы з Мікалаем Пакроўскім ад [дата нечытэльная] снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 81 і наст.).

[17] Пратакол размовы з Ганнай Рубінчык ад 21 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 211 і наст.). Сярод гэтых афіцэраў быў сярод іншых лейтэнант Азап-Заронаў, які восенню 1941 г. схаваўся ў Мінску пад фальшывым прозвішчам, каб 20 студзеня 1942 г. далучыцца да атрада палкоўніка У. Нічыпаровіча. Гл.: Пратакол апытання партызанаў Грыгор'ева, Азап-Шаронава і Апарына ад 10 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 935, л. 28 і наст.).

[18] Тамсама. Гл. пра гэта таксама дакладную запіску начальніка 3-га аддзялення 208-га партызанскага атрада імя Сталіна Рыгора Гінзбурга ў Асобы аддзел НКУС Заходняга фронту аб баявой дзейнасці і агентурным забеспячэнні атрада (па стане на 20 ліпеня 1942 г.), надрукаваную ў: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 2. С. 58—60. Гэтая дакладная запіска часткова падтрымлівае версію Пакроўскага.

[19] Копія заявы камандзіра ўзвода 208-га партызанскага атрада лейтэнанта [прозвішча ў копіі не называецца] ад [без даты] снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 4, д. 3359, л. 5 і наст.); стэнаграма размовы з Іванам Івановым, 21 сакавіка 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 280—288); пратакол размовы з маёрам Цярэнціем Кудзінавым ад 12 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 136—139).

кол Узды, Рудзенска, Чэрвеня, Асіповічаў. Паводле супадаючых дадзеных Нічыпаровіча, Пакроўскага і іншых байцоў атрада, партызаны разбурылі шматлікія масты, нападалі на мясцовую паліцыю, разганялі мясцовыя ўправы і ліквідавалі прызначаных немцамі бургамістраў і вясковых старастаў. Яны правялі таксама шматлікія баі з нямецкімі камандамі. Вялікая колькасць загінулых і параненых сведчыць пра тое, што атрад сапраўды ўвязваўся ў баі з нямецкімі камандамі і мясцовымі дапаможнымі паліцаямі[20].

Нямецкія крыніцы пацвярджаюць, што са студзеня 1942 г. у раёне дзеянняў атрада Нічыпаровіча раптам моцна ўзрасла партызанская актыўнасць. Яшчэ ў снежні 1941 г. там панаваў, як і ў астатніх беларускіх абласцях, адносны спакой, «партызаны не выяўлялі наступальнасці», г. зн. яны абмяжоўваліся ў асноўным здабываннем прадуктаў харчавання[21]. Праз некалькі тыдняў, аднак, на поўдні і паўднёвым усходзе ад Мінска запанавалі іншыя абставіны. «Ужо 14 дзён партызаны ажыццяўляюць прапагандысцкія паходы і разведвальныя вылазкі. [...] Яны з'яўляюцца [...] не толькі як рабаўнікі маленькімі групкамі, але і прыходзяць звесткі [...] пра большыя банды [...] атрада»[22].

Нямецкія крыніцы таксама паказваюць, што вясной 1942 г. на тэрыторыі, дзе дзейнічаў атрад Нічыпаровіча, здараліся шматлікія партызанскія налёты, у першую чаргу на бургамістраў і мясцовых дапаможных паліцаяў. Пакроўскі, камісар атрада, хваліўся ў снежні 1942 г.:

> Мы знішчылі 50 здраднікаў, больш за 50, і менавіта не паасобку, а падрыхтавалі цэлыя аперацыі. Адзін-два тыдні мы праводзілі разведку, каб даведацца, як складваюцца справы, а потым мы знішчылі ўсіх іх за адну ноч, 10 ці 15 з аднаго разу[23].

Партызаны вынішчалі і цэлыя сем'і «здраднікаў». У справаздачы пра дзейнасць атрада імя Сталіна ад заснавання да жніўня 1942 г., сярод іншага, напісана: «Расстраляныя 15 членаў сем'яў паліцаяў. [...] Спалена 40 дамоў паліцаяў»[24].

[20] Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16); дакладная М. Пакроўскага ў ЦК КП(б)Б, якая паступіла 3 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 207 і наст.). М. Пакроўскі апісваў некалькі такіх баёў вясной 1942 г., у якіх загінулі партызаны. У той жа час У. Нічыпаровіч узвальваў віну за гэтыя страты на Пакроўскага, бо яны быццам былі вынікам вайсковай няўмеласці апошняга.

[21] Данясенне начальніка тэрыторыі забеспячэння Беларусь (аддзел 770-й пяхотнай дывізіі), Іа, 8 студзеня 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 1 і наст.).

[22] Данясенне начальніка тэрыторыі забеспячэння Беларусь (аддзел 770-й пяхотнай дывізіі), Іа, 20 лютага 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 5).

[23] Пратакол размовы з Мікалаем Пакроўскім ад [дата нечытэльная] снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 73).

[24] Кароткае паведамленне пра дзеянні партызанскага атрада імя Сталіна з часу яго заснавання, падпісанае Ціхаміравым, 25 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 178 і наст.).



У мясцовасці, дзе дзейнічаў атрад, паводле нямецкіх дадзеных, неаднаразова адбываліся баі паміж партызанамі і нямецкімі камандамі, у якіх нямецкі бок адзначаў адчувальныя страты. Так, 14 лютага 1942 г. партызаны «разграмілі» два ўзводы 747-га пяхотнага палка на поўдзень ад Мінска пры «Будзе» і «Рудкове». Пры гэтым усяго загінулі 30 нямецкіх салдат (па 15), у тым ліку старшы лейтэнант і лейтэнант, а таксама тры паліцэйскія службы парадку; тры салдаты зніклі без вестак і тры былі паранения[25].

Штосьці гаворыць за тое, што гэтыя аперацыі трэба запісаць на рахунак партызанаў атрада Нічыпаровіча, якія — падзеленыя на роты і ўзводы — дзейнічалі ў розных мясцовасцях. Па-першае, гэтыя баі адбыліся ў цэнтры аператыўнага раёна атрада. Па-другое, партызаны атрада прыгадвалі баі з нямецкімі камандамі, падчас якіх загінула шмат нямецкіх салдат, але яны адначасова скардзіліся на адчувальныя ўласныя страты. Нічыпаровіч сам нагадваў, сярод іншага, пра разгром «Ліцвянскай камендатуры». Узвод 11-й роты 747-га пяхотнага палка быў знішчаны ў мясцовасці вакол населенага пункта «Літавец». Пры гэтым гаворка ідзе, магчыма, пра той самы населены пункт. Нічыпаровіч прыгадаў таксама, што партызаны ў лютым 1942 г. узялі ў палон, а пазней расстралялі нямецкіх салдат. 7-я рота 747-га пяхотнага палка паведамляла пра трох зніклых без вестак салдат у баі 14 лютага[26].

### *а) Аперацыя «Бамберг»*

Асабліва актыўную дзейнасць партызанаў нямецкія акупанты адзначалі вясной 1942 г. на поўдзень і на поўнач ад Бабруйска[27]. Там дзейнічала брыгада Фёдара Паўлоўскага, якая ў канцы лютага 1942 г. складалася з 13-ці атрадаў з прыблізна 1 300 партызанамі. Брыгада ўзнікла з малога атрада ў 32 чалавекі, што, згодна з дадзенымі Паўлоўскага, распачаў партызанскую барацьбу летам 1941 г.[28]. Паводле нямецкіх звестак, партызаны гэтага злучэння набіраліся з камандзіраў і байцоў, якія адбіліся ад сваіх, збеглых ваеннапалонных, яўрэяў, што ўцяклі ад пераследаванняў, а таксама з прымусова мабілізаваных маладых людзей. Са сваіх лагераў і апорных пунктаў, якія знаходзіліся ў недасягальных лясах ці аддаленых паселішчах,

[25] Данясенне начальніка тэрыторыі забеспячэння Беларусь (аддзел 770-й пяхотнай дывізіі), Іа, 20 лютага 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 4—8v).

[26] Тамсама; пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16); дакладная М. П. Пакроўскага ў ЦК КП(б)Б, якая паступіла 3 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 207 і наст.); пратакол размовы з Іванам Івановым 31 сакавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 280—288).

[27] Справаздача афіцэра Іа пра дзейнасць камандавання тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за люты 1942 г., 13 сакавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/230, Bl. 182—189).

[28] Пратакол размовы з Фёдарам Паўлоўскім, [кастрычнік—лістапад 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 46—57); Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 1. С. 335.

яны пасылалі невялічкія групы ў іншыя мясцовасці, каб канфіскаваць прадукты харчавання і здзяйсняць напады[29].

У сакавіку 1942 г. 707-я пяхотная дывізія атрымала загад знішчыць партызанаў у мясцовасці на поўнач і поўдзень ад Бабруйска. Аперацыя атрымала ўмоўную назву «Бамберг» (*«Bamberg»*). Падраздзяленні дывізіі ўтварылі вакол мясцовасці кола даўжынёй ад 20 да 30 км і 29 сакавіка перайшлі ў наступ[30]. Аднак запёртыя ў кацёл партызанскія атрады падзяліліся на малыя групы і пратачыліся праз нямецкія лініі, не ўступаючы ў адкрыты бой з большымі сіламі немцаў. Адбыліся толькі невялікія сутычкі. У ваенным дзённіку 707-й пяхотнай дывізіі за 31 сакавіка 1942 г. запісана: «Асаблівых баявых дзеянняў не адбылося, таму што партызаны вядомым чынам імкнуліся ўхіліцца ад атакі»[31]. Акрамя таго, аперацыю «Бамберг» давялося датэрмінова спыніць у першыя дні красавіка з прычыны надышоўшай адлігі.

Паўлоўскі, камандзір партызанскай брыгады, супраць якой у асноўным была накіравана аперацыя, здаецца, нават не зразумеў, што акцыя «Бамберг» планавалася як буйнамаштабная, што сведчыць пра дрэнную арганізацыю разведкі яго злучэння. Акрамя таго, Паўлоўскі ў канцы 1942 г. сцвярджаў, што ягоныя партызаны прымусілі немцаў пусціцца наўцёкі:

> 27 сакавіка 1942 г. былі пасланыя ў Акцябрскі раён тры батальёны гітлераўцаў, каб знішчыць дзейныя там партызанскія атрады. Адна частка з іх накіравалася ў вёску Парэчча ў Акцябрскім раёне, а частка — у вёску Катка Глускага раёна, каб акружыць і знішчыць партызанаў. Партызаны ў час гэтых баёў знішчылі 87 і паранілі 132 гітлераўскія салдаты. Астатнія ў беспарадку адступілі[32].

Пра страты партызанаў Паўлоўскі змаўчаў. 707-я дывізія, наадварот, далажыла 7 красавіка пра «страты ворага»: «Акрамя шматлікіх нявызначаных страт працўніка ў час уцёкаў пры чыстцы тэрыторыі, да 6.4.42 былі застрэленыя *3 423* партызаны і памагатыя». Адносна «ўласных страт» дывізія дакладвала пра «7 забітых і 8 параненых». Але ўжо малы лік захопленых вінтовак (44) сведчыць пра тое, што сярод 3 423 застрэленых «партызанаў і памагатых» былі нявінныя цывільныя, што наводзіць на пэўную выснову, тым больш, што нямецкія часці ў час аперацыі знішчылі шмат вёсак[33].

---

[29] Справаздача 707-й пяхотнай дывізіі аб аперацыі «Бамберг» ад 7 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 35); пратакол размовы з Ф. Паўлоўскім, [кастрычнік—лістапад 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 46—57).

[30] Данясенне афіцэра Ia камандуючага групы армій «Цэнтр» у Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў, 3 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 15—20).

[31] Ваенны дзённік 707-й пяхотнай дывізіі, запіс ад 31 сакавіка 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/4, Bl. 5v.).

[32] Пратакол размовы з Ф. Паўлоўскім, [кастрычнік—лістапад 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 49).

[33] Справаздача 707-й пяхотнай дывізіі аб аперацыі «Бамберг» ад 7 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 27—36); паведамленні 727-га пяхотнага палка з 26 сакавіка да 3 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 39—46); паведамленні 747-га пяхотнага палка з 24 сакавіка да 3 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 48—56); паведамленні 102-га ўзмоцненага славацкага палка з 27 сакавіка да 3 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 58—62); распараджэнні 707-й пяхотнай дывізіі падчас аперацыі «Бамберг» (BA-MA. RH 22/231, Bl. 64—67).



Аднак колькасць забітых вяскоўцаў была, пэўна, куды большай, бо даклад ад 7 красавіка не ўтрымлівае ахвяр (ці толькі часткова), залічаных на рахунак 102-га славацкага палка, які таксама браў удзел у аперацыі[34]. 102-гі полк дакладваў пасля заканчэння аперацыі: «Акрамя забітых у баявых дзеяннях, пры акцыях уціхамірвання было застрэлена каля 2 000 партызанаў і памагатых»[35]. «У баі» славацкія часці быццам забілі 856 «партызанаў», і гэта пры адрапартаваных уласных стратах у 3 забітых і 3 параненых. Да прыкладу, славацкія часці 29 сакавіка 1942 г. у 17.00 «акружылі і расстралялі» вёску Сялец, у якой абараняліся партызаны. Праз дзве гадзіны яны далажылі: «Супраціў ворага каля Сяльца зламаны. Сялец спалены ўшчэнт. Страты партызанаў: каля 150 забітых; уласныя страты: 0»[36]. Гаворка, відавочна, ішла пра расправу з жыхарамі вёскі.

707-я пяхотная дывізія, акрамя таго, заявіла, сярод іншага, пра трафеі: 2 454 галавы буйной рагатай жывёлы, 2 286 авечак, 321 свіння. Адначасова яна паведамляла: «Нягледзячы на поспех, тэрыторыю нельга яшчэ разглядаць як надзейную. Ужо неўзабаве пасля адыходу першых часцей дывізіі адбыліся новыя напады на жыхароў»[37]. Тым не менш, Вярхоўнае камандаванне вермахта аб'явіла 5 красавіка 1942 г. гэтую расправу з цывільным насельніцтвам, звязаную з рабаваннямі яго ўласнасці, вялікім ваенным поспехам у барацьбе супраць партызанаў: «Пры зачыстцы тылавой тэрыторыі на *цэнтральным участку фронту* была знішчана партызанская група з 3 000 чалавек»[38].

Аперацыя «Бамберг» стала ўзорам для пазнейшых буйных аперацый, якія праводзілі нямецкія акупацыйныя сілы ў 1942 і 1943 гг. у Беларусі, а таксама ў расійскіх і ўкраінскіх абласцях. Аперацыі былі скіраваныя як супраць партызанаў, так і супраць насельніцтва адпаведных тэрыторый. Праўда, першую буйную аперацыю незадоўга да гэтага правялі венгерскія акупацыйныя войскі ў Бранскай вобласці, на поўдзень ад Локаця[39].

---

[34] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 885—893.

[35] Паведамленні 102-га ўзмоцненага славацкага палка ад 27 сакавіка да 3 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 62).

[36] Тамсама.

[37] Справаздача 707-й пяхотнай дывізіі аб аперацыі «Бамберг» ад 7 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 35 і наст.).

[38] Даклад Вярхоўнага камандавання вермахта ад 5 красавіка 1942 г., апублікаваны ў: Die Berichte des Oberkommandos der Wehrmacht 1939—1945. Bd. III: 1.1.42 — 31.12.42. Köln, 2004. S. 80. Вылучана ў арыгінале. Тое, што тут гаворка ідзе пра аперацыю «Бамберг», вынікае з тэлеграмы генерала фон Шэнкендорфа ў 707-ю пяхотную дывізію ад 6 красавіка 1942 г. Копія тэлеграмы знаходзіцца ў месячнай справаздачы афіцэра Ia 707-й пяхотнай дывізіі ад 14 мая 1942 г. за перыяд з 1 да 31 сакавіка 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 18v).

[39] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 893.

### б) Партызанскае злучэнне ў Клічаўскім раёне

У сакавіку 1942 г. Нічыпаровіч таксама дзейнічаў са сваім атрадам у мясцовасці вакол Бабруйска. Са студзеня да сакавіка ягоны атрад вырас на прыблізна 500 партызанаў, часткова праз савецкіх актывістаў і салдат, якія адбіліся ад сваіх часцей, што хаваліся ў лясах, часткова за кошт мабілізаваных вяскоўцаў. Так, ягоны атрад у раёне Асіповічаў выпадкова трапіў на групу з 12 савецкіх актывістаў, якія «адседжвалі» вайну ў лесе ў добра замаскаванай зямлянцы. Яны не праводзілі ваенных акцый і абмяжоўваліся самазабеспячэннем. Сярод іх быў Сяргей Мазур, начальнік НКУС Асіповіцкага раёна. Нічыпаровіч далучыў гэтую групу да свайго атрада[40].

Нічыпаровіч, у адрозненне ад Паўлоўскага, загадзя даведаўся пра «блакаду», як партызаны называлі буйнамаштабныя аперацыі супраць іх (тут аперацыя «Бамберг»), што мела адбыцца, і вырашыў пакінуць з атрадам мясцовасць і прабівацца на савецкі бок. 29 сакавіка атрад рушыў на ўсход. Праз некалькі дзён яны прыбылі ў Клічаўскі раён Магілёўскай вобласці. Але пачатак адлігі і абумоўленыя ёй паводкі зрабілі пакуль немагчымым любое наступнае перамяшчэнне[41].

У Клічаўскім раёне ў гэты час ужо дзейнічалі некалькі самастойных партызанскіх атрадаў. Першы з'явіўся восенню 1941 г. з рэшткаў атрада, які спыніў сваю барацьбу ў верасні 1941 г. і спрабаваў прабіцца на савецкі бок. Далейшы лёс гэтага атрада невядомы. Але засталіся яшчэ некалькі мясцовых камуністаў і савецкіх актывістаў, што пазней утварылі новае падраздзяленне. У снежні 1941 г. з'явіліся яшчэ дзве групы з чырвонаармейцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей, а вясной 1942 г. яшчэ чатыры[42].

---

[40] Сяргей Мазур апісаў гэтую сустрэчу інакш: ягоная група нібыта сустрэла падраздзяленне У. Нічыпаровіча падчас патрулявання. Адначасова ён сцвярджаў, што ягоная група правяла шматлікія аперацыі яшчэ да сустрэчы з У. Нічыпаровічам. Гл.: Стэнаграма размовы з Сяргеем Мазурам ад 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 43); гл. на гэты конт таксама: Пратакол размовы з Мікалаем Пакроўскім у снежні 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 75 і наст.).

[41] Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16); даклад Яхантава пра заснаванне і дзейнасць 208-га партызанскага атрада імя Сталіна, [ліпень—жнівень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 24 і наст.); дакладная палкоўніка У. Нічыпаровіча Ваеннаму савету Заходняга фронту ад 2 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 21—26). У канцы сакавіка 1942 г. два партызаны трапілі ў рукі немцаў, і яны, відавочна, былі з атрада У. Нічыпаровіча. Пра гэта сведчаць звесткі, атрыманыя ад палонных пра склад, колькасць і раён дзеянняў атрада. Яны сказалі, што атрадам камандуе палкоўнік, не назваўшы, аднак, ягонага прозвішча. Палонныя пацвердзілі таксама, што атрад 29 сакавіка рушыў у накірунку да лініі фронту. Гл.: Паказанні пра групоўку партызанаў каля Градзянкі, 4 красавіка 1942, копія (BA-MA. RH 22/231, Bl. 117).

[42] Пратакол размовы з таварышам Зайцам пра заснаванне партызанскіх атрадаў у Клічаўскім раёне, 1 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 31—34); паведамленне Яхантава пра заснаванне і дзейнасць 208-га партызанскага атрада імя Сталіна, [ліпень—жнівень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 24 і наст.).



З той прычыны, што ў Клічаўскім раёне не было нямецкіх падраздзяленняў ці апорных пунктаў, гэтыя атрады амаль не праводзілі ніякіх баёў супраць нямецкіх салдат і паліцаяў. Аднак яны змагаліся супраць прызначаных немцамі бургамістраў і старастаў, а таксама супраць службы парадку. У сакавіку 1942 г. большасць з іх былі ці знішчаныя (часта разам з сем'ямі), ці ўцяклі. Юркаўцаў, адзін з партызанскіх камандзіраў, заявіў у лістападзе 1942 г.: «Мы перастралялі ўсю контррэвалюцыю [у раёне Клічава]». 20 сакавіка атрады, якія звычайна дзейнічалі самастойна, правялі сумесна паспяховы напад на раённы цэнтр Клічаў[43]. Падчас гэтага нападу партызаны, паводле іх дадзеных, забілі каля 140 «паліцаяў»[44]. Нямецкія крыніцы пацвярджаюць гэты напад: «Мястэчка Клічаў (33 км на поўнач ад Бабруйска) было занята партызанамі. Тамтэйшы склад, у якім захоўвалася 100 тон збожжа, быў спалены»[45].

Звычайна самастойныя групы і атрады займаліся галоўным чынам самазабеспячэннем прадуктамі харчавання, вопраткай і алкаголем, прычым яны відавочна часткова выраджаліся ў банды рабаўнікоў, якія здзекаваліся з насельніцтва. Нічыпаровіч: «Усе яны пілі [...], жылі на шырокую нагу, паблізу немцаў не было. [...] Камандзіры сварыліся паміж сабой, кожны хацеў быць галоўным правадыром»[46]. Падобна малюе абставіны ў Клічаўскім раёне і Сяргей Мазур, які толькі за некалькі тыдняў перад гэтым далучыўся да атрада Нічыпаровіча. Партызаны ў Клічаўскім раёне, паводле слоў Мазура, гналі самагонку, пілі і рабавалі, ніколі не ўступаючы ў бой з немцамі[47].

Падраздзяленне Нічыпаровіча па дарозе ў Клічаўскі раён натыкнулася на п'янага разведчыка адной з гэтых груп і ад яго даведалася пра ўмовы ў раёне. Пасля гэтага Нічыпаровіч склікаў усіх кіраўнікоў груп у раёне на сустрэчу і падпарадкаваў іх свайму камандаванню на той падставе, што ён самы старшы па званні. Потым ён 3 красавіка 1942 г. аб'явіў у Клічаўскім раёне савецкую ўладу. Прадстаўніком НКУС ён прызначыў Сяргея Мазура, былога начальніка НКУС у Асіповіцкім раёне. Затым Нічыпаровіч забараніў рабаўніцтва і бандытызм і запатрабаваў «цывілізаваных паводзінаў адносна насельніцтва»[48].

---

[43] Пратакол размовы з партызанскім камандзірам Андрэем Юркаўцавым пра заснаванне партызанскіх атрадаў у Клічаўскім раёне ад 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 17—29); справаздача пра дзейнасць камандзіра 14-й партызанскай брыгады Ялецкага ў Магілёўскай вобласці ад 28 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 159, л. 147—150).

[44] Кароткае паведамленне пра дзейнасць партызанскага атрада імя Сталіна, падпісанае Ціхаміравым, 25 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 178 і наст.).

[45] 10-дзённая зводка камандуючага ахоўных груп і камандуючага групай армій «Цэнтр» у Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў ад 24 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 133).

[46] Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16).

[47] Соколов Б. В. Оккупация: правда и мифы... С. 48 і наст.

[48] Тамсама; загад № 21 камандзіра 208-га партызанскага атрада імя Сталіна палкоўніка У. Нічыпаровіча ад 3 красавіка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 19 і наст.).

Сем атрадаў і груп, якія дзейнічалі да таго ў Клічаўскім раёне, заставаліся пад камандай сваіх камандзіраў, але былі рэарганізаваныя як ваеннае злучэнне. Кожны з атрадаў атрымаў свой нумар, як раней мелі падраздзяленні 208-й механізаванай дывізіі Нічыпаровіча. Атрад Свістунова атрымаў № 128, Ізоха — № 277, Міхалапа — № 620, атрад Лівенцава стаў № 752, Паўлава — № 61, Беразоўскага — № 780 і Свірыда — № 537[49].

Злучэнне Нічыпаровіча хутка расло. У пачатку ліпеня 1942 г. 208-ы партызанскі атрад, уласна першапачатковы атрад Нічыпаровіча, налічваў 670 байцоў, амаль выключна былых байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі. Ён складаўся з наступных частак: штаба, аднаго ўзвода сувязі, аднаго разведкі, аднаго гаспадарчага, санітарнай групы, пякарні, трох стралковых рот, аднаго артылерыйска-гранатамётнага ўзвода. Сюды трэба дадаць вышэйзгаданыя сем атрадаў і яшчэ тры, якія ўзніклі ўжо пасля аб'яднання ў злучэнне. Такім чынам, злучэнне налічвала на 14 ліпеня 2 241 партызана і каля 400 байцоў самаабароны, што былі прадстаўленыя жыхарамі вёсак[50].

Шмат увагі Нічыпаровіч надаваў ваеннай разведцы, за якую адказваў маёр Яхантаў. Так, неўзабаве ўдалося стварыць на тэрыторыі дзейнасці партызанаў густую сетку агентаў і інфарматараў. Яны забяспечвалі партызанаў важнай інфармацыяй, так што партызаны часта своечасова мелі дакладныя дадзеныя адносна колькасці праціўніка і яго перамяшчэнняў пры будучых баях і акцыях. Праўда, былі цяжкасці ў здабычы інфармацыі праз допыты «языкоў», бо, на думку Яхантава, «палонных расстрэльваюць на месцы, толькі ў выключных выпадках іх даводзяць да штаба, нягледзячы на шэраг загадаў іншага характару адносна ваеннапалонных»[51].

Злучэнне Нічыпаровіча кантралявала ўвесь Клічаўскі раён і адтуль ажыццяўляла пранікненні ў суседнія раёны. Неаднаразовыя спробы немцаў знішчыць партызанаў ці выгнаць з раёна — такое заданне атрымала зондэркаманда Дырлевангера — правальваліся[52]. У пачатку

[49] Даклад Яхантава пра заснаванне і дзейнасць 208-га партызанскага атрада імя Сталіна, [ліпень—жнівень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 24 і наст.).

[50] Дакладная палкоўніка У. Нічыпаровіча Ваеннаму савету Заходняга фронту ад 2 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 21—26); даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне ад 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.); даклад Яхантава пра заснаванне і дзейнасць 208-га партызанскага атрада імя Іосіфа Сталіна, [ліпень—жнівень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 24 і наст.).

[51] Даклад Яхантава пра арганізацыю разведкі пры партызанскіх атрадах Клічаўскага раёна, 11 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 853, л. 25—30).

[52] Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 199 і наст. Зондэркаманда Дырлевангера размяшчалася з канца лютага 1942 г. у Магілёве, і ў яе было заданне змагацца з партызанамі. Вясной 1943 г. спецбатальён СС Дырлевангера быў перакінуты ў Лагойск. Гл.: Асобая справа № 6 пракуратуры Ганавера аб падраздзяленні Дырлевангера, старшы пракурор Альф, 19 верасня 1962 г. (Bibliothek des Hamburger Instituts für Sozialforschung. B—33, S. 11 і наст.); Auerbach H. Die Einheit Dirlewanger // Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte. Jg. 3. 1962. H. 3. S. 250—263.



мая 1942 г. 1-ы паліцэйскі полк «Цэнтр», які павінен быў уціхамірваць раён, «праз разведку ў раёне Клічаў—Суша выявіў моцную і добра арганізаваную групоўку партызанаў ад 1 500 да 2 000 чалавек». Паліцэйскі батальён, падтрыманы ахоўна-паліцэйскай ротай, 9 мая атакаваў партызанаў з двух бакоў у мясцовасці вакол Сушы. Нямецкія падраздзяленні, аднак, натыкнуліся на моцны супраціў[53].

Партызаны пайшлі ў контратаку. На наступны дзень, 10 мая, Эрых фон дэм Бах, вышэйшы начальнік СС і паліцыі Расіі «Цэнтр», на сваім фізэлеры «Шторх»[54] прызямліўся ў Чачэвічах (паміж Магілёвам і Бабруйскам), каб наведаць часці. У сваім дзённіку ён канстатаваў:

> У Чачэвічах [sic] якраз было вялікае хваляванне, бо толькі што прыбылі часткова разрозненыя параненыя, якія, дашчэнту зняможаныя, распавядалі, што 2-я рота пал. бат. 307 напярэдадні вечарам была акружана партызанамі і пад Сушай дашчэнту знішчана. Таму я ўзяў камандаванне над усімі тамтэйшымі паліцэйскімі фармаваннямі на сябе[55].

Па-першае, фон дэм Бах запатрабаваў для падмацавання, сярод іншага, украінскі батальён і зондэркаманду Дырлевангера. 12 мая 1942 г. узмоцненыя войскі зноў атакавалі занятыя партызанамі населеныя пункты. Але партызаны змагаліся зацята, перайшлі ў контратаку і нават акружылі адзін батальён, які трэба было адбіваць. Пры такіх абставінах фон дэм Бах пусціў у ход самалёты, што пачалі бамбіць добра ўмацаваны населены пункт Суша, дзе знаходзіліся асноўныя сілы партызанаў. Гэта дапамагло зрабіць прарыў. Партызаны панеслі вялікія страты і часткова кінуліся наўцёкі ў балоты і лясы. Нямецкія часці занялі адваяваныя населеныя пункты (Развадаў, Усакіна, Альхоўку і Сушу) і спалілі іх дашчэнту. 1-ы паліцэйскі полк далажыў пра 520 чалавек страт ворага, у тым ліку каля 200 падчас бамбёжкі, уласныя страты склалі 9 мая 7 забітых і 17 параненых, а 12 мая — 3 забітыя і 6 параненых; трафеі: 1 цяжкі кулямёт, 2 лёгкія кулямёты і 1 гранатамёт[56].

У сапраўднасці «520 чалавек», якія быццам загінулі ў баях на баку партызанаў, былі ў першую чаргу жыхары вёсак. Яны загінулі ад нямецкіх бомбаў і бартавых кулямётаў ці былі забітыя пры знішчэнні вёсак. Пра гэта гаворыць, сярод іншага, той факт, што нямецкія часці не захапілі ніводнай вінтоўкі. Фон дэм Бах жа думаў, што ягоныя падраздзяленні ваявалі не толькі супраць партызанаў, але і супраць «рэгулярнай групы парашутыстаў», і сведчыў пра партызанаў: «Трэ-

[53] Справаздача першага паліцэйскага палка «Цэнтр» пра баі з 9 да 12 мая 1942 г., 16 мая 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 229—232).

[54] Фізэлер Fi 156 «Storch» — самалёт-кур'ер і самалёт-назіральнік падчас Другой сусветнай вайны.

[55] Дзённік Эрыха фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 10 мая 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 36).

[56] Справаздача першага паліцэйскага палка «Цэнтр» пра баі з 9 да 12 мая 1942 г., 16 мая 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 229—232).

ба прызнаць выдатную арганізаванасць працаўніка, уключаючы атаку лётчыкаў, які змог пад самым моцным агнём вывезці сваіх параненых на шматлікіх падводах»[57].

Сцвярджэнне фон дэм Баха, што ён нібыта выявіў супраць «рэгулярнай групы дэсантнікаў», можа тлумачыцца выказваннямі мясцовых жыхароў. Бо яны былі цвёрда ўпэўненыя, што партызаны злучэння былі парашутыстамі. Васіль Свістуноў заявіў у лістападзе 1942 г.: «Насельніцтва [Клічаўскага раёна] лічыла нас парашутыстамі»[58].

На самай справе фон дэм Бах змагаўся супраць злучэння Нічыпаровіча, які ў гэты час не атрымліваў аніякай падтрымкі ад савецкага боку. Цікава, што праз тры месяцы Нічыпаровіч сам апісваў ход гэтых баёў падобным жа чынам. Ён, праўда, называў нашмат большыя лічбы ахвяр з нямецкага боку: у першым баі (9 мая) 138 забітых і 120 — у другім (12 мая). Нічыпаровіч пацвердзіў таксама ўласныя страты падчас бамбёжак, але, праўда, не такія высокія, як гэта паведамляў нямецкі бок. Так, паводле яго ўласных дадзеных, загінулі два камандзіры рот і адзін узвода, а 33 партызаны былі параненыя. Гэта яшчэ адзін доказ, што сярод 520 «чалавек» былі перш за ўсё забітыя жыхары вёсак. Нічыпаровіч таксама дакладваў, што мясцовыя атрады ў час атакі з паветра запанікавалі і пабеглі[59].

Галоўнае камандаванне вермахта аб'явіла 15 мая 1942 г. у вайсковым данясенні баі са злучэннем Нічыпаровіча 9 і 12 мая, як хваліцца фон дэм Бах у сваім дзённіку, перамогай над партызанамі[60]. У данясенні напісана: «Нямецкія і венгерскія часці разам з падраздзяленнямі паліцыі [тут, мусіць, гаворка ідзе пра часці пад камандаваннем фон дэм Баха] у апошнія дні ў тылавым раёне атакавалі і разграмілі некалькі моцна ўзброеных бальшавіцкіх бандаў»[61].

Праз некалькі дзён, 21 мая, фон дэм Бах, аднак, запісаў у сваім дзённіку:

> Толькі што я атрымліваю радыёпаведамленне з Магілёва, што 8 украінцаў з майго ўкраінскага батальёна пры Доўгім [раён дзейнасці Нічыпаровіча, каля 18 км на ўсход ад Сушы] у поўным узбраенні перабеглі да партызанаў.

[57] Дзённік Э. Фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 13 мая 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 37).

[58] Пратакол размовы з камандзірам атрада «Навальніца» Васілём Свістуновым, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 50).

[59] Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16). У. Нічыпаровіч паведаміў, што гэтыя баі адбыліся яшчэ ў красавіку 1942 г. Зверка яго паведамлення з паведамленнем паліцэйскага палка «Цэнтр» ад 16 мая 1942 г. паказвае, што, відаць, гаворка ідзе пра адныя і тыя ж баі. Нямецкі даклад, які вельмі дэталёва апісвае ход баёў, быў напісаны непасрэдна (праз чатыры дні) пасля падзей. У ранейшым дакладзе ад 2 ліпеня 1942 г. Ваеннаму савету Заходняга фронту У. Нічыпаровіч пісаў яшчэ, што баі пад Сушай і Усакінам адбыліся 9 і 11 мая (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 8).

[60] Дзённік Э. Фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 15 мая 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 37).

[61] Справаздача Вярхоўнага камандавання вермахта ад 15 мая 1945 г., надрукаваная ў: Die Berichte des Oberkommandos... Bd. III. S. 114.



Праз чатыры дні фон дэм Бах занатаваў:

> Зноў на шашы з Магілёва на Бабруйск партызаны напалі на грузавік. З эсэсаўцы Дырлевангера забітыя, шмат паранена, а таксама забітыя 4 салдаты вермахта. З гэтай прычыны я лячу ў Чачэвічы на месца здарэння.

І 15 чэрвеня:

> Сёння — чорны дзень. Каманда 51-га паліцэйскага батальёна ў складзе 19 чалавек ажыццяўляла ахоўнае суправаджэнне часці вермахта па вышуку парушальнікаў па шашы Магілёў — Бабруйск. На вядомым месцы ў лесе на поўдзень ад Сухінічаў салдаты наткнуліся на партызанскую засаду. 16 паліцэйскіх былі па-зверску забітыя. [...] Сёння [быў] напад партызанаў на ўзвод 122-га паліцэйскага батальёна на ўчастку Сушы[62]. Камандзір узвода і 1 салдат забіты, 2 чалавекі зніклі без вестак, 6 цяжка параненыя. Дадатковае паведамленне: 5 чалавек забітых[63].

Усе гэтыя напады здарыліся ў раёне, які кантралявала злучэнне Нічыпаровіча. І не варта сумнявацца, што ягоныя партызаны сапраўды правялі гэтыя аперацыі, тым больш што яны самі дакладвалі пра гэта. Але яны заўсёды давалі большую колькасць ахвяр з нямецкага боку[64].

Палкоўніку Нічыпаровічу за некалькі тыдняў удалося стварыць з розных груп і атрадаў моцнае, але слаба кіраванае партызанскае злучэнне. Ядром злучэння быў 208-ы партызанскі атрад пад яго камандаваннем. Злучэнне панавала на ўсёй тэрыторыі ці кантралявала яе і ўступала ў бой нават з моцнымі нямецкімі падраздзяленнямі. У маі і чэрвені 1942 г. партызаны злучэння дзейнічалі ў чатырохкутніку Клічаў — Беразіно — Бялынічы — Рагачоў, у разлеглай балотнаасістай вобласці паміж Мінскам і Магілёвам. З тэрыторыі вакол Клічава яго партызаны ажыццяўлялі шматлікія аперацыі; яны нападалі на нямецкія машыны, падрывалі чыгунку, ліквідавалі «здраднікаў», паліцаяў, бургамістраў, вербавалі жыхароў у партызанскія атрады[65].

Для нямецкіх акупантаў была страчана не толькі тэрыторыя пад панаваннем ці кантролем партызанаў, але нават горад Магілёў быў пад іх уплывам. 25 мая 1942 г. штаб фон Шэнкендорфа дакладваў Галоўнаму камандаванню сухапутных войскаў:

[62] Напэўна, гаворка ідзе пра Сушу на ўчастку Магілёў — Асіповічы.

[63] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запісы ад 15, 21 і 25 мая і 15 чэрвеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 37—39).

[64] Параўн.: Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16); стэнаграма размовы з С. Мазурам ад 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 42—49). Таксама дакладныя даты, калі яны называліся, адрозніваюцца ад дадзеных Баха, што, аднак, нядзіўна, бо У. Нічыпаровіч і Мазур паведамлялі пра гэтыя падзеі праз некалькі месяцаў, у Маскве, не маючы, відавочна, з сабой ніякіх дакументаў.

[65] Тамсама; пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам, 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16).

> У раёне паміж Бабруйскам і Магілёвам партызаны [...] праявілі пагрозлівую актыўнасць [...] Мястэчка Суша (50 км на поўнач ад Бабруйска), адзін з апорных пунктаў партызанаў, было захоплена паліцыяй пасля зацятых баёў і з падтрымкай авіяцыі. Мястэчка было спалена. Але наяўныя сілы былі занадта слабымі, каб дамагчыся поўнага знішчэння праціўніка. Шашу Бабруйск — Магілёў, на якой амаль кожны дзень аўтамашыны вермахта падвяргаліся нападам, неабходна было закрыць для ўсялякага руху[66].

27 чэрвеня 1942 г. фон дэм Бах занатаваў у сваім дзённіку: «Акружаны партызанамі Магілёў вышэйшыя чыны пазбягаюць»[67]. Нямецкія ж антыпартызанскія каманды на мясцовасці не мелі шанцаў супраць адзіных і добра кіраваных партызанскіх атрадаў. Нямецкае кіраўніцтва выкарыстоўвала самалёты, што бамбілі ці абстрэльвалі бартавой зброяй уяўныя ці выяўленыя партызанскія лагеры і вёскі, у якіх знаходзіліся партызаны. Для гэтага ў Бабруйску была ўтворана спецыяльная «партызанская эскадрылля»[68].

Супраць самалётаў партызаны былі бездапаможныя. Нічыпаровіч дакладваў у пачатку ліпеня 1942 г.:

> Авіяцыя прадстаўляе сабой для партызанаў галоўную небяспеку, супраць якой у партызанаў няма зброі. [...] Немцы атакуюць вёскі, выкарыстоўваючы самалёты, і знішчаюць іх, яны бамбяць меркаваныя імі партызанскія лагеры і насельніцтва, што збегла ў лясы[69].

Але і ў іншых выпадках нямецкія акупанты абыходзіліся з жыхарамі гэтых тэрыторый без цырымоній. Яны, паводле дадзеных партызанаў, у Клічаўскім раёне да ліпеня 1942 г. цалкам спалілі 11 вёсак і ў трох з іх перабілі амаль усіх жыхароў[70].

Нічыпаровіч, каб павысіць баяздольнасць сваіх партызанаў, пачаў вучыць іх. Адначасова ён імкнуўся дысцыплінаваць іх, што, праўда, было не так лёгка. У верасні 1942 г. ён называў некаторыя атрады свайго злучэння «вельмі недысцыплінаванымі; яны вядуць распусны лад жыцця, жывуць у вёсках, маюць сяброўак і п'юць самагонку. Агенты даносяць пра гэта немцам, а тыя потым бамбардзіруюць і паляць вёскі»[71].

---

[66] Даклад афіцэра Іа камандуючага ахоўнымі часткамі і тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» Галоўнаму камандаванню армій 25 мая 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 259—262).

[67] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 27 чэрвеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 40).

[68] Ваенны дзённік 2-га танкавага галоўнакамандавання, запіс ад 15 сакавіка 1942 г. (BA-MA. RH 23/23, Bl. 30 і наст.).

[69] Даклад пра становішча на акупаваных тэрыторыях у радыусе Бабруйск — Барысаў — Магілёў — Рагачоў Ваеннаму савету Заходняга фронту ад 2 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 7).

[70] Даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне ад 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.).

[71] Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 13).



У адной дакладной Варашылаву ад 29 кастрычніка 1942 г. Нічыпаровіч скардзіўся, што некаторыя атрады кампраметуюць партызанаў: яны адбіраюць у насельніцтва рэчы, прадукты харчавання, коней, робяцьператрусы і без расследаванняў расстрэльваюць мясцовых. «Такія выпадкі ёсць і сёння, і яны надзвычай негатыўна ўплываюць на партызанскі рух»[72]. І далей канстатаваў: «Толькі малая колькасць камандзіраў, баявых, мужных, якія разумеюць ваенную справу і палітычныя абставіны, канцэнтруюцца на варожых транспартных лініях і тым самым падтрымліваюць фронт»[73].

Падобныя назіранні рабіў і ўпаўнаважаны Цэнтральнага камітэта КП(б)Б Сарычаў, які з 18 ліпеня 1942 г. каля месяца знаходзіўся ў злучэнні Нічыпаровіча.

> У мяне склалася ўражанне, што ў атрадах знаходзяцца розныя людзі. Ёсць такія, якія займаюцца рабаўніцтвам і бандытызмам. Гэта асабліва можна назіраць у атрадзе Свістунова: яны ходзяць па вёсках, забіраюць усё, што лічаць патрэбным, аж да дзіцячага абутку і жаночай вопраткі. Часта гэта здараецца і ў атрадах Мазура, Перасценкі і іншых [...] Ёсць і такія, што дзякуючы сваёй пасадзе лічаць сябе вельмі важнымі і любяць жыць на шырокую нагу. У іх на пярэднім плане — гарэлка і жанчыны. Іх меншасць, аднак яны вельмі дыскрэдытуюць партызанаў у вачах насельніцтва[74].

Нічыпаровіч рашуча выступаў супраць гэтых недахопаў і прымаў канкрэтныя меры. Так, ён забараніў самавольную канфіскацыю харчовых прадуктаў і адначасова арганізаваў адзінае забеспячэнне. Ягоныя партызаны пяклі хлеб ва ўласнай пякарні і выраблялі ўласную каўбасу. Адначасова Нічыпаровіч рашуча дзейнічаў супраць рабаўнікоў: так, у ягоным атрадзе за рабаўніцтва былі расстраляныя тры партызаны[75].

Нашмат цяжэй было дысцыплінаваць асобныя атрады, якія былі пад камандаваннем Нічыпаровіча. 277-м атрадам камандаваў у красавіку 1942 г. нейкі Рудо, камісарам у яго быў партыйны работнік Ізох. Рудо абіраў насельніцтва, меркаваных «паліцэйскіх» і складваў нарабаванае ў сваіх бацькоў. Ізоха ж захліснула п'янства. У маі 1942 г. Рудо знялі, і Сяргей Мазур, прызначаны Нічапаровічам начальнік НКУС у Клічаўскім раёне, узяў на сябе камандаванне 277-м атрадам[76]. Аднак у ліпені 1942 г. партызаны 277-га атрада ўсё яшчэ рабавалі[77].

---

[72] Дакладная запіска палкоўніка У. Нічыпаровіча пра рэарганізацыю партызанскага руху ў БССР ад 29 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 137).

[73] Тамсама.

[74] Даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне ад 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.).

[75] Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам, 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 13 і наст.).

[76] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 43 адв.).

[77] Дакладная запіска Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне ад 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.).

Некаторыя партызанскія камандзіры проста адмаўляліся выконваць загады ці распараджэнні Нічыпаровіча. Канфлікты разгараліся перш за ўсё вакол тэрыторый дзеянняў, адведзеных Нічыпаровічам асобным атрадам[78]. Але і іншыя аспекты адыгрывалі ролю. Канфлікт паміж Нічыпаровічам і партыйным работнікам Пакроўскім дасягнуў кульмінацыі ў красавіку 1942 г., калі Нічыпаровіч вызваліў Пакроўскага ад пасады камісара 208-га атрада. Нічыпаровіч абвінаваціў Пакроўскага не толькі ў ваеннай нядольнасці, але і ў амаральным ладзе жыцця (так званай «жаніцьбе»[79]). 23 красавіка Пакроўскі стварыў новы атрад з партызанаў, якія пры галасаванні выказаліся за яго. Пры гэтым гаворка ішла ў першую чаргу пра баявых паплечнікаў, што яшчэ ўвосень 1941 г. стварылі з Пакроўскім атрад. У маі 1942 г. Пакроўскі пакінуў злучэнне з новым атрадам з 64 партызанаў, які назвалі «Беларусь», і адышоў у суседні Бярэзінскі раён[80].

Як бачна, было надзвычай цяжка па-вайсковаму дысцыплінаваць і аб'яднаць пад адзіным, строгім камандаваннем атрады і групы, што ўтвараліся спантанна і самастойна, якія самі выбіралі сваіх камандзіраў шляхам галасавання, так бы мовіць, дэмакратычна. Іх камандзіры ўсведамлялі сваю ўладу, былі самаўпэўненымі і нярэдка любілі пажыць «на шырокую нагу», а партызаны бралі з іх прыклад.

Адначасова было больш зручна і бяспечна ажыццяўляць напады на дрэнна ўзброеных або няўзброеных асобных паліцаяў, вясковых старастаў, бургамістраў і іншых «здраднікаў» і іх сем'і, чым змагацца супраць добра навучаных і ўзброеных нямецкіх часцей ці падрываць чыгункі, як патрабаваў Нічыпаровіч. Гэтыя аперацыі не абяцалі шмат

[78] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44); пратакол размовы з тав. Зайцам пра заснаванне партызанскіх атрадаў у Клічаўскім раёне, 1 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 31—34).

[79] «Жаніцца» на партызанскім жаргоне азначала мець каханак (нярэдка некалькіх адначасова).

[80] Даклад камандзіра Чырвонага партызанскага атрада «Беларусь» М. Пакроўскага ад 13 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 183 і наст.); стэнаграма размовы з М. Пакроўскім у снежні 1942 г. (дата неразборлівая) (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 62—86); вытрымка з заявы камандзіра ўзвода 208-га партызанскага атрада, лейтэнанта (прозвішча ў копіі не захавалася) ад [без даты] снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 4, д. 3359, л. 5 і наст.). У апошнім дакуменце падрабязна апісваецца канфлікт, які разгарэўся за пасаду камісара. Летам 1942 г. Сарычаў, упаўнаважаны П. Панамарэнкі, назваў атрад Пакроўскага амаральным, у якім пануюць п'янства і распуста. Аднак ён заўважыў, што гэта неправераныя звесткі. У сакавіку 1942 г. нават меркавалася аддаць Пакроўскага за яго амаральны лад жыцця пад партызанскі суд. Гл.: Даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.). У. Нічыпаровіч абвінавачваў Пакроўскага таксама ў тым, што ён баіцца ворага. Гл.: Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16). С. Мазур таксама пацвярджае, што Пакроўскага, між іншым, абвінавачвалі ў амаральнасці, лаканічнай заўвагай: «Ён жаніўся. Ну і што!» Гл.: Стэнаграма размовы з С. Мазурам ад 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 43 адв.).



трафеяў і вялі да страт сярод партызанаў, тым больш што іх вынікам былі потым нямецкія акцыі супраць партызанаў. Улетку ж 1942 г. адзінае строгае кіраўніцтва партызанамі ў рэгіёне паміж Клічавам, Магілёвам і Беразіно было важным, як ніколі.

Карысным у мерах па навядзенні дысцыпліны, якія распачаў палкоўнік Нічыпаровіч, выявілася тое, што злучэнню нарэшце ўдалося наладзіць сувязь з савецкім бокам. Ранейшыя спробы былі няўдалымі. Так, напрыклад, знікла без вестак кантактная група, што Нічыпаровіч у сакавіку 1942 г. паслаў на савецкі бок[81]. Толькі ў канцы чэрвеня 1942 г. адно з падраздзяленняў злучэння выпадкова натрапіла на трох разведчыкаў з радыёстанцыяй, якіх штаб Заходняга фронту скінуў на парашутах у раёне Бабруйска. Разведчыкі далажылі штабу Заходняга фронту пра злучэнне Нічыпаровіча. Паведамленне прачытаў генерал Георгій Жукаў, што ведаў Нічыпаровіча асабіста. Ён неадкладна запатрабаваў ад Нічыпаровіча паведаміць пра злучэнне, самога сябе і становішча ў рэгіёне[82].

Нічыпаровіч напісаў некалькі дакладаў, якія ён паслаў у штаб Заходняга фронту і што адтуль былі перададзеныя ў Маскву. У Маскве гэтыя даклады выклікалі вялікую ўвагу. 17 ліпеня 1942 г. Панамарэнка дакладваў Сталіну, Берыі і Молатаву пра злучэнне Нічыпаровіча і яго поспехі ды падкрэсліваў вялікае значэнне гэтых дадзеных[83].

Ноччу з 13 на 14 ліпеня ля Клічава прызямліўся транспартны самалёт са зброяй і амуніцыяй, якія паслаў штаб Заходняга фронту. На борце знаходзіўся і начальнік аператыўнага аддзела штаба Заходняга фронту капітан Канатопскі, што меў выведаць абставіны на месцы. На зваротным вылеце самалёт забраў з сабой сакратара партыі ў Клічаўскім раёне Зайца і начальніка разведкі 208-га атрада Яхантава. Яны павінны былі асабіста далажыць у штабе Заходняга фронту і ў Маскве пра становішча ў варожым тыле. Толькі праз чатыры дні, 18 ліпеня, каля Клічава прызямліўся самалёт з пасланцом Панамарэнкі, які мусіў узнагародзіць асабліва заслужаных партызанаў ордэнамі і сам на месцы разведаць, што і як. На зваротным рэйсе самалёт узяў на борт параненых партызанаў[84]. Нямецкая 203-я ахоўная дывізія паведаміла 19 ліпеня пра «прызямленне варожых самалётаў на поўнач ад Клічава»[85].

У пачатку ліпеня 1942 г., неўзабаве пасля наладжвання кантактаў, генерал Жукаў даручыў палкоўніку Нічыпаровічу арганізаваць Клічаўскі аператыўны цэнтр. Адначасова Жукаў падначаліў усе дзей-

[81] Даклад Яхантава пра заснаванне і дзейнасць 208-га партызанскага атрада імя Сталіна, [ліпень—жнівень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 24 і наст.).

[82] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44).

[83] Даклад П. Панамарэнкі І. Сталіну, Л. Берыі, В. Молатаву, 17 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 20—24).

[84] Тамсама; даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.).

[85] Ваенны дзённік камандуючага групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня 1942 г. да 31 снежня 1942 г., запіс ад 19 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 12v).

ныя ў Клічаўскім раёне атрады аператыўнаму цэнтру і такім чынам Нічыпаровічу. Цэнтр атрымаў загад арганізаваць і весці шырокую партызанскую барацьбу на дарогах і чыгунках участкаў Магілёў — Мінск, Рагачоў — Жлобін, Рагачоў — Гомель і Асіповічы — Бабруйск. Пасля гэтага Нічыпаровіч склікаў усіх 18 камандзіраў і азнаёміў іх з загадам Жукава. Некаторыя з іх спачатку пярэчылі, у прыватнасці камісар Ізох. Камандзір 121-га атрада Казаеў і яго камісар Іваноў таксама заявілі: «Нам ніхто не ствараў атрада, і мы не хочам, каб нас аб'ядноўвалі». Астатнія камандзіры выканалі загад Жукава без пярэчанняў[86].

Неўзабаве пасля гэтага Нічыпаровіч адвёў кожнаму атраду яго тэрыторыю дзеянняў у чатырохкутніку Барысаў — Орша — Магілёў — Бабруйск і загадаў ім накіравацца да 8 жніўня 1942 г. на вызначаныя ім баявыя ўчасткі і там сістэматычна здзяйсняць напады на шляхі зносін[87]. Але спачатку партызаны злучэння мусілі адбіць масіўныя нямецкія наступы, таму што 1 і 19 ліпеня 1942 г. немцы пачалі супраць іх дзве буйныя аперацыі.

*в) Аперацыі «Хрушч» і «Арол»*

Для нямецкіх акупантаў у маі і чэрвені 1942 г. умовы на тэрыторыі паміж Магілёвам і Бабруйскам зрабіліся невыноснымі. Пастаянныя авіяналёты на вёскі і партызанскія лагеры непакоілі, праўда, партызанаў і абцяжарвалі ім жыццё. Але прагнаць іх з тэрыторыі ці нават знішчыць гэтыя налёты не маглі. Больш за ўсіх ад гэтага пакутавала безабароннае цывільнае насельніцтва, якое трапіла паміж франтамі.

12 чэрвеня 1942 г. фон дэм Бах, напрыклад, канстатаваў:

> Аперацыі 122-га і 51-га паліцэйскіх батальёнаў пад камандаваннем маёра Бахмана на поўнач ад Бабруйска ва ўзаемадзеянні з 203-й ахоўнай дывізіяй паспяхова скончаныя. Знішчаныя 300 партызанаў. Страты 2 параненыя[88].

У сапраўднасці ж тут гаворка ідзе пра знішчэнне безабаронных вяскоўцаў. Фон Бухгольц, які адказваў за «гаспадарчыя справы» ў раёне Бабруйска, браў удзел у акцыі і апісаў яе пазней так:

> У 0 гадзін [10 чэрвеня] адбылося наступленне дзесьці на лініі 2 км на поўнач ад Кірава, Славодка [Кострыцкая Слабодка], Вольса. Паколькі аўтамабілі часткова ехалі з непатушанымі фарамі, здаецца, частка партызанаў была папярэджана і, відаць, адступіла на поўнач. [...] Калі задзейнічаны на цэнтральным участку паліцэйскі батальён, у якім я знаходзіўся, дасягнуў выхаду з вёскі Славодка, ён трапіў пад агонь з вёскі і з узлеску на поўнач ад Славодкі. Зачыстка вёскі адбылася ў кароткі час, прычым стралялі і з дамоў. Усё насельніцтва было сагнана ў адно месца і пазней большасць расстраляна. Вёска з прыблізна 600 двароў была спалена. [...] Каля 300 узброеных партызанаў расстраляныя ці ўзятыя ў палон[89].

[86] Стэнаграма размовы з Іванам Івановым, 21 сакавіка 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 280 і наст.).
[87] Загад № 83 Чырвонага партызанскага атрада імя Сталіна ад 25 ліпеня 1942 г. і карта з вызначанымі тэрыторыямі дзеянняў (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 20 і наст.).
[88] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 12 чэрвеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 39).



Фактычна пры ўяўным поспеху ў барацьбе супраць партызанаў гаворка ішла пра шматлікія карныя акцыі нямецкіх акупантаў. 6 чэрвеня менавіта рота 277-га атрада злучэння Нічыпаровіча напала на нямецкую аўтакалону. Аперацыя адбылася каля 8 км ад Бабруйска на ўчастку Бабруйск — Магілёў, за некалькі кіламетраў ад Кіраўска. Па дадзеных партызанаў, пры гэтым былі знішчаныя чатыры нямецкія грузавікі ды застрэленыя 47 нямецкіх лётчыкаў і 11 салдат вермахта. Магчыма, гэтыя лічбы перабольшаныя[90].

Праз дзень пасля аперацыі немцы пахавалі сваіх нябожчыкаў і ажыццявілі жорсткую помсту. Яны паслалі з Бабруйска «карны атрад», які, па дадзеных камандзіра 277-га партызанскага атрада, знішчыў вёску Кострычы, суседнюю вёску ад Кострыцкай Слабодкі, і забіў каля 250 вяскоўцаў (цэлыя сем'і)[91]. Палкоўнік Нічыпаровіч таксама паведамляў 2 ліпеня 1942 г., г. зн. праз чатыры тыдні, пра гэтую бойню:

> 10.06.42 г. з боку горада Кіраўска з'явіліся дзве нямецкія калоны з усяго 24 аўтамабіляў і ўварваліся ў вёскі Кострычы, Казулічы і Кострыцкая Слабодка ў Кіраўскім раёне. Немцы спалілі вёскі і забілі 600 жыхароў — дзяцей, старых і жанчын[92].

Але забойства некалькіх сотняў цывільных, відавочна, яшчэ не наталіла прагу помсты нямецкага боку. 17 ліпеня 1942 г. Панамарэнка паведамляў Сталіну, Молатаву і Берыі: «У канцы чэрвеня нямецкі карны атрад акружыў вёску Баркі ў Кіраўскім раёне, спаліў вёску і пастраляў яе жыхароў, у тым ліку дзяцей і старых». Гэта, паводле Панамарэнкі, з'явілася расплатай за напад партызанаў на варожую аўтакалону з 33 машын, у якім былі забітыя 42 нямецкія лётчыкі[93]. Тут гаворка відавочна ідзе пра засаду 277-га атрада 6 чэрвеня 1942 г. пад Кіраўскам.

[89] Справаздача фон Бухгольца пра спецаперацыю ў раёне Беразіно — Вольса на поўдзень ад Клічава ад 12 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RW 31/250, Bl. 186 і наст.).
[90] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 43 і наст.). Э. фон дэм Бах гэты напад у сваім дзённіку не адзначыў, бо ён у гэты час быў у Германіі, дзе прысутнічаў на пахаванні Райнгарда Гайдрыха. Гл.: Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 12 чэрвеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 38).
[91] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 43 адв.).
[92] Даклад Ваеннаму савету Заходняга фронту пра становішча на акупаваных тэрыторыях Бабруйшчыны, Барысаўшчыны, Магілёўшчыны і Рагачоўшчыны ад 2 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 82, оп. 2, д. 817, л. 9).
[93] Даклад П. Панамарэнкі І. Сталіну, Л. Берыі, В. Молатаву, 17 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 22).

На самай справе 15 чэрвеня 1942 г., толькі праз тры дні пасля бойні ў Кострыцкай Слабодцы, зондэркаманда СС Дырлевангера наладзіла бойню ў вёсцы Баркі, каля 18 км на ўсход ад Клічава, пабіўшы ўсіх трапіўшых пад руку жыхароў мясцовасці. 16 чэрвеня Дырлевангер паведамляў: «Учарашняя аперацыя супраць Баркоў прайшла без судакранання з ворагам. [...] Жыхары былі пастраляныя, вёска падпалена і знішчана». Застрэленыя былі, як сведчыць запіс ад рукі на данясенні, агулам 2 017 чалавек, перш за ўсё жанчыны, дзеці і старыя[94]. Падобныя лічбы ахвяр бойні ў Барках называюць і партызаны[95].

Здаецца, што за бойню ў Барках прыйшла частковая адплата. Сяргей Мазур, камандзір 277-га атрада, паведамляў праз пяць месяцаў:

> 16 ліпеня мне паведамілі, што ў мясцовасць вакол вёскі Баркі з'явіўся карны атрад колькасцю каля 60 чалавек, які паліць вёску і расстрэльвае жыхароў. Я пасылаю туды атрад. [...] роту пад камандаваннем Аркадзя Анцёха[96].

Аднак каманда была занадта малой, каб акружыць у вёсцы нямецкае падраздзяленне і знішчыць яго ў адкрытым баі. Таму камандзір вырашыў за некалькі кіламетраў ад вёскі зрабіць засаду.

> Як толькі яны схаваліся, з'явіўся карны атрад на чатырох грузавіках, з сабой яны везлі нарабаваныя рэчы. Ад нас ніводзін не ўцёк, мы ўсіх іх палажылі, пастралялі. Мы забралі кулямёты, аўтаматы і вінтоўкі, распранулі іх, разулі і пакінулі ляжаць. Мы склалі іх у шэраг адзін каля аднаго. Іх было 55 чалавек[97].

Тут, магчыма, гаворка ідзе пра той самы напад, пра які фон дэм Бах пісаў у сваім дзённіку ад 16 ліпеня 1942 г.:

> Каманда 51-га паліцэйскага батальёна ў колькасці 50 чалавек узяла на сябе ахоўнае суправаджэнне часці вермахта па барацьбе з парушальнікамі на шашы Магілёў — Бабруйск. На вядомым месцы ў лесе на поўдзень ад Сухінічаў байцы трапілі ў партызанскую пастку. 16 паліцэйскіх былі пазверску забітыя[98].

[94] Цыт. паводле: Klausch H.-P. Antifaschisten in Uniform. Schicksal und Widerstand der deutschen politischen KZ-Haftlinge, Zuchthaus- und Wehrmachtstrafgefangenen in der SS-Sonderformation Dirlewanger. Bremen, 1993. S. 60. Гл. таксама: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 919 і наст.

[95] Сарычаў, упаўнаважаны П. Панамарэнкі, 26 жніўня 1942 г. назваў лічбу ў 1 995 растраляных жыхароў вёскі Баркі (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.). 320 спаленых двароў і 1 501 чалавек спаленых жывымі з ліку жыхароў вёскі Баркі назваў сакратар падпольнай арганізацыі Кіраўскага райкама партыі Бычкоў у сваім дакладзе «Роля і задачы партыйных арганізацый у партызанскай барацьбе», [пачатак студзеня 1942 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 180, арк. 35). На мемарыяльным камені ў Барках падаецца лічба ў 1 843. Гл.: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 919.

[96] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44).

[97] Тамсама.

[98] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 16 чэрвеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 39).



І Крысціян Герлах зыходзіць з таго, што гэта было помстай партызанаў за бойню ў Барках. Герлах мяркуе, што фон дэм Бах зафальшывіў у сваім дзённіку наконт бойні ў Барках для таго, каб затушаваць, што «па-зверску забітыя» паліцэйскія вярталіся з бойні ў Барках[99].

Нават адносна моцныя нямецкія часці, нават прадстаўленыя батальёнам, мала што маглі зрабіць упэўненым у сабе партызанам злучэння пад адзіным кіраўніцтвам. Яны вымяшчалі сваю бездапаможнасць і помслівасць за нанесеныя ўдары на бездапаможным цывільным насельніцтве. Адначасова яны, каб пахваліцца поспехамі, прыпісвалі ў дакладах свайму начальству забітых імі вясковых жыхароў, у тым ліку жанчын і дзяцей, як застрэленых у баі партызанаў-бандытаў. Партызаны не давалі сябе запалохаць знішчэннямі безабароннага цывільнага насельніцтва і працягвалі свае аперацыі. Так, Мазур, сярод іншага, паведамляў, што яго атрад у пачатку ліпеня разбіў батальён «Бярэзіна», дзе загінула 169 варожых салдат. Пры гэтым, мусіць, гаворка ішла пра бой з «паліцэйскім батальёнам Лепель» 1 ліпеня 1942 г., пасля якога батальён дакладваў пад «уласнымі стратамі» пра двух забітых і некалькі параненых[100].

У гэтых абставінах нямецкі бок, каб знішчыць партызанаў у ваколіцах Клічава, пайшоў на радыкальную меру. Такой мерай з'явілася аперацыя «Хрушч» (*«Maikäfer»*), якую з 30 чэрвеня 1942 г. павінна была ажыццявіць 203-я ахоўная дывізія сумесна з СС і паліцыяй (на чале з фон дэм Бахам)[101]. 1 ліпеня 1942 г. 203-я ахоўная дывізія паведамляла пра пачатак аперацыі «Хрушч» на поўнач ад Бабруйска: «Паўсюдна судакрананне з праціўнікам; дзейныя ў аперацыі рускія баявыя батальёны "Дняпро" і "Бярэзіна" б'юцца добра»[102]. Да гэтага часу нямецкаму кіраўніцтву яшчэ няясна, што яно мае справу з моцным партызанскім злучэннем пад адзіным камандаваннем.

2 ліпеня 1942 г. фон дэм Бах і генерал фон Шэнкендорф абмеркавалі сумесныя дзеянні ў рамках аперацыі «Хрушч»[103]. З 5 ліпеня нямецкія часці актывізавалі свае налёты на населеныя пункты і партызанскія апорныя пункты ў зоне баёў. У гэты дзень 51-ы паліцэйскі батальён на захад ад Чачэвічаў быццам «забіў у баі 54 партызанаў», і менавіта без уласных страт, як пра гэта паведамляе фон дэм Бах[104]. Гэта, напэўна ж, была адна са шматлікіх экзекуцый, учыненых немцамі над вяскоўцамі.

[99] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 920.

[100] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.); дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 1 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 40).

[101] Загад па корпусе камандуючага тылавым раёнам групы армій М. фон Шэнкендорфа ад 25 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 332—337).

[102] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 1 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 2v).

[103] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 2 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 2v); дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 2 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 40).

[104] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 5 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 40).

Магчыма, тут гаворка ідзе пра бойню ў вёсцы Люціна: «Там яны [немцы] сагналі ў адно месца 54 чалавек, зачынілі іх у школе і спалілі жывымі»[105].

У барацьбе супраць партызанаў злучэння Нічыпаровіча нямецкія часці, наадварот, былі далёка не такімі «паспяховымі». 9 ліпеня Оскар Дырлевангер, сумнавядомы камандзір зондэркаманды Дырлевангера, быў паранены ў баях за Клічаў, а камандзір 608-га ахоўнага палка падпалкоўнік фон Зайдліц-Курцбах забіты[106]. Праз тры дні пасля гэтага фон дэм Бах запісаў у сваім дзённіку: «Сёння палёт над партызанамі ў наваколлі Царковішча, дзе партызанамі быў акружаны казацкі эскадрон, а на дапамогу паслана рота паліцэйскіх на браневіках [...]»[107].

Партызаны Нічыпаровіча акружылі эскадрон каля вёскі паблізу населенага пункта Цяхцін, каля 34 км на захад ад Магілёва. На дапамогу, якую запрасіў фон дэм Бах (ён скінуў з самалёта звестку), паспяшалася 3-я рота 51-га запаснога паліцэйскага батальёна з двума браніраванымі разведвальнымі аўтамабілямі. Яны вызвалілі 14 ліпеня патрапіўшы ў ціскі казацкі эскадрон, што, аднак, панёс за той час адчувальныя страты:

> 7 забітых і некалькі параненых. СП [служба парадку] таксама панесла страты, колькасць якіх мне [камандзіру 3-й роты] невядомая. [...] Вёска [каля якой адбываліся баі] была спалена. [...] Страты праціўніка: на ўзлеску былі знойдзены 10 забітых партызанаў[108].

У мясцовасці, дзе быў атакаваны эскадрон, дзейнічала рота 208-га партызанскага атрада пад камандаваннем Івана Іванова. Яе апорная кропка знаходзілася ў вёсцы Дубно, каля 15 км на поўнач ад Цяхціна[109].

Гэтаксама, як і няўдалы налёт 102-га казацкага эскадрона, канчаліся ў пачатку ліпеня 1942 г. і ўсе іншыя акцыі супраць партызанаў злучэння Нічыпаровіча ў рамках аперацыі «Хрушч»: ці ў балоце, ці разбіваліся аб супраціў партызанаў[110]. І толькі ў гэты час нямецкае кіраўніцтва штосьці даведалася пра прычыны сваіх ранейшых няўдач. Так, нямецкія часці ў час аперацыі «Хрушч» у пачатку ліпеня 1942 г.

[105] Пратакол размовы з партызанскім камандзірам А. Юркаўцавым пра заснаванне партызанскіх атрадаў у Клічаўскім раёне, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 21 адв.).

[106] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 9 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 6v); Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 207.

[107] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 14 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 41).

[108] Паведамленне пра баявыя дзеянні 3-й роты 14 ліпеня 1942 г., падпісанае капітанам Швабам, 15 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 43 і наст.); Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 15 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 10v).

[109] Допыт 19-гадовай «шпіёнкі» Вольгі партызанскай групы Іванова. Гл.: Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 21 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 42).

[110] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 6 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 40).



узялі ў палон савецкага парашутыста, які ў час допыту даў адносна дакладныя дадзеныя пра размяшчэнне партызанаў у раёне Клічава[111].

Вынікі допытаў палоннага выявіліся такімі важнымі, што іх разаслалі ва ўсе часці, якімі камандаваў фон Шэнкендорф:

> *Паміж Усакінам і Галынкай* [каля 18 км на паўночны ўсход ад Клічава] знаходзіцца лясны лагер партызанаў, у якім месціцца кіраўніцтва ўсяго руху на тэрыторыі паміж Магілёвам — Бабруйскам — Мінскам. Галоўнае *камандаванне* належыць палкоўніку Нічыпаровічу. Як толькі пачынаюцца нямецкія акцыі, асобныя партызанскія групы адсылаюцца ў аддаленыя раёны. Сутыкненняў з моцнымі нямецкімі сіламі па магчымасці пазбягаюць, затое робяцца напады на адзіночныя аўтамашыны і пасты. Партызаны праз разведчыкаў увесь час маюць звесткі пра перамяшчэнне нямецкіх падраздзяленняў[112].

Дзякуючы гэтым дадзеным нямецкаму камандаванню ўпершыню стала зразумела, што ім у раёне вакол Клічава даводзіцца мець справу з моцным партызанскім злучэннем з адзіным кіраўніцтвам і што асобныя, ізаляваныя вылазкі на тэрыторыю, кантраляваную партызанамі, не маюць ніякіх шанцаў на поспех. У гэтых абставінах фон Шэнкендорф прыняў 9 ліпеня 1942 г. рашэнне ажыццявіць «буйнамаштабную спецаперацыю па ачыстцы ўсёй мясцовасці»[113].

Праз дзень фон Шэнкендорф выдаў загад аб аперацыі «Арол» (*«Adler»*), якая мусіла быць працягам аперацыі «Хрушч»[114]. Пра тое, што прызнанні палоннага парашутыста зрабілі ўплыў на прынятце рашэння аб аперацыі «Арол», сведчыць сярод іншага запіс у ваенным дзённіку групы армій «Цэнтр»: «У аперацыі "Хрушч" узяты ў палон парашутыст, які даў каштоўныя паказанні пра размяшчэнне партызанаў на тэрыторыі на поўнач ад Клічава, 286-я ахоўная дывізія прыдаецца аперацыі "Арол"»[115].

Аперацыя «Арол» пачалася 19 ліпеня 1942 г. пад камандаваннем генерал-маёра Егана-Георга Рыхерта, камандзіра 286-й пяхотнай дывізіі. Акрамя трох батальёнаў і 8-га артылерыйскага аддзялення 286-й дывізіі, у аперацыі бралі ўдзел 102-гі казацкі полк, батальён СС Дырлевангера, 2-гі паліцэйскі полк, баявыя батальёны «Бярэзіна» і «Дняпро» і 9-е артылерыйскае аддзяленне «Смаленск»[116].

[111] Магчыма, тут ідзе гаворка пра аднаго з разведчыкаў з групы з трох чалавек, якую штаб Заходняга фронту высадзіў у чэрвені 1942 г. пад Клічавам. Гэтая група потым наладзіла сувязь злучэння У. Нічыпаровіча з савецкім бокам.

[112] Ліст афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» ад 13 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 29) (вылучана ў арыгінале).

[113] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 9 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 7v).

[114] Даклад М. фон Шэнкендорфа пра працяг аперацыі «Хрушч», 10 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 27 і наст.).

[115] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 18 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 11v).

[116] Даклад М. фон Шэнкендорфа пра працяг аперацыі «Хрушч», 10 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 27 і наст.); дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 20 ліпеня

Батальёны «Бярэзіна» і «Дняпро» былі сфармаваныя з савецкіх ваеннапалонных, якімі камандавалі нямецкія унтэр-афіцэры і афіцэры [«нямецкі рамачны персанал»]. Спачатку яны былі ўтвораныя як вартавыя роты «Бабруйск» і «Гомель». Загадам ад 29 красавіка 1942 г. генерал фон Шэнкендорф перафармаваў іх у баявыя батальёны «Бярэзіна» і «Дняпро»[117]. У наступныя месяцы фон Шэнкендорф распарадзіўся яшчэ больш пашырыць так званыя «мясцовыя (*landeseigene*) злучэнні». 10 чэрвеня 1942 г. ён дакладваў: «Пашырэнне першых казацкіх эскадронаў у цэлае падраздзяленне будзе закончана да канца чэрвеня. За месяц чэрвень будзе ў Бабруйску цалкам падрыхтаваны, па-новаму ўзброены і баяздольны таксама рускі батальён колькасцю каля 1 000 чалавек [батальён “Бярэзіна”]»[118].

У пачатку жніўня 1942 г. фон Шэнкендорф меў наступныя «тутэйшыя злучэнні»: 102-е казацкае падраздзяленне, баявыя батальёны «Дняпро», «Бярэзіна», «Волга», «Дзвіна»[119]. У верасні яны былі дапоўненыя яшчэ баявым батальёнам «Прыпяць» і добраахвотніцкім запасным палкам «Цэнтр»[120]. СС і паліцыя таксама ўтварылі ў 1942 г. некалькі падобных падраздзяленняў, якія павінны былі змагацца супраць партызанаў пад нямецкім камандаваннем[121].

### *г) Замыканне катла і прарыў*

З 19 ліпеня 1942 г. супраць каля 2 000 партызанаў злучэння Нічыпаровіча наступленне пачалі не асобныя батальёны ці роты, як было ў час аперацыі «Хрушч», а адначасова тысячы нямецкіх паліцэйскіх, салдат і сіл «мясцовых злучэнняў». Яны мелі цэнтральнае кіраванне і атрымлівалі падтрымку авіяцыі і артылерыі. Іх задача палягала ў тым, каб на поўнач ад Клічава ўтварыць вялікі кацёл і знішчыць акружаных партызанаў.

---

1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 42). Гл. на гэты конт таксама: Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 206—209.

117 Загад генерала фон Шэнкендорфа ад 29 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 149).

118 Справаздача генерала, камандзіра ахоўных частак і камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» пра дзейнасць за май 1942 г., 10 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 296—300).

119 Даклад камандуючага ахоўнымі часткамі і камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» Галоўнаму камандаванню групы армій «Цэнтр», 5 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 68—73).

120 Загад па корпусе начальніка генеральнага штаба камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» ад 30 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 277). Загад прадпісваў увядзенне новых назваў асобных баявых батальёнаў: Атрад казакоў 600, Остбатальён 601 («Бярэзіна»), 602 («Дняпро»), 603 («Дзвіна»), 604 («Прыпяць»), 605 («Волга»), а таксама Усходні запасны полк «Цэнтр». Загад пра фармаванне батальёна «Прыпяць» з'явіўся 14 верасня 1942 г. Гл.: Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 14 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 56).

121 Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 182 і наст.



Партызанская разведка 21 ліпеня данесла пра наступленне вялікіх варожых сіл, якія з розных накірункаў прабіваліся ў цэнтр партызанскага злучэння. Супраць такой вялікай перавагі злучэнне не мела ніякіх шанцаў. Усе партызанскія камандзіры, што раней нярэдка выконвалі загады Нічыпаровіча неахвотна, а то і ўвогуле не выконвалі, цяпер падпарадкаваліся Нічыпаровічу. Ён цэнтралізавана арганізаваў і каардынаваў абарону і кожнаму атраду адвёў свой участак абароны[122].

Ужо ў першы дзень немцы страцілі адзін самалёт, што быў збіты ў час бамбёжкі Сушы, за якую ўвесь час ішлі баі. Пры спробе пахаваць збітых лётчыкаў пачалі рвацца міны, якімі партызаны замініравалі нябожчыкаў. Адзін паліцэйскі службы парадку загінуў, два «ўкраінцы» і адзін эсэсавец былі цяжка параненыя[123].

Нямецкія падраздзяленні наступалі на партызанаў сістэматычна і асцярожна. На штурм партызанскіх пазіцый яны не ішлі, а, паводле слоў Сяргея Мазура, камандзіра 277-га атрада: «Яны рухаліся наперад 100—150 м і акопваліся, будавалі акопы, узводзілі брустверы, як на фронце»[124]. Падобным чынам апісваў нямецкую тактыку і былы начальнік разведкі ў Клічаўскім злучэнні Андрэй Юркаўцаў: «Яны [немцы] бралі ў асаду кожную вёску, захоплівалі яе і потым спальвалі. [...] Яны праходзілі ўперад некалькі метраў, акопваліся, зацягвалі кола шчыльней і акружалі лес»[125]. Гэтыя дзеянні адпавядалі тактыцы, якую вызначыў генерал Рыхерт 9 жніўня 1942 г.: «Павольнае прачэсванне і акружэнне [прыводзіць] да большых поспехаў, чым хуткае наступленне і дасягненне нейкай мэты. [...] Асцярожнасць у планах і асцярожнасць у ажыццяўленні»[126].

Баявое кіраўніцтва дакладвала пра ход аперацыі «Арол» 22 ліпеня 1942 г.: «Першыя мэты дня дасягнутыя пры нязначным супраціве ворага». 23 ліпеня: «Галоўны ціск на ворага адчуваецца спачатку на поўдні ў адносінах да рускага батальёна “Дняпро”. Там адбываюцца жорсткія баі, з добрай падтрымкай авіяцыі. Цяперашнія страты: 6 забітых, 40 параненых». 24 ліпеня: «Меры па акружэнні працягваюцца адпаведна плану, вораг сістэматычна цясніцца ў сярэдзіну катла». 26 ліпеня: «Клічаў з боем узяты. Вораг адступае на поўнач у кацёл»[127]. Сапраўды, партызаны пасля 22 ліпеня самі пакінулі свае ўмацаваныя апорныя пункты ў населеных пунктах, у тым ліку і ў Клічаве, і адышлі ў лес, дзе яны зноў акапаліся[128].

---

122 Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.).

123 Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 19 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 42).

124 Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.).

125 Пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 13 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 42—45).

126 Парадак дня для нарады па кадрах дывізій, 9 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH22/233, Bl. 85).

127 Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запісы ад 22—24, 26, 29 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 14—20).

128 Даклад Сарычава пра партызанскія атрады Клічаўскага раёна, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170—172); пратакол размовы з А. Юркаўцавым 13 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 42—45).

За ходам аперацыі «Арол» вельмі ўважліва назіраў і фон дэм Бах. Ён неаднаразова падкрэсліваў ваенную прафесійнасць і наступальнасць партызанаў. Некаторыя населеныя пункты, занятыя немцамі ці «мясцовымі» часцямі, неаднаразова пераходзілі з рук у рукі. Партызаны добра замацоўваліся, нападалі з засады, акружалі дробныя нямецкія падраздзяленні. 22 ліпеня фон дэм Бах занатаваў: «Рускі батальён "Бярэзіна" 21.7. заняў пасля авіяналёту Ваевічы. Пасля контратак ноччу вёска зноў была здадзена. Раніцай 22-га Ваевічы былі зноў адваяваныя. Свае страты: 5 забітых, 30 параненых»[129]. На гэтым участку ваявалі падраздзяленні 208-га атрада і 277-ы атрад пад камандаваннем Мазура: «Я [словы Мазура] змагаўся з імі [батальён "Бярэзіна"] [...] 8, 13 і 20 ліпеня каля вёскі Ваевічы, якая тры разы захоплівалася імі і адваёўвалася намі. Днём яны выцяснялі нас, ноччу мы атакавалі і выцяснялі іх»[130].

27 ліпеня фон дэм Бах паслаў радыёграму Генрыху Гімлеру, рэйхсфюрару СС:

> Аперацыя «Арол» паміж Магілёвам і Бабруйскам. Страты ворага: забітых партызанаў 14, меркаваных мёртвых партызанаў 139, палонных 31. [...] Страты, у тым ліку нашых рускіх: 7 забітых, 44 параненыя. 201-ы паліцэйскі батальён дакладвае: 4 партызаны-перабежчыкі[131].

На наступны дзень фон дэм Бах дакладваў генералу фон Шэнкендорфу:

> Каманда Дырлевангера пад камандаваннем падпалкоўніка Кёльбінгера ў баі супраць выяўленага партызанскага штаба за 9 км на паўднёвы захад ад Кнышэвічаў ля шашы на Чачэвічы, пасля жорсткага бою лагер узяты штурмам. Страты ворага ў баі: 9 забітых, у тым ліку адзін афіцэр, адзін камісар [...]. Уласныя страты: 1 загінулы[132].

Сапраўды, становішча замкнёных у кацёл партызанаў рабілася ўсё больш крытычным. Тром атрадам пад камандаваннем Свірыда, Міхалапа і Перасценкі пашанцавала своечасова выбрацца з катла, перш чым кола канчаткова замкнулася[133]. Вакол астатніх атрадаў злучэння кола сціскалася ўсё шчыльней. Партызаны страцілі аэрадромы пад Клічавам, праз якія яны атрымлівалі забеспячэнне і адпраўлялі параненых. Нічыпаровіч пазней паведамляў: «У мяне было да 40 параненых і цяжка параненых, і яны былі вялікім цяжарам». Медыкамен-

---

[129] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 22 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 42).

[130] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.); даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170—172).

[131] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 22 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 42).

[132] Тамсама. Запіс ад 28 ліпеня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 43).

[133] Пратакол размовы з маёрам Ігнатам Ізохам ад 18 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 153 адв.).



ты, амуніцыя і прадукты харчавання неўзабаве закончыліся. Партызаны галадалі, парэзаўшы нават коней і з'еўшы іх. Раман Шчарбакоў, партызанскі камандзір са злучэння, пазней паведамляў: «Яны [немцы] хацелі замарыць нас голадам». І Нічыпаровіч пацвярджаў: «Становішча маіх атрадаў было катастрафічным». У той самы час нямецкая артылерыя і самалёты абстрэльвалі і бамбілі партызанаў, якія акапаліся ў лясах і балотах і зацята, бесперастанна абараняліся[134].

Панамарэнка паведамляў 26 ліпеня 1942 г. Сталіну пра цяжкія баі злучэння і прасіў указання зрабіць пяць транспартных палётаў, каб забяспечыць партызанаў злучэння зброяй і амуніцыяй[135]. Няма адназначных звестак, ці адбыліся гэтыя палёты. Андрэй Юркаўцаў паведамляў, што ў час блакады самалёт скінуў «гранаты і тэрміткі» [выбухоўку]. Раман Шчарбакоў і Цярэнцій Кудзінаў з 208-га атрада пацвердзілі прысылку зброі ў ліпені 1942 г. Шчарбакоў: «Ад Жукава мы атрымалі зброю». Нічыпаровіч пазней пацвярджаў, што ў час наступнага прарыву яго партызаны закідвалі варожыя загараджальныя лініі *тэрмітавымі гранатамі*[136].

Улічваючы цяжкае становішча, Нічыпаровіч 25 ліпеня 1942 г. загадаў усім атрадам прарывацца з катла. Пры гэтым ён адвёў кажнаму атраду новы раён дзеяння, каб паспрыяць дыверсіям на стратэгічных транспартных лініях на суседніх тэрыторыях[137]. Асобныя атрады зрабілі ў наступныя дні шматлікія спробы прарвацца; большасці, аднак, не пашчасціла[138]. Адным з нешматлікіх падраздзяленняў, якому ўдаўся прарыў з катла, была рота 208-га атрада, якая 27 ліпеня без страт прарвалася праз нямецкія загараджальныя лініі[139]. Нягледзя-

---

[134] Тамсама; пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам, 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 313 і наст.); стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв. і наст.); стэнаграма размовы з Іванам Івановым, 21 сакавіка 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 280 і наст.); даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.); пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 13алістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 42—45); стэнаграма размовы са Шчарбаковым і Ратушновым, 1 лютага 1948 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 173).

[135] Даклад П. Панамарэнкі І. Сталіну, 26 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 25).

[136] Пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 13 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 42—45); стэнаграма размовы з Шчарбаковым і Ратушновым, 1 лютага 1948 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 173); пратакол размовы з маёрам Цярэнціем Кудзінавым ад 12 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 137); пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам ад 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 3—16).

[137] Загад № 83 208-га партызанскага атрада імя Сталіна, 25 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 20—23).

[138] Даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.).

[139] Пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 19 адв.). У пратаколе стаіць, праўда, дата 27 красавіка 1942 г., калі 3-я рота прарвалася з катла, але гэта, напэўна, памылка друку.

чы на гэта, нямецкае камандаванне аперацыяй паведаміла 29 ліпеня: «Спробы прарвацца з катла паспяхова падаўляюцца»[140].

31 ліпеня 1942 г. нямецкае камандаванне прапанавала палкоўніку Нічыпаровічу пачаць перамовы аб капітуляцыі, «яму гарантавалася вольнае суправаджэнне». Але Нічыпаровіч не пайшоў на гэтую прапанову, хоць становішча было вельмі цяжкім і той-сёй паддаўся ўжо паніцы. Упаўнаважаны Панамарэнкі, які ў гэты час знаходзіўся пры злучэнні, некалькі разоў звязваўся па радыё з Масквой і падаваў наверх трывожныя сігналы, што яны прайгралі, так сцвярджае Нічыпаровіч[141]. Панамарэнка, улічваючы гэтае панікёрства з боку Сарычава, вырашыў паслаць наступную радыёграму: «Сарычаву праз Нічыпаровіча: Забарані пакідаць атрад. Патрабуй набрацца мужнасці і дачакацца самалёта, што прыляціць, як толькі аб гэтым распарадзіцца кіраўніцтва»[142].

2 жніўня кіраўніцтва аперацыяй дакладвала: «Аперацыя "Арол": Кацёл працягвае звужацца. Актыўныя спробы прарвацца групамі да 150 чалавек усюды адбіваюцца». У той жа самы дзень нямецкія сілы страцілі другі самалёт: «Адзін Ю-88 збіты [...] Увесь экіпаж загінуў»[143].

Аднак для падраздзяленняў злучэння, акружаных у катле, становішча рабілася ўсё больш крытычным. Пры гэтых абставінах Нічыпаровіч загадаў 3 жніўня пачаць агульны прарыў, на які ўсе атрады павінны пайсці адначасова. 3 жніўня ў 20.00 гадзін партызаны сцягнулі свае сілы ў лес на поўнач ад Сушы і ноччу пайшлі на штурм нямецкіх загараджальных ліній на ўчастку вёскі Суша. Галоўны ўдар нанеслі дзве роты 208-га атрада пад асабістым камандаваннем палкоўніка Нічыпаровіча. Пасля паўтарагадзіннага бою партызаны прарвалі нямецкія загараджальныя лініі і вырваліся з катла. Атрад Ліўенцава аднachасова атакаваў на паўночным участку каля вёскі Дулебы і таксама меў поспех[144].

Аднак аперацыя прайшла не зусім адпаведна плану, бо некаторыя партызаны і нават камандзіры ад «страху» не выконвалі загады. Адзін

140 Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запісы ад 22—24, 26, 29 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 14—20).

141 Выніковая справаздача пра аперацыю «Арол» 286-й ахоўнай дывізіі ад 8 жніўня 1942 г., цыт. паводле: Klausch H.-P. Antifaschisten in Uniform... S. 59. Гл. таксама: Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам, 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 15). У размове У. Нічыпаровіч пацвердзіў, што ён быў нямецкім бокам, нейкім «генералам Розэнглянцам», запрошаны на перамовы.

142 Ліст П. Панамарэнкі ў Штаб партызанскага руху пры Заходнім фронце, 22 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 219).

143 Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 2 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 21 і наст.).

144 Даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.); пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам, 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 14 адв. і наст.); стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.).



з камандзіраў роты, маёр Георгіеўскі, пакінуў сваю роту на волю лёсу і застаўся з двума ўзводамі ў катле, верагодна таму, што сумняваўся ў поспеху аперацыі. Мяркуецца, што ён здаўся немцам. І Сяргей Мазур са сваім 277-м атрадам адмовіўся ўдзельнічаць у штурме. Толькі калі іншыя падраздзяленні прарвалі загараджальную лінію, ён і яго атрад далучыліся да астатніх атрадаў і такім чынам вырваліся з катла. Гэтаксама дзейнічаў Свістуноў са сваім 128-м атрадам, які атрымаў ад Нічыпаровіча загад прарываць на сваім участку загараджальныя лініі[145].

Партызаны ў час прарыву, паводле ўзгодненых дадзеных, панеслі адносна невялікія страты. Нічыпаровіч паведамляў пра 9 забітых, 18 параненых, 14 зніклых без вестак; Іваноў, адзін з камандзіраў рот, гаварыў пра 8 забітых і 16 параненых. Упаўнаважаны Панамарэнкі Сарычаў далажыў пра 7 забітых і 18 параненых у 208-м атрадзе, які наносіў галоўны ўдар. Сяргей Мазур дакладваў толькі пра двух загінулых у сваім 277-м атрадзе з агульнай колькасці 470 партызанаў. Гэта складае разам са стратамі 208-га атрада дзевяць загінулых на ўвесь прарыў. Гэтую лічбу назваў і Нічыпаровіч, прычым ён гаварыў пра 14 зніклых без вестак. Андрэй Юркаўцаў, камандзір роты 208-га атрада, заявіў пра 12 загінулых у якасці агульнай лічбы страт злучэння пры прарыве. Пра колькасць загінулых партызанаў падчас усёй аперацыі «Арол» увогуле амаль што няма ніякіх выказванняў. Толькі Нічыпаровіч гаварыў пра менш чым 40 параненых і цяжкапараненых, а Сарычаў дакладваў пра 7 загінулых у баях 21 і 22 ліпеня[146].

Агульныя страты, мусіць, і праўда, былі не вельмі вялікія, бо, як пазней заяўляў Мазур, нямецкія бомбы і артылерыя нанеслі не вельмі шмат шкоды партызанам, якія добра акапаліся[147]. За час паміж 22 ліпеня і 3 жніўня, акрамя спроб прарвацца, не было буйных баёў. На мясцовасці партызаны злучэння без сумнення ў большасці выпадкаў пераўзыходзілі нямецкія падраздзяленні. Гэта адкрыта прызнавалі і немцы. Так, адначасова з аперацыяй «Арол» 221-я ахоўная дывізія праводзіла акцыю супраць партызанаў у раёне Чачэрска, каля 40 км на поўнач ад Гомеля. 28 ліпеня 1942 г. дывізія дакладвала: «Маса ворага [...] пазбегла знішчэння, бо нямецкі салдат заўсёды саступае яму на мясцовасці і не можа выявіць яго ў непраходных лясах»[148].

145 Даклад намесніка камандзіра аператыўна-чэкісцкай групы НКУС БССР Каранчука начальніку ЦШПР П. Панамарэнку, 12 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 243).

146 Пратакол размовы з палкоўнікам У. Нічыпаровічам, 15 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 14 адв. і наст.); стэнаграма размовы з І. Івановым, 21 сакавіка 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 286); даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.); стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.); пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 17—29).

147 Стэнаграма размовы з С. Мазурам ад 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 42—49).

148 Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 28 ліпеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 17 і наст.).

На гэтым фоне не могуць здзіўляць асцярожныя дзеянні, нават абмацванне мясцовасці з боку нямецкіх падраздзяленняў падчас аперацыі «Арол». Яны разлічвалі на голад і разгром акружаных партызанаў пры дапамозе артылерыі і самалётаў. Але разлік і на гэты раз не спраўдзіўся.

### *д) Вынікі аперацыі «Арол» і бойня цывільнага насельніцтва ў нямецкай справаздачнасці*

Варта зазначыць, што кіраўніцтва аперацыі «Арол» не толькі не згадвала пра прарыў партызанаў з катла, але нават сцвярджала адваротнае. У ваенным дзённіку камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за 4 жніўня 1942 г. запісана: «У аперацыі “Арол” далейшыя поспехі. Усе спробы праціўніка правраца адбітыя, багатыя трафеі зброі і прыпасаў»[149]. Абсалютна магчыма, што падраздзяленні, на ўчастку якіх адбыўся прарыў, замоўчвалі кіраўніцтву гэты факт і дакладвалі адваротнае.

Ва ўсякім разе і фон дэм Бах, здаецца, не ведаў пра прарыў партызанаў з 3 на 4 жніўня. 6 жніўня 1942 г. ён у сваім дзённіку канстатаваў: «Аперацыя “Арол” ад 4.8.42: страты ворага: 24 забітыя. Страты ўласныя: 2 забітыя, 3 параненыя»[150]. Гэтыя дадзеныя пацвярджаюць, зрэшты, паведамленні пра страты партызанаў.

З той прычыны, што ў катле больш не было партызанаў, камандаванне закончыла аперацыю праз тры дні пасля прарыву партызанаў, прычым для вышэйстаячых яно ператварыла гэтую сваю няўдачу ў вялізны поспех. Днём раней, 6 жніўня, Гімлер вылецеў у Магілёў, каб асабіста на месцы атрымаць інфармацыю пра ход аперацыі «Арол» і абмеркаваць наступныя планы па барацьбе з партызанамі[151]. Можна зыходзіць з таго, што і фон дэм Бах хваліў Гімлеру аперацыю «Арол» як буйны поспех.

8 жніўня фон дэм Бах запісаў у сваім дзённіку: «Сумесная аперацыя [“Арол”] вермахта і паліцыі [...] 7.8.42 завершана», праўда, не згадваючы, што партызаны даўно ўжо вырваліся з катла. Праз два дні, 9 жніўня, фон дэм Бах занатаваў:

> Пасля паступлення заключнага даклада вермахта атрымліваецца наступны канчатковы вынік аперацыі «Арол»: страты праціўніка 1 381 забітыя, 428 палонных. Трафеі: 20 гармат, 13 гранатамётаў, 22 кулямёты, 2 839 штук буйной рагатай жывёлы. Уласныя страты: 28 забітых, 2 зніклыя без вестак, 64 параненыя[152].

[149] Тамсама. Запіс ад 4 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 23v).
[150] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 6 жніўня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 44).
[151] Der Dienstkalender Heinrich Himmlers 1941/42 / Bearbeitet u. a. von P. Witte. Hamburg, 1999. S. 507 (запіс ад 6 жніўня 1942 г.).
[152] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 10 жніўня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 44).



У заключным дакладзе пра аперацыю «Арол» ад 8 жніўня 1942 г. камандаванне 286-й ахоўнай дывізіі прыдумала нават жорсткія баі і адчайны супраціў партызанаў да самага канца аперацыі:

> Толькі ў апошнія дні пасля дасягнення пятай мэты, якая стаяла перад наступленнем, вораг выдаў загад па роспуску сваіх бандаў, з указаннем прабівацца праз лінію фронту па магчымасці паасобку ці малымі групамі. Стоячы па шыю ў вадзе ці седзячы на вяршалінах густых дрэваў, ён спрабаваў пазбегнуць палону. Часта былі зацятымі спробы прарыву малымі групамі. У асобных выпадках камісары і афіцэры ў апошні момант пазбеглі палону праз самазабойства[153].

Генерал фон Шэнкендорф нават выдаў 10 жніўня 1942 г. спецыяльнае паведамленне пра ўяўнае знішчэнне злучэння Нічыпаровіча:

> Партызанская група пад камандаваннем палкоўніка Нічшаровіча [sic], якая на працягу некалькіх месяцаў валодала тэрыторыяй паміж Бабруйскам і Магілёвам, рабіла немагчымым перамяшчэнне нямецкіх часцей і перашкаджала эканамічнаму выкарыстанню, знішчана дзякуючы аперацыі «Арол». Часці пад камандаваннем камандзіра 286-й ахоўнай дывізіі [...] за тры тыдні баёў, нягледзячы на неймаверныя цяжкасці, звязаныя з мясцовасцю, разграмілі праціўніка, які адбіваўся ў густых лясах і ў балоце. Страты ворага: 1 381 забіты, 428 узятых у палон. [...] Уласныя страты: 25 забітых, 2 зніклыя без вестак, 64 параненыя[154].

Пра далейшы лёс 428 палонных невядома, але можна меркаваць, што яны былі расстраляныя, пра што, праўда, знойдзены толькі адзін доказ. Так, праз месяц, 14 верасня, афіцэр Іа ў штабе Шэнкендорфа дакладваў, што ў рамках аперацыі «Арол» былі «абясшкоджаныя» 1 809 партызанаў[155]. Фон Шэнкендорф і фон дэм Бах узгоднена паведамілі пра 1 381 забітага і 428 узятых у палон партызанаў, якія былі знішчаныя ў час аперацыі «Арол». Гэта разам складае 1 809 партызанаў.

Генерал-фельдмаршал Гюнтэр фон Клюге, камандуючы групай армій «Цэнтр», быў вельмі ўражаны ўяўным поспехам аперацыі «Арол» і паслаў 11 жніўня 1942 г. фон Шэнкендорфу тэлеграму: «Прашу выказаць камандзіру 286-й ахоўнай дывізіі і падраздзяленням-удзельнікам маю асаблівую ўдзячнасць за паспяховае правядзенне аперацыі “Арол”»[156].

[153] Выніковая справаздача аб аперацыі «Арол» 286-й ахоўнай дывізіі ад 8 жніўня 1942 г. Цыт. паводле: Klausch H.-P. Antifaschisten in Uniform... S. 59.
[154] Спецпаведамленне камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» ад 10 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 82).
[155] Справаздача афіцэра Іа камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за жнівень 1942 г., 14 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 195).
[156] Тэлеграма Г. Г. фон Клюге М. фон Шэнкендорфу, 11 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 90).

Фон дэм Бах і генерал фон Шэнкендорф прадставілі вынікі аперацыі «Арол» як буйную перамогу над злучэннем палкоўніка Нічыпаровіча. Лічба 1 381 ці, адпаведна, 1 809 быццам забітых партызанаў павінна была падкрэсліць гэты ўяўны поспех. У сапраўднасці ж гаворка ішла пры гэтым у першую чаргу пра цывільных, якія трапілі паміж франтоў. Іх забівалі нямецкія падраздзяленні, альбо яны гінулі пад артылерыйскімі абстрэламі ці ад бомбаў. Так, немцы залічвалі ўвогуле ўсіх мужчын, што ім траплялiся на тэрыторыі, на якой вяліся баі, да «партызанаў» і адпаведна распраўляліся з імі. 2 жніўня кіраўніцтва аперацыі «Арол» дакладвала: «Праціўнік намагаецца правесці масу сваіх людзей у выглядзе бяскрыўдных сялян праз загараджальныя лініі, што яму, аднак, не ўдаецца. Усе жыхары населеных пунктаў мужчынскага полу затрымліваюцца»[157].

На самай справе партызаны злучэння Нічыпаровіча, за выключэннем асобных выпадкаў, не спрабавалі пераапранацца ў бяскрыўдных цывільных, каб прабрацца праз нямецкія лініі. Пры вялізнай колькасці партызанаў гэта было проста немагчыма. Абсалютна відавочна, што тут гаворка ішла сапраўды пра «бяскрыўдных сялян» з іх сем'ямі. Такім чынам, жыхары населеных пунктаў, жытло якіх было спалена ў ранейшых баях, жылі ў лясах, дзе яны хаваліся ад нямецкіх самалётаў. Сюды варта яшчэ дадаць жыхароў вёсак, што былі дашчэнту спаленыя ў час аперацыі «Арол». Андрэй Юркаўцаў праз некалькі месяцаў паведамляў: «Насельніцтва жыло ў лясах, а немцы ўсіх іх расстрэльвалі»[158].

Паводле няпоўных дадзеных партызанаў, з канца жніўня 1942 г. нямецкія падраздзяленні ў час аперацыі «Арол» зраўнялі з зямлёй шмат вёсак, а ў вёсцы Усакіна забілі каля 150 сем'яў і ў самым Клічаве каля 300 чалавек[159]. Гэтыя ахвяры, без сумнення, складалі значную большасць са звыш 1 800 забітых уяўных «партызанаў і партызанскіх памагатых» падчас аперацыі «Арол».

Толькі нязначны працэнт заяўленых «варожых страт» падчас аперацыі «Арол» былі на самай справе партызанамі, магчыма, куды менш чым 100. Ніводзін з партызанскіх атрадаў не быў разбіты; усе змаглі без вялікіх страт вырвацца з катла і выйсці ў іншыя раёны. Пра выхад на іншыя тэрыторыі Нічыпаровіч і так загадзя распарадзіўся, каб па-вайсковаму дэканцэнтраваць маламэтазгоднае збіранне партызанскіх падраздзяленняў у раёне вакол Клічава і актывізаваць падрыўную дзейнасць на стратэгічных транспартных кропках па-за тэрыторыямі вакол Клічава.

Паводле спіса ад 23 жніўня 1942 г., злучэнне Нічыпаровіча налічвала на гэты час агулам 2 891 партызана, у тым ліку 645 партызанаў былі ў

[157] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 4 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 23).
[158] Пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 13 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 42—45).
[159] Даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.).



208-м атрадзе і ад 53 да 422 партызанаў у астатніх 16 атрадах[160]. Гэта азначае, што злучэнне непасрэдна пасля аперацыі «Арол» нават вырасла.

Нямецкае камандаванне не пераследавала партызанаў, якія вырваліся з катла, тым больш што прарыў спачатку нават не быў заўважаны. Варта адзначыць, што фон Шэнкендорф, здаецца, паверыў ва ўяўны поспех аперацыі «Арол», ва ўсякім разе, у першыя дні. 8 жніўня 1942 г. ён загадаў і надалей праводзіць падобныя аперацыі з наступным абгрунтаваннем: «Я прытрымліваюся думкі, што ўціхамірванне павінна праводзіцца ў буйных маштабах. [...] важна ахопліваць выяўленыя партызанскія падраздзяленні *вялікай* акружнасцю, працяглы час уціхамірваць іх атакамі часцей і пасля ўціхамірвання пакідаць на тэрыторыях гарнізоны»[161]. Непасрэдна пасля заканчэння аперацыі «Арол» нямецкае камандаванне дало старт наступным буйнамаштабным акцыям, у тым ліку аперацыі «Грыф» («*Greif*») супраць партызанаў на тэрыторыі паміж Віцебскам і Оршай[162].

*е) Клічаўскае злучэнне пасля аперацыі «Арол»*

Нямецкаму кіраўніцтву, відаць, неўзабаве стала зразумела, што аперацыя «Арол», насуперак уласнай справаздачы, не была паспехам. Сарычаў, упаўнаважаны Панамарэнкі, у канцы жніўня 1942 г. дакладваў: «Да 25 жніўня, калі я вылецеў, партызаны кантралявалі ўсе вёскі ў Клічаўскім і Кіраўскім раёнах, за выключэннем населеных пунктаў Клічаў і Кіраўск, а таксама вёсак Чачэвічы і Гарадзец»[163]. Там немцы абсталявалі свае апорныя пункты. Нямецкія крыніцы пацвярджаюць гэтую ацэнку. Так, фон дэм Бах запісаў у сваім дзённіку 9 жніўня 1942 г. пра бой з «варожай бандай у форме» каля вёскі Кучын, на поўнач ад участка Магілёў — Чачэвічы: «Шмат страт у ворага ў баі з ручнымі гранатамі, у тым ліку 1 камісар і 1 яўрэй. Уласныя страты: 2 забітыя, 4 параненыя». 20 жніўня фон дэм Бах канстатаваў: «Горад Магілёў сёння атакаваны партызанамі»[164].

Яшчэ ў адным нямецкім паведамленні пра дзейнасць партызанаў у раёне Бабруйска ў жніўні 1942 г. зноў гаворыцца:

> Часткі партызанскіх атрадаў [3-я рота 208-га атрада], якія прарваліся на паўднёвы ўсход падчас аперацыі «Арол», заселі ў лясным масіве каля

[160] Паведамленне пра асабовы склад і ўзбраенне 208-га партызанскага атрада на 23 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 19).
[161] Загад М. фон Шэнкендорфа 201-й ахоўнай дывізіі, 8 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 76 і наст.). Вылучана ў арыгінале.
[162] Тамсама; загад М. фон Шэнкендорфа па корпусе ад 8 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 76 і наст.); дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 18 жніўня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 45); Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 212 і наст.
[163] Даклад Сарычава пра партызанскія атрады ў Клічаўскім раёне, 26 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 170 і наст.).
[164] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запісы ад 9 і 22 жніўня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 44 і наст.).

Падселля [каля Рагачова] [...] У лясным масіве з абодвух бакоў шашы Бабруйск — Магілёў знаходзяцца яшчэ 2 банды. [...] Спроба вызваліць шашу Бабруйск — Магілёў пацярпела няўдачу, бо партызаны ў гэтым раёне вельмі моцныя. Яшчэ адна банда знаходзіцца ў раёне паміж дарогамі Бабруйск — Кіеў і Бабруйск — Клічаў. [...] Напад на Казулічы 17.8.1942, рабаўніцтва ва Уласавічах 17.8.1942 і мініраванне пад Клічавам — на рахунку гэтай банды[165].

Аперацыя «Арол» не прынесла нават часовага аслаблення партызанскага руху паміж Бабруйскам і Магілёвам. Наадварот, яна паскорыла разгрупаванне шматлікіх сканцэнтраваных у раёне Клічава партызанскіх падраздзяленняў, якія ўтварыліся па ўказанні Георгія Жукава ў пачатку ліпеня 1942 г.[166]. Партызанская зона, што ахоплівала пераважна лясныя і балоцістыя тэрыторыі і якую нельга было надоўга ўтрымліваць пры нямецкіх атаках, з ваеннага пункту гледжання не мела вялікага сэнсу. Нашмат важнейшымі былі сістэматычныя дыверсіі на стратэгічных транспартных лініях у варожым тыле, каб такім чынам парушаць забеспячэнне для нямецкага фронту. Савецкія ж дыверсіі на стратэгічных лініях забеспячэння пакуль што былі занадта слабымі, як крытычна выказваўся штаб Заходняга фронту[167].

Нічыпаровіч грунтоўна адрэагаваў на гэтую крытыку і даў распараджэнне штабу злучэння распрацаваць план па кіраўніцтве дыверсіямі на варожых транспартных лініях. 25 ліпеня 1942 г. Нічыпаровіч сваім загадам № 83 пачаў ажыццяўленне гэтага плана. Першым чынам ён вызначыў кожнаму атраду новы раён дзейнасці на ўчастках Магілёў, Барысаў, Асіповічы, Бабруйск, Рагачоў і Жлобін[168]. Тым самым Нічыпаровіч шматкроць павялічыў тэрыторыю дзейнасці злучэння. Да таго часу партызаны валодалі тэрыторыяй, якая ахоплівала прыкладна два раёны. Адтуль яны здзяйснялі напады ў розных накірунках. Цяпер партызаны дзейнічалі на тэрыторыі, што ахоплівала звыш 20 000 км², г. зн. 10 % сённяшняй Беларусі.

Разам з надзвычайным пашырэннем тэрыторыі дзейнасці адбывалася і радыкальная змена тактыкі — пераход ад партызанскай вайны да дыверсій на транспартных лініях. Кожны атрад атрымаў загад ажыццяўляць сістэматычныя дыверсіі на чыгуначных лініях і дарогах на адведзеным яму ўчастку. Дыверсіі неабходна было праводзіць па магчымасці аднačасова ў розных кропках, каб абцяжарыць праціўніку ўзнаўленне транспартнага руху. Галоўным чынам патрабавалася падрываць ці паліць важныя масты, але таксама і пускаць пад адхон вайсковыя цягнікі ды выводзіць са строю рэйкі, тэлефонныя і тэлеграфныя сеткі. Атрады мусілі надаваць таксама вялікую ўвагу ваеннай разведцы. Камандзіры атрадаў і рот павінны былі дзейнічаць самастойна і аб'ядноўваць са сваімі атрадамі ўсе іншыя групы і атрады, што дзейнічалі на іх тэрыторыях. Неабходна было як мага «шырэй прыцягваць насельніцтва, як добраахвотна, так і праз мабілізацыю»[169].

Ёсць дастаткова доказаў, што гэты загад у сапраўднасці ажыццяўляўся. Так, напрыклад, 752-гі атрад злучэння пад камандаваннем Лівенцава дзейнічаў у верасні 1942 г. у раёне Асіповічаў, як прадпісаў Нічыпаровіч, а таксама 210-ы атрад пад камандаваннем Каралёва. Аднак у гэтым выпадку Нічыпаровіч пацвердзіў былы раён дзеянняў атрада, які дзейнічаў там з вясны 1942 г.[170]. 3-я рота 208-га атрада імя Сталіна здзяйсняла свае аперацыі са жніўня 1942 г., згодна з загадам № 83, у раёне паміж Рагачовам і Магілёвам, 2-я рота — у раёне Оршы, а 1-я паміж Барысавам і Жодзінам[171]. Таксама 277-ы атрад пад камандаваннем Мазура, які 19 жніўня прыйшоў у адведзены яму Крупскі раён, на ўчастку паміж Барысавам і Оршай[172]. 128-ы атрад Свістунова знаходзіўся ў верасні 1942 г. у раёне Беразіно — Бялынічы, на поўдзень ад адведзенага яму ўчастка Талачын — Бобр[173].

Ёсць і ўказанні на тое, што партызаны злучэння спрабавалі таксама выкарыстаць дырэктыву па тактыцы, хаця б часткова. Камандзір 3-й роты 208-га атрада Андрэй Юркаўцаў паведамляў пра некалькі падрываў чыгункі партызанамі 3-й роты 6, 15, 16, 18 і 24 жніўня 1942 г. на ўчастку Магілёў — Рагачоў[174]. Нямецкае паведамленне пра выступленні партызанаў у раёне Бабруйска з 10 да 31 жніўня 1942 г. пацвярджае большасць гэтых нападаў:

> Дзейнасць атрада Ізоха накіравана ў асноўным супраць чыгуначнага адрэзка Рагачоў — Магілёў. Паміж Старым Сялом і Рагачовам была падарвана чыгунка 11, 12, 16, 19, 24 і 30.8.1942 г. Акрамя таго, каля Тошчыцы 31.8. 1942 г. адбыўся напад на кур'ерскі цягнік. На шашы Рагачоў — Магілёў партызанамі на поўнач ад Доўска бесперапынна закладаюцца міны. Акрамя гэтага, неаднаразова рабіліся напады на аўтамашыны[175].

---

[165] Даклад пра дзеянні партызанаў на Бабруйшчыне ў перыяд з 10 да 31 жніўня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 38, арк. 452 і наст.).
[166] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.).
[167] Загад № 83 камандзіра 208-га Чырвонага партызанскага атрада імя Сталіна У. Нічыпаровіча, 25 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 20—23).
[168] Тамсама.
[169] Загад № 83 камандзіра 208-га Чырвонага партызанскага атрада імя Сталіна У. Нічыпаровіча, 25 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 20—23).
[170] Даклад 210-га партызанскага атрада, падпісаны Каралёвым, 18 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 853, л. 37); загад № 83 камандзіра 208-га Чырвонага партызанскага атрада імя Сталіна У. Нічыпаровіча, 25 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 20—23).
[171] Пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 19 адв.); стэнаграма размовы са Шчарбаковым і Ратушновым, 1 лютага 1948 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 174); пратакол размовы з маёрам Цярэнціем Кудзінавым ад 12 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 136—139).
[172] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.).
[173] Дакладная Баравулі Мінскаму абкаму ад 15 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 185—187 об.).
[174] Пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 17—29).
[175] Даклад пра дзейнасць партызанаў на Бабруйшчыне ў перыяд з 10 да 31 жніўня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 38, арк. 452 і наст.).

У сапраўднасці гаворка ідзе тут не пра аперацыі 277-га атрада, там Ізох быў камісарам атрада, а пра 3-ю роту 208-га атрада[176]. У гэты час палкоўнік Нічыпаровіч знаходзіўся ў 3-й роце. Партызаны 3-й роты паведамлялі таксама пра вельмі вялікія страты, якія яны нанеслі немцам пры гэтых аперацыях; так, напрыклад, пры падрыве чыгункі 18 жніўня нібыта загінулі каля 500 салдат, а 24 жніўня — да 800 штабных афіцэраў[177].

Нічыпаровіч таксама дакладваў 24 верасня 1942 г., што ягоная рота за непрацяглы час здзейсніла на ўчастку Магілёў — Рагачоў 6 падрываў чыгункі, прычым былі знішчаныя да 2 000 немцаў[178]. У цытаваным ужо нямецкім паведамленні, наадварот, няма ніводнага слова пра ахвяр гэтых падрываў. Што тычыць партызанскіх дадзеных, то тут, напэўна, гаворка ідзе пра прыдуманыя ці перабольшаныя паспяховыя лічбы. Мы яшчэ закранём гэтую практыку, вельмі шырока распаўсюджаную сярод партызанскіх атрадаў.

Тым не менш, гэтыя аперацыі ўяўлялі сабой сур'ёзную небяспеку для нямецкіх ліній забеспячэння, і 17 жніўня 1942 г., праз некалькі дзён пасля заканчэння аперацыі «Арол», немцы пачалі меншую аперацыю «Сяброўства II» супраць 3-й роты 208-га атрада імя Сталіна. Вынік, аднак, быў працвеўражальным: «Не ўдалося нанесці партызанам страт, вартых згадвання, бо яны своечасова адступілі. Неспакой, які ўносяць партызаны на тэрыторыі на паўночны захад ад Рагачова, з гэтай прычыны працягваецца»[179]. Таму 30 жніўня 1942 г. штаб генерала фон Шэнкендорфа распарадзіўся пачаць «аперацыю № 36 пад Старым Быхавам на чыгуначным адрэзку Магілёў — Рагачоў» з мэтай «знішчыць варожыя банды, што знаходзяцца паблізу чыгункі»[180].

Аперацыяй № 36, ці «Брэслаў II», якая пачалася 1 верасня 1942 г., кіраваў асабіста Эрых фон дэм Бах. Праз дзень ён запісаў у сваім дзённіку:

> Сёння прыйшоў загад рэйхсфюрара СС наконт цяжкасцей з забеспячэннем фронту, у першую чаргу забяспечыць бяспеку на чыгунках. […] Таму сёння ноччу новы загад. «Брэслаў II» неабходна закончыць ужо сёння апоўдні[181].

[176] Пратакол размовы з маёрам І. Ізохам ад 18 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 149—156 адв.); даклад У. Нічыпаровіча П. Панамарэнку, 24 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 4, д. 3359, л. 8); стэнаграма размовы са Шчарбаковым і Ратушновым, 1 лютага 1948 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 173).

[177] Пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 17—29). Юркаўцаў таксама паведаміў пра шэсць падрываў чыгункі ў жніўні 1942 г.

[178] Даклад У. Нічыпаровіча П. Панамарэнку, 24 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 4, д. 3359, л. 8).

[179] Даклад пра дзейнасць партызанаў на Бабруйшчыне ў перыяд з 10 па 31 жніўня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 38, арк. 452 і наст.).

[180] Да Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр», 30 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 145 і наст.).

[181] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запісы ад 1 і 2 верасня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 45 і наст.).



Аднак «зменшаная аперацыя Брэслаў II» працягвалася і закончылася толькі 7 верасня. У якасці поспехаў фон дэм Бах дакладваў: «Забітых ворагаў 187 […], 134 расстраляныя. Трафеі: […] 1 СПГ (супрацьтанкавая гармата), 1 цяжкі гранатамёт, 31 вінтоўка […] Уласныя страты: 5 забітых, 10 параненых»[182].

Аперацыя «Брэслаў II» прынесла таксама мала жаданых вынікаў, а 9 верасня фон дэм Бах на гэтай жа тэрыторыі кіраваў запланаванай раней аперацыяй «Брэслаў I», якая закончылася 17 верасня.

> Запасная аперацыя «Брэслаў I» завершана. […] У адрозненне ад ранейшых аперацый праціўнік нідзе не прыняў бою. […] Агульны вынік: забітых ворагаў 109, 1 цяжкі кулямёт, 32 вінтоўкі […]. Уласныя страты: 3 забітыя, 5 параненых[183].

Але і гэтая аперацыя не вельмі прыглушыла партызанскую дзейнасць у раёне Рагачоў — Магілёў. Камандзір 3-й роты 208-га атрада дакладваў пра наступныя аперацыі і падрывы, якія правялі яго партызаны ў кастрычніку 1942 г. самастойна ці разам з іншымі атрадамі. Падрывы чыгункі, аднак, у параўнанні са жніўнем паменшыліся[184].

Партызаны злучэння Нічыпаровіча дзейнічалі актыўна і на іншых участках чыгункі. Партызаны 210-га атрада пад камандаваннем Каралёва, паводле ўласных дадзеных, да 18 верасня 1942 г. на ўчастку Мінск — Бабруйск пусцілі пад адхон каля 30 цягнікоў, пры гэтым было знішчана 6 900 «фашыстаў»[185]. Пэўна ж, лічба 6 900 «знішчаных фашыстаў» прыдуманая. Але факт застаецца фактам, што партызаны на гэтым участку ажыццявілі ці паспрабавалі ажыццявіць шматлікія падрывы. Так, нямецкія ўстановы зарэгістравалі на ўчастку Мінск — Бабруйск да 18 верасня 1942 г. усяго 30 падрываў чыгуначнага палатна; 9 мін ці падрыўных прыстасаванняў былі своечасова знойдзеныя і абясшкоджаныя[186].

Ва ўсякім разе, партызаны 210-га атрада, відаць, ажыццявілі ці паспрабавалі ажыццявіць толькі некаторыя з гэтых падрываў, бо яны не мелі мін, што ўжываліся, як правіла, пры згаданых падрывах. Партызаны 210-га атрада адкручвалі рэйкі ад шпал, выдалялі іх ці выкарыстоўвалі самаробныя падрыўныя прыстасаванні. Выбуховыя рэчывы яны здабывалі з буйнакаліберных снарадаў, якія знаходзілі на мясцовасці. Камандзір атрада Каралёў скардзіўся ў верасні 1942 г., што адсутнасць выбуховых рэчываў вельмі перашкаджае дыверсійнай дзейнасці атрада. Саматужная здабыча выбуховага рэчыва са снарадаў

[182] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запісы ад 3, 4, 5, 8 верасня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 46 і наст.).

[183] Тамсама. Запісы ад 9, 10, 13, 15—17 верасня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 47 і наст.).

[184] Пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 17—29).

[185] Справаздача Каралёва пра дзейнасць 210-га партызанскага атрада, 18 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 853, л. 33—38).

[186] Справаздача 608-га ахоўнага палка пра падрывы рэек з 1 ліпеня 1942 г. і выяўленне мін з 1 ліпеня 1942 г., 4 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 21—24).

і выраблены з яго зарады былі вельмі небяспечныя. Яны нярэдка ўзрываліся дачасна і вялі да адчувальных страт сярод партызанаў[187].

Большасць ужо згаданых падрываў былі зробленыя іншымі атрадамі ці дыверсійнымі групамі. Каралёў паведамляе пра яшчэ чатыры атрады, якія дзейнічалі па суседстве. Сярод іх былі 752-гі атрад пад камандаваннем Лівенцава і яшчэ адна група, падрабязна не апісаная[188]. Сюды трэба яшчэ дадаць іншыя атрады і групы, што дзейнічалі летам і восенню 1942 г. у мясцовасцях вакол Бабруйска і Асіповічаў, як, напрыклад, дыверсійныя групы Грышакова (5 чалавек), Шклярыка (15 чалавек) і Харлюкова[189].

Здаецца, заўважных ваенных поспехаў дасягнулі партызаны 277-га атрада, пад камандаваннем Мазура. Яны пасля прарыву з катла, згодна з загадам Нічыпаровіча, прабіліся ў Крупскі раён, паміж Барысавам і Оршай. У атрада было заданне праводзіць дыверсіі на чыгунцы Мінск — Орша на ўчастку Барысаў — Талачын. Мазур паведамляў пазней пра шматлікія паспяховыя падрывы чыгункі, мастоў, а таксама пра баі з нямецкімі і французскімі часцямі, якія ўдзельнічалі ў барацьбе супраць партызанаў у гэтай мясцовасці. Так, напрыклад, 2-я рота 277-га атрада ў кастрычніку 1942 г. здзейсніла напад на чыгуначную станцыю Слаўнае: «Там яны ўсіх знішчылі», так распавядае Мазур[190]. Беларускі штаб партызанскага руху пазней дакладваў пра аперацыю:

> Чыгуначная станцыя знішчана з усімі збудаваннямі. Былі падарваныя: 2 вайсковыя цягнікі з грузам, 2 вадакачкі, 2 помпавыя станцыі, 6 казармаў, 16 складоў, 15 км чыгункі. Чыгуначная станцыя Слаўнае не была адбудавана[191].

Гэтая аперацыя сапраўды была адносна добра скаардынаваная і запісаная ў ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр»:

> У ноч 26/27 жніўня напад партызанскай банды ў 300—400 чалавек на станцыю Слаўнае (на захад ад Талачына). Будынак станцыі быў падпалены гранатамётам. Агонь распаўсюдзіўся на ўсё вакол і спаліў амаль усю вёску. Асабовы склад ахоўнага батальёна абараняў станцыю і прымусіў працўніка

[187] Справаздача Каралёва пра дзейнасць 210-га партызанскага атрада, 18 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 853, л. 33—38).

[188] Тамсама. Гл. таксама: Вынікі разведкі ў сферы дзейнасці 608-га ахоўнага палка, 19 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 27 і наст.).

[189] Партызанскія брыгады і атрады ў БССР паводле дадзеных на 10 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 20—27); параўн.: Дыслакацыя партызанскіх брыгад і атрадаў на тэрыторыі БССР на 1 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 51—93); даклад пра дзейнасць дыверсійных груп у ліпені 1942 г., 12 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 753, л. 122 і наст.).

[190] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.).

[191] Даклад аператыўнага аддзела БШПР пра дзейнасць беларускіх партызанаў у перыяд з 1 чэрвеня 1942 г. да 7 сакавіка 1943 г., 15 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 49).



> адступіць. Работнікі чыгункі збеглі і часткова былі пабітыя партызанамі. На тым самым участку адбылося некалькі буйных падрываў, так што ўвесь рух на ўчастку Барысаў — Орша быў спынены на прыкладна 30 гадзін[192].

Пасля гэтага Галоўнае камандаванне групы армій «Цэнтр» 28 жніўня 1942 г. дало распараджэнне на «выкарыстанне самых жорсткіх тэрарыстычных захадаў»[193]. 3 верасня 1942 г. салдаты 286-й ахоўнай дывізіі, помсцячы за напад на Слаўнае, «расстралялі 100 бандытаў, іх памагатых і членаў іх сем'яў у прысутнасці мужчынскага насельніцтва Слаўнага і наваколля»[194].

Другой аперацыяй 277-га атрада, цяжкай па сваіх выніках, быў падрыў чыгуначнага маста праз раку Нача ў ноч з 8 на 9 верасня 1942 г. У ваенным дзённіку камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» запісана за 9 верасня 1942 г.: «На ўчастку Орша — Барысаў падрываецца мост праз Начу, што азначае спыненне руху на 7 дзён»[195]. Сяргей Мазур, камандзір 277-га атрада, пазней дакладваў: «Ноччу з 8 на 9 жніўня [sic] я падарваў чыгуначны мост праз раку Нача паміж станцыямі Крупкі і Прыяміна, мы знішчылі 160 чалавек аховы маста. […] Шэсць дзён не было ніякага чыгуначнага руху да фронту»[196]. Можна меркаваць, што Мазур перабольшваў колькасць забітых салдат аховы маста.

Партызаны 277-га атрада, паводле дадзеных Сяргея Мазура, пусцілі пад адхон у перыяд з 6 чэрвеня да 18 кастрычніка 1942 г. агулам 13 цягнікоў і знішчылі ў баях і падрывах чыгункі 700 дапаможных паліцэйскіх і каля 6 000 «варожай сілы». Ва ўсякім разе, апошняя лічба бязмерна перабольшана; так, Мазур паведамляў, што 10 ліпеня 1942 г. яго атрад здзейсніў падрыў на ўчастку Мінск — Бабруйск на прагоне Татарка — Ясень. Пры гэтым ён пусціў пад адхон вайсковы эшалон з салдатамі. «Распавядалі, што пры гэтым загінулі каля 700 немцаў»[197]. Нямецкія крыніцы пацвярджаюць, што 9 ліпеня на ўчастку Мінск — Бабруйск, «6 км на паўночны захад ад Ясеня», значыць паміж Татаркай і Ясенем, адбыўся «падрыў чыгуначнай лініі», ахвяры пры гэтым не згадваюцца[198].

[192] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 27 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 43).

[193] Параўн. на гэты конт змену почырку з канца жніўня 1942 г.: BA-MA. RH 19 II/153, Bl. 14—21.

[194] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 3 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 48).

[195] Тамсама. Запіс ад 9 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 52).

[196] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 45). Дата 8—9 жніўня — апіска. Так, праз некалькі сказаў у пратаколе напісана: «З 8 на 9 жніўня мы ўсім атрадам падарвалі чыгуначны мост» (арк. 44 адв. і наст.). 9 жніўня 1942 г. 277-ы атрад быў яшчэ па дарозе ў Крупскі раён, вырваўшыся за некалькі дзён да гэтага разам са злучэннем У. Нічыпаровіча з катла.

[197] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 і наст.).

[198] Справаздача 608-га ахоўнага палка пра падрывы чыгункі з 1 ліпеня 1942 г., 4 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/234, Bl. 23 і наст.).

Не часта здаралася, каб пры падрывах чыгункі з нямецкага боку адзначаліся ахвяры. Пераважалі матэрыяльныя страты, як, напрыклад, пры падрыве на паўднёвы захад ад Талачына (на тэрыторыі дзейнасці 277-га атрада) 19 верасня 1942 г.:

> 21.55 гадзін эшалон з амуніцыяй каля 9 км на паўднёвы захад ад Талачына наехаў на міну пад рэйкай. Адначасова абстрэл прыблізна 40—50 бандытамі з кулямётаў і вінтовак. [...] Лакаматыў і 19 вагонаў не пашкоджаныя, каля 14 вагонаў, з іх 8 разбітыя, стаяць на шляхах. Рух цягнікоў на абодвух шляхах перарваны. Каля 5.35 гадзін яшчэ выбухі. 1 лёгка паранены качагар знік без вестак[199].

Праблематыку, наколькі эфектыўнымі былі падрывы на чыгунцы, мы яшчэ закранём падрабязней.

Іншыя атрады злучэння Нічыпаровіча таксама праводзілі ваенныя аперацыі на адведзеных ім тэрыторыях, як, напрыклад, 1-я рота 208-га атрада пад камандаваннем Кудзінава[200]. 537-ы атрад пад камандаваннем Свірыда і 760-ы атрад Перасценкі пачалі ў кастрычніку 1942 г. разам з 3-й ротай 208-га атрада буйную аперацыю на чыгуначным участку Магілёў — Рагачоў з мэтай падарваць чыгуначныя масты. Аперацыя прайшла, паводле дадзеных Юркаўцава, паспяхова[201]. 128-ы атрад пры Свістунове правёў у верасні 1942 г. разам з 288-м атрадам некалькі баёў супраць нямецкіх падраздзяленняў[202].

128-ы атрад пры Свістунове, здаецца, пасля прарыву з катла заняўся ў першую чаргу рабункамі і тэрарызаваннем цывільнага насельніцтва. Партыйны ўпаўнаважаны па Магілёўскай вобласці, які расследаваў інцыдэнты, абвінаваціў партызанаў Свістунова ў наступных злачынствах: «Шэраг адвольных расстрэлаў сярод цывільнага насельніцтва, спальванне вёсак, рабаванні мясцовых жыхароў, а таксама непрыстойныя адносіны Свістунова да беларускіх сялян. Свістуноў заяўляў: "Усе беларусы — здраднікі"»[203]. Пасля гэтага Свістунова знялі з пасады камандзіра[204].

### *ё) Распад Клічаўскага злучэння і трагічны канец палкоўніка Нічыпаровіча*

Нягледзячы на неаспрэчныя поспехі, дні злучэння Нічыпаровіча ў форме аб'яднання розных атрадаў, якія дзейнічалі пад адзіным каманда-

[199] Паведамленне 583-га ахоўнага батальёна ад 20 верасня 1942 г. (ВА-МА. RH 22/233, Bl. 207).
[200] Пратакол размовы з маёрам Ц. Кудзінавым ад 12 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 136—139).
[201] Пратакол размовы з А. Юркаўцавым, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 20 і наст.).
[202] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 45).
[203] Пазнака Кардовіча, упаўнаважанага партыі па Магілёўскай вобласці, 15 кастрычніка 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 243).
[204] Тамсама.



ваннем Клічаўскага аператыўнага цэнтра, былі палічаныя. І гэта нягледзячы на тое, што непасрэдна пасля аперацыі «Арол» пазіцыя палкоўніка Нічыпаровіча, здавалася, умацавалася: «Некаторыя камандзіры, як, напрыклад, Свістуноў, не ўспрымалі яго раней [перад аперацыяй "Арол"] усур'ёз, яны казалі, што ўжо бачылі такіх палкоўнікаў. Цяпер жа, пасля катла, палкоўнік заваяваў агульную любоў»[205].

Вялікая тэрытарыяльная адлегласць паміж асобнымі атрадамі і аператыўным цэнтрам, а таксама заўсёдныя нямецкія аперацыі супраць партызанаў абцяжарвалі адзінае кіраўніцтва, нават рабілі яго немагчымым. Гэта спрыяла тэндэнцыі адасаблення асобных камандзіраў, некаторыя з якіх і так неахвотна падпарадкоўваліся камандаванню Нічыпаровіча. Сюды яшчэ трэба дадаць, што Нічыпаровіч ні ў якім разе не імкнуўся да строгага цэнтралізаванага кіравання ўсімі атрадамі злучэння. Наадварот: загадам ад 25 ліпеня 1942 г., у якім ён адводзіў асобным атрадам іх тэрыторыі дзеяння, ён указваў: «Камандзіры атрадаў і рот дзейнічаюць самастойна»[206]. У дакладной запісцы ад 29 кастрычніка 1942 г. Нічыпаровіч нават прапанаваў: «Ліквідаваць аператыўныя цэнтры, яны сябе не апраўдваюць. Кожны атрад павінен атрымаць радыёстанцыю і, такім чынам, падтрымліваць непасрэдную сувязь з Цэнтральным штабам партызанскага руху»[207].

У другой палове верасня 1942 г. Нічыпаровіч паляцеў у Маскву, каб абмеркаваць мерапрыемствы па актывізацыі партызанскага руху і адначасова адпачыць ад цяжкіх клопатаў партызанскага жыцця. Затым ён адмовіўся, як было адзначана ў адной нататцы, вяртацца ў варожы тыл, каб весці партызанскую барацьбу[208]. Гэта азначала і канец яго партызанскага злучэння[209]. У лістападзе 1942 г. Сяргей Мазур заявіў: «Цэнтр Нічыпаровіча ў прынцыпе разваліўся»[210]. Зімой 1942/43 гг. Беларускі штаб партызанскага руху распусціў Клічаўскі аператыўны цэнтр[211].

Хоць палкоўнік Уладзімір Нічыпаровіч дзейнічаў як партызан надзвычай паспяхова, ён закончыў жыццё трагічна, і не ў баі супраць нямецкіх акупантаў, а ў турме НКУС. Восенню 1942 г. ДКА ўтварыў камісію, што павінна была расследаваць дзейнасць палкоўніка Нічыпаровіча з 22 чэрвеня 1941 г. Тут справа была ў інтрызе, у якой

[205] Стэнаграма размовы з І. Івановым, 21 сакавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 287).
[206] Загад № 83 камандзіра 208-га Чырвонага партызанскага атрада імя Сталіна У. Нічыпаровіча, 25 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 20 і наст.).
[207] Дакладная палкоўніка У. Нічыпаровіча пра рэарганізацыю партызанскага руху ў БССР ад 29 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 138).
[208] Характарыстыка палкоўніка У. Нічыпаровіча, [канец 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 4, д. 3359, л. 10); стэнаграма размовы са Шчарбаковым і Ратушновым, 1 лютага 1948 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 173).
[209] Дыслакацыя партызанскіх брыгад і атрадаў на тэрыторыі БССР па стане на 1 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 51—93).
[210] Стэнаграма размовы з С. Мазурам, 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 47 і наст.).
[211] План разгортвання і дзеянняў партызанскага руху на зіму 1942/43 гг. у БССР, [кастрычнік 1942 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 38, арк. 6—19).

узялі ўдзел, сярод іншага, Мікалай Пакроўскі (партыйны дзеяч) і Сяргей Мазур (афіцэр дзяржбяспекі) і, пэўна, іншыя партызанскія камандзіры, што ў мінулым мелі канфлікты з Нічыпаровічам. Яны восенню 1942 г. данеслі на Нічыпаровіча, сярод іншага, Панамарэнку. Яны абвінавачвалі Нічыпаровіча ў тым, што ён прыпісваў сабе поспехі іншых партызанскіх камандзіраў і да студзеня 1942 г. увогуле не вёў ніякай партызанскай барацьбы[212]. Як ужо паказана вышэй, у дадзеных Нічыпаровіча пра перыяд з ліпеня да снежня 1941 г. меліся нестыкоўкі.

На аснове гэтых абвінавачванняў НКУС арыштаваў палкоўніка Нічыпаровіча 25 красавіка 1943 г. за здраду Радзіме згодна з параграфам 58-1 б Крымінальнага кодэкса РСФСР (здрада Радзіме вайсковымі асобамі). Нічыпаровіч не дажыў да канца вайны, ён памёр 31 студзеня 1945 г. у турме Бутырка ў Маскве[213]. Нічыпаровіча ўжо аднойчы арыштоўвалі ў 1937 г., калі ён быў намеснікам камандзіра 24-й кавалерыйскай дывізіі, па падазрэнні ў сабатажы. Ён нібыта, згодна з абвінавачваннем, распаўсюджваў захворванні коней сваёй дывізіі. Аднак пазней яго выпусцілі[214].

Варта адзначыць, што з кастрычніка 1942 г., пасля адлёту Нічыпаровіча, баявы маральны дух ягоных партызанаў зменшыўся, і нямецкія захопнікі перамясцілі кропку апоры барацьбы з партызанамі ва ўсходняй Беларусі на тэрыторыю вакол Віцебска і Полацка, у паўночна-ўсходнія раёны БССР. Там партызаны найчасцей здзяйснялі падрывы[215]. Гэта адлюстроўваецца і ў дакладах асобных атрадаў злучэння Нічыпаровіча пра праведзеныя аперацыі. Да верасня 1942 г. яны паведамлялі пра шматлікія аперацыі і падрывы, а з кастрычніка 1942 г. дзейнасць пайшла на спад. Адсутнасць палкоўніка Нічыпаровіча, які намагаўся дысцыплінаваць вольна падпарадкаваныя яму атрады і падштурхоўваць іх на барацьбу, адыгрывала пры гэтым ролю, якую нельга недаацэньваць.

Ёсць і іншыя пацвярджэнні, што восенню 1942 г. баявы маральны дух партызанаў былога злучэння значна аслаб. Так, Свірыд, камандзір 537-га атрада, 25 кастрычніка 1942 г. сігналізаваў Панамарэнку:

> З наступленнем зімы зніжаецца маральны дух асобных чырвоных партызанаў. Боепрыпасы канчаюцца, цёплага адзення няма, а забеспячэнне прадуктамі харчавання з кожным днём ускладняецца. [...] Прадукты харчавання і вопратку трэба здабываць з баямі; пры гэтым партызаны расстрэльваюць патроны і нясуць ахвяры[216].

[212] Стэнаграма размовы з М. Пакроўскім ад [дата неразборлівая] снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 86); характарыстыка палкоўніка У. Нічыпаровіча [канец 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 4, д. 3359, л. 10).

[213] Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 2. С. 59, примечание 2. 4 кастрычніка 1952 г. Міністэрства дзяржаўнай бяспекі СССР спыніла расследаванне з-за адсутнасці складу злачынства. Гл.: Тамсама.

[214] Wieczorkiewicz P. Łańcuch śmierci. Czystka w Armii Czerwonej 1937—1939. Warszawa, 2001. S. 391 і наст.

[215] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232).

[216] Даклад Свірыда П. Панамарэнку ад 25 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 576 і наст.).



## 2. Спантаннасць і дынаміка ў развіцці партызанскага руху ў 1942 г.

Аналіз адпаведных нямецкіх і савецкіх крыніц паказвае, што са студзеня да верасня 1942 г. атрад, а пазней і злучэнне Нічыпаровіча дамагліся вялікіх поспехаў у барацьбе супраць нямецкіх акупантаў. Атрад утварыўся на мяжы 1941—1942 гг. з дзвюх самастойных груп іператварыўся за наступныя месяцы ў баявое злучэнне, якое мела ўладу на цэлых тэрыторыях нямецкага тылу ці кантралявала іх. Савецкія ўлады да ліпеня 1942 г. нічога не ведалі пра гэта, не кажучы ўжо пра ўплыў на з'яўленне і дзейнасць злучэння. Вырашальную ролю пры гэтым адыграў палкоўнік Нічыпаровіч.

Абставіны, пры якіх утварыліся і дзейнічалі партызанскі атрад, а пазней злучэнне палкоўніка Нічыпаровіча, былі ў Беларусі не выключэннем, а хутчэй правілам, хоць ніводзін партызанскі камандзір ці ніводнае іншае партызанскае падраздзяленне не змаглі дамагчыся параўнальных поспехаў. У сапраўднасці існавалі сотні меншых і большых партызанскіх атрадаў, што з вясны 1942 г. утварыліся ў Беларусі ў падобных абставінах, як, напрыклад, брыгада «Чэкіст», што дзейнічала ў раёне вакол Оршы і Шклова (Шклоў размешчаны паміж Оршай і Магілёвам), г. зн. амаль у непасрэдным суседстве са злучэннем Нічыпаровіча.

Брыгада «Чэкіст» з'явілася ў канцы мая 1942 г. як аб'яднанне чатырох атрадаў, што ўтварыліся спантанна вясной 1942 г. Яны складаліся ў асноўным са збеглых і адпушчаных на волю ваеннапалонных, салдат і афіцэраў, якія адбіліся ад сваіх часцей, і савецкіх актывістаў, што засталіся ў тыле. Яны жылі з лета—восені 1941 г. у вёсках і зараблялі сабе на хлеб як сельскагаспадарчыя работнікі. Калі ў іх не было пашпартоў, якія дазвалялі б ім там жыць і працаваць, яны часта мянялі месца жыхарства, каб пазбегнуць арышту мясцовай паліцыяй[217]. Некаторыя з іх падбіралі ў лясах зброю, але мала хто меркаваў уступаць у партызанскую барацьбу[218].

У красавіку 1942 г. нямецкія акупацыйныя ўлады запатрабавалі ад усіх ваеннапалонных і вайскоўцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей, зарэгістравацца для вывазу на працу ў Германію. Адначасова яны аб'явілі, што кожны салдат, які адбіўся ад сваёй часці, ці ваеннапалонны, што пасля 25 красавіка 1942 г. будзе напатканы без належнага пашпарта, будзе расстраляны.

Пазнейшы начальнік штаба брыгады «Чэкіст» Іван Буланаў заявіў у кастрычніку 1942 г.: «Гэта вельмі дапамагло стварыць партызанскі рух»[219]. Многія вайскоўцы, якія адбіліся ад сваіх часцей, і ваеннапалон-

[217] Справаздача пра размову з Паўлам Галіцыным і Любай Крывельскай ад 15 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1077, л. 52—57); справаздача пра брыгаду «Чэкіст» ад 17 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 36 і наст.).

[218] Пратакол размовы з Іванам Буланавым, 23 кастрычніка 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 4 і наст.).

[219] Тамсама.

ныя баяліся выконваць гэтае распараджэнне, бо «яны ўжо пабывалі ў палоне і ведаюць, што значыць палон: смерць!»[220].

Разам з Буланавым у красавіку 1942 г. 16 мужчын вырашылі ісці ў лес. Першыя тыдні былі вельмі цяжкімі, было холадна, яны галадалі, і той-сёй з іх адлучыўся ад групы і вярнуўся назад у вёску. Спачатку свежаспечаныя партызаны займаліся толькі самазабеспячэннем і зборам зброі ды амуніцыі, што засталіся ад часцей Чырвонай Арміі ў час яе ўцёкаў летам 1941 г. У час адной з такіх аперацый яны пачулі ў змроку фырканне некалькіх коней, якія рухаліся ў іх бок. Яны падумалі, што гэта нямецкі конны атрад, і Буланаў даў загад страляць. Як толькі адзін партызан стрэліў, група, ды і стралок разбегліся ў паніцы ва ўсе бакі. Але высветлілася, што гэта былі не нямецкія коннікі, а вясковыя хлапчукі, якія гналі коней. Яны ледзь пазбеглі крывавай бойні. Іншыя акцыі партызанаў, скіраваныя супраць мясцовых упраў і паліцэйскіх, праходзілі, аднак, больш паспяхова. Атрад, да якога паступова далучаліся іншыя вайскоўцы, што адбіліся ад сваіх часцей, і былыя ваеннапалонныя, спачатку дзейнічаў ізалявана[221].

У маі 1942 г. група ўсталявала кантакт яшчэ з двума атрадамі, якія дзейнічалі ў гэтай мясцовасці. Гэтыя групы таксама ўтварыліся толькі некалькі тыдняў таму і складаліся таксама галоўным чынам з вайскоўцаў, што адбіліся ад сваіх часцей, і былых ваеннапалонных. Іх камандзіры вырашылі аб'яднаць атрады ў партызанскую брыгаду. Яны ўсталявалі штаб, начальнікам якога стаў Іван Буланаў. Камандзірам брыгады быў выбраны Герасім Кірпіч. Ён быў старшым лейтэнантам памежных войскаў НКУС, таму і брыгада атрымала назву «Чэкіст». Аб'яднанне адбылося па сумеснай ініцыятыве Буланава і Кірпіча[222].

Пасля аб'яднання атрады былі рэарганізаваныя ў новыя падраздзяленні, якія мусілі дзейнічаць самастойна на адведзеных ім аператыўных тэрыторыях у мясцовасці вакол Оршы і Шклова. У чэрвені 1942 г. у складзе брыгады ўжо было 6 атрадаў, што налічвалі каля 500 чалавек. Толькі ў пачатку ліпеня 1942 г. брыгадзе ўдалося праз кур'ераў наладзіць сувязь з савецкім тылам[223]. У брыгаду была паслана дыверсійная група з 9 чалавек. Яны, пры падтрымцы партызанаў, здзейснілі шматлікія падрывы на ўчастку чыгункі Коханава — Орша і Орша — Шклоў, паводле ўласных дадзеных, да верасня 1942 г. агулам 17. Пасля гэтага група вярнулася ў савецкі тыл, бо закончылася выбухоўка, а камандзір групы быў паранены[224].

[220] Тамсама. Арк. 4.

[221] Тамсама. Арк. 2—12.

[222] Пратакол размовы з Іванам Буланавым, 23 кастрычніка 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 2—12); справаздача пра размову з П. Галіцыным і Л. Крывельскай ад 15 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1077, л. 52—57); справаздача пра брыгаду «Чэкіст» ад 17 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 64, л. 36 і наст.).

[223] Тамсама.

[224] Даклад Кірпіча пра аператыўную групу № 91-М тав. Гарбаценкі, 12 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 188); справаздача пра дзейнасць групы № 91-М за перыяд з 10 чэрвеня да 12 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 189 і наст.).



У красавіку 1942 г. у Шклоўскім раёне з'явілася яшчэ адна невялікая партызанская група, якая складалася з чатырох былых ваеннапалонных і аднаго супрацоўніка міліцыі. Да 15 чэрвеня 1942 г. група вырасла дзякуючы былым ваеннапалонным да прыблізна 50 чалавек. Пасля гэтага атрад падзяліўся на дзве групы. Спачатку група займалася пошукамі зброі і амуніцыі ў лясах ці ў мясцовых жыхароў, якія збіралі і прыхоўвалі пакінутую летам 1941 г. зброю і амуніцыю. У чэрвені 1942 г. група наладзіла сувязь з брыгадай «Чэкіст», але не далучылася да яе. Атрад здзяйсняў аперацыі, якія галоўным чынам былі накіраваныя супраць мясцовай управы і паліцэйскіх. Са жніўня ён, паводле ўласных дадзеных, ажыццяўляў падрывы на чыгунцы. 4 верасня 1942 г. атрад трапіў у засаду, і яго партызаны разбегліся. Пазней зноў сабраліся толькі 19 партызанаў[225].

З'яўленне такіх атрадаў і груп на беларускай тэрыторыі з вясны 1942 г. стала масавым феноменам. Яны ўтвараліся сотнямі і на былых усходніх польскіх тэрыторыях. Былы ваеннапалонны і партызан Рудко, што ў пачатку кастрычніка 1942 г. перасёк лінію фронту, паведамляў:

> На тэрыторыі Заходняй Беларусі знаходзяцца сотні тысяч партызанаў, пераважна былыя ваеннапалонныя і вайскоўцы, якія адбіліся ад сваіх часцей; сваю зброю яны пазнаходзілі ў лясах і ў мясцовага насельніцтва. Яны дзейнічаюць найбольш малымі групамі па 20—40 чалавек[226].

Але Рудко заўважыў, што гэтыя групы з-за недахопу амуніцыі і адсутнасці выбуховых рэчываў часта не маглі альбо маглі вельмі мала здзяйсняць аперацыі супраць нямецкіх акупантаў.

Падобнае паведамляў Мікіта Бурцаў, намеснік камандзіра 125-га партызанскага атрада імя Сталіна, які дзейнічаў на захад ад Мінска:

> У лясах на тэрыторыі ад Слоніма да Мінска [знаходзяцца] многа партызанскіх атрадаў і асобных партызанскіх груп. Атрады налічваюць па 30—150 чалавек, групы па 3—10. [...] Грунтуючыся на дадзеных, якія, праўда, не поўныя, я ведаю, што ў гэтых лясах знаходзяцца каля 15 партызанскіх атрадаў, колькасцю 1 500—2 000 чалавек, і шматлікія асобныя групы[227].

Казлоў, сакратар Мінскага падпольнага абкама КП(б)Б, дакладваў у канцы 1942 г. пра шматлікія партызанскія атрады, што з красавіка— мая 1942 г. дзейнічалі ў Белавежскай пушчы (каля 60 км на паўднёвы

[225] Справаздача атрада Кавалёва за перыяд з 15 красавіка да 5 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 116—121).

[226] Узнагароды партызана Я. Д. Рудко з брыгады Нікіціна, [восень 1942 г.) (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 169, арк. 53—55). Перакладзена на нямецкую мову і надрукавана ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 49—53.

[227] Паведамленне намесніка камандзіра 125-га партызанскага атрада імя Сталіна Мікіты Бурцава Палітычнаму ўпраўленню Чырвонай Арміі, 10 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 169, арк. 25). Перакладзена і надрукавана ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 48.

ўсход ад Беластока), у Гродзенскай вобласці — 20 і ў Пінскай — да чатырох атрадаў[228].

Больш буйныя атрады ўтвараліся вакол моцных кіраўнічых асоб, найчасцей вакол былых камандзіраў Чырвонай Арміі, падобна, як і на ўсходніх тэрыторыях Беларусі. Да такіх камандзіраў належалі Пілiп Капуста, Барыс Булат ці, напрыклад, капітан Нікіцін. Нікіцін арганізаваў вясной 1942 г. атрад, што размяшчаўся ў Налібоцкай пушчы і дзейнічаў у гэтай мясцовасці. Летам 1942 г. атрад налічваў прыблізна ад 600 да 650 партызанаў, каля 80 % з іх — былыя ваеннапалонныя і вайскоўцы, якія адбіліся ад сваіх часцей. Капітан Нікіцін і яго штаб карысталіся ў партызанаў вялікім аўтарытэтам. Калі ў партызанаў закончылася амуніцыя і, нягледзячы на неаднаразовыя абяцанні з боку Цэнтральнага штаба партызанскага руху паставіць амуніцыю паветраным шляхам, нічога не адбылося, кіраўніцтва брыгады вырашыла ў верасні 1942 г. прабівацца на савецкі бок[229].

Барыс Булат, старшы лейтэнант Чырвонай Арміі, цяжка паранены трапіў у палон. У Слонімскай бальніцы яму ампутавалі руку. Пасля таго, як ён апамятаўся, ён уцёк з бальніцы і схаваўся ў лесе. Там ён далучыўся да адной групы, якая ў маі 1942 г. распалася на тры часткі. Камандзірам адной з гэтых груп быў выбраны Барыс Булат. Атрад хутка папаўняўся вайскоўцамі, што адбіліся ад сваіх часцей, а таксама былымі ваеннапалоннымі, і аб'яднаўся з трыма іншымі атрадамі ў падраздзяленне пад камандаваннем Булата. Атрад Барыса Бязрукага, як яго пачалі называць, налічваў у жніўні 1942 г. каля 400 партызанаў, у тым ліку шмат яўрэяў-бежанцаў з Дзярэчынскага гета. Сувязь з савецкім тылам яго атрад змог наладзіць толькі ў снежні 1942 г., хоць Цэнтральны штаб партызанскага руху чуў пра яго ўжо ў жніўні 1942 г. і занёс яго ў свой спіс груп, з якімі мелася сувязь[230].

---

[228] Даклад Казлова пра становішча ў акупаваных раёнах, [лета—восень 1942 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 184 і наст.).

[229] Нататкі партызана Я. Д. Рудко з брыгады Нікіціна, [восень 1942 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 169, арк. 53—55). Перакладзена і надрукавана ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 49—53. Гл. таксама: Даклад Мельнікава з 4-га ўпраўлення НКУС П. Панамарэнку, 24 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 97); радыёграма П. Панамарэнкі капітану Нікіціну, 28 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 105); даклад Гудзімава з 2-га ўпраўлення НКУС у ЦШПР, 4 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 106); стэнаграма размовы з Іванам Мальцавым, 29 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 86 і наст.). Мальцаў у размове паведаміў, што брыгада капітана Нікіціна якраз адпачывае (арк. 86); паведамленне партызана-лётчыка атрада Нікіціна Ігара Шыцікава, [восень 1942 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 112 адв. і наст.). Шыцікаў паведаміў, што брыгада Нікіціна пакінула месца знаходжання 3 верасня 1942 г., але ў дарозе даведалася пра забарону П. Панамарэнкі партызанскім атрадам пакідаць тыл і перасякаць лінію фронту. У верасні 1942 г. брыгада Нікіціна знаходзілася ў Бягомльскім раёне, каля 130 км на паўночны ўсход ад Мінска.

[230] Пратакол размовы з Барысам Булатам, 19 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 47—55); пратакол апытання Васіля Кавязіна, 21 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 251, арк. 22—26). Перакладзена і надрукавана ў: Sowjetische



Маёр Піліп Капуста перад нямецкім нападам камандаваў 375-м артылерыйскім палком. Яго падраздзяленне летам 1941 г. было разбіта на беларускай тэрыторыі, і ён, паранены, трапіў у палон. У студзені 1942 г. ён з 13-цю іншымі чырвонаармейцамі вырваўся адтуль, і яны разам утварылі партызанскую групу ў мясцовасці вакол Капыля, каля 80 км на паўднёвы захад ад Мінска. Група спачатку мела толькі адну вінтоўку. З часам да групы далучыліся іншыя вайскоўцы, якія адбіліся ад сваіх часцей, і былыя ваеннапалонныя. У маі 1942 г. група Капусты з'ядналася яшчэ з дзвюма, што таксама дзейнічалі ў гэтай мясцовасці, у адно падраздзяленне колькасцю каля 60 партызанаў, якое цяпер пачало называць сябе брыгадай імя Варашылава. Брыгада хутка папаўнялася салдатамі, што адбіліся ад сваіх часцей, былымі ваеннапалоннымі і мясцовымі маладымі людзьмі, якіх нямецкія ўлады хацелі забраць на прымусовую працу. Партызаны ўключылі ў свае атрады цэлыя кантынгенты тых, хто быў мабілізаваны для прымусовай працы. У жніўні 1942 г. брыгада імя Варашылава складалася ўжо з 12 атрадаў з агульнай колькасцю 3 000 партызанаў. Толькі позняй восенню 1942 г. брыгадзе ўдалося ўсталяваць сувязь з савецкім тылам[231].

Усе гэтыя групы і атрады ўзбройваліся на месцы, яны збіралі зброю і амуніцыю самі ці канфіскавалі іх у мясцовых жыхароў, якія назбіралі і прыхавалі зброю і амуніцыю, пакінутую летам 1941 г. на палях баёў і ў лясах. Часткова партызаны адбівалі зброю ў мясцовых паліцэйскіх. Супраць іх яны і праводзілі больш за ўсё аперацый, не кажучы пра так званыя «гаспадарчыя аперацыі», г. зн. канфіскацыю ці рабаўніцтва ў вёсках прадуктаў харчавання і вопраткі[232].

Масавыя выступленні партызанаў на былых усходніх польскіх тэрыторыях з вясны 1942 г. пацвярджаюцца нямецкімі і польскімі тагачаснымі крыніцамі. Кіраўнік каманды паліцэйскіх у Новай Мышы дакладваў 28 мая 1942 г. жандарскаму ўпраўленню ў Баранавічах,

> што з 21 мая г. г. да сённяшняга дня пастаянна прыходзяць паведамленні пра партызанаў [...] Партызаны ўзброеныя ручнымі гранатамі, пісталетамі, вінтоўкамі і фінскімі аўтаматамі. Яны з'яўляюцца заўсёды групамі па 4—9 чалавек[233].

---

Partisanen in Weißrußland... S. 43—47. Гл. таксама: Спіс партызанскіх атрадаў у БССР, з якімі была наладжана сувязь, ад 10 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 52 і наст.).

[231] Стэнаграма размовы з І. Мальцавым, 29 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 86 і наст.); стэнаграма размовы з Піліпам Капустай, 29 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 104—107); даклад П. Капусты П. Панамарэнку, 7 снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 265 і наст.).

[232] У Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці (ДАГВ) у ф. 995, воп. 1, спр. 7, знаходзяцца сотні згадак за 1942 г. пра такія аперацыі на тэрыторыі дзеянняў атрадаў ці брыгад Капусты, Булата і Нікіціна. Пра большасць выпадкаў увогуле не паведамлялася.

[233] Даклад ахоўнай каманды ў Новай Мышы ў упраўленне жандармерыі ў Баранавічах, 28 мая 1942 г. (ДАГВ. Ф. 955, воп. 1, спр. 7, без нумарацыі аркушаў).

Колькасць нападаў партызанаў на працягу 1942 г. не зменшылася, а павялічвалася як лавіна. Партызаны мэтанакіравана нападалі на адзіночных нямецкіх салдат, паліцэйскіх і акупацыйных службоўцаў, мясцовых паліцэйскіх, бургамістраў, кіраўнікоў гаспадарак і іншых асоб, якіх падазравалі ў супрацоўніцтве з нямецкімі акупантамі, забівалі іх і рабавалі. Асабліва цярпелі ад гэтага маёнткі. Партызаны сістэматычны нападалі на іх, разбуралі прылады, палілі будынкі і знішчалі ўраджай[234]. Трывала ўся Беларусь. 15 чэрвеня 1942 г. II аддзел сігналізаваў рэйхскамісару Остланда:

> У Беларусі […] ужо амаль немагчыма ўтрымліваць становішча. […] Партызанская дзейнасць, паводле даклада генеральнага камісара Беларусі ад 7 мая 1942 г., узмацняецца ў палохаючых памерах. Наступленне партызанаў шырокім фронтам распаўсюджваецца на захад[235].

Месячныя зводкі аддзела «Карвета» ў штабе польскай Арміі Краёвай, які назіраў за камуністычнай дзейнасцю на польскай тэрыторыі, малююць пра гэты час такую ж карціну, як, напрыклад, справаздача за перыяд з 20 ліпеня да 20 жніўня 1942 г.:

> Моцныя партызанскія сілы сканцэнтраваныя ў Налібоцкай пушчы. […] На тэрыторыі вакол Баранавічаў у гэты час пашыраецца партызанскі рух, хоць значных ваенных вынікаў не адзначана. […] У лясах вакол Дакудава (Лідскі павет) было выяўлена прыблізна ад 3 000 да 4 000 партызанаў, якія арганізаваныя па-вайсковаму[236].

У іншым дакладзе польскай Арміі Краёвай пра становішча ў Навагрудскай акрузе ад 1944 г. гаворыцца:

> У 1942 г. адбылося масавае ўтварэнне ўзброеных савецкіх падраздзяленняў, у склад якіх увайшлі былыя палонныя. Нямецкія ўлады з прычыны сваёй блізарукай палітыкі выкарыстоўвалі іх у вёсках і ў гарадах работнікамі ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці (млыны, лесапільні, лесанарыхтоўкі)[237].

### 3. Ваеннапалонныя і чырвонаармейцы, якія адбіліся ад сваіх часцей: касцяк партызанскага руху ў Беларусі

Цяпер з'яўляецца пытанне, якія фактары прывялі да гэтага масавага і спантаннага росту партызанскага руху на тэрыторыі сённяшняй Беларусі. Як было паказана, вырашальную ролю тут адыгралі адзіночныя байцы, што летам 1941 г. вырваліся з акружэнняў, і збеглыя ваеннапалонныя. Тысячы іх аказаліся ў нямецкім тыле. Нямецкія ўстановы спачатку не бачылі ў іх вялікай пагрозы:

> Калі нямецкія арміі летам 1941 г. разбілі Саветы ў першых вялікіх баях пад Мінскам, Бранскам, Смаленскам і пагналі іх амаль да самай Масквы, нейкая колькасць адзіночных савецкіх часцей са зброяй засталася ў нашым тыле. Гэтыя часці з прычыны свайго паражэння былі так дэмаралізаваныя, што яны не думалі пра працяг барацьбы ў тыле нямецкага фронту. Яны закапалі сваю зброю і большай часткай падаліся ў вёскі, каб там весці прымальнае жыццё ў якасці вясковых работнікаў. Побач з гэтымі адзіночнымі часцямі мелася вялікая колькасць савецкіх ваеннапалонных, […]. Нямецкае армейскае камандаванне выпусціла на волю вялікую частку гэтых ваеннапалонных і пусціла іх як сельскагаспадарчых работнікаў у вёску, каб сабраць ураджай, што ўжо саспеў. Такім чынам, у тыле нямецкай арміі апынулася вялікая колькасць баяздольных мужчын, якія раней служылі ў Чырвонай Арміі[238].

Падставай для вызвалення ваеннапалонных быў загад Галоўнага камандавання сухапутных войскаў ад 24 ліпеня 1941 г. аб «рускіх ваеннапалонных». Згодна з ім, ваеннапалонных неабходна было падзяліць на 5 катэгорый, да якіх трэба было адносіцца па-рознаму. Пад першую катэгорыю патраплялі «этнічныя немцы (фольксдойчэ), украінцы, літоўцы, латышы, эстонцы». Іх трэба было праверыць на «супрацiўляльнасць» і падрыхтаваць да вызвалення. «Асабліва надзейныя» маглі, адпаведна загаду, быць выкарыстаныя ў якасці дапаможных паліцэйскіх і перакладчыкаў[239].

У наступныя месяцы ў гэтую катэгорыю былі ўключаныя і беларусы[240]. 19 верасня 1941 г. генерал Готхард Хейнрыцы, што ў гэты час знаходзіўся ў Чарнігаве (Паўночна-Усходняя Украіна), занатаваў:

> Зараз адпускаюцца дадому ўсе рускія ваеннапалонныя, якія паходзяць з захопленых заходніх тэрыторый. Яны тут пільна патрэбныя, бо мужчынская працоўная сіла ў сельскай гаспадарцы адсутнічае ўвогуле[241].

Ацэнка немцаў адносна салдат, якія адбіліся ад сваіх часцей, і ваеннапалонных, аднак, памянялася зімой 1941/42 гг., калі нямецкія войскі атрымалі першыя адчувальныя контрудары пад Масквой. Жаданая перамога аддалялася на невядомую адлегласць, а наперадзе чакала праца-

[234] У фондах ДАГВ (ф. 955, воп. 1, спр. 7) знаходзяцца сотні згадак пра такія выпадкі за 1942 г. на тэрыторыі Баранавіцкай акругі.

[235] Даклад рэйхскамісара «Остланд» (аддзел II) рэйхміністру занятых усходніх тэрыторый, 15 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 8—11).

[236] Месячная справаздача аддзела «Korweta» за перыяд з 20 ліпеня па 20 жніўня 1942 г. (AAN. Mf 423, k. 113 і наст.).

[237] Даклад абвода АК «W» (Nowogródek), 30 студзеня 1944 г. (AAN. Mf M-B582, k. 1—2 (f. R—601, ap. 1, vien. 36 [літоўская сігнатура, бо мікрафільм паходзіць з літоўскіх фондаў])).

[238] Даклад оберштурмфюрара Федэра пра барацьбу з бандамі, прачытаны 28 кастрычніка 1943 г. з нагоды рабочага пасяджэння беларускіх прапагандыстаў ад 25 да 30 кастрычніка 1943 г. у Мінску (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1277, арк. 21 і наст.).

[239] Загад Галоўнага камандавання сухапутных войскаў ад 24 ліпеня 1941 г. аб «рускіх ваеннапалонных» (копія) (BA-MA. RH 23/219, без нумарацыі аркушаў).

[240] Ein deutscher General an der Ostfront… S. 178.

[241] Gotthard Heinrici: Kriegsbericht an seine Familie, 19.09.1941 // Ein deutscher General an der Ostfront… S. 85 і наст.

глая вайна. У гэтых абставінах дзясяткі тысяч былых чырвонаармейцаў у нямецкім тыле рабіліся сур'ёзнай пагрозай. Яны ў любы час маглі ўзяцца за зброю, каб змагацца супраць нямецкіх акупантаў. Толькі нямногія гэта ўжо зрабілі, асабліва тыя, хто застаўся лаяльным у адносінах да савецкай дзяржавы ці быў перакананым камуністам. Сярод іх было асабліва шмат былых камандзіраў Чырвонай Арміі. Першыя перамогі Чырвонай Арміі вярталі ім надзею, што вайна ўсё-такі можа быць выйграная.

Нямецкія ўлады цяпер спрабавалі своечасова выключыць патэнцыйную небяспеку і сабраць ваеннапалонных, якія большасцю працавалі ў сельскай гаспадарцы без варты, каб змясціць іх пад варту ў лагеры для ваеннапалонных. Але выявілася, што гэта — цяжкая справа. Камандуючы ахоўнай тэрыторыяй Беларусі, праўда, сцвярджаў 4 сакавіка 1942 г.:

> Большасць ваеннапалонных, што працавалі ў калгасах, тым часам 707-й пяхотнай дывізіяй з прычыны небяспекі, якую яны ствараюць у гэтай сувязі для часці, знятыя са сваіх працоўных месцаў і дастаўленыя ў лагеры для ваеннапалонных[242].

У сапраўднасці ж многія палонныя засталіся па-за лагерам.

У сакавіку і красавіку 1942 г. нямецкія ўлады запатрабавалі рэгістрацыі ўсіх нетутэйшых. Як правіла, гаворка ішла пры гэтым пра салдат, што адбіліся ад сваіх часцей, збеглых палонных, пакінутых савецкіх актывістаў і іншых, якія знайшлі сабе прытулак у вёсках і лясах. Практычна такія людзі былі ў кожнай вёсцы. Зарэгістраваных асоб неабходна было адпраўляць у Германію на прымусовую працу ці змяшчаць у лагеры[243].

Гэтыя захады павінны былі, як меркавалі немцы, перашкодзіць росту партызанскага руху. Выклікалі ж яны якраз адваротнае. Генадзь Будай у сакавіку 1942 г. паспрабаваў стварыць партызанскую групу ў Дзяржынскім раёне, але спачатку без вялікага поспеху. Першая група развалілася праз некалькі дзён, бо ў лесе было вельмі холадна. Але хутка ўсё перамянілася:

> 5 красавіка 1942 г. немцы запатрабавалі сабраць усіх палонных, якія жылі ў вёсках, і накіраваць іх у лагеры для ваеннапалонных. Яны [немцы] меркавалі, што вясной уся маса рушыць у лясы. [...] Мы вырашылі распаўсюдзіць у вёсках улёткі пра тое, што немцы затрыманых засадзяць у лагеры, і заклікалі: «Нікому не рэгістравацца! Бяжыце ў лясы». У той час маса народу пабегла ў лясы[244].

[242] Данясенне начальніка тэрыторыі забеспячэння Беларусь (аддзел 770-й пяхотнай дывізіі), Іа, 4 сакавіка 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 12).

[243] Пратакол размовы з Генадзем Будаём, 8 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 23); стэнаграма размовы з Іванам Мальцавым, 29 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 86); пратакол размовы з Іванам Буланавым, 23 кастрычніка 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 4 і наст.); гісторыя заснавання партызанскай брыгады «Першамайская» (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 250, арк. 89—121), перакладзена на нямецкую мову і надрукавана ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 90; стэнаграма пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 24 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 254, арк. 30—50); надрукавана ў: Studia Podlaskie. T. V. Białystok, 1995. S. 233—246.



Іван Мальцаў, які, паводле яго звестак, уцёк з палону і вясной 1942 г. удзельнічаў у стварэнні ў лясах Брэсцкай вобласці партызанскай групы з дзевяці чалавек, паведамляў у снежні 1942 г.:

> У красавіку 1942 г. немцы пачалі вышукваць і рэгістраваць салдат, што адбіліся ад сваіх часцей, і збеглых палонных, якія жылі ў вёсках і працавалі на зямлі. Гэтыя людзі цяпер пабеглі ў лясы, і наш партызанскі атрад пачаў расці. У маі [1942 г.] наш атрад налічваў ужо 160 чалавек[245].

Іван Буланаў, начальнік штаба брыгады «Чэкіст» з мясцовасці пад Оршай, заявіў у кастрычніку 1942 г.:

> У красавіку 1942 г. было аб'яўлена, што ўсе ваеннапалонныя з вёсак павінны зарэгістравацца ў бліжэйшай валасці, каб быць накіраванымі на працу ў Германію. [...] Гэта вельмі дапамагло стварыць партызанскі рух[246].

Падобна справа выглядала і ў мясцовасці вакол Баранавічаў:

> У 1942 г. немцы аб'явілі, што ўсе ўсходнія беларусы, якія жывуць у гэтай мясцовасці, мусяць з'явіцца для рэгістрацыі і адсылкі на працу ў Германію. Гэтая вестка адразу абляцела ўсе населеныя пункты, [...]. Усходнія беларусы сабраліся ў групы, каб абмеркаваць сітуацыю. [Ім] было ясна, што яны пад пагрозай. Шмат хто з іх былі настроеныя патрыятычна і вырашылі, што лепш памерці за Радзіму[247].

Тое ж самае адбылося ў Брэсцкай вобласці. Іван Жыжко, адзін з партызанскіх камандзіраў з Брэсцкай вобласці, дакладваў у чэрвені 1943 г.:

> У сакавіку [1942 г.] мы па радыё пачулі, што немцы выдалі загад [усім ваеннапалонным] зарэгістравацца ў мясцовых управах, каб быць адпраўленымі ў Германію на прымусовую працу. Мы [падполле] аддалі ў гэты час усім камандзірам, салдатам, камуністам і савецкім грамадзянам, каму пагражала адпраўка ў Германію, загад уцякаць у лясы. Вельмі вялікая частка іх пайшла ў лясы[248].

[244] Пратакол размовы з Г. Будаём, 8 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 23).

[245] Стэнаграма размовы з І. Мальцавым, 29 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 86).

[246] Пратакол размовы з І. Буланавым, 23 кастрычніка 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 4 і наст.).

[247] Гісторыя заснавання атрадаў брыгады «Першамайская», [лета 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 250, арк. 89—121), перакладзена на нямецкую мову і апублікавана ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 90.

[248] Стэнаграма пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б ад 24 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 254, арк. 30—50). Надрукавана ў: Studia Podlaskie. T. V. Białystok, 1995. S. 234.

Нягледзячы на масавыя ўцёкі ў лясы і адпраўкі на прымусовую працу ў Германію, у Беларусі засталіся яшчэ тысячы былых ваеннапалонных і байцоў, якія адбіліся ад сваіх часцей. На нарадзе ў чэрвені 1942 г. фон Шэнкендорф звяртаў увагу на гэтую праблему:

> Важная задача — *вылоўліванне збеглых ваеннапалонных* і тых, хто, выпушчаны з дугласа [*Duglas — Durchgangslager* — прамежкавы лагер], бадзяецца па мясцовасці. Наконт гэтага неабходна ў наступных аперацыях *праверыць* калгасы[249].

Усё ж праблема існавала і ў наступныя месяцы. У ваенным дзённіку групы армій «Цэнтр» за 28 кастрычніка 1942 г. запісана:

> Ухіленне шматлікіх ваеннапалонных стварае нагоду выдаць загад наконт узмацнення варты ваеннапалонных. На нашай тэрыторыі знаходзіцца каля 100 000 ваеннапалонных, з якіх толькі каля 40 000 зарэгістраваныя і знаходзяцца пад сапраўднай вартай[250].

Гэта азначае, што восенню 1942 г. у тылавым раёне групы армій «Цэнтр», які, сярод іншага, ахопліваў палову сённяшняй Беларусі, яшчэ жылі каля 60 000 ваеннапалонных без варты.

Савецкія крыніцы пацвярджаюць гэта. Кур'ер брыгады «Дзядзькі Колі», якая летам 1942 г. дзейнічала ў мясцовасці паміж Оршай і Барысавам, дакладваў у лістападзе 1942 г.:

> У вёсках жыве шмат маладых мужчын прызыўнога ўзросту, там жыве таксама шмат байцоў, якія адбіліся ад сваіх часцей, што пражываюць у сялян, як і некаторыя збеглыя ваеннапалонныя, так што можна было б стварыць цэлую армію, калі б толькі была зброя, а іх усіх мабілізаваць[251].

Такія ж умовы панавалі ў Пінскай вобласці. У жніўні 1942 г. там прызямлілася група з пяці чалавек з Цэнтральнага штаба партызанскага руху з даручэннем арганізаваць на месцы партызанскі рух. Адзін член гэтай групы потым распавядаў: «Мы выявілі там [у Пінскай вобласці] шмат груп байцоў, якія засталіся з акружэння ці збеглі з палону і ўладкаваліся ў вёсках. [...] Усіх гэтых таварышаў мы залічылі ў свае атрады, хацелі яны таго ці не»[252].

У той час, калі спроба немцаў зарэгістраваць усіх вайскоўцаў, што адбіліся ад сваіх часцей, і збеглых палонных, каб пасля адправіць іх на прымусовую працу ў Германію ці засадзіць у лагеры для ваеннапа-

[249] Пытанні для абмеркавання на нарадзе камандзіраў дывізій, якая адбылася 16 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 304). Вылучана ў арыгінале.
[250] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 28 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 90 і наст.).
[251] Даклад Гарбунова, кур'ера брыгады Рашэтнікава, 29 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 171—174).
[252] Стэнаграма размовы з Аляксеем Кляшчовым, 24 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 126).



лонных, спрыяла развіццю партызанскага руху, савецкі бок, які вельмі марудна атрымліваў уяўленне пра ўмовы ў варожым тыле, спрабаваў наладзіць кантроль над «буйным» ростам руху і кіраваць ім[253].

## 4. Адмысловы выпадак: партызанскі рух у раёне Віцебска і «Суражскія вароты»

Падчас свайго першага вялікага контрнаступлення Чырвоная Армія ў пачатку снежня 1941 г. за некалькі тыдняў адкінула нямецкія войскі на сотні кіламетраў. У студзені 1942 г. падраздзяленні Чырвонай Арміі прасунуліся аж да паўночна-ўсходняй мяжы Беларусі, дзе іх спачатку і затрымалі. Але пры гэтым вермахту не ўдалося стварыць на гэтым участку скразную лінію фронту. Як і ў іншых месцах, на ўчастку фронту савецкай 4-й ударнай арміі паміж Усвятамі і Вяліжам заставаўся калідор. Праз гэты пралом фронту маглі без цяжкасцей прасочвацца ў нямецкі тыл нават буйныя падраздзяленні[254]. Партызаны назвалі гэты разрыў фронту «*Суражскія вароты*», ад горада Сураж, які знаходзіцца каля 40 км на паўночны ўсход ад Віцебска[255].

«Суражскія вароты» стваралі спрыяльныя перадумовы для развіцця партызанскага руху ў раёне Віцебска, што ў канцы 1941 г. — як і ў іншых абласцях Беларусі — фактычна перастаў існаваць, бо партызаны на пачатку зімы пахаваліся ў аддаленых вёсках і больш не праводзілі аперацый[256]. Падобныя ўмовы панавалі ў суседняй Смаленскай вобласці, на ўсход ад Віцебска[257].

У студзені і лютым 1942 г. падпольныя групы ці адзіночныя партызаны наладзілі непасрэдную сувязь з часцямі Чырвонай Арміі, што якраз прабіліся ўжо на тэрыторыю вакол Суража. Гэта былі падраздзяленні 4-й ударнай арміі, якая дзейнічала на гэтым участку фронту. У гэты час у раёне Віцебска вельмі хутка пачаў набіраць сілу партызанскі рух. У лютым і сакавіку на паўночным усходзе Віцебскай вобласці мелася ўжо пяць атрадаў, што налічвалі паміж 70 і 150 чалавек. Гэта былі атрады Захарава, Райцава, Біруліна, Дзіка і Шмырова. Да красавіка 1942 г. яны дзейнічалі самастойна, але распараджэнні атрымлівалі ад штаба ці падраздзяленняў 4-й ударнай арміі[258].

[253] Гл. главу III.
[254] Данясенне члена Ваеннага савета 4-й ударнай арміі Івана Стулава П. Панамарэнку, 15 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 129).
[255] Справаздача аператыўнага аддзела БШПР пра дзейнасць беларускіх партызанаў у перыяд з 1 чэрвеня 1942 г. да 7 сакавіка 1943 г., 15 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 29а).
[256] Даклад брыгады М. Шмырова пра партызанскі рух у Суражы Віцебскай вобласці на 10 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 62 і наст.).
[257] Пратакол размовы з Шурманам, 8 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 8—27).
[258] Кароткае паведамленне пра заснаванне брыгады «Аляксея», [верасень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 56—59); пратакол размовы з Аляксеем Данукалавым, 29 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 166, арк. 64—77); стэнаграма

Адным з гэтых падраздзяленняў камандаваў Мінай Шмыроў. Ён ужо летам 1941 г. арганізаваў у Суражскім раёне партызанскі атрад, які, аднак, восенню 1941 г. распаўся. З наступленнем зімы ён, як і большасць яго таварышаў, схаваўся ў мясцовасці вакол Суража. Баючыся выкрыцця, ён мусіў мяняць сваё месца жыхарства. У канцы студзеня 1942 г. часці Чырвонай Арміі прасунуліся аж да вёскі, у якой хаваўся Шмыроў.

> Раптам у мяне з'явіліся хлопцы, што раней уцяклі з нашага атрада. Потым прыйшлі іншыя, і так сфармаваўся атрад з 70 чалавек. Мы былі добра ўзброеныя вінтоўкамі, аўтаматамі і кулямётамі. Нашым першым заданнем было знішчаць правакатараў і здраднікаў[259].

Адначасова яго атрад атрымаў заданне арганізаваць іншыя атрады ў суседніх абласцях. У канцы лютага ці пачатку сакавіка 1942 г. Шмыроў атрымаў ад штаба 4-й ударнай арміі загад аб'яднаць у брыгаду атрады, якія дзейнічалі на тэрыторыі Віцебск — Сураж. Так з'явілася на свет 14 красавіка 1942 г. 1-я Беларуская партызанская брыгада. Яе камандзірам быў прызначаны Мінай Шмыроў[260].

Іншыя партызанскія камандзіры таксама атрымалі ад штаба 4-й ударнай арміі загады наконт стварэння партызанскіх атрадаў[261]. Атрад Аляксея Данукалава налічваў у лютым 1942 г. каля 30 чалавек і дзейнічаў у Смаленскай вобласці. У сакавіку атрад вырас да прыкладна 80 чалавек і атрымаў ад штаба 4-й ударнай арміі загад перанесці свой раён дзейнасці ў Віцебскую вобласць. Данукалаў атрымаў ад Ваеннага савета 4-й ударнай арміі таксама распараджэнне сфармаваць на аснове атрада брыгаду[262]: «Мне сказалі: народ трэба падняць [на барацьбу]. […] Я арганізаваў групы па 5—7 і 10 чалавек. […] Усе гэтыя групы перараслі ў даволі вялікія атрады»[263]. У чэрвені 1942 г. у склад брыгады Данукалава ўжо ўваходзілі 8 атрадаў агульнай колькасцю 1 250 партызанаў, якіх мабілізавалі ў Суражскім, Лёзненскім і часткова ў Багушэўскім раёнах[264].

размовы з Мінаем Шмыровым, 5 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 35—45); стэнаграма размовы з Міхаілам Дзячковым, 29 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 72—79).

[259] Стэнаграма размовы з Мінаем Шмыровым, 5 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 41 і наст.).

[260] Тамсама. Арк. 35—45.

[261] Пратакол размовы з Аляксеем Данукалавым, 29 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 166, арк. 64—77); стэнаграма размовы з Міхаілам Дзячковым, 29 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 72—79); стэнаграма размовы з Данілам Райцавым, 30 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 92—97).

[262] Кароткае паведамленне пра заснаванне брыгады «Аляксея», 15 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 56—59).

[263] Пратакол размовы з Аляксеем Данукалавым, 29 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 166, арк. 67 адв.).

[264] Кароткае паведамленне пра заснаванне брыгады «Аляксея», 15 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 56—59).



Партызаны ўзбройваліся самі. Яны адшуквалі і збіралі зброю і амуніцыю, пакінутую падраздзяленнямі Чырвонай Арміі летам 1941 г.[265]. Шмыроў заявіў у верасні 1942 г.: «Мы нядрэнна ўзброеныя. Ёсць гранатамёты, гарматы, танкі. Усё падабрана ў лясах»[266]. Атрады брыгады імя Сталіна, якія з'явіліся і дзейнічалі з лютага 1942 г. у Расонскім раёне, таксама ўзбройваліся на месцы самі. Камісар брыгады дакладваў у верасні 1942 г.: «Яны [партызаны брыгады] зброю адшуквалі ўсюды, у балотах, лясах, рэках»[267].

Усе гэтыя атрады дзейнічалі па заданні Чырвонай Арміі. Спачатку яны вялі толькі асобныя баі з нямецкімі часцямі, у першую чаргу змагаючыся з «контррэвалюцыйнымі элементамі» і «здраднікамі Радзімы». Толькі час ад часу яны грамілі дробныя паліцэйскія апорныя пункты[268]. Іх галоўнай задачай было забіраць ваеннаабавязаных жыхароў на сваёй тэрыторыі дзейнасці ў Чырвоную Армію ды «для ўласных патрэб», а таксама канфіскаваць фураж і прадукты харчавання для сябе, але ў першую чаргу для Чырвонай Арміі. Апошняе заданне было цесна звязана з цяжкасцямі забеспячэння Чырвонай Арміі на ўчастку Калінінскага фронту[269].

Дзейнасць партызанаў у гэтых адносінах вартая ўвагі. Мінай Шмыроў, камандзір 1-й Беларускай брыгады, якая ў ліпені 1942 г. налічвала каля 1 300 чалавек, заявіў у верасні 1942 г.: «Мы перадалі Чырвонай Арміі каля 12 000 [sic] чалавек, частка з іх засталася ў нас»[270]. Акрамя таго, яго партызаны паставілі Чырвонай Арміі з сакавіка да мая 1942 г. каля 1 500 тон збожжа, звыш 10 000 тон бульбы, каля 4 000 галоў буйной рагатай жывёлы, каля 35 000 тон сена, 450 тон аўса[271]. Міхаіл Дзячкоў, камандзір 2-й Беларускай партызанскай брыгады (колькасцю каля 800 чалавек), дакладваў 25 мая 1942 г., што яго брыгада перапраўліла праз лінію фронту 2 000 мабілізаваных[272]. Акра-

[265] Параўн., напрыклад: Тамсама.

[266] Стэнаграма размовы з Мінаем Шмыровым, 5 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 42, 43 адв.).

[267] Партызанскі рух і падполле ў Расонскім раёне, 29 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 85).

[268] Стэнаграма размовы з Васілём Бойкам, 22 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 100 і наст.).

[269] Партыйны дзеяч, а з верасня 1943 г. начальнік БШПР Пётр Калінін, які ў 1942 г. быў членам Ваеннага савета Калінінскага фронту, пасля вайны пісаў, што вясной 1942 г. партызаны Віцебшчыны атрымалі заданне рэквізаваць на акупаваных тэрыторыях прадукты харчавання і фураж і праз «Суражскія вароты» пастаўляць іх Чырвонай Арміі. Гл: Калинин П. З. Партизанская республика... С. 107.

[270] Стэнаграма размовы з Мінаем Шмыровым, 5 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 42); Данясенне І. Стулава П. Панамарэнку пра партызанскі рух на Віцебшчыне і на ўчастку 4-й ударнай арміі, 15 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 102—130).

[271] Калинин П. З. Партизанская республика... С. 108.

[272] Даклад пра баявыя дзеянні 2-й Беларускай партызанскай брыгады яе камандзіра М. Дзячкова, 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 70 і наст.). Гл. таксама: Стэнаграма размовы Дзячкова ад 29 верасня 1942 г., у якой ён паведамляе пра 2 646 мабілізаваных для Чырвонай Арміі (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 78 і наст.).

мя таго, яго брыгада паставіла Чырвонай Арміі да 10 ліпеня 1942 г. 330 тон бульбы, 193 тоны фуражу, 87 тон жыта, 248 галоў буйной рагатай жывёлы і 120 коней[273].

Партызаны з Расонскага раёна, каля 140 км на паўночны захад ад Віцебска, канфіскавалі да пачатку чэрвеня 1942 г. на «тэрыторыі нямецкіх гарнізон» 1 590 галоў жывёлы, 310 коней, 80 матацыклаў і ровараў і іншыя рэчы[274]. Толькі ў Суражскім, Янавіцкім і Лёзненскім раёнах (усходнія раёны Віцебскай вобласці) партызаны канфіскавалі да 1 мая 1942 г. для патрэб Чырвонай Арміі 60 000 тон фуражу, 10 000 тон жыта, 60 000 тон мяса, 120 коней. У дакладзе аб гэтым гаворыцца, што калгаснікі гэта ўсё Чырвонай Арміі «перадалі добраахвотна»[275].

Як выглядала штодзённая «партызанская барацьба» ў раёне Віцебска, варта наглядна паказаць па вытрымках са справаздачы аб дзейнасці 2-й Беларускай партызанскай брыгады:

> 23.III.42: Нарыхтоўка жывёлы для Чырвонай Арміі ва Усвятах[276]. [...]; 24.III.42: разгром абшчыны Кузьміно, забіты паліцай і старшыня ўправы. Адпраўлена ва Усвяты 70 падвод з бульбай, 40 галоў буйной рагатай жывёлы. 25.III.42: старшыня праўлення калгаса імя Варашылава Газьбенскага сельсавета Іван Гаскоў расстраляны як здраднік і шпіён. Адпраўлена 29 галоў буйной рагатай жывёлы, 12 падвод з бульбай. [...] 30.III.42: Адпраўлена 19 падвод з бульбай для Чырвонай Арміі. Адпраўленыя ваеннаабавязаныя, адпраўлена буйная рагатая жывёла для Чырвонай Арміі. [...] 3.IV.42: адпраўлена сена, фураж для Чырвонай Арміі, 31 падвода. У гэты дзень нямецкі шпіён За[?]етаў і Вінаградаў з Мезінскага сельсавета расстраляныя. [...] 15.IV.42: Мабілізацыя ваеннаабавязаных для Чырвонай Арміі ў Вярэцкім сельсавеце. 16.IV.42: Пошукі партызанамі зброі ў лясах Паташненскага сельсавета і ў калгасах імя Апанскага, «Ударны» і «Чырвоная Горка». 17.IV.42: адпраўка ваеннаабавязаных партызанамі, 65 чалавек з Мехаўскага раёна, у камендатуру Усвяты[277].

У наступныя месяцы партызаны ў раёне Віцебска працягвалі мабілізацыю і канфіскацыю. За жнівень і верасень 1942 г. яны паставілі Чырвонай Арміі да 4 000 мабілізаваных і больш за 1 000 коней[278]. Усяго партызаны летам 1942 г. забралі ў Віцебскай вобласці

[273] Даклад пра заснаванне і дзеянні 2-й Беларускай партызанскай брыгады ў перыяд з 18 чэрвеня 1941 г. [правільна 18 ліпеня 1941 г.] да 10 ліпеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 79, арк. 12).

[274] Аператыўнае паведамленне № 1 «Баявыя дзеянні 1-й Беларускай партызанскай брыгады ў перыяд з 12 да 18 чэрвеня 1942 г.» (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 91, арк. 6).

[275] Справаздача палітычнага аддзела 4-й ударнай арміі за перыяд з 5 красавіка да 1 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 36).

[276] Гарадскі пасёлак у сённяшняй Расіі на мяжы з Беларуссю, каля 70 км на паўночны ўсход ад Віцебска, у якім Чырвоная Армія ўсталявала гарадскую камендатуру.

[277] Дзеянні 2-га Беларускага партызанскага атрада М. Дзячкова ў перыяд з 6 ліпеня 1941 г. да 2 ліпеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 79, арк. 12—30).

[278] Даклад пра партызанскі рух і партыйную дзейнасць у Віцебскай вобласці на 1 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 233).



ў Чырвоную Армію, паводле дадзеных Пятра Калініна, звыш 20 000 ваеннаабавязаных, без уліку мабілізаваных для «ўласных патрэб»[279]. Пасля лета 1942 г. мабілізацыя працягвалася. Панамарэнка дакладваў Сталіну 12 кастрычніка 1942 г., што брыгада Ахоціна правяла праз лінію фронту 1 650 беларусаў для службы ў Чырвонай Арміі, а таксама сотні кароў і коней. Беларусы нібыта да гэтага былі адпушчаныя з нямецкага палону[280].

Калінін пазней сцвярджаў, што гэтыя мабілізаваныя мужчыны проста Богам прасіліся забраць іх у армію, як, напрыклад, у Суражскім раёне:

> Прыняць усіх ахвотных у шэрагі партызан не было магчымасці: іх трэба ўзброіць, а зброі пакуль не хапала.
> — Тады мабілізуйце нас у Чырвоную Армію, — настойвалі многія рабочыя, сяляне, служачыя. — Дапамажыце пераправіцца за лінію фронту, у нашыя войскі. Не можам мы сядзець склаўшы рукі ў такі час.
> З такімі просьбамі ваеннаабавязаныя звярталіся да камандзіраў і камісараў многіх партызанскіх атрадаў[281].

Да тых больш як 20 000 мабілізаваных варта дадаць процьму фуражу, бульбы, тысячы галоў буйной рагатай жывёлы, коней, авечак, вопратку і іншыя рэчы. Гэта ўсё сяляне, па словах Калініна, аддавалі Чырвонай Арміі проста-такі з захапленнем[282].

У сапраўднасці гэта была акцыя рабаўніцтва і палявання на людзей, ажыццёўленая ў высокім стылі, якую партызаны праводзілі па даручэнні Чырвонай Арміі. Такую ж палітыку праводзілі партызаны па даручэнні Чырвонай Арміі і ў іншых рэгіёнах, як, напрыклад, у раёне Смаленска[283]. Утвораныя нямецкімі акупантамі паліцэйскія падраздзяленні былі занадта слабымі, каб перашкодзіць гэтым акцыям. Яны былі галоўным аб'ектам нападаў партызанаў, супраць іх вялася бязлітасная барацьба на знішчэнне.

Партызанскія каманды захопу і канфіскацый абрабоўвалі ў раёне Віцебска і таксама Смаленска цэлыя мясцовасці і наводзілі паніку на іх жыхароў. У адным савецкім дакладзе ад 21 чэрвеня 1942 г. гаворыцца: «Адвольная канфіскацыя жывёлы і прадуктаў харчавання, як і рэпрэсіі, вядуць да таго, як здарылася ў Локненскім раёне [мусіць, Лёзненскім, на ўсход ад Віцебска]: шмат хто з жыхароў з дзецьмі, хатнімі пажыткамі і

[279] Калинин П. З. Партизанская республика... С. 109 і наст.

[280] Данясенне П. Панамарэнкі І. Сталіну, 12 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 92).

[281] Калинин П. З. Партизанская республика... С. 109 і наст.

[282] Тамсама. С. 107—108.

[283] Справаздача сакратара Сафонаўскага райкама Антошына пра партызанскі рух на Смаленшчыне, 3 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1069, л. 28—31); справаздача пра дзейнасць брыгады «Баці» за перыяд з 15 красавіка да 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1069, л. 37 і наст.). Так, да 25 мая 1942 г. партызаны брыгады «Баці», паводле ўласных звестак, паставілі Чырвонай Арміі, сярод іншага, 7 000 галоў жывёлы.

жывёлай уцякалі ў раёны, занятыя немцамі»[284]. У іншых раёнах мужчыны спрабавалі ўхіліцца ад мабілізацыі ў Чырвоную Армію ўцёкамі ў лес.

Аляксей Данукалаў у верасні 1942 г. апісваў, як ён са сваім атрадам праводзіў мабілізацыю: «Я прыбыў у Суражскі раён. Там людзі мяне ўжо ведалі. [...] Сабраў народ. Але хлопцы сказалі, мы добраахвотна не пойдзем, таму што немцы спаляць вёску». Праз дзве старонкі Данукалаў апісаў куды больш рашучы пасіўны супраціў, які, відаць, быў абумоўлены не толькі нямецкім тэрорам:

> Калі мы [24 мая 1942 г.] прыбылі ў Ціханава, усе калгаснікі пазбягалі. Нават той селянін, у якога я раней жыў, уцёк. Я спытаў сялянку, чаму яе муж уцёк разам з астатнімі калгаснікамі. Яна сказала, мы думалі, што вы нас будзеце мабілізоўваць, таму ўсе збеглі[285].

Страх быў абгрунтаваны, бо за адмову партызаны «помсцілі» расстрэлам. Так, у чэрвені 1942 г. партызаны з атрада Гурко 1-й Беларускай партызанскай брыгады расстралялі 60-гадовага калгасніка Гаўрылу Лявоненку, «таму што ён не быў у партызанах. Два яго сыны былі ўжо ў партызанскім атрадзе»[286].

Справа не абмяжоўвалася пасіўным супрацівам. Аляксей Данукалаў паведамляў у верасні 1942 г.: «Спачатку, прыблізна да месяца чэрвеня [1942 г.], мы расстрэльвалі ворагаў народа і ўсіх здраднікаў без усялякага суда. Мы расстрэльвалі і тых, што якім-небудзь чынам падтрымлівалі немцаў»[287]. Пасля партызаны спрабавалі пры дапамозе ўлётак прымусіць тутэйшых паліцэйскіх ці ваеннапалонных, якія працавалі на немцаў, перабягаць да іх. Партызаны пагражалі, што яны перастраляюць усіх, хто добраахвотна ці нядобраахвотна працуе на немцаў, у тым ліку і ваеннапалонных. Гэтая акцыя, праўда, аказалася не вельмі паспяховай, прызнаваўся Данукалаў[288].

Партызаны мусілі захопленых «ваеннаабавязаных» пад вартай дастаўляць на зборныя пункты Чырвонай Арміі, бо нямала хто з іх спрабаваў па дарозе ўцячы, як, напрыклад, 48-гадовы Яўстафій Сырадоеў з вёскі Прыбыткава ў Мехаўскім раёне. «У пачатку мая 1942 г. яго схапілі партызаны і прывялі ў камендатуру ва Усвяты. 15 мая Сырадоеў быў адкамандзіраваны ў часць [...]. Па дарозе ён з групай зноў дэзерціраваў»[289]. Многія мужчыны, што перад мабілізацыяй ці пасля яе ўцяклі ў лясы, узяліся за зброю. Юрын, начальнік аператыўнай

[284] Даклад Казанцава начальніку Аператыўна-вучэбнага цэнтра І. Куцейнікаву, 21 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 66, л. 8).

[285] Пратакол размовы з Аляксеем Данукалавым, 29 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 166, арк. 65 і наст.).

[286] Справаздача пра дзейнасць 1-й Беларускай партызанскай брыгады за перыяд з 12 да 18 чэрвеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 91, арк. 3).

[287] Пратакол размовы з Аляксеем Данукалавым, 29 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 166, арк. 69).

[288] Тамсама. Арк. 69 і наст.

[289] Спецданясенне С. Юрына пра бандытызм у Віцебскай вобласці, 2 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 854, л. 47—49).



групы НКУС у Віцебскай вобласці, паведамляў у маі 1942 г.: «У лясах з'явіліся бандыцкія групы, якія складаюцца з дэзерціраў і нападаюць на адзіночных партызанаў»[290]. У яшчэ адным паведамленні за май 1942 г. Юрын пісаў, што нямецкія акупанты выкарыстоўваюць банды дэзерціраў у барацьбе супраць партызанаў[291].

У чэрвені 1942 г. у вёсцы Карнілы, каля 45 км на поўнач ад Віцебска, арганізавалася група з 20 чалавек, якая складалася галоўным чынам з «адмаўленцаў ад вайсковай службы». Утварэнне групы ініцыяваў нейкі Бублік, што ў красавіку 1942 г. увайшоў у адзін партызанскі атрад, а праз два тыдні дэзерціраваў[292]. У Полацкай вобласці, Васільеўскім сельсавеце, каля 200 чалавек арганізаваліся ў атрад самаабароны. Яны сабраліся з жыхароў вёсак Копна, Забор'е і Роўнае, каб абараняць сябе ад прымусовай мабілізацыі ў Чырвоную Армію[293].

Мінай Шмыроў, камандзір 1-й Беларускай партызанскай брыгады, апісваў у верасні 1942 г., як яго партызаны змагаліся з гэтымі «бандамі»:

> У красавіку [1942 г.] быў скліканы сход леснікоў, таму што многія дэзерціры хаваліся ў лясах. У лясах былі выпадкі забойстваў чырвонаармейцаў і партызанаў. Мы сабралі леснікоў і ляснічых і загадалі ім аберагаць лес не толькі ад незаконнай вырубкі, але і ад людзей, варожа настроеных да нас. Я растлумачыў ім: калі я выяўлю на тваім участку, за якім ты прыглядаеш, дэзерціраў ці паліцэйскіх, я распраўлюся з табой без усялякага суда, сваім судом. Многія ведалі, як мы распраўляемся. Неўзабаве, амаль за адзін месяц, мы ачысцілі нашы лясы. Цяпер лес наш. Мы выцягнулі адтуль да 400 чалавек, дэзерціраў і паліцаяў[294].

На пытанне, як партызаны абыходзяцца з «дэзерцірамі», Шмыроў адказаў:

> Усё залежыць ад характару злачынства. Калі ён упершыню дэзерціраваў з арміі і прызнае гэта, тады мы перадаём яго органам НКУС; яны іх [дэзерціраў] дапытваюць і некаторых адсылаюць у часць; але калі мы бачым, што чалавек непапраўны, тады мы яго знішчаем[295].

Наколькі моцнай была нянавісць Шмырова ў адносінах да «здраднікаў», паказвае наступны выпадак. Так, у маі 1942 г. Юрын,

[290] Даклад С. Юрына пра стан і дзейнасць брыгад Шмырова і Дзячкова, 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 854, л. 16).

[291] Даклад С. Юрына пра барацьбу з нямецкімі шпіёнамі, 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 854, л. 37).

[292] Спецданясенне Л. Цанавы П. Панамарэнку пра дзейнасць партызанскіх атрадаў у БССР па стане на 20 чэрвеня 1942 г., 7 ліпеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 154, арк. 113 і наст.).

[293] Дакладная намесніка ўпаўнаважанага СНК БССР Шаўрова П. Панамарэнку, 28 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 142, л. 47).

[294] Стэнаграма размовы з Мінаем Шмыровым, 5 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 42).

[295] Тамсама.

начальнік групы НКУС у Віцебскай вобласці, скардзіўся, што Шмыроў застрэліў начальніка паліцыі, злоўленага НКУС. Начальнік паліцыі аказаўся пасля затрымання каштоўнай крыніцай інфармацыі, і Юрын меўся працягваць дапытваць яго. Шмыроў апраўдваў перад Юрыным расстрэл палоннага наступным чынам: «Я не мог глядзець на гэтага подлага нягодніка. У яго была вышэйшая адукацыя, якую ён атрымаў пры Савецкай уладзе, а ён перайшоў на бок фашыстаў. Мне зрабілася блага. Калі я яго расстраляў, гэта было для мяне палёгкай»[296].

Партызаны выступалі не толькі супраць адзінкавых асоб, якія адмаўляліся змагацца за савецкую Радзіму, партыю і Сталіна, але і супраць цэлых вёсак. У справаздачы аб дзейнасці 2-й Беларускай партызанскай брыгады знаходзяцца на гэты конт наступныя запісы:

> 20.V.42 […] Дэзерцір Сінігераў уцёк, затрыманы, расстраляны. […]28.V.42: Напад на паліцэйскі гарнізон у вёсцы Халуй. Паліцаі разбегліся. У партызанаў страт няма. Партызаны разагналі групу дэзерціраў. […] 12.VI.42: […] знішчана група з 35 паліцаяў і дэзерціраў у вёсцы Халуй. Вёска ў час бою спалена, адзін паліцай узяты ў палон. […] 16.VI.42 […] У вёсцы Сачын дэзерціры подла забілі партызана Пятра Штукіна. […] 29 і 30.VI.42: Узброеная група з 50 зялёных[297] і паліцаяў разагнана[298].

НКУС, які вясной 1942 г. утварыў на кантраляваных партызанамі тэрыторыях аператыўную Суражскую групу НКУС пад кіраўніцтвам Сямёна Юрына, таксама вёў улік ваеннаабавязаных і выступаў супраць «дэзерціраў і бандытаў». Юрын 2 чэрвеня 1942 г. дакладваў:

> Органы Суражскай аператыўнай групы НКУС у перыяд з 22 да 27 мая 1942 г. праз мясцовыя органы ўлады выяўлялі мужчын ад 1896 да 1924 гадоў нараджэння, якія знаходзіліся ва ўсіх 12 вёсках, вызваленых ад нямецка-фашысцкіх акупантаў[299].
>
> У ходзе гэтай аперацыі было выяўлена 520 чалавек:
>
> З іх 126 чалавек былі мабілізаваныя ў Чырвоную Армію і 44 у партызанскі атрад. 363 чалавекі з розных прычын былі часова вызваленыя, іх адпусцілі дамоў для працы ў сельскай гаспадарцы[300].

[296] Даклад С. Юрына пра стан і дзеянні брыгад Шмырова і Дзячкова, 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 854, л. 17).
[297] Тут гаворка ішла пра ўзброеныя групы, якія, паводле савецкіх дадзеных, складаліся са «старшынь, старастаў, паліцэйскіх і дэзерціраў» і якія мелі заданне ахоўваць вёскі ад рабаўніцтва і гвалтоўнага рэкрутавання ў партызаны. Гл.: Паведамленне Кускенава Папову пра «Зялёную армію» ў Парэчанскім раёне Смаленскай вобласці, 3 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1069, л. 24 і наст.).
[298] Дзеянні 2-га Беларускага партызанскага атрада М. Дзячкова ў перыяд з 6 ліпеня 1941 г. да 2 ліпеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 79, арк. 12—30).
[299] Даклад С. Юрына пра бандытызм у Віцебскай вобласці, 2 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 854, л. 47 і наст.).
[300] Тамсама.



У першую чаргу НКУС, аднак, разам з партызанамі змагаўся супраць «нямецкіх агентаў», якіх нямецкія акупанты завербавалі ў час акупацыі. Пры гэтым, паводле слоў Юрына, гаворка ішла пра «кулакоў, людзей, што раней пераследаваліся савецкімі органамі, сялян-аднаасобнікаў»[301]. З гэтага кантынгенту нямецкія захопнікі ўтваралі групы паліцэйскіх, якія потым па заданні немцаў палявалі на савецкіх патрыётаў і бязлітасна знішчалі іх[302].

Партызаны і НКУС у барацьбе супраць «нямецкіх агентаў» ужывалі прынцып калектыўнага пакарання, г. зн. яны «каралі» і іх сем'і і «пямагатых». Юрын 25 мая 1942 г. нават прапанаваў дэпартаваць сем'і «паліцэйскіх», «здраднікаў», нямецкіх «памагатых», старастаў і іншых у глыбокі тыл СССР[303]. Аўтару невядома, ці ажыццяўлялася гэтая мера.

Пры сваіх расследаваннях НКУС пад кіраўніцтвам Юрына, каб выбіць паказанні, ужываў звыклыя метады, у тым ліку катаванні. У чэрвені 1942 г. аператыўная група НКУС арыштавала ў Суражскім раёне восем чалавек ва ўзросце ад 16 да 60 гадоў. Іх абвінавачвалі ў тым, што яны выдавалі немцам партызанаў. Арыштаваныя адмаўлялі абвінавачанні, але следчыя НКУС выбілі з іх прызнанні. Перад вайсковым трыбуналам, аднак, абвінавачаныя адмовіліся ад сваіх прызнанняў і заявілі, што яны атрыманыя праз катаванні, аб чым маюцца сведкі. Іншых доказаў не было. Пасля гэтага вайсковы трыбунал вырашыў вярнуць справу на дадследаванне ў НКУС. І якраз у гэты час нямецкія часці прасунуліся на гэтую тэрыторыю і пагражалі турме НКУС, у якой утрымліваліся абвінавачаныя. Хоць мелася магчымасць эвакуіраваць восем арыштаваных, яны былі расстраляныя супрацоўнікамі НКУС у ноч з 15 на 16 чэрвеня 1942 г., каб затушаваць усю справу[304].

Сістэматычныя мабілізацыі і загады ваенных органаў ствараць новыя партызанскія падраздзяленні прывялі да таго, што з лютага 1942 г. у Віцебскай вобласці хутка пачаў пашырацца партызанскі рух. З'яўляліся новыя атрады, наяўныя аб'ядноўваліся ў брыгады. На 1 ліпеня 1942 г. у рэгіёне вакол Віцебска дзейнічалі, паводле дадзеных штаба 4-й ударнай арміі, 8 партызанскіх брыгад, у якіх былі аб'яднаныя 43 атрады з 5 719 партызанамі, і 21 самастойны атрад з 3 281 партызанам, усяго 9 000 партызанаў. Да гэтага трэба дадаць атрад Пінчука, каля 1 000 чалавек, тэрыторыя дзейнасці якога размяшчалася ў Сенненскім і Бешанковіцкім раёнах, каля 60—70 км на паўднёвы захад ад Віцебска, ды 3-ю брыгаду партызанскага злучэння «Баці», якая дзейнічала ў рэгіёне вакол Суража. Акрамя таго, злучэнне «Баці» дзейнічала ў раёне Смаленска[305].

[301] Пры гэтым гаворка ішла пра невялікую колькасць сялян у сённяшніх усходніх абласцях Беларусі, якія да 22 чэрвеня 1941 г. яшчэ не былі ў калгасах.
[302] Даклад С. Юрына пра барацьбу з нямецкімі шпіёнамі, 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 854, л. 19).
[303] Тамсама. Л. 38.
[304] Дакладная М. Анціпава (члена партыі) П. Панамарэнку ад 8 ліпеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 152, арк. 1—2 адв.).
[305] Даклад І. Стулава пра партызанскі рух у Віцебскай вобласці і на ўчастку фронту 4-й ударнай арміі на 1 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 102—130);

Агулам на тэрыторыі Віцебскай вобласці летам 1942 г. знаходзілася куды больш за 10 000 партызанаў. Сюды варта дадаць шматлікія няўлічаныя партызанскія групы і дыверсійна-разведвальныя групы НКУС і Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Генеральнага штаба Чырвонай Арміі (ГРУ).

На 1 жніўня 1942 г. Цэнтральны штаб партызанскага руху дакладваў пра 202 партызанскія атрады з прыкладна 20 489 партызанамі, якія дзейнічалі на сённяшняй тэрыторыі Беларусі[306]. Гэта значыць, больш за палову ўсіх савецкіх партызанаў у Беларусі дзейнічалі ў Віцебскай вобласці. У адрозненне ад астатніх рэгіёнаў, у якіх партызанскія злучэнні складаліся пераважна з вайскоўцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей, і збеглых ваеннапалонных, гэтыя атрады складаліся зусім не з добраахвотнікаў, а ў большасці з прымусова мабілізаваных.

Аперацыі супраць нямецкіх захопнікаў яны спачатку праводзілі толькі час ад часу. У чэрвені 1942 г. яны правялі, паводле ўласных дадзеных, сярод іншага 9 падрываў чыгункі, падчас якіх загінула больш за 400 варожых салдат і афіцэраў. Яны разбурылі 60 мастоў і знішчылі 86 аўтамашын, 3 танкі і 4 лёгкія танкі. Акрамя таго, паводле ўласных дакладаў, імі былі забітыя 1 900 немцаў, 70 паліцаяў, 8 бургамістраў і 162 іншыя «ворагі народа»[307].

Што тычыць колькасці быццам забітых немцаў, то яна, пэўна ж, бязмерна перабольшана. Так, напрыклад, пры падрывах чыгункі нямецкія салдаты гінулі даволі рэдка. І нават колькасць — толькі 99 захопленых вінтовак — сведчыць пра моцна перабольшаныя лічбы страт з нямецкага боку, тым больш, што большасць вінтовак была адваявана ў «паліцаяў» і іншых «ворагаў народа».

За малую колькасць аперацый супраць намецкіх акупантаў ці іх сродкаў забеспячэння партызаны Віцебскай вобласці жорстка крытыкаваліся. Стулаў, член Ваеннага савета 4-й ударнай арміі, 1 ліпеня 1942 г. канстатаваў:

> Калі ўлічыць вялікую колькасць партызанскіх атрадаў і партызанаў, прыходзіш да высновы, што ў чэрвені [1942 г.] увогуле было праведзена толькі некалькі аперацый; асобныя атрады і нават брыгады праводзяць аперацыі толькі выпадкова. Многія атрады і брыгады ўжо працяглы час займаюцца арганізацыйнымі пытаннямі, яны сядзяць у вёсках і лясах; яны малымі групамі нападаюць на сельскія ўправы і адзіночных паліцаяў. [...] Недастатковая баявая актыўнасць партызанаў тлумачыцца нездавальняючай дысцыплінай. Ёсць выпадкі, калі кіраўніцтва атрадаў не выконвае загадаў вышэйстаячых органаў, калі партызаны парушаюць дысцыпліну, пакідаюць без дазволу падраздзяленне, рабуюць, маральна разложаныя і г. д.[308]

справаздача пра дзейнасць злучэння «Баці» за перыяд з 15 красавіка да 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1069, л. 37 і наст.).

306 Тамсама; кароткае паведамленне начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі пра дзейнасць партызанскіх атрадаў у Беларусі на 1 жніўня 1942 г., 5 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 163, л. 6).

307 Даклад І. Стулава пра партызанскі рух у Віцебскай вобласці і на ўчастку фронту 4-й ударнай арміі на 1 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 102 і наст.).



З падобнай жорсткасцю партызанаў Віцебскай вобласці крытыкавала і бюро Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б 6 ліпеня 1942 г.[309]. Адносна нешматлікія аперацыі супраць нямецкіх акупантаў, аднак, можна растлумачыць тым, што многія з мабілізаваных маладых людзей ніколі да гэтага не трымалі ў руках зброі. У чэрвені 1942 г. атрад «Стары» праходзіў па тэрыторыі дзейнасці брыгады Дзячкова ў Гарадоцкім раёне, каля 40 км на поўнач ад Віцебска, у свой раён дзейнасці пад Барысавам. Стан брыгады камандзір атрада «Стары» ахарактарызаваў наступным чынам:

> Больш-менш старанна адабраныя партызаны падзеленыя на дыверсійныя групы, астатнія — у Полацкім раёне — мабілізаваная моладзь. Яны ніколі не трымалі ў руках зброі і не ўмеюць абыходзіцца з ёй; таму яны хутка паддаюцца паніцы[310].

Партызаны, паводле крытыкі, хоць і кантралявалі вялікія ўчасткі тэрыторыі, але міжволі прытрымліваліся абарончай тактыкі, бо яны імкнуліся абараняць свае ўчасткі. Сувязь з цэнтрам, штабам 4-й ударнай арміі большасць атрадаў падтрымлівалі праз кур'ераў. Гэта адбывалася, як правіла, адзін раз на месяц. Арганізацыйна партызаны капіравалі вайсковыя структуры і ўтваралі вялікія, немабільныя падраздзяленні. А яшчэ яны часта пакідалі лясы і размяшчаліся кватараваць у населеных пунктах. Да гэтага дадаваліся дрэнная дысцыпліна і дэмаралізаванасць партызанаў, якія рабавалі цывільнае насельніцтва па даручэнні Чырвонай Арміі ды для «ўласных патрэб» і пры гэтым тэрарызавалі цэлыя мясцовасці[311].

*а) Дыверсіі на чыгуначных лініях у раёне Віцебска і Полацка летам 1942 г.*

Штаб 4-й ударнай арміі, НКУС, а з чэрвеня і Цэнтральны штаб партызанскага руху намагаліся актывізаваць партызанскі рух, а таксама ўзмацніць дыверсіі ў раёне Віцебска. 30 мая 1942 г. з Аператыўна-вучэбнага цэнтра на гэты ўчастак Калінінскага фронту з'явіўся Сцяпан Казанцаў з даручэннем падрыхтаваць з партызанаў

308 Тамсама. Л. 127 і наст.

309 Вытрымка з пастановы бюро Віцебскага абкама ад 6 ліпеня 1942 г. аб узмацненні баявых дзеянняў партызанскіх атрадаў (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 73, арк. 7—9).

310 Справаздача пра пераход атрада «Стары» да ягонага раёна баявых дзеянняў у чэрвені 1942 г., 8 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 44 і наст.).

311 Даклад Казанцава начальніку Аператыўна-вучэбнага цэнтра І. Куцейнікаву ад 21 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 66, л. 2—9); даклад І. Стулава пра партызанскі рух у Віцебскай вобласці і на ўчастку фронту 4-й ударнай арміі на 1 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 127—130).

і чырвонаармейцаў спецыялістаў-падрыўнікоў. У яго распараджэнні быў 71 супрацоўнік, у тым ліку 25 іспанскіх інструктараў па падрыўной справе, якія пасля заканчэння грамадзянскай вайны ў Іспаніі знайшлі прытулак у СССР. Да пачатку верасня 1942 г. гэтая група падрыхтавала атрад падрыўнікоў агульнай колькасцю ў 1 820 партызанаў. У маі і чэрвені Казанцаў адкамандзіраваў у сем партызанскіх атрадаў Віцебскай вобласці па два іспанскія інструктары з заданнем рыхтаваць партызанаў для дыверсій на месцы. Яны прынеслі з сабой міны і выбухоўку[312].

У чэрвені 1942 г. Аператыўна-вучэбны цэнтр па даручэнні Цэнтральнага камітэта КП(б)Б стварыў тры дыверсійныя роты, якія павінны былі сумесна з мясцовымі партызанамі праводзіць дыверсіі на чыгуначных лініях у рэгіёне Полацк — Віцебск — Вялікія Лукі. Праз месяц, у ліпені 1942 г., была створана Беларуская спецбрыгада, што мусіла праводзіць дыверсіі на тэрыторыі Полацк — Віцебск. Акрамя таго, былі створаныя шматлікія дыверсійныя групы, якім таксама было даручана праводзіць дыверсіі на транспартных лініях. Колькасць дыверсантаў, што дзейнічалі ў Віцебскай вобласці пры партызанскіх атрадах ці самастойна, перавышала ў канцы чэрвеня 1 000[313].

Праўда, вялікая колькасць партызанаў, якія былі падрыхтаваныя ў падрыўной справе, не заўсёды вылівалася ў высокі поспех. У жніўні 1942 г. Сцяпан Казанцаў інспектаваў партызанскія атрады ў раёне Полацка і з гневам канстатаваў:

> З дыверсіямі справы ўсё яшчэ дрэнныя. Партызанскае кіраўніцтва не кампетэнтнае ў гэтай сферы; няма кадраў для дыверсійнай работы, а тыя, што ёсць, не ўмеюць і не хочуць працаваць. [...] Таварыш Гаспар [Франсіска; іспанскі інструктар] падрыхтаваў за месяц у брыгадзе Макаранкі каля 50 партызанаў, якія да сённяшняга дня не пусцілі пад адхон ніводнага вайсковага эшалона. [...] Пра аперацыі малых дыверсійных груп мы ў вобласці ўвогуле нічога не чулі[314].

Тым не менш, дзейнасць многіх дыверсантаў у раёне Віцебска і Полацка прынесла новы паварот у партызанскай вайне, таму што з часам партызаны і, у прыватнасці, пастаянныя дыверсійныя групы пачалі

[312] Справаздача Казанцава пра дзейнасць Аператыўна-вучэбнага цэнтра пры Паўночна-заходняй групе ЦК КП(б)Б, 16 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 66, л. 13—21); даклад Казанцава начальніку Аператыўна-вучэбнага цэнтра І. Куцейнікаву, 21 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 66, л. 2—9).

[313] Тамсама; даклад І. Стулава пра партызанскі рух у Віцебскай вобласці і на ўчастку фронту 4-й ударнай арміі па стане на 1 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 129); данясенне Шаўрова П. Панамарэнку пра накіраваных інструктараў па выбуховай справе, 16 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 100); даклад Казанцава ў форме табліц аб праведзенай працы філіяла Аператыўна-вучэбнага цэнтра, 5 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 66, л. 18—21).

[314] Даклад Казанцава П. Панамарэнку пра вопыт баявых дзеянняў на Полаччыне, 15 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 66, л. 11 і наст.).



здзяйсняць усё больш падрываў на чыгуначных лініях і дарогах. Гэта было ўзаемазвязана і з вопытам у падрыўной справе, набытым за гэты перыяд. Так, у ліпені 1942 г. брыгада Данукалава, колькасцю каля 1 250 чалавек, паводле ўласных дадзеных, зрабіла толькі два падрывы чыгункі, «бо партызаны ў падрыўной справе мелі мала вопыту. У жніўні нашыя [брыгады] падрыўныя аперацыі памножыліся шматкроць. Дыверсійныя групы маёй [Данукалава] брыгады ў жніўні пусцілі пад адхон пяць вайсковых эшалонаў»[315].

Дыверсійная група 91-М з дзевяці чалавек 9 ліпеня 1941 г. праз «Суражскія вароты» выйшла на тэрыторыю дзейнасці брыгады Кірпіча, каб здзейсніць дыверсію на чыгуначнай лініі пад Оршай. Першыя падрывы былі няўдалымі, таму што выбуховыя сродкі (міны, запалы, батарэі) былі сырыя. Партызаны брыгады з гэтай прычыны пасмяяліся з дыверсантаў. Толькі 17 ліпеня ўдаўся першы падрыў чыгункі, потым былі наступныя. У агульнай колькасці група да 12 верасня 1942 г., паводле ўласных дадзеных, пацверджаных камандзірам брыгады Кірпічом, здзейсніла 17 паспяховых падрываў чыгункі[316].

Асабліва паспяховымі, здаецца, былі створаныя ў чэрвені і ліпені 1942 г. тры дыверсійныя роты (дзве па 60 і адна 70 чалавек) і Беларуская спецбрыгада (266 чалавек па стане на канец ліпеня 1942 г.). Іх задача палягала выключна ў ажыццяўленні дыверсій на наступных чыгуначных лініях і дарогах: чыгуначныя ўчасткі Віцебск — Полацк, Невель — Віцебск, Невель — Полацк, Невель — Вялікія Лукі, Невель — Сакольнікі; дарогі сярод іншага: Віцебск — Полацк, Невель — Віцебск, Невель — Усвяты[317].

У ліпені 1942 г. дыверсанты спецбрыгады, трох рот і 11 дыверсійных груп партызанскіх атрадаў (у агульнай колькасці 550 чалавек) заклалі на названых вышэй участках, паводле ўласных дадзеных, 500 мін рознай канструкцыі, у тым ліку 135 мін з гадзіннікавым механізмам. Пры гэтым яны пусцілі пад адхон, паводле ўласных дадзеных, 14 вайсковых эшалонаў, прычым было забіта 487 нямецкіх салдат і афіцэраў; яны падарвалі таксама 2 аўтамашыны і 5 мастоў[318].

На чыгуначным участку Полацк — Віцебск дзейнічала рота Беларускай спецбрыгады. У ліпені 1942 г. рота, якая вырасла да 117 дыверсантаў, атрымала ад штаба 4-й ударнай арміі і Цэнтральнага штаба партызанскага руху загад надоўга паралізаваць чыгу-

[315] Кароткае данясенне пра заснаванне брыгады «Аляксея», 15 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 58).

[316] Справаздача камандзіра групы 91-М Гарбаценкі пра дзеянні ў перыяд з 10 чэрвеня да 12 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 189—190); Характарыстыка камандзірам брыгады Кірпічом аператыўнай групы № 91-М тав. Гарбаценкі, 12 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 188).

[317] Справаздача Казанцава пра вынікі дыверсійнай дзейнасці ў ліпені 1942 г., 28 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 97, л. 29—36); спіс партызанскіх брыгад і атрадаў у БССР паводле дадзеных на 10 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 22 об.).

[318] Справаздача Казанцава пра вынікі дыверсійнай дзейнасці ў ліпені 1942 г., 28 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 97, л. 29—36).

начную сувязь на ўчастку Полацк — Віцебск. У другой палове ліпеня рота дасягнула свайго раёна дзейнасці. Дагэтуль рух па чыгунцы на ўчастку Полацк — Віцебск функцыянаваў беззаганна. Першы падрыў чыгункі дыверсанты ажыццявілі 25 ліпеня, за ім былі наступныя. Для асобных аперацый камандаванне роты прызначала невялікія групы дыверсантаў па 10—20 чалавек, якія павінны былі падкладваць міны на чыгуначныя лініі і падрываць чыгуначныя і дарожныя масты. Іх, як правіла, суправаджалі мясцовыя партызаны, што прыкрывалі аперацыі[319].

Не ўсе падрывы ўдаваліся. Часам чыгуначная варта выяўляла закладзеныя міны і абясшкоджвала іх. Пры гэтым бывала, што міны падрываліся і выклікалі страты сярод салдат чыгуначнай аховы. Час ад часу дыверсанты павінны былі адыходзіць, не выканаўшы задачы, бо, напрыклад, ахова ўчастка была занадта моцнай. 117 дыверсантаў адной з рот спецбрыгады з 25 ліпеня да 4 верасня 1942 г., па ўласных дадзеных, пусцілі пад адхон 18 цягнікоў. Пры гэтым яны разбурылі 17 лакаматываў і 157 вагонаў і забілі да 900 нямецкіх салдат і афіцэраў, а таксама 32 загінулі пры абясшкоджванні закладзеных мін і выбухоўкі. Для гэтых падрываў дыверсанты скарысталі 232 міны і 625 кг выбухоўкі[320]. Трэба меркаваць, што прыведзеныя лічбы ахвяр нямецкага боку моцна перабольшаныя.

Яшчэ адна група Беларускай спецбрыгады пад камандаваннем іспанца Франсіска Гаспара ў той самы час дзейнічала на ўчастках Віцебск — Невель і Віцебск — Полацк. Група была меншай і дамаглася, паводле ўласных дадзеных, куды меншых поспехаў. З 17 ліпеня да 15 жніўня 1942 г. яны разбурылі 6 лакаматываў і 49 вагонаў. З закладзеных 34 мін узарваліся толькі 7, 7 былі выяўленыя, 4 разарваліся пры абясшкоджанні. Лёс астатніх 20 закладзеных мін застаўся невядомы[321].

Ноччу з 3 на 4 жніўня 1942 г. партызаны правялі на паўночны захад ад Полацка сенсацыйную аперацыю, якая была зафіксавана і ў ваенным дзённіку камандуючага тылам групы армій «Цэнтр»:

> Напад партызанскай банды ў 200 чалавек з цяжкай пяхотнай зброяй і артылерыяй на чыгуначны мост праз раку Дрысу пад [раз'ездам] Беніслаўскага (на паўночны захад ад Полацка). Ахова моста 824-га ахоўнага батальёна (2 унтэр-афіцэры, 15 чалавек) змагалася, несучы цяжкія страты, да апошняга патрона, аднак не змагла перашкодзіць падрыву апоры моста. Ад выбуху рух спынены на мінімум 3 тыдні[322].

[319] Справаздача Казанцава пра вынікі дыверсійнай працы на ўчастку чыгункі Полацк — Віцебск, 15 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 66, л. 33—36).
[320] Тамсама.
[321] Справаздача інструктара Аператыўна-вучэбнага цэнтра Гаспара пра ягоную дзейнасць да 15 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 56—61).
[322] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 4 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 23v).



Аперацыю правёў атрад «Бясстрашны» разам з брыгадай «За Савецкую Беларусь» пад камандаваннем капітана Петракова. Атрад «Бясстрашны», колькасцю каля 53 чалавек пад камандаваннем Бубіна, быў створаны ў чэрвені 1942 г. з выпускнікоў партызанскіх школ і дабраўся да свайго раёна дзеянняў праз «Суражскія вароты»[323]. Брыгада Петракова з'явілася ў ліпені 1942 г. з мясцовасці вакол Полацка як аб'яднанне 9 атрадаў і ў канцы ліпеня налічвала каля 1 500 чалавек[324].

Панамарэнка дакладваў 19 жніўня 1942 г. Сталіну пра ўдалую аперацыю 4 жніўня: «Партызаны разграмілі нямецкі гарнізон, знішчылі 600 нямецкіх салдат і афіцэраў. Яны падарвалі мост»[325]. Панамарэнка ў сваім дакладзе вельмі моцна перабольшваў нямецкія страты. Капітан Петракоў, камандзір брыгады, паведамляў 20 верасня 1942 г., што яго партызаны ў час аперацыі знішчылі 65 салдат аховы моста. У сапраўднасці напад на ахову моста з 17 чалавек рабілі каля 1 000 партызанаў, два з трох палкоў брыгады, пры гэтым партызаны ўжывалі і гарматы[326]. Беларускі штаб партызанскага руху ў справаздачы ў сакавіку 1943 г. паведамляў пра 80 нямецкіх салдат, якія былі знішчаны пры нападзе[327].

Такім чынам, Панамарэнка ў дакладзе Сталіну памножыў і так моцна перабольшаныя лічбы нямецкіх ахвяр (максімум 17 чалавек) шматкроць[328]. Нягледзячы на гэтыя моцна перабольшаныя паведамленні пра поспехі і, у прыватнасці, дыверсантаў, летам 1942 г. у раёне Віцебска і Полацка аперацыі савецкіх партызанаў нанеслі вялікую шкоду нямецкім лініям забеспячэння.

[323] Данясенне П. Панамарэнкі І. Сталіну, Г. Малянкову, А. Андрэеву, Л. Берыі, 19 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 53); дыслакацыя партызанскіх атрадаў і брыгад на тэрыторыі БССР па стане на 1 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 55—70); спіс партызанскіх брыгад і атрадаў у БССР паводле дадзеных на 10 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 24 об.).
[324] Даклад камісара Раманава пра арганізацыю, дысцыпліну і баявыя дзеянні брыгады ў перыяд з 1 ліпеня да 31 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1080, л. 16—23).
[325] Данясенне П. Панамарэнкі І. Сталіну, Г. Малянкову, А. Андрэеву, Л. Берыі, 19 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 53).
[326] Справаздача капітана Петракова пра дзейнасць брыгады «За Савецкую Беларусь» за перыяд з 1 жніўня да 15 верасня 1942 г., 20 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1080, л. 29).
[327] Справаздача аператыўнага аддзела БШПР пра дзейнасць беларускіх партызанаў у перыяд з 1 чэрвеня 1942 г. да 7 сакавіка 1943 г., 15 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 48).
[328] У сваёй кнізе «Всенародная борьба…», якая з'явілася ў 1986 г., П. Панамарэнка падрабязна абмаляваў гэтую аперацыю. Ён пісаў, што каля 320 партызанаў напалі на ахову моста прыкладна з 70-ці чалавек, знішчылі яе, а мост падарвалі. Гл.: Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 200 і наст. П. Панамарэнка прывёў у сваёй кнізе таксама пераклад на расійскую мову запісу ад 4 жніўня 1942 г. з ваеннага дзённіка камандуючага тылам групы армій «Цэнтр», у якім зафіксаваны напад на мост. Варта ўвагі, што ў перакладзе напісана, быццам бы быў падарваны ўвесь мост, у арыгінале ж гаворка ідзе толькі пра «апору моста». Гл.: Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 4 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 23v).

*б) Нямецкая рэакцыя на «Суражскія вароты»*

Пралом фронту на ўчастку 4-й ударнай арміі, «Суражскія вароты», меў вялікае значэнне для развіцця партызанскага руху не толькі ў раёне Віцебска. Праз «Суражскія вароты» праточваліся на захопленыя тэрыторыі, якія знаходзіліся на адлегласці ў сотні кіламетраў на захад і паўднёвы захад ад Віцебска, шматлікія арганізацыйныя, разведвальныя, дыверсійныя групы і атрады. Яны ствараліся 4-м упраўленнем НКУС, Чырвонай Арміяй (ГРУ), Аператыўна-вучэбным цэнтрам у савецкім тыле і праз «Суражскія вароты» засылаліся ў Беларусь. Да гэтага дадавалася, што наяўныя ўжо партызанскія атрады праз «Суражскія вароты» наладжвалі сувязь з савецкім тылам і часткова забяспечваліся зброяй, амуніцыяй і выбухоўкай.

У першыя месяцы існавання «Суражскіх варотаў» немцы, здавалася, не зразумелі ці недаацанілі небяспеку, якая зыходзіла ад гэтага разрыву ў фронце. Гэта, магчыма, было звязана з тым, што партызаны амаль не вялі сапраўднай барацьбы ў гэтай мясцовасці, а галоўным чынам змагаліся з «унутранай контррэвалюцыяй» і па заданні Чырвонай Арміі канфіскавалі прадукты харчавання і фураж ды мабілізавалі ў салдаты. Ва ўсякім разе, нямецкія акупанты да жніўня 1942 г. не праводзілі ў раёне Віцебска вялікіх аперацый супраць партызанаў, у адрозненне ад таго, напрыклад, што вялося супраць злучэння Нічыпаровіча (аперацыя «Арол») у ваколіцах Клічава.

Нямецкая тактыка барацьбы з партызанамі пад Віцебскам спачатку была больш абарончай. Немцы ўмацоўвалі абарону ліній забеспячэння і буйных населеных пунктаў, наляталі час ад часу адносна малымі сіламі на партызанскія тэрыторыі і праводзілі «акцыі адплаты». Яны спальвалі населеныя пункты, занесеныя ў разрад спачуваючых партызанам ці партызанскіх апорных пунктаў, разрабаваўшы іх. Часта яны забівалі пры гэтым іх жыхароў. Толькі ў перыяд з 12 да 22 чэрвеня 1942 г. нямецкія каманды знішчылі, паводле партызанскіх дадзеных, у Віцебскім і Суражскім раёнах 67 населеных пунктаў, 3 046 дамоў, 14 школ, 6 бальніц. Пры гэтым яны расстралялі 69 мужчын, 141 жанчыну і 46 дзяцей і адабралі 339 коней, 614 кароў, 2 479 авечак і 283 свінні[329].

Усё большая з ліпеня 1942 г. колькасць падрываў чыгункі ў Віцебскай вобласці, у прыватнасці на паўночным захадзе ад Віцебска, пачала ўсё больш непакоіць нямецкае кіраўніцтва і паказала яму, якая небяспека зыходзіла ад «Суражскіх варотаў». 3 жніўня 1942 г. фон Шэнкендорф прыляцеў у штаб 201-й ахоўнай дывізіі, «каб абмеркаваць надзвычай напружанае становішча на тэрыторыі вакол Полацка», гаворыцца напрыканцы гэтага ў ваенным дзённіку камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», бо

> чыгуначныя ўчасткі Полацк — Невель, Полацк — Віцебск і Полацк — Дзвінск увесь час падвяргаюцца спыненням руху. Камандзір дывізіі звяртае

[329] Даклад І. Стулава пра партызанскі рух у Віцебскай вобласці і на ўчастку фронту 4-й ударнай арміі на 1 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 124 і наст.).



> ўвагу на тое, што намаганні ў барацьбе з партызанамі дарэмныя, пакуль не ўдасца спыніць прыток партызанаў праз лінію фронту пры 59-м армейскім корпусе [«Суражскія вароты»][330].

Буйныя падрывы чыгункі былі вынікам маштабнай аперацыі супраць нямецкіх ліній забеспячэння ў раёне Полацка і Віцебска. У жніўні становішча зрабілася яшчэ больш крытычным. У дакладзе пра становішча за месяц жнівень фон Шэнкендорф сігналізаваў сваім начальнікам:

> Асаблівай пагрозе падвяргаецца самая паўночная частка вайсковай тэрыторыі, на якую праз разрыў у фронце 59-га армейскага корпуса прaходзяць моцныя партызанскія атрады. Гэта цягне за сабой асабліва вялікія крывавыя страты дывізіі. За месяц дывізія панесла наступныя страты: афіцэры: 1 забіты, 1 паранены. Унтэр-афіцэры і шарагоўцы: 40 забітых, 79 параненых. За месяц верасень па гэтай прычыне на гэтай тэрыторыі прадугледжаныя некалькі буйных аперацый[331].

Аддзел Іс пры штабе камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» таксама папярэджваў у сваім дакладзе пра становішча за месяц жнівень:

> Колькасць падрываў чыгункі на галоўных участках Барысаў — Орша — Смаленск, Смаленск — Віцебск — Полацк — Дзвінск, а таксама Полацк — Невель значна павялічылася. На тэрыторыі 201-й ахоўнай дывізіі [тэрыторыя на паўночны захад ад Віцебска[332]] заўважаецца вакол Полацка і на захад ды на паўночны захад ад Віцебска павелічэнне нападаў на апорныя пункты. Тут асабліва адмоўна праяўляецца разрыў франтавой лініі паміж Дзямідавам — Вяліжам — Вялікімі Лукамі, праз які [...] з лёгкасцю прасочваюцца на поўнач і паўднёвы ўсход ад Віцебска на тэрыторыю тылавога раёна групы армій батальёны арганізаваных з Масквы бандаў, групамі па 100—200 чалавек[333].

У верасні 1942 г. колькасць партызанскіх нападаў яшчэ больш павялічылася. У ваенным дзённіку камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за 16 верасня 1942 г. было запісана: «Заўважнае павелічэнне падрываў на паўночным участку. Усе падрывы — сур'ёзнага характару, так што спыняецца рух на галоўнай лініі Дрыса — Полацк — Віцебск на 24 гадзіны». І праз дзень, 17 верасня:

[330] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 3 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 22v).

[331] Справаздача афіцэра Іа камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за жнівень 1942 г., 14 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 195).

[332] 201-я ахоўная дывізія ахоўвала тэрыторыю ў раёне Полацка і на захад ды паўночны захад ад Віцебска. Гл.: Агляд задзейнічаных сіл для барацьбы з партызанамі ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр» ад 15 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 305—314).

[333] Справаздача пра дзейнасць афіцэра Іа камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за жнівень 1942 г., 2 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/244, Bl. 15).

«Вайсковая група патрабуе неадкладнага значнага ўзмацнення аховы чыгункі на лініі Віцебск — Полацк — Дрыса»[334].

Першай вялікай акцыяй супраць партызанаў у раёне Віцебска была аперацыя «Грыф», якая працягвалася з 17 да 29 жніўня. Аперацыя была скіравана супраць партызанскіх падраздзяленняў паміж Віцебскам і Оршай, што праз напады надоўга затрымлівалі ці рабілі немагчымым рух па дарогах і чыгунках у гэтым рэгіёне. Аперацыя «Грыф» праходзіла пад камандаваннем 286-й ахоўнай дывізіі ва ўзаемадзеянні з падраздзяленнямі паліцыі і СС пад кіраўніцтвам фон дэм Баха[335].

У жніўні 1942 г. паміж Оршай і Віцебскам дзейнічалі, паводле дадзеных Цэнтральнага штаба партызанскага руху, наступныя партызанскія падраздзяленні: брыгада «Аляксея» пад камандаваннем Аляксея Данукалава ў Лёзненскім раёне з 1 085 партызанамі, брыгада Бойкі ў раёне Багушэўска з 392 чалавекамі, брыгада «Чэкіст» у раёне вакол Оршы, Шклова з 600 партызанамі, брыгада «Дзядзькі Косці» пад камандаваннем Заслонава на тэрыторыі вакол Асінторфа, каля 30 км на паўночны ўсход ад Оршы, з 352 партызанамі[336]. Паводле іншых дадзеных, брыгада Бойкі ў ліпені налічвала каля 1 000 партызанаў, а атрад Заслонава — каля 600. Акрамя таго, меўся яшчэ атрад Сакалова са 110 людзьмі ў Багушэўскім раёне[337]. Сюды дадаюцца асобныя дыверсійныя групы, якія таксама дзейнічалі на гэтай тэрыторыі, а таксама не ўлічаныя меншыя партызанскія групы.

1 жніўня 1942 г. бюро Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б выдала распараджэнне аб стварэнні Аб'яднанага штаба партызанскіх атрадаў Сенненска-Аршанскай зоны. Начальнікам штаба бюро прызначыла Васіля Бойку. 50-гадовы Бойка вясной 1942 г. з групай у 50 чалавек прыбыў па даручэнні 4-га ўпраўлення НКУС (Судаплатаў) у раён паміж Віцебскам і Оршай. У яго было заданне арганізаваць партызанскі рух, актывізаваць яго і весці партызанскую барацьбу. З мая 1942 г. ён дзейнічаў са сваім атрадам пад Багушэўскам, дзе некалькі атрадаў і груп, якія ўтварыліся самастойна на гэтай тэрыторыі вясной 1942 г., аб'яднаў у брыгаду пад сваім камандаваннем. У жніўні 1942 г. ён пачаў таксама аб'ядноўваць партызанаў у раёне вакол Оршы пад сваім кіраўніцтвам[338]. Аперацыя «Грыф», што пачалася 17 жніўня, спыніла гэты працэс.

[334] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 17 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 58v).

[335] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запісы ад 6, 10, 13, 14, 17—29 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 25—46); дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запісы ад 18, 19, 25—30 жніўня 1942 г. (BA. R 20/45b, Bl. 45 і наст.); гл. таксама часткова недакладнае апісанне аперацыі «Кондар» у: Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 212 і наст. Аўтары, сярод іншага, пішуць, што 203-я ахоўная дывізія кіравала аперацыяй «Кондар».

[336] Спіс партызанскіх брыгад і атрадаў у БССР паводле дадзеных на 10 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 20—27).

[337] Даклад І. Стулава ад 15 ліпеня 1942 г. аб партызанскім руху ў Віцебскай вобласці і на ўчастку фронту 4-й ударнай арміі (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 102—130).

[338] Стэнаграма размовы з Васілём Бойкам ад 22 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 110—117).



Камандаванне Аршанскага злучэння не мела поўнага ўяўлення, як праходзіць аперацыя «Грыф». Толькі 21 жніўня штаб даведаўся, што гэта, у процілегласць ранейшым акцыям, вялікая антыпартызанская аперацыя з удзелам моцных, добра ўзброеных часцей. Штаб не зрабіў ніякай спробы арганізаваць адзіную абарону. Шмат якія атрады спрабавалі прабівацца з акружэння — што будзе, тое будзе! — у розных месцах. Некаторым пашчасціла, а большасці — не. Штаб зоны вырашыў пасля працяглага абмеркавання, паводле слоў Бойкі, выкарыстаць наступную тактыку: «Манеўраванне на дарогах»[339]. Аднак праз год Бойка сцвярджаў, што выбраная тактыка гучала «Манеўраванне ў лясах», і яна выявілася правільнай, таму што яго атрады здолелі вырвацца з катла. Пра магчымыя страты Бойка змаўчаў[340]. Савецкая гістарыяграфія таксама закранула аперацыю «Грыф»: «Дзякуючы стойкай абароне і ўмеламу манеўру, партызаны вырваліся з варожага катла»[341].

Але рэчаіснасць выглядала інакш. У час аперацыі «Грыф» брыгады, атрады і групы, якія знаходзіліся ў Сенненска-Аршанскай партызанскай зоне, змагаліся ізалявана і некаардынавана. 16 кастрычніка 1942 г. сакратар падпольнага абкама КП(б)Б Стулаў рэзка ганіў пазіцыю штаба Аршанскага злучэння: «Камандаванне партызанскімі сіламі ў Аршанскай зоне, таварышы Бойка, Рэзнікаў і Вайцяхоўскі легкадумна і насуперак нашаму ўказанню дапусцілі стварэнне вялікага скаплення партызанаў (больш за 2 000 чалавек) у адным месцы, не мяняючы рэгулярна месцазнаходжання і не забяспечыўшы разведкі перамяшчэнняў праціўніка»[342]. Гэтыя абставіны палегчылі немцам разгром злучэння. Яны ўтварылі кацёл, паступова заганяючы ў яго партызанскія падраздзяленні, каб потым знішчыць іх.

Напрыклад, брыгада «Аляксея» трапіла ў час аперацыі «Грыф» у вельмі цяжкую сітуацыю. Камандзір брыгады праз месяц дакладваў:

> 16 жніўня немцы кінулі супраць нас, супраць Аршанскага партызанскага злучэння, каля дзесяці-пятнаццаці тысяч салдат. [...] Яны нас добра патрапалі, частку [партызанаў] яны забілі, частку ўзялі ў палон, частка ўвогуле разбеглася. Пасля гэтага многіх з іх я больш не сабраў. З 10 атрадаў засталіся 8[343].

[339] Даклад камандуючага партызанскімі падраздзяленнямі Аршанскай зоны, [канец 1942 г.] (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 48, арк. 16).

[340] Стэнаграма размовы з В. Бойкам ад 22 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 111 і наст.).

[341] Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 1. С. 499 і наст.

[342] Стан партызанскага руху і партыйнай работы ў Віцебскай вобласці на 1 кастрычніка 1942 г., 16 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 235).

[343] Стэнаграма размовы з А. Данукалавым ад 29 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 166, арк. 69). За некалькі ж дзён да гэтага Данукалаў паведамляў супрацьлеглае: што ягоная брыгада вельмі паспяхова змагалася супраць нямецкіх падраздзяленняў. Гл.: Кароткая справаздача пра дзейнасць партызанскай брыгады «Аляксея» ад 15 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 56—59).

Атрады ж брыгады Бойкі ўвогуле не ўступалі ў бой, а «неарганізавана адступілі», гаворыцца ў адным дакладзе[344].

Нямецкія сілы ў час аперацыі «Грыф» разбілі не толькі Аршанскае партызанскае злучэнне, якое праіснавала толькі каля 20 дзён, але і брыгаду Бойкі. На 1 лістапада 1942 г. ягоная брыгада налічвала яшчэ толькі 404 партызаны, хоць пасля аперацыі «Грыф» яна, напэўна, зноў папоўніла свае парадзелыя шэрагі[345]. Партызаны панеслі адчувальныя страты, Судаплатаў дакладваў 14 верасня 1942 г. Панамарэнку: «У выніку дзеяння праціўніка партызаны трапілі ў кацёл, з якога яны вырваліся з боем, страціўшы шмат байцоў, у тым ліку да 200 палонных»[346]. Паводле нямецкіх дадзеных, падчас аперацыі «Грыф» было забіта 796 партызанаў і 599 узята ў палон[347]. Між іншым, нібыта пры гэтым у «баі загінуў кіраўнік апазіцыйнага боку Блахін»[348].

На самай справе партызанскага камандзіра з такім прозвішчам не было. «Кіраўніком апазіцыйнага боку» быў Васіль Бойка, у якога, праўда, пасля аперацыі «Грыф» справы ішлі яшчэ адносна добра. Але гэта, відаць, сцвярджалася не партызанскімі атрадамі на тэрыторыі паміж Оршай і Віцебскам. У лістападзе 1942 г. Беларускі штаб партызанскага руху выдаў загад шэрагу атрадаў, якія летам 1942 г. пакінулі мясцовасць вакол Оршы з-за нямецкіх акцый, да снежня 1942 г. вярнуцца ў свае раёны дзеяння. У канцы 1942 г. яны, аднак, яшчэ не дзейнічалі на сваіх старых тэрыторыях[349].

3 верасня 1942 г. нямецкія часці атакавалі брыгаду «Чэкіст», якая дзейнічала далей на поўнач ад Оршы. Пад нямецкім ціскам брыгада разваліласяся, але партызанам удалося, паводле дадзеных яго начальніка штаба, адысці без страт. Пасля гэтага камандаванне брыгады зноў сабрала сваіх партызанаў і адрадзіла падраздзяленне ды ў канцы верасня 1942 г. змяніла сваю тэрыторыю дзеяння на Крупскі раён, паміж Оршай і Барысавам[350].

Кідаюцца ў вочы ў аперацыі «Грыф» адносна малыя страты партызанаў, пра якія далажылі немцы: 769 забітых. Большасць гэтых ахвяр былі сапраўды партызанамі, а не бязвіннымі цывільнымі, як гэта было, напрыклад, падчас аперацыі «Арол». У час аперацыі «Грыф» немцы, напэўна ж, забівалі і цывільных, але далёка не так

[344] Стан партызанскага руху і партыйнай работы ў Віцебскай вобласці на 1 кастрычніка 1942 г., 16 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 235).

[345] Дыслакацыя партызанскіх атрадаў і брыгад на тэрыторыі БССР па стане на 1 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 172, л. 55—70).

[346] Данясенне П. Судаплатава П. Панамарэнку, 14 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 260 і наст.).

[347] Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 213.

[348] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 29 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 43 і наст.).

[349] Разгортванне партызанскага руху зімой 1942/43 г. у БССР, [лістапад—снежань 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 125, л. 10).

[350] Стэнаграма размовы з начальнікам штаба брыгады «Чэкіст» І. Буланавым, 23 кастрычніка 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 122, арк. 11 і наст.); Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 1. С. 500.



шмат, як пры параўнальных аперацыях. Гэта, мусіць, вынік ужо цытаванага загада генерала фон Шэнкендорфа, што ён выдаў 3 жніўня 1942 г. адразу пасля аперацыі «Арол» і напярэдадні аперацыі «Грыф» і ў якім ён забараніў расстрэльваць жанчын і дзяцей[351].

Магчыма, нейкую ролю адыграў і поспех аперацыі «Грыф». Паліцэйскія і салдаты, што бралі ўдзел у аперацыі, пачалі радзей бачыць нагоду вымяшчаць сваю злосць на нявінным насельніцтве, каб потым прадстаўляць забітых жанчын, дзяцей і старых «застрэленымі ў баі партызанамі».

*в) Закрыццё «Суражскіх варотаў» у верасні 1942 г.*

На верасень 1942 г. штаб фон Шэнкендорфа планаваў некалькі адначасовых аперацый, скіраваных супраць партызанаў ва ўсходніх, паўночна-ўсходніх і паўночных раёнах Віцебскай вобласці. Гаворка ішла пры гэтым, сярод іншага, пра аперацыю № 37 (чыгуначны ўчастак Орша — Смаленск), аперацыю № 33 «як працяг аперацыі "Грыф", на захад ад чыгуначнай лініі Орша — Віцебск», аперацыю № 28 паміж Полацкам і Віцебскам і аперацыю № 34 на поўнач ад Полацка (чыгуначная лінія Полацк — Дрэтунь і Полацк — Дрыса)[352]. Аўтар змог знайсці пра аперацыі ў нямецкіх тагачасных дакументах толькі фрагментарныя ўрыўкі інфармацыі[353]. Няма сумненняў, што яны прайшлі адносна паспяхова, пра што сведчаць даклады партызанаў.

Шматлікія аперацыі, напады і баі ўсё больш вымотвалі партызанаў. Атрады, якія вырваліся з катла «Грыфа», патрапілі ў акружэнне меншай аперацыі «Люкс», з якога ім зноў давялося вырывацца. У партызанаў канчалася амуніцыя, а гэта рабіла немагчымым актыўны супраціў. Ім заставалася толькі «манеўраваць у лесе», прычым нярэдка ім даводзілася несці адчувальныя страты. Шматлікія атрады ратаваліся, уцякаючы праз «Суражскія вароты» ў савецкі тыл. Іншыя падраздзяленні зноў развальваліся на дробныя групы: «Камандзіры брыгад і атрадаў вырашылі распусціць свае падраздзяленні на меншыя групы, каб змякчыць наяўнае становішча», гаварылася ў дакладзе Калініна, начальніка Беларускага штаба партызанскага руху. Іншым шанцавала менш, і яны былі разбітыя, як, напрыклад, атрад Гарбаценкі ў Сіроцінскім раёне, каля 50 км на захад ад Віцебска[354].

[351] Загад генерала М. фон Шэнкендорфа ад 3 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 66 і наст.).

[352] Данясенне М. фон Шэнкендорфа Галоўнаму камандаванню групы армій «Цэнтр», 30 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 145 і наст.).

[353] Гл.: Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс за верасень 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 47—69). Фрагментарныя дадзеныя ёсць і ў: Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 222—227.

[354] Справаздача П. Калініна П. Панамарэнку аб аперацыях праціўніка супраць партызанаў Віцебскай вобласці, дата паступлення 12 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 163, л. 33); данясенне І. Стулава пра стан партызанскага руху і партыйнай работы ў Віцебскай вобласці на 1 кастрычніка 1942 г., 16 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 234 і наст.).

У канцы верасня 1942 г. немцам удалося добра прыкрыць разрыў фронту на паўночным усходзе ад Віцебска, «Суражскія вароты». У асноўным гэта быў участак паміж Усвятамі і Суражам. Паміж двума мястэчкамі знаходзіцца вёска Пудаць, што, як і іншыя населеныя пункты гэтай мясцовасці, была ў руках партызанаў. У вёсцы месціліся, акрамя аднаго атрада 1-й Беларускай брыгады пад камандаваннем Шпакава, каля 40 аператыўных супрацоўнікаў Мінскай і Віцебскай абласцей, партыйныя работнікі з Суражскага раёна, а таксама супрацоўнікі міліцыі і НКУС. Апошнія нават абсталявалі ў вёсцы турму, у якой яны 25 верасня ўтрымлівалі 25 чалавек[355].

25 верасня раніцай група з 40 нямецкіх салдат уварвалася ў вёску Пудаць, спачатку застрэліўшы варту. Яны былі пераапранутыя ў партызанаў і ўзброеныя аўтаматамі. Немцы адкрылі агонь, і партызаны, міліцыянеры, супрацоўнікі НКУС ды партыйныя работнікі ў паніцы разбегліся без усялякага супраціўлення. Немцы абстралялі вёску, вызвалілі 25 арыштантаў і праз некалькі гадзін адступілі. Між тым камандзір брыгады Шмыроў таксама паддаўся паніцы і перабег са сваімі 400 лепшымі партызанамі ў савецкі тыл[356].

Нямецкія сілы ў наступныя дні паступова атакавалі населеныя пункты на ўчастку паміж Усвятамі і Суражам, а партызаны, якія засталіся без камандзіраў, без бою ці ведучы перастрэлкі, адступалі. У ходзе гэтых аперацый нямецкія падраздзяленні занялі дарогу Пудаць — Усвяты і абсталявалі там некалькі апорных пунктаў, пакінуўшы на іх па 35—70 салдат[357]. Гэткім чынам яны закрылі «Суражскія вароты» і перарвалі надзвычай важную непасрэдную сувязь паміж савецкім тылам і партызанамі ў раёне Віцебска і Полацка. Вялікім падраздзяленням пратачыцца ў нямецкі тыл было ўжо немагчыма, а меншым — вельмі абцяжарана.

Заслугоўвае ўвагі, што немцы не адразу зразумелі, што гэты разрыў фронту ўжо добра закрыты — сведчанне таго, як цяжка было трымаць усё ў полі зроку. 10 кастрычніка 1942 г. фон Шэнкендорф выступаў перад камандзірамі сваёй дывізіі:

> Дзякуючы пастаяннай дастаўцы паветранымі шляхамі арганізатараў, адукаваных бандытаў і спецыялістаў падрыўной справы ці карыстаючыся праходамі праз разрывы фронту пры 59-м армейскім корпусе, [бандыцкі] рух набывае ўсё большы размах, нават калі там-сям нам удаецца разбіць пэўныя бандыцкія цэнтры і дзякуючы некаторым буйным аперацыям на нейкі час уціхамірыць значныя тэрыторыі[358].

[355] Даклад Райцава і іншых пра закрыццё праціўнікам праходу да партызанскіх атрадаў і брыгад у Віцебскай вобласці, 26 кастрычніка 1942 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 52, арк. 206—211); данясенне П. Калініна П. Панамарэнку пра аперацыі праціўніка супраць партызанаў Віцебскай вобласці, дата паступлення 12 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 163, л. 32 і наст.); данясенне І. Стулава пра стан партызанскага руху і партыйнай работы ў Віцебскай вобласці на 1 кастрычніка 1942 г., 16 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 234 і наст.).

[356] Тамсама.

[357] Тамсама.

[358] Камандуючы групамі забяспячэння і камандуючы тылавымі раёнамі групы армій «Цэнтр» (Іа) генерал фон Шэнкендорф Галоўнаму камандаванню групы армій «Цэнтр», 10 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 289 і наст.).



## 5. Тактыка і вынікі барацьбы немцаў з партызанамі летам і восенню 1942 г.

Шматлікія летнія аперацыі, нягледзячы на пэўныя поспехі, не «ўціхамірылі» край надоўга. Становішча, з нямецкага пункту гледжання, рабілася ўсё больш крытычным. Хуткі рост колькасці падрываў чыгункі прымушаў немцаў мяняць ранейшую тактыку. 18 жніўня 1942 г. Гітлер выдаў «Дырэктыву па ўзмацненні барацьбы з бандытызмам на Усходзе»:

> *Бандытызм на Усходзе* ў апошнія месяцы набыў невыносныя ўжо памеры і пагражае зрабіцца сур'ёзнай небяспекай для забеспячэння фронту і эканамічнага выкарыстання краіны. Да пачатку зімы гэтыя банды павінны быць карэнным чынам вынішчаныя і тым самым Усход у тыле фронту ўціхаміраны, каб пазбегнуць вырашальных недахопаў у вядзенні баёў верхам зімой. [...] Ліквідацыя бандытызму патрабуе *актыўнай барацьбы і самых жорсткіх захадаў* супраць усіх, хто ўдзельнічае ў фармаванні бандаў альбо вінаваты ў іх падтрымцы[359].

Але пра «актыўную барацьбу» спачатку не магло быць і гаворкі, бо нямецкія сілы былі для гэтага колькасна занадта малыя. У пачатку верасня 1942 г. загад Вярхоўнага камандавання вермахта падштурхнуў фон Шэнкендорфа перадусім сканцэнтравацца на ахове чыгуначных ліній:

> Пан фельдмаршал перадаў мне [фон Шэнкендорфу] 5.9.42 адназначны загад Галоўнага камандавання сухапутных войскаў узмацніць наяўныя сілы для аховы чыгуначных ліній. Нагодай для гэтага загада служаць усё больш частыя падрывы, у выніку якіх ужо цяпер транспартныя магутнасці чыгункі для армій знізіліся да 2/3, скразны рух праз граніцу складае ўжо нават менш за 50 %. [...] Даручэнне пана фельдмаршала [...] гучала: Безумоўнае забеспячэнне руху на абодвух галоўных участках: Мінск — Барысаў — Орша — Смаленск і Дзвінск — Полацк — Віцебск — Смаленск шляхам умацавання бяспекі пралётаў, у першую чаргу на поўнач ад Оршы і на поўнач ад Віцебска, асабліва неабходна ахоўваць штучныя збудаванні, прывакзальныя збудаванні, помпавыя станцыі і воданапорныя вежы[360].

У кастрычніку 1942 г. у распараджэнні камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» генерала фон Шэнкендорфа было ў агульнай колькасці 55 батальёнаў, што налічвалі 16 500 чалавек, якія павінны былі ахоўваць тэрыторыю каля 200 000 км². З іх 45 батальёнаў, каля 13 500 чалавек, былі прызначаныя ахоўваць чыгуначныя ўчасткі.

[359] Распараджэнне фюрара № 46 «Дырэктыва па ўзмацненні барацьбы з бандытызмам на Усходзе», 18 жніўня 1942 г. (копія) (Institut für Zeitgeschichte (IfZ). Fd. 40/2, Bl. 260 і наст.). Вылучана ў арыгінале.

[360] Нататка М. фон Шэнкендорфа, 6 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 160 і наст.).

Даўжыня ўсёй лініі, якая падлягала ахове, складала агулам 2 700 км. Наяўных сіл у сярэднім хапала для падвойнага паста на кожныя 400 м. «Але з той прычыны, што трэба разлічваць на 12-гадзінную змену варты, прыпадае *1 падвойны пост на 800 м*», — пісаў фон Шэнкендорф 10 кастрычніка 1942 г. І далей: «Пры гэтым не ўлічана, што на ахову штучных збудаванняў і для ўдарных груп неабходна прызначаць больш людзей»[361].

Звыш 80 % гэтых сіл былі задзейнічаныя на тэрыторыі Беларусі, на ўсход ад Мінска, астатнія на расійскіх тэрыторыях вакол Смаленска і Бранска. З агульнай колькасці 55 батальёнаў 45 дзейнічалі на беларускай тэрыторыі, а тры іншыя на ўчастках паміж беларускімі і расійскімі гарадамі, каля 14 000 салдат, паліцэйскіх і членаў «мясцовых злучэнняў»[362]. Сюды дадаваліся яшчэ каля 15 000 паліцэйскіх службы парадку, якія набіраліся з беларусаў і рускіх. У маі 1942 г. вермахт узяў на сябе камандаванне службай парадку, і ў жніўні 1942 г. яе ў асноўным прыраўнавалі да так званых *«landeseigenen»* («тутэйшых») злучэнняў. Паліцэйскія службы парадку з гэтага часу атрымлівалі лепшую падрыхтоўку, узбраенне, амуніцыю і харчаванне. У наступныя месяцы служба парадку была ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр» пашырана і налічвала ў жніўні 1943 г. каля 40 000 чалавек[363].

Гэтым сілам восенню 1942 г. на беларускай частцы тылавога раёна групы армій «Цэнтр» супрацьстаялі каля 35 000 партызанаў і дыверсантаў, без уліку тых, з кім Цэнтральны ці Беларускі штабы партызанскага руху яшчэ не наладзілі сувязі[364]. Праўда, толькі нейкая частка з іх сапраўды вяла ваенныя аперацыі супраць нямецкіх акупантаў, сярод іншага, з наступных прычын: дрэнная дысцыпліна, недахоп амуніцыі і выбухоўкі, складанасць кантролю за дзейнасцю партызанаў ці ўвогуле яго немагчымасць. Гэтую праблематыку мы яшчэ падрабязна абмяркуем.

Знясільваюча ўплывалі на баявы дух партызанаў і шматлікія аперацыі, якімі немцы сістэматычна турбавалі партызанскія тэрыторыі. Яны былі вымушаныя ўвесь час мяняць свае раёны дзеяння, а гэта з надыходам зімы, на час якой трэба было будаваць зімовыя лагеры і склады, было складана.

---

[361] Нататка «Баявое выкарыстанне сіл, якія знаходзяцца ў распараджэнні камандуючага тылавым раёнам групы армій "Цэнтр"», 10 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 294). Вылучана ў арыгінале.

[362] Агляд сіл па барацьбе з бандамі, якія дзейнічаюць у тылавым раёне групы армій «Цэнтр», 15 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 305—314).

[363] Справаздача пра дзейнасць вайсковай адміністрацыі пры Галоўным камандаванні групы армій на перыяд з 22 чэрвеня 1941 г. да жніўня 1944 г., штэмпель атрымання ад 23 жніўня 1944 г. (BA-MA. RH 19 II/335, Bl. 21).

[364] Дакладная запіска начальніка БШПР П. Калініна пра стан партызанскага руху ў Беларусі, 15 снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 169, л. 169 і наст.). Усяго на гэты час, паводле дадзеных БШПР, у Беларусі было 48 854 партызаны, у тым ліку 16 932 у Віцебскай вобласці, 5 188 — у Магілёўскай, 2 268 — у Гомельскай, 12 137 — у Мінскай і 5 077 — у Палескай. Тылавы раён групы армій «Цэнтр» ахопліваў таксама часткі Мінскай і Палескай абласцей, у якіх было асабліва шмат партызанаў.



Нягледзячы на гэта, нямецкая тактыка барацьбы з партызанамі, змененая ў верасні 1942 г., паказала сябе контрпрадуктыўнай, хоць яна спачатку прыносіла поспехі. Так, колькасць падрываў чыгункі ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр», якая з вясны 1942 г. паслядоўна расла, у кастрычніку 1942 г. упершыню папаўзла ўніз. Са студзеня да сакавіка 1942 г. здараліся толькі асобныя падрывы, у красавіку іх было 35, у маі 102 і ў чэрвені 158. У ліпені 1942 г. колькасць паспяховых падрываў вырасла да 234, сюды трэба дадаць 76 перашкоджаных падрываў, у жніўні да 208 і 119 перашкоджаных, а ў верасні да 225 і 137 перашкоджаных. У кастрычніку колькасць знізілася да 203 і 181 перашкоджаных падрываў, у лістападзе іх было 162 і 117, а ў снежні 147 і 160[365].

Пры гэтым прыцягвае ўвагу вялікая колькасць перашкоджаных падрываў, якая з кастрычніка 1942 г. пачала расці, у той час як колькасць паспяховых падрываў змяншалася. Трэба дадаць, што партызаны і дыверсанты з наваколля Бранска (Заходняя Расія) здзейснілі ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр» з красавіка да снежня 1942 г. адносна вялікую частку гэтых падрываў чыгункі, усяго 253 (без перашкоджаных)[366].

Адвод шматлікіх падраздзяленняў на ахову чыгуначных ліній, якія датуль удзельнічалі ў барацьбе з партызанамі, у першую чаргу аслабіў дыверсіі на чыгуначных лініях[367]. З другога боку, гэтыя захады палегчылі партызанам прасоўванне на тэрыторыі, што датуль яшчэ не кантраляваліся партызанамі. За 22 верасня ў ваенным дзённіку камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» маецца запіс: «Тыя часткі тэрыторыі, якія павінны быць пакінутыя дзеля ўмацавання аховы чыгункі, застаюцца безабароннымі перад тэрорам бандаў. Прыязных у адносінах да немцаў жыхароў забіваюць»[368]. У пачатку кастрычніка фон Шэнкендорф сігналізаваў Галоўнаму камандаванню групы армій «Цэнтр»:

> У дакладзе за месяц чэрвень 1942 г. Галоўнаму камандаванню сухапутных войскаў звярталася ўвага на тое, што загад Сталіна «стварыць для ворага ў тыле

---

[365] Дадзеныя з красавіка да чэрвеня 1942 г. Гл.: Агляд нападаў на чыгункі ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр» (студзень—чэрвень 1943 г.), без даты (BA-MA. RH 19 II/172, Bl. 12); дадзеныя за ліпень: Справаздача пра дзейнасць афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за ліпень 1942 г. (BA-MA. RH 22/244, Bl. 2—9); дадзеныя за жнівень: Справаздача пра дзейнасць афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за жнівень 1942 г., 2 верасня 1942 г. (Тамсама. Bl. 15—21); верасень — Справаздача пра дзейнасць афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за верасень 1942 г., 10 кастрычніка 1942 г. (Тамсама. Bl. 29—35); кастрычнік—снежань у: Справаздача пра дзейнасць афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за снежань 1942 г., 6 студзеня 1943 г. (Тамсама. Bl. 60 і наст.).

[366] Heidemann H. Die Schlacht hinter der Front — das Kriegstagebuch des Koruck Pz. AOK. 2 (пісьмовая дамашняя работа ад 2 снежня 2004 г., гістарычны семінар у Гановерскім універсітэце. Рукапіс ва ўласнасці аўтара).

[367] Справаздача пра дзейнасць за кастрычнік 1942 г. афіцэра Ia пры камандуючым тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», 5 лістапада 1942 г. (BA-MA. RH 22/244, Bl. 42—45).

[368] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 22 верасня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 63 і наст.).

> нямецкай арміі невыносныя ўмовы» недалёкі ад свайго ажыццяўлення. [...] А між тым рускія памножылі свае намаганні для стварэння неспакою на тылавой тэрыторыі. Выкарыстанне амаль усіх часцей, якое зрабілася неабходным толькі для аховы чыгункі, спрыяе магчымасці такіх поспехаў [партызанскіх нападаў]. Трэба было адмовіцца ад так пільна неабходнай барацьбы з партызанамі шляхам добра падрыхтаваных аперацый. *Эканамічна значныя тэрыторыі* ўжо мусілі быць аддадзеныя праціўніку. [...] Населеныя пункты, жыхары якіх супрацоўнічалі з немцамі, спальваюцца бандытамі, спрыяльна настроеныя ў адносінах да немцаў жыхары забіваюцца. [...] Бязлітаснай жорсткасцю бандыты прымусяць яшчэ пасіўныя рускія масы варожа адносіцца да немцаў[369].

Сапраўды, напады на апорныя пункты, дзяржаўныя маёнткі, суправаджальныя эшалоны, бургамістраў і на вёскі моцна ўзраслі, у той час як колькасць падрываў на чыгунцы з кастрычніка 1942 г. зменшылася[370]. Не нашмат лепшыя варункі панавалі на астатніх тэрыторыях сённяшняй Беларусі, у тым ліку ў Генеральным камісарыяце Беларусь, дзе са жніўня 1942 г. немцы правялі некалькі аперацый супраць партызанаў. І яны не прынеслі жаданага поспеху. Гэта, у першую чаргу, была аперацыя «Балотная ліхаманка», якая працягвалася з 22 жніўня да 21 верасня. Аперацыя падзялялася на дзевяць асобных акцый, што ахоплівалі раёны Барысава, Мінска, Слуцка, Баранавічаў, Навагрудка і Вілейкі, а ўрэшце скончылася фіяска. Аперацыя «Зубр», пра якую мала што вядома, была скіравана супраць партызанаў на тэрыторыі вакол Беластока, асабліва ў Белавежскай пушчы[371].

Катастрафічныя ўмовы і бездапаможнасць падштурхнулі нямецкае камандаванне да самых жорсткіх захадаў, якіх патрабаваў і Гітлер («самыя жорсткія захады»). У кастрычніку 1942 г., напрыклад, Герман Гёрынг загадаў стварыць з абодвух бакоў чыгуначных ліній нейтральную паласу шырынёй 1 000 м і ажыццяўляць яшчэ больш жорсткія акцыі адплаты, чым раней, за здзейсненыя напады (спальванне населеных пунктаў і расстрэл жыхароў). Фон Шэнкендорф крытыкаваў гэтае распараджэнне як контрпрадуктыўнае[372]. Праўда, ён змог мала чаго дамагчыся. Так, засталася тая самая шырыня нічыйнай зямлі па 100 м шырынёй з абодвух бакоў чыгункі, якую яшчэ раней увёў Шэнкендорф. Спальванне населеных пунктаў і расправы над насельніцтвам у рамках барацьбы з партызанамі, ва ўсякім разе, не паменшыліся, а нават яшчэ і ўзмацніліся[373].

[369] Камандуючы генерал ахоўных падраздзяленняў і камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» (Ia) генерал фон Шэнкендорф Галоўнаму камандаванню групы армій «Цэнтр» (Ia), 10 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 289 і наст.). Вылучана ў арыгінале.

[370] Справаздача пра дзейнасць афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за верасень 1942 г., 10 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/244, Bl. 29—35); справаздача пра дзейнасць афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за снежань 1942 г., 6 студзеня 1943 г. (Тамсама. Bl. 60—64).

[371] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 930—935; Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 210 і наст., 227; Cüppers M. Wegbereiter der Shoah... S. 254 і наст.

[372] Адносіна камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» начальніку Генеральнага штаба ад 27 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 351 і наст.).

[373] Тамсама; Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 919—951.



Гэта было звязана з дырэктывамі, якія даў Гімлер для барацьбы з партызанамі. 23 кастрычніка 1942 г. Гімлер прызначыў фон дэм Баха «спецыяльным упаўнаважаным рэйхсфюрара па барацьбе з бандамі»: «Ён [спецыяльны ўпаўнаважаны] атрымлівае ад мяне [Гімлера] даручэнні па ўціхамірванні асобных, дакладна вызначаных тэрыторый»[374]. 23 кастрычніка Гімлер даў фон дэм Баху таксама даручэнне «ўціхамірыць» Генеральны камісарыят Беларусь[375].

Фон дэм Бах энергічна ўзяўся за справу і арганізаваў некалькі аперацый, якія распаўсюджваліся на ўсю тэрыторыю Беларусі, або назіраў за імі. Прыкладам тут можа быць аперацыя «Нюрнберг» (*«Nürnberg»*), што праходзіла з 22 да 26 лістапада ў раёне Глыбокага і якой кіраваў начальнік СС і паліцыі Беларусі Курт фон Готберг[376].

Аперацыя «Нюрнберг» толькі часткова займалася непасрэднай барацьбой з партызанамі, як вынікае з ацэнкі ў ваенным дзённіку камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр»:

> Даклад 1-й пяхотнай брыгады СС аб аперацыі «Нюрнберг» у раёне Глыбокага. Прыведзеныя ў ім лічбы даюць ашаламляльную карціну пра метады, пры дапамозе якіх часам абыходзіліся з жыхарамі. Многія населеныя пункты былі спаленыя, усе жыхары, уключаючы жанчын і дзяцей, спецыяльна апрацаваныя [г. зн. забітыя]. Гэта ёсць найлепшы ачаг для новых бандыцкіх тэрыторый[377].

Нямецкі бок паведаміў пра агульную колькасць 3 800 забітых уяўных «партызанаў» і «партызанскіх памагатых»[378].

Усе гэтыя аперацыі і забойствы цывільнага насельніцтва, аднак, не змаглі прыдушыць партызанскі рух у Беларусі, не гаворачы ўжо пра тое, каб знішчыць яго. Наадварот, у лютым 1943 г. фон дэм Бах на адной з нарад палічыў патрэбным заявіць, «што адносна павелічэння партызанскіх нападаў, якія распаўсюджваюцца па ўсёй Беларусі, хутчэй можна гаварыць пра народнае паўстанне, чым пра банды»[379]. У адрозненне ад першай паловы 1942 г. савецкія ўстановы ў гэты час ужо мелі абсалютны ўплыў на гэтае распаўсюджанне.

[374] Копія гэтага загада ў: Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 24 кастрычніка 1942 г. (BA. RA 20/455, Bl. 51).

[375] Загад рэйхсфюрара СС і паліцыі Гімлера ад 23 кастрычніка 1942 г. (копія) (BA-MA. RH 19 II/153, Bl. 35); таксама ў: Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 24 кастрычніка 1942 г. (BA. RA 20/455, Bl. 52).

[376] Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запісы ад 23, 24, 27, 28 лістапада 1942 г. (BA. RA 20/455, Bl. 61 і наст.).

[377] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 4 снежня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 120v).

[378] Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 229 і наст.; Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 900, называе лічбу ахвяр 2 974 загінулыя, а Марцін Кюперс (Cüppers M. Wegbereiter der Shoah... S. 258) называе лічбу 2 984 ахвяры, якія загінулі.

[379] Нататка ў дакументах групэнфюрара СС Цымермана пра нараду Э. фон дэм Баха з генеральным кватэрмайстрам Вагнерам 20 лютага 1943 г., копія ў: Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 23 лютага 1943 г. (BA. RA 20/455, Bl. 69).

# III. Цэнтральны штаб партызанскага руху (ЦШПР) (май 1942 г. — студзень 1944 г.)

У першы год вайны ў арганізацыі савецкага партызанскага руху не было адзінага кіраўніцтва, хоць на карысць гэтага гучалі шматлікія галасы. Асабліва актыўным у гэтым сэнсе быў першы сакратар Цэнтральнага камітэта КП(б)Б Панцеляймон Панамарэнка. Яшчэ 2 ліпеня 1942 г. ён пісаў Сталіну, што неабходна дзейсна падтрымаць партызанскі рух у Беларусі, які хутка набірае сілу, і паставіць яго пад адзінае кіраўніцтва. Панамарэнка:

> Я прапаную пры штабе [Заходняга] фронту стварыць упраўленне па кіраўніцтве партызанскай барацьбой. [...] Ахвотна гэтую справу ўзначаліў бы сам, бо займаюся гэтым і цяпер, веданне кадраў і ўмоў многаму дапамогуць. Намеснікамі прызначыць Цанаву [з] НКДБ і Мацвеева [з] НКУС. Практычна гэта амаль зроблена[1].

Сталін, аднак, не прыслухаўся да прапановы Панамарэнкі і неўзабаве пасля гэтага абавязаў Льва Мехліса, начальніка Галоўнага палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі, утварыць камісію, якая занялася б пытаннямі партызанскага руху. Але гэтая камісія сваёй працы ніколі не распачала. З канца лета 1941 г. па даручэнні Сталіна пытаннямі партызанскай вайны заняўся намеснік народнага камісара абароны Яфім Шчадэнка, што выказваўся за маштабны партызанскі рух[2]. 7 снежня 1941 г. Шчадэнка прадставіў Сталіну план па разгортванні партызанскага руху, дзе прадугледзеў утварэнне ў савецкім тыле «коннай партызанскай арміі народных мсціўцаў» з 33 008 байцамі і «пяхотную партызанскую армію» з 26 465 байцамі[3]. Гэтыя планы ніколі не былі ажыццёўленыя, таму што, на думку Панамарэнкі, які абмяркоўваў іх са Сталіным, былі нерэальнымі[4].

Сам Панамарэнка яшчэ 21 верасня 1942 г. звяртаўся да Сталіна з дакладной запіскай пра магчымасці шырокамаштабных і сістэматычных дыверсій на транспартных лініях у тыле ворага. Ён, сярод іншага, прыводзіў аргументы, што за некалькі дзён можна з простых калгаснікаў падрыхтаваць дыверсантаў, каб потым выкарыстаць іх для падрываў чыгуначных ліній: «У тыле амаль што няма немцаў, тэрыторыя вялізная, шмат лясоў, можна прабрацца паўсюды. Насельніцтва ахвотна выказвае сваю гатоўнасць дапамагаць»[5].

[1] Данясенне П. Панамарэнкі І. Сталіну аб разгортванні партызанскага руху на тэрыторыі рэспублікі, 2 ліпеня 1941 г., надрукаванае ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 149—150.

[2] Slepyan K. D. «The People's Avengers»: Soviet Partisans, Stalinist Society and the Politics of Resistance, 1941—1944. Ph. D. Diss. University of Michigan, 1994. P. 107—112.

[3] Дакладная запіска намесніка народнага камісара абароны Я. Шчадэнкі Сталіну ад 7 снежня 1941 г., а таксама дадатак 1 і 2 (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 18, л. 2—10).

[4] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 74.



У дакладной Панамарэнка адначасова звяртаў увагу на адсутнасць адзінага кіраўніцтва партызанскім рухам:

> Франтавыя злучэнні і арміі не праводзяць шырокамаштабных дыверсій. Разведвальнае ўпраўленне і асобныя аддзелы накіроўваюць дыверсантаў, колькасць якіх не вартая гаворкі. [...] Шмат якія іншыя арганізацыі таксама займаюцца пасылкай дыверсантаў. Аднак дзяржаўнага кантролю за гэтым няма[6].

Панамарэнка быў не адзіны, хто выступаў за адзінае кіраўніцтва партызанскім рухам. Леў Мехліс нагадваў 19 жніўня 1941 г.:

> У партызанскім руху ёсць шмат недапрацовак. Атрады часта ізаляваныя, яны не атрымліваюць канкрэтных указанняў. Часці Чырвонай Арміі, якія вядуць партызанскую вайну, таксама не маюць неабходнага кіраўніцтва, дзеянні партызанскіх атрадаў не ўсюды каардынуюцца[7].

У адным рапарце Ваеннаму савету 8-й арміі (Ленінградскі фронт) гаворыцца:

> Адсутнасць адзінага кіраўніцтва партызанскім рухам несумненна негатыўна ўплывае на баявую актыўнасць партызанаў і ўвогуле ў некаторых выпадках вядзе да яго спынення. У апошні час здаралася, што з гэтай прычыны партызанскія атрады падвяргаліся разгрому, іншыя пакідалі занятыя раёны і пераходзілі лінію фронту, асобныя атрады яшчэ і без узбраення[8].

Начальнік асобых аддзелаў (АА) НКУС пры Заходнім фронце Лаўрэнцій Цанава таксама выступаў за адзінае кіраўніцтва партызанскім рухам. 2 мая 1942 г. ён пісаў:

> Партызанскім рухам на тэрыторыі Беларусі займаюцца ЦК КП(б) Беларусі, 4-е Упраўленне і Штаб знішчальных батальёнаў НКУС СССР, са свайго боку лічу неабходным стварыць адзін орган для кіравання партызанскім рухам па Беларускай ССР[9].

[5] Дакладная П. Панамарэнкі Сталіну ад 21 верасня 1941 г. пра стан і пытанне дыверсій (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 69, л. 51 і наст.).

[6] Тамсама.

[7] Дырэктыва начальніка Галоўнага палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі камісара арміі 1-га ранга Льва Мехліса, 19 жніўня 1941 г., надрукаваная ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 23 і наст.

[8] Вытрымка з запіскі Ваеннага савета Ленінградскага фронту за верасень 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 228).

[9] Вытрымка з дакладной запіскі Л. Цанавы ў НКУС СССР, 2 мая 1942 г., публікацыя: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 1. С. 397.

У снежні 1941 г. Панамарэнка меў дзвюхгадзінную размову са Сталіным, у якой ён крытыкаваў прыгаданыя ўжо планы Шчадэнкі як неажыццяўляльныя і адначасова выступаў са сваёй канцэпцыяй партызанскага руху як усенароднага. Панамарэнка таксама звярнуў увагу на неабходнасць адзінага кіраўніцтва партызанскім рухам. Пасля гэтага, як сцвярджае Панамарэнка, Сталін даў яму даручэнне стварыць Цэнтральны штаб партызанскага руху. Панамарэнка адразу ж узяўся за падрыхтоўку[10].

Аднак неўзабаве Панамарэнку давялося спыніць гэтую працу. Прычына была, паводле Панамарэнкі, ва ўмяшанні Берыі і ягоны ўплыў на Сталіна. Берыя лічыў канцэпцыю шырокамаштабнага партызанскага руху з цэнтральным кіраўніцтвам у тыле ворага неэфектыўнай[11]. У адной дакладной запісцы Сталіну Берыя аргументаваў, сярод іншага:

> Партызанскія дзеянні на акупаванай тэрыторыі маюць ізаляваны і спантанны характар, імі нельга цэнтралізавана кіраваць. […] Людзі з народа не могуць займацца дыверсіяй, якая магла б увогуле мець аператыўны эфект, яны не падрыхтаваныя да гэтага. Такія аперацыі могуць праводзіць толькі добра падрыхтаваныя і навучаныя дыверсанты. Для іх падрыхтоўкі і кіраўніцтва імі ў Народным камісарыяце дзяржаўнай бяспекі ёсць спецыяльнае ўпраўленне. Таму гэтыя задачы патрэбна ўскласці на начальніка гэтага ўпраўлення Судаплатава[12].

Берыя спачатку дамогся свайго, бо ён жа пасля 22 чэрвеня 1941 г. стаў другім чалавекам у СССР і амаль штодня сустракаўся са Сталіным[13]. 18 студзеня 1942 г. Берыя стварыў 4-е ўпраўленне НКУС СССР, начальнікам якога прызначыў Судаплатава. У кола задач 4-га ўпраўлення ўваходзілі, сярод іншага, падрыхтоўка, забеспячэнне і адпраўка дыверсійна-разведвальных груп на акупаваныя тэрыторыі[14].

Але Панамарэнка ў рэшце рэшт адстаяў у Сталіна сваю канцэпцыю цэнтралізавана кіраванага і шырокамаштабнага партызанскага руху. 30 мая 1942 г. Дзяржаўны Камітэт Абароны (ДКА) стварыў Цэнтральны штаб партызанскага руху (ЦШПР) і прызначыў першага сакратара Цэнтральнага камітэта КП(б)Б Панцеляймона Панамарэнку яго першым начальнікам. Цэнтральны штаб быў падпарадкаваны непасрэдна Стаўцы, Галоўнаму камандаванню Чырвонай Арміі[15].

---

[10] Пономаренко П. К. Всенародная борьба… С. 72 і наст.

[11] Нататка П. Панамарэнкі «Пытанне Цэнтральнага штаба». Пад пунктам 3: «Дакладная Л. Берыі. Пытанне было адкладзена» (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 119). Гэтую нататку П. Панамарэнка напісаў пры стварэнні кнігі «Всенародная борьба…».

[12] Вытрымка з дакладной Л. Берыі, якую П. Панамарэнка зрабіў ад рукі. П. Панамарэнка меркаваў, што Л. Берыя напісаў гэтую дакладную ў снежні 1941 г. і прад'явіў яе Сталіну. Гл.: РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 119.

[13] Параўн. на гэты конт: Горьков Ю. Государственный комитет обороны… С. 110.

[14] Загад народнага камісара ўнутраных спраў СССР № 00145 ад 18 студзеня 1942 г. аб стварэнні 4-га ўпраўлення НКУС СССР, надрукаваны ў: Органы государственной безопасности… Т. 3. Кн. 1. С. 40—41.

[15] Пастанова ДКА № 1837 ад 30 мая 1942 г. аб утварэнні ЦШПР (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 36, л. 236 і наст.).



Прычыны, чаму Цэнтральны штаб у рэшце рэшт усё ж быў утвораны, да нас не дайшлі, Панамарэнка таксама адмоўчваецца адносна гэтага. Няма сумнення ў тым, што шырокі партызанскі рух вельмі добра ўкладаўся ў канцэпцыю Айчыннай вайны народа, якую Сталін аб'явіў у пачатку нямецка-савецкай вайны. Перадача кіраўніцтва ўсяго партызанскага руху аднаму партыйнаму дзеячу, які быў «у ваеннай справе вельмі некампетэнтным»[16], сведчыць пра тое, што палітыка-ідэалагічныя развагі моцна паўплывалі на рашэнне аб стварэнні Цэнтральнага штаба. Справа палягала ў тым, каб стварыць партызанскі рух, які б ахапіў увесь народ, як выразна загадаў Сталін 5 верасня 1942 г.[17]. Панамарэнка падкрэсліваў, што партызанскі рух — гэта рух народных мас, якім павінна кіраваць партыя, а не вайскоўцы[18].

Задача Цэнтральнага штаба і падначаленых яму органаў палягала ў тым, каб разгортваць партызанскі рух і цэнтралізавана кіраваць ім на тэрыторыі ўсяго варожага тылу. Ніжэйшыя штабы рабілі тое ж самае на ўзроўні рэспублік, а франтавыя штабы — на ўчастках асобных франтоў. Адначасова з Цэнтральным штабам былі створаныя наступныя рэспубліканскія ці, адпаведна, франтавыя штабы партызанскага руху: Украінскі, Бранскі (Бранскі фронт), Заходні (Заходні фронт), Калінінскі, Ленінградскі і Карэла-Фінскі штаб. У наступныя тыдні і месяцы з'явіліся іншыя штабы: 3 жніўня 1942 г. — Паўднёвы штаб на паўночнакаўказскім участку фронту, 9 верасня 1942 г. — Беларускі штаб, 11 лістапада 1942 г. — Эстонскі штаб, 26 лістапада 1942 г. — Літоўскі і 8 студзеня 1943 г. — Латвійскі штаб. У кастрычніку 1942 г. з'явіўся яшчэ Варонежскі штаб, а ў ліпені 1943 г. — Крымскі штаб[19].

Начальнікам Беларускага штаба партызанскага руху (БШПР) Сталін прызначыў 9 верасня 1942 г. другога сакратара Цэнтральнага камітэта КП(б)Б Пятра Калініна. Спачатку Панамарэнка меркаваў кіраваць Беларускім штабам асабіста. Але ён не змог прабіць гэта і потым прапанаваў Калініна[20].

---

[16] Старинов И. Г. Второй фронт // Боярский В. И. Партизаны и армия: История утерянных возможностей / Под общ. ред. А. Е. Тараса. Минск—Москва, 2003. С. 261.

[17] Загад № 189 народнага камісара абароны Сталіна ад 5 верасня 1942 г. аб задачах партызанскага руху (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 14).

[18] Дакладная П. Панамарэнкі Сталіну ад 5 студзеня 1943 г. пра захаванне інстытута камісараў пры партызанскіх атрадах (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 1—4); Больш пра гэта гл.: Slepyan K. D. «The People's Avengers»… P. 23—158.

[19] Пастанова ДКА № 1837 ад 30 мая 1942 г. аб утварэнні ЦШПР (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 36, л. 236 і наст.); загад народнага камісара абароны № 164 ад 4 жніўня 1942 г., падпісаны Шчадэнкам (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 10 (Паўднёвы штаб)); Пастанова ДКА № 2285 ад 2 верасня 1942 г., падпісаная Сталіным (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 55, л. 166 (Беларускі штаб)); загад № 62 галоўнакамандуючага партызанскага руху К. Я. Варашылава ад 10 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 121 і наст. (Эстонскі штаб)); Пономаренко П. К. Всенародная борьба… С. 75.

[20] Пастанова ДКА № 2285 ад 9 верасня 1942 г., падпісаная Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 55, л. 166); Праект загада аб утварэнні партызанскіх штабоў ад 28 жніўня 1942 г., падпісаны П. Панамарэнкам (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 127 і наст.); ліст П. Панамарэнкі да Сталіна ад 9 верасня 1942 г. і праект загада па ўтварэнні Беларускага штаба партызанскага руху (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 130 і наст.).

Да стварэння Беларускага штаба ў верасні 1942 г. за разгортванне партызанскага руху ў Беларусі адказнымі былі наступныя штабы: штаб Калінінскага фронту — за Віцебскую і Вілейскую вобласці, штаб Заходняга фронту — за Магілёўскую, Гомельскую, Мінскую, Баранавіцкую і Беластоцкую вобласці, а штаб Бранскага фронту — за Палескую, Пінскую і Брэсцкую вобласці. У кастрычніку 1942 г. Беларускі штаб партызанскага руху ўзяў на сябе адказнасць за разгортванне партызанскага руху ва ўсёй Беларусі і кіраўніцтва ім[21].

## 1. ЦШПР і рэгіянальныя партызанскія штабы ў 1942 г.

У першыя тыдні пасля ўтварэння ЦШПР Панамарэнка і яго супрацоўнікі займаліся ў першую чаргу арганізацыйнымі справамі. Трэба было арганізоўваць Цэнтральны штаб ды рэгіянальныя і франтавыя штабы. Справа хутка рухалася наперад, і за некалькі месяцаў ЦШПР ператварыўся ў салідны бюракратычны апарат з месцам знаходжання ў Маскве, які ствараў процьму дакументаў у форме дакладаў, загадаў, распараджэнняў, праектаў, пратаколаў і г. д. У верасні 1942 г. Цэнтральны штаб складаўся з чатырох упраўленняў (галоўных упраўленняў): аператыўнага і палітычнага ўпраўленняў, разведвальнага ўпраўлення і ўпраўлення забеспячэння. Да іх трэба дадаць шэсць аддзелаў: службы інфармацыі, тэхнікі дыверсій, кадраў, фінансаў, сакрэтны і шыфравальны[22].

У канцы кастрычніка 1942 г. у апараце ЦШПР працаваў 531 супрацоўнік. Сюды дадаваліся 681 чалавек, якія працавалі ў рэгіянальных штабах і ў аператыўных групах ваенных саветаў франтавых штабоў. У Беларускім і Украінскім штабах было па 128 чалавек. Агулам апарат Цэнтральнага штаба і рэгіянальных штабоў у гэты час налічвалі 1 213 чалавек[23]. Яны кіравалі, паводле дадзеных Цэнтральнага штаба, 1 083 партызанскімі атрадамі з 94 484 партызанамі, якімі кіраваць было цяжка ці ўвогуле немагчыма, сярод іншага, бо каля дзвюх чвэрцяў не мелі ніякай сувязі з савецкім тылам, а калі мелі, дык толькі рэдкую радыёсувязь. У распараджэнні ўсіх 1 083 партызанскіх атрадаў у лістападзе 1942 г. было толькі 217 радыёстанцый[24].

[21] Паведамленне начальніка ЦШПР пра размяжоўванне раёнаў дзейнасці асобных рэгіянальных штабоў ад 5 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 2 і наст.); справаздача аператыўнага аддзела БШПР аб дзеяннях беларускіх партызанаў у перыяд з 1 чэрвеня 1942 г. па 7 сакавіка 1943 г., 15 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 32).

[22] Ліст К. Варашылава і П. Панамарэнкі да Сталіна ад 25 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 137 і наст.). Пра працу ЦШПР гл. таксама: Slepyan K. Stalin's Guerrillas... P. 113—128.

[23] Нататка пра асабовы склад Цэнтральнага штаба і франтавых штабоў партызанскага руху, лістапад 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1. д. 24, л. 203).

[24] Інфармацыя ЦШПР пра стан партызанскага руху на 1 лістапада 1942, 18 лістапада 1942 г., надрукаваная ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 167 і наст.



Адначасова з наладжваннем кіраўнічага апарату Цэнтральны штаб пачаў збіраць інфармацыю пра партызанскі рух з усіх органаў, што дагэтуль займаліся ім. Пры гэтым гаворка ішла пра дадзеныя наконт становішча на акупаваных тэрыторыях, стан партызанскага руху ў асобных рэгіёнах і дзеянні партызанаў, пра дыверсійна-разведвальныя групы, якіх НКУС, Чырвоная Армія і партыйныя органы накіравалі раней у варожы тыл. Ставілася мэта акрэсліць агульнае ўяўленне пра дзейнасць партызанскіх падраздзяленняў, што да таго часу кантраляваліся НКУС, Чырвонай Арміяй, партыйнымі органамі ці дзейнічалі самастойна. Наступным крокам было падначаленне гэтых падраздзяленняў непасрэднаму кіраўніцтву Цэнтральнага штаба[25].

4-е ўпраўленне НКУС і Галоўнае разведвальнае ўпраўленне Чырвонай Арміі захоўвалі кантроль за сваімі дыверсійна-разведвальнымі групамі, якія ўжо былі задзейнічаныя ў варожым тыле ці неўзабаве мусілі быць адасланыя туды. Аднак Панамарэнка неўзабаве не пагадзіўся з гэтым адносна груп, што знаходзіліся ў партызанскіх атрадах. У жніўні 1942 г. ён распарадзіўся падначаліць усе гэтыя групы камандзіру адпаведнага атрада[26].

Узяць на сябе камандаванне асобнымі партызанскімі атрадамі ўдавалася не заўсёды гладка, і дзе-нідзе трэба было спачатку прыкласці намаганні. Напрыклад, у ліпені 1942 г. у злучэнні Нічыпаровіча з'явіліся нейкія Градаў і Меншыкаў. Градаў спрабаваў падпарадкаваць злучэнне сабе, а з тым і 4-му ўпраўленню НКУС. Меншыкаў, наадварот, патрабаваў ад Нічыпаровіча рушыць са сваім злучэннем на Мінск, каб захапіць горад. Панамарэнка, да якога звярнуўся Нічыпаровіч наконт гэтай справы, раздражнёна адхіліў такую дзёрзкасць і строга наказаў Нічыпаровічу: «Акрамя як Заходняму штабу партызанскага руху пры Ваенным савеце Заходняга фронту, нікому не даваць справаздачы, калі нават таго патрабуюць свае»[27].

Старшы лейтэнант дзяржбяспекі Градаў дзейнічаў у мясцовасці вакол Мінска з групай з 28 чалавек (стан: сакавік 1942 г.) па заданні 4-га ўпраўлення НКУС, спачатку як камісар, а пазней — як камандзір групы. Ён наладжваў кантакты ў наваколлі са спантанна ўзніклымі партызанскімі групамі і атрадамі, даваў ім дырэктывы і распараджэнні, арганізоўваў у большыя падраздзяленні, як, напрыклад, атрад «Барацьба», што ў сакавіку 1942 г. з'явіўся ў Бярэзінскім раёне, каля 100 км на ўсход ад Мінска. У маі 1942 г. атрад «Барацьба», які складаўся перш за ўсё з байцоў, што адбіліся ад сваіх часцей, і збеглых ваеннапалонных, вырас у брыгаду. Градаў наладзіў радыёсувязь з 4-м упраўленнем НКУС, забяспечыў «Барацьбу» выбухоўкай

[25] Гл. на гэты конт, напрыклад, шматлікія радыёграмы з такімі запытаннямі (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 62).

[26] Ліст П. Панамарэнкі да С. Бельчанкі, 21 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 150).

[27] Радыёграма П. Панамарэнкі У. Нічыпаровічу і Якаўлеву, 17 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 35).

і боепрыпасамі і загадаў яе камандаванню праводзіць дыверсіі на транспартных лініях[28].

Заснаванне Цэнтральнага штаба забірала ў НКУС, а разам і ў Градава права падпарадкоўваць сабе наяўныя і ствараць новыя партызанскія групоўкі і атрады. Нягледзячы на гэта, Градаў працягваў свае дзеянні. У ліпені 1942 г. ён беспаспяхова паспрабаваў, як ужо згадвалася, узяць уладу над злучэннем Нічыпаровіча. У канцы жніўня 1942 г. Панамарэнка нервова запісаў на палях нататкі: «Градаў хацеў павесці ўсіх [партызанаў з мясцовасці вакол Мінска] на Мінск, гэта не камандаванне»[29]. А 25 верасня 1942 г. раззлаваны Панамарэнка звярнуўся да Судаплатава, начальніка 4-га ўпраўлення НКУС:

> Цэнтральны штаб валодае інфармацыяй, што старшы лейтэнант дзяржбяспекі таварыш Градаў, нягледзячы на наша катэгарычнае пярэчанне і без ведама Цэнтральнага штаба, спрабуе ўзяць пад сваё камандаванне партызанскія атрады ў Беларусі. Ужо другі раз я прашу Вас катэгарычна забараніць таварышу Градаву ўмешвацца ў дзейнасць партызанскіх атрадаў[30].

Выпадак з Градавым не быў выключэннем, і Панамарэнка 3 верасня 1942 г. палічыў, што ёсць нагода выдаць наступны загад усім партызанскім атрадам:

> Выяўлена, што прадстаўнікі розных органаў, якія не маюць нічога агульнага з партызанскім рухам, з'яўляюцца ў партызанскіх атрадах і спрабуюць уплываць на дзеянні таго ці іншага атрада, нават кіраваць ім, прычым яны спрабуюць ажыццявіць авантурныя аператыўна-тактычныя планы. Не выключана, што пад гэтай маркай маскіруюцца нямецкія шпіёны. Таму я загадваю: прыём такіх партызанаў у партызанскія атрады не ажыццяўляць без згоды Цэнтральнага ці франтавога штаба[31].

У процілегласць НКУС Чырвоная Армія прыносіла Цэнтральнаму штабу, відаць, не так шмат праблем наконт прыняцця на сябе камандавання партызанскім рухам, хоць яна да заснавання Цэнтральнага штаба мела права камандаваць вялікімі партызанскімі злучэннямі. Штаб Бранскага фронту (ГРУ), напрыклад, камандаваў больш чым 20 000 партызанамі, якія дзейнічалі ў рэгіёне вакол Бранска, Арла і на

[28] Даклад камісара атрада Дзям'яненкі пра заснаванне атрада «Барацьба», ад 20 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164 і наст.); пратакол размовы з капітанам Сергіным і Маркавым з брыгады «Барацьба», 21 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 148—173).

[29] Заўвага П. Панамарэнкі, напісаная ад рукі на лісце ад П. Судаплатава, 25 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 165).

[30] Ліст П. Панамарэнкі да П. Судаплатава, 25 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 283).

[31] Загад № 30 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі, 3 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 58 і наст.).



паўночна-ўсходніх тэрыторыях Украіны[32]. У Віцебскай вобласці штабу 4-й ударнай арміі былі падпарадкаваныя каля 10 000 партызанаў і яшчэ некалькі тысяч у раёне Смаленска[33].

Цэнтральны штаб на чале з Панамарэнкам намагаўся ўзаемназразумелага супрацоўніцтва з Чырвонай Арміяй. 27 чэрвеня 1942 г. Панамарэнка стварыў пры ваенных саветах асобных франтоў і армій аператыўныя групы партызанскага руху, якія складаліся з камандзіра групы, аператыўнага ўпаўнаважанага і кіроўцы. У іх была задача каардынаваць дзеянні партызанскіх атрадаў з Чырвонай Арміяй[34].

## 2. Стан партызанскага руху летам 1942 г.

У пачатку ліпеня 1942 г. Цэнтральны штаб валодаў дастатковым аб'ёмам інфармацыі, каб пачаць часовую інвентарызацыю партызанскага руху, рабіць высновы і прымаць захады ці рабіць прапановы, каб працягваць разгортваць партызанскі рух і дамагацца яго большай эфектыўнасці. 5 ліпеня 1942 г. Панамарэнка напісаў дакладную запіску на шасці старонках, якую ён прадставіў Сталіну, Малянкову і Берыі. Зместам дакладной быў агляд сітуацыі і аналіз савецкага партызанскага руху па стане на 1 ліпеня 1942 г., а таксама ўжо прынятыя ці запланаваныя захады па далейшым разгортванні партызанскага руху і актывізацыі яго дзеянняў[35]. Дакладная настолькі моцная па выказваннях, што яна прыводзіцца тут цалкам.

Да 1 ліпеня 1942 г. Цэнтральны штаб, сцвярджаў Панамарэнка, узяў на сябе камандаванне над 608 партызанскімі атрадамі з агулам 81 546 партызанамі. Акрамя таго, Цэнтральны штаб атрымаў дадзеныя яшчэ пра 1 628 існаваўшых атрадаў з прыблізна 400 000 [sic] партызанамі[36].

> З вясны 1942 г. партызанскі рух расце вельмі хутка. [...] Увесь час з'яўляюцца новыя атрады. У Беларусі, напрыклад, вялікія сялянскія масы паўцякалі ў лясы. Многія сяляне далучаюцца да партызанаў паасобку ці цэлымі сем'ямі, [...] Многія партызанскія яны прыходзяць са зброяй, нават з кулямётамі. [...] Многія партызанскія

[32] Спіс партызанскіх атрадаў, падпарадкаваных штабу Бранскага фронту (аддзел разведкі), падрыхтаваны Зорыным з 6-га аддзела 1-га ўпраўлення ГРУ, 7 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 753, л. 27).

[33] Даклад І. Стулава пра партызанскі рух у Віцебскай вобласці і на ўчастку фронту 4-й ударнай арміі на 1 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1070, л. 102—130).

[34] Загад № 2 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі, 27 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 1 і наст.).

[35] Дакладная запіска начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., 5 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 11—16).

[36] У прагледжаных аўтарам дакументах Цэнтральнага штаба няма ніякіх сведчанняў аб вялікай колькасці атрадаў і партызанаў. П. Панамарэнка відавочна перабольшваў фрагментарныя звесткі, каб надаць сваім аргументам большую пераканаўчасць. Выдаўцы зборніка дакументаў «Партизанское движение...» апублікавалі гэтую дакладную на старонках 119—121. Цікава, што ў дакуменце яны называюць лічбу не 400 000, а 40 000. Магчыма, тут справа ў абдрукоўцы.

атрады маюць рэзервы ад 200 да 300 і больш няўзброеных людзей. […] Партызанскі рух разгарнуўся ў магутную сілу, і магчымасці для далейшага разгортвання, асабліва ў Беларусі і на Украіне, — надзвычайныя[37].

У сапраўднасці, як было ўжо паказана, партызаны ў Беларусі рэкрутаваліся галоўным чынам з вайскоўцаў, што адбіліся ад сваіх часцей, збеглых ваеннапалонных і мабілізаваных. Мясцовае насельніцтва выяўляла мала энтузіязму да партызанскай барацьбы, як канстатаваў палкоўнік Нічыпаровіч, што вельмі добра ведаў умовы ва Усходняй Беларусі, у сваёй дакладной запісцы 29 кастрычніка 1942 г.: «Але яно [насельніцтва] не хоча браць у рукі зброю і актыўна змагацца»[38].

Галоўная задача Цэнтральнага штаба і рэгіянальных штабоў палягае ў тым, па словах Панамарэнкі ў дакладной, «[…] так кіраваць партызанскімі атрадамі, каб гэтым летам дэзарганізаваць варожы тыл з катастрафічнымі вынікамі для становішча нямецкіх войскаў на Усходнім фронце». Рэгіянальныя штабы атрымалі заданне даць падпарадкаваным ім партызанскім атрадам наконт гэтага распараджэнні і дырэктывы. Для гэтага трэба пашырыць і радыёсувязь, бо на 1 ліпеня 1942 г. у партызанскіх атрадах працавалі толькі 69 радыёстанцый. На найбліжэйшы час Цэнтральны штаб запланаваў пасылку ад 120 да 150 радыёстанцый з радыстамі[39].

Аналіз аператыўных тэрыторый, занятых атрадамі, паказаў, паводле слоў Панамарэнкі,

> што вельмі многія з іх дзейнічаюць у раёнах, якія размешчаныя паміж нямецкімі галоўнымі транспартнымі лініямі, менавіта на пэўнай адлегласці ад іх. Партызаны знішчаюць на кантраляванай імі тэрыторыі паліцаяў, старастаў, дробныя нямецкія падраздзяленні і аб'екты, што часта не маюць ваеннага значэння. Цяпер гэтым партызанскім атрадам даручаецца дэзарганізоўваць рух на галоўных варожых транспартных лініях, а таксама ў прылеглым наваколлі. Гэтыя тэрыторыі маюць ваенна-стратэгічнае значэнне[40].

Баявыя поспехі партызанаў, дасягнутыя на лета 1942 г., былі якімі заўгодна, толькі не ўражлівымі, асабліва дыверсіі на нямецкіх лініях забеспячэння, што мелі для Чырвонай Арміі стратэгічнае значэнне. Скаргаў на слабыя і неэфектыўныя дыверсійныя дзеянні на чыгуначных лініях было шмат і, як вынікае з нямецкіх крыніц, справядлівых. Маёр Селіванаў з Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Чырвонай Арміі ганіў 25 мая 1942 г.: «Адну з галоўных задач — спыненне забеспячэння фронту і знішчэнне камунікацыйных ліній — нашыя партызаны і дыверсійныя групы выконваюць дрэнна»[41]. Гэтаксама крытычна выказваўся і Ваенны савет Заходняга фронту ў ліпені 1942 г. пра дыверсіі на чыгунках і дарогах Беларусі[42].

[37] Дакладная запіска начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., 5 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 11 і наст.).
[38] Дакладная запіска палкоўніка У. Нічыпаровіча аб рэарганізацыі партызанскага руху ў БССР, 29 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 138).
[39] Дакладная запіска начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., 5 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 13).
[40] Тамсама.



Адна з прычын слабых дыверсій на нямецкіх транспартных лініях палягала ў тым, што партызаны рэдка мелі выбуховыя рэчывы і запалы ці міны. 2 ліпеня 1942 г. Панамарэнка паведамляў Сталіну: «Ёсць шматлікія паведамленні, што шэраг партызанскіх атрадаў мусяць абмяжоўваць ці наогул спыняць падрывы чыгуначных ліній з-за недахопу выбуховых рэчываў і запалаў»[43]. Панамарэнка выказаўся праз некалькі дзён яшчэ: «З-за недахопу выбухоўкі, запалаў і мін многія атрады не займаюцца дыверсіямі альбо робяць гэта прымітыўна, адкручваючы рэйкі»[44].

Але слабая дыверсійная дзейнасць грунтавалася і на тым, што многія атрады ўвогуле не думалі займацца дыверсіямі, ды і весці якую-небудзь сур'ёзную барацьбу таксама не меркавалі: «Яны проста пераседжвалі вайну». Панамарэнка хацеў убачыць крытыку гэтай пазіцыі ў загадзе Сталіна, які, аднак, не быў выдадзены, у наступнай фармулёўцы: «Ёсць атрады з вялікай колькасцю баяздольных людзей са зброяй, якія абсалютна нічога не робяць. Яны не праводзяць ніякіх аперацый. […] Гэта менавіта свайго роду дэзерцірства, адмова дапамагаць Чырвонай Арміі»[45].

Праз два месяцы, 30 жніўня 1942 г., Панамарэнка ў час размовы з камандзірамі партызанскіх атрадаў у Маскве выказваў крытыку:

> Ёсць партызанскія атрады, якія існуюць толькі намінальна. Яны не змагаюцца з немцамі, яны з пачатку вайны адседжваюцца, яны прымаюць упаўнаважаных [Цэнтральнага штаба альбо партыі], робяць кожны раз справаздачу, у якой напісана, што яны забілі 100 ці 200 немцаў, лічбы заўсёды маюць два нулі». Адначасова Панамарэнка дадаў: «Такіх атрадаў мала, але яны ёсць»[46].

Палкоўнік Нічыпаровіч, які з уласнага вопыту вельмі добра ведаў умовы ва Усходняй Беларусі, быў, праўда, у гэтых адносінах нашмат больш крытычны: «Толькі малая колькасць камандзіраў, дзейных, мужных і што добра ведаюць вайсковае рамяство і палітычныя справы, засяроджваюцца на варожых транспартных лініях і тым самым

[41] Даклад намесніка начальніка 1-га аддзела 2-га ўпраўлення ГРУ маёра Селіванава, 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 753, л. 22 і наст.); крытыку падобнага зместу выказала 2-е ўпраўленне ГРУ 22 красавіка 1942 г. (Тамсама. Л. 15—20).
[42] Загад № 83 208-га партызанскага атрада імя Сталіна ад 25 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 20—23).
[43] Ліст П. Панамарэнкі да І. Сталіна, 2 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 5 і наст.).
[44] Праект загада аб інтэнсіфікацыі партызанскай барацьбы, адасланы П. Панамарэнкам Сталіну 11 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 78—83).
[45] Тамсама.
[46] Пратакол нарады з камандзірамі партызанскіх атрадаў на ўчастку Бранскага фронту, 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 21).

падтрымліваюць фронт»[47]. Падобныя, як Нічыпаровіч, высновы рабіў і партыйны ўпаўнаважаны па Мінскай вобласці, які ў ліпені 1942 г. знаходзіўся ў мясцовасці вакол Віцебска:

> Партызаны замала б'юць фашыстаў. Яны амаль не выкарыстоўваюць магчымасць узбройвацца за кошт фашыстаў, атрымліваць боепрыпасы, забяспечваць сябе прадуктамі харчавання, яны жывуць за кошт мясцовых калгасаў. Камандзіры — часта прафесійныя афіцэры — шмат адпачываюць. Штабы брыгад і атрадаў мала праяўляюць ініцыятывы[48].

У афіцыйных рапартах, наадварот, баявыя дасягненні партызанаў выглядаюць даволі ўражлівымі. Паводле дадзеных на 11 лютага 1943 г., партызаны ў Беларусі з пачатку вайны да 1 ліпеня 1942 г. нібыта знішчылі аж 57 440 нямецкіх салдат і 2 079 нямецкіх афіцэраў [sic], а таксама 2 007 паліцаяў і здраднікаў. Акрамя таго, яны вывелі са строю, сярод іншага, 315 танкаў і браневікоў, 170 самалётаў і 302 вайсковыя эшалоны[49]. Падобныя лічбы Панамарэнка дакладваў ужо ў жніўні 1942 г. Адпаведна ім, партызаны ў Беларусі на 1 жніўня 1942 г. знішчылі агулам 59 976 нямецкіх салдат, 2 877 афіцэраў, 8 генералаў, а таксама 1 260 агентаў гестапа, шпіёнаў і здраднікаў Радзімы[50]. Трэба зыходзіць з таго, што сапраўдная лічба забітых паліцаяў і «здраднікаў» была значна большай, а колькасць забітых нямецкіх салдат і афіцэраў — значна меншай, магчыма, нават складала каля дзясятай долі прыведзеных лічбаў.

Яшчэ крытычней для Чырвонай Арміі палягалі справы з ваеннай разведкай. Сталін аб'явіў 30 мая 1942 г. у рашэнні ДКА аб стварэнні Цэнтральнага штаба «інфармаванне падраздзяленняў Чырвонай Арміі пра дыслакацыю, колькасць і перамяшчэнне часцей праціўніка» галоўнымі задачамі партызанскага руху[51]. У прыгаданай ужо размове з партызанскімі камандзірамі 30 жніўня 1942 г. Панамарэнка, аднак, быў вымушаны прызнацца: «Чырвонай Арміі патрэбна разведвальная інфармацыя. Яе партызаны, як правіла, не даюць»[52]. Гэта не здзіўляе, бо партызанскія атрады мелі — калі яны іх мелі ўвогуле — у гарадах і на важных транспартных вузлах вельмі слабыя разведвальныя струк-

[47] Дакладная запіска палкоўніка У. Нічыпаровіча аб рэарганізацыі партызанскага руху ў БССР, 29 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 137).

[48] Ліст да П. Панамарэнкі ад 20 ліпеня 1942 г., копія, без подпісу (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 154, арк. 195—196).

[49] Інфармацыя (табліца) пра баявыя вынікі беларускіх партызанаў за перыяд з першых наяўных дадзеных да 10 сакавіка 1943 г., паводле дакументаў аператыўнага аддзела ЦШПР (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 77 і наст.).

[50] Кароткае паведамленне П. Панамарэнкі ад 5 жніўня 1942 г. пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў да 1 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 163, л. 6).

[51] Пастанова ДКА № 1837сс ад 30 мая 1942 г. аб утварэнні ЦШПР і пытаннях партызанскага руху, падпісаная Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 36, л. 235 і наст.).

[52] Пратакол нарады з камандзірамі партызанскіх атрадаў на Бранскім фронце, 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 24 об.); такое ж распараджэнне П. Панамарэнкі ад 29 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 28).



туры. Іх трэба было спачатку стварыць[53]. Акрамя таго, толькі нязначная колькасць партызанскіх атрадаў мела радыёстанцыі, каб перадаваць непасрэдна Чырвонай Арміі сабраную інфармацыю, напрыклад, пра перамяшчэнні праціўніка, якая мае вельмі кароткі тэрмін жыцця.

Яшчэ адзін выяўлены недахоп у разгортванні партызанскага руху палягаў у тэндэнцыі стварэння вялікіх партызанскіх злучэнняў. ЦШПР, паводле слоў Панамарэнкі ў дакладной запісцы ад 7 ліпеня 1942 г.,

> скончыў цяпер няправільную практыку ствараць вялікія партызанскія злучэнні, такія, як палкі, брыгады і нават дывізіі, практыку, даволі пашыраную. Вялікія партызанскія злучэнні, што часам налічваюць некалькі тысяч партызанаў, у якіх няма сродкаў сувязі, няма камунікацыйных структур ды камандзіраў, падрыхтаваных кіраваць такімі вялікімі злучэннямі, — гэта проста натоўпы. У атрадаў, сабраных у гэтыя злучэнні, адсутнічае рухавасць і здольнасць манеўру, яны прывязаныя да тэрыторыі дзеянняў. Яны лёгка выяўляюцца рэгулярнымі часцямі праціўніка і таму падступныя. У такіх зборышчах людзей здрада непазбежная. Гэтыя злучэнні звычайна кантралююць вялікую тэрыторыю, дзе яны абвяшчаюць Савецкую ўладу. Пры гэтым яны абмяжоўваюцца абаронай сваёй тэрыторыі і рэгуляваннем унутраных спраў. Яшчэ адна шкода вынікае з таго, што на гэтыя тэрыторыі пачынаюць сцякацца меншыя партызанскія атрады з іншых стратэгічна важных раёнаў. Гэтым самым яны спыняюць сваю барацьбу па дэзарганізацыі варожага тылу. [...] Цяпер наяўныя вялікія партызанскія злучэнні раздрабняюцца і атрымліваюць заданне дэзарганізаваць варожы тыл. Інтэграваны рухомы атрад ад 50 да 100 партызанаў дзейнічае, як паказвае вопыт, найэфектыўней[54].

Акрамя таго, Цэнтральны штаб, паводле слоў Панамарэнкі ў дакладной запісцы ад 5 ліпеня 1942 г., закончыў пасылку атрадаў, сфармаваных у савецкім тыле, у акупаваныя раёны, за выключэннем асаблівых выпадкаў, бо:

> Не мае сэнсу адсылаць баяздольныя элементы ў варожы тыл у той час, калі там у гэты час знаходзяцца сотні тысяч чалавек, што гатовыя ваяваць і якіх трэба толькі арганізаваць і кіраваць імі. Неабходна пасылаць арганізатараў партызанскага руху малымі групамі з радыёстанцыямі. [...] Вопыт паказвае, што адна такая малая група, дайшоўшы да свайго раёна дзеянняў, хутка ператвараецца ў партызанскі атрад[55].

[53] Загад начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 14 ліпеня 1942 г. аб арганізацыі і стане агентурнай разведкі (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 8—11); загад № 189 народнага камісара абароны Сталіна ад 5 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 12—17). У загадзе ад 5 верасня 1942 г. Сталін канстатуе, што партызаны не праяўляюць актыўнасці ў гарадах (л. 15).

[54] Дакладная запіска начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., 5 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 14).

[55] Тамсама. Л. 15.

Яшчэ ў красавіку і маі 1942 г. Цэнтральны камітэт КП(б) Б, Аператыўна-вучэбны цэнтр, органы НКУС і Чырвонай Арміі меркавалі сфармаваць у горадзе Мурам, каля 300 км на ўсход ад Масквы, сем партызанскіх брыгад. У іх склад павінна было ўваходзіць 50—60 атрадаў з 2 500 партызанамі, якія мусілі распачаць дзеянні ва ўсходніх абласцях Беларусі. Партызаны для гэтых брыгад рэкрутаваліся па прызыве ў часцях Маскоўскай вайсковай акругі. Да 20 мая было ўжо 12 атрадаў па 50—70 падрыхтаваных партызанаў, якія чакалі баявога загада. Байцы яшчэ дзесяці сфармаваных ужо атрадаў праходзілі падрыхтоўку[56]. У чэрвені 1942 г. Цэнтральны штаб накіраваў у Беларусь 12 сфармаваных атрадаў. Паводле аднаго даклада за сакавік 1943 г., яны па дарозе ў свае раёны дзейнасці ўстанавілі сувязь з 60 атрадамі са звыш 6 000 партызанамі[57].

Сапраўды, мела мала сэнсу ствараць у савецкім тыле партызанскія атрады з чырвонаармейцаў, каб выкарыстоўваць іх на занятых немцамі тэрыторыях, у той час калі там знаходзіліся тысячы байцоў, якія адбіліся ад сваіх часцей, і збеглых ваеннапалонных, што часткова «бадзяліся» ў лясах. Сюды варта дадаць немабілізаваных ці ваеннаабавязаных дэзерціраў, колькасць якіх толькі ў Беларусі налічвалася сотнямі тысяч[58]. Палкоўнік Нічыпаровіч прапаноўваў 29 кастрычніка 1942 г. у адной дакладной запісцы Варашылаву:

> У партызанскіх атрадах знаходзяцца прафесійныя камандзіры, што служаць шараговымі партызанамі. Было б разумней выкарыстаць большасць з іх на фронце. Замест іх можна было б мабілізаваць ваеннаабавязаных мясцовых жыхароў, якіх шмат[59].

Атрыманы раней вопыт паказвае, што ў Беларусі мясцовых жыхароў рэкрутаваць было адносна лёгка. Нямецкія акупацыйныя сілы былі на акупаваных тэрыторыях такімі слабымі, што ў раёне Віцебска не маглі

[56] Ліст П. З. Калініна да П. К. Панамарэнкі, 18 красавіка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 62, л. 31 і наст. (адваротная нумарацыя)); ліст П. З. Калініна да П. К. Панамарэнкі, 15 мая 1942 г. (Тамсама. Л. 83 і наст.); ліст У. Н. Маліна да П. К. Панамарэнкі, 21 мая 1942 г. (Тамсама. Л. 97).

[57] Справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра дзейнасць беларускіх партызанаў у перыяд з 1 чэрвеня 1942 г. да 7 сакавіка 1943 г., 15 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 33); ліст П. Панамарэнкі начальніку аператыўнага аддзела ЦШПР, 20 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 1).

[58] Практыку адпраўкі атрадаў, сфармаваных у савецкім тыле, на акупаваныя тэрыторыі П. Панамарэнка пасля вайны назваў перасоўваннем сціплых ваенных рэзерваў з савецкага ў варожы тыл, у той час як на акупаваных тэрыторыях знаходзіліся масы людзей, якія ўяўлялі сабой надзвычайную базу для разгортвання партызанскага руху. Гэта выкладзена ў нататках П. Панамарэнкі, якія ён зрабіў пры напісанні сваёй кнігі пра партызанскі рух, але потым не апублікаваў. Гл.: РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 69, л. 258.

[59] Дакладная запіска палкоўніка У. Нічыпаровіча аб рэарганізацыі партызанскага руху ў БССР, 29 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 138).



перашкодзіць шырокамаштабнай мабілізацыі ў партызанскія атрады і нават у Чырвоную Армію.

У дакладной запісцы ад 7 ліпеня 1942 г. Панамарэнка закрануў таксама і ўзбраенне партызанаў. Ён падкрэсліваў неабходнасць забяспечваць партызанскія атрады выбухоўкай і запаламі, бо партызанам было цяжка здабываць іх у варожым тыле. «А выбухоўка — гэта асноўная зброя дыверсійнай дзейнасці», — пісаў Панамарэнка. Забяспечваць жа сябе зброяй, амуніцыяй і прадуктамі харчавання партызаны павінны былі, забраўшы іх у ворага, таму што, па словах Панамарэнкі: «Забеспячэнне вельмі абцяжарана, бо Цэнтральны штаб не мае самалётаў, нават малых. Цэнтральны штаб павінен тэрмінова атрымаць некалькі транспартных самалётаў "Дуглас" і самалётаў R-5[60] [...] у распараджэнне»[61].

## 3. Інтэнсіфікацыя партызанскага руху і яго падпарадкаванне Камуністычнай партыі

Праведзеная летам 1942 г. інвентарызацыя паказала шматлікія непаладкі, недахопы і памылкі ў ужо існуючым партызанскім руху. Гэта і не дзіўна, бо ён датуль разгортваўся без якой-небудзь адзінай канцэпцыі, а больш спантанна. Гэта было «буйнае» разгортванне, на якое савецкія органы амаль ніяк не ўплывалі. З-за наяўнасці шматлікіх чырвонаармейцаў, што адбіліся ад сваіх часцей, ды збеглых ваеннапалонных з ваеннай падрыхтоўкай і летам 1941 г. яшчэ немабілізаваных ці ваеннаабавязаных дэзерціраў на акупаваных тэрыторыях, у Цэнтральным штабе, аднак, выявілі, што далейшыя магчымасці развіцця партызанскага руху — надзвычайныя. Утварыліся ўжо незлічоныя атрады і групы, і з кожным днём з'яўляліся новыя. З другога боку, нямецкія акупанты мелі замала сіл, каб паспяхова змагацца з партызанамі.

Цэнтральны штаб на чале з Панамарэнкам намерыўся наладзіць сувязь з наяўнымі атрадамі і ўзяць камандаванне імі на сябе, наяўныя падраздзяленні па неабходнасці рэарганізаваць і ўтварыць новыя, навесці ў іх дысцыпліну і такім чынам сфармаваць з іх ударную ўзброеную сілу ў варожым тыле. Справа была ў тым, каб у нямецкім тыле стварыць другі фронт, які б уяўляў сабой сур'ёзную пагрозу для нямецкіх акупантаў і перш за ўсё для нямецкага фронту.

ЦШПР і рэгіянальныя штабы рабілі крокі, каб узяць на ўлік наяўныя атрады і наладзіць з імі сувязь. Яны разаслалі на акупаваныя тэрыторыі ўпаўнаважаных і арганізацыйныя групы з падрыхтаванымі партызанскімі кадрамі. Арганізацыйныя групы налічвалі па 12—15 чалавек і складаліся адпаведна з камандзіра, камісара, спецыяліста падрыўной справы і радыста з радыёстанцыяй, а таксама з шараговых партызанаў. Гэтыя групы мелі заданне наладжваць сувязь

[60] R-5 — невялікі самалёт, біплан, не блытаць з У-2.

[61] Дакладная запіска начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., 5 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 16).

з наяўнымі партызанскімі падраздзяленнямі, падтрымліваць іх ці браць камандаванне на сябе ды адначасова ствараць партызанскія атрады на месцы. У жніўні і верасні 1942 г. Цэнтральны штаб разам з Цэнтральным камітэтам КП(б)Б паслаў у акупаваную Беларусь каля 30 арганізацыйных груп. Усяго з 1 чэрвеня 1942 г. да 7 сакавіка 1943 г. у Беларусь быў пасланы 21 атрад з 1 133 партызанамі, а таксама 115 арганізацыйных і дыверсійных груп з 2 033 байцамі[62].

Вялікая колькасць пасланых арганізацыйных груп гаворыць, аднак, мала пра фактычныя поспехі, якіх дамагліся ЦШПР і рэгіянальныя штабы пры спробе зноў арганізаваць партызанскі рух. Задача выявілася вельмі цяжкой. Хоць ЦШПР і рэгіянальным штабам удалося наладзіць у чэрвені і ліпені 1942 г. сувязь з большасцю партызанскіх атрадаў, што дзейнічалі ў паўночных і ўсходніх раёнах Беларусі (Віцебск, Полацк, Орша, Магілёў, Бабруйск, Гомель), наладжванне кантактаў з атрадамі, якія дзейнічалі ў цэнтральных, паўднёвых і заходніх раёнах Беларусі, аказалася, аднак, больш цяжкім.

На поўдзень і ўсход ад Мінска вясной 1942 г. сфармаваліся шматлікія партызанскія групы і атрады, што яшчэ ў жніўні 1942 г. не мелі сувязі з ЦШПР ці адказным у той час Заходнім штабам партызанскага руху. 20 жніўня 1942 г. Панамарэнка перадаў радыёграму Мінскага падпольнага камітэта КП(б)Б Сталіну, у якой таварыша Сталіна віталі «4 000 партызанаў» Мінскай і Палескай абласцей. Яны дакладвалі Сталіну, што на той час яны, сярод іншага, знішчылі больш за 3 500 «гітлераўцаў» і ўстанавілі ў больш чым 300 населеных пунктах савецкую ўладу. У сваім суправаджальным лісце Панамарэнка сцвярджаў, што Цэнтральны штаб наладзіў рэгулярную сувязь з партызанамі і ўзначальвае яе[63]. Гэта, праўда, быў адзін з тых уяўных поспехаў, якія мелі мала чаго агульнага з рэальнасцю.

25 жніўня 1942 г. Судаплатаў перадаў Панамарэнку наступнае паведамленне з наваколля Мінска, што паслаў згаданы ўжо Градаў: «Лясы занятыя партызанскімі атрадамі і групамі, якімі ніхто не кіруе. Калі ласка, шліце кіраўнікоў»[64]. Пасля гэтага Панамарэнка запрасіў у Судаплатава больш падрабязную інфармацыю, што яму неўзабаве даслала 4-е ўпраўленне НКУС. Паводле яе, гаворка ішла пра вольную партызанскую групоўку «Мясцовыя», у склад якой уваходзілі 15 атрадаў з 1 914 партызанамі і якая дзейнічала ў мясцовасці вакол Мінска[65].

Улетку 1942 г. атрад «Арол» праходзіў праз Механскі раён (каля 80 км на ўсход ад Віцебска) у свой раён дзеяння, у Мінскую вобласць і на тэрыторыю вакол Маладзечна і Вілейкі, на паўночны захад ад

[62] Справаздача пра дзейнасць беларускіх партызанаў у перыяд з 1 чэрвеня 1942 г. да 7 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 33—37).
[63] П. Панамарэнка да Сталіна, 20 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 46 і наст.).
[64] П. Судаплатаў да П. Панамарэнкі, 25 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 165).
[65] П. Панамарэнка да П. Судаплатава, 5 верасня 1942 г. (Тамсама. Л. 167); Федзічкін (4-е ўпраўленне НКУС) да П. Панамарэнкі, 18 верасня 1942 г., і дадатак: Спіс атрадаў групы «Местные» (Тамсама. Л. 168 і наст.).



Мінска. У атрада было заданне разведаць становішча на гэтых тэрыторыях і наладзіць сувязь з дзейнымі там атрадамі. У заключнай справаздачы ад 15 кастрычніка 1942 г. камандзір атрада «Арол» Руднеў канстатаваў:

> Партызанскія атрады дзейнічаюць [там] паасобку і неарганізавана, за выключэннем брыгад Марчанкі, Мешчаракова, Караткова і Мельнікава. Дзейнічаючы неарганізавана і ізалявана, яны не знішчаюць нямецкія гарнізоны, яны іх нават не трывожаць. Яны часцей за ўсё проста адседжваюцца. На нашую думку, неабходна пасацаць туды чалавека, які аб'яднае і ўзначаліць гэтыя атрады, і такім чынам яны будуць граміць у нямецкім тыле ўсе нямецкія гарнізоны[66].

Арганізацыйны хаос у рэгіёне вакол Мінска меўся яшчэ доўга, нягледзячы на той факт, што партыя з 20 жніўня да 5 верасня 1942 г. накіравала ў Мінскую вобласць 26 партызанскіх груп з 461 чалавека[67]. Толькі восенню 1942 г. і зімой 1942/43 гг. пачалі дзейнічаць арганізацыйныя мерапрыемствы ЦШПР і ўтворанага ў верасні 1942 г. Беларускага штаба. У пачатку кастрычніка 1942 г. Цэнтральны штаб распарадзіўся стварыць аператыўныя цэнтры партызанскага руху, якім падпарадкоўваліся б усе партызанскія атрады, дыверсійна-разведвальныя групы і тыя, што дзейнічалі на аператыўнай тэрыторыі адпаведнага цэнтра. Аператыўныя цэнтры ў сваю чаргу падпарадкоўваліся адпаведным рэгіянальным штабам[68].

Цэнтры потым ператварыліся ў штабы партызанскіх злучэнняў адпаведных абласцей. Так быў утвораны штаб партызанскага злучэння ў Мінскай вобласці пад камандаваннем Мачульскага. Затым штаб аб'яднаў меншыя атрады ў брыгады і вызначыў ім тэрыторыі дзеяння. Каля 3 000 партызанаў, якія дзейнічалі ў Мінскай вобласці, штаб падпарадкаваў партызанскаму злучэнню Палескай вобласці, а 500 партызанаў ён адкамандзіраваў у Пінскую вобласць[69].

Працэс утварэння кіраўнічых цэнтраў на ўзроўні абласцей праходзіў, аднак, не гладка. Напрыклад, камандзір брыгады «Стары» Пыжыкаў адмаўляўся выконваць распараджэнні Цэнтральнага штаба. Ён заканфліктаваў з мясцовымі падпольнымі партыйнымі органамі і Беларускім штабам партызанскага руху, якія ставілі сабе за мэту аб'яднаць усе партызанскія атрады ў партызанскае злучэнне Мінскай вобласці і камандаваць ім цэнтралізавана. Пыжыкаў нібыта заявіў: «Яны

[66] Данясенне камандзіра атрада «Арол» Руднева аб баявых дзеяннях у Мінскай вобласці і становішчы ў заходняй частцы БССР, 15 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 193 і наст.).
[67] Справаздача Клімава пра дзейнасць Мінскага абкама ад 15 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1081, л. 12).
[68] Пастанова аб аператыўных Цэнтрах партызанскага руху ад 3 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 81, л. 100 і наст.).
[69] Справаздача Мачульскага пра заснаванне, партыйнае кіраўніцтва і баявую дзейнасць партызанскага злучэння Мінскай вобласці, 13 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 185, арк. 20—40).

[ЦК, партыйныя дзеячы] прадалі Беларусь немцам, а цяпер хочуць ка-
мандаваць намі»[70]. Пыжыкаў бышцам падкрэсліў, што партызанскі рух
абавязаны ініцыятыве камандзіраў Чырвонай Арміі, а не партыі[71].

У Пінскай вобласці летам 1942 г. было яшчэ мала партызанскіх
груп, і ніводная з іх не мела сувязі з савецкім тылам. У жніўні 1942 г.
Цэнтральны штаб накіраваў Аляксея Кляшчова з арганізацыйнай гру-
пай з пяці чалавек у Пінскую вобласць. Група саскочыла з парашутамі
на паўднёвы захад ад Мінска і наладзіла сувязь з партызанскім атра-
дам пад камандаваннем Каржа, які дзейнічаў у Мінскай вобласці. Ра-
зам яны прайшлі на тэрыторыю дзеянняў у Пінскай вобласці і пачалі
арганізоўваць там партызанскі рух. У першую чаргу яны размеркавалі
адсталых ад сваіх часцей і адпушчаных ды збеглых ваеннапалонных
чырвонаармейцаў па партызанскіх атрадах, менавіта па прынцыпе
«выконвай, што сказана». Так званыя «прымакі» да таго часу жылі
і працавалі ў вёсках. У кастрычніку 1942 г. Кляшчоў утварыў штаб
Пінскага партызанскага злучэння. У студзені 1943 г. Пінскае парты-
занскае злучэнне налічвала 11 атрадаў з агулам 1 280 партызанамі[72].

Партызанскаму атраду пад камандаваннем маёра Піліпа Капусты, які
з'явіўся ў маі 1942 г. у рэгіёне вакол Слуцка і Капыля на поўдзень і на
паўднёвы захад ад Мінска і што вырас амаль да 3 000 чалавек, толькі ў
канцы восені 1942 г. удалося наладзіць сувязь з ЦШПР. Адным з першых
дзеянняў Панамарэнкі пасля наладжвання сувязі быў загад падзяліць
злучэнне на меншыя атрады. У снежні 1942 г. Капуста падзяліў сваё злу-
чэнне на тры брыгады па 1 050, 1 000 і 900 партызанаў, якім былі адведзе-
ныя тэрыторыі дзеянняў на поўдзень і паўднёвы захад ад Мінска[73].

Арганізацыйны прарыў адбыўся толькі зімой 1942/43 гг. і вясной
1943 г. Утвораны ў верасні 1942 г. Беларускі штаб партызанскага руху
ажыццявіў цэлы шэраг арганізацыйных захадаў, прычым тэрыта-
рыяльна прытрымліваючыся адміністрацыйных структур з часоў да
22 чэрвеня 1941 г. Так, у кастрычніку 1942 г. штаб накідаў план раз-
гортвання партызанскага руху на зіму 1942/43 гг., які быў ухвалены
Панамарэнкам і затым пачаў ажыццяўляцца. План прадугледжваў
правесці ў перыяд з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г. поўную перада-
чу кіраўніцтва партызанскім рухам партыі[74].

---

[70] Даклад упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і БШПР Радзюка пра дзейнасць былога
камандзіра брыгады «Стары» Пыжыкава, 13 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а,
спр. 185, арк. 2—6).

[71] Тамсама.

[72] Стэнаграма размовы з Аляксеем Кляшчовым ад 14 лістапада 1943 г. (РГАСПИ.
Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 125—152); даклад аб стане і разгортванні партызанскага руху
ў Беларусі на 1 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 22). Кляшчоў,
камандзір Пінскага злучэння, сцвярджаў у размове 14 лістапада 1943 г., што ягонае
злучэнне ў снежні 1942 г. складалася з 10 атрадаў з 3 000 партызанамі.

[73] Даклад маёра Капусты П. Панамарэнку ад 7 снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1,
д. 164, л. 265 і наст.).

[74] План разгортвання партызанскага руху ў БССР на зіму 1942/43 гг., [кастрычнік
1942 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 38, арк. 8—20); П. Панамарэнка Калініну і інш.,
24 кастрычніка 1942 г. (Тамсама. Арк. 2 і наст.).



Беларускі штаб адкамандзіраваў вядучых партыйных дзеячаў
разам з арганізацыйнымі групамі ў Магілёўскую, Брэсцкую,
Баранавіцкую, Палескую, Гомельскую і Мінскую вобласці. Ім было
дадзена даручэнне пашырыць падпольныя структуры партыі ў адпа-
ведных абласцях, узяць на сябе кіраўніцтва наяўнымі партызанскімі
атрадамі і разгортваць партызанскі рух далей. Беларускі штаб для
кожнай вобласці стварыў партыйны кіраўнічы цэнтр партызанска-
га руху, які павінен быў выконваць функцыі партызанскага штаба
ў адпаведнай вобласці. Кіраўнік партыйнага падполля адначасова
з'яўляўся начальнікам партызанскага руху вобласці. Акрамя таго,
былі ўтвораныя раённыя ці міжраённыя цэнтры партызанскага руху,
якія павінны былі кіраваць партызанскім рухам у адпаведным раёне
ці ў некалькіх суседніх раёнах. У чэрвені 1943 г. Калінін, начальнік
Беларускага штаба, дакладваў пра ажыццяўленне гэтых планаў[75]. У
сапраўднасці гэтыя цэнтры ў Беластоцкай і Брэсцкай абласцях яшчэ
не функцыянавалі[76].

Такім чынам, партыя ўзяла на сябе кантроль і камандаванне
над партызанскім рухам у Беларусі. Яго татальнае падначаленне
Камуністычнай партыі падкрэслівае інстытут паліткамісараў.

## 4. Партызанскія школы

Паралельна з намаганнямі наладзіць сувязь з наяўнымі парты-
занскімі атрадамі і падпарадкаваць іх ЦШПР ці рэгіянальным штабам
Панамарэнка актыўна займаўся пашырэннем наяўных партызанскіх
школ і заснаваннем новых. У гэтых установах павінны былі тэрмі-
нова рыхтавацца неабходныя партызанскія кадры, камандзіры,
спецыялісты падрыўной справы і разведкі, а таксама радысты.

Самай галоўнай навучальнай установай была Цэнтральная шко-
ла па падрыхтоўцы партызанскіх кадраў, заснаваная ў ліпені 1942 г.
на базе былога Аператыўна-вучэбнага цэнтра. Школа рыхтавала
камандзіраў і начальнікаў штабоў, а таксама спецыялістаў-падрыўнікоў
і інструктараў па падрыўной справе, якія павінны былі на месцы ў
партызанскіх атрадах вучыць падрыўнікоў. У 1942 г. тэрмін навучан-
ня складаў адзін месяц[77]. З 15 чэрвеня 1942 г. да 1 студзеня 1944 г. шко-
лу скончылі 447 камандзіраў і начальнікаў штабоў, 632 інструктары
падрыўной справы і 1 528 падрыўнікоў. З іх 73 камандзіры і начальнікі

---

[75] Вынікі баявых дзеянняў атрадаў у Беларусі і выкананне плана БШПР па разгорт-
ванні партызанскага руху ў БССР у перыяд з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г.
(НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 38, арк. 22—37).

[76] Справаздача П. Калініна пра партызанскія дзеянні зімой і вясной 1943 г. у Брэсц-
кай вобласці, 15 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 54 і наст.); справаздача
П. Калініна пра партызанскія дзеянні зімой і вясной 1943 г. у Беластоцкай вобласці,
15 мая 1943 г. (Тамсама. Л. 56 і наст.).

[77] Распараджэнне начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб заснаванні Цэнтральнай
спецшколы № 2 пры ЦШПР ад 29 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 28
і наст.).

штабоў, 135 інструктараў і 666 падрыўнікоў былі накіраваныя ў Беларусь[78].

Вялікае значэнне мела школа радыстаў, Цэнтральная спецшкола № 4, якая рыхтавала радыстаў для партызанскага руху. Яна была заснавана ў студзені 1942 г. Тэрмін навучання складаў спачатку (1942 г.) 2,5 месяцы, а пазней 4 месяцы. Для латышоў, эстонцаў і літоўцаў падрыхтоўка радыстаў працягвалася 6 месяцаў, бо яны не ўмелі добра размаўляць па-руску. Школа радыстаў са жніўня 1942 г. месцілася ў Маскве, а да гэтага яна была размешчана ў прыгарадзе Масквы. Яна існавала да красавіка 1944 г. і падрыхтавала агулам 1 224 радысты (754 мужчыны і 470 жанчын). У 1942 г. гэтая лічба склала 390 радыстаў; у 1943 г. — 567 і ў 1944 г. (да красавіка) — 267 радыстаў. З 1 224 падрыхтаваных радыстаў 399, трэцяя частка, была задзейнічана ў Беларусі ці Беларускім штабе партызанскага руху; 90 радыстаў у 1942 г., 219 у 1943 г. і 90 у 1944 г. (да красавіка)[79].

Акрамя гэтых дзвюх цэнтральных школ, з лета 1942 г. былі заснаваныя шматлікія іншыя партызанскія школы і вучэбныя пункты[80]. У лістападзе 1942 г. пры Цэнтральным штабе і рэгіянальных штабах існавала агулам 16 партызанскіх школ і падрыхтоўчых пунктаў. Штат супрацоўнікаў гэтых школ і падрыхтоўчых пунктаў налічваў у лістападзе 1942 г. 1 311 чалавек, а колькасць курсантаў складала 4 750 чалавек[81]. Паводле дадзеных аддзела кадраў ЦШПР, з 15 чэрвеня 1942 г. да лютага 1944 г. у партызанскіх школах было падрыхтавана агулам 15 546 чалавек партызанскіх кадраў, 7 656 з іх былі задзейнічаныя ў Беларусі[82].

## 5. Дыверсіі на чыгуначных лініях і дарогах як галоўная задача партызанаў

Заснаванне ЦШПР дазволіла стварыць канцэпцыю адзінай стратэгіі партызанскай вайны. Гэта прывяло да змены метадаў вя-

[78] Спіс курсантаў Цэнтральнай школы па падрыхтоўцы партызанскіх кадраў на перыяд з 15 чэрвеня 1942 г. да 1 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 401); Дыяграма баявога ўдзелу курсантаў Цэнтральнай школы па падрыхтоўцы партызанскіх кадраў на перыяд з 15 чэрвеня 1942 г. да 1 студзеня 1944 г. (Тамсама. Л. 403).
[79] Распараджэнне начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб спецыяльнай школе радыстаў пры ЦШПР ад 29 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 29 і наст.); справаздача пра дзейнасць школы радыстаў партызанскага руху за перыяд са студзеня 1942 г. да красавіка 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 247, л. 2 і наст., 35, 39).
[80] Загад № 143 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стварэнні партызанскіх школ ад 15 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 3—6).
[81] Асабовы склад цэнтральных і франтавых школ і вучэбных пунктаў, лістапад 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 202).
[82] Справаздача аддзела кадраў ЦШПР ад 28 лютага 1944 г. за перыяд з 15 чэрвеня 1942 г. да 15 лютага 1944 г., надрукавана ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 468. Агляд партызанскіх і дыверсійных школ у: Партизанское движение. По опыту Великой Отечественной войны... С. 78 і наст.



дзення барацьбы партызанамі. У першую чаргу Панамарэнка выдаў агульныя загады і распараджэнні, у якіх абавязваў партызанскія атрады весці рашучую барацьбу супраць нямецкіх акупантаў. Так, 1 жніўня 1942 г. ён заклікаў усе партызанскія атрады актывізаваць барацьбу і разбураць варожыя лініі сувязі і транспартныя сродкі.

> Адразу ж пачаць рашучыя напады на варожыя камунікацыйныя лініі. [...] Каб энергічна выступіць супраць ворага, неабходна неадкладна скончыць з разгільдзяйствам і бяздзейнасцю, якія яшчэ можна сустрэць у некаторых атрадах[83].

Праз тыдзень, 8 жніўня, Панамарэнка абавязаў рэгіянальныя штабы рэгулярна даваць актуальныя асабістыя справаздачы пра наяўныя партызанскія атрады і два разы ў месяц падрабязна паведамляць у Цэнтральны штаб пра баявыя аперацыі і іх вынікі. А партызанскія атрады і дыверсійныя групы павінны былі да 5-га чысла кожнага месяца падаваць рапарт пра баявыя вынікі[84].

Але Панамарэнка для актывізацыі партызанскай барацьбы не абмяжоўваўся агульнымі загадамі і распараджэннямі, а патрабаваў распрацоўваць канкрэтныя комплексныя планы, каб потым дамагацца іх ажыццяўлення на практыцы. Сюды належаў у першую чаргу буйнамаштабны план вывядзення са строю нямецкіх ліній забеспячэння. Аўтарам гэтага плана быў яшчэ палкоўнік Ілья Старынаў, першы кіраўнік Аператыўна-вучэбнага цэнтра і вопытны дыверсант[85].

15 мая 1942 г. Старынаў сустрэўся з Георгіем Дзімітравым, старшынёй Камінтэрна. Той зафіксаваў гэтую сустрэчу ў сваім дзённіку:

> [Старынаў] распрацаваў план радыкальнага разбурэння чыгуначных ліній і дарог сіламі брыгады з 25 000 чалавек, якая складаецца з 5 000 груп па 5 чалавек. Ён мяркуе, што ўся партызанская дзейнасць у тыле ворага павінна бесканцэнтравацца на гэтым. Даўно настойвае на рашэнні, але дагэтуль беспаспяхова (ён пісаў Берыі, Маленкову і інш., але адказаў *не атрымаў*)[86].

Праз некалькі тыдняў, 8 ліпеня, Дзімітраў прыняў Рэгіну Каплан-Кобрынскую, намесніцу Старынава па палітычнай частцы, які на гэты час камандаваў сапёрнымі часцямі на Калінінскім фронце. Дзімітраў потым запісаў у сваім дзённіку:

> Яна прыйшла па даручэнні *Старынава*, каб дамагчыся хуткага рашэння па стварэнні *спецыяльнага падраздзялення* пад камандаваннем самога Стары-

[83] Загад № 18 ад 1 жніўня 1942 г. начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі (РГАСПИ. Ф. 69, оп 1, д 4, л. 31 і наст.).
[84] Загад № 19 ад 8 жніўня 1942 г. нчальніка ЦШПР П. Панамарэнкі (Тамсама. Л. 32).
[85] Параўн.: Старинов И. Записки диверсанта... С. 305—316.
[86] Dimitroff G. Tagebücher 1933—1943... S. 516 (запіс ад 15 мая 1942 г.); Старинов И. Записки диверсанта... С. 311 і наст. Вылучана ў арыгінале.

нава для дыверсійнай дзейнасці ў тыле ворага. Патэлефанаваў дзеля гэтага Панамарэнку (ЦК). Ён паабяцаў рушыць справу наперад[87].

Сапраўды, аператыўны аддзел Цэнтральнага штаба ў наступныя тыдні распрацаваў падрабязны план для масіўнага ўдару па варожых камунікацыйных лініях, які быў прадстаўлены Панамарэнку 27 ліпеня 1942 г. і быў ім ухвалены. План прадугледжваў шырокамаштабныя дыверсіі не толькі на чыгуначных лініях у варожых прыфрантавых раёнах, як гэта было дагэтуль, але і ў заходніх раёнах СССР у межах да 22 чэрвеня 1941 г. Асноўны пункт цяжару прызначаўся на беларускую і ўкраінскую тэрыторыі, сюды ж дадаваліся балтыйскія краіны і Ленінградская вобласць. Усяго планавалася задзейнічаць 101 групу з 1 203 дыверсантамі, у тым ліку 33 групы з 480 дыверсантамі ў Беларусі. Кіраўніцтва павінна было падпарадкоўвацца Цэнтральнаму штабу і адпаведным рэгіянальным штабам[88].

Адначасова Цэнтральны штаб абʼявіў дыверсіі на чыгуначных лініях ворага галоўнай задачай партызанскага руху[89]. 3 жніўня 1942 г. Панамарэнка загадаў усім партызанскім атрадам неадкладна пачаць здзяйсняць на сваіх аператыўных тэрыторыях падрывы на чыгуначных лініях і дарогах. За пуск пад адхон мінімум 20 эшалонаў з ваеннымі матэрыяламі ён абяцаў жаданае званне «Герой Савецкага Саюза»[90].

2-е ўпраўленне ГРУ Чырвонай Арміі пацвердзіла мэтазгоднасць гэтай стратэгіі і таксама абʼявіла «Рэйкавую вайну» галоўнай задачай партызанаў[91]. Акрамя таго, нямецкія рапарты трапілі ў савецкія рукі, у іх ішла гаворка пра шкоду ад дыверсійных акцый для нямецкіх ліній забеспячэння і іх значэнне для нямецкага фронту, якія тым самым таксама пацвярджалі значнасць новай тактыкі[92].

План Цэнтральнага штаба ад 27 ліпеня 1942 г. хоць і ўлічваў гэтую новую стратэгію, але ён не мог быць ажыццёўлены. Адныя транспартныя цяжкасці не дазвалялі гэтага. Так, план прадугледжваў, сярод іншага, 93 палёты транспартных самалётаў, каб паветраным шляхам даставіць 136,66 тон грузу (узбраенне і людзі), які патрабаваўся для

[87] Dimitroff G. Tagebücher 1933—1943... S. 549 і наст. (запіс ад 8 ліпеня 1942 г.). Вылучана ў арыгінале.

[88] Аператыўны план масіўнага ўдару па камунікацыйных лініях ворага, 27 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 43, л. 1—61).

[89] Дакладная П. Панамарэнкі Сталіну, сярод іншага пра падрывы на чыгуначных лініях і разбурэнне мастоў і дарог, 31 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 26 і наст.); дакладная П. Панамарэнкі Сталіну, сярод іншага пра эфектыўнасць партызанскіх нападаў, 8 жніўня 1942 г. (Тамсама. Л. 31 і наст.).

[90] Загад № 38 / оп начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 3 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 173 і наст.).

[91] Селіванаў з 2-га аддзела ГРУ да П. Панамарэнкі, 15 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 753, л. 149 і наст.).

[92] Дакладная П. Панамарэнкі Сталіну, сярод іншага пра падрывы на чыгуначных лініях, 31 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 26 і наст.).



аперацыі[93]. У жніўні ж 1942 г. Цэнтральны штаб меў толькі адзін самалёт. 30 жніўня 1942 г. Панамарэнка скардзіўся: «У нас замала транспартных самалётаў, і мы можам дастаўляць іх [партызанаў] толькі з вялікімі цяжкасцямі»[94].

Праход па варожым тыле да тэрыторый дзеяння, якія былі аддаленыя ад лініі фронту на сотні кіламетраў, з цяжкім грузам зброі, амуніцыі, мін, выбухоўкі і радыёстанцый, быў нерэальным. Начальнік штаба брыгады «Разгром», якая дзейнічала на тэрыторыі вакол Барысава, Смалявічаў, Чэрвеня, прыблізна ад 50 да 80 км на ўсход ад Мінска, тлумачыў у рапарце ад 1 кастрычніка 1942 г.: «Дастаўка [зброі, амуніцыі, выбухоўкі] можа ажыццяўляцца толькі паветраным шляхам, па зямлі гэта немагчыма, да таго ж гэта цягнулася б задоўга, 40—50 дзён»[95].

Панамарэнка клапаціўся пра самалёты для патрэб партызанскага руху і 8 жніўня 1942 г. прасіў Сталіна аб выдзяленні ад 5 да 6 транспартных самалётаў тыпу «Дуглас»[96]. Ён звяртаўся і да штаба авіяцыі далёкага дзеяння, і 9 жніўня 1942 г. атрымаў ад начальніка авіяцыі далёкага дзеяння адмову са спасылкай, што ўсе самалёты задзейнічаныя як бамбардзіроўшчыкі. Затым начальнік дадаў: «Адзінкавыя спарадычныя палёты можна зрабіць па дамоўленасці з Вамі, калі самалёты няшмат будуць задзейнічаныя ў баявых вылетах»[97].

Толькі маршал Варашылаў, які афіцыйна 5 верасня 1942 г. быў прызначаны галоўнакамандуючым партызанскім рухам, змог дамагчыся свайго. 4 верасня 1942 г. ДКА вырашыў утварыць паветраную эскадрыллю, у склад якой павінны ўвайсці тры транспартныя самалёты Лі-2, дзевяць лёгкіх самалётаў Р-5 і дваццаць таксама лёгкіх самалётаў У-2[98]. Праз два дні, 6 верасня 1942 г., начальнік авіяцыі далёкага дзеяння аддаў у распараджэнне Цэнтральнага штаба тры транспартныя самалёты ПС-84 (Лі-2) з трыма пілотамі[99]. У наступныя дні Цэнтральны штаб атрымаў астатнія самалёты[100].

Папулярныя ў савецкіх узброеных сілах падчас Другой сусветнай вайны біпланы У-2, аднак, мелі невялікую далёкасць пералёту (450 км) і карысную нагрузку (350 кг), не лепшымі былі справы і ў біплана Р-5 з далёкасцю пералёту 800 км і карыснай нагрузкай 500 кг. Транспартныя ж самалёты ПС-84 (Лі-2) мелі далёкасць пералёту

[93] Патрэба ў парашутах і палётах для падтрымкі аперацыі, 27 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 43, л. 33).

[94] П. Панамарэнка ў ДКА, 8 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 31 і наст.); пратакол нарады з камандзірамі партызанскіх атрадаў на Бранскім фронце, 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 18).

[95] Даклад начальніка штаба брыгады «Разгром» ад 1 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 184 і наст.).

[96] П. Панамарэнка Сталіну, 8 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 31 і наст.).

[97] Галаванаў да П. Панамарэнкі, 9 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 81, л. 39).

[98] Пастанова ДКА № 2237 ад 4 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 54, л. 154 і наст.).

[99] Галаванаў Варашылаву, 6 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 81, л. 54).

[100] П. Панамарэнка Селязнёву пра пераабсталяванне самалётаў У-2, 10 кастрычніка 1942 г. (Тамсама. Л. 104).

2 500 км і карысную нагрузку 2 600 кг[101]. У пачатку сакавіка 1943 г. Цэнтральны штаб меў у сваім распараджэнні шэсць транспартных самалётаў ПС-84[102].

Нягледзячы на той факт, што Цэнтральны штаб у верасні 1942 г. нарэшце атрымаў жаданыя самалёты, план масіўнага ўдару па нямецкіх транспартных лініях ад 27 ліпеня 1942 г. не ажыццяўляўся. Так, нямецкія ўстановы ў тагачасным дыстрыкце Галіцыя да канца снежня 1942 г. не зафіксавалі аніводнага падрыву[103]. 2-е ўпраўленне ГРУ дакладвала 25 лістапада 1942 г.: «На транспартных лініях на паўднёвым участку [Украіна] дыверсій, за некалькімі выключэннямі, амаль зусім няма». Адначасова 2-е ўпраўленне звяртала ўвагу на слабую дыверсійную дзейнасць на ўчастку Ленінградскага фронту. Каля 70 % усіх падрываў адбылося, паводле дадзеных 2-га ўпраўлення ГРУ, у прыфрантавых раёнах цэнтральнага ўчастка фронту. У цэлым, так сцвярджала 2-е ўпраўленне ГРУ, дыверсійная дзейнасць на чыгуначных лініях, у прыватнасці на «паўднёвым участку не моцна паўплывала на ход аперацый праціўніка летам 1942 г.»[104].

І ў Беларусі, з савецкага пункту гледжання, справы выглядалі не вельмі добра. Беларускі штаб у кастрычніку 1942 г. звярнуў увагу на тое, што нямецкае забеспячэнне для фронту на беларускіх чыгуначных лініях вельмі інтэнсіўнае і праходзіць без праблем. Чыгуначныя вузлы таксама працуюць «інтэнсіўна» і беспраблемна. Затым штаб затушавана апісваў няўдачу савецкіх дыверсій у Беларусі: «Дыверсіі на чыгуначных лініях не мелі катастрафічных вынікаў для забеспячэння нямецкіх войскаў»[105]. Асабліва крытычна выглядалі справы з дыверсіямі ў заходніх частках Беларусі, дзе да мая 1943 г. амаль не было падрываў[106].

Побач з іншымі, ужо прыведзенымі прычынамі, з-за транспартных цяжкасцей адной з важных прычын гэтых няўдач быў недахоп выбухоўкі, запалаў і перш за ўсё мін, галоўнай зброі дыверсантаў. Панамарэнка шматкроць скардзіўся, што партызаны павінны былі спыняць сваю дыверсійную дзейнасць з-за адсутнасці выбухоўкі, запалаў і мін[107].

[101] Армия Победы в Великой Отечественной войне 1941—1945. Москва—Минск, 2005. С. 436—439, 446 і наст.

[102] Пастанова ДКА № 3000 ад 7 сакавіка 1943 г. аб роспуску ЦШПР (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 96, л. 4).

[103] Kobuszewski B. Walka z transportem kolejowym w dystryktcie Galicja, lipiec 1941—lipiec 1944 // Przegląd Historyczno-Wojskowy. 2003. Nr. 4. S. 15 і наст.

[104] Ратаў і Хлопаў з 2-га ўпраўлення ГРУ да П. Панамарэнкі, 25 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 753, л. 205 і наст.).

[105] План разгортвання партызанскага руху зімой 1942/43 гг. у БССР, [кастрычнік 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 125, л. 24, 25 об.)

[106] Справаздача БШПР аб выкананні плана на зіму—вясну 1943 г. і аб летнім плане на 1943 г., 30 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 29).

[107] П. Панамарэнка ў ДКА, 8 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 31 і наст.); праект загада аб інтэнсіфікацыі партызанскага руху, прадстаўлены П. Панамарэнкам Сталіну 11 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 78—83).



Міны партызаны атрымлівалі часткова ад Чырвонай Арміі, але ў яе не было мін, прыдатных для дыверсій. Частка мін і запалаў, якія пастаўляла Чырвоная Армія, была непрыдатная для выкарыстання партызанамі. Партызанскія школы і збройныя майстэрні Цэнтральнага штаба былі вымушаныя самі майстраваць спецыяльныя міны і запалы. Але патрэба ў іх была вялікая, таму неабходна было распачаць заводскую вытворчасць, на што звярталі ўвагу і Варашылаў, і Панамарэнка ў пачатку кастрычніка 1942 г.[108]. 19 кастрычніка 1942 г. ДКА нарэшце прыняў рашэнне па вытворчасці і забеспячэнні Чырвонай Арміі і партызанскіх атрадаў мінамі для спецыяльных мэт[109].

З 15 верасня да 31 снежня 1942 г. партызанам у Беларусі, паводле дадзеных Беларускага штаба, паветраным шляхам і часткова па зямлі паставілі 16 тон тратылу, 4 115 запалаў, 2 982 м бікфордавага шнура, а таксама 4 643 міны розных канструкцый[110]. Але гэтым усім нельга было правесці шырокамаштабную дыверсію на нямецкіх лініях папаўнення. Пры гэтых абставінах пачалі шукаць іншыя дыверсійныя метады. Партызанам рэкамендавалі адкручваць рэйкі, знішчаць шпалы, разбураць лініі сувязі, паліць драўляныя масты, абстрэльваць эшалоны, а таксама здабываць выбухоўку на месцы.

У снежні 1942 г. Панамарэнка ўскосна прызнаў, што намаганні Цэнтральнага штаба наносіць сур'ёзную шкоду нямецкім шляхам падвозу пацярпелі фіяска. 7 снежня 1942 г. Панамарэнка паведаміў Сталіну, што Цэнтральны штаб выпрацаваў новы план адначасовага нападу на 25 самых важных чыгуначных участкаў ворага. Гэтая запланаваная аперацыя ставіла сабе за мэту падтрымаць толькі што пачатае наступленне Чырвонай Арміі. План палягаў у тым, каб вялікімі атрадамі атакаваць асобныя чыгуначныя пралёты, разбураючы пры гэтым рэйкі і шпалы. Адначасова невялікія каманды павінны былі закладаць міны і добра іх маскаваць, каб яны ўзрываліся толькі праз некалькі дзён і тыдняў[111]. План не быў ажыццёўлены.

## 6. Радыёсувязь: «Няма сувязі — няма кіраўніцтва»

Адзінае кіраўніцтва партызанскімі атрадамі і ажыццяўленне шырокамаштабных і каардынаваных аперацый мела перадумовай рэгулярную сувязь з цэнтрам. З часу іх утварэння Цэнтральны штаб і рэгіянальныя штабы актыўна намагаліся наладзіць сувязь з атрадамі, што дзейнічалі ў нямецкім тыле. Аднак пры гэтым яны сутыкаліся з цяжкасцямі, якія было складана пераадолець.

[108] К. Варашылаў і П. Панамарэнка Л. Берыі, 4 кастрычніка 1942 г., прыкладзены спіс патрэб у мінах, якія не змагла паставіць Чырвоная Армія (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 144—149).

[109] Пастанова ДКА № 2430 ад 19 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 65, л. 16—23).

[110] Даклад пра барацьбу беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 108 і наст.).

[111] П. Панамарэнка Сталіну, 7 снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 146 і наст.).

У той час як партызанскія злучэнні ў нямецкім тыле так-сяк умудраліся ўзброіцца на месцы, наладжванне сувязі з савецкім тылам часта ўяўляла з сябе непераадольную праблему. Рэгулярны кантакт праз кур'ераў быў магчымы толькі з партызанскімі атрадамі, якія дзейнічалі недалёка ад фронту. Адзінай рэальнай магчымасцю наладзіць кантакт з усімі іншымі быў кантакт па радыё. Гэта прызнаў Цэнтральны штаб і з самага пачатку клапаціўся пра пашырэнне радыёсувязі.

2 ліпеня 1942 г. Панамарэнка ў лісце Сталіну звяртаў увагу на тое, што партызанскія атрады неабходна забяспечыць радыёстанцыямі, бо толькі гэта дазволіць аператыўна кіраваць імі. Акрамя таго, радыёсувязь адыгрывае вырашальную ролю пры перадачы разведвальнай інфармацыі. «Мы [Цэнтральны штаб] у бліжэйшыя дні і тыдні разашлём не менш за 100 радыёстанцый. Радысты падрыхтаваныя, месцы дзеяннаў прызначаныя. Ажыццяўленню гэтых планаў перашкаджаюць транспартныя цяжкасці»[112]. І праз тры дні зноў: «Радыёсувязь з атрадамі неабходна пашыраць. Цяпер дзейнічаюць 69 радыёстанцый, якія дазваляюць падтрымліваць сувязь з 200 атрадамі»[113].

Хуткае і ўсеагульнае забеспячэнне партызанскіх атрадаў радыёстанцыямі сутыкнулася спачатку з вялікімі перашкодамі, у першую чаргу з-за ўжо згаданых транспартных праблем. Таму Цэнтральны штаб вярнуўся зноў да радыёсувязі дыверсійна-разведвальных груп НКУС і ГРУ, што дзейнічалі на тэрыторыях асобных атрадаў[114]. У пачатку жніўня 1942 г. Панамарэнка распарадзіўся забяспечыць радыёстанцыямі ўсе атрады і групы, якія адсылаюць у варожы тыл, або гарантаваць ім доступ да радыёстанцый суседніх атрадаў[115].

Нягледзячы на намаганні Цэнтральнага штаба, радыёсувязь з партызанскімі атрадамі на 15 жніўня 1942 г. ніяк нельга было назваць здавальняючай. Зарэгістраваныя Цэнтральным штабам на той час 813 савецкіх партызанскіх атрадаў з 93 497 партызанамі былі забяспечаныя 134 радыёстанцыямі. У распараджэнні 252 атрадаў з 27 444 партызанамі ў Беларусі было толькі 36 радыёстанцый, у 120 ленінградскіх атрадаў з 5 700 партызанамі — 37, у 106 смаленскіх атрадаў з 24 500 партызанамі — 14 і ў савецка-ўкраінскіх партызанаў — 12 радыёстанцый[116]. Да 1 лістапада 1942 г. колькасць радыёстанцый, якія былі ў распараджэнні савецкіх партызанаў у Беларусі, вырасла да 66. Праўда, паралельна з гэтым вырасла і колькасць атрадаў да 430 з

---

[112] П. Панамарэнка Сталіну, 2 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 6 і наст.).

[113] Дакладная запіска начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., 5 ліпеня 1942 г. (Тамсама. Л. 11—16).

[114] Намеснік начальніка ЦШПР Сергіенка Л. Берыі пра выкарыстанне радыёстанцый групамі НКУС (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 29); параўн. на гэты конт шматлікія радыёграмы, якія 4-е ўпраўленне НКУС пераслала ў ЦШПР (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, 748).

[115] Загад № 19 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 8 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, п. 1, д. 4, л. 33 і наст.).

[116] Справаздача ЦШПР аб стане партызанскага руху на 15 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 54).



агулам 47 150 партызанамі[117]. Гэта азначае, што на 15 жніўня 1942 г. адна радыёстанцыя абслугоўвала ў сярэднім 762 беларускія партызаны, ці 7 атрадаў, а 1 лістапада 1942 г. — у сярэднім 714 партызанаў, ці 6,5 атрадаў.

Пры такіх абставінах адзінае кіраўніцтва ўсімі партызанскімі атрадамі было немагчымым, і гэта не магло так хутка змяніцца, тым больш што наяўнасць радыёстанцыі яшчэ зусім не гарантавала радыёсувязі. Так, у шмат якіх атрадах, што мелі прыёмнікі і перадатчыкі, адсутнічалі неабходныя для працы батарэі. 8 жніўня 1942 г. Панамарэнка сігналіў: «Радыёсувязь пашкоджана, бо няма батарэй для радыёстанцый або яны канчаюцца»[118].

І з кадрамі радыстаў не ўсё было ў парадку. Патрэба ў радыстах была настолькі вялікая, што іх трэба было рыхтаваць на паскораных курсах. Ад гэтага цярпела якасць падрыхтоўкі. 7 кастрычніка 1942 г. маршал Варашылаў выдаў наступны загад:

> Было выяўлена, што ў многіх выпадках радысты, адкамандзіраваныя ў партызанскія атрады, недастаткова валодаюць радыётэхнікай і не могуць падтрымліваць радыёсувязь. Многія радысты, якія адначасова павінны шыфраваць звесткі, валодаюць шыфравальнай тэхнікай так слаба, што іх зашыфраваныя радыёграмы нельга расшыфраваць. Яны не ў стане таксама расшыфраваць і атрыманыя радыёграмы. Загадваю: [...] 4. У будучыні для выкарыстання ў варожым тыле школ [радыстаў] выпускаць толькі радыстаў, дасканала падрыхтаваных у радыё- і шыфравальнай тэхніцы, якія могуць на практыцы наладжваць і падтрымліваць сувязь[119].

Праблема дрэнна падрыхтаваных радыстаў заставалася, аднак, і ў 1943 г. У чэрвені 1943 г. начальнік Беларускага штаба нагадваў:

> Паводле існуючай інфармацыі Манахаву [Вілейская вобласць] і Сукачову былі пасланыя па радысту, хоць былі размеркаваны па два. Значыць, слабыя радысты часта трацяць сувязь. У Смірнова забралі моцную радыстку, а слабая пакінутая, якая самастойна не ўмее працаваць[120].

З такімі ж самымі цяжкасцямі даводзілася змагацца і Чырвонай Арміі. У загадзе Стаўкі ад 24 чэрвеня 1942 г., які быў накіраваны ўсім франтам і сямі арміям, напісана: «Падрыхтоўцы радыстаў надаецца недастаткова ўвагі. Большасць нашых радыстаў працуюць марудна і дрэнна валодаюць радыётэхнікай. Страта сувязі азначае страту кіравання,

---

[117] Справаздача БШПР аб выкананні плана на зіму—вясну 1943 г. і аб летнім плане на 1943 г., 30 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 14).

[118] П. Панамарэнка Сталіну, 8 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 31 і наст.).

[119] Загад № 50 галоўнакамандуючага партызанскім рухам маршала Варашылава ад 7 кастрычніка 1942 г., падпісаны таксама П. Панамарэнкам (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 91).

[120] Радыёграма Калініна Рыжыкаву, № 2611 ад 19 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 33, арк. 12).

а страта кіравання ў баі абавязкова вядзе да паражэння»[121]. Тое ж самае тычылася і партызанскага руху. У дакладной запісцы ад 5 студзеня 1943 г. Сталіну Панамарэнка падкрэсліваў, што з партызанскімі атрадамі падтрымліваецца дрэнная сувязь, што абцяжарвае кантроль над імі[122].

Сітуацыя не нашмат змянілася ў 1943 г., хоць абсалютная колькасць радыёстанцый вырасла. На 7 сакавіка 1943 г. агулам 1 047 савецкіх партызанскіх груп і атрадаў з 113 357 партызанамі мелі звыш 256 радыёстанцый. 562 атрады з 61 140 партызанамі ў Беларусі абслугоўвалі толькі 86 радыёстанцый[123]. Сюды дадамо, што з 86 радыёстанцый толькі 37 належалі партызанам, ці Беларускаму штабу або Цэнтральнаму штабу. Астатнія радыёстанцыі належалі дыверсійна-разведвальным групам ГРУ (41) і групам НКУС (8)[124]. Гэта азначае, што на 7 сакавіка 1943 г. адна радыёстанцыя абслугоўвала ў сярэднім 15 атрадаў, ці 1 652 партызаны. Улічваючы радыёстанцыі ГРУ і НКУС, суадносіны складалі: адна радыёстанцыя на 710 партызанаў, ці 6,5 атрадаў.

У пачатку сакавіка 1943 г. Цэнтральны штаб атрымаў 100 англійскіх радыёстанцый, якія Панамарэнка загадаў размеркаваць паміж Беларускім і Украінскім штабамі (па 50 штук). Акрамя таго, Цэнтральны штаб у пачатку сакавіка 1943 г. замовіў яшчэ 200 радыёстанцый савецкай вытворчасці[125]. На працягу 1943 г. сітуацыя палепшылася, але яна ўсё яшчэ была не вельмі добрай. На 1 ліпеня 1943 г. 110 радыёстанцый абслугоўвалі ў Беларусі 556 партызанскіх атрадаў з 80 695 партызанамі (доля радыёстанцый ГРУ і НКУС невядомая)[126]. 13 студзеня 1944 г. у распараджэнні 723 атрадаў з 121 903 партызанамі былі 127 радыёстанцый[127]. З 127 радыёстанцый 110 належалі партызанскім атрадам, Беларускаму штабу і Цэнтральнаму штабу, 6 — групам ГРУ, 7 — групам НКУС і 2 — франтавым штабам[128]. Такім чынам, адна радыёстанцыя абслугоўвала ў сярэднім 6,5, атрадаў ці 1 180 партызанаў.

[121] Загад Стаўкі ад 24 ліпеня 1942 г., падпісаны Васілеўскім (копія ва ўласнасці аўтара).
[122] Дакладная П. Панамарэнкі Сталіну пра захаванне інстытута палiткамісараў пры партызанскіх атрадах, 5 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 1—4).
[123] Выніковая справаздача пра дзейнасць аператыўнага аддзела ЦШПР за перыяд з 1 чэрвеня 1942 г. да 7 сакавіка 1943 г., 15 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 1—7).
[124] Колькасць радыёстанцый, якія падтрымліваюць радыёсувязь з партызанамі Беларусі, паводле стану на 17 красавіка 1943 г. і 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 141).
[125] Загад № 31 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 7 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 10, л. 57).
[126] Справаздача БШПР аб выкананні плана на зіму—вясну 1943 г. і аб летнім плане на 1943 г., 30 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 19).
[127] Справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР ад 24 лютага 1944 г. пра працу на беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 да 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 112, 141).
[128] Тамсама.



Яшчэ адным слабым бокам савецкай радыёсувязі было тое, што нямецкі бок адносна лёгка мог яе праслухоўваць. У чэрвені 1943 г. нямецкі унтэр-афіцэр чэшскага паходжання Ёган Лойд, які ў Віцебску служыў радыстам у роце радыёразведкі, перабег да партызанаў. Ён паведаміў партызанам, што толькі ягоная рота праслухоўвала рэгулярна ад 10 да 12 партызанскіх радыёстанцый. Радысты і шыфравальшчыкі роты маглі, паводле слоў Лойда, без вялікіх праблем расшыфраваць шыфраваныя паведамленні партызанаў. Нямецка-чэшскі перабежчык раіў выкарыстоўваць больш складаныя і цяжкія шыфры. Яго рота займалася, аднак, у першую чаргу праслухоўваннем радыёстанцый франтавых часцей Чырвонай Арміі, прычым яно, паводле звестак Лойда, таксама было вельмі паспяховым. Паводле яго дадзеных, рота праслухоўвала радыёсувязь 3-й і 4-й ударных армій, 43-й арміі, а таксама дывізій і палкоў[129].

Поспехі нямецкай радыёразведкі пацвердзіліся таксама разведкай савецкага Ваенна-марскога флоту ў лісце Панамарэнку ад 12 жніўня 1943 г.[130]. Гэта дало магчымасць нямецкаму абверу арганізаваць так званыя радыёгульні з савецкімі партызанамі і агентамі ў нямецкім тыле, каб збіваць іх з панталыку ці завабліваць у пастку[131].

## 7. Сталін і партызанскі рух

Працытаваныя дакументы сведчаць, што Панамарэнка ўвесь час імкнуўся зацікавіць Сталіна партызанскім рухам і прыцягнуць яго на бок сваёй канцэпцыі партызанскай вайны. Заснаванне ЦШПР азначала часовую кульмінацыю яго намаганняў і адначасова пачатак яго кар'еры як кіраўніка савецкіх партызанаў у Другой сусветнай вайне. Яго прызначэнне начальнікам ЦШПР сведчыць, аднак, адначасова пра адносна малое ваеннае значэнне партызанскага руху ў савецкай стратэгіі вайны ў першы яе год. Партыйны дзеяч другога шэрагу і без усялякага ваеннага досведу ўзяў на сябе камандаванне тысячамі партызанаў[132].

[129] Стэнаграма допыту перабежчыка Ёгана Лойда (Johann Loyd) ад 15 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 750, л. 156 і наст.).
[130] Начальнік упраўлення разведкі Галоўнага штаба Ваенна-марскога флоту капітан Варанцоў да П. Панамарэнкі, 12 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 756, л. 172 і наст.).
[131] Прыклады радыёгульняў нямецкага абвера з савецкімі партызанамі прыводзіць начальнік упраўлення разведкі Галоўнага штаба Ваенна-марскога флоту капітан Варанцоў у лісце да П. Панамарэнкі ад 12 жніўня 1943 г. Гл.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 756, л. 172 і наст.
[132] П. Панамарэнка (1902—1984) з 1937 г. да 1938 г. быў партыйным дзеячам у апараце ЦК УсеКП(б). 16 чэрвеня 1938 г. Палітбюро ЦК УсеКП(б) накіравала яго на партыйную працу ў Беларусь. Гл.: Рашэнні Палітбюро на перыяд з 3 чэрвеня да 22 ліпеня 1938 г. Рашэнні ад 16 чэрвеня 1938 г. Пратакол № 62 (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 1, д. 1000, л. 10 і наст.). П. Панамарэнка быў класічным «вылучэнцам» «Вялікага тэрору» трыццатых гадоў у савецкім партыйна-дзяржаўным апараце. У Беларусі ён таксама быў асабіста адказным за савецкія масавыя злачынствы (асабліва масавыя

Гэтыя адносіны змяніліся летам 1942 г., сярод іншага дзякуючы намаганням Панамарэнкі, які зрабіў тое-сёе, каб пераканаць Сталіна і яго найбліжэйшых давераных асоб, што партызанскі рух мог бы адыгрываць важную ролю ў нямецка-савецкай вайне. З часу яго прызначэння кіраўніком партызанскага руху Панамарэнка рэгулярна прадстаўляў Сталіну і яго бліжэйшым давераным асобам Малянкову, Молатаву, Берыі паведамленні, даклады і дакладныя запіскі, якія прысвячаліся поспехам і праблемам партызанскага руху[133]. Яго намаганні неўзабаве прынеслі першы плён. У маі 1942 г. ДКА даручыў выпрацаваць новы Палявы статут Чырвонай Арміі, у які ў ліпені 1942 г. быў уключаны і артыкул аб партызанскай тактыцы[134]. Такім чынам, партызанская барацьба зноў зрабілася складнікам ваеннай тактыкі Чырвонай Арміі.

У жніўні 1942 г. Панамарэнка дамогся прарыву ў Сталіна. Але гэта парадаксальным чынам прывяло адначасова да таго, што Панамарэнка часткова страціў свой уплыў на лёсы партызанскага руху. 26 жніўня 1942 г. Сталін упершыню прыняў Панамарэнку ў сваім крамлёўскім кабінеце ў прысутнасці Молатава і Варашылава. Размова цягнулася ўсяго толькі 10 хвілін[135]. Магчыма, Сталін падчас гэтай кароткай размовы паведаміў Панамарэнку пра свой намер неўзабаве прызначыць маршала Варашылава галоўнакамандуючым партызанскім рухам[136].

Клімент Варашылаў быў старым бальшавіком, з 1935 г. Маршалам Савецкага Саюза, а з 1925 г. да 1940 г. народным камісарам абароны СССР. Гэтую пасаду ён мусіў вызваліць у маі 1940 пасля няўдачы ў вайне супраць Фінляндыі[137]. 10 ліпеня 1941 г. Сталін прызначыў яго галоўнакамандуючым паўночна-заходнім участкам фронту, дзе ён таксама не справіўся[138]. У адной ацэнцы заслуг Варашылава ў рамках абароны Ленінграда Палітбюро выказвала крытыку:

---

дэпартацыі) у 1938 г. і ў 1941 г., у тым ліку ў былых паўночна-ўсходніх рэгіёнах Польшчы пасля захопу і ўключэння іх у СССР восенню 1939 г.

[133] Шмат якія з гэтых дакументаў знаходзяцца ў: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, 24.

[134] Загад № 9 начальніка ЦШПР ад 17 ліпеня 1942 г. аб стварэнні камітэта для напісання главы новага статута палявой службы Чырвонай Арміі (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1. д. 4, л. 16); ліст П. Панамарэнкі Б. Шапашнікаву пра главу «Партызанскі рух» для новага статута Чырвонай Арміі 30 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 112 і наст.); пратакол нарады з камандзірамі партызанскіх атрадаў Бранскага фронту ад 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 15).

[135] Кніга ўліку прыёмаў у крамлёўскім кабінеце Сталіна з 22. 06.1941 да 9 мая 1945 г., запіс ад 26 жніўня 1942 г., надрукаваны ў: Горьков Ю. Государственный комитет обороны... С. 317 і наст.

[136] Пра тое, што Сталін прыняў рашэнне аб прызначэнні Варашылава галоўнакамандуючым партызанскага руху яшчэ ў жніўні 1942 г., сведчыць, сярод іншага, нататка П. Панамарэнкі (пункт 11), якую ён зрабіў пры напісанні сваёй кнігі пра партызанскі рух. Гл.: РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 293.

[137] Musial B. «Wir werden den ganzen Kapitalismus am Kragen packen»: sowjetische Vorbereitungen zum Angriffskrieg in den dreißiger und Anfang der vierziger Jahre // Zeitschrift für Geschichtswissenschaft. Jg. 54. 2006. H. 1. S. 54.

[138] Пастанова ДКА № 83 ад 10 ліпеня 1941 г., падпісаная Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 2, л. 1 і наст.).



> Ён захапіўся стварэннем рабочых батальёнаў, якія былі ўзброеныя лёгкай зброяй (стрэльбамі, пікамі, кінжаламі). Затое ён занядбаў узвядзенне артылерыйскіх пазіцый, хоць для гэтага меліся дастатковыя магчымасці. [...] Таварыш Варашылаў накіроўваецца на працу ў тыле[139].

Нягледзячы на яго няздольнасць як вайсковага кіраўніка, у Варашылава ўсё яшчэ было трывалае становішча пры сталінскім двары і ён часта быў госцем у яго крамлёўскім кабінеце. У жніўні 1942 г. Сталін вырашыў перадаць Варашылаву камандаванне партызанамі і прызначыў яго 6 верасня 1942 г. галоўнакамандуючым партызанскім рухам[140]. Але за Панамарэнкам усё ж засталася пасада начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху.

Прызначэнне Варашылава сведчыць пра ўзрослае значэнне партызанскага руху ў савецкіх ваенна-стратэгічных планах, у чым можна пераканацца і па часе, які Сталін прысвячаў гэтай справе. За верасень 1942 г. Сталін прыняў Панамарэнку ў сваім крамлёўскім кабінеце яшчэ пяць разоў: 4, 5, 6, 7 і 18 верасня. Пры гэтым размовы, у якіх браў удзел Панамарэнка, цягнуліся не 10 хвілін, а 1 гадзіну і 50 хвілін (4 верасня), 2 гадзіны і 15 хвілін (5 верасня), 3 гадзіны і 5 хвілін (6 верасня), 1 гадзіну і 25 хвілін (7 верасня) і 1 гадзіну і 25 хвілін (18 верасня)[141].

1 верасня Сталін прыняў 17 партызанскіх камандзіраў, якія прыехалі ў Маскву на нараду, у тым ліку двух з Беларусі, Шмырова і Шурмана, абодва з Віцебскай вобласці. Размова цягнулася 3 гадзіны і 10 хвілін. Праз чатыры дні Сталін зноў прыняў пяць партызанскіх камандзіраў, у тым ліку зноў Шмырова. На гэты раз размова цягнулася 1 гадзіну і 50 хвілін[142]. У час сустрэчы Сталін размаўляў з асобнымі партызанамі асабіста. Ён заявіў сярод іншага, што партызаны адыгрываюць «каласальную ролю» ў падтрымцы Чырвонай Арміі, разбураючы варожыя лініі забеспячэння. Ён таксама падкрэсліў, што неабходна прыцягваць да партызанскага руху новых людзей[143].

Адпаведна адной нататцы Панамарэнкі, Сталін падчас размовы заявіў:

> Прымаць людзей у атрады, выяўляць скрытыя рэзервы, вучыцца здабываць зброю, каб узбройваць саміх сябе — сякерамі, піламі. Змагацца імі яны,

---

[139] Рашэнне Палітбюро ЦК УсеКП(б) аб працы Варашылава з 1 красавіка 1942 г., пратакол № 26, пункт 356 (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 3, д. 1043, л. 93 і наст.).

[140] Пастанова ДКА № 2246 ад 6 верасня 1942 г., падпісаная Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 55, л. 55).

[141] Крамлёўскі кабінет Сталіна, кніга ўліку прыёмаў на перыяд з 22 чэрвеня 1941 г. да 9 мая 1945 г., запісы ад 4 да 7 і 18 верасня 1942 г., надрукаваныя ў: Горьков Ю. Государственный комитет обороны... С. 319—323.

[142] Крамлёўскі кабінет Сталіна, кніга ўліку прыёмаў на перыяд ад 22 чэрвеня 1941 г. да 9 мая 1945 г., запісы ад 1 і 4 верасня 1942 г., надрукаваныя ў: Горьков Ю. Государственный комитет обороны... С. 319 і наст.; параўн. таксама: Slepyan K. Stalin's Guerrillas... P. 46 і наст.

[143] Стэнаграма размовы з Шурманам ад 8 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 24 і наст.); Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 87 і наст.

вядома, не могуць, але яны могуць дапамагаць партызанам разбураць лініі сувязі і чыгуначныя шляхі[144].

Сталін 1 верасня падкрэсліў таксама значэнне ваеннай разведкі для патрэб Чырвонай Арміі і пашырэння агентурных структур у гарадах. За дзень да гэтага ён заяўляў: «Праз іх [гарады] праходзяць камунікацыйныя лініі, там знаходзяцца штабы і ўстановы, там можна шмат убачыць, там ворагі куюць свае планы. Забраўшыся ў лес, няшмат даведаешся»[145].

5 верасня 1942 г. Сталін выдаў загад № 189 аб «задачах партызанскага руху». Галоўнай задачай партызанаў Сталін абʼявіў дэзарганізацыю варожага тылу і, у прыватнасці, знішчэнне варожых чыгуначных ліній. Сталін заклікаў партызанаў займацца ваеннай разведкай для Чырвонай Арміі[146]. Загад быў абʼяўлены «праграмным дакументам у далейшай арганізацыі народнай барацьбы ў тыле ворага»[147]. Увесь час розныя партызанскія камандзіры ў сваіх дакладах і меркаваннях спасылаліся на загад № 189, які стаў сталым тэрмінам у іх дакладах.

Як ужо згадвалася, Сталін прызначыў 6 верасня 1942 г. маршала Варашылава галоўнакамандуючым партызанскім рухам. Такім чынам Сталін адначасова павысіў значэнне партызанскага руху як складніка савецкай стратэгіі вайны. Прызначэнне Варашылава павялічыла таксама ўплыў вайскоўцаў на лёс партызанскага руху. Яшчэ да свайго афіцыйнага прызначэння Варашылаў разгарнуў у гэтай сферы актыўную дзейнасць. Напрыклад, ён сустракаўся 1 верасня з партызанскімі камандзірамі, якія пазней мелі ўжо згаданую размову са Сталіным. Варашылаў размаўляў з імі каля 4 гадзін[148]. У канцы верасня Варашылаў прапанаваў рэарганізаваць Цэнтральны штаб і рэгіянальныя штабы і павялічыць іх штат[149]. Ён даваў загады асобным партызанскім атрадам, клапаціўся пра забеспячэнне партызанаў спецыяльнымі мінамі і запальнымі снарадамі, пра лепшую падрыхтоўку радыстаў і пра шмат што яшчэ[150].

[144] Нататка П. Панамарэнкі падчас прыёму ў Крамлі, без даты (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 145).

[145] Пазнака П. Панамарэнкі (датычна зместу): «Таварыш Сталін аб разведвальнай рабоце партызанаў», без даты (Тамсама. Л. 146).

[146] Загад № 189 народнага камісара абароны Сталіна ад 5 верасня 1942 г. аб задачах партызанскага руху (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 12—17); надрукаваны, сярод іншага, у: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 13 (2-2). Приказы народного комиссара обороны СССР. 22 июня 1941 г. — 1942 г. Москва, 1997. С. 292—295.

[147] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 89; больш на гэты конт: Slepyan K. Stalin's Guerrillas... P. 47—50.

[148] Стэнаграма размовы з Шурманам ад 8 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 24 і наст.).

[149] К. Варашылаў і П. Панамарэнка І. Сталіну аб рэарганізацыі Цэнтральнага штаба і рэгіянальных штабоў, 25 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 137 і наст.); загад № 47 галоўнакамандуючага партызанскага руху Варашылава ад 30 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 85—88 об.).

[150] Напрыклад: загад № 38 галоўнакамандуючага партызанскага руху Варашылава аб падтрымцы Чырвонай Арміі партызанамі ад 14 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1. д. 4, л. 67—69 об.); загад № 42 аб новым месцы дзеяння абʼяднаных атрадаў Коваля ад 15 верасня 1942 г. (Тамсама. Л. 76—79 об.); загад № 48 аб забеспячэнні партызанаў мінамі і запальнымі снарадамі ад 30 верасня 1942 г. (Тамсама. Л. 89 і наст.); загад № 50 аб падрыхтоўцы радыстаў для партызанскага руху ад 7 кастрычніка 1942 г. (Тамсама. Л. 91).



Варашылаў ініцыяваў таксама шэраг мерапрыемстваў па цэнтралізацыі партызанскага руху на ўзор арміі і праводзіў у Цэнтральны штаб і рэгіянальныя штабы сваіх людзей. Па меркаванні Варашылава і яго давераных асоб, партызанскія штабы мусілі распрацоўваць дэталёвыя планы, якія асобныя партызанскія атрады мусілі выконваць на месцах. Адначасова Варашылаў абмежаваў уплыў партыйных органаў на партызанскія атрады, сярод іншага ён адмяніў інстытут паліткамісараў у партызанскіх атрадах.

Гэтыя мерапрыемствы выклікалі праблему ў адносінах Панамарэнка — партыя. «Цэнтральны штаб, як і многія ўдзельнікі партыйнага падполля і байцы партызанскіх атрадаў неаднаразова ў рэзкай форме выказваліся супраць такой лініі», — распавядаў пазней Панамарэнка[151]. Далей ён пісаў: «Паколькі Галоўнакамандуючы і яго апарат не меркавалі згаджацца з гэтымі прапановамі, Цэнтральны штаб вынес гэтае пытанне на разгляд Цэнтральнага камітэта УсеКП(б)». 18 лістапада 1942 г. Цэнтральны камітэт УсеКП(б) займаўся гэтым пытаннем на шматгадзінным спецыяльным пасяджэнні. «Лінія, якой прытрымліваліся Галоўнакамандуючы і яго апарат, была пакрытыкавана і прызнана непрыдатнай. ЦК УсеКП(б) прыняў рашэнне, што 19 лістапада было абʼяўлена рашэннем ДКА»[152]. У рашэнні гаварылася: «Каб зрабіць кіраўніцтва партызанскім рухам больш дзейсным і пазбегнуць лішняга цэнтралізму, мэтазгодна ліквідаваць пасаду Галоўнакамандуючага партызанскім рухам»[153]. У сапраўднасці Сталін прыняў рашэнне на сустрэчы з Панамарэнкам, Варашылавым, Молатавым і іншымі даверанымі асобамі 19 лістапада і падпісаў яго таксама як старшыня ДКА[154].

Так няўдачнік Варашылаў страціў сваю пасаду праз нейкія два месяцы пасля прызначэння, а партыя магла бесперашкодна пашыраць свой кантроль над партызанскім рухам. Гэты працэс наглядна адлюстроўваецца і ў згаданай спрэчцы пра паліткамісараў у партызанскім руху. 9 кастрычніка 1942 г. Сталін загадам ліквідаваў інстытут абсалютна самастойных паліткамісараў у шэрагах Чырвонай Арміі і замяніў іх пасадай намеснікаў камандзіраў па палітычных

[151] Глава «Аб межах цэнтралізацыі кіраўніцтва партызанскім рухам» у рукапісе П. Панамарэнкі па гісторыі савецкага партызанскага руху, якая была не прапушчаная савецкай цэнзурай для апублікавання (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 150 і наст.).

[152] Тамсама.

[153] Рашэнне ДКА № 2527 ад 19 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 69, л. 214); нататка П. Панамарэнкі на гэты конт, без даты (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1. д. 29, л. 173).

[154] Крамлёўскі кабінет Сталіна, кніга ўліку прыёмаў на перыяд з 22 чэрвеня 1941 г. да 9 мая 1945 г., запіс ад 19 лістапада 1942 г., надрукавана ў: Горьков Ю. Государственный комитет обороны... С. 336.

справах[155]. Праз некалькі дзён, 18 кастрычніка 1942 г., Варашылаў пашырыў загад ад 9 кастрычніка на партызанскія атрады[156].

Але Панамарэнка з гэтым не пагадзіўся. Праз некалькі тыдняў пасля звальнення Варашылава з пасады Панамарэнка звярнуўся да Сталіна, які прыняў яго 5 студзеня 1943 г. нарэшце гэтай справы[157]. Размова цягнулася 1 гадзіну. Прысутнічалі таксама Берыя, Молатаў, Малянкоў і Шчарбакоў, што быў адказным за прапаганду ў Чырвонай Арміі[158]. У адной дакладной запісцы, якую Панамарэнка прадставіў Сталіну, ён прыводзіў наступныя аргументы: з прычыны дрэннай сувязі і адсутнасці належнага кантролю ёсць небяспека, што асобныя камандзіры трацяць баявітасць. Гэта пацягне за сабой іншыя цяжкія наступствы, такія, як паслабленне дысцыпліны і процізаконныя паводзіны ў адносінах да цывільнага насельніцтва. Зачача палiткамісараў — не дапусціць гэтага. Акрамя таго, партыя праз палiткамісараў дасягне большага ўплыву на партызанскі рух. А яшчэ, рапарты павінны падпісвацца камандзірам і камісарам, а гэта — выпрабаваны сродак супраць іх фальсіфікацыі[159].

Гэтымі аргументамі Панамарэнка пераканаў Сталіна і яго давераных асоб, і 6 студзеня 1943 г. ён як начальнік Цэнтральнага штаба выдаў загад пра захаванне ў партызанскіх атрадах інстытута палiткамісараў[160]. Такім чынам, партыя ўтрымала партызанскі рух трывала ў сваіх руках і магла без перашкоды пашыраць свой уплыў.

Цікава, што Панамарэнка ў сваёй выдадзенай у 1986 г. кнізе «Усенародная барацьба ў тыле нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 1941—1944» сцвярджае, быццам ён прадставіў толькі што працытаваную дакладную Цэнтральнаму камітэту партыі. Далей ён сцвярджае, што 5 студзеня 1943 г. яго быццам выклікалі ў Цэнтральны камітэт, дзе яму паведамілі пра вяртанне палiткамісараў у партызанскі рух. Пры гэтым Панамарэнка прыводзіць тыя ж самыя дакументы, што і аўтар гэтай працы, хоць пра Цэнтральны камітэт у гэтых дакументах няма і гаворкі, а толькі пра Сталіна[161]. Намер гэтай фальсіфікацыі, як і апісання зняцця з пасады Варашылава, відавочна, палягае ў тым, каб знізіць ролю Сталіна ў вайне і адначасова падняць ролю партыі.

---

[155] Загад № 307 народнага камісара абароны Сталіна, ад 9 кастрычніка 1942 г., надрукаваны ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 13 (2-2). Приказы... С. 326 і наст.

[156] Загад № 59 галоўнакамандуючага партызанскага руху маршала Варашылава ад 18 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 117).

[157] Нататка аб сустрэчы П. Панамарэнкі і Сталіна 5 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 4).

[158] Кніга ўліку прыёму наведнікаў у крамлёўскім кабінеце Сталіна на перыяд з 22.6.1941 г. да 9 мая 1945 г., запіс ад 5 студзеня 1943 г., надрукавана ў: Горьков Ю. Государственный комитет обороны... С. 345.

[159] Дакладная запіска П. Панамарэнкі Сталіну аб захаванні інстытута камісараў пры партызанскіх атрадах, студзень 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 1—4).

[160] Нататка аб сустрэчы П. Панамарэнкі са Сталіным 5 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 4); загад № 3 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 6 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 10, л. 4).

[161] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 91.



У сваёй кнізе «Усенародная барацьба...» Панамарэнка замоўчвае як канфлікт з Варашылавым і яго апаратам, так і прычыны зняцця яго з пасады. Наадварот, Панамарэнка хваліць свайго тагачаснага контрагента:

> Нягледзячы на кароткі час знаходжання на гэтай пасадзе К. Я. Варашылава, дзякуючы яго аўтарытэту, энергіі і настойлівасці былі вырашаны многія важныя пытанні партызанскага руху, асабліва ў частцы баявога і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і авіяцыйных перавозак партызанаў[162].

Сапраўды, ініцыятыва Варашылава ў час, калі ён быў галоўнакамандуючым, разгорнутая ім у гэтай сферы, была надзвычайнай[163]. Варашылаў адзначыўся і ў пытанні пра самалёты для патрэб партызанаў, з чым Панамарэнка спачатку не справіўся[164].

Пасля звальнення Варашылава з пасады Панамарэнка ўзяўся за новую рэарганізацыю Цэнтральнага штаба і рэгіянальных штабоў. Раздзьмуты апарат Цэнтральнага штаба трэба было, сярод іншага, скараціць з 532 супрацоўнікаў да 220 (г. зн. на 312 чалавек)[165].

## 8. Роспуск Цэнтральнага штаба ў сакавіку 1943 г. і яго аднаўленне ў красавіку 1943 г.

Трыумф Панамарэнкі як бясспрэчнага кіраўніка партызанскага руху працягваўся, праўда, толькі некалькі месяцаў. Ужо ў пачатку сакавіка 1943 г. Сталін вырашыў распусціць Цэнтральны штаб. У апошні момант Панамарэнка яшчэ спрабаваў прадухіліць гэта. 4 сакавіка 1943 г. ён папрасіў Сталіна прыняць яго, каб далажыць пра прынцыповыя пытанні далейшага развіцця партызанскага руху. Пры гэтым ён звяртаў увагу на тое, што ў Беларусі колькасць атрадаў дасягнула 460, колькасць партызанаў — 60 000, а схаваных рэзерваў — 200 000 чалавек. Прытым ва Украіне таксама маюцца вялікія схаваныя рэзервы, а значыць, і вялікія магчымасці развіцця[166].

Праз дзень, 5 мая, Сталін прыняў Панамарэнку ў прысутнасці Берыі, Молатава і Малянкова. Аднак Панамарэнка не здолеў пераканаць яго, і 7 сакавіка 1943 г. Сталін як старшыня ДКА прыняў рашэнне аб роспуску Цэнтральнага штаба партызанскага руху. Адначасова

---

[162] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 90.

[163] Параўн. на гэты конт, сярод іншага, нямала лістоў адносна забеспячэння партызанаў мінамі (4 кастрычніка 1942 г.), прадуктамі харчавання (5 кастрычніка 1942 г.), цыгарэтамі, тытунём, папяроснай паперай і г. д. (5 кастрычніка 1942 г.) (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 144—151).

[164] Галаванаў да П. Панамарэнкі, 9 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 81, л. 39); Галаванаў да К. Варашылава, 6 верасня 1942 г. (Тамсама. Л. 54).

[165] Пазнака аб асабовым складзе Цэнтральнага штаба і рэгіянальных штабоў, лістапад 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 203); адносіна начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. Панамарэнкі, 13 снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1, л. 27—42).

[166] П. Панамарэнка Сталіну, 4 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 51).

Сталін перадаў кіраўніцтва партызанскім рухам адпаведным партыйным органам і рэгіянальным штабам, якія яшчэ засталіся[167].

Прычыны роспуску Цэнтральнага штаба Панамарэнка ў сваіх пазнейшых публікацыях зацята замоўчвае. У яго паперах знойдзена толькі нататка «Пытанні Цэнтральнага штаба», што Панамарэнка зрабіў пры напісанні сваёй кнігі пра партызанскі рух. Пад пунктам 7 напісана: «Барацьба Б. і М. супраць штаба. Роспуск у сакавіку 1943 г., бо "выканаў сваю ролю"»[168]. Пад Б. Панамарэнка разумее з амаль пэўнай відавочнасцю Лаўрэнція Берыю, які з самага пачатку быў супраць цэнтралізацыі партызанскага руху, а значыць, і супраць Цэнтральнага штаба. Хто мяркуецца пад «М.», застаецца няясным. Гэта маглі быць ці Молатаў, ці Маленкоў.

Прычынай роспуску Цэнтральнага штаба служыў аргумент, што штаб нібыта выканаў сваю ролю. У дакладной запісцы Сталіну Панамарэнка ў красавіку 1943 г. пісаў: «Неабходнасць яго [Цэнтральнага штаба] роспуску абгрунтоўвалася тым, што ён быццам выканаў ужо сваю ролю»[169]. У раней цытаванай нататцы пад пунктам 10 знаходзіцца кароткі, падкрэслены Панамарэнкам сказ: «Спробы дыскрэдытаваць Цэнтральны штаб»[170]. Кароткае, але красамоўнае сведчанне пра заўсёдныя канфлікты і супярэчнасці, якія выклікала пытанне партызанскага руху пры двары Сталіна.

Панамарэнка, аднак, не здаваўся і неўзабаве зноў звярнуўся да Сталіна з дакладной запіскай. У ёй Панамарэнка, сярод іншага, даводзіў, што неабходна дэцэнтралізаваць атрады, якія сканцэнтраваныя ў некаторых рэгіёнах у вялікіх злучэннях, і перакінуць іх у іншыя раёны. У якасці прыкладу ён называў партызанскую групоўку ў Бранскіх лясах, што налічвала каля 12 000 партызанаў. Нямецкія акупанты акружылі лясы моцнымі гарнізонамі і трымалі партызанаў пад пагрозай. Насельніцтва з гэтых раёнаў было пераселена немцамі, і такім чынам партызаны былі пазбаўленыя базы забеспячэння. У той жа час чыгуначныя лініі, наадварот, немцы забяспечылі моцнай аховай. Партызаны, як пісаў Панамарэнка, цяпер сядзяць у лясах, мала што могуць зрабіць і галадаюць. Ён даводзіў, што неабходна перакінуць каля 40—50 % гэтых атрадаў на захад, дзе яны маглі б пракарміць сябе. Партызанскае кіраўніцтва ў Арлоўскай вобласці выступае, аднак, супраць, бо «калі яны [партызаны] пакінуць лясы, то яны ўжо не будуць сваімі, нашымі партызанамі, а беларускімі ці ўкраінскімі»[171]. Толькі

[167] Кніга ўліку прыёму наведнікаў у крамлёўскім кабінеце Сталіна на перыяд з 22 чэрвеня 1941 г. да 9 мая 1945 г., запіс ад 5 сакавіка 1943 г., надрукавана ў: Горьков Ю. Государственный комитет обороны... С. 358; рашэнне ДКА № 300 ад 7 сакавіка 1943 г. аб роспуску ЦШПР, падпісанае Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 96, л. 4).

[168] Нататка П. Панамарэнкі «Вопросы ЦШПД», без даты (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 291).

[169] Дакладная запіска П. Панамарэнкі Сталіну «Руководство партизанским движением», красавік 1943 г. (Тамсама. Л. 17—21).

[170] Нататка П. Панамарэнкі «Вопросы ЦШПД», без даты (Тамсама. Л. 291).

[171] Дакладная П. Панамарэнкі Сталіну «Руководство партизанским движением», да 17 красавіка 1943 г. (Тамсама. Л. 18).



Цэнтральны штаб можа вырашыць такую дыслакацыю, даводзіў Панамарэнка і падкрэсліваў адначасова неабходнасць цэнтралізаванага забеспячэння амуніцыяй і зброяй, якое ў апошні час пагоршылася.

Аргументы Панамарэнкі ў рэшце рэшт спрацавалі. 17 красавіка 1943 г. Сталін вырашыў аднавіць Цэнтральны штаб і зноў прызначыў Панамарэнку яго начальнікам[172]. Але неўзабаве Сталін мусіў зноў умяшацца, гэтым разам для таго, каб спыніць раздзіманне кіраўнічага апарату. 2 мая 1943 г. Сталін распарадзіўся скараціць органы партызанскага руху з 4 664 да 3 000 чалавек. Панамарэнка ажыццявіў гэтае рашэнне і вызначыў 20 мая ліміт штату Цэнтральнага штаба і рэгіянальных штабоў у 3 000 чалавек, у тым ліку для Цэнтральнага штаба 969 супрацоўнікаў, для Украінскага — 641 і для Беларускага — 442 чалавекі[173].

Яшчэ ў лістападзе 1942 г. колькасць супрацоўнікаў Цэнтральнага штаба і рэгіянальных штабоў складала агулам 1 213 чалавек і мусіла быць скарочана на 407 чалавек[174]. Замест аб'яўленага скарачэння штат супрацоўнікаў Цэнтральнага штаба і рэгіянальных штабоў вырас на май 1943 г. да 4 664 чалавек і раздзьмуўся як кіраўнічы апарат да жудасных памераў.

Варта ўвагі і тое, што ў красавіку 1943 г. Украінскі штаб партызанскага руху, які за некалькі тыдняў да гэтага стаў самастойным, зноў быў падпарадкаваны Цэнтральнаму штабу. Украінскі штаб згодна з рашэннем Сталіна ад 17 красавіка 1943 г. падпарадкоўваўся Цэнтральнаму камітэту Камуністычнай партыі Украіны (КП(б)У). Аднак Украінскі штаб мусіў дакладваць Цэнтральнаму штабу пра стан партызанскага руху і сітуацыю ў акупаванай Украіне, а таксама перадаваць аператыўную і разведвальную інфармацыю[175].

Нам не ўдалося высветліць, якія прычыны былі вырашальныя для гэтага рашэння Сталіна. Але дакладна, што адносіны паміж Украінскім і Цэнтральным штабам вызначаліся канфліктамі ўжо некалькі месяцаў раней. Украінскаму штабу, якім камандаваў Цімафей Стракач, начальнік НКУС Украінскай ССР, увесь час рабіліся закіды наконт няздольнасці і бяздзейнасці. 8 жніўня 1942 г. начальнік палітычнага ўпраўлення Паўднёва-Заходняга фронту Галаджаў пісаў Хрушчову, што Украінскі штаб з часу свайго існавання займаецца толькі самім сабой, г. зн. пашырэннем свайго апарату. Астатняя праца абмяжоўваецца падтрыманнем сувязі з пяццю партызанскімі атрадамі і падрыхтоўкай некаторых дыверсійна-аператыўных груп[176].

[172] Рашэнне ДКА № 3195 ад 17 красавіка 1943 г., падпісанае Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 105, л. 32).

[173] Рашэнне ДКА № 3282 ад 2 мая 1943 г. аб асабовым саставе Чырвонай Арміі, падпісанае Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 112, л. 174—178); загад № 39 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 20 мая 1943 г. аб штатным раскладзе ЦШПР і яго органаў (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 10, л. 74).

[174] Пазнака аб штатным раскладзе Цэнтральнага штаба і рэгіянальных штабоў, лістапад 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 203).

[175] Рашэнне ДКА № 3195 ад 17 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 105, л. 32).

[176] Начальнік палітычнага ўпраўлення Паўднёва-Заходняга фронту Галаджаў Хрушчову, 8 жніўня 1942 г. (ЦАМО. Ф. 229, оп. 242, д. 1, л. 300—302).

26 верасня 1942 г. Варашылаў і Панамарэнка разам звярнуліся да Сталіна з рэзкай крытыкай Цэнтральнага камітэта КП(б)У і Украінскага штаба за памылкі ў партызанскім руху ва Украіне, а таксама за планы Стракача на гэты конт[177]. У выніку крытыкі 9 кастрычніка 1942 г. намеснік народнага камісара абароны Шчадэнка запатрабаваў ад Украінскага штаба рэарганізаваць яго апарат на ўзор толькі што ўтворанага Беларускага штаба з мэтай паляпшэння кіраўніцтва і развіцця партызанскага руху ва Украіне[178].

Акрамя гэтага, Панамарэнка запатрабаваў яшчэ раз праверыць Украінскі штаб, прычым былі выяўленыя шматлікія арганізацыйныя, фінансавыя і гаспадарчыя недахопы і непаладкі[179]. Ствараецца ўражанне, што Панамарэнка проста атакаваў Украінскі штаб прычэпкамі. Гэтыя заўсёдныя канфлікты, магчыма, прывялі да таго, што Стракач праз Берыю і Хрушчова прасіў Сталіна даць самастойнасць Украінскаму штабу і пры гэтым дамогся свайго, тым больш што Хрушчоў у савецкай уладнай іерархіі стаяў значна вышэй за Панамарэнку.

Пасля няпэўнасцей у сакавіку і красавіку 1943 г. і ўзнаўлення 17 красавіка 1943 г. Цэнтральны штаб працаваў адносна спакойна да студзеня 1944 г. У гэты час Сталін выяўляў памяркоўную цікавасць адносна партызанскага руху і час ад часу прымаў Панамарэнку ў сваім крамлёўскім кабінеце[180]. Сталін неаднаразова асабіста ўмешваўся ў справы партызанскага руху[181] і патрабаваў ад Панамарэнкі рэгулярна інфармаваць яго пра становішча і дзейнасць партызанскага руху[182].

У студзені 1944 г., пасля таго як вялікія часткі акупаванага СССР былі вызваленыя, Сталін вырашыў зноў распусціць Цэнтральны штаб,

---

[177] К. Варашылаў і П. Панамарэнка І. Сталіну, 26 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 143).

[178] Загад № 215 народнага камісара абароны Шчадэнкі ад 9 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 26).

[179] Загад № 53 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 15 кастрычніка 1942 г. аб выніках фінансавай і гаспадарчай рэвізіі ЦШПР (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 104—106); Распараджэнне № 2283 начальніка ЦШПР ад 27 снежня 1942 г., падпісанае Сергіенкам і Цімашэнкам (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 43 і наст.).

[180] Кніга ўліку прыёмаў наведнікаў у крамлёўскім кабінеце Сталіна за перыяд з 22.6.1941 г. да 9 мая 1945 г., запіс ад 5 сакавіка 1943 г., надрукавана ў: Горьков Ю. Государственный комитет обороны... С. 223—469.

[181] Параўн., напрыклад, загад № 0073 народнага камісара абароны Сталіна ад 19 красавіка 1943 г. аб паляпшэнні ваеннай разведкі ў партызанскіх атрадах (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 30), надрукаваны таксама ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 13 (2-3). Приказы народного комиссара обороны СССР. 1943—1945 гг. Москва, 1997. С. 129; рашэнне ДКА ад 26 красавіка 1943 г., падпісанае Сталіным, аб мерах па разгортванні партызанскага руху ва Украіне (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 110, л. 24—41); рашэнне ДКА ад 20 кастрычніка 1943 г. аб радыёстанцыях для сувязі партызанаў з разведчыкамі-агентамі, падпісанае Сталіным; надрукавана ў: Партизанское движение. По опыту Великой Отечественной войны… С. 312 і наст.

[182] Параўн. на гэты конт, напрыклад, шматлікія паведамленні П. Панамарэнкі Сталіну і яго бліжэйшым паплечнікам у 1943 г.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 22, 25.



на гэты раз — канчаткова. 13 студзеня 1944 г. Сталін як старшыня ДКА выдаў наступную пастанову:

> Улічваючы той факт, што большасць партызанскіх атрадаў дзейнічаюць на тэрыторыях Беларусі і Украіны, у якіх ёсць свае рэспубліканскія штабы, Дзяржаўны Камітэт Абароны прымае рашэнне 1. распусціць Цэнтральны штаб партызанскага руху […].

Кіраўніцтва партызанскім рухам Сталін усклаў на цэнтральныя камітэты асобных рэспублік, абласныя камітэты і рэспубліканскія штабы. Архіў Цэнтральнага штаба перадаваўся архіву Цэнтральнага камітэта УсеКП(б)[183].

У наступныя дні і тыдні адбыліся роспуск Цэнтральнага штаба і перадача ўсіх паўнамоцтваў рэгіянальным штабам. Школа радыстаў і Цэнтральная школа партызанскіх кадраў таксама былі распушчаныя[184]. Рэгіянальныя штабы працавалі яшчэ да восені 1944 г., за выняткам Украінскага штаба. Беларускі штаб быў распушчаны 18 кастрычніка 1944 г.[185]. Украінскі і Польскі штаб партызанскага руху, які быў утвораны 21 красавіка 1944 г., існавалі да вясны 1945 г.[186]. Украінскі штаб займаўся з лета 1944 г. партызанскім рухам у Чэхаславакіі; яму падпарадкоўваўся таксама Польскі штаб партызанскага руху[187].

---

[183] Рашэнне ДКА № 4945 аб роспуску Цэнтральнага штаба партызанскага руху ад 13 студзеня 1944 г., падпісанае Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 191, л. 154 і наст.).

[184] Загад № 3 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб роспуску ЦШПР ад 14 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 11, л. 2 і наст.); загад № 4 начальніка ЦШПР аб роспуску Цэнтральнай школы партызанскіх кадраў ад 14 студзеня 1944 г.; загад № 5 аб роспуску школы радыстаў ад 14 студзеня 1944 г.; загад № 6 аб роспуску радыёцэнтра ад 14 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 11, л. 9—11, 20—25, 31 і наст.).

[185] Загад штаба 3-га Беларускага фронту аб роспуску аператыўнай групы БШПР ад 4 кастрычніка 1944 г., надрукаваны ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 599; Распараджэнне намесніка начальніка тылу Чырвонай Арміі Ярмоліна з нагоды роспуску Карэла-Фінскага, Эстонскага, Латвійскага, Літоўскага, Ленінградскага і Беларускага штабоў партызанскага руху ад 10 кастрычніка 1944 г., надрукавана ў: Тамсама. С. 493.

[186] Дырэктыва Генеральнага штаба Чырвонай Арміі аб стварэнні штаба польскага партызанскага руху, надрукаваная ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 14 (3-1). СССР и Польша: 1944—1945. К истории военного союза. Документы и материалы. Москва, 1994. С. 143.

[187] Даклад штаба партызанскага руху на Ваенным савеце 1-га Украінскага фронту ЦК УсеКП(б) ад 25 студзеня 1945 г., надрукаваны ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 608—612.

# IV. 1943 год: кульмінацыйны пункт партызанскага руху

1943 год стаў кульмінацыйным пунктам савецкага партызанскага руху, па меншай меры што тычыцца колькасці партызанскіх атрадаў і партызанаў. Лічбы росту сапраўды вартыя ўвагі. 15 жніўня 1942 г., паводле дадзеных Цэнтральнага штаба, мелася 813 партызанскіх атрадаў з 93 497 партызанамі; у тым ліку 252 атрады з 27 444 партызанамі ў Беларусі і 14 атрадаў з 7 500 партызанамі ва Украіне[1]. На 1 студзеня 1943 г. колькасць атрадаў і груп, што зарэгістраваў Цэнтральны штаб ці з якімі ён меў сувязь, вырасла да 1 151, а партызанаў да 110 899. З іх больш за палову, 512 атрадаў і 57 691 партызан, дзейнічалі ў Беларусі і 63 атрады і 8 926 партызанаў — ва Украіне[2].

На 1 ліпеня 1943 г. колькасць атрадаў знізілася да 995, а партызанаў, аднак, вырасла да 139 583, з іх 553 атрады і 80 695 партызанаў былі ў Беларусі, а 128 атрадаў і 21 945 партызанаў — ва Украіне[3]. Сваёй колькаснай кульмінацыі савецкі партызанскі рух дасягнуў восенню 1943 г. 10 снежня 1943 г. колькасць атрадаў і груп складала 1 106, а партызанаў 175 510, у тым ліку 720 атрадаў і 123 420 партызанаў — у Беларусі. Гэта азначае, што 70,3 % усіх савецкіх партызанаў змагаліся ў гэты час у Беларусі. Ва Украіне мелася 147 атрадаў і 25 444 партызаны. Сюды дадаюцца яшчэ 46 брыгад, 51 атрад і 14 груп (усяго 51 735 партызанаў), якія тым часам аб'ядналіся з наступаючай Чырвонай Арміяй, гаворка ідзе пра 26 981 партызана Беларусі[4].

Праўда, з прычыны згаданай слабасці радыёсувязі паміж партызанскімі атрадамі і ЦШПР, наўрад ці варта гаварыць пра адзінае аператыўнае кіраванне партызанскімі атрадамі, бо перадумовай для яго была рэгулярная сувязь з цэнтрам.

## 1. Арганізацыйная структура і становішча

Зімой 1942/43 гг. і вясной 1943 г. у значнай ступені склалася арганізацыйная структура савецкага партызанскага руху, якая заставалася да канца нямецкай акупацыі. У параўнанні з 1941 і 1942 гг. Беларускі штаб партызанскага руху ў 1943 г. і 1944 г. адпраўляў у Беларусь мала арганізацыйных груп або атрадаў. Гэта былі ў асноўным партыйныя актывісты і арганізатары партызанскага руху, што займалі кіраўнічыя пасады ў падпольных структурах[5]. З красавіка 1943 г. да студзеня 1944 г. былі накіраваныя 66 арганізацыйных і спецгруп, а таксама 3 атрады з агулам 771 чалавекам. Акрамя таго, Беларускі штаб ці Цэнтральны камітэт КП(б)Б камандзіравалі ў Беларусь да 200 партыйных, камсамольскіх і іншых актывістаў[6].

[1] Справаздача ЦШПР аб стане партызанскага руху на 15 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 54).

[2] П. Панамарэнка Сталіну, сярод іншага, аб стане партызанскага руху на 1 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 6).

[3] П. Панамарэнка і Навумаў Сталіну, Молатаву і інш. аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 123).

[4] П. Панамарэнка і Навумаў Сталіну, Молатаву і інш. пра стан партызанскага руху на 10 снежня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 163); даклад аператыўнага аддзела ЦШПР ад 24 лютага 1944 г. пра працу на Беларускім участку ў перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 155).



Да вясны 1943 г. з'явілася канчатковая кіраўнічая структура савецкага партызанскага руху:

- Цэнтральны штаб партызанскага руху (ЦШПР);
- рэспубліканскія штабы партызанскага руху;
- абласныя штабы партызанскага руху;
- міжраённыя цэнтры. Міжраённы цэнтр арганізацыйна ахопліваў некалькі суседніх раёнаў адной вобласці. Напрыклад, у Баранавіцкай вобласці было шэсць такіх цэнтраў: Быценскі, Івянецкі, Лідскі, Слонімскі, Стаўбцоўскі і Шчучынскі міжраённыя цэнтры[7];
- раённыя цэнтры.

Усе партызанскія падраздзяленні фармальна падпарадкоўваліся адпаведнаму штабу свайго аператыўнага раёна. Аднак былі і адхіленні ад гэтай структуры. На занятых немцамі тэрыторыях Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі абласныя штабы падпарадкоўваліся непасрэдна Цэнтральнаму штабу. Расійскага партызанскага штаба не мелася.

У Беларусі ў Віцебскай вобласці не было аб'яднанага партызанскага штаба на абласным узроўні, а толькі партызанскія штабы чатырох зон: Асвейска-Расонскай, Ушацкай, Сенненска-Аршанскай і Суражскай ці Віцебскай. Яны падпарадкоўваліся непасрэдна Беларускаму штабу. Акрамя таго, фармальна існавала партызанскае злучэнне і штаб Беластоцкай вобласці, які быў утвораны ў кастрычніку 1943 г. на чале з Піліпам Капустай. У сапраўднасці партызанскае злучэнне Капусты, аднак, дзейнічала не на тэрыторыі Беластоцкай вобласці, а ў заходніх частках Баранавіцкай. Затое ў Мінскай вобласці меліся тры вялікія партызанскія злучэнні: Паўночнае, Усходняе і Паўднёвае, што падпарадкоўваліся партызанскаму штабу Мінскай вобласці[8].

[5] Справаздача БШПР аб выкананні плана на зіму—вясну 1943 г. і аб летнім плане на 1943 г., 30 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 29 об.); вытрымка з даклада ЦК КП(б)Б (П. Панамарэнкі) ад 14 красавіка 1944 г. аб падпольных партыйных арганізацыях і партызанскім руху ў БССР, апублікавана ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 512.

[6] Даклад аператыўнага аддзела ЦШПР ад 24 лютага 1944 г. пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 109 і наст.).

[7] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 35.

[8] Даклад пра стан і разгортванне партызанскага руху ў Беларусі на 1 студзеня 1944 г., раздзел «Кіраўнічыя органы партызанскага руху ў Беларусі» (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 29—43); даклад аператыўнага аддзела ЦШПР ад 24 лютага 1944 г. пра працу на Беларускім участку на перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 112 і наст.). Вось спіс партызанскіх злучэнняў у

Першыя партызанскія групы, якія ўтварыліся ў Беларусі ў 1942 г., найчасцей былі яшчэ слаба структураваныя. Іх склад часта мяняўся, іх дзейнасць не каардынавалася, камандзіраў часта выбіралі галасаваннем. З вясны 1942 г. унутраныя арганізацыйныя структуры сталі больш разнастайнымі. Былі ўведзеныя пасады камандзіра, начальніка штаба і камісара, асобныя атрады пачалі падзяляць на роты, узводы і групы. З часам у падраздзяленнях з'явіліся спецыяльныя групы забеспячэння, разведкі, сувязі, санітарныя і службы бяспекі. Атрады аб'ядноўвалі ў партызанскія брыгады. У Беларусі неўзабаве як арганізацыйная адзінка дамінавала брыгада[9].

17 красавіка 1943 г. у Беларусі было 68 партызанскіх брыгад ці злучэнняў, у якія былі аб'яднаныя 330 атрадаў з агулам 52 520 партызанамі. Сюды варта дадаць 192 самастойныя атрады ці групы з 15 978 партызанамі. Брыгада складалася ў сярэднім з 4—5 атрадаў з 700—750 партызанамі. У студзені 1944 г. колькасць партызанскіх брыгад у Беларусі вырасла да 122, а самастойных атрадаў зменшылася да 127[10]. У студзені 1944 г. у Беларусі меліся яшчэ восем партызанскіх палкоў; аднак большасць іх утварылася не ў Беларусі, а была перакінута ў Беларусь са Смаленскай і Арлоўскай абласцей. Там як арганізацыйная форма былі пашыраныя партызанскія палкі[11].

## 2. Тэрытарыяльнае размеркаванне партызанаў у Беларусі

Арганізацыйная структура, якая паводле афіцыйных дадзеных была комплекснай і шчыльнай, яшчэ зусім не азначала, што асобныя штабы на самай справе ажыццяўлялі аператыўнае кіраўніцтва падраздзяленнямі, якія дзейнічалі на іх тэрыторыях. Перашкоды, а то і шкода выяўляліся ў першую чаргу з прычыны нерэгулярнай сувязі ці яе адсутнасці. Так, Мінскі падпольны абкам КП(б)Б, што меў свой штаб пры Паўднёвым партызанскім злучэнні, меў радыё-

асобных абласцях з адпаведнымі камандзірамі на 13 студзеня 1944 г.; Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 35.

[9] Даклад пра стан і разгортванне партызанскага руху ў Беларусі на 1 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 37—53); выніковы даклад начальніка аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 103 і наст.); Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 36 і наст.

[10] Выніковы даклад начальніка аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 103 і наст., 156 і наст.).

[11] Даклад аб стане і разгортванні партызанскага руху ў Беларусі на 1 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 72 і наст.). У кастрычніку 1943 г. у Магілёўскай вобласці дзейнічалі тры партызанскія палкі: 208-ы (былы 208-ы партызанскі атрад імя Сталіна У. Нічыпаровіча), 277-ы (былы 277-ы атрад) і 15-ы партызанскі полк. Параўн.: Справаздача аб баявых дзеяннях партызанаў Магілёўскай вобласці за кастрычнік 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 160, л. 118—154).



станцыю, праз якую ён падтрымліваў радыёсувязь з шасцю іншымі радыёстанцыямі партызанскіх брыгад. Мінскаму партызанскаму штабу ў канцы 1943 г. падпарадкоўваліся 17 брыгад і 2 самастойныя атрады (19 000 партызанаў), што дзейнічалі ў Мінскай вобласці. Рэгулярная сувязь праз сувязных, якія перамяшчаліся конна ці пехатой, была магчымай толькі з падраздзяленнямі, што дзейнічалі ў непасрэднай блізкасці ад штаба[12].

Але ж каб сапраўды ажыццяўляць аператыўнае кіраўніцтва падначаленымі атрадамі, рэгулярная сувязь была абавязковай. У маі 1943 г. начальнік Беларускага штаба Калінін дакладваў, што ягоны штаб не можа ажыццяўляць аператыўнае кіраўніцтва атрадамі ў Брэсцкай вобласці, бо з імі няма сувязі. Толькі атраду імя Шчорса ўдалося наладзіць і падтрымліваць сувязь з Беларускім штабам[13]. У студзені 1944 г., паводле дадзеных Беларускага штаба, мелася радыёсувязь з усімі партызанскімі атрадамі і брыгадамі, якія дзейнічалі ў Беларусі[14].

Акрамя таго, савецкі партызанскі рух у Беларусі тэрытарыяльна быў распаўсюджаны вельмі няроўна. Паводле дадзеных Цэнтральнага штаба ад 1 лістапада 1942 г., у заходніх абласцях БССР дзейнічаў 3 291 партызан, г. зн. толькі 6,7 % усіх 47 150 партызанаў у Беларусі, якія на той час былі на ўліку Цэнтральнага штаба і Беларускага штаба[15]. У сапраўднасці ж Цэнтральны штаб у той час не меў вартых даверу дадзеных пра стан партызанскага руху на заходніх тэрыторыях Беларускай ССР[16]. У студзені 1943 г. начальнік аператыўнага аддзела Цэнтральнага штаба Сакалоў канстатаваў: «Цэнтральны штаб і Беларускі штаб маюць з атрадамі, якія дзейнічаюць у заходніх абласцях БССР, нерэгулярную сувязь, бо няма радыёсувязі. Ад асобных атрадаў апошнія паведамленні былі ў ліпені—жніўні [1942 г.]»[17].

Дастаўцы радыёстанцый і арганізацыйных груп у заходнія вобласці паветраным шляхам восенню 1942 г. і зімой 1942/43 гг. перашкаджала дрэннае лётнае надвор'е. У канцы 1942 г. і ў пачатку студзеня 1943 г. паветраным шляхам былі накіраваныя некалькі арганізацыйных груп, якія, аднак, прыбылі ў свае раёны дзеяння толькі ў другой па-

[12] Даклад аб стане і разгортванні партызанскага руху ў Беларусі на 1 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 31).

[13] Даклад БШПР аб партызанскім руху ў Брэсцкай вобласці зімой і вясной 1943 г., Калінін, ад 15 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 54 і наст.).

[14] Выніковая справаздача начальніка аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 108).

[15] Справаздача БШПР аб выкананні плана на зіму—вясну 1943 г. і аб летнім плане на 1943 г., 30 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 14).

[16] Праект плана пераходу партызанаў у заходнія вобласці ад 29 снежня 1942 г., прадстаўлены палкоўнікам Бруханавым (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 130, л. 4 і наст.).

[17] План пераходу партызанаў-лыжнікаў атрада Варвашэні ад 11 студзеня 1943 г., прадстаўлены начальнікам аператыўнага аддзела ЦШПР Сакаловым (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 130, л. 26—30).

лове сакавіка[18]. У студзені 1943 г. аператыўны аддзел Цэнтральнага штаба накідаў амбіцыйны план, што прадугледжваў разгортванне партызанскага руху ў Беларусі аж да Усходняй Прусіі[19]. План не быў ажыццёўлены, але ён паказваў, як дрэнна была наладжана савецкая разведка ў заходніх абласцях БССР. Адносна становішча ў мясцовасці вакол Ломжы і Беластока ў Цэнтральнага штаба ўвогуле не было ніякай інфармацыі.

Тым не менш, намаганні Цэнтральнага штаба і Беларускага штаба прынеслі першыя поспехі. У красавіку 1943 г. Цэнтральны штаб меў 15 312 партызанаў, якія дзейнічалі ў заходніх абласцях і звыш 53 180 партызанаў ва ўсходніх абласцях[20]. Гэта азначае, што 77,6 % ад усіх улічаных савецкіх партызанаў у Беларусі дзейнічала ва ўсходніх абласцях і 22,4 % — у заходніх. Вясной 1943 г. Беларускі штаб распарадзіўся перакінуць дзесяць атрадаў з усходніх раёнаў у Брэсцкую і Беластоцкую вобласці, што, аднак, было зроблена толькі часткова і са спазненнем[21].

У наступныя месяцы Беларускі штаб распарадзіўся перакінуць з усходніх у заходнія вобласці яшчэ некалькі атрадаў. У Вілейскую вобласць прыбылі сем атрадаў, якія былі вылучаныя з брыгад, што дзейнічалі ў раёне вакол Полацка, Бягомля і Лепеля (на паўночны ўсход ад Мінска). У Брэсцкую вобласць былі перакінутыя адна брыгада і адзін атрад, а ў Беластоцкую вобласць — брыгада, атрад і дзве групы[22].

У маі 1943 г. Панамарэнка загадаў Піліпу Капусту з яго злучэння, якое дзейнічала на поўдзень і паўднёвы ўсход ад Мінска, утварыць спецыяльную маршавую брыгаду з 2 000 партызанаў. Капуста павінен быў здзейсніць пераход з боем праз Беластоцкую вобласць і іншыя польскія раёны на паўднёвы захад ад Беластока[23]. У тым жа месяцы Панамарэнка распарадзіўся стварыць яшчэ адну маршавую брыгаду, якая таксама з Беластоцкай вобласці мусіла прабіцца на паўднёвыя тэрыторыі Усходняй Прусіі і ў паўночна-ўсходнія раёны Польшчы[24].

[18] План пераходу партызанаў-лыжнікаў атрада Варвашэні ад 11 студзеня 1943 г., прадстаўлены начальнікам аператыўнага аддзела ЦШПР Сакаловым (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 130, л. 26—30). Дадзеных пра тое, ці дасягнулі ў сапраўднасці гэтыя групы сваіх раёнаў дзеяння, атрымаць не ўдалося.

[19] План разгортвання партызанскага руху ў межах БССР ад 12 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 130, л. 34—45).

[20] Выніковая справаздача начальніка аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 103 і наст.).

[21] Справаздача БШПР аб выкананні плана на зіму—вясну 1943 г. і аб летнім плане на 1943 г., 30 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 18 і наст.).

[22] Выніковая справаздача начальніка аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 109 і наст.).

[23] Загад № 73 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 2 мая 1943 г. аб фармаванні маршавай брыгады для спецзаданняў (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 10, л. 71).

[24] План партызанскіх дзеянняў на польскай тэрыторыі ад 17 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 39, л. 25—37).



Гэты план, у адрозненне ад утварэння маршавай брыгады Капусты, нават не быў распачаты.

Падрыхтоўка злучэння Капусты да маршу расцягнулася на месяцы. Толькі ў лістападзе 1943 г. злучэнне рушыла ў накірунку да паўночна-ўсходніх раёнаў Баранавіцкай вобласці на мяжы з Беластоцкай вобласцю, налічваючы каля 1 500 чалавек і абоз у 500 фурманак і гармат. Аднак план пацярпеў крах. Партызаны былі сустрэтыя немцамі, ачэпленыя і разагнаныя. Толькі пры дапамозе мясцовых партызанаў брыгадзе пашэнціла вырatавацца з акружэння. Увесь іх абоз з падводамі, гарматамі, боепрыпасамі і выбухоўкай застаўся ў катле. Брыгада потым адступіла ў Ліпічанскую пушчу на захадзе Баранавіцкай вобласці[25].

Нягледзячы на сваю няўдачу, марш злучэння Капусты набыў нядобрую славутасць з прычыны здзейсненага маштабнага рабаўніцтва. Гэта пацвярджаюць і савецкія крыніцы[26]. Антон Трацэўскі, сакратар Аўгустоўскага падпольнага міжрайкама КП(б)Б, пісаў Панамарэнку:

> Што тычыць гэтага маршу, гэта быў адмысловы марш у сэнсе рабаўніцтва, якое дапусціла камандаванне. Гэта праявілася і праз абставіны, што раптам усе партызаны сталі коннікамі, і праз бясконцы абоз. Коней, само сабой зразумела, яны адабралі ў сялян, акрамя таго, яны забралі ў сялян усё, што толькі траплялася пад руку[27].

І ў Ліпічанскай пушчы партызаны Капусты, відавочна, працягвалі рабаўніцтва. Бо ў лютым 1944 г. кіраўніцтва Баранавіцкага партызанскага злучэння прапанавала Беларускаму штабу:

> Выдайце, калі ласка, загад Емяльянаву і Капусту спыніць рабаўніцтва яго партызанамі. З'яўленне Капусты ў Ліпічанскай пушчы абвастрыла адносіны паміж насельніцтвам і партызанамі. З-за рабаўніцтва нас лічаць бандытамі[28].

У канцы лістапада 1943 г. Беларускі штаб выпрацаваў новы план, які прадугледжваў перамясціць 18 атрадаў з агулам 13 772 партызанамі з усходніх абласцей (Віцебскай, Пінскай, Магілёўскай, Мінскай) у заходнія[29]. І гэты план быў ажыццёўлены толькі часткова, перамешчана было толькі пяць атрадаў з 3 500 партызанамі. План нельга было вы-

[25] Апісанне баёў беларускіх партызанаў, без даты, у дадзеным выпадку «Баявы пераход брыгады Капусты» (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 80, арк. 53—56); гісторыя партызанскай брыгады імя Ленінскага камсамола (май 1942 г. — чэрвень 1944 г.), [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 261, арк. 135—165), перакладзена і надрукавана ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 86.

[26] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 134.

[27] Паведамленне Антона Трацэўскага П. Панамарэнку, [канец лістапада 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 569, арк. 55 і наст.); цытавана ўрыўкамі ў: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 134.

[28] Радыёграма Шупені Ганенку, № 1384 ад 14 лютага 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 46, арк. 72).

[29] План перамяшчэння партызанскіх падраздзяленняў у заходнія вобласці БССР, складзены ў лістападзе 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 126, л. 10—15).

канаць, бо некаторыя падраздзяленні, што падлягалі перамяшчэнню, не атрымалі амуніцыі, іншыя атрымалі спецзаданні ў сваіх аператыўных раёнах, а некаторыя ўвогуле не атрымалі ніякага загаду[30].

На 15 студзеня 1944 г. колькасць партызанаў у заходніх абласцях вырасла да 36 850 з агулам 121 930 партызанаў у Беларусі, г. зн. у студзені 1944 г. 30 % усіх савецкіх партызанаў дзейнічала ў Беларусі ў заходніх і 70 % ва ўсходніх абласцях[31]. Гэтая нераўнамернасць размеркавання савецкага партызанскага руху ў Беларусі заставалася да канца нямецкай акупацыі.

У той час, калі ў 1943 г. ва ўсходніх абласцях Беларусі цэлыя мясцовасці былі пад уладай партызанаў, у заходніх дзейнічала адносна невялікая іх колькасць. Выключэннем была Баранавіцкая вобласць са сваімі вялікімі тэрыторыямі лясоў і балот. У Беластоцкай вобласці, наадварот, практычна амаль не было савецкіх партызанаў, нягледзячы на інтэнсіўныя намаганні з боку Цэнтральнага штаба і Беларускага штаба, а таксама ўсе амбіцыйныя планы, якія, аднак, не былі ажыццёўленыя.

## 3. Партызанскія зоны

Характэрная рыса савецкага партызанскага руху ў Беларусі — закрытыя зоны, якія кантраляваліся партызанамі і дзе яны нават фармавалі структуры савецкай улады. Першыя з такіх партызанскіх зон, як, напрыклад, Клічаўская (злучэнне Нічыпаровіча), з'явіліся яшчэ вясной 1942 г. У 1943 г. гэтыя зоны былі пэўнай вызначальнай прыкметай партызанскага руху ва ўсходніх частках БССР, асабліва ў Віцебскай і Мінскай абласцях. У Віцебскай вобласці ўтварыліся чатыры партызанскія зоны: Асвейска-Расонская (на поўнач ад Полацка), Ушацкая (на поўдзень ад Полацка), Сенненска-Аршанская (на поўдзень ад Віцебска) і Суражская (на паўночны ўсход ад Віцебска). У Мінскай вобласці існавалі тры вялікія партызанскія зоны: Бягомльска-Лепельская (на паўночны ўсход ад Мінска), Барысаўская, якая на ўсходзе межавала з Клічаўскай зонай (Магілёўская вобласць), і Паўднёвая зона, на поўдзень ад Мінска (Узда, Капыль, Чырвоная Слабада, Старыя Дарогі, Любань, Глуск), яна межавала на поўдні з Палескай вобласцю[32]. У другой палове 1943 г. дадаліся зоны вакол возера Нарач і зона Налібоцкай пушчы (Баранавіцкая вобласць)[33].

---

[30] Выніковая справаздача начальніка аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 110).

[31] Тамсама. Л. 110, 112.

[32] Даклад пра стан і разгортванне партызанскага руху ў Беларусі на 1 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 29—43); справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР ад 24 лютага 1944 г. пра працу на Беларускім участку ў перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 112 і наст.).

[33] Практычны план аператыўнага аддзела БШПР супрацоўніцтва партызанаў з Чырвонай Арміяй ад 18 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 69, л. 2—13, 60—73).



Партызанскія зоны ў Беларусі займалі на 1 студзеня 1944 г., паводле дадзеных Беларускага штаба, 37 800 км$^2$. Сюды дадаваліся яшчэ 108 000 км$^2$, якія грунтоўна кантраляваліся партызанамі. Агульная плошча БССР у межах чэрвеня 1941 г. складала 225 700 км$^2$[34]. Гэтыя лічбы супадаюць з нямецкімі дадзенымі. У жніўні 1943 г. у тыле групы армій «Цэнтр», які галоўным чынам займаў усходнія тэрыторыі Беларусі, 46 працэнтаў (52 150 км$^2$) лічыліся «бандыцкімі», г. зн. цалкам у руках партызанаў, 31 працэнт — «заражанымі бандытызмам», г. зн. пад кантролем партызанаў, і толькі 23 працэнты — мірнымі[35].

Праўда, тэрыторыі пад панаваннем партызанаў у агульнай масе былі гаспадарча менш урадлівымі ці няўдобіцамі, таму і заселеныя былі даволі слаба. Гэта былі вялікія лясныя і балотныя масівы, як, напрыклад, Клічаўская ці Бягомльска-Лепельская зоны. Межы зон былі няўстойлівыя, як правіла, яны праходзілі па важных транспартных лініях і паўз вялікія гарады, якія немцы трывала трымалі ў сваіх руках.

Большасць атрадаў і партызанаў у Беларусі канцэнтравалася на гэтых партызанскіх тэрыторыях. У красавіку 1943 г. у Віцебскай і Мінскай абласцях, дзе мелася пяць вялікіх партызанскіх зон, дзейнічалі 165 атрадаў з 38 018 партызанамі, г. зн. 55 % усіх партызанаў (усяго 68 498) ці 50 % усіх атрадаў (522) у Беларусі. Сюды дадаецца яшчэ Клічаўская зона з некалькамі тысячамі партызанаў. У студзені 1944 г. у Віцебскай і Мінскай абласцях дзейнічалі 359 атрадаў з усяго 60 710 партызанамі, прычым ужо не было больш Суражскай зоны, яна была вызвалена Чырвонай Арміяй восенню 1943 г. Гэта азначае, што больш як палова ўсіх партызанаў (121 903 чалавекі і 723 атрады) у Беларусі дзейнічала ў студзені 1944 г. у Мінскай і Віцебскай абласцях. Сюды дадаюцца яшчэ зона Налібоцкай пушчы (Баранавіцкая вобласць) з прыкладна 10 000 партызанамі, Клічаўская зона (18 000) і зона вакол возера Нарач (Вілейская вобласць) з некалькімі тысячамі партызанаў[36].

Варта ў гэтай сувязі згадаць дакладную Панамарэнкі пра стан партызанскага руху ад 5 ліпеня 1942 г. У ёй Панамарэнка назваў утварэнне вялікіх партызанскіх злучэнняў і партызанскіх зон памылкай, якую трэба выпраўляць. Панамарэнка заявіў у дакладной, што вялікія злучэнні трэба падзяліць на меншыя атрады ад 100 да 150 партызанаў і дэцэнтралізаваць іх, г. зн. партызанскія зоны трэба ліквідаваць. Пры гэтым Панамарэнка назваў вялікія партызанскія злучэнні «зборышчамі», якія ў ваенным сэнсе адыгрываюць нязначную ролю[37].

---

[34] Вынікі баявой дзейнасці беларускіх партызанаў супраць нямецкіх агрэсараў у 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 328—335). На 1 студзеня 1944 г. 184 700 км$^2$ беларускай тэрыторыі яшчэ знаходзіліся пад нямецкай акупацыяй, астатнія тэрыторыі былі вызваленыя часцямі Чырвонай Арміі восенню 1943 г. (Тамсама).

[35] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 1030.

[36] Справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР ад 24 лютага 1944 г. пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 155); вынікі баявых дзеянняў беларускіх партызанаў супраць нямецкіх агрэсараў у 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 332—335).

[37] Дакладная запіска начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., 5 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 11—16).

Прыведзеныя вышэй факты і лічбы, аднак, паказваюць, што ў Беларусі партызанскі рух разгортваўся менавіта так, як таго не хацеў Панамарэнка. З'явіліся вялікія партызанскія зоны і партызанскія злучэнні, якія ўражвалі сваёй плошчай і колькасцю байцоў, але ў ваенна-стратэгічных адносінах мелі невялікі сэнс. У красавіку 1943 г. Панамарэнка ў прыведзенай ужо дакладной запісцы зноў звяртаў увагу на праблематычнасць вялікіх партызанскіх злучэнняў і зон і заяўляў аб неабходнасці дэцэнтралізацыі гэтых злучэнняў, таму што ў ваенных адносінах яны маюць мала сэнсу, як ён гэта дэманстраваў на прыкладзе злучэння ў Бранскіх лясах[38].

Не нашмат лепш функцыянавалі партызанскія зоны ў Беларусі. Партызанскія злучэнні, нягледзячы на свае колькасныя памеры, не маглі доўга ўтрымліваць свае зоны. Супраць канцэнтраваных нямецкіх падраздзяленняў з самалётамі, гарматамі, а таксама танкамі партызаны не мелі ніякіх шанцаў. Адзіным выйсцем у выпадку вялікай аперацыі супраць зоны ці партызанскага злучэння заставалася своечасова пакінуць раён дзеяння ці, калі кола ўжо было замкнёна, вырывацца з акружэння. Працяглая абарона сваіх пазіцый, нават у балотах і лясах, выключалася з прычыны адсутнасці забеспячэння боепрыпасамі. Пры спробах прарыву са шматлікіх катлоў 1943 г. партызаны часта неслі адчувальныя страты, атрады і брыгады развальваліся, і патрэбны быў час, каб іх сабраць зноў.

Як прыклад тут можа служыць Асвейска-Расонская зона (на поўнач ад Полацка). 27 лютага 1943 г. начальнік штаба партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь» Дорменеў звярнуўся з радыёграмай да Сталіна:

> Я як камандзір і камуніст лічу сябе абавязаным далажыць пра становішча на партызанскай зямлі паміж Невелем — Полацкам — Дрысай — Себежам — Ідрыцай наступнае: на месцы няма ніякага цэнтральнага кіраўніцтва, пануе анархія, безадказнае забеспячэнне боепрыпасамі. Праціўнік б'е нас па чарзе, творыць жудасныя злачынствы ў адносінах да цывільнага насельніцтва, знішчае населеныя пункты[39].

За тыдзень да таго камандзір брыгады Раманаў высунуў цяжкія абвінавачванні супраць Ахоціна, камандзіра партызанскай брыгады ў Расонскім раёне:

> Ахоцін дыскрэдытаваў сябе ў вачах партызанаў і насельніцтва. На яго сумленні звыш 200 забітых немцамі грамадзян, ганебныя ўцёкі, страта лагера і некалькіх атрадаў і злачынная бяздзейнасць. Прашу дазволу на арышт[40].

Панамарэнка неадкладна адрэагаваў на гэтыя непарадкі і ў пачатку сакавіка 1943 г. у зону прыбыў кіраўнічы супрацоўнік аператыўнага ад-

[38] Гл. главу III, с. 214—215.
[39] Радыёграма Сталіну, № 9554 ад 27 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 1, арк. 590).
[40] Радыёграма № 755 ад 16 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 1, арк. 524).



дзела Беларускага штаба Бардадын. Яму было даручана арганізаваць абарону партызанаў ад заўсёдных атак немцаў на зону, стварыць на месцы новыя партызанскія атрады і перамясціць іх у Вілейскую вобласць, дэцэнтралізаваць Расонскае партызанскае злучэнне, а таксама арганізаваць прыём і размеркаванне зброі і боепрыпасаў. У Расонскім раёне на гэты час знаходзіліся шматлікія партызанскія падраздзяленні з суседніх тэрыторый, якія яны былі вымушаныя пакінуць у мінулыя месяцы з прычыны нямецкай аперацыі[41].

Пасля свайго прыбыцця 8 сакавіка 1943 г. Бардадын выявіў, што становішча ў зоне было няясным і вельмі цяжкім. Некалькі тыдняў таму назад, з 24 студзеня да 12 лютага 1943 г., прайшла аперацыя «Заяц-бяляк» (*«Schneehase»*) супраць партызанаў Расонскага раёна[42]. Партызаны адышлі ў суседні Асвейскі раён, прычым мінімум адна брыгада развалілася. Частка брыгады разбеглася, шмат партызанаў загінула, іншыя перабеглі да немцаў. Агульныя страты брыгады склалі каля 50 %[43].

Нямецкія каманды ў час аперацыі «Заяц-бяляк», паводле іх дадзеных, расстралялі 2 283 «партызаны», сярод іх было, напэўна, каля 2 000 цывільных. Яшчэ 288 чалавек яны забралі на прымусовую працу, нарабавалі 2 789 галоў жывёлы, 85 тон жыта, 143 тон сена і пакінулі раён. У аперацыі бралі ўдзел чатыры ахоўныя палкі, тры групы ТПП (тайнай палявой паліцыі) і айнзацкаманда 9[44].

Праз чатыры дні, 16 лютага, пачалася аперацыя «Зімовае чараўніцтва» (*«Winterzauber»*), якая ахоплівала Асвейскі раён і латвійскую памежную тэрыторыю на паўночны захад ад Асвеі. Мэта аперацыі палягала ў тым, каб стварыць на мяжы з Латвіяй «мёртвую зону», бо, як гаворыцца ў адным нямецкім дакладзе, «бандыцкая дзейнасць у канцы студзеня 1943 г. настолькі ўзмацнілася ва ўсходніх памежных раёнах [так у арыгінале] Латвія — Латгалія, што многія жыхары пакінулі свае гаспадаркі і пераехалі ў глыб краіны»[45].

Савецкія крыніцы пацвярджаюць, што партызаны з Беларусі здзяйснялі ў Латвіі сапраўдныя рабаўнічыя налёты. У лютым 1943 г.

[41] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 58—87).
[42] Тамсама; Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 326 і наст.; Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 901.
[43] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 60).
[44] Паведамленні з акупаваных усходніх раёнаў № 39 (Российский государственный военный архив (РГВА). Ф. 500, оп. 1, д. 756, л. 72); Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 901. Герлах называе лічбу ахвяр 2 283 чалавекі. Але сярод іх былі не толькі цывільныя, але і невядомая колькасць забітых партызанаў. Немцы назвалі ў якасці ўласных страт 37 забітых, а ў якасці трафеяў — 54 вінтоўкі. Захопленыя 54 вінтоўкі сведчаць пра тое, што партызанаў загінула адносна мала, так што колькасць забітых цывільных магла дасягаць 2 000 чалавек.
[45] Паведамленні з акупаваных усходніх раёнаў № 39 (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 756, л. 70).

начальнік палітычнага аддзела Цэнтральнага штаба партызанскага руху пісаў:

> Паводле наяўных звестак, партызаны Дрысенскай брыгады (камандзір брыгады Герасімаў) і брыгады Захарава, што пранікалі на тэрыторыю Латвіі, займаліся рабаўніцтвам, прычым гэтыя рабункі мелі арганізаваны характар. […] Гэта не адзінкавыя звесткі пра незаконныя дзеянні Герасімава[46].

Кабулаў, адзін з намеснікаў Берыі, 13 ліпеня 1943 г. паведамляў Панамарэнку:

> Восенню 1942 г. Дрысенская брыгада пад камандаваннем Герасімава арганізавала марш у Латвію. Партызаны брыгады пры гэтым прынеслі з сабой з Латвіі вопратку, валізы, патэфоны, дзіцячае адзенне і іншыя тавары, якія яны адабралі ў насельніцтва[47].

Брыгада пад камандаваннем Захарава з Асвейскага раёна таксама неаднойчы пранікала на латвійскую тэрыторыю, каб там «змагацца супраць нямецка-фашысцкіх агрэсараў», як запэўніваў пазней яе камандзір[48]. Як праходзілі гэтыя ўяўныя баі на самай справе, дакладваў Панамарэнку Судаплатаў 9 лютага 1943 г.: «Брыгады Герасімава, Захарава і іншых сістэматычна рабавалі ў Латвіі. Герасімаў кажа: "То мы штурмуем вёску, то акружым хутар". У гэтай сувязі немцы кажуць латышам: "Партызаны хочуць вас знішчыць, бярыце ў рукі зброю"»[49].

Аперацыя «Зімовае чараўніцтва» цягнулася да 30 сакавіка 1943 г., прычым нямецкія і «мясцовыя» падраздзяленні натыкнуліся на слабы супраціў. У аперацыі бралі ўдзел сем ахоўных батальёнаў, у тым ліку чатыры латышскія, па адным — літоўскі, эстонскі і ўкраінскі. Сюды дадамо матарызаваныя жандарскія падраздзяленні, групу лётчыкаў, артылерыю, зеніткі і службы сувязі, зенітныя баявыя часці і некалькі самалётаў — усяго 2 500 чалавек. Як і было прадугледжана, уздоўж мяжы была ўтворана «мёртвая зона»[50]. Колькасць загінулых ахвяр падчас аперацыі «Зімовае чараўніцтва» вызначаецца лічбай 3 904, прычым гэта былі ў асноўным нявінныя і безабаронныя цывільныя (жанчыны, старыя, дзеці); колькасць вывезеных на прымусовую працу вызначаецца лічбай 7 465[51].

---

46 Начальнік палітычнага аддзела ЦШПР У. Малін прадстаўніку ЦШПР на Калінінскім фронце Бельчанку, 12 лютага 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1112, л. 55).

47 Намеснік народнага камісара ўнутраных спраў Б. З. Кабулаў да П. Панамарэнкі, 13 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 104 і наст.).

48 Стэнаграма размовы з Іванам Захаравым ад 29 мая 1946 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 116, арк. 199—205).

49 П. Судаплатаў да П. Панамарэнкі, 9 лютага 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 35).

50 Тамсама; Birn R. B. «Zaunkönig» an «Uhrmacher». Große Partisanenaktion 1942/42 am Beispiel des «Unternehmens Winterzauber» // Militargeschichtliche Zeitschrift. Bd. 60. 2001. S. 99—118. Ахоўны батальён налічваў толькі 300 байцоў. Гл.: Агляд аб сілах, ужытых для барацьбы з бандамі ў тыле групы армій «Цэнтр» (BA-MA. RH 22/233, Bl. 305—314).

51 Birn R. B. «Zaunkönig» an «Uhrmacher»… S. 115; Gerlach K. Kalkulierte Morde… S. 901.



Як згадвалася, Бардадын 8 сакавіка 1943 г. прыбыў у зону і ўбачыў такую сітуацыю: партызаны з Асвейскага і Дрысенскага раёнаў, супраць якіх у першую чаргу была накіравана аперацыя, адцягнуліся на гэты раз у Расонскі раён, прычым пры сваім адыходзе пакінулі зброю, гарматы і кулямёты. Не было адзінага кіраўніцтва сканцэнтраваных у Расонскім раёне партызанаў, панаваў хаос, у партызанаў закончыліся боепрыпасы. Акрамя таго, у раёне знаходзіліся яшчэ тысячы ўцекачоў з суседніх раёнаў, якія шукалі прытулку ў лясах. Нямецкая авіяцыя сістэматычна бамбіла як партызанаў, так і ўцекачоў[52].

Прыбыўшы на месца, Бардадын узяў на сябе камандаванне ўсімі падраздзяленнямі ў зоне. Ён арганізаваў і каардынаваў абарону, а Беларускі штаб пастаўляў партызанам паветраным шляхам боепрыпасы. Цяпер партызаны пачалі, па словах Бардадына, арганізавана аказваць супраціў, і іх становішча палепшылася. Бардадын пры гэтым сцвярджаў, што партызанам давялося змагацца супраць прыблізна 15 000 варожых салдат, на самай жа справе іх было 2 500, партызанаў жа, сканцэнтраваных у Расонскім раёне, налічвалася каля 7 000 чалавек. Сюды варта дадаць яшчэ чатыры брыгады з расійскай Калінінскай вобласці, якія таксама знайшлі прытулак у Расонскім раёне. Усяго, такім чынам, у гэты час у раёне было каля 10 000 партызанаў[53].

У рэшце рэшт, паводле справаздачы Бардадына, варожыя падраздзяленні, сустрэўшы адважны супраціў партызанаў, мусілі адступіць ні з чым. Адступленне варожых часцей падтрымлівала авіяцыя. Пры гэтым нямецкія і «тутэйшыя» каманды палілі ўсе населеныя пункты і забівалі іх жыхароў ці вывозілі іх на прымусовую працу. Пасля заканчэння баёў Бардадын загадаў усім атрадам вярнуцца на свае першапачатковыя месцазнаходжанні. Бардадын сцвярджаў, што партызаны ў быццам зацятых баях забілі 1 500 варожых салдат пры сваіх стратах — 51 забітым і 110 параненых[54]. У справаздачах Беларускага штаба варожыя страты яшчэ больш «выраслі». 4 красавіка 1943 г. Беларускі штаб партызанскага руху дакладваў, што брыгада імя Сталіна пад камандаваннем Ахоціна разбіла чатыры варожыя батальёны, у тым ліку два латышскія, усяго 2 500 чалавек. Партызаны ж брыгады Захарава забілі 623 «гітлераўцы» і 222 паранілі[55].

Пра гэтыя ўяўныя поспехі ў красавіку 1943 г. даведаўся камісар брыгады імя Ленінскага камсамола Перуноў, які, раз'юшаны, звярнуўся да Калініна: «У час баёў у лютым 1943 г. кіраўніцтва брыгады Захарава схавалася з 17 чалавекамі ў невядомым месцы і пакінула сваіх партызанаў у акружэнні». Быццам толькі камандзір брыгады імя Ленінскага камсамола вывеў партызанаў брыгады Захарава з катла.

---

52 Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 58—87).

53 Тамсама.

54 Тамсама.

55 Аператыўны даклад № 12 БШПР ад 1 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 3, арк. 57).

Я мушу таксама далажыць, — *пісаў Перуноў*, — што пасля аперацыі брыгада Захарава была небаяздольнай. Яна залягла ў лесе і баялася паказацца ў населеных пунктах, не тое, што ваяваць. Мне стала вядома, што Захараў зрабіў справаздачу, што ён быццам падчас экспедыцыі знішчыў шмат тысяч немцаў. Калі ён гэта сапраўды сцвярджаў, гэта азначае падман партыі і ўрада[56].

Нягледзячы на гэта, варожыя страты пра тыя ж самыя баі ў справаздачы Беларускага штаба, якая была напісана праз год, выраслі да 3 500 забітых і параненых ворагаў, а ўласныя страты партызанаў засталіся стабільнымі — 161 забіты і паранены[57]. Такім чынам, у савецкіх справаздачах варожыя страты значна пераўзыходзілі колькасць тых, хто ўвогуле браў удзел у аперацыі.

Паводле нямецкіх дадзеных, страты на нямецкім баку склалі 7 забітых, 1 зніклы без вестак і 6 параненых. Пра моцныя баі супраць партызанаў у нямецкіх справаздачах увогуле няма і гаворкі, і менш за ўсё ў Расонскім раёне. Там у сакавіку 1943 г. не было ніякіх баёў. Беціна Бірн піша ў сваім артыкуле пра аперацыю «Зімовае чараўніцтва»:

> Уласныя страты малыя, іх можна нават патлумачыць «уласнай неасцярожнасцю». Згодна са зробленымі паведамленнямі, баі адбываюцца з колькасна малымі групамі партызанаў, вялікая згаданая група налічвала 200 партызанаў. Увесь час прыходзілі звесткі, што сярод партызанаў былі многія «прымусовыя»[58] людзі, якія часткова дэзерціравалі і падтрымлівалі немцаў[59].

Бардадын падчас свайго трохтыднёвага знаходжання ў зоне — ён вылецеў 29 мая — выявіў у партызанскіх падраздзяленнях Асвейска-Расонскай зоны грубыя арганізацыйныя недахопы, слабасці і непарадкі. Брыгада імя Сталіна, якая дзейнічала ў Расонскім раёне, налічвала 2 123 партызаны. Увогуле 670 з іх належалі да каманднага складу і забеспячэнскага апарату, гэта значыць трэцяя частка партызанаў актыўна не ваявала. У атрадзе імя Молатава, адным з атрадаў брыгады імя Сталіна (160 партызанаў), 62 належалі да штаба і забеспячэнскага апарату. Бардадын загадаў радыкальна скараціць камандны склад і забеспячэнскі апарат. «Часткова гэта ўжо зроблена», паведамляў ён 25 мая 1943 г.[60].

[56] Паведамленне Перунова Калініну пра нямецкую аперацыю супраць партызанаў у лютым 1943 г., 13 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 25 і наст.).
[57] Справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР ад 24 лютага 1944 г. пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 106).
[58] Пад «прымусовымі людзьмі» маюцца на ўвазе гвалтоўна мабілізаваныя.
[59] Birn R. B. «Zaunkönig» an «Uhrmacher»... S. 109.
[60] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 58—87).



Падобныя абставіны, раздзьмуты камандны склад і забеспячэнскі апарат панавалі таксама і ў іншых брыгадах Віцебскай вобласці[61]. Бардадын выявіў у Асвейска-Расонскай зоне сярод партызанаў таксама рабаўніцтва і п'янства. Камандзіра аднаго атрада 3-й Беларускай брыгады давялося зняць з пасады, таму што ён дапусціў «велізарныя» рабункі. У брыгадзе часта даходзіла і да алкагольных эксцэсаў і бязмэтнай страляніны[62]. У іншых падраздзяленнях, відавочна, панавалі такія самыя абставіны. Паводле аднаго даклада НКУС за ліпень 1943 г., п'янства ў Дрысенскай брыгадзе было вельмі распаўсюджана, там «п'юць камандзіры атрадаў Сувораў і Калінін»[63].

У іншым дакладзе гаворыцца: «Камандзір, камісар і партызаны атрада імя Катоўскага брыгады Захарава п'юць у вёсках і крадуць, так што насельніцтва не тое што незадаволена, яно нават баіцца іх»[64]. Сярод партызанаў пры гэтым здараюцца сваркі, якія часам нават канчаліся смяротна. «Зімой 1943 г. п'яны другі сакратар Себежскага райкама Пятроў застрэліў партызана. П'яны вайсковы ўрач 2-га рангу з брыгады Захарава Вараб'ёў застрэліў камандзіра Асвейскай брыгады з рэўнасці»[65].

Брыгада «Спартак», якая восенню 1942 г. перамясцілася з Вілейскай вобласці ў Расонскі раён, зімой 1942/43 гг. не праводзіла ніякіх аперацый, акрамя выпадковых баёў з нямецкімі карнымі атрадамі. Партызаны гэтай брыгады гналі самагонку і ўпадалі ў п'янства[66].

> Брыгада Караткова ў сакавіку 1943 г. парэзала ў вёсцы Залессе Расонскага раёна ўсю жывёлу і забрала ў вяскоўцаў рэчы, замест таго, каб арганізаваць абарону ад карных экспедыцый[67].

Таксама дыверсійны атрад пад камандаваннем Глазунова, які дзейнічаў на ўчастку чыгункі Полацк — Віцебск, зімой 1942/43 гг. адступіў ад нямецкіх карных экспедыцый у Расонскі раён. Камандзір

[61] Пратакол № 19 ад 14 сакавіка 1943 г. пасяджэння бюро Віцебскага абкама КП(б)Б (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 108 і наст.); пратакол пасяджэння бюро Полацкага абкама ад 25 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 262, арк. 226 і наст.).
[62] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 58—87).
[63] Намеснік народнага камісара дзяржаўнай бяспекі Б. З. Кабулаў П. Панамарэнку, 13 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 104 і наст.).
[64] Капітан Пруднікаў і паліткамісар Глезін Віцебскаму абкаму, копія ў Галоўнае ўпраўленне дзяржаўнай бяспекі НКУС, без даты, [канец снежня 1942 г. — пачатак 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1059, л. 51 і наст.).
[65] Намеснік народнага камісара НКДБ Кабулаў П. Панамарэнку, 13 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 104 і наст.).
[66] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 74).
[67] Намеснік народнага камісара НКДБ Кабулаў П. Панамарэнку, 13 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 104 і наст.).

з групай па дарозе адлучыўся ад атрада і пайшоў у Суражскую зону. Камандаванне атрадам узяў на сябе начальнік штаба Небрадоўскі. Пад яго камандаваннем атрад не праводзіў амаль ніякіх аперацый.

> Ён [Небрадоўскі] загадаў сваім партызанам гнаць самагонку. Небрадоўскі, сам п'яніца, гвалтаваў жанчын пад пагрозай зброі і ўрэшце расстрэльваў іх разам з іх мужамі. [...] Калі я [Бардадын] даведаўся пра гэта, я распарадзіўся арыштаваць яго. [...] На падставе вынікаў расследавання Небрадоўскі быў расстраляны[68].

Гэта былі не адзінкавыя згвалтаванні, здзейсненыя партызанамі ў зоне[69].

Бардадын праводзіў усе захады па навядзенні дысцыпліны партызанаў не без супраціву. Марчанка, камандзір адной з брыгад у зоне, скардзіўся ў пачатку красавіка 1943 г. Калініну:

> Бардадын аб'явіў сам сябе камандзірам брыгады. Ён падрывае аўтарытэт камандзіраў. Ён перамяшчае іх у рамках брыгады, а сваімі ўласнымі справамі не займаецца. Прыміце меры[70].

Гэты зварот застаўся, відавочна, без водгуку, і Бардадын працягваў сваю справу. Толькі ў канцы мая 1943 г. ён вылецеў у савецкі тыл.

Адной з галоўных слабасцей партызанаў Асвейска-Расонскай зоны было ўзбраенне. Перш-наперш не хапала вінтовак. 2 123 партызаны брыгады імя Сталіна мелі звыш 1 228 вінтовак, 55 лёгкіх і 26 цяжкіх кулямётаў і 192 аўтаматы. Баявы дух таксама жадаў быць лепшым. За месяцы са студзеня да сакавіка 1943 г. тысячы партызанаў здзейснілі толькі некалькі падрываў чыгункі. Сярод іх распаўсюдзілася ўпэўненасць, так сцвярджаў Бардадын, што падрывы чыгункі нельга ажыццявіць з прычыны моцнай аховы. «Дзясяткі груп вярталіся з заданняў, не выканаўшы іх». Начальнік Беларускага штаба пасля гэтага загадаў актывізаваць партызанскія дзеянні, што Бардадын, паводле яго дадзеных, і ажыццявіў. Колькасць пушчаных пад адхон цягнікоў пасля гэтага ў красавіку нібыта значна вырасла[71]. Гэта пацвярджаюць і тагачасныя нямецкія рапарты:

> На бандыцкай тэрыторыі Полацк — Невель — Себеж — Асвея ў красавіку [1943 г.] зноў з'явілася вялікая колькасць бандыцкіх сіл праз прыбыццё новых. [...] Гэтая моцная канцэнтрацыя добра ўзброеных бандаў са строгім кіраўніцтвам асабліва характарызуецца наступнымі з'явамі: павелічэннем колькасці нападаў, падрываў і замініраванняў, асабліва на чыгуначным участку Пустошка — Ідрыца — Себеж[72].

[68] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 74 і наст.).

[69] Параўн. на гэты конт скаргі згвалтаваных дзяўчат і жанчын канца 1942 г.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1059, л. 52 і наст.

[70] Радыёграма Марчанкі Калініну, № 770 ад 8 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 4, арк. 112).

[71] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 58—87).



Многія нямецкія аперацыі, якія праводзіліся са студзеня да сакавіка 1943 г., не змаглі ліквідаваць Асвейска-Расонскую зону і разбіць атрады, што там дзейнічалі ці «адседжваліся». У чэрвені 1943 г. у Расонскім раёне знаходзіліся шматлікія партызанскія брыгады, у тым ліку дзве з Калінінскай вобласці (Расія) і адна з Латвіі. Акрамя таго, у Расонскім раёне было 36 спецгруп, якія, дакладна кажучы, перамяшчаліся на заходнія тэрыторыі Беларусі ці ў Літву. Партыйнае кіраўніцтва Віцебскай вобласці выказвала ў чэрвені крытыку:

> Яны [спецгрупы] дайшлі да Расонскага раёна і заселі там. А ў нас ёсць карта, на якой няма ніводнай вёскі [у Расонскім раёне], у якой не было б партызанскага атрада ці самастойнай партызанскай групы. Агульная колькасць партызанаў там зараз перавышае лічбу 10 000[73].

Партызаны Асвейска-Расонскай зоны праз нямецкія акцыі перамяшчаліся проста туды-сюды, з аднаго раёна ў іншы. Напасці на іх і знішчыць немцы не маглі, таму што для гэтага ў іх не было дастаткова сілы. Паводле дадзеных Бардадына, партызанскі рух у зоне нават умацніўся дзякуючы мерам, якія ён прыняў: навядзенню дысцыпліны, забеспячэнню боепрыпасамі, дачы канкрэтных заданняў, дэцэнтралізацыі партызанскіх падраздзяленняў. У маі 1943 г. партызаны зоны кантралявалі каля 5 000 км². Праўда, адзін толькі позірк на карту засведчыць, што гэта былі тэрыторыі, пакрытыя лясамі і балотамі, якія амаль не мелі ніякага гаспадарчага і ваенна-стратэгічнага значэння[74]. Гэта змянілася толькі восенню 1943 г., калі гэтыя тэрыторыі сталі прыфрантавымі раёнамі.

Шмат што сведчыла пра тое, што нямецкія акупанты зусім не разлічвалі на магчымасць канчаткова скончыць з партызанамі ў зоне. Сілы, якія яны кідалі на гэта, былі замалыя. Іх мэтай, відавочна, было стварэнне «мёртвых зон» і тым самым знішчэнне базы забеспячэння партызанаў, а таксама магчымы развал наяўных падраздзяленняў. Вырашыць апошнюю задачу немцам удалося толькі часткова, у стварэнні «мёртвых зон» яны былі больш паспяховымі.

Са студзеня да сакавіка 1943 г. нямецкія сілы правялі ў Асвейска-Расонскай і Суражскай зонах усяго пяць вялікіх антыпартызанскіх

[72] Штомесячная зводка Вярхоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча з бандамі ад 4 мая 1943 г. (BA-MA. RH 19 II/170, Bl. 34). Населеныя пункты Пустошка, Ідрыца і Себеж знаходзяцца на поўнач ад Асвеі і Расонаў на расійскай тэрыторыі.

[73] Стэнаграма пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б ад 25 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 1238, арк. 182—195).

[74] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 58—87).

аперацый. Пры гэтым яны знішчылі каля 11 800 чалавек і вывезлі на прымусовую працу 9 800 чалавек. Адначасова яны сістэматычна палілі і рабавалі цэлыя мясцовасці[75]. Асабліва жорстка немцы і «тутэйшыя» павялі сябе ў Асвейскім раёне. Полацкая гаспадарчая каманда наступным чынам каментавала гэтую «аперацыю» ў сакавіку 1943 г.:

> У Асвеі праведзена радыкальная зачыстка. [...] Былі ўжытыя новыя метады, гаспадаркі ў большасці спаленыя дашчэнту, а непрацаздольнае насельніцтва расстраляна, вінаватыя і бязвінныя. [...] Калі пры аперацыях «Лясная зіма» і «Заяц-бяляк» дзейнічалі памяркоўна, то цяпер на тэрыторыі на поўдзень ад Асвеі спалена каля 150 вёсак[76].

Бардадын пацвярджае гэтыя дадзеныя ў сваім рапарце ад 25 мая 1943 г.:

> У [Асвейскім] раёне цалкам спаленыя 156 вёсак з 3 423 дварамі. Акрамя таго, у мястэчку Асвея спаленыя 500 дамоў і ўсе культурныя ўстановы: 9 дамоў сацыялістычнай культуры, 12 сярэдніх школ, 90 пачатковых школ і іншыя. У час гэтых злачынстваў немцы знішчалі цывільнае насельніцтва. Яны забілі, спалілі жывымі і ўтапілі ўсяго 3 639 чалавек, у тым ліку 2 118 дзяцей да 12 гадоў і 710 старых, мужчын і жанчын. У нямецкае рабства вывезлі 2 515 чалавек[77].

Пра тое, што сярод ахвяр было асабліва шмат дзяцей, сведчаць і нямецкія рапарты аб аперацыі[78]. Яны пацвярджаюць і паведамленні пра тое, што шмат людзей было спалена. Палкоўнік Кнехт, кіраўнік аперацыі «Зімовае чараўніцтва», інструктаваў у адным лісце ад 18 лютага 1943 г. латышскія батальёны — удзельнікаў аперацыі, як трэба праводзіць і прыхоўваць «неабходныя» забойствы:

> Неабходныя катаванні па магчымасці пакідаць для СД, каб расстрэлы заставаліся без слядоў. Калі неабходна расстраляць у часці, бо паблізу няма СД, то кара павінна адбыцца ў доме. Трупы неабходна закруціць у салому і сена і спаліць у дамах[79].

Савецкая прапаганда паведамляла пра расправы ў Асвейскім раёне яшчэ ў сакавіку 1943 г.[80]. Праўда, не ўсе спаленыя вёскі ў Асвейска-Расонскай зоне варта залічваць на рахунак нямецкіх акупантаў, бо цэлы шэраг вёсак спалілі самі партызаны. 14 сакавіка 1943 г. засядала бюро Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б:

[75] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 1012—1015; Birn R. B. «Zaunkönig» an «Uhrmacher»...

[76] Цыт. паводле: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 1013.

[77] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 85).

[78] Birn R. B. «Zaunkönig» an «Uhrmacher»... S. 110 і наст.

[79] Цыт. паводле: Birn R. B. «Zaunkönig» an «Uhrmacher»... S. 111.

[80] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 1013 і наст.



> Разглядаецца пытанне спальвання вёсак падраздзяленнямі партызанскай брыгады імя Сталіна і 1-й Беларускай партызанскай брыгады. Зімой 1942/43 гг. падчас баёў супраць нямецкіх карных экспедыцый па загадзе камандзіраў Ахоціна і Захарава быў спалены шэраг вёсак у Суражскім і Расонскім раёнах. Гэта абгрунтоўвалі тым, што немцы ў гэтых вёсках маглі наладзіць свае апорныя гарнізоны і кропкі. Немцы выкарыстоўваюць гэтыя факты ў прапагандысцкіх мэтах. Вырашана:
> 1) Забараніць спальванне населеных пунктаў, калі гэта не выклікаецца неабходнасцю ў ходзе аперацыі. Новыя выпадкі падпальвання вёсак самым строгім чынам караць.
> 2) Гэтае рашэнне не тычыцца населеных пунктаў, у якіх размешчаныя варожыя базы і склады і ўсе іншыя аб'екты, якімі карыстаюцца акупанты[81].

Падзеі вясны 1943 г. у раёне Асвеі і Расонаў пацвярджаюць ацэнку партызанскіх зон Панамарэнкам у ліпені 1942 г. і іх малую ваенную карысць. Вялікія партызанскія падраздзяленні мелі кантроль ці ўладу над адносна вялікімі мясцовасцямі, што не мелі асаблівага значэння для нямецкіх акупантаў. Супраць сканцэнтраваных у зонах партызанаў акупанты кідалі даволі моцныя сілы, якія ганялі партызанаў туды-сюды. Адначасова нямецкія акупанты стваралі на тэрыторыях, што для іх не мелі вялікага значэння, але якія з прычыны невялікіх сіл яны доўга ўтрымліваць не маглі, «мёртвыя зоны».

Пакутавалі ў першую чаргу жыхары раёнаў, за якія ішлі баі. З аднаго боку, яны мусілі карміць масу партызанаў, што да таго ж яшчэ часта здзекаваліся з іх, прыгняталі і абіралі. З другога боку, гэтыя жыхары былі безабаронныя супраць нямецкіх камандаў, якія, каб адабраць у партызанаў базы забеспячэння, палілі іх хаты, рабавалі іх маёмасць і ці забівалі, ці вывозілі на прымусовую працу.

## 4. Ваенная эфектыўнасць партызанаў у 1943 г.

Велізарнае пашырэнне партызанскага руху ў Беларусі ў 1943 г. датычна да колькасці партызанаў і занятых ці кантраляваных імі тэрыторый не было прапарцыянальным адпаведнаму павышэнню баявой дзейнасці і эфектыўнасці. Адносна гэтага не могуць збіць з панталыку і афіцыйныя звесткі пра баявыя поспехі партызанаў, якія здаюцца ўражлівымі. Так, з 1 студзеня да 1 красавіка 1943 г., паводле дадзеных Беларускага штаба, пад адхон быў пушчаны 521 вайсковы эшалон і пры гэтым выведзена са строю 298 лакаматываў і 3 874 вагоны. Партызаны забілі за гэты час 30 390 нямецкіх салдат і афіцэраў, а таксама 2 352 паліцаі і здраднікі. Сюды трэба дадаць 5 194 параненых нямецкіх салдат і афіцэраў. Але, сярод іншага, трафеі склалі толькі 758 вінтовак і 23 аўтаматы[82]. У красавіку і маі 1943 г.

[81] Пратакол № 19 пасяджэння бюро Віцебскага абкама КП(б)Б ад 14 сакавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 107).

[82] Справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР ад 24 лютага 1944 г. пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 105 і наст., 115, 125).

беларускія партызаны былі яшчэ больш удалымі: яны пусцілі пад адхон 667 эшалонаў, вывелі са строю 504 лакаматывы і 5 968 вагонаў, знішчылі 33 046 нямецкіх салдат і афіцэраў ды 3 346 паліцаяў і здраднікаў[83].

Але гэтыя дадзеныя наўрад ці адпавядаюць рэчаіснасці, бо сапраўдныя баявыя поспехі партызанаў у Беларусі былі зусім нездавальняльнымі. Ацэнкі нямецкага боку — доказ гэтага. Так, Галоўнае камандаванне групы армій «Цэнтр» у сваім дакладзе пра «становішча бандаў» за май 1943 г. сведчыла пра «адносна іх колькасці слабую сённяшнюю дзейнасць гэтых бандаў», якая абмяжоўвалася галоўным чынам «нанясеннем шкоды папаўненню фронту, разведцы, забеспячэнню харчовымі прадуктамі»[84]. Аднак адначасова Галоўнае камандаванне групы армій «Цэнтр» канстатавала:

> Становішча тылу групы армій «Цэнтр» [галоўным чынам усходняя тэрыторыі Беларусі] за справаздачны месяц значна пагоршылася. Падрыў рэек павялічыўся, трэба было зноў пакідаць апорныя пункты[85].

Унутраныя савецкія рапарты і паведамленні пацвярджаюць гэтую ацэнку і адначасова ўносяць яснасць, у чым палягалі прычыны слабых поспехаў адносна колькасці партызанаў. У рапарце пра дзейнасць партызанаў у Магілёўскай вобласці ў перыяд з 1 студзеня да 1 мая 1943 г. начальнік Беларускага штаба выказваў, сярод іншага, ганьбу: некаторыя атрады не ажыццяўлялі баявых дзеянняў, дыверсіі на дарогах нездавальняльныя, аэрадромы і склады боепрыпасаў не падвяргаліся нападам, разведка і дыверсіі ў гарадах не разгорнутыя, масіраваныя напады на чыгуначныя лініі не рабіліся[86].

Асабліва крытычным было, здаецца, становішча ў Клічаўскай зоне. 8 студзеня 1943 г. кіраўнік групы ГРУ перадаваў па радыё ў Цэнтр:

> З нейкай прычыны ў глыбокіх лясах Клічава і Кіраўска сабраліся 30 атрадаў і ўжо тры месяцы нічога не робяць, яны займаюцца самаабаронай. Пад іх носам з'явіліся вялікія гнёзды паліцаяў. Яны ўсё гэта бачаць, але маўчаць[87].

У дакладзе пра дзеянні партызанаў у Віцебскай вобласці Беларускі штаб ганіў малую эфектыўнасць нападаў на чыгунку і слабую дывер-

---

[83] Даклад БШПР пра вынікі баявых дзеянняў беларускіх атрадаў па стане на 27 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 189—193).

[84] Месячнае паведамленне Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча з бандамі, 4 чэрвеня 1943 г. (BA-MA. 19 II/171, Bl. 32—44).

[85] Тамсама. Bl. 37.

[86] Даклад начальніка Беларускага штаба Калініна пра вынікі партызанскіх дзеянняў у Магілёўскай вобласці ў перыяд з 1 студзеня па 1 мая 1943 г., 15 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 37 і наст.).

[87] Радыёграма Орэка начальніку ГРУ, № 1131 ад 8 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 1, арк. 108).



сійную дзейнасць у гарадах[88]. Партызанскае камандаванне ў Мінскай вобласці, дзе было каля 19 000 партызанаў, актыўна займалася зімой 1942/43 гг. арганізацыйнымі пытаннямі, але адначасова яно дакладвала, што мінскія партызаны з 1 студзеня да 1 мая 1943 г. пусцілі пад адхон 170 эшалонаў, знішчылі 6 006 нямецкіх салдат, 15 афіцэраў і 547 паліцыянтаў і здраднікаў. І ўсё гэта — самі страціўшы двух загінулых камандзіраў і 24 партызанаў. Але даклад згадвае шэраг брыгад, якія не зрабілі ніводнага нападу на чыгуначныя лініі. Увогуле ж, асабліва нездавальняльным было разгортванне партызанскага руху ў гарадах[89].

Партызанаў Гомельскай і Палескай абласцей Беларускі штаб таксама дакараў слабай дыверсійнай дзейнасцю на чыгуначных лініях і ўвогуле нездавальняльнай баявой актыўнасцю. Прычынамі называюцца: адсутнасць ці нерэгулярнасць сувязі з Беларускім штабам, што перашкаджала перадаваць канкрэтныя загады; адсутнасць выбухоўкі і боепрыпасаў ды вялікія адлегласці паміж тэрыторыямі дзейнасці партызанаў і чыгуначнымі лініямі[90].

Яшчэ больш крытычным становішча выглядала, паводле ўнутраных рапартаў, у заходніх абласцях. Каля 2 100 партызанаў Вілейскай вобласці ў сваёй справаздачы аб дзейнасці з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г. паведамлялі пра тры пушчаныя пад адхон эшалоны, бо большасць з іх пад ціскам нямецкіх антыпартызанскіх аперацый павінны былі «адысці» ў Віцебскую вобласць[91]. У Пінскай вобласці партызанскі рух і дыверсіі ў гарадах былі разгорнутыя слаба, многія атрады «адседжваліся», так сцвярджаў Беларускі штаб у сваім дакладзе[92].

Такую ж ацэнку Беларускі штаб даў і становішчу ў Баранавіцкай вобласці: партызанскі рух там разгорнуты слаба, сувязь маецца толькі з партызанамі Налібоцкай пушчы, слабая дыверсійная дзейнасць у гарадах[93]. Старшы лейтэнант Ключко з Клічаўскага аператыўнага цэнтра ў лютым 1943 г. апісваў партызанскі рух ва ўсходніх частках Баранавіцкай вобласці.

---

[88] Даклад начальніка аператыўнага аддзела БШПР Бруханава пра вынікі партызанскіх дзеянняў у Віцебскай вобласці ў перыяд з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 37, арк. 38—43).

[89] Даклад аператыўнага аддзела БШПР (маёр Галаўко) пра вынікі партызанскіх дзеянняў у Мінскай вобласці зімой і вясной 1943 г., май 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 38, арк. 46—49).

[90] Даклад начальніка БШПР Калініна пра партызанскія дзеянні ў Гомельскай вобласці зімой і вясной 1943 г., 15 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 44 і наст.); даклад начальніка БШПР Калініна пра партызанскія дзеянні ў Палескай вобласці зімой і вясной 1943 г., 15 мая 1943 г. (Тамсама. Л. 47).

[91] Партызанскія дзеянні ў Вілейскай вобласці ў перыяд з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 36).

[92] Даклад начальніка БШПР Калініна пра партызанскія дзеянні ў Пінскай вобласці зімой і вясной 1943 г., 15 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 48 і наст.).

[93] Даклад начальніка БШПР Калініна пра партызанскія дзеянні ў Баранавіцкай вобласці зімой і вясной 1943 г., 15 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 51 і наст.).

> У раёнах, дзе я знаходжуся [Івянец, Налібакі, Мір] маюцца 3 групы партызанаў, кожная ад 30 да 50 чалавек, і дзве групы ў 80 і 100 чалавек. Супраць ворага яны ўвогуле не выступаюць, яны толькі рабуюць дабро[94].

Іншыя крыніцы пацвярджаюць гэтую ацэнку[95].

Асабліва крытычна стаялі справы, паводле ацэнкі Беларускага штаба, з партызанскім рухам у Брэсцкай і Беластоцкай абласцях: там не было аператыўнага кіраўніцтва і сувязі з цэнтрам[96]. У снежні 1942 г. гаўптфюрар СС і паліцыі па Паўднёвай Расіі, Украіне і Паўночным Усходзе паведамляў пра партызанскае становішча ў рэгіёне Беласток і Брэст (Паўночная Валынь):

> Аперацыя Беласток — Брэст. З 1 верасня да 15 кастрычніка. Поспех, перамога ці разгром вялікіх бандаў і перамога над малымі рэшткамі бандаў. [...] Сённяшняе становішча ў Беластоку і Паўночнай Валыні значна ўціхамірана. Рэшткі бандаў сіламі ад 3 да 30 чалавек ужо варта называць у большасці не «чырвонымі партызанамі», а рабаўнікамі. Напады на нямецкія аўтамашыны амаль цалкам спыненыя. Амаль што толькі рабаўніцтва для ўласных патрэб. Працягваецца барацьба з бандамі ў Беластоку і Валыні пры падключэнні насельніцтва. Уласныя сілы — вельмі слабыя[97].

Маёр Топкін, які з верасня 1942 г. да канца студзеня 1943 г. знаходзіўся з разведвальным заданнем у заходніх абласцях Беларусі, пацвердзіў у красавіку 1943 г. цытаваную вышэй ацэнку партызанскага руху ў Брэсцкай вобласці. Паводле Топкіна, там да верасня 1942 г. мелася некалькі тысяч партызанаў, якія змагаліся даволі адважна. Гэта нібыта змянілася пасля нямецкіх аперацый восенню 1942 г. Цяпер не хапае боепрыпасаў. Акрамя таго, вось што: «У кожным атрадзе былі 2—3 жанчыны. [...] Камандзіры атрадаў "жаніліся", нядрэнна жылі і не змагаліся»[98].

Як было паказана вышэй, баявы дух беларускіх партызанаў вясной 1943 г. не вельмі моцна выяўляўся. Гэта, сярод іншага, было абумоўлена вострым недахопам боепрыпасаў і выбухоўкі, якія вельмі

[94] Паведамленне старшага лейтэнанта С. Ключко ад 17 лютага 1943 г., копія перакладу (НАРБ. Ф. 389, воп. 1, спр. 4, арк. 31). 25 лютага 1943 г. Ключко паведамляў Яхантаву пра сваё заданне ў Налібоцкай пушчы (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 65—68 адв.). Гэтае паведамленне супадае з захопленым немцамі ад 17 лютага 1942 г.

[95] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 105 і наст.

[96] Даклад начальніка БШПР Калініна пра партызанскія дзеянні ў Брэсцкай вобласці зімой і вясной 1943 г., 15 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 54 і наст.); даклад начальніка БШПР Калініна пра партызанскія дзеянні ў Беластоцкай вобласці зімой і вясной 1943 г., 15 мая 1943 г. (Тамсама. Л. 56 і наст.).

[97] Гаўптфюрар СС і паліцыі па Паўднёвай Расіі, Украіне і Паўночным Усходзе, 27 снежня 1942 г. (BA. NS 19/2566).

[98] Пратакол размовы з маёрам Топкіным пра дзейнасць партыі ды партызанскіх брыгад у Брэсцкай вобласці ад 14 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 4, л. 31—52, цытата — л. 40).



цяжка было здабыць на месцы. Скаргі партызанаў на гэта не спыняліся. Бельскі, упаўнаважаны партыі па Мінскай і Палескай абласцях, у студзені 1943 г. скардзіўся: «Калі мы атрымаем выбуховыя сродкі? Іх адсутнасць выключна негатыўна ўплывае на дзейнасць партызанскіх атрадаў, якая накіравана на падрыў чыгуначных ліній»[99].

12 студзеня 1943 г. Судаплатаў, начальнік 4-га ўпраўлення НКУС, перадаў Панамарэнку наступную радыёграму: «Партызаны ў трохкутніку Полацк — Віцебск — Невель церпяць паразу. Фронт не дапамагае. Няма боепрыпасаў»[100]. Камандзір брыгады імя Шчорса Дзербан скардзіўся летам 1943 г.:

> Без боепрыпасаў і зброі брыгада не можа выконваць свае заданні, брыгада ўзброеная толькі на 50 %. Усе мае просьбы ў Цэнтры і ў Вас [Панамарэнкі] таксама дапамагчы нам зброяй і выбухоўкай засталіся безвыніковымі. З гэтай прычыны брыгада ў складзе 700 чалавек мусіць пазбягаць любой сустрэчы з ворагам[101].

Гэтыя настойлівыя просьбы да вясны 1943 г. не маглі выканаць ні Беларускі, ні Цэнтральны штаб, хоць Цэнтральны штаб з верасня 1942 г. меў уласную авіяэскадрыллю. У пачатку студзеня 1943 г. Калінін, начальнік Беларускага штаба, паведаміў:

> Беларускія партызаны пакутуюць ад недахопу боепрыпасаў і добрай зброі, тратылу і іншых выбуховых матэрыялаў і дыверсійных рыштункаў. У апошнія тры месяцы забяспечыць іх паветраным шляхам не ўдалося. Не дазваляла дрэннае лётнае надвор'е[102].

16 лютага 1943 г. Панамарэнка звяртаўся па радыё да партызанскіх камандзіраў Віцебскай вобласці:

> Усе нашыя захады дапамагчы вам боепрыпасамі затрымліваюцца з-за адсутнасці лётнага надвор'я. Самалёты ці не могуць узляцець, ці вымушаныя паварочваць назад, а некаторыя губляюцца[103].

У перыяд з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г. партызаны Беларусі атрымалі паветраным шляхам каля 223 тон зброі, боепрыпасаў і ваенных рыштункаў. Гэта складала на 71 106 партызанаў, якія былі

[99] Бельскі П. Панамарэнку аб партыйна-палітычнай рабоце партызанаў у Мінскай і Палескай абласцях у снежні 1942 г., 10 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 40 і наст.).

[100] Судаплатаў П. Панамарэнку 12 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 12).

[101] Справаздача камандзіра брыгады імя Шчорса Дзербана начальніку ЦШПР П. Панамарэнку пра дзейнасць брыгады за перыяд з 1 красавіка 1942 г. да 1 жніўня 1943 г., 6 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 91).

[102] Аператыўная справаздача № 2 Беларускага штаба партызанскага руху (Калінін, Закурдаеў) ад 21 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 3, арк. 11).

[103] Радыёграма П. Панамарэнкі Ахоціну, Фалалееву, Раманаву, Марчанку, № 516 ад 16 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 28, арк. 352).

на ўліку Цэнтральнага штаба на гэты час паводле яго статыстычных дадзеных, 3,1 кг ваенных матэрыялаў на партызана цягам шасці месяцаў. Праўда, сюды яшчэ трэба аднесці і прапагандысцкія матэрыялы (газеты, улёткі, брашуры і друкарскія машыны), якія таксама пастаўляліся партызанам[104]. Партызанскія атрады ў заходніх абласцях не атрымлівалі да мая 1943 г. увогуле ніякіх пасылак, акрамя трох транспартных палётаў у Баранавіцкую вобласць у красавіку[105].

У гэтых умовах зразумела, што сярод беларускіх партызанаў адносна шырока было распаўсюджана «адседжванне», гэта значыць не праводзілася сур'ёзных баявых акцый. Тут мала маглі дапамагчы шматлікія загады і планы па актывізацыі партызанскага руху, якія выдаваліся ці распрацоўваліся партызанскімі штабамі, бо на месцах іх можна было ажыццявіць часткова або яны ўвогуле былі неажыццяўляльныя. Партызанскай вайной нельга было кіраваць, нават Генеральнаму штабу, знаходзячыся ў сваім тыле. Штаб ведаў абставіны на месцы, якія маглі ў любы момант змяніцца, толькі з рапартаў і часцей за ўсё меў благую сувязь з партызанамі, а то і не меў ніякай. Да гэтага дадамо, што штабы мелі абмежаваную магчымасць (або не мелі ніякай) забяспечваць партызанаў узбраеннем і амуніцыяй.

Беларускі штаб усведамляў слабасці партызанскага руху, асабліва яго малую ваенную эфектыўнасць. Распрацаваны аператыўным аддзелам у маі 1943 г. другі план на паўгода (май — лістапад 1943 г.) дае ўяўленне пра тое, якім чынам трэба было павышаць эфектыўнасць партызанаў у Беларусі. План называе адзінаццаць галоўных задач: першая — працяг разгортвання партызанскага руху, асабліва ў заходніх абласцях, другая — умацаванне і ўтварэнне партыйных цэнтраў у раёнах, дзе іх яшчэ няма, трэцяя — узмацненне партыйна-палітычнай прапаганды сярод насельніцтва і ў партызанскіх атрадах. Толькі пад пунктам 9 стаіць забеспячэнне партызанаў самым тэрмінова неабходным ваенным матэрыялам і адначасова актывізацыя захадаў па баявым захопе зброі ў праціўніка. Пад пунктам 10 стаіць працяг пашырэння рыдыёсувязі з атрадамі. Было запланавана паслаць у варожы тыл 101 радыёстанцыю і 196 радыстаў, якія будуць падпарадкоўвацца адпаведнаму мясцоваму партыйнаму органу, а не камандзіру асобнага партызанскага падраздзялення[106].

Увогуле трэба было ўзмацніць усёахопны кантроль партыі і Беларускага штаба над партызанскімі атрадамі як адзін з найважнейшых захадаў для актывізацыі дзейнасці партызанаў. Так, атрады былі абавязаныя своечасова падаваць Беларускаму штабу рапарты пра сітуацыю, стан і дзейнасць атрада. Упаўнаважаныя Цэнтральнага камітэта КП(б)Б і Беларускага штаба ў адпаведных абласцях павінны былі кантраляваць партызанскія брыгады, а мясцовыя партыйныя

[104] План мерапрыемстваў па далейшым разгортванні партызанскага руху ў летні час 1943 г., май 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 38, арк. 52).

[105] Вынікі баявых дзеянняў беларускіх партызанаў супраць нямецкіх агрэсараў у 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 101—104).

[106] План мерапрыемстваў па далейшым разгортванні партызанскага руху ў летні час 1943 г., май 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 38, арк. 54 і наст.).



органы — атрады на сваіх тэрыторыях. Але і работнікі аператыўнага аддзела Беларускага штаба атрымалі заданне інспектаваць брыгады і атрады на месцы[107].

Тыя ж самыя пункты Беларускі штаб распарадзіўся ўнесці ў планы кожнай вобласці, што з пункту гледжання Беларускага штаба падкрэслівала значэнне гэтых захадаў[108]. Беларускі штаб ставіў на татальны кантроль партызанскага руху партыяй і штабам, перакананы, што партыя і штаб змогуць зрабіць дагэтуль увогуле малаэфектыўную партызанскую вайну больш эфектыўнай.

Планы па разгортванні партызанскага руху летам і восенню 1943 г. былі маштабнымі і амбіцыйнымі. Аднак неўзабаве высветлілася, што гэтыя планы, выпрацаваныя паводле ўзору Генеральнага штаба, было цяжка ажыццявіць на практыцы, не ў апошнюю чаргу з прычыны прынятых захадаў нямецкіх акупантаў па барацьбе з партызанамі. Немцы, як і ў мінулым годзе, рабілі стаўку, з аднаго боку, на ўзмоцненую ахову найважнейшых ліній папаўнення, а таксама важных населеных пунктаў і гарадоў. З другога боку, яны праводзілі шматлікія буйныя аперацыі супраць масавага збірання партызанаў (зон).

У маі 1943 г. тыл групы армій «Цэнтр» займаў 110 000 км², галоўным чынам усходнія беларускія вобласці з насельніцтвам у 4 320 000 жыхароў. На гэтай тэрыторыі знаходзіліся важныя ў ваенных адносінах чыгуначныя ўчасткі агульнай даўжынёй 2 205 км і дарогі агульнай даўжынёй 1 015 км, якія трэба было забяспечыць аховай ад партызанскіх нападаў. Акрамя таго, трэба было ахоўваць установы забеспячэння, ваенныя апорныя пункты і гаспадарчыя аб'екты. Для гэтага ў распараджэнні камандуючага тылам групы армій «Цэнтр» было 59 батальёнаў. Пры сярэдняй колькасці баявых адзінак у 350 чалавек гэта адпавядала прыкладна 20 650 чалавекам. У гэтым ліку было 15 венгерскіх і 13 «мясцовых» батальёнаў, 1 французскі батальён і 4 паліцэйскія батальёны. Для аховы чыгуначных участкаў было задзейнічана 37 батальёнаў (1 батальён, ці 300 чалавек на 60 км), для аховы дарог 8 батальёнаў (1 батальён на 125 км) ды 12 батальёнаў «для перадпольнай аховы дарог і чыгунак ды аховы гаспадарчых аб'ектаў і г. д.». Два батальёны прызначаліся «для мабільных дзеянняў»[109].

Гэтым сілам процістаялі ў маі 1943 г. толькі на беларускай тэрыторыі тылу групы армій «Цэнтр» каля 50 000 партызанаў, аднак у сваёй большасці дрэнна ўзброеных. Да таго ж у іх было слабое кіраўніцтва і нездавальняльная ваенная разведка.

Акрамя пасіўнай аховы ад партызанскіх нападаў, нямецкія акупацыйныя сілы ўвесь час праводзілі супраць партызанаў буйныя аперацыі. Іх мэта палягала не толькі ў тым, каб знішчыць ці раз-

[107] Тамсама. Арк. 58.

[108] Планы па разгортванні партызанскага руху ў асобных абласцях БССР на летні час 1943 г., распрацаваныя БШПР, май 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 38, арк. 59—135).

[109] Камандуючы тылавым раёнам групы войскаў Цэнтр у Галоўнае камандаванне групы войскаў, 9 мая 1943 г. (BA-MA. RH 19 II/170, Bl. 9—12).

агнаць партызанаў, але і стварыць на «бандыцкіх тэрыторыях» (у партызанскіх зонах) «мёртвыя зоны», каб пазбавіць партызанаў баз забеспячэння. Цывільнае насельніцтва гэтых тэрыторый ці знішчалася, ці вывозілася на прымусовую працу, населеныя пункты спальваліся дашчэнту, прадукты харчавання, жывёла, рыштункі і іншыя каштоўныя прадметы і прыстасаванні «забіраліся», г. зн. рабаваліся[110]. Крысціян Герлах налічвае ўсяго 28 аперацый, праведзеных у 1943 г. нямецкімі акупацыйнымі сіламі супраць партызанаў у Беларусі[111]. Тут будуць даследаваныя, як прыклад, дзве з іх: аперацыя «Котбус» і аперацыя «Герман».

## 5. Бягомльска-Лепельская зона і аперацыя «Котбус»

Аперацыя «Котбус» («*Cottbus*») была самай буйной антыпартызанскай акцыяй у Беларусі ў 1943 г. У заходніх даследаваннях аперацыя адносна добра вядомая, але не дэталёва даследаваная і, тым больш, не на падставе савецкіх крыніц[112]. Аперацыя ахоплівала тэрыторыі вакол Бягомля, Лепеля, Ушачаў, уключаючы вялікую лясную і балоцістую мясцовасць вакол возера Палік, якое ляжыць на поўдзень ад Полацка і каля 140 км на паўночны ўсход ад Мінска. Яна адбылася з 20 мая да 23 чэрвеня 1943 г. і здзяйснялася пад кіраўніцтвам брыгадэфюрара СС і генерал-маёра паліцыі Курта фон Готберга. Ён у гэтай сувязі камандаваў нямецкімі і «мясцовымі» злучэннямі з агулам 16 662 чалавекамі (вермахт, авіяцыя і паліцыя)[113].

Афіцыйны нямецкі вынік аперацыі быў: «Страты праціўніка»: 9 796 забітых і 599 узятых у палон, звыш 6 000 «захопленай працоўнай сілы». «Свае страты»: 5 афіцэраў, 83 унтэр-афіцэры і салдаты забітыя, 11 афіцэраў і 374 унтэр-афіцэры і салдаты параненыя, 3 зніклі без вестак. Сюды дадаюцца 40 забітых, 152 параненыя і 4 зніклыя без вестак пра «чужародцаў». Акрамя таго, былі «захопленыя»: 3 626 галоў буйной рагатай жывёлы, 2 182 авечкі, 904 кані і 153 свінні[114].

Тэрыторыя, за якую вяліся бai, належала да Бягомльска-Лепельскай зоны, утворанай летам 1942 г. Вялізная і цяжка даступная балоцістаялясная мясцовасць вакол возера Палік, сёння адзін з найпрыгажэйшых прыродных запаведнікаў Еўропы, з вясны 1942 г. вабіла да сябе

[110] Падрабязна пра канцэпцыю «мёртвых зон» і яе ажыццяўленне гл.: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 1018—1036; Cüppers M. Wegbereiter der Shoah... S. 260—270.

[111] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 900—904.

[112] Напрыклад: Soviet Partisans in World War II... P. 538 і наст.; Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 232—234; Verbrechen der Wehrmacht. Dimensionen des Vernichtungskrieges 1941—1944 / Hrsg. Hamburger Institut für Sozialforschung, Ausstellungskatalog. Hamburg, 2002. S. 492—497; Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 355—358.

[113] Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 232 і наст.; Verbrechen der Wehrmacht... S. 492, Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 902, Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 355—358.

[114] Тамсама; даклад гаўптштурмфюрара Вількe пра выніку аперацыі «Котбус», 18 чэрвеня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 166).



шматлікія партызанскія атрады і групоўкі. Гэтыя месцы былі цяжкадаступныя, і партызаны адчувалі там сябе адносна бяспечна ад праследу немцаў. Восенню 1942 г. у мясцовасцях вакол возера Палік было агулам 18 партызанскіх атрадаў, што «перашкаджала іх дзеянням», як гэта напісана ў адным з рапартаў у лістападзе 1942 г.[115]

Паміж дзейнымі там падраздзяленнямі ўвесь час даходзіла да канфліктаў. Акрамя таго, партызаны тэрарызавалі насельніцтва зоны, якое мусіла іх карміць. У адной партыйнай справаздачы за лістапад 1942 г. гаворыцца:

> Частка [брыгад Мінскай вобласці] дзейнічае паводле прынцыпу: «Калі ты мне нічога не зробіш, то і я табе нічога не зраблю». Гэта тычыцца ў першую чаргу брыгад «Дзядзькі Колі» і «Стары», якія акапаліся ў сярэдзіне балот Паліка. […] Гэтыя брыгады ўсё лета [1942 г.] сядзелі ў балотах Паліка і час ад часу пасылалі падрыўныя групы ў акружнасці 100 км. […] Вельмі часта здараюцца напады гэтых брыгад на насельніцтва. […] Былі выпадкі прыхарошвання і падману кіраўніцтва[116].

У лютым 1943 г. Беларускі штаб канстатаваў:

> Паведамленні, якія прыходзяць з групы партызанскіх атрадаў вакол возера Палік, сведчаць пра неспрыяльныя ўмовы, што пануюць там, і пра вельмі слабую баявую дзейнасць гэтых атрадаў[117].

Паводле ўзгодненых паведамленняў, паводзіны партызанаў атрада / брыгады «Стары» і яе кіраўніцтва, якое спрабавала падначаліць сабе падраздзяленні, што дзейнічалі ў гэтай мясцовасці, выклікалі шматлікія канфлікты з мясцовымі атрадамі. Акрамя таго, асобныя падраздзяленні і групы брыгады «Стары» рабавалі насельніцтва[118]. Панамарэнка даведаўся пра гэта і асабіста заняўся справай «Старога»[119]. Ужо ў кастрычніку 1942 г. ён патрабаваў ад камандзіра падраздзялення «Стары» «выкараніць рабаўніцтва ў сваім атрадзе»[120]. Беспаспяхова, як можна даведацца з больш позніх паведамленняў.

Атрад «Стары» перасёк лінію фронту ў чэрвені 1942 г. і ў жніўні прыйшоў у мясцовасць вакол возера Палік. Яго першапачатковай тэ-

[115] Паведамленне пададдзела інфармацыі БШПР начальніку БШПР Калініну пра запыты і прапановы, якія зрабілі партызанскія брыгады і атрады ды асобныя таварышы ў адрас БШПР, ад 1 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 19, арк. 4 адв.).

[116] Справаздача пра дзейнасць Мінскага падпольнага камітэта з часу яго заснавання да 24 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 304, арк. 237).

[117] Паведамленне 2-га аддзела БШПР начальніку БШПР Калініну пра запыты і прапановы, якія былі перасланыя ў БШПР ад партызанскіх брыгад, атрадаў ды асобных таварышаў, люты 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 19, арк. 13).

[118] Тамсама. Арк. 13—20.

[119] Нататка начальніка БШПР Калініна за 13 лютага 1943 г.: «П. Панамарэнка ведае пра справу “Старога!”» на палях паведамлення (Тамсама. Арк. 13).

[120] Нататка П. Панамарэнкі ад 1 кастрычніка 1942 г. на палях ліста ад «Старога» да П. Панамарэнкі ад 3 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 163, л. 19).

рыторыяй дзеянняў быў Барысаўскі раён, але там атрад не змог утрымацца з прычыны нямецкага ціску і варожых адносін з боку мясцовага насельніцтва[121]. Адзін камсамольскі актывіст, нейкі Гуля, паведамляў 31 кастрычніка 1942 г.:

> Брыгада «Стары» арганізуе дывізію. У дывізію ўваходзяць прыкладна 500 чалавек. Камандны склад брыгад і дывізіі роўны колькасці атрада, так што дывізія не можа праводзіць ніякіх баявых аперацый, яна абмяжоўваецца акцыямі самазабеспячэння, каб пракарміць штат гультаёў[122].

Панамарэнка патрабаваў — паводле даклада Радзюка (упаўнаважанага ЦК і БШПР) — ад «Старога» ў кастрычніку 1942 г. спыніць стварэнне партызанскай дывізіі, бо

> Спробы ўтвараць вялікія партызанскія злучэнні на сучасным адрэзку часу нерэальныя. Гэта абмежавала б ініцыятыву і мабільнасць атрадаў. [...] 12 лістапада 1942 г. я [Радзюк] прыбыў у раён дзеяння брыгады «Стары» (Пыжыкаў) і ўпэўніўся, што Пыжыкаў не выканаў загада Панамарэнкі. Наадварот, ён рэзка крытыкаваў загад[123].

І на пасяджэнні Барысаўскага партыйнага цэнтра 9 лістапада 1942 г. брыгада «Стары» востра крытыкавалася. Яна нібыта амаль зусім спыніла баявую дзейнасць. Сярод партызанаў брыгады распаўсюджаныя п'янства і крадзяжы, кіраўніцтва ж брыгады не змагаецца з гэтым. Было вырашана папярэдзіць кіраўніцтва брыгады, што яно будзе прыцягнута да адказнасці[124].

У студзені 1943 г. старшы лейтэнант Гонікман, які вярнуўся з дыверсійнага задання каля Барысава ў савецкі тыл, заявіў у адной размове:

> Дывізію [«Стары»] ужо даўно трэба было распусціць і выгнаць з балот, каб людзі ваявалі, а не адседжваліся. Пыжыкаў [«Стары»] павінен атрымаць загад заняцца баявымі дзеяннямі, бо ён толькі прыдумляе лухту[125].

Меліся на ўвазе выдуманыя рапарты. 21 сакавіка 1943 г. начальнік Беларускага штаба Калінін перадаваў па радыё «Старому»: «Я катэгарычна забараняю ствараць дывізію. Брыгадам дзейнічаць самастойна, не абмяжоўваць ініцыятыву асобных атрадаў»[126].

12 студзеня 1943 г. Жуковіч з Барысаўскага аператыўнага цэнтра па радыё скардзіўся ў Беларускі штаб: «Стары [...] кампраметуе кіраўнічых супрацоўнікаў [аператыўнага цэнтра Барысаўскай зоны], займаецца рабаўніцтвам, не прымае ніякіх захадаў [супраць рабаўніцтва]»[127]. За два тыдні да гэтага, 30 снежня 1942 г., Жуковіч у які ўжо раз патрабаваў ад камандзіра брыгады «Стары» спыніць рабаванні з боку яго партызанаў[128]. Пасля паўторных патрабаванняў Беларускі і Цэнтральны штабы ў сакавіку і адпаведна ў красавіку 1943 г. загадалі «Старому» вылецець у савецкі тыл[129].

Не толькі партызаны падраздзялення «Стары» тэрарызавалі насельніцтва зоны, але і партызаны іншых атрадаў. Гэткай жа благой славай карысталіся партызаны атрада, а пазней брыгады «За Радзіму», якая таксама абсталявала свой лагер паблізу возера Палік[130]. У адным лісце ў студзені 1943 г. гаворыцца, што Захараў, камандзір аднаго з атрадаў брыгады, «пастаянна п'е, а п'яны, пагражаючы зброяй, прымушае сваіх партызанаў танцаваць»[131]. Адзін з партызанаў атрада «За Радзіму» перабег у сакавіку 1943 г. у брыгаду «Жалязняк» і тлумачыў гэта наступным чынам:

> Атрад існуе не для таго, каб змагацца, а каб забяспечваць камандзіра гарэлкай. Я атрымаў загад камандзіра здабыць гарэлкі, я не зрабіў гэтага і пайшоў у брыгаду «Жалязняк», таму што я ўступіў у атрад, каб ваяваць, а не шукаць гарэлку[132].

Падобныя абставіны панавалі ў атрадзе «Мсцівец»:

> У атрадзе квітнела п'янства. Гарэлку ў атрад пастаўлялі не літрамі, а ў бочках, на якіх у штабе сядзелі, як на крэслах. [...] У выніку, п'янства сярод

[121] Паведамленне атрада «Стары» пра пераход на сваю аператыўную тэрыторыю ў Барысаўскім раёне ад 8 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 44 і наст.).

[122] Вытрымка з паведамлення пададдзела інфармацыі БШПР начальніку БШПР Калініну аб пытаннях і задачах, якія ставіліся ці даручаліся партызанскімі брыгадамі і атрадамі ды асобнымі таварышамі, 1 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 19, арк. 4—9, 14).

[123] Даклад упаўнаважанага ЦК і БШПР Радзюка П. Панамарэнку, 11 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 185, арк. 3—5).

[124] Пратакол пасяджэння Барысаўскага партыйнага цэнтра, падпісаны Жуковічам, ад 9 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 268, арк. 12 і наст.).

[125] Вытрымка з пратакола размовы са старшым лейтэнантам Гонікманам ад 19 студзеня 1943 г. (Тамсама. Арк. 15).

[126] Радыёграма Калініна з БШПР «Старому», № 171 ад 21 сакавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 29, арк. 167).

[127] Радыёграма Жуковіча ў БШПР, № 180 ад 12 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 1, арк. 95).

[128] Загад Жуковіча камандзіру брыгады «Стары» ад 30 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 30, арк. 6 і наст.).

[129] Радыёграма Жуковіча начальніку ЦШПР, № 445 ад 28 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 1, арк. 242); радыёграма атрада Варанянскага Калініну, № 527 ад 1 красавіка 1943 г. (Тамсама. Спр. 3, арк. 373); радыёграма Жуковіча Калініну, № 1540 ад 30 красавіка 1943 г. (Тамсама. Спр. 5, арк. 93).

[130] Інтэрв'ю аўтара з Анастасіяй Васільевай, якая нарадзілася ў 1929 г. і жыве ў Кветчы, узятае 4 ліпеня 2004 г. у Кветчы. Яна, між іншым, распавяла: «Партызаны забіралі прадукты харчавання і розныя іншыя рэчы. [...] Партызаны брыгады «За Радзіму» забралі ў нас апошнюю карову і зарэзалі на балоце».

[131] Сакратар Лагойскага райкама Цімчук камандзіру і камісару партызанскага атрада Багатага, [студзень 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 271, арк. 109).

[132] Паведамленне партызанаў атрада «За Радзіму» ад 5 сакавіка 1943 г., подпіс неразборлівы (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 185, арк. 273).

> камандзіраў распаўсюдзілася і на шэрагі простых партызанаў, што вяло да дрэнных стасункаў з насельніцтвам. […] Камандзір 5-й роты Кабылкін […] піў, марадзёрстваваў, быў дэмаралізаваны і ў іншых адносінах. Ён гвалціў жанчын і дазваляў такія ж дзеянні сваім партызанам[133].

Яшчэ больш дзіка паводзілі сябе партызаны атрада «Смерць фашызму», які на мяжы 1942/43 гг. размяшчаўся ў вёсцы Забор'е, каля 10 км на поўдзень ад возера Палік. Яго назву насельніцтва перарабіла на «Смерць кабаноў», бо партызаны гэтага атрада

> прыдбалі сабе самагонны апарат, каб гнаць самагонку, і калолі свіней з суседніх вёсак. Сяляне разгневаныя паводзінамі гэтых людзей. Яны кажуць, што гэта грэх — называць іх партызанамі[134].

У брыгадзе «Жалязняк», а яна была самай вялікай у Бягомльска-Лепельскай зоне, таксама здараліся шматлікія эксцэсы. Партыйная арганізацыя Бягомльскага раёна дакладвала, сярод іншага, у сакавіку 1943 г.:

> Былі выпадкі рабаўніцтва асобнымі партызанамі [брыгады «Жалязняк»], а таксама выпадкі п'янства. Партыйная арганізацыя і кіраўніцтва брыгады прынялі рашучыя меры, каб спыніць гэта. За п'янства і рабаўніцтва партызан Спірагін расстраляны ў прысутнасці жыхароў вёскі Забор'е. Але ў сакавіку зноў было выяўлена шмат выпадкаў рабаўніцтва з боку іншых партызанскіх груп, якія выдавалі сябе за партызанаў брыгады «Жалязняк»[135].

Згаданыя вышэй меры, аднак, не змаглі спыніць напады партызанаў брыгады «Жалязняк» на цывільнае насельніцтва. 26 чэрвеня 1943 г. група партызанаў 2-га атрада брыгады «Жалязняк» пад камандаваннем Талстых застрэліла ў вёсцы Кемешаўцы Бягомльскага раёна 8 вяскоўцаў, у тым ліку аднагадовае дзіця. Расстрэлы рабіліся паводле падрыхтаванага спіса, усяго трэба было расстраляць 18 чалавек. На наступны дзень адбылося пахаванне, на якое сабралася шмат жыхароў суседніх вёсак. «Насельніцтва было глыбока ўзрушана гэтым выпадкам»[136].

---

[133] Даклад інструктара партыйнага цэнтра Бягомльскай зоны Талатава кіраўніку партыйнага цэнтра Барысаўскай зоны Жуковічу, 8 снежня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 495, арк. 99—100 адв.). Даклад тычыцца вясны 1943 г. У красавіку 1943 г. атрад «Мсцівец» перамясціўся ў Баранавіцкую вобласць.

[134] Справаздача маёра Варанянскага сакратару міжраённага цэнтра КП(б)Б Барысаўскай зоны Жуковічу пра дзейнасць камандзіра брыгады Варанянскага за перыяд з 8 снежня 1942 г. да 1 студзеня 1943 г., без даты (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 270, арк. 31 адв.).

[135] Справаздача партыйнай падпольнай арганізацыі ў Бягомльскім раёне Барысаўскаму цэнтру за сакавік 1943 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 38, арк. 8 і наст.).

[136] Намеснік народнага камісара НКДБ Кабулаў П. Панамарэнку, 13 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 104 і наст.).



Такія абставіны панавалі ва ўсёй Бягомльска-Лепельскай зоне і ў суседніх раёнах, пра што сведчаць шматлікія тагачасныя даклады, скаргі і папярэджанні партыйных органаў, камандзіраў, асобных партызанаў ці пацярпелых жыхароў. У іх гаворка ідзе пра пашыранае п'янства партызанаў, рабаўніцтвы, гвалтаванні, крадзеж коней, якія потым абменьваліся на гарэлку, перастрэлку паміж партызанамі са смяротнымі вынікамі, здзекі і расстрэлы цывільных людзей і г. д.[137]. У адным з такіх дакладаў гаворыцца:

> Усе брыгады [Бягомльска-Лепельскай зоны] настолькі абрабавалі Ільянскі, Куранецкі і Крывіцкі [на захадзе зоны] раёны, што там з'явіўся моцны антысавецкі настрой. […] Калі ў бліжэйшы час не будуць прыняты рашучыя меры, можа здарыцца напад насельніцтва на партызанаў[138].

Абставіны ў зоне былі настолькі пагрозлівымі, што Барысаўскі партыйны цэнтр у студзені 1943 г. даў распараджэнне арганізаваць у вёсках групы самаабароны, каб «кантраляваць дзеянні партызанаў», г. зн. ахоўваць жыхароў ад нападаў разбэшчаных партызанаў[139].

Маёр Чырвонай Арміі Зыранаў знаходзіўся з 18 мая да 30 ліпеня 1943 г. у зоне са спецзаданнем. Потым ён дакладваў, што сярод партызанаў пануе «нездавальняльная вайсковая дысцыпліна, асабліва ў малых атрадах і брыгадах». У выніку гэтага насельніцтва партызанскага краю часта робіцца ахвярай рабавання. «Такія ўмовы адмоўна ўплываюць на маральна-палітычнае самаадчуванне насельніцтва і на яго адносіны да партызанаў»[140]. І паводле рапарта пра становішча ў Лагойскім раёне з 15 мая да 15 чэрвеня 1943 г., «сярод сялян раёна пануе вялікае незадавальненне партызанамі, бо яны занадта шмат патрабуюць для сябе, п'юць і займаюцца распустай»[141].

Сведка з вёскі Кветча, каля 10 км на поўнач ад возера Палік, заявіў у размове з аўтарам гэтай працы ў жніўні 2004 г.:

> Што партызанам тут было рабіць? Чыгуначных ліній тут не было, іншых стратэгічных аб'ектаў таксама. Увесь час толькі і чулася: «Давай сюды, давай!» Свіней, кароў, усё забіралі. Яны сядзелі і нічога не рабілі. […] Партызаны! Гэта былі бандыты!!![142].

---

[137] Гл.: НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 262, 268, 270, 271, 280, 282, 304, 305, 495.

[138] Паведамленне Цімчука пра становішча Лагойскага райкама на перыяд з 15 красавіка да 15 мая 1943 г., без даты (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 271, арк. 166 і наст.).

[139] Распараджэнне Жуковіча з партыйнага цэнтра Барысаўскай зоны адносна паляпшэння дысцыпліны ў партызанскіх атрадах, 16 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 269, арк. 146—144 (адваротная нумарацыя).

[140] Даклад маёра Зыранава таварышу Рыжыкаву з БШПР, 8 жніўня 1943 г. (копія ад 28 жніўня 1943 г.) (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 47 і наст.).

[141] Паведамленне Цімчука пра становішча Лагойскага райкама на перыяд з 15 мая да 15 чэрвеня 1943 г., без даты (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 271, арк. 193 і наст.).

[142] Інтэрв'ю аўтара з Аляксандрам Булакоўскім, які нарадзіўся ў 1930 г. і жыве ў Кветчы, узятае 7 жніўня 2004 г. у Кветчы.

Сюды трэба дадаць заўсёдныя канфлікты паміж асобнымі брыгадамі і атрадамі зоны, якія пасля вызвалення ад пасады камандзіра брыгады «Стары» ніяк не супакойваліся. Пра гэта ў рапарце Зыранава:

> Існуюць нездаровыя, напружаныя адносіны паміж камандзірамі брыгад і атрадаў [зоны], у выніку чаго яны не аб'ядноўваюцца і не каардынуюць як след свае дзеянні[143].

Акрамя іншага, спрачаліся пры размеркаванні дастаўленай зброі, боепрыпасаў і іншага рыштунку. Гэтыя пастаўкі сталі магчымымі дзякуючы пабудаванаму вясной 1943 г. аэрадрому каля 15 км на ўсход ад Бягомля.

Аэрадром, як і прыёмку пасылак, кантралявала брыгада «Жалязняк», пакідаючы сабе частку зброі і амуніцыі, якія былі прызначаныя для іншых падраздзяленняў зоны. Аператыўная група Беларускага штаба 26 красавіка 1943 г. перадавала па радыё свайму камандзіру:

> Паводле паведамленняў [...] з Бягомля, «Жалязняк» атрымлівае ўсе грузы, якія мы пасылаем, і дзеліць іх паміж брыгадамі, як яму хочацца, а не адпаведна прыкладзеным суправаджальным паперам. Ён тым самым парушае план забеспячэння ўсіх брыгад[144].

Камандзір брыгады «Народны мсцівец» скардзіўся:

> Са зброі, якая была паслана нам праз брыгаду «Жалязняк», мы амаль нічога не атрымалі. Брыгада «Жалязняк» не пераслала нам яе. Гэта выклікае незадавальненне. Таму мы просім забяспечваць нас непасрэдна[145].

І іншыя падраздзяленні, асабліва малыя, дасылалі падобныя скаргі[146].

Многія тысячы партызанаў вакол возера Палік у першую чаргу былі занятыя самі сабой, г. зн. забеспячэннем харчам і шнапсам, рабаваннямі і спрэчкамі паміж сабой. Яны, праўда, праводзілі і баявыя аперацыі, якія, аднак, былі накіраваныя галоўным чынам супраць мясцовых паліцаяў і іншых «здраднікаў». Даходзіла і да баёў з варожымі падраздзяленнямі. Акрамя таго, яны пасылалі дыверсійныя групы на заданні на чыгуначныя лініі і дарогі, але гэта здаралася параўнальна рэдка[147]. Тым не менш вялікае зборышча партызанаў уяўляла сабой значную пагрозу для

[143] Даклад маёра Зыранава таварышу Рыжыкаву з БШПР, 8 жніўня 1943 г. (копія ад 28 жніўня 1943 г.) (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 47 і наст.).

[144] Радыёграма аператыўнай групы БШПР начальніку БШПР Калініну, № 1366 ад 26 красавіка 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 4, арк. 541).

[145] Справаздача пра дзейнасць брыгады «Народны мсцівец» за другі квартал 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 56).

[146] Даклад маёра Зыранава таварышу Рыжыкаву з БШПР, 8 жніўня 1943 г. (копія ад 28 жніўня 1943 г.) (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 47 і наст.).

[147] Гэта вынікае з аператыўных зводак БШПР за першую палову 1943 г. Гл.: НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 3, арк. 1—160.



нямецкіх акупантаў, якія ў красавіку 1943 г. вырашылі разграміць Бягомльска-Лепельскую зону пры дапамозе шырокамаштабнай аперацыі.

Партызанская разведка зарэгістравала з сярэдзіны красавіка 1943 г. канцэнтрацыю нямецкіх і «тутэйшых» сіл вакол зоны. Меншыя варожыя атрады ўкліньваліся ў зону, і рэгулярна між імі і партызанамі адбываліся сутычкі. Было відавочна, што супраць зоны неўзабаве адбудзецца вялікая аперацыя. Беларускі штаб пасля гэтага пачаў узмоцнена дасылаць партызанам амуніцыю і зброю, галоўным чынам праз Бягомльскі аэрадром, куды з 20 красавіка да 5 мая 1943 г. было перапраўлена агулам 54 тоны ваенных грузаў, у асноўным вінтовачныя патроны, але і 547 вінтовак[148]. Праўда, нейкая частка боепрыпасаў і выбухоўкі, якія толькі што прыбылі, але яшчэ не былі размеркаваныя, згубілася 5 мая ў час нямецкай бамбёжкі аэрадрома[149].

У маі 1943 г. у Бягомльска-Лепельскай зоне знаходзіліся 10 брыгад (43 атрады) і адзін самастойны атрад, усяго 8 598 партызанаў[150]. Адзінага кіравання ў зоне не было. Беларускі штаб спрабаваў арганізаваць і каардынаваць абарону зоны з савецкага тылу. Кожная брыгада атрымлівала свой участак абароны. Асобныя атрады атрымалі яшчэ і загад атакаваць наступаючага ворага з тылу, каб даць палёгку падраздзяленням у зоне. Атрады павінны былі падтрымліваць адзін аднаго, планавалася таксама падтрымка савецкай авіяцыяй з паветра[151].

На прыктыцы не выконваліся ні згаданыя вышэй загады, ні каардынацыя і кіраўніцтва абаронай зоны з савецкага тылу пры дапамозе радыё. 28 мая 1943 г. Панамарэнка, які на гэты час быў прызначаны ўжо генерал-маёрам Чырвонай Арміі, даў поўную волю падраздзяленням, якія змагаліся ў зоне:

> Дзейнічайце, як дазваляюць абставіны. Знішчайце варожыя сілы з засад, нападамі з тылу, трэба зберагаць уласную здольнасць манеўраваць. Усімі сіламі неабходна знішчаць варожыя дарогі, масты. Пазбягаць акружэння[152].

Калі потым 20 мая пачалася сама аперацыя «Котбус», брыгада Шляхтунова ўжо распалася. Барысаўскі аператыўны цэнтр перадаваў 23 мая па радыё:

> Шляхтуноў уцёк, брыгада разбеглася. Частка брыгады перайшла ў брыгаду «Жалязняк». Праціўнік захапіў радыёстанцыю і ўзбраенне брыгады Шляхтунова. Партызаны брыгады «Жалязняк» адбілі радыёстанцыю і ўзбраенне[153].

[148] Аператыўнае паведамленне БШПР № 20/35 за май 1943 г. (Тамсама. Арк. 147—160).

[149] Паведамленне Калініна П. Панамарэнку аб ходзе аперацыі супраць партызанаў на Бягомльшчыне ад 27 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 148, л. 4—7).

[150] Нататка Калініна з БШПР аб партызанскіх атрадах на Бягомльшчыне на 25 мая 1943 г. (Тамсама. Л. 8).

[151] Часовае рашэнне аб Бягомльскай аперацыі, май 1943 г. (Тамсама. Л. 9—11).

[152] Паведамленне пра ход баёў у Бягомльскім і Лепельскім раёнах на 3 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 10, арк. 13).

[153] Радыёграма аператыўнай групы БШПР, № 2494 ад 24 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 6, арк. 254).

Астатнія брыгады ў зоне паведамлялі, што яны вядуць жорсткія баі і аказваюць адчайны супраціў[154]. Паводле дадзеных Беларускага штаба, партызанам, аднак, давялося адступіць перад наступаючымі варожымі сіламі. Але Цэнтру ўсё яшчэ дакладвалі пра пасляховыя баі і засады[155]. Да 29 мая частка атрадаў пакінула зону і адышла на захад, у Вілейскую вобласць[156]. У наступныя дні, перш чым вакол возера Палік замкнулася кола, пачалі выходзіць з зоны і іншыя падраздзяленні. У акружэнні засталіся часткі брыгады «Жалязняк», брыгады Лапаціна (НКУС) і імя Кірава, а таксама атрады «Смерць фашызму» і «За Радзіму», акружаныя ў балотах Домжарыцы (возера і вёска каля 15 км на ўсход ад Бягомля). Яны вырваліся з акружэння толькі паміж 20 і 23 чэрвеня[157].

Праз некалькі дзён брыгады «Жалязняк», Лапаціна, «За Радзіму» і імя Кірава рапартавалі Цэнтру пра ваенныя поспехі, якіх яны дамагліся ў праведзеных баях. Асабліва пасляхова, паводле рапарта, білася брыгада «Жалязняк». Яе партызаны ў баях з 14 мая да 25 чэрвеня 1943 г. знішчылі агулам 836 салдат, паліцаяў і ўласаўцаў[158], а таксама 21 афіцэра, падбілі 21 грузавік і 7 легкавікоў, 2 танкі, 7 лёгкіх танкаў, 1 бронемашыну. Страты брыгады склалі 52 забітыя, 49 параненых, 14 перабежчыкаў і зніклых без вестак[159].

Брыгада Лапаціна паведамляла, сярод іншага, пра 300 забітых салдат і афіцэраў, 2 знішчаныя танкі і 1 бронемашыну пры сваіх стратах у 25 забітых і 6 параненых. Партызаны брыгады «За Радзіму», страціўшы сваіх 7 партызанаў, забілі звыш 62 салдат і 4 афіцэраў, параніўшы 28[160]. А партызаны брыгады імя Кірава забілі, сярод іншага, 237 салдат, афіцэраў, паліцаяў і «народнікаў» [удзельнікаў «мясцовых» падраздзяленняў] і 217 паранілі, пры ўласных стратах у 4 забітыя і 7 параненых[161].

---

[154] Паведамленне Калініна П. Панамарэнку аб ходзе аперацыі супраць партызанаў на Бягомльшчыне, 27 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 148, л. 4—7).

[155] Паведамленне пра ход баёў у Бягомльскім і Лепельскім раёнах на 3 чэрвеня 1943 г. (Тамсама. Л. 13—16).

[156] Аператыўнае паведамленне БШПР № 21/36, канец мая — пачатак чэрвеня (дата нечытэльная) (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 3, арк. 261, 266).

[157] Паведамленне палкоўніка Храпкова пра аперацыю праціўніка супраць партызанаў на Бягомльшчыне ў маі—чэрвені 1943 г., без даты (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 857, л. 71—75); аператыўнае паведамленне № 25/40 БШПР, пачатак ліпеня 1943 г. (дата нечытэльная) (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 3, арк. 221 і наст.).

[158] Тут гаворка ідзе пра ваеннаслужачых Рускай вызваленчай арміі (РВА). Галоўнакамандуючым РВА быў Андрэй Уласаў (1901—1946), савецкі генерал, які летам 1942 г. трапіў у нямецкі палон і потым памяняў бакі. Па ягонай ініцыятыве была створана РВА, якая змагалася на баку нямецкага рэйху супраць Савецкага Саюза. Гл. таксама главу VI, раздзел 8, с. 330—331.

[159] Радыёграма Ціткова П. Панамарэнку, № 4264 ад 4 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 9, арк. 156).

[160] Радыёграма № 4335 ад 7 ліпеня 1943 г. (Тамсама. Арк. 235).

[161] Радыёграма Жуковіча Калініну, № 4534 ад 12 ліпеня 1943 г. (Тамсама. Арк. 392).



Увогуле партызаны, паводле дадзеных Беларускага штаба, у баях падчас аперацыі «Котбус» забілі, сярод іншага, 1 968 нямецкіх салдат і 100 афіцэраў, падбілі 15 танкаў, 7 лёгкіх танкаў і 2 бронемашыны. Самі яны страцілі толькі 88 забітых, 57 параненых і 14 зніклых без вестак, прычым нібыта 8 000 партызанаў змагаліся супраць 45 000 варожых салдат і афіцэраў. Нарэшце Беларускі штаб заключыў: «Камандаванне партызанскімі злучэннямі праводзіла баі ў час варожай аперацыі вельмі разумна і дамаглося вельмі важнай перамогі над праціўнікам»[162].

Аднак гэтыя рапарты аб поспехах не адпавядаюць рэчаіснасці. Хоць на самай справе адбылося шмат баёў паміж нямецкімі і «мясцовымі» падраздзяленнямі з аднаго боку і партызанамі — з другога, але яны не канчаліся перамогай партызанаў. Партызаны ваявалі не супраць 45 000 варожых салдат і афіцэраў, а супраць 16 662. Акрамя таго, нямецкія страты хоць і былі адчувальнымі, але далёка не такімі вялікімі, як гэта сцвярджаецца ў адпаведных партызанскіх рапартах. Паводле нямецкіх дадзеных, якія ў гэтых адносінах здаюцца праўдзівымі, падчас аперацыі «Котбус» загінулі 5 нямецкіх афіцэраў і 83 нямецкія «унтэр-афіцэры ці салдаты», 11 афіцэраў і 374 «унтэр-афіцэры і салдаты» былі параненыя. Сюды дадамо 40 загінулых, 152 параненыя і 4 зніклыя без вестак «чужародцы»[163]. Гэта азначае, што сапраўдныя нямецкія страты склалі 128 забітых (разам з «чужародцамі», якія, аднак, у згаданым рапарце Беларускага штаба не згадваюцца) у адрозненне ад 2 098 у партызанскім рапарце.

Аднак ёсць шматлікія тагачасныя савецкія данясенні, якія ставяць пад сумнеў прыведзеныя ў рапартах поспехі партызанаў падчас аперацыі «Котбус». Напрыклад, ужо цытаваны маёр Чырвонай Арміі Зыранаў у сваім рапарце пра аперацыю «Котбус». Адпаведна яго ацэнцы, брыгада «Жалязняк» падчас баёў была «няпоўнай». Часткі брыгады пахаваліся ў лясах вакол возера Палік. Іншыя атрады брыгады пратачыліся праз варожыя лініі, але ў тыле ворага не праводзілі ніякіх аперацый. Сувязь паміж атрадамі ў час баёў, на яго меркаванне, была страчана, а адзінае кіраванне брыгадай было «вельмі абмежаваным». «У выніку брыгада перастала існаваць як баявое злучэнне. Пасля баёў камандаванню брыгады толькі з вялікімі намаганнямі ўдалося сабраць партызанаў, якія разбегліся, ды і то не ўсіх»[164].

Паводле аднаго партыйнага даклада, партызаны 7-га атрада брыгады «Жалязняк» «у час баёў страцілі розум, пакінулі сваіх параненых, якія потым былі немцамі пасечаны на кавалкі»[165]. У акружэнні,

---

[162] Паведамленне БШПР пра дзейнасць беларускіх партызанаў у 1943 г., без даты, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 121 і наст.).

[163] Баявое паведамленне групы Курта фон Готберга аб аперацыі «Котбус» ад 28 чэрвеня 1943 г. (BA-MA. RH 26-286/9, Bl. 144—160); урыўкамі надрукавана ў: Verbrechen der Wehrmacht... S. 495 і наст.

[164] Даклад маёра Зыранава таварышу Рыжыкаву з БШПР, 8 жніўня 1943 г. (копія ад 28 жніўня 1943 г.) (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 47 і наст.).

[165] Справаздача Лагойскага райкама, падпісаная Цімчуком, за перыяд з 15 мая да 15 чэрвеня 1943 г., без даты (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 271, арк. 193 і наст.).

сярод іншага, застаўся 2-гі атрад брыгады «Жалязняк». Паводле дадзеных НКУС, камандзір атрада Сямён Гунін[166] падчас аперацыі піў, раззброіў і распусціў большасць партызанаў свайго атрада. Акрамя таго, «ён спаліў вёску Кветча»[167]. Камандзір 4-га атрада, лейтэнант Пракоп Піваварaў, скардзіўся ў адной дакладной Панамарэнку: «29.05 я атрымаў вусны загад ад Манковіча [камісара брыгады “Жалязняк”]: “Атрад павінен займацца разведкай, штаб трэба прыхаваць, вёскі Домжарыцы і Кветчу неабходна спаліць”»[168]. Вёску Кветча партызаны ў час аперацыі «Котбус» сапраўды спалілі дашчэнту, каб перашкодзіць немцам наладзіць там свой апорны пункт. Гэта аўтару пацвердзілі жыхары гэтай вёскі[169].

Акрамя таго, Піваварaў паведамляў пра камандаванне брыгады «Жалязняк»: «Калі я працаваў начальнікам штаба, я назіраў шэраг непаладак ды і падманаў Цэнтральнага штаба ў радыёграмах, а таксама і Вас [Панамарэнку] асабіста падманвалі. Я пратэставаў супраць гэтага»[170]. Яшчэ ў адной скарзе Піваварaў пісаў: «Камандаванне падавала падробныя звесткі пра страты праціўніка і страты брыгады [у час аперацыі “Котбус”]»[171].

Гэта тлумачыць уяўныя ваенныя поспехі і малыя ўласныя страты брыгады «Жалязняк» падчас аперацыі «Котбус». Сапраўдныя страты былі куды большымі за тыя, пра якія паведамляла кіраўніцтва брыгады «Жалязняк». Піваварaў паведамляў:

> У час нямецкай аперацыі партызаны прасілі адпусціць іх дамоў, каб выратаваць свае сем'і. Камандаванне гэта забараніла, і партызаны пачалі ўцякаць. Пачаліся расстрэлы. [...] У канчатковым выніку да ворага перабеглі мінімум 20 партызанаў са зброяй у руках, бо яны баяліся расстрэлу. Расстраляна было не менш як 35 чалавек[172].

Не лепш палягалі справы ў час аперацыі «Котбус» і ў іншых атрадах. Брыгада Багатырова—Захарава, якая дзейнічала ў Плешчаніцкім раёне на поўдзень ад Бягомля, неаднойчы атрымлівала загады атака-

[166] Склад брыгады «Жалязняк» на пачатак аперацыі (аперацыя «Котбус»), [май 1943 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 10, арк. 10).

[167] Намеснік народнага камісара НКДБ СССР Кабулаў П. Панамарэнку 13 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 104 і наст.).

[168] Піваварaў начальніку ЦШПР П. Панамарэнку, 27 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 469, арк. 25—27 адв.); склад брыгады «Жалязняк» на пачатак аперацыі (аперацыя «Котбус»), [май 1943 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 10, арк. 10).

[169] Інтэрв'ю аўтара з Васілём Хацкевічам, які нарадзіўся ў 1927 г. і жыве ў Кветчы, узятае 7 жніўня 2004 г. у Кветчы; інтэрв'ю аўтара з Аляксандрам Булакоўскім...; інтэрв'ю аўтара з Анастасіяй Васільевай...

[170] Піваварaў начальніку ЦШПР П. Панамарэнку, 27 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 469, арк. 25—27 адв.); склад брыгады «Жалязняк» на пачатак аперацыі (аперацыя «Котбус»), [май 1943 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 10, арк. 10).

[171] Ліст Піваварава П. Панамарэнку, [лета 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 469, арк. 21—24).

[172] Тамсама.



ваць варожыя сілы з тылу. Захараў адмовіўся выконваць загады[173]. У радыёграме з зоны ад 16 чэрвеня 1943 г. гаварылася: «Брыгада Захарава ў цяперашні момант займаецца рабаўніцтвам»[174]. Сапраўды, брыгада мела нядобрую рэпутацыю і лічылася асабліва дэмаралізаванай[175]. Адна сведка з Лагойскага раёна, на поўнач ад Мінска, раёна дзейнасці атрада/брыгады Захарава, заявіла ў інтэрв'ю аўтару: «У нас быў атрад Захарава, гэта былі не партызаны, гэта былі бандыты. Яны ў нас забралі ўсё: прадукты харчавання, кароў, авечак, вопратку. У нас быў самавар, які мы мусілі схаваць ад партызанаў»[176].

Паводле даклада маёра Зыранава, брыгады Шляхтунова і Мядзведзева не адыгрывалі вялікай ролі ў час аперацыі «Котбус», сярод іншага таму, што ў іх амаль не было боепрыпасаў і зброі, як і самастойны атрад Вятрова[177]. Паводле Зыранава, толькі брыгада пад камандаваннем Дуброўскага была ў баі «стойкай». Зыранаў ацэньваў гэтую брыгаду як самую моцную ў зоне. Яе партызаны, на яго думку, былі старанна падабраныя і яе баяздольнасць куды вышэйшая, чым брыгады «Жалязняк». Тое ж самае тычыцца і палітычнага выхавання і аховы. Асабліва Зыранаў хваліў ваенную разведку і агентурную сетку брыгады, «якой кіруе начальнік разведвальнага атрада Маркевіч»[178]. Адным з разведчыкаў у брыгадзе быў Пётр Марцінкевіч, малады партызан (нарадзіўся ў 1923 г.), які са жніўня 1941 г. працаваў на партыйнае падполле, а пазней на атрад/брыгаду Дуброўскага як агент і разведчык. Ён пацвярджае ў інтэрв'ю з аўтарам, што брыгадзе дзякуючы добрай разведцы ўдалося своечасова пазбегнуць варожага акружэння[179].

Але і нямецкі бок не мог быць задаволены вынікамі аперацыі «Котбус». Немцам не ўдалося, як планавалася, масава загнаць партызанаў у мясцовасць вакол возера Палік, акружыць іх там, а затым знішчыць[180]. У рапарце Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» за чэрвень 1943 г. гаворыцца:

> Не ўдалося разбіць буйныя банды [у рамках аперацыі «Котбус»], якія знаходзіліся на захад ад Лепеля. Яны масава адступілі ў паўночн. накірунку.

[173] Начальнік БШПР Калінін начальніку ЦШПР П. Панамарэнку, 27 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 329 адв.).

[174] Нататка на дакументах начальніка БШПР Калініна пра радыёграму таварыша Казанцава (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 104).

[175] Калінін П. Панамарэнку, 29 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 338 і наст.).

[176] Інтэрв'ю аўтара з Надзеяй Левандоўскай, якая нарадзілася ў 1929 г. і жыве ў вёсцы Карпілаўка Лагойскага раёна, узятае 7 ліпеня 2004 г. у Карпілаўцы.

[177] Даклад маёра Зыранава таварышу Рыжыкаву з БШПР, 8 жніўня 1943 г. (копія ад 28 жніўня 1943 г.) (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 47 і наст.).

[178] Тамсама.

[179] Інтэрв'ю аўтара з Пятром Марцінкевічам, які нарадзіўся ў 1923 г. у вёсцы Каранеўка Лепельскага раёна, жыве ў Домжарыцах Лепельскага раёна, узятае 4 ліпеня 2004 г. у Домжарыцах.

[180] Баявы загад фон Готберга наконт аперацыі «Котбус», 15 мая 1943 г. (праект) (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 126).

> Аперацыю трэба перарваць, бо сілы СС і паліцыі трэба задзейнічаць у іншым месцы, а падраздзяленні камандуючага генерала [тылавога раёна групы войскаў] не могуць больш быць выкарыстаныя[181].

Толькі адна частка партызанаў трапіла ў кацёл, адкуль яны ўсё ж змаглі вырвацца. Ніводнае з падраздзяленняў, якія ў маі 1943 г. знаходзіліся ў Бягомльска-Лепельскай зоне, не было канчаткова разгромлена. Найбольшыя страты панесла брыгада «Жалязняк», якая ў час аперацыі распалася, але потым зноў сабралася і да чэрвеня 1944 г. дзейнічала ў зоне. Цэлы год немцам спатрэбіўся, каб утварыць вялікі кацёл вакол возера Палік, у якім у пастку трапілі тысячы партызанаў. І на гэты раз нямецкі бок меў поспех, што мы яшчэ закранём.

Нямецкае баявое камандаванне аперацыі «Котбус» заяўляла, як ужо згадана, што «ў баі» ці «ў баях» яны забілі 6 087 партызанаў. Сюды дадаваліся яшчэ 3 079 «прыкончаных» і 599 палонных. Акрамя таго, як канстатаваў фон дэм Бах у сваім дзённіку і сцвярджаў, што памеры замініраваных тэрыторый былі вельмі вялікія, «пры размініраванні мінных палёў па меркаваных ацэнках у паветра ўзляцела 2—3 000 мясцовых жыхароў»[182]. Спецбатальён СС Дырлевангера дакладваў у пачатку аперацыі «Котбус»:

> Завалы на дарогах і штучныя перашкоды амаль заўсёды замініраваныя. Дасюль пры іх ліквідацыі 1 забіты, 4 параненыя. Таму прынцыпова: ніколі не ліквідаваць завалы самім, а толькі з выкарыстаннем мясцовых. Зберажоная кроў апраўдвае страту часу[183].

Аднак выклікае сумненне, што партызаны сапраўды так шчыльна замініравалі мясцовасць і дарогі, як гэта сцвярджаюць немцы[184]. Нават нібыта жанчыны і дзеці мініравалі дарогі ў тыле нямецкіх войскаў[185]. Якраз менавіта мін галоўным чынам не хапала партызанам. Першыя пастаўкі зброі паветраным шляхам партызаны Бягомльска-Лепельскай зоны атрымалі ў сакавіку 1943 г. У красавіку і маі прыйшлі наступныя пастаўкі, сярод іх, аднак, не было мін, а калі былі, то вельмі мала[186]. Акрамя таго, абсурдна меркаваць, што гэтыя міны закладалі

---

181 Месячная зводка Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча з бандамі ў чэрвені 1943 г., 4 ліпеня 1943 г. (BA-MA. RH 19 II/172, Bl. 26).

182 Дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 23 чэрвеня 1943 г. (BA. R 20/45b, Bl. 78).

183 Паведамленне спецбатальёна СС Дырлевангера ад 5 мая 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 162).

184 Паведамленне афіцэра Ia баявой групы фон Готберга аб баях аперацыі «Котбус», 28 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 42—59).

185 Дадатковы загад фон Готберга № 2 да баявога загада адносна аперацыі «Котбус», 31 мая 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 150).

186 Начальнік БШПР Калінін камандзіру паветрана-дэсантных войскаў Чырвонай Арміі генерал-маёру Глазунову, 30 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 83, оп. 1, д. 23, л. 29—34); аператыўнае паведамленне № 20/35 БШПР за май 1943 г. [дата нечытэльная] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 3, арк. 151); Камандзір брыгады «Жалязняк» Ціткоў П. Панамарэнку, 14 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 6, арк. 43 і наст.).



дзеці і жанчыны. Міны і выбухоўку ў партызанаў закладалі так званыя «падрыўнікі», якіх спецыяльна рыхтавалі і якія ў партызанаў карысталіся вялікай павагай. Таму трэба таксама выключыць, што «2—3 000 мясцовых жыхароў ўзляцелі ў паветра пры размініраванні мінных палёў».

У нямецкіх справаздачах сцвярджалася таксама, што нямецкія сілы змагаліся не толькі супраць партызанаў, але і супраць рэгулярных вайсковых падраздзяленняў[187]. У выніковай справаздачы аб аперацыі «Котбус» гаворыцца:

> Толькі дзякуючы баявому ўздзелу да самага канца кожнага асобнага аперацыя «Котбус» закончылася поўным знішчэннем бандыцкай рэспублікі «Возера Палік», часці якой складаліся большым чынам з рэгулярных, у тым ліку рускіх парашутных часцей. [...] У адрозненне ад ранейшых вопытаў барацьбы з бандамі, у аперацыі «Котбус» было неабходна знішчыць ворага, які быў бездакорна падрыхтаваны і ў асноўным меў больш і лепшую зброю, чым нашыя задзейнічаныя злучэнні. Таксама выявілася, што тактычнае кіраванне праціўніка было добрым[188].

І гэтыя сцвярджэнні (лепшая зброя, бездакорная падрыхтоўка і тактычнае кіраванне) не адпавядалі, як ужо было сказана, рэчаіснасці. Перабольшаныя ці нават прыдуманыя рапарты, пэўна, служылі таму, каб прадставіць на гэтым фоне ўласныя ўяўныя поспехі як асабліва заслужаныя і здабытыя ў жорсткай барацьбе. Наадварот, сцвярджэнне, што жанчыны і дзеці мініравалі дарогі, рабілася выключна з мэтай апраўдаць расправы над цывільным насельніцтвам, якія нямецкай цывільнай адміністрацыяй з пачатку аперацыі востра крытыкаваліся. У цытаванай выніковай справаздачы гаворыцца:

> Акрамя таго, пры баявых мерапрыемствах, як, напрыклад, аперацыя «Котбус», трэба выключаць усялякае чалавечае шкадаванне ў адносінах да насельніцтва, бо ўжо ў каторы раз выяўлялася, што тутэйшае насельніцтва, нават жанчыны і дзеці, у тыле нашых ліній зноў і зноў мініравалі дарогі[189].

У сапраўднасці ж нямецкія і «мясцовыя» ўзброеныя сілы ў час аперацыі «Котбус» наладзілі сапраўдную крывавую разню ў адносінах да безабароннага цывільнага насельніцтва. Пра гэта сведчыць хоць бы лічба: 903 захопленыя вінтоўкі пры быццам амаль 10 000 «забітых у баях» ці «прыкончаных» партызанах. Частку гэтых вінтовак партызаны-ўцекачы проста выкінулі. Прапагандыст Лаўх апісваў ход аперацыі наступным чынам:

---

187 Дадатковы загад фон Готберга № 2 да баявога загада адносна аперацыі «Котбус», 31 мая 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 150).

188 Паведамленне афіцэра Ia баявой групы фон Готберга аб баях аперацыі «Котбус», 28 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 52 і наст.).

189 Тамсама. Арк. 54 і наст.

24.5.43: [...] 13.00 Прыезд у Нябышына [вёска Нябышына, каля 10 км на паўночны захад ад Бягомля], паведамленне штабу. У Нябышыне знаходзіліся 2 пуні трупаў застрэленых партызанаў ці падазраваных бандытаў. Пуні былі падпаленыя, але трупы ў іх не згарэлі. У адной пуні, у якой знаходзіліся 6 абвугленых трупаў, іх грызлі 4 свінні. [...] Паводле слоў пана падпалкоўніка Кітцынгера, прызнанні палонных паказалі, што вялікая частка партызанаў атрымала цывільную вопратку і ўказанні працаваць у вёсках як сяляне і чакаць прыдатнага моманту. Пасля гэтага падпалкоўнік К. вырашыў вёскі спаліць, а насельніцтва пастраляць[190].

Адказны за сельскую гаспадарку пры гебітскамісарыяце ў Вілейцы, у абавязкі якога ўваходзіла «нарыхтоўка сельскагаспадарчых вырабаў» падчас аперацыі «Котбус», скардзіўся:

Нашая праца вельмі абцяжарвалася ад таго, што жыхары, якія часткова вярнуліся ў свае вёскі, былі расстраляныя, а вёскі дашчэнту знішчаныя. Тое-сёе з аўчын і палатна [так у крыніцы] стала пры гэтам ахвярай агню. Уся акцыя, з пункту гледжання ацэнкі, не мела поспеху, які яна магла б мець[191].

Падобнае назіраў палітычны рэферэнт з Барысава:

У воласці (нечытэльна -ітоніч) у Барысаўскім раёне жыхароў сагналі ў пуню, расстралялі, а будынак спалілі. [...] Прыводзіцца як прыклад, што людзі, якія па меркаванні выканаўцаў былі расстраляныя, а былі толькі параненыя і страцілі прытомнасць, праз некалькі дзён прыйшлі ў бальніцу. Яны потым выкарасkaліся з-пад пластоў застрэленых і шукалі дапамогі[192].

Вільгельм Кубэ, генеральны камісар Беларусі, абураўся 3 ліпеня 1943 г. у лісце свайму начальніку: «Даклад [Лаўха] адпавядае ва ўсім дакладам асоб з аддзела сельскай гаспадаркі, а таксама іншых органаў цывільнай адміністрацыі»[193].

На тэрыторыі былой Бягомльска-Лепельскай зоны сёння ў шматлікіх вёсках, якія ў час аперацыі «Котбус» былі знішчаныя разам з жыхарамі, стаяць помнікі, што нагадваюць пра гэтыя злачынствы, як, напрыклад, у Кветчы. 6 чэрвеня 1943 г. «народнікі», удзельнікі

[190] Паведамленне прапагандыста Лаўха пра ўдзел у буйной аперацыі ў баявой групе падчас аперацыі «Котбус» старшага лейтэнанта Клупша ад 2 чэрвеня 1943 г. (копія) (BA. NS 19/1533, Bl. 96—98). Гэтая цытата часткова надрукавана ў: Verbrechen der Wehrmacht... S. 497.

[191] Паведамленне пра сельскагаспадарчыя нарыхтоўкі падчас аперацыі «Котбус» [sic], крайсландвірт пры гебітскамісары ў Вілейцы, 12 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 59 і наст.). Гэтае паведамленне ўрыўкамі надрукавана ў: Verbrechen der Wehrmacht... S. 497.

[192] Ланге з палітычнага аддзела генеральнага камісара ў Мінску да камандзіра аддзела I пра антыбандыцкія акцыі ў раёне Барысава, 1 чэрвеня 1943 г. (BA. NS 19/1433, Bl. 94).

[193] Генеральны камісар Беларусі рэйхсміністру акупаваных усходніх тэрыторый, 3 чэрвеня 1943 г. (Тамсама. Bl. 95).



«мясцовых злучэнняў» ці батальёна СС Дырлевангера схапілі ў балотах 60 жыхароў вёскі Падраддзе і пагналі ў суседнюю вёску Кветча. Прыйшоўшы ў Кветчу, яны зачынілі 60 чалавек у пуні і падпалілі яе. Ахвяры згарэлі жывыя. Сярод ахвяр у большасці былі жанчыны і дзеці, у тым ліку немаўляты. У той час 14-гадовая Анастасія Васільева ўцякла разам з маці ў балота, і яны хаваліся там некалькі дзён, на іх шчасце, іх не знайшлі. Сярод ахвяр Кветчы былі дзве яе цёткі (сёстры маці) са сваімі малымі дзеткамі[194]. На месцы, дзе стаяла пуня, сёння знаходзіцца помнік з прозвішчамі і імёнамі знішчаных.

Як і ў іншых акцыях супраць партызанаў, падчас аперацыі «Котбус» таксама найбольш пакут зведала насельніцтва. Жыхары зоны яшчэ на працягу месяцаў падвяргаліся здзекам і рабаўніцтву з боку партызанаў-марадзёраў. Але самае дрэннае прыйшло толькі з аперацыяй «Котбус», бо ў нямецкіх баявых падраздзяленняў быў загад сістэматычна знішчаць насельніцтва зоны і ствараць на тэрыторыях баёў «мёртвыя зоны». Яны палілі вёскі, забівалі іх жыхароў і вывозілі працаздольных на прымусовую працу. Адзіным ратункам былі ўцёкі на балоты.

Тыя, што выжылі, вярталіся назад у вёскі пасля зыходу нямецкіх і «мясцовых» падраздзяленняў. Яны будавалі зямлянкі і спрабавалі зноў наладзіць жыццё. Неўзабаве зноў вярталіся партызаны і зноў уладкоўваліся вакол Паліка. Нямецкія самалёты цяпер рэгулярна бамбілі і абстрэльвалі часовае жытло, каб знішчыць партызанаў і тых, хто выжыў, ці хаця б абцяжарыць ім жыццё. Так сям'я Васільевай з Кветчы ў другі раз страціла сваё жытло. Спачатку хату спалілі партызаны, як і астатнія хаты ў вёсцы. Пасля маці з дочкамі, бацька быў на фронце, пабудавалі пры дапамозе партызанаў зямлянку, якую, аднак, неўзабаве разбамбілі немцы. Яны ўвесь час павінны былі ўцякаць і хавацца ад нямецкіх самалётаў[195].

Вар'яцкае жаданне немцаў падчас аперацыі «Котбус» рабаваць і знішчаць прывяло да таго, што і без таго моцны антынямецкі настрой насельніцтва яшчэ больш радыкалізаваўся. Вільгельм Кубэ, генеральны камісар Беларусі, які быў супраць такіх бессэнсоўных забойстваў, расчаравана канстатаваў: «[Пранямецкая] прапаганда пасля падобных акцый, што канчаюцца масавымі расстрэламі ўсяго насельніцтва, абсалютна не мае сэнсу»[196]. У дадатку да цытаванай запіскі Кубэ папярэджваў:

Калі будуць працягвацца такія паводзіны ў ранейшай форме не толькі з боку паліцыі, але і вермахта і/ці арганізацыі Тодта ў дачыненні да мясцовага насельніцтва, тады мы наступнай зімой будзем мець не толькі партызанаў, але і паўстанне ўсёй краіны[197].

[194] Інтэрв'ю аўтара з Анастасіяй Васільевай...

[195] Тамсама.

[196] Генеральны камісар Беларусі рэйхсміністру акупаваных усходніх тэрыторый, 3 чэрвеня 1943 г. (BA. NS 19/1433, Bl. 94).

[197] Тамсама. Bl. 92.

## 6. Партызаны ў Налібоцкай пушчы і аперацыя «Герман»

Праз тры тыдні пасля заканчэння аперацыі «Котбус» немцы пачалі аперацыю «Герман» (*«Hermann»*), якая была накіравана супраць партызанаў у Налібоцкай балотна-лясной мясцовасці. Налібоцкая пушча, што існуе і сёння і балоты якой у 1950-х і 1960-х гг. былі часткова асушаны, названая па аднайменным населеным пункце Налібакі, што размешчаны сярод лесу каля 80 км на захад ад Мінска. Першыя савецкія партызаны, якія праводзілі ваенныя аперацыі, з'явіліся ў Налібоцкай пушчы вясной 1942 г.

9 чэрвеня 1942 г. 125-ы атрад імя Сталіна разграміў «у Налібаках атрад эсэсаўцаў, літоўцаў і нямецкіх паліцэйскіх». Паводле ўласных дадзеных, партызаны без страт знішчылі 22 немцаў і 4 узялі ў палон[198]. Гэты бой сапраўды адбыўся і цікавы таксама тым, што партызаны знішчылі нямецкую каманду, якая накіроўвалася на «яўрэйскую акцыю», г. зн. на вынішчэнне яўрэяў. Паводле нямецкіх дадзеных, акцыя праходзіла наступным чынам:

> Каманда з Баранавічаў камандзіра паліцыі бяспекі і СД Беларусі ў колькасці 8 нямецкіх афіцэраў і унтэр-афіцэраў, 2 прадстаўнікоў валаснога камісарыята Навагрудак, 1 лейтэнанта і 1 унтэр-афіцэра жандармерыі ды 15 літоўцаў і рускіх накіравалася на яўрэйскую акцыю і 9.6.1942 г. каля 17.00 гадзін прыбылі да Валібакоў [правільна Налібакі] на поўнач ад Стоўбцаў. Вёска месціцца ў вялікім лясным масіве; перад вёскай жа — вялікая, цалкам свабодная, роўная плошча. Калі легкавікі і грузавікі каманды выехалі з лесу і хацелі ўехаць у вёску, па іх быў адкрыты з двух бакоў агонь з цяжкіх кулямётаў. [...] У няроўным баі адзін за адным пачалі падаць людзі з каманды, толькі адзін обершарфюрар СС і адзін эсэсавец ды 4 перакладчыкі ці кіроўцы змаглі ўцячы і застацца жывымі. [...] 10.6.1942 г. камандзір паліцыі бяспекі і СД Беларусі адышоў амаль з усімі сіламі сваёй каманды ў Баранавічы. [...] У Валібаках ён натрапіў на 15 забітых, якія загінулі ў баі. Ва ўсіх загінулых былі сцягнутыя боты, эсэсаўцаў, акрамя таго, распранулі да споднікаў. [...] Аднаму оберштурмфюрару СС на грудзях выпалілі свастыку і савецкую зорку. Праз допыт вяскоўцаў было выяўлена, што 4 немцы [...] былі ўзятыя ў палон і на грузавіку, зрабаваным партызанамі, праз Валібакі (Налібакі) вывезены. [...] У склад банды ўваходзіла 90—100 рускіх, у тым ліку і парашутысты, на якіх была руская форма. Яны былі ўзброеныя цяжкой зброяй і мелі радыёстанцыю[199].

У рэчаіснасці сярод партызанаў 125-га атрада імя Сталіна не было парашутыстаў і атрад не меў радыёстанцыі. Атрад утварыўся вясной 1942 г. у Дзяржынскім раёне (каля 40 км на паўднёвы захад ад Мінска)

[198] Апісанне баявых дзеянняў 125-га партызанскага атрада імя Сталіна Дзяржынскага раёна з часу яго заснавання да канца 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 169, арк. 31—37); надрукавана ў перакладзе ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 112—116.

[199] Камандуючы паліцыяй бяспекі і СД-Остланд рэйхскамісару Остланда, 16 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 6 і наст.).



з камандзіраў і байцоў Чырвонай Арміі, якія адбіліся ад сваіх часцей, і ў гэты момант не мелі ніякай сувязі з савецкім тылам[200]. У наступныя месяцы атрад дзейнічаў у мясцовасці вакол Налібакаў і праводзіў, паводле ўласных дадзеных, шматлікія аперацыі, падобныя да праведзенай 9 чэрвеня. Пры гэтым атрад нёс і адчувальныя страты; так, напрыклад, у канцы ліпеня 1942 г. ён страціў у адным баі 30—35 партызанаў. 3 верасня 1942 г. атрад ажыццяўляў, паводле ўласных дадзеных, падрывы чыгункі на ўчастку Мінск — Баранавічы[201].

Акрамя атрада імя Сталіна, у Налібоцкай пушчы дзейнічалі і іншыя атрады, сярод іншага, ужо згаданы атрад Нікіціна і імя Чкалава[202]. Летам 1942 г. Цэнтральны штаб намагаўся наладзіць сувязь з гэтымі партызанскімі падраздзяленнямі, але дарма[203]. Летам—восенню 1942 г. і зімой 1942/43 гг. немцы зрабілі некалькі баявых аперацый супраць партызанаў у Налібоцкай пушчы. Аднак разбіць партызанскія падраздзяленні ім не ўдалося, і партызаны кантралявалі пушчу ды праводзілі рэгулярныя пранікненні ў суседнія раёны. З-за недахопу боепрыпасаў яны не маглі праводзіць шырокамаштабныя аперацыі супраць нямецкіх акупацыйных сіл, якія б цягнуліся працяглы час. Таму яны засяроджваліся на аперацыях па забеспячэнні, нападах на паліцаяў, бургамістраў, на маёнткі і заможных сялян[204].

Зімой 1942/43 гг. з Налібоцкай пушчы выходзілі на заданне шматлікія групы і атрады, што неслі мясцоваму насельніцтву пакуты, як і ў іншых мясцовасцях Беларусі[205]. Гэта пацвярджаюць шматлікія тагачасныя даклады і паведамленні[206]. Кірыл Арлоўскі, які з восені 1942 г. да вясны 1943 г. дзейнічаў са сваім атрадам у Баранавіцкай і Пінскай абласцях, распавядаў у адным інтэрв'ю:

> Адначасова з дыверсійна-разведвальнай працай я вёў штодзённую бязлітасную барацьбу супраць бандыцкіх паводзінаў адносна мясцовага насельніцтва

[200] Апісанне баявых дзеянняў 125-га партызанскага атрада імя Сталіна Дзяржынскага раёна з дня яго заснавання і да канца 1942 г., без даты (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 169, арк. 31—37); надрукавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 112—116.

[201] Тамсама.

[202] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 33—38.

[203] Нататкі партызана Я. Д. Рудко з брыгады Нікіціна (лета—восень 1942 г.) (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 169, арк. 53—55); надрукаваныя ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 49—53; Мельнікаў з 4-га ўпраўлення НКУС П. Панамарэнку, 24 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 97); начальнік 1-га аддзела ЦШПР Навумаў начальніку 4-га ўпраўлення Судаплатаву, 28 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 103 і наст.); Гудзімаў з 2-га ўпраўлення НКУС, 4 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 106).

[204] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 104—123.

[205] Тамсама. S. 105 і наст., 151—155.

[206] Стэнаграма размовы з Н. Кавалёвым пра дзейнасць «Маскоўскага» атрада ў Баранавіцкай вобласці ад 1 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 2—18); стэнаграма размовы з Генадзем Будаём ад 8 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 20—35).

з боку некаторых «партызанскіх груп» у Баранавіцкай і Пінскай абласцях. Я не мог ігнараваць гэтае пытанне, бо ў кожнай вёсцы здараліся алкагольныя эксцэсы, рабункі, забойствы, падпальванне асобных двароў і нават цэлых вёсак. Усё гэта рабілі бандыцкія групы, якія выдавалі сябе за партызанаў і тэрарызавалі мясцовае насельніцтва[207].

Тыя ўспаміны і сёння яшчэ жывуць у памяці жыхароў гэтых мясцовасцей, нягледзячы на масіўную савецкую прапаганду і запалохванне пасля 1944 г. Адна сведка з Налібакаў заявіла аўтару: «Партызаны ўсё забіралі, гэта была не рэквізіцыя, гэта было рабаванне. Яны забіралі кароў, коней і вопратку»[208]. Іншыя выказваліся яшчэ выразней: «Партызаны? — Бандыты. Савецкія партызаны ўсё забіралі»[209]. Юзэфа Кавалевіч з Налібацкай Рудні, вёскі, якая сёння больш не існуе, пасярод Налібоцкай пушчы: «Партызаны рабавалі насельніцтва; калі яны прыходзілі, трэба было хутка ўсё хаваць»[210]. А яе сястра тлумачыла: «Людзі жылі ў заўсёдным страху партызанаў. Ноччу нельга было спакойна спаць»[211].

Вясной 1943 г. Цэнтральны штаб адкамандзіраваў у Баранавіцкую вобласць групу партызанскіх камандзіраў і партыйных работнікаў на чале з Васілём Чарнышовым. У красавіку 1943 г. Чарнышоў з групай з'явіўся, узброены радыёстанцыяй, у Налібоцкай пушчы. Ён узяў мянушку «Платон» і ў сваёй асобе сумясціў пасады першага сакратара Баранавіцкага падпольнага абкама КП(б)Б і камандзіра Баранавіцкага партызанскага злучэння. Пасля прыбыцця «Платон» са сваім штабам размясціўся ў вёсцы Кляцішча, прыблізна за 8 км ад Налібакаў, узяўшы на сябе камандаванне ўжо наяўнымі партызанскімі атрадамі і брыгадамі, і пачаў ствараць новыя. У маі 1943 г. у Баранавіцкай вобласці дзейнічалі звыш 5 000 савецкіх партызанаў, 36 атрадаў і 4 брыгады, большасць з іх ці ў Налібоцкай пушчы, ці ў наваколлі. Праз год, у пачатку ліпеня 1944 г., злучэнне генерала «Платона» быццам налічвала агулам 24 992 партызаны[212].

Першай буйной баявой аперацыяй, якую распарадзіўся правесці «Платон» пасля свайго прыходу, было «ўціхамірванне» населенага пункта Налібакі. Пасля партызанскіх акцый летам 1942 г. нямецкія

[207] Стэнаграма размовы з Кірылам Арлоўскім ад 4 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 6).

[208] Інтэрв'ю аўтара з Ядвігай Ліпінскай, якая нарадзілася ў 1919 г. у вёсцы Пруды, жыве ў Налібаках, узятае 29 чэрвеня 2004 г. у Налібаках.

[209] Інтэрв'ю аўтара з Юзафам Шэшнякам, які нарадзіўся ў 1930 г. і жыве ў Ражанцы, узятае 28 чэрвеня 2004 г. у Ражанцы.

[210] Інтэрв'ю аўтара з Юзэфай Кавалевіч, якая нарадзілася ў 1922 г. у Налібацкай Рудні, жыве ва Унемыслі пад Шчэцінам, узятае 13 жніўня 2004 г. ва Унемыслі.

[211] Інтэрв'ю аўтара з Ірынай Кавалеўскай, якая нарадзілася ў 1928 г. у Налібацкай Рудні, жыве ў Налібаках, узятае 5 жніўня 2004 г. у Налібаках.

[212] Паведамленне начальніка БШПР пра баявыя вынікі партызанаў у Баранавіцкай вобласці, 15 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 51 і наст.); Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 33—38; інтэрв'ю аўтара з Леакадзіяй Ланкевіч, якая нарадзілася ў 1927 г. і жыве ў Кляцішчы, узятае 29 чэрвеня 2004 г. і 4 жніўня 2004 г. у Кляцішчы. «Платон» кватараваў па суседстве са спадарыняй Ланкевіч.



акупанты зладзілі там апорны пункт тутэйшай паліцыі і «самааховы», задачай якога было абараняць насельніцтва ад партызанскіх нападаў. Акцыя адбылася 8 мая 1943 г. «Платон» у загадзе ад 10 мая 1943 г. пахваліў партызанскія атрады, што ўзялі ўдзел у акцыі:

> У ноч на 8 мая 1943 г. партызанскі атрад імя Дзяржынскага, [...], атрад «Бальшавік» і атрад імя Суворава [...] пад камандаваннем камандзіра брыгады імя Сталіна таварыша Гулевіча [...] здзейснілі напад на нямецкі гарнізон самааховы ў мястэчку Налібакі і разбурылі яго. У баі, які доўжыўся 4,5 гадзін, былі забітыя 200 чалавек самааховы, [...] захопленыя да 100 кароў і 70 коней. [...] За ўзорнае выкананне баявой задачы разбурэння гарнізона Налібакі, за выяўленую адвагу і смеласць выказваю сваю падзяку камандаванню брыгады імя Сталіна і атрадам імя Дзяржынскага, «Бальшавік» і імя Суворава, а таксама ўсім партызанам і партызанкам, якія ўзялі ўдзел у гэтым баі[213].

Праз дзень супрацоўнік штаба «Платона» перадаваў па радыё Беларускаму штабу: «У ноч на 8 мая брыгада імя Сталіна разграміла нямецкую самаахову ў мястэчку Налібакі. Забіта больш за 250 чалавек»[214]. Праз адзінаццаць дзён гэтае радыё перадавала паведамленне пра баявыя поспехі брыгады імя Сталіна з 15 красавіка да 15 мая 1943 г., сярод іншага, з наступнымі дадзенымі: «Гарнізон самааховы разбіты, забіта да 250 немцаў [sic]»[215]. Потым лічба забітых падчас акцыі вырасла нават да 500[216].

У рэчаіснасці ж адносна забітых гаворка ішла не пра немцаў, а пра жыхароў Налібакаў. У Налібаках сапраўды месціўся апорны пункт самааховы і паліцыі, людзі якога былі, паводле польскіх дадзеных, узброеныя 26 вінтоўкамі і двума лёгкімі кулямётамі[217]. Імі камандаваў Яўген Клімовіч, якому нямецкі напад у чэрвені 1941 г. прынёс вызваленне з савецкай турмы. Мясцовая паліцыя абсталявала свой апорны пункт у сценах касцёла, які і сёння яшчэ стаіць на ўзгорку на ўскраіне мястэчка. Мясцовая паліцыя і самаахова ў Налібаках былі створаныя і кантраляваліся польскім падполлем, Арміяй Краёвай. Савецкія партызаны ведалі пра гэта і прапанавалі імітаваць разгром апорнага пункта і ўключыць ахоўнікаў апорнага пункта пасля прыняцця клятвы ў савецкія атрады. Польскі бок пагадзіўся толькі з першым пунктам, а ў астатнім настойваў на самастойнасці[218].

Пры такіх абставінах савецкі бок пайшоў на сапраўдны напад, які адбыўся 8 мая. Ён, аднак, не змог застаць асабовы склад знянацку, і

[213] Загад № 12 ад 10 мая 1943 г. упаўнаважанага ЦШПР і ЦК КП(б) па Баранавіцкай вобласці «Платона» (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 29, арк. 5). Надрукаваны ў перакладзе ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 116 і наст.

[214] Радыёграма Сідарка ў БШПР, № 2002 ад 11 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 5, арк. 454).

[215] Радыёграма Сідарка Калініну, № 2406 ад 22 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 6, арк. 181).

[216] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 89.

[217] Тамсама.

[218] Тамсама. S. 100 і наст.

той пачаў аказваць зацяты супраціў. Толькі позна вечарам абаронцы апорнага пункта, што панеслі страты, адступілі, пасля таго як партызаны ўжо адышлі. Загінула і шмат савецкіх партызанаў. Помсцячы, партызаны сагналі маладых людзей вёскі ў яе сярэдзіну і пабілі іх кулямётным агнём, усяго 127 чалавек, галоўным чынам мужчын і юнакоў, але сярод іх былі і мінімум 2 жанчыны ды некалькі дзяцей. Шмат ахвяр былі застрэленыя ці забітыя ў іх уласных дамах[219].

У адным доме партызаны застрэлілі трох братоў, маці ў адчаі закрычала на партызанаў: «Вы застрэлілі маіх сыноў, дык застрэльце і мяне!» Пасля гэтага яны застрэлілі і яе[220]. Пры адыходзе партызаны абрабавалі і спалілі шматлікія дамы. Сёння на могілках у Налібаках, побач з адбудаваным толькі ў 1990-я гг. касцёлам, стаіць помнік з наступным надпісам на польскай мове: «У гонар 127 жыхароў Налібакаў, забітых 8 мая 1943 г.». Помнік быў узведзены ў 1990-я гг., і тагачасныя беларускія ўлады не дапусцілі згадкі пра злачынства савецкіх партызанаў.

Пасля бойні ў Налібаках групы самааховы з гэтай мясцовасці спынілі сваю дзейнасць і самараспусціліся[221]. Такім чынам савецкія партызаны дамагліся неабмежаванага панавання ў Налібоцкай пушчы і на суседніх тэрыторыях, а мясцовае насельніцтва трапіла да іх у татальную залежнасць. Толькі ў некаторых населеных пунктах яно было абаронена польскімі партызанамі ад рабаўніцтва з боку савецкіх партызанаў[222].

*а) Ход аперацыі «Герман»*

З прыходам Чарнышова («Платона») савецкі партызанскі рух у Баранавіцкай вобласці набыў моц, асабліва ў Налібоцкай пушчы. З'явіліся новыя атрады, іншыя аб'ядналіся ці падпарадкаваліся Баранавіцкаму партызанскаму штабу. Гэты працэс быў заўважаны нямецкімі акупантамі. Праз два месяцы пасля бойні ў Налібаках яны пачалі аперацыю «Герман». Яе задачай было: «Знішчыць банды [у Налібоцкай пушчы], разбурыць іх лагеры і бункеры і знішчыць іх запасы». Да гэтага дадаваўся «захоп сельскагаспадарчых прадуктаў і жывёлы ды працоўнай сілы»[223]. Простымі словамі гэта азначала стварэнне ў Налібоцкай пушчы і вакол яе «мёртвай зоны».

---

[219] Інтэрв'ю аўтара з Леанардай Нямцэвіч, якая нарадзілася ў 1929 г. і жыве ў Налібаках, узятае 29 чэрвеня 2004 г. у Налібаках; інтэрв'ю аўтара з Ядвігай Ліпінскай...; інтэрв'ю з Вацлавам Грынцэвічам, які нарадзіўся ў 1929 г. у Налібаках, жыве ў Нью-Ёрку, узятае 5 жніўня 2004 г. у Налібаках; Zychowicz P. Bohater w cieniu zbrodni // Rzeczpospolita. 2007. 16—17 czerwca. № 139. S. 8.

[220] Інтэрв'ю з Вацлавам Грынцэвічам...

[221] Справаздача пра дзейнасць партызанскай брыгады імя Сталіна за перыяд з лютага 1942 г. да 10 мая 1943 г., 31 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 35, арк. 2—7); надрукавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 119.

[222] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 35—57.

[223] Загад баявой групы фон Готберга на пачатак аперацыі «Герман» ад 7 ліпеня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 188).



Але на гэты раз, у адрозненне ад аперацыі «Котбус», на пярэднім плане было не забойства насельніцтва, а, «адпаведна загаду фюрара, на першым месцы захоп працоўнай сілы. [...] Неабходна імкнуцца ў першую чаргу браць палонных», гаварылася ў дадатку № 1 да баявога загада аперацыі «Герман»[224]. Загад фюрара быў перададзены Генрыхам Гімлерам 10 ліпеня 1943 г., за некалькі дзён да пачатку аперацыі «Герман»:

1. Фюрар вырашыў, што тэрыторыі на Паўночнай Украіне і ў Цэнтральнай Расіі, забруджаныя бандамі, патрэбна ачысціць ад усялякага насельніцтва.
2. Усё працаздольнае насельніцтва мужчынскага полу згодна з распараджэннямі, якія будуць яшчэ ўзгодненыя, аддаюцца пад адказнасць рэйхскамісару па працы, аднак на ўмовах ваеннапалонных.
3. Насельніцтва жаночага полу аддаецца ў распараджэнне рэйхскамісару па працы для выкарыстання ў рэйху.
4. Частка насельніцтва жаночага полу і ўсе дзеці-сіроты дастаўляюцца ў нашыя дзіцячыя лагеры-прыёмнікі[225].

Баявое кіраўніцтва аперацыі «Герман» строга наказвала сваім часцям падчас аперацыі не знішчаць жыхароў, а забіраць іх як працоўную сілу. 18 ліпеня 1943 г.: «Па магчымасці неабходна захопліваць працоўную сілу»[226]. І праз 10 дзён: «У цяперашнім акружэнні ёсць шмат людзей (мужчын, жанчын і дзяцей), не зважаючы ні на што, забіраць для працоўнага выкарыстання»[227].

Тут, магчыма, падзейнічалі згаданыя ўжо пратэсты Вільгельма Кубэ ў Берліне наконт крывавай расправы ў час аперацыі «Котбус». З другога боку, неабходнасць увесь час нагадваць узброеным сілам, што насельніцтва нельга масава знішчаць, а трэба вывозіць на прымусовую працу, сведчыла пра тое, што знішчэнне бездапаможных жанчын, дзяцей і мужчын ужо даўно зрабілася звычкай у антыпартызанскай барацьбе.

У аперацыі «Герман» бралі ўдзел з нямецкага боку агулам 8 820 чалавек, у тым ліку 1-я пяхотная брыгада СС, паліцэйскія палкі і батальёны, спецбатальён СС Дырлевангера і ахоўныя батальёны (латышскія, літоўскія і беларускія)[228]. Але «*A Polish sharpshooter unit*» (польскага снайперскага падраздзялення), як сцвярджае адзін амерыканскі аўтар,

---

[224] Дадатковы загад № 1 ад 18 ліпеня 1943 г. да загада баявой групы фон Готберга на пачатак аперацыі «Герман», 7 ліпеня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 211).

[225] Рэйхсфюрар СС Гімлер начальніку антыбандыцкіх злучэнняў, старшым кіраўнікам СС і паліцыі ва Украіне — Паўднёвай Расіі, Цэнтральнай Расіі, 10 ліпеня 1943 г. (копія) (BA-MA. RW 31/251, Bl. 30).

[226] Дадатковы загад баявой групы фон Готберга № 2 ад 25 жніўня 1943 г. да загада на пачатак аперацыі «Герман» ад 7 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 97).

[227] Загад баявой групы Готберга па папярэднім вызначэнні загараджальнай лініі з 31 ліпеня 1943 г., 28 ліпеня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 224 і наст.).

[228] Дзённік Э. фон дэм Баха, запіс ад 11 жніўня 1943 г. (BA. R20/456, Bl. 82); загад баявой групы Готберга на пачатак аперацыі «Герман» ад 7 ліпеня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 186—201).

сярод іх не было[229]. Якраз наадварот, аперацыя «Герман» арыентавалася і супраць польскіх партызанаў, што дзейнічалі ў гэтай мясцовасці. Падраздзяленням, якія ўдзельнічалі ў аперацыі, напярэдадні паведамілі:

> Асаблівая ўвага звяртаецца на тое, што на згаданай тэрыторыі неабходна мецъ на ўвазе банды двух відаў. Будуць сустракацца, па-першае, бальшавіцкія банды, а па-другое, нацыянальна-польскія, што змагаюцца як супраць нямецкіх войскаў, так і супраць бальшавіцкіх бандаў[230].

«Польскімі бандамі», на думку немцаў, былі так званыя «польскія легіёны» (Армія Краёва), якія мелі свой лагер каля вёскі Беліца, на паўднёвым участку Налібоцкай пушчы[231]. Яны на той момант налічвалі каля 650 чалавек. Гэтае падраздзяленне ўтварылася ў красавіку 1943 г. і знаходзілася пад камандаваннем паручніка польскай арміі Каспера Мілашэўскага. У той час атрад намагаўся змагацца разам з савецкімі партызанамі супраць нямецкіх акупантаў. Сюды можна дадаць яшчэ мінімум два польскія партызанскія падраздзяленні, якія дзейнічалі ў гэтай мясцовасці. Яны з'явіліся таксама ў маі і чэрвені 1943 г.[232].

19 чэрвеня 1943 г. польскія партызаны пад камандаваннем Мілашэўскага ажыццявілі раптоўны напад на мястэчка Івянец і захапілі яго. Пры гэтым яны, паводле савецкіх дадзеных, забілі 40 немцаў і захапілі вінтоўкі, гранаты, амуніцыю і грузавікі. Акцыя была актыўна падтрымана палякамі-паліцаямі Івянца, якія потым пайшлі з польскімі партызанамі ў лес[233]. Стэфан Пазнанскі, камандзір польскіх дапаможных паліцэйскіх у Івянцы, праз месяц трапіў падчас аперацыі «Герман» у нямецкі палон і падвергнуўся як «галоўны злачынец» «спецапрацоўцы», г. зн. быў расстраляны[234]. Савецкія партызаны ў аперацыі ў Івянцы не бралі непасрэднага ўдзелу, але атрад імя Чкалава партызанскага злучэння «Платона» па просьбе палякаў прыкрываў пад'язныя дарогі на Івянец[235].

Магчыма, Івянецкая аперацыя, якая выклікала вялікую занепакоенасць у нямецкіх акупантаў[236], была вырашальнай наконт правядзен-

---

[229] Duffy P. The Bielski Brothers. NewYork, 2003. P. 173.

[230] Загад баявой групы фон Готберга на пачатак аперацыі «Герман» ад 7 ліпеня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 187).

[231] Выніковая справаздача афіцэра Іс баявой групы Готберга аб аперацыі «Герман», 14 жніўня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 263 і наст.).

[232] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 105—108, 131.

[233] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 109 і наст.; артыкул з падпольнай газеты «Народный мститель» аб аперацыі ў Івянцы, 19 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 469, арк. 1), апублікаваны ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 240.

[234] Радыёграмы ад 31 ліпеня 1943 г. і 2 жніўня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 235 і наст., 250); дзённік Э. фон дэм Баха-Зялеўскага, запіс ад 11 жніўня 1943 г. (BA. R 20/45b, Bl. 82).

[235] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 109 і наст.

[236] Пазнака ў дакументах наконт баявой аперацыі 9 ліпеня 1943 г. у Навагрудку ад 11 ліпеня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 174 і наст.). Няма апошняй старонкі ці апошніх старонак дакумента, таму аўтар невядомы.



ня аперацыі «Герман». Польская разведка яшчэ ў канцы чэрвеня папярэджвала савецкае кіраўніцтва, што рыхтуецца вялікая аперацыя супраць партызанаў у Налібоцкай пушчы[237]. Некаторыя заходнія аўтары памылкова зыходзяць з таго, што аперацыя «Герман» у першую чаргу была накіравана супраць партызанаў Бельскага, яўрэйскага партызанскага атрада, які абсталяваў свой лагер каля 15 км ад Налібакаў, пра што яшчэ будзе гаворка[238].

Аперацыя «Герман» пачалася 13 ліпеня і працягвалася да 11 жніўня 1943 г. Асобныя часці збіраліся з розных населеных пунктаў вакол Налібоцкай пушчы бліжэй да яе і заганялі партызанаў у запланаваны кацёл, адначасова сістэматычна прачэсваючы асобныя ўчасткі, шукаючы партызанаў. Пры гэтым яны не сутыкнуліся з вялікім супраціўам. «Гонячы перад сабой ворага, пры меншым ці большым сутыкненні з ім, [1-я пяхотная СС] брыгада за 4 дні дасягнула спачатку мэты, пастаўленай у загадзе. […]» Пра нешта падобнае дакладвалі і іншыя падраздзяленні. Але здараліся і рашучыя спробы прарываў, якія, аднак, адбіваліся. Ва ўсходняй частцы катла нямецкія часці паведамлялі пра тое, што трапляліся «часта ўдзельнікі польскага руху супраціву», якія «знішчаліся, забіраліся ў палон ці заганяліся на захад у запланаваны кацёл»[239].

Толькі праз некалькі дзён партызаны зразумелі, што яны маюць справу з буйной аперацыяй. 21 ліпеня «Платон», паводле нямецкіх разведвальных паведамленняў, даў загад закапаць радыёстанцыю, усе дакументы і пісьмы, а таксама ўсе не пільна патрэбныя харчовыя прадукты[240]. Радыёсувязь паміж «Платонам» і Беларускім штабам перарвалася 24 ліпеня[241]. Праз некалькі дзён большая частка партызанаў была акружана. 28 ліпеня 1943 г. нямецкія падраздзяленні перайшлі да канчатковай ліквідацыі акружаных. «Адбыліся вельмі моцныя і цяжкія баі ў моцна забалочанай і цяжка дасягальнай мясцовасці», дакладвала пазней камандаванне акцыі[242]. 31 ліпеня «Платон», паводле дадзеных нямецкай разведкі, даў загад сваім партызанам прабівацца малымі групамі праз варожыя лініі, а потым сабрацца ў абумоўленым месцы: «Хто прыйдзе без зброі, будзе расстраляны»[243].

Ліквідацыю акружаных немцы скончылі, паводле ўласных дадзеных, 4 жніўня «поўным разгонам акружаных бандытаў». У заключэнне камандаванне аперацыі канстатавала:

---

[237] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 130.

[238] Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 359—361.

[239] Справаздача афіцэра Іа баявой групы фон Готберга аб баявых дзеяннях падчас аперацыі «Герман», 20 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 105 адв. — 107).

[240] Выніковая справаздача афіцэра Іс баявой групы Готберга аб аперацыі «Герман», 14 жніўня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 774, л. 87—91).

[241] Справаздача афіцэра Іа баявой групы фон Готберга аб баявых дзеяннях падчас аперацыі «Герман», 20 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 107 і наст.).

[242] Баявая справаздача Калініна і Бруханава з БШПР П. Панамарэнку з ЦШПР пра дзейнасць партызанаў Баранавіцкай вобласці супраць варожай карнай экспедыцыі з 13 ліпеня да 24 жніўня 1943 г., 27 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 148, л. 32 і наст.).

[243] Выніковая справаздача афіцэра Іс баявой групы Готберга аб аперацыі «Герман», 14 жніўня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 774, л. 87—91).

Дзеючыя праціўнікі былі галоўным чынам арганізаванымі бандамі. У меншай колькасці былі рэгулярныя часці, у тым ліку нейкая колькасць парашутыстаў. Пакуль было магчыма, праціўнік спрабаваў, адступаючы, ухіліцца ад атак. Толькі пасля канчатковага акружэння ён прыняў бой[244].

Як вынік аперацыі «Герман» нямецкае камандаванне аперацыяй паведамляла:

> Страты праціўніка: загінулі ў баі: 4 280 (у тым ліку 6 кіраўнікоў бандаў і 2 камісары; палонныя: 654 (у тым ліку 1 кіраўнік польскага руху супраціву). [...] Уласныя страты: немцы: загінулі: 46, параненыя: 112 (у тым ліку 9 афіцэраў), зніклі без вестак: 3. Чужародцы: загінулі: 6, параненыя: 43, зніклі без вестак: 1.

Сюды дадаюцца адносна багатыя трафеі ў выглядзе зброі, у тым ліку адзін бранявік, 48 гармат, 13 зенітных гармат, 34 цяжкія кулямёты, 61 лёгкі кулямёт і 849 вінтовак. Акрамя таго, баявыя сілы, паводле ўласных дадзеных, знішчылі 159 «бандыцкіх лагераў», 156 бункераў, 2 «бандыцкія самагонныя апараты», 1 кузню для рамонту зброі, 1 збройную майстэрню, 1 агентурны цэнтр[245].

У рэчаіснасці ж нямецкім войскам не ўдалося знішчыць у катле масу партызанаў. Большасць з іх здолелі ці вырвацца з акружэння, прапаўзці праз лініі праціўніка, ці схавацца ў балотах. З 4 280 быццам загінулых у баі «бандытаў» у большасці гаворка ішла пра цывільнае насельніцтва. Абсалютна магчыма таксама, што немцы падавалі завышаныя лічбы, таму што сістэматычныя крывавыя бойні над вяскоўцамі не дайшлі да нас, у адрозненне ад аперацыі «Котбус».

«Платон» таксама зрабіў справаздачу сваім начальнікам пра ход аперацыі «Герман», прычым, у адрозненне ад нямецкіх паведамленняў, сцвярджаў, што ягоныя партызаны ў час жорсткіх баёў дасягнулі вялікіх баявых поспехаў, выстаялі ў баях нязломленымі і змаглі захаваць свой баявы дух[246]. Акрамя таго, партызаны «Платона» быццам выратавалі тысячы чалавек ад смерці. Яго партызаны таксама разграмілі «штаб вайсковай часці» падпалкоўніка Дырлевангера, прычым апошні нібыта загінуў. Усяго, па словах «Платона», вораг панёс наступныя страты: 3 000 забітых і параненых, 29 палонных, 60 падбітых аўтамашын, тры танкі і чатыры бронемашыны. Уласныя страты, паводле «Платона»: 129 забітых, 50 параненых і 24 перабежчыкі[247]. Акра-

[244] Справаздача афіцэра Іа баявой групы фон Готберга аб баявых дзеяннях падчас аперацыі «Герман», 20 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 107 і наст.).
[245] Тамсама. Арк. 110 адв. — 112.
[246] Баявая справаздача Калініна і Бруханава з БШПР П. Панамарэнку з ЦШПР пра дзейнасць партызанаў Баранавіцкай вобласці супраць варожай карнай экспедыцыі з 13 ліпеня да 24 жніўня 1943 г., 27 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 148, л. 32—35).
[247] Справаздача камандзіра Баранавіцкага злучэння генерала «Платона» аб баявой дзейнасці за перыяд з вясны да пачатку восені 1943 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 8, арк. 9—14); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 126—133.



мя таго, «Платон» сцвярджаў, што ягоныя партызаны мусілі змагацца супраць варожых сіл у 52 000 чалавек[248].

30 жніўня 1943 г. Панамарэнка дакладваў Сталіну і Цэнтральнаму камітэту УсеКП(б) пра ход нямецкай карнай экспедыцыі ў Налібоцкай пушчы (аперацыя «Герман») і нібы дасягнуты «вялікі ваенны поспех» партызанаў пад камандаваннем «Платона». Таксама Панамарэнка сцвярджаў, што пры гэтым загінуў Дырлевангер. Свае паведамленні Панамарэнка пісаў, грунтуючыся на дадзеных «Платона»[249].

Як ужо згадана, спецбатальён СС Дырлевангера сапраўды браў удзел у аперацыі «Герман»[250]. Праўда, Оскар Дырлевангер, які камандаваў батальёнам, не загінуў, а памёр толькі пасля вайны 7 чэрвеня 1945 г.[251].

Акрамя таго «Платон» паведамляў у прыведзеным вышэй дакладзе, што ягоныя партызаны страцілі толькі 2 гарматы, 11 лёгкіх кулямётаў і «нямала» вінтовак. Ён таксама прызнаваўся:

> Трэба ясна сказаць, што наша становішча было надзвычай цяжкім. У выніку блакады ўсяго ляснога масіву немцы адрэзалі нас ад нашых баз забеспячэння. Некаторыя запасы прадуктаў харчавання былі страчаныя. Таму партызаны мусілі [...] доўга галадаць; яны харчаваліся ягадамі і елі коней[252].

Начальнік асобага аддзела брыгады імя Сталіна Васіль Парафянюк у адным рапарце апісваў паводзіны партызанаў сваёй брыгады і іншых атрадаў падчас аперацыі «Герман» зусім інакш, чым «Платон». Паводле Парафенюка, большая частка партызанскіх падраздзяленняў Івянецкага злучэння, якія размяшчаліся ў Налібоцкай пушчы, пад варожым ціскам запанікавалі і разбегліся. Камандзір брыгады імя Сталіна Гулевіч адмовіўся ад свайго падраздзялення, камісар Мурашоў і яго ад'ютант узялі два мяхі з харчовымі прадуктамі і схаваліся на ба-

[248] Аператыўнае паведамленне БШПР № 33/48, дата нечытэльная, пачатак снежня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 3, арк. 349 і наст.).
[249] П. Панамарэнка Сталіну пра вялікі ваенны поспех партызанаў Баранавіцкай вобласці, 30 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 22, л. 55 і наст.); паведамленне ЦШПР у ЦК УсеКП(б) пра барацьбу партызанаў Баранавіцкай вобласці супраць карнай экспедыцыі ворага, 30 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 52 і наст.); надрукавана ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 307 і наст.
[250] Справаздача афіцэра Іа баявой групы фон Готберга аб баявых дзеяннях падчас аперацыі «Герман», 20 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 104—112).
[251] Klausch H.-P. Antifaschisten in Uniform... S. 58—98, 315f (абставіны смерці Дырлевангера); Auerbach H. Die Einheit Dirlewanger... S. 250—263; Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 902. Падчас аперацыі «Герман» Дырлевангер быў лёгка паранены («драпіна на грудзях»). Гл.: Klausch H.-P. Antifaschisten in Uniform... S. 67.
[252] Справаздача камандзіра Баранавіцкага злучэння генерала «Платона» аб баявых дзеяннях за перыяд з вясны да пачатку восені 1943 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 8, арк. 9—14); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 126—133.

лотным возеры. Па начах паміж блукаўшымі партызанамі шматкроць здараліся недарэчныя перастрэлкі[253].

Падобна да Парафенюка ход аперацыі «Герман» апісваў аддзел «Карвета» пры цэнтральным штабе Арміі Краёвай, які займаўся камуністычнай дзейнасцю на польскай тэрыторыі:

> У ходзе вялікай аперацыі ў Налібоцкай пушчы савецкія партызанскія атрады былі разбітыя ці разбегліся. Большыя атрады падаліся ў накірунку да Мінска на савецкія тэрыторыі[254].

Каля 650 польскіх партызанаў Стаўбцоўскага батальёна пад камандаваннем Мілашэўскага панеслі адчувальныя страты. У пачатку аперацыі «Герман» яны пагадзіліся на ваеннае супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі і ўзгаднілі ўчастак абароны. Але пасярод баёў савецкія партызаны адступілі, не паведаміўшы пра гэта польскім таварышам. Батальён быў акружаны і мусіў разбіцца на малыя групы, каб прабіцца праз лініі ворага. Нарэшце батальён страціў 25 забітымі, каля 40 параненымі і 100 зніклых без вестак[255].

*б) Другая частка аперацыі «Герман» — утварэнне «мёртвай зоны»*

Калі ў пачатку жніўня 1943 г. ваенная частка аперацыі «Герман» ужо ў асноўным была закончана, яе ўдзельнікі перайшлі да стварэння «мёртвай зоны» ў Налібоцкай пушчы і вакол яе. У гэтай мясцовасці дамінавала каталіцкае насельніцтва, большасць былі ці адчувалі сябе палякамі. Сюды дадавалася беларуска-рускае, праваслаўнае насельніцтва. Яўрэйскае насельніцтва на гэты час ужо было знішчана. Але ў Налібоцкай пушчы яшчэ былі сотні яўрэяў-бежанцаў, большасць якіх уваходзілі ў атрады Бельскага і Зорына.

1 жніўня 1943 г. фон Готберг, які кіраваў аперацыяй, выдаў загад «па эвакуацыі» з тэрыторыі, вакол якой ішлі баі:

> Усіх людзей (мужчын, жанчын, дзяцей) ды жывы і нежывы інвентар неабходна выдаліць з названай тэрыторыі. Працаздольныя людзі затрымліваюцца штабам працоўнага выкарыстання, урадавага саветніка Тушэна [для прымусовай працы ў Германіі]. За апрацоўку рэшты адказваюць кампетэнтныя гебіткамісары. Немэтазгодна пакідаць гэтую рэшту паблізу эвакуіраваных тэрыторый. [...] Вёскі і ўсе іншыя збудаванні, а таксама масты і ўраджай паляводства, калі яны не могуць быць сабраныя, знішчыць на гэтай тэрыторыі, лясы — спаліць. На эвакуіраваных тэрыторыях у будучыні людзі — па-за законам[256].

Камандзір брыгады СС і генерал-маёр паліцыі Курт фон Готберг адрапартаваў праз 20 дзён:

> Часці, якія ваявалі дагэтуль, вярнуліся для правядзення гэтых мерапрыемстваў [стварэння «мёртвай зоны»] і прачасалі свае былыя баявыя ўчасткі яшчэ раз у адваротным напрамку. Пры гэтым былі злоўленыя яшчэ некалькі адзіночных бандытаў і знойдзеныя прыхаваныя трафеі. Да вартых гаворкі сутыкненняў больш справа не дайшла. Эвакуацыйныя мерапрыемствы былі закончаныя 11.8.43 вечарам[257].

Фон Готберг назваў пры гэтым наступныя лічбы «затрыманай працоўнай сілы»: мужчын 9 065, жанчын 7 701, дзяцей 4 178 і дадаў: «Пра працоўную сілу, якая будзе вылаўлена ў час праходзячай яшчэ ў раёне Навагрудка аперацыі, будзе паведамлена дадаткова»[258].

Гэта азначае, што за некалькі дзён немцы вывезлі 20 944 чалавекі, але паляванне працягвалася. Акрамя таго, немцы нарабавалі, сярод іншага, 3 145 коней, 6 776 галоў буйной рагатай жывёлы, 89 цялят, 1 авечку, 1 517 свіней, «11 тон зерня і вялікую колькасць без узважвання», 1 малатарню, больш за 100 сельскагаспадарчых машын[259]. З гэтым аперацыя «Герман» была ў Беларусі самай буйной, калі за мерку ўзяць колькасць «забранай працоўнай сілы»[260].

У рамках аперацыі выкарыстаныя сілы разбурылі ўсе вёскі і паселішчы ў Налібоцкай пушчы і ў радыусе 15 км[261]. «Платон» пасля заканчэння аперацыі «Герман» распарадзіўся скласці спіс злачынстваў, учыненых нямецкім бокам. Разведка брыгады імя Чкалава выявіла ўсяго 76 знішчаных вёсак, у тым ліку 38 вёсак у Івянецкім раёне. Акрамя таго, «нямецкія часці (па недакладных звестках) забілі і закатавалі да смерці 462 чалавекі цывільнага насельніцтва». Колькасць вывезеных на прымусовую працу асоб брыгада імя Чкалава пазначыла як 4 697[262]. У рэчаіснасці колькасць вывезеных перавысіла 20 000 чалавек.

«Платон» у сваім ужо цытаваным рапарце пісаў:

[253] Справаздача начальніка спецатрада брыгады імя Сталіна Васіля Парафенюка аб ходзе антыпартызанскай аперацыі з 13 ліпеня да 8 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3601, воп. 1, спр. 39, арк. 29—34); падобным жа чынам апісваюцца паводзіны савецкіх партызанаў падчас аперацыі «Герман» ва ўспамінах партызанаў-яўрэяў. Гл.: Tec N. Bewaffneter Widerstand... S. 187—199.

[254] Паведамленне «Карветы» («Korweta») пра стан «К» (= камуністычная дзейнасць на польскай тэрыторыі) за перыяд з 12 кастрычніка да 12 лістапада 1943 г. (AAN. Mf 423, k. 641).

[255] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 130 і наст.

[256] Загад аб эвакуацыі баявой групы фон Готберга ад 1 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 100 і наст.).

[257] Справаздача афіцэра Іа баявой групы фон Готберга аб баявых дзеяннях падчас аперацыі «Герман», 20 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 107 адв.).

[258] Тамсама. Арк. 107 адв., 110 адв.

[259] Тамсама. Арк. 112 і наст.

[260] Параўн.: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 899—904.

[261] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 131.

[262] Паведамленне камандавання брыгады імя Чкалава аб выніках карнай аперацыі «Герман» (ліпень—жнівень 1943 г.), без даты (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 28, арк. 117 і наст.); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 124 і наст.

Немцы шалелі і спалілі некалькі вёсак (Скірмантава і інш.) разам з жыхарамі. Каля 270 вёсак былі спаленыя цалкам або часткова. Многія жыхары, якія своечасова не схаваліся, былі забіты[263].

Панамарэнка дакладваў Сталіну, што ў час аперацыі «Герман» немцы спалілі 150 вёсак[264]. Ва ўсякім разе, «Івянецкі раён уяўляў сабой [пасля аперацыі "Герман"] [...] выпаленую пустыню»[265].

Гэтая аперацыя ўсё яшчэ жывая ў памяці жыхароў гэтай мясцовасці. Некаторыя са знішчаных тады вёсак больш не былі адбудаваныя, шмат хто з вывезеных на прымусовую працу назад не вярнуўся. Яны аселі пасля вайны ў Польшчы, адсунутай на каля 200 км на захад, іншыя перабраліся ў ЗША, Канаду ці Аўстралію. Яны баяліся зноў патрапіць пад савецкае панаванне.

Юзэфа Кавалевіч да аперацыі «Герман» жыла ў вёсцы Налібацкая Рудня, пасярод Налібоцкай пушчы, са сваім мужам і сынам, якому тады было паўтара годзіка, і чакала другое дзіця. Вёска 6 жніўня 1943 г. была «эвакуіраваная». Тыя, хто ўваходзіў у групу Грыпа па правядзенні аперацыі, сагналі жыхароў у адно месца, сярод іх узнялася паніка. Яны былі ўпэўненыя, што немцы іх расстраляюць, як яны часта ўжо рабілі ў гэтай мясцовасці. Так, год таму немцы знішчылі ў мясцовасці шмат вёсак разам з жыхарамі, між іншым і суседнюю вёску Паўдарожжа з 72 жыхарамі, сярод якіх была і цётка спадарыні Кавалевіч з чатырма дзецьмі[266].

Але жыхароў Налібацкай Рудні не забілі, а пагрузілі на падводы і завезлі ў Стоўбцы. Тыя, у каго не было падводы, мусілі ісці пехатой (каля 50 км). На вачах сагнаных жыхароў немцы падпалілі вёску, а таксама снапы на полі. Са Стоўбцаў іх павезлі ў Германію. Спадарыня Кавалевіч і яе сям'я трапілі на сялянскі двор недалёка ад Фленсбурга, дзе яны павінны былі выконваць прымусовую працу. Пасля вайны яны не вярнуліся ў Налібацкую Рудню, а пасяліліся паблізу ад Шчэціна. Да лета 2004 г. спадарыня Кавалевіч яшчэ не наведала ніводнага разу сваю старую радзіму[267].

Вёска Налібацкая Рудня летам 1943 г. налічвала каля 170 хат, пасля вайны вярнуліся толькі 60 сем'яў. Сёння вёска больш не існуе,

---

263 Справаздача камандзіра Баранавіцкага злучэння «Платона» аб баявых дзеяннях за перыяд з вясны да пачатку восені 1943 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 8, арк. 9—14); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 131.

264 П. Панамарэнка Сталіну аб вялікім ваенным поспеху партызанаў Баранавіцкай вобласці, 30 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 22, л. 55 і наст.).

265 Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 1032 і наст.

266 Інтэрв'ю аўтара з Юзэфай Кавалевіч...; інтэрв'ю аўтара з Вацлавам Кавалеўскім, які нарадзіўся ў 1928 г. і жыве ў Налібацкай Рудні, узятае 3 жніўня 2004 г. у Налібацкай Рудні. «Эвакуацыя» Налібацкай Рудні належала да задач айнзацгрупы Грыпа. Гл.: Загад аб эвакуацыі баявой групы фон Готберга ад 1 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1880, арк. 101 адв.).

267 Інтэрв'ю аўтара з Юзэфай Кавалевіч...



засталіся толькі дзве хаты, астатнія жыхары ў 1950-я гг. у рамках калектывізацыі былі пераселеныя[268].

Кляцішча было да ліпеня 1943 г. вёскай з 52 хатамі. У час «эвакуацыі» адной частцы насельніцтва пашанцавала ўцячы ў балоты або ў лес. Да іх належалі Леакадзія Ланкевіч, у той час Каржэнка, з яе бацькам і братам. Са сваёй схованкі яны чулі шум у вёсцы і бачылі клубы дыму, якія ўздымаліся над вёскай, што гарэла. Сагнаныя жыхары былі падзеленыя немцамі на дзве групы, мужчыны і юнакі на адным баку, а жанчыны, дзеці і старыя — на другім. Першую групу вывезлі на прымусовую працу ў Германію, другую размясцілі ў пустым гета ў Івянцы. Праз некалькі дзён бежанцы вярнуліся ў разбураную вёску, уратавацца змог усяго 31 жыхар[269].

Тыя жыхары паспрабавалі працягваць жыць у вёсцы і працаваць на полі.

> Але нас увесь час абстрэльвалі з нямецкіх самалётаў і на нас палявалі нямецкія каманды, мы мусілі ўвесь час хавацца. Жыццё ў вёсцы зрабілася немагчымым, — *так распавядае спадарыня Ланкевіч*, — і мы пайшлі да партызанаў. Мы пабудавалі зямлянку і жылі там. Мы былі ў атрадзе імя Дзяржынскага. Мой бацька будаваў партызанам жытло, а я стала медыцынскай сястрой[270].

Пасля вайны бацька адмовіўся прыняць ордэн і ўзнагароды за ўдзел у партызанскім руху. У адсунутую на захад Польшчу ён таксама перасяляцца не хацеў: «Наша радзіма тут. Польшча вернецца сюды». За адзін дзень да смерці ў 1980-х гг. ён заявіў: «Лёдзя [дачка], ты ўбачыш, касцёл і святары вернуцца. Ты зможаш хадзіць у касцёл і там маліцца. І Польшча вернецца. Але я да гэтага не дажыву»[271]. Гэты прыклад відавочна паказвае, як нямецкая палітыка знішчэння заганяла людзей, што не не хацелі мець нічога агульнага з савецкай ідэалогіяй і савецкай дзяржавай, у шэрагі савецкага партызанскага руху. Для іх справа палягала ў простым выжыванні.

І ў іншых вёсках некаторым жыхарам пашанцавала ўцячы ў лясы ці балоты. Калі ў Налібаках, самым вялікім населеным пункце ў Налібоцкай пушчы з 700 дамамі, немцы аддалі загад збірацца разам, шмат хто з жыхароў уцёк у лес. Немцы стралялі ва ўцекачоў з кулямётаў. Бацька і брат спадарыні Нямцэвіч забралі сваіх кароў і схаваліся ў лесе. Астатнім членам сям'і таксама пашэнціла ўцячы. Акрамя дзеда, які адмовіўся пакідаць гаспадарку. Немцы спалілі яго ў пуні. Пасля гэтага сям'я спадарыні Нямцэвіч жыла з іншымі ўцекачамі ў лесе, пакуль Чырвоная Армія летам 1944 г. не заваявала зноў раён[272].

---

268 Інтэрв'ю аўтара з Вацлавам Кавалеўскім...

269 Інтэрв'ю аўтара з Леакадзіяй Ланкевіч...

270 Тамсама.

271 Тамсама.

272 Інтэрв'ю аўтара з Леанардай Нямцэвіч...

Паводле савецкіх дадзеных, немцы забілі ў Налібаках 10 чалавек, у тым ліку двух ксяндзоў. Ад вёскі застаўся толькі попел[273].

Як шмат чалавек падчас аперацыі «Герман» уратавалася дзякуючы ўцёкам у лес, нам невядома. Але гэта, мусіць, былі сотні, калі не тысячы[274]. Уцекачы спрабавалі выжыць у лясах, часцей за ўсё ў так званых сямейных лагерах ці паблізу сваіх знішчаных дамоў. Для нямецкіх акупантаў яны былі «па-за законам». Але і для рабаўнікоў-партызанаў яны ў асноўным таксама былі вартай здабычай, бо выратаваныя імкнуліся зберагчы з разбураных будынкаў пажыткі і хатнюю жывёлу[275].

Ні аперацыя «Котбус», ні аперацыя «Герман» не прынеслі з нямецкага пункту погляду жаданага поспеху, г. зн. знішчэння партызанаў у Бягомльска-Лепельскай зоне ці ў Налібоцкай пушчы, а значыць і «ўціхамірвання» дадзенай мясцовасці.

З другога боку, гэтыя аперацыі абмежавалі на нейкі час у дадзеным раёне развіццё савецкага партызанскага руху. Савецкія партызаны з Налібоцкай пушчы, аднак, ачунялі ўжо ў верасні 1943 г. Найпазней з пачатку восені 1943 г. яны зноў авалодалі Налібоцкай пушчай і яе наваколлем. Падобнае было ў іншых аперацыях 1943 г. Большасць ахвяр, аднак, несла заўжды насельніцтва тэрыторый, дзе ішлі баі.

[273] Інтэрв'ю аўтара з Ядзвігай Ліпінскай...; паведамленне камандавання брыгады імя Чкалава аб выніках карнай аперацыі «Герман» (ліпень—жнівень 1943 г.), без даты (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 28, арк. 117 і наст.); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 124 і наст.

[274] «Платон» нагадвае ў адным са сваіх дакладаў, што атрад імя Чкалава дзякуючы сваёй стойкасці зрабіў магчымымі ўцёкі ў лес і на балоты 7 000 чалавек (жанчын, дзяцей, падлеткаў і старых). Гл.: Справаздача «Платона» аб баявых дзеяннях Баранавіцкага партызанскага злучэння за перыяд з вясны да пачатку восені 1943 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 8, арк. 9—14); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 130. Але наконт гэтай меркаванай выратавальнай акцыі, як і адносна лічбы 7 000 быццам бы выратаваных цывільных, закрадаюцца сумневы.

[275] Інтэрв'ю аўтара з Леанардай Нямцэвіч...; інтэрв'ю аўтара з Леакадзіяй Ланкевіч...; ліст камандавання брыгады імя Фрунзэ камандзіру атрада імя Арджанікідзэ Бельскаму, 25—27 снежня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3623, воп. 1, спр. 2, арк. 69); апублікаваны ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 201 і наст.

# V. «Рэйкавая вайна» ў 1943—1944 гг.

У ліпені 1942 г. Панамарэнка як начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху аб'явіў дыверсійную дзейнасць на камунікацыйных лініях, перш за ўсё на чыгуначных, галоўнай задачай савецкіх партызанаў. Нягледзячы на пачатковыя значныя поспехі, вынікі з савецкага пункту гледжання былі далёка нездавальняючымі. Шырокамаштабныя планы ліпеня 1942 г. не маглі быць ажыццёўленыя. Восенню 1942 г. колькасць падрываў на чыгунках зменшылася, і нямецкаму забеспячэнню для фронту не было нанесена сур'ёзнай шкоды[1].

Пасля арганізацыйнай блытаніны ў сакавіку і красавіку 1943 г. Цэнтральны штаб пастунова ачуняў і працягваў далейшае развіццё і актывізацыю партызанскага руху. Адным з найважнейшых мерапрыемстваў па актывізацыі партызанскай барацьбы была ўведзеная ў савецкую гісторыю «Рэйкавая вайна», барацьба партызанаў супраць нямецкіх ліній забеспячэння, што вялася галоўным чынам на беларускай тэрыторыі.

7 ліпеня 1943 г. Панамарэнка звярнуўся да Сталіна з дакладной запіскай, у якой ён выкладаў новы вялікі план па дыверсіях на нямецкіх чыгуначных лініях. У пачатку Панамарэнка самакрытычна канстатаваў:

> Паводле наяўных дадзеных, партызаны за два гады пусцілі пад адхон 4 000 вайсковых эшалонаў[2]. […] Нягледзячы на гэта, […] дэзарганізацыя руху па чыгунцы не дасягнула яшчэ тых памераў, якія мелі б аператыўнае значэнне для становішча на фронце. Гэта тлумачыцца тым, што немцы адносна хутка […] ліквідуюць нанесеную шкоду. […] З сёлетняй вясны многія партызанскія атрады і брыгады па распараджэнні Штаба пачалі разбураць чыгуначныя лініі, выводзячы са строю рэйкі. Гэта паказала сябе як вельмі эфектыўны спосаб дэзарганізацыі варожых камунікацый. Наконт гэтага можна прывесці наступны прыклад: у маі [1943 г.] партызаны ў Беларусі вывелі са строю чыгуначныя лініі агульнай даўжынёй у 150 км[3].

Савецкія партызаны з Беларусі паведамілі, акрамя таго, пра 441 вайсковы эшалон, у тым ліку 380 лакаматываў і 4 185 вагонаў, якія яны знішчылі ў маі 1943 г. шляхам падрываў чыгункі[4].

[1] Параўн. на гэты конт главу «Цэнтральны штаб партызанскага руху (ЦШПР) (май 1942 г. — студзень 1944 г.)»

[2] Гэтая лічба відавочна перабольшаная. Паводле нямецкіх дадзеных, напрыклад, колькасць пашкоджаных лакаматываў да ліпеня 1943 г. склала каля 2 000 штук. Гл.: Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn im Ostfeldzug. Neckargemünd, 1975. S. 93.

[3] Праект дакладной запіскі П. Панамарэнкі Сталіну 9 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 128—131).

[4] Справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Бруханава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 75, арк. 172—175).

Гэтыя дадзеныя моцна перабольшаныя. Паводле нямецкіх падлікаў, партызаны ў маі 1943 г. разбурылі на ўсёй акупаванай немцамі тэрыторыі СССР рэйкі з агульнай даўжынёй каля 30 км (гэта адпавядае 15 км аднакалейкі) і каля 18 000 шпал[5]. Але і колькасць знішчаных вайсковых эшалонаў, лакаматываў і вагонаў перабольшаная. Паводле нямецкіх дадзеных, партызаны ў маі 1943 г. пашкодзілі каля 380 лакаматываў і разбурылі ці пашкодзілі каля 1 400 вагонаў[6].

Усё ж падрывы чыгунак савецкімі партызанамі ў Беларусі былі для нямецкіх акупантаў праблемай. У рапарце Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» за май 1943 г. гаворыцца:

> Становішча на тэрыторыі групы армій «Цэнтр» за справаздачны перыяд працягвала пагаршацца. Павялічыліся выпадкі падрываў рэек, на прамежкавай тэрыторыі неабходна было ліквідаваць апорныя пункты. [...] Банды валодаюць подступамі да ўчастка Мінск — Бабруйск — Гомель, а таксама ўшчыльную да транспартных шляхоў. Цэнтр цяжару падрываў — участак на ўсходні захад ад Жлобіна. Тут бандыты, нягледзячы на прыцягненне апошніх рэзерваў (рабочых і канцылярскіх работнікаў), амаль кожны дзень наносяць адчувальныя пашкоджанні працы чыгункі. [...] На тылавой тэрыторыі групы армій у перыяд з 1 да 31.5.43 г. бандамі былі прычыненыя наступныя пашкоджанні працы чыгункі [...]:
> 1.) 765 *падрываў* на ўсёй тылавой тэрыторыі групы армій «Цэнтр» і на прытокавых участках (772 напады — найбольшая колькасць у верасні 1942 г.). Рух на ўчастках быў цалкам перарваны на 3 855 гадзін, акрамя таго на 2 132 гадзіны яшчэ перарваны аднакалейна. 255 лакаматываў былі пашкоджаныя мінамі, у тым ліку 123 — цяжка.
> 2.) Адрэзак: Жлобін — Гомель:
> 69 бандыцкіх падрываў мелі наступныя вынікі: страты: 12 забітых, 46 параненых. Матэрыяльная шкода: 35 лакаматываў, 106 вагонаў, перарыў руху: 156 гадзін (двухкалейна), 222 гадзіны (аднакалейна)[7].

Агульная зона групы армій «Цэнтр» ахоплівала ў гэты час усходнія вобласці Беларусі, а таксама заходнія Расіі і паўночна-ўсходнія Украіны, якія межавалі з Беларуссю. Вялікую колькасць падрываў на ўчастку Жлобін — Гомель пацвярджаюць і партызаны, што ў маі 1943 г. паведамлялі пра 71 паспяховы падрыў на гэтым участку (у адрозненне ад 69, пра якія паведамлялі немцы)[8].

У той час як сітуацыя на тэрыторыі вакол Мінска, Бабруйска і Гомеля з нямецкага пункту гледжання з-за падрываў была асабліва праблематычнай, у Віцебскай вобласці справы палягалі адносна не так крытычна. Гэтыя раёны на той час належалі да кампетэнцыі 3-й танкавай арміі. У справаздачы Галоўнага камандавання сухапутных войскаў за май 1943 г. на гэты конт гаворыцца:

> Адпаведна сваёй колькасці слабая цяперашняя дзейнасць гэтых бандаў — у асноўным парушэнне дастаўкі папаўнення, разведка, нарыхтоўка прадуктаў харчавання — паказвае, што тут *рыхтуюцца* злучэнні, якія можна разглядаць як рэгулярную часць (на дадзены момант сама меней 10—12 000 чалавек), што, пэўна, па адзіным загадзе ўдараць разам[9].

У чэрвені 1943 г. становішча ў Беларусі абвастрылася. Рэйхсдырэкцыя транспарту ў Мінску (РДТ) сігналізавала 18 чэрвеня:

> Бандыцкі тэрор датычна Мінскай РДТ яшчэ больш невыносна ўзмацніўся. З 1 да 17 чэрвеня — усяго 401 падрыў, з іх у адзін толькі дзень 190 падрываў. Перш за ўсё бясконцыя падрывы на галоўных участках папаўнення Мінск — Гомель (у чэрвені да сённяшняга дня 76 падрываў) і Брэст — Гомель (46 падрываў) з самымі цяжкімі вынікамі, у тым ліку 26 падрываў мастоў, 26 — эшалонаў з франтавікамі-адпускнікамі, 7 — на эксплуатацыйных участках. Спыненне руху на ўчастках цягам 2 530 гадзін і 917 перавод на няправільныя шляхі. Колькасць пашкоджаных лакаматываў 155, з іх 84 цяжка, 600 пашкоджаных вагонаў[10].

Затое менш крытычна, чым у папярэднім месяцы, варункі выглядалі на чыгуначных лініях у паўночна-ўсходніх раёнах Беларусі на тэрыторыі 3-й танкавай арміі: «Цалкам захопленая бандамі зона ў тыле арміі пранізваецца тонкімі транспартнымі ніцямі, якія яшчэ можна зрабіць бяспечнымі»[11]. У астатніх месцах партызаны гэтай зоны звярталі на сябе ўвагу масавым рабаўніцтвам і абсталяваннем сваіх лагераў у лясах[12].

Вартыя ўвагі баявыя поспехі партызанаў у Беларусі ў маі 1943 г. тлумачацца планам дыверсійнай дзейнасці ў Мінскай вобласці, што быў выпрацаваны Беларускім штабам у красавіку 1943 г. Кожная брыгада або атрад у Мінскай вобласці, з якімі меў сувязь штаб, атрымлівалі заданні з дакладным вызначэннем кіламетраў чыгуначных участкаў, што неабходна было разбурыць. Так, напрыклад, брыгада «Жалязняк» мусіла разбурыць чыгуначны ўчастак даўжынёй у 35 км на адрэзку Крывічы — Параф'янава, на поўнач ад Мінска. Атрад Лапаціна, што размяшчаўся непадалёк ад возера Палік, мусіў

[5] Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn... S. 92.
[6] Тамсама.
[7] Месячная зводка Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча з бандамі, 4 чэрвеня 1943 г. (BA-MA. 19 II/171, Bl. 37 і наст.).
[8] Справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Бруханава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 75, арк. 172—175).
[9] Месячная зводка Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча з бандамі, 4 чэрвеня 1943 г. (BA-MA. 19 II/171, Bl. 37 і наст.). На гэты час ні Беларускі, ні Цэнтральны штаб не рыхтавалі скаардынаванага нападу партызанаў у Віцебскай вобласці.
[10] РДТ у Мінску ў Генеральную транспартную дырэкцыю Усход, 18 чэрвеня 1943 г. (BA-MA. RH 19 II/172, Bl. 60).
[11] Месячная зводка Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча з бандамі, 4 чэрвеня 1943 г. (BA-MA. RH 19 II/172, Bl. 25).
[12] Тамсама. Bl. 23 і наст.

стварыць 10—15 дыверсійных груп, якім даручалася ажыццявіць падрывы на ўчастку Барысаў — Жодзіна[13]. Такія ж дэталёвыя заданні атрымалі іншыя брыгады і атрады ў Мінскай вобласці. Пачатак акцыі быў прызначаны на 10 мая 1943 г. Была запланавана таксама пастаўка ўзбраення і выбухоўкі паветраным шляхам[14].

У той час як партызанскія падраздзяленні з Бягомльска-Лепельскай зоны ледзь-ледзь выконвалі пастаўленыя ім задачы — у маі 1943 г. пачалася аперацыя «Котбус», — партызанскія падраздзяленні, што дзейнічалі на ўсход ад Мінска, разгарнулі значную дзейнасць, як гэта відаць і з нямецкіх справаздач. Беларускі штаб паведамляў пра павелічэнне колькасці пушчаных пад адхон вайсковых эшалонаў з 201 у красавіку 1943 г. да 449 у маі, 593 у чэрвені і 761 у ліпені[15]. Сюды дадаецца яшчэ разбурэнне 68 чыгуначных мастоў, 167 км чыгуначных ліній і 619 ліній сувязі[16].

Натуральна, і гэтыя лічбы завышаныя[17]. І ўсё ж гэтыя падрывы ўяўлялі сабой вялікую пагрозу для нямецкіх ліній забеспячэння. Галоўнае камандаванне групы армій «Цэнтр» дакладвала ў ліпені 1943 г.:

> Значны рост падрываў на чыгуначных збудаваннях і пашкоджанне шматлікіх, у тым ліку важных, дарог ад нападаў паказваюць, што вораг імкнецца перабіць жыццёвыя жылы групы армій «Цэнтр» у пабольшаных памерах[18].

З цытаванага тут даклада таксама вынікае, што пункт цяжару гэтых падрываў знаходзіўся ва ўсходніх і паўднёва-ўсходніх раёнах Беларусі (Мінск, Барысаў, Бабруйск, Гомель). Гэта супадае з прыведзенымі вышэй паведамленнямі Беларускага штаба партызанскага руху.

[13] Інструкцыі аб «Рэйкавай вайне» аператыўнага аддзела БШПР для ўпаўнаважанага ЦК у Барысаўскай зоне Жуковіча, 20 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 9, без нумарацыі аркушаў).

[14] Загад начальніка БШПР Калініна Мачульскаму ад 20 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 9, без нумарацыі аркушаў); кіраўнік аператыўнага аддзела БШПР Бруханаў Гнусаву, 21 красавіка 1943 г. (Тамсама).

[15] Справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Бруханава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 172 і наст.).

[16] Справаздача БШПР пра першы этап «Рэйкавай вайны» з 3 жніўня да 15 верасня 1943 г., кастрычнік 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 5, арк. 10 і наст.).

[17] Паводле нямецкіх дадзеных, партызаны ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр», які, сярод іншага, ахопліваў тэрыторыі Міншчыны, Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны, зрабілі ў маі 1943 г. 532 падрывы на чыгунцы, з якіх, праўда, 209 былі прадухіленыя, а ў чэрвені — 532, з іх 270 прадухіленыя. Гл.: Агляд нападаў на чыгункі ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр» (са студзеня 1942 г. да чэрвеня 1943 г.), без даты (BA-MA. RH 19 II/172, Bl. 12).

[18] Месячная зводка Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча з бандамі за чэрвень 1943 г., 4 ліпеня 1943 г. (BA-MA. RH 19 II/172, Bl. 18).



## 1. План і рэальнасць першага і другога этапаў «Рэйкавай вайны» (1943 г.)

Акрылены поспехамі ў Беларусі ў маі і чэрвені 1943 г., Панамарэнка распарадзіўся распрацаваць вялікі план «Рэйкавай вайны», у якой мусілі прыняць удзел усе партызанскія падраздзяленні, з якімі мелася сувязь. План прадугледжваў каардынаваную аперацыю, у ходзе якой раптам і адначасова будзе разбураны па магчымасці працяглы рэйкавы ўчастак. Панамарэнка даводзіў у прыведзенай ужо дакладной запісцы ад 9 ліпеня 1943 г., спасылаючыся на быццам знішчаныя партызанамі Беларусі 25 000 рэйкавых сегментаў (што раўнялася 150 км аднакалейнай чыгуначнай лініі):

> Можна сабе ўявіць, які аператыўны эфект мела б разбурэнне 200—300 тысяч штук рэек. [...] Як выявілася, каб распалавініць рэйку, што важыць у сярэднім 500 кг, хапае 100 г, а не 400 г выбухоўкі. Патрэбна, такім чынам, 1 тона тратылу, каб пашкодзць 10 000 рэек, і 10 тон тратылу, каб пашкодзіць 1 мільён рэек. Цэнтральны штаб усё падрыхтаваў для такой акцыі[19].

Беларускі штаб у пачатку ліпеня выпрацаваў па ўказанні Панамарэнкі дэталёвы план разбурэння чыгуначных ліній па ўсёй Беларусі. План прадугледжваў падарваць на адрэзку ў 7 069 км адначасова 126 400 рэек. Партызанам для гэтай мэты неабходна было атрымаць 161 тону выбухоўкі, боепрыпасаў, гранат, медыкаментаў і прапагандысцкага матэрыялу[20].

Падрыхтоўчая фаза да гэтай аперацыі працягвалася з 14 ліпеня да 3 жніўня 1943 г. Партызанскія падраздзяленні ва ўсходніх раёнах атрымалі запланаваныя пастаўкі. Партызаны Баранавіцкай (з-за аперацыі «Герман», што якраз праходзіла) і Беластоцкай абласцей не атрымалі паставак, а партызаны з Пінска і Брэста — толькі дзве тоны. Акрамя таго, Беларускі штаб паслаў у партызанскія падраздзяленні 31 афіцэра сувязі і экспертаў па падрывах, якія павінны былі на месцы рыхтаваць і каардынаваць аперацыю[21].

Аперацыя пачалася ноччу з 2 на 3 жніўня 1943 г. і працягвалася да 15 верасня 1943 г. У першую ноч партызаны Беларусі разбурылі, паводле ўласных дадзеных, 21 644, а да 15 жніўня — 94 477 рэек. З 15 жніўня да 15 верасня партызаны, паводле іх звестак, падарвалі яшчэ 26 323 рэйкі. Усяго, такім чынам, з 3 жніўня да 15 верасня 1943 г. у Беларусі было пашкоджана 120 800 рэек. У аперацыі прыняў уд-

[19] Дакладная запіска П. Панамарэнкі ад 9 ліпеня 1943 г. Сталіну (праект) (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 128—131).

[20] Справаздача БШПР пра першы этап «Рэйкавай вайны» з 3 жніўня да 15 верасня 1943 г., кастрычнік 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 5, арк. 17—34); выніковая справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 128—131).

[21] Тамсама.

зел, паводле дадзеных Беларускага штаба, 541 партызанскі атрад з 85 996 партызанамі[22].

Дадзеныя пра пашкоджаныя рэйкі, аднак, моцна перабольшаныя. Генерал транспартнай справы «Цэнтр» паведамляў: «2—3 жніўня буйная акцыя бандаў з 8 422 пунктамі падрыву і 1 478 абясшкоджанымі мінамі за 2 ночы, у жніўні 1943 г. агулам 364 паслядоўныя падрывы з 20 505 падрыўнымі пунктамі і 4 528 абясшкоджанымі мінамі»[23]. Гэта значныя адрозненні, нават калі на кожны пункт падрыву залічыць адну пашкоджаную рэйку.

У той час, як першы этап «Рэйкавай вайны» яшчэ працягваўся, рыхтавалася аперацыя «Канцэрт» (другі этап «Рэйкавай вайны»). Быў запланаваны падрыў і разбурэнне 140 000 рэек, для чаго патрабавалася атрымаць 120 тон баявога матэрыялу. Але з-за дрэннага лётнага надвор'я пастаўлена было толькі 50 % запланаваных грузаў. Аперацыя «Канцэрт» першапачаткова павінна была пачацца 19 верасня. За два дні да таго Беларускі штаб перанёс пачатак аперацыі на 26 верасня, спадзеючыся, што падраздзяленням усё ж яшчэ дашлюць неабходную выбухоўку[24].

Да некаторых падраздзяленняў загад увогуле не дайшоў, і яны пачалі напады 19 верасня, іншыя ж пачалі свае падрывы 26 верасня. Аперацыя «Канцэрт» доўжылася да 1 лістапада 1943 г. 19 верасня 1943 г. партызаны ў Беларусі, паводле ўласных дадзеных, падарвалі і разбурылі 19 903 рэйкі, а 26 верасня — 15 809. Усяго ж партызаны, паводле дадзеных Беларускага штаба, у рамках аперацыі «Канцэрт» вывелі са строю 90 126 рэек[25].

---

[22] Справаздача БШПР пра першы этап «Рэйкавай вайны» з 3 жніўня да 15 верасня 1943 г., кастрычнік 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 5, арк. 40—75); выніковая справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 131—134).

[23] Цыт. паводле: Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn... S. 88.

[24] Радыёграма Калініна ад аператыўнага аддзела БШПР, накіраваная адрасатам адпаведна са спісам-рамеркавальнікам (не прыкладзены), № 5089 ад 17 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 37, арк. 87); справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Бруханава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 167—169).

[25] Справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Бруханава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 167—169). Аператыўны аддзел Цэнтральнага штаба ў сваёй выніковай справаздачы паведаміў, што другі этап «Рэйкавай вайны» працягваўся з 19 верасня 1943 г. да 15 студзеня 1944 г. і што партызаны Беларусі за гэты час падарвалі і пашкодзілі 89 716 рэек. Гл.: Выніковая справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 135—140); яшчэ ж у адной справаздачы аператыўнага аддзела ЦШПР гаворка ідзе пра 77 684 рэйкі, пашкоджаныя партызанамі Беларусі падчас другога этапу «Рэйкавай вайны». Гл.: Справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра разбурэнне чыгуначных ліній праціўніка па стане на 13 студзеня 1944 г., без даты (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 68, л. 2).



Панамарэнка рэгулярна дакладваў Сталіну і яго бліжэйшым супрацоўнікам (у тым ліку Берыі, Молатаву, Малянкову, Жукаву) пра ход «Рэйкавай вайны» і пра дасягнутыя ў ёй поспехі[26]. Гэта сведчыць пра адносна вялікае значэнне, якое надавалася гэтай аперацыі ў савецкіх ваенных планах.

Партызаны ў Беларусі, паводле дадзеных Беларускага штаба, падарвалі ў час першага і другога этапаў «Рэйкавай вайны» агулам 211 614 рэек, што адпавядае 1 323 км аднакалейнага адрэзка чыгункі. Гэта знізіла, як сцвярджаў Беларускі штаб у сваёй выніковай справаздачы за 1943 г., транспартны рух ворага па чыгунцы на 40 %[27].

Паводле дадзеных Панамарэнкі, якія ён, сярод іншага, прадстаўляў Сталіну, савецкія партызаны са жніўня да лістапада 1943 г. падарвалі на савецкай тэрыторыі, акупаванай немцамі, усяго 345 356 рэек, што адпавядае аднакалейнай чыгуначнай лініі ў 2 158 км. Гэтая аперацыя скараціла рух праціўніка па чыгуначных лініях на 35—40 %, што ў значнай ступені спрыяла поспеху летне-асенняга наступлення Чырвонай Арміі[28]. Але ёсць і крыху адрозныя савецкія дадзеныя наконт агульнай колькасці пашкоджаных рэек падчас «Рэйкавай вайны» 1943 г.[29].

Савецкія паведамленні пра шкоду, якая была нанесена ворагу ў час «Рэйкавай вайны», моцна перабольшаныя. Паводле нямецкіх дадзеных, савецкія партызаны са жніўня да лістапада 1943 г. пашкодзілі рэйкі агульнай даўжынёй крыху больш за 600 км, гэта адпавядае аднакалейнай чыгуначнай лініі ў 300 км[30]. Панамарэнка ж падаў даўжыню лініі, разбураную савецкімі партызанамі ў гэты час, у сем разоў большую (2 158 км).

Такія перабольшаныя паведамленні пра поспехі пасылаў і Беларускі штаб. Напрыклад, ён дакладваў, што ноччу на 19 верасня 1943 г. партызаны ў Беларусі падрывамі пашкодзілі агулам 19 903 рэйкі[31]. Рэйхсдырэкцыя транспарту ў Мінску, наадварот, 19 верасня паведамляла пра 1 100 падрываў рэек, праўда, яшчэ паводле няпэўных да-

---

[26] Паведамленне П. Панамарэнкі Сталіну і інш., № 2369 ад 7 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 22, л. 27 і наст.); паведамленне П. Панамарэнкі Сталіну і інш., № 2533 ад 15 жніўня 1943 г. (Тамсама. Л. 33 і наст.); паведамленне П. Панамарэнкі Сталіну і інш., № 3274 ад 29 верасня 1943 г. (Тамсама. Л. 94).

[27] Справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Бруханава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 171).

[28] Загад № 70 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 16 снежня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 10, л. 144).

[29] Паводле дадзеных аператыўнага аддзела ЦШПР на пачатак 1944 г., савецкія партызаны падчас першага этапу «Рэйкавай вайны» падарвалі 214 705 рэек, а падчас другога этапу — 148 557, усяго 363 263, з іх 58 % у Беларусі. Гл..: Справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра разбурэнне чыгуначных ліній праціўніка па стане на 13 студзеня 1944 г., без даты (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 68, л. 2).

[30] Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn... S. 92.

[31] Выніковая справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 135).

дзеных. Сюды дадаліся «46 часткова цяжкіх бандыцкіх падрываў з 44 затрымкамі на ўчастках і пашкоджаннем рэек, 18 нападаў на эшалоны, […] 2 замініраванні»[32].

Тым не менш, сканцэнтраваныя падрывы на чыгуначных лініях выклікалі ў нямецкіх акупантаў адчувальныя страты і ўяўлялі сабой сур'ёзную пагрозу шляхам падвозу. У дакладзе Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» у верасні 1943 г. гаворыцца:

> *Агульнае становішча на тэрыторыі групы армій* [*«Цэнтр»*]: сітуацыя з бандамі ў жніўні значна пагоршылася, асабліва ў тылавым раёне, на буйных транспартных лініях і ў паўночнай частцы 3-й танкавай арміі. Толькі за дзве ночы на тэрыторыі групы армій «Цэнтр» было зроблена 6 519 падрываў. 24 лакаматывы і 214 чыгуначных вагонаў пашкоджаныя, 80 лакаматываў і 625 чыгуначных вагонаў пушчаныя пад адхон. Каля 115 км рэек прыведзеныя ў непрыдатнасць[33].

Камандуючы вермахтам у Остландзе пацвердзіў у сваім дакладзе ад 25 верасня 1943 г. гэтую ацэнку:

> На тэрыторыі забеспячэння *Беларусь* справаздачны месяц характарызаваўся ўзмоцненымі нападамі бандаў на чыгуначныя лініі. У параўнанні з папярэднім месяцам падрывы павялічыліся на 50 % (274 у параўнанні з 180). З гэтых нападаў 118 былі паслядоўнымі падрывамі. Усяго былі закладзеныя 11 423 падрыўныя прыстасаванні, з якіх 3 501 было абясшкоджанае. […] Адпаведна загаду фюрара 9, ахова чыгункі была ўмацавана на падыходах да чыгункі сіламі часцей 2-й славацкай пяхотнай дывізіі, сіламі вышэйшага начальніка СС і паліцыі Расіі «Цэнтр» і Беларусі і часовых баявых падраздзяленняў. Нягледзячы на гэта, рост нападаў спыніць не ўдалося[34].

Аднак неўзабаве, у другой палове верасня, нямецкія часці бяспекі зноў узялі сітуацыю пад належны кантроль, пэўна, часткова дзякуючы згаданай вышэй узмоцненай ахове чыгункі. Пра перыяд з 22 да 28 верасня 1943 г. Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў (ГКСВ) дакладвала:

> 3-я танкавая армія: […] Некалькі спроб дыверсіі на чыгуначных участках з боем прадухіленыя і 74 падрыўныя зарады абясшкоджаныя. […] *Каманд. тэр. гр. арм. «Цэнтр»*: […] Становішча на чыгунках: 15 эшалонаў трапілі на міны, 19 падрываў рэек[35].

[32] Ранішнія эксплуатацыйныя зводкі РДТ у Мінску ад 19 верасня 1943 г., стан: 6.00 гадзін (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 836, л. 91 і наст.).
[33] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 17 за перыяд з 15 верасня да 21 верасня 1943 г., 25 верасня 1943 г. (BA-MA. RW 31/250, Bl. 153 і наст.).
[34] Копія вытрымак з месячнага паведамлення № 25 камандуючага вермахтам у Остландзе ад 25 верасня 1943 г. (Тамсама. Bl. 161 і наст.).
[35] Даклад Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 18 за перыяд з 22 да 28 верасня 1943 г., 2 кастрычніка 1943 г. (BA-MA. RW 31/250, Bl. 154 і наст.).



У наступныя тыдні і месяцы падрывы на чыгунках на беларускай тэрыторыі працягвалі змяншацца[36]. Шляхі падвозу працавалі, нягледзячы на частыя напады.

Вырашальным для няўдачы другога этапу «Рэйкавай вайны», акрамя ўзмоцненай аховы чыгункі, былі цяжкасці з пастаўкамі выбухоўкі, боепрыпасаў і ўзбраення. Скаргі партызанаў на гэта не спыняліся. Партызанскі атрад з Віцебскай вобласці звяртаўся па радыё 9 верасня 1943 г. у Беларускі штаб: «Мы не змаглі цалкам выканаць загад № 42 [1-ы этап "Рэйкавай вайны"], таму што не атрымалі пастаўкі. У нас няма боепрыпасаў і выбухоўкі»[37]. Караткевіч, партызанскі камандзір з Мінскай вобласці, дакладваў: «Мая брыгада Чарнавусава, атрады Смерціна і Какова 26 верасня не бралі ўдзел у аперацыі "Канцэрт" з-за адсутнасці выбухоўкі. Прашу паведаміць, калі мы можам атрымаць пастаўку»[38].

Андрэеў, камандзір 2-й Мінскай партызанскай брыгады, прасіў па радыё 10 кастрычніка 1943 г.: «Прашу паведаміць, ці будзе пастаўка, ці не для 2-й Мінскай брыгады. […] Я чакаю ўжо тры месяцы і дагэтуль не атрымаў ні грама. У брыгады няма ні боепрыпасаў, ні выбухоўкі»[39]. Мельнікаў, партызанскі камандзір з Віцебскай вобласці, сігналізаваў Панамарэнку: «У маёй брыгадзе і брыгадах Уткіна, Сактаркіна, Цябута, Раманава няма выбухоўкі і боепрыпасаў. Працаваць немагчыма»[40]. Філіпскіх, камандзір атрада «Полымя», 16 кастрычніка перадаваў па радыё: «Канцэрт не выкананы з-за адсутнасці тратылу»[41].

Партызанскае кіраўніцтва ў Магілёўскай вобласці скардзілася ў лістападзе 1943 г., што дыверсійная дзейнасць на чыгунцы тармозіцца праз поўную адсутнасць выбуховых рэчываў: «Можна было б дасягнуць большага, але няма тратылу». Акрамя таго, большасць партызанскіх атрадаў з-за частых баёў не маюць боепрыпасаў, у іх ёсць толькі «жалезны» запас. «Гэты сур'ёзны недахоп абмяжоўвае баявую дзейнасць некаторых партызанскіх атрадаў»[42].

Падобныя па змесце тагачасныя паведамленні, асабліва радыёграмы, можна знайсці ў вялікай колькасці ў адпаведных дакумен-

[36] Тыднёвыя зводкі Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з партызанамі № 19—22, 24—30 за месяцы кастрычнік, лістапад, снежань 1943 г. (BA-MA. RW 31/250, Bl. 158—171).
[37] Радыёграма Сакмаркіна Калініну, № 7765 ад 9 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 15, арк. 657).
[38] Радыёграма Караткевіча Калініну, № 8950 ад 27 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 17, арк. 133).
[39] Радыёграма Андрэева Калініну, № 9708 ад 10 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 19, арк. 99).
[40] Радыёграма Мельнікава П. Панамарэнку, № 9716 ад 11 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 19, арк. 107).
[41] Радыёграма Філіпскіх Калініну, № 10092 ад 16 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 20, арк. 86).
[42] Баявое паведамленне № 4 аператыўнай групы пры Магілёўскім падпольным абкаме, 18 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 160, л. 107 і наст.).

тах[43]. У гэтай сувязі патрэбна яшчэ згадаць, што толькі пэўная частка партызанскіх атрадаў мела радыёсувязь з савецкім тылам, большасць не мела яе. Гэтыя апошнія, такім чынам, не маглі пасылаць радыёграмы аб адсутнасці боепрыпасаў і выбухоўкі, а значыць, і не маглі атрымліваць іх пастаўкі. Радыёсувязь таксама была перадумовай, каб узгадніць пастаўкі паветраным шляхам.

Аднак гэтыя праблемы мелі не толькі партызаны ў Беларусі, але і ўсе савецкія партызаны, якія ўдзельнічалі ў аперацыі «Рэйкавая вайна». У кастрычніку 1943 г. была запланавана пастаўка 220 тон ваеннага матэрыялу для патрэб другога этапу «Рэйкавай вайны», у тым ліку 90 тон для партызанаў у Беларусі. Фактычна змаглі быць пастаўленыя толькі 82 тон, з іх 47 тон у Беларусь[44].

## 2. План і рэальнасць трэцяга этапу «Рэйкавай вайны» (чэрвень 1944 г.)

Цяжкасці з выбухоўкай і боепрыпасамі сталі найбольшай перашкодай для паспяховага ажыццяўлення шырокамаштабнай і скаардынаванай дыверсійнай аперацыі на чыгуначных лініях. Толькі ў чэрвені 1944 г. Беларускі штаб адважыўся на аперацыю, якую называюць трэцім этапам «Рэйкавай вайны». Яна павінна была адбыцца адначасова з запланаваным наступленнем Чырвонай Арміі на беларускай тэрыторыі, аперацыяй «Баграціён». План быў распрацаваны Беларускім штабам, і Панамарэнка, тагачасны першы сакратар Цэнтральнага камітэта КП(б)Б, зацвердзіў яго 8 чэрвеня 1944 г. Да 20 чэрвеня 1944 г. Беларускі штаб паставіў партызанскім падраздзяленням, якія павінны былі браць удзел у аперацыі, паветраным шляхам 29 640 кг выбухоўкі. План прадугледжваў у ноч на 20 чэрвеня 1944 г. на беларускай тэрыторыі адначасова шляхам падрываў разбурыць на найважнейшых чыгуначных участках 48 100 км рэек[45].

У ноч на 20 чэрвеня 1944 г. партызаны канцэнтравана напалі на найважнейшыя чыгуначныя ўчасткі Беларусі і разбурылі пры гэтым, паводле дадзеных Беларускага штаба, 40 777 рэек. У наступныя дні партызаны працягвалі свае аперацыі і знішчылі, паводле ўласных дадзеных, да 29 чэрвеня яшчэ 20 000 рэек. Усяго яны разбурылі амаль 61 000 рэек — так гаворыцца ў выніковай справаздачы за 1944 год[46]. У аператыўным рапарце Беларускага штаба ад 5 ліпеня 1944 г. гаворка, наадварот, ідзе пра 57 614 рэек, якія партызаны быццам падарвалі з 20 чэрвеня да 5 ліпеня 1944 г.[47]. Праўда, і гэтыя дадзеныя перабольшаныя. Тым не менш, гэтая канцэнтраваная акцыя стварыла нямецкім войскам вялікія праблемы.

Паводле нямецкіх дадзеных, у ноч на 20 чэрвеня 1944 г. усе галоўныя і пабочныя чыгуначныя лініі ў зоне групы армій «Цэнтр» праз 10 500 падрываў былі часткова на працяглы час выведзеныя са строю[48]. 23 чэрвеня Рэйхсдырэкцыя транспарту ў Мінску паведамляла пра «14 бандыцкіх нападаў з 13 падрывамі ліній ці рэек», з іх у тым ліку «83 падрывы рэек, 77 падрыўных прыстасаванняў абясшкоджаныя». У выніку гэтых падрываў некалькі прагонаў былі загароджаныя, некаторыя нават з 20 чэрвеня. Праўда, тут гаворка ішла пра пабочныя чыгуначныя лініі[49].

Галоўныя ж чыгуначныя ўчасткі працавалі. Брэсцкае транспартнае кіраўніцтва дакладвала 23 чэрвеня пра працоўную сітуацыю: «Здавальняюча. 2 бандыцкія напады і 1 няшчасны выпадак. Праца ад гэтага не вельмі пацярпела». Баранавіцкае транспартнае кіраўніцтва дакладвала: «Здавальняюча. Рух на ўчастку Бяроза К. [Картузская] — Баранавічы ў выніку падрыву абедзвюх рэек толькі лёгка затрыманы, на іншых участках — без перашкод»[50]. На астатніх участках было падобнае: «Рух на ўчастку Бяроза К. — Баранавічы і Мінск — Асіповічы ў выніку падрываў у начныя гадзіны спынены, у астатнім увогуле — без перашкод»[51]. У наступныя дні Рэйхсдырэкцыя транспарту ў Мінску дакладвала зноў пра шматлікія напады на чыгунку, якія перашкаджалі яе працы, але не спынялі[52].

У сваёй месячнай справаздачы аб «становішчы бандаў» за перыяд з 21 чэрвеня да 20 ліпеня 1944 г. Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў канстатавала:

> *Група армій «Цэнтр»:* аперацыі рускіх пачаліся масавымі разбурэннямі чыгуначных ліній, падрывамі рэек і раптоўнымі нападамі на вакзалы і апорныя пункты [...]. [...] Розным чынам назіралася ўмяшанне бандаў у баявыя дзеянні на фронце. Шматлікія падрывы транспартных збудаванняў і заўсёднае мініраванне шляхоў і дарог на непасрэднай прыфрантавой тэрыторыі, мусіць, замаруджваюць ці спыняюць перамяшчэнне ўласных злучэнняў[53].

---

[43] Яны знаходзяцца ў НАРБ (ф. 3500, воп. 23) і ў РГАСПИ (ф. 69, оп. 6).

[44] Справаздача начальніка аператыўнага аддзела ЦШПР Навумава ад 10 лістапада 1943 г. аб выкананні плана скідання для аперацыі «Рэйкавая вайна» ў кастрычніку 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 82, л. 190 і наст.).

[45] Баявыя вынікі партызанскіх атрадаў Беларусі ў барацьбе супраць нямецкіх агрэсараў у 1944 г., без даты (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 102—108).

[46] Баявыя вынікі партызанскіх атрадаў Беларусі ў барацьбе супраць нямецкіх агрэсараў у 1944 г., без даты (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 107—111); параўн. таксама: Аператыўнае паведамленне БШПР № 37/111 ад 29 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 461—462 адв.).

[47] Аператыўнае паведамленне БШПР № 38/112 ад 5 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 483—485); аператыўнае паведамленне БШПР № 39/113 ад 8 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 500).

[48] Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 271; Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn... S. 88.

[49] Ранішняе паведамленне РТД у Мінску аб стане эксплуатацыі ад 23 чэрвеня 1944 г., стан: 6.00 гадзін (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 1054, арк. 17).

[50] Тамсама. Арк. 18 і наст.

[51] Тамсама. Арк. 17.

[52] Ранішняе паведамленне РТД у Мінску аб стане эксплуатацыі ад 26 чэрвеня 1944 г., стан: 14.00 гадзін (Тамсама. Арк. 19); ранішняе паведамленне РТД у Мінску аб стане эксплуатацыі ад 27 чэрвеня 1944 г., стан: 6.00 гадзін (Тамсама. Арк. 23 і наст.).

[53] Агляд становішча з бандамі Вярхоўнага камандавання сухапутных войскаў у перыяд з 21 чэрвеня да 20 ліпеня 1944 г., 23 ліпеня 1944 г. (BA-MA. RH 2/62, Bl. 22).

Паміж заканчэннем аперацыі «Канцэрт» 1 лістапада 1943 г. і пачаткам трэцяга этапу «Рэйкавай вайны» (у ноч на 20 чэрвеня 1944 г.) у савецкіх партызанаў у Беларусі было заданне праводзіць дыверсіі на шляхах падвозу, асабліва на чыгуначных лініях. Цяпер гэта, аднак, адбывалася не ў рамках сумеснай акцыі ўсіх партызанскіх атрадаў, а кожнаму падраздзяленню адводзіўся пэўны ўчастак, на які яно сістэматычна ажыццяўляла напады.

Праўда, большасць атрадаў не магла выканаць гэтыя загады, бо ў іх, як і раней, не было выбухоўкі і ўзбраення. Камісар Лемза 4 лістапада 1943 г. перадаваў па радыё Панамарэнку: «У нас няма выбухоўкі, каб выканаць пастаўленыя перад намі задачы. Боепрыпасаў мы маем 20—30 патронаў на байца»[54]. Маркаў, камандзір партызанскай брыгады імя Варашылава, паведамляў Панамарэнку 8 лістапада 1943 г.: «Ваш загад вывесці са строю ўчастак чыгункі Полацк — Маладзечна я выканаць не магу. Няма тратылу і запалаў»[55].

21 лістапада 1943 г. Калінін звяртаўся па радыё да Каржа, камандзіра Пінскага партызанскага злучэння:

> Становішча на фронце патрабуе ўзмацнення дыверсійнай дзейнасці партызанаў на камунікацыйных лініях праціўніка. Я загадваю: любымі сродкамі спыніць рух на чыгуначным адрэзку Пінск — Старушкі і на дарогах, якія вядуць да фронту[56].

Падобныя да гэтай радыёграмы Беларускі штаб перадаў і іншым партызанскім падраздзяленням[57]. У адказ Беларускі штаб атрымліваў радыёграмы наступнага ці падобнага зместу: «Каб выканаць заданне, тэрмінова высылайце выбухоўку, інакш мы нічога зрабіць не можам»[58].

Пра колькасць эшалонаў — лакаматываў і вагонаў, — якія савецкія партызаны ў лістападзе—снежні 1943 г. сапраўды вывелі са строю ў Беларусі, нягледзячы на згаданыя цяжкасці, маюцца розныя дадзеныя. Паводле заключнай справаздачы Беларускага штаба за 1943 г., партызаны ў лістападзе 1943 г. знішчылі агулам 779, а праз месяц — 713 вайсковых эшалонаў (626 і 476 лакаматываў і 4 323 і 3 618 вагонаў)[59].

У іншай справаздачы, пададзенай у лютым 1944 г., аднак, Беларускі штаб даў больш нізкія лічбы. Колькасць разбураных вайсковых эшалонаў складала там 704 у лістападзе і 336 у снежні 1943 г.,

[54] Радыёграма камісара Лемзы П. Панамарэнку, № 11208 ад 4 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 22, арк. 97).

[55] Радыёграма Маркава П. Панамарэнку і Калініну, № 11387 ад 8 лістапада 1943 г. (Тамсама. Арк. 236).

[56] Радыёграма Калініна Каржу, № 7321 ад 21 лістапада 1943 г. (Тамсама. Спр. 42, арк. 417).

[57] Параўн.: НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 42.

[58] Радыёграма Тарасевіча Калініну, № 12186 ад 23 лістапада 1943 г. (Тамсама. Спр. 23, арк. 400); шматлікія радыёграмы падобнага зместу ў: Тамсама. Спр. 23, 24.

[59] Справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Бруханава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 172 і наст.).



колькасць знішчаных лакаматываў — 408 і 208, вагонаў — 4 159 і 1 891[60]. Але і апошнія лічбы моцна перабольшаныя[61]. Гэтыя значныя адрозненні тлумачацца так званымі «прыпіскамі», усеагульным фенаменам савецкай справаздачнасці.

1944 год савецкія партызаны ў Беларусі хацелі зрабіць такім жа паспяховым, як канец 1943 г., пакуль у ліпені 1944 г. Чырвоная Армія канчаткова не выгнала нямецкіх акупантаў з беларускай тэрыторыі. Паводле дадзеных Беларускага штаба, партызаны з 1 студзеня да 20 чэрвеня 1944 г. знішчылі ў Беларусі 3 620 вайсковых эшалонаў, 3 059 лакаматываў і 20 846 вагонаў[62]. Можна меркаваць, што гэтыя дадзеныя таксама перабольшаныя, хоць аўтар у рамках гэтага даследавання не змог шляхам параўнання з іншымі лічбамі ні пацвердзіць, ні абвергнуць іх.

Фактам з'яўляецца тое, што партызаны ў Беларусі і ў 1944 г. часта скардзіліся на недахоп боепрыпасаў і выбухоўкі, які перашкаджаў баявой дзейнасці ці рабіў яе немагчымай. Так, напрыклад, камандзір брыгады «Чырвоны сцяг» у радыёграме Панамарэнку ад 13 лютага 1944 г. гаварыў: «Паўторна перадаваў па радыё просьбу дапамагчы зброяй, боепрыпасамі. Ніякай дапамогі. [...] З-за адсутнасці боепрыпасаў, выбухоўкі барацьба немагчымая»[63]. З сакавіка 1944 г. шматлікія падраздзяленні паведамлялі пра атрыманне боепрыпасаў, зброі і выбухоўкі паветраным шляхам, так што забеспячэнне боепрыпасамі, зброяй і выбухоўкай хоць і палепшылася, але не дасягнула здавальняючага ўзроўню[64].

Што тычыцца эфектыўнасці падрываў чыгункі, то захаваліся шматлікія сутачныя рапарты пра становішча на чыгунцы ў сферы Рэйхсдырэкцыі транспарту ў Мінску за месяцы з лістапада 1943 г. да мая 1944 г. Там маюцца часткова дэталёвыя дадзеныя пра здзейсненыя падрывы на кожны дзень. З паведамленняў вынікае, што сапраўды здараліся вельмі многія напады, часам дзясяткі на дзень. Аднак матэрыяльная шкода была адносна невялікая. Часта міны ці выбуховыя зарады своечасова выяўляліся і выдаляліся. Падрывы часам моцна перашкаджалі працы на чыгуначных лініях немцаў, але затрымка на рэйках на некалькі дзён здаралася рэдка. Як правіла, нямецкія рамонтныя атрады за некалькі (найчасцей ад 2 да 8) гадзін паспявалі

[60] Выніковая справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 115).

[61] Паводле нямецкіх дадзеных, у лістападзе 1943 г. на ўсёй акупаванай немцамі савецкай тэрыторыі было пашкоджана 580 лакаматываў і разбіта ці пашкоджана каля 1 700 вагонаў; у снежні гэтыя лічбы знізіліся да прыкладна 450 і 1000. Параўн.: Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn... S. 93.

[62] Баявыя вынікі партызанскіх атрадаў Беларусі ў барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г., без даты (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 93).

[63] Радыёграма Кузняцова П. Панамарэнку, № 1347 ад 13 лютага 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 46, арк. 45).

[64] Параўн. радыёграмы ў: НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 49—59.

ліквідаваць нанесеныя пашкоджанні (разбураныя рэйкі, шпалы)[65]. З нямецкага боку амаль не было параненых, забітыя былі выключэннем. Ніводнага паведамлення не было пра цалкам знішчаны вайсковы эшалон[66].

Побач з узмоцненай вайсковай аховай чыгуначных збудаванняў, якая абмяжоўвала памеры разбурэнняў, добра арганізаваная рамонтная служба абмяжоўвала вынікі ўдалых нападаў. Каманды заўсёды гатовых дапаможных эшалонаў ліквідавалі нанесеныя пашкоджанні часцей за ўсё вельмі хутка. Пры дапамозе расчышчальных цягнікоў, што вазілі з сабой рэйкавыя краны, рамантаваліся разбураныя рэйкі і масты. Месцы падрыву даўжынёй да 80 см закрывалі сталёвай рэйкавай перамычкай, якая лёгка манціравалася. Зарад у 200 г тратылу пры яго аптымальным размяшчэнні разбураў рэйку на даўжыні прыблізна ад 25 да 35 см. Але ў час «Рэйкавай вайны» з савецкага боку прадпісваліся зарады ў 100 г. Цягнікі ехалі павольна, ноччу 25 км/г і 40 км/г днём, каб пазбегчы буйных пашкоджанняў пры зыходзе з рэек. Перад лакаматывамі для падрыву мін пускаліся ахоўныя (засцерагальныя) вагоны. Дапаможныя і ачышчальныя цягнікі мелі суправаджальныя каманды ад 15 да 30 чалавек, нямецкія чыгуначнікі таксама былі ўзброеныя і падрыхтаваныя для абыходжання са зброяй. Асабліва небяспечныя месцы рэгулярна патруляваліся браніраванымі цягнікамі, якія павінны былі адганяць партызанаў ад чыгуначных шляхоў[67].

У канчатковым выніку савецкім партызанам, нягледзячы на вялікія планы і намаганні, не ўдавалася сур'ёзна парушыць нямецкія шляхі падвозу, асабліва чыгуначныя лініі. Не без падставы Ганс Потгісер піша: «Высокая прадуктыўнасць чыгунак [змагла] быць утрымана нават у найбольш небяспечным раёне Мінска»[68]. Савецкая гістарыяграфія на працягу дзесяцігоддзяў хваліла меркаваныя поспехі савецкіх партызанаў у «Рэйкавай вайне», прычым яна грунтавалася на вышэйзгаданых рапартах партызанаў пра свае поспехі[69]. Сённяшнія расійскія даследаванні ставяць уяўныя поспехі «Рэйкавай вайны», дзякуючы рашучай і прафесійнай крытыцы Ільі Старынава, пад сумненне[70].

[65] Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn... S. 90.
[66] Прыведзеныя тут паведамленні аб эксплуатацыйным стане знаходзяцца ў: НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 136, 452, 788, 789, 791—794, 1053, 1054.
[67] Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn... S. 90—102; Кароткія інструкцыі ЦШПР па разбурэнні рэек на варожых чыгуначных лініях 6 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 12, арк. 18—27); Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 118.
[68] Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn... S. 100.
[69] Параўн., напрыклад: Wilenchik W. Die Partisanenbewegung... S. 285—290.
[70] Параўн., сярод іншага: Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 117—121.

# VI. Партызанская барацьба: разведка, контрразведка, баявыя аперацыі, дысцыпліна, забеспячэнне і страты

Калі пасля заснавання ЦШПР 30 мая 1942 г. складвалася адзіная стратэгія партызанскага руху, Цэнтральны штаб летам 1942 г. аб'явіў дыверсіі на камунікацыйных лініях галоўнай задачай партызанаў. Як адну з першачарговых задач партызанаў Сталін і Цэнтральны штаб вызначылі таксама ваенную разведку для Чырвонай Арміі.

## 1. Ваенная разведка для Чырвонай Арміі

Ваеннай разведкай партызанаў на службе Чырвонай Арміі Сталін асабіста пачаў цікавіцца найпазней вясной 1942 г. У рашэнні ДКА па ўтварэнні Цэнтральнага штаба, якое ён падпісаў, зазначана: «Інфармаванне падраздзяленняў Чырвонай Арміі аб дыслакацыі, колькасці і перамяшчэннях варожых войскаў» належыць да галоўных задач партызанскага руху[1].

1 верасня 1942 г. падчас нарады з групай партызанскіх камандзіраў Сталін падкрэсліў значэнне ваеннай разведкі для Чырвонай Арміі і пашырэння агентурных структур у гарадах. За дзень да гэтага Сталін заявіў: «Праз іх [гарады] праходзяць камунікацыйныя лініі, там знаходзяцца штабы і ўстановы, там можна шмат убачыць, там ворагі куюць свае планы. Калі забрацца ў лес, то няшмат убачыш». Праз некалькі дзён, 5 верасня 1942 г., Сталін выдаў загад № 189 аб «задачах партызанскага руху», у якім ён, сярод іншага, патрабаваў ад партызанаў сканцэнтравацца на ваеннай разведцы для Чырвонай Арміі[2].

Зразумела, што Панамарэнка прыняў гэтае даручэнне блізка да сэрца і намагаўся ажыццявіць на практыцы намеры Сталіна, бо з ваеннай разведкай у партызанаў летам 1942 г. справы былі вельмі кепскія. На ўжо згаданай нарадзе 30 жніўня 1942 г. Панамарэнка патрабаваў ад партызанскіх камандзіраў з Бранскіх лясоў: «Чырвонай Арміі патрэбна разведвальная інфармацыя. […] Яе вы, як правіла, не пастаўляеце, вы павінны ўзяць гэта ў свае рукі»[3]. Прычына палягала ў тым, што

[1] Рашэнне ДКА па пытаннях партызанскага руху, падпісанае Сталіным, № 1837 ад 30 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 36, л. 235 і наст.).
[2] Пазнака П. Панамарэнкі (вынікае са зместу): «Таварыш Сталін пра разведвальную працу партызанаў», без даты (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 146); загад № 189 народнага камісара абароны Сталіна аб задачах партызанскага руху ад 5 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 12—17).
[3] Пратакол нарады з камандзірамі партызанскіх атрадаў на Бранскім фронце, 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 24 об.); падобным чынам П. Панамарэнка

большасць партызанскіх атрадаў, калі і мела летам 1942 г., асабліва ў гарадах і на найважнейшых транспартных вузлах такія-сякія разведвальна-агентурныя структуры, то вельмі слаба развітыя. Іх трэба было яшчэ ствараць.

14 ліпеня 1942 г. Панамарэнка выдаў загад, у якім ён звяртаў увагу на значэнне разведкі і даваў распараджэнне разгортваць партызанскія разведвальна-агентурныя структуры. У кожным атрадзе неабходна было ўвесці пасаду намесніка камандзіра па ваеннай разведцы, а таксама стварыць з байцоў атрада спецыяльную інфармацыйна-разведвальную групу. Яе задача палягала ў тым, каб збіраць інфармацыю з розных крыніц (ад агентаў, апытання палонных і г. д.) і неадкладна перасылаць у цэнтр, у прыватнасці інфармацыю пра палітыка-эканамічнае становішча ў тыле ворага, пра настрой насельніцтва, пра нацыяналістычныя і антысавецкія арганізацыі, пра чыгуначны транспарт і асабліва пра колькасць, дыслакацыю і перамяшчэнні варожых войскаў[4].

У наступныя тыдні ў гэтым сэнсе амаль нічога не змянілася, і 29 жніўня 1942 г. Панамарэнка і генерал Панфілаў з Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Чырвонай Арміі (ГРУ) выдалі сумесны загад, у якім яны крытыкавалі партызанаў за дрэнную службу ваеннай разведкі. Партызанскія атрады нібыта занядбалі разведку, і таму яна вельмі дрэнная, ёй займаюцца толькі выпадкова. З другога боку, органы разведкі Чырвонай Арміі недаацэньваюць магчымасць партызанаў у гэтым сэнсе і праяўляюць мала ініцыятывы, каб дасылаць у распараджэнне партызанаў разведчыкаў і радыёстанцыі і даваць ім канкрэтныя разведвальныя заданні[5].

Панамарэнка і Панфілаў патрабавалі ад кіраўнікоў разведкі пры штабах франтоў пасылаць спецыялістаў па разведцы з радыёстанцыямі, якія атрымаюць пасады намеснікаў камандзіраў па разведцы і зоймуцца арганізацыяй ваеннай разведкі. Атрыманую інфармацыю потым неабходна будзе перасылаць у адпаведныя франтавыя штабы[6]. Гэта, праўда, летам 1942 г. было амаль немагчыма з прычыны рэдкай радыёсувязі з савецкім тылам, што перашкаджала пасылаць важныя паведамленні пра актуальныя перамяшчэнні часцей праціўніка.

У верасні 1942 г. начальнік Заходняга партызанскага штаба пры штабе Заходняга фронту (яму да верасня 1942 г. падначальваліся

выказаўся ў сваім распараджэнні ад 29 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 28).

[4] Загад начальніка Цэнтральнага штаба П. Панамарэнкі ад 14 ліпеня 1942 г. аб арганізацыі і стане агентурнай разведкі (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 8—11); загад № 189 народнага камісара абароны Сталіна ад 5 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 12—17). У загадзе Сталін сцвярджае, што партызаны не актыўныя ў гарадах (л. 15).

[5] П. Панамарэнка, Панфілаў з галоўнага аддзела разведкі Генеральнага штаба Чырвонай Арміі, Ільічоў начальніку рэгіянальных партызанскіх штабоў і начальнікам разведвальных аддзелаў на франтах, 29 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 16).

[6] Тамсама.



ўсходнія і цэнтральныя вобласці Беларусі) паведаміў, што большасць партызанскіх атрадаў у яго сферы адказнасці ўжо стварыла агентурныя сеткі. Надалей штаб Заходняга фронту плануе рыхтаваць агентаў, каб умацаваць партызанскую агентурную сетку[7]. Партызанскія атрады вельмі рэдка мелі сваіх спецыялістаў па разведцы, іх трэба было яшчэ падрыхтаваць.

У ліпені 1942 г. Калінінскі штаб партызанскага руху, якому падпарадкоўваліся, сярод іншага, паўночна-ўсходнія вобласці Беларусі, звярнуўся да Цэнтральнага штаба і прасіў прыслаць вопытных разведчыкаў, каб выкарыстаць іх у партызанскіх атрадах. Малін, намеснік начальніка Цэнтральнага штаба, адхіліў гэтую просьбу, спасылаючыся на тое, што ў Цэнтральнага штаба няма такіх спецыялістаў. Ён патрабаваў ад Калінінскага штаба, каб партызаны на месцы набіралі і рыхтавалі сваіх спецыялістаў[8].

Толькі ў лістападзе 1942 г. Цэнтральны штаб заснаваў партызанскую школу, у якой павінны былі рыхтавацца спецыялісты па разведцы для выкарыстання ў партызанскіх атрадах[9]. Праз тры месяцы, у лютым 1943 г., яна, аднак, была распушчана, і спецыялісты па разведцы цяпер павінны былі рыхтавацца ў Цэнтральнай школе партызанскага руху[10].

Адсутнасць разведвальных спецыялістаў і нешматлікія сувязі па радыё стваралі для большасці партызанскіх атрадаў у Беларусі немагчымыя ўмовы для эфектыўнай разведкі на карысць Чырвонай Арміі. Не нашмат лепшымі былі справы з ваеннай разведкай у самой Чырвонай Арміі, і Сталін вырашыў у красавіку 1943 г. радыкальна рэфармаваць службу разведкі Чырвонай Арміі[11].

Гэтая рэформа тычылася таксама партызанскага руху. 19 красавіка 1943 г. Сталін выдаў загад аб паляпшэнні службы сувязі партызанаў. Ён, сярод іншага, распарадзіўся прыцягнуць афіцэраў ГРУ ў якасці намеснікаў начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэспубліканскіх і франтавых штабах партызанскага руху. Акрамя таго, афіцэраў ГРУ неабходна было накіроўваць намеснікамі камандзіраў партызанскіх атрадаў, якія дзейнічалі на тэрыторыях, асабліва цікавых для ваеннай разведкі. Акрамя таго, разведвальныя звесткі партызанаў павінны былі падпісвацца камандзірам, камісарам і намеснікам камандзіра па разведцы адпаведнага падраздзялення. І ўвогуле партызанскія кіраўнічыя органы і падраздзяленні павінны былі ва ўсіх сэнсах

[7] Начальнік Заходняга штаба партызанскага руху Папоў намесніку начальніка ЦШПР Сергіенку, 21 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 935, л. 48).

[8] Начальнік галоўнага аддзела разведкі ЦШПР Малін начальніку Калінінскага штаба партызанскага руху Радчанку, 1 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 956, л. 15).

[9] П. Панамарэнка Л. Берыі, 16 снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 219).

[10] Загад народнага камісара абароны № 29 ад 13 лютага 1943 г., падпісаны Шчадэнкам (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 29).

[11] Загад народнага камісара абароны № 72 ад 19 красавіка 1943 г. аб стане ваенных разведвальных органаў і аб мерах па паляпшэнні іх работы, падпісаны Сталіным. Надрукаваны ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 13 (2-3). Приказы... С. 127 і наст.

падтрымліваць разведку Чырвонай Арміі і ствараць адмысловыя агентурныя сеткі, якія служылі б на карысць ваеннай разведкі[12].

Панамарэнка прызначыў 20 красавіка 1943 г. палкоўніка дзяржаўнай бяспекі Сяргея Бельчанку начальнікам разведвальнага аддзела Цэнтральнага штаба і адначасова сваім намеснікам[13]. Бельчанка атрымаў заданне радыкальна рэфармаваць і палепшыць партызанскую разведку. У чэрвені 1943 г. Бельчанка арганізаваў нараду ўсіх начальнікаў разведкі пры рэгіянальных штабах. Нарада адбылася з 10 да 12 чэрвеня 1943 г. у Маскве. Складзены па распараджэнні Бельчанкі пратакол на 200 старонках дае глыбокае і непрыхаванае ўяўленне пра становішча і метады працы партызанскай разведкі і партызанскага руху ўвогуле[14].

Ацэнка партызанскай разведкі не толькі ў Беларусі, але і на ўсіх акупаваных тэрыторыях, якая была дадзена на гэтай нарадзе, была знішчальнай. Між іншым канстатавалася, што ніводны з папярэдніх загадаў Сталіна па ваеннай разведцы на карысць Чырвонай Арміі не быў выкананы. Праз некалькі дзён пасля нарады, 1 ліпеня 1943 г., Бельчанка выдаў распараджэнне пра недахопы партызанскай разведкі, якія былі выяўленыя ў час нарады, і захады для іх ліквідацыі. Бельчанка пры гэтым падкрэсліваў, што гэтыя недахопы — тыповыя для большасці партызанскіх атрадаў[15].

Бельчанка ганіў у першую чаргу тое, што партызанскія падраздзяленні займаліся разведкай толькі для сябе, а ваенная разведка на карысць Чырвонай Арміі была занядбана ці ўвогуле пакінута па-за ўвагай. Акрамя таго, было захоплена мала дакументаў праціўніка ды палонных, якія ўяўлялі б сабой важныя інфармацыйныя крыніцы. Парушаліся элементарныя правілы канспірацыі, што і было прычынай разгрому агентурных звёнаў. Агентурная справа ў адміністрацыях акупантаў, у паліцыі, гестапа, злучэннях калабарантаў, на важных транспартных кропках, на чыгунцы і складах слаба развітая. Гэта, па яго словах, далёка адстае ад магчымасцей партызанскага руху. Сюды ж варта дадаць, што на тэрыторыях дзеяннняў партызанаў ізалявана дзейнічаюць розныя агентурныя сеткі і да таго ж перашкаджаюць адна адной. Гэтыя недахопы неабходна, сказаў Бельчанка, як мага хутчэй ліквідаваць[16].

У наступныя тыдні Бельчанка даў даручэнне выпрацаваць дэталёвы план па паляпшэнні дзейнасці партызанскай разведкі. План

[12] Загад народнага камісара абароны № 73 ад 19 красавіка 1943 г., падпісаны Сталіным (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 30), надрукаваны ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 13 (2-3). Приказы... С. 129.

[13] Ліст П. Панамарэнкі Сталіну ад 20 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 66 і наст.).

[14] Стэнаграма нарады начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэгіянальных штабах партызанскага руху з намеснікам начальніка Цэнтральнага штаба па разведцы палкоўнікам Бельчанкам, 10—12 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 726, л. 1—200).

[15] Распараджэнне намесніка начальніка ЦШПР Бельчанкі рэгіянальным штабам партызанскага руху, № 1765 ад 1 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 15, л. 1—4 об.).

[16] Тамсама.



прадугледжваў, сярод іншага, навучанне кваліфікаваных агентаў і вызначыў дырэктывы па іх вярбоўцы[17]. Бельчанка даў таксама распараджэнне выпрацаваць новы вучэбны план па падрыхтоўцы намеснікаў камандзіраў па разведцы, які павінен быць разлічаны на 500 вучэбных гадзін і ўведзены ў жніўні 1943 г.[18]. Гэта было неабходна, бо большасць начальнікаў разведкі пры партызанскіх атрадах, напрыклад, у Беларусі, не мелі ніякай кваліфікацыі[19]. Але ўсе гэтыя захады маглі пачаць дзейнічаць толькі праз нейкі сярэдні ці працяглы тэрмін, а ў наступныя месяцы ў сферы ваеннай разведкі змянілася мала.

У пачатку верасня 1943 г. Дзмітрый Маўчанскі, камандзір ваенна-аператыўнай групы пры Магілёўскім падпольным абкаме КП(б)Б, дакладваў, сярод іншага, пра стан інфармацыйнай і ваеннай разведкі ў Магілёўскай вобласці. Пры гэтым ён канстатаваў, што ў гэтай сферы пануюць непаладкі і недахоп скаардынаванасці. Так, у гарадах разведвальныя сілы партызанаў, ГРУ і НКУС дзейнічалі абсалютна нескаардынавана. Акрамя таго, у гарадах было шмат агентаў, у адным Магілёве каля 100, якія часам перашкаджалі адзін аднаму. Нават былі выпадкі, калі агента памылкова расстрэльвалі партызаны іншага атрада як шпіёна. Каб пазбегнуць такіх непаразуменняў, па словах Маўчанскага, неабходныя цэнтральнае кіраўніцтва і каардынацыя разведвальнай дзейнасці[20]. Аднак да канца нямецкай акупацыі ў гэтым сэнсе мала што змянілася.

Не лепшымі былі справы з інфармацыйнай службай і ў астатніх партызанскіх атрадах у Беларусі. 31 кастрычніка 1943 г. Бельчанка ў лісце Калініну ганіў якасць інфармацыйнай дзейнасці партызанаў у Беларусі і Беларускага штаба:

> Разведдадзеныя, якія паступаюць з Вашага штаба і з брыгад, утрымліваюць грубыя памылкі, што не дазваляюць своечасова рабіць канкрэтныя заключэнні пра праціўніка. Карта разведвальнага аддзела пра становішча на 10.10.43 г., пададзеная Вашым штабам, зроблена неахайна і па змесце нічога не вартая. Напрыклад, дадзеныя пра гарнізоны праціўніка на тэрыторыях на поўнач ад Полацка, на ўсход ад Барысава, Беразіна, Бабруйска, на поўнач ад Магілёва і Быхава тычацца ліпеня. [...] У Магілёўскім раёне была выяўлена прысутнасць штаба 53-га артылерыйскага корпуса з датай 5.9.43 г., у Глыбокім — 2-й механізаванай дывізіі і 2-га кавалерыйскага палка з датай 26.9.43 г. Але такіх падраздзяленняў у нямецкай арміі няма. У Старых Дарогах і ў Баранавічах былі зарэгістраваныя франтавыя штабы, якіх у нямецкай

[17] План працы галоўнага аддзела разведкі ЦШПР ад 14 ліпеня 1943 г., падпісаны Ямлюціным і Анісімавым (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 704, л. 5—9).

[18] Вучэбны план па падрыхтоўцы намеснікаў камандзіраў па разведцы ад 11 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 705, л. 1—30).

[19] Стэнаграма нарады начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэгіянальных штабах партызанскага руху з намеснікам начальніка Цэнтральнага штаба па разведцы палкоўнікам Бельчанкам, 10—12 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 726, л. 17).

[20] Паведамленне Маўчанскага № 2 пра становішча і дзейнасць ваенна-аператыўнай групы пры Магілёўскім абкаме, 2 верасня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 160, л. 10 об. і наст.).

арміі таксама няма. [...] Гэтыя недахопы паказваюць, што разведвальны аддзел дадзеныя, якія паступаюць з брыгад, не правярае і не аналізуе, ён перадае гэты сыры матэрыял далей. Тое ж самае тычыцца і разведвальных рапартаў. Брыгады перадаюць шмат інфармацыі, аднак вялікая яе частка неканкрэтная, а шмат якая інфармацыя — толькі меркаванні. Брыгады, напрыклад, дакладвалі пра перамяшчэнне часцей праціўніка, не паведаміўшы пра яго колькасць і нумар падраздзялення. А гэта ж галоўныя пытанні пры ваенным разведванні рухаў праціўніка. Таварыш Корж [Гомельскае партызанскае злучэнне] паведаміў, што 23.9 нямецкія часці пакінулі Гомель, засталіся толькі чыгуначныя рабочыя. Гэта аказалася няпраўдай. Таварыш Талаквадзэ праінфармаваў пра рух частак 5-й і 8-й нямецкіх армій, а таксама 2-й танкавай дывізіі праз Глыбокае на захад. Гэта таксама аказалася няпраўдай. [...] Брыгады амаль не бяруць палонных праціўніка, хоць гэта самая карысная крыніца інфармацыі пра праціўніка. [...] Захоп асабістых дакументаў салдат і афіцэраў праціўніка для выяўлення нумароў вайсковых падраздзяленняў практыкуецца мала. [...] Стан інфармацыйнай службы патрабуе неадкладных мер, каб ліквідаваць гэтыя недахопы. Прашу даць адпаведныя загады сваім разведвальным органам[21].

Дзейнасць савецкіх партызанаў у Беларусі з восені 1943 г. да канца нямецкай акупацыі летам 1944 г. вызначалася баямі з нямецкімі часцямі, што імкнуліся ачысціць прыфрантавыя тэрыторыі ад партызанаў. З гэтай прычыны як Беларускі штаб, так і асобныя партызанскія падраздзяленні амаль не мелі ні часу, ні магчымасці клапаціцца пра радыкальнае паляпшэнне інфармацыйнай службы і ліквідаваць грубыя недахопы, якія меліся. Яны былі такімі цяжкімі, што партызанская разведка часам прыносіла больш блытаніны, чым карысці.

У гэтых умовах не дзіўна, што партызаны Беларусі не маглі прадэманстраваць бліскучых поспехаў у ваеннай разведцы, хоць у савецкай літаратуры сцвярджаецца адваротнае. І сённяшняя расійская літаратура падкрэслівае ўяўную эфектыўнасць партызанскай разведкі і пры гэтым для яе ацэнкі не карыстаецца галоўнымі крыніцамі[22]. Ваенная разведка Чырвонай Арміі Заходняга фронту, якая дзейнічала на беларускім участку, была таксама не нашмат лепшай[23].

---

[21] Намеснік начальніка ЦШПР Бельчанка начальніку БШПР Калініну, 31 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 865, л. 90 і наст.).
[22] Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 3. Минск, 1985. С. 277—291; Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 92—107; Папоў пры гэтым пакладаўся на афіцыйныя паведамленні партызанскага кіраўніцтва. Згаданую ж вышэй нараду начальнікаў разведкі з 10 да 12 чэрвеня 1943 г. ці тагачасную крытыку Бельчанкі ён не браў пад увагу.
[23] Камісія ДКА 11 красавіка 1944 г. ганіла «асабліва грубыя недахопы ў інфармацыйнай разведцы на Заходнім фронце». Гаварылася, што агенты дрэнна падрыхтаваныя, пастаўляюць амаль што непрыдатную для выкарыстоўвання разведінфармацыю, у мінулым дапушчана вельмі шмат памылак, якія не выпраўленыя. Гл.: Паведамленне камісіі ДКА ад 11 красавіка 1944 г. аб памылках на Заходнім фронце (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 232, л. 209 і наст.).



## 2. Асобыя аддзелы і контрразведка

У той час як ваенная разведка заставалася да канца адным са слабых месцаў савецкага партызанскага руху, контрразведка функцыянавала ў партызанскіх падраздзяленнях відавочна нашмат лепей. Але і тут часам былі грубыя праколы. Контрразведкай у партызанскіх атрадах займаліся, як правіла, асобыя аддзелы.

Кола задач асобых аддзелаў, аднак, выходзіла далёка за межы змагання з сапраўднымі і ўяўнымі шпіёнамі. Іх супрацоўнікі шукалі і «абясшкоджвалі» ці затрымлівалі «антысавецкіх» ці «сімпатызуючых немцам элементаў» як у атрадах, так і на тэрыторыях, якія былі пад панаваннем ці кантролем партызанаў. Яны змагаліся, караючы, з дэзерцірствам, панікёрствам, боязню ворага, а таксама іншымі праявамі баявога і маральнага разлажэння сярод партызанаў, як п'янства, рабаўніцтва, унутраныя канфлікты, гвалтаванне, самавольныя расстрэлы, здзекі з цывільнага насельніцтва і інш. Адным словам, асобыя аддзелы выконвалі ў партызанскім руху тыя ж функцыі, што і асобыя аддзелы НКУС у Чырвонай Арміі.

Павел Судаплатаў, падчас вайны начальнік 4-га ўпраўлення НКУС, піша ў сваіх мемуарах, што падначаленыя яму органы ў час бітвы пад Масквой (позняя восень 1941 г.) атрымалі, сярод іншага, даручэнне ахоўваць партызанскія атрады ад шпіянажу ворагаў ды ліквідаваць самых небяспечных памагатых ворага, а па магчымасці і прадстаўнікоў акупацыйнага апарату, якія неслі адказнасць за тэрор у адносінах да цывільнага насельніцтва і знішчэнне партызанаў[24]. Першыя асобыя аддзелы пры партызанскіх атрадах з'явіліся, паводле яго слоў, яшчэ ў студзені 1942 г.[25]. У Арлоўскай вобласці, да якой належалі і атрады ў Бранскіх лясах, асобыя аддзелы выраслі ў самастойныя органы, што падначальваліся не партызанскаму камандаванню, а апарату НКДБ[26]. Гэта прыводзіла да шматлікіх канфліктаў паміж асобымі аддзеламі і камандаваннем асобных партызанскіх падраздзяленняў[27]. У Ленінградскай вобласці 4-е ўпраўленне НКУС таксама загадала стварыць асобыя аддзелы[28].

У адрозненне ад гэтага органам НКУС і НКДБ у Беларусі не ўдалося дамагчыся кантролю над заснаваннем і дзейнасцю асобых аддзелаў

---

[24] Судоплатов П. А. Разные дни... С. 262 і наст.
[25] Аляксей Папоў у кнізе «НКВД и партизанское движение...» на с. 140 піша, што асобыя аддзелы пры партызанскіх атрадах былі створаныя са студзеня 1942 г.
[26] Паведамленне прадстаўніка ЦШПР пры Ваенным савеце Заходняга фронту Мацвеева начальніку галоўнага аддзела разведкі ЦШПР Бельчанку пра контрразведку ў Арлоўскай вобласці 19 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14, л. 71—73).
[27] Загад прадстаўніка ЦШПР, члена Ваеннага савета Бранскага фронту А. П. Мацвеева і начальніка УНКУС па Арлоўскай вобласці К. Ф. Фірсанава № 654 ад 6 снежня 1942 г., надрукаваны ў: Органы государственной безопасности... Т. 3. Кн. 2. С. 518—521.
[28] Кубаткін (НКДБ) Бельчанку пра аператыўныя групы ў партызанскіх атрадах Ленінградскай вобласці, 7 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14, л. 125—130).

пры партызанскіх атрадах. Тут наконт утварэння асобых аддзелаў рашэнне, як правіла, прымалася на месцах, і не было дырэктыў, якія б аднолькавым чынам рэгулявалі гэтае пытанне. Камандзіры і паліткамісары атрадаў і злучэнняў капіравалі структуры, вядомыя ім з арміі (асобыя аддзелы НКУС). Начальнік аддзела разведкі Беларуска-га штаба дакладваў у чэрвені 1943 г.:

> У нас асобыя аддзелы з'явіліся ў брыгадах і атрадах на ўзор Чырвонай Арміі. [...] Органы [па барацьбе са шпіянажам] у нас усюды розныя. Дзе-нідзе гэтым займаюцца асобыя аддзелы, якія былі створаныя па ініцыятыве камандзіраў і камісараў атрадаў ды брыгад. Дзесьці гэтым займаюцца камандзіры атрадаў і брыгад, дзесьці ўсе, а на практыцы ніхто, г. зн. ніхто за гэта не нясе адказнасці[29].

Гэтыя абставіны бянтэжылі некаторых начальнікаў асобых аддзелаў. Начальнік асобага аддзела пры Клічаўскім аператыўным цэнтры Магілёўскай вобласці Ганец звярнуўся ў лістападзе 1942 г. у асобы аддзел пры Заходнім фронце і папрасіў даць дырэктывы і ўказанні, як яму выконваць сваю работу, у прыватнасці, як змагацца з марадзёрамі ў партызанскіх шэрагах і што рабіць з сем'ямі выяўленых «гестапаўскіх шпіёнаў». Ён прасіў таксама парады, як прызначаць на пасаду начальнікаў асобых аддзелаў у атрадах. Ганец да 22 чэрвеня 1941 г. працаваў у апараце НКУС Магілёўскай вобласці[30]. Праз чатыры месяцы адзін таварыш Ганца з 1-й Мінскай партызанскай брыгады звярнуўся з падобным пытаннем у Мінскі падпольны абкам КП(б)Б і паскардзіўся: «Мы варымся ў сваім соку, бо ў нас няма ані дырэктыў, ані ўказанняў наконт працы асобых аддзелаў у тыле ворага»[31].

Падштурхнуты такімі і падобнымі пытаннямі і скаргамі, капітан дзяржаўнай бяспекі Селін напісаў 12 мая 1943 г. палкоўніку Бельчан-ку, які незадоўга да гэтага быў прызначаны начальнікам партызанскай разведкі пры Цэнтральным штабе, і прапанаваў яму ўвесці адзіныя правілы для асобых аддзелаў пры партызанскіх атрадах. Селін пры гэтым тлумачыў:

> Я з верасня 1942 г. курырую Заходні штаб партызанскага руху. У рамках маёй дзейнасці я міжволі маю справу з асобымі аддзеламі і іх упаўнаважанымі, якія самастойна ўтварыліся ў партызанскіх атрадах у тыле ворага. Вельмі часта гэтыя асобыя аддзелы і іх упаўнаважаныя звяртаюцца да мяне, про-

[29] Стэнаграма нарады начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэгіянальных шта-бах партызанскага руху з намеснікам начальніка Цэнтральнага штаба па разведцы палкоўнікам Бельчанкам, 10—12 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 726, л. 17, 190).

[30] Начальнік асобага аддзела НКУС пры 208-ым партызанскім атрадзе Ганец начальніку асобага аддзела пры Заходнім фронце, без даты. На палях знаходзіцца нататка «Паслаць таварышу Л. Цанаве, 24 лістапада 1943 г.», подпіс нечытэльны (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1112, л. 59).

[31] Начальнік асобага аддзела 1-й Мінскай партызанскай брыгады ў Мінскі абкам, 6 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 13).



> сячы дапамогі і дырэктыў. Аднак, з прычыны іх неўрэгуляванасці, ніхто не дасылае ім дырэктыў. [...] Я закранаў гэтае пытанне ў асобым аддзеле Заходняга фронту, але канкрэтнага адказу не атрымаў. Мне адказалі, што партызанскі рух — гэта народны рух, наш Народны камісарыят [НКУС] не ствараў асобых аддзелаў, і таму імі займаемся мы[32].

У заключэнне Селін патрабаваў: «Неабходна існаванне асобых аддзелаў адрэгуляваць юрыдычна»[33]. Аднак у чэрвені 1943 г. Беларускі штаб вырашыў ліквідаваць асобыя аддзелы і перадаць адказнасць за контрразведку начальнікам разведкі адпаведных падраздзяленняў. Прычына гэтага палягала ў тым, што асобныя начальнікі асобых аддзелаў не хацелі падпарадкоўвацца камандзірам адпаведных падраздзяленняў[34]. Так, начальнік асобага аддзела Цэнтральнага шта-ба маёр дзяржбяспекі Фармашоў дакладваў Сталіну 27 ліпеня 1943 г.: «У асобных выпадках самаўтвораныя "асобыя аддзелы" ставяць сябе над камандаваннем адпаведнага атрада і дагэтуль робяць памылкі, якія вельмі цяжка выправіць»[35]. Загад пра роспуск асобых аддзелаў, аднак, не з'явіўся, і асобыя аддзелы працавалі ў партызанскіх атрадах у Беларусі да канца нямецкай акупацыі.

Канфлікт вакол адказнасці за контрразведку ў партызанскім руху існаваў, аднак, і надалей, і нарэшце запатрабавалася рашэнне на са-мым высокім узроўні. 20 жніўня 1943 г. Віктар Абакумаў, начальнік контрразведкі «Смерш» у Чырвонай Арміі, патрабаваў ад Панамарэнкі, каб ён паведаміў падначаленым яму партызанскім камандзірам, што ў партызанскіх атрадах за барацьбу са шпіёнамі адказвае «Смерш». Партызанскія камандзіры павінны па патрабаванні перадаваць орга-нам «Смерш» злоўленых шпіёнаў і перабежчыкаў і ўвогуле выконваць іх указанні ў сферы контрразведкі. Абакумаў пры гэтым спасылаўся на рашэнне Сталіна[36].

Атрады «Смерш» («Смерць шпіёнам») былі ўтвораныя 21 красавіка 1943 г. на аснове асобых аддзелаў НКУС у Чырвонай Арміі і мелі за-данне змагацца з шпіёнамі, дэзерцірамі, панікёрамі і «антысавецкімі элементамі» ў шэрагах Чырвонай Арміі і ўвогуле дысцыплінаваць падраздзяленні Чырвонай Арміі ў савецкім духу[37].

[32] Ліст капітана дзяржаўнай бяспекі Селіна таварышу палкоўніку, намесніку начальніка ЦШПР ад 12 мая 1943 г. Тое, што маецца на ўвазе Бельчанка, вынікае са зместу (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 81 і наст.).

[33] Тамсама.

[34] Стэнаграма нарады начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэгіянальных шта-бах партызанскага руху з намеснікам начальніка Цэнтральнага штаба па разведцы палкоўнікам Бельчанкам, 10—12 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 726, л. 18).

[35] Начальнік асобага аддзела ЦШПР маёр Фармашоў Сталіну пра контрразведку ў партызанскім руху, 27 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14, л. 79).

[36] Абакумаў П. Панамарэнку, 20 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 13, л. 15 і наст.).

[37] Рашэнне ДКА № 3222 ад 21 красавіка 1943 г. аб утварэнні Галоўнага ўпраўлення контрразведкі Народнага камісарыята абароны («Смерш») і яго органаў, падпісанае Сталіным (РГАСПИ. Ф. 644, оп. 1, д. 108, л. 152—157).

Панамарэнка, аднак, гнеўна адхіліў намер Абакумава і заявіў, што яму нічога невядома пра нейкае рашэнне Сталіна на гэты конт[38]. 27 жніўня 1943 г. Панамарэнка далажыў пра гэтую справу асабіста Сталіну. Прысутнічалі Абакумаў, Берыя і Малянкоў. Сталін на гэты раз прыняў канчатковае рашэнне: контрразведка ў партызанскіх атрадах знаходзіцца ў кампетэнцыі саміх партызанаў[39]. Гэтае правіла засталося ў сіле да канца нямецкай акупацыі.

Персанал асобых аддзелаў пры партызанскіх атрадах у Беларусі найчасцей складаўся з супрацоўнікаў апарату НКУС/НКДБ, што летам 1941 г. засталіся ў тыле ворага або ў выніку ваеннай блытаніны, або з заданнем арганізаваць партызанскую барацьбу і дыверсіі. Капітан дзяржбяспекі Селін пісаў у маі 1943 г. Бельчанку: «Персанал асобых аддзелаў складаецца галоўным чынам з нашых людзей [супрацоўнікаў НКУС], якія ў пачатку вайны трапілі ў акружэнне ворага і засталіся ў варожым тыле»[40].

Нешта падобнае было паведамлена і начальнікам разведвальнага аддзела Беларускага штаба партызанскага руху ў час нарады камандзіраў разведкі з 10 да 12 чэрвеня 1943 г.: «У асобых аддзелах у нас найчасцей вопытныя чэкісты». Потым ён выказаў меркаванне, што там, дзе персанал асобых аддзелаў складаўся з вопытных супрацоўнікаў НКУС/НКДБ, контрразведка працавала нядрэнна. Але бываюць выпадкі, калі асобымі аддзеламі кіруюць людзі, якія не маюць ніякага ўяўлення пра контрразведку. «Там нярэдка здараюцца вельмі шкодныя з'явы»[41].

Патрэба ў вопытных «чэкістах», што маглі б змагацца ў партызанскіх атрадах супраць з'яў разлажэння і шпіёнаў, была сапраўды вялікая, і асобныя партызанскія камандзіры часта скардзіліся на іх адсутнасць і прасілі прыслаць іх. Васільеў, адзін з партызанскіх камандзіраў у Беларусі, перадаваў 14 ліпеня 1943 г. па радыё Панамарэнку:

> У партызанскім руху ёсць вялікі недахоп вопытных чэкісцкіх кадраў. Гестапа прыкладае ўсе свае сілы супраць нашай разведкі і агентурных сетак. Неабходна як мага хутчэй пасьлаць туды вопытных чэкістаў з Народнага камісарыята [НКУС], якія маглі б шмат зрабіць для руху[42].

[38] П. Панамарэнка Абакумаву, без даты, [паміж 20 і 27 жніўня 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 13, л. 17 і наст.).

[39] Недатаваная нататка П. Панамарэнкі на адваротным баку апошняй старонкі цытаванага вышэй дакумента пра сустрэчу 27 жніўня 1943 г. і рашэнне Сталіна (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 13, л. 20 об.).

[40] Ліст капітана дзяржаўнай бяспекі Селіна таварышу палкоўніку, намесніку начальніка ЦШПР, 12 мая 1943 г. Тое, што тут маецца на ўвазе Бельчанка, вынікае са зместу (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 81 і наст.).

[41] Стэнаграма нарады начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэгіянальных штабах партызанскага руху з намеснікам начальніка Цэнтральнага штаба па разведцы палкоўнікам Бельчанкам, 10—12 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 726, л. 22, 190).

[42] Радыёграма Васільева П. Панамарэнку, № 4660 ад 14 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 10, арк. 53).



Таксама партыйнае і партызанскае кіраўніцтва Віцебскай вобласці прасіла ў чэрвені 1943 г. аб прысыланні вопытных чэкістаў, праўда, у гэтым выпадку, каб у Віцебскім партызанскім злучэнні спыніць з'явы разлажэння[43]. Падобнае адбывалася ў Мінскай вобласці[44]. Манахаў, член Вілейскага падпольнага цэнтра, скардзіўся ў студзені 1944 г.: «У нас вялікі недахоп супрацоўнікаў НКУС»[45]. Шпіёнская праблема ў партызанскіх атрадах сапраўды была вострай, бо немцы не абмяжоўваліся толькі актыўнай ваеннай барацьбой з партызанамі, але і масава насаджалі так званых «V-людзей» (інфарматараў) і «фальшывыя банды».

## 3. Нямецкая «разведка бандаў» і шпіёнаманія сярод партызанаў

*«Bandenaufklärung»* («Разведка датычна бандаў»), як гэта гучала па-нямецку, з самага пачатку была сталым складнікам барацьбы немцаў з партызанамі. У верасні 1941 г. афіцэр Іс пры камандуючым тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» дакладваў: «Акрамя таго, удалося пры дапамозе V-людзей перадаць СД розныя гнёзды партызанаў і камуністаў, а таксама асобных супрацоўнікаў НКУС і г. д.»[46]. Праз месяц той жа самы «Цэнтр» паведамляе: «Барацьба з партызанамі ў справаздачным месяцы праводзілася інтэнсіўна. Пры гэтым V-людзі, завербаваныя штурмбанфюрарам Бергфрыдам, далі важныя звесткі»[47].

Нямецкім падраздзяленням, якія павінны былі змагацца з партызанамі, зноў было загадана вербаваць і выкарыстоўваць агентаў. Камандаванне 403-й ахоўнай дывізіі ў верасні 1941 г. дало распараджэнне сваім падначаленым падраздзяленням: «Зноў звяртаецца ўвага на тое, што з-за недахопу дастатковых сіл неабходна вербаваць *надзейных жыхароў у якасці інфарматараў*, каб такім чынам трапляць на след хованак бандаў і партызанаў»[48]. Праз месяц камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» загадаў сваім падначаленым падраздзяленням: «Прыцягваць *насельніцтва* шляхам падбору К-людзей (*Kundschafter* — разведчык). [...] Перавага мэтанакіравана аддаецца жыхарам ускраінных дзяржаў ці тым, чые сем'і пацярпелі ад бальшавікоў»[49].

[43] Паведамленне сакратара Віцебскага абкама Жыляніна П. Панамарэнку і Калініну пра стан партызанскага руху ў Віцебскай вобласці, 18 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 857, л. 13 об.).

[44] Камлюк Аўхімовічу ў ЦК КП(б)Б, [1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 856, л. 7).

[45] Справаздача члена Вілейскага падпольнага цэнтра Манахава, студзень 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 487, арк. 22).

[46] Справаздача пра дзейнасць афіцэра Іс тылавога раёна групы армій «Цэнтр», [верасень 1941 г.] (ВА-МА. RH 22/228, Bl. 76).

[47] Тамсама. Bl. 80.

[48] Спецзагад па 403-й ахоўнай дывізіі пра задачы ў новым аператыўным раёне дзеяння, Іа, 4 верасня 1941 г. (ВА-МА. RH 22/225, Bl. 20). Вылучана ў арыгінале.

[49] Праект камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» «Партызан. Яго арганізацыя і барацьба з ім», 12 кастрычніка 1941 г. (ВА-МА. RH 22/225, Bl. 123, 124v).

З узмацненнем партызанскай небяспекі павялічвалася і значэнне «разведкі датычна бандаў». 8 кастрычніка 1942 г. генерал фон Шэнкендорф заявіў з нагоды адной нарады наконт барацьбы з партызанамі, што «*актыўная барацьба з бандамі* магчымая, нягледзячы на недахоп сіл. [...] Перадумова для гэтага — дакладная *разведка пры дапамозе агентаў*, якіх я прашу ўкараняць паўсюдна і масава»[50].

Маштабнае выкарыстанне інфарматараў пачалося з вясны 1943 г. Да сакавіка 1943 г. гэтым займаўся ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр» кіраўнік падраздзялення інфармацыі і разведкі-2. 1 красавіка 1943 г. сферу «разведкі бандаў» узяло на сябе падраздзяленне інфармацыі і разведкі — Мінск 6. Ад былой тактыкі «разведкі бандаў» — разведваць тэрыторыі, занятыя партызанамі ці якія яны кантралююць, пры дапамозе баявых разведвальных атрадаў — адмовіліся, таму што яна аказалася, як гаварылася ў дакладзе Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» ад 20 мая 1943 г., малаэфектыўнай.

> Толькі стварэнне густой сеткі інфарматараў, якая ўвесь час у цесным супрацоўніцтве ўсіх службаў будзе паляпшацца і гусцець, прывядзе да карысных вынікаў. Дзякуючы спецыяльна падрыхтаваным інфарматарам робяцца намаганні пранікнуць глыбей на бандыцкія тэрыторыі[51].

Высокую эфектыўнасць інфарматараў пацвярджаюць і савецкія крыніцы. Начальнік асобага аддзела Цэнтральнага штаба маёр Фармашоў дакладваў Сталіну 27 ліпеня 1943 г.: «Аналіз няўдалых аперацый, праведзеных партызанамі супраць немцаў, паказвае, што ў большасці выпадкаў прычыну трэба шукаць у варожай разведцы»[52].

Важны складнік «разведкі бандаў» уяўляла сабой выкарыстанне так званых «фальшывых бандаў». У згаданым вышэй дакладзе галоўнакамандуючага групай армій «Цэнтр» ад 20 мая 1943 г. гаворыцца:

> На тэрыторыі групы армій дагэтуль выкарыстоўваліся ўвогуле толькі невялікія атрады колькасцю да 30 чалавек. Мэта: разведка бандаў і выяўленне настрою насельніцтва. Працяглае выкарыстанне вялікага падраздзялення з намерамі разгрому не прынесла поўных поспехаў. І ў будучыні пункт цяжару ў разведцы будзе ляжаць на выкарыстанні фальшывых бандаў. Аднак гэтае выкарыстанне пры ўзрастанні строгай арганізацыі бандаў будзе рабіцца ўсё цяжэйшым, так што працаваць можна будзе толькі невялікімі атрадамі, бо вялікія падраздзяленні, мусіць, вельмі хутка можна будзе выявіць[53].

[50] Пратакол нарады камандуючых дывізіямі ад 8 кастрычніка 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 269). Вылучана ў арыгінале.
[51] Галоўнае камандаванне групы армій «Цэнтр» Галоўнаму камандаванню сухапутных войскаў, 20 мая 1943 г. (BA-MA. 19 II/171, Bl. 23).
[52] Начальнік асобага пададдзела ЦШПР маёр дзяржаўнай бяспекі Фармашоў Сталіну пра контрразведку ў партызанскім руху, 27 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14, л. 78).
[53] Галоўнае камандаванне групы армій «Цэнтр» Галоўнаму камандаванню сухапутных войскаў, 20 мая 1943 г. (BA-MA. 19 II/171, Bl. 18—25).



У гэты час ужо было дакладна запланавана будучае інтэнсіўнае выкарыстанне невялікіх атрадаў[54].

«Фальшывыя банды» сапраўды імкнуліся выклікаць у шэрагах партызанаў вялікі неспакой і няўпэўненасць, і часта яны былі даволі паспяховымі. Жуковіч з барысаўскага партызанскага цэнтра 7 лютага 1943 г. перадаваў па радыё Панамарэнку:

> Атрымана інфармацыя, што нямецкія каманды, апранутыя ў нашу форму, нападаюць у лясах на нашыя лагеры. Каманды складаюцца са здраднікаў. У Заходняй Беларусі дзейнічае каманда, што ўжо знішчыла 24 атрады; яшчэ не выяўлена, якая[55].

4 кастрычніка Беларускі штаб сігналізаваў камандаванню Баранавіцкага партызанскага злучэння:

> Паводле наяўных дадзеных, у раёне Баранавічаў дзейнічаюць дзве фальшывыя партызанскія групы, якія немцы сфармавалі з ваеннапалонных. Кажуць, што яны ўжо забілі нямала партызанаў. Прыміце меры, каб знішчыць іх[56].

Як гэтыя фальшывыя партызаны дзейнічалі на практыцы, абмаляваў Беларускі штаб у радыёграме ад 8 кастрычніка 1943 г.:

> Паводле нашых дадзеных, у Ельскім раёне [Палескай вобласці] дзейнічае фальшывы партызанскі атрад пад камандаваннем 30-гадовага агента гестапа з Ельска Мікалая Смірнова. Задача атрада — выяўленне партызанскіх агентаў, знішчэнне партызанскіх груп. Пры сустрэчы з партызанамі члены групы крычаць: «Стой, фашысты!» і калі ім адказваюць: «Мы партызаны», тады яны пачынаюць страляць[57].

Паводле савецкіх дакладаў, інфарматары ці шпіёны, аднак, займаліся не толькі разведкай, а мелі іншыя заданні. Між іншым яны адказвалі і за працу па разлажэнні партызанаў. Фармашоў, начальнік асобага аддзела пры Цэнтральным штабе, дакладваў Сталіну 27 ліпеня 1943 г. пра контрразведку ў партызанскіх атрадах і абмалёўваў задачы нямецкіх агентаў:

> Гітлераўцы накіроўваюць сваіх агентаў з заданнем раскладаць атрады. Агенты падштурхоўваюць асобных партызанаў да марадзёрства, абвастраюць адносіны паміж партызанамі і мясцовым насельніцтвам, правакуюць самавольныя расстрэлы, спрыяюць усеагульнай амаральнасці і п'янству.

[54] Тамсама.
[55] Радыёграма Жуковіча П. Панамарэнку, № 612 ад 7 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 1, арк. 340).
[56] Радыёграма Калініна Чарнышову, Гапееву, Шупеню і Сідарку, № 5618 ад 4 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 38, арк. 300).
[57] Радыёграма Калініна размеркавальнікам, № 5732 ад 8 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 39, арк. 33 і наст.).

Асобныя агенты атрымліваюць даручэнне забіваць камандзіраў ці масава атручваць партызанаў[58].

Партызаны таксама нярэдка сцвярджаюць, што немцы ўкаранялі ў атрады маладых і прыгожых жанчын, заражаных перад гэтым шляхам ін'екцыі сіфілісам. У гэтых жанчын было заданне заражаць сіфілісам камандзіраў атрадаў. Жанчынам немцы абяцалі вылечыць іх пасля выканання задання. Чарнышоў, камандзір Баранавіцкага партызанскага злучэння, сцвярджаў, што дзве такія жанчыны-шпіёнкі ў яго злучэнні заразілі сіфілісам шэсць партызанаў. Яны «на допыце» прызналіся, што атрымалі гэтае заданне ад гестапа. Чарнышоў пасля гэтага мусіў даць загад расстраляць іх[59].

Падобны выпадак вясной 1944 г. нібыта быў выкрыты асобым аддзелам брыгады імя Варашылава Вілейскага злучэння. Паводле яго расследаванняў, руская Марыя Н. летам 1943 г. была завербавана жандармерыяй у Мядзелі. Яна была хворая на сіфіліс трэцяй стадыі і атрымала заданне заразіць сіфілісам партызанаў Нарачанскай зоны. Яна пасялілася ў вёсцы на тэрыторыі зоны і мела палавыя кантакты з 20 партызанамі, два з іх захварэлі на сіфіліс, у дваіх было падазрэнне на заражэнне. Н. рэгулярна дакладвала сваім заказчыкам пра выкананне даручэння[60].

Наконт гэтых дакладаў варта падумаць, што партызаны ўвогуле, а супрацоўнікі асобых аддзелаў у прыватнасці, як правіла, катавалі падазроных, каб выбіць прызнанні. «Класічным» метадам допытаў быў «начысціць морду», які Сяргей Бельчанка, камандзір партызанскай разведкі, настойліва прапанаваў сваім падначаленым: «Іх трэба біць. Калі як след начысціць морду, то той адразу стане паслухмяным, будзе слухацца і зробіць правільныя высновы»[61].

У партызанаў былі «ў ходу» і іншыя метады допытаў, напрыклад, падазраваным прычыняліся апёкі або іх закопвалі жывымі[62]. Таксама, каб выбіць прызнанні, яны саджалі голага ў мурашнік[63]. Версія ж пра мэтанакіраванае заражэнне сіфілісам здаецца хутчэй «прызнаннем»,

[58] Начальнік асобага аддзела ЦШПР маёр дзяржаўнай бяспекі Фармашоў Сталіну пра контрразведку ў партызанскіх атрадах, 27 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14, л. 77).
[59] Стэнаграма інтэрв'ю з Васілём Чарнышовым ад 4 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 140 і наст.).
[60] Справаздача капітана Пранько пра дзейнасць асобага аддзела брыгады імя Варашылава за перыяд з 20 лютага да 14 сакавіка 1944 г., дата нечытэльная, пасля 14 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 487, арк. 173—176). Прозвішча датычнай асобы аўтар пакінуў ананімным.
[61] Стэнаграма нарады начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэгіянальных штабах партызанскага руху з намеснікам начальніка Цэнтральнага штаба па разведцы палкоўнікам Бельчанкам, 10—12 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 726, л. 197).
[62] Пратакол пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 4 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 254, арк. 42); надрукаваны ў: Studia Podlaskie. T. V. Białystok, 1995. S. 240.
[63] Пратакол размовы з Аляксандрам Моршчыным ад 9 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 91 і наст.).



атрыманым праз катаванні. Але факт, што венерычныя хваробы былі шырока распаўсюджаныя сярод партызанаў, мы яшчэ закранём.

Малаверагодным здаецца і сцвярджэнне, што шпіёны мелі заданне маральна разбэшчваць партызанскія атрады, правакуючы асобных партызанаў на рабаўніцтва і самавольныя расстрэлы. Галоўная задача інфарматараў ці шпіёнаў палягала ў зборы магчымай інфармацыі пра адпаведнае партызанскае падраздзяленне і справаздачы сваім заказчыкам, што выцякае і з выведак партызанаў[64]. Але передумовай для гэтага быў давер з боку партызанаў і, у прыватнасці, камандавання, пра што асабліва клапаціліся інфарматары / шпіёны. Доказ гэтага — выказванні выкрытых шпіёнаў[65]. Гэты давер трэба было заваяваць наступным чынам: «Выконваць усе загады, быць дысцыплінаваным, дабываць для атрада зброю, мірна ўжывацца з партызанамі, абыходзіцца з усімі ветліва»[66].

П'янства, рабаўніцтва і самавольныя расстрэлы сапраўды былі вельмі шырока распаўсюджаныя сярод беларускіх савецкіх партызанаў. Але яны тлумачыліся ўсеагульнымі з'явамі разбэшчвання сярод партызанаў і нічога не мелі агульнага з уяўнымі мэтанакіраванымі дзеяннямі нямецкіх шпіёнаў. Гэтыя сцвярджэнні, здаецца, хутчэй — спроба перакласці адказнасць за гэтыя эксцэсы на «нямецкіх шпіёнаў».

Паводле дакумента Цэнтральнага штаба без даты, які з'явіўся, магчыма, у маі ці чэрвені 1943 г., нямецкі абвер меў 57 разведвальна-дыверсійных школ, у тым ліку частку на беларускай тэрыторыі. У гэтых установах нямецкі абвер разам з СД рыхтаваў агентаў і дыверсантаў для выкарыстання іх у савецкім тыле і ў партызанскіх атрадах[67]. У агулам 23 гэтых установах нямецкія органы, паводле савецкіх дакладаў, рыхтавалі «шпіёнаў і тэрарыстаў» выключна для ўкаранення ў партызанскія атрады. Большасць гэтых устаноў знаходзіліся на беларускай тэрыторыі, у тым ліку ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Мазыры, Баранавічах, Бабруйску, Магілёве, Слуцку, Брэсце, Вілейцы[68]. У ліпені 1943 г. Беларускі штаб ведаў пра адзінаццаць школ агентаў для выкарыстання ў партызанскіх атрадах на беларускай тэрыторыі. Акрамя таго, меліся аднаразовыя курсы агентаў тэрмінам ад 2 да 3 тыдняў[69].

[64] Справаздача начальніка спецгрупы НКУС Бера пра шпіёнскія, дыверсійныя і тэрарыстычныя акцыі нямецкай разведкі і гестапа сярод партызанскіх атрадаў Беларусі, без даты, [канец красавіка — май 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 18—30).
[65] Міхаіл Брэйтман-Пятрэнка: «Мае прызнанні аб знаходжанні ў школе гестапа № 12», 13 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 41—45).
[66] Справаздача начальніка спецгрупы НКУС Бера пра шпіёнскія, дыверсійныя і тэрарыстычныя акцыі нямецкай разведкі і гестапа сярод партызанскіх атрадаў Беларусі, без даты, [канец красавіка — май 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 20).
[67] Разведвальна-дыверсійныя школы нямецкіх разведвальных органаў, без даты (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 71—74).
[68] Тамсама; начальнік асобага аддзела ЦШПР маёр дзяржаўнай бяспекі Фармашоў Сталіну пра контрразведку ў партызанскім руху, 27 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14, л. 77—80 об.).
[69] Даклад начальніка БШПР Калініна Бельчанку пра барацьбу са шпіёнамі ў Беларусі, атрыманы 23 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 74 і наст.).

Паводле атрыманых савецкіх звестак, нямецкія органы набіралі сваіх будучых агентаў з цывільных людзей, у тым ліку жанчын і дзяцей, нават з піянераў, ваеннапалонных ды з «мясцовых» злучэнняў, якія пасля вярбоўкі павінны былі ўяўна перабегчы да партызанаў. У першую чаргу немцы набіралі сваіх агентаў з людзей, «што адносіліся варожа да СССР, якія мелі крыўду на Савецкую ўладу, былі дэмаралізаваныя палітычна і этычна»[70].

На самай справе добраахвотна вербаваліся найперш ахвяры савецкага тэрору і іх блізкія, як, напрыклад, Міхаіл Барысенка. Ягоны айчым у лютым 1941 г. за «хуліганства» быў асуджаны на два гады турмы. Нямецкі напад прынёс волю айчыму, які адразу паступіў у паліцыю. Яшчэ ў жніўні 1941 г. партызаны забілі айчыма Міхаіла, а маці была цяжка параненая. У Міхаіла была важкая прычына «крыўдзіцца» на Савецкую ўладу. У той час чатырнаццацігадовы Міхаіл нібыта пасля гэтага наладзіў кантакт з начальнікам мясцовай паліцыі, каб адпомсціць за свайго айчыма і маці. Летам 1943 г. яго злавілі партызаны і на «допыце» ён прызнаўся, што шпіёніў супраць партызанаў[71].

Паводле выказванняў многіх выкрытых інфарматараў, яны даволі часта ішлі на супрацоўніцтва з немцамі, бо падвяргаліся шантажу. Асабліва лёгка было шантажаваць яўрэяў. Міхаіл Брэйтман, украінскі яўрэй, быў членам партыі і паліткамісарам танкавай роты 4-й танкавай дывізіі. 11 жніўня 1941 г. ён трапіў у палон да немцаў, дзе ён выдаў сябе за ўкраінца, інакш як яўрэй ды яшчэ камісар ён быў бы тут жа расстраляны. У верасні 1941 г. ён добраахвотна запісаўся ў 46-ы ўкраінскі батальён у Мінску. Аднак неўзабаве ён быў выкрыты як яўрэй, і камандзір батальёна праз шантаж завербаваў яго ў агенты. Ён атрымаў заданне шпіёніць за людзьмі батальёна. Брэйтман нават стаў потым у батальёне камандзірам узвода[72].

У ліпені 1942 г. камандзір батальёна накіраваў Брэйтмана на трохмесячныя курсы агентаў у канцэнтрацыйны лагер Малы Трасцянец, за 12 км на ўсход ад Мінска. Пасля курсаў Брэйтман вярнуўся ў батальён і дзейнічаў як агент-рэзідэнт. У лютым 1943 г. ён быццам перабег з групай з васьмі іншых людзей батальёна да партызанаў. Ён прыйшоў з яшчэ двума агентамі-перабежчыкамі ў атрад імя Суворава брыгады «Дзядзькі Васі», якая дзейнічала ў Вілейскай вобласці. Аднак адзін з агентаў неўзабаве выклікаў падазрэнне, ён п'яны ганьбіў Сталіна, іншых партыйных дзеячаў і камуністычную сістэму. Паводле даносу, асобы аддзел брыгады арыштаваў яго. На допыце ён прызнаўся, што з'яўляецца нямецкім агентам і адразу ж выдаў астатніх, у тым ліку і

[70] Дакладная запіска начальніка разведвальнага аддзела БШПР Скрынніка пра метады вярбоўкі агентаў з боку гестапа, без даты, [красавік 1943 г., да 19 чысла] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 88, л. 23).

[71] Пратакол допыту Міхаіла Барысенкі, праведзенага Смірновым, без даты. На палях дакумента нататка ад 27 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, л. 75 і наст.).

[72] Справаздача начальніка спецгрупы НКУС Бера пра шпіёнскія, дыверсійныя і тэрарыстычныя акцыі нямецкай разведкі і гестапа сярод партызанскіх атрадаў Беларусі, без даты, [канец красавіка — май 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 24).



Брэйтмана. Асобы аддзел арыштаваў і дапытаў і яго. Брэйтман таксама прызнаўся і выдаў дэталёвую інфармацыю, у тым ліку пра курсы агентаў[73]. Яго дэталёвыя звесткі не пакідалі сумнення ў тым, што Брэйтман сапраўды скончыў гэтыя курсы. Усе выкрытыя ў атрадзе імя Суворава агенты былі расстраляныя[74].

Не ўсе выпадкі з «агентамі-яўрэямі» былі такія ясныя, як з Брэйтманам. У ліпені 1943 г. Пiліп Пестрак, савецкі актывіст і партызан у Палескай вобласці, абмаляваў наступны выпадак:

> Нядаўна тры яўрэі прыйшлі ў атрад імя Шчорса злучэння Сабурава, якія аказаліся нямецкімі шпіёнамі. Яны прыйшлі і адрэкамендаваліся шаўцамі: «Вазьміце нас, мы будзем працаваць». Аднак пазней, калі партызаны прыціснулі іх як след, яны прызналіся, што прыйшлі па даручэнні немцаў, каб выведаць пра партызанскі лагер. [...] Іх расстралялі[75].

Аляксандр Моршчын, партызанскі камандзір у Беларусі, у снежні 1942 г. дакладваў пра падобны выпадак, калі нібыта агент-яўрэй быў выкрыты ў яго падраздзяленні:

> Начальнік крымінальнага вышуку Крупскага раёна Іваноў паслаў аднаго яўрэя па прозвішчы Шыст у мой атрад, даўшы яму даручэнне падлажыць атруту ў штабную кухню. Але той папаўся, кухар заўважыў гэта. Спачатку ён [Шыст] не прызнаваўся, але мы прынялі меры: распранулі і — на мурашнік. Вядома, што ён прызнаўся[76].

Такімі метадамі допытаў можна было выбіць у большасці «падазраваных» практычна любое прызнанне.

Сярод партызанаў панавала абумоўленая асабліва цяжкімі акалічнасцямі партызанскай вайны і жыццяя шпіёнаманія, ахвярамі якой сталі часткова і яўрэі. Для яўрэяў жа ўцёкі да партызанаў былі адзіным рэальным шанцам выжыць. У рамках гэтага даследавання немагчыма зверыць шматлікія звесткі пра «агентаў-яўрэяў». Але відавочна, што не толькі партызаны ў лясах, але і партызанскае кіраўніцтва ў надзейным савецкім тыле былі ўпэўненыя ў правільнасці гэтых звестак.

Начальнік разведвальнага аддзела Беларускага штаба ў красавіку 1943 г. у дакладной запісцы пра нямецкіх агентаў, сярод іншага, канстатаваў:

[73] Тамсама; справаздача агента гестапа Брэйтмана пра яго знаходжанне ў школе гестапа, № 12 ад 13 красавіка 1943 г. (Тамсама. Л. 41—45).

[74] Стэнаграма нарады начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэгіянальных штабах партызанскага руху з намеснікам начальніка Цэнтральнага штаба па разведцы палкоўнікам Бельчанкам, 10—12 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 726, л. 22).

[75] Пратакол размовы з Пiліпам Пестраком ад 10 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 69).

[76] Пратакол размовы з Аляксандрам Моршчыным ад 9 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 91 і наст.).

Немцы выкарыстоўваюць яўрэяў у партызанскіх атрадах у якасці агентаў. Яны для гэтага асабліва прыдатныя, бо партызаны ведаюць, што немцы жорстка пераследуюць яўрэяў. Партызаны з гэтай прычыны будуць асабліва давяраць яўрэям[77].

У жніўні 1943 г. Каралёў, партыйны работнік, дакладваў пра становішча ў Мінскай вобласці, у тым ліку пра яўрэйскае пытанне, у прыватнасці пра злачынствы немцаў у дачыненні да яўрэяў у горадзе Мінску. Але ён паведамляў таксама, што немцы набіраюць яўрэяў у якасці агентаў, якіх яны рыхтуюць на дзевяцімесячных курсах у Мінску і Барысаве. Пасля гэтага немцы насаджаюць «агентаў-яўрэяў» у гарадах і ў партызанскіх атрадах, каб атручваць партызанаў і камандзіраў. У Мінскай вобласці, па яго словах, ужо выкрыта шмат такіх агентаў[78].

Каралёў быў не адзін, хто распаўсюджваў такую інфармацыю. У чэрвені 1943 г. Сарычаў, партызанскі камандзір з Мінскай вобласці, перадаваў па радыё Цэнтру:

Мінскае гестапа выпусціла больш за сотню яўрэяў і яўрэек, іх накіравалі ў партызанскія атрады, каб атручваць камандзіраў і палітрукоў. У Хазяйнінскім лесе былі затрыманыя пяць яўрэек, у іх рукавах і прычосках была знойдзена моцная атрута. Яны атруцілі калодзеж, два партызаны памерлі. Яны сказалі, што яўрэі, якія ў апошнія месяцы прыйшлі ў партызанскія атрады, найбольш з гета, пасланыя гестапа[79].

Беларускі штаб пасля гэтага засцярог усе брыгады наконт магчымых «шпіёнаў-яўрэяў»[80]. З трагічнымі вынікамі, як піша Няхама Тэц:

Летам 1943 г. распаўсюдзіліся д'ябальскія чуткі. Людзі шапталіся, што яўрэі накіраваны немцамі ў лясы са спецыяльным заданнем атручваць рускіх партызанаў. Немцы быццам накіроўвалі туды жанчын, заражаных венерычнымі хваробамі. [...] Для нейкага партызана-антысеміта такія шырока распаўсюджаныя паклёпы апраўдвалі здзекі з яўрэяў і нават іх забойствы[81].

[77] Дакладная запіска начальніка разведвальнага аддзела БШПР Скрынніка пра метады вярбоўкі агентаў з боку гестапа, без даты, [красавік 1943 г., да 19 чысла] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 88, л. 24).
[78] Даклад члена ЦК КП(б)Б Каралёва П. Панамарэнку ад 10 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 20, л. 578—579 об.).
[79] Радыёграма Сарычава П. Панамарэнку і Калініну, № 3908 ад 27 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 8, арк. 342). Паведамленне было ўключана ў разведвальную справаздачу № 38 БШПР ад 30 чэрвеня 1943 г. з прыпіскай «да ведама ўсіх брыгад». Гл.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 849, л. 169.
[80] Прыведзенае вышэй паведамленне было даслоўна ўключана ў разведвальную справаздачу БШПР № 38 ад 30 чэрвеня 1943 г. з заўвагай: «Меры: распараджэнні наконт гэтага пытання дадзеныя ўсім брыгадам». Справаздача падпісаная начальнікам БШПР Калініным і начальнікам разведаддзела БШПР Скрыннікам (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 849, л. 169).
[81] Тес N. Bewaffneter Widerstand... S. 181.



Няхама Тэц у сваёй кнізе апісвае забойства некалькіх жанчынъяўрэек, уцякачак з гета, прычым яе цытуе Гірш Смоляр, камісар аднаго з атрадаў Баранавіцкага партызанскага злучэння:

Я [Гірш Смоляр] зрабіў жудасны скандал у штабе. Я паведаміў, што нашыя людзі забілі яўрэек. Я патрабаваў справядлівасці. Усё, што мог сказаць наконт гэтага савецкі камандзір [мусіць, Чарнышоў], было, што ў рэшце рэшт гэта вайна, і атрымана ўказанне, што немцы накіравалі яўрэек у лясы, каб атручваць ежу партызанаў. Гэта было яго апраўданнем забойства. Нічога не змянілася[82].

Чарнышоў сам дакладваў у снежні 1944 г., што ён асабіста выкрыў двух шпіёнаў, якія з'явіліся ў яго падраздзяленні. Гаворка ішла пра аднаго яўрэя і адну жанчыну яўрэйска-ўкраінскага паходжання, што выдавалі сябе за мужа і жонку. Ён адразу ж пасля іх з'яўлення распарадзіўся іх арыштаваць, а пры ператрусе знайшлі атруту, якую ўсыпалі ў малако і затым далі выпіць кошцы. Кошка адразу ж здохла. Шпіёнаў пасля гэтага адразу павесілі[83].

Паводле партызанскіх рапартаў, немцы ў якасці шпіёнаў высылалі і дзяцей. Юрын, камандзір групы НКУС у Віцебскай вобласці, дакладваў Панамарэнку 25 мая 1942 г.:

Фашысты вярбуюць сваіх агентаў пераважна сярод людзей, блізкіх нам. Яны ставяць карту на тое, што гэтыя людзі не выклічуць у нас падазрэння: дзеці ад 8 да 15 гадоў, камсамольцы, піянеры, яўрэі[84].

Юрын называе ў сваім дакладзе шмат прыкладаў выяўленых меркаваных агентаў з гэтых партызанскіх груп, якія пагалоўна былі расстраляныя. І іншыя партызанскія камандзіры паведамлялі пра дзяцейагентаў. 12 красавіка 1943 г. Крыцкі з аператыўнай групы Беларускага штаба ў Віцебскай вобласці перадаваў па радыё:

Праціўнік пачаў накіроўваць дзяцей мясцовых жыхароў ва ўзросце ад 8 да 15 гадоў у аператыўную зону з мэтай правядзення тэрарыстычных актаў. 7 красавіка [1943 г.] быў затрыманы ў вёсцы Міхалкова 8-гадовы хлопчык з пісталетам і атрутным парашком. У яго было заданне знішчыць каманды склад. З гарнізона Заполле былі накіраваныя ў Суражскую зону 4 групы па 2—3 чалавекі. Абавязкова папярэдзіць атрады[85].

[82] Цыт. паводле: Tec N. Ich wollte retten. Die unglaubliche Geschichte der Bielski-Partisanen. Berlin, 2002. S. 244.
[83] Стэнаграма інтэрв'ю з Васілём Чарнышовым ад 4 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 161 і наст.).
[84] Даклад начальніка аператыўнай групы НКУС у Віцебскай вобласці Юрына П. Панамарэнку пра барацьбу з нямецкімі шпіёнамі, 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 854, л. 25).
[85] Радыёграма Крыцкага з аператыўнай групы БШПР Калініну, № 861 ад 12 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 4, арк. 181).

Боязь атручвання нямецкімі агентамі (дзеці, жанчыны, яўрэі) была шырока распаўсюджаная ў партызанскіх атрадах і павялічвала і без таго пануючую шпіёнаманію сярод партызанаў. Нават лекары і фельчары, якія пільна былі патрэбныя партызанскім атрадам з прычыны шматлікіх хворых і параненых, знаходзіліся пад падазрэннем, што яны мэтанакіравана падсаджаныя немцамі, каб атручваць партызанаў. 11 лістапада 1943 г. Беларускі штаб перасцерагаў камандзіраў партызанскіх злучэнняў у Беларусі:

> У верасні [1943 г.] нямецкая разведка накіравала з горада Наваград-Валынскі 46 лекараў і фельчараў у партызанскія атрады, каб учыніць масавае атручванне партызанаў. Папярэдзіць усе атрады. Праверыць усіх медыкаў, якія ў апошні час былі прыняты ў атрад, іх неабходна ўзяць пад строгі нагляд[86].

Паводле савецкіх звестак, многія нямецкія агенты прыходзілі ў атрады з легендай, што яны ўцяклі ў лес ад дэпартацыі ў Германію. Скрыннік паведамляў у чэрвені 1943 г.:

> Выявілася, што траціна бежанцаў — агенты праціўніка. Іх рыхтавалі ў школах Мінска, Бабруйска і Асіповічаў. [...] Яны ўцяклі пасля арышту, саскочылі з вагонаў і ўцяклі ў атрады, [...] Гэта легенда[87].

Боязь нямецкіх шпіёнаў, якія сапраўды ўяўлялі сабой вялікую небяспеку, вызначала штодзённае жыццё партызанаў. І партызаны рэагавалі на гэта ўсеагульнымі падазрэннямі, яны катавалі падазраваных і расстрэльвалі іх. Застрэленыя ці закатаваныя да смерці былі не толькі «выкрытыя» агенты, але і іх сем'і. Цімафей Шаблоўскі, член партыі з 1932 г., партызан атрада «Барацьба» ў Бягомльскім раёне, паведамляў у студзені 1943 г.:

> 23 жніўня [1942 г.] я расстраляў чатыры сям'і, якія жылі ў мястэчку Мсціж [...]: 1) Фірага Іосіф Фёдаравіч — агент гестапа [...] Яго сям'я: жонка, каля 45 год, чатыры сыны 18, 14, 12 і 10 гадоў, дачка 9 гадоў і цешча, 55 [sic] гадоў; 2) Рэзнічэнка — 35 гадоў. Швагра Фірагі, які пра прыход партызанаў у Мсціж адразу паведаміў у гестапа. [...] Яго сям'я — жонка Эмілія, 30—35 год, і 1,5-гадовы сын [...]; 3) Шыла Міхаіл — 50 гадоў, сваяк паліцая Тарасевіча Мікалая, ён увесь час перадаваў гестапа і паліцыі інфармацыю пра партызанаў. Яго сям'я — жонка Ксенія, 45 гадоў; 4) Юшкевіч, мая цётка, 60 гадоў, таксама інфарматарка, яна выдавала інфармацыю пра партызанаў.

[86] Радыёграма Ганенкі з БПШР Кожару, Вятрову, Васільеву, Маўчанскаму, Сяргею, Каржу, Чарнышову, № 6857 ад 10 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 41, арк. 350).

[87] Стэнаграма нарады начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэгіянальных штабах партызанскага руху з намеснікам начальніка Цэнтральнага штаба па разведцы палкоўнікам Бельчанкам, 10—12 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 726, л. 23).



> Усіх згаданых тут я расстраляў, за выключэннем Фірагі Іосіфа Фёдаравіча, які знаходзіўся ў Плешчаніцах, і яго двух малодшых сыноў[88].

Шаблоўскі застрэліў толькі ў адзін дзень 11 чалавек, у тым ліку 1,5-гадовае дзіця і сваю цётку, за тое, што яны былі нямецкімі агентамі. Асабліва недаверліва партызаны ставіліся да леснікоў і перабежчыкаў. У жніўні 1943 г. партызаны Гомельскага злучэння «выкрылі» ў Лоеўскім раёне восем леснікоў з Амелькаўскага лясніцтва як меркаваных шпіёнаў. Яны былі занадта цікаўнымі, таму ўзятыя пад нагляд і, «выкрытыя» як шпіёны, расстраляныя. У чэрвені 1943 г. да партызанаў Гомельскага злучэння перабег немец. Ён прывёў з сабой пяць чырвонаармейцаў, якіх ён вызваліў з палону. Перабежчык выдаваў сябе за нямецкага камуніста. Аднак упаўнаважаны асобага аддзела Горхаў хутка «выкрыў» яго як нямецкага агента. Горхаў быццам знайшоў у перабежчыка шыфравальную кнігу і спісы агентаў[89].

Не больш пашанцавала і 4 з 12-ці французскіх перабежчыкаў, якія ў лютым 1943 г. прыйшлі ў партызанскую брыгаду імя Шчорса, што дзейнічала на ўсход і паўночны ўсход ад Мінска. Яны раней добраахвотна запісаліся на барацьбу супраць бальшавізму, а потым пасля Сталінграда перадумалі. Асобы аддзел брыгады ўзяў іх пад нагляд і неўзабаве «выкрыў» сярод іх чатырох шпіёнаў, якімі кіраваў унтэрафіцэр Рэнэ Лілі [прозвішча так у арыгінале][90].

Прыведзеныя тут прыклады «выкрытых шпіёнаў» зусім не былі адзінкавымі выпадкамі. 6 красавіка 1943 г. Мінскае Паўднёвае партызанскае злучэнне, што налічвала 3 266 партызанаў, дакладвала пра 72 «агенты гестапа», якія ў сакавіку 1943 г. былі выкрытыя і «знішчаныя» ў шэрагах злучэння[91]. Супрацоўнікі асобага аддзела брыгады імя Шчорса, што дзейнічала на ўсход і поўнач ад Мінска, расстралялі да пачатку снежня 1943 г., паводле ўласных дадзеных, 121 «ворага Савецкай улады» як «нямецкіх шпіёнаў». Сюды дадаваліся 62 шпіёны, што былі выкрытыя і расстраляны ў шэрагах партызанаў брыгады[92]. Начальнік аддзела разведкі ў Беларускім штабе палкоўнік Скрыннік заяўляў у чэрвені 1943 г.:

[88] Тлумачэнне партызана Цімафея Шаблоўскага ад 28 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 30, арк. 27 і наст.).

[89] Даклад сувязнога афіцэра БШПР Ігнаценкі пра партызанскае злучэнне Гомельскай вобласці ад 27 верасня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 179 і наст.). Сцверджанне, што пры перабежчыку знайшлі важныя дакументы, якія выкрывалі яго як шпіёна, здаецца неверагодным.

[90] Справаздача намесніка камандзіра брыгады Заварыкіна пра разведвальную працу, разведку і контрразведку ў партызанскай брыгадзе імя Шчорса, без даты, [паміж 10 і 29 снежня 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 862, л. 81).

[91] Радыёграма Казлова Калініну, № 714 ад 7 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 4, арк. 74).

[92] Даклад кіраўніка разведаддзела брыгады імя Шчорса Заварыкіна пра барацьбу са шпіёнамі, без даты, [снежань 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 4, л. 72—77).

Толькі ў брыгадзе Пруднікава мы маем больш за 50 выкрытых агентаў, у брыгадзе «Дзядзькі Васі» — звыш 40. [...] За апошнія пяць месяцаў — студзень—май [1943 г.] — у нас не было ніводнай брыгады, у якой было б выкрыта менш за 10 агентаў[93].

Як хутка партызаны маглі расстраляць меркаванага шпіёна, нагляд-на паказваюць наступныя прыклады. Сведка з Кветчы Бягомльскага раёна паведаміў аўтару пра аднаго маладога чалавека, які прыйшоў да маці ў вёску. Партызаны заявілі, што гэты чалавек — шпіён, і расстралялі яго разам з маці. Партызаны такім чынам пастралялі шмат людзей[94]. Надзея Левандоўская з вёскі Карпілаўка (Лагойскі раён) заявіла ў інтэрв'ю з аўтарам: «Партызаны сядзелі ў лясах, і туды нель-га было хадзіць, таму што партызаны адразу забівалі. Шмат людзей загінула такім чынам. Людзі баяліся ісці ў лес»[95]. У Палескай вобласці члены дыверсійнай групы ГРУ Чорнага расстралялі шмат цывільных людзей, якіх яны сустрэлі паблізу іх лагера, калі яны збіралі ягады, грыбы, нарыхтоўвалі дровы ці касілі сена. Дыверсанты ГРУ стралялі ў цывільных людзей з вінтовак з глушыцелямі[96].

Пра колькасць застрэленых людзей няма статыстыкі. Начальнік асо-бага аддзела 6-й партызанскай брыгады, якая дзейнічала ў Магілёўскай вобласці, дакладваў 9 ліпеня 1943 г.: «Здараюцца выпадкі, што партыза-ны расстрэльваюць людзей, а камандзіры пра гэта нічога не ведаюць»[97].

Праўда, меліся падраздзяленні, якія не так актыўна палявалі на «шпіёнаў». Партызаны 13-й партызанскай брыгады (920 чала-век) пад камандаваннем Мазура выкрылі ў сваіх шэрагах за перыяд з 16 красавіка да 1 кастрычніка 1943 г., паводле ўласных дадзеных, «толькі» пяць здраднікаў і сем шпіёнаў сярод насельніцтва, якіх расстралялі[98]. Адносна стрыманымі ў паляванні на «шпіёнаў», здаец-ца, былі і партызаны Гомельскай вобласці. Усе восем брыгад і тры са-мастойныя атрады Паўднёвай зоны, як сцвярджаецца, да 15 жніўня 1943 г. расстралялі «толькі» 209 шпіёнаў[99].

[93] Стэнаграма нарады начальнікаў разведвальных аддзелаў пры рэгіянальных шта-бах партызанскага руху з намеснікам начальніка Цэнтральнага штаба па разведцы палкоўнікам Бельчанкам, 10—12 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 726, л. 18, 23); Скрыннік заявіў незадоўга да гэтага (арк. 18 пратакола): «Амаль што няма ніводнай брыгады (атрады ёсць), у якой не было б выяўленых шпіёнаў гестапа».

[94] Інтэрв'ю аўтара з Аляксандрам Булакоўскім...

[95] Інтэрв'ю аўтара з Надзеяй Левандоўскай...

[96] Начальнік БШПР Калінін П. Панамарэнку, 31 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 345 і наст.).

[97] Справаздача начальніка асобага аддзела 6-й партызанскай брыгады начальніку аператыўна-чэкісцкай групы пры Магілёўскім абкаме Стэльмаху, ад 9 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1350, воп. 1, спр. 28, арк. 6—7 адв.).

[98] Баявая справаздача 13-й партызанскай брыгады за перыяд з 16 красавіка да 1 кастрычніка 1943 г., 2 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 102).

[99] Табліца баявых дзеянняў злучэння Гомельскай вобласці (Паўднёвая зона) у перыяд з 15 жніўня 1941 г. да 15 жніўня 1943 г., складзеная камандзірам злучэння, 1 верасня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 33).



Агульнай лічбы сапраўдных і меркаваных агентаў і членаў іх сем'яў, якіх савецкія партызаны застрэлілі, забілі ці закатавалі да смерці, у аўтара няма. Поўнага спіса і не будзе, таму што не пра ўсіх «ліквідаваных» агентаў было дакладзена і ўлічана агулам, хоць такія спробы былі. 6 ліпеня 1943 г. Бельчанка запатрабаваў ад усіх рэгіянальных штабоў да 10 ліпеня дalaжыць пра агульную коль-касць выкрытых партызанамі шпіёнаў[100]. У наступныя дні жаданыя дадзеныя паступілі[101], і Фармашоў на іх грунце склаў агульны да-клад, які ён прадставіў Сталіну. Паводле яго, савецкія партызаны з 1942 г. да ліпеня 1943 г. выкрылі ў партызанскіх атрадах агулам 1 277 агентаў ворага, большасць з іх (944) — у Беларусі. Па Украіне, Латвіі, Эстоніі і Літве ў Фармашова, праўда, не было ніякіх дадзе-ных[102].

Разведаддзел Цэнтральнага штаба паведамляў у сваёй справазда-чы за перыяд з мая 1943 г. да студзеня 1944 г., што за гэты час савецкія партызаны выкрылі агулам 3 637 шпіёнаў, прычым большасць з іх былі расстраляныя. У Беларусі, паводле гэтых дадзеных, былі выкры-тыя 1 075 шпіёнаў, па Украіне не было дадзеных[103].

Пададзеныя Фармашовым лічбы пра 944 «выкрытых шпіёнаў» у Беларусі да чэрвеня 1943 г. і пра 1 075 (май 1943 г. — студзень 1944 г.) няпоўныя, бо сапраўдныя лічбы, без сумнення — большыя. Напрыклад, Фармашоў назваў у сваім дакладзе ад 27 ліпеня 1943 г. лічбу 76 «шпіёнаў», якія былі выкрытыя ў Гомельскай вобласці[104]. Камандзір жа злучэння Гомельскай вобласці Паўднёвай зоны дакладваў пра 209 расстраляных шпіёнаў у перыяд з 15 жніўня 1941 г. да 15 жніўня 1943 г.[105]. Аднак у Гомельскай вобласці былі падраздзяленні, якія не ўваходзілі ў злучэнне. Па Вілейскай вобласці Фармашоў дакладваў пра 27 выкрытых шпіёнаў. Паводле даклада камандавання Вілейскага партызанскага злучэння, асобыя аддзелы злучэння толькі ў снежні 1943 г. выкрылі мінімум 52 нямецкія аген-ты, і менавіта паводле «няпоўных дадзеных»[106]. Па Баранавіцкай вобласці Фармашоў дакладваў пра 17 выкрытых шпіёнаў. Паводле даклада Баранавіцкага партызанскага злучэння, толькі супрацоўнікі асобых аддзелаў расстралялі ў партызанскіх атрадах з мая па ве-

[100] Бельчанка Папову, Калініну, Мацвееву і інш., 6 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14, л. 63).

[101] Асобныя справаздачы ў: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14, л. 65—76.

[102] Начальнік асобага аддзела ЦШПР маёр дзяржаўнай бяспекі Фармашоў Сталіну пра контрразведку ў партызанскім руху, 27 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14).

[103] Выніковая справаздача пра дзейнасць разведвальнага аддзела ЦШПР ад 5 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 721, л. 53).

[104] Тамсама. Л. 80.

[105] Табліца баявых дзеянняў злучэння Гомельскай вобласці (Паўднёвая зона) у перыяд з 15 жніўня 1941 г. да 15 жніўня 1943 г., складзеная камандзірам злучэння, 1 верасня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 33).

[106] Паведамленне Манахава і Саснова аб мерах асобых аддзелаў Вілейскага злу-чэння ў сферы НКДБ, без даты, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 478, арк. 257 і наст.).

расень 1943 г. больш за 500 «варожых элементаў», з іх 130 былі «агентамі гестапа»[107].

Сярод 500 «варожых элементаў і шпіёнаў» знаходзілася 30-гадовая Гелена Арыга і яе 10-гадовая дачка з вёскі Кляцішча ў Налібоцкай пушчы, якія 15 ліпеня 1943 г. былі расстраляныя савецкімі партызанамі. У вёсцы Кляцішча ў гэты час знаходзіўся штаб злучэння пад камандаваннем Чарнышова. Гелена Арыга ў сапраўднасці была не нямецкай агенткай, а быццам шпіёніла на карысць польскіх партызанаў і за гэта была расстраляна разам з 10-гадовай дачкой[108].

Сёння на маленькіх могілках пасярэдзіне вёскі Кляцішча стаіць помнік з польскім надпісам з датай смерці і імёнамі расстраляных маці і дачкі. На пытанне аўтара, ці не расстраляныя яны, магчыма, немцамі, сведка спадарыня Ланкевіч адказала, што не, і, відавочна расхваляваўшыся, распавяла, што абедзве былі расстраляныя савецкімі партызанамі як шпіёны «легіёнаў» (польскіх партызанаў), а каля іх помніка нельга запыняцца, не кажучы ўжо, каб памінаць. Наглядны прыклад, як яшчэ і сёння табуізуюцца ахвяры савецкіх партызанаў у Беларусі.

## 4. Асобыя аддзелы ў барацьбе за дысцыпліну

Асобыя аддзелы займаліся не толькі контрразведкай, а ў першую чаргу тым, каб падтрымліваць ці ўсталёўваць дысцыпліну і баяздольнасць асобных партызанскіх падраздзяленняў, як, напрыклад, у Магілёўскай вобласці. Летам 1943 г. ва ўсіх партызанскіх падраздзяленнях Магілёўскай вобласці дзейнічалі асобыя аддзелы[109]. Іх неабходнасць палягала ў тым, каб стрымаць у партызанскіх атрадах з'явы разлажэння, якія шырока распаўсюдзіліся і прагрэсіравалі.

У красавіку 1943 г. начальнікі асобых аддзелаў атрымалі загад строга караць за любыя парушэнні дысцыпліны, у прыватнасці рабаўніцтва, гвалтаванні, п'янства і крадзяжы. Партыйнае кіраўніцтва вобласці адначасова забараніла «самавольна збіваць, самавольна расстрэльваць цывільных людзей і ўчыняць падпалы»[110]. Бо нярэдка былі выпадкі, што асобныя камандзіры расстрэльвалі сялян толькі за тое, што тыя

[107] Паведамленне Чарнышова, Армянінава і Царука пра варожыя гарнізоны на аператыўнай тэрыторыі партызанаў Баранавіцкага злучэння і пра контрразведку па стане на 1 кастрычніка 1943 г., без даты (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 8, арк. 56).

[108] Інтэрв'ю аўтара з Леакадзіяй Ланкевіч... 29 жніўня 2006 г. У гэты час, летам 1943 г., мясцовыя польскія партызаны дамагаліся супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі. А тыя, пад камандаваннем Чарнышова, рыхтавалі аперацыю знішчэння польскіх партызанаў, пра што яшчэ будзе гаворка падрабязна.

[109] 3 мая 1943 г. Магілёўскі падпольны абкам выдаў распараджэнне ўвесці ва ўсіх падраздзяленнях пасаду ўпаўнаважаных асобых аддзелаў. Гл.: Вытрымка з пратакола № 7 пасяджэння Магілёўскага падпольнага абкама ад 3 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 1350, воп. 1, спр. 35, арк. 1).

[110] Загад № 18 ад 25 красавіка 1943 г. сакратара Магілёўскага абкама Маўчанскага брыгадам і аператыўным групам у Магілёўскай вобласці (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 101).



не выконвалі іх патрабаванняў. Без дазволу асобага аддзела цяпер ужо нельга было расстрэльваць цывільных. Камандзіры, аднак, мелі і надалей права ліквідаваць шпіёнаў, калі меліся грунтоўныя доказы, але абгрунтаванні яны павінны былі потым прад'явіць асобаму аддзелу[111].

Некаторыя камандзіры з гэтымі мерамі зайшлі так далёка, што дашчэнту спальвалі цэлыя вёскі. У адной радыёграме Беларускаму штабу ад 5 лютага 1943 г. гаварылася:

> Камандзір 680-га атрада Міхалап займаецца тэрорам. У снежні [1942 г.] ён спаліў вёску Доўгае. Нягледзячы на наша папярэджанне, ён спаліў 30 студзеня [1943 г.] вёску Асавец[112].

680-ы атрад пад камандаваннем Міхалапа ўваходзіў у Клічаўскае партызанскае злучэнне. Міхалап не быў выключэннем. Камандзір 1-га атрада брыгады «Звязда» спаліў у жніўні 1942 г. з помсты вёску Давыдаўка ў 34 хаты, таму што немцы забілі ягоную каханку. Пасля гэтага ён быў расстраляны[113]. Асобыя аддзелы атрымалі таксама заданне весці барацьбу з панікёрамі, здраднікамі і шпіёнамі.

Як выявілася, гэта было неабходна, бо ў кожным атрадзе былі ў сярэднім ад 4 да 7 партызанаў, якія ў «цяжкія моманты» перабягалі да ворага, асабліва ў час нямецкіх антыпартызанскіх аперацый. Перабежчыкі потым выдавалі партызанскія базы. Здараліся таксама выпадкі, калі партызаны ў цяжкіх сітуацыях кідалі зброю і ўцякалі[114].

З падобнымі праблемамі павінна было змагацца партыйнае і партызанскае кіраўніцтва і ў Віцебскай вобласці. У чэрвені 1943 г. сакратар абкама настойліва прасіў прысылкі вопытных чэкістаў. Яны павінны былі арганізаваць разведвальную дзейнасць у атрадах Віцебскага партызанскага злучэння, каб стрымаць дэзерцірства і пераход партызанаў на бок ворага. Гэта ставілі ў віну нямецкім шпіёнам, якія ажыццяўлялі ў атрадах дзейнасць па іх разлажэнні і дамагліся ў гэтым «такіх-сякіх поспехаў». Пра гэта сведчаць «выпадкі пераходу да ворага і ўцёкаў з атрадаў. Напрыклад, у маі [1943 г.] з атрада Курмялёва 1-й Беларускай партызанскай брыгады дэзерціравалі дзевяць чалавек, з брыгады імя Кутузава — 6. Аналагічныя выпадкі здараюцца і ў іншых брыгадах»[115].

Асобыя аддзелы пры партызанскіх падраздзяленнях Мінскай зоны таксама атрымалі ў лютым 1943 г. заданне навесці дысцыпліну сярод партызанаў, якія страцілі ўсялякую меру. У прыватнасці, гаворка

[111] Пратакол размовы з Іванам Мотылем, сакратаром Магілёўскага абкама камсамола, 7 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 36—38 об.).

[112] Радыёграма радыёстанцыі атрада Зайца (Кубіна) у БШПР, № 549 ад 5 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 1, арк. 312).

[113] Вытрымка з даклада падпольнай тройкі ад 19 кастрычніка 1942 г., Уласаў (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 242).

[114] Пратакол размовы з Іванам Мотылем, сакратаром Магілёўскага абкама камсамола, 7 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 36—38 об.).

[115] Паведамленне сакратара Віцебскага абкама Жыляніна П. Панамарэнку і Калініну пра стан партызанскага руху ў Віцебскай вобласці, 18 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 857, л. 13 об.).

ішла пра самавольныя расстрэлы цывільных людзей, што неабходна было неадкладна спыніць. Расстрэльваць можна было толькі з дазволу супрацоўнікаў асобых аддзелаў[116].

Сярод першых захадаў Васіля Чарнышова пасля яго з'яўлення ў Баранавіцкай вобласці ў якасці камандзіра Баранавіцкага партызанскага злучэння ў красавіку 1943 г. было ўтварэнне ва ўсіх брыгадах і атрадах асобых аддзелаў. Іх задачай была барацьба супраць усялякіх магчымых агентаў ды «барацьба са злачыннымі элементамі сярод партызанаў»[117]. І гэта было пільна неабходна, бо цэлыя партызанскія падраздзяленні займаліся рабаўніцтвам і гвалтоўнымі дзеяннямі аднosна цывільнага насельніцтва і амаль ці зусім не змагаліся супраць нямецкіх акупантаў[118].

Супрацоўнікі асобых аддзелаў вербавалі ў свае падраздзяленні агентаў і стваралі там цэлыя агентурныя сеткі, каб трымаць партызанаў пад кантролем. У суадносінах з колькасцю партызанаў у адпаведных падраздзяленнях лічба агентаў часта была даволі высокай. У брыгадзе імя Шчорса (1 672 партызаны) асобы аддзел меў сетку з 139 агентаў (8,3 % асабовага складу), якія шпіёнілі за таварышамі і адзін за адным[119]. У Баранавіцкім злучэнні асобыя аддзелы за чатыры месяцы (май—верасень 1943 г.) стварылі сярод партызанаў сетку з 300 агентаў. Праўда, гэтыя дадзеныя няпоўныя. Сюды трэба дадаць яшчэ і агентаў, якія падпарадкоўваліся непасрэдна штабу[120].

На асобы аддзел брыгады «Дзядзькі Колі» (Барысаўская зона) у лютым 1944 г. сярод прыкладна 1 500 партызанаў брыгады працавалі 86 агентаў, 6 рэзідэнтаў і 72 інфарматары[121]. Ва ўсёй Барысаўскай зоне з агулам 10 597 партызанамі дзейнічалі па даручэнні асобых аддзелаў сярод партызанаў 937 агентаў (78 рэзідэнтаў, 205 агентаў, 688 інфарматараў)[122]. Такім чынам, 8,8 % партызанаў у зоне былі агентамі асобых аддзелаў.

Аднак начальнікі асобых аддзелаў не заўсёды выконвалі пастаўленыя перад імі задачы. Здаралася, што асобныя начальнікі

[116] Паведамленне пра меры падпольных органаў партыі ў Беларусі ў барацьбе з рабаўніцтвам, самагонаварэннем і амаральнымі з'явамі ў партызанскіх атрадах, без даты, [вясна 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 304 і наст.).

[117] Паведамленне Чарнышова, Армянінава і Царука пра варожыя гарнізоны на аператыўнай тэрыторыі партызанаў Баранавіцкага злучэння і пра контрразведку па стане на 1 кастрычніка 1943 г., без даты (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 8, арк. 50).

[118] Параўн. на гэты конт: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 151—181.

[119] Справаздача намесніка камандзіра брыгады Заварыкіна пра разведвальную працу, разведку і контрразведку ў партызанскай брыгадзе імя Шчорса, без даты, [паміж 10 і 29 снежня 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 862, л. 80).

[120] Паведамленне Чарнышова, Армянінава і Царука пра варожыя гарнізоны на аператыўнай тэрыторыі партызанаў Баранавіцкага злучэння і пра контрразведку па стане на 1 кастрычніка 1943 г., без даты (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 8, арк. 55 і наст.).

[121] Справаздача Белавусава пра дзейнасць асобага аддзела брыгады «Дзядзькі Колі» за люты 1944 г., 10 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 74, арк. 60 і наст.).

[122] Справаздача Мачульскага пра дзеянні і склад партызанскіх атрадаў у Барысаўскай зоне на сакавік 1944 г., 6 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 14, арк. 21, 41).



самі былі адказнымі за з'явы разлажэння. Брыгада Мядзведзева, у склад якой уваходзілі тры атрады і дыверсійная група з усяго 350 партызанамі і што дзейнічала ў Вілейскай вобласці, не правяла за зіму 1943/44 гг., акрамя асобных абаронча баёў, ніводнай аперацыі супраць нямецкіх акупантаў. Для патрэб штаба брыгады мелася некалькі самагонных апаратаў, якія выраблялі гарэлку, астатнія партызаны таксама гналі самагонку для ўласных патрэб. П'янства, рабаўніцтва, гвалтоўныя дзеянні адносна цывільнага насельніцтва сталі на парадку дня. Начальнік жа асобага аддзела Фёдар Крукаў вылучаўся ў гэтым асабліва: замест таго каб весці барацьбу з такімі праявамі, «ён напіваўся да апошняй стадыі ап'янення, паводзіў сябе амаральна, згвалціў 17-гадовую дзяўчыну і біў сялян», гаворыцца ва ўнутраным рапарце[123].

Фёдар Крукаў быў з сакавіка 1943 г. начальнікам асобага аддзела ў брыгадзе, а да 22 чэрвеня 1941 г. працаваў у савецкім апараце юстыцыі[124]. Толькі ў студзені 1944 г. рашэннем Вілейскага падпольнага абкама КП(б)Б ён быў вызвалены ад сваёй пасады[125]. Падобныя выпадкі здараліся і ў іншых падраздзяленнях Вілейскай вобласці. За «маральнае разлажэнне» з 14 сакавіка да 4 красавіка 1944 г. былі вызваленыя ад пасад тры начальнікі асобых аддзелаў партызанскай брыгады імя Варашылава (таксама Вілейская вобласць) і яшчэ адзін за непрыдатнасць[126].

## 5. Спецыяльныя баявыя заданні і аперацыі

Цэнтральны штаб і асобныя рэгіянальныя штабы партызанскага руху таксама выпрацоўвалі планы спецыяльных заданняў і аперацый і давалі распараджэнні выканаўцам іх. Самыя вядомыя — напады на кіраўнічых асоб нямецкага акупацыйнага апарату ці на значных калабарацыяністаў. У Цэнтральным штабе гэтым займалася спецгрупа з яе філіяламі ў рэгіянальных штабах. Самай славутай акцыяй, якая ўдалася партызанам, быў замах на генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ 22 верасня 1943 г. Савецкая ды і постсавецкая гістарыяграфія прадстаўляе гэты замах як шэдэўр агентурна-дыверсійнай дзейнасці. Рэчаіснасць жа была значна больш празаічнай.

[123] Справаздача ўпаўнаважанага камсамола па Вілейскай вобласці Гулі пра партызанскі рух у паўднёва-ўсходніх раёнах Вілейскай вобласці ад 28 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 488, арк. 224).

[124] Хадайніцтва на прызначэнне Крукава начальнікам асобага аддзела брыгады Мядзведзева ад 17 сакавіка 1943 г., да якога прыкладзеныя біяграфічныя дадзеныя Крукава (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 14—15).

[125] Справаздача ўпаўнаважанага камсамола па Вілейскай вобласці Гулі пра партызанскі рух у паўднёва-ўсходніх раёнах Вілейскай вобласці ад 28 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 488, арк. 224).

[126] Справаздача начальніка асобага аддзела брыгады імя Варашылава капітана Пранько пра дзейнасць асобага аддзела брыгады за перыяд з 14 сакавіка да 4 красавіка 1944 г., красавік 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 265, арк. 219 і наст.).

Ужо ў пачатку верасня 1942 г. мінскі падпольны камітэт вырашыў ліквідаваць Вільгельма Кубэ. Рашэнне, аднак, не магло быць ажыццёўлена, бо ў канцы верасня нямецкія органы бяспекі арыштавалі многіх членаў падпольнага камітэта[127]. Амаль аднachасова, 26 верасня 1942 г., Панамарэнка загадаў начальніку Беларускага штаба арганізаваць замах на Кубэ і Івана Ермачэнку, беларускага дарадцу Кубэ, бо яны абодва былі вельмі паспяховымі ў фармаванні беларускіх падраздзяленняў для барацьбы з партызанамі[128].

У студзені 1943 г. Цэнтральны штаб стварыў спецыяльную баявую групу, якая складалася з шасці афіцэраў пад камандаваннем капітана Сцяпана Казанцава, вопытнага дыверсанта. 14 сакавіка 1943 г. група высадзілася на аэрадроме ў Бягомлі і накіравалася ў раён дзейнасці брыгады Луніна, каля 40—50 км на поўнач ад Мінска. Казанцаў даручыў там пяці партызанам завербаваць агентаў у Генеральным камісарыяце і афіцэрскім казіно[129].

12 красавіка 1943 г. Казанцаў рапартаваў у Цэнтр, што ў Мінску па даручэнні ягонай групы ўжо дзейнічаюць 17 агентаў-вярбоўшчыкаў. Першы план прадугледжваў напад у тэатры ў час урачыстага мітынгу, у якім павінен быў браць удзел і Кубэ. У канцы мая 1943 г. Казанцаў дакладваў, што пад сцэнай тэатра закладзены моцны выбуховы зарад з гадзіннікавым механізмам. 22 ліпеня 1943 г. у тэатры быў падпалены выбуховы зарад падчас урачыстасцей з нагоды «Дня моладзі». Але сярод прыблізна 100 ахвяр Кубэ не было. Ён нібыта пакінуў тэатр да выбуху, гаворыцца ў справаздачы аб гэтай акцыі[130].

Спроба атруціць Кубэ таксама не атрымалася. Паводле даклада асобага аддзела Цэнтральнага штаба, хоць і ўдалося завербаваць кухарку, якая падмяшала ў страву Кубэ атруту, Кубэ, аднак, спазніўся, і ежу атрымаў сабака Кубэ, які здох. Пасля гэтага меры бяспекі былі ўзмоцненыя[131]. Алена Мазанік, якая нарэшце ажыццявіла паспяховы замах, заявіла потым, што замах з атрутай не атрымаўся, бо меры бяспекі былі занадта строгія[132]. Расійскі гісторык Аляксей Папоў, наадварот, абапіраецца на савецкую «спецыяльную літаратуру» і прыводзіць наўрад ці праўдзівае апалагетычнае сцвярджэнне, што ад атруты адмовіліся, бо першымі, хто ў доме Кубэ атрымліваў ежу, былі ягоныя дзеці[133].

Нарэшце адной з груп, якія займаліся замахам на Кубэ, усё-ткі ўдалося пад ціскам завербаваць Алену Мазанік, адну з пакаёвак у доме Кубэ. Адбылося некалькі сустрэч, і Мазанік некалькі разоў адмаўлялася ад супрацоўніцтва. Тады агенты падпільнавалі Мазанік і пачалі ёй пагражаць[134]. Адну з такіх сустрэч Мазанік апісала наступным чынам:

> Праз тыдзень у маю кватэру зноў прыйшоў гэты мужчына, ён дастаў наган, палажыў яго на стол і сказаў: «Я прыйшоў наконт адной пэўнай справы, Вы павінны забіць Кубэ» . Я папрасіла яго пайсці. Пасля гэтага ён заявіў: «Зірніце, што ляжыць на стале», і ён паказаў на наган. [...] Ён пайшоў, сказаўшы: «Мы яшчэ ўбачымся». [...] Потым я часта яшчэ бачыла яго са свайго акна, то ў акулярах, то ў адным касцюме, то ў іншым[135].

У рэшце рэшт Мазанік паддалася ціску і выказала гатоўнасць пранесці міну ў дом Кубэ і падкласці яе яму ў спальню.

Мазанік пранесла міну ў дом Кубэ і падклала яе пад яго ложак у спальні. У ягонай цяжарнай жонкі быў асобны пакой. Пры гэтым Мазанік, паводле яе ўласных выказванняў, ледзь не была выкрытая другой пакаёўкай[136]. У савецкай літаратуры гэтая беларуская пакаёўка Яніна ператварылася ў нямецкага афіцэра, а расійскі гісторык Папоў некрытычна падхапіў гэтую перакручаную версію падзей. Афіцэр пры гэтым быццам абазваў Мазанік «рускай свіннёй»[137]. Гэта яшчэ адзін наглядны прыклад, як фальсіфікацыі і выдумкі савецкай гістарыяграфіі дзейнічаюць і распаўсюджваюцца да сённяшняга дня.

Міна выбухнула ў ноч з 22 на 23 верасня 1943 г. і цяжка параніла Кубэ. Праз некалькі гадзін ён памёр ад ран. Замах на Кубэ быў падчас Другой сусветнай вайны на акупаваных немцамі тэрыторыях бліскучым поспехам савецкіх дыверсантаў.

Вартая ўвагі тая акалічнасць, што пасля замаху пачалася заўзятая спрэчка, хто ж забіў Кубэ. Партызаны, НКУС і ГРУ прэтэндавалі на свой подзвіг, кожны для сябе. Першым рапартаваў Маскве Юрын, начальнік груп НКУС у Віцебскай вобласці, сцвярджаючы, што ягоныя

[127] Вытрымка з паведамлення пра працу партыйнага падполля ў Мінску ад 24 лістапада 1942 г., напісанага членам партыйнага падпольнага камітэта Карпавым, 25 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 4, л. 21—22 об.).

[128] П. Панамарэнка Калініну, 28 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 180, л. 45); надрукавана ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 145 і наст. Праўда, пададзеная там сігнатура (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 45) няправільная.

[129] Справаздача начальніка асобага аддзела ЦШПР, маёра дзяржаўнай бяспекі Фармашова пра дзейнасць асобага аддзела ЦШПР, 2 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 3, л. 1—12); стэнаграма інтэрв'ю са Сцяпанам Казанцавым ад 4 красавіка 1945 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 74—87). У інтэрв'ю з аўтарам Казанцаў паслядоўна замоўчвае змест спецаперацый сваёй групы.

[130] Справаздача начальніка асобага аддзела ЦШПР маёра дзяржаўнай бяспекі Фармашова пра дзейнасць асобага аддзела ЦШПР, 2 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 3, л. 1—12).

[131] Тамсама.



[132] Стэнаграма інтэрв'ю з Аленай Мазанік ад 5 чэрвеня 1945 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 90 і наст.).

[133] Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 127.

[134] Яшчэ і сёння прыхарошваюцца абставіны, пры якіх вербавалі Алену Мазанік, і замоўчваюцца пагрозы, якімі агенты яе запалохвалі. Напрыклад, Папоў, які падрабязна апісвае вярбоўку, некрытычна грунтуецца на савецкіх публікацыях. Гл.: Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 123—128.

[135] Стэнаграма інтэрв'ю з Аленай Мазанік ад 5 чэрвеня 1945 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 90—93).

[136] Тамсама.

[137] Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 130 і наст.

людзі здзейснілі паспяховы замах на Кубэ, што неўзабаве выявілася як падман. Юрына пасля гэтага запатрабавалі ў Маскву і асудзілі на шэсць гадоў лагераў. Сяргей Бельчанка, паводле ягоных уласных дадзеных, заступіўся за яго, і Юрына праз паўтара года вызвалілі[138]. Бельчанка і Юрын да 22 чэрвеня 1941 г. разам працавалі ў Беластоку ў НКДБ.

Паміж Цэнтральным штабам, органамі НКУС і ГРУ вяліся заўсёдныя спрэчкі за аўтарскае права на замах на Кубэ. Ключом да гэтага была Алена Мазанік, якая непасрэдна пасля выбуху ўцякла да партызанаў у Бягомльскую зону. Панамарэнка пасля гэтага распарадзіўся неадкладна выправіць Мазанік самалётам у Маскву. Калінін, начальнік Беларускага штаба, перадаваў па радыё 9 кастрычніка 1943 г. Ціткову, камандзіру брыгады «Жалязняк», якая кантралявала аэрадром пад Бягомлем:

> Адпаведна распараджэнню Панамарэнкі, вышліце Алену Мазанік першым жа самалётам у Маскву. Артур [прадстаўнік ГРУ] з'явіцца да Вас, яго нельга адпраўляць у Маскву нашым самалётам. Яго мэта — [абысці Вас — *закрэслена*] перашкодзіць адпраўцы Мазанік і прыпісаць сабе заслугі партызанаў[139].

Забітага Кубэ змяніў на пасадзе генеральнага камісара ў Мінску начальнік СС і паліцыі Курт фон Готберг, а група Казанцава атрымала заданне падрыхтаваць і здзейсніць замах на фон Готберга[140]. У адпаведных рапартах і радыёграмах Готберг атрымаў мянушку Шакал[141]. У падрыхтоўцы замаху на Шакала працавалі больш за 20 унутраных агентаў, г. зн. тых, хто быў заняты ў нямецкім акупацыйным апараце[142]. Усе намаганні, аднак, былі марныя, і партызанам не ўдалося забіць фон Готберга. Замахі на генерала Уласава (аперацыя «Кабан») і Браніслава Камінскага, самых вядомых расійскіх калабарантаў, таксама засталіся без поспеху[143].

Аднак многія іншыя замахі на менш прадстаўнічых беларускіх калабарацыяністаў удаліся. 26 лістапада 1942 г. партызаны застрэлілі ў Віцебску рэдактара газеты «Новый путь» Аляксандра Бранта. Замах быў арганізаваны тагачасным намеснікам начальніка разведвальнага аддзела Беларускага штаба Фармашовым[144]. 3 сакавіка 1943 г. дыверсант па даручэнні Цімчука, сакратара Лагойскага падпольнага райкама

[138] Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 132.

[139] Радыёграма начальніка БШПР Калініна Ціткову, № 5852 ад 12 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 39, арк. 138).

[140] Бельчанка Казанцаву і Самушаву пра высочванне «Шакала», 26 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 17, л. 4).

[141] Нататка Карпава ад 2 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 17, л. 7).

[142] Копія радыёграмы Старасты Бельчанку, 28 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 17, л. 6).

[143] Справаздача начальніка асобага аддзела ЦШПР маёра дзяржаўнай бяспекі Фармашова пра дзейнасць асобага аддзела ЦШПР, 2 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 3, л. 1—12).

[144] Паведамленне Фармашова П. Калініну і Р. Эйдзінаву пра забойства Бранта, 15 снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 6, л. 2—4).



КП(б)Б, застрэліў старшыню Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі Фабіяна Акінчыца. 13 лістапада 1943 г. члены спецгрупы Самушава, якая з жніўня 1943 г. дзейнічала ў Беларусі, застрэлілі рэдактара «Беларускай газэты» Уладзіслава Казлоўскага ў ягоным кабінеце[145].

Таксама быў здзейснены шэраг атручванняў. У лютым 1943 г. старшы лейтэнант Зайцаў атрымаў ад спецгрупы Цэнтральнага штаба заданне арганізаваць у горадзе Магілёве атручванне нямецкіх афіцэраў. 10 красавіка 1943 г. дыверсантам Зайцава ўдалося ў Магілёве ў адным рэстаране для немцаў падмяшаць атруту ў тры бочкі з півам. Пасля гэтага паблізу рэстарана знайшлі двух мёртвых унтэр-афіцэраў. Усяго пры гэтым нібыта было атручана 27 нямецкіх афіцэраў. У наступныя тыдні і месяцы, паводле звестак, атручванні працягваліся, як, напрыклад, 14 красавіка ў Чавусах: у кацёл з ежай для 10-га батальёна была падсыпана атрута, ад яе нібыта памерлі тры унтэр-афіцэры, адзін лекар і 14 салдат. 28 жніўня ў Магілёве атрута нібыта была падмяшана ў мармелад, пасля чаго памерлі 4 афіцэры і 35 салдат. Усяго загінула пасля гэтых атрутных замахаў 40 афіцэраў і 49 салдат. І іншыя атрады ажыццявілі шмат паспяховых атручванняў. Цэнтральным штабам пастаўляліся розныя атрутныя рэчывы, як стрыхнін, мыш'як, атрапін і інш.[146].

У рамках гэтага даследавання было немагчыма зверыць усе рапарты партызанаў пра нібыта паспяховыя замахі з атрутай. Вядома, што некаторыя партызаны былі падлоўленыя на фальшывых паведамленнях пра нібыта паспяховыя замахі шляхам атручвання. Цімчук, сакратар Лагойскага падпольнага райкама КП(б)Б, дакладваў у ліпені 1943 г.: «У Мінск было накіравана на заданне нямала партызанаў. Пасля іх вяртання яны сцвярджалі, што атруцілі сем нямецкіх афіцэраў. Аднак гэта аказалася хлуснёй»[147].

## 6. Галоўныя ворагі ў барацьбе: «здраднікі Айчыны» і «антысавецкія элементы»

Паводле карціны, якую перадаюць савецкая, а таксама сённяшняя беларуская і расійская гістарыяграфіі, савецкія партызаны галоўным чынам змагаліся з нямецкімі салдатамі і афіцэрамі, нямецкай паліцыяй, СС і супрацоўнікамі нямецкага акупацыйнага апарату. Але партызанская штодзённасць у Беларусі і на іншых акупаваных немцамі тэрыторыях была інакшай.

Большасць партызанскіх баявых дзеянняў і аперацый былі накіраваныя супраць мясцовых «здраднікаў Айчыны» і «антысавецкіх элементаў», супраць мясцовай дапаможнай паліцыі і «мясцовых» злучэнняў. Гэта было, з аднаго боку, вынікам таго, што нямецкія аку-

[145] Справаздача начальніка асобага аддзела ЦШПР маёра дзяржаўнай бяспекі Фармашова пра дзейнасць асобага аддзела ЦШПР, 2 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 3, л. 4, 6).

[146] Тамсама. Л. 6 і наст.

[147] Справаздача Лагойскага райкама за перыяд з 15 мая да 15 чэрвеня 1943 г., падпісаная Цімчуком (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 271, арк. 193 і наст.).

панты з-за іх слабых людскіх рэсурсаў у параўнанні з вялікімі памерамі акупаваных тэрыторый, каб сфармаваць свой акупацыйны апарат і падтрымліваць яго дзейнасць, павінны былі абапірацца на мясцовыя сілы. Гэта тычылася сферы кіравання, эканомікі і сельскай гаспадаркі, а таксама паліцэйскай справы. Адносна невялікая колькасць нямецкіх чыноўнікаў, паліцэйскіх, салдат і афіцэраў, якія адбывалі сваю службу ў Беларусі, адыгрывалі, аднак, вырашальную ролю ў адміністрацыі акупаваных тэрыторый[148].

Савецкае кіраўніцтва з самага пачатку заклікала партызанаў бязлітасна змагацца супраць «саўдзельнікаў» нямецкіх акупантаў. У сваім славутым звароце да савецкага народа ад 3 ліпеня 1941 г. Сталін заклікаў савецкіх партызанаў: «Неабходна стварыць на акупаваных тэрыторыях для ворага і ўсіх яго саўдзельнікаў невыносныя ўмовы, іх трэба праследаваць на кожным кроку і зрываць усе іх намеры»[149].

З часам у Маскву трапляла ўсё больш інфармацыі пра памеры меркаванай здрады ў Беларусі і на іншых акупаваных тэрыторыях.

19 жніўня 1941 г. Панамарэнка паведамляў Сталіну: «Ва ўсходніх абласцях [Беларусі] [немцы] прызначаюць старастамі былых кулакоў ці антысавецкіх і крымінальных элементаў, якія праследаваліся, а ў некаторых выпадках і здраднікаў Айчыны»[150]. Пад «здраднікамі Айчыны» Панамарэнка меў на ўвазе галоўным чынам былых супрацоўнікаў савецкага партыйнага і дзяржаўнага апарату. Фіцін, начальнік разведупраўлення НКУС СССР, дакладваў 13 верасня 1941 г. пра становішча ў Беларусі: «Галоўным апірышчам нямецкіх фашыстаў з'яўляюцца кулакі і бандыты»[151]. Як гэта вынікае з дакумента, бандытамі Фіцін называў «контррэвалюцыйныя элементы», якіх да 22 чэрвеня 1941 г. праследавала Савецкая ўлада.

Савецкае кіраўніцтва ўбачыла для сябе нагоду для прыняцця канкрэтных буйных акцый, каб утрымаць насельніцтва ад супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі. 30 лістапада 1941 г. НКУС СССР распарадзіўся неадкладна арганізаваць сістэматычнае знішчэнне супрацоўнікаў фашысцкай адміністрацыі ў тыле ворага, асабліва старастаў, бургамістраў, кіраўнікоў паліцэйскіх органаў і агентаў гестапа[152]. Аўтар не змог знайсці адносна Беларусі параўнальнага дакумента. Але

[148] Параўн. на гэты конт: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 134—230, асабліва S. 214—218; Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 51—71, 123—129, 160—186; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 66—87, 138—144, 175—200.

[149] Радыёпрамова Сталіна ад 3 ліпеня 1941 г., надрукаваная ў перакладзе на нямецкую мову ў: Stalin J. W. Werke. Bd. 14. Dortmund, 1976. S. 236—242.

[150] П. Панамарэнка Сталіну пра становішча ў акупаваных абласцях Беларусі, 19 жніўня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 153).

[151] Спецдаклад начальніка 1-га ўпраўлення НКУС СССР Фіціна пра дзейнасць нямецкіх фашыстаў на часова акупаванай тэрыторыі Беларусі, 12 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 125, д. 52, л. 55).

[152] Указанне НКУС УССР № 3220/СВ аб мерапрыемствах па ліквідацыі фашысцкай адміністрацыі на часова акупаванай праціўнікам тэрыторыі Украінскай ССР, падпісанае палкоўнікам Саўчанкам, 30 лістапада 1941 г., надрукавана ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 2. С. 371—372.



няма сумнення, што ўжо ў ліпені 1941 г. і тут былі падобныя загады. Так, 29 ліпеня 1941 г. Панамарэнка загадваў «аператыўна-чэкісцкім групам», якія павінны былі дзейнічаць у тыле ворага, наступныя групы людзей «бязлітасна знішчаць: людзей, што працуюць у нямецкіх разведвальных органах, дэзерціраў, памагатых нямецкіх уладных органаў, членаў контррэвалюцыйных фармаванняў і інш.»[153].

Даступныя крыніцы ясна паказваюць, што партызаны ў Беларусі дзейнічалі ў гэтым духу. Пры гэтым, здаецца, акцыі часта былі спантаннай рэакцыяй партызанаў на рэальнасць акупацыі, бо шмат якія партызанскія падраздзяленні доўга не мелі сувязі з савецкім тылам. Такім чынам, яны не маглі атрымліваць ніякіх дырэктыў ці загадаў.

Пры даследаванні партызанскага руху ў Віцебскай вобласці ў 1942 г. было выяўлена, што з самага пачатку большасць партызанскіх акцый былі накіраваныя супраць мясцовых паліцэйскіх, бургамістраў, старастаў, «антысавецкіх элементаў». Ды яшчэ супраць мужчын, якія супраціўляліся мабілізацыі ў Чырвоную Армію ці ў партызанскія падраздзяленні[154]. Падобнае было і ў іншых абласцях Беларусі.

У Баранавіцкай вобласці на працягу 1942 г. лавінападобна павялічылася колькасць партызанскіх нападаў. Яны нападалі на адзіночных нямецкіх салдат, паліцаяў і акупацыйных чыноўнікаў. У першую чаргу, аднак, партызанскія акцыі былі накіраваныя супраць паліцаяў, бургамістраў, кіраўнікоў маёнткаў і іншых, якіх абвінавачвалі ў супрацоўніцтве з нямецкімі акупантамі. Партызаны забівалі і абрабоўвалі іх. Асабліва гэта закранала сельскагаспадарчыя маёнткі. Партызаны нападалі на іх сістэматычна, разбуралі іх абсталяванне, падпальвалі будынкі і знішчалі ўраджай[155].

Савецкае партызанскае кіраўніцтва ўсведамляла, што гэтыя напады амаль не мелі ніякага ваенна-аператыўнага значэння ў нямецка-савецкай вайне і разглядала іх як другарадныя. У канцы ліпеня 1942 г. Сікорскі, прадстаўнік Цэнтральнага камітэта КП(б)Б, інспектаваў партызанскія атрады, якія дзейнічалі ў мясцовасці вакол Полацка. У сваёй справаздачы ён крытыкаваў шырока распаўсюджаную адсутнасць баявога духу ў партызанаў:

> Калі яны нават і ваююць, то потым месяц адпачываюць і яшчэ 1,5 месяца вядуць пра гэта дыскусіі. Ці іншая праблема: нашы таварышы вызначылі сабе галоўнай задачай барацьбу супраць здраднікаў Айчыны, супраць паліцаяў, бургамістраў і іншага бруду. Я не хачу сцвярджаць, што супраць гэтых здраднікаў не трэба весці барацьбу, але няправільна, што гэта ёсць галоўная задача. Нашай галоўнай задачай з'яўляецца барацьба супраць нямецкіх акупантаў, а тут — наадварот[156].

[153] Справаздача намесніка камандзіра брыгады Заварыкіна пра разведвальную працу, разведку і контрразведку ў партызанскай брыгадзе імя Шчорса, без даты, [паміж 10 і 29 снежня 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 862, л. 78).

[154] Гл. главу VIII, раздзел 3 у гэтай кнізе.

[155] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 105—111.

[156] Справаздача Сікорскага П. Панамарэнку пра стан партызанскіх атрадаў у Полацкім і Сіроцінскім раёнах, 7 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 142, л. 77).

Палкоўнік Нічыпаровіч, які з асабістага досведу вельмі добра ведаў умовы ва ўсходніх абласцях Беларусі, у сваёй дакладной запісцы пісаў 29 кастрычніка 1942 г., што большасць партызанскіх атрадаў арганізавалася спантанна. «Таму дзеянні гэтых атрадаў канцэнтруюцца на лёгкіх другарадных задачах, як, напрыклад, на разгроме паліцэйскіх участкаў ці знішчэнні асобных паліцаяў і антысавецкіх элементаў»[157]. Панамарэнка таксама бачыў у гэтым сур'ёзную праблему, што абмяжоўвала ваенную эфектыўнасць партызанскага руху. У дакладной запісцы, цытаванай ужо некалькі разоў, ён, сярод іншага, пісаў: «Партызаны знішчаюць на тэрыторыі, якую яны кантралююць, паліцаяў, старастаў, маленькія нямецкія атрады і аб'екты, што часта не маюць ніякага ваеннага значэння»[158]. У адным дакладзе пра становішча партызанскага руху і дзейнасць партызанаў у Беларусі летам 1942 г. гаворыцца:

> Партызаны дзейнічаюць вельмі асцярожна. [...] Я [аўтар даклада] ад некаторых партызанаў чуў меркаванне, што калі яны як след насядуць на немцаў, то немцы тады могуць сабрацца з сіламі і разбіць іх. Супраць такой шкоднай пазіцыі ніхто не вядзе барацьбу. Супраць партызанаў вядуць барацьбу ў асноўным «добраахвотнікі». [...] Нямецкіх часцей у гэтай мясцовасці [на поўдзень ад Мінска] вельмі мала. Яны размешчаныя найперш у Слуцку. Партызаны змагаюцца ў першую чаргу супраць паліцыі, аднак не хочуць змагацца супраць «добраахвотнікаў». Шмат хто з партызанаў сам кажа, што яны не адчувалі б вайны, калі б не было паліцыі і «добраахвотнікаў»[159].

Цэнтральны штаб, як і рэгіянальныя штабы, упарта намагаліся перакласці цэнтр цяжару партызанскай барацьбы на акцыі, якія б мелі ваеннае значэнне для нямецка-савецкай вайны. Асабліва гэта тычылася дыверсій на чыгуначных лініях і дарогах, а таксама ваеннай разведкі. Праўда, тут у іх не было асаблівых поспехаў[160].

Тое, што савецкія партызанскія злучэнні восенню і зімой у Беларусі вялі барацьбу пераважна супраць мясцовых паліцэйскіх, калабарацыяністаў і іншых «антысавецкіх элементаў», вынікае перш за ўсё з гісторыі іх утварэння. Атрады, якія дзейнічалі ў той час, набіраліся часта з партыйных і савецкіх актывістаў, супрацоўнікаў НКУС/НКДБ і міліцыі. Яны да 22 чэрвеня 1941 г. былі носьбітамі савецкай сістэмы і найчасцей удзельнічалі непасрэдна ці ўскосна ў савецкім тэроры. Вось некалькі прыкладаў:

[157] Дакладная запіска У. Нічыпаровіча Варашылаву аб рэарганізацыі партызанскага руху ў БССР, 29 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 136).
[158] Дакладная запіска начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., 5 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 13).
[159] Копія даклада «Партызанскі рух у БССР, [магчыма, летам 1942 г.]». Невядомы аўтар доўгі час знаходзіўся ў розных атрадах Брэсцкай і Мінскай абласцей, а потым запісаў свае назіранні (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 153, арк. 7—8 адв.).
[160] Параўн. главу «"Рэйкавая вайна" ў 1943—1944 гг.» і раздзел «Ваенная разведка для Чырвонай Арміі».



Група супрацоўнікаў НКУС засталася з заданнем весці партызанскую барацьбу ў Ельскім раёне (Палеская вобласць), які быў акупаваны немцамі 22 жніўня 1941 г. У канцы кастрычніка 1941 г. частка іх вярнулася ў савецкі тыл і зрабіла справаздачу пра сваю аперацыю: сярод іншага, яны спалілі некалькі мастоў і сотні тон сена. Аднак сур'ёзных дзеянняў супраць немцаў яны не ажыццяўлялі. Затое яны працягвалі свой тэрор супраць «антысавецкіх элементаў». Напрыклад, партызаны ў канцы жніўня даведаліся пра аднаго дэзерціра з Чырвонай Арміі, які нібыта распаўсюджваў антысавецкія настроі. Яны яго высачылі, застрэлілі, а затым закапалі яго труп у лесе[161]. Яшчэ аднаго дэзерціра партызаны з НКУС сустрэлі на дарозе і таксама застрэлілі.

У канцы верасня яны даведаліся, што ў вёску Жукі вярнуўся кулак Міхаіл Фясько, які раней быў асуджаны на дзесяць гадоў лагераў. «Ён займаўся антысавецкай агітацыяй і высмейваў жонак чырвонаармейцаў. [...] мы застрэлілі яго». У вёску Старое Высокае вярнуўся Віктар Сасноўскі, што ў 1930 г. быў дэпартаваны. У яго былі дакументы, якія пацвярджалі, што ён быў прызначаны немцамі старастам вёскі. «Партызаны даведаліся пра гэта і застрэлілі яго»[162].

Яшчэ адна група НКУС, якая летам 1941 г. атрымала заданне весці партызанскую барацьбу ў Любанскім раёне, каля 120 км на поўдзень ад Мінска, дакладвала, што яна мэтанакіравана змагалася супраць «антысавецкіх элементаў». Яна склала спіс гэтых людзей і імкнулася знішчаць іх з засад. Праўда, з невялікім поспехам. Аднак два «антысавецкія элементы» сталі ахвярамі партызанаў НКУС, у тым ліку адзін «кулак»[163].

У Мазырскім раёне ў жніўні і верасні 1941 г. дзейнічаў атрад, які складаўся з членаў партыі, камсамольцаў, калгасных актывістаў і супрацоўнікаў НКУС, пад камандаваннем партыйнага актывіста Макаранкі. Ён пазней дакладваў, што пасля прыходу немцаў актывізаваліся кулакі, дэзерціры ды іншыя элементы. Яны патрабавалі вярнуць ім нацыяналізаваныя раней кватэры і дамы і вялі барацьбу з савецкімі актывістамі і партызанамі. Гэта, паводле слоў Макаранкі, нібыта прывяло да таго, што «агонь помсты ў атрадзе скіраваўся супраць гэтых прадажных сабак і здраднікаў Айчыны. Былі знішчаныя многія старасты і паліцаі, разам з іх сем'ямі», дакладваў Макаранка. Аперацый супраць нямецкіх падраздзяленняў атрад не праводзіў[164].

Да канца 1941 г. большасць партызанскіх атрадаў развалілася. Такім чынам, спыніліся і напады на паліцаяў, бургамістраў, старастаў і «антысавецкіх элементаў». Аднак з вясны 1942 г. з'явіліся, найчас-

[161] Справаздача аператыўнага ўпаўнаважанага УНКУС па Палескай вобласці сяржанта дзяржаўнай бяспекі Васіля Смерценюка і следчага УНКУС Палескай вобласці Сіўчука ў НКУС СССР, без даты, [магчыма, лістапад 1941 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 63, арк. 93—102).
[162] Тамсама.
[163] Паведамленне камандзіра партызанскага атрада ў Любанскім раёне Мікалая Ермаковіча, 11 верасня 1941 г. (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 176).
[164] Справаздача Макаранкі пра дзейнасць партызанскага атрада ў Мазырскім раёне, 15 студзеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1072, л. 48).

цей спантанна, шматлікія партызанскія групы і атрады, дзейнасць якіх у першую чаргу таксама была накіравана супраць мясцовай адміністрацыі, а таксама паліцаяў, не кажучы пра баі, якія навязваліся нямецкімі атрадамі і мелі абарончы характар. У гэтых баях немцы таксама амаль не ўдзельнічалі, так што партызаны найчасцей змагаліся з «мясцовымі» — гэта маглі быць і ўкраінскія, і латышскія, і рускія, і беларускія ахоўныя батальёны, казакі ці іншыя злучэнні, у склад якіх уваходзілі былыя палонныя розных нацыянальнасцей.

Беларускі штаб партызанскага руху паведамляў у сакавіку 1943 г.: «Большасць аперацый супраць партызанаў праціўнік вядзе змешанымі сіламі, якія на 30 працэнтаў складаюцца з немцаў і на 70 працэнтаў са здраднікаў»[165]. Паводле нямецкіх дадзеных, доля немцаў была яшчэ меншай. Баявая група фон Готберга, што была ўтворана для барацьбы з партызанамі ў Беларусі, налічвала ў сакавіку 1944 г. каля 20 000 чалавек, у тым ліку немцаў было 3 000, рэшта ж складалася з мясцовай «самааховы». Але гэтымі «мясцовымі» злучэннямі заўсёды камандавалі нямецкія афіцэры і унтэр-афіцэры[166].

Партызанскія камандзіры рэгулярна аб'яўлялі барацьбу супраць «здраднікаў». Прывядзём тут некалькі прыкладаў. Маркаў, камандзір партызанскай брыгады імя Варашылава ў Вілейскай вобласці, дакладваў у сакавіку 1943 г. пра ўмовы ў вобласці: «Але ёсць шмат шпаны і падліз, якія старанна падтрымліваюць нямецкую ўладу. Партызаны бязлітасна знішчаюць гэтую погань»[167]. Гэта пацвярджаюць і нямецкія крыніцы. Вілейскі гебітскамісарыят дакладваў да 25 лютага 1943 г. пра 30 забітых супрацоўнікаў арганізацыі Тодта, 23 нямецкіх супрацоўнікаў адміністрацыі, і ў той жа час пра 762 мясцовыя супрацоўнікі паліцыі і адміністрацыі[168].

Партызаны атрада імя Катоўскага з Брагінскага раёна Гомельскай вобласці знішчылі з вясны 1942 г. да красавіка 1943 г., паводле ўласных дадзеных, толькі 17 нямецкіх салдат і афіцэраў, але затое 307 паліцаяў, 4 бургамістры і 23 старасты[169]. Байцы атрада «Праўда», які ўтварыўся ў красавіку 1942 г. і ўваходзіў у склад Мінскай брыгады, змагаліся, паводле ўласных дадзеных, з красавіка 1943 г. найперш супраць паліцаяў і мясцовай камунальнай адміністрацыі[170]. Не

[165] Паведамленне аператыўнага аддзела БШПР ад 15 сакавіка 1943 г. пра дзейнасць беларускіх партызанаў у перыяд з 1 чэрвеня 1942 г. да 7 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 63, л. 54).

[166] Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 264; падрабязней гл.: Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 182—196, 374—377, дзе прыводзяцца дэталёвыя дадзеныя па асобных падраздзяленнях.

[167] Паведамленне камандзіра брыгады Маркава ад 26 сакавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 183, арк. 46 і наст.).

[168] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 866 (зноска 37).

[169] Справаздача пра баявыя дзеянні атрада імя Катоўскага за 1942 г. і вясну 1943 г., 7 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 4—7).

[170] Справаздача пра заснаванне і баявыя дзеянні атрада «Праўда» за перыяд з красавіка 1942 г. да красавіка 1943 г., 12 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 156, л. 16 і наст.).



інакш было і ў іншых абласцях, як, напрыклад, у Баранавіцкай[171]. У Баранавіцкай (са снежня 1943 г.) і Вілейскай (з канца жніўня 1943 г.) абласцях асаблівую ролю адыгрывала барацьба супраць польскага падполля і польскіх партызанаў, пра што яшчэ будзе гаворка.

У сваіх акцыях супраць паліцаяў, бургамістраў, старастаў і іншых антысавецкіх ці «пранямецкіх элементаў» партызаны ў асноўным карысталіся прынцыпам калектыўнага пакарання. Пра гэта сведчаць і нямецкія крыніцы. 5 лютага 1942 г. камандуючы тылам групы армій «Цэнтр» генерал фон Шэнкендорф у лісце Галоўнаму камандаванню сухапутных войскаў канстатаваў:

> У занятых нямецкімі войскамі населеных пунктах яны [партызаны] расстрэльваюць прызначаных намі бургамістраў, адміністрацыйныя органы і паліцэйскія службы парадку разам з іх сем'ямі. Гэтым яны дасягаюць, што насельніцтва запалохваецца і адносіцца да нямецкага вермахта іначай, чым раней. Гэта выяўляецца ў горшай прадукцыйнасці працы і ў адмове ад працоўнай павіннасці[172].

Праз чатыры месяцы фон Шэнкендорф дакладваў:

> Дагэтуль партызанамі забітыя каля 500 бургамістраў ці старастаў [у тылавым раёне групы армій «Цэнтр»]. Сваякоў бургамістраў і старастаў партызаны зачыняюць у хлявы і спальваюць жывымі[173].

У кастрычніку 1942 г. нямецкія акупанты здалі апорны пункт ва Ушачах і выйшлі адтуль. Партызаны занялі мястэчка і застрэлілі 25 сем'яў (усяго 100 чалавек), чые сваякі працавалі на немцаў[174].

Нянавісць да «здраднікаў» была такой вялікай, што быў прапанаваны абмен палонных нямецкіх салдат на мясцовых «здраднікаў». 17 снежня 1942 г. аддзел прапаганды Полацкага філіяла паведамляў пра

> прапанову бандыцкай групы ў Дрысе памяняць 3 палонных нямецкіх салдат на 21 рускага (камандзіраў службы парадку, паліцэйскіх і іншых асоб, якія супрацоўнічалі з нямецкімі ўладамі). «3 салдаты, мусіць, нямецкаму камандаванню былі больш каштоўнымі, чым 21 рускі здраднік»[175].

[171] Падрабязна на гэты конт: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 105—150, са шматлікімі паведамленнямі, перакладзенымі на нямецкую мову.

[172] Камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» у Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў, 5 лютага 1942 г. (BA-MA. RH 22/230, Bl. 71 і наст.).

[173] Даклад камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» генерала Шэнкендорфа за 29 мая 1942 г., 2 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RH 19 II/383, Bl. 1—6).

[174] Справаздача пра дзейнасць Лепельскага філіяла аддзела прапаганды W 2 за перыяд з 20 кастрычніка да 20 лістапада 1942 г., 19 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 411, воп. 1, спр. 50, арк. 30).

[175] Паведамленне пра дзейнасць і становішча Полацкага філіяла Віцебскага атрада аддзела прапаганды W ад 17 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 411, воп. 1, спр. 50, арк. 9—10).

Гэтую прапанову зрабіў немцам Герасімаў, камандзір партызанскай брыгады. Гэта прыцягнула ўвагу Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б, які займаўся гэтым пытаннем на пасяджэнні 7 снежня 1942 г. і жорстка крытыкаваў Герасімава: «Ход перамоў і матывы абмену сведчаць пра тое, што вастрыня і нянавісць да ворагаў Айчыны — да нямецкіх акупантаў — [у Герасімава] прытупіліся». Абласны камітэт забараніў Герасімаву весці хоць якія перамовы з «заклятым ворагам», інакш ён будзе прыцягнуты да строгай адказнасці[176].

Тое, што партызаны выкарыстоўвалі прынцып калектыўнага пакарання, яны пацвярджаюць і самі ў сваіх рапартах і паведамленнях. Варта згадаць пытанне Юрына, начальніка аператыўнай групы НКУС у Віцебскай вобласці, які 25 мая 1942 г. прапанаваў дэпартаваць сем'і калабарантаў у савецкі тыл[177]. Партыйнае кіраўніцтва Віцебскай вобласці праз два тыдні прыняло рашэнне: «Каб ліквідаваць базу фашысцкай разведкі, усе сем'і і сваякоў паліцаяў і іншых памагатых акупантаў, што пабеглі з адступаючымі часцямі праціўніка, дэпартаваць»[178].

Я. М. Прахарэнка, камісар партызанскага атрада, які летам 1942 г. дзейнічаў у Віцебскай і Мінскай абласцях, занатаваў 2 жніўня 1942 г. у сваім дзённіку:

> Разведка агнявых кропак у вёсцы Чудня [Багушэўскі раён]. Люба Дзяцелева ўварвалася ў вёску і добра выканала сваё заданне, яна захапіла ў палон аднаго паліцая. Адначасова група, якая суправаджала яе, забрала ў палон усіх членаў сям'і буйнога агента тайнай паліцыі Штукі. Усе гэтыя нягоднікі заяўляюць: «Мы за вас. Мы ўжо даўно за вас». Гэтую фразу паўтараюць усе паліцаі, якіх мы захопліваем[179].

Асабліва выразная радыёграма камандзіра брыгады імя Кірава ад 10 мая 1944 г.:

> Сем'яў паліцаяў у лагерах брыгады не было. Я пытаўся Вас [Ганенку ў Беларускім штабе], што з імі рабіць, не атрымаў адказу. Сем'і, якія жылі ў вёсках, былі непрыкметна знішчаныя ў час блакады[180].

Прыведзеныя тут прыклады адначасова сведчаць пра тое, што не было цэнтральных пісьмовых дырэктыў, што рабіць з сем'ямі «здраднікаў». Пра гэта сведчыць і пытанне начальніка асобага аддзела

[176] Пратакол № 14 пасяджэння Віцебскага абкама ад 7 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 84 і наст.).
[177] Справаздача Юрына пра барацьбу з нямецкімі шпіёнамі, 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 854, л. 38).
[178] Пратакол № 2 пасяджэння бюро Віцебскага абкама ад 9 чэрвеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 11—15).
[179] Дзённік камісара партызанскага атрада Прахарэнкі, 25 мая — 25 верасня 1942 г. (копія) (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 152).
[180] Радыёграма Карашкова Ганенку, № 6658 ад 10 мая 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 54, арк. 44).



пры Клічаўскім аператыўным цэнтры Ганца, накіраванае ў лістападзе 1942 г. асобаму аддзелу пры Заходнім фронце, што рабіць з сем'ямі выкрытых шпіёнаў гестапа[181]. Аднак варта заўважыць, што савецкія чыноўнікі амаль што не давалі пісьмова загадаў, якія б мелі асабліва злачынны характар, не кажучы ўжо пра радыёграмы, што лёгка маглі перахапіць праціўнікі і зрабіць іх публічна даступнымі. Калі ўсё ж такі такія загады даваліся пісьмова, было прадпісана іх пасля азнаямлення знішчаць.

Гэтаксама брутальна, як і ў Беларусі, дзейнічалі савецкія партызаны ў адносінах да сапраўдных і меркаваных здраднікаў і «антысавецкіх элементаў» на іншых занятых немцамі тэрыторыях[182]. Да студзеня 1944 г. савецкія статыстычныя дадзеныя пра ваенныя поспехі партызанаў заўсёды прыводзілі лічбу застрэленых «здраднікаў» і паліцаяў, не згадваючы, аднак, пра забітых членаў іх сем'яў. Паводле аднаго даклада Беларускага штаба ад пачатку 1944 г., савецкія партызаны «знішчылі» ў Беларусі ў перыяд з чэрвеня 1941 г. да 1 студзеня 1944 г. дакладна 17 431 паліцая і здрадніка, 2 981 яны паранілі і 2 254 узялі ў палон[183]. Характэрна, што ў выніковай справаздачы Беларускага штаба за 1944 год ужо больш няма дадзеных пра забітых «паліцаяў і здраднікаў»[184]. Справа тут, відавочна, у тым, каб прыхаваць памеры меркаванай здрады савецкай Радзіме і супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі.

Акрамя таго, варта падумаць пра тое, што партызаны ў сваіх справаздачах нярэдка паведамлялі сваім начальнікам пра забітых паліцаяў і цывільных людзей як пра «знішчаных нямецкіх салдат і афіцэраў». Ёсць доказы, што яны заніжалі колькасць забітых «паліцаяў» і «здраднікаў». У гэтых умовах вартую даверу лічбу забітых партызанамі паліцаяў і «здраднікаў» ды членаў іх сем'яў амаль нельга вызначыць, але яна, напэўна, большая, чым адрапартаваная.

## 7. Барацьба супраць мясцовага «самакіравання» і нямецкага адміністрацыйнага і сельскагаспадарчага апарату

Дзейнасць нямецкай акупацыйнай адміністрацыі ў Беларусі ў высокай ступені залежала ад працы беларускага мясцовага кіравання. Яно было выканаўчым органам нямецкага акупацыйнага апарату на мес-

[181] Начальнік асобага аддзела НКУС пры 208-м партызанскім атрадзе Ганец начальніку асобага аддзела пры Заходнім фронце, без даты. На палях ёсць нататка: «Пасляць таварышу Л. Цанаву, 21.11.1943 г.» , подпіс нечытэльны (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1112, л. 59).
[182] Slepyan K. Stalin's Guerrillas... P. 79—84.
[183] Справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Бруханава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 336 і наст.).
[184] Справаздача пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 93).

цах. З раённага ўзроўню да нізу ўсе пасады былі занятыя мясцовымі людзьмі. У раённых кіраўнічых органах было занята, як правіла, ад 100 да 300 чалавек. У найбуйнейшых гарадах, такіх як Магілёў, Барысаў ці Брэст, працавалі ад 800 да 2 500 мясцовых супрацоўнікаў адміністрацыі. Але і на больш высокім адміністрацыйным узроўні, у гебітскамісарыятах і ў Генеральным камісарыяце мясцовыя кадры адыгрывалі важную ролю. Мяркуецца, што на беларускай тэрыторыі ў акупацыйнай адміністрацыі былі занятыя агулам каля 40 000 мясцовых жыхароў[185].

Барацьба супраць мясцовай адміністрацыі тым самым азначала барацьбу супраць нямецкага акупацыйнага і гаспадарчага апарату. І ў гэтай сферы савецкія партызаны дамагліся найбольшых поспехаў. З вясны 1942 г. яны ажыццяўлялі сістэматычныя напады на валасныя адміністрацыі, лясныя прадпрыемствы, торфазаводы, малаказаводы, млыны і дзяржаўныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы. Большасць з іх з самага пачатку дрэнна ахоўваліся ці ўвогуле не мелі аховы. З гэтай прычыны яны і зрабіліся ўлюбёнымі мэтамі нападу партызанаў, тым больш што тыя пры гэтым маглі захопліваць, як правіла, прадукты харчавання і іншыя патрэбныя рэчы. На працягу 1942 г. гэтыя напады з пункту гледжання немцаў набылі катастрафічныя памеры і мелі цяжкія вынікі для працы нямецкага акупацыйнага і гаспадарчага апарату.

Генерал фон Шэнкендорф, камандуючы тылам групы армій «Цэнтр», яшчэ ў маі 1942 г. сігналізаваў галоўнаму камандаванню вермахта:

> *Гаспадарчае выкарыстанне вялікіх тэрыторый* у высокай ступені абцяжарваецца ці робіцца немагчымым. Гэта адыгрывае вялікую ролю пры *цяперашнім становішчы з забеспячэннем*. Вермахту немагчыма, напрыклад, тэрмінова паставіць патрэбную колькасць бульбы, [...] бо партызаны перашкаджаюць яе прывезці. Акрамя гэтага, з той самай прычыны з *харчаваннем гарадскога насельніцтва* — катастрофа. [...] І *жывёлу* нельга даставіць з партызанскіх тэрыторый, хоць яе *маецца больш*, чым дастаткова. 4) *Працяг працы важных прадпрыемстваў* [...] пад пагрозай, бо партызаны перашкаджаюць працы торфазаводаў і падвозу неабходнай *колькасці торфу* ці зрываюць гэтую працу. 5) Сплаў лесу па рэках быў спынены. 6) Кожны дзень партызанамі ўчыняюцца *пажары* на *важных прадпрыемствах*, як напр. малаказаводах, лесапільнях, млынах і г. д.![186]

Не лепш было і ў Беларусі. 15 чэрвеня 1942 г. рэйхскамісар Остланда дакладваў:

[185] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 196—202. Параўн. таксама: Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 123—129; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 138—144.

[186] Ацэнка камандуючым генералам ахоўных падраздзяленняў і камандуючым тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» генералам фон Шэнкендорфам становішча ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр», 31 мая 1942 г. (BA-MA. RH 22/230, Bl. 266 і наст.). Вылучана ў арыгінале.



> У красавіку і маі 1942 г. ва ўсім рэйхскамісарыяце Остланд абвастрылася становішча з партызанамі. [...] У Беларусі ж амаль немагчыма ўтрымліваць сітуацыю. Усё больш прыходзіць паведамленняў, паводле якіх мясцовых паліцыянтаў расстрэльваюць, мясцовых супрацоўнікаў ніжніх органаў адміністрацыі, прызначаных нямецкімі ўладамі, забіваюць, хапаюць, вывозяць і чацвяртуюць, сялянам не даюць праводзіць веснавыя пасевы, гвалтоўна зрываюць пастаўкі жывёлы, малаказаводы разбураюць і цэлыя вёскі падвяргаюць рабаванням. [...] А партызанская дзейнасць, паводле даклада генеральнага камісара Беларусі ад 7 мая 1942 г., расце ва ўсё больш палохаючых памерах. Наступленне партызанаў фронтам, які ўсё больш пашыраецца, крочыць на захад. За 14 дзён былі знішчаныя 24 вясковыя старасты ў сельскіх абшчынах. Яшчэ два зондэрфюрары сельскагаспадарчага аддзела падвергліся нападу і былі забітыя добра ўзброенымі партызанскімі бандамі колькасцю 70—80 чалавек[187].

На працягу 1942 г. сітуацыя яшчэ больш абвастрылася. У нататцы рэйхскамісара Остланда з лютага 1943 г. гаворыцца:

> Становішча цывільнай адміністрацыі ў Генеральным камісарыяце Беларусь зімой рабілася ўсё больш небяспечным і некантраляваным. [...] У лістападзе і снежні 1942 г. былі зарэгістраваныя 266 выпадкаў падрываў чыгункі, пашкоджаныя 38 лакаматываў, спаленыя 38 драўляных мастоў, у 84 выпадках не працавала тэлефонная сувязь, бо былі спілаваныя слупы, у 215 выпадках былі падвергнутыя нападам і рабаўніцтву цэлыя вёскі. Былі спаленыя 22 маёнткі, знішчаныя 2 торфазаводы, разбураныя 10 малаказаводаў, 2 млыны, 1 лесапільня, 1 электрастанцыя і 1 чайная фабрыка. Толькі ў снежні загінулі 100 мясцовых цывільных пры рабаўніцтве з боку бандаў[188].

Асабліва гэтыя напады закранулі сельскую гаспадарку і нарыхтоўку сельскагаспадарчых прадуктаў. У цытаваным вышэй дакладзе напісана:

> У маі 1942 г. таварыства «Остланд» (ТО) займалася сельгасвытворчасцю ў 967 дзяржаўных гаспадарках. А ў студзені 1943 г. толькі 312 дзяржаўных гаспадарак знаходзілася ў руках ТО. [...] Цалкам разбураныя 262 дзяржаўныя гаспадаркі. У руках бандаў знаходзяцца 314 дзяржаўных гаспадарак, якія служаць ім базай харчавання і на якіх яны рэальна гаспадараць. З прычыны агульнай небяспекі ў акаляючай мясцовасці, 259 дзяржаўных гаспадарак больш не могуць кантралявацца нямецкімі сіламі ТО. Да канца 1942 г. бандамі былі разрабаваныя ці знішчаныя: 2 000 коней, 2 400 галоў буйной рагатай жывёлы, больш як 6 000 авечак, свіней, цялят, больш за 16 500 тон зерня, столькі ж бульбы. [...] У гэтых звестках не паведамляецца пра памеры і колькасць жывёлы, якая была забрана бандамі непасрэдна ў сялянскага

[187] Рэйхскамісар Остланда рэйхсміністру акупаваных усходніх тэрыторый, 15 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 8—11).

[188] Нататка рэйхскамісара Остланда пра стан сельскай гаспадаркі ў Беларусі, 24 лютага 1943 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 20 і наст.).

насельніцтва. Ад усёй сельскагаспадарчай карыснай плошчы Беларусі нямецкімі сельскагаспадарчымі наглядным органамі выкарыстоўваецца толькі 1/5[189].

У Пінскай вобласці нямецкія акупанты вялі вытворчасць толькі ў 14 дзяржаўных гаспадарках. Да восені 1943 г. партызаны разбілі 12, прычым яны забілі і кіраўнікоў гаспадарак[190]. На беларускіх тэрыторыях з ваеннай адміністрацыяй зімой 1943 г. становішча выглядала яшчэ больш крытычным[191]. У партызанскіх зонах немцы маглі «нарыхтоўваць» сельскагаспадарчыя прадукты толькі ў час шырокамаштабных аперацый. Пры гэтым яны часта для стварэння «мёртвых зон» карысталіся прынцыпам «выпаленай зямлі». Восенню 1943 г. становішча палепшылася дзякуючы больш шчыльнаму размяшчэнню часцей вермахта і выцісканню партызанаў. Нямецкі апарат «нарыхтовак» цяпер мог функцыянаваць лепш[192].

Напады партызанаў на дзяржаўныя гаспадаркі, лесапільні, малаказаводы і г. д. адпавядалі савецкай стратэгіі партызанскай вайны. У адным лісце ад 15 жніўня 1942 г., што быў накіраваны Сталіну, Андрэеву і Малянкову, Панамарэнка адгаворваў ад стратэгіі «выпаленай зямлі», якой прытрымліваліся летам 1941 г., калі пры адступленні Чырвонай Арміі знішчаўся ўвесь ураджай. Гэта ставіла партызанаў у вельмі цяжкае становішча. З аднаго боку, сяляне ўспрымаюць гэта як варожы акт у адносінах да іх. З другога боку, партызаны павінны былі забяспечваць сябе на месцы і такім чынам залежалі ад ураджаю. Таму Панамарэнка прапаноўваў не заклікаць да знішчэння ўраджаю на палях, а прапаноўваць сялянам хаваць ураджай. А партызаны няхай знішчаюць дзяржаўныя гаспадаркі, спіртзаводы, элеватары і г. д. і нападаюць на нямецкія нарыхтоўчыя каманды[193]. Тактыка партызанаў сведчыць пра тое, што Сталін зацвердзіў гэтую стратэгію.

Крысціян Герлах лічыць, што адзін з галоўных поспехаў савецкіх партызанаў у Беларусі палягаў у аграрнай сферы. Адначасова ён перасцерагае ад пераацэнкі гэтых поспехаў, бо як партызаны, так і нямецкая адміністрацыя падавалі прыхарошаныя паведамленні. Немцы гэта рабілі, каб атрымаць узмацненне часцей бяспекі. Адначасова Герлах канстатуе:

> Але найбольшае значэнне мела паралізаванне сельскагаспадарчай адміністрацыі, сістэмы нарыхтоўкі і транспарціроўкі, чым партызаны змаглі значна зменшыць нямецкія «нарыхтоўкі». Аднак ім не ўдалося, у адрозненне ад апісанняў у літаратуры, сарваць у Беларусі, ці цалкам, ці толькі прыблізна, нарыхтоўку сельгаспрадуктаў для немцаў і зрабіць немагчымым адміністраванне ў краіне[194].

[189] Тамсама.

[190] Пратакол размовы з камандзірам Пінскага партызанскага злучэння Аляксеем Кляшчовым ад 24 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 145).

[191] Паведамленне кіраўнічай групы харчавання і сельскай гаспадаркі пра страты ў сельскагаспадарчых вытворчых гаспадарках з-за бандытызму на акупаванай усходняй тэрыторыі, 14 красавіка 1943 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 22—23v).

[192] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 251.

[193] П. Панамарэнка Сталіну, Малянкову і Андрэеву, 15 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 34 і наст.).



## 8. Разлажэнне мясцовай паліцыі і «мясцовых» злучэнняў

Сілы, якія прыцягваліся нямецкімі акупантамі для барацьбы супраць партызанаў, набіраліся галоўным чынам з так званых «мясцовых» злучэнняў. Мяркуецца, што ў 1943 г. у Беларусі было 50 000 чалавек у службе парадку (пад ваеннай адміністрацыяй) і ахоўных камандаў (пад цывільным кіраваннем). Адна іх частка служыла аднаасобна, а большасць уваходзіла ў ахоўныя батальёны, размешчаныя ў казармах і ў баявой гатоўнасці. У Беларусі вясной 1943 г. мелася 55 пастоў жандармерыі і 72 пасты ахоўных камандаў, на кожным па 50 чалавек. Нямала было апорных пунктаў, на якіх было пазней і па 200 «*Schuma*» (ахоўнікаў). На тэрыторыях з ваеннай адміністрацыяй на раён мелася ад 4 да 6 паліцэйскіх участкаў па 40 чалавек службы парадку, на раён — да 300 чалавек. Супрацоўнікі службы парадку набіраліся з мясцовага насельніцтва, галоўным чынам з беларусаў[195].

Да гэтага дадаваліся небеларускія ахоўныя батальёны. У сакавіку 1943 г. у Беларусі дзейнічалі сем украінскіх, чатыры літоўскія і два латышскія батальёны «шума»[196]. Вясной 1944 г. баявая групоўка фон Готберга, якая была ўтворана для барацьбы з партызанамі ў Беларусі, складалася ў асноўным з ненямецкіх падраздзяленняў. Тут былі, сярод іншага, брыгада Камінскага (15 000 чалавек), усходні мусульманскі полк СС (3 000 чалавек), латышскі і эстонскі ахоўныя батальёны, па пяць літоўскіх і ўкраінскіх, адзінаццаць беларускіх батальёнаў і два каўказскія пяхотныя батальёны (па 1 000 чалавек), а таксама конныя казацкія атрады[197].

14 жніўня 1942 г. сакратар Мінскага падпольнага абкама КП(б)Б Клімаў звярнуўся да Панамарэнкі з дакладной запіскай. Клімаў звяртаў увагу на вялікую колькасць «мясцовых» фармаванняў («паліцыя, самапомач, самаахова і інш.»), якія былі створаныя акупантамі і задзейнічаныя супраць партызанаў. Ён прытрымліваўся думкі, што трэба зрабіць усё, каб разваліць гэтыя злучэнні з сярэдзіны. Ён свае разважанні закончыў так: «Гэта маё асабістае меркаванне. Калі я памыляюся, калі ласка, папраўце мяне»[198]. Панамарэнка напісаў на палях дакумента:

> Накіраваць членам Бюро ЦК, сакратарам ЦК КП(б)Б. Не, таварыш Клімаў не памыляецца. Трэба заняцца пісьмом і матэрыяламі, якія маюцца ў ЦК

[194] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 866 і наст.

[195] Тамсама. S. 202—205.

[196] Тамсама. S. 207.

[197] Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 374—382.

[198] Клімаў П. Панамарэнку, 14 жніўня 1942 г. (копія) (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 10, л. 10—11 об.).

накont гэтага пытання. [...] Перад усімі групамі, што накіроўваюцца, ставіць задачы ў гэтай сферы адпаведна з рашэннем ЦК[199].

Праз чатыры дні, 18 жніўня 1942 г., Панамарэнка таксама напісаў дакладную запіску па гэтай праблематыцы, якая была накіравана Сталіну і яго самым блізкім паплечнікам. Ён звяртаў увагу на вялікую колькасць членаў «калабарацыяніцкіх злучэнняў» і іх вялікую ролю ў барацьбе супраць партызанаў і Чырвонай Арміі. Адна іх частка, напрыклад, крымскія татары і ўкраінцы, — добраахвотнікі, паводле слоў Панамарэнкі. Аднак шмат іншых прыцягнутыя немцамі гвалтоўна, пагрозамі голаду і ціску. Адпаведна, іх маральны дух таксама слабы. Ужо меліся шматлікія выпадкі, калі члены гэтых фармаванняў перабягалі да партызанаў. Цяпер, на яго думку, ёсць спрыяльная магчымасць разбурыць гэтыя фармаванні. З гэтай прычыны ён прапануе не расстрэльваць перабежчыкаў, а прымаць іх у партызанскія атрады ці, абяззброіўшы, адпускаць дамоў. Інакш іх трэба знішчаць[200].

Гэтая прапанова была ўхвалена Сталіным, і 6 лістапада 1942 г. маршал Варашылаў як галоўнакамандуючы партызанскім рухам выдаў загад, у якім аб'явіў разбурэнне «добраахвотных» злучэнняў, утвораных немцамі, адной з найважнейшых задач партызанаў. Паводле загада, усе злучэнні неабходна было лакалізаваць, выявіць іх задачы, арганізаваць у саміх злучэннях агентурныя сеткі і ажыццяўляць прапаганду. Перабежчыкам трэба было даць магчымасць «адкупіць сваю віну» ў баях за Радзіму. Але ім нельга даваць кіраўнічыя пасады. Акрамя таго, асобныя камандзіры гэтых злучэнняў праз мэтанакіраваную дэзынфармацыю мусілі быць настолькі скампраметаваныя, каб немцы самі расстралялі іх[201].

Гэты метад неўзабаве даў першыя вынікі. З пачатку 1943 г. цэлыя «мясцовыя» падраздзяленні пачалі дэзерціраваць, асабліва ў Беларусі. 24 лютага 1943 г. Панамарэнка паведамляў Сталіну, што напярэдадні, 23 лютага, да партызанаў у Віцебскай вобласці перабегла больш за 800 чалавек са зброяй з 825-га батальёна, сярод якіх былі татары, казакі і часткова рускія. Акрамя таго, у брыгаду Данукалава, таксама ў Віцебскай вобласці, перабегла 200 чалавек. З ліку перабежчыкаў 200 чалавек захацелі застацца ў партызанах, астатнія ж здалі зброю і выказалі жаданне змагацца супраць немцаў у шэрагах Чырвонай Арміі[202].

Самы вялікі поспех у разлажэнні «мясцовых» злучэнняў занесла на свой рахунак брыгада «Жалязняк» пад камандаваннем Ціткова з Бягомльска-Лепельскай зоны. У сярэдзіне ліпеня 1943 г. прадстаўнікі Рускай вызваленчай арміі (РВА) па сваёй ініцыятыве пачалі перамовы з камандаваннем брыгады «Жалязняк», каб даведацца, ці ёсць магчымасць перабегчы да партызанаў. Патэнцыйныя перабежчыкі баяліся, што іх расстраляюць, калі не ў шэрагах партызанаў, то пасля прыходу Чырвонай Арміі, яны адначасова пужаліся, што ў падраздзяленні за імі будуць шпіёніць[203].

Падраздзяленні РВА былі створаныя немцамі ў лютым 1943 г. для выкарыстання іх у барацьбе супраць партызанаў і на фронце. Першых набіралі ў лагерах для ваеннапалонных, пазней мабілізавалі маладых людзей у заходніх частках Беларусі. Паводле савецкіх падлікаў, злучэнні РВА ў ліпені 1943 г. налічвалі каля 70 000 чалавек[204]. Савецкае кіраўніцтва вельмі сур'ёзна ўспрымала небяспеку, якая зыходзіла ад гэтых злучэнняў. У адным загадзе партызанскім камандзірам і кіраўнікам партыйных падпольных арганізацый Цэнтральны штаб папярэджваў: «Утварэнне "Рускай вызваленчай арміі" ўскладняе становішча ў тыле і стварае сур'ёзную небяспеку для партызанскага руху»[205].

У сакавіку 1943 г. немцы перавялі адзін полк РВА ў Бягомльскі раён, дзе ён павінен быў змагацца супраць партызанаў Бягомльска-Лепельскай зоны[206]. На базе палка павінна была ўтварыцца дывізія РВА. У жніўні 1943 г. падраздзяленне налічвала каля 1 700 ваеннаслужачых, якія складаліся на 15 % з ваеннапалонных, на 45 % з мабілізаваных, на 35 % з мясцовых паліцэйскіх і на 5 % з нямецкага персаналу. У папярэднія месяцы ваеннаслужачыя РВА неаднойчы перабягалі да партызанаў. У канцы сакавіка 1943 г. іх было 10 чалавек, 20 красавіка — 80, 1 мая — 52 і ў ліпені — 13 чалавек[207].

ЦШПР і БШПР далі брыгадзе «Жалязняк» дазвол весці перамовы з прадстаўнікамі РВА, якія неўзабаве паспяхова скончыліся. Ужо ў пачатку жніўня 1943 г. была дасягнута дамоўленасць, і 17 жніўня полк РВА пад камандаваннем былога старшага лейтэнанта Чырвонай Арміі Гіля-Радзіёнава са зброяй перайшоў да партызанаў. Адначасова перабежчыкі арыштавалі былога генерал-маёра Чырвонай Арміі Багданава, што ў злучэнні РВА адказваў за контрразведку, нямецкіх кадравых вайскоўцаў (унтэр-афіцэраў і афіцэраў), а таксама рускіх

[199] Тамсама. Л. 11 об.

[200] Дакладная П. Панамарэнкі Сталіну, Андрэеву, Малянкову і Шчарбакову, 18 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 40 і наст.).

[201] Загад галоўнакамандуючага партызанскім рухам маршала Варашылава № 1492 ад 6 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 40—42).

[202] П. Панамарэнка Сталіну, Л. Берыі, Молатаву, Малянкову і інш. пра перабежчыкаў, 24 лютага 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 43, л. 43).



[203] Паведамленне Калініна П. Панамарэнку пра разлажэнне падраздзяленняў РВА пад камандаваннем палкоўніка Радзіёнава-Гіля, 30 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 114—119); П. Панамарэнка Кузняцову, 18 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 22, л. 47 і наст.).

[204] Даклад Фармашова Сталіну пра нацынальныя калабарацыйныя злучэнні, 27 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 14, л. 81—84).

[205] Дырэктыва ЦШПР па інтэнсіфікацыі партызанскага руху і барацьбе са шпіёнамі, подпіс нечытэльны, [30 мая 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 84).

[206] Справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Бруханава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 259).

[207] Паведамленне Калініна П. Панамарэнку пра разлажэнне падраздзяленняў РВА пад камандаваннем палкоўніка Радзіёнава-Гіля, 30 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 114—119).

афіцэраў-эмігрантаў і перадалі іх партызанам. Былых партызанаў, якія некалі перабеглі да немцаў і служылі ў шэрагах РВА, перабежчыкі таксама выдалі партызанам. Большасць перабежчыкаў былі рускімі[208].

Для пачатку сваёй партызанскай барацьбы перабежчыкі захапілі і знішчылі 16—17 жніўня докшыцкі апорны пункт і чыгуначную станцыю Круляўшчызна[209]. Докшыцы яны ўзялі без бою, павесілі ўсіх немцаў, якія трапілі ім у рукі, узялі ў палон 40 паліцаяў і спалілі мястэчка дашчэнту[210]. Ціткоў і Радзіёнаў перадавалі Панамарэнку па радыё 19 жніўня, што перабежчыкі знішчылі на абодвух апорных пунктах 580 чалавек жывой сілы і 15 афіцэраў, а 40 узялі ў палон[211].

Ужо 18 жніўня Ціткоў па радыё паведаміў Цэнтральнаму штабу пра ўдалую аперацыю. Панамарэнка рэагаваў грунтоўна і паслаў у брыгаду «Жалязняк» самалёт, каб забраць генерала Багданава і нямецкіх афіцэраў. Астатніх немцаў і «сапраўдных» здраднікаў Панамарэнка загадаў расстраляць. Акрамя таго, Цэнтральны штаб накіраваў групу партыйных работнікаў і супрацоўнікаў НКУС, каб яны на месцы заняліся справай, г. зн. перабежчыкамі[212]. 20 жніўня Панамарэнка паведаміў Сталіну і яго самым блізкім паплечнікам, што ў ноч на 20 жніўня генерал Багданаў, палкоўнік яшчэ царскай арміі Святаполк-Мірскі, расійскі эмігрант ротмістр Ячмянёў, а таксама бургамістр Бягомля Трафімовіч вывезеныя на самалёце і перададзеныя НКУС. «Вывезці нямецкіх афіцэраў было немагчыма, бо людзі Радзіёнава ў першы ж дзень іх павесілі»[213].

У гэтай сувязі варта зазначыць, што Панамарэнка 8 жніўня 1943 г. Ціткову, які рэгулярна дакладваў яму пра ход перамоў, наказваў:

> Калі ласка, падумайце, што аперацыя па ўзяцці ў палон Багданава мае надзвычайную цікавасць. [...] Калі сітуацыя не будзе дазваляць Вам узяць Багданава ў палон жывога, то паабяцайце яму любыя ўмовы, якія будуць гарантаваць яму жыццё[214].

---

[208] Тамсама; паведамленне брыгады імя Суворава ад 19 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 38 і наст.); Радзіёнаў П. Панамарэнку, 25 жніўня 1943 г. (Тамсама. Л. 48).

[209] Паведамленне Калініна П. Панамарэнку пра разлажэнне падраздзяленняў РВА пад камандаваннем палкоўніка Радзіёнава-Гіля, 30 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 114—119).

[210] Паведамленне брыгады імя Суворава ад 19 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 38 і наст.).

[211] Радыёграма Ціткова і Гіля П. Панамарэнку, № 6473 ад 19 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 14, арк. 59). Калінін жа 30 кастрычніка 1943 г. паведаміў аб 580 забітых салдатах, 15 — афіцэрах, а таксама 40 палоненых салдатах (паведамленне Калініна П. Панамарэнку пра разлажэнне падраздзяленняў РВА пад камандаваннем палкоўніка Радзіёнава-Гіля, 30 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 118 і наст.)). У аператыўным жа паведамленні Цэнтральнага штаба ад 26 жніўня 1943 г. гаворка ідзе пра 580 забітых «нямецкіх салдат» (вытрымкі з аператыўных паведамленняў ЦШПР за 1943 г., 15 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 127 і наст.)).

[212] П. Панамарэнка Кузняцову, 18 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 22, л. 47 і наст.).

[213] П. Панамарэнка Сталіну, Л. Берыі, Молатаву, Малянкову, 20 жніўня 1943 г. (Тамсама. Л. 52).



У Панамарэнкі не было звычкі трымаць сваё слова.

Пасля пераходу да партызанаў полк РВА быў перайменаваны ў «1-ю Антыфашысцкую партызанскую брыгаду» і працягваў змагацца супраць нямецкіх акупантаў пад камандаваннем Радзіёнава[215]. У канцы жніўня 1943 г. брыгада налічвала 1 432 чалавекі. 184 чалавекі са злучэння, якія былі мабілізаваныя ў заходніх абласцях Беларусі, дэзерціравалі ў час пераходу ці неўзабаве пасля яго. Яны вярнуліся да немцаў ці пайшлі дадому[216].

Панамарэнка асабіста цікавіўся 1-й Антыфашысцкай брыгадай і яе дзейнасцю, людзі якой, паводле паступаючых паведамленняў, вельмі актыўна і паспяхова змагаліся з нямецкімі акупантамі. Панамарэнка нават распарадзіўся ўзнагародзіць Радзіёнава жаданым ордэнам Чырвонай Зоркі[217]. У 1944 г. Радзіёнаў загінуў у баі і прыход Чырвонай Арміі ў Беларусь больш не ўбачыў. Савецкая гістарыяграфія яго выпадак, як магла, затушоўвала[218].

Партызаны не вельмі давяралі перабежчыкам. 30 мая 1943 г. Цэнтральны штаб настойліва папярэджваў камандзіраў і камісараў партызанскіх атрадаў і брыгад наконт шпіёнаў і наказваў ім: «Групы салдат і афіцэраў, якія пераходзяць да партызанаў, трэба выпрабоўваць у баявых дзеяннях, каб праверыць, ці шчыры быў іх пераход»[219]. Большасць перабежчыкаў, аднак, апраўдвала давер. У атрад імя Чапаева, які дзейнічаў у Рудзенскім раёне Мінскай вобласці, да чэрвеня 1943 г. перабеглі больш за 200 чалавек. Камісар атрада Глебаў заявіў 28 чэрвеня 1943 г., што большасць з іх правяраюцца ў баях. Некаторыя з іх ваююць, як чэрці. «Асобы аддзел асабліва пільна правярае найбольш злосных, з якімі абыходзяцца паводле рэвалюцыйнага парадку»[220].

У кастрычніку 1943 г. Стэльмах, камандзір аператыўна-чэкісцкай групы ў Магілёўскай вобласці, якой былі падпарадкаваныя асобыя

---

[214] П. Панамарэнка Ціткову і Манковічу, 8 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 28).

[215] Паведамленне Калініна П. Панамарэнку пра разлажэнне падраздзяленняў РВА пад камандаваннем палкоўніка Радзіёнава-Гіля, 30 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 114—119).

[216] Паведамленне пра баявы і асабовы склад 1-й Антыфашысцкай партызанскай брыгады таварыша Радзіёнава, без даты, [канец жніўня ці пачатак верасня 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 120 і наст.).

[217] Даклад Фармашова Бельчанку пра калабарацыйныя злучэнні, без даты, [пачатак студзеня 1944 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 21, л. 69 і наст.).

[218] Тагачасны начальнік БШПР Пётр Калінін апісвае гэты выпадак у сваіх мемуарах. Гл.: Калинин П. З. Партизанская республика... С. 169—175. Аднак ягонае апісанне часта моцна адрозніваецца ад уласных паведамленняў 1943 г.

[219] Дырэктывы ЦШПР па інтэнсіфікацыі партызанскага руху і барацьбы са шпіёнамі, подпіс нечытэльны, 30 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 87).

[220] Пратакол размовы з камісарам атрада імя Чапаева Глебавым ад 28 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 28).

аддзелы, распарадзіўся ўлічыць усіх перабежчыкаў (былых паліцаяў, салдат РВА, бургамістраў і іншых памагатых) і паставіць іх пад нагляд агентаў. Тых, што ў мінулым былі «стараннымі служкамі» нямецкіх акупантаў і старанна праследавалі партызанаў, савецкіх актывістаў і іх сем'і, а цяпер знаходзіліся ў партызанскіх атрадах, «неабходна арыштаваць і пасля праведзеных расследаванняў расстраляць». Свой загад Стэльмах закончыў распараджэннем: «З гэтым дакументам трэба пазнаёміць усіх упаўнаважаных асобага аддзела, пасля гэтага дакумент спаліць»[221].

Стэльмах абгрунтаваў свой загад такім чынам:

> Улічваючы пераможнае наступленне Чырвонай Арміі, да партызанскіх атрадаў далучаюцца супрацоўнікі нямецкай адміністрацыі, паліцаі, салдаты РВА, таму што яны баяцца заслужанай кары за сваю дзейнасць падчас іх службы ў немцаў. Гэтыя людзі прыходзяць у атрады не для таго, каб змагацца за Радзіму, а каб выратаваць уласную скуру[222].

Нямала перабежчыкаў былі, як ужо было напісана, «выкрытыя» як нямецкія агенты і ліквідаваныя. Той-сёй з перабежчыкаў загінуў у жорсткіх абставінах. У атрад імя Катоўскага, што дзейнічаў у Брэсцкай вобласці, вясной 1943 г. прыйшоў паліцай, каб павесці перамовы. Камандзір быў п'яны. Не разбіраючыся ў справе, ён загадаў звязаць паліцая і «пратраляваць» праз навакольныя вёскі. Нарэшце партызаны кінулі пакалечаны труп паліцая ў раку. Пасля гэтага паліцаі гэтай мясцовасці перасталі перабягаць да партызанаў[223].

18 сакавіка 1943 г. з Віцебска да партызанаў брыгады Данукалава перабегла група перакладчыкаў (дзве жанчыны і адзін мужчына). Мужчыну звалі Генрык Чаплінскі, 1890 г. нараджэння, польскі яўрэй з Львова. Да вайны ён быў прафесарам у кансерваторыях у Кракаве і Львове, валодаў некалькімі мовамі і быў грамадзянінам свету. У 1940 г. яго арыштавалі савецкія пamежнікі пры нелегальным пераходзе нямецка-савецкай дэмаркацыйнай лініі, і ён трапіў у турму ў Мінску. Пасля нападу немцаў ён, паводле яго дадзеных, быў вызвалены. Ён выдаваў сябе за паляка і працаваў перакладчыкам у немцаў. Пасля пераходу да партызанаў яго дапытаў НКУС і перадаў нарэшце «Смершу». Западозрылі, што ён нямецкі шпіён. Як быццам, у яго было заданне трапіць у савецкі тыл для шпіянажу. Панамарэнка праінфармаваў Сталіна пра стан расследаванняў у справе Чаплінскага[224]. Пра яго далейшы лёс нічога нельга даведацца, але малаверагодна, што ён выжыў.

[221] Начальнік аператыўна-чэкісцкай групы па Магілёўскай вобласці Стэльмах начальнікам асобых аддзелаў, 11 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 1350, воп. 1, спр. 35, арк. 21 і наст.).
[222] Тамсама.
[223] Пратакол размовы з камандзірам спецгрупы Салянікам ад 26 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 4, л. 68).
[224] Паведамленне П. Панамарэнкі Сталіну, № 975 ад 26 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 20, л. 57); паведамленне П. Панамарэнкі і Л. Цанавы Сталіну, № 1008 ад 5 мая 1943 г. (Тамсама. Л. 59 і наст.).



Падобных прыкладаў можна прывесці шмат. Яны адпужвалі многіх людзей са злучэнняў «мясцовых» і паліцыі ад пераходу да партызанаў. А партызаны ў сваёй падрыўной прапагандзе адкрыта рабілі стаўку на запалохванне[225]. Напрыклад, 1 мая 1943 г. партызаны звярнуліся да байцоў РВА, якія служылі ў гарнізонах Лужкоў і Плісы, на паўднёвы захад ад Полацка:

> Мы даём вам магчымасць разлічыцца за вашыя злачынствы. [...] Падзенне фашыстаў набліжаецца, набліжаецца час канчатковага разліку з акупантамі. І кожны, хто падтрымлівае немцаў, будзе бязлітасна знішчаны. Пакуль яшчэ не позна, уцякай са зброяй ад немцаў і прыходзь да нас, у партызаны[226].

Такія пагрозы і аргументы набывалі, ва ўсякім разе пасля Сталінграда, усё большую пераканаўчую сілу, пра што сведчыць колькасць перабежчыкаў, якая з вясны 1943 г. увесь час расла. У 1942 г., паводле статыстыкі Цэнтральнага штаба ад студзеня 1944 г., перабеглі агулам 727 мясцовых паліцаяў і 10 венграў, у тым ліку толькі 69 у Беларусі. За 1943 г. Цэнтральны штаб ужо дакладваў па Беларусі пра 8 291 перабежчыка і пра 10 925 па ўсіх тэрыторыях, з іх 290 — ва Украіне. Сярод перабежчыкаў былі, сярод іншага, 42 немцы, 14 французаў, 85 чэхаў і 1 венгр[227]. Аднак гэтыя дадзеныя былі няпоўнымі і агульны лік перабежчыкаў у Беларусі быў значна большы[228].

Паводле дадзеных ліквідацыйнай групы Беларускага штаба партызанскага руху, да лета 1944 г. у Чырвоную Армію ўліліся агулам 16 336 перабежчыкаў, якія да таго змагаліся ў беларускіх партызанскіх атрадах. Сюды дадаюцца 2 232 перабежчыкі, што загінулі ў баях ці памерлі ад ран, 1 128 зніклі без вестак, 342 трапілі ў нямецкі палон. Акрамя таго, 7 201 перабежчык працаваў агентам і 356 — кур'ерамі партызанаў, якія, аднак, былі набраныя выключна з мясцовага насельніцтва[229].

Былі і перабежчыкі-немцы. Паводле дадзеных Беларускага штаба, з красавіка 1943 г. да лютага 1944 г. у Беларусі перабеглі да

[225] Параўн. на гэты конт шматлікія ўлёткі, якія заклікалі перабягаць, што захоўваюцца ў: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 106—112.
[226] Улётка партызанскага камандавання да нямецкіх гарнізон Лужкоў і Плісы, да рускіх палонных, якія трапілі на службу да немцаў, 1 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 110).
[227] Пералік перабежчыкаў з РВА, паліцэйскіх і іншых добраахвотных фармаванняў з 22 чэрвеня 1942 г. да 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 68, л. 4).
[228] Паводле дадзеных аддзела разведкі Цэнтральнага штаба за люты 1944 г., з чэрвеня па снежань 1943 г., паводле няпоўных дадзеных, да партызанаў са зброяй у руках перабеглі 10 000 «здраднікаў». Гл.: Справаздача пра дзейнасць аддзела разведкі ЦШПР за перыяд з мая 1943 г. да студзеня 1944 г., 5 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 721, л. 39 і наст.).
[229] Зводка колькасці партызанаў, якія дзейнічалі на беларускай тэрыторыі падчас Айчыннай вайны, падрыхтаваная Раманавым і Разанавым з ліквідацыйнай групы БШПР, 1 жніўня 1946 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 8; НАРБ. Ф. 3500, воп. 12, спр. 10, арк. 8).

партызанаў 47 нямецкіх салдат і афіцэраў[230]. Агульная колькасць немцаў-перабежчыкаў мусіць быць значна большая. Толькі ў брыгаду Паўлоўскага (Палеская вобласць) да чэрвеня 1943 г. нібыта перабегла 13 немцаў. Сярод іх былі два нямецкія афіцэры, што прыехалі на грузавіку, паўнютка нагружаным боепрыпасамі і медыкаментамі. Каля 250 «чэхаў» (у сапраўднасці славакаў), якія былі прыстаўленыя ахоўваць чыгунку, перабеглі да партызанаў на Палессі[231]. У 2-ю Мінскую партызанскую брыгаду да чэрвеня 1943 г. добраахвотна прыйшлі мінімум чатыры немцы, у тым ліку 1 старшы лейтэнант з Мінска. Ён прывёз на грузавіку групу з 25 часткова ўзброеных яўрэяў з гета[232].

Пётр Марцінкевіч, камандзір разведатрада пры брыгадзе Дуброўскага, сустрэў восенню 1943 г. нямецкага перабежчыка. Гэта быў нямецкі камуніст, які крыху размаўляў па-руску, з партбілетам, схаваным у боце. Ён дэзерціраваў з падраздзялення і схаваўся ў вёсцы. Там яго знайшоў Марцінкевіч і прывёў у сваё падраздзяленне. Перабежчыка потым перапраўлі на самалёце ў савецкі тыл[233]. У шэрагах беларускіх партызанаў знаходзіліся, сярод іншага, мінімум 24 аўстрыйцы[234].

Перабяганне было вельмі рызыкоўным. Не толькі з-за нямецкіх рэпрэсій, але і з-за шпіёнаманіі ў партызанаў. У прынцыпе, смерць была наканаваная і немцам, забраным у палон. Партызаны расстрэльвалі іх найчасцей адразу пасля захопу ў палон. Напрыклад, партызаны з атрада «Смерць фашызму» захапілі ў палон нямецкага афіцэра, якіназіраў за пракладаннем тэлефоннага кабелю Берлін — Усходні фронт. Праз тры дні палону яго расстралялі. Расстралялі таксама пасля захопу ў палон партызанамі «нямецкіх манцёраў», што абслугоўвалі і рамантавалі тэлефонную лінію. Перад расстрэлам партызаны Барысаўскай зоны прымусілі палонных немцаў напісаць сваім таварышам заклікі, якія прапаноўвалі ім перабягаць. Затым яны былі расстраляныя[235].

Расстрэлы нямецкіх палонных можна, сярод іншага, патлумачыць тым, што ў партызанаў не было магчымасці трымаць палонных

---

[230] Выніковая справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 г. да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 153).

[231] Пратакол размовы з Фёдарам Паўлоўскім ад 1 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 46—57).

[232] Пратакол размовы з Аляксеем Пятровічам, начальнікам санітарнай службы пры 2-й Мінскай партызанскай брыгадзе, 6 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 855, л. 16).

[233] Інтэрв'ю аўтара з Пятром Марцінкевічам...

[234] Karner S., Ruggenthaler P., Steeg F. Der letzte «Heimkehrer» aus ehemaliger sowjetischer Gefangenschaft. Mit einem Exkurs uber Osterreicher insowjetischen Partisaneneinheiten 1941—1944 // Kriegsgefangene des Zweiten Weltkrieges. Gefangennahme — Lagerleben — Rückkehr / Hrsg. von G. Bischof, S. Karner, B. Stelzl-Marx. Wien—München, 2005. S. 212—238.

[235] Стэнаграма размовы з Каваленкам і Дзякавым з Барысаўскай зоны ад 13 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 52 і наст.).



працяглы час ці вывозіць на самалёце ў савецкі тыл. Пра тое, каб іх адпусціць, з пункту гледжання савецкіх партызанаў, і гаворкі не магло быць. Але і ваенна-псіхалагічны элемент запалохвання, пэўна, адыгрываў пры гэтым немалую ролю. 30 жніўня 1942 г. у Маскве адбылася нарада Панамарэнкі з партызанскімі камандзірамі з Бранскіх лясоў. У нарадзе Панамарэнка спытаў пра немцаў-перабежчыкаў. Адзін з партызанскіх камандзіраў заявіў:

> У мяне быў адзін немец, кулямётчык, спрабаваў уцячы. Панамарэнка: лепш выкарыстоўваць іх [немцаў], як кажуць, для таго свету. Немцы павінны дрыжэць, толькі пачуўшы назву партызан. Я прыпамінаю пра такі выпадак зімой пад Вялікімі Лукамі: група немцаў стаяла пад расстрэлам. Адзін выскачыў і заявіў: «Я — камуніст». А калі ты стаў камуністам? Славакаў і венграў, зразумела, выкарыстоўваць далей. Імкнуцца выкарыстаць іх[236].

Указанне Панамарэнкі «выкарыстоўваць немцаў для таго свету» адпавядала тагачасным новым дырэктывам савецкай ваеннай прапаганды наконт нямецкіх салдат. Прапаганда павінна была наганяць нямецкім салдатам страх і запалохваць, каб дэмаралізаваць іх[237].

## 9. Забеспячэнне зброяй, амуніцыяй і выбухоўкай

Адной з найважнейшых перадумоў для развіцця партызанскага руху было забеспячэнне партызанаў зброяй, амуніцыяй, выбуховымі рэчывамі, прадуктамі харчавання і вопраткай. Але крайне недастатковае забеспячэнне, асабліва зброяй, амуніцыяй, выбухоўкай і мінамі, стала адной з галоўных прычын адносна малой эфектыўнасці партызанскай барацьбы ў Беларусі.

Партызаны 1941 г. былі, як ужо было сказана, дрэнна ўзброеныя і рэдка мелі міны і выбуховыя рэчывы, галоўную зброю дыверсантаў і партызанаў. Да канца 1941 г. іх і засталося мала. Партызаны 1942 г. набіраліся пераважна, ці большай часткай, з вайскоўцаў, што адбіліся ад сваіх часцей, ды збеглых ці адпушчаных ваеннапалонных. Для наваўтвораных атрадаў і груп забеспячэнне зброяй, як правіла, было галоўнай праблемай. Яны здабывалі сабе зброю і амуніцыю на палях баёў лета 1941 г., у лясах і балотах ды ў мясцовага насельніцтва. Шмат хто з жыхароў краіны падбіраў пакінутую летам 1941 г. зброю і прыхоўваў яе. Партызаны запатрабавалі ад усіх здаваць прыхаваную зброю ім. Калі тыя, каго гэта тычылася, не здавалі зброю «добраахвотна», партызаны пагражалі сілай, ды і ўжывалі яе[238].

---

[236] Пратакол нарады камандзіраў Бранскіх партызанскіх атрадаў з П. Панамарэнкам, 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 22).

[237] Даклад Аляксандра Шчарбакова (начальніка Галоўнага ўпраўлення прапаганды Чырвонай Арміі) падчас пасяджэння Савета па ваенна-палітычнай прапагандзе пры ўпраўленні прапаганды Чырвонай Арміі, 27 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 88, оп. 1, д. 947, л. 1 і наст.).

[238] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 109 і наст.

Іван Генцьман, 1924 года нараджэння, жыў у вёсцы Карма Рэчыцкага раёна (Гомельская вобласць). Ён летам 1941 г. знайшоў вінтоўку, якую і схаваў. Але ён распавёў пра гэта знаёмым. Пра тое даведаліся партызаны і прыйшлі да яго. Яны запатрабавалі выдачы вінтоўкі, звязалі Генцьману рукі за спінай, і ён павінен быў весці іх да сховаў. Потым яны яго выпусцілі[239]. Але не ўсе так лёгка выйшлі сухімі з вады.

У 1942 г. партызаны ў Беларусі толькі ў выключным выпадку атрымлівалі дапамогу з савецкага тылу ў выглядзе зброі і амуніцыі, тым больш што савецкае кіраўніцтва прытрымлівалася думкі, што партызаны павінны забяспечваць зброяй сябе самі. Панамарэнка ў дакладной запісцы ад 5 ліпеня 1942 г. пісаў, што партызаны забяспечваюць сябе зброяй, амуніцыяй і харчам ад ворага. Выключэнне — выбухоўка і запалы, якія цяжка здабыць у тыле ворага. Іх трэба было пастаўляць[240].

У цытаванай тут дакладной і ў іншых афіцыйных дакументах Панамарэнка замоўчвае іншыя магчымасці забеспячэння сябе зброяй на месцы. Праз некалькі тыдняў, 27 ліпеня 1942 г., Панамарэнка ўсё-ткі згадаў у адным лісце Сталіну пра «мясцовыя рэсурсы», калі прасіў пра выдзяленне самалётаў для адпраўкі выбуховых рэчываў і радыёстанцый для партызанаў:

> Партызанскія атрады забяспечваюць сябе зброяй, амуніцыяй і прадуктамі харчавання ад ворага і з мясцовых рэсурсаў. Але ёсць спецыяльныя віды зброі, якія партызанам трэба дастаўляць. У першую чаргу гэта тычыцца мін, выбуховых рэчываў, запалаў [...] і г. д. У асобных выпадках забеспячэнне трэба ажыццяўляць паветраным шляхам[241].

Панамарэнка і ягоныя супрацоўнікі вельмі добра ведалі, што гэта азначае — забяспечваць сябе зброяй і боепрыпасамі з «мясцовых рэсурсаў», і далі на гэты конт спецыяльныя распараджэнні. 24 чэрвеня 1943 г. адбылося пасяджэнне Цэнтральнага камітэта КП(б)Б, якое вёў Панамарэнка. На пасяджэнні даклад пра партызанскі рух у заходніх абласцях БССР рабіў Іван Жыжко, адзін з партызанскіх камандзіраў з Брэсцкай вобласці. Жыжко пацвердзіў, адказваючы на пытанне, што партызаны ў Брэсцкай вобласці выдалі загад пра здачу зброі. На гэта прагучала пытанне:

> А калі сяляне не здалі зброю? [Жыжко]: Калі мы ведалі, што ў яго ёсць зброя, мы ішлі да яго і ён аддаваў яе. Калі мы ведалі, што ён — нягоднік, што ён зброю не аддае, а такія ёсць яшчэ — кулакі, падкулачнікі і інш. — мы прымушалі іх здаць зброю. Панамарэнка: Вы ні перад чым не спыняецеся? [Жыжко:] Былі выпадкі расстрэлаў[242].

[239] Інтэрв'ю аўтара з Іванам Генцьманам, які нарадзіўся ў 1924 г., жыве ў вёсцы Карма Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці, узятае 6 ліпеня 2004 г. у Карме.
[240] Дакладная запіска начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб стане партызанскага руху на 1 ліпеня 1942 г., 5 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 11—16).
[241] П. Панамарэнка Сталіну, 27 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 24, л. 63).
[242] Стэнаграма пасяджэння ЦК КП(б)Б ад 24 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 254, арк. 30—50); апублікавана Міхалам Гнатоўскім у: Studia Podlaskie. T. V. Białystok, 1995. S. 240.



Захоп зброі і боепрыпасаў у ворага дрэнна ўзброенымі партызанамі ажыццявіць было амаль немагчыма. Партызаны шматкроць спрабавалі давесці гэта Маскве і штораз прасілі прысылаць зброю і амуніцыю[243]. Начальнік штаба атрада «Сцяг», які дзейнічаў у Мінскай вобласці, у ліпені 1943 г. скардзіўся:

> Атрад вельмі балюча адчувае недахоп зброі і яшчэ больш — боепрыпасаў. [...] Частку зброі мы здабылі як трафеі. Але гэта вельмі цяжка. Немцы рухаюцца вялікімі калонамі. [...] У нас замала боепрыпасаў, каб змагацца з імі, а немцы могуць біцца на працягу некалькіх дзён. Мы ж можам толькі неўспадзеўкі адкрыць агонь, даць пару раптоўных залпаў і кінуцца наўцёкі. [...] Калі немцы сцягваюць свае сілы і прыходзяць на нашу тэрыторыю, каб канфіскаваць жывёлу і ўраджай, партызаны вымушаныя адступаць, бо яны занадта слабыя, каб весці бой[244].

Такія скаргі і паведамленні можна прыводзіць бясконца, і да канца нямецкай акупацыі ў гэтым сэнсе змянілася мала. Карэспандэнт газеты «Праўда» Зямцоў, які ў чэрвені 1944 г. быў у Баранавіцкай вобласці, 24 чэрвеня 1944 г. перадаваў па радыё Панамарэнку:

> Я знаходжуся ўжо палову месяца ў партызанаў Баранавіцкай вобласці і ўвесь час чую скаргі пра недахоп амуніцыі. [...] Большасць партызанаў Лідскай зоны маюць па 5—10 зарадаў боепрыпасаў на вінтоўку. Значная частка партызанаў увогуле не мае зброі. Мясцовыя магчымасці забяспечыць сябе зброяй і боепрыпасамі — нікчэмныя. Становішча — наступнае: калі будзе дастаткова зброі і амуніцыі, то павялічыцца шматкроць і колькасць партызанаў, і іх дзейнасць[245].

Безупынныя скаргі партызанаў на недахоп зброі і амуніцыі натыкаліся летам 1942 г. у Цэнтральным штабе партызанскага руху на глухія вушы; яны раздражнялі Панамарэнку. 27 жніўня 1942 г. Панамарэнка паставіў рэгіянальныя штабы на месца: «У апошні час у Цэнтральны штаб паступалі розныя замовы на зброю, абсталяванне, боепрыпасы, прадукты харчавання, якія прысылаюць партызанскія атрады праз рэгіянальныя і франтавыя штабы». І гэта няправільна, тлумачыў Панамарэнка і працягваў: «Атрады павінны, і яны маюць такую магчымасць, забяспечваць сябе ад ворага»[246]. У той самы дзень Панамарэнка ўнушаў начальнікам рэгіянальных і франтавых штабоў партызанскага руху:

[243] Пададдзел інфармацыі 2-га аддзела БШПР на 1 лістапада 1942 г. напісаў 10-старонкавы даклад аб пытаннях і просьбах, накіраваных партызанскімі атрадамі і асобнымі «таварышамі» ў БШПР. Бальшыня з іх тычылася забеспячэння зброяй і амуніцыяй (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 19, арк. 4—8 адв.).
[244] Пратакол размовы з Мікалаем Такіевым, начальнікам штаба атрада «Знамя», ад 27 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 80 об. і наст.).
[245] Радыёграма Зямцова П. Панамарэнку, № 9629 ад 24 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 58, арк. 23 і наст.).
[246] Распараджэнне начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі начальнікам рэгіянальных і франтавых штабоў, № 352 ад 27 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 25).

Неабходна дамагчыся, каб камандзіры партызанскіх атрадаў зразумелі, што патрэбныя прадукты харчавання, зброю і боепрыпасы неабходна здабываць у ворага, бо з-за транспартных і іншых цяжкасцей нельга разлічваць на забеспячэнне з савецкага тылу[247].

Падобныя парады даваў і Сталін, калі ў час згаданай ужо сустрэчы з 17 партызанскімі камандзірамі 1 верасня 1942 г. рэкамендаваў партызанам, у якіх не было зброі, узбройвацца сякерамі і піламі і разбураць лініі сувязі і чыгуначныя рэйкі[248].

Нягледзячы на гэтыя прапановы, скаргі партызанаў на недахоп зброі і амуніцыі не спыняліся. 28 лютага 1943 г. Панамарэнка звярнуўся па радыё да партызанскіх камандзіраў Віцебскай вобласці:

Мы атрымалі вашыя паўторныя просьбы. […] Я папярэджваю вас, калі вы ў сваіх дзеяннях будзеце разлічваць толькі на пастаўкі боепрыпасаў з Цэнтра і не прымеце захады здабыць іх на месцы ад ворага, то з гэтага нічога не выйдзе. Я заклікаю вас, каб вы як кіраўнічыя дзеячы руху зразумелі гэта і выхоўвалі ў гэтым духу іншых. […] Адзін з прынцыпаў партызанскага руху — здабыча амуніцыі ад ворага[249].

Падобныя радыёграмы перадаваў начальнік Беларускага штаба Пётр Калінін. У адной дэпешы ад 31 мая 1943 г. ён звяртаўся па радыё да Філіпскіх, паліткамісара аднаго з падраздзяленняў Мінскай вобласці:

Дапамагчы зброяй і боепрыпасамі мы можам вельмі мала з-за цяжкасцей транспартавання паветраным шляхам. Здабываць зброю ў баях, шляхам нападаў на склады, вайсковыя эшалоны, паліцэйскія апорныя пункты, збор у насельніцтва. Заняцца падрыхтоўкай да ўзбраення іншымі відамі зброі [не агнястрэльнымі], прыцягваць народ да актыўнай барацьбы[250].

У гэтыя дні Калінін паслаў некалькі падобных рыдыёграм іншым партызанскім камандзірам у Беларусі[251].

Партызанскаму кіраўніцтву было зразумела, што недахоп зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў абцяжарваў ці рабіў немагчымым развіццё і актывізацыю партызанскага руху. Палкоўнік Нічыпаровіч тлумачыў у сваёй дакладной запісцы Варашылаву ад 29 кастрычніка 1942 г., што адной з найважнейшых перадумоў далейшага развіцця

[247] Распараджэнне начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі начальнікам рэгіянальных і франтавых штабоў, № 464 ад 27 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 27).

[248] Нататка П. Панамарэнкі падчас прыёму ў Крамлі, без даты (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 145).

[249] Радыёграма П. Панамарэнкі Кірпічу, Сяліцкаму, Лявонаву, Рашэтнікаву, № 661/429 ад 28 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 28, арк. 437).

[250] Радыёграма Калініна Філіпскіх, № 2142 ад 31 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 32, арк. 240).

[251] Радыёграма Калініна і асобага аддзела БШПР Пакроўскаму, № 1957 ад 25 мая 1943 г. (Тамсама. Арк. 56); радыёграма Калініна Зайцаву, № 2012 ад 27 мая 1943 г. (Тамсама. Арк. 113).



партызанскага руху з'яўляецца рэгулярнае забеспячэнне партызанаў зброяй і выбухоўкай паветраным шляхам[252].

31 сакавіка 1943 г. Пётр Калінін прасіў у адным лісце камандуючага паветрана-дэсантнымі войскамі Чырвонай Арміі генерала-маёра Глазунова падтрымкі ў яго намаганнях забяспечыць партызанаў Беларусі зброяй і боепрыпасамі паветраным шляхам. Калінін пры гэтым, сярод іншага, сцвярджаў:

На тэрыторыі Беларусі дзейнічаюць звыш 500 атрадаў з колькасцю да 70 000 партызанаў. Схаваныя рэзервы, якія гатовы ў любы час далучыцца да партызанскіх атрадаў, дасягаюць 150 000. Далейшаму ж росту руху перашкаджае востры недахоп узбраення[253].

У пачатку чэрвеня 1943 г. Калінін дакладваў Панамарэнку пра тагачаснае цяжкае становішча партызанаў Беларусі, якое было выклікана нямецкімі буйнымі аперацыямі і недахопам у партызанаў боепрыпасаў. Ён адначасова падкрэсліваў, што наступальная тактыка партызанскай барацьбы прадугледжвае пастаўку амуніцыі і выбуховых рэчываў[254].

Няздольнасць савецкага боку здавальняюча ці ўвогуле забяспечыць партызанаў зброяй, амуніцыяй і выбуховымі рэчывамі была, як ужо было сказана, абумоўлена ў першую чаргу цяжкасцямі транспартавання. Хоць у верасні 1942 г. Цэнтральны штаб атрымаў у сваё распараджэнне некалькі самалётаў, да партызанаў Беларусі, аднак, да вясны 1943 г. дайшло толькі некалькі асобных паставак, бо было нялётнае надвор'е, а колькасць самалётаў была нездавальняльнай[255].

З 15 верасня да 31 снежня 1942 г. партызаны Беларусі, паводле дадзеных Беларускага штаба, атрымалі паветраным шляхам і па сушы праз лінію фронту, сярод іншага: 2 982 аўтаматы (ППШ), 4 313 вінтовак і карабінаў, 3 цяжкія кулямёты, 444 лёгкія кулямёты, 266 гранатамётаў, 2 806 ручных гранат, 16 тон тратылу, 4 115 штук запалаў, 2 982 м бікфордава шнура, а таксама 4 643 міны розных канструкцый[256]. Аднак гэтыя пастаўкі былі, як кажуць, кропляй у моры.

Вартыя згадкі пастаўкі пачаліся толькі з сакавіка 1943 г. З 6 да 20 сакавіка Беларускі штаб паставіў партызанам Віцебскай і Мінскай абласцей 50 тон ваеннага матэрыялу[257]. У пачатку 1943 г. штаб разам

[252] Дакладная палкоўніка У. Нічыпаровіча Варашылаву аб рэарганізацыі партызанскага руху ў БССР ад 29 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 138).

[253] Начальнік БШПР Калінін камандзіру паветрана-дэсантнымі войскамі Чырвонай Арміі генерал-маёру Глазунову, 30 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 83, оп. 1, д. 23, л. 34).

[254] Калінін П. Панамарэнку, штэмпель аб атрыманні ЦШПР ад 15 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 168, л. 1—5).

[255] План начальніка аператыўнага аддзела ЦШПР Сакалова па забеспячэнні партызанаў Беларусі амуніцыяй, выбуховымі рэчывамі і батарэямі для радыёстанцый, студзень 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 126, л. 1 і наст.).

[256] Паведамленне пра барацьбу беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 108 і наст.).

[257] Начальнік БШПР Калінін камандуючаму паветрана-дэсантнымі войскамі генерал-маёру Глазунову, 30 сакавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 83, оп. 1, д. 23, л. 30 і наст.).

з камандаваннем паветрана-дэсантных войскаў, у якіх меліся самалёты з грузавымі парашутамі, распрацаваў план паставак партызанскім атрадам Беларусі 564 тоны амуніцыі і зброі. Да 1 чэрвеня 1943 г. план быў выкананы на 50 %, 282 тоны грузу былі пастаўленыя[258].

З мая 1943 г. пастаўкі партызанам у Беларусі паступова павялічваліся. Да 20 снежня 1943 г., паводле дадзеных Беларускага штаба, адбыліся 622 палёты, па адной тоне на кожны палёт. Большасць паставак былі накіраваныя ў Мінскую (201), Гомельскую (118), Віцебскую (90) і Палескую (52) вобласці. Партызаны ў заходніх абласцях атрымалі толькі малую долю паставак: Пінская (19), Баранавіцкая (21), Беластоцкая (8) [усе меркаваліся для злучэння Капусты, які засеў у Баранавіцкай вобласці], Брэсцкая (28), Вілейская (10).

Сюды дадаваліся пастаўкі на грузавых планёрах, усяго 214,5 тоны грузаў, і праз франтавую авіяцыю з лёгкімі самалётамі — 209 тон грузаў[259]. І гэтыя пастаўкі даставаліся найбольш партызанам усходніх абласцей. Агулам у 1943 г. пастаўкі паветраным шляхам і часткова па сушы склалі: 197 тон тратылу, 32 340 мін розных канструкцый, 7 063 аўтаматы (ППШ), 13 113 вінтовак і карабінаў, 6 цяжкіх і 801 лёгкі кулямёт, 253 гранатамёты, 4 110 940 ручных гранат, 15 268 381 вінтовачны патрон[260]. У 1944 г. аб'ёмы паставак яшчэ больш павялічыліся. Са студзеня да чэрвеня 1944 г. савецкія партызаны Беларусі атрымалі паветраным шляхам крыху больш за 1 100 тон ваенных грузаў, у тым ліку партызаны Мінскай вобласці — 267 тон, Віцебскай — 402 тоны, Магілёўскай — 115 тон, Вілейскай — 94 тоны, Брэсцкай — 65 тон, Пінскай — 56 тон, Палескай — 33 тоны, Баранавіцкай — 66 тон і Беластоцкай — 54 тоны[261].

Забеспячэнне партызанскіх атрадаў паветраным шляхам не было бяспечным. У перыяд з 20 красавіка да 1 мая 1943 г. пры гэтым пацярпелі аварыю чатыры самалёты. 21 красавіка на аэрадроме пад Бягомлем рухнуў грузавы планёр і разбіўся аб зямлю. Пілот і восем літоўскіх партызанаў загінулі. Праз тры дні на тым жа самым месцы пацярпеў аварыю яшчэ адзін грузавы планёр, пілот і адзін партызан загінулі, два партызаны былі параненыя. У яшчэ дзвюх іншых катастрофах таксама былі загінулыя[262].

У 1943 г. у транспартных палётах да партызанаў было страчана ўсяго 22 самалёты, а за шэсць месяцаў 1944 г. — 23. Большасць

[258] Калінін П. Панамарэнку, штэмпель аб атрыманні ЦШПР ад 15 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 168, л. 1—5).

[259] Справаздача аператыўнага аддзела БШПР ад 20 снежня 1943 г. пра пастаўкі ў Беларусь паветраным шляхам з 1 студзеня да 20 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, п. 1. д. 168, л. 46—54.

[260] Паведамленне пра барацьбу беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 108 і наст.).

[261] Вынікі барацьбы партызанскіх атрадаў Беларусі супраць нямецкіх агрэсараў у 1944 г., [другая палова 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 66—72).

[262] Справаздача начальніка БШПР Калініна П. Панамарэнку пра пастаўкі партызанам Беларусі паветраным шляхам з 20 красавіка да 1 мая 1943 г., 7 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 158, л. 12—15).



самалётаў былі збітыя знішчальнікамі ці супрацьпаветранымі сіламі праціўніка[263]. Былі і аварыі, выкліканыя па сваёй віне. 7 чэрвеня 1943 г. на Ліпецкім аэрадроме ўзарваўся самалёт, нагружаны выбуховымі рэчывамі для партызанаў. Пры гэтым адзінаццаць чалавек загінулі, а чатыры былі параненыя. Гэты самалёт згарэў, а яшчэ восем былі моцна пашкоджаныя пры пажары[264].

У большасці выпадкаў самалёты ці грузавыя планёры павінны былі садзіцца, каб аддаць грузы партызанам, у варожым тыле на часова абсталяваных пляцоўках. Рэдка пастаўкі ажыццяўляліся ў выкідных кантэйнерах з парашутамі, як выявілася — праблематычнымі. У ліпені 1942 г. для партызанаў у Бранскіх лясах былі выкінутыя з парашутам супрацьтанкавыя кулямёты і боепрыпасы. Праўда, пры гэтым амаль палова зброі была цяжка пашкоджана, а 80 працэнтаў боепрыпасаў прыйшлі ў непрыдатнасць[265]. Пастаўляць міны, выбуховыя рэчывы, запалы, радыёстанцыі ці, напрыклад, вінтоўкі ў выкідных капсулах выявілася, такім чынам, немагчымым.

Пастаўленыя аб'ёмы ваенных грузаў у 1943 і 1944 гг. могуць на першы погляд нават уражваць. У сапраўднасці ж яны ў вельмі малой ступені задавальнялі патрэбы партызанаў у зброі, амуніцыі, выбуховых рэчывах і ўвогуле ў патрэбным узбраенні.

Паводле дадзеных Беларускага штаба, 1 чэрвеня 1944 г. у Беларусі дзейнічалі 143 брыгады і 759 атрадаў з 143 000 партызанамі. Яны мелі на ўзбраенні 82 423 вінтоўкі, 25 565 аўтаматаў, 5 070 лёгкіх і цяжкіх кулямётаў, 482 гранатамёты, 381 супрацьтанкавую стрэльбу, 123 гарматы і 11 995 пісталетаў. Акрамя таго, яшчэ заставаліся 103 000 няўзброеных партызанаў, з якіх 71 000 былі адпушчаныя дадому ці ў лес, 32 000 знаходзіліся ў партызанскіх атрадах. Прадпісаны мінімальны баявы запас боепрыпасаў складаў 100 штук боепрыпасаў на вінтоўку, 300 штук на лёгкі кулямёт і 500 — на цяжкі, а таксама 200—300 кг тратылу на брыгаду. Каб павялічыць у Беларусі партызанскія запасы ў амуніцыі і ўзбраенні да прадугледжанага мінімуму, патрэбна было б паставіць у чэрвені больш за 1 500 тон грузаў. Акрамя таго, каб забяспечыць мінімальныя патрэбы партызанаў у боепрыпасах, трэба было б кожны месяц пастаўляць яшчэ 4 000—5 000 тон. А Беларускі штаб пастаўляў толькі 200 тон у месяц[266].

А ў месячным аб'ёме паставак была не толькі амуніцыя, там знаходзіліся і іншыя грузы. Такім чынам Беларускі штаб задавальняў

[263] Справаздача БШПР пра дзейнасць і стан партызанскага руху ў БССР у 1943 г., без даты, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 72, арк. 105); вынікі барацьбы партызанскіх атрадаў Беларусі з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г., [другая палова 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 72 і наст.).

[264] Загад № 8 ад 16 чэрвеня 1943 г. начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб дырэктывах пры пагрузцы выбуховых рэчываў (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 10, л. 158).

[265] Ліст карэспандэнта газеты «Правда» Сівалобава П. Панамарэнку ад 5 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 20).

[266] Справаздача БШПР пра забеспячэнне партызанскага руху паветраным шляхам паводле стану на 1 чэрвеня 1944 г., [пачатак чэрвеня 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 128, арк. 1 і наст.).

мінімальную патрэбу беларускіх партызанаў у амуніцыі менш чым на 5 %. За ўвесь 1943 год амаль 150 000 партызанаў у Беларусі атрымалі 15 268 381 патрон да савецкіх вінтовак, 141 276 да нямецкіх і 48 100 — да англійскіх. У сярэднім атрымалася па 100 патронаў на партызана за 1943 год[267]. У гэтых абставінах весці эфектыўную барацьбу з добра ўзброенымі нямецкімі акупацыйнымі часцямі было вельмі цяжка, а часам і немагчыма. Весці працяглыя баі партызаны дазволіць сабе маглі вельмі рэдка.

Хоць савецкія партызаны ў Беларусі колькасна былі вельмі моцныя, у сярэднім яны былі не вельмі баяздольныя. Брыгада Дуброўскага была адным з самых баяздольных падраздзяленняў у Беларусі ўвогуле. Яна налічвала ў жніўні 1943 г. 963 партызаны, што былі ўзброеныя 498 вінтоўкамі, 48 аўтаматамі, 25 лёгкімі кулямётамі, 7 супрацьтанкавымі стрэльбамі, 3 гранатамётамі і 8 гарматамі. На 1 сакавіка 1944 г. колькасць партызанаў вырасла да 1 900 чалавек, узброеных 868 вінтоўкамі, 130 аўтаматамі, 44 лёгкімі і 13 цяжкімі кулямётамі, 8 супрацьтанкавымі стрэльбамі, 8 гранатамётамі, 4 гарматамі. Пры гэтым варта заўважыць, што 23 з 90 транспартных вылетаў, з якіх рабіліся пастаўкі партызанам Віцебскай вобласці ў 1943 г., прызначаліся для брыгады Дуброўскага. Брыгада належала, такім чынам, да нямногіх падраздзяленняў у Беларусі, што з мая 1943 г. забяспечваліся адносна рэгулярна[268]. У кастрычніку 1942 г. брыгада, якая тады яшчэ налічвала каля 600 чалавек, была ўзброена толькі на 30 %[269].

Брыгада Лабанка налічвала ў жніўні 1943 г. 905 чалавек, узброеных 402 вінтоўкамі, 48 аўтаматамі, 30 лёгкімі кулямётамі і 5 супрацьтанкавымі стрэльбамі. На 1 сакавіка 1944 г. колькасць партызанаў вырасла да 1 600 чалавек, а вінтовак — да 700, аўтаматаў — да 150, лёгкіх кулямётаў — да 36 і супрацьтанкавых стрэльбаў — да 9. Сюды дадаваліся яшчэ 20 цяжкіх кулямётаў, 11 гранатамётаў і 4 гарматы[270]. У брыгадзе Дуброўскага ў жніўні 1943 г. было толькі 56 % партызанаў, узброеных вінтоўкамі і аўтаматамі, а 1 сакавіка 1944 г. — 52 %. У брыгадзе Лабанка іх было толькі каля 50 % у жніўні 1943 г. і 53 % 1 сакавіка 1944 г.

У Магілёўскай вобласці было 1 кастрычніка 1943 г. агулам 21 205 партызанаў. Яны мелі на ўзбраенні 13 642 вінтоўкі,

[267] Паведамленне пра барацьбу беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 108 і наст.). Паводле дадзеных Беларускага штаба, у шэрагах савецкіх партызанаў у Беларусі змагалася агулам 145 036 чалавек, каля 25 000 з іх да канца 1943 г. «аб'ядналіся» з часцямі Чырвонай Арміі. Гл.: Паведамленне пра барацьбу беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 320а).

[268] Паведамленне БШПР пра дзейнасць і стан партызанскага руху ў БССР у 1943 г., без даты, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 72, арк. 72, 102).

[269] Ліст Дуброўскага са штаба партызанскай брыгады начальніку ЦШПР П. Панамарэнку, без даты, паступіла 23 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 853, л. 48, 50).

[270] Паведамленне БШПР пра дзейнасць і стан партызанскага руху ў БССР у 1943 г, без даты, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 72, арк. 72, 102).



703 аўтаматы, 795 лёгкіх і 66 цяжкіх кулямётаў, 102 гранатамёты, 29 супрацьтанкавых стрэльбаў, 16 гармат, 1 609 пісталетаў, 886 000 вінтовачных боезарадаў, 70 000 аўтаматных боезарадаў[271]. Такім чынам, партызаны Магілёўскай вобласці былі ўзброеныя на 67 % вінтоўкамі і аўтаматамі. На адну вінтоўку ў іх было больш за 65 боезарадаў, а на адзін аўтамат — звыш 100. Мінімум жа быў — 100 штук на адну вінтоўку. У 1944 г. становішча пагоршылася яшчэ больш. На 15 сакавіка 1944 г. партызанскае злучэнне Маўчанскага налічвала каля 17 000 партызанаў, астатнія тым часам «аб'ядналіся» з падраздзяленнямі Чырвонай Арміі. 17 000 партызанаў былі ўзброеныя больш чым 6 000 вінтоўкамі, 800 аўтаматамі, 1 700 пісталетамі, 53 цяжкімі і 668 лёгкімі кулямётамі, 35 супрацьтанкавымі стрэльбамі, 68 мінамётамі і 9 гарматамі[272]. Гэта азначае, што толькі каля 40 % партызанаў мелі вінтоўку ці аўтамат.

У студзені 1944 г. 122 668 партызанаў у Беларусі былі ўзброеныя 67 352 вінтоўкамі, 8 565 аўтаматамі, 4 535 лёгкімі і 458 цяжкімі кулямётамі, 332 супрацьтанкавымі стрэльбамі, 463 гранатамётамі і 94 гарматамі[273]. Гэта азначае, што 62 % усіх партызанаў у Беларусі былі ў студзені 1944 г., паводле дадзеных Беларускага штаба, узброеныя вінтоўкамі ці аўтаматамі. 1 чэрвеня 1944 г. 143 000 партызанаў у Беларусі мелі на ўзбраенні 82 423 вінтоўкі, 25 565 аўтаматаў, 5 070 лёгкіх і цяжкіх кулямётаў, 482 гранатамёты, 381 супрацьтанкавую стрэльбу, 123 гарматы і 11 995 пісталетаў[274]. Такім чынам, паводле афіцыйных дадзеных, да 1 чэрвеня 1944 г. доля партызанаў, узброеных вінтоўкамі і аўтаматамі, вырасла да 75 %.

Усе прыведзеныя тут дадзеныя, аднак, не ўлічваюць сапраўдны стан зброі і боепрыпасаў. А іх значная частка была ў вельмі дрэнным стане. Большасць зброі была падабраная на палях баёў, у лясах, на балотах, у азёрах, рэках, так-сяк захоўвалася і даглядалася. Яна часткова паржавела і нярэдка ў баі давала асечку. На нарадзе камандзіраў бранскіх партызанскіх атрадаў з Панамарэнкам адзін з камандзіраў паскардзіўся: «У нас ёсць лёгкія кулямёты, якія недзе валяліся, яны паржавелі. Бум, бум — і асечка». Ён адначасова скардзіўся на малую колькасць аўтаматаў, бо без аўтаматаў і лёгкіх кулямётаў наўрад ці можна ажыццявіць напады на апорныя пункты ворага і калоны[275].

[271] Паведамленне пра стан і ўзбраенне партызанаў Магілёўскай вобласці на 1 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 8, арк. 29).

[272] Аператыўнае паведамленне БШПР № 18/92, сакавік 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 168).

[273] Справаздача начальніка БШПР Калініна і кіраўніка аператыўнага аддзела Брухава пра баявыя дзеянні беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 2, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 322 і наст.).

[274] Справаздача БШПР пра забеспячэнне партызанскага руху паветраным шляхам паводле стану на 1 чэрвеня 1944 г., [пачатак чэрвеня 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 128, арк. 1 і наст.).

[275] Пратакол нарады камандзіраў Бранскіх партызанскіх атрадаў з П. Панамарэнкам, 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 31 об.).

Паліткамісар атрада «Барацьба», які дзейнічаў у Мінскай вобласці, дакладваў у кастрычніку 1942 г.: «У нас быў кантакт з мясцовым насельніцтвам, якое перадало нам закапаную зброю. У нас было каля 20 000 штук боепрыпасаў, праўда, часткова заржавелых»[276]. У жніўні 2004 г. аўтар размаўляў з адным былым партызанам брыгады імя Сталіна, лагер якога размяшчаўся ў Налібоцкай пушчы (Баранавіцкая вобласць). На пытанне, ці абаранялі яны, партызаны, мясцовае насельніцтва ад нямецкага тэрору, ён спантанна адказаў: «А чым? У нас былі тры патроны ды адна ржавая вінтоўка!»[277].

Не менш крытычна палягалі справы з забеспячэннем выбуховымі рэчывамі, запаламі і мінамі. У 1943 г. беларускім партызанам паставілі 197 тон тратылу і 32 340 мін розных канструкцый[278]. Праўда, многія з гэтых мін былі дрэннай якасці. Нярэдка здаралася, што закладзеныя міны не ўзрываліся. Таму Панамарэнка загадаў 16 лютага 1943 г. правесці праверку якасці мін і боепрыпасаў[279]. Партызаны асабліва часта скардзіліся на недахоп мін з электрахімічным гадзіннікавым механізмам, але іх скаргі ігнараваліся, і Панамарэнка мусіў умяшацца і патрабаваць выпраўленняў[280]. У пачатку жніўня 1943 г. Панамарэнка загадаў спыніць пастаўку рычажных мін (РДМ), якія ставіліся супраць цягнікоў, і адначасова распарадзіўся сканструяваць новыя міны, найпрасцейшай канструкцыі, надзейныя і бяспечныя ў абыходжанні[281].

Эфектыўнай зброяй супраць цягнікоў паказала сябе супрацьтанкавая стрэльба. З дапамогай яе можна было з адносна бяспечнай адлегласці ад 200 да 300 метраў абстрэльваць рухомыя лакаматывы. 2—3 трапныя стрэлы ў кацёл наносілі вялікую шкоду і выводзілі лакаматыў надоўга са строю[282]. 23 ліпеня 1942 г. Панамарэнка распарадзіўся стварыць ва ўсіх партызанскіх атрадах спецыяльныя групы (па 2—3 чалавекі), якія былі б узброеныя супрацьтанкавымі стрэльбамі і адпаведнай амуніцыяй. Яны атрымлівалі заданне ажыццяўляць напады на лакаматывы[283]. Да

[276] Пратакол размовы, сярод іншага, з начальнікам штаба атрада «Мсцівец» капітанам Сергіным і камісарам атрада «Барацьба» Ансевым, 21 кастрычніка 1942 г. (Тамсама. Л. 148—173, л. 167).
[277] Інтэрв'ю аўтара з Сяргеем Шматам, які нарадзіўся ў 1927 г. у станіцы Вясёлка Краснадарскага края, жыве ў Налібаках, узятае 5 жніўня 2004 г. у Налібаках.
[278] Паведамленне пра барацьбу беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 108 і наст.).
[279] П. Панамарэнка начальніку Украінскага штаба партызанскага руху Стракачу, 16 лютага 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 585, л. 4).
[280] Загад № 40 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі аб адпраўцы мін запаволенага дзеяння ад 21 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 10, л. 76).
[281] Загад начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі № 8 ад 8 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 10, л. 175).
[282] Паведамленне маёра Селіванава з 1-га аддзела 2-га ўпраўлення ГРУ ад 25 мая 1942 г. і суправаджальны ліст Маліну з ЦК КП(б)Б ад 25 мая 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 753, л. 21 і наст.).
[283] Загад начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі № 14 ад 23 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 23—24 об.).



лютага 1944 г. партызанам у Беларусі прыслалі, паводле дадзеных Беларускага штаба, 865 супрацьтанкавых стрэльбаў і 153 431 штуку адпаведных боезарадаў[284].

Партызаны спрабавалі дапамагчы самі сабе і абсталёўвалі майстэрні, у якіх рамантавалі зброю і нават выраблялі ўласную, міны ці гранаты. Панамарэнка распарадзіўся спрыяць гэтаму, а партызанаў, што асабліва вызначыліся ў гэтай галіне, узнагароджваць[285]. Колькасць вырабленай такім чынам зброі, праўда, невялікая. Партызаны, акрамя таго, спрабавалі выплаўляць тратыл з буйнакаліберных снарадаў. Партызаны Гомельскага злучэння здабылі такім чынам, паводле ўласных дадзеных, з мая да ліпеня 1943 г. 8,5 тон тратылу. Спосаб, аднак, не быў бяспечны, бо часам снарады ўзрываліся і выклікалі ахвяры сярод партызанаў[286]. Партызаны спрабавалі таксама закладаць буйнакаліберныя снарады як міны і ўзрываць іх. Гэта таксама было цяжка і небяспечна для саміх партызанаў, бо здаралася так, што снарады ўзрываліся дачасна[287].

Гэтыя метады не маглі нават хоць крыху задаволіць вялікую патрэбу ў зброі, амуніцыі і выбуховых рэчывах. І іх недахоп быў да канца нямецкай акупацыі галоўнай прычынай, чаму савецкі партызанскі рух у параўнанні з яго штатнай колькасцю заставаўся такім неэфектыўным. Скаргі партызанаў на гэта не спыняліся да прыходу Чырвонай Арміі. Тут, як прыклад, можна апісаць становішча ў Вілейскай вобласці. 31 студзеня 1944 г. Манахаў, адзін з партызанскіх камандзіраў з Вілейскай вобласці, паведаміў:

> Цяпер брыгады знаходзяцца ў цяжкім становішчы ў сэнсе забеспячэння амуніцыяй, гэта моцна абмяжоўвае іх баяздольнасць. Тратылу ўвогуле няма. Пры аперацыях па разбурэнні чыгуначных рэек выкарыстоўваюцца ламы; але ж такімі метадамі не дасягнуць вялікіх вынікаў. Неабходна хуткая дастаўка боепрыпасаў і тратылу[288].

[284] Паведамленне пра барацьбу беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 108 і наст.). Дадзеныя ж Цэнтральнага штаба за люты 1944 г. аб пастаўленых супрацьтанкавых стрэльбах нашмат вышэйшыя. Паводле іх, Цэнтральны штаб паставіў Беларускаму штабу агулам 1 089 супрацьтанкавых стрэльбаў і 182 610 штук адпаведнай амуніцыі. Гл.: Пералік пастаўленых у рэгіянальныя штабы зброі і амуніцыі з 20 чэрвеня 1942 да 1 лютага 1944 г., падпісаны начальнікам аддзела матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ЦШПР падпалкоўнікам Трусавым, 1 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1253, л. 34).
[285] Загад начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі № 20 ад 9 верасня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 10, л. 178 і наст.).
[286] Даклад сувязнога афіцэра БШПР Ігнаценкі пра Гомельскае партызанскае злучэнне і выкананне загада № 006 БШПР, 27 верасня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 158—163).
[287] Пратакол размовы з Мікалаем Такіевым, начальнікам штаба атрада «Сцяг» (Мінская вобласць) ад 27 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 78—82 об.). Сам Такіеў быў цяжка паранены пры закладанні буйнакалібернага снарада ў якасці міны, а адзін з ягоных таварышаў пры гэтым загінуў.
[288] Паведамленне члена Вілейскага падпольнага абкама Манахава, студзень 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 487, арк. 22).

Праз два з паловай месяцы, 15 красавіка 1944 г., Жуковіч, сакратар Вілейскага падпольнага абкама КП(б)Б, скардзіўся, што ён яшчэ ў верасні 1943 г. прасіў паставіць амуніцыю, але да красавіка 1944 г. партызаны вобласці не атрымалі паставак. А з амуніцыяй у партызанаў — вельмі дрэнна. Затое байцы спецгруп (НКУС і ГРУ) атрымліваюць боепрыпасы з лішкам[289]. 15 чэрвеня 1944 г. Вілейскі падпольны абкам КП(б)Б, наадварот, крытыкаваў брыгады імя Даватара і імя Гастэлы за бяздзейнасць. «Прычына: боепрыпасы. Праўда, боепрыпасаў непатрэбна, каб разбураць прасёлкавыя дарогі, на гэта патрэбна толькі воля»[290].

## 10. «Мама! Партызаны ідуць!» — канфіскацыя прадуктаў харчавання і вопраткі

У адрозненне ад вялікіх цяжкасцей у забеспячэнні зброяй, амуніцыяй і выбуховымі рэчывамі, савецкія партызаны ў Беларусі не мелі вялікіх праблем з забеспячэннем прадуктамі харчавання і вопраткай.

Пры гэтым трэба заўважыць, што партызаны ў Беларусі практычна не атрымлівалі пасылак з прадуктамі харчавання з савецкага тылу. Наадварот, у 1942 г. для патрэб Чырвонай Арміі партызаны канфіскавалі тысячы галоў жывёлы, зерне, фураж і праз пралом у фронце на ўсход ад Віцебска перапраўлялі на савецкі бок. Цэнтральны штаб партызанскага руху ў 1943 г. выдзеліў партызанам толькі каля 33 тон сухароў, звыш 132 тон рыбных і мясных кансерваў, звыш 8 тон цукру, цукерак і шакаладу[291]. Гэта складала па зацверджаных у той час нормах 65 904 сутачныя рацыёны сухароў (500 г на чалавека ў суткі) і 529 320 — мяса і рыбы (250 г на чалавека ў суткі)[292]. Такім чынам, гэтыя пастаўкі былі толькі чыста сімвалічнымі, і партызаны з гэтага, лічы, не атрымлівалі нічога. Яны забяспечвалі сябе самі выключна з «мясцовых рэсурсаў», гэта значыць ад мясцовага насельніцтва.

Савецкая гістарыяграфія ды і тагачасныя афіцыйныя савецкія звесткі распавядаюць, што насельніцтва добраахвотна і з вялікім энтузіязмам падтрымлівала партызанаў прадуктамі харчавання. Акрамя таго, партызаны нібыта значную частку прадуктаў харчавання адбівалі ў ворага. Неасавецкая гістарыяграфія ў Беларусі шчыльна далучаецца да гэтай прапагандысцкай карціны. Аўтары апублікаванай у 2003 г. кнігі пра Другую сусветную вайну сцвярджаюць: «Насельніцтва

[289] Паведамленне сакратара Вілейскага падпольнага абкама Жуковіча пра партызанскі рух і партызанскае падполле ў Вілейскай вобласці ад 15 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 468, арк. 453—459).

[290] Заклік да інтэнсіфікацыі барацьбы партызанаў Вілейскай вобласці (аўтар не пазначаны, але відавочна гэта Вілейскі падпольны абкам), 15 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 485, арк. 39 і наст.).

[291] Справаздача начальніка аддзела матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ЦШПР Трусава за перыяд з 20 чэрвеня 1942 да 15 студзеня 1944 г., 1 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1253, л. 15 і наст.).

[292] Нормы выдачы прадуктаў харчавання партызанам, без даты, [пасля 1 мая 1943 г. і да 13 студзеня 1944 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1253, л. 26—29).



[у Беларусі] актыўна падтрымлівала партызанаў прадуктамі харчавання, вопраткай і зборам зброі»[293].

Рэчаіснасць, аднак, выглядала інакш. Партызаны, як правіла, прымушалі насельніцтва карміць іх. Часта партызаны гвалтоўна адбіралі прадукты харчавання і вопратку. Галоўным заняткам большасці беларускіх савецкіх партызанаў была не барацьба супраць нямецкіх акупантаў і іх памагатых, а забеспячэнне харчовымі прадуктамі, так званыя «гаспадарчыя аперацыі». У час забеспячэнскіх акцый партызанскія атрады даволі часта ператвараліся ў звычайныя банды рабаўнікоў, ва ўсякім разе, так яны ўспрымаліся цывільным насельніцтвам[294].

Савецкае кіраўніцтва ведала пра гэта і намагалася з гэтым змагацца. Цімчук, камандзір партызанаў і падпольшчыкаў з самага пачатку, які вельмі добра ведаў умовы ў акупаванай Беларусі, у кастрычніку 1942 г. пісаў Панамарэнку:

> Вы вельмі правільна пішаце, што некаторыя партызанскія атрады адседжваюцца. Праўда, справа палягае яшчэ горш, бо гэтыя атрады [...] адбіраюць у насельніцтва самыя лепшыя прадукты харчавання (смятану, мёд [нечытэльна]), шукаюць зброю ў кашалях, яны патрабуюць гарэлкі і іншыя рэчы. Гэта не на нашу карысць. Гэта ўсё азлоблівае народ. [...] Што можна зрабіць супраць гэтага? Трэба ўсім партызанскім атрадам даць строгі наказ з наступным лозунгам: «Узбройвацца, апранацца, харчавацца толькі ад ворага», іншыя дзеянні разглядаць як варожыя, [нечытэльна] «марадзёрскія» групы — ліквідаваць[295].

Іншы партыйны кіраўнік, які летам 1942 г. па даручэнні Цэнтральнага штаба інспектаваў партызанскія атрады ў Віцебскай і Мінскай абласцях, дакладваў:

> Партызаны амаль не змагаюцца з фашыстамі. [...] Яны жывуць за кошт мясцовых калгасаў [...]. Партызаны [у Суражскім і Мехаўскім раёнах] харчуюцца добра. Норма — 300 г мяса на чалавека ў суткі. [...] Усё за кошт мясцовага насельніцтва, а не ворагаў і іх памагатых[296].

Адзін з арганізатараў партызанскага руху ў Віцебскай вобласці апісаў ход «гаспадарчых аперацый» партызанаў Лепельскага злучэння восенню 1942 г. наступным чынам:

> Забеспячэнцы з'яўляліся ў вёсках ноччу і забіралі авёс, жыта, бульбу і іншыя прадукты. Зоны для забеспячэння асобных атрадаў не былі вызначаныя, і атрады забяспечвалі сябе непадалёк ад лагера. Калі ноччу прыходзілі

[293] Великая Отечественная война... С. 133.

[294] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 110 і наст., 151—155.

[295] Цімчук П. Панамарэнку, кастрычнік 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 238 і наст.).

[296] Ліст П. Панамарэнку ад 20 ліпеня 1942 г., аўтар невядомы (копія) (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 154, арк. 195 і наст.).

> 3—4 партызаны, яны праводзілі самавольныя ператрусы пад маркай пошукаў зброі ці ўніформы. Пасля ператрусу яны забіралі з сабой розныя рэчы. [...] Такіх выпадкаў было вельмі шмат. Атрады доўга сядзяць без справы, яны не праводзяць ніякіх баявых аперацый. У гэты час яны сварацца паміж сабой[297].

Не іначай праходзілі «гаспадарчыя аперацыі» на іншых тэрыторыях, як, напрыклад, у заходніх абласцях Беларусі. Партызан Рудко з брыгады Нікіціна паведамляў у канцы 1942 г. ці пачатку 1943 г.:

> Атрад (група) атрымлівае ад камандавання ў распараджэнне адну-дзве вёскі. Партызаны выходзяць ноччу і забіраюць у кожнай хаце ўсё, што знойдуць: сала, масла, смятану, хлеб і інш. прадукты. З гэтай прычыны сяляне хаваюць усё, што толькі могуць. Нярэдка здараецца, што такія «партызаны» забіраюць не толькі прадукты харчавання, а і абшукваюць шафы ды куфары і цягнуць з сабой вопратку і боты, нават прадметы раскошы — туалетную ваду, гадзіннікі і інш. рэчы. Яны канфіскуюць коней і падводы для транспарціроўкі прадуктаў, абяцаюць усё вярнуць, але фактычна гэтага ніколі не робяць. Гэта ўсё робіцца, ніколькі не зважаючы на сацыяльнае і эканамічнае становішча сям'і. Нездарма ж бывала так, што, як толькі з'яўляюцца партызаны, дзеці, якія гуляюць на двары, толькі заўважыўшы іх, бягуць у хату і крычаць: «Мама! Партызаны ідуць!» І маці спяшаецца схаваць усё, што ў яе ёсць[298].

Нямецкія тагачасныя даклады таксама пацвярджаюць масавае рабаўніцтва партызанаў. У тылавым раёне групы армій «Цэнтр» нямецкія органы зарэгістравалі «напады бандаў» на вёскі, у кастрычніку 1942 г. — 260, у лістападзе — 164, у снежні — 262[299]. Восенню 1942 г. немцы знайшлі ў аднаго забітага партызана дзённік, «які вёўся з усімі падрабязнасцямі». Дзённік «пісаў амаль кожны дзень пра напужанае і запалоханае насельніцтва, калі яно чула, што ў вёсцы — партызаны»[300].

У лютым 1943 г. аператыўная група «B», чый раён дзеянняў ахопліваў і паўночна-ўсходнія часткі Беларусі, паведамляла пра 592 напады на вёскі[301]. У гэтых дадзеных, аднак, трэба звярнуць увагу, «што пра вялікую колькасць шкоды, нанесенай бандамі, не дакладвалася». «Лічбы з гэтай прычыны маюць толькі адносную вартасць, але даюць, ва ўсякім разе, пэўнае ўяўленне пра маштабы бандыцкай дзейнасці», гаворыцца ў цытаваным тут дакладзе[302]. І наконт іншых тэрыторый

[297] Паведамленне пра працу партызанскіх атрадаў Лепельскага партызанскага злучэння за перыяд з 26 верасня да 1 лістапада 1942 г. аднаго з кіраўнічых арганізатараў партызанскага руху ў Віцебскай вобласці, без подпісу (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 4, арк. 168—171).

[298] Нататкі партызана Я. Д. Рудко з брыгады Нікіціна (лета—восень 1942 г.) (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 169, арк. 53 і наст.); надрукаваныя ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 49—53.

[299] Справаздача пра дзейнасць афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за снежань 1942 г., 6 студзеня 1943 г. (BA-MA. RH 22/244, Bl. 60—63).

[300] Тамсама.

[301] Копіі паведамленняў з акупаваных усходніх тэрыторый № 39 (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 756, л. 71).

[302] Тамсама.



Беларусі ў архівах знаходзяцца шматлікія нямецкія паведамленні пра такія партызанскія напады[303].

Цэлыя падраздзяленні, як, напрыклад, брыгада «Стары», што дзейнічала ў Бягомльска-Лепельскай зоне, ператварыліся ў банды рабаўнікоў, якія зрабіліся бядой для мясцовага насельніцтва. А колькасць партызанаў, што хацелі есці, безупынна расла. Становішча насельніцтва, якое было безабаронна аддадзена на волю партызанаў-рабаўнікоў, рабілася ўсё больш крытычным, і савецкае кіраўніцтва разумела небяспеку, што зыходзіла адсюль. У лютым 1943 г. па ініцыятыве Панамарэнкі Бюро Цэнтральнага камітэта КП(б)Б занялося гэтым і аб'явіла барацьбу марадзёрству і іншым праявам разлажэння сярод партызанаў. Панамарэнка сам асабіста размаўляў з партызанскімі камандзірамі, якія мусілі быць накіраваныя ў варожы тыл, і звяртаў увагу на значэнне гэтага пытання[304].

Шмат хто з партызанскіх камандзіраў, як, напрыклад, Нічыпаровіч, намагаліся цэнтралізавана адрэгуляваць забеспячэнне прадуктамі харчавання, каб па магчымасці абараніць бядотнае насельніцтва. Для партызанаў яго злучэння пачалі працаваць млыны, хлебапякарні, партызаны самастойна выраблялі мясныя прадукты. Аднак пасля разгрому Клічаўскага злучэння кожны атрад клапаціўся сам пра забеспячэнне сябе прадуктамі харчавання. Вялікія падраздзяленні падзялілі падкантрольныя і захопленыя тэрыторыі на зоны, у якіх асобныя атрады маглі забяспечваць сябе. Толькі ў красавіку 1943 г. аператыўная група Магілёўскай вобласці раздзяліла ўсю тэрыторыю вобласці на забеспячальныя зоны, якія былі «аддадзеныя» адпаведным брыгадам[305].

Аднак асобныя атрады і партызаны працягвалі і надалей забяспечваць сябе па-за межамі адведзеных ім тэрыторый. 16 студзеня 1943 г. камандаванне Барысаўскай зоны забараніла падначаленым ёй атрадам канфіскацыю па-за межамі адведзеных ёй забеспячальных раёнаў. Акрамя таго, асобныя партызаны не мелі права без дазволу камандзіраў самастойна забіраць прадукты харчавання. Адначасова штаб заклеймаваў накладкі пры размеркаванні прадуктаў харчавання ўнутры атрадаў і запатрабаваў ад камандзіраў адрэгуляваць гэта[306]. Загады і дырэктывы такога ж зместу ў красавіку 1943 г. выдала партызанскае кіраўніцтва Магілёўскай вобласці[307].

[303] Напрыклад, у Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці (ДАГВ) знаходзяцца сотні паведамленняў пра такія выпадкі за 1942 і 1944 гг. у Баранавіцкай акрузе. Гл.: ДАГВ. Ф. 955, воп. 1с, спр. 4, 7, 10.

[304] Недатаванае паведамленне [вясна 1943 г.] пра меры падпольных партыйных органаў у Беларусі па барацьбе з рабаўніцтвам, самагонаварэннем і амаральнымі з'явамі ў партызанскіх атрадах (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 296).

[305] Загад № 4 аператыўнай групы Магілёўскай вобласці (Маўчанскі, Яхантаў) ад (нечытэльна) красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 93 і наст.).

[306] Недатаванае паведамленне [вясна 1943 г.] пра меры падпольных партыйных органаў у Беларусі па барацьбе з рабаўніцтвам, самагонаварэннем і амаральнымі з'явамі ў партызанскіх атрадах (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 309 і наст.).

[307] Загад сакратара Магілёўскага абкама Маўчанскага № 18 ад 25 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 101).

З часам партызаны так абабралі цэлыя мясцовасці, што ім даводзілася праходзіць усё большыя адлегласці, каб знайсці што канфіскаваць. У Бягомльскім раёне зімой 1943 г. былі «вычарпаныя ўсе запасы зерня і мяса», дакладвала брыгада «Жалязняк» у лютым 1943 г., «таму гаспадарчыя аперацыі трэба было праводзіць у раёнах заходніх абласцей»[308]. Партызаны з усходніх абласцей таму рабілі сапраўдныя набегі ў заходнія вобласці Беларусі[309].

У заходніх, былых польскіх абласцях, насельніцтва жыло заможней, чым ва ўсходніх. Розніца паміж заможнасцю і беднасцю, якая праходзіла ўздоўж старой польска-савецкай граніцы, бачная яшчэ і сёння. Вясной 1943 г. кіраўнічы цэнтр Барысаўскай партызанскай зоны загадваў партызанскім камандзірам зоны: «Забараніць аперацыі забеспячэння ў заходніх абласцях БССР, бо гэта спрыяе п'янству і рабаўніцтву»[310].

Але гэта мала дапамагло, і партызаны з усходніх абласцей працягвалі абрабоўваць у заходніх абласцях цэлыя вёскі. Яны забіралі жывёлу, пасцельную бялізну і іншыя прадметы, патрабавалі гарэлку, а нярэдка збівалі і расстрэльвалі сялян. Гэтым займаліся і партызаны брыгады «Жалязняк», брыгады «Штурмавая», партызаны 1-й Антыфашысцкай брыгады пад камандаваннем Радзіёнава (перабежчыкі). Гэта прывяло да таго, што многія жыхары гэтых тэрыторый уцякалі да немцаў, шукаючы абароны[311].

Варта ўлічыць таксама нямецкую палітыку «мёртвых зон» на занятых партызанамі тэрыторыях, г. зн. мэтанакіраванае знішчэнне вёсак, збожжа і вываз ці забойства жыхароў. Усё гэта прывяло да таго, што ў 1943 г. харчовае становішча партызанаў у некаторых абласцях Беларусі драматычна пагоршылася. Асабліва гэта зачапіла, сярод іншага, заходнія раёны Магілёўскай вобласці і ўсходнія раёны Мінскай вобласці, асабліва прастору паміж рэкамі Бярэзіна і Друць. У пачатку верасня 1943 г. камандаванне дзеючага там 208-га партызанскага атрада папрасіла ў Панамарэнкі дазволу перамясціцца ў заходнія вобласці Беларусі з наступным абгрунтаваннем:

> Раёны Магілёўскай вобласці, размешчаныя на захад ад Дняпра, ужо два гады з'яўляюцца забеспячальнай базай для многіх партызанскіх атрадаў. З гэтай прычыны атрымалася маштабнае разбурэнне базы забеспячэння ў гэтых раёнах. Асабліва церпяць сяляне. Атрады, якія дзейнічаюць ва Усакінскім лесе [у былой Клічаўскай зоне], а іх вельмі шмат [...], моцна церпяць ад недахопу прадуктаў харчавання ды вопраткі і вымушаныя забіраць у сялян апошняе[312].

[308] Вытрымка з паведамлення брыгады «Жалязняк» пра становішча і дзеянні за студзень 1943 г., [люты 1943 г.] (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 39, арк. 6 і наст.).
[309] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 110 і наст.
[310] Распараджэнне № 23 Жуковіча з партыйнага цэнтра Барысаўскай партызанскай зоны, [да 4 студзеня 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 269, арк. 148).
[311] Паведамленне ўпаўнаважанага ЦК камсамола па Беларусі Гулі пра партызанскі рух у паўднёва-ўсходніх раёнах Вілейскай вобласці, 28 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 488, арк. 220—232); ліст кіраўніка Паўднёва-ўсходняй групы раёнаў Вілейскай вобласці палкоўніка Жуковіча камандаванню 1-й Антыфашысцкай партызанскай брыгады і Мачульскаму, 20 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 20, арк. 228).



У наступныя месяцы становішча на тэрыторыі паміж Бярэзінай і Друццю яшчэ больш абвастрылася. Гэта закранула каля 17 000 партызанаў і дзясяткі тысяч цывільных[313]. Але і ў заходніх абласцях, напрыклад у Баранавіцкай, нарэшце пачалі з'яўляцца цяжкасці з забеспячэннем, што было выклікана ў першую чаргу рабаўнічай палітыкай партызанаў[314].

Куды цяжэйшымі ў параўнанні з Беларуссю былі праблемы забеспячэння партызанаў на іншых тэрыторыях. Так, вясной 1943 г. каля 12 000 партызанаў у Бранскіх лясах (РСФСР) патрапілі ў надзвычай цяжкое становішча[315]. Ваенная цэнзура НКДБ у першым паўгоддзі 1943 г. зарэгістравала «значную колькасць» лістоў ад партызанаў з Бранскіх лясоў, у якіх утрымліваліся скаргі на становішча з харчаваннем. НКДБ склаў дакумент з вытрымкамі з гэтых лістоў і паслаў яго 14 жніўня Панамарэнку[316]. Вось што піша, напрыклад, партызанка Пустамлотава:

> Наша жыццё вельмі цяжкое. Мы сядзім у лесе, у варожым тыле, адрэзаныя ад усіх населеных пунктаў. З харчаваннем справы палягаюць вельмі дрэнна, мы пухнем з голаду. Нам абяцалі перакінуць нас самалётам за лінію фронту, але мы не ведаем, ці хутка гэта здарыцца, ці, магчыма, не будзе ўвогуле. А наша жыццё пагаршаецца з кожным днём. Я другі год у партызанскім атрадзе. Калі вылет не паскораць, тады мы памром з голаду[317].

Іншы партызан пісаў: «Цяпер нам жывецца ў Бранскіх лясах не асабліва добра. Немец напірае на нас. Стала цяжка з харчаваннем. [...] Прадукты харчавання з самалётаў не скідваюць, будзе цяжка перажыць лета»[318]. Аднак Цэнтральны штаб намагаўся дапамагчы партызанам у Бранскіх лясах і паставіў ім з 27 мая да 1 жніўня за 360 вылетаў прадукты харчавання. Партызаны атрымалі, сярод іншага, муку (90 тон), канцэнтраты (48 тон), крупы (16 тон), сухары (8 тон), мясныя кансервы (61 956 штук)[319]. Але гэтая дапамога дайшла не да ўсіх партызанаў,

[312] Камандзір 208-га партызанскага атрада Бяспоясаў П. Панамарэнку, 5 верасня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 180, л. 44 і наст.).
[313] Аператыўнае паведамленне БШПР № 18/92, сакавік 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 168).
[314] Стэнаграма размовы з Сінічкіным, 19 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 60); болей на гэты конт у: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 110 і наст.
[315] Гл. главу III, с. 214—215.
[316] Намеснік народнага камісара дзяржаўнай бяспекі Б. З. Кабулаў П. Панамарэнку, 14 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 131—134).
[317] Вытрымка з ліста А. Пустамлотавай, без даты (Тамсама. Л. 131).
[318] Тамсама. Л. 132.
[319] Паведамленне начальніка аддзела матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ЦШПР Трусава П. Панамарэнку, без даты, [пачатак жніўня 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 131).

і ў брыгадзе пад камандаваннем Чарнова, якая таксама дзейнічала ў Арлоўскай вобласці, да 2 жніўня 1943 г. 19 партызанаў памерлі з голаду, у 200 з'явіліся галодныя ацёкі[320].

Яшчэ горш было партызанам у Крыме. Паводле інфармацыі НКУС ад чэрвеня 1942 г., у гарах Крыма знаходзілася каля 1 000 партызанаў. Іх становішча было, аднак, выключна цяжкім. Яны яшчэ восенню 1941 г. праз здраду страцілі ўсе склады з запасамі прадуктаў харчавання. Зімой 1941/42 гг., паводле звестак, з голаду загінулі 10 % партызанаў, і нібыта здараліся выпадкі канібалізму[321]. На гэта паведамленне Панамарэнка рэагаваў неадкладна і звярнуўся па радыё 10 чэрвеня 1942 г. да штаба Каўказскага фронту: «Крымскія партызаны не маюць прадуктаў харчавання. Яны галадаюць. Былі выпадкі канібалізму. Я прашу Вас дапамагчы партызанам прадуктамі харчавання»[322].

Аднак такая дапамога не прыйшла, і становішча ў Крыме зімой 1942/43 гг. яшчэ больш пагоршылася. Судаплатаў перадаў Панамарэнку 13 лютага 1943 г. наступнае паведамленне: «У Крыме партызаны з-за голаду спынілі дыверсійную дзейнасць. Партызаны паміраюць, былі чатыры выпадкі канібалізму. Дуглас [самалёт], які знаходзіцца пад Булатавам, не можа паставіць партызанам прадукты харчавання»[323].

З прыблізна 1 300 партызанаў, што былі ў 1941 г. у Крыме, засталося да чэрвеня 1943 г. толькі каля 80. Частка з іх дэзерціравала ці яшчэ ў 1941 г. перабегла да немцаў, некаторыя зніклі без вестак, шмат хто загінуў у антыпартызанскіх аперацыях з боку нямецкіх акупантаў і татарскіх злучэнняў, якія вельмі эфектыўна змагаліся з партызанамі. Насельніцтва, галоўным чынам татары, утварыла самаабарону і адбівала са зброяй у руках любую спробу партызанаў канфіскаваць прадукты харчавання. Асабліва цяжкай для партызанаў выдалася зіма 1942/43 гг. 80 партызанаў памерлі з голаду, а яшчэ 80 загінулі ў розных аперацыях[324].

У той час, калі партызаны Крыма паміралі з голаду, а ў Бранскіх лясах галадалі, партызанам Беларусі жылося параўнальна добра. У некаторых з іх былі нават праблемы са здароўем, бо яны пераядалі. Партызаны брыгады «Першамайская» (Баранавіцкая вобласць) елі, паводле ўласных дадзеных, «увесь час без абмежаванняў. Спажыванне вялікай колькасці мяса нават прыгнятальна дзейнічала на здароўе таго-сяго»[325]. Камандзіру Баранавіцкага партызанскага злучэння Васілю Чарнышову жылося ўвачавідкі добра, падчас партызанства ў яго яўна была лішняя вага[326].

[320] Судаплатаў П. Панамарэнку, 2 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 117).
[321] Паведамленне з Сімферопальскага раёна паводле дадзеных 4-га аддзела НКУС ад 6 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 753, л. 29—31).
[322] Радыёграма П. Панамарэнкі штабу Каўказскага фронту, № 123 ад 20 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 62, л. 123).
[323] Судаплатаў П. Панамарэнку, 13 лютага 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 47).
[324] Пратакол размовы з Іосіфам Калугіным, супрацоўнікам НКУС, з партызанскага атрада ў Крыме, 31 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 83—96).
[325] Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 110.
[326] Фатаграфію Чарнышова з партызанскага часу гл.: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 160a.



## 11. Страты партызанаў

Згодна са спісам ліквідацыйнай групы Беларускага штаба партызанскага руху 1946 г., страты савецкіх партызанаў у Беларусі склалі: 25 881 загінулы і памерлы ад ран, 11 697 зніклых без вестак, 1 030 партызанаў, якія трапілі да немцаў у палон і пра чый лёс нічога невядома[327]. Начальнік жа Беларускага штаба Калінін у жніўні 1944 г. назваў лічбу партызанскіх страт (загінулых, зніклых без вестак) у 34 002, на 3 376 меншую, чым у ліквідацыйнай групы[328].

Гэтыя дадзеныя здаюцца адносна сваёй дакладнасці на першы погляд верагоднымі, тым больш, што яны амаль супадаюць. Але гэтым лічбам ніякім чынам нельга верыць, бо статыстычны ўлік уласных страт пачаўся даволі позна. Толькі ў снежні 1942 г. Цэнтральны штаб звярнуў увагу, што персанальныя статыстычныя дадзеныя партызанскіх падраздзяленняў і рэгіянальных штабоў не ўтрымліваюць дадзеных пра ўласныя страты. Каб выправіць гэта, Цэнтральны штаб распарадзіўся 27 снежня 1942 г. у будучыні сістэматычна ўлічваць і перадаваць уласныя страты[329].

І Беларускі штаб таксама да снежня 1942 г. не вёў ніякай статыстыкі пра ўласныя страты. Першыя дадзеныя пра ўласныя страты маюцца за снежань 1942 г., яны тычацца 36 загінулых і параненых. Да 1 мая 1943 г. Беларускі штаб зарэгістраваў 6 загінулых і 4 параненых камандзіраў і 2373 загінулых і 1 471 параненага партызана (агулам 3 854 загінулыя і параненыя). Лічбаў пра зніклых без вестак, дэзерціраў, перабежчыкаў і палонных Беларускі штаб не даваў[330].

Праўда, Беларускі штаб на гэты час ведаў пра мінімум 5 000 партызанаў, якія з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г. загінулі, былі параненыя ці зніклі без вестак толькі ў Віцебскай вобласці. Найбольшыя страты пры гэтым панеслі брыгады Дзячкова, Захарава, Воранава і Баскакава, агулам каля 3 000 партызанаў[331]. У Магілёўскай жа вобласці страты партызанаў за той самы перыяд склалі нібыта 16 забітых і 40 параненых[332]. Мінскія партызаны, паводле звестак, з 1 студзеня да 1 мая

[327] Зводка колькасці партызанаў, якія дзейнічалі на беларускай тэрыторыі падчас Айчыннай вайны, падрыхтаваная Раманавым і Разанавым з ліквідацыйнай групы БШПР, 1 жніўня 1946 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 8).
[328] Паведамленне начальніка БШПР Калініна пра асабовы склад партызанаў у Беларусі і пра выніку роспуску атрадаў і брыгад, якія аб'ядналіся з часцямі Чырвонай Арміі, 15 жніўня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 88).
[329] Распараджэнне № 2283 ЦШПР ад 27 снежня 1942 г. рэгіянальным штабам (з лістом-размеркавальнікам) (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 14, л. 43 і наст.).
[330] Паведамленне начальніка БШПР Калініна ад 30 чэрвеня 1943 г. пра рост і баявыя вынікі партызанаў Беларусі зімой—вясной 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 21 і наст.).
[331] Паведамленне пра баявыя вынікі партызанаў у Віцебскай вобласці за перыяд з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 31).
[332] Паведамленне пра баявыя вынікі партызанаў Магілёўскай вобласці зімой і вясной 1943 г., да 1 мая 1943 г., без даты (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 37 і наст.).

1943 г. страцілі таксама толькі 26 загінулых[333]. Пра страты партызанаў у іншых абласцях Беларускі штаб, відавочна, не меў дадзеных[334].

Гэта азначае, што Беларускі штаб дакладваў 1 ліпеня 1943 г. Цэнтральнаму штабу пра 3 854 загінулыя і параненыя партызаны у Беларусі за перыяд з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г., хоць у штабе меліся звесткі пра страты, якія ўжо складалі лічбу звыш 5 000 загінулых. Пры гэтым трэба заўважыць, што лічбы страт тычыліся толькі трох з дзесяці беларускіх абласцей. Таму і прыведзеныя тут лічбы вельмі супярэчлівыя і ставяць пад сумненне лічбы страт, пра якія дакладваў Беларускі штаб.

Як ужо гаварылася, савецкія партызаны ў 1941 і 1942 гг. неслі і ў Беларусі вялікія страты. Камандуючы тылам групы армій «Цэнтр» дакладваў 1 сакавіка 1942 г. пра 63 257 партызанаў, якія да таго часу «былі знішчаныя ў баях», захопленыя 315 бункераў, а таксама 205 гармат, 337 кулямётаў і 50 гранатамётаў. Але ён і скардзіўся:

> Калі раней мы нішчылі ў баі *ў дзень у сярэднім* па 300—400 партызанаў, з часу рускага наступлення, з прычыны паслабленай з таго часу баяздольнасці часцей камандуючага [...], колькасць партызанаў, забітых за суткі, складае толькі каля 10—15. Калі да снежня 1941 г. тэрыторыя команд. тылам групы армій «Цэнтр» магла лічыцца даволі чыстай ад партызанаў, то цяпер яе можа назваць у многіх частках забруджанай[335].

У канцы мая 1942 г. камандуючы тылам групы армій паведамляў пра звыш 80 000 партызанаў, знішчаных з чэрвеня 1941 г. у зоне «Цэнтра»[336]. Да студзеня 1943 г. колькасць «знішчаных партызанаў» у зоне «Цэнтра», паводле дадзеных камандуючага тылам групы армій, вырасла да 100 000[337]. Аднак трэба ўлічваць, што сярод 100 000 нібыта «знішчаных партызанаў» у рэчаіснасці было вельмі шмат цывільных людзей, якія былі забітыя ў нямецкіх акцыях адплаты, як і шмат байцоў, што адбіліся ад сваіх часцей.

Варта памятаць, што крывавыя бойні адносна цывільнага насельніцтва павялічыліся на працягу 1942 г. у рамках барацьбы з партызанамі і дасягнулі сваёй кульмінацыі ў 1943 г. Забітыя цывільныя людзі (жанчыны, дзеці, старыя і мужчыны) залічваліся для рапартаў нямецкімі ўладамі ў прынцыпе ў партызаны, памагатыя партызанаў і

[333] Паведамленне пра баявыя вынікі партызанаў Мінскай абласці ў зімовы перыяд, май 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 42).

[334] Параўн.: Паведамленне пра баявыя вынікі партызанаў Гомельскай, Палескай, Баранавіцкай, Вілейскай, Беластоцкай і Брэсцкай абласцей зімой 1943 г., да 1 мая 1943 г., усе паведамленні былі напісаныя БШПР у маі 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 36—57).

[335] Прапановы камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» па знішчэнні партызанаў у тылавым раёне і ў тылах армій, 1 сакавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/230, Bl. 144).

[336] Даклад камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» генерала фон Шэнкендорфа ад 29 мая 1942 г., 2 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RH 19 II/383, Bl. 1—6).

[337] Arnold K. J. Die Wehrmacht... S. 474.



падазроныя, як, сярод іншага, было паказана на прыкладзе аперацый «Арол» і «Котбус». Акрамя таго, асобныя камандзіры камандаў, якія ўдзельнічалі ў акцыях супраць партызанаў, проста рапартавалі пра выдуманыя поспехі, г. зн. пра «забітых у баі партызанах»[338], так што і нямецкія паведамленні абсалютна непрыдатныя, каб атрымаць адтуль нейкія надзейныя лічбы пра партызанскія страты.

І ўсё-ткі партызаны неслі вельмі адчувальныя страты, куды большыя за тыя, што падаваліся савецкімі органамі ў афіцыйных рапартах. Гэта можна паказаць на наступных прыкладах: як ужо згадвалася, партызаны Віцебскай вобласці з лістапада 1942 г. да мая 1943 г. панеслі вялікія страты, каля 5 000 чалавек. Нягледзячы на гэтыя страты, колькасць партызанаў у вобласці працягвала расці, таму што асобныя атрады хутка папаўнялі свае шэрагі, набіраючы ў іх па мабілізацыі ваеннаабавязаных мясцовых мужчын[339].

Праўда, партызаны ў раёне Віцебска ў наступныя тыдні зноў мусілі адчуць вялікія страты. 1 мая 1943 г. партызанскае злучэнне Віцебскай зоны, адной з чатырох зон у вобласці, налічвала каля 4 200 партызанаў, якія былі падзеленыя на восем брыгад. У канцы мая 1943 г. немцы правялі адносна паспяховую акцыю супраць партызанаў Віцебскага злучэння (аперацыя *«Maigewitter»* — «Майская навальніца»). Усе брыгады панеслі вялікія страты (забітыя, параненыя, палонныя, зніклыя без вестак), найбольшыя былі ў Віцебскай брыгадзе. Яна на 1 мая 1943 г. налічвала агулам 624 партызаны і панесла наступныя страты: 124 забітыя, 45 параненых, 18 палонных і 310, «якія згубіліся». Пад апошнімі трэба разумець тых, што дэзерціравалі ці проста пайшлі дамоў. Агульныя страты Віцебскай зоны (забітыя, параненыя, палонныя, «якія згубіліся») на пачатак чэрвеня 1943 г. склалі звыш 2 000 партызанаў. Частку ўзятых у палон партызанаў немцы адпусцілі дамоў да сем'яў і паабяцалі не пераследаваць, «каб развaліць партызанскія атрады». 10 чэрвеня 1943 г. у злучэнні засталіся толькі 2 102 партызаны[340].

Такім чынам, страты савецкіх партызанаў за восем месяцаў (з лістапада 1942 г. да чэрвеня 1943 г.) толькі ў Віцебскай вобласці склалі куды больш за 7 000 чалавек (забітыя, зніклыя без вестак, узятыя ў палон, перабежчыкі), прычым за май маглі быць улічаныя толькі страты адной з чатырох зон Віцебскай вобласці. 1 студзеня 1943 г. у Віцебскай вобласці было звыш 20 000 партызанаў, гэта значыць страты склалі больш за 35 % асабовага складу толькі за шэсць месяцаў.

Акрамя таго, дэзерціры і перабежчыкі з партызанскіх падраздзяленняў і так не ўлічаныя ніякай статыстыкай, а іх — тысячы, пра што сведчаць унутраныя рапарты і паведамленні. Партызанскае

[338] Інтэрв'ю аўтара з баронам Філіпам Фрайхерам фон Бёзэлагерам, узятае 27 жніўня 2005 г. у Кройцбергу. Барон фон Бёзэлагер быў афіцэрам у штабе групы армій «Цэнтр».

[339] Паведамленне пра баявыя вынікі партызанаў у Віцебскай вобласці за перыяд з 1 лістапада 1942 г. да 1 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 31).

[340] Паведамленне сакратара Віцебскага абкама Жыляніна П. Панамарэнку і Калініну пра карную экспедыцыю супраць партызанаў і стан Віцебскага партызанскага злучэння, 18 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 857, л. 9—14).

кіраўніцтва ў савецкім тыле, натуральна, ведала пра гэта. У адной справаздачы Цэнтральнага штаба ад 12 снежня 1942 г., якая закранае пераход партызанаў на нямецкі бок, згадваецца, што да чэрвеня 1942 г. у Крыме на нямецкі бок перабегла 1 200 партызанаў, сярод іх быў 891 крымскі татарын. Канкрэтных лічбаў перабежчыкаў на Украіне справаздача не называе, але з яе вынікае, што летам 1941 г. многія партызаны перабеглі да немцаў пасля таго, як ім немцамі была гарантавана беспакаранасць. У Смаленскай вобласці немцы арганізавалі «зялёную армію», якая складалася з паліцэйскіх і дэзерціраў і змагалася супраць партызанаў. З партызанскіх атрадаў пад камандаваннем Ямлюціна ў Бранскіх лясах восенню 1942 г. перабеглі да ворага 284 партызаны, а 380 дэзерціравалі. І гэта, здаецца, толькі малая доля ад таго, што адбывалася на самай справе, бо толькі з аднаго атрада гэтага злучэння ў кастрычніку 1943 г. на нямецкі бок перабеглі 135 партызанаў, у тым ліку адзін паліткамісар з узводам[341].

Цытаваная вышэй справаздача не ўтрымлівае ніякіх дадзеных па Беларусі, але, як ужо раней даводзілася, і ў Беларусі дэзерціравалі і перабягалі на нямецкі бок тысячы партызанаў, як гэта здарылася ў 1942 г. у Віцебскай вобласці. Там уцяклі тысячы ваеннаабавязаных ці ўжо мабілізаваных мужчын у лясы ці да немцаў. Утварыліся «банды» з дэзерціраў і адмаўленцаў ад ваеннай службы, якія аказвалі ўзброены супраціў. Вясной і летам 1942 г. партызаны правялі бязлітасны паход супраць гэтых «бандаў» і дэзерціраў[342]. У 1943 г. у Віцебскай вобласці гэта паўтарылася. Старшыня Віцебскага абласнога камітэта Рабцаў дакладваў 16 ліпеня 1943 г.:

> У апошні час з'явіліся дэзерціры, якія аб'ядноўваюцца нават у крымінальныя банды. […] Быў выпадак, калі 2-ю Беларускую партызанскую брыгаду ў адной вёсцы абстралялі з дахаў хат і хлявоў з вінтовак і кулямётаў. […] Выявілася, што гэта была брыгада [sic] рабаўнікоў і дэзерціраў. […] [2-я Беларуская] партызанская брыгада знішчыла банду. Праўда, страты панеслі і вяскоўцы, але гэта — нічога, нельга ж было адпускаць нягоднікаў[343].

Дэзерцірства і пераход да ворага ў першай палове 1943 г. набывалі ў Віцебскай вобласці пагрозлівыя памеры. Са студзеня да мая 1943 г., паводле дадзеных партыйнага кіраўніцтва Віцебскай вобласці, без вестак зніклі 1 990 партызанаў. «З прыблізна 2 000 партызанаў, якія зніклі без вестак, значная частка перабегла да ворага, а астатнія ўцяклі дадому ці недзе хаваюцца»[344].

[341] Паведамленне пра пераход партызанаў на бок ворага ад 12 снежня 1942 г., без называння аўтара (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1087, л. 15—16 об.).
[342] Параўн. раздзел «Адмысловы выпадак: партызанскі рух у раёне Віцебска «Суражскія вароты».
[343] Справаздача старшыні Віцебскага абласнога камітэта Рабцава старшыні Савета народных камісараў БССР Былінскаму ад 16 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 388, арк. 89—95).
[344] Стэнаграма пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б ад 25 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 1238, арк. 182—195).



З гэтай прычыны партызанскае кіраўніцтва Віцебскай вобласці ў чэрвені 1943 г. убачыла для сябе нагоду тэрмінова праз Цэнтральны і Беларускі штабы звярнуцца да супрацоўнікаў НКУС. Іх заданне палягала ў тым, каб арганізаваць агентурную працу ў атрадах і спыніць дэзерцірства ды ўцёкі партызанаў да немцаў. За гэтыя з'явы ў рапартах віну ўскладалі на шпіёнаў ворага, якія займаліся ў атрадах разбуральнай дзейнасцю і пры гэтым дамагаліся «такіх-сякіх поспехаў». Пра гэта «сведчаць факты перабягання і ўцёкаў з атрадаў. Напрыклад, у маі [1943 г.] з атрада Курмялёва 1-й Беларускай партызанскай брыгады дэзерціравалі дзевяць чалавек, з брыгады імя Кутузава — шэсць чалавек. Аналагічныя выпадкі назіраліся і ў іншых брыгадах»[345]. Падобнае заданне — змагацца з «панікёрамі», «шпіёнамі» і «здраднікамі» — атрымалі вясной 1943 г. асобыя аддзелы ў Магілёўскай вобласці[346].

У асобых аддзелаў было заданне сачыць за настроем у падраздзяленнях, дакладваць пра гэта кіраўніцтву і своечасова выкрываць патэнцыйных дэзерціраў і перабежчыкаў. Напрыклад, 10 студзеня 1943 г. начальнік асобага аддзела партызанскай брыгады Хомчанкі, якая размяшчалася ў студзені 1943 г. у Расонскім раёне, дакладваў камандзіру брыгады:

> Частка партызанаў настроена негатыўна. […] Жураўлёў і Умоцінка з 6-га атрада заявілі: «Мы цяпер галадаем у атрадзе». Некаторыя партызаны з нашага атрада дэзерціравалі, і яны зрабілі правільна. Немцы ўсё роўна ўсіх нас заб'юць, лепей памерці з сям'ёй. […] У час маршу [у Расонскім раёне] дэзерціравалі: […] з 5-га атрада Сімураў, […] з 6-га атрада 19 чалавек […], якія прыхапілі з сабой 2 аўтаматы і 15 вінтовак. Шашкоў і Фядура з 3-га атрада заявілі: «Пры спрыяльным выпадку дэзерціруюць» — тут не жыццё, гэта — пакуты[347].

Але дэзерціравалі не толькі «простыя» партызаны. Мяркулаў, народны камісар дзяржаўнай бяспекі, паведамляў Панамарэнку 19 снежня 1943 г., што ў дзвюх з трох брыгад злучэння Капусты (заходнія часткі Баранавіцкай вобласці) пануе разгубленасць. Прычына: блізкасць нямецкай мяжы і ўзмацненне нямецкіх гарнізонаў.

> З брыгады Мартынава дэзерціравалі намеснік начальніка штаба, намеснік камісара брыгады па камсамоле, камісар аднаго з атрадаў, упаўнаважаны асобага аддзела. Яшчэ спрабавалі дэзерціраваць і іншыя ваенна-палітычныя кіраўнікі брыгады, але яны былі затрыманыя[348].

За дэзерцірства, як правіла, каралі смерцю праз расстрэл. Пра фармальнасці пры гэтым клапаціліся мала. 23 студзеня 1943 г.

[345] Паведамленне сакратара Віцебскага абкама Жыляніна П. Панамарэнку і Калініну пра стан партызанскага руху ў Віцебскай вобласці, 18 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 857, л. 13 об.).
[346] Гл. с. 310—311 у гэтай кнізе.
[347] Паведамленне начальніка асобага аддзела брыгады Хомчанкі ад 10 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 311, арк. 3—4 адв.).
[348] Мяркулаў П. Панамарэнку, 19 снежня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 202).

Лепельскі падпольны райкам КП(б)Б папярэджваў: «Камандзір 2-га атрада Самусь [...] расстраляў без дазволу камандавання брыгады двух партызанаў-дэзерціраў»[349]. У брыгадзе імя Сталіна, якая размяшчалася ў Налібоцкай пушчы, у 1943 г. былі расстраляныя пяць партызанаў пасля няўдалых уцёкаў да ворага і дзесяць за іншыя віды дзяржаўнай здрады[350].

Калі нельга было злавіць дэзерціраў, тады «каралі» членаў іх сям'і, калі толькі была такая магчымасць. З атрада «Дзядзькі Колі», які перайшоў лінію фронту ў ліпені 1942 г. і дзейнічаў у Талачынскім раёне, 23 ліпеня 1942 г. дэзерціраваў партызан Павел Цярэшчанка, сям'я якога знаходзілася ў савецкім тыле. Камандзір атрада Рашэтнікаў («Дзядзька Коля») прапанаваў пасля гэтага Цэнтральнаму камітэту КП(б)Б прыцягнуць да адказнасці сям'ю дэзерціра[351]. Вясной 1944 г. з атрада «За Савецкую Беларусь» брыгады імя Фрунзэ (Вілейская вобласць) дэзерціраваў партызан Іван Кубалка. Камандзір брыгады «прысудзіў» за гэта яго брату, які нібыта дапамог яму дэзерціраваць, смяротную кару праз расстрэл[352].

Камандзіры асобных брыгад і атрадаў неахвотна паведамлялі фактычны памер уласных страт, бо гэта служыла доказам уласнай нядольнасці і няўмення. Напрыклад, Ціткоў далажыў Панамарэнку, што яго брыгада «Жалязняк» падчас аперацыі «Котбус» (май—чэрвень 1943 г.) панесла наступныя страты: 52 забітыя, 49 параненых, 14 перабежчыкаў і зніклых без вестак[353]. Камандзір 4-га атрада брыгады «Жалязняк», ужо цытаваны лейтэнант Пракоп Півавараў, наадварот, сцвярджаў у лісце Панамарэнку:

> Камандаванне зрабіла фальсіфікаваныя дадзеныя пра страты праціўніка і страты брыгады [у час аперацыі «Котбус»]. У час нямецкай экспедыцыі партызаны прасіліся адпусціць іх дадому, каб ратаваць свае сем'і. Камандаванне забараніла, і партызаны пачалі ўцякаць. Пачаліся расстрэлы. [...] У канчатковым выніку мінімум 20 партызанаў са зброяй у руках перабеглі да ворага, бо баяліся расстрэлу. Былі расстраляныя не менш за 35 чалавек[354].

Неахвотна паведамлялася і пра ахвяр унутраных канфліктаў сярод партызанаў, якія часта вяліся з выкарыстаннем зброі, ці пра самавольныя расстрэлы партызанаў камандзірамі, пра што яшчэ будзе гаворка. Прагляд аператыўных рапартаў Беларускага штаба за 1943 і 1944 гг. паказвае, што пра страты партызанаў увогуле дакладвалася рэдка[355]. Сапраўдную колькасць страт можна было лёгка прыхаваць, парадзелыя шэрагі запаўняліся прымусова мабілізаванымі, асабовы склад зноў адпавядаў лічбам. Пры такіх умовах страты партызанаў, падлічаныя ліквідацыйнай групай Беларускага штаба партызанскага руху (25 681 забіты, 11 697 зніклых без вестак і 1 030 трапіўшых у палон) можна разглядаць як абсалютны мінімум.

Клаус Ёхен Арнольд паспрабаваў падвесці вынік партызанскіх страт у тылавым раёне групы армій «Цэнтр», які ахопліваў большую частку Усходняй Беларусі. Па яго падліках, нямецкія падраздзяленні з чэрвеня 1941 г. да мая 1942 г. забілі прыблізна ад 17 000 да 23 000 партызанаў ці чырвонаармейцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей, а з чэрвеня 1942 г. да чэрвеня 1944 г. — 77 191[356]. Праўда, ён пры гэтым абапіраецца выключна на нямецкія крыніцы, якія не нашмат больш праўдзівыя, чым партызанскія, бо гэтыя паведамленні таксама ўтрымліваюць лічбы нявінна забітых цывільных.

## 12. Страты немцаў у барацьбе з партызанамі

Калі савецкія партызаны сістэматычна змяншалі ці прыхарошвалі свае страты, то ў паведамленнях пра страты, якія яны прычынілі немцам, яны рабілі ўсё наадварот. Гэтыя паведамленні часцей за ўсё перабольшваліся ці проста былі выдуманыя. Не дзіва, што баявыя вынікі савецкіх партызанаў Беларусі адносна колькасці забітых і параненых нямецкіх салдат і афіцэраў у справаздачах Беларускага штаба выглядаюць так унушальна (гл. табліцу на с. 362).

Сюды дадаюцца і страты, якія партызаны нібыта прычынілі немцам у Беларусі з 20 чэрвеня да 20 ліпеня 1944 г.: 8 075 варожых салдат і афіцэраў забітых, 8 940 захопленых у палон, пра параненых дадзеных няма[357]. Такім чынам, беларускія савецкія партызаны, паводле дадзеных Беларускага штаба, падчас трохгадовай партызанскай вайны забілі агулам 469 347 нямецкіх салдат і афіцэраў, больш за 144 798 паранілі і 12 893 захапілі ў палон.

[349] Пратакол № 3 пасяджэння Лепельскага райкама ад 23 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 259, арк. 462).

[350] Паведамленне сакратара Івянецкага райкама Сідарка начальніку БШПР Калініну ад 31 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 469, арк. 148—154).

[351] Ліст Рашэтнікава ў ЦК КП(б)Б, без даты, [верагодна, жнівень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 175 і наст.).

[352] Загад № 168 камандзіра брыгады імя Фрунзэ ад 17 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 485, арк. 120).

[353] Радыёграма Ціткова П. Панамарэнку, № 4264 ад 4 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 9, арк. 156).

[354] Ліст Піваварава П. Панамарэнку, [лета 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 469, арк. 21—24).

[355] Аператыўныя паведамленні БШПР за 1943 і 1944 гг. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 3 (за 1943 г.); воп. 2, спр. 6 (за 1944 г.)).

[356] Arnold K. J. Die Wehrmacht... S. 478.

[357] Дадзеныя да 1 студзеня 1944 г.: Паведамленне БШПР пра баявыя вынікі партызанскіх атрадаў Беларусі ў барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1943 г., частка 2, без даты, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 336 і наст.). Дадзеныя за 1944 г. атрымліваюцца ад складання дадзеных ад 1 студзеня 1944 г. з дадзенымі за 1944 г. (115 281 забіты салдат і афіцэр, 73 500 параненых і 2 298 палонных) у паведамленні аб баявых выніках партызанскіх атрадаў Беларусі ў барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 93).

*Нямецкія страты*
*(паводле дадзеных Беларускага штаба партызанскага руху[358])*

| | да 22.06.1942 г. | да 01.01.1943 г. | да 01.01.1944 г. | да 20.06.1944 г. |
|---|---|---|---|---|
| забітыя салдаты / афіцэры | 60 150 | 119 070 | 345 991 | 461 272 |
| параненыя салдаты / афіцэры | няма дадзеных | 5 720 | 71 298 | 144 798 |
| палонныя салдаты / афіцэры | няма дадзеных | 63 | 1 655 | 3 953 |

Панамарэнка ў сваёй выдадзенай у 1984 г. кнізе называе лічбу 464 000 нямецкіх салдат і афіцэраў, чыгуначнікаў, нямецкіх супрацоўнікаў акупацыйнай адміністрацыі і пасяленцаў, якіх быццам знішчылі савецкія партызаны толькі ў Беларусі. Агулам, паводле Панамарэнкі, савецкія партызаны знішчылі 1,6 мільёна нямецкіх салдат і афіцэраў, чыгуначнікаў і г. д., каля 600 000 на акупаваных немцамі расійскіх тэрыторыях, каля 500 000 на Украіне, 2 700 — у Малдаўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, 14 000 — у Літве, 40 571 — у Латвіі, 3 500 — у Эстоніі і 13 000 — у Карэліі[359].

Заходнія даследчыкі гэтыя дадзеныя ніколі ўсур'ёз не ўспрымалі[360]. Нарэшце Клаус Ёхен Арнольд паспрабаваў падвесці вынік нямецкіх страт у партызанскай вайне на тэрыторыі групы армій «Цэнтр». Паводле яго ацэнак, да 10 мая 1942 г. было 3 248 забітых і прыкладна 25 130 — з чэрвеня 1942 г. да чэрвеня 1944 г. Сюды трэба было б дадаць страты «мясцовых» злучэнняў у колькасці 10 543 чалавекі, агулам з нямецкага боку 39 568 забітых[361].

Герлах, што шмат абапіраецца на ранейшыя даследаванні Цімаці Малігана[362] і пацвярджэнне якім ён шмат у чым бачыць у сваіх даследаваннях, ацэньвае нямецкія страты ў зоне «Цэнтра» ад 54 000 да 57 000 чалавек, у тым ліку з «мясцовых» злучэнняў, іншых калабарацыяністаў, чыгуначнікаў і супрацоўнікаў арганізацыі Тод-

[358] Аператыўнае паведамленне № 41/115 БШПР ад 20 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 524).
[359] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 317, 378 (зноска 1).
[360] Soviet Partisans in World War II... P. 37; Cooper M. The Phantom War... P. IX, 146; Bonwetsch B. Sowjetische Partisanen 1941—1944. Legende und Wirklichkeit des «allgemeinen Volkskrieges» // Partisanen und Volkskrieg. Zur Revolutionierung des Krieges im 20. Jahrhundert / Hrsg. von G. Schulz. Göttingen, 1985. S. 111.
[361] Arnold K. J. Die Wehrmacht... S. 477—480.
[362] Mullingan T. P. Reckoning the Costs of the People's War: The German Experience in the Central USSR // Russian History. Vol. 9. 1982. P. 27—48.



та. Гэтыя лічбы часткова месцяць у сабе Генеральны камісарыят Беларусь з 14 000 забітымі. Пры буйных нападах на партызанскія зоны загінулі з нямецкага боку, паводле ацэнкі Герлаха, толькі каля 1 500 чалавек, «агулам гэта могуць быць у Беларусі без мясцовых памагатых паміж 6 000 і 7 000 чалавек». Герлах канстатуе: «Улічваючы вялікую масу людзей у партызанскім руху, яго баявыя поспехі ў гэтым сэнсе нязначныя, ды і ці варта было чакаць чагосьці іншага ад партызанскай арміі»[363].

Грунтам для гэтых заяў з'яўляюцца выключна нямецкія крыніцы, якія, аднак, у гэтым выпадку здаюцца даволі вартымі даверу, таму што ў немцаў амаль што не было магчымасці ў рапартах утойваць страты ў вялікіх маштабах. Герлах канстатуе: «Пра страты трэба было дакладваць і кампетэнтным органам, і чыноўнікам. Праз перакрыжаваныя сувязі вялікія фальсіфікацыі хутка былі б вядомыя»[364]. Такім чынам, ацэнкі заходніх даследчыкаў, што тычыцца крыніц, здаюцца адносна добра абгрунтаванымі і вартымі даверу. І атрымліваецца вялікая розніца паміж сапраўднымі нямецкімі стратамі (6 000—7 000 забітых немцаў) і 469 347 нямецкімі салдатамі і афіцэрамі, якія былі адрапартаваныя савецкімі партызанамі як забітыя, гэта суадносіны 1:67—1:78.

## 13. Прыпіскі ў справаздачнасці

Відавочныя несупадзенні нямецкіх дадзеных пра свае страты і дадзеных партызанаў пра страты немцаў грунтуюцца на савецкай справаздачнасці. Фундамент для сцвярджэнняў пра страты ворага з боку партызанаў стваралі рапарты дыверсійных груп і камандзіраў асобных падраздзяленняў. Прыцягвае ўвагу, што страты ворага падаваліся тым большымі, чым вышэй была ў іерархіі пасада таго, хто рапартаваў. Спецыфіцы савецкай бюракратыі і справаздачнасці адпавядала тое, што афіцыйныя даклады пра дзейнасць хутчэй супадалі з чаканнямі начальніка, чым з рэчаіснасцю, завышаныя ці выдуманыя лічбы поспехаў і прыхаваныя вынікі былі ўсеагульным феноменам савецкай справаздачнасці, якія называлі «прыпіскамі».

Ніжэй будуць прыведзеныя некаторыя прыклады такіх «прыпісак»: у канцы ліпеня 1941 г. сакратар Цэнтральнага камітэта КП(б)Б Эйдзінаў дакладваў: «Атрад таварыша Юрына знішчыў на рацэ Бярэзіна 150 матацыклістаў праціўніка»[365]. Юрын жа дакладваў у сапраўднасці, што ягоны атрад 14 ліпеня 1941 г. напаў на варожую аўтакалону і знішчыў яе. Пры гэтым нібыта былі выведзеныя са строю 50 аўтамашын і знішчаныя 100 салдат і афіцэраў ворага, прытым без

[363] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 865 і наст.
[364] Тамсама. S. 866; параўн. на гэты конт таксама: Arnold K. J. Die Wehrmacht... S. 477—480.
[365] Сакратар ЦК КП(б)Б Р. Эйдзінаў у ЦК УсеКП(б) Шамбергу, без даты, [канец ліпеня 1941 г.] (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 3—6).

ўласных страт[366]. Даклад Эйдзінава тычыўся гэтай жа самай акцыі, бо гэта была адзіная аперацыя такіх памераў, якую правёў атрад Юрына летам 1941 г. Акрамя таго, можна меркаваць, што Юрын таксама паведаміў завышаныя дадзеныя. Пазней ён быў за фальсіфікацыю паведамленняў асуджаны на 6 гадоў лагераў[367].

У жніўні 1943 г. партыйнае кіраўніцтва Віцебскай вобласці распарадзілася правесці праверку брыгады Герасімава. Прызначаны для гэтага інспектар канстатаваў, сярод іншага:

> У чэрвені 1943 г. камандзір атрада Цыганкоў дакладваў, што ягоны атрад каля вёскі Свіркаўшчына знішчыў 50 немцаў. У сапраўднасці там не быў забіты аніводны немец. Таварыш Цыганкоў прыпісаў снайперу Барысаву 26 забітых немцаў. На самай справе ніводны не быў забіты; ён гэта зрабіў, каб прадставіць Барысава да ўзнагароды. […] 16.02.1943 г. нібыта каля вёскі Клімаўшчына забіта і паранена 40 нямецкіх салдат і афіцэраў, у сапраўднасці іх было 5. 26.03.1943 г. Галубкоў дакладваў, што каля вёскі Цярэшкі было паранена і забіта 14 немцаў, у сапраўднасці не было ніводнага[368].

Асабліва часта завышаныя паведамленні пра поспехі перадавалі наконт падрываў чыгункі. Прывядзём тут некаторыя прыклады. Увосень 1942 г. камандаванне брыгады «Дзядзькі Колі» дакладвала прадстаўніку абласнога камітэта Коцікаву, што партызаны брыгады за 16 дзён вывелі са строю ў сваім аператыўным раёне да 20-ці вайсковых эшалонаў з салдатамі і ўзбраеннем. Пасля пільнай праверкі чыгуначнікамі было выяўлена, што ў гэты час былі пашкоджаныя толькі два лакаматывы і толькі адзін быў выведзены са строю[369].

3 лістапада 1943 г. Гапееў, партызанскі камандзір з Баранавіцкай вобласці, перадаваў па радыё ў Беларускі штаб:

> Група атрада імя Неўскага ў ноч на 8 кастрычніка на чыгуначным участку Ліда — Маладзечна знішчыла вайсковы эшалон. Былі выведзеныя са строю: адзін лакаматыў, 7 вагонаў з грузамі, у тым ліку 4 грузавікі, 6 лёгкіх грузавікоў і чатыры зеніткі, адзін вагон з людзьмі. Гэта ўсё пасля падрыву згарэла. […] Ноччу на 31 кастрычніка […] група з таго самага атрада ўзарвала на тым жа самым участку вайсковы эшалон, знішчыла лакаматыў і 13 вагонаў[370].

[366] Паведамленне пра баявыя дзеянні камандзіра атрада «Васільева» (лейтэнанта дзяржаўнай бяспекі Юрына), 21 лютага 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 9—13).

[367] Юрын паведаміў пасля замаху на Кубэ ў верасні 1943 г. у Маскву, што гэта здзейснілі ягоныя дыверсанты. Параўн. главу «Спецыяльныя баявыя дзеянні і аперацыі» ў кнізе: Попов А. Ю. НКВД и партизанское движение... С. 132.

[368] Паведамленне інспектара Віцебскага абкама Шэндзелева ад 29 жніўня 1943 г. пра самапраўныя расстрэлы ў брыгадзе Герасімава (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 256, арк. 380 і наст.).

[369] Вытрымка са справаздачы пра дзейнасць Мінскага абкама з дня заснавання да 24 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 304, арк. 237).

[370] Радыёграма Гапеева Ганенку, № 11140 ад 3 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 22, арк. 40).



Брыгада імя Жданава сцвярджала, што ноччу на 9 кастрычніка 1943 г. на тым самым участку яна здзейсніла падрыў:

> У ноч на 9 кастрычніка падрыўная група атрада імя Жданава […] на чыгуначным участку вывела са строю вайсковы эшалон, які ішоў у накірунку да фронту. Знішчана: лакаматыў, 5 вагонаў з людзьмі, 3 платформы з танкамі. 8 вагонаў з людзьмі пашкоджаныя, […] 183 забітыя, 158 параненых[371].

Паводле нямецкіх паведамленняў, у тыя суткі на гэтым участку на чыгунцы сапраўды адбыліся падрывы. У ноч на 8 кастрычніка 1943 г.:

> Участак Ліда — Маладзечна з 21.40 паміж Юрацішкамі і Княгінінам закрыты на 17 гадзін, потым шлях у накірунку захаду (Радзімы), магчыма, яшчэ на 8 гадзін. Ад км 734—734,7 на абодвух шляхах падарваныя ўсяго 130 рэек. Тэлефонная лінія пашкоджаная[372].

Аднак пра іншыя матэрыяльныя (лакаматывы, вагоны) або людскія страты не паведамлялася.

Адносна ночы на 9 кастрычніка 1943 г. паведамлялася:

> У 7.25 на ўчастку Ліда — Маладзечна […] на 749 км адзіночны лакаматыў (Lz)[373] наехаў на міну. Лакаматыў пашкоджаны. 3 рэльсаў не зышоў. Вырваныя 1,50 метра рэек і 3 шпалы пашкоджаныя. […] У 21.20 на ўчастку Ліда — Маладзечна […] на шляху ў накірунку да Радзімы пашкоджаныя паслядоўнымі падрывамі 7 рэек, у накірунку да фронту 8 рэек. На км 757.5 абясшкоджана ўсяго 18 мін[374].

Адзін падрыў адбыўся таксама ў ноч на 31 кастрычніка 1943 г.: «Участак *Ліда — Маладзечна* […] з 20.50 закрыты з прычыны падрыву шляху ў кірунку фронту на км 682. 2 рэйкі пашкоджаныя. Шлях у кірунку Радзімы з 22.00, на фронт з […] зноў дзейнічае»[375]. Пра забітых ці параненых не паведамлялася.

Прыведзеныя вышэй нямецкія паведамленні, праўда, пацвярджаюць рапарты партызанаў пра здзейсненыя падрывы чыгункі. Аднак яны паведамляюць пра параўнальна нязначныя пашкоджанні, якія былі нанесеныя. Пры гэтым варта згадаць пра тое, што нямецкія органы не маглі дазволіць сабе даць сфальсіфікаваныя паведамленні пра свае страты.

[371] Радыёграма Гапеева Ганенку, № 11195 ад 4 лістапада 1943 г. (Тамсама. Арк. 85).

[372] Паведамленне РДТ у Мінску аб стане эксплуатацыі ад 8 кастрычніка 1943 г., стан: 14.00 гадзін (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 136, арк. 23—25 адв.).

[373] Lz = лакаматыў, які пераганяе асобныя саставы з адной станцыі на другую.

[374] Паведамленні дзяжурнага апарату распарадчага аддзела службы руху пра варожыя дзеянні 8—9 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 788, арк. 30 і наст.).

[375] Паведамленні дзяжурнага апарату распарадчага аддзела службы руху пра варожыя дзеянні 30—31 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 794, арк. 31—33 адв.).

Яшчэ адзін прыклад: 2 лістапада 1943 г. Паўлоўскі, партызанскі камандзір з Палескай вобласці, перадаваў па радыё:

З 30 [кастрычніка] да 1 лістапада брыгады [Палескага злучэння] пусцілі пад адхон тры вайсковыя эшалоны ворага ў наваколлі Пціччы — Старушак. Выведзены са строю: лакаматыў, 20 вагонаў з прадуктамі харчавання і людзьмі, пяць платформаў з аўтамабілямі. Забіта і паранена да 300 салдат і афіцэраў[376].

Нямецкія паведамленні пацвярджаюць чыгуначныя падрывы ці спробы падрываў на гэтым участку. У ноч з 30 на 31 кастрычніка:

Участак Лунінец — Калінкавічы паміж Коршаўкай і Пціччу з 1.00 да 7.00 гадзін закрыты для абясшкоджання 1 міны. [...] На тым самым участку паміж Муляраўкай і Коршаўкай Z 49 790 наехаў у 23.35 на міну. Верхняя частка лёгка пашкоджана. Зыходу з рэек няма, ніхто не паранены. Шлях у кірунку Радзімы дзейнічае. Шлях у кірунку фронту закрыты да 10.00 гадзін. Той самы ўчастак паміж Брынёвам і Старушкамі з прычыны падрыву рэек з 0.15 да 10.06 закрыты[377].

30 кастрычніка 1943 г.:

У 17.30 цягнік 514 506 на ўчастку Лунінец — Калінкавічы паміж Коршаўкай і Пціччу на 442 км наехаў на міну. Зыходу з рэек няма. Вырвана 50 см рэйкі. Шлях на Радзіму дзейнічае, на фронт закрыты да 20.55[378].

Ноч на 1 лістапада 1943 г.:

У 16.30 на ўчастку Лунінец — Калінкавічы паміж Муляраўкай і Коршаўкай 22 743 наехаў [...] на 452,5 км на нацяжную міну. 10 вагонаў зышлі з рэек, 6 наехалі адзін на адзін. 50 м шляху пашкоджаны. Машыністы лёгка параненыя. Шлях на фронт закрыты, магчыма, да 12 гадзін[379].

Гэтыя рапарты хоць і пацвярджаюць некаторыя паспяховыя падрывы чыгункі і нават матэрыяльныя страты, але няма забітых, толькі ў адным выпадку лёгка параненыя машыністы. Такімі прыкладамі (параўнаннямі партызанскіх паведамленняў пра паспяховыя напады на чыгунку з нямецкімі паведамленнямі) можна запоўніць сотні ста-

[376] Радыёграма палкоўніка Паўлоўскага Калініну, № 11153 ад 2 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 22, арк. 52).

[377] Паведамленні дзяжурнага апарату распарадчага аддзела службы руху пра варожыя дзеянні 30—31 кастрычніка 1943 г., працяг (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 794, арк. 26 і наст.).

[378] Паведамленні дзяжурнага апарату распарадчага аддзела службы руху пра варожыя дзеянні 30—31 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 794, арк. 31—33 адв.).

[379] Паведамленні дзяжурнага апарату распарадчага аддзела службы руху пра варожыя дзеянні 31 кастрычніка — 1 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 794, арк. 24 і наст.).



ронак[380]. Вынік застаецца такі ж. У большасці выпадкаў партызаны паведамлялі ці пра абсалютна завышаныя поспехі, ці нават пра выдуманыя. На гэтым фоне не здзіўляюць вялікія страты немцаў у партызанскай вайне, пра якія паведамлялі савецкія органы.

Паводле няпоўных дадзеных Беларускага штаба, савецкія партызаны ў Беларусі ў перыяд з 15 верасня да 1 лістапада 1943 г. знішчылі 33 000 нямецкіх салдат і афіцэраў і звыш 19 000 паранілі. І менавіта толькі ў налётах на чыгункі, якія здзяйсняліся ў рамках аперацыі «Канцэрт», другога этапу «Рэйкавай вайны». Пры гэтым нібыта быў знішчаны 1 041 нямецкі вайсковы эшалон[381]. Такім чынам, на кожны быццам знішчаны партызанамі нямецкі вайсковы эшалон прыпадала мінімум 32 забітыя і 18 параненых нямецкіх салдат і афіцэраў ці мінімум 666 забітых і 422 параненыя нямецкія салдаты і афіцэры на адзін дзень.

У сапраўднасці ж пры падрывах чыгункі ў немцаў даволі рэдка бывалі людскія страты. Партызанам таксама не ўдавалася цалкам знішчыць вайсковы эшалон. У сярэднім страты палягалі ў тым, што адна ці некалькі рэек ды шпал былі выведзеныя са строю ці пашкоджаныя, часам зыходзілі з рэек лакаматыў і некалькі вагонаў[382]. Паводле нямецкіх дадзеных, на ўчастку Рэйхсдырэкцыі транспарту ў Мінску (Беларусь) з 1942 г. да 31 сакавіка 1944 г. праз «напады бандаў» былі забітыя 158 нямецкіх чыгуначнікаў і 1 073 нямецкія салдаты, а таксама параненыя 1 212 нямецкіх чыгуначнікаў і 3 670 салдат[383]. Партызаны ж сцвярджаюць, што ў час аперацыі «Канцэрт» яны ў сярэднім за дзень забівалі звыш 666 нямецкіх салдат.

Савецкаму партызанскаму камандаванню ў тыле не заставалася тайнай, што партызаны перадавалі «прыхарошаныя» паведамленні пра поспехі здзейсненых падрываў чыгункі. У студзені 1943 г. Іван Сырамалотаў, прадстаўнік Украінскага штаба партызанскага руху, які ў канцы 1942 г. знаходзіўся ў Пінскай вобласці, дакладваў:

Мы наладзілі сувязь з вельмі многімі атрадамі. Гэта беларускія партызаны, якія колькасна моцныя, яны налічваюць часам некалькі тысяч чалавек. Гэта, напрыклад, атрады Капусты, Камара, Кулікоўскага, Краўчанкі, Балоціна і іншыя, якія дзейнічаюць у Пінскай вобласці. [...] Усе гэтыя атрады ўяўляюць сабой пасіўны натоўп. Узброеныя яны дрэнна, па 10—15 зарадаў

[380] Сотні паведамленняў партызанаў пра здзейсненыя падрывы чыгункі ў Беларусі знаходзяцца, сярод іншага, у НАРБ (Ф. 3500, воп. 23 (радыёграмы); ф. 3500, воп. 1, спр. 3; воп. 2, спр. 6 (аператыўныя паведамленні БШПР за 1943 і 1944 гг.)). Таксама ёсць сотні нямецкіх паведамленняў РДТ у Мінску пра падрывы чыгункі (эксплуатацыйныя паведамленні) у Беларусі (асабліва за другое паўгоддзе 1943 г. і першае паўгоддзе 1944 г.) (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 136, 452, 788, 789, 791—794, 1053, 1054).

[381] Паведамленне БШПР пра баявыя вынікі партызанскіх атрадаў Беларусі ў барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1943 г., частка 2, без даты, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 169).

[382] Параўн.: Эксплуатацыйныя паведамленні за 1943 і 1944 гг. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 136, 452, 788, 789, 791—794, 1053, 1054).

[383] Pottgiesser H. Die Deutsche Reichsbahn... S. 88.

боепрыпасаў. Праціўніка яны баяцца. Але праціўнік і не трывожыць іх. Атрады жывуць за кошт насельніцтва. [...] Ад гэтых атрадаў карысці аніякай. [...] Яны, мусіць, займаюцца выключна прыхарошваннем. Яны паведамляюць пра сотні вайсковых эшалонаў, якія яны, паводле іх слоў, пусцілі пад адхон. Нашыя разведчыкі нідзе не бачылі абломкаў ад тых эшалонаў. Нельга трымаць так шмат людзей у варожым тыле, не забяспечваючы іх боепрыпасамі і выбуховымі рэчывамі[384].

27 лістапада 1943 г. начальнік 6-га аддзела Беларускага штаба капітан Каралёў, які быў з заданнем у варожым тыле, перадаваў па радыё ў Цэнтр:

> Часта назіраецца, што дыверсійныя групы па падрыве вайсковых эшалонаў многіх брыгад і атрадаў падманваюць сваіх камандзіраў. А апошнія падманваюць вышэйстаячыя органы і дзяржаву. Пра падарваны эшалон некалькі груп дакладваюць як пра ўласны ўчынак, хоць яны і блізка не былі каля чыгункі, яны толькі чулі выбух. Камандаванне многіх атрадаў фіксуе, не праверыўшы, такія дадзеныя як выкананае заданне і дакладвае Вам [Ганенка]. Неабходна даць загад камандзірам брыгад і атрадаў, а таксама органам разведкі звяраць кожнае паведамленне са здзейсненымі дыверсійнымі аперацыямі[385].

Такіх і падобных дакладаў, скаргаў і папярэджанняў прыводзіць можна яшчэ шмат[386]. Яны паказваюць, што «прыхарошванне» і вы-

[384] Паведамленне прадстаўніка УШПР Івана Сырамалотава ад 10 студзеня 1943 г. (ЦДАГОУ. Ф. 62, оп. 1, спр. 39, арк. 12 і наст.).

[385] Радыёграма Каралёва Ганенку, № 12294 ад 27 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 23, арк. 496).

[386] Камандзір партызанскай брыгады ў Віцебскай вобласці Райцаў паведаміў увосень 1942 г. пасля адной аперацыі, што ягоныя партызаны забілі 60 немцаў і 80 паранілі, акрамя таго захапілі шмат трафеяў. Аднак гэта абсалютна не адпавядала рэчаіснасці. Гл.: Пратакол размовы з камісарам брыгады імя Ленінскага камсамола Перуновым, студзень 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 257, арк. 276—279). Паводле паведамлення НКУС ад 15 мая 1943 г., камандзіры падраздзяленняў Расонскай зоны падманвалі сваіх начальнікаў, яны прысвойвалі сабе поспехі іншых, паведамлялі пра нязздзейсненыя падрывы. Гл.: Маклярскі з 4-га ўпраўлення НКУС П. Панамарэнку, 15 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 73—83). Начальнік асобага аддзела брыгады імя Чкалава Баранавіцкай вобласці паведамляў 13 снежня 1943 г.: «Асобныя падрыўныя групы цалкам займаюцца прыхарошваннем, падаючы фальшывыя паведамленні пра цягнікі ворага, якія яны быццам бы пусцілі пад адхон. Яны складалі на гэты конт фальшывыя акты, якія камандаванне атрада, на жаль, прымае за чыстую манету». Гл.: НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 30, арк. 300 і наст. Рудзенскі падпольны камітэт паведамляў у сваёй справаздачы за студзень 1944 г.: «Добраахвотная група [з брыгады "Беларусь"] пад камандаваннем члена камсамола Мікалайчыка склала два прыдуманыя паведамленні пра падрывы дзвюх аўтамашын». Гл.: НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 71, арк. 356. Радыст, які дзейнічаў у атрадзе Сяменкіна (Гомельская вобласць), паведаміў 12 верасня 1943 г. у БШПР, што камандаванне атрада перадало фальшывыя паведамленні пра поспехі. Гл.: Паведамленне радыста Калеснікава начальніку БШПР Калініну ад 12 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1337, воп. 1, спр. 2, арк. 49).



думаныя поспехі былі характэрнымі для справаздачнасці беларускіх савецкіх партызанаў. Цэнтральны штаб пад кіраўніцтвам Панамарэнкі і рэгіянальныя штабы спрабавалі змагацца з гэтым, ды вельмі ўжо нерашуча, бо яны і самі рабілі такія справаздачы.

Панамарэнка не абмяжоўваўся аднымі папярэджаннямі. Ён думаў, што паліткамісары, якіх ён зноў увёў у студзені 1943 г. у партызанскіх атрадах, спыняць падачу фіктыўных паведамленняў. У дакладной запісцы Сталіну ў пачатку студзеня 1942 г. ён пісаў, што справаздачы павінны падпісваць як камандзіры, так і камісары, бо гэта — выпрабаваны сродак пазбегнуць фальсіфікацыі рапартаў[387]. Цэнтральны штаб патрабаваў і ад Беларускага штаба зверкі паведамленняў пра здзейсненыя напады з іншымі крыніцамі[388].

У саміх падраздзяленнях барацьбу з «прыхарошваннямі» вялі ў першую чаргу асобыя аддзелы. Асобы аддзел партызанскага атрада «Баец» (Вілейская вобласць) праводзіў расследаванне ў красавіку 1944 г. па справе падрыўной групы пад камандаваннем Шахрая. Вясной 1944 г. гэтая падрыўная група (пяць чалавек) дзейнічала ў Заслаўскім раёне, дзе яна павінна была падрываць чыгунку. У лютым 1944 г. група атрымала шэсць кілаграмаў выбухоўкі і накіравалася на заданне на чыгуначную лінію. Па дарозе камандзір групы разважыў іначай, і група накіравалася пад Мінск, каб «набыць» сабе вопратку. Частку выбухоўкі яны расходвалі на два падрывы на прасёлкавай дарозе Мінск — Маладзечна; пры гэтым яны падарвалі адну аўтамашыну. Рэшту выбухоўкі (2 кг) яны прадалі партызанам іншага атрада. На зваротным шляху яны ў вёсцы прадалі каня, якога да гэтага «канфіскавалі» ў іншай вёсцы, за чатыры літры самагонкі. Яшчэ ў адной вёсцы яны «забяспечылі» сябе абуткам, бялізнай і прасцінамі. Але свае трафеі яны неўзабаве страцілі, іх адабралі ў іх іншыя партызаны. Вярнуўшыся з «задання», падрыўнікі падалі выдуманы рапарт — быццам падарвалі цягнік, — бо баяліся, што іх расстраляюць[389].

Здаралася, што партызанаў расстрэльвалі за падачу яўна фальсіфікаваных рапартаў. У атрадзе «За Савецкую Радзіму» брыгады «Дзядзькі Колі» (Барысаўская зона) у сакавіку 1944 г. быў расстраляны партызан Мікалай Сталяроў. Група з гэтага атрада сістэматычна падавала фальсіфікаваныя справаздачы, а расстраляны быццам быў ініцыятарам «гэтага сістэматычнага прыхарошвання»[390]. Следчы асобага аддзела, сярод іншага, выявіў наступнае:

[387] Дакладная запіска П. Панамарэнкі Сталіну адносна захавання інстытута камісараў пры партызанскіх атрадах, без даты, [пачатак студзеня 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 1—4).

[388] Коўтун з аператыўнага аддзела БШПР Навумаву ў аператыўны аддзел ЦШПР, 6 снежня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 180, л. 65).

[389] Пратакол допыту камандзіра падрыўной групы Шахрая ўпаўнаважаным асобага аддзела партызанскага атрада «Баец» ад 23 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 485, арк. 123 і наст.).

[390] Справаздача пра працу асобага аддзела ў брыгадзе Белавусава за сакавік 1944 г., 1 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 74, арк. 53—56).

1) Лістапад 1943 г.: Група атрымала зарад выбухоўкі, каб здзейсніць падрыў чыгункі на лініі Масква — Мінск пад Барысавам. Заданне не было выканана, яны [члены групы] узарвалі зарад каля тэлефоннага слупа. Штабу яны далажылі, што падарвалі вайсковы эшалон.

2) Восень 1943 г.: Не захацелі выконваць заданне — падарваць вайсковы эшалон. Сталяроў параніў сам сабе нагу і заявіў, што група патрапіла ў засаду[391].

У іншым заданні Сталяроў закапаў выбухоўку, а наступны раз кінуў міну ў раку, хоць рэгулярна дакладваў пра паспяхова здзейсненыя падрывы. Нарэшце дзеля навукі іншым Сталяроў быў узорна расстраляны[392]. Да такіх радыкальных захадаў прыбягалі, аднак, рэдка. «Прыхарошванне» і прыхарошаныя даклады былі звычайнымі не толькі ў час вайны. У час пасля яе гэтая з'ява ўсё мацней пранікала ва ўсе сферы савецкага грамадства.

[391] Паведамленне начальніка асобага аддзела брыгады Белавусава пра прычасаныя паведамленні ў атрадзе «За Савецкую Радзіму», 30 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 74, арк. 58 і наст.).

[392] Тамсама.

# VII. Партызанскі рух у Беларусі ў 1944 г.

Са жніўня да канца верасня 1943 г. партызанскі рух у Беларусі разгортваўся пад знакам «Рэйкавай вайны». З верасня ж 1943 г. усё большую ролю адыгрывала наступленне Чырвонай Арміі. Наступальны марш савецкіх войскаў восенню 1943 г. і звязаны з гэтым зрух лініі фронту аж да беларускай тэрыторыі вызначалі да лета 1944 г. разгортванне і актыўнасць савецкага партызанскага руху. Чырвоная Армія з верасня да снежня 1943 г. прасунулася ва ўсходнія часткі Беларусі і толькі тут была затрымана на паўгода. Лінія фронту праходзіла за некалькі дзясяткаў кіламетраў на захад ад сённяшняй беларуска-расійскай мяжы. На паўднёвым усходзе, дзе савецкія злучэнні найбольш глыбока прасунуліся на беларускую тэрыторыю, яны 26 лістапада 1943 г. узялі Гомель, а 14 студзеня 1944 г. — Мазыр[1].

На 1 студзеня Чырвоная Армія з 225 700 км² тэрыторыі БССР (у межах 22 чэрвеня 1941 г.) вызваліла каля 41 000 км², у тым ліку 5 000 км² у Віцебскай вобласці, 10 000 км² у Магілёўскай вобласці, 14 000 км² у Гомельскай вобласці і 12 000 км² у Палескай вобласці. З яшчэ акупаванай немцамі тэрыторыі БССР (184 700 км²) прыблізна дзве траціны былі пад уладай ці кантролем партызанаў[2].

Восенню 1943 г. усходнія і цэнтральныя вобласці сённяшняй Беларусі сталі франтавымі і прыфрантавымі тэрыторыямі, на якіх распараджалася камандаванне вермахта. Партызаны цяпер сутыкнуліся не з выпадкова сфармаванымі войскамі, а з выпрабаванымі ў баях франтавымі падраздзяленнямі. Амаль уся група армій «Цэнтр» колькасцю каля 800 000 чалавек з восені 1943 г. да чэрвеня 1944 г. стаяла на беларускай зямлі. У гэтай сувязі камандаванне вермахта распарадзілася аб эвакуацыі цывільнага насельніцтва з прыфрантавых тэрыторый, у першую чаргу з зоны на адлегласці 20 км ад фронту. Між іншым былі эвакуіраваныя гарады Віцебск, Орша і Магілёў. Лёс эвакуіраваных быў трагічны: тысячы з іх памерлі ў перасыльных лагерах ці па дарозе туды ад голаду, хвароб і холаду. Працаздольныя былі вывезеныя на прымусовую працу, тысячы — забітыя. Дзясяткі тысяч па дарозе ўцякалі ці яшчэ да эвакуацыі хаваліся ў лясы, спадзеючыся, што Чырвоная Армія неўзабаве вызваліць гэтыя тэрыторыі. Там, аднак, ім давялося чакаць да канца чэрвеня 1944 г.[3].

Камандаванне вермахта бачыла ў вялізных плошчах партызанскіх зон непасрэдна ў тыле лініі фронту вялікую пагрозу для яго стабільнасці. У нямецкіх штабах пашыраўся страх «другога фронту». Ужо ў чэрвені 1943 г. Галоўнае камандаванне групы армій «Цэнтр» звяртала ўвагу на гэтую небяспеку:

[1] Иринархов Р. С. Западный особый... С. 689.

[2] Паведамленне пра барацьбу беларускіх партызанаў у 1942 г., частка 2, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 74, арк. 328 і наст.).

[3] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 497—501, 1092—1104.

Занятая бандамі зона — прыблізна лінія Лепель — Полацк — Себеж — Апочка — і спосаб групавання сіл дазваляюць зрабіць заключэнне, што рыхтуюцца планавыя напады на *нашыя транспартныя лініі*. [...] Трэба лічыцца і з магчымасцю, што пасля моцнага разбурэння транспартных ліній варожыя сілы атакуюць непасрэдна фронт арміі з тылу. [...] Такім чынам, пры маштабным наступленні ворага можа раптам утварыцца другі фронт, які пры першым наступе спыніць надоўга ўсялякае забеспячэнне, бо наяўныя ахоўныя сілы не змогуць выстаяць супраць добра ўзброеных, колькасна пераўзыходзячых бандаў[4].

Боязь «другога фронту» не была неабгрунтаванай, бо савецкае кіраўніцтва ўсведамляла стратэгічнае значэнне гэтых зон, хоць увогуле яно сумнявалася ў яго ваенна-стратэгічнай каштоўнасці. У лістападзе 1943 г. Панамарэнка распарадзіўся стварыць аператыўную групу на чале з Лабанком, партыйным дзеячам і партызанскім кіраўніком з самага пачатку вайны, каб сумесна правесці аперацыі 16 партызанскіх брыгад ва Ушацкай зоне (на поўдзень ад Полацка) і Нарачанскай зоне (Вілейская вобласць). А палкоўнік Дуброўскі, камандзір брыгады «Дубава», атрымаў заданне каардынаваць дзеянні брыгад Сенненска-Аршанскай зоны і ў рэгіёне вакол Лепеля разграміць некалькі варожых апорных пунктаў[5].

Адначасова, у лістападзе 1943 г., Цэнтральны штаб выпрацаваў буйны план, які прадугледжваў буйнамаштабную аперацыю партызанаў з Полацка-Ушацкай, Бягомльска-Лепельскай, Сенненска-Аршанскай, Барысаўскай і Нарачанскай зон сумесна з падраздзяленнямі Чырвонай Арміі. На гэтых тэрыторыях дзейнічалі партызаны агулам больш за 36 000 чалавек. Праўда, у іх было толькі звыш 20 975 вінтовак, 3 689 аўтаматаў, 1 437 лёгкіх і 203 цяжкія кулямёты. Ім таксама крытычна не хапала боепрыпасаў, у сярэднім у іх было 20—30 патронаў на вінтоўку[6]. У такіх умовах партызаны абсалютна не мелі ніякіх шанцаў супраць добра ўзброеных франтавых часцей. Гэта ўсведамляла і савецкае кіраўніцтва.

Згаданы план Цэнтральнага штаба з гэтай прычыны прадугледжваў высадку на тэрыторыю партызанскіх зон моцных парашутных падраздзяленняў. Іншыя партызанскія атрады адначасова павінны былі атакаваць камунікацыйныя лініі і апорныя пункты ворага, каб звязаць перад аперацыяй сілы немцаў. Партызаны да аперацыі павінны былі атрымаць 90 тон амуніцыі і іншых ваенных грузаў. Іх галоўная задача палягала ў тым, каб захапіць Полацк і падтрымаць запланаванае наступленне Чырвонай Арміі[7].

[4] Месячная зводка Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча з бандамі, 4 чэрвеня 1943 г. (BA-MA. 19 II/171, Bl. 37). Вылучана ў арыгінале; Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 263 і наст.).

[5] Паведамленне пра барацьбу беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 134).

[6] Аператыўны план супрацоўніцтва партызанаў з паўночных раёнаў БССР з паветрана-дэсантнымі часцямі Чырвонай Арміі, ЦШПР, праект, зацверджаны П. Панамарэнкам 18 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 138, л. 2—13); гэты ж план з унесенымі папраўкамі і заўвагамі (Тамсама. Л. 60—72).

[7] Тамсама.



Але гэты план не быў ажыццёўлены. Больш за тое, немцы перахапілі ініцыятыву і са студзеня 1944 г. шматлікімі аперацыямі паціснулі партызанскія падраздзяленні на захад ад лініі фронту. Са студзеня да сакавіка 1944 г. камандаванне вермахта рэгулярна паведамляла пра баі з партызанамі і разбураныя зімовыя лагеры, бункеры і запасныя склады партызанаў. Цэнтр цяжару гэтых баёў канцэнтраваўся на цэнтральным участку фронту, у Беларусі. Напрыклад, 9-я армія ў пачатку лютага 1944 г. рапартавала:

50 км на паўднёвы ўсход ад Бабруйска прачасаны вялікі лясны масіў. Разбураныя некалькі бандыцкіх лагераў, пякарня з вялікімі складамі. На тэрыторыі 50—60 км на паўднёвы захад ад Бабруйска было налічана ў некалькіх сутычках 70 забітых ворагаў, 3 палонныя, а 60 падазроных асоб былі затрыманыя. Разбураныя 28 лагераў і 123 бункеры[8].

У наступныя тыдні войскі групы армій «Цэнтр» паведамілі пра шматлікія падобныя акцыі, прычым да сакавіка 1944 г., мусіць, большасць партызанскіх падраздзяленняў былі выцесненыя з аператыўных тэрыторый на захад. Пры гэтым партызаны мусілі пакінуць свае абсталяваныя зімовыя лагеры і запасы[9]. 1 сакавіка 1944 г. Галоўнае камандаванне групы армій дакладвала:

Дзякуючы некалькім узаемазвязаным аперацыям удалося адваяваць ад бандаў крыху тэрыторыі на паўднёвы захад ад Бабруйска. Зламаўшы месцамі даволі моцны супраціў на абсталяваных пазіцыях, мы прымусілі банды адступіць у заходнім і паўночным напрамку. [...] На захад ад Магілёва банды пад нашым ціскам павінны былі ачысціць тэрыторыю да Бярэзіны[10].

Праз гэтыя аперацыі на тэрыторыях на поўнач ад Мінска, у раёне вакол Бягомля, Лепеля, Ушачаў, а таксама на поўдзень ад Мінска — у мясцовасцях вакол Любані ды Слуцка, у Палескай і Пінскай абласцях, утварыліся яшчэ большыя колькасці партызанаў, чым іх было там да гэтага. Яны былі дрэнна ўзброеныя, асабліва ім не хапала амуніцыі, якая закончылася ў шматлікіх баях, без запасаў і адзінага кіраўніцтва, бо падраздзяленні, што прыходзілі, як правіла, не падпарадкоўваліся мясцоваму партызанскаму камандаванню. Сюды дадаваліся яшчэ тысячы цывільных людзей, якія разам з партызанамі шукалі ратунку ад

[8] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 36 за перыяд з 27 студзеня да 2 сакавіка 1944 г., 9 лютага 1944 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 97 і наст.).

[9] Параўн. паведамленні Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 37 (4—10 лютага 1944 г.), 38 (11—17 лютага 1944 г.), 39 (18—24 лютага 1944 г.), 40 (25 лютага — 2 сакавіка 1944 г.), 41 (3—9 сакавіка 1944 г.), 42 (8—16 сакавіка 1944 г.), 43 (17—23 сакавіка 1944 г.), 44 (24—28 сакавіка 1944 г.) (BA-MA. RW 31/252, Bl. 98—99 і наст., 101—106 і наст.).

[10] Агляд Галоўнага камандавання сухапутных войскаў і Генеральнага штаба сухапутных войскаў становішча з бандамі ў перыяд 16—29 лютага 1944 г., 1 сакавіка 1944 г. (BA-MA. RH 2/62, Bl. 4—7).

нямецкага пераследавання, эвакуацыі альбо прымусовай працы ў лясах і балотах.

У красавіку 1944 г. вермахт змяніў сваю былую тактыку выцяснення партызанаў і ачысткі ад іх памежных тэрыторый і перайшоў да буйных аперацый, акружаючы і знішчаючы такімі паслядоўнымі аперацыямі вялікія колькасці партызанаў, якія тады ўтвараліся. Гэтыя баі даволі добра задакументаваныя ў сотнях радыёграм партызанскіх падраздзяленняў, якія вялі баі.

## 1. Палескае партызанскае злучэнне і часткі Мінскага і Пінскага партызанскіх злучэнняў

У пачатку красавіка 1944 г. войскі нямецкай 9-й арміі, якая дзейнічала на паўднёвым усходзе Беларусі, перайшлі да шырокамаштабных баявых дзеянняў супраць партызанаў. У рамках аперацыі «Глушэц» (*«Auerhahn»*) ім удалося ў першай палове красавіка, па іх дадзеных, «акружыць каля 1 000 бандытаў у раёне за 20 км на паўднёвы ўсход ад Любані»[11]. У сапраўднасці ж іх было значна больш, бо ў акружэнне трапілі і партызанскія падраздзяленні Палескага злучэння і часткі Мінскага. 11 красавіка 1944 г. Скалабан, партыйны і партызанскі кіраўнік з Мінскай вобласці, перадаў наступную радыёграму Сталіну і Панамарэнку:

> Сітуацыя крытычная. Брыгады Палескага злучэння і часткі Мінскага акружаныя варожым кальцом. [...] Ніякай магчымасці вырвацца. Тысячы партызанаў і дзясяткі тысяч цывільных апынуліся перад гібеллю. Прашу хуткай дапамогі ад Чырвонай Арміі[12].

Праз два дні Бельскі, партыйны і партызанскі кіраўнік з Мінскай вобласці, сігналізаваў Панамарэнку:

> Брыгады вобласці пастаянна вядуць баі з часцямі ворага ў раёне Любані. [...] 100-я, 161-я, 258-я, 64-я, 121-я брыгады акружаныя ў катле ў раёнах Зыслава, Добрага і Загальскіх балот. Брыгады імя Чапаева, Ракасоўскага, Суворава, Фрунзэ, Варашылава вядуць цяжкія баі. У брыгад закончыліся боепрыпасы, вялікая колькасць параненых. Няма перавязачных матэрыялаў. Нягледзячы на мае шматлікія запыты наконт амуніцыі і выбуховых рэчываў у Беларускі штаб, ніякай сапраўднай дапамогі. Прашу хуткай пастаўкі боепрыпасаў, асабліва ў раёны баёў[13].

[11] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 46 за перыяд з 7 да 13 красавіка 1944 г., 17 красавіка 1944 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 108 і наст.).

[12] Радыёграма Скалабана Сталіну і П. Панамарэнку, № 4534 ад 11 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 51, арк. 710).

[13] Радыёграма Бельскага П. Панамарэнку, № 13 за красавік 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 52, арк. 48).



Акружаныя партызаны неслі вялікія страты. 13 красавіка два партызанскія камандзіры з Палескага злучэння звярталіся па радыё:

> 12.04.1944 г. загінулі камандзір атрада імя Чапаева Грыб, 2 камандзіры рот і 26 партызанаў, паранена 47 чалавек. Няма боепрыпасаў. Просім хуткай пастаўкі грузаў і медыкаментаў[14].

На наступны дзень яшчэ тры партызанскія камандзіры Палескага злучэння сігналізавалі Беларускаму штабу:

> З 7 красавіка да сённяшняга дня мы знаходзімся ў цяжкім становішчы, мы знаходзімся ў варожым катле, штодзень вядзём цяжкія баі, [...] боепрыпасы канчаюцца, панеслі цяжкія страты, шмат параненых. Становішча брыгад у катле цяжкое[15].

Савецкае кіраўніцтва, аднак, не магло дапамагчы акружаным партызанам, і 17 красавіка нямецкая 9-я танкавая армія дакладвала пра паспяховае, з пункту гледжання немцаў, заканчэнне аперацыі «Глушэц»:

> За перыяд з 7 да 17.4. [...] 6 бандыцкіх брыгад, па 400 чалавек кожная, страцілі: 511 рэальных і 500 меркаваных забітых, 757 палонных, 2 428 цывільных. [...] Больш за сто дробных і буйных бандыцкіх лагераў з 1 000 бункераў і зямлянак былі разбураны. Такім чынам, банды цалкам страцілі на гэтай тэрыторыі аснову харчавання[16].

У яшчэ адным дакладзе гаворыцца: «Дзякуючы нашым паспяховым акцыям банды на паўднёвым захадзе ад Бабруйска панеслі вялікія страты, рэшткі адступілі ў напрамку Віцебска»[17].

Паводле савецкіх дадзеных, страты партызанаў былі не такія вялікія. Бельскі паведамляў 3 мая 1944 г.: «Нашыя страты: 180 забітых, 80 параненых, 242 зніклыя без вестак. [...] Немцы вывезлі каля 23 000 цывільных, якія хаваліся ў лясах і балотах [...]»[18]. Гэтыя дадзеныя пра савецкія страты, відаць, як звычайна, заніжаныя.

Нямецкі бок, без сумнення, меў ваенную перавагу над партызанамі, і апошнія ў сваіх радыёграмах пацвярджалі цяжкае паражэнне і вялікія страты. Хоць большасць партызанаў змагла вырвацца з кат-

[14] Радыёграма Шастапалава і Емяльянава Ганенку, № 4685 ад 13 красавіка 1944 г. (Тамсама. Арк. 61).

[15] Радыёграма Кулікоўскага, Паўлоўскага і Розава Калініну, № 4770 ад 14 красавіка 1944 г. (Тамсама. Арк. 120).

[16] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 48 за перыяд з 21 да 27 красавіка 1944 г., 29 красавіка 1944 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 113 і наст.).

[17] Агляд Галоўнага камандавання сухапутных войскаў і Генеральнага штаба сухапутных войскаў становішча з бандамі ў перыяд 16—30 красавіка 1944 г., 30 красавіка 1944 г. (BA-MA. RH 2/62, Bl. 16 і наст.).

[18] Радыёграма Бельскага П. Панамарэнку і Калініну, № 6128 ад 3 мая 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 53, арк. 423 і наст.).

ла, Палескае партызанскае злучэнне практычна больш не існавала. Партызанскі камандзір з Палескага злучэння 9 мая 1944 г. паведамляў Панамарэнку, што Глускі, Акцябрскі, Капаткевіцкі, Петрыкаўскі раёны страчаныя. Далей там гаворыцца: «Становішча цяжкае і складанае. Партызанскія брыгады падтрымліваюць сувязь і ўзаемадзейнічаюць. Дрэнна з амуніцыяй, выбуховых рэчываў няма ўвогуле»[19].

Праз месяц пасля аперацыі «Глушэц» Палескае злучэнне яшчэ не ачуняла. 19 мая Бельскі гаварыў па радыё Панамарэнку і Калініну:

> Пасля другой карнай аперацыі ў Загальскіх балотах брыгады з Палесся былі адпаведна Вашаму загаду ўзноўленыя ў Трайчанскіх лясах. Брыгады панеслі страты ў зброі і партызанах. Зараз баявых дзеянняў яны не праводзяць. Усе гэтыя недахопы можна выправіць толькі праз [...] добрае кіраўніцтва. Галоўная праблема — адсутнасць кіраўніцтва[20].

У наступныя тыдні ў гэтым сэнсе нічога не змянілася, у немцаў не было пільнай прычыны пачынаць яшчэ адну аперацыю супраць партызанаў Палескага злучэння і паўднёвай часткі Мінскай зоны[21].

У выніковай жа справаздачы Беларускага штаба за 1944 год напісана толькі, што шэсць партызанскіх брыгад паўднёвай часткі Мінскага злучэння і тры брыгады ды самастойныя атрады Палескага злучэння ў перыяд з 7 да 15 красавіка 1944 г. вялі «манеўравыя бai» ў варожым акружэнні[22]. Аднак пра зыход гэтых манеўраў справаздача нічога не паведамляе.

У падобныя цяжкія абставіны трапілі таксама партызаны ва ўсходніх раёнах Пінскай вобласці. 6 красавіка 1944 г. камандзір Пінскага партызанскага злучэння дакладваў па радыё Панамарэнку:

> Наша становішча зрабілася крытычным. Праціўнік націрае з усіх бакоў. [...] групы і атрады змагаюцца ва ўсіх накірунках, з прычыны, што няма боепрыпасаў, яны адступаюць. Калі можаце, дапамажыце нам, пакуль не позна, 2—3 самалётамі з боепрыпасамі, не пазней, чым 6, 7 красавіка. Калі не, то атрады без боепрыпасаў адступяць у кірунку Пінска[23].

І праз тыдзень, 13 красавіка, той самы камандзір прасіў па радыё: «Што вы робіце, чаму вы не дапамагаеце нам? Мы зыходзім крывёй. Дапамажыце нам 2—3 самалётамі з боепрыпасамі [...], інакш нам пагібель»[24].

[19] Радыёграма Дарошкі Ганенку, № 6568 ад 9 мая 1944 г. (Тамсама. Арк. 763).
[20] Радыёграма Бельскага П. Панамарэнку і П. Калініну, № 7208 ад 19 мая 1944 г. (Тамсама. Спр. 54, арк. 469).
[21] Параўн.: Паведамленні Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі ў маі і чэрвені 1944 г. (BA-MA. RW 31/252).
[22] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 36 і наст.).
[23] Радыёграма Сяргея П. Панамарэнку, № 4177 ад 6 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 51, арк. 440).
[24] Радыёграма Сяргея П. Панамарэнку, № 4678 ад 13 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 52, арк. 55).



Як закончыліся гэтыя баі, аўтар ужо не змог даведацца. Але прыклад паказвае, у якім цяжкім становішчы знаходзіліся партызаны Пінскага злучэння ў красавіку 1944 г.

## 2. Разгром Полацка-Ушацкай зоны: аперацыя «Веснавое свята»

На поўначы, паўночным усходзе і паўночным захадзе ад Мінска знаходзіліся Бягомльска-Лепельская, Ушацкая, Сенненска-Аршанская, Барысаўская зоны, а на паўночным захадзе — Нарачанская. Са студзеня 1944 г. немцы правялі на гэтай тэрыторыі шматлікія антыпартызанскія аперацыі. Галоўнае камандаванне групы армій дакладвала пра многія баі «з бандытамі», якія паступова адцясняліся ад лініі фронту ў раёны Бягомля — Лепеля — Ушачаў. І на гэты раз выцесненыя партызанскія падраздзяленні страцілі свае абсталяваныя зімовыя лагеры і склады[25]. У пачатку красавіка 1944 г. немцы пачалі некалькі паслядоўных вялікіх аперацый супраць партызанаў на гэтай тэрыторыі, якія доўжыліся да 22 чэрвеня.

Першая аперацыя, «Лівень» (*«Regenschauer»*), пачалася 11 красавіка і працягвалася да 16 красавіка. Яе мэтай была падрыхтоўка акружэння ва Ушацкай зоне. Часці 3-й танкавай арміі атакавалі з дарогі Лепель — Ула і пачалі цясніць дзейныя там партызанскія падраздзяленні ў кацёл у заходнім напрамку. Партызаны адступілі ў лясы і балоты на захад і паўднёвы захад ад Ушачаў, амаль не супраціўляючыся[26].

Затым нямецкія часці замкнулі кальцо вакол Ушачаў і канцэнтравана пачалі атаку на партызанаў у катле з захаду і поўдня. Гэтая аперацыя называлася «Веснавое свята» (*«Frühlingsfest»*)[27]. У катле было акружана партызанскае злучэнне Полацка-Ушацкай зоны, якой кіраваў партыйны дзеяч і партызанскі камандзір Лабанок (16 брыгад з 17 000 партызанамі). Становішча партызанаў было надзвычай цяжкім, хоць іх і забяспечвалі боепрыпасамі і зброяй паветраным шляхам. З 1 сакавіка да 28 красавіка злучэнне Лабанка атрымала агулам 215 тон боепрыпасаў, пры зваротных палётах былі вывезеныя каля 1 500 параненых партызанаў[28].

У радыёграме ад 17 красавіка Лабанок абмалёўваў цяжкое становішча сваіх партызанаў. Ён паведамляў пра цяжкія баі з сістэматычна наступаючымі немцамі, якіх падтрымлівалі танкі і самалёты. Ся-

[25] Параўн., напрыклад: Паведамленні Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 37 (4—10 лютага 1944 г.), 38 (11—17 лютага 1944 г.), 39 (18—24 лютага 1944 г.), 40 (25 лютага — 2 сакавіка 1944 г.), 41 (3—9 сакавіка 1944 г.), 42 (8—16 сакавіка 1944 г.), 43 (17—23 сакавіка 1944 г.), 44 (24—28 сакавіка 1944 г.) (BA-MA. RW 31/252, Bl. 98 і наст., 101—106 і наст.).
[26] Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 264 і наст.; Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 392 і наст.
[27] Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 264 і наст.; Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 394—398.
[28] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 36 і наст.).

род партызанаў было шмат цяжка параненых, да таго ж яшчэ — 100 000 цывільных, якія таксама трапілі ў акружэнне[29]. Праз некалькі дзён становішча яшчэ больш пагоршылася. Садчыкаў, камандзір аднаго з акружаных падраздзяленняў, дакладваў:

> Кальцо ўсё больш сціскаецца. Вялікі недахоп боепрыпасаў, ёсць шмат параненых. Калі Чырвоная Армія на працягу 2—3 дзён не дапаможа, палку пагражае непазбежная гібель. Прашу дазволу прабівацца з катла ў напрамку Маладзечна — Баранавічы[30].

23 красавіка абарончыя лініі партызанаў былі часткова прарваныя. Тры брыгады ў паніцы пакінулі свае пазіцыі і пры гэтым страцілі частку сваіх партызанаў і амуніцыі. Аднак Лабанку ўдалося заняць пакінутыя іншымі падраздзяленнямі пазіцыі і спачатку стабілізаваць становішча. Партызаны паведамлялі таксама пра варварскія метады вядзення бою з боку нямецкіх падраздзяленняў: «Перад наступаючымі часцямі яны гоняць як заслону палонных цывільных, жанчын, старых і дзяцей»[31]. 24 красавіка Лабанок дакладваў, што значная частка падраздзяленняў зацята і стойка змагаецца, але здараюцца і выпадкі баязлівасці ды бязладдзя[32]. У наступныя дні былі радыёпаведамленні пра зацятыя баі партызанаў, вялікія страты і сістэматычнае прасоўванне нямецкіх падраздзяленняў наперад. У ліку іншых 24 красавіка загінуў Данукалаў, камандзір адной з брыгад і партызанскі кіраўнік з самага пачатку вайны[33].

29 красавіка Лабанок дакладваў па радыё Панамарэнку, што вораг прарваўся на левым флангу і працягвае наступаць. Ёсць небяспека, што вораг прарве абарончыя лініі, што зробіць больш цяжкой сувязь і каманданне. Таму, казаў Лабанок, «прашу Вашага неадкладнага загада» наконт: «1) у якія раёны адступаць брыгадам; 2) месца нашай сумеснай атакі, каб аб'яднацца з часцямі Чырвонай Арміі»[34]. 30 красавіка Ваенны савет пры штабе 1-га Прыбалтыйскага фронту, пасля абмеркавання з Панамарэнкам, выдаў загад падраздзяленням, акружаным у катле, прарывацца з акружэння ў ноч на 1 мая ў заходнім і паўднёва-заходнім напрамку[35].

---

[29] Радыёграма Лабанка Калініну, № 4957 ад 17 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 52, арк. 273 і наст.).
[30] Радыёграма Архангельскага Калініну, № 5519 ад 24 красавіка 1944 г. (Тамсама. Арк. 717).
[31] Радыёграма Рыжыкава П. Панамарэнку і Калініну, № 5566 ад 25 красавіка 1944 г. (Тамсама. Арк. 754 і наст.).
[32] Радыёграма Рыжыкава П. Панамарэнку і Калініну, № 5567 ад 25 красавіка 1944 г. (Тамсама. Арк. 756 і наст.).
[33] Радыёграма Лабанка Калініну, № 5665 ад 26 красавіка 1944 г. (Тамсама. Арк. 51); радыёграма Рыжыкава П. Панамарэнку і Калініну, № 5746 ад 27 красавіка 1944 г. (Тамсама. Арк. 120); радыёграма Рыжыкава П. Панамарэнку і Калініну, № 5882 ад 29 красавіка 1944 г. (Тамсама. Арк. 230).
[34] Радыёграма Лабанка П. Панамарэнку, № 5867 ад 29 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 53, арк. 215).
[35] Радыёграма Баграмяна, Лявонава, Рыжыкава, Курасава П. Панамарэнку, № 6100 ад 2 мая 1944 г. (Тамсама. Арк. 405).



Пра сам прарыў савецкія крыніцы, даследаваныя ў рамках гэтай працы, не гавораць. Толькі згадваецца, што партызаны пры прарыве з акружэння панеслі цяжкія страты. Загінулі, узятыя ў палон ці зніклі без вестак каля 7 000 партызанаў і камандзіраў[36]. Нямецкія ж крыніцы больш адкрытыя. Так, 3-я танкавая армія, якая кіравала гэтай аперацыяй, дакладвала ў пачатку мая:

> Цяжкія баі з бандыцкімі часцямі ворага, акружанымі ў ходзе аперацыі «Веснавое свята». [...] Ачыстка паўночнай часткі бандыцкага катла амаль завершана. [...] Кальцо вакол банды, акружанай на поўдзень ад возера Шо, працягвала сціскацца. Групе з прыкладна 1 000 чалавек удаўся прарыў на паўночны ўсход[37].

Колькасць партызанаў, якім удаўся прарыў, была, напэўна, большай. Паводле савецкіх дадзеных, у паўднёвым напрамку, у Бягомльска-Лепельскай зоне, прарваліся чатыры брыгады, а ў заходнім — таксама чатыры брыгады і некалькі атрадаў з дзвюх іншых брыгад[38]. Яшчэ ў адным дакладзе вермахта ўскосна ідзе гаворка пра тое, што каля 3 500 партызанаў змаглі прарвацца з катла на поўдзень і на паўночны захад — абсалютна рэальная лічба[39].

18 мая 3-я танкавая армія дакладвала:

> У аперацыі «Веснавое свята», якая яшчэ працягваецца, да гэтага часу былі абясшкоджаныя 14 288 бандытаў, у тым ліку 7 611 падлічаных забітых і 346 перабежчыкаў [рэшта палонныя]. За час трохтыднёвых цяжкіх баёў злучэнні групы армій і паліцыі разам з «мясцовымі» добраахвотнікамі акружылі і разбілі добра арганізаваныя банды ў раёне паміж Лепелем і Полацкам[40].

Не выключана, што нямецкія дадзеныя пра страты партызанаў перабольшаныя, але, здаецца, не вельмі. Паводле савецкіх крыніц, страты партызанаў склалі толькі пры спробах прарвацца да 7 000 чалавек (забітыя, палонныя і зніклыя без вестак). Сярод іншых загінулі тры камандзіры брыгад, тры брыгадныя камісары, супрацоўнік аператыўнай групы Беларускага штаба Іван Зіенка, а таксама «многія камандзіры і камісары атрадаў»[41].

---

[36] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 42, 47).
[37] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 50 за перыяд з 5 да 11 мая 1944 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 115 і наст.).
[38] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 46).
[39] Агляд Галоўнага камандавання сухапутных войскаў і Генеральнага штаба сухапутных войскаў становішча з бандамі ў перыяд 1—20 мая 1944 г., 20 мая 1944 г. (BA-MA. RH 2/62, Bl. 19v). Там гаворка ідзе пра 18 000 партызанаў, якія былі акружаныя ў катле, з іх 14 500 загінулі, былі ўзятыя ў палон ці перабеглі. У выніку застаюцца 3 500 партызанаў, якім, паводле нямецкіх дадзеных, прарыў удаўся.
[40] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 51 за перыяд з 12 да 18 мая 1944 г., 23 мая 1944 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 116 і наст.).
[41] Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 3. С. 142.

Партызанскае злучэнне Полацка-Ушацкай зоны перастала існаваць у маі 1944 г. Адказнасць за гэтае паражэнне і вельмі вялікія страты нясе Панамарэнка з яго штабам. Ён загадаў больш слабым ва ўсіх адносінах партызанам утрымліваць пазіцыі і трываць у акружэнні. Гэта толькі тады мела б ваенны сэнс, калі б непасрэдна на гэтым участку чакалася наступленне Чырвонай Арміі. Але наступленне адбылося толькі праз два месяцы. Калі быў дадзены загад на прарыў, было ўжо запозна ратаваць партызанскія падраздзяленні, якія былі ў акружэнні. Аперацыя «Веснавое свята» з'явілася беспрэцэдэнтным датуль паражэннем савецкіх партызанаў у Беларусі.

### 3. Ліквідацыя Бягомльска-Лепельскай зоны: аперацыя «Баклан»

Калі яшчэ ішла аперацыя «Веснавое свята», у другой палове красавіка 1944 г. часці 4-й арміі на поўнач і паўночны захад ад Барысава пачалі аперацыю «Кнігаўка» (*«Kibitz»*), накіраваную супраць партызанаў Барысаўскай і Бягомльска-Лепельскай зон. Прыкладна ў той жа самы час нямецкія падраздзяленні атакавалі партызанаў у Сенненскай зоне з усходу[42]. У наступныя дні нямецкія часці выцеснілі партызанаў з Сенненскай зоны на захад, у Бягомльска-Лепельскую[43]. Аперацыя «Кнігаўка» была завершана 20 мая[44].

Нямецкае камандаванне зразумела, што на тэрыторыі паміж Бягомлем і Лепелем тым часам сканцэнтраваліся шматлікія партызанскія падраздзяленні. Меншыя акцыі, якія адбыліся ў красавіку і маі, магчыма, ставілі сабе за мэту выцесніць партызанскія падраздзяленні з суседніх тэрыторый у гэты раён. 22 мая часці 3-й танкавай арміі, 4-й арміі ды падраздзяленні СС і паліцыі разам з «тутэйшымі» злучэннямі пачалі аперацыю «Баклан» (*«Kormoran»*). Нямецкае камандаванне не мела дакладнага ўяўлення пра колькасць партызанаў, запёртых у раёне Бягомль—Лепель. Яны зыходзілі з таго, што ў гэтым раёне былі акружаныя каля 15 000—16 000 партызанаў[45].

У сапраўднасці ў кацёл трапіла агулам 21 партызанская брыгада з прыблізна 22 000 партызанамі. Гэта пераўзыходзіла ўсе праведзеныя раней аперацыі супраць партызанаў на ўсёй савецкай тэрыторыі. У катле знаходзіліся дзесяць мясцовых брыгад з Бягомльска-Лепельскай зоны, чатыры брыгады з Полацка-Ушацкай зоны, якія некалькі дзён

[42] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 48 за перыяд з 21 да 27 красавіка 1944 г., 29 красавіка 1944 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 113 і наст.); радыёграма Рыжыкава П. Панамарэнку і Калініну, № 5566 ад 25 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 52, арк. 754 і наст.).

[43] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 50 за перыяд з 5 да 11 мая1944 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 115 і наст.).

[44] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 51 за перыяд з 12 да 18 мая 1944 г., 23 мая 1944 г. (Тамсама. Bl. 116 і наст.).

[45] Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 267 і наст.; Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 398.



назад вырваліся з катла вакол Ушачаў, і сем з Сенненскай зоны, якія некалькі дзён таму былі выцесненыя з сваіх аператыўных раёнаў на ўсход[46].

Вельмі адмоўнай выявілася тая акалічнасць, што акружаныя злучэнні не мелі адзінага камандавання. Дзесяць мясцовых брыгад падпарадкаваліся Мачульскаму, камандзіру Бягомльскага злучэння. Брыгады ж з іншых аператыўных раёнаў адмаўляліся выконваць загады і ўказанні Мачульскага, гэта рабіла немагчымай адзіную абарону ў катле і выклікала ў час баёў суцэльны хаос.

Многія акружаныя падраздзяленні пасля шматтыднёвых баёў і так былі амаль небаяздольныя, як брыгада «Штурмавая», што ў канцы мая дзейнічала на паўднёва-заходнім участку Бягомльска-Лепельскай зоны. Яна незадоўга да гэтага ў розных баях страціла 26 чалавек забітымі, 20 партызанаў былі параненыя ці хварэлі на тыф. 50 % боепрыпасаў былі зрасходаваныя, а 400 чалавек — увогуле няўзброеныя[47].

Яшчэ больш крытычнымі былі справы ў падраздзяленняў, якія незадоўга да гэтага вырваліся з Ушацкага катла. Беларускі штаб пастаўляў падраздзяленням зоны амуніцыю, праўда, пастаўкі былі невялікія. Так, чатыры брыгады з Ушацка-Полацкай зоны пад камандаваннем Лабанка атрымалі ў ноч на 27 мая на аэрадром Домжарыцы пастаўку, у тым ліку 25 аўтаматаў, 59 320 штук вінтовачных патронаў, 29 760 штук пісталетных патронаў і 60 кг медыкаментаў, агулам 2 375 кг[48]. У наступныя дні яшчэ з'явіліся пастаўкі для акружаных падраздзяленняў[49].

22 мая нямецкія войскі перайшлі да канцэнтраванага наступу на партызанаў у Бягомльска-Лепельскай зоне. Партызаны спачатку не давалі вялікага адпору і далі загнаць сябе ў кацёл вакол возера Палік. Напрыклад, Марозаў, камандзір адной з брыгад Бягомльскай зоны, перадаваў па радыё 2 чэрвеня:

> Блакада нашага раёна працягваецца. Колькасць немцаў — 10—12 тысяч. Брыгады імя Фрунзэ і «Штурмавая» падаліся наўцёкі 23 [мая], не ўступаючы ў бой. 27 [мая] мы адступілі, мы пакінулі там штурмавыя групы[50].

Становішча партызанаў з кожным днём рабілася ўсё больш крытычным. Падраздзяленні Сенненска-Аршанскай зоны з пачатку нямецкай аперацыі атрымалі загад пакінуць Бягомльска-Лепельскую зону і

[46] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 46).

[47] Радыёграма Пакроўскага П. Панамарэнку і Калініну, № 7857 ад 29 мая 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 55, арк. 410).

[48] Радыёграма Рыжыкава П. Панамарэнку і Калініну, № 7871 ад 29 мая 1944 г. (Тамсама. Арк. 424).

[49] Параўн.: Радыёграмы за канец мая і пачатак чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 55).

[50] Радыёграма з радыёстанцыі 322 Ганенку, № 8971 ад 14 чэрвеня 1944 г. (перададзеная радыёграма ад Марозава, 2 чэрвеня 1944 г.) (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 57, арк. 52).

накіравацца ў свае раёны дзеяння на ўсходзе. Актыўных баёў яны не вялі, толькі разведку, каб знайсці пралом у лініях ворага. Аднак спачатку ўсе спробы былі беспаспяховымі. Толькі 6 чэрвеня тром атрадам з Сенненскай зоны ўдалося прарваць кальцо акружэння і адступіць на ўсход. Падраздзяленні Ушацкай зоны спрабавалі вырвацца з катла, гэтаксама беспаспяхова[51].

Сапраўдны супраціў аказала частка атрадаў Бягомльскага злучэння. Яны таксама некалькі разоў, упэўніўшыся, што трапілі ў кацёл, спрабавалі прарвацца, і спачатку беспаспяхова. Толькі ноччу на 8 чэрвеня брыгадам Ціткова («Жалязняк») і Пакроўскага з «цяжкімі стратамі» ўдалося прарвацца на заходнім участку катла. А для астатніх партызанаў становішча рабілася з кожным днём усё больш адчайным[52]. Да таго ж паміж акружанымі падраздзяленнямі здараліся канфлікты. Пра каардынаваную сумесную абарону не магло быць і гаворкі.

8 чэрвеня Мачульскі, камандзір Бягомльскага злучэння, перадаваў па радыё Панамарэнку:

> Брыгады Кілава, Цялішчаўскага-Пятровіча, Куксёнка, Місунова, Смаленскага, атрады Раманава, «Аляксея», Лабанка, усе брыгады тэрыторый Сянно — Чашнікі сканцэнтраваліся ў Бягомльскім прыродным запаведніку, у тыле партызанаў [Бягомльскага злучэння]. Яны не змагаюцца і не хочуць змагацца. Мае загады яны таксама не выконваюць. Калі такія абставіны трываць і далей, тады здарыцца катастрофа, бо праціўнік прасоўваецца з кожным днём усё больш наперад і зацягвае кальцо ўсё шчыльней[53].

Праз чатыры дні, 12 чэрвеня, Мачульскі сігналізаваў Беларускаму партызанскаму штабу:

> Становішча ўскладняецца. Брыгады Сенненскай зоны, Дуброўскага і іншыя ўвогуле не ваюць, яны бадзяюцца па лесе, паразбегліся па лясах, пры адным толькі стрэле ўцякаюць хто куды. Яны ўскрылі патаемныя склады запасаў, яны бязмэтна блукаюць вакол мясцовых атрадаў, перашкаджаюць іх дзеянням. Сітуацыя, якая ўтварылася, выключна небяспечная. Мы прымаем усе меры, каб вывесці нашыя брыгады [Бягомльскага злучэння] з катла[54].

14 чэрвеня Мачульскі зноў скардзіўся:

[51] Аператыўнае паведамленне аператыўнага аддзела БШПР № 33/107 ад 7 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 392, 394, 396 і наст.); аператыўнае паведамленне аператыўнага аддзела БШПР № 34/108 ад 14 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 406).

[52] Аператыўнае паведамленне аператыўнага аддзела БШПР № 33/107 ад 7 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 392, 394, 396 і наст.); аператыўнае разведпаведамленне аператыўнага аддзела БШПР № 34/108 ад 14 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 406).

[53] Радыёграма Мачульскага П. Панамарэнку, № 8585 ад 8 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 56, арк. 210).

[54] Радыёграма Мачульскага Калініну, № 8844 ад 12 чэрвеня 1944 г. (Тамсама. Арк. 401).



> Хаатычная мітусня брыгад у тыле нашых брыгад, [...] адныя стараюцца вырвацца з катла, гэта перашкаджае трымаць прыхаванымі нашых параненых. Загад вяртацца ў сваю зону брыгады Сенненскай зоны не выконваюць. Калі гэтага неадкладна не спыніць, непазбежна будзе катастрофа. Да сённяшняга дня не было падтрымкі з боку нашых паветраных сіл[55].

Папрок, што савецкія паветраныя сілы не падтрымлівалі партызанаў, не адпавядаў, аднак, фактам. З 7 да 9 чэрвеня штурмавыя самалёты 1-га Прыбалтыйскага фронту атакавалі варожыя войскі на дарозе Лепель — Барысаў, каб даць палёгку акружаным партызанам[56]. Становішча акружаных партызанаў у катле вакол возера Палік было, аднак, сапраўды катастрафічным. Боепрыпасы і перш-наперш харч скончыліся. Пётр Марцінкевіч быў у акружэнні з брыгадай «Дубава» пад камандаваннем Дуброўскага. Ён прыпамінае праз 60 гадоў:

> Немцы загналі ў кацёл у балоты і на возера Палік і акружылі шмат брыгад. Мы там сядзелі месяц, у гэных балотах. Мы галадалі і елі траву і ўсё, што трапляла пад руку. Мы з'елі ўсіх коней. Малым групам тады-сяды ўдавалася пратачыцца праз кальцо, у большых не было шанцаў. «Рама» [лёгкі самалёт Fiesler Fi 156, «Storch»] наводзіла жах, яна раптам падлятала і абстрэльвала і бамбіла нас[57].

Падобна абмалёўваў абставіны ў катле Васіль Кузьміч, былы партызан брыгады «За Радзіму», з атрада «Гвардзеец». Ён падкрэсліваў голад, які панаваў у партызанаў, і адчай. Боепрыпасы, паводле ягоных слоў, не былі праблемай. Яго падраздзяленне атрымала 20 кантэйнераў са зброяй і боепрыпасамі, якія былі скінутыя на парашутах з самалётаў, аднак вымушана засталіся ў балотах, таму што пры прарыве іх нельга было цягнуць з сабой. А вось прадукты харчавання яны не атрымлівалі ўвогуле, затое — прапагандысцкі матэрыял, што якраз і выводзіла з сябе галадаючых партызанаў[58]. Савецкія пасляваенныя публікацыі таксама пацвярджаюць адчайнае становішча партызанаў у катле на возеры Палік: «Яны харчаваліся леташнімі ягадамі, балотнымі травамі, зярнятамі з яловых шышак»[59].

Нямецкія сілы сістэматычна атакавалі акружаныя партызанскія падраздзяленні, займаючы паступова ўсе населеныя пункты і дарогі ў зоне. Яны абсталёўвалі свае пазіцыі і крок за крокам прасоўваліся наперад. Нямецкія самалёты абстрэльвалі і бамбілі акружаных партызанаў, іх трымалі пад заўсёдным абстрэлам артылерыя і гранатамёты. Партызаны неслі шматлікія ахвяры забітымі і параненымі,

[55] Радыёграма Мачульскага П. Панамарэнку, № 8960 ад 14 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 57, арк. 46).

[56] Аператыўнае паведамленне аператыўнага аддзела БШПР № 34/108 ад 14 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 408 і наст.).

[57] Інтэрв'ю аўтара з Пятром Марцінкевічам...

[58] Інтэрв'ю аўтара з Васілём Хацкевічам...

[59] Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 3. С. 148.

між іншых загінуў начальнік штаба Бягомльскага злучэння Садоўскі. Мачульскі, камандзір злучэння, а таксама Бардадын, упаўнаважаны Беларускага штаба, былі параненыя[60].

Кепскім быў лёс параненых і хворых партызанаў. У дакладзе Беларускага штаба гаворыцца:

З дзікай жорсткасцю і нябачаным яшчэ садызмам абышліся нямецкія варвары з параненымі, хворымі і аслаблымі партызанамі і камандзірамі, у якіх не было магчымасці адысці ў балоты і што трапілі ў рукі немцаў[61].

Ноччу на 16 чэрвеня акружаныя падраздзяленні адначасова зрабілі новую спробу прарыву. Некаторым з іх гэта ўдалося. Пакроўскі, які яшчэ за 10 дзён да таго са сваёй брыгадай вырваўся з катла, перадаваў па радыё Беларускаму штабу 24 чэрвеня:

Злучэнне Мачульскага, акружанае ў мясцовасці каля возера Палік, разам з брыгадамі, атрадамі і групамі пачало 16 чэрвеня прарыў. Прарваліся брыгада Дуброўскага, часткі брыгад імя Кутузава, імя УЛКСМ, «Бальшавік», імя Фрунзэ, «Штурмавая». Два атрады брыгады імя Калініна таксама прарваліся. У апошнія дні на нашым участку прарваліся іншыя групы і асобныя партызаны[62].

На ўсходнім участку катла 20 чэрвеня часткі Сенненскага злучэння прабіліся праз варожыя загараджальныя лініі[63].

Пётр Марцінкевіч, у той час начальнік разведкі брыгады «Дубава» пад камандаваннем Дуброўскага, браў удзел у спробе прарыву 16 чэрвеня. Ён прыпамінае пра падзеі 60-гадовай даўніны вельмі дакладна і тыя падзеі апісвае аўтару гэтай працы такім чынам: калі прыйшоў загад на прарыў, сярод партызанаў узнялася паніка. Ён у гэтым месцы размовы хутка паправіў сябе і растлумачыў, што не паніка ўзнялася, а многія партызаны спалохаліся: «Яны думалі, што вырвацца з катла ў нас не было ніякіх шанцаў». Але на працягу інтэрв'ю ён некалькі разоў гаварыў пра паніку сярод партызанаў. Сам прарыў ён малюе наступным чынам:

Мы прарываліся на паўднёва-заходнім участку катла, каля вёскі Халмоўка. Мы перапраўіліся праз раку Бярэзіна. Пры гэтым нам даводзілася пераскокваць з аднаго бервяна на другое, якія плылі па рацэ. Шмат хто затануў. Нам было неабходна перасекчы чатыры варожыя лініі. Першай лініяй быў ланцуг вартавых, другая, трэцяя і чацвёртая лініі — гэта былі закапаныя

[60] Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 3. С. 148 і наст.

[61] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 48).

[62] Радыёграма P/S 183 Ганенку, № 9665 ад 25 чэрвеня 1944 г. (радыёграма ад Пакроўскага № 136 ад 24 чэрвеня 1944 г.) (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 58, арк. 49).

[63] Аператыўнае паведамленне аператыўнага аддзела БШПР №36/110 ад 25 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 443).



танкі, гарматы, кулямёты. Першую лінію мы ўзялі раптоўным наскокам, другую — таксама, хоць іх ужо папярэдзілі. Трэцюю і чацвёртую трэба было браць штурмам. Забітыя і параненыя заставаліся ляжаць на полі бою, мы не маглі іх узяць з сабой. З вялікімі стратамі нам удалося прарваць лініі ворага. Адразу ж пасля таго як мы пераадолелі чацвёртую лінію, мы за некалькі сотэнь метраў ад апошняй лініі ворага зрабілі ў ляску прывал, таму што былі знямоханыя. І гэта было найвялікшай памылкай камандавання брыгады. Бо немцы павярнулі дулы сваіх гармат на нас і накрылі лясок шрапнельным агнём. Мы панеслі вельмі вялікія страты, гэта была масавая гібель, крывавая бойня, і мы мусілі хуценька пакінуць лясок[64].

Пра колькасць загінулых пры прарыве партызанаў Пётр Марцінкевіч не мог прывесці ніякіх дадзеных. Ён толькі некалькі разоў падкрэсліваў, што страты былі вельмі вялікімі, што загінула вельмі шмат таварышаў. Беларускі штаб далажыў пра наступныя страты брыгады «Дубава» пры прарыве: 28 забітых, 78 параненых і 148 зніклых без вестак[65]. Відаць, трэба думаць, што большасць зніклых без вестак — гэта пакінутыя на полі бою параненыя і забітыя.

Нягледзячы на гэтыя вялікія страты, брыгада «Дубава» працягвала існаваць і, як ні парадаксальна, была разгромлена толькі праз некалькі тыдняў, пасля прыходу Чырвонай Арміі. Брыгада «Дубава» з пачатку ліпеня 1944 г. размяшчалася каля вёскі Валова Гара (паміж Лепелем і Бягомлем). Там Чырвоная Армія абсталявала часовы палявы шпіталь для сваіх параненых салдат. Брыгада атрымала загад ахоўваць шпіталь. У гэты час шматлікія разрозненыя групы і падраздзяленні немцаў яшчэ блукалі ў ваколіцах і імкнуліся прабіцца ў заходнім накірунку. Вось такое падраздзяленне, як мяркуе Марцінкевіч, колькасцю ў 1 000 чалавек, рушыла на вёску Валова Гара і размешчаны там шпіталь.

Адбыўся бой, і наша падраздзяленне было цалкам разгромлена. Гэта была крывавая бойня, параненых дабівалі штыкамі. Я быў цяжка паранены ў спіну і цудам выжыў, але мусіў правесці шмат тыдняў у шпіталі. У армію мяне больш не ўзялі. Мяне накіравалі на працу ў Лепель у сельсавет[66].

Але ж вернемся да падзей у катле вакол возера Палік у чэрвені 1944 г. Нейкай вялікай частцы падраздзяленняў прарыў 16 і 20 чэрвеня не ўдаўся, і яны засталіся ў катле. Некаторыя падраздзяленні разбіліся на малыя групы, якія спрабавалі пратачыцца ў розных месцах праз варожыя загараджальныя лініі. Іншыя ж, наадварот, трымаліся сваіх пазіцый на балоце[67]. Наконт лёсаў акружаных падраздзяленняў у рам-

[64] Інтэрв'ю аўтара з Пятром Марцінкевічам...

[65] Аператыўнае паведамленне аператыўнага аддзела БШПР № 37/111 ад 29 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 464).

[66] Інтэрв'ю аўтара з Пятром Марцінкевічам... Потым Марцінкевіч працаваў да выхаду на пенсію настаўнікам і дырэктарам школы.

[67] Аператыўнае паведамленне аператыўнага аддзела БШПР № 36/110 ад 26 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 441, 443, 448).

ках гэтага даследавання не знойдзена ніякіх дадзеных. У пазнейшых аператыўных зводках Беларускага штаба гэтыя падраздзяленні больш не сустракаюцца. У заключнай справаздачы Беларускага штаба гаворыцца толькі пра тое, што нямецкія часці ў канцы чэрвеня 1944 г. знялі акружэнне з-за наступлення Чырвонай Арміі[68].

Выдаўцы ж трохтомнага твора па гісторыі савецкага партызанскага руху ў Беларусі пішуць, што падраздзяленні Бягомльскага і Сенненскага злучэнняў, якія засталіся ў акружэнні, падрыхтавалі новы прарыў. Але ноччу на 23 чэрвеня радыст злавіў паведамленне пра паспяховы пачатак наступлення Чырвонай Арміі. «Фашысцкія часці былі вымушаныя спыніць аперацыю супраць партызанаў»[69]. Эрых Гесэ пацвярджае гэта: «У выніку пачатку савецкага летняга наступу неабходна было перарваць гэтую баявую аперацыю [“Баклан”]». Праўда, ён дадае: «Мэта — разгром новасфармаваных партызанскіх падраздзяленняў — дзякуючы гэтай аперацыі была дасягнута»[70].

У рамках даследавання не ўдалося атрымаць ніякіх савецкіх дадзеных пра агульныя страты савецкіх партызанаў падчас аперацыі «Баклан». Нямецкае ж камандаванне дакладвала пра наступныя страты партызанаў: 7 697 забітых і 5 286 палонных. Сюды дадаваліся 342 разбураныя партызанскія лагеры і 900 бункераў[71]. Тое, што страты з боку партызанаў былі вельмі вялікія, пацвярджаюць і савецкія крыніцы, і прыведзеныя вышэй выказванні. Але надзейных дадзеных пра агульныя страты і не можа быць; хаос у акружэнні, пасля прарыву і знішчэння яго быў занадта вялікім. Яшчэ на працягу дзесяцігоддзяў пасля вайны вясковыя жыхары нярэдка знаходзілі ў лясах і на балотах у мясцовасцях вакол возера Палік чалавечыя парэшткі, якія, пэўна, засталіся ад загінулых партызанаў[72].

Тое, што нямецкія аперацыі супраць партызанаў з красавіка да чэрвеня 1944 г. былі паспяховымі, пацвердзіў і Беларускі штаб у сваёй выніковай справаздачы за 1944 год: «У канчатковым выніку праціўнік амаль цалкам ачысціў ад партызанскіх атрадаў упершыню за час Айчыннай вайны памежныя тэрыторыі ад Полацка да Оршы»[73]. Але гэты поспех быў кароткатэрміновым. Праз некалькі дзён нямецкія войскі, якія дзейнічалі ў гэтым рэгіёне, трапілі ў кацёл, што ўтварыла Чырвоная Армія. І партызаны, якія яшчэ некалькі тыдняў таму бязлітасна праследаваліся ў лясах і балотах, цяпер удзельнічалі ў паляванні на разрозненыя нямецкія падраздзяленні.

[68] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 49).
[69] Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 3. С. 148.
[70] Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 267 і наст.
[71] Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 398.
[72] Інтэрв'ю аўтара з Анастасіяй Васільевай..., а таксама з яе сястрой, якая нарадзілася ў 1927 г., узятае 4 ліпеня 2004 г. у Кветчы.
[73] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 46).



## 4. Летняе наступленне Чырвонай Арміі ў Беларусі і савецкія партызаны

Войскі Чырвонай Арміі 23 чэрвеня 1944 г. пачалі аперацыю «Баграціён», у ходзе якой група армій «Цэнтр» была разгромленая і ўся беларуская тэрыторыя была да 20 ліпеня вызваленая. Але найперш аперацыя «Баграціён» адным ударам спыніла антыпартызанскія баявыя дзеянні немцаў, якія на пачатку наступлення яшчэ вяліся. Так, у маі і чэрвені 1944 г. нямецкія сілы праводзілі ў раёне вакол Бабруйска, на поўдзень ад Мінска, а таксама ў заходніх раёнах, у Баранавіцкай, Брэсцкай, Пінскай і Вілейскай абласцях, такія ж ачышчальныя акцыі, як у раёне Ушачаў, Сянна, Бягомля, Лепеля[74].

У гэтых аперацыях нямецкім сілам, аднак, не ўдалося дамагчыся параўнальных поспехаў, як у аперацыях «Веснавое свята» ці «Баклан», хоць некаторыя партызанскія падраздзяленні трапілі ў даволі крытычнае становішча. Напрыклад, 4 чэрвеня 1944 г. нямецкія часці акружылі Ліпічанскую пушчу, лясны масіў у прыкладна 70 км на ўсход ад Гродна. Тры брыгады і адзін атрад з агулам каля 4 600 савецкіх партызанаў, лагер якіх быў у пушчы, трапілі ў акружэнне[75]. Тры брыгады ўваходзілі ў склад Баранавіцкага злучэння пад камандаваннем Сцяпана Шупені, а яшчэ сюды трэба дадаць падраздзяленне з 600 чалавек пад камандаваннем Піліпа Капусты, якое намінальна належала да Беластоцкага злучэння[76].

Пасля першых баёў партызаны адышлі ў глыбокія лясы і балоты, а нямецкія войскі сістэматычна прасоўваліся наперад і паслядоўна займалі вёскі і мястэчкі. Іх падтрымлівалі танкі, супраць якіх партызаны не маглі амаль нічога зрабіць. Праз некалькі дзён брыгады імя Варашылава і «Перамога» на паўднёвым участку перайшлі ў наступленне і вырваліся з акружэння. 21 чэрвеня Шупеня перадаваў па радыё Беларускаму штабу:

> Блакада пушчы працягваецца. [...] Брыгады «Перамога» і імя Варашылава прарваліся ў паўднёвым накірунку з вялікімі стратамі. Пасля прарыву брыгада «Перамога» была акружана і вымушана паварочваць назад. [...] Нашыя страты: 45 забітых, 70 параненых, з поля бою забралі 25, астатнія засталіся ляжаць на полі бою. [...] Суседнія брыгады не дапамагаюць. У брыгады «Перамога» скончыліся боепрыпасы, няма прадуктаў харчавання[77].

Праз некалькі дзён брыгада «Перамога» адважылася зрабіць яшчэ адзін прарыў. На гэты раз ёй пашанцавала больш, але і гэтым разам яна

[74] Тамсама. Арк. 49—56.
[75] Тамсама.
[76] Радыёграма Стрыжака П. Панамарэнку, Калініну і Ганенку, № 8937 ад 14 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 57, арк. 27); стэнаграма размовы са Сцяпанам Шупенем ад 2 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 86 і наст.).
[77] Радыёграма радыёстанцыі 239 П. Панамарэнку, № 9828 ад 27 чэрвеня 1944 г. (перададзеная радыёграма ад Шупені ад 21 красавіка 1944 г.) (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 58, арк. 188).

панесла адчувальныя страты, каля 200 партызанаў. У акружэнні застаўся Шупеня з брыгадай імя Леніна, у складзе якой было каля 1 500 партызанаў. Баёў яны не вялі, схаваліся на востраве ў балотах і спрабавалі выжыць. Яны галадалі. Шупеня па радыё прасіў пра пастаўку прадуктаў харчавання і амуніцыі, якія яму паабяцаў Калінін. Аднак партызаны чакалі дарма. Яны забілі 10 коней з 30, якіх яны ўзялі з сабой на востраў, і з'елі іх. Становішча акружаных партызанаў рабілася ўсё больш пагрозлівым. Сярод партызанаў, асабліва сярод тых, якія былі мабілізаваныя па загадзе вясной 1944 г., пачалася паніка. Некаторыя партызаны перабеглі да немцаў і выдалі ім планы і схованкі сваіх таварышаў[78].

23 чэрвеня акружаныя партызаны па радыё даведаліся, што Чырвоная Армія пачала паспяховае наступленне. Настрой палепшыўся. Шупеня зноў звярнуўся па радыё да Калініна і папрасіў у крайнім выпадку хоць авіяпадтрымкі. Гэтым разам дапамога сапраўды прыйшла, 10 савецкіх самалётаў атакавалі немцаў, якія ўтваралі кацёл. Становішча партызанаў палепшылася, хоць яны ўсё яшчэ галадалі. 30 чэрвеня немцы знялі акружэнне і адступілі. У наступныя дні Шупеня заняўся зборам сваіх рассыпаных падраздзяленняў[79].

1 чэрвеня 1944 г. на беларускай тэрыторыі, па дадзеных Беларускага штаба, дзейнічалі 759 атрадаў з агулам 143 000 партызанамі. Большасць атрадаў былі ў складзе 143 брыгад. Але меліся і некаторыя атрады, якія дзейнічалі самастойна. Праўда, вялікая маса партызанаў была адносна слаба ўзброена, менавіта 82 423 вінтоўкамі, 25 565 аўтаматамі, 5 070 лёгкімі і цяжкімі кулямётамі, 482 гранатамётамі, 381 супрацьтанкавай стрэльбай, 123 гарматамі і 11 995 пісталетамі. Недахоп амуніцыі ўсё яшчэ з'яўляўся значнай праблемай[80].

Да гэтага дадаецца, што большая частка савецкіх партызанаў у Беларусі ў маі і чэрвені 1944 г. была ўцягнута ў абарончыя баі ці павінна была адступіць ад нямецкіх падраздзяленняў, якія пераследавалі іх, у лясы і балоты. Гэтыя падраздзяленні ў лясах і балотах «манеўравалі». Так гэта называлася ў адпаведных зводках. Нямала брыгад і атрадаў было пры гэтым разгромлена ці зрабілася небаяздольнымі. З другога боку, былі шматлікія падраздзяленні, якія працягвалі актыўна змагацца з нямецкімі акупантамі, тут варта згадаць пра абмеркаваны ўжо трэці этап «Рэйкавай вайны».

Шматлікія партызанскія падраздзяленні непасрэдна падтрымлівалі наступленне Чырвонай Арміі. Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў дакладвала ў ліпені 1944 г. пра становішча ў тыле групы армій «Цэнтр»:

> Аперацыі рускіх пачаліся з масавых разбурэнняў чыгуначных ліній, падрываў рэек і раптоўных нападаў на вакзалы і апорныя пункты — у першую чаргу

---

78 Стэнаграма размовы са Сцяпанам Шупенем ад 2 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 86 і наст.).

79 Тамсама.

80 Справаздача БШПР пра стан партызанскага руху ў Беларусі на 1 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 128, арк. 1 і наст.).



> бандамі Грышына. [...] У розных месцах назіралася ўмяшальніцтва бандаў у баявыя дзеянні на фронце[81].

Партызанскія атрады, з якімі мелася сувязь і якія былі баяздольнымі, атрымлівалі ад Беларускага штаба ці непасрэдна ад франтавых штабоў канкрэтныя задачы, як, напрыклад, забеспячэнне пераходаў праз рэкі. Яны займалі таксама шматлікія населеныя пункты. У справаздачы Беларускага штаба ад 5 ліпеня 1944 г. гаворыцца:

> Партызаны захапілі раённыя цэнтры Старобін, Капыль і Узду ў Мінскай вобласці, раённы цэнтр Ілья ў Вілейскай вобласці і шэраг іншых населеных пунктаў, а таксама пераправы праз рэкі Случ і Пціч і ўтрымлівалі іх да прыходу Чырвонай Арміі[82].

Усяго партызаны, паводле дадзеных Беларускага штаба, забяспечылі дзевяць пераправаў праз рэкі і захапілі сем раённых цэнтраў ды шэраг іншых населеных пунктаў[83].

Акрамя таго, партызаны ў Беларусі, паводле дадзеных Беларускага штаба, ад 20 чэрвеня да 20 ліпеня 1944 г. агулам забілі 8 075 салдат і афіцэраў ворага і 8 940 узялі ў палон. Сюды дадаліся 25 выведзеных са строю танкаў і браневікоў і 410 аўтамашын[84]. Гэтыя лічбы сёння амаль нельга праверыць, але, напэўна, яны перабольшаныя. Усё ж яны здаюцца сціплымі ў параўнанні з таксама неверагодна перабольшанай лічбай каля 20 000 нямецкіх салдат і афіцэраў, пра якую савецкія партызаны паведамляюць як пра сярэднюю колькасць забітых у месяц з пачатку 1944 г. да чэрвеня 1944 г.[85].

Нягледзячы на вышэйразгледжаныя баявыя дзеянні, савецкія партызаны ў Беларусі ўвогуле не адыгрывалі значнай ролі для паспяховага наступлення Чырвонай Арміі і поўнага разгрому групы армій «Цэнтр» падчас аперацыі «Баграціён».

## 5. Савецкія партызаны пасля прыходу Чырвонай Арміі

Да канца ліпеня 1944 г. часці Чырвонай Арміі прагналі нямецкіх акупантаў з усёй сённяшняй тэрыторыі Беларусі, а партызаны

81 Агляд Галоўнага камандавання сухапутных войскаў і Генеральнага штаба сухапутных войскаў становішча з бандамі ў перыяд 21 чэрвеня — 20 ліпеня 1944 г., 23 ліпеня 1944 г. (BA-MA. RH 2/62, Bl. 21—22v).

82 Аператыўнае паведамленне № 38/112 БШПР ад 5 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 483 і наст.).

83 Аператыўнае паведамленне № 41/115 БШПР ад 20 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 524).

84 Тамсама.

85 БШПР у канцы 1944 г. паведаміў, што партызаны Беларусі за час з 1 студзеня да 20 чэрвеня 1944 г. быццам бы знішчылі агулам 115 281 нямецкага салдата і афіцэра, а 73 500 — паранілі. Гл.: Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 93).

выйшлі са сваіх лагераў у лясах, балотах і вёсках. Паводле дадзеных Беларускага штаба, «з падраздзяленнямі Чырвонай Арміі аб'ядналіся з 20 чэрвеня да 19 ліпеня [1944 г.] 139 партызанскіх брыгад і 30 самастойных атрадаў у колькасці 141 000 партызанаў». Толькі каля 2 600 партызанаў дзейнічалі яшчэ 20 чэрвеня 1944 г. у тыле ворага[86].

У папярэднія месяцы, са студзеня да 20 чэрвеня 1944 г., 93 атрады колькасцю 19 428 партызанаў перайшлі праз лінію фронту і далучыліся да Чырвонай Арміі[87]. Сюды дадаюцца яшчэ партызанскія падраздзяленні, якія ў перыяд паміж вераснем 1943 г. і пачаткам студзеня 1944 г. «з'ядналіся» з часцямі Чырвонай Арміі. Паводле дадзеных Цэнтральнага штаба, гэта былі 26 брыгад і 28 самастойных атрадаў з 26 981 партызанам. Між іншым, у канцы 1943 г. усе партызаны Гомельскага злучэння (11 600 чалавек) зноў апынуліся ў савецкім тыле[88].

Але з прыходам Чырвонай Арміі не ўсе партызанскія атрады адразу спынілі свае баявыя дзеянні. З 20 чэрвеня да 18 ліпеня 1944 г., паводле няпоўных дадзеных, 17 брыгад і 3 самастойныя атрады з 25 130 партызанамі былі распушчаныя[89]. Астатнія партызанскія падраздзяленні, пераважная большасць, яшчэ некалькі тыдняў існавалі і працягвалі свае баявыя дзеянні. У аператыўнай зводцы Беларускага штаба ад 20 ліпеня 1944 г. гаворыцца:

> Большасць атрадаў і брыгад, якія знаходзяцца на вызваленых тэрыторыях, працягваюць размяшчацца ў сваіх раёнах дзеянняў. Яны ачышчаюць іх ад рэштак разбітых нямецкіх часцей, ад паліцаяў і здраднікаў, яны ахоўваюць і падтрымліваюць парадак у населеных пунктах, яны падтрымліваюць працу партыйных і савецкіх органаў[90].

Пры ачыстцы беларускіх тэрыторый партызаны, паводле ўласных дадзеных, забілі звыш 15 000 нямецкіх салдат і афіцэраў і ўзялі ў палон звыш 17 000[91]. Пра колькасць забітых і затрыманых «здраднікаў Айчыны» аўтар не змог знайсці ніякіх дадзеных. Але не выклікае сумненняў, што пасля прыходу Чырвонай Арміі пачалося паляванне на ўсе «антысавецкія элементы». Партызаны яшчэ ў час вайны склалі спісы «антысавецкіх элементаў» і перадалі іх у органы НКУС. Напрыклад, брыгада імя Шчорса, якая дзейнічала ў Барысаўскім, Бярэзінскім і Чэрвеньскім раёнах, передала НКУС спіс з 312 зафіксаванымі «контррэвалюцыйнымі і іншымі элементамі» ды з 215 «нямецкімі шпіёнамі»[92]. Асобыя аддзелы Вілейскага партызанскага злучэння на 1 студзеня 1944 г. затрымалі каля 2 500 «варожых элементаў»[93].

У чыстках важную ролю адыгрывалі знішчальныя батальёны, якія былі створаныя адразу пасля прыходу Чырвонай Арміі. Іх часта набіралі з партызанскіх шэрагаў. Беларускі штаб яшчэ ў кастрычніку 1943 г. вызначыў, што «знішчальныя батальёны неабходна фармаваць галоўным чынам з партыйных і дзяржаўных актывістаў, надзейных мясцовых жыхароў і партызанаў, якія засталіся для працы на месцах»[94].

Некаторыя знішчальныя батальёны набіраліся нават выключна з шэрагаў былых партызанаў. У справаздачы пра дзейнасць партызанаў у Магілёўскай вобласці ў ліпені 1944 г. гаворыцца:

> З Кіраўскай і Клічаўскай групы [партызанаў] былі сфармаваныя і пакінуты ў раёнах два знішчальныя батальёны па 100 чалавек. Партыйныя і савецкія актывісты заставаліся таксама, астатнія партызаны былі ўключаныя ў шэрагі Чырвонай Арміі[95].

Гэтаксама было і ў іншых рэгіёнах, як, напрыклад, у Баранавіцкай вобласці[96]. Усяго да жніўня 1944 г. у знішчальныя батальёны былі накіраваныя амаль 5 000 былых партызанаў[97].

Памеры савецкіх чыстак пасля прыходу Чырвонай Арміі наглядна паказваюць лічбы арыштаваных, расстраляных і дэпартаваных. У кастрычніку 1944 г. на беларускай тэрыторыі дзейнічалі 176 знішчальных батальёнаў, якія налічвалі 16 446 чалавек. Яны затрымалі ў 1944 г., паводле ўласных дадзеных, 87 408 чалавек. З іх 31 917 былі салдатамі і афіцэрамі «праціўніка», астатнія — мясцовыя, у тым ліку: «спачуваючыя і памагатыя ворага» — 6 308, дэзерціры — 7 529, адмаўленцы ад войсковай службы — 15 374, адмаўленцы ад прымусовых прац — 2 335, асобы, якія парушылі ваенныя законы, — 3 289, «бандыты» і іх памагатыя (найбольш — польскія партызаны) —

[86] Аператыўнае паведамленне № 41/115 БШПР ад 20 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 524 і наст.).

[87] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 100).

[88] Выніковая справаздача аператыўнага аддзела ЦШПР пра працу на Беларускім участку за перыяд з 17 красавіка 1943 да 13 студзеня 1944 г., 24 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 162 і наст.).

[89] Аператыўнае паведамленне № 41/115 БШПР ад 20 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 524 і наст.).

[90] Аператыўнае паведамленне № 41/115 БШПР ад 20 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 525).

[91] Баявыя вынікі беларускіх партызанскіх атрадаў у барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 132).



[92] Даклад кіраўніка разведатрада брыгады імя Шчорса Заварыкіна пра барацьбу са шпіёнамі, без даты, [лета 1943 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 4, л. 75 об.).

[93] Паведамленне Манахава і Саснова пра меры НКДБ у сферы асобых аддзелаў Вілейскага злучэння, без даты, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 478, арк. 257 і наст.).

[94] Радыёграма аператыўнага аддзела БШПР (Ганенка) Турчынскаму, № 6238 ад 13 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 40, арк. 223).

[95] Аператыўнае паведамленне аператыўнага аддзела БШПР № 38/112 ад 5 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 6, арк. 494 і наст.).

[96] Стэнаграма размовы са Сцяпанам Шупенем ад 2 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 87 і наст.).

[97] Паведамленне начальніка БШПР Калініна пра асабовы склад партызанаў у Беларусі і пра вынікі роспуску атрадаў і брыгад, якія аб'ядналіся з часцямі Чырвонай Арміі, 15 жніўня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 87—92).

1 588, злачынныя элементы — 431, «без дакументаў і падазроныя» — 17 569[98].

Знішчальныя батальёны перадавалі затрыманых, як правіла, органам НКУС, у шэрагах якіх таксама важную ролю адыгрывалі былыя партызаны. Органы НКУС адказвалі таксама за чысткі і «прымірэнне». Іх супрацоўнікі з чэрвеня 1944 г. да сакавіка 1945 г., паводле ўласных дадзеных, арыштавалі 56 420 дэзерціраў і адмаўленцаў ад вайсковай службы, прычым 213 яны забілі. 7 438 дэзерціраў і адмаўленцаў ад вайсковай службы здаліся «самі». Пераважная большасць паходзіла з заходніх, былых польскіх тэрыторый[99].

17 верасня 1945 г. Берыя далажыў Сталіну пра ход ачышчальных акцый на заходніх тэрыторыях БССР. З самага пачатку чыстак у ліпені 1944 г. да 1 верасня 1945 г. органы НКУС арыштавалі агулам 97 094 чалавекі, у тым ліку: «бандытаў» — 6 514, памагатых «бандытаў» — 1 036, членаў антысавецкіх арганізацый — 651, нямецкіх памагатых і іншых антысавецкіх элементаў — 6141, дэзерціраў і адмаўленцаў ад вайсковай службы — 82 752. Былі забітыя 3 282 «бандыты, дэзерціры і іншыя антысавецкія элементы»[100].

Прыцягвае ўвагу вялікая колькасць дэзерціраў і «адмаўленцаў» ад вайсковай службы. Сапраўды, многія ваеннаабавязаныя мужчыны на заходніх тэрыторыях Беларусі, якія да 1939 г. належалі да Польшчы, імкнуліся ўхіліцца ад вайсковай службы ў Чырвонай Арміі. Савецкія органы рэгулярна наладжвалі акцыі па вылоўліванні «адмаўленцаў» і дэзерціраў[101]. У адной з такіх акцый савецкія органы 19 верасня 1944 г. схапілі ў Воранаўскім раёне звыш 1 000 «прызыўнікоў», пры гэтым былі застрэленыя 25 «белапольскіх бандытаў»[102].

Але і партызанскія падраздзяленні таксама ўдзельнічалі ў «прызыве» ваеннаабавязаных мужчын непасрэдна пасля прыходу Чырвонай Арміі. Напрыклад, партызанскі атрад № 3 з Магілёўскай вобласці ў

[98] Пералік знішчальных батальёнаў і груп падтрымкі НКУС БССР, падпісаны начальнікам штаба знішчальных батальёнаў НКУС СССР палкоўнікам Трафімавым, 30 сакавіка 1944 г. (ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 518, л. 4, 7). Параўн. таксама даведку аб выніках аператыўна-службовых дзеянняў знішчальных батальёнаў НКУС / УНКУС БССР у 1944 г., падпісаную тым жа палкоўнікам Трафімавым, без даты, [снежань 1944 г.] (ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 493, л. 18).

[99] Паведамленне пра баявыя вынікі ў барацьбе з антысавецкім падполлем і бандамі ў БССР за перыяд з чэрвеня па сакавік 1945 г. (ГАРФ. Ф. 9478, оп. 1, д. 516, л. 5).

[100] Спецпаведамленне ад Л. Берыі Сталіну, Молатаву, Малянкову аб ходзе барацьбы з узброеным падполлем ў заходніх абласцях Беларусі ад 17 верасня 1945 г. (ГАРФ. Ф. 9401, оп. 2, д. 99, л. 167 і наст.); таксама надрукавана ў: Лубянка. Сталин и НКВД — НКГБ — ГУКР «Смерш» 1939 — март 1946 г. Документы / Сост. В. Н. Хаустов, В. П. Наумов, Н. С. Плотникова. Москва, 2006. С. 537 і наст.

[101] Гарольд Зісман, былы партызан, а пасля «вызвалення» супрацоўнік НКУС у Баранавічах, удзельнічаў у такіх аблавах. Гл.: Zissman H. The Warriors. My Life as a Jewish Partisan. New York, 2005. S. 164.

[102] Паведамленне Трыгубовіча пра ход ліквідацыі «белапольскіх бандаў» у Воранаўскім раёне ад 20 верасня 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 29, спр. 812а, арк. 18 і наст.).



дзень вызвалення Крычаўскага раёна «прызваў» у армію каля 5 000 ваеннаабавязаных мужчын[103]. Атрад «Перамога», які дзейнічаў у Горацкім раёне Магілёўскай вобласці, пасля прыходу Чырвонай Арміі «мабілізаваў» у раёне 4 000 чалавек[104].

Роспуск партызанскіх падраздзяленняў працягваўся да жніўня 1944 г. Паводле дадзеных Беларускага штаба, з верасня 1943 г. да 12 жніўня 1944 г. з Чырвонай Арміяй «з'ядналіся» агулам 182 263 савецкія партызаны ў Беларусі. Большасць з іх, 81 845, ці 45 %, былі мабілізаваныя ў Чырвоную Армію. 41 793 былыя партызаны былі накіраваныя на працу ў партыйны, савецкі і гаспадарчы апарат, 6 118 на працу ў органы НКУС/НКДБ і ў памежныя войскі, 4 923 былі накіраваныя ў знішчальныя батальёны, 16 210 адпушчаныя дадому ці ў шпіталі (жанчыны, моладзь, аслаблыя, параненыя, хворыя). 1 941 партызана Беларускі штаб пакінуў спачатку як рэзерв, а пазней яны таксама былі накіраваныя на працу ў партыйным, савецкім ці гаспадарчым апараце. 12 жніўня 29 432 партызаны не былі яшчэ адпушчаныя з партызанскіх злучэнняў[105].

З прыведзеных вышэй лічбаў вынікае, што большасць партызанаў пасля прыходу Чырвонай Арміі актыўна заняліся ачышчэннем беларускіх тэрыторый ад блукаючых нямецкіх салдат, «здраднікаў Айчыны» і ўсіх элементаў, якія былі залічаныя да антысавецкіх. Вырашальную ролю, аднак, здаецца, адыгрывалі былыя партызаны ў аднаўленні савецкага партыйнага і дзяржаўнага апарату ў Беларусі. Напрыклад, савецкі ўладны апарат у Баранавіцкай вобласці, якая да 1939 г. належала да Польшчы, быў сфармаваны ў першую чаргу з былых партызанаў[106].

Ва ўтворанай толькі летам 1944 г. Гродзенскай вобласці старшыні 132 сельсаветаў былі прызначаныя ў асноўным з удзельнікаў партызанскага руху. 120 з іх з'яўляліся былымі партызанамі[107]. Беластоцкі абкам, пазней Гродзенскі[108], 16 ліпеня 1944 г. вырашыў, што кіраўнічыя кадры ў абласныя, раённыя і сельскія ўладныя структуры неабходна прызначаць з партызанаў Беластоцкага злучэння і накіраваць 300 партызанаў злучэння на курсы Цэнтральнага камітэта КП(б)Б. Акрамя таго, у супрацоўніцтве з НКУС з партызанаў неабход-

[103] Паведамленне пра баявыя дзеянні атрада № 3 ад 11 снежня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 159, л. 76).

[104] Выніковая справаздача брыгады «Перамога» пра дзейнасць з 1942 г. да кастрычніка 1943 г., 15 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 159, л. 11).

[105] Паведамленне начальніка БШПР Калініна пра асабовы склад партызанаў у Беларусі і пра вынікі роспуску атрадаў і брыгад, якія аб'ядналіся з часцямі Чырвонай Арміі, 15 жніўня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 87—92).

[106] Стэнаграма размовы са Сцяпанам Шупенем ад 2 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 87 і наст.).

[107] Tokć S. Zmiany struktury narodowościowej na pograniczu białorusko-polskim w BSSR (1944—1959) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Nr. 21. Białystok, 2004. S. 121.

[108] Летам 1944 г. Сталін вырашыў усё-такі аддаць большую частку былой Беластоцкай вобласці і горад Беласток «новай», камуністычнай Польшчы. Усходнія часткі былой Беластоцкай вобласці былі ўключаныя ў новаўтвораную Гродзенскую вобласць.

на было сфармаваць у кожным раёне і кожным горадзе знішчальныя батальёны[109].

У Воранаўскім, Радунскім (мясцовасці вакол Ліды) і Сапоцкінскім раёнах партыйны апарат складаўся амаль на 100 % з былых савецкіх партызанаў[110]. У Радунскім раёне апарат НКУС з 30 чалавек складаўся амаль выключна з былых партызанаў, «якія яшчэ ў партызанскіх атрадах адмоўна прыцягвалі ўвагу слабай дысцыплінай і непрыстойнымі паводзінамі»[111]. Нядзіўна, што марадзёрства і п'янства ўяўлялі сабой штодзённасць савецкіх «вызваліцеляў». Паводле спіса ад 20 верасня 1944 г., 5 463 былыя партызаны былі накіраваныя ў Цэнтральны камітэт КП(б)Б, 94 у Цэнтральны камітэт камсамола Беларусі, 687 у абкамы партыі і камсамола, 40 531 на партыйную працу ў раёны, 254 у Савет Народных Камісараў БССР (урад), 4 695 у асобныя народныя камісарыяты БССР (міністэрствы)[112].

Такім чынам, былыя савецкія партызаны пасля 1944 г. дамінавалі ў савецкім дзяржаўным і партыйным апараце Беларусі на ўсіх узроўнях і тым самым вызначалі палітыку савецкага тэрору пасляваенных гадоў, асабліва на былых польскіх тэрыторыях. Там яшчэ ў канцы 1940-х гг. людзі дзе-нідзе аказвалі часткова ўзброены супраціў саветызацыі гэтых тэрыторый. Летам 1944 г. на гэтых тэрыторыях нямецкі тэрор зноў змяніўся на савецкі, а былыя партызаны, якія былі надзейна выхаваныя ў савецкім духу, адыгрывалі пры гэтым прыкметную ролю.

---

[109] Пратакол № 12 пасяджэння Беластоцкага абкама ад 16 ліпеня 1944 г. (ГАГО. Ф. 6195, оп. 1, д. 163, л. 19 і наст.).

[110] Гэта вынікае з даследаванняў Яна Шумскага, які падрыхтаваў працу пра саветызацыю заходніх абласцей сённяшняй Беларусі ў 1944—1950 гг.

[Гэтая праца была выдадзена спачатку па-польску (Szumski J. Sowietyzacja Zachodniej Białorusi 1944—1953. Propaganda i edukacja w służbie ideologii. Kraków, 2010), а пасля выйшла ў двух выданнях у перакладзе на беларускую мову: Шумскі Я. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944—1953 г.). Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі. Беласток—Вільня, 2012; 2-е выд. Смаленск, 2014). — *Заўв. рэд.*]

[111] Пратакол № 8 пасяджэння Радунскага райкама, 8 снежня 1944 г. (ДАГВ. Ф. 11, воп. 1, спр. 3, арк. 22).

[112] Стан дэмабілізацыі партызанскіх брыгад і атрадаў на 20 верасня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 130).

# VIII. Да сацыяльнай гісторыі савецкага партызанскага руху ў Беларусі

## 1. Асабовы склад

Для сучаснай і пазнейшай савецкай прапаганды і савецкай гістарыяграфіі было вельмі важна «даказаць», што савецкі партызанскі рух падчас Другой сусветнай вайны быў усенародным і добраахвотным. Паводле гэтага, увесь беларускі народ спантанна, але пад кіраўніцтвам партыі, узяўся за зброю і павёў бязлітасную, самаадданую і ў рэшце рэшт пераможную барацьбу з нямецкімі агрэсарамі. Панамарэнка распавядаў у сваёй кнізе пра партызанскі рух, што ў Беларусі 373 942 чалавекі, а на Украіне 501 750 чалавек змагаліся ў шэрагах партызанаў. Агулам на акупаванай немцамі савецкай тэрыторыі было 1 250 000 савецкіх партызанаў[1].

Цікава, што Панамарэнка на наступнай старонцы прыводзіць табліцу пра асабовы склад і страты «беларускіх партызанаў». Табліца паказвае колькасць савецкіх партызанаў, якія, паводле Панамарэнкі, змагаліся ў Беларусі з 1941 г. да 1944 г. Гэта лічба складае 282 548 — у процілегласць лічбе 373 942, што Панамарэнка прыводзіў на папярэдняй старонцы як колькасць партызанаў у Беларусі. Гэта ж складае розніцу ў амаль 100 000 партызанаў, якую Панамарэнка ніяк не тлумачыць[2].

У сучаснай Беларусі ў гэтым сэнсе ў афіцыйнай мемуарнай палітыцы да сённяшняга дня нічога не змянілася. Аўтары выдадзенай у 2003 г. кнігі пра Другую сусветную вайну сцвярджаюць: «Партызанскі рух меў усенародны характар. [...] Колькасць народных мсціўцаў складала звыш 374 000 чалавек у 1 255 атрадах. [...] Партызанскія рэзервы даходзілі да больш чым 440 000 чалавек». Агулам нібыта савецкіх партызанаў, якія змагаліся супраць нямецкіх акупантаў, было звыш мільёна[3].

Відавочныя супярэчнасці ў падліках савецкіх гісторыкаў не збіваюць з панталыку выдаўцоў кнігі. У адпаведных архівах, як і ў спадчыне Панамарэнкі, знаходзяцца шматлікія тагачасныя дакументы, якія тычацца асабовага складу савецкіх партызанаў. Яны вельмі адрозніваюцца ад афіцыйных лічбаў і хутчэй адпавядаюць сапраўднаму становішчу.

---

[1] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 128.

[2] Тамсама. С. 129.

[3] Великая Отечественная война... С. 109, 114.

*Рост савецкага партызанскага руху*
*на акупаваных тэрыторыях СССР (чэрвень 1942 г. — студзень 1944 г.)**

| Дата | Атрадаў | Партызанаў |
|---|---|---|
| 10.06.1942 | 387 | 69 905 |
| 15.08.1942 | 831 | 93 437 |
| 01.12.1942 | 1 013 | 97 381 |
| 01.01.1943 | 1 153 | 102 562 |
| 07.03.1943 | 1 047 | 113 579 |
| 01.06.1943 | 1 061 | 142 006 |
| 10.09.1943 | 1 043 | 154 392 |
| 10.11.1943 | 1 106 | 175 510 |
| 07.01.1944 | 1 116 | 181 392 |

*Паводле дадзеных ЦШПР: чэрвень 1942 г. — студзень 1944 г.[4]

*Рост партызанскага руху ў Беларусі*
*(чэрвень 1942 г. — чэрвень 1944 г.)**

| Дата | Атрадаў | Партызанаў у БССР |
|---|---|---|
| 01.06.1942 | 65 | 9 538 |
| 15.07.1942 | 252 | 27 744 |
| 01.12.1942 | 417 | 47 611 |
| 01.04.1943 | 528 | 68 493 |
| 01.08.1943 | 541 | 85 966 |
| 20.10.1943 | 671 | 111 388 |
| 20.11.1943 | 720 | 122 647 |
| 15.12.1943 | 693 | 120 388 |
| 15.01.1944 | 723 | 121 903 |
| 01.04.1944 | 738 | 135 672 |
| 01.06.1944 | 759 | 142 558 |

*Паводле дадзеных БШПР: чэрвень 1942 г. — чэрвень 1944 г.[5]

Прыведзеныя тут лічбы паказваюць, што большасць савецкіх партызанаў змагаліся на тэрыторыі Беларусі. У снежні 1942 г. яны складалі каля 50 % усіх партызанаў, зарэгістраваных Цэнтральным штабам, у маі 1943 г. — 58 %, у жніўні 1943 г. — 62 % і ў студзені 1944 г. — 67 %. Але трэба зазначыць, што летам і восенню 1943 г.

[4] Дыяграма аператыўнага аддзела ЦШПР пра рост партызанскага руху на часова акупаванай тэрыторыі СССР, без даты, [студзень 1944 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 22).

[5] Дыяграма БШПР пра рост партызанскага руху ў Беларусі ў 1943 г, без даты, [студзень 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 320а); дыяграма росту партызанскага руху ў Беларусі за перыяд з 1 чэрвеня 1942 г. да 1 чэрвеня 1944 г., падрыхтаваная начальнікам аператыўнага аддзела БШПР Бруханавым, 2 чэрвеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 103); табліца баявога складу партызанскіх атрадаў у Беларусі з 1 чэрвеня 1942 г. да 1 красавіка 1944 г., без даты, [красавік1944 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 153).



партызанскія падраздзяленні на акупаваных расійскіх і часткова ўкраінскіх тэрыторыях у ходзе савецкага наступлення аб'ядналіся з войскамі Чырвонай Арміі.

У дадзеных пра партызанаў у Беларусі, акрамя таго, неабходна ўлічваць тых партызанаў, якіх вывезлі на самалёце параненымі і хворымі, а таксама тых, што ўвосень 1943 г. і вясной 1944 г. перасеклі лінію фронту ці былі захопленыя фронтам: з 1942 г. да пачатку 1943 г. лінію фронту перасеклі ці былі вывезеныя за яе 2 949 партызанаў; з верасня 1943 г. да чэрвеня 1944 г., паводле дадзеных Беларускага штаба, 44 661 партызан быў нагнаны фронтам ці перасёк яго лінію[6].

Паводле падлікаў ліквідацыйнай групы Беларускага штаба 1946 г., з войскамі Чырвонай Арміі да лета 1944 г. «аб'ядналіся» агулам 194 708 савецкіх партызанаў, якія змагаліся ў Беларусі. Сюды трэба дадаць 25 681 загінулага ці памерлага ад ран, 11 697 зніклых без вестак і 1 030 партызанаў, што трапілі да немцаў у палон і чый лёс застаўся невядомым. Акрамя таго, яшчэ меліся 24 021 агент-разведчык, 18 938 кур'ераў і сувязных, а таксама 6 383 партызаны, якія з розных прычын выйшлі з брыгад і атрадаў. Агульная колькасць у выніку склала 282 458 партызанаў[7].

Яшчэ ў жніўні 1944 г. Калінін, начальнік Беларускага штаба партызанскага руху, даваў больш нізкія лічбы. Паводле іх, з падраздзяленнямі Чырвонай Арміі да ліпеня 1944 г. аб'ядналіся 182 282 партызаны з Беларусі. Гэта, ва ўсякім разе, складае розніцу ў 12 000 партызанаў у параўнанні з дадзенымі ліквідацыйнай групы. Сюды ж, паводле Калініна, дадаваліся яшчэ 23 736 агентаў і кур'ераў, на 19 223 менш, чым паводле дадзеных ліквідацыйнай групы. Страты партызанаў (загінулыя, зніклыя без вестак) Калінін пазначыў лічбай 34 002, на 3 376 меншай, чым у ліквідацыйнай групы. Усяго ў выніку дадзеных Калініна атрымлівалася каля 240 000 партызанаў, на 42 000 менш, чым паводле дадзеных ліквідацыйнай групы[8].

Акрамя таго, ліквідацыйная група назвала яшчэ лічбу 79 484 партызаны, якія ахоўвалі вёскі ў партызанскіх зонах ці сямейныя лагеры і выконвалі спецзаданні камандзіраў брыгад і атрадаў. Гэта былі людзі, што знаходзіліся ў партызанскіх зонах і лічыліся рэзервам. Калінін у гэтай сувязі паведамляў пра 71 000 чалавек[9]. Акрамя таго, па дадзеных ліквідацыйнай групы, у заходніх абласцях сённяшняй Беларусі мелася 12 000 членаў антыфашысцкіх камітэтаў, аднак невядома, як яны змагаліся з нямецкімі акупантамі. Такім чынам, ліквідацыйная

[6] Паведамленне начальніка БШПР Калініна пра асабовы склад партызанаў у Беларусі і пра вынікі роспуску атрадаў і брыгад, якія аб'ядналіся з часцямі Чырвонай Арміі, 15 жніўня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 87—92).

[7] Зводка колькасці партызанаў, якія дзейнічалі на беларускай тэрыторыі падчас Айчыннай вайны, падрыхтаваная Раманавым і Разанавым з ліквідацыйнай групы БШПР, 1 жніўня 1946 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 8).

[8] Паведамленне начальніка БШПР Калініна пра асабовы склад партызанаў у Беларусі і пра вынікі роспуску атрадаў і брыгад, якія аб'ядналіся з часцямі Чырвонай Арміі, 15 жніўня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 88).

[9] Тамсама. Л. 89.

група спынілася на лічбе 373 943, якая і сёння называецца як колькасць савецкіх партызанаў у Беларусі, што змагаліся супраць нямецкіх акупантаў[10].

Пасля вайны колькасць партызанаў, якія змагаліся ў Беларусі, «вырасла» зноў. У 1964 г. кіраўнічыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі партыі пры Цэнтральным камітэце КПБ Павел Ліпіла і Сцяпан Пачанін налічылі 440 000 партызанаў і падпольшчыкаў. Яны прыйшлі да гэтага выніку, дадаўшы да лічбы 373 942 партызаны, што атрымала ліквідацыйная група, каля 70 000 «падпольшчыкаў», хоць яны былі ўжо там улічаныя[11]. Гэта нават Панамарэнку здалося праблематычным, і ён прыводзіў лічбы, атрыманыя ліквідацыйнай групай, а не экспертамі Інстытута гісторыі партыі.

Савецкімі партыйнымі гісторыкамі была сфальсіфікавана і колькасць партызанаў ва Украіне. Паводле дадзеных Цэнтральнага штаба, у снежні 1943 г. ва Украіне было 147 савецкіх партызанскіх атрадаў з 25 444 партызанамі[12]. Год таму яшчэ было толькі 63 атрады і 8 926 партызанаў[13]. Пасля вайны колькасць савецкіх партызанаў, якія змагаліся ва Украіне, «вырасла» да 501 750[14]. Гэта выклікала незадаволенасць нават у сапраўдных партызанаў. У 1969 г. Ціткоў, былы камандзір брыгады «Жалязняк» з Бягомльска-Лепельскай зоны, пісаў Панамарэнку:

> Пяць дзён таму я сустрэў аднаго знаёмага па прозвішчы Мізінцаў. Ён мне распавёў, як сёння на Украіне ствараюць партызанаў. Цяпер, смяецца ён, на Украіне ўсе — партызаны. Калі толькі адзін партызан аднойчы прайшоў па вёсцы, якая ў сапраўднасці належала бандэраўцам, усе жыхары вёскі атрымліваюць партызанскія даведкі і іх узнагароджваюць ордэнамі. Ён распавядае, што нават сапраўдныя партызаны абураныя гэтым[15].

## 2. Этнічны і сацыяльны склад

Пра этнічны і сацыяльны склад савецкіх партызанаў у Беларусі маецца дэталёвая інфармацыя. 194 708 партызанаў, якія, паводле да-

[10] Зводка колькасці партызанаў, якія дзейнічалі на беларускай тэрыторыі падчас Айчыннай вайны, падрыхтаваная Раманавым і Разанавым з ліквідацыйнай групы БШПР, 1 жніўня 1946 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 8).

[11] Даведка пра агульную колькасць партызанаў і падпольшчыкаў у Беларусі падчас Другой сусветнай вайны ад 2 чэрвеня 1964 г., выдадзеная намеснікам дырэктара па даследчай працы Інстытута гісторыі партыі ЦК КП(б)Б Паўлам Ліпілам і намеснікам дырэктара партархіва Інстытута гісторыі партыі ЦК КП(б)Б Сцяпанам Пачанінам (Тамсама. Л. 13 і наст.).

[12] Даклад начальніка ЦШПР Панамарэнкі Сталіну пра стан партызанскага руху паводле дадзеных ад 10 снежня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 63).

[13] Даклад начальніка ЦШПР Панамарэнкі Сталіну пра стан партызанскага руху паводле дадзеных ад 1 студзеня 1943 г. (Тамсама. Л. 5).

[14] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 128.

[15] Ліст Ціткова П. Панамарэнку ад 5 лістапада 1969 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 64, л. 308 і наст.).



дзеных ліквідацыйнай групы, аб'ядналіся з войскамі Чырвонай Арміі, мелі наступныя складнікі[16]:

*— пол*
Мужчыны: 179 404 (92,17 %), жанчыны: 15 304 (7,83 %)[17].
*— этнічнае паходжанне*
беларусы: 131 990 (67,79 %), рускія: 41 471 (21,31 %), украінцы: 9 021 (4,63 %), яўрэі: 5 077 (2,6 %), палякі: 1 654 (0,85 %), іншыя: 5 495 (2,82 %).
*— партыйная прыналежнасць*
члены КП(б)Б: 8 771 (4,5 %), кандыдаты ў КП(б)Б: 10 282 (5,28 %), камсамольцы: 39 608 (20,33 %), беспартыйныя: 136 047 (69,89 %).
*— адукацыя*
вышэйшая: 4 312 (2,22 %), сярэдняя: 32 763 (16,82 %), пачатковая: 153 684 (78,93 %), непісьменныя: 3 949 (2,03 %).
*— краіна паходжання*:
Беларусь: 167 130 (85,84 %), іншыя краіны: (14,16 %).
*— прафесійная дзейнасць*:
партыйныя работнікі: 957 (0,49 %), савецкія работнікі: 3 303 (1,7 %), салдаты і афіцэры Чырвонай Арміі: 27 578 (14,16 %), супрацоўнікі НКУС/НКДБ і міліцыі: 1 661 (0,85 %), дырэктары ўстаноў і прадпрыемстваў: 597 (0,3 %), старшыні сельсаветаў: 649 (0,33 %), старшыні калгасаў: 1 237 (0,63 %), рабочыя: 30 512 (15,89 %), калгаснікі: 76 408 (39,25 %), вучні і студэнты: 23 829 (12,24 %), медычныя прафесіі: 2 371 (1,22 %) медыкі, у тым ліку лекары: 572 (0,29 %), аграномы: 444 (0,23 %), настаўнікі: 4 082 (2,09 %), іншыя прафесіі: 21 065 (10,45 %).
*— абставіны ўступлення*
засталіся ў варожым тыле паводле рашэння партыйных органаў 1 494 (0,76 %), накіраваныя з савецкага боку ў варожы тыл: 5 872 (3,01 %), мясцовыя: 135 434 (69,58 %), збеглыя ваеннапалонныя: 24 146 (12,39 %), чырвонаармейцы-акружэнцы: 11 426 (5,86 %), перабежчыкі: 16 336 (7,39 %).
*— час уступлення*
1941 г.: 3 920 (2,01 %), з 1 студзеня да 30 чэрвеня 1942 г.: 14 890 (7,64 %), з 1 ліпеня 1942 г. да канца 1942 г.: 36 473 (13,69 %), 1943 г.: 118 689 (60,98 %), 1944 г.: 30 739 (15,08 %).

[16] Зводка колькасці партызанаў, якія дзейнічалі на беларускай тэрыторыі падчас Айчыннай вайны, падрыхтаваная Раманавым і Разанавым з ліквідацыйнай групы БШПР, 1 жніўня 1946 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 8). Прыведзеныя тут дадзеныя ліквідацыйнай групы з 1946 г. абсалютна супадаюць з ранейшымі дадзенымі БШПР пра склад савецкіх партызанаў, праўда, няпоўнымі. З ліпеня 1944 г. паходзіць падлік БШПР аб складзе партызанскага руху ў Беларусі па стане на 1 ліпеня 1944 г. Пры гэтым БШПР меў дадзеныя агулам на 108 788 партызанаў (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 145); да жніўня 1943 г. належыць падлік аддзела кадраў БШПР аб складзе партызанаў у Беларусі па стане на 1 жніўня 1943 г. Колькасць партызанаў тады складала, паводле аператыўных дадзеных, 85 966 чалавек, але ў БШПР з іх ліку на 49 928 былі і такія дадзеныя, як пол, нацыянальнасць, узрост, прафесія ці адукацыя. Гл.: НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 148—170.

[17] Сляпян жа піша, што жанчыны сярод савецкіх партызанаў Беларусі складалі 16 %, і 9 % ад усіх савецкіх партызанаў. Гл.: Slepyan K. Stalin's Guerrillas... P. 54.

— *узрост*
да 18 гадоў: 18 467 (9,48 %), 18—26 гадоў: 86 279 (44,41 %), 26—45 гадоў: 82 667 (42,47 %), старэй за 45 гадоў: 7 289 (3,74 %).

Прыведзеныя тут лічбы паказваюць, што вялікая частка савецкіх партызанаў у Беларусі (звыш 25 %) — гэта збеглыя і адпушчаныя палонныя, вайскоўцы, якія адбіліся ад сваіх часцей, і перабежчыкі. Апошнія пачалі масава далучацца да партызанаў з 1943 г. А ў 1942 г. асноўнае ядро партызанскага руху ў Беларусі стваралі збеглыя ці адпушчаныя ваеннапалонныя і чырвонаармейцы, якія адбіліся ад сваіх часцей. Каля 61 % усіх партызанаў увайшло ў атрады ў 1943 г. і 15 % у 1944 г.

Пераважная большасць партызанаў (76 %), паводле гэтых дадзеных, паходзіла з Беларусі. Праўда, яны пайшлі ў партызанскія атрады зусім не добраахвотна. Савецкая прапаганда і пазней гістарыяграфія сістэматычна затушоўвала гэтыя факты і сцвярджала адваротнае. Сённяшнія беларуская і часткова расійская гістарыяграфія некрытычна карыстаюцца гэтымі скажэннямі.

## 3. Прымусовыя мабілізацыі

У рамках дадзенага даследавання ўжо былі падрабязна разгледжаныя масавыя прымусовыя прызывы ў армію, якія праводзіліся ў паўночна-ўсходніх абласцях Беларусі. Яны зусім не былі выключэннем у гісторыі партызанскага руху ў Беларусі. Сапраўдныя наскокі і паляванні на ваеннаабавязаных адбываліся і ў іншых абласцях Беларусі. Гэта можна даказаць тагачаснымі дакументамі.

Ужо ў час аперацыі «Бамберг» вясной 1942 г., у раёнах на паўднёвы ўсход ад Мінска, нямецкія органы ўлады выявілі, што партызаны «прымусова» забіралі мясцовых ваеннаабавязаных мужчын[18]. 31 мая 1942 г. генерал фон Шэнкендорф, камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», паведамляў: «*Партызаны гаспадараць* амаль неабмежавана [на вялікіх тэрыторыях тылу групы армій "Цэнтр"] і праводзяць *прымусовыя мабілізацыі*. Таму трэба разлічваць, што адбудзецца паступовае далейшае ўзмацненне варожых сіл»[19]. Гэта фон Шэнкендорф паўтарыў у дакладзе, які ён зрабіў 2 чэрвеня 1942 г. у Мінску: «Партызаны шматкроць праводзяць прымусовыя мабілізацыі»[20].

29 снежня 1942 г. айнзацгрупа «В» далажыла:

> Так, на захадзе ад Магілёва, з абодвух бакоў Друці, значна ўзмацнілася дзейнасць бандаў пад ваенным камандаваннем. 19.11.1942 г. яны публічна выдалі

[18] Паведамленні 102-га ўзмоцненага славацкага палка ад 27 сакавіка да 3 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 61).

[19] Ацэнка камандуючым тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» становішча ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр», 31 мая 1942 г. (BA-MA. RH 22/230, Bl. 265). Вылучана ў арыгінале.

[20] Даклад камандуючага групы армій «Цэнтр» генерала Шэнкендорфа ад 29 мая 1942 г., 2 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RH 19 II/383, Bl. 1—6).



> загад аб мабілізацыі, на грунце якога ўсе асобы ад 18 да 40 гадоў павінны ўступіць у партызанскія падраздзяленні. Моцна запалоханае насельніцтва часткова ўжо падпарадкавалася гэтаму загаду, бо з боку немцаў у будучыні не можа быць гарантавана абарона[21].

Прымусовае рэкрутаванне пацвярджаецца і савецкімі крыніцамі. Цімафей Ермаковіч, савецкі актывіст і партызан, пайшоў у канцы студзеня 1942 г. у атрад пад камандаваннем Лінькова, які дзейнічаў у Лепельскім раёне. Ён атрымаў заданне мабілізаваць вайскоўцаў, што адбіліся ад сваіх часцей, жылі ў вёсках, і забяспечваць атрад прадуктамі харчавання. Да красавіка 1942 г. Ермаковіч, паводле яго дадзеных, мабілізаваў 60 вайскоўцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей, і 15 мясцовых жыхароў[22]. Камандзір брыгады Дзякаў і яго камісар Манковіч атрымалі 20 жніўня 1942 г. загад аб'яднаць усе партызанскія групы і атрады ў раёне Лепеля пад адзіным камандаваннем і праводзіць далей разгортванне партызанскага руху. У загадзе, сярод іншага, было напісана: «Усім камандзірам і байцам, якія засталіся ў варожым тыле, прапануецца неадкладна далучыцца да партызанскіх атрадаў. Тых, хто не падпарадкуецца, неабходна лічыць дэзерцірамі і здраднікамі Айчыны»[23].

«Стары», што з групай у 50 чалавек у чэрвені 1942 г. накіраваўся з заданнем у Барысаўскі раён, па дарозе «мабілізаваў» у Полацкім раёне мясцовых маладых людзей, якія, аднак, аказаліся «ненадзейнымі»[24]. Клімаў, сакратар Мінскага абкама КП(б)Б, пісаў у сваёй справаздачы за жнівень 1942 г., што партызанскі атрад «Стары» летам 1942 г. панёс вялікія страты і страціў шмат партызанаў, а пасля працягваў: «Мела месца таксама дэзерцірства так званых мабілізаваных з Полацкага раёна»[25].

Увосень 1943 г. камандаванне 124-га партызанскага атрада, які дзейнічаў на паўночны ўсход ад Магілёва, скардзіўся на цяжкасці ў разгортванні брыгады, што былі выкліканыя памылкамі брыгады «Звязда». Бо брыгада «Звязда», маўляў, восенню 1942 г. правяла

> ганебную і нясвоечасовую мабілізацыю мясцовага насельніцтва ў партызанскія атрады. А пазней, у лістападзе 1942 г., яна адпусціла некаторых

[21] Справаздача айнзацгрупы В паліцыі бяспекі і СД пра дзейнасць і становішча за перыяд ад 15 лістапада да 15 снежня 1942 г., 29 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 655, воп. 1, спр. 3, арк. 6).

[22] Паведамленне Цімафея Ермаковіча Клімаву пра дзейнасць партызанскіх атрадаў у Мінскай вобласці і пра свае назіранні ў Мінскай вобласці ад 29 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1081, л. 55—58).

[23] Загад № 20 камандзіра партызанскімі атрадамі ў глыбокім тыле падпалкоўніка Пасвінчука ад 20 жніўня 1942 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 39, арк. 3 і наст.).

[24] Паведамленне «Старога» пра пераход ягонага атрада на аператыўную тэрыторыю ў Барысаўскім раёне ад 8 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 44 і наст.).

[25] Клімаў П. Панамарэнку, 14 жніўня 1942 г. (копія) (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 10, л. 10 — 11 об.).

мабілізаваных дадому. Частка мабілізаваных дэзерціравала з партызанскага атрада, а той-сёй з іх уступіў нават у паліцыю[26].

У лістападзе 1942 г. савецка-ўкраінскія партызанскія злучэнні ў Палескай і Гомельскай абласцях пачалі шырокамаштабную кампанію па мабілізацыі і выклікалі ў насельніцтва паніку і хваляванне. У кастрычніку 1943 г. адзін з партызанскіх камандзіраў з Палескай вобласці, Вятроў, скардзіўся Панамарэнку:

> Украінскія і малдаўскія атрады папоўнілі свае шэрагі і сфармавалі новыя атрады, прымусова мабілізаваўшы беларускае насельніцтва. Але ж яно хацела б пайсці ў мясцовыя атрады. Гэтая мабілізацыя адбылася без абмеркавання з мясцовымі партыйнымі органамі і без усялякай масава-палітычнай працы. Такія мабілізацыі Сабураў праводзіў у лістападзе 1942 г. у Хойніцкім, Васілевіцкім, Калінкавіцкім, Мазырскім, Ельскім, Лельчыцкім і іншых раёнах. Мабілізацыя праводзілася без разбору, вельмі часта яны бралі ў атрады людзей ненадзейных і нават варожа настроеных. Ім выдавалі савецкую зброю, а яны, узброеныя, потым дэзерціравалі. Для барацьбы з гэтымі [...] дэзерцірамі ўкраінскае партызанскае камандаванне пасылала спецыяльныя карныя атрады. Яны без разбору знішчалі людзей, спасылаючыся, што расстрэльваюць дэзерціраў. [...] Напрыклад, атрад Слюсарава паслаў групу пад камандаваннем Бондарава. Гэтая група ўчыняла, часта ў п'яным стане, расстрэлы «дэзерціраў» без загада камандавання і да таго яшчэ часта не ў атрадах, а ў вёсках, на вачах у насельніцтва, што выклікала ў насельніцтва абурэнне. [...] Некаторыя партызаны, якія ўцяклі з украінскіх і малдаўскіх падраздзяленняў, хаваліся ад [мясцовых] партызанаў, бо баяліся, што іх расстраляюць. Гэтым карыстаецца гестапа і арганізуе банды і фальшывыя атрады, якія дзейнічаюць у лясах. Яны скарыстоўваюць партызанскую тактыку і ваююць супраць партызанаў. Такую банду, фальшывы атрад, гестапа арганізавала ў Ельскім раёне пад камандаваннем нейкага Мікалая Смірнова, ён палюе на партызанаў і знішчыў ужо нямала партызанскіх разведчыкаў Ельскай брыгады[27].

Вятроў скардзіўся таксама на рабаўніцтвы і бесцырымонную канфіскацыю прадуктаў харчавання ў Палескай вобласці з боку «ўкраінскіх» і «малдаўскіх» злучэнняў. Але партызаны Сабурава лютавалі і на ўкраінскіх тэрыторыях. З рэгіёна вакол Роўна ў студзені 1943 г. прыйшоў наступны крык аб дапамозе:

> У нашым аператыўным раёне з'явіўся 7-ы батальён атрадаў Сабурава. Партызаны гэтага падраздзялення займаюцца нечуванымі рабаўніцтвамі, бандытызмам і п'янствам, яны ездзяць па вёсках у нямецкай форме. Жыхароў, якія ўцякаюць у лес, яны расстрэльваюць[28].

[26] Выніковая справаздача камандзіра 124-га атрада 17-й Чырвонай партызанскай брыгады Кітаева ў Магілёўскай вобласці Марчука, 29 кастрычніка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 159, л. 187).

[27] Паведамленне сакратара Палескага абкама Вятрова Панамарэнку пра няправільную тактыку і заганныя паводзіны атрадаў украінскага і малдаўскага злучэнняў на тэрыторыі Палескай вобласці, 11 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 286, арк. 193—198).



Тут варта заўважыць, што гэта адбывалася, калі Сабураў і ягоныя атрады па асабістым заданні Сталіна былі на маршы з Бранскіх лясоў[29].

Прымусовыя мабілізацыі з пункту гледжання савецкіх партызанаў здаваліся неабходнымі, бо беларускае насельніцтва ў сваёй большасці адмаўлялася змагацца за Сталіна, партыю і савецкі рэжым. Партыйныя работнікі і партызанскія камандзіры, як правіла, асцерагаліся адкрыта гаварыць пра гэта ў справаздачах сваім начальнікам. Але ў тагачасных дакументах ёсць нямала сведчанняў, якія паказваюць, што беларусы ў сваёй большасці ішлі ў партызанскія атрады з неахвотай.

Сергін, начальнік штаба атрада «Мсцівец», які дзейнічаў у Мінскай вобласці, дакладваў у кастрычніку 1942 г.: «Немцы далі ўкраінцам і беларусам прывілеі, яны адпусцілі тутэйшых [ваеннапалонных] дадому. Гэта ўсё паўплывала на маральна няўстойлівыя элементы. Яны закрычалі: мы не будзем ваяваць»[30]. Ёсць таксама паведамленні, у якіх адкрыта гаворыцца пра варожыя адносіны да партызанаў. «Стары», які летам 1942 г. быў са сваім атрадам у Віцебскай і Мінскай абласцях, апісаў настрой насельніцтва Лепельскага і Бягомльскага раёнаў:

> Насельніцтва адносіцца да партызанаў надзвычай дрэнна. Вёскі поўныя правакатараў і паліцэйскіх. Ісці ў вёскі — небяспечна, мы ідзём па балоцістых лясах, вельмі цяжка, надзвычай цяжка. [...] Мы прыходзім у Бягомльскі раён, насельніцтва, як і ў Лепельскім раёне, настроена варожа[31].

Палкоўнік Нічыпаровіч у сваёй дакладной ад 29 кастрычніка 1942 г. быў больш стрыманым:

> Насельніцтва ў сваёй большасці заняло пазіцыю чакання, палітыку нейтралітэту. Гэта значыць, жыхары хочуць і чакаюць вяртання Чырвонай Арміі, яны падтрымліваюць партызанаў, як толькі могуць. Але яны не хочуць браць у рукі зброю і актыўна змагацца. Значыць, неабходна праводзіць палітыка-агітацыйную працу і зрабіць партызанскі рух усеагульным[32].

[28] Паведамленне Судаплатава П. Панамарэнку ад 25 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 22).

[29] Бялецкі начальніку Украінскага штаба партызанскага руху Стракачу, 19 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1027, л. 79—85). На арк. 84 напісана: «Сабураў адправіўся ў шлях [з Бранскіх лясоў] з асабістым даручэннем ад народнага камісара абароны таварыша Сталіна».

[30] Пратакол размовы, сярод іншага, з начальнікам штаба атрада «Мсцівец» капітанам Сергіным і камісарам атрада «Барацьба» Ансевым, 21 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 166).

[31] Паведамленне «Старога» пра пераход ягонага атрада на аператыўную тэрыторыю ў Барысаўскім раёне ад 8 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 44 і наст.).

[32] Дакладная палкоўніка У. Нічыпаровіча маршалу Варашылаву аб рэарганізацыі партызанскага руху ў БССР ад 29 кастрычніка 1942 г. (Тамсама. Л. 136—139).

Нічыпаровіч у дакладной запісцы рэкамендаваў для папаўнення шэрагаў партызанскіх атрадаў мабілізаваць мясцовых ваеннабавязаных жыхароў. Гэта адпавядала згаданаму ўжо загаду Сталіна № 189 ад 1 верасня 1943 г. аб «Задачах партызанскага руху»:

> Партызанскі рух павінен ахапіць увесь народ. Гэта азначае, што наяўныя ўжо атрады не павінны замыкаць свае шэрагі, а ўцягваць у партызанскую барацьбу ўсё больш шырокія шыхты насельніцтва. Побач з фармаваннем новых атрадаў неабходна ствараць сярод насельніцтва надзейныя партызанскія рэзервы, з якіх фармаваць новыя атрады. [...] Гэтыя схаваныя партызанскія рэзервы не павінны колькасна абмяжоўвацца, а залічаць да сябе ўсіх сумленных грамадзян і грамадзянак, якія жадаюць вызваліцца ад нямецкага ярма[33].

Савецкія партызанскія камандзіры не пакладаліся на быццам пануючую волю беларускіх грамадзян змагацца са зброяй у руках за «савецкую Айчыну». Таму самым правераным метадам, як і раней, заставаўся прымус. І гэта тычыцца не толькі тэрыторыі Беларусі. У жніўні 1942 г. камісар атрада імя Варашылава Гутараў, які дзейнічаў у Бранскіх лясах, звярнуўся да штаба Заходняга фронту з наступнай нагоды:

> Я прашу прыняць рашэнне адносна правядзення мабілізацыі ўсіх ваеннаабавязаных. Іх трэба ўключаць у баявыя партызанскія атрады, каб ператварыць іх у вялікія падраздзяленні Чырвонай Арміі ў тыле ворага[34].

Гэтай мерай Гутараў хацеў перашкодзіць немцам ствараць з ваеннаабавязаных мужчын злучэнні для барацьбы з партызанамі. Ліст быў неадкладна адпраўлены Панамарэнку, які на палях напісаў для свайго намесніка Уладзіміра Маліна: «Прашу абдумаць і абмеркаваць гэтае пытанне са мной»[35]. Панамарэнка даў жаданы дазвол, і ў лістападзе 1942 г. Ваенны савет Бранскага фронту загадаў з 18 лістапада 1942 г. пачаць праводзіць татальную мабілізацыю ў партызанскія атрады ваеннаабавязаных мужчын з 1900 да 1924 гадоў нараджэння. Тыя, хто супраціўляўся, падлягалі знішчэнню як ворагі народа[36].

Панамарэнка, аднак, вагаўся даваць усеагульны загад на мабілізацыю, які б меў сілу на ўсіх акупаваных немцамі тэрыторыях СССР. 4 лістапада 1942 г. нейкі Павел Драздоў, партызанскі камандзір ва Усходняй Украіне, звярнуўся да маршала Шапашнікава з прапановай выдаць загад па мабілізацыі ўсіх мужчын на акупаваных тэрыторыях

[33] Загад № 189 народнага камісара абароны Сталіна аб задачах партызанскага руху ад 5 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 3, л. 12—17).

[34] Ліст камісара партызанскага атрада імя Варашылава Гутарава Заходняму фронту, без даты, [жнівень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 174—175).

[35] Суправаджальны ліст Заходняга фронту П. Панамарэнку ад 21 жніўня 1942 г. і копія ліста камісара партызанскага атрада імя Варашылава Гутарава Заходняму фронту, без даты, [жнівень 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 173, 175).

[36] Загад па мабілізацыі грамадзян СССР, якія пражываюць на акупаваных тэрыторыях, у партызанскія атрады (копія), без даты, [да 18 лістапада 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1110, л. 45 і наст.).



ва ўзросце ад 16 да 45 гадоў. Загад неабходна было распаўсюджваць пры дапамозе ўлётак. Усіх, хто будзе адмаўляцца, — расстрэльваць[37]. 25 лістапада 1942 г. Малін адказаў: «Ваш ліст, што быў адрасаваны таварышу Шапашнікаву, мы атрымалі. Меры, якія Вы прапануеце ў сваім лісце, ажыццёўленыя быць не могуць, таму што яны грунтуюцца на скажоных высновах»[38]. Панамарэнка хацеў знешне пакінуць выгляд добраахвотнасці партызанскага руху.

Партызанскім камандзірам у Беларусі цалкам давалася воля, якім чынам праводзіць мабілізацыю мясцовага насельніцтва ў партызанскія атрады. Застаецца фактам, што колькасць зарэгістраваных Беларускім штабам партызанаў на беларускай тэрыторыі з лістапада 1942 г. да лістапада 1943 г. вырасла амаль у тры разы, менавіта з 45 002 да 122 641[39]. Гэты рост адбыўся ў першую чаргу праз рэкрутаванне мясцовых ваеннаабавязаных мужчын. Са студзеня да ліпеня 1944 г. партызанскі рух вырас яшчэ на 65 341 партызана. 94,7 % з іх было набрана з шэрагаў мясцовага насельніцтва, 5 % былі перабежчыкі і 0,3 % — адкамандзіраваныя з савецкага тылу[40].

Вельмі высокіх лічбаў росту партызанскі рух дасягнуў большай часткай, калі не найбольш, дзякуючы прымусовым мабілізацыям. Камандаванне Палескага злучэння ў сваёй справаздачы за жнівень 1943 г. галоўнымі задачамі партызанаў злучэння называла:

> Рост і ўзбраенне партызанскіх атрадаў, узмацненне баяздольнасці. [...] Мабілізацыя ўсяго насельніцтва на барацьбу з нямецкімі акупантамі. [...] 1 верасня 1943 г. у злучэнні маецца агулам 49 атрадаў. У жніўні былі сфармаваныя яшчэ 7 новых атрадаў. [...] Амуніцыя (выбухоўка, боепрыпасы, міны і снарады) маецца ў атрадах і брыгадах злучэння ў нязначнай колькасці. Пры большасці атрадаў утвораныя рэзервовыя атрады, у якіх людзі праходзяць падрыхтоўку[41].

1 верасня 1943 г. Палескае злучэнне мела 17 рэзервовых атрадаў, а агульная колькасць партызанаў Палескага злучэння без рэзерваў налічвала 7 299 чалавек. У жніўні агульная колькасць партызанаў з прыблізна 6 000 байцоў павялічылася на 1 040 чалавек, без уліку рэзерваў. Колькасць жа вінтовак вырасла толькі на 311 штук, аўтаматаў — на 126, лёгкіх кулямётаў — на 7 і гранатамётаў — на 2[42].

[37] Павел Драздоў маршалу Шапашнікаву, 4 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1110, л. 43 і наст.).

[38] Малін Драздову, 25 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1110, л. 44).

[39] Дыяграма аператыўнага аддзела ЦШПР пра рост партызанскага руху на часова акупаванай тэрыторыі СССР, без даты, [студзень 1944 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 22).

[40] Баявыя вынікі партызанскіх атрадаў Беларусі ў барацьбе з нямецкімі агрэсарамі ў 1944 г., без даты (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 101).

[41] Справаздача пра дзейнасць Палескага партызанскага злучэння за жнівень 1943 г., дата паступлення ў БШПР — 23 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 286, арк. 155—163).

[42] Тамсама.

Як ужо згадвалася, жыхары Палескай вобласці не пагаджаліся добраахвотна ісці ў партызаны, прычым яны нават аказвалі супраціў мабілізацыі. Камандзіры Палескага злучэння ўскладалі за гэта адказнасць на савецка-ўкраінскія злучэнні, якія з лістапада 1942 г. праводзілі масавую прымусовую мабілізацыю ў раёне і пры гэтым здзяйснялі шматлікія злачынствы. Шклоўскі падпольны раённы камітэт КП(б)Б Магілёўскай вобласці 27 лістапада 1943 г. прыняў рашэнне дасягнуць далейшага хуткага росту партызанскіх атрадаў «праз асветніцкую працу і, калі трэба, праз мабілізацыю насельніцтва». Было вырашана, што ўсіх навічкоў, прынятых у атрады, неабходна, калі не будзе хапаць зброі, забяспечыць рыдлёўкамі, сякерамі і піламі[43].

Аляксандр Шуба, партызанскі камандзір, які дзейнічаў са сваім падраздзяленнем на паўднёвым усходзе Мінскай вобласці, абмалёўваў сваю мабілізацыйную палітыку наступным чынам:

> Да блакады [у 1944 г.] я праводзіў наступную палітыку: была вёска Рухава, там размяшчаўся 5-ы атрад. Жыхары вёскі дапамагалі нам, аднак баяліся ісці ў партызаны. Я размясціў у вёсцы роту [...] і абавязаў вясковую моладзь ваяваць. [...] Хацелі яны таго ці не, але яны сталі партызанамі[44].

У лютым 1943 г. брыгада «Жалязняк», якая дзейнічала ў Бягомльскім раёне, дакладвала: «Частка насельніцтва была забрана ў атрады, частка ў групы самаабароны, а частка працуе на партызанаў дома ці ў атрадах»[45]. У кастрычніку 1943 г. і вясной 1944 г. брыгада «Жалязняк» займалася мабілізацыяй таксама ў вёсцы Карбаноўшчына і ў суседніх вёсках (Плешчаніцкі раён, Мінская вобласць): з 10 да 12 кастрычніка былі рэкрутаваныя мужчыны да 40 гадоў, 9 студзеня — да 45 гадоў, а 1 лютага 1944 г. — яшчэ раз мужчыны ва ўзросце да 45 гадоў. Ад мабілізацыі можна было адкупіцца пудам (16,38 кг) солі ці, напрыклад, абуткам. Астатнія, хто не меў што даць, хаваліся[46].

І нямецкія органы пацвярджаюць, што партызаны ў Беларусі праводзілі масавае прымусовае рэкрутаванне. У дакладзе Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча бандаў ад 4 чэрвеня 1943 г. гаворыцца:

> 3-я танкавая армія: 1) Агульнае становішча: У месяцы маі банды ўзмацніліся дзякуючы прымусовым мабілізацыям і паветраным шляхам, асабліва ў раёне Расонаў. [...] Дзейнасць бандаў такая самая, як і раней: напады і

[43] Загад ваенна-аператыўнай групы пры Шклоўскім падпольным райкаме ад 27 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 88, арк. 117).
[44] Стэнаграма размовы з Аляксандрам Шубам ад 11 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 45 і наст.).
[45] Вытрымка са справаздачы пра становішча і дзейнасць брыгады «Жалязняк» за студзень 1943 г., [люты 1943 г.] (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 39, арк. 6 і наст.).
[46] Ліст ад В. Шэлега (магчыма, старасты вёскі) з вёскі Карбаноўшчына Плешчаніцкага раёна ў Мінскі абкам ад 9 лютага 1944 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 20, арк. 294).



> падрывы транспартных ліній, усяленне неспакою ў насельніцтва, пабory і рабаўніцтва, а таксама прымусовае рэкрутаванне[47].

У Баранавіцкай вобласці партызанскія камандзіры праводзілі мабілізацыю паводле вуснага распараджэння ці праз загад аб прызыве. Як прыклад, прывядзём загад № 322 камандзіра партызанскага атрада Дзенісенкі, выдадзены ў верасні 1942 г.[48]:

> Загад № 322
>
> На падставе загадаў Народнага камісара абароны, палкаводца і правадыра народаў СССР, кіраўніка Партыі бальшавікоў і Савецкага ўрада таварыша СТАЛІНА!!!
>
> ЗАГАДВАЮ!!!
>
> Для рашучай барацьбы з фашысцкімі сабакамі гітлераўскай Германіі, для абароны нашай Радзімы мабілізаваць наступных таварышаў жыхароў вёскі Новае Сяло і прыняць у партызанскія атрады:
>
> Сініцу Паўла Захаравіча,
> Чарадойла Сяргея Мікалаевіча,
> Кеду Уладзіміра Антонавіча,
> Кеду Мікалая.
>
> У выпадку адмовы названых вышэй таварышаў ісці ў партызаны, альбо ў выпадку іх уцёкаў з атрада, іх трэба разглядаць як здраднікаў, нямецкіх рабаўнікоў, як здраднікаў Айчыны, за што кожнага з іх чакае жорсткая кара з боку партызанскага руху.
>
> Кожны такі чалавек будзе расстраляны як гітлераўскі сабака.
> За поўны разгром нямецкіх акупантаў!!!
> Смерць нямецкім акупантам!!!
> Няхай жыве наша слаўная Радзіма,
> яе свабода,
> яе незалежнасць!!!
>
> Камандзір атрада (Дзенісенка)

Брыгада імя Фрунзэ, якая зімой 1942/43 гг. сфармавалася ў рэгіёне вакол Налібоцкай пушчы, складалася ў асноўным з партызанаў, якіх мабілізавалі[49]. У 1943 г. партызаны мабілізавалі новых людзей з раёна вакол Налібоцкай пушчы ў Баранавіцкім, Навагрудскім, Валожынскім, Стаўбцоўскім раёнах, а таксама ў суседніх раёнах Мінскай вобласці[50]. У 1944 г. яны працягвалі праводзіць прымусовую мабілізацыю. 25 лютага 1944 г., напрыклад, камандзір злучэння Шчучынскага падпольна-

[47] Месячная зводка Галоўнага камандавання групы армій «Цэнтр» пра становішча з бандамі, 4 чэрвеня 1943 г. (BA-MA. 19 II/171, Bl. 36).
[48] НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 263, арк. 327; надрукавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 42 і наст.
[49] Паведамленне Дубава пра стан брыгады імя Фрунзэ, 3 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 32, арк. 10).
[50] Паведамленне Навагрудскай акругі Арміі Краёвай пра становішча ў акрузе ад 30 студзеня 1944 г. (AAN. Mf M-B582/1—2 (f. R—601, ap. 1, vien. 36, l. 1 і наст.)).

га міжрайпартцэнтра загадаў мабілізаваць для службы ў партызанскіх атрадах усіх мужчын з 1918 да 1925 гадоў нараджэння[51].

Зразумела, што гэтыя мерапрыемствы сутыкаліся і з супрацівам. Партыйнае кіраўніцтва Глыбоцкага раёна (Вілейская вобласць) 27 лютага 1944 г. ганіла партыйна-палітычную працу партызанскага атрада імя Панамарэнкі сярод насельніцтва наконт фармавання рэзерваў:

> Калі з'явілася неабходнасць папоўніць шэрагі атрада, трэба было мабілізаваць сілай, таму што не было рэзерваў. Сярод мабілізаваных ёсць 16- і 17-гадовыя юнакі. Некаторыя не хацелі ісці ў атрады, з іх [... — нечытэльна] чалавек дэзерціравалі. Адзін адмовіўся даваць партызанскую клятву, за гэта ён быў расстраляны. З-за няправільнай мабілізацыйнай працы і дрэнных паводзін некаторых байцоў [...], у некаторых вёсках распаўсюдзілася незадавальненне партызанамі, а насельніцтва пры з'яўленні партызанаў хаваецца[52].

Няма меркаванняў, не кажучы ўжо пра дакладныя лічбы, пра колькасць прымусова мабілізаваных партызанаў у Беларусі і ўвогуле ў СССР. Але трэба зыходзіць з таго, што большасць партызанаў у Беларусі не былі добраахвотнікамі. Іх прымушалі сілай ці пагрозай расстрэлу.

Савецкая ж прапаганда і гістарыяграфія сцвярджалі адваротнае. Панамарэнка ў сваёй кнізе пра гісторыю савецкага партызанскага руху насуперак праўдзе пісаў, што ў партызанскія атрады «грамадзяне» не мабілізаваліся, што прымаліся толькі добраахвотнікі[53].

## 4. Жанчыны ў партызанскім руху

Савецкі партызанскі рух быў перш за ўсё мужчынскай справай. У баявых падраздзяленнях у Беларусі жанчыны складалі 7,83 % (15 304) усіх партызанаў. Але яны адыгрывалі важную ролю як разведчыцы-агенты і кур'еры, якія, аднак, не ўваходзілі ў штат падраздзяленняў. Паводле дадзеных ліквідацыйнай групы Беларускага штаба, з 24 021 разведчыка-агента 16 800 (70 %) былі жанчыны, у кур'ераў суадносіны былі 11 740 (61,99 %) да 18 938 агулам[54].

Савецкая прапаганда ў час вайны і потым моцна падкрэслівала ролю і малявала гераічны і рамантычны вобраз жанчын-партызанак, якія ў небяспечных аперацыях бясстрашна рызыкавалі сваім жыццём за партыю і савецкую Радзіму. Для прыкладу назавём культ Зоі

[51] Загад № 9 упаўнаважанага ЦК КП(б) і БШПР у Шчучынскім міжраённым цэнтры ад 25 лютага 1944 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 82, арк. 59).
[52] Рашэнне райкама партыі ад 27 лютага 1944 г. аб партыйна-палітычнай рабоце партызанскага атрада імя П. Панамарэнкі, падпісанае сакратаром райкама Пархімовічам (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 492, арк. 203).
[53] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 142.
[54] Зводка колькасці партызанаў, якія дзейнічалі на беларускай тэрыторыі падчас Айчыннай вайны, падрыхтаваная Раманавым і Разанавым з ліквідацыйнай групы БШПР, 1 жніўня 1946 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 8).



Касмадзям'янскай, якую арыштавалі ў снежні 1941 г., калі яна рыхтавалася падпаліць вёску на захад ад Масквы, каб выканаць загад Сталіна «Гані немца на холад». Але вяскоўцы, нібыта, выдалі яе немцам. Яе катавалі і нарэшце павесілі[55].

Панамарэнка пісаў пасля вайны, што «сярод камандзіраў партызанскіх атрадаў было нямала жанчын». Але ён назваў мала прыкладаў і ніякіх лічбаў. Далей Панамарэнка сцвярджаў: «Жанчыны-партызанкі бралі ўдзел у баявых аперацыях і дыверсійнай працы, сярод іх былі снайперы, кулямётчыкі, падрыўнікі, лекары, фельчары, адважныя мядсёстры і санітаркі»[56]. Панамарэнка, праўда, не згадвае, што жанчыны працавалі яшчэ і радысткамі. Школу радыстаў партызанскага руху скончылі з 1942 да красавіка 1944 г. агулам 1 224 падрыхтаваныя радысты, з іх 470 (38,3 %) былі жанчыны і 754 — мужчыны[57].

Адносна малая доля жанчын (7,83 працэнты), што служылі ў партызанскіх падраздзяленнях, — з якіх зноў-такі толькі вельмі малая частка ўдзельнічала ў баявых аперацыях — у першую чаргу ўзаемазвязана з умовамі ў партызанскіх атрадах. Становішча жанчын у атрадах было надзвычай далікатным і вельмі складаным. Жанчыны-партызаны мусілі трываць загрубелае ад вайны і часткова дэмаралізаванае мужчынскае атачэнне. Атмасфера, якая панавала ў большасці партызанскіх атрадаў, была ў адносінах да жанчын надзвычай варожай ці нават пагардлівай. Гэтая праблематыка Панамарэнку і яго супрацоўнікам была вельмі добра вядомая, і яны імкнуліся процістаяць гэтаму, праўда, не вельмі актыўна і з малым поспехам.

Ёсць фактам, што савецкае кіраўніцтва з самага пачатку імкнулася прыцягнуць жанчын да партызанскага руху. 12 жніўня 1941 г. бюро Цэнтральнага камітэта КП(б)Б вырашыла, каб у толькі што створанай партызанскай школе пад Гомелем вучыліся і жанчыны. Кожны дзень для падрыхтоўкі ў школе неабходна было пасылаць 20 жанчын[58]. Праўда, аўтару невядомыя дадзеныя, наколькі змагло быць выканана гэтае рашэнне.

У рамках дадзенага даследавання не ўдалося знайсці дакументы за 1941 і 1942 гг., якія б сведчылі пра адзіную жаночую палітыку ў партызанскім руху. Гэта і не дзіўна, бо партызанскі рух разгортваўся ў Беларусі з вясны 1942 г. галоўным чынам спантанна. Беларускі штаб партызанскага руху быў заснаваны толькі ў верасні 1942 г., а яго першыя мерапрыемствы пачалі дзейнічаць у кастрычніку 1942 г. Да таго часу асобныя арганізатары партызанскага руху і партызанскія камандзіры варыліся ва ўласным соку.

[55] Старинов И. Записки диверсанта... С. 244 і наст.; Overy R. Russlands Krieg... S. 196. Кенэт Сляпян (Slepyan K. Stalin's Guerrillas... P. 194—206) першым крытычна заняўся роляй і становішчам савецкіх партызанак.
[56] Пономаренко П. К. Всенародная борьба... С. 128.
[57] Справаздача пра дзейнасць школы радыстаў партызанскага руху за перыяд са студзеня 1942 г. да красавіка 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 5, д. 247, л. 39).
[58] Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы кадраў з жанчын для дыверсійнай працы ў тыле праціўніка ад 12 жніўня 1941 г., надрукаваная ў: Органы государственной безопасности... Т. 2. Кн. 1. С. 476.

12 чэрвеня 1942 г. сакратар Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б Стулаў рэкамендаваў прызначаць у падпольныя структуры камуністычнай партыі ў гарадах Віцебскай вобласці, якія яшчэ трэба было стварыць, галоўным чынам жанчын, бо нямецкі тэрор накіраваны ў першую чаргу супраць мужчын[59]. 23 чэрвеня 1943 г. сакратар Суражскага падпольнага райкама КП(б)Б Бардзіян далажыў пра становішча ў раёне. Ён сцвярджаў, што дзякуючы ягонай партыйна-палітычнай працы сярод насельніцтва партызанскі рух значна вырас. У прыватнасці, да партызанаў пайшлі многія маладыя жанчыны. У атрадзе Курмялёва мелася 22 жанчыны, у Гурко — 11, у Райцава — 15 і 9 — у Біруліна. Жанчыны разам з мужчынамі змагаюцца са зброяй у руках, сцвярджаў Бардзіян[60].

Хоць гэтая арыентаваная на жанчын палітыка была ў палітыка-ідэалагічным сэнсе карэктнай і пажаданай, неўзабаве, аднак, стала вельмі праблематычнай. Камісар брыгады «За Савецкую Беларусь» у Расонскім раёне інспектаваў у ліпені 1942 г. атрад «Сяргея», які ўваходзіў у брыгаду. На месцы ён выявіў «татальны развал дысцыпліны». «Камандаванне дапусціла легкадумнасць і не прыняло супраць гэтага ніякіх мер. Я назіраў сярод партызанаў распусту. [...] Камандаванню быў дадзены загад паменшыць у атрадзе колькасць жанчын»[61].

Атрад «Сяргея» не быў выключэннем. 19 верасня 1942 г. партызанскае камандаванне Віцебскай вобласці занялося дысцыплінай, асабліва п'янствам і маральным разлажэннем у партызанскіх атрадах вобласці. Канстатавалася сярод іншага:

> У брыгадах таварышаў Мельнікава, Шмырова, Дзячкова і іншых ёсць шмат байцоў і камандзіраў атрадаў, якія маюць жонак і дзяцей. Яны пажаніліся [маючы на ўвазе партызанскія шлюбы], а некаторыя з іх ажаніліся з жанчынамі, якія не заслугоўваюць даверу. Такія факты аслабляюць іх баяздольнасць, яны вядуць да аслаблення пільнасці ў партызанскіх злучэннях, яны разбураюць аўтарытэт і выклікаюць варожыя адносіны насельніцтва да партызанаў[62].

Здараліся таксама шматлікія злоўжыванні з боку партызанаў датычна жанчын. 13 снежня 1942 г., напрыклад, Сіроцінскі падпольны райкам КП(б)Б наладзіў танцы, на якія прыйшоў і Васіль Фралоў, камісар брыгады Кароткіна і адначасова сакратар Сіроцінскага падпольнага райкама КП(б)Б. У п'яным стане ён ударыў адну жанчыну па твары. Пруднікава, так звалі тую жанчыну, ударыла ў адказ. Тады па загадзе

[59] Паведамленне сакратара Віцебскага абкама І. Стулава пра партыйнае падполле ў Віцебскай вобласці ад 12 чэрвеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 215, арк. 54).
[60] Паведамленне сакратара Суражскага райкама Бардзіяна пра становішча ў Суражскім раёне за перыяд з 1 да 20 чэрвеня 1942 г., 23 чэрвеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 154, без нумарацыі аркушаў).
[61] Паведамленне камісара брыгады «За Савецкую Беларусь» Раманава за перыяд з 1 ліпеня да 31 ліпеня 1942 г., 5 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1080, л. 18).
[62] Пратакол № 12 ад 19 верасня 1942 г. пасяджэння бюро Віцебскага абкама (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 69 і наст.).



Фралова яна была расстраляная камандзірам атрада Гарбаценкам і яго ад'ютантам Мальцовым. Інцыдэнт выклікаў вялікае незадавальненне сярод партызанаў і насельніцтва. Партыйнае кіраўніцтва аб'явіла Фралову за гэта вымову і вызваліла яго ад пасады сакратара раённага камітэта. Пра нейкія іншыя захады наконт гэтага забойства невядома[63].

На пасяджэнні бюро Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б ад 16 красавіка 1943 г. партыйныя таварышы абмяркоўвалі справу Міхаіла Ахмедчыка, камандзіра 2-га атрада брыгады «Аляксея». «Выявілася», так запісана ў пратаколе пасяджэння,

> што Ахмедчык пастаянна піў і меў дзвюх жонак. 19.01.1943 г. ён піў з камандзірам атрада Антоненкам, яны дамовіліся, што партызанка Таццяна Яўсеева пойдзе з Ахмедчыкам. Пасля гэтага Ахмедчык прапанаваў Яўсеевай заняцца з ім інтымнымі зносінамі. Яна адмовіла яму. Пасля гэтага Ахмедчык пачаў пагражаць ёй зброяй, ён выпусціў чаргу з аўтамата. Потым ён згвалтаваў Яўсееву.

Бюро пастанавіла зацвердзіць рашэнне Лёзненскага падпольнага райкама КП(б)Б выключыць Ахмедчыка з партыі[64].

Паводле дадзеных начальніка Беларускага штаба Калініна, члены дыверсійнай групы ГРУ Чорнага, якая дзейнічала ў Жыткавіцкім раёне (Палеская вобласць), расстралялі «нямала маладых жанчын, што адмаўляліся спаць з імі». Сярод іх былі і дзве разведчыцы атрада «Першага мая»[65]. 24 красавіка 1943 г. адзін п'яны камандзір атрада брыгады Кірылава, які дзейнічаў у Лёзненскім раёне (Віцебская вобласць), аддаў сваім партызанам загад «за брудныя справы затрымаць партызанку Рабцаву»[66]. Чым закончылася гэтая «акцыя», да нас не дайшло. На думку Герасімава, камандзіра брыгады, якая дзейнічала ў Асвейскім раёне, камандзір атрада «КІМ» Галубкоў быў марадзёрам і п'яніцам. Акрамя таго, разважае Герасімаў,

> таварыш Галубкоў ажаніўся ў атрадзе. Ужо [афіцыйна] жанаты, ён выкарыстоўваў партызанак свайго атрада. Маці Таццяны Хароценка ён даў карову, каб яна пераспала з ім. Сям'і Веры Хатко ён даў каня за тое самае. Таццяну ж Шаблоўскую ён на тыдзень запёр у лазні, бо яна адмовіла яму[67].

[63] Пратакол № 19 ад 14 сакавіка 1943 г. пасяджэння бюро Віцебскага абкама (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 106—110); радыёграма начальніка асобага аддзела брыгады Кароткіна начальніку ГРУ Калітаеву, № 39239 ад 27 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 1, арк. 39).
[64] Пратакол № 21 ад 16 красавіка 1943 г. пасяджэння бюро Віцебскага абкама (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 119).
[65] Начальнік БШПР Калінін П. Панамарэнку, 31 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 345 і наст.).
[66] Пратакол № 1 пасяджэння Лёзненскага райкама ад 23 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 258, арк. 5 і наст.).
[67] Паведамленне інспектара Віцебскага абкама Шэндзелева ад 29 жніўня 1943 г. пра самапраўныя расстрэлы ў брыгадзе Герасімава (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 256, арк. 380 і наст.).

Тут варта згадаць і паведамленне за чэрвень 1942 г. з Суражскага раёна, што мясцовыя партызанскія атрады прынялі ў свае шэрагі маладых жанчын. Сярод іх быў і атрад, пазней брыгада, Райцава. Паводле гэтага паведамлення, Райцаў з 1 да 20 чэрвеня 1942 г. прыняў у свой атрад 15 жанчын[68]. Праўда, Райцаў абыходзіўся з гэтымі жанчынамі так, быццам гэта быў яго асабісты гарэм. Ягонай справай займаліся члены бюро Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б на пасяджэнні 18 верасня 1943 г.:

Ён [Райцаў] злоўжываў сваім службовым становішчам і спаў з многімі сваімі падначаленымі партызанкамі. [...] У брыгаду прыйшлі маладыя жанчыны — члены сем'яў паліцаяў і засланыя немцамі шпіёнкі. Пасля таго як іх выкрылі, Райцаў яшчэ доўга ўтрымліваў іх пры штабе брыгады і ўступаў з імі ў палавыя зносіны[69].

Бюро аб'явіла Райцаву строгую вымову і прыгразіла, што ён будзе вызвалены ад сваёй пасады, калі не выправіцца[70].

Некаторыя «партызанскія шлюбы» канчаліся трагічна. Начальнік асобага аддзела 4-й Беларускай брыгады паведамляў у кастрычніку 1943 г. пра наступны выпадак:

У 1942 г. былы камісар брыгады Касаткін займаўся выключна п'янствам і бабамі. У час адной п'янкі з камандзірам аднаго з нашых атрадаў, Масленікавым, дайшло да перастрэлкі. Масленікаў разам з групай сваіх партызанаў застрэліў камісара Касаткіна, яго ад'ютантаў і яго жонку. Камандзір атрада, акрамя таго, займаўся марадзёрствам і самавольнымі расстрэламі цывільных людзей, у снежні 1942 г. па загадзе брыгаднага камандавання ён быў расстраляны[71].

Навум Кавалёў, партызанскі камандзір з Баранавіцкай вобласці, атрымаў у маі 1943 г. атрад «Грознага» і адразу зрабіў крокі, каб навесці дысцыпліну ў цалкам дэмаралізаваным атрадзе (забойствы, п'янства, рабаўніцтва). Пры гэтым яму давялося ўжыць жорсткія меры:

Я расстраляў першага марадзёра, закаранелага марадзёра. [...] Я застрэліў і яго жонку, бо ў яе знайшлі склад з нарабаванымі рэчамі. Я паставіў іх перад атрадам і расстраляў, нарабаваныя рэчы мы раздалі назад насельніцтву[72].

---

[68] Паведамленне сакратара Суражскага райкама Бардзіяна пра становішча ў Суражскім раёне за перыяд з 1 да 20 чэрвеня 1942 г., 23 чэрвеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 154, без нумарацыі аркушаў).
[69] Пратакол № 24 пасяджэння бюро Віцебскага абкама ад 18 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 132—136).
[70] Тамсама.
[71] Вытрымка з паведамлення начальніка асобага аддзела 4-й Беларускай партызанскай брыгады ад 30 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 127, арк. 232).
[72] Стэнаграма размовы з Навумам Кавалёвым ад 1 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 8).



Рэўнасць таксама патрабавала ахвяр. Камандзір атрада 1-й Беларускай партызанскай брыгады Варапаеў у 1943 г. застрэліў аднаго са сваіх камандзіраў узводаў, таму што яны паспрачаліся з-за адной з яго шматлікіх жанчын[73]. Чаркасаў, камандзір атрада імя Будзённага, які дзейнічаў у Вілейскай вобласці, паслаў сваю «жонку», партызанку Каварскую, з групай на заданне і загадаў падчас аперацыі застрэліць яе. Маці Каварскай, якая таксама была ў атрадзе, ён распарадзіўся забіць. Прычынай для гэтага падвойнага забойства, відавочна, былі іншыя жанчыны[74].

У верасні 1943 г. інструктар Кіціца правяраў па даручэнні Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б брыгады Воранава, Кароткіна і Мельнікава, якія дзейнічалі ва Ушацкай зоне. У брыгадзе Мельнікава Кіціца выявіў шматлікія непаладкі, у тым ліку неахайнасць, недысцыплінаванасць, амаральнасць, п'янства і злоўжыванні ў адносінах да насельніцтва, а таксама дрэннае абыходжанне з жанчынамі:

Напрыклад: у 1-м атрадзе ажаніліся камандзір атрада Конеў і начальнік штаба, таварыш Стральцоў, яны трымаюць жонак у штабе і забяспечваюць іх розным барахлом. [...] У штабе 3-га атрада стаіць збан з самагонам, і начальнік штаба Плехатнёў п'е цэлымі днямі і п'яны вяртаецца да сваіх байцоў. 9.9.1943 г. у штабе ляжала на ложку п'яная маладая жанчына (сакратарка). Я спытаў, што з табой, а яна адказала: «Я зашмат выпіла»[75].

Тут былі прыведзеныя найперш прыклады з Віцебскай вобласці. Аднак Віцебская вобласць была ў Беларусі не выключэннем, а правілам. Маёр Топкін знаходзіўся ў Брэсцкай вобласці з лістапада 1942 г. да сакавіка 1943 г. з заданнем арганізаваць і актывізаваць партызанскі рух на месцы. Ён пры гэтым выявіў шмат непаладак, у тым ліку і ў жаночым пытанні:

У кожным атрадзе знаходзіліся 2—3 жанчыны. Раней іх было шмат. Але з гэтага нічога не атрымалася, іх ігнаравалі. Вінаватымі ў гэтым былі камандзіры атрадаў. Яны жаніліся і не ваявалі. Я іх усіх развёў і папярэдзіў, што калі яны будуць працягваць гэтак рабіць, я прыму меры. [...] Я пакінуў у атрадах толькі некалькі жанчын, толькі тых, якія ваявалі, якія бралі ўдзел у аперацыях. Жанчын-усходніц вельмі мала. [...] У асноўным гэта мясцовыя жанчыны, камсамолкі. У атрадзе імя Шчорса былі выпадкі прастытуцыі. Усе жанчыны ў гэтым атрадзе жылі з мужчынамі. Мы нікога не прыбралі (г. зн. не расстралялі), але я паклікаў камандзіра атрада да сябе і на працягу 10 дзён трымаў яго пры сабе. Ён думаў, што я расстраляю яго, але я пабэсціў яго, і потым было ўсё ў парадку. Я застрэліў адну польку. [...] Яна была са

---

[73] Паведамленне начальніка разведвальнага атрада 1-й Беларускай партызанскай брыгады Філімонава ад 24 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 756, л. 110 і наст.).
[74] Пратакол пасяджэння Вілейскага абкама ад 14 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1334, воп. 1, спр. 5, арк. 20—33).
[75] Паведамленне інспектара Віцебскага абкама Кіціцы ад 19 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 3, арк. 88 і наст.).

Слоніма. У атрадзе яна за тры месяцы тры разы выходзіла замуж. [...] яна паводзіла сябе задзірліва і разбэшчвала партызанаў. Як толькі партызан жэніцца, то пачынаецца сямейнае жыццё. Калі яго пасылаюць на заданне, жонка плача і не адпускае яго[76].

Падобныя праблемы мела партыйнае кіраўніцтва Бярэзінскага раёна з брыгадай імя Шчорса пад камандаваннем Дзербана, якая дзейнічала ў раёне. Абставіны ў брыгадзе 1 ліпеня 1943 г. сакратар падпольнага райкама КП(б)Б апісаў наступна:

У брыгадзе амаль усе камандзіры пажаніліся. [...] Само сабой разумеецца, што не ў тым праблема, што яны пажаніліся. Праблема ў тым, што яны ўзялі сабе маладых жанчын, якім яны, як я ўпэўніўся, удзяляюць амаль усю сваю ўвагу. Яны абыходзяцца з гэтымі жанчынамі не як з байцамі, а як з наложніцамі [г. зн. з сужыцелькамі] і прадметам для забаў. У выніку некаторыя камандзіры амаль увогуле не ўдзельнічаюць у баявых і гаспадарчых аперацыях. Яны даручаюць гэта другарадным асобам, а апошнія, як я пераканаўся, кажуць, «што, мне больш трэба, я таксама хачу жыць», і не выконваюць даручэнні. [...] Пры гэтым трэба сказаць, што жонкі камандзіраў увогуле ніякай карыснай працы ў атрадах не робяць, яны ў атрадзе, як распавядаюць партызаны, толькі нахлебніцы. Несумненна, гэтыя з'явы выклікаюць справядлівыя скаргі партызанаў на сваіх камандзіраў. [...] Сваімі амаральнымі паводзінамі некаторыя камандзіры кампраметуюць сябе не толькі ў вачах партызанаў, але і ў вачах насельніцтва. Акрамя таго, здараюцца выпадкі, калі асобныя камандзіры прымушаюць партызанак спаць з імі. Напрыклад, камандзір атрада імя Варашылава Юданаў прымусіў Зіну Сіняк, партызанку з яго атрада, спачатку жыць сумесна, а потым, калі яна была на чацвёртым месяцы цяжарнасці, зрабіць аборт. Сярод камандзіраў, як і партызанаў брыгады, квітнее алкагалізм. У выніку п'янства ў брыгадзе сярод партызанаў здараліся раненні і забойствы адзін аднаго[77].

У Гомельскай вобласці дзейнічаў атрад пад камандаваннем Шамякіна, які ў жніўні налічваў да 600 партызанаў, у тым ліку каля 50 жанчын. Большасць жанчын, аднак, паводле паведамлення аднаго радыста, які выконваў там заданне, не прыносіла ніякай карысці, толькі амаральнасць. У атрадзе панавала сексуальная разбэшчанасць, а яе ініцыятары — камандзір атрада Шамякін і начальнік разведкі Шанін[78]. Начальнік асобага аддзела 277-га партызанскага палка, які дзейнічаў каля Магілёва, летам 1943 г. апісваў свайму начальніку абставіны ў палку наступным чынам:

[76] Пратакол размовы з маёрам Топкіным ад 14 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 4, л. 40, 43).
[77] Паведамленне сакратара Бярэзінскага райкама КП(б)Б Сакалоўскага пра стан брыгады Дзербана і здзейсненую Сакалоўскім працу, без даты, [май 1943 г.], штэмпель паступлення ў БШПР 1 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 188, арк. 1 і наст.).
[78] Паведамленне радыста Калеснікава начальніку БШПР Калініну ад 12 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1337, воп. 1, спр. 2, арк. 49).



Я Вам дакладваю, што ва ўсім 277-м палку квітнее марадзёрства, п'янства і амаральнасць. Роля жанчын у барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў супярэчыць усім загадам нашага правадыра таварыша Сталіна. З размоў з партызанкамі вынікае, што яны, калі адмовяцца быць наложніцамі, застануцца галоднымі і босымі. Узорам служыць Антаніна Ламакіна, якая жыве з камандзірам батальёна Лысенкам. Усе партызаны скардзяцца: «Калі камандзірам гэта [секс] можна рабіць адкрыта, то мы вымушаныя займацца гэтым пад елкай». У прыклад ставяць Токарава, які мяняе жанчын, як кашулі, Казлова, камандзіра 1-га батальёна ды інш.[79]

Падобныя абставіны, як у 277-м партызанскім палку, панавалі ў іншых партызанскіх атрадах Магілёўскай вобласці. 17 лютага 1943 г. члены Магілёўскага падпольнага абкама КП(б)Б дыскутавалі наконт маральнага разлажэння ў партызанскіх атрадах. Таварышы ў час дыскусіі называлі шматлікія прыклады «жанатых» камандзіраў і камісараў атрадаў і ганьбілі дрэннае абыходжанне з жанчынамі з боку партызанаў.

Акрамя таго, у атрадах № 210, 61, 128 і іншых выяўленыя цяжарныя дзяўчаты і жанчыны. У дадатак медыкі ў партызанскіх атрадах робяць аборты, замест таго каб рашуча змагацца з такімі з'явамі. У 210-м атрадзе фельчар зрабіў 5 абортаў, у 208-м — 2, а лекар асобага аддзела зрабіў аборт тром жанчынам[80].

Упаўнаважаны Беларускага штаба Казлоў 2 ліпеня 1943 г. напісаў даклад пра становішча жанчын у партызанскіх атрадах Беларусі:

Трэба шчыра сказаць, што камандзіры атрадаў выкарыстоўваюць жанчын у асноўным на кухні і іншых атрадных дапаможных работах. Яны не ўздымаюць жанчын на вышыню партызанак-патрыётак. Калі жанчына прыходзіць у атрад, яе, як правіла, бярэ замуж адзін з камандзіраў і на тым яе місія заканчваецца. Здараюцца выпадкі абортаў, і ўсе лічаць гэта нармальным, бо нікога за гэтыя подласці не караюць[81].

У выпадку цяжарнасці, а яны здараліся часта, бо ў партызанаў не было ніякіх засцерагальных сродкаў, у партызанак, сапраўды, як правіла, не было выбару, яны былі вымушаныя рабіць аборт. Падпалкоўнік Гузенка, камандзір 2-га атрада імя Варашылава ў Арлоўскай вобласці, выдаў 24 верасня 1942 г. наступны загад:

[79] Паведамленне начальніка асобага аддзела 277-га партызанскага палка начальніку асобага аддзела Магілёўскага абкама, [1943 г.], не падпісана (НАРБ. Ф. 1350, воп. 1, спр. 28, арк. 165).
[80] Рашэнне Магілёўскага абкама ад 17 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 1350, воп. 1, спр. 10, арк. 7 і наст.).
[81] Паведамленне ўпаўнаважанага Беларускага штаба партызанскага руху Казлова ад 8 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 137, арк. 40 і наст.).

Я асабіста тлумачыў партызанцы Рыме Парэнчык пра недапушчальнасць цяжарнасці ва ўмовах партызанскіх атрадаў, таму што ў нашай сітуацыі нельга нараджаць. Яна не выканала загад і зацяжарыла. [...] Тады я асабіста загадаў Парэнчык зрабіць аборт. Яна адмовілася і ў другі раз не выканала мой загад. За падвойнае невыкананне маіх загадаў выключыць партызанку Парэнчык з партызанскага атрада і пазбавіць крыніцы забеспячэння[82].

У мінулым вельмі добрая разведчыца Парэнчык, як гаворыцца ў адной характарыстыцы ў яе справе, два тыдні была без прытулку і ежы, і нарэшце яе ўзялі ў іншае падраздзяленне[83]. Нейкі Сакалоў, камісар аднаго з атрадаў у Смаленскай вобласці, меў адразу некалькі жонак. Адна з жонак Сакалова зацяжарыла. Тады ён адаслаў яе ў Смаленск, «да немцаў», каб яна зрабіла аборт. А «немцы яе павесілі», гаворыцца ў іншым паведамленні[84].

І ў атрадзе Бельскага, яўрэйскім сямейным атрадзе ў Налібоцкай пушчы, дзе было шмат жанчын, аборты ўяўлялі сабой праблему.

Іх рабілі ў пакутных умовах, непрыдатнымі да таго інструментамі і без медыкаментаў. Лекар-гінеколаг доктар Гірш прымаў для спынення цяжарнасці дадаткова жанчын з навакольных расійскіх [савецкіх] падраздзяленняў[85].

Партызанкі не маглі сабе дазволіць у агідных і грубых умовах выношваць дзіця. Калі ж яны ўсё-такі намерваліся гэта рабіць, умешваліся іх начальнікі ці «мужы» і прымушалі іх перарываць цяжарнасць.

Партызанскія камандзіры, якія турбаваліся пра баяздольнасць сваіх падраздзяленняў, разглядалі жанчын у падраздзяленнях як небяспеку для дысцыпліны і неахвотна прымалі іх. Міхаіл Зімянін, сакратар ЦК Ленінскага Камуністычнага саюза моладзі Беларусі, заявіў на адной нарадзе:

Жанчыны больш выкарыстоўваюцца ў падпольных арганізацыях, 70—80 %. Гэта абумоўлена гістарычна. Я цікавіўся тым, чаму так мала жанчын удзельнічаюць у баявых аперацыях партызанскіх атрадаў. Камандзіры брыгад адказвалі, што калі ўзяць іх шмат, то ў атрадах пачнецца неразбярыха[86].

[82] Вытрымка з палітычнага даклада начальніка палітычнага аддзела злучэння Ямлюціна камісару палка Андрэеву, 20 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1087, л. 3).
[83] Тамсама.
[84] Паведамленне пра рабаўніцтва, п'янства і маральнае разлажэнне ў партызанскіх атрадах, [1943 г.], без пазначэння аўтара (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1087, л. 1—2 об.).
[85] Tec N. Bewaffneter Widerstand... S. 260.
[86] Выказванне Зімяніна знаходзіцца ў спадчыне П. Панамарэнкі. Яно без даты, але ёсць сведчанні, што паходзіць з лета 1943 г. Не зразумела таксама, пры якіх абставінах Зімянін зрабіў гэтае выказванне. Магчыма, гаворка ідзе пра нараду ў Цэнтральным штабе партызанскага руху, пра што сведчаць іншыя матэрыялы (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 29, л. 57).



Савецкае кіраўніцтва не хацела трываць праблематычнае абыходжанне з жанчынамі ў партызанскіх атрадах. 5-ы пленум Цэнтральнага камітэта КП(б)Б запатрабаваў ад усіх партыйных органаў і органаў партызанскага руху ў тыле ворага змагацца з недаацэнкай ролі жанчын, а таксама з выпадкамі дрэннага абыходжання з імі, «якія часам набываюць форму адкрытага прымусу да сексуальных зносін»[87].

Гэтыя непаладкі не абмяжоўваліся толькі Беларуссю, яны тычыліся і партызанскага руху на іншых савецкіх тэрыторыях, як, напрыклад, ва Украіне ці ў расійскіх абласцях (Курскай, Арлоўскай ці Смаленскай)[88]. Падключыўся камсамол, і 25 мая 1943 г. сакратар Цэнтральнага камітэта Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага саюза моладзі Міхайлаў напісаў дакладную запіску Сталіну, Малянкову і Шчарбакову з рэкамендацыямі па паляпшэнні партызанскага руху. Адзін з многіх пунктаў тычыўся адносінаў да жанчын:

У многіх выпадках у партызанаў існуе няправільная пазіцыя адносна жанчын, бываюць таксама выпадкі амаральных паводзін партызанаў і камандзіраў. Напрыклад, у атрадах Фёдарава (Чарнігаўская вобласць) многія жанчыны прасіліся пасылаць іх на баявыя аперацыі. Але іх саджаюць на кухню ды іншыя дапаможныя работы. Вядома, што жанчыну лічаць няздольнай ваяваць, яе не хочуць вучыць ваяваць. Гэта абмяжоўвае баяздольнасць жанчын і зніжае іх аўтарытэт як байцоў[89].

Праз некалькі дзён Міхайлаў звярнуўся да Панамарэнкі і адначасова паслаў яму праект загада аб удзеле жанчын у партызанскім руху. Праект утрымліваў, сярод іншага, наступныя пасажы:

Трэба пакласці канец няправільным паводзінам, калі жанчынам у партызанскіх атрадах даюць толькі непрэстыжную працу ў якасці кухарак, пасудамыек, прачак, штабных тэхнічак. Са з'явамі маральнага разлажэння трэба весці рашучую барацьбу.

Потым яшчэ прапанавалася ствараць асобныя жаночыя партызанскія групы[90]. Але Панамарэнка не пагадзіўся з прапановай Міхайлава

[87] Рашэнне 5-га пленума ЦК КП(б)Б аб становішчы і задачах партыйных органаў і партыйных арганізацый у акупаваных раёнах БССР ад 28 лютага 1943 г., надрукавана ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 326—329.
[88] Паведамленне пра рабаўніцтва, п'янства і маральнае разлажэнне ў партызанскіх атрадах, [1943 г.], без пазначэння аўтара (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1087, л. 1—2 об.). У дакуменце прыводзяцца шматлікія прыклады «жаніцьбы» ды іншых з'яў «маральнага разлажэння» ў атрадах Курскай, Арлоўскай, Смаленскай абласцей, на Усходняй Украіне, а таксама ў Беларусі.
[89] Дакладная запіска сакратара ЦК УЛКСМ Міхайлава Сталіну, Малянкову, Шчарбакову, 25 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1060, л. 5 і наст.).
[90] Ліст сакратара ЦК УЛКСМ Міхайлава П. Панамарэнку ад 3 чэрвеня 1943 г. з праектам загада аб удзеле жанчын у партызанскім руху (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1060, л. 16—19).

і не выдаў загада наконт гэтага. І адносіны да жанчын у партызанскіх атрадах не змяніліся, гэта пацвярджаюць шматлікія тагачасныя даклады і паведамленні. Прадстаўнікі Барысаўскага падпольнага міжрайпартцэнтра з 15 кастрычніка да 24 лістапада 1943 г. правяралі партызанскія падраздзяленні ў Вілейскай вобласці і выявілі шматлікія непаладкі. Так, дысцыпліна ў брыгадзе Шляхтунова аказалася разваленай. Жанчыны спалі з мужчынамі; сам камандзір прымушаў жанчын, пагражаючы зброяй, да палавых зносін. У брыгадзе панавала суцэльная «маральная разбэшчанасць». Не лепшымі былі абставіны і ў брыгадзе імя Варашылава. Жанчына-паліткамісар брыгады Шчасная пратэставала і змагалася з непаладкамі, якія панавалі ў брыгадзе, асабліва з п'янствам і фактам, што ўсе маладыя камандзіры «жаніліся» і марадзёрствавалі. Яны апраналі сваіх «жонак» і абвешвалі залатымі каштоўнасцямі. Шчасную за яе пазіцыю ненавідзелі і нарэшце вызвалілі ад пасады[91].

Бюро Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б у рашэнні ад 31 сакавіка 1944 г. канстатавала: «Многія партызанкі не бяруць удзел у баявых аперацыях, [...] яны лічацца жонкамі камандзіраў, толькі для таго, каб задавольваць іх юр»[92]. Вятроў, партыйны і партызанскі кіраўнік з Палескай вобласці, згадваў умовы ў брыгадзе імя Суворава:

> Камандзіры і камісары атрадаў у брыгадзе не разумеюць ролі жанчын у партызанскіх атрадах, яны прымушаюць іх займацца з партызанамі сексам. [...] Акрамя таго, жонкі камандзіраў і некаторых камуністаў нічога не робяць ці адмаўляюцца выконваць даручаныя ім заданні[93].

Можна прывесці яшчэ процьму падобных дакладаў[94].

Прыведзеныя вышэй прыклады паказваюць, якім цяжкім было становішча жанчын у асяроддзі партызанаў. Але былі і станоўчыя прыклады. Партызанка-яўрэйка, якая належала да аднаго з атрадаў у Налібоцкай пушчы, у снежні 1944 г. апісала адносіны паміж мужчынамі і жанчынамі вельмі стрымана: «Іх нельга асабліва ідэалізаваць». І працягвала: «Але ж былі і шчырыя і сумленныя

[91] Дзённік праведзенай праверкі з 25 кастрычніка да 24 лістапада 1943 г. Аўтар невядомы, з тэксту вынікае, што ён праводзіў праверку з іншымі асобамі па даручэнні Барысаўскага партыйнага цэнтра (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 269, арк. 70—79).

[92] Рашэнне бюро Віцебскага абкама ад 31 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 256, арк. 67 і наст.).

[93] Паведамленне Вятрова пра партыйную працу ў брыгадзе імя Суворава, 15 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 494, арк. 181).

[94] Пратакол допыту партызанкі Кадруйшавай адносна спробы яе згвалтавання намеснікам камандзіра брыгады імя Фрунзэ (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 485, арк. 157); паведамленне начальніка асобага аддзела брыгады Даватара ўпаўнаважанаму БШПР Манахаву пра паводзіны намесніка камандзіра брыгады ад 14 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 485, арк. 314—315 адв.); справаздача пра партыйна-палітычную працу за 1-ы квартал 1944 г. у брыгадзе «Беларусь» Рудзенскага раёна Мінскай вобласці, 18 красавіка 1944 г. Сярод іншага, ідзе гаворка пра дрэннае стаўленне да жанчын-партызанак (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 71, арк. 44 і наст.).



[адносіны]». І прывяла некалькі прыкладаў. Сапраўды, нямала шлюбаў перажылі вайну. Напрыклад, Пётр Марцінкевіч, былы партызан брыгады Дуброўскага, у 1946 г. ажаніўся са сваёй партызанскай сяброўкай. Яна была разведчыцай[95]. Леакадзія Ланкевіч была медсястрой пры штабе Чарнышова ў Налібоцкай пушчы і выйшла замуж пасля вайны таксама за былога партызана[96]. Няхама Тэц у сваёй кнізе пра супрацiў яўрэяў называе некалькі прыкладаў яўрэйскіх партызанскіх сем'яў[97].

Увогуле ж адносіны да жанчын у партызанскіх атрадах былі далёка не дружалюбнымі, таму не здзіўляе просьба партызанкі Мамонавай восенню 1942 г. адпусціць яе з атрада дадому. Яна летам 1942 г. скончыла курсы падрыўнікоў пры партызанскай школе № 2 і ў жніўні 1942 г. з дзесяццю іншымі маладымі дзяўчатамі была накіравана на ўчастак 3-й арміі на Калінінскім фронце. Праз некалькі тыдняў яна дайшла да свайго атрада; аднак камандзір адмовіўся браць яе. За час, які яна правяла ў атрадзе, яна назірала, як партызаны атрада рабавалі і «канфіскавалі» збожжа, каб гнаць з яго самагон. Абураная ўбачанымі паводзінамі партызанаў, яна папрасіла адпусціць яе[98].

Праўда, большая частка жанчын трапіла ў партызанскія атрады не па сваёй волі і ў іх амаль не было альтэрнатывы. Для жанчын-яўрэек прыналежнасць да партызанаў была пытаннем выжывання, як і для жанчын са знішчаных нямецкімі карнымі атрадамі населеных пунктаў, якім пашанцавала ўратавацца ў лесе. Там яны мусілі ладзіць з партызанамі, якія гаспадарылі ў лясах. І адзінае, што яны маглі прапанаваць, былі іх целы ды іх праца кухаркамі, прачкамі ці краўчыхамі. Раўнапраўнымі байцамі партызаны-мужчыны прызнавалі іх рэдка. Былі таксама выпадкі, калі маладых жанчын проста вывозілі ў партызанскія атрады, як, напрыклад, рабілі партызаны атрада «Чэкіст»[99].

## 5. Цяжкасці партызанскіх будняў

Побач з абмаляванымі ўжо фактарамі савецкага партызанскага жыцця — баявыя і гаспадарчыя аперацыі і заданні, забеспячэнне зброяй, амуніцыяй і прадуктамі харчавання, контрразведка ці шпіёнаманія ды роля жанчын, што без сумнення вызначалі штодзённае жыццё партызанаў, — было яшчэ шмат іншых бакоў, з якіх складаліся партызанскія будні. Жыццё партызана было цяжкім і жорсткім, яно мела мала агульнага з уяўнай рамантыкай партызанскага жыцця, якую яму прыпісвалі.

[95] Інтэрв'ю аўтара з Пятром і Адзягай Марцінкевічамі, узятае 4 ліпеня 2004 г. у Домжарыцах.

[96] Інтэрв'ю аўтара з Леакадзіяй Ланкевіч...

[97] Тес N. Bewaffneter Widerstand... S. 243—262.

[98] Ліст Галі Мамонавай сакратару ЦК УЛКСМ, без даты (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1110, л. 15). На палях ліста знаходзіцца нататка ад 17 кастрычніка 1942 г.

[99] Вытрымка з паведамлення Уласава пра стан партызанскіх атрадаў Магілёўскай вобласці ад 18 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 242).

З кастрычніка да красавіка партызанам прыносілі турботы неспрыяльныя ўмовы надвор'я (холад, снег, дождж), вынікам часта былі хваробы і прастуда. Суровыя беларускія зімы яны маглі ператрываць толькі ў добра абсталяваных зямлянках. Восенню 1941 г. шмат якія тадышнія партызанскія групы і атрады з-за холаду спынілі свае баявыя дзеянні. У гэтым сэнсе партызанам палягчалі жыццё партызанскія зоны, там яны рассяляліся ў вёсках і мястэчках, што рабіла жыццё больш камфортным.

Але і летам партызанскае жыццё было далёка не простым. 25 мая 1942 г. партызанскі атрад, які быў сфармаваны ў савецкім тыле, накіраваўся праз так званыя «Суражскія вароты» ў Багушэўскі раён, каля 60 км на поўдзень ад Віцебска. Марш быў вельмі цяжкі. Па дарозе да атрада далучылася група партызанаў атрада Біруліна, што дзейнічаў на ўсход ад Віцебска. Паліткамісар атрада вёў у гэты час дзённік, у які ён, сярод іншага, занатаваў наступнае:

> 19.VI.1942 г.: [...] Адзін партызан дэзерціруе ўжо другі раз [...].
>
> 21.VI.1942 г.: Група ідзе хутка, з дзвюма падводамі, тым не менш, цяжка нагружаная. [...] Учора дэзерціравалі 5 партызанаў, якія паходзяць з Багушэўскага раёна, другі раз. [...] Размовы не дапамаглі. Зараз будзем прымаць іншыя меры. [...]
>
> 23.VI.1942 г.: [...] Бой з паліцаямі, яны ўцяклі і пакінулі дзве машыны са зброяй і двух забітых. [...]
>
> 24.VI.1942 г.: Баі з паліцаямі і немцамі. [...] У час бою два партызаны кінулі сваю зброю і ўцяклі [...].
>
> 30.VI.1942 г.: [Група партызанаў з атрада Біруліна хоча вярнуцца] Я іх цалкам разумею. У атрадзе Біруліна яны жылі ва ўласных дамах, з жонкай, дзецьмі, а за спінай — Чырвоная Армія. А тут яны жывуць у лесе, камары, немцы, глыбокі варожы тыл. [...] Што ж, да гэтага ўжо прывыкаеш. [...]
>
> 4.VII.1942 г. [...] Гэта другі дзень, што я хварэю. Усё адразу: ангіна, грып, зубы, вочы [...]
>
> 5.VII.1942 г.: 8 гадзін на маршы. Са мной 12 лепшых байцоў. [...] Засада на дарозе Лепель — Мінск, паспяховая, адна машына разбітая, адзін грузавік з салдатамі абстраляны, у тым ліку 1 афіцэр з важнымі паперамі забіты. [...]
>
> 8.VII.1942 г.: Цяжка з прадуктамі харчавання. Нямецкая рабаўніцкая палітыка загнала насельніцтва ў беднасць. Большасць сялян цяпер ядуць траву. Рэдка знойдзеш у вёсцы 2—3 хаты з хлебам. Шмат часу аддаем на забеспячэнне прадуктамі харчавання. Таму мы здабываем яго ў баі, а вакол перавага паліцыі і карных батальёнаў. Мае людзі пачынаюць падаць духам, некаторыя прапануюць ісці ў раён Віцебска. [...]
>
> 16.VII.1942 г.: [...] Палова атрада хворая, у тым ліку я. [...]
>
> 17.VII.1942 г.: Жорсткае пераследаванне карным атрадам. [...]
>
> 23.VII.1942 г.: [Інфармацыя пра двух раней зніклых без вестак разведчыкаў] На іх напалі 8 паліцаяў. Адзін разведчык адстрэльваўся, забіў аднаго паліцая, параніў другога і ўцёк. Другі партызан здаўся і ўсё распавёў пра атрад[100].

[100] Дзённік камісара Прахарэнкі, 25 мая — 25 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 145—158).



У канцы жніўня 1942 г. і потым у пачатку верасня атрад трапіў у акружэнне, аднак прабіўся зноў праз загараджальныя лініі. У кастрычніку 1942 г. атрад вярнуўся назад у савецкі тыл. З вытрымак з дзённіка вынікае, што партызаны атрада пакутавалі яшчэ ад розных хвароб, абумоўленых недахопам вітамін і цяжкім жыццём у лясах і балотах пад заўсёднай пагрозай нападзення ворага.

Летам на балоцістых тэрыторыях мірыяды камароў ці аваднёў былі сапраўднай пакутай, якую трываць было невыносна. Партызаны рабілі самакруткі з лістоў рабіны і курылі іх, каб хоць крышку абараніцца ад камароў[101]. Вошы і кароста таксама дапякалі партызанам.

Шырока распаўсюджаныя былі інфекцыі і хваробы, выкліканыя недахопам вітамін і нездавальняючымі гігіенічнымі ўмовамі. Панамарэнка на гэты конт канстатаваў:

> Вельмі шмат хто з камандзіраў, якія прыязджаюць да нас [у Маскву], пачынаюць у першую чаргу лячыць зубы. У многіх калі не цынга, дык іншыя інфекцыі. Калі ў камандзіраў цынга, [...] то што тады робіцца ў атрадах[102].

Генрык Іслер, лекар партызанскага атрада імя Арджанікідзэ (Баранавіцкая вобласць), паведамляў:

> Побач са штодзённымі хваробамі, як прастуда, запаленне лёгкіх і парушэнні працы страўніка, якія былі абумоўлены дрэнным харчаваннем, больш за ўсё распаўсюджаныя захворванні скуры. Вашывасць была натуральнай з'явай з прычыны дрэнных гігіенічных умоў, авітаміноз выклікаў некаторыя захворванні скуры, фурункулы, абсцэсы, гнойнае запаленне дзяснаў. [...]. Кароста была агульнай з'явай, якая амаль нікога не мінала[103].

12 снежня 1942 г. Панамарэнка выдаў загад, які абавязваў усіх камандзіраў прыняць неадкладныя захады па прафілактыцы такіх хвароб, як сыпны тыф, авітаміноз, прастуда і іншых. Каб вывесці вашывасць, партызанам неабходна было як мага часцей і рэгулярна хадзіць у лазню і дэзынфікаваць вопратку. Акрамя таго, партызанам павінны былі рабіць уколы ад тыфу, у першую чаргу ад сыпнога[104]. Выдаць такі загад было проста, аднак ажыццявіць яго было цяжка. Сыпны тыф быў той хваробай, якая сапраўды была распаўсюджана сярод партызанаў. Напрыклад, у 1-й Мінскай брыгадзе да мая 1943 г. было 12 захворванняў на сыпны тыф і 7 — на брушны[105].

[101] Інтэрв'ю аўтара з Васілём Хацкевічам...

[102] Пратакол нарады з камандзірамі партызанскіх атрадаў Бранскага фронту ад 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 19).

[103] Сведчанне Генрыка Іслера, запісанае ў жніўні 1962 г. у Ізраілі (Архіў Яд Вашэм (АЯВ), 3/1786, С. 38).

[104] Загад № 68 начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі ад 12 снежня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 4, л. 132).

[105] Пратакол размовы з Аляксеем Пятровічам, начальнікам санітарнай службы 2-й Мінскай партызанскай брыгады, 6 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 855, л. 16).

Камандзір брыгады «За Савецкую Беларусь» дакладваў 1 снежня 1942 г.:

> У атрадах [...] пануе востры недахоп солі, мыла, медыкаментаў і іншых найважнейшых прадметаў ужытку, гэта — галоўная прычына таго, што такія хваробы, як цынга, грып, брушны тыф, ды і сыпны тыф, набываюць памеры эпідэміі[106].

Недахоп солі выклікаў недахоп натрыю (гіпанатрыямію) з сімптомамі ў форме галаўных боляў, ванітавання, дрыжыкаў і эпілептычных прыпадкаў, таксама адну з распаўсюджаных хвароб. Таму просьба аб пастаўцы солі была адной з самых частых пасля просьбы прыслаць зброю, амуніцыю, выбухоўку і медыкаменты. Напрыклад, Жылянін, партыйны і партызанскі кіраўнік з Віцебскай вобласці, скардзіўся Панамарэнку 25 жніўня 1943 г., што большасць брыгад у вобласці харчуюцца без солі, якой на месцы не здабыць[107]. Ямлюцін, адзін з камандзіраў з Бранскіх лясоў, 30 жніўня 1942 г. на адной нарадзе з Панамарэнкам разважаў:

> Нам патрэбны пастаўкі выбухоўкі і чыгуначных мін. Акрамя таго, солі. Солі мы знайсці нідзе не можам. [...] Таму гэтая просьба: патроны да вінтовак, выбухоўка і соль з пастаўкай самалётамі[108].

Да лютага 1944 г. Цэнтральны штаб паставіў савецкім партызанам 35,33 тоны солі. Гэта было больш, чым пастаўленыя сухары (каля 33 тон), што сведчыць пра значэнне солі і адначасова аб цяжкасцях забеспячэння соллю ў тыле ворага. Мыла, наадварот, Цэнтральны штаб паставіў менш за адну тону (995 кг)[109]. Праўда, партызаны ў Беларусі атрымалі ад гэтых паставак толькі каля 7 тон солі і нічога з мыла[110].

Зімой партызаны нярэдка мерзлі, асабліва калі ім даводзілася ўцякаць са сваіх зімовых лагераў, каб пазбегнуць акружэння і гібелі ад рук нямецкіх атрадаў. У лютым 1943 г. немцы разбілі атрад Антоненкі, які дзейнічаў у Бранскіх лясах. Рэшткі атрада, 62 партызаны, уцяклі ў Хоцімскі раён (Магілёўская вобласць), у чатырох з іх былі абмаражэнні, якія можна было лячыць толькі ў шпіталі[111]. Ды і ўвогуле холад даваў

[106] Справаздача пра дзейнасць камісара брыгады «За Савецкую Беларусь» Раманава за перыяд з 15 кастрычніка па 30 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1080, л. 42).
[107] Паведамленне Жыляніна П. Панамарэнку пра памылкі падчас першага этапу «Рэйкавай вайны», 25 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 4, арк. 24 і наст.).
[108] Пратакол нарады з камандзірамі партызанскіх атрадаў Бранскага фронту ад 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 75).
[109] Справаздача начальніка аддзела матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ЦШПР Трусава за перыяд з 20 чэрвеня 1942 да 15 студзеня 1944 г., 1 лютага 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1253, л. 15 і наст.).
[110] Паведамленне БШПР пра баявыя вынікі партызанскіх атрадаў Беларусі ў барацьбе супраць нямецкіх агрэсараў у 1943 г., частка 1, без даты, [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 108 і наст.).
[111] Радыёграма Шамякіна П. Панамарэнку ад 25 лютага 1943 г., якую Судаплатаў пераслаў П. Панамарэнку 26 лютага 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 63).



знаць пра сябе неналежна апранутым партызанам. Камандзір атрада імя Шчорса Дзербан 29 снежня 1942 г. скардзіўся:

> Акрамя таго, атрад не падрыхтаваны да перыяду халадоў. [...] [Няма] зімовай вопраткі, абутку, маскіровачных халатаў. [...] Немагчыма ў моцны мароз сядзець у засадзе без валёнак і кажухоў. Пасля кожнага задання выбываюць са строю 60—70 % людзей з-за хвароб[112].

У рамках дадзенага даследавання былі вывучаныя дакументы партызанскага шпіталю брыгады «Баці», якая ў 1942 г. дзейнічала ў Смаленскай вобласці і часткова на ўсходніх тэрыторыях Віцебскай. Пры гэтым размова ідзе пра гісторыі хваробы пацыентаў, што з чэрвеня да кастрычніка 1942 г. «стацыянарна» лячыліся ў шпіталі. Самымі частымі хваробамі былі: 16 выпадкаў фурункулёзу, 15 грыпу і бранхіту, 10 пухліннага запалення ротавай паласці, 9 туберкулёзу, 8 рэўматызму, 6 экземы, 5 малярыі, 4 цынгі і 2 ганарэі. Але большасць партызанаў былі параненыя, 271 партызан, у тым ліку і з раненнямі, атрыманымі ад міжнародна забароненых перастрэлак[113].

Венерычныя хваробы ў партызанаў сустракаліся куды часцей, чым тыя два выпадкі ганарэі, згаданыя вышэй, бо іх, як правіла, лячылі не стацыянарна, а амбулаторна. У адным дакладзе за 1943 г. пра партызанаў Смаленскай вобласці, напрыклад, напісана: «У выніку бязладных палавых зносін, вельмі многія камандзіры, партызаны і партызанкі заражаюцца венерычнымі хваробамі»[114].

Не лепш палягалі справы наконт гэтага і ў партызанаў у Беларусі. У ліпені 1942 г. інспектар Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б правяраў атрад Садчыкава. Ён канстатаваў, што атрад дэмаралізаваны, у прыватнасці, сярод партызанаў распаўсюджаныя венерычныя хваробы[115]. У брыгадзе імя Варашылава (Вілейская вобласць) у лютым 1944 г. выявілі 2 захвораванні на сіфіліс і 10 выпадкаў ганарэі, у 15 выпадках было падазрэнне на заражэнне. Былі знойдзеныя тры крыніцы заражэння: адна руская жанчына, бежанка, якая да гэтага мела палавыя зносіны больш чым са 130 партызанамі. Яе арыштавалі, але неўзабаве адпусцілі. Яшчэ — адна эвакуіраваная з Мінска, якую заразіў партызан і якая потым у сваю чаргу заразіла іншых партызанаў, а таксама адна тутэйшая жанчына, якой партызаны за сексуальныя паслугі плацілі нарабаванымі таварамі[116].

[112] Паведамленне Дзербана Жуковічу ад 29 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 30, арк. 58—60 адв.).
[113] Шпітальныя дакументы хворых у палявым шпіталі брыгады «Баці» за чэрвень—кастрычнік 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1402, 1403).
[114] Паведамленне пра рабаўніцтва, п’янства і маральнае разлажэнне ў партызанскіх атрадах, [1943 г.], без пазначэння аўтара (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1087, л. 2).
[115] Паведамленне старшага інструктара палітычнага аддзела 4-й ударнай арміі Скрабянёва ад 11 ліпеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 31, арк. 10 і наст.).
[116] Справаздача пра дзеянні асобага аддзела брыгады імя Варашылава за перыяд з 20 лютага па 14 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 487, арк. 174).

Начальнік санітарнай службы Магілёўскай вобласці дакладваў у лістападзе 1943 г., што ў партызанаў зарэгістраваныя дзясяткі выпадкаў заражэння венерычнымі хваробамі, асабліва ганарэяй. Крыніцы заражэння — тутэйшыя маладыя жанчыны, якія сістэматычна гвалтаваліся «немцамі» і «здраднікамі» і заражаліся венерычнымі хваробамі[117]. Гэта можна тлумачыць і як сведчанне распаўсюджанай прастытуцыі, што для немалой колькасці жанчын з разрабаваных і знішчаных вёсак часта была адзінай магчымасцю здабыць нешта прыдатнае для ежы, каб выжыць.

З жанчынамі, якіх ідэнтыфікавалі як крыніцу заражэння, партызанскае кіраўніцтва распраўлялася жорстка. Нярэдка іх расстрэльвалі як нямецкіх «дыверсантак», у якіх нібыта было заданне заражаць венерычнымі хваробамі партызанаў, асабліва камандзіраў. Але нават калі гэтых жанчын не абвінавачвалі ў шпіянажы ці дыверсіях, іх маглі расстраляць у любы час. 24 сакавіка 1944 г. камандзір брыгады Пакроўскі перадаваў па радыё Беларускаму штабу:

> Сястра адной нашай партызанкі, грамадзянка Л., якая чатыры месяцы ўжо хварэе на сіфіліс, знаходзіцца на тэрыторыі лагера нашай брыгады. Мы просім Вашага рашэння, ці вывезці яе на самалёце за лінію фронту для лячэння, ці расстраляць на месцы[118].

Парафянюк, начальнік асобага аддзела брыгады імя Сталіна (Налібоцкая пушча), абяцаў у студзені 1944 г. расстрэлы, калі адна з выяўленых жанчын — «крыніц заражэння», не будзе «выдалена»[119]. На адных пагрозах не спыніліся. 3 мая 1943 г. камандзір атрада Варапаеў загадаў расстраляць маці дваіх дзяцей. Прычына: яна была заражаная венерычнай хваробай партызанам, што таксама быў расстраляны[120].

Працэнт партызанаў, якіх трэба было лячыць з прычыны хвароб і раненняў, быў высокі. Догляд за імі па зразумелых прычынах часцей за ўсё быў катастрафічны. На адным пасяджэнні Кіраўскага падпольнага райкама КП(б)Б (Магілёўская вобласць) ад 31 снежня 1942 г. член раённага камітэта Дубрынскі выказваў незадавальненне доглядам хворых і параненых партызанаў: «Адносіны да параненых партызанаў у нас яўна бесчалавечныя. Дрэннае харчаванне параненых, дрэннае лячэнне, адсутнасць медыкаментаў. Ужо час, каб апаратыўны цэнтр забяспечваў шпіталь усім неабходным»[121].

[117] Санітарная справаздача № 1 санітарнага аддзела аператыўнай групы пры Магілёўскім абкаме ад 13 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 160, л. 172 об. і наст.).

[118] Радыёграма Пакроўскага і Перапечкі Калініну і Рыжыкаву, № 3393 ад 24 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 50, арк. 578).

[119] Даклад начальніка асобага аддзела брыгады імя Сталіна Парафенюка ад 19 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 33, арк. 7); надрукаваны ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 171.

[120] Паведамленне сакратара Віцебскага абкама Жылянiна П. Панамарэнку і Калініну пра стан партызанскага руху ў Віцебскай вобласці, 18 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 857, л. 14).

[121] Пратакол 1-й канферэнцыі падпольнай партыйнай арганізацыі Кіраўскага раёна ад 31 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 188, арк. 22).



Падобныя абставіны панавалі і ў партызанскім шпіталі Бягомльскай зоны. 8 красавіка 1944 г. бюро Бягомльскага падпольнага райкама КП(б)Б занялося гэтым пытаннем:

> Справядлівыя патрабаванні хворых своечасова не выконваюцца, і часта іх просьбы застаюцца па-за ўвагай. У палатках, у якіх размяшчаюцца хворыя, пануюць дрэнныя санітарныя ўмовы. У хворых няма пасцеляў, яны ляжаць на саломе, якую мяняюць рэдка. Санітарная апрацоўка новых паступленняў у шпіталь нездавальняючая, адсюль і вашывая эпідэмія. Здараўся крадзеж асабістых рэчаў хворых, на што камандаванне атрада не рэагуе. Хворыя, якія папраўляюцца і жывуць у вёсцы, атрымліваюць ежу несвоечасова і да таго ж неадпаведную. Не ўсе хворыя на сыпны тыф атрымліваюць малако, бываюць недахопы і гарачай вады. Камандаванне 8-га атрада змірылася з недахопамі ў шпіталі і не імкнецца ліквідаваць іх. Лекар Сырнікаў увесь час напіваецца. На службе ён часта бывае п'яны. Таварыш Сырнікаў абыходзіцца са сваімі падначаленымі без прычыны груба. Здараліся выпадкі, калі ён выганяў сваіх падначаленых, як і выпадкі амаральнасці, прычым лекар Сырнікаў злоўжываў сваёй пасадай[122].

Гэтыя ўмовы сапраўды не спрыялі хуткай папраўцы. Вываз самалётам у савецкі тыл і размяшчэнне ў нармальным шпіталі даволі часта былі для многіх параненых і хворых адзіным шанцам выжыць. Але гэта здаралася рэдка. З Магілёўскай вобласці з ліпеня 1942 г. да мая 1943 г. былі вывезеныя паветраным шляхам каля 300 параненых. З мая да 1 верасня 1943 г. у Магілёўскім злучэнні мелася 227 параненых і 195 хворых партызанаў, якіх трэба было лячыць стацыянарна. Да пачатку верасня, аднак, не было вывезена ніводнага параненага партызана[123].

У наступныя тыдні сітуацыя ў Магілёўскай вобласці яшчэ больш пагоршылася. Колькасць параненых вырасла да 1 000, з якіх толькі каля паловы можна было лячыць на месцы. 450—500 трэба было тэрмінова вывозіць, бо лячыць цяжкія раненні (галава, жывот) на месцы магчымасці не было. Не было хірургічных інструментаў, медыкаментаў, і нават перавязачных матэрыялаў не хапала, не было таксама і лекараў, хірургаў. У дакладзе за лістапад 1943 г. гаварылася, што многія параненыя застануцца інвалідамі, таму што іх не могуць лячыць на месцы. Смяротнасць была вельмі высокай. Многія раны запаляліся, былі распаўсюджаныя сепсіс, гангрэна і іншыя інфекцыі[124].

Толькі малы працэнт цяжка параненых і хворых можна было вывезці, у 1942 г. — толькі ў выключных выпадках. Праз год вываз людзей з Беларусі на самалётах вырас да 4 204, у першую чаргу пара-

[122] Выцяг з пратакола паседжання бюро Бягомльскага райкама 8 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 41, арк. 36 і наст.).

[123] Справаздача № 2 пра становішча і дзейнасць сакратара Магілёўскага абкама Маўчанскага ад 4 верасня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 160, л. 11 і наст.).

[124] Санітарная справаздача № 1 санітарнага аддзела аператыўнай групы пры Магілёўскім абкаме ад 13 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 160, л. 171—174).

неных і хворых, але і членаў партызанскіх сем'яў ды камандзіраў для справаздачы[125]. У 1944 г. да лета колькасць эвакуіраваных паветраным шляхам параненых і хворых, паводле дадзеных Беларускага штаба, склала 4 602 чалавекі[126]. Мелася адносна мала аэрадромаў, на якіх маглі садзіцца самалёты, каб вывезці параненых. У 1942 г. было тры аэрадромы, а ў 1943 г. — 18[127]. Толькі адна гэтая акалічнасць перашкаджала сістэматычнай і шырокамаштабнай эвакуацыі параненых з варожага тылу.

Лёс параненых і цяжкахворых быў вельмі цяжкім не толькі з прычыны адсутнасці медыкаментаў, перавязачных матэрыялаў, лекараў і г. д. Шматкроць, асабліва ў час нямецкіх буйных аперацый, партызаны глядзелі на сваіх параненых таварышаў як на лішні цяжар. Прарыў з акружэння з дзясяткамі, нават сотнямі параненых, якія не маглі ісці, быў немагчымы. Нярэдка цяжкапараненыя і хворыя заставаліся пакінутымі, а потым дабіваліся немцамі і «мясцовымі».

У час аперацыі «Котбус» (май—чэрвень 1943 г.) партызаны 7-га атрада брыгады «Жалязняк», паводле адной партыйнай справаздачы, «так страцілі розум, што пакінулі сваіх параненых партызанаў, якія потым былі пасечаныя немцамі на кавалкі»[128]. У ліпені 1943 г. камандзір разведвальнага атрада 1-й Беларускай брыгады (Віцебская вобласць) крытыкаваў недастатковую якасць кіравання ў камандзіраў брыгады, якія «вядуць да непатрэбных страт людзей і зброі, бо яны не эвакуіруюць параненых з поля бою. У выніку мужнасць і адвага пакідаюць партызанаў»[129].

Праз год, у маі—чэрвені 1944 г., нямецкія падраздзяленні ў час буйной аперацыі вакол возера Палік (аперацыя «Баклан») наладзілі для партызанаў крывавую бойню. Васіль Кузьміч, які ўдзельнічаў у гэтых баях, у жніўні 2004 г. распавядаў аўтару:

> Мы два дні абаранялі партызанскі шпіталь, дзе было каля 1 500 параненых. Але мы вымушаныя былі адступіць без магчымасці эвакуіраваць параненых. Праз некалькі дзён мы вярнуліся і знайшлі толькі трупы, яны былі ў жудасным стане, па-звярынаму забітыя, некаторыя пасечаныя на кавалкі. Немцы кідалі ў зямлянкі з параненымі гранаты. Ніхто ў гэтай крывавай бойні не выжыў[130].

[125] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 100 і наст.).
[126] Паведамленне пра баявыя вынікі партызанскіх атрадаў Беларусі ў барацьбе супраць нямецкіх агрэсараў у 1944 г., [канец 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 77, арк. 72).
[127] Паведамленне пра баявыя вынікі беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 92).
[128] Справаздача Лагойскага райкама за перыяд з 15 мая да 15 ліпеня 1943 г., падпісаная Цімчуком, без даты (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 271, арк. 193 і наст.).
[129] Паведамленне начальніка разведвальнага аддзела 1-й Беларускай партызанскай брыгады Філімонава ад 24 ліпеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 756, л. 110—111 об.).
[130] Інтэрв'ю аўтара з Васілём Хацкевічам...



Становішча партызанаў, што пры прарыве былі параненыя ці змаглі вырвацца з катла, таксама было нялёгкім. Два партызанскія камандзіры з Магілёўскай вобласці, Яхантаў і Маўчанскі, 21 мая 1943 г. скардзіліся, што пасля перажытай нямецкай блакады ў Клічаўскай зоне было да 100 параненых, якія паміралі ад ран і голаду. Камандзіры сігналізавалі Беларускаму штабу, што тых неабходна неадкладна вывезці[131].

6 красавіка 1944 г. камандзір аднаго падраздзялення з Палескай вобласці перадаваў па радыё: «Просім, паведаміце, ці варта нам чакаць зброі і медыкаментаў; хваробы і смяротнасць набываюць масавыя памеры»[132]. Яшчэ адзін партызанскі камандзір, падраздзяленне якога з 17 да 24 мая 1944 г. вяло цяжкія баі, перадаваў па радыё 25 мая:

> У нас шмат параненых і хворых, што знаходзяцца ў розных месцах і ў цяжкіх умовах, без усялякай медыцынскай дапамогі. [...] Адносіны партызанаў да параненых вельмі нездаровыя, кожны партызан і камандзір імкнецца ўцячы ад сваіх параненых[133].

Часта трагічны лёс параненых партызанаў быў адным з фактараў, які штурхаў многіх партызанаў пазбягаць баёў вялікімі сіламі. 18 ліпеня 1942 г. савецкія самалёты вывозілі з Клічаўскай зоны параненых са злучэння Нічыпаровіча. Гэта была першая ў Беларусі эвакуацыя параненых паветраным шляхам падчас вайны[134]. Сяргей Мазур, адзін з камандзіраў атрада злучэння, праз некалькі месяцаў паведамляў: «Пасля таго як вывезлі параненых, больш ніхто не баяўся быць параненым. [Казалі:] "Нічога, калі параняць, калі адарве нагу, тады вывезуць у савецкі тыл і там вылечаць"»[135].

Але гэта ў большасці выпадкаў заставалася толькі марай, і страх быць параненым не адступаў, напэўна, да канца акупацыі.

## 6. Унутраныя канфлікты і сваркі

Вельмі цяжкай праблемай савецкіх партызанаў былі ўнутраныя канфлікты і сваркі паміж сабой, падчас якіх нярэдка ўжывалася зброя са смяротным зыходам. Пра гэта ўжо згадвалася ў сувязі з заснаваннем Бягомльска-Лепельскай зоны[136]. Але і іншыя крыніцы, выяўленыя ў

[131] Радыёграма Маўчанскага і Яхантава Калініну, № 2376 ад 20 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 6, арк. 155).
[132] Радыёграма Гушчэні Калініну, № 4164 ад 6 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 51, арк. 431).
[133] Радыёграма Розава Калініну, № 7756 ад 28 мая 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 55, арк. 340).
[134] Справаздача пра баявыя вынікі беларускіх партызанаў у 1943 г., частка 1, [1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 90).
[135] Стэнаграма размовы Сяргея Мазура ад 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 44 адв.).
[136] Гл. главу IV, с. 243—244.

рамках гэтага даследавання, даводзяць, што асобныя падраздзяленні былі нават у варожых адносінах паміж сабой. Партызаны сварыліся за жанчын, нарабаваныя рэчы, гарэлку, прадукты харчавання, зоны забеспячэння, хто каму павінен падпарадкоўвацца, за зброю і за шмат што іншае. Часта гэтыя канфлікты заканчваліся смерцю аднаго з бакоў. Прыцягваюць увагу і самавольныя расстрэлы партызанаў іх начальнікамі, камандзірамі, камісарамі ці начальнікамі асобых аддзелаў. Некаторыя камандзіры проста тэрарызавалі сваіх партызанаў.

Напрыклад, у маі 1942 г. у Полацкім раёне з'явілася партызанскае падраздзяленне, што складалася з 18 чалавек, а камандзірам яны выбралі лейтэнанта Гваздова. Марчанка, які перасёк лінію фронту ў сакавіку 1942 г. і працаваў у падпольным райкаме, лічыў, што прымаць такія рашэнні можа толькі ён, і зняў Гваздова з пасады. На ягонае месца Марчанка прызначыў нейкага Астрэйку, які раней служыў у паліцыі і нібыта браў удзел у расстрэлах яўрэяў. З гэтай прычыны Гваздоў выказаў Марчанку пратэст і потым быў расстраляны Марчанкам, што пасля гэтага ўзяў камандаванне атрадам на сябе. Пазней Марчанка застрэліў яшчэ некалькіх кіраўнікоў партызанскіх груп, якія таксама ўтварыліся ў гэтай мясцовасці вясной 1942 г., пасля чаго ўключыў гэтыя групы ў сваё падраздзяленне ці абяззброіў іх. Марчанка і Астрэйка расстралялі таксама шмат партызанаў са свайго падраздзялення, іншыя потым дэзерціравалі, бо баяліся, што іх таксама расстраляюць[137].

Асабліва жорсткім здаецца выпадак з Васілём Залатухіным, які ў 1941/42 гг. камандаваў партызанскім атрадам ў Людзінаўскім раёне (Калужская вобласць, Расія). Да чэрвеня 1942 г. ён без следства і судовага працэсу расстраляў больш за 40 падначаленых яму партызанаў. Панамарэнка ў верасні 1943 г. запатрабаваў ад народнага камісара дзяржаўнай бяспекі Мяркулава судзіць Залатухіна, які ў гэты час працаваў у НКУС Арлоўскай вобласці. Абвінавачванні былі добра абгрунтаваныя, у якасці дадатку Панамарэнка прыклаў 48 аркушаў дакументаў. Панамарэнка, сярод іншага, абвінавачваў Залатухіна, што той сваімі паводзінамі затармазіў рост партызанскага руху[138].

Патрабуючы судзіць Залатухіна вайсковым трыбуналам, Панамарэнка ў адносінах да сваіх партызанскіх камандзіраў, якія рабілі падобныя злачынствы, быў не такім строгім. Вясной 1943 г. ён папярэджваў партызанскае кіраўніцтва Магілёўскай вобласці:

> Нельга мірыцца з практыкай самавольнага расстрэлу партызанаў і нават камандзіраў, якія падпарадкоўваюцца аператыўнаму цэнтру [Магілёўскай вобласці]. Напрыклад, з тым, што камандзір 61-га атрада, беспартыйны афіцэр-інтэндант Чырвонай Арміі Паўлаў, асабіста застрэліў двух партызанаў, у тым ліку афіцэра-інжынера 2-га рангу Манянкова[139].

[137] Даклад камісара гэтага падраздзялення Казлова П. Панамарэнку ад 1 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 10, л. 19—20 об.).
[138] П. Панамарэнка Мяркулаву, 25 верасня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 757, л. 100).
[139] П. Панамарэнка таварышам Кардовічу, Яхантаву, Іванову, Зайцу, без даты, [першая палова 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 1239, арк. 199—206).



Часам, праўда, здаралася, што камандзіра здымалі з яго пасады за тое, што ён самавольна застрэліў аднаго з партызанаў. Гэта здарылася з начальнікам штаба адной брыгады ў Палескай вобласці. Яго нават арыштавалі, а паперы былі адасланыя ў Маскву для вынясення рашэння наконт яго справы ў Цэнтры[140]. Але гэта было толькі выключэннем.

Збіваць партызанаў камандзіры лічылі за норму, і гэта рэдка абмяркоўвалася. 14 кастрычніка 1943 г. Панамарэнку далажылі, што Паўлоўскі і Бар'яш з штаба Палескага партызанскага злучэння ў п'яным стане пабілі трох партызанаў, начальніка варты, радыста і байца[141]. Магілёўскі падпольны абкам КП(б)Б забараніў загадам ад 17 верасня 1943 г. рукапрыкладства ў адносінах да партызанаў і лаянку на іх з боку камандзіраў[142]. Але гэты загад, здаецца, быў выключэннем, і ёсць сумненні, ці выконваўся ён. Ва ўсякім разе, ужо ў снежні 1942 г. падчас партыйнай канферэнцыі ў Кіраўскім раёне, было высунута патрабаванне: «Неабходна пакласці канец брыдкаму абыходжанню з партызанамі. З гэтым трэба змагацца, пачынаючы з камандзіраў»[143].

Часта здараліся канфлікты паміж асобнымі падраздзяленнямі, асабліва ў партызанскіх зонах, як напрыклад, у Бягомльска-Лепельскай. У снежні 1942 г. Пруднікаў, камандзір адной з брыгад, што дзейнічала на паўночны ўсход ад Полацка, скардзіўся на атрад імя Катоўскага, які размяшчаўся паблізу станцыі Бігосава. Каб не выклікаць агрэсіўнасць немцаў, атрад супрацьіх не праводзіў ніякіх акцый, сцвярджаў Пруднікаў. Больш таго, камандзір атрада забараніў дыверсійным групам іншых падраздзяленняў праводзіць чыгуначныя падрывы на яго тэрыторыях, у адваротным выпадку ён будзе затрымліваць людзей гэтых груп і раззбройваць. Ён так і рабіў. 10 снежня 1942 г. ён загадаў затрымаць дыверсійную групу з шасці чалавек і раззброіць іх. Аднаго з затрыманых нават расстралялі. Праўда, скардзіўся Пруднікаў, і камісар аднаго з ягоных атрадаў расстраляў без важкай прычыны падначаленага яму партызана[144].

Асабліва шмат канфліктаў разгаралася за тэрыторыі забеспячэння. Камісар брыгады «За Савецкую Беларусь», якая дзейнічала таксама на паўночным усходзе ад Полацка, Раманаў, у кастрычніку 1942 г. патрабаваў:

> Неабходна заснаваць у варожым тыле орган, які б каардынаваў баявыя дзеянні атрадаў і чые загады неабходна было б выконваць без дыскусій.

[140] Радыёграма Вятрова П. Панамарэнку, № 1188 ад 10 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 22, арк. 311).
[141] Радыёграма Васільева П. Панамарэнку, № 11278 ад 5 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 22, арк. 148).
[142] Загад Магілёўскага абкама № 6 ад 17 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1350, воп. 1, спр. 20, арк. 13).
[143] Пратакол 1-й канферэнцыі падпольнай партыйнай арганізацыі Кіраўскага раёна ад 31 снежня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4, воп. 33а, спр. 188, арк. 22).
[144] Паведамленне камандзіра брыгады Пруднікава, без даты, [пасля 10 снежня 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1059, л. 51 і наст.).

Таму што паміж асобнымі брыгадамі часта даходзіць амаль да ўзброеных канфліктаў. Напрыклад, камандзір Ахоцін распарадзіўся са зброяй пераследаваць партызанаў брыгады «За Савецкую Беларусь» на той падставе, што яны канфіскуюць прадукты харчавання ў чужых зонах забеспячэння[145].

Экстрэмальнымі здаюцца абставіны, якія панавалі вясной 1943 г. у Налібоцкай пушчы. 2 чэрвеня 1943 г. Дубаў, начальнік Івянецкага аб'яднанага раённага цэнтра, выдаў наступны загад:

> У брыгадах і атрадах можна назіраць выпадкі некарэктных, нетаварыскіх адносін у калектыве брыгад і атрадаў. Замест таварыскай згуртаванасці і ўзаемнай дапамогі ў барацьбе і дысцыпліны, паміж брыгадамі і атрадамі пануюць антаганізм і сваркі. Так, партызаны брыгады імя Фрунзэ дапусцілі марадзёрства і бандытызм у адносінах да цывільнага насельніцтва і звальваюць гэта на партызанаў брыгады імя Сталіна, часта бывае і наадварот, калі партызаны брыгады імя Сталіна ці іншай брыгады бясчынствуюць, а прыпісваюць гэта партызанам брыгады імя Фрунзэ. [...] Некаторыя камандзіры і партызаны не прымаюць захадаў для ліквідацыі наяўных непаладак, наадварот, яны іх яшчэ больш распальваюць. Гэтая ганебная з'ява набыла даволі вялікія маштабы, часта ў якасці аргументаў выкарыстоўваецца зброя. Напрыклад: лейтэнант Ключнік, камандзір атрада імя Шчорса, застрэліў, не прад'явіўшы ніякага абвінавачвання і не тлумачачы прычыны, камісара партызанскага атрада імя Лазо Заскінда і партызана Петракова. Камісар і памочнік палітрука атрада імя Дзяржынскага брыгады імя Сталіна, Ляхаў, застрэліў трох партызанаў брыгады імя Фрунзэ: Ражкова, Курганава і Харчэбнікава. Сяржант Анохін, начальнік штаба брыгады імя Фрунзэ, застрэліў Кавалёва, камісара і партызана атрада імя Будзённага. Камандзір узвода штабной роты брыгады імя Сталіна Някрасаў падвёў пад расстрэл у вёсцы Кондратавічы групу яўрэяў брыгады імя Фрунзэ. Можна было б прывесці яшчэ дзясяткі падобных фактаў. [...] Ёсць выпадкі недазволенага пераходу партызанаў з аднаго атрада ў іншы, некаторыя камандзіры гэтаму чамусьці патураюць і заахвочваюць партызанаў з іншых атрадаў[146].

Партызанскае камандаванне Баранавіцкай вобласці наладзіла перамовы паміж дзвюма варагуючымі брыгадамі імя Сталіна і імя Фрунзэ, якія адбыліся ў вёсцы Скірмантава. У час перамоў абодва варагуючыя бакі паставілі па 10—15 кулямётаў, каб застрахаваць сябе ад раптоўнага нападзення з боку партнёра па перамовах[147]. Аперацыя «Герман», якую немцы пачалі 14 ліпеня 1943 г. супраць сканцэнтраваных у Налібоцкай пушчы партызанаў, «разрадзіла» адносіны паміж асобнымі падраздзяленнямі, але толькі часова.

[145] Справаздача пра дзейнасць камісара брыгады «За Савецкую Беларусь» Раманава за перыяд ад 15 верасня да 15 кастрычніка 1942 г., ад 18 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1080, л. 35).

[146] Загад № 19 ад 2 чэрвеня 1943 г. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і БШПР па Івянецкім аб'яднаным раённым цэнтры Дубава (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 30, арк. 22 і наст.); надрукаваны ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 157 і наст.

[147] Пратакол № 4 сходу членаў і кандыдатаў у члены партыі атрада імя Кутузава, складзены Шусландам, 14 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 469, арк. 247—251).



14 лістапада 1943 г. у мястэчку Рубяжэвічы (Івянецкі раён) адбылася перастрэлка паміж партызанамі атрада «Бальшавік» брыгады «Уперад» і групай партызанаў роты Івянецкага міжраённага цэнтра пад камандаваннем старшага лейтэнанта Мініна. Лейтэнант Вахарэнка з атрада «Бальшавік» быў смяротна паранены. 30 снежня 1943 г. паміж партызанамі групы пад камандаваннем старшага лейтэнанта Мініна і партызанамі брыгады імя Сталіна ў вёсцы Пільніца (Івянецкі раён) пачалася бойка, якая потым ператварылася ў гарачы бой, што вёўся па ўсіх правілах баявога мастацтва. У той самы дзень Мінін у сварцы задушыў аднаго з партызанаў брыгады імя Панамарэнкі. Праз месяц, 29 студзеня 1944 г., зноў пачалася перастрэлка паміж групай Мініна і партызанамі брыгады імя Сталіна, гэтым разам Мінін памылкова застрэліў аднаго са сваіх партызанаў, яшчэ адзін з яго партызанаў памёр ад куль працілеглага боку[148].

Адносіны паміж асобнымі брыгадамі Вілейскай вобласці былі таксама далёка не гарманічныя. Асабліва напружаныя былі адносіны паміж камандзірамі брыгад Шляхтуновым і Мядзведзевым[149]. Мядзведзеў увогуле быў агрэсіўнай асобай, ён лупцаваў сваіх партызанаў і гвалтаваў жанчын. У снежні 1943 г. па загадзе Мядзведзева адзін камандзір атрада ў час п'янкі застрэліў свайго сакратара[150].

Асабліва характэрнымі ў гэтым сэнсе былі паводзіны партызанаў атрада «Баец». Яны заклалі міны на тэрыторыі дзеяння атрада «Чырвоны сцяг», нікога не папярэдзіўшы. Група партызанаў атрада «Чырвоны сцяг» на адной міне ўзляцела ў паветра. Партызаны атрада «Баец» пасля гэтага сцягнулі з мёртвых абутак і забралі іх зброю, не аказаўшы дапамогі параненым[151]. Падобны экстрэмальны выпадак здарыўся ў красавіку 1943 г. у Віцебскай вобласці ў 1-й Беларускай партызанскай брыгадзе:

> Старшына Іван Рагулін з атрада Курмялёва ў час баявога задання цяжка параніў па сваёй недысцыплінаванасці партызана Каланіцкага. Каб затушаваць гэты факт, Рагулін дабіў свайго таварыша і сцвярджаў, што той трапіў у нямецкую засаду. За гэты цяжкі ўчынак Рагулін быў пакараны 10 суткамі арышту, а пасля гэтага ён павінен быў апраўдаць сябе ў баях[152].

[148] Рашэнне начальніка асобага аддзела брыгады імя Сталіна ў справе камандзіра роты, старшага лейтэнанта Мініна, ад 7 лютага 1944 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 33, арк. 18—21); надрукавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 173—177.

[149] Справаздача камісара партызанскага атрада Умінскага і Шаўчэнкі Манахаву ад 25 сакавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 183, арк. 56—60).

[150] Паведамленне ўпаўнаважанага ЦК ЛКСМБ Гулі ад 28 сакавіка 1944 г. аб партызанскім руху ў паўднёва-ўсходніх раёнах Вілейскай вобласці (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 488, арк. 220—232).

[151] Тамсама.

[152] Справаздача камісара 1-й Беларускай партызанскай брыгады Шкрэды Калініну і І. Стулаву ад 7 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 14, арк. 146).

Усе прыведзеныя тут прыклады даюць нам малюнак савецкага партызанскага руху ў Беларусі, у якім унутраныя канфлікты часам бывалі вельмі моцныя і патрабавалі ад партызанаў шмат ахвяр. Гэта тычыцца як адносін паміж асобнымі падраздзяленнямі, так і ўнутры саміх падраздзяленняў.

## 7. Разведвальна-дыверсійныя групы НКУС ці ГРУ і партызаны

З утварэннем Цэнтральнага штаба партызанскага руху, НКУС (4-е ўпраўленне) і вайсковыя органы ў дачыненні да партызанскага руху страцілі сваю загадную кампетэнцыю. Але яны і надалей мелі права накіроўваць, і яны гэта рабілі, у варожы тыл разведвальна-дыверсійныя групы.

Невядома, колькі груп ГРУ і НКУС дзейнічалі ў Беларусі, бо адпаведныя крыніцы і сёння недаступныя. Аднак арыенціроўкай можа паслужыць колькасць радыёстанцый, якія працавалі ў Беларусі на Галоўнае ўпраўленне разведкі Чырвонай Арміі (ГРУ) і на НКУС[153]. 1 студзеня 1943 г., паводле дадзеных Беларускага штаба, у Беларусі актыўна дзейнічалі 22 радыёстанцыі ГРУ і 9 — НКУС, большасць з іх у Мінскай вобласці (10 ГРУ і 2 НКУС)[154]. На 17 красавіка 1943 г. колькасць радыёстанцый ГРУ вырасла да 41, а НКУС зменшылася да 8. На 13 студзеня 1944 г. колькасць радыёстанцый ГРУ знізілася да 6, а НКУС — да 7[155].

Разведвальна-дыверсійныя групы былі невялікія, па 5—10 чалавек. Але здаралася, што на месцы яны перарасталі ў буйныя атрады. Вясной 1943 г. у Расонскім і Дрысенскім раёнах, на паўночны ўсход ад Полацка, дзейнічалі два дыверсійна-разведвальныя атрады, якія падпарадкоўваліся 4-му ўпраўленню НКУС, атрады «Новы» — 180 чалавек і «Баці» — 100 чалавек. У маі 1943 г. яны былі перакінутыя ў Вілейскую вобласць, каб дзейнічаць на чыгуначнай лініі Вільня — Маладзечна — Полацк[156].

У Лагойскім раёне, каля 50 км на поўнач ад Мінска, група ГРУ перарасла нават у брыгаду каля 700 чалавек пад камандаваннем Захарава. Камандаванне брыгады адмовілася падпарадкоўвацца мясцоваму партыйнаму і партызанскаму кіраўніцтву. 13 чэрвеня 1943 г. Рошчын,

[153] Можна меркаваць, што кожная разведвальна-дыверсійная група ГРУ ці НКУС мела радыёстанцыю ці была абсталявана ёй. Гэтыя групы былі ў прынцыпе лепш забяспечаныя, чым партызаны.

[154] Паведамленне пра стан і разгортванне партызанскага руху ў Беларусі на 1 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 18—22).

[155] Колькасць радыёстанцый, якія падтрымліваюць радыёсувязь з партызанамі Беларусі, па стане на 17 красавіка 1943 і 13 студзеня 1944 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 65, л. 141).

[156] Даклад Бардадына з аператыўнага аддзела БШПР пра партызанскія брыгады ў Полацкім, Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім, Сіроцінскім раёнах, 29 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 165, л. 76).



камандзір атрада брыгады, застрэліў начальніка разведкі брыгады Луніна Сліжука і намесніка камандзіра атрада гэтай брыгады Сцяпанава[157]. Калі ад камандзіра брыгады ў ліпені 1943 г. запатрабавалі далажыць Беларускаму штабу дадзеныя пра асабовы склад сваёй брыгады, ён адмовіўся і заявіў, што не прызнае ніякага штаба: «Мы падпарадкоўваемся толькі "Цэнтру" [ГРУ]»[158]. На поўдзень ад Мінска дзейнічаў пад камандаваннем Градава атрад імя Берыі, які таксама ўтварыўся з разведвальнай групы НКУС[159].

У Жыткавіцкім раёне Палескай вобласці дзейнічала дыверсійная група ГРУ Чорнага, што, паводле дадзеных начальніка Беларускага штаба Калініна, тэрарызавала ўсё наваколле:

> У красавіку 1943 г. людзі з гэтай групы па загадзе Чорнага застрэлілі 20 сем'яў з дзецьмі, якія знаходзіліся ў лесе, хаваючыся ад немцаў. [...] Расстрэл быў учынены без усялякай прычыны. Як паказала праверка, сярод ахвяр былі члены сем'яў партызанаў з атрада «Першага мая», іх жонкі, маці і дзеці[160].

У Магілёўскай вобласці дзейнічала ў 1943 г. дыверсійная група ГРУ пад камандаваннем Навумава. Група была цалкам дэмаралізаваная. Яе людзі пілі да беспрытомнасці, рабавалі, гвалцілі жанчын і расстралялі шмат невінаватых цывільных людзей. «Сваімі дзеяннямі група парушала аўтарытэт партызанаў і тым самым дапамагала ворагу ў барацьбе з партызанамі». Па загадзе Маўчанскага, камандзіра Магілёўскага партызанскага злучэння, завадатары гэтых нападаў у чэрвені 1943 г. былі расстраляныя, група распушчана, а Навумаў арыштаваны[161].

Шматлікія іншыя прыклады канфліктаў і сварак паміж групамі/атрадамі ГРУ і НКУС, з аднаго боку, і партызанскімі падраздзяленнямі — з другога, прывёў начальнік Беларускага штаба Калінін у сваім дакладзе ад 27 чэрвеня 1943 г., накіраваным Панамарэнку. Там Калінін таксама канстатаваў, што большасць гэтых груп размяшчалася ў сферы дзеянняў партызанскіх атрадаў, не ствараючы ўласнай разведвальнай агентурнай сеткі. Таму яны пакладаліся амаль выключна на разведвальную інфармацыю, якую здабывалі партызаны. Але многія партызанскія падраздзяленні залежалі ад гэ-

[157] Начальнік БШПР Калінін П. Панамарэнку, 29 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 338 і наст.); начальнік БШПР Калінін П. Панамарэнку, 27 чэрвеня 1943 г. (Тамсама. Арк. 328—330).

[158] Радыёграма Жуковіча Калініну, № 4750 ад 17 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 10, арк. 128).

[159] Сакратар Грэскага райкама Заяц сакратару Мінскага абкама Бельскаму, 10 мая 1944 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 60, арк. 81 і наст.); Заяц у сваім лісце скардзіцца на паводзіны партызанаў атрада імя Л. Берыі (рабаўніцтва, крадзяжы, самагонаварэнне і г. д.).

[160] Начальнік БШПР Калінін П. Панамарэнку, 31 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 345 і наст.).

[161] Начальнік БШПР Калінін П. Панамарэнку, 29 ліпеня 1943 г. (Тамсама. Арк. 338 і наст.).

тых груп з-за радыёсувязі, бо ў іх не было сваіх радыёстанцый. Гэтым злоўжывалі людзі з гэтых груп і дакладвалі Цэнтру разведвальную інфармацыю, здабытую ад партызанаў, як сваю ўласную[162].

Канфлікты паміж групамі НКУС і ГРУ і партызанамі працягваліся да канца нямецкай акупацыі. 28 ліпеня 1943 г. партызанскае кіраўніцтва Палескай вобласці перадавала па радыё Беларускаму штабу, што 26 ліпеня 1943 г. група ГРУ пад камандаваннем Карнеева, які быў п'яны, спрабавала напасці на штаб Палескага партызанскага злучэння. З гэтай прычыны была просьба дазволіць абяззброіць групу, а Карнеева пакараць[163]. Дазвол быў дадзены, групу абяззброілі, а Карнеева затрымалі і адправілі самалётам у Маскву[164]. Потым ён быў перададзены ГРУ з патрабаваннем пакараць за скандальныя ўчынкі. Аднак ГРУ адхіліла гэтае патрабаванне, з абгрунтаваннем, што большасць абвінавачванняў, паводле ўласных расследаванняў, аказаліся фальшывымі[165].

У лістападзе 1943 г. Беларускі штаб запатрабаваў ад начальніка ГРУ генерал-лейтэнанта Кузняцова прыняць рашучыя захады ў дачыненні да групы ГРУ пад камандаваннем Цыганова і вызваліць яго ад пасады. Група ГРУ Цыганова бясчынствавала (п'янства, страляніна ў населеных пунктах, рабаўніцтва, гвалтаванні) у Баранавіцкай вобласці, а мясцоваму партызанскаму і партыйнаму кіраўніцтву не ўдавалася заклікаць яе да парадку[166].

1 мая 1944 г. брыгада «Бальшавік» (Мінская вобласць) зладзіла вечарынку. Нехта з групы ГРУ пад камандаваннем Алісюка кінуў гранату ў кола танцуючых. 27 партызанаў і 24 цывільныя былі параненыя, 10 — цяжка. Як заявіў 10 мая 1944 г. камандзір брыгады Марозаў, вінаваты быў расстраляны[167]. У маі 1944 г. Дзяржынскі падпольны райкам КП(б)Б (Мінская вобласць) таксама прыняў рашэнне арыштаваць чалавека з разведвальнага атрада 3-га Беларускага фронту Мінакова, абвінавачанага ў расстрэле партызанаў і цывільных[168]. 11 чэрвеня 1944 г. Бельскі, партыйны і партызанскі кіраўнік у Мінскай вобласці, перадаваў па радыё ў цэнтр:

[162] Начальнік БШПР Калінін П. Панамарэнку, 27 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 328 і наст.).

[163] Радыёграма Бакуна Калініну, № 5379 ад 28 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 11, арк. 244).

[164] Паведамленне начальніка БШПР Калініна П. Панамарэнку ад 5 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 864, л. 128).

[165] Намеснік начальніка ГРУ Вавілаў П. Панамарэнку, 30 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 2, арк. 286 і наст.).

[166] Намеснік начальніка БШПР Ганенка начальніку ГРУ генерал-лейтэнанту Кузняцову, 6 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 15, арк. 294).

[167] Радыёграма Марозава Ганенку, № 6635 ад 10 мая 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 54, арк. 28).

[168] Радыёграма начальніка разведвальнага аддзела 3-га Беларускага фронту Алесіна П. Панамарэнку, № 8255 ад 3 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 55, арк. 696).



> Чалавек з групы НКДБ Бурандосаў забіў добрых партызанаў, аператыўнага ўпаўнаважанага атрада Дуку, Нікою і разведчыка штаба брыгады Ганчава [...] Радыёграмай Ганенка [начальнік аператыўнага аддзела Беларускага штаба] распарадзіўся перадаць Бурандосава групе [НКУС] Градава. Я [Бельскі] лічу перадачу немэтазгоднай, гэты факт нельга трываць. Матэрыял па гэтай справе я дасылаю. Прашу дазволіць расстрэл[169].

Як у рэшце рэшт закончыўся гэты канфлікт, не высветлена. Але гэты прыклад паказвае, што вострыя канфлікты, у тым ліку тыя, якія вырашаліся нават пры дапамозе зброі, паміж групамі НКУС і ГРУ і партызанамі існавалі да канца нямецкай акупацыі.

## 8. «І піць будзем, і гуляць будзем — вайна ўсё спіша!» Алкагалізм і напады на насельніцтва

Партызанка-яўрэйка, якая служыла ў адным з савецкіх партызанскіх атрадаў у Налібоцкай пушчы, канстатавала ў снежні 1944 г.: «90 % усіх ахвяр сярод партызанаў загінулі не ад немцаў, многія партызаны памерлі праз алкаголь. Яны прыходзілі ў вёску, напіваліся і клаліся спаць. Іх выдавалі немцам, немцы прыходзілі і застрэльвалі іх»[170]. Гэтая канстатацыя, можа, і перабольшаная, але яна звяртае ўвагу на адну з самых вялікіх праблем у партызанскім руху: на часта залішняе ўжыванне алкаголю партызанамі. Ён вызначаў партызанскую штодзённасць. У п'яным стане, ці каб «здабыць» гарэлкі, партызаны рабілі незлічоныя гвалтоўныя дзеянні, як правіла, адносна цывільных, але і ў адносінах да сваіх таварышаў. Гэта пацвярджаюць, сярод іншага, шматлікія крыніцы, якія былі апублікаваныя ў выдадзеным у 2004 г. дакументальным зборніку пра савецкіх партызанаў у Баранавіцкай вобласці[171].

Гэтыя адносіны ярка асвятляе даклад Сяргея Сікорскага. Ён у красавіку 1943 г. з групай супрацоўнікаў прыбыў у Брэсцкую вобласць, каб па заданні Беларускага штаба аб'яднаць партызанскія атрады вобласці пад адзіным камандаваннем. Сітуацыю, выяўленую Сікорскім пры сваім з'яўленні, ён назваў «вельмі ненармальнай». Таму не дзіўна, што ён, пасля ўсталявання штаба, сваю галоўную задачу ўбачыў у навядзенні дысцыпліны:

> Найперш штаб паставіў сабе наступныя галоўныя задачы: навядзенне дысцыпліны ў наяўных атрадах, то бок штаб аб'явіў бой п'янству, марадзёрству, гвалтаванням і дрэнным адносінам да насельніцтва, у чым не было недахопу ў наяўных атрадах; далей ён вырашыў павысіць баяздольнасць атрадаў і пашырэнне партызанскага руху ў вобласці. [...] Шэраг камандзіраў

[169] Радыёграма Бельскага Калініну, № 8806 ад 11 чэрвеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 56, арк. 374).

[170] Пратакол інтэрв'ю з Басяй Левінай ад 4 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 172).

[171] Параўн.: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 105—181.

з-за заўсёднага п'янства быў цалкам дэмаралізаваны. Начальнік штаба дыверсійнай групы [Заходні фронт] старшы лейтэнант Осіпаў пастаянна піў, згвалтаваў больш чым 10 маладых жанчын. Каб затушаваць свае злачынствы, ён застрэліў вялікую колькасць сялян і партызанаў. Усё гэта ён рабіў з адгаворкай: «Застрэлены як вораг народа/шпіён» [...] Адносіны партызанаў да насельніцтва былі абсалютна ненармальнымі. Камандзіры атрадаў не змагаліся з марадзёрствам, п'янствам, гвалтаваннямі [...]. Усё гэта здаралася і пазней. [...] У гэты час [да 1 жніўня 1943 г.] за марадзёрства, рабаўніцтва, згвалтаванні і п'янства былі расстраляныя 26 партызанаў[172].

Падобныя абставіны панавалі ў Магілёўскай вобласці. У красавіку 1943 г. начальнікі асобых аддзелаў атрымалі загад расследаваць усе парушэнні дысцыпліны, асабліва рабаўніцтва, гвалтоўныя дзеянні, п'янства, крадзяжы, а таксама іншыя парушэнні дысцыпліны і парадку. Партыйнае кіраўніцтва вобласці адначасова забараніла камандзірам і камісарам «самавольнае збіванне і самавольныя расстрэлы цывільных, а таксама падпальванні»[173].

Кіраўніцтва ў савецкім тыле ведала пра непаладкі і імкнулася змагацца з гэтымі з'явамі. Камандзір брыгады Дзякаў і ягоны камісар Манковіч (Віцебская вобласць) атрымалі 20 жніўня 1942 г. загад аб'яднаць усе партызанскія групы і атрады ў раёне Лепеля пад адзіным камандаваннем і працягваць разгортваць у рэгіёне партызанскі рух. У загадзе, сярод іншага, было сказана: «Весці рашучую барацьбу за дысцыпліну і чысціню ў дзеяннях; знішчаць марадзёраў, панікёраў і здраднікаў Айчыны. [...] Усіх, хто парушае дысцыпліну, расстрэльваць як памагатых акупантаў»[174].

Панамарэнка і Цэнтральны штаб партызанскага руху рэгулярна і адусюль атрымлівалі інфармацыю пра наяўныя непаладкі[175]. Панамарэнка ўсведамляў, якая небяспека для партызанскага руху вынікала з гэтага. Так, 30 жніўня 1942 г. ён абмяркоўваў з партызанскімі камандзірамі, падпарадкаванымі штабу Бранскага фронту, пытанні партызанскага руху. Калі Ямлюцін, адзін з партызанскіх камандзіраў, дакладваў пра забеспячэнне прадуктамі харчавання, адбыўся такі дыялог з Панамарэнкам:

[*Ямлюцін*] У нас ёсць 24 000 галоў буйной і 30 000 галоў дробнай жывёлы. *Панамарэнка*: Што гэта азначае: У нас ёсць? Вы гэта забралі ў насельніцтва? *Ямлюцін*: У нас свае статкі. *Панамарэнка*: Ад каго ў вас жывёла? *Ямлюцін*: Паліцаі пасвяць статкі, мы іх адбіваем, былі такія выпадкі. *Панамарэнка*: А частку вы адабралі ў сялян? *Ямлюцін*: Так. *Панамарэнка*: З гэтай прычыны сяляне ўцякаюць ад вас да немцаў?[176]

Панамарэнка і сам займаўся інцыдэнтамі, пра якія дакладвалі. Ён часта патрабаваў высвятлення сітуацыі і загадваў асобным камандзірам рашуча змагацца з нападамі, выкараняць іх. Ад камандзіраў Панамарэнка патрабаваў «бальшавіцкай чысціні». Ён асабіста інструктаваў кіраўнічых супрацоўнікаў, якія накіроўваліся з заданнем у варожы тыл. Ён патрабаваў ад іх разглядаць кожны выпадак няправільных адносін да насельніцтва як справу рук варожых агентаў і патрабаваў у гэтым сэнсе пільнасці і рашучых захадаў[177].

Па ініцыятыве Панамарэнкі гэтым пытаннем заняўся і ЦК КП(б)Б. 5-ы пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся 28 лютага 1943 г., запатрабаваў ад усіх партыйных органаў і органаў партызанскага руху павесці рашучую барацьбу з усімі формамі няправільнага абыходжання з насельніцтвам, марадзёрствам, незаконныміператрусамі, канфіскацыяй прадметаў хатняга ўжытку, самагонаварэннем[178].

Аднак эксцэсы не спыняліся. 25 красавіка 1943 г., напрыклад, сакратар Магілёўскага падпольнага абкама КП(б)Б Маўчанскі наракаў, што дыверсійныя групы, якія пасылаюць на баявыя заданні, праводзяць шмат дзён у вёсках, напіваюцца там, без усялякай прычыны страляюць і забіраюць у сялян прадукты харчавання, коней, кароў[179].

Партызаны 1-й Антыфашысцкай брыгады (перабежчыкі РВА) праводзілі восенню і зімой 1943 г. «гаспадарчыя аперацыі» ў заходніх, былых польскіх абласцях Беларусі. Пры гэтым яны марадзёрствавалі, напіваліся і здзяйснялі шматлікія гвалтоўныя ўчынкі:

У ноч з 16. на 17.11.1943 г. яны застрэлілі ў вёсцы Дубраўка бязвінную жанчыну, бо яна заявіла, што ў яе нельга нічога забіраць. 13.11.1943 г. яны збілі жыхароў вёскі Выгар і забралі ў іх 40 кароў. [...] 7.11.1943 г. узвод 5-га атрада напіўся ў вёсцы Сушкі да непрытомнасці і пачаў бязладную стральбу[180].

---

[172] Паведамленне ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б і БШПР па Брэсцкай вобласці Сяргея (Сікорскага) пра стан партызанскага руху ў Брэсцкай вобласці на 1 жніўня 1943 г., 12 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1333, воп. 1, спр. 3, арк. 18—32).

[173] Загад № 18 сакратара Магілёўскага абкама Маўчанскага брыгадам і аператыўным групам у Магілёўскай вобласці ад 25 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 101).

[174] Загад № 20 камандзіра партызанскіх атрадаў у глыбокім тыле падпалкоўніка Пасвінчука ад 20 жніўня 1942 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 39, арк. 3 і наст.).

[175] Паведамленне пра меры партыйных арганізацый Беларусі супраць марадзёрства, самагонаварэння і іншых амаральных з'яў у партызанскіх атрадах, без даты, [сакавік—красавік 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 296).

[176] Пратакол нарады з камандзірамі партызанскіх атрадаў Бранскага фронту ад 30 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 28, л. 75). Вылучана аўтарам.

[177] Паведамленне пра меры партыйных арганізацый Беларусі супраць марадзёрства, самагонаварэння і іншых амаральных з'яў у партызанскіх атрадах, без даты, [сакавік—красавік 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 297).

[178] Рашэнне 5-га пленума ЦК КП(б)Б аб становішчы і задачах партыйных органаў і партыйных арганізацый у акупаваных раёнах БССР ад 28 лютага 1943 г., надрукавана ў: Русский архив: Великая Отечественная. Т. 20 (9). Партизанское движение... С. 326—329.

[179] Загад № 18 сакратара Магілёўскага абкама Маўчанскага ад 25 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 101 і наст.).

[180] Ліст кіраўніка паўднёва-ўсходняй групы раёнаў Вілейскай вобласці палкоўніка Жуковіча ад 20 лістапада 1943 г. камандаванню 1-й Антыфашысцкай партызанскай брыгады і Мачульскаму (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 20, арк. 228).

7 ліпеня 1943 г. Бярэзінскі падпольны райкам КП(б)Б, на ўсход ад Мінска, забараніў у раёне самагонаварэнне, каб паслабіць скандальнае ўжыванне алкаголю сярод партызанаў, якое з'явілася прычынай шматлікіх трагічных здарэнняў, як арышт п'яных партызанаў, забойствы ці бязладная стралянiна.

> Камісар 6-га атрада 1-й Мінскай партызанскай брыгады Калесенка, былы камандзір падатрада атрада імя Сталіна, Загурдзінаў, Церахаў з атрада «Разгром» трапілі ў п'яным стане ў нямецкі палон. Партызаны атрада «Чырвоны сцяг» Казакоў і Шырокаў, якія былі ў дым п'яныя, забілі ў вёсцы Скрабінка дзевяцігадовую дзяўчынку. Ад'ютант камісара атрада «За Савецкую Беларусь» Кальцоў пачаў бязладна страляць у вёсцы і тым самым нарабіў сярод жыхароў такой панікі, што яны паўцякалі ў лес[181].

Характэрным прыкладам таго, як залішняе ўжыванне алкаголю ўздзейнічала на асобных партызанаў, з'яўляецца справа Чаркасава, камандзіра атрада імя Будзённага брыгады імя Варашылава (Вілейская вобласць). 28 верасня 1943 г. Вілейскі падпольны абкам КП(б)Б разглядаў яго справу і, сярод іншага, канстатаваў:

> Чаркасаў у апошні час (1943 г.) праявіўся ў наступных учынках: 1) заўсёднае п'янства, 2) самавольныя расстрэлы людзей, як партызанаў, так і грамадзян з суседніх вёсак, 3) маральнае разлажэнне / зносіны з жанчынамі [...] З апытанняў партызанаў вынікае, што Чаркасаў спачатку быў вельмі добрым камандзірам, аднак у 1943 г. ён вельмі змяніўся: увесь час напіваўся. Чаркасаў чыніў самавольныя расстрэлы. Ён усім пагражаў расстрэлам. [...] Сям'я Каварскіх прыйшла ў атрад, Чаркасаў загубіў сям'ю: маці яны забілі да смерці і дачку яны знішчылі [па загадзе Чаркасава][182].

Партыйная арганізацыя брыгады імя Варашылава за гэтыя ўчынкі аб'явіла вымову і пакінула яго на пасадзе камандзіра атрада. Партыйнае кіраўніцтва Вілейскай вобласці зацвердзіла гэтае рашэнне[183].

Падобныя абставіны панавалі ў іншых падраздзяленнях, як, напрыклад, у брыгадзе «Савецкая Беларусь» (Мінская вобласць). Сцяпанаў, прадстаўнік Беларускага штаба, перадаваў па радыё 21 ліпеня 1943 г. Калініну:

> Мы знаходзімся ў атрадзе Бабкова Мікалая Уладзіміравіча. У атрадзе ў іх тры самагонныя апараты. Камандзір, камісар, начальнік штаба і падначаленыя штодзень напіваюцца. У п'яным стане яны без прычыны расстрэльваюць партызанаў. Расстрэльваюць камуністаў і яўрэяў. 8 чэрвеня без следства былі расстраляныя два яўрэі і жонка лейтэнанта Раманава Клаўдзія.

[181] З рашэння бюро Чэрвеньскага райкама ад 7 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 32, арк. 155).
[182] Пратакол пасяджэння Вілейскага абкама ад 14 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1334, воп. 1, спр. 5, арк. 20—33).
[183] Тамсама.



> [...] Адносіны насельніцтва да партызанаў абвастраюцца. Камісар і яго ад'ютанты гвалтуюць[184].

Падпітыя ці п'яныя партызаны да таго ж часта былі прычынай няшчасных выпадкаў з трагічным зыходам, ахвярамі якіх рабіліся і самі. Дзве падрыўныя групы атрада Кузняцова з брыгады імя Чкалава (Вілейская вобласць), агулам 13 чалавек, 16 красавіка 1944 г. знаходзіліся на заданні. Яны затрымаліся ў вёсцы Сяргееўшчына і абмяркоўвалі ў адной хаце запланаваны падрыў. Пры гэтым яны пілі самагонку. Падпіты камандзір адной з груп вырашыў яшчэ раз паказаць партызанам, як дзейнічае іх міна і як яе ўмела абясшкодзіць. Прытым ён абыходзіўся з мінай так няўмела, што яна ўзарвалася. Дзесяць партызанаў і гаспадар хаты ад выбуху загінулі, тры астатнія партызаны і дачка гаспадара былі цяжка параненыя. Хата з нябожчыкамі і зброяй партызанаў згарэла. Начальнік асобага аддзела, які расследаваў гэты няшчасны выпадак, канстатаваў, што партызаны часта выходзілі на заданні нападпітку. Яшчэ да 16 красавіка 1944 г. шэраг партызанаў загінулі ад выбухаў мін[185].

Пры такіх абставінах не здзіўляе, што партыйнае і партызанскае кіраўніцтва намагалася палажыць канец алкагалізму сярод партызанаў. Але гэтая барацьба з дапамогай метадаў, якія ўжываліся, у першую чаргу праз партыйна-палітычную асвету, была, як паказвае прыклад Бягомльскага раёна, бесперспектыўнай. 31 студзеня 1944 г. падпольны райкам КП(б)Б абмяркоўваў пытанне п'янства і самагонаварэння ў раёне, што набылі пагрозлівыя памеры:

> У апошні час самагонаварэнне ў раёне [Бягомльскім] набыло надзвычай вялікія памеры. Гэта спрыяе алкагалізму сярод партызанаў. У гэтай узаемасувязі ёсць шэраг злачынных з'яў, як марадзёрства, бязладная стралянiна. Камандзіры атрадаў і ўпаўнаважаныя асобых аддзелаў не вядуць сістэматычнай барацьбы з самагонаварэннем. Бюро раённага камітэта вырашае: забараніць у раёне самагонаварэнне. [...] Камісары і сакратары партыйных арганізацый у атрадах абавязаны не дапушчаць ніводнага недазволенага [sic] п'янства сярод партызанаў[186].

Праз два месяцы, 25 сакавіка 1944 г., таварышы з Бягомльскага падпольнага райкама КП(б)Б зноў дыскутавалі наконт праблемы і зрабілі працверажальнае заключэнне:

> Рашэнне бюро раённага камітэта не выканана. Самагонаварэнне ў населеных пунктах зоны 2-га атрада працягваецца. Партыйная арганізацыя не вы-

[184] Радыёграма Сцяпанава Калініну, № 4922 ад 21 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 10, арк. 272).
[185] Паведамленне начальніка асобага аддзела брыгады імя Чкалава Вяцёлкіна аб смерці 10 партызанаў атрада Кузняцова пры выбуху міны, 21 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 251, арк. 163).
[186] Вытрымка з рашэння бюро Бягомльскага райкама ад 31 студзеня 1944 г. аб барацьбе з самагонаварэннем (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 41, арк. 13).

канала рашэнне бюро раённага камітэта ад 31 студзеня 1944 г. па барацьбе з самагонаварэннем. Рашэнне не было даведзена да ведама партызанаў. Асобныя партызаны займаюцца п'янствам і марадзёрствам. [...] Трэба нагадаць, што п'янства і марадзёрства здараюцца і ў іншых атрадах брыгады[187].

23 лістапада 1943 г. Докшыцкі падпольны райкам КП(б)Б (Вілейская вобласць) разглядаў становішча ў раёне і канстатаваў пры гэтым, што ў раёне распаўсюджаныя алкагалізм, марадзёрства, гвалтаванні і што нездавальняюча вядзецца барацьба з самагонаварэннем. Раённы камітэт запатрабаваў ад партызанскага камандавання змагацца з гэтымі з'явамі[188].

Праўда, гэтае рашэнне было прынята для таго, каб прадэманстраваць партыйным органам уяўную актыўную дзейнасць. Бо сакратар райкама Умінскі, які заклікаў да барацьбы з самагонаварэннем і ганіў злоўжыванні партызанаў, быў адным з галоўных марадзёраў і п'яніц у раёне. 29 лютага 1944 г. адбылося пасяджэнне райкама, каб вызваліць Умінскага ад яго пасады, бо, як сведчыць пратакол пасяджэння, Умінскі цалкам дэмаралізаваны: «Ён ажаніўся з 16-гадовай яўрэйкай; замест таго, каб рабіць карысную справу, ён наладжваў калектыўныя п'янкі і ўдзельнічаў у іх». Паводзіны Умінскага прывялі да таго, што ў брыгадзе Мядзведзева панавалі ў шырокіх маштабах п'янства, самагонаварэнне, забойствы, здзекі з партызанаў[189].

Умінскі не быў выключэннем. Камандзір 4-й Беларускай партызанскай брыгады, якая вясной 1944 г. дзейнічала ў Вілейскай вобласці, Сазыкін, увесь час напіваўся, «жаніўся», загадваў «набываць» для сваёй «жонкі» розныя «модныя» тавары і згвалтаваў партызанку. Калі ён быў у Маскве, то, п'яны, згубіў важныя дакументы. Дзісенскі падпольны райкам КП(б)Б пасля гэтага прыняў рашэнне выключыць Сазыкіна з партыі[190]. Вілейскі падпольны абкам КП(б)Б заняўся справай Засыкіна праз тры месяцы, 20 мая, адмяніў выключэнне з партыі, улічваючы ранейшыя заслугі Засыкіна, і замест гэтага аб'явіў вымову[191].

13 красавіка 1944 г. у Дунілавіцкім раёне (Вілейская вобласць) адбыўся партыйны сход. Дэлегаты ганілі грубае абыходжанне партызанаў з цывільным насельніцтвам і іх заўсёднае п'янства. Яны канстатавалі, што п'янства пануе ва ўсіх атрадах, у атрадзе імя Суворава і ў брыгадзе імя Варашылава яно нават павялічваецца[192]. Гэта

[187] Вытрымка з рашэння бюро Бягомльскага райкама ад 25 сакавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 41, арк. 13 адв.).

[188] Рашэнне Докшыцкага раённага камітэта, 23 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 265, арк. 358).

[189] Пратакол № 16 пасяджэння Докшыцкага райкама ад 29 лютага 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 265, арк. 368 і наст.).

[190] Пратакол пасяджэння Дзісенскага райкама ад 25 лютага 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 486, арк. 261 і наст.).

[191] Пратакол пасяджэння Вілейскага абкама ад 20 мая 1944 г. (Тамсама. Арк. 259 і наст.).

[192] Пратакол партыйнага сходу ў Дунілавіцкім раёне ад 13 красавіка 1944 г. (Тамсама. Арк. 315).



не дзіўна, бо, як 21 кастрычніка 1943 г. скардзіўся Клімаву, сакратару Вілейскага падпольнага абкама КП(б)Б, начальнік асобага аддзела брыгады імя Варашылава:

У брыгадзе не вядзецца сапраўднай барацьбы з марадзёрствам, п'янствам. [...] Прычына палягае ў тым, што нават камандзіры ўзводаў і некаторыя камандзіры атрадаў пасылаюць партызанаў здабываць гарэлку і вопратку для сваіх жонак, што Вам [Клімаву] вядома[193].

Партызанскі камандзір Віктар Манохін, які ў маі 1943 г. з'явіўся ў Пастаўскім раёне, ужо адразу пасля свайго з'яўлення там выяўляў часам жахлівыя з'явы, якія прывялі да таго, што насельніцтва пакідала свае гаспадаркі і шукала абароны ў нямецкіх апорных пунктах. Напрыклад, нейкая група партызанаў забіла святара і абрабавала яго. Над царквой яны вывесілі чырвоны сцяг з надпісам, што бальшавікі не вераць у Бога. «За два кіламетры ад царквы яны забілі 98-гадовую жанчыну, якая ўжо два гады ляжала, паралізаваная, у ложку». Да гэтага яны згвалцілі 70-гадовую жанчыну і 17-гадовую дзяўчыну. Манохін патрабаваў пакарання злачынцаў, што яму і паабяцалі. Аднак пазней ён даведаўся, што злачынцы не толькі не пакараныя, але і нават былі ўзнагароджаныя[194].

На гэтым фоне не здзіўляе, што адносіны партызанаў да насельніцтва ў Вілейскай вобласці ў наступныя месяцы не палепшыліся. У лісце ад 26 лютага 1944 г. нейкаму Івану Фролавічу Манахаў, партыйны і партызанскі кіраўнік з Вілейскай вобласці, скардзіўся:

Нягледзячы на нашу барацьбу, якую мы вядзём супраць марадзёраў і дрэннага абыходжання з сялянамі, да сёння яшчэ ёсць процьма выпадкаў марадзёрства. Гэта адбываецца паралельна са збіццём сялян сярод белага дня. Гэта робяць не толькі мясцовыя брыгады «Жалязняк», «Мсцівец» і спецгрупы, але і такія атрады, як імя Пархоменкі, імя Суворава (ты [адрасат] ведаеш гэта ад Сударыкава і Манохіна). Можна было б прывесці процьму прыкладаў, якія ўсе сведчаць пра дрэннае абыходжанне з сялянамі. Сапраўды, калі б не было гэтай заклятай гарэлкі-самагонкі і шматлікіх выпадкаў марадзёрства, тады на нашым баку было б куды больш людзей. І так, хочам мы таго ці не, мы ствараем сабе ворагаў. У гэтым пытанні Беларускі штаб павінен быў бы выдаць дырэктывы, і менавіта строгія дырэктывы. Мы са свайго боку прынялі шэраг захадаў: мы выдалі загад пра забарону самагонаварэння, прызначылі ў вёскі камендантаў, правялі асветніцкую працу, але ўсё гэта дапамагае мала, калі ў вёску ўрываюцца ўзброеныя людзі[195].

[193] Вытрымка са справаздачы начальніка асобага аддзела брыгады імя Варашылава Сяргея Пранько сакратару Вілейскага абкама Клімаву, 21 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 1334, воп. 1, спр. 9, арк. 51).

[194] Стэнаграма размовы з капітанам Віктарам Манохіным ад 17 жніўня 1944 г. і 21 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 115, арк. 20, 33).

[195] Ліст А. Манахава Івану Фролавічу, прозвішча невядомае, ад 22 лютага 1944 г. (копія) (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 487, арк. 50).

У Пастаўскім раёне, таксама Вілейскай вобласці, заўсёды п'яныя партызаны да такой ступені тэрарызавалі цывільнае насельніцтва, што сакратар падпольнага райкама КП(б)Б распарадзіўся ў красавіку 1944 г. стварыць знішчальныя атрады для навядзення ў раёне дысцыпліны сярод партызанаў[196].

У барацьбе супраць марадзёрства і п'янства, аднак, у большасці выпадкаў рабілі стаўку на партыйна-палітычную працу ў атрадах, гэтым нічога не дамагаючыся. У загадзе ад 14 студзеня 1944 г. кіраўніцтва Шчучынскага міжрайпартцэнтра (Баранавіцкая вобласць) крытыкавала сваіх камандзіраў атрадаў:

> Асобныя камандзіры і камісары не прынялі рашучых захадаў супраць страціўшых усякія межы марадзёраў і п'яніц, наадварот: яны спрабавалі замоўчваць сапраўднае становішча спраў, абмяжоўваліся размовамі і тым самым падштурхоўвалі распусныя элементы працягваць ганебныя ўчынкі адносна мясцовага насельніцтва[197].

Зусім відавочна, што нямала партызанскіх камандзіраў думалі і дзейнічалі так, як камандзір і камісар атрада імя Катоўскага (брыгада Захарава), што дзейнічаў на паўночны захад ад Полацка. Іх дэвіз быў: «Мы п'ём самі і не забараняем піць нашым партызанам. І піць будзем, і гуляць будзем — вайна ўсё спіша»[198].

Паводле аднаго даклада за ліпень 1943 г., партызаны брыгад Захарава і Баскакава (Віцебская вобласць) апраўдвалі свае рабаўніцтва ў вёсках наступным чынам: «Калі мы не забяром гэта ў сялян, тады забяруць немцы ці паліцыя»[199]. Партызаны брыгады «Стары» (Бягомльская зона) апраўдвалі свае масавыя рабаўніцтвы такім самым чынам: «Мы ваюем, а яны [цывільныя] сядзяць дома, гэта азначае: трэба браць. Калі мы не возьмем, то гэта зробяць немцы»[200].

І ўсё гэта адбывалася за кошт мясцовага насельніцтва, якое было цалкам безабароннае супраць партызанаў. Адзін партызанскі камандзір, што вясной 1943 г. па даручэнні Беларускага штаба дзейнічаў са сваім падраздзяленнем у Віцебскай вобласці, дакладваў у ліпені 1943 г.: некалькі дзён пасля блакады лютага—сакавіка 1943 г. атрад Новікава брыгады Захарава (Віцебская вобласць) меў ужо 40 кароў, атрад Гурко — 30 кароў. Але ў час блакады атрады страцілі ўсе свае запасы і

[196] Паведамленне сакратара Пастаўскага райкама Яўмяненкі Манахаву ад 18 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 492, арк. 78).

[197] Загад № 2 ад 14 студзеня 1944 г. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і БШПР па Шчучынскім аб'яднаным цэнтры Шупені аб барацьбе супраць п'янства і марадзёрства (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 82, арк. 51 і наст.); надрукаваны ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 168 і наст.

[198] Паведамленне камандзіра брыгады Пруднікава, без даты, [пасля 10 снежня 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1059, л. 51 і наст.).

[199] Паведамленне С. Саўрэя пра баявыя дзеянні ягонага атрада ў Віцебскай вобласці вясной 1943 г., 30 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 183, арк. 10).

[200] Стэнаграма размовы з Каваленкам і Дзякавым з Барысаўскага аператыўнага цэнтра ад 13 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 2, л. 58).



жывёлу. Тым не менш, «партызаны харчуюцца без абмежаванняў і маюць дастаткова малака. А ў вёсках зоны знаходзяцца сотні жанчын і дзяцей, у каго няма каровы. Пануе распуста і п'янства, асабліва ў брыгадзе "Аляксея"»[201].

Анатоль Вертгейм апісвае ў 1988 г. «вяселлі» Сямёна Зорына, камандзіра 106-га партызанскага атрада, у якога быў лагер у Налібоцкай пушчы: Зорын, вядомы п'яніца, часта са сваёй групай з 30 партызанаў-вершнікаў накіроўваўся ў вёску, у якой ён да гэтага выбраў сабе дзяўчыну. Ён прыязджаў у вёску са сваімі людзьмі і заяўляў бацьку дзяўчыны, што хоча ўзяць замуж яго дачку, а бацька мусіць зладзіць «вяселле» для партызанаў. Пра пярэчанні не магло быць гаворкі. Праз два ці тры дні Зорын са сваімі партызанамі пакідаў вёску і вяртаўся ў атрад да сваёй тамтэйшай «жонкі». Анатоль Вертгейм, ягоны тагачасны начальнік штаба, які часта прысутнічаў на тых «вяселлях», не выяўляе ў напісаным ім ні кроплі сораму[202]. Была ж вайна.

## 9. Разбурэнні з боку партызанаў

Паводле савецкіх дадзеных, нямецкія акупанты ў 1941—1944 гг. знішчылі толькі ў Беларусі ў рамках барацьбы з партызанамі 5 295 вёсак, часткова разам з іх жыхарамі[203]. Варта зыходзіць з таго, што гэтая лічба з прапагандысцкімі мэтамі перабольшаная. Фактам застаецца, аднак, тое, што нямецкія акупанты знішчылі ў Беларусі ў рамках барацьбы з партызанамі тысячы вёсак, некаторыя разам з жыхарамі. Праўда, пры гэтым шырока не вядомы той факт, што сотні вёсак цалкам ці часткова былі знішчаныя і савецкімі партызанамі, як ужо згаданыя Кветча і Налібакі[204]. Яны не былі выключэннямі.

З самага пачатку савецкія партызаны як да меры адплаты прыбягалі да спальвання дамоў меркаваных «здраднікаў». Партызаны атрада імя Сталіна, які дзейнічаў у Клічаўскім раёне, паводле іх дадзеных, застрэлілі да 25 жніўня 1942 г. 15 сем'яў паліцаяў, 58 «шпіёнаў» і «розных здраднікаў» і спалілі 40 кватэр/дамоў паліцаяў[205]. Паводле аднаго нямецкага даклада, уварваліся

> 8.8.42 г. каля 300 узброеных кулямётамі, аўтам. вінтоўкамі партызанаў у вёску Аўдзеевічы пад Кавалямі — 13 км на паўночны ўсход ад Віцебска — спалілі там хаты 6 служачых службы парадку (OD) і забралі кароў і коней. У час нападу паліцаі ўцяклі. Вёска Шабуні — 16 км на паўночны захад ад Віцебска — 13.8.1942 г. каля 14 гадзін была разрабаваная і некалькі хат

[201] Паведамленне С. Саўрэя пра баявыя дзеянні ягонага атрада ў Віцебскай вобласці вясной 1943 г., 30 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 183, арк. 10).

[202] Wertheim A. Żydowska partyzantka na Białorusi // Zeszyty Historyczne. Z. 86. Paryż, 1988. S. 149.

[203] Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 3. С. 219.

[204] Гл. с. 252 і 260—262 у гэтай кнізе.

[205] Кароткае паведамленне пра дзеянні атрада імя Сталіна ад 25 жніўня 1942 г. Гл.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 164, л. 178 і наст.

падпаленыя. [...] У ноч на 12.8.1942 г. 300 партызанаў, узброеных пяхотнай зброяй, уварваліся ў вёску Бялынавічы, Віцебскага раёна. Партызаны [...] падпалілі [пасля паспяховага бою, 3 салдаты вермахта і 2 служачыя OD былі забітыя] 8 вясковых хат[206].

Аднак не толькі асобныя хаты спальваліся партызанамі ў 1942 г., але і цэлыя вёскі. У справаздачы аб дзейнасці 2-й Беларускай партызанскай брыгады, якая дзейнічала ў Віцебскай вобласці, ёсць запісы:

9.IV.42: [...] спалена вёска, у якой знаходзіліся немцы. [...] 12.VI.42: [...] група з 35 паліцаяў і дэзерціраў знішчана ў вёсцы Халуй. Вёска ў час бою спалена, адзін паліцай узяты ў палон[207].

Той факт, што партызаны не панеслі ў вёсцы Халуй аніякіх страт, хутчэй сведчыць пра крывавую бойню, учыненую імі над цывільнымі асобамі.

2-я рота Аператыўна-вучэбнага цэнтра, які дзейнічаў у чэрвені і ліпені 1942 г. на ўчастку Калінінскага фронту (сюды належалі і паўночныя раёны Беларусі), 22 чэрвеня 1942 г. напала на вёску Ражнова і 28 чэрвеня — на вёску Залужжа, дзе, як быццам, павінны былі знаходзіцца «варожыя гарнізоны». Партызаны пры гэтым, паводле ўласных дадзеных, забілі 100 чалавек, а таксама ўзялі ў палон «паліцаяў». «Вёскі Ражнова і Ігнатова былі спаленыя»[208]. Што тычыцца забітых, то гэта былі «паліцаі» і проста вяскоўцы.

У ноч з 27 на 28 жніўня 1942 г. савецкія партызаны спалілі населены пункт Орля (каля 80 км на ўсход ад Гродна на Нёмане). Баранавіцкі філіял тэхнічнага бюро паведамляў пра гэтую акцыю:

У ноч 27/28 жніўня 1942 г. быў цалкам спалены мост праз Нёман у Орлі. Мост — драўляны, даўжынёй 320 м па дарозе Воля — Жалудок. Горад Орля таксама амаль цалкам разбураны. 1.9.42 г. недалёка ад Дзятлава ў час выканання сваіх службовых абавязкаў былі забітыя партызанамі два мясцовыя супрацоўнікі Навагрудскага дарожнага апорнага пункта, менавіта адзін тэхнік і адзін дарожны майстар[209].

Летам і восенню 1942 г. партызаны 128-га атрада пад камандаваннем Свістунова здзейснілі шматлікія злачынствы ў дачыненні да цывільнага насельніцтва. Партыйны ўпаўнаважаны па Магілёўскай

[206] Данясенне IV аддзела айнзацкаманды 9 паліцыі бяспекі і СД пра вынікі разведкі і паведамленні пра выступленні партызанаў за перыяд з 10 да 16 жніўня 1942 г., 17 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 946, л. 31 і наст.).

[207] Баявыя дзеянні 2-га Беларускага партызанскага атрада пад камандаваннем таварыша Дзячкова ў перыяд з 6 ліпеня 1941 г. да 2 ліпеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 79, арк. 12—30).

[208] Паведамленне начальніка філіяла аператыўнага цэнтра Заходняга фронту Казанцава ад 6 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 4, д. 97, л. 47).

[209] Паведамленне пра партызанскую дзейнасць Баранавіцкага філіяла тэхнічнага бюро ад 7 верасня 1942 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 1481, арк. 1).



вобласці, які даследаваў інцыдэнты, абвінаваціў партызанаў Свістунова ў наступных злачынствах:

Шэраг самавольных расстрэлаў цывільных людзей, спальванне вёсак, рабаванне мясцовых жыхароў, а таксама няправільныя адносіны Свістунова да беларускіх сялян. Свістуноў заяўляў: «Усе беларусы — здраднікі»[210].

У справе Свістунова, рускага па нацыянальнасці, здавалася, матыў здзейсненых ім злачынстваў палягаў у яго антыбеларускасці. У жніўні 1942 г. камандзір 1-га атрада брыгады «Звязда» падпаліў вёску Гулідаўка ў Магілёўскай вобласці, згарэлі 57 хат. Прычына: каханне. «Немцы» забілі яго каханую, і камандзір з помсты спаліў вёску. Праўда, за гэта яго потым расстралялі[211].

Гэтак жа з помсты партызаны спалілі вёску Стайкі ў Лагойскім раёне, на поўнач ад Мінска. Сакратар Лагойскага падпольнага райкама КП(б)Б Цімчук дакладваў у чэрвені 1943 г.:

Камандзір 1-й роты партызанскага атрада імя Катоўскага Цыганкоў (сам п'яніца і дэбашыр) накіраваўся ў вёску Альковічы, каб наладзіць там засаду. Па дарозе ў вёсцы Стайкі яго абстраляла паліцыя. Гэты дэбашыр доўга не думаў, падпаліў вёску ў 120 хат і пакінуў усё ў агні[212].

За гэты ўчынак Цыганкову нават не аб'явілі вымовы, абураўся Цімчук.

Савецкія партызаны палілі дамы і вёскі не толькі ў Беларусі, але і на іншых тэрыторыях акупаванага немцамі Савецкага Саюза. У Курскай вобласці партызаны з лістапада 1941 г. да студзеня 1942 г., паводле іх уласных дадзеных, спалілі шматлікія дамы, якія належалі «калабарацыяністам», «дэзерцірам», «паліцаям» і іншым «здраднікам», часам разам з абвінавачанымі і іх сем'ямі. Між іншым яны спалілі хаты ў вёсцы Балькіна, бо там жылі «немцы»[213].

Падобна партызаны дзейнічалі на тэрыторыі вакол Бранска. Яны забівалі паліцаяў, старастаў, бургамістраў разам з іх сем'ямі і спальвалі іх дамы, часам і цэлыя вёскі. Вясной 1942 г. партызаны знішчылі «паліцэйскія вёскі» Тарасаўку, Шамякіна і Холмічы ў Локацкім раёне. Яны напалі ноччу на вёскі, падпалілі іх, узялі «трафеі» і зноў пайшлі ў лясы[214]. У чэрвені 1942 г. дыверсійная група НКУС разам з партызанамі напала на вёску Пруднікі. Там знаходзілася нямецкая «база забеспя-

[210] Нататка ўпаўнаважанага партыі па Магілёўскай вобласці Кардовіча, 15 кастрычніка 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 243).

[211] Вытрымка з паведамлення Уласава пра стан партызанскіх атрадаў Магілёўскай вобласці ад 18 кастрычніка 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 155, арк. 242).

[212] Справаздача Лагойскага райкама за перыяд з 15 мая да 15 чэрвеня 1943 г., падпісаная Цімчуком, без даты (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 271, арк. 193 і наст.).

[213] Партызанскія дзеянні ў Курскай вобласці, без даты, [люты 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 196, л. 10—30).

[214] Паведамленне кінааператара Вайняровіча пра партызанскі рух у Бранскай вобласці ад 1 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 211, л. 35 і наст.).

чэння». Партызаны спалілі вёску і знішчылі 243 «немцы»[215]. Трэба меркаваць, што гэта былі вяскоўцы, тым больш, што не было ніякіх дадзеных пра свае страты.

У 1943 г. партызанская вайна радыкалізавалася, і паралельна ёй расла колькасць будынкаў, вёсак і іх жыхароў, якія знішчаліся партызанамі. Ва ўсякім разе на гэта ўказваюць выкарыстаныя ў рамках гэтага даследавання крыніцы. Вясной 1943 г. партызаны спалілі ў Віцебскай вобласці шмат вёсак, і менавіта не толькі для таго, каб «пакараць» меркаваных здраднікаў і іх сем'і, але і каб пазбавіць нямецкіх акупантаў магчымасці наладжваць апорныя пункты ў партызанскіх зонах. 14 сакавіка 1943 г. засядала бюро Віцебскага падпольнага абкама КП(б)Б, якое, сярод іншага, канстатавала:

> Зімой 1942/43 гг. падчас баёў з нямецкімі карнымі экспедыцыямі па камандзе Ахоціна [брыгада імя Сталіна] і Захарава [1-я Беларуская партызанская брыгада] быў спалены шэраг вёсак у [нечытэльна] і Расонскім раёнах. Гэта тлумачылі тым, што немцы маглі заснаваць у гэтых вёсках гарнізоны і апорныя пункты[216].

Іншыя даклады пацвярджаюць гэта:

> 1-я Беларуская брыгада пры адступленні паліла [люты/сакавік 1943 г.] вёскі. Былі спаленыя вёскі Полцева, Голевічы, Казловічы, Лінкі і іншыя. Гэта выклікае абурэнне насельніцтва, шмат хто кажа, немцы нас не палілі, а партызаны робяць гэта[217].

4-я Беларуская партызанская брыгада, якая дзейнічала ў трохкутніку Полацк — Невель — Віцебск, таксама спаліла ў студзені 1943 г. шмат вёсак у ваколіцах Дамінікава: Лутна, Глінчына, Пляшкі, Ордава і Каваліха[218].

Віцебскі падпольны абкам КП(б)Б ацаніў спальванне шматлікіх вёсак з «ваенна-стратэгічных» разваг у палітычным сэнсе як праблематычнае і на згаданым пасяджэнні ад 14 сакавіка 1943 г. заклікаў да стрыманасці:

> Немцы выкарыстоўваюць гэтыя факты ў прапагандысцкіх мэтах. Было вырашана: 1) Спальванне населеных пунктаў забараняецца, калі гэта не абумоўлена ходам аперацыі. За новыя выпадкі падпальвання вёсак караць вельмі строга. 2) Гэтае рашэнне не тычыцца населеных пунктаў, у якіх знаходзяцца варожыя базы, склады і іншыя аб'екты, што выкарыстоўваюцца акупантамі[219].

[215] Справаздача пра дзейнасць дыверсійнай групы НКУС пад камандаваннем Аляксандрава, 11 ліпеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 23 і наст.).

[216] Пратакол № 19 пасяджэння бюро КП(б)Б Віцебскай вобласці ад 14 сакавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 107).

[217] Вытрымка са справаздачы пра дзейнасць паліткамісара брыгады імя Ленінскага камсамола за перыяд з 15 лютага да 25 сакавіка 1943 г., 25 сакавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 180, арк. 58).

[218] Паведамленне ўпаўнаважанага Віцебскага абкама Багданава пра стан 4-й Беларускай партызанскай брыгады, 7 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 3, арк. 43 і наст.).



Партызаны не толькі разбуралі вёскі, але і забівалі іх жыхароў. У красавіку 1943 г., пасля аперацыі «Зімовае чараўніцтва», партызаны брыгады імя Фрунзэ, якая дзейнічала ў Асвейскім раёне, па загадзе камандзіра батальёна Каляйджынава расстралялі 57 чалавек, у тым ліку 5-месячных немаўлят і былога начальніка штаба Дзямідава[220]. Гэта былі не выключэнні, і партыйнае кіраўніцтва Віцебскай вобласці пабачыла, што вымушана ўмяшацца і ў гэтым выпадку, забараніўшы ў красавіку і маі 1943 г. неабгрунтаваныя расстрэлы партызанаў і цывільных[221].

Не толькі ў Віцебскай вобласці партызаны з «ваенна-стратэгічных» разваг палілі населеныя пункты ці будынкі. Падобна партызаны дзейнічалі і ў іншых рэгіёнах, асабліва, як здаецца, у партызанскіх зонах. Вясной 1943 г. супрацоўнік ЦК КП(б)Б Ключынскі інспектаваў Мінскую вобласць і канстатаваў, сярод іншага:

> Калі я быў у тыле, я сутыкнуўся з наступнымі фактамі: я праязджаў праз населеныя пункты і бачыў, што там былі разбураныя ўсе грамадскія будынкі. [...] Выявілася, што гэта зрабілі партызаны, каб не даць праціўніку, калі ён захопіць населеныя пункты, абсталяваць у гэтых будынках свае апорныя пункты. Гэта было зроблена ва ўсіх раёнах Барысаўскай зоны. [...] Партызаны спалілі або разбурылі ва ўсіх населеных пунктах усе школы, будынкі сельсаветаў, шпіталі, аптэкі і іншыя грамадскія ўстановы. Гэта ўсё было вядома партыйным камітэтам, якія дзейнічаюць там, але яны нічога супраць гэтага не зрабілі. Наадварот, яны сцвярджалі, што на гэта ёсць нейкія дырэктывы[222].

11 жніўня 1943 г. Бельскі, сакратар Мінскага падпольнага абкама КП(б)Б, у адной запісцы сакратару Грэскага падпольнага райкама КП(б)Б ганіў той факт, што «некаторыя» партызанскія атрады Паўднёвай зоны палілі грамадскія будынкі, клубы, школы, басейны ды прамысловыя збудаванні і менавіта не ў рамках «нармальных» ваенных аперацый. Гэта парушае рашэнне 5-га пленума ЦК КП(б)Б (ад 28 лютага 1943 г.). Бельскі патрабаваў ад Грэскага падпольнага райкама КП(б)Б растлумачыць партызанам, што грамадскія будынкі і грамадскую ўласнасць трэба не знішчаць, а, наадварот, абараняць ад

[219] Пратакол № 19 пасяджэння бюро КП(б)Б Віцебскай вобласці ад 14 сакавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 1, арк. 107).

[220] Справаздача пра дзейнасць брыгады імя Фрунзэ ў Асвейскім раёне за перыяд з 1 верасня да 11 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 258, арк. 98).

[221] Пратакол пасяджэння Полацкага райкама ад 25 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 262, арк. 226 і наст.).

[222] Ліст супрацоўніка ваеннага аддзела ЦК КП(б)Б Ключынскага сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку, без даты, [меркавана 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 80, арк. 76 і наст.).

знішчэння немцамі. Адначасова ён патрабаваў тлумачэння ад адказных камандзіраў за знішчэнне такіх устаноў, якое ўжо мела месца[223].

Падобным чынам дзейнічалі партызаны ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях. У вёсцы Навінкі Рэчыцкага раёна (Гомельская вобласць) партызаны спалілі школу, калгасныя будынкі і кузню, тое ж самае яны зрабілі ў суседніх вёсках[224]. Вясной 1943 г. відавочна абураны Панамарэнка звярнуўся да партыйнага і партызанскага кіраўніцтва Магілёўскай вобласці:

> Цэнтральны камітэт КП(б)Б не можа больш трываць ганебную практыку спальвання цэлых вёсак камандзірамі некаторых партызанскіх атрадаў з адгаворкай пра адплату за паліцаяў у вёсцы ці з намерам пазбавіць немцаў магчымасці размяшчацца. Так былі спаленыя вёскі Выдрыца, Доўгае[225] у 250 двароў і некаторыя іншыя. Акрамя таго, у нас маюцца шматлікія дакументы пра забойства грамадзян, згвалтаванне жанчын і рабаўніцтва цывільнага насельніцтва. Гэтыя паведамленні прыходзяць не толькі з Клічаўскага раёна, але і з раёнаў, дзе з'яўляюцца партызаны атрадаў, якімі камандуе [Клічаўскі] аператыўны цэнтр. Акрамя таго, у нашым распараджэнні ёсць звесткі, што спальванне некаторых вёсак адбылося па загадзе аператыўнага цэнтра[226].

Беларускі штаб зноў умяшаўся і адносна звестак пра спальванне населеных пунктаў. 11 красавіка 1943 г. Калінін звяртаўся па радыё да Варвашэні і Зімяніна, партызанскіх камандзіраў, якія са сваімі падраздзяленнямі дзейнічалі на паўднёвы ўсход ад Мінска: «Расследаваць і прыняць самыя строгія захады да адказных за спальванне Ганцавічаў. Пра прынятыя захады далажыць»[227]. Ганцавічы былі мястэчкам у Пінскай вобласці. У тым жа красавіку Калінін запатрабаваў ад Мядзведзева, які дзейнічаў са сваёй брыгадай у Вілейскай вобласці: «Далажы, чаму вы спалілі Докшыцы. У будучым пазбягайце спальвання населеных пунктаў»[228].

Докшыцы, мястэчка ва ўсходняй частцы Вілейскай вобласці, праўда, было неўзабаве пакарана партызанамі яшчэ раз. 19 жніўня

[223] Ліст сакратара Мінскага абкама Бельскага сакратару Грэскага райкама ад 11 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1341, воп. 1, спр. 60, арк. 23).

[224] Інтэрв'ю аўтара з Іванам Сопатам, які нарадзіўся ў 1929 г. і жыве ў Навінках Рэчыцкага раёна, узятае 6 ліпеня 2004 г. у Навінках.

[225] Вёску Доўгае партызаны спалілі 21 снежня 1942 г. У справаздачы афіцэра Іс камендатуры забеспячэння войскаў Вафен-СС «Цэнтр» ад 3 студзеня 1943 г. пра дзейнасць бандаў у раёне Бабруйска ў перыяд 21—31 снежня 1942 г. гаворыцца: «21.12 бандытамі была падпалена вёска Доўгае» (НАРБ. Ф. 3500, воп. 2, спр. 38, арк. 45 і наст.). Вылучана ў арыгінале.

[226] Сакратар ЦК КП(б)Б і начальнік ЦШПР П. Панамарэнка таварышам Кардовічу, Яхантаву і Зайцу, без даты, [першае паўгоддзе 1943 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 1239, арк. 199—206).

[227] Радыёграма Калініна Варвашэні і Зімяніну, № 714 ад 11 красавіка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 30, арк. 15).

[228] Радыёграма Калініна Мядзведзеву, № 1565, [май 1943 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 31, арк. 266).



1943 г. перабежчыкі з падраздзялення Радзёнава ўварваліся ў Докшыцы, павесілі немцаў, якія былі ў Докшыцах, узялі ў палон 40 паліцаяў, а мястэчка спалілі[229]. Відаць, партызаны Мядзведзева спалілі яго не дашчэнту.

У ноч на 7 жніўня 1943 г. партызаны брыгады «Народны мсцівец», якая дзейнічала на поўнач ад Мінска, знішчылі мястэчка Плешчаніцы. Праз два тыдні яны перадалі па радыё ў Беларускі штаб:

> 7.8.43 г. брыгада разграміла гарнізон Плешчаніцы. [...] Забітыя былі 17 фашыстаў, 141 паліцай. Трафеі: 2 цяжкія і 2 лёгкія кулямёты, 27 вінтовак, 60 галоў жывёлы. [...] Бой цягнуўся 6 гадзін. Мястэчка Плешчаніцы знішчана[230].

Трэба думаць, што, з аднаго боку, колькасць ахвяр перабольшана, з другога боку, вялікая частка ахвяр — невінаватыя цывільныя. Тым больш, што ў радыёграме гаворка ішла пра зацяты супраціў паліцаяў, які нельга было зламаць.

Знішчэнне гарнізона ў Плешчаніцах, мусіць, праходзіла гэтаксама, як ужо апісанае знішчэнне гарнізона ў Налібаках 8 мая 1943 г. ці гарнізона ў мястэчку Давыд-Гарадок (Пінская вобласць) 25 чэрвеня 1943 г. Павел Судаплатаў, начальнік 4-га ўпраўлення НКУС, праз тры тыдні абмалёўваў аперацыю ў Давыд-Гарадку наступным чынам:

> 25 ліпеня гэтага года [1943 г.] атрад Сабурава напаў на мястэчка Давыд-Гарадок. Калі ноччу атрад уварваўся ў мястэчка, нямецкія салдаты і мясцовыя паліцаі пакінулі яго і адступілі ў казармы, узяўшы з сабой зброю і амуніцыю. Яны ўсе засталіся цэлымі і здаровымі. Таварыш Сабураў даў тады загад рабаваць дамы жыхароў мястэчка, а мястэчка спаліць. Пасля гэтага партызаны рынуліся ў кватэры жыхароў, абрабавалі іх, а мястэчка спалілі. Паводле звестак, якія маюцца, Сабураў далажыў таварышу Строку [начальніку Украінскага партызанскага штаба], што пры нападзенні забітыя 139 нямецкіх салдат і мясцовых паліцаяў, прычым невядома, ці гэта былі паліцаі, ці жыхары мястэчка. Гэты выпадак украінскія нацыяналісты выкарыстоўваюць супраць нас. Яны заклікаюць насельніцтва арганізоўваць самаабарону ад партызанаў, каб не раздзяліць лёс жыхароў Давыд-Гарадка[231].

Савецкаму кіраўніцтву было вядома, наколькі адмоўна ўплывала спальванне цэлых населеных пунктаў на адносіны мясцовага насельніцтва да партызанаў і савецкіх уладароў, і яно імкнулася спыніць ці прытушыць такія акцыі. Аднак на месцах асобныя партызанскія камандзіры мала клапаціліся пра такія тонкасці, яны рабілі стаўку на гвалт і запалохванне, каб зрабіць насельніцтва пакорлівым.

[229] Паведамленне ўпаўнаважанага камсамола па Вілейскай вобласці Бондара ад 19 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 5, л. 38 і наст.).

[230] Радыёграма Варанянскага Сямёнаву і Калініну, № 6720 ад 23 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 14, арк. 283).

[231] Начальнік 4-га ўпраўлення НКУС Судаплатаў П. Панамарэнку, 18 жніўня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 748, л. 154).

У 1942 г. нямецкія акупанты пачалі арганізоўваць у заходніх абласцях Беларусі ў сельскай мясцовасці «самаахову», для таго каб сельскія жыхары самі маглі ахоўваць сябе ад нападу партызанаў і бандытаў. Аднак узброеная была толькі частка з іх. У вёсцы Вольна Баранавіцкай вобласці немцы нібыта ўзброілі 80 чалавек, якія аказвалі партызанам зацяты супраціў. Партызаны разбілі самаахову, а вёску спалілі[232]. Лічба 80 членаў самааховы здаецца вельмі перабольшанай.

Падобную акцыю правёў атрад Лявонцьева ў Пінскай вобласці. Лявонцьеў са сваімі партызанамі спаліў дашчэнту вёску Навасёлкі Ганцавіцкага раёна з 150 хатамі, бо там у «самаахове» была група з 10—15 чалавек. «З-за гэтага бандыцкага ўчынку палова мужчын вёскі перайшла на службу да немцаў», дакладваў Кірыл Арлоўскі, афіцэр НКУС, які з кастрычніка 1942 г. да лета 1943 г. арганізоўваў і вёў партызанскую вайну ў Пінскай і Баранавіцкай абласцях. Арлоўскі таксама дакладваў, што ў яго аператыўным раёне так званыя «партызаны» спалілі шмат хутароў і вёсак. Акрамя таго, партызаны атрадаў Сямёнава, Пугачова і іншых тэрарызавалі жыхароў Клецкага і Ляхавіцкага раёнаў (Баранавіцкая вобласць). Яны здзекаваліся, рабавалі, гвалтавалі і расстрэльвалі жыхароў гэтых раёнаў. Арлоўскі дамогся, што адказныя за гэта былі ў чэрвені 1943 г. расстраляныя[233].

У вёсцы Купіск Любчанскага раёна (Баранавіцкая вобласць), на беразе Нёмана, мелася група самааховы, якая загарадзіла, як паведамляў Навум Кавалёў, партызанскі камандзір, савецкім партызанам з Налібоцкай пушчы пераход праз раку. Вёска была нібыта кулацкай. У чэрвені 1943 г. атрад імя Жданава штурмаваў вёску і заняў яе, многія людзі самааховы былі пры гэтым забітыя. Партызаны папярэдзілі насельніцтва, што яны спаляць вёску, калі там яшчэ раз будзе наладжана самаахова. На наступны дзень нібыта прыйшлі немцы і зноў арганізавалі батальён [самааховы]. «2 ліпеня я [Навум Кавалёў] узяў брыгаду і спаліў усю вёску, засталася толькі адна хата»[234].

Аднак камандзіры не заўсёды дакладвалі, што яны спалілі нейкі населены пункт, бо гэта магло пацягнуць за сабой расследаванні, як гэта паказвае выпадак з мястэчкам Дзераўная, каля 15 км на захад ад Баранавічаў. 25 красавіка 1944 г. партызаны брыгады імя Жукава спалілі ў мястэчку 92 дамы. Загад на гэты конт вусна даў камандзір брыгады старшы лейтэнант Ключко. Заданне, уласна кажучы, прадугледжвала спаліць 37 пустых яўрэйскіх дамоў, жыхары якіх былі забітыя. Гэтым самым хацелі перашкодзіць засяляцца ў яўрэйскія дамы неяўрэям. Акцыя адбылася ў першы дзень яўрэйскага свята Пасхі. Камісар Гайсараў праводзіў «аперацыю» з групай партызанаў 270-га атрада. Але ён не ўлічыў ні сілу і накірунак ветру, ні той факт,

[232] Пратакол размовы з маёрам Топкіным ад 14 красавіка 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 4, л. 48).
[233] Пратакол размовы з Кірылам Арлоўскім ад 4 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 6 і наст.).
[234] Стэнаграма размовы з Навумам Кавалёвым ад 1 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 8).



што яўрэйскія дамы стаялі вельмі блізка да «хрысціянскіх». У выніку гэтага згарэлі 57 «хрысціянскіх» жылых дамоў. Гайсараў жа нічога не зрабіў, каб выратаваць гэтыя дамы, гаворыцца ў справаздачы расследавання асобага аддзела брыгады імя Жукава[235].

У ноч на 14 мая 1944 г. савецкія партызаны напалі на мястэчка Камень пад Івянцом; там знаходзіўся апорны пункт польскіх партызанаў Арміі Краёвай, заняты 120 чалавекамі. Бой цягнуўся 2 гадзіны, з польскага боку загінула 14 салдат, 23 былі параненыя. З савецкага боку, па польскіх дадзеных, мелася 80 забітых і параненых. У час бою савецкія партызаны спалілі большую частку мястэчка і забілі каля 20 цывільных. Многія загінулыя былі пасечаныя на кавалкі і кінутыя ў палаючыя дамы. Па польскіх дадзеных, на апорны пункт напалі каля 2 000 савецкіх партызанаў[236].

Гэтую акцыю брыгада імя Сталіна правяла нібыта сіламі ў 350 чалавек. Яе камандзір Гулевіч пацвердзіў у справаздачы пра гэтую акцыю, што яго партызаны спалілі мястэчка, якое абаранялі каля 170 «белапольскіх бандытаў» і членаў самааховы. Акрамя таго, яго партызаны забілі 71 «бандыта», 23 паранілі і 7 узялі ў палон. 6 палонных потым былі расстраляныя, а адзін уключаны ў шэрагі брыгады імя Сталіна. З 71 забітага 38 спаленыя ў царкве. Акрамя таго, партызаны захапілі: 1 аўтамат, 10 вінтовак, 12 гранат, 750 патронаў, 90 кароў, 11 коней. У ліку сваіх страт Гулевіч адрапартаваў пра трох загінулых і двух параненых[237]. 10 захопленых вінтовак, 90 кароў і 11 коней, а таксама забітыя цывільныя сведчаць пра класічную карную акцыю.

Нягледзячы на патрабаванні вышэйшага партыйнага і партызанскага начальства спыніць гэта, да канца нямецкай акупацыі савецкія партызаны працягвалі падпальванні. Так, у перыяд з 25 лютага да 2 сакавіка 1944 г. толькі ў раёне дзеянняў 3-й танкавай арміі (на паўночным усходзе Беларусі) яны спалілі 6 вёсак[238]. У снежні 1943 г. аддзел «Карвета» Арміі Краёвай дакладваў пад рубрыкай савецкія «дыверсіі супраць польскага насельніцтва: былі спаленыя мястэчкі Данілавічы, Кабыльнік, Параф'янава»[239]. Як партызаны абгрунтоўвалі гэтую «аперацыю», невядома.

Большасць населеных пунктаў, знішчаных партызанамі, шырокай грамадскасці ўвогуле невядомыя, толькі ахвяры, калі яны выжылі,

[235] Следчыя матэрыялы начальніка асобага аддзела брыгады імя маршала Г. Жукава аб спаленні 92 дамоў у мястэчку Дзераўная, без даты (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 34, арк. 49 і наст.).
[236] Паведамленне камандзіра польскага партызанскага атрада акругі «L» [Навагрудская акруга] ад 14 мая 1944 г., копія (Oddziałowe Archiwum Instytutu Pamięci Narodowej w Katowicach. Sygn. Ka 1/143, дадатак, без нумарацыі аркушаў).
[237] Справаздача аб баявых дзеяннях брыгады імя Сталіна ад 17 мая 1944 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 19, арк. 4).
[238] Паведамленне Галоўнага камандавання сухапутных войскаў пра становішча з бандамі № 40 за перыяд з 25 лютага да 2 сакавіка 1944 г., 8 сакавіка 1944 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 102 і наст.).
[239] Паведамленне «Карветы» аб стане аддзела «К» за перыяд з 12 лістапада да 12 снежня 1943 г. (AAN. Mf 423, k. 691).

ды іх блізкія помняць пра гэта. Адно з нямногіх выключэнняў — лёс польскай вёскі Канюхі на ўскрайку Рудніцкай пушчы, каля 20 км на поўнач ад Ліды, якую (вёску) савецкія і яўрэйскія партызаны знішчылі ў ноч з 28 на 29 студзеня 1944 г., часткова з жыхарамі. Выпадак у заходняй літаратуры адносна добра вядомы, бо пра яго паведамлялі былыя яўрэйскія партызаны, якія ўдзельнічалі ў знішчэнні. Праўда, яны прадстаўляюць яго як значную «ваенную аперацыю». Хаім Лазар піша:

> Ужо пэўны час было вядома, што вёска Канюхі з'яўлялася бандыцкім логавам і цэнтрам антыпартызанскіх вылазак. [...] У адзін з вечароў сто дваццаць лепшых партызан з усіх навакольных баз з самым лепшым узбраеннем, што ў іх мелася, рушылі ў бок вёскі. Сярод іх было каля 50 яўрэяў пад камандаваннем Якава Прэнера. Уся маёмасць і нават свойская жывёла мелі быць знішчаныя. [...] З дапамогай паходняў, якія былі загадзя падрыхтаваныя, партызаны палілі хаты, стайні і клеці, ведучы адначасова па хатах шчыльны агонь. [...] Місія была выканана даволі хутка. Шэсцьдзясят двароў, у якіх пражывала 300 чалавек, былі знішчаныя. Не выжыў ніхто[240].

Гэтая «ваенная аперацыя» апісваецца Ісакам Кавальскім такім чынам:

> Камандзір нашага лагера выдаў загад, што ўсе баяздольныя мужчыны павінны на працягу гадзіны быць гатовыя вырушыць на аперацыю. [...] Па меры таго, як мы набліжаліся да месца прызначэння, я бачыў, што туды ж з усіх кірункаў рухаліся партызаны з розных атрадаў. [...] Наш атрад атрымаў загад знішчыць усё, што рухаецца, і спаліць вёску дашчэнту. У вызначаны час усе партызаны з усіх чатырох бакоў адкрылі па вёсцы масіраваны агонь запальнымі патронамі з вінтовак і кулямётаў. Гэта прывяло да таго, што саламяныя стрэхі хат заняліся агнём. Жыхары вёскі і невялікі нямецкі гарнізон [sic] адказалі шчыльным агнём, аднак праз дзве гадзіны вёска з усімі абарончымі ўмацаваннямі была поўнасцю знішчана. Нашы страты склалі ўсяго два чалавекі лёгка параненымі[241].

І Рыч Коэн апісвае гэтую акцыю падобным чынам[242]. Гэтыя апісанні пасля крушэння камунізму прыцягнулі ўвагу польскіх гісторыкаў і аб'яднанняў ахвяр. Па польскіх дадзеных, у вёсцы Канюхі тады была арганізавана група самааховы, узброеная невялікай колькасцю старых вінтовак, каб абараняць жыхароў ад частых рабаўнічых налётаў партызанаў. «Нямецкага» ці «фашысцкага» апорнага пункта ці гарнізона, па гэтых дадзеных, як сцвярджаецца ў прыведзеных вышэй публікацыях, у Канюхах не было. Праўда, і колькасць ахвяр, у тым

[240] Lazar Ch. Destruction and Resistance... P. 174 і наст.
[241] Kowalski I. A Secret Press in Nazi Europe: the Story of a Jewish United Partisans Organisation. New York, 1969. P. 333 і наст.; Anthology on Armed Jewish Resistance, 1939—1945...Vol. 4. Brooklyn — New York, 1991. P. 390 і наст.
[242] Kowalski I. A Secret Press in Nazi Europe... P. 333 і наст.; Cohen R. The Avengers... P. 144 і наст.



ліку жанчын, старых і дзяцей, была невялікая[243]. У справаздачы АК пра становішча ў Навагрудскай акрузе за люты 1944 г. гаворыцца:

> У канцы студзеня [1944 г.] вёска Канюхі была акружана яўрэйска-бальшавіцкай бандай колькасцю ў 2 000 чалавек і падпалена. У сялян-уцекачоў вялася стральба. Узятых у палон, дарослых і дзяцей, жывымі кідалі ў агонь. Вынік: 34 забітыя, 14 параненых, колькасць чалавек, спаленых жывымі, невядомая. З 50 будынкаў ацалела толькі чатыры. Прычынай нападу быў той факт, што вёска часткова была ўзброеная літоўцамі і да названага нападу ахоўвалася ад рабаўніцтва[244].

На аснове паказанняў *Polish Canadian Congress* (Польска-канадскага кангрэса) Інстытут нацыянальнай памяці ў Варшаве ў лютым 2001 г. пачаў расследаванне крывавай бойні ў Канюхах, якое ў чэрвені 2008 г. было яшчэ не скончана[245]. Паводле папярэдніх вынікаў расследавання, падчас акцыі былі забітыя мінімум 38 вяскоўцаў (мужчын, жанчын, дзяцей і старых), кінутыя ў палаючыя дамы ці застрэленыя. «Нямецкага» ці «фашысцкага» гарнізона ў вёсцы не было, праўда, група ўзброеных жыхароў да 28 студзеня 1944 г. паспяхова абаранялася ад рабаванняў і нападаў дробных партызанскіх груп. У маі 2004 г. польскі ўрад узвёў мармуровы крыж, вышынёй у тры метры, з імёнамі забітых[246].

Вёска Канюхі, побач з памятным каменем забітым 8 мая 1943 г. у Налібаках 128 жыхарам мястэчка, аднак, у Беларусі толькі выключэнне. Пра гэтых ахвяр згадваюць толькі дзякуючы намаганням польскіх таварыстваў ахвяр. Іншыя шматлікія ахвяры савецкіх партызанаў, наадварот, замоўчваюцца ці затушоўваюцца. І ў сённяшняй Беларусі няма прыкмет таго, што гэтая палітыка памяці, якая выліваецца ў арганізаваную дзяржавай фальсіфікацыю гісторыі, неўзабаве зменіцца.

[243] Параўн.: Krajewski K. Na ziemi nowogródzkiej... S. 511 і наст.
[244] AAN. Mf M-582/1—2 (f. R 601, ap. 1, vien. 50, l. 21).
[245] Параўн.: http://www.ipn.gov.pl/sled_lodz_12.html; http://www.kpk.org/defense-of-polands-good-name.
[246] A. K. Krzyż pamięci — w miejscu zbrodni // Nasza Gazeta. 2004. 27 maja — 2 czerwca. Nr. 22; Tygodnik Wileńszczyzny. Nr 194 // http://www.tygodnik.lt/200422/.

# IX. Насельніцтва ў партызанскай барацьбе: беларусы, яўрэі, палякі

Беларусь у межах да 22 чэрвеня 1941 г. была населеная прыблізна 6,3 ці 5,5 мільёнамі беларусаў. Каля 4,4 мільёны жылі ва ўсходніх абласцях (стан на 1937 г.), 1,1 мільёна — на былых польскіх тэрыторыях (стан на 1939 г.). Сюды дадаюцца яшчэ каля 0,8 мільёна «тутэйшых», што размаўлялі на рэгіянальных беларускіх дыялектах[1]. Яны жылі на былых польскіх тэрыторыях і не адчувалі сябе прыналежнымі ні да якой нацыянальнасці. Савецкія, як і нямецкія ўлады і іх прапаганда, а таксама беларускія нацыяналісты абвяшчалі гэтую групу насельніцтва беларусамі[2].

Другой па колькасці групай насельніцтва былі палякі, каля 1,5 мільёна, што жылі на былых польскіх тэрыторыях, дзе яны складалі прыблізна 36 % насельніцтва. Ва ўсходніх частках савецкія ўладары ў 1930-я гг., як ужо казалася вышэй, моцна скарацілі польскую меншасць. Трэцюю па колькасці групу насельніцтва — каля 840 000 чалавек — прадстаўлялі яўрэі, прыблізна 388 000 у заходніх раёнах і каля 360 000 (па стане на 1937 г.) — ва ўсходніх абласцях. Сюды дадаюцца яшчэ тысячы яўрэйскіх бежанцаў з цэнтральных польскіх тэрыторый, якія пасля 1 верасня 1939 г. паўцякалі ад немцаў[3].

Нямецкая палітыка ў адносінах да трох груп насельніцтва была вельмі рознай. У той час калі ўсе яўрэі падлягалі вынішчэнню, нямецкая знішчальная палітыка адносна палякаў была скіравана супраць польскай інтэлігенцыі і ўсіх тых, хто аказваў супраціў ці быў патэнцыйным праціўнікам. Таксама масава прыгняталіся польская мова і культура. Нямецкая палітыка ў адносінах да беларусаў была ў параўнанні з гэтым зусім іншай. Нямецкія акупанты спрыялі беларускай культуры і мове і развіццю беларускага кіраўнічага пласта, пры ўмове, што ягоныя прадстаўнікі былі гатовыя супрацоўнічаць з нямецкімі акупантамі і працаваць на іх.

[1] Mironowicz E. Kształtowanie się struktury... S. 56; Łuczak Cz. Polska i Polacy w Drugiej Wojnie Światowej. Poznań, 1993. S. 511; Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 28 і наст., 48 і наст.; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 45 і наст., 63 і наст. К'яры піша, што падчас нямецкага нападу ў БССР пражывалі 7,9 мільёнаў беларусаў, 940 000 яўрэў, 93 000 палякаў, 590 000 рускіх, 160 000 украінцаў, 90 000 літоўцаў і 6 500 немцаў.

[2] Савецкія ўладары, як і нямецкія акупанты, такім чынам ставілі пад сумнеў прэтэнзіі палякаў на гэтыя тэрыторыі. Яны выстаўлялі сябе абаронцамі і выратавальнікамі беларусаў, прыгнечаных палякамі, і адначасова зычліўцамі беларускай нацыі і культуры. Чым большай была частка «заняволеных» баларусаў, якіх трэба было абараняць, тым больш «пераканаўчай» была прэтэнзія. Такім чынам яны легітымізавалі савецкія альбо нямецкія прэтэнзіі на гэтыя тэрыторыі.

[3] Mironowicz E. Kształtowanie się struktury... S. 56; Łuczak Cz. Polska i Polacy... S. 511; Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 28 і наст., 48 і наст.; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 45 і наст., 63 і наст.



## 1. Паміж франтоў: беларускае насельніцтва ў партызанскай вайне

Доўгатэрміновыя планы нямецкіх акупантаў прадугледжвалі для Беларусі, як і для ўсёй Еўропы, засяленне немцамі[4]. Каротка- і сярэднетэрміновыя мэты палягалі ў тым, каб эканамічна эксплуатаваць краіну за кошт мясцовага насельніцтва і любой цаной, г. зн. атрымліваць прадукты харчавання для нямецкіх франтавых часцей (групы армій «Цэнтр»), набіраць працоўную сілу для выкарыстання ў рэйху і на месцах і забяспечваць шляхі падвозу для Усходняга фронту.

Пасля акупацыі Заходняй Беларусі немцы пачалі ствараць свой акупацыйны апарат, прычым яны ў першую чаргу рабілі стаўку на беларусаў. Нягледзячы на гэта, спачатку ўдалося адносна многім палякам знайсці працу ў акупацыйным апараце, які ствараўся. Аднак неўзабаве ўвесь апарат быў «ачышчаны» ад палякаў, і іх замянілі беларусамі.

Нямецкія акупанты імкнуліся прыцягнуць беларусаў на свой бок і выкарыстаць іх у гульні супраць палякаў і яўрэяў. Дырэктывы восені 1941 г. наконт гэтага дэкларавалі:

> Паўсюдна падтрымліваць беларускае насельніцтва і настойліва абараняць яго ад яўрэяў і палякаў. У абавязкі камандавання падраздзяленняў уваходзіць засвойванне новых загадаў і рапартаў па гэтым пытанні і неабходнасць дзейнічаць у гэтым духу. Гэта тычыцца асабліва паўночнай і паўднёва-заходняй частак Беларусі[5].

У беларускім пытанні нямецкая ваенная, нямецкая цывільная адміністрацыя, а таксама СС і паліцыя былі спачатку абсалютна адзіныя. Генрых Гімлер яшчэ 28 ліпеня 1941 г. даваў указанні сваім вершнікам СС, якія «ўціхамірвалі» паўднёвыя тэрыторыі Беларусі (Пінская і Палеская вобласці) і ўчынялі там крывавыя бойні над яўрэйскім насельніцтвам:

> Мы павінны добра разумець, што вёскі ў балоцістых мясцовасцях — гэта *апорныя пункты* ці *для нас*, ці *для праціўніка*. Нашымі апорнымі пунктамі яны могуць быць толькі тады, калі іх насельніцтва будзе складацца не са злачынцаў, а з нацыяналістычнага пункту гледжання з украінскага ці якога

[4] 12 студзеня 1943 г. Генрых Гімлер пісаў Конраду Маеру, які працаваў над «Генеральным планам засялення»: «У план засялення Усходу трэба ўключыць Літву, Латвію, Эстонію, Беларусь і Інгерманландыю, як і ўвесь Крым і Таўрыю». Ліст надрукаваны, сярод іншага, у: Generalny Plan Wschodni. Zbiór dokumentów / Pod red. Cz. Madajczyka; wybór i opracowanie: S. Biernacki, Cz. Madajczyk, B. Meissner. Warszawa, 1990. S. 261.

[5] Афіцэр Іа камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, 10 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 130, арк. 5).

іншага насельніцтва меншасці, якое настроена да нас добра, а да рускіх ці палякаў — варожа[6].

Пад «якімі іншымі» меншасцямі меліся на ўвазе так званыя «тутэйшыя» і беларусы. Савецкія ваеннапалонныя беларускай нацыянальнасці ў прынцыпе адпускаліся дамоў, як і ўкраінцы ці прыбалты. Райнгард Гайдрых у ліпені 1941 г. настаўляў каманды паліцыі бяспекі і СД, якія шукалі «падазроныя элементы» ў лагерах для ваеннапалонных:

> […] што пры рашэннях, якія трэба прыняць, неабходна асабліва звяртаць увагу на нацыянальную прыналежнасць. Украінцаў, беларусаў, азербайджанцаў, армянаў, паўночных каўказцаў, грузін, прадстаўнікоў цюркскіх народаў можна толькі тады лічыць несумненна падазронымі і далей абыходзіцца з імі, як прадпісваецца, калі гэта — у асобным выпадку — сапраўды фанатычна настроеныя бальшавікі, паліткамісары ці іншыя небяспечныя работнікі[7].

Каманды ў лагерах для ваеннапалонных былі абавязаныя не толькі адрозніваць і ліквідаваць «падазроныя элементы» і «фанатычных бальшавікоў», «але і вылучаць тыя надзейныя элементы, якія могуць быць прыдатнымі для адбудовы ўсходніх тэрыторый. *Я (Гайдрых) яшчэ раз указваю на тое, што важныя як адна, так і другая задачы*»[8].

Паводзінамі беларускага насельніцтва нямецкія акупанты ў першы год акупацыі былі ўвогуле задаволены. Генерал фон Шэнкендорф, камандуючы тылавым раёнам групы армій, у верасні 1941 г. дакладваў: «Увогуле радасна выяўляць, што мясцовае насельніцтва [беларусы і рускія] якраз на гэтай тэрыторыі настроена абсалютна зычліва»[9]. 13 лістапада 1941 г. фон Шэнкендорф дакладваў Вярхоўнаму камандаванню вермахта пра поспехі ў барацьбе з партызанамі і пры гэтым сцвярджаў: «Падтрымка насельніцтвам, давер якога да нямецкага кіраўніцтва дзякуючы апошнім поспехам немцаў вырас, мае пры гэтым вырашальнае значэнне»[10].

[6] Баявы загад Гімлера «Дырэктывы па прачэсванні і патруляванні балоцістых мясцовасцей кавалерыйскімі падраздзяленнямі», 28 ліпеня 1941 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 25, л. 429). Вылучана ў арыгінале.

[7] Дадатковыя дырэктывы Гайдрыха для размешчаных у шталагах падраздзяленняў паліцыі бяспекі і СД, без даты, [пасля 17 ліпеня 1941 г.] (Тамсама. Л. 39 і наст.).

[8] Тамсама. Вылучана ў арыгінале.

[9] 10-дзённая зводка афіцэра Іа камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» у Вярхоўнае камандаванне сухапутных войскаў, 10 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 22/227, Bl. 25 і наст.). У паведамленні той самай інстанцыі ад 30 верасня 1941 г. гаворыцца: «У шмат якіх выпадках у барацьбе з партызанамі можна было адзначыць радаснае супрацоўніцтва мясцовых жыхароў. Але дапамога была б яшчэ большай, калі б не страх вяртання чырвоных, які падтрымліваецца ў насельніцтва пры дапамозе ўлётак і чутак». Гл.: Тамсама. Bl. 37 і наст.

[10] Даклад афіцэра Іа камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» у Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў, 13 лістапада 1941 г. (BA-MA. RH 22/225, Bl. 167 і наст.).



У дакладзе ад 21 кастрычніка 1941 г. гаворыцца:

> Беларускае (*weißruthenische*) насельніцтва паводзіць сябе ўвогуле спакойна. Затрымліваем толькі асобных камуністаў, якія наладжваюць сувязь з агентамі савецкага ўрада і з партызанамі. Час ад часу ад жыхароў вёсак прыходзяць яшчэ звесткі пра партызанаў, якія, пагражаючы зброяй, канфіскуюць у сельскага насельніцтва прадукты харчавання[11].

У гэтых адносінах тагачасныя савецкія паведамленні цалкам супадаюць з нямецкімі[12].

Аднак нямецкія акупанты не цалкам давяралі беларусам, нейкую частку беларускага насельніцтва яны лічылі «няўстойлівымі і ненадзейнымі» і агулам «ніколі пранямецкімі»[13]. Органы вермахта ў Беларусі вясной 1942 г. не песцілі вялікіх ілюзій адносна лаяльнасці беларусаў да нямецкіх акупантаў:

> *Беларусы* (*Weißruthenen*): У барацьбе з партызанамі апошніх тыдняў выявілася, што насельніцтва ўвогуле практычна не супрацоўнічала з бандамі і было гатова даваць карысныя звесткі для іх пераследавання. Але, нягледзячы на гэта, варта ўказаць на тое, што вялікая яго частка ў выпадку больш спроб выступленняў з боку партызанаў адразу пяройдзе да іх, бо з рускай прапаганды яна даведваецца, што ў сапраўднасці трэба разлічваць на хуткае вяртанне Чырвонай Арміі, а з ёй і бальшавізму! Многія беларусы, якія сёння мірна займаюцца сваёй працай, у такіх абставінах, пэўна ж, гатовыя павярнуцца супраць немцаў, каб потым не быць абвінавачанымі ў падтрымцы нямецкіх салдат. Гэтая частка насельніцтва значна павялічыць колькасць партызанаў, нават калі яна не будзе мець асаблівай баявой вартасці. Супраць гэтага ёсць вельмі дзейны сродак — контрпрапаганда. […] Беларускае насельніцтва можна схіліць на свой бок перш за ўсё прыязнасцю і дабрынёй. Дзе неабходна, да месца будзе пэўная, але строгая жорсткасць[14].

На гэтым фоне зразумела, што нямецкія акупанты не хацелі спадзявацца ў барацьбе з партызанамі толькі на добрую волю мясцовага насельніцтва. 28 ліпеня 1941 г. Генрых Гімлер зацвердзіў дырэктывы па барацьбе з партызанамі на балоцістых тэрыторыях Пінскай і Палескай абласцей сіламі конніцы СС:

> 2) Калі насельніцтва, нацыянальна варожае, расава і па-чалавечы непаўнавартае ці нават, як гэта часта здараецца на балоцістых тэрыторыях, скла-

[11] Сітуацыйная справаздача 11-га рэзервовага паліцэйскага батальёна адносна спецаперацый у Мінску за перыяд з 14 да 21 кастрычніка 1941 г., 21 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 651, воп. 1, спр. 1, арк. 3).

[12] Параўн. раздзел «Насельніцтва і партызанскі рух: “здрада”».

[13] Месячная зводка камандавання тэрыторыі забеспячэння Беларусь з 1 да 31 студзеня 1942 г., 4 лютага 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 2 і наст.).

[14] Паведамленне камандавання тэрыторыі забеспячэння Беларусь пра становішча з 1 да 15 лютага 1942 г., 20 лютага 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 4 і наст.).

> даецца з прышлых злачынцаў, то ўсіх, хто падазраецца ў дапамозе партызанам, неабходна расстрэльваць; жанчын і дзяцей трэба вывозіць, жывёлу і прадукты харчавання канфіскоўваць і дастаўляць у бяспечнае месца. Вёскі дашчэнту паліць.
> 3) Альбо вёскі і мястэчкі ёсць сеткай нашых апорных пунктаў, жыхары якіх *самі* забіваюць кожнага партызана і марадзёра і нам паведамляюць пра ўсіх, альбо яны перастаюць існаваць. Ніводны праціўнік не павінен знаходзіць у гэтай мясцовасці падтрымкі і сродкаў для пражытку[15].

Гэтыя дырэктывы чытаюцца як інструкцыя для будучых буйных аперацый супраць партызанаў і стварэння «мёртвых зон». Вермахт прытрымліваўся спачатку такой самай стратэгіі. У адным дакладзе вермахта ад 6 лютага 1942 г. пра становішча ў рэгіёне вакол Арла і Курска гаворыцца:

> Для выяўлення партызанаў і барацьбы з імі неабходна ў самых шырокіх маштабах прыцягваць насельніцтва. Дагэтуль удзел рускіх жыхароў прыносіў найчасцей добрыя вынікі. Калі ж высвіцца, што дзе-небудзь насельніцтва не цалкам супрацоўнічае ў барацьбе з партызанамі, тады з імі трэба абыходзіцца з усёй строгасцю і адпаведна *прынцыпу*, што страх нямецкіх захадаў павінен быць большым, чым боязь ад пагрозаў партызанаў[16].

Нямецкія акупанты абавязвалі мясцовых жыхароў супрацоўнічаць з імі ў барацьбе з партызанамі. Адначасова яны іх запалохвалі, заяўляючы пра калектыўную адказнасць за напады на нямецкія войскі[17]. Тым самым яны рабілі няўдзельных цывільных адказнымі за нейкія партызанскія напады. І гэты прынцып нямецкія акупанты з самага пачатку ажыццяўлялі на практыцы. Дамы, паселішчы і цэлыя вёскі, якія яны лічылі «партызанскімі апорнымі пунктамі», спальваліся дашчэнту, а іх жыхароў ці вывозілі, ці забівалі. У 1941 г. на беларускай тэрыторыі такое здаралася яшчэ рэдка, бо барацьба з партызанамі праходзіла тут, з пункту гледжання немцаў, даволі паспяхова.

Нямецкія ўлады стварылі беларускую паліцыю (індывідуальная служба) і падобныя да паліцэйскіх фармаванні (ахоўныя каманды) з добраахвотнікаў, якія мелі задачу ўціхамірваць краіну, г. зн. «ачышчаць» ад партызанаў і шматлікіх крымінальных бандаў, а таксама праводзіць у жыццё распараджэнні нямецкіх улад. Яны прыцягваліся таксама для прымусовага збору кантынгентаў і пераследавання яўрэяў. На мяжы 1943—1944 гг. нямецкія ўлады стварылі калабарацыянісцкі ўрад пад кіраўніцтвам Радаслава Астроўскага, які распрацоўваў

[15] Баявы загад Гімлера «Дырэктывы па прачэсванні і патруляванні балоцістых мясцовасцей кавалерыйскімі падраздзяленнямі», 28 ліпеня 1941 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 25, л. 430). Вылучана ў арыгінале.

[16] Даклад афіцэра Іс па партызанскіх справах Галоўнакамандавання 55-га армейскага корпуса, 6 лютага 1942 г. (BA-MA. RH 26-221/28, без нумарацыі аркушаў). Вылучана ў арыгінале.

[17] Памятка для бургамістраў 551-й палявой камендатуры, Гомель, 4 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/21, Bl. 304 і наст.).



амбіцыйныя планы па стварэнні беларускай нацыянальнай дзяржавы. Але гэта не азначала прынцыповай змены нямецкай палітыкі адносна беларусаў, а было толькі тактычным манеўрам у адчайных пошуках саюзнікаў у вайне супраць Савецкага Саюза. У барацьбе, якую Германія мусіла прайграць[18].

Тая акалічнасць, што шмат тысяч беларусаў працавалі паліцаямі, бургамістрамі, старастамі, чыноўнікамі ці рабочымі на нямецкіх акупантаў і супрацоўнічалі з імі, з савецкага пункту гледжання аўтаматычна рабіла іх здраднікамі Савецкага Саюза, тым больш, што нямецкія акупанты бралі на працу пераважна тых, хто асабліва пацярпеў ад савецкага тэрору. Многія ахвяры савецкага тэрору і пераследаванняў і без таго прагнулі помсты за паспытаную несправядлівасць і жадалі атрымаць назад гвалтам забраную (нацыяналізаваную) уласнасць (дамы, зямлю). Як ужо гаварылася, нянавісць савецкіх партызанаў кіравалася на гэтых «здраднікаў», як быццам пасля ўсяго таго, што яны вытрывалі, можна было яшчэ разлічваць на іх лаяльнасць у дачыненні да Савецкага Саюза. Тысячы іх былі потым расстраляныя і знішчаныя, некаторыя разам з сем'ямі.

З ростам партызанскага руху становішча беларускага насельніцтва рабілася ўсё больш няпэўным. Партызаны накіроўвалі свае акцыі ў першую чаргу супраць паліцаяў, бургамістраў, старастаў і ўсіх «антысавецкіх элементаў», якія жылі ў сельскай мясцовасці. Гэта ўсведамлялі і нямецкія акупанты. Камандуючы тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» генерал фон Шэнкендорф дакладваў 15 красавіка 1942 г.: «Цывільнае насельніцтва ўвогуле настроена да нас не варожа. У мясцовасцях, дзе гаспадараць партызаны, а нямецкія вайскоўцы не паказваюцца, яны міжволі мусяць хаўрусаваць з партызанамі»[19]. Праз паўтара месяца фон Шэнкендорф сігналізаваў:

> Вера насельніцтва ў моц нямецкага войска знікае, бо ў яго з'яўляецца ўражанне, што мы не можам адолець партызанаў. Яно тэрарызуецца партызанамі, прызначаных намі бургамістраў і людзей службы парадку забіваюць разам з сем'ямі. З гэтай прычыны расце схільнасць падтрымліваць партызанаў і нават павялічваць іх колькасць[20].

На тэрор партызанаў, які быў накіраваны на тых, хто не хацеў дапамагаць ім, нямецкія акупанты рэагавалі тэрорам супраць тых, хто цяпер быў з партызанамі. У якасці прыкладу працытуем даклад пра баявыя дзеянні 102-га казацкага палка ў час аперацыі «Бамберг» на поўдзень ад Бабруйска з 16 сакавіка да 17 красавіка 1942 г.:

[18] Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 96—194; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 112—209; Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 196—213; Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 11—75.

[19] «Заяўка на прызначэнне падраздзяленняў для наступальнай барацьбы з партызанамі» камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», 16 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/230, Bl. 112).

[20] Ацэнка камандуючым тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» становішча ў тылавым раёне групы армій «Цэнтр», 31 мая 1942 г. (BA-MA. RH 22/230, Bl. 265—271).

У населеным пункце Воземля, які быў заняты 29.3, незадоўга да гэтага былі партызаны і сядзелі там. Аднак насельніцтва папярэдзіла іх, і яны своечасова ўцяклі. [...] Пакінуўшы 1.4 казармы, нашыя сілы, пасля стараннай праверкі, спалілі дашчэнту каля 10 дамоў партызанскіх прыхільнікаў. [...] 5.4 прыбыла група СД і службы парадку. Разам з гэтым атрадам ноччу з 5 на 6.4 была акружана вёска Коўцічы II, таму што там, паводле атрыманых звестак, начавалі партызаны. Але іх, мусіць, папярэдзілі, таму што іх ужо не было. Пасля праведзенагаператрусу ў вёсцы потым былі выяўленыя гаспадары, якія заўсёды давалі ім жытло, і СД ліквідавала сялян, а жытло спаліла. У Коўцічах I казакі самі выявілі 5 партызанскіх прыхільнікаў і перадалі іх СД. [...] На тэрыторыях, дзе гаспадараць партызаны, яно [насельніцтва] нацкавана супраць немцаў. З гэтай прычыны часта натыкаешся на выключна варожыя адносіны. Насельніцтва таксама часта папярэджвала партызанаў. У некаторых вёсках, як, напрыклад, у Пратасах, быў выяўлены моцны актыўны ўдзел у партызанскіх атрадах. Улічваючы гэта, камандаванне эскадрона выгашыла са згоды 10/727 у Пратасах, дзе асабліва шмат было выкрыта мужчын-партызанаў, дзейнічаць энергічна і знішчыць сем'і, як і гаспадаркі такіх партызанаў[21].

У гэтай сувязі варта нагадаць, што ў партызаны ў гэтай мясцовасці пачалі забіраць рана, што, пэўна, было вядома нямецкім уладам яшчэ перад аперацыяй «Бамберг». Яны таксама ведалі, якім няпэўным было становішча насельніцтва на тэрыторыях, дзе гаспадарылі партызаны. У дакладзе ад 10 сакавіка 1942 г. пра становішча ў гэтай мясцовасці, дзе пазней праводзілася аперацыя «Бамберг», гаворыцца:

Шматлікія [...] буйныя банды перамяшчаюцца ад вёскі да вёскі, забіраючы жывёлу і прадукты харчавання. Яны забіваюць пранямецкія элементы, у першую чаргу бургамістраў і старастаў калгасаў, і прымушаюць юнакоў з 15 гадоў і старэй ісці ў іх шэрагі[22].

Генерал фон Шэнкендорф дакладваў 15 мая 1942 г.:

Як і раней, трэба канстатаваць, што насельніцтва ўвогуле настроена не варожа. [...] Як і раней, шматлікія колы супрацоўнічаюць з намі ў барацьбе з партызанамі. Пры гэтым селяніну даводзіцца сапраўды цяжка. Вермахт забірае ў яго апошняга каня, а часта і апошнюю карову, а з другога боку, партызаны адбіраюць у яго апошняе. [...] На занятых партызанамі тэрыторыях насельніцтва, вядома, не адважваецца выяўляць нейкія сімпатыі да немцаў, а жыве цалкам пад страхам тэрору з боку партызанаў[23].

---

[21] Справаздача 102-га казацкага палка адносна практыкі баявых дзеянняў казакоў, падпісаная зондэрфюрарам (нечытэльна), 25 красавіка 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 151 і наст.).

[22] Прапанова 203-й ахоўнай брыгады наконт баявых дзеянняў у аперацыі «Бамберг», 10 сакавіка 1942 г. (BA-MA. RH, 22/230, Bl. 201 і наст.).

[23] Справаздача пра дзейнасць афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» за красавік 1942 г., 7 мая 1942 г. (BA-MA. RH 22/231, Bl. 199—203).



Нягледзячы на гэта, немцы, славакі і «мясцовыя» ў час аперацыі «Бамберг» забілі шмат тысячаў жыхароў, дашчэнту спалілі шматлікія вёскі і «захапілі» на партызанскіх тэрыторыях усе сельскагаспадарчыя прадукты (жывёлу, зерне, корм). Нямецкія ўлады, пэўна ж, добра ўсведамлялі, што гэтыя злачынствы пазней паўплываюць на адносіны насельніцтва да іх. У адной з заўваг адносна планаў аперацыі «Бамберг» гаворыцца:

Канфіскацыя ўсяго, г. зн. адбіранне апошняй каровы і насеннага збожжа, прапануецца, калі тэрыторыя не застаецца пад акупацыяй часці. Пры гэтым усё-ткі трэба ўлічваць, што радыкальнае адыманне маёмасці пакіне на гады негатыўны настрой насельніцтва ў дачыненні да любой нямецкай адміністрацыі[24].

Пасля аперацыі «Бамберг» былі дзясяткі падобных, а часам і яшчэ больш крывавых, аперацый нямецкіх акупантаў, якія намінальна былі накіраваныя супраць партызанаў. У канчатковым выніку, аднак, ад іх пакутавала ў першую чаргу насельніцтва адпаведных тэрыторый, якое трапляла паміж франтоў. Нямецкія ж акупанты яшчэ больш узмацнялі свае захады і распрацавалі канцэпцыю «мёртвых зон», сістэматычнае ачышчэнне ад людзей (шляхам забойстваў і вывазу), рабаўніцтва і выпальванне цэлых тэрыторый, якія акупанты не ў стане былі ўтрымліваць, як гэта планаваў Гімлер яшчэ ў ліпені 1941 г.

Але ў выніку гэтых захадаў усё сталася наадварот: замест таго, каб прытушыць партызанскі рух, немцы паспрыялі яму. Фон Шэнкендорф выступаў не адзін раз супраць такіх акцый і папярэджваў наконт вынікаў. З жніўня 1942 г. ён у адным лісце ўсім сваім падначаленым падраздзяленням рэзка крытыкаваў безразборлівае знішчэнне цывільнага насельніцтва на падставе барацьбы з партызанамі:

У апошні час усё часцей здаралася, што ў ходзе чыстак і ўціхамірвання набылі ўжыванне так званыя «меры адплаты». [...] вядома таксама, што ў такіх мерах адплаты ў пераўзыходзячай большасці выпадкаў імі закранаюцца жыхары, якія ані стаяць на баку партызанаў, ані падтрымліваюць іх, а часцей за ўсё толькі пад ціскам партызанскага тэрору вымушаныя даваць ім жытло і харч. Адказваць на партызанскі тэрор нямецкім тэрорам азначае ствараць для сябе абставіны, якія прывядуць да невыноснай небяспекі і ў канцы абавязкова разбураць нашую стваральную працу, а з ёй і жыццёвы грунт часцей. З гэтай прычыны я — ва ўзгадненні з вышэйшым кіраўніцтвам СС і паліцыі па падтрыманні парадку і па бяспецы — прадпісваю наступнае: 1) калектыўныя і карныя мерапрыемствы, калі яны тычацца расстрэлаў жыхароў ці спальвання населеных пунктаў, прынцыпова могуць ажыццяўляцца толькі па загадзе афіцэра не ніжэй пасады камандзіра батальёна, калі *адназначна* даказана падтрымка партызанаў насельніцтвам ці пэўнымі асобамі. [...] 2) *Я забараняю расстрэл жанчын і дзяцей, за вы-*

---

[24] Прапанова 203-й ахоўнай брыгады наконт баявых дзеянняў у аперацыі «Бамберг», 10 сакавіка 1942 г. (BA-MA. RH, 22/230, Bl. 201 і наст.).

*ключэннем снайперак.* [...] Мы не вядзём вайну супраць насельніцтва, тым больш калі яно, увогуле, згодна і гатова супрацоўнічаць[25].

Яго прадпісанне выконвалі не ўсе, і 8 кастрычніка 1942 г. генерал фон Шэнкендорф яшчэ раз унушаў сваім камандзірам дывізій:

Гэтым я яшчэ раз нагадваю пра маю *забарону спальвання* вёсак, бо папярэдняй умовай упэўненага знішчэння бандытаў з'яўляецца зычлівасць рускага насельніцтва, якое мы ні за грош трацім бессэнсоўнымі спальваннямі[26].

Гімлер і яго самыя блізкія супрацоўнікі, у прыватнасці Эрых фон дэм Бах-Зялеўскі, якія вызначалі метады «барацьбы з бандамі», прытрымліваліся, аднак, іншай думкі. Яны мэтанакіравана рабілі стаўку на масавы тэрор і забойствы. Яны аб'яўлялі насельніцтва на «бандыцкіх» тэрыторыях па-за законам, не клапоцячыся пры гэтым пра нейкія палітычныя развагі. Гэта наглядна паказвае ход аперацыі «Нюрнберг» у Вілейскай вобласці з 22 да 26 лістапада 1942 г. Дырэктывы па аперацыі «Нюрнберг» былі наступныя: «Усе населеныя пункты, якія знаходзяцца непасрэдна ў мясцовасцях варожай тэрыторыі, лічыць бандыцкімі»[27]. Загад аб наступленні № 1 па аперацыі «Нюрнберг» зноў пацвердзіў: «Бандыцкія і падазроныя ў сувязях з бандамі населеныя пункты [...] неабходна грунтоўнаператрэсці і абыходзіцца з імі без цырымоній»[28].

Крытыка гэтых захадаў і звяртанне ўвагі на катастрафічныя вынікі спачатку дапамагалі мала. У ваенным дзённіку групы армій «Цэнтр» занатавана за 4 снежня 1942 г.:

Даклад 1-й пяхотнай брыгады СС аб аперацыі «Нюрнберг» у раёне Глыбокага. Прыведзеныя там лічбы малююць жахлівую карціну пра метады, якімі часам абыходзіліся з жыхарамі. Многія населеныя пункты былі спалены, усе жыхары, у тым ліку жанчыны і дзеці, спецапрацаваныя [г. зн. забітыя]. Гэта найлепшы ачаг для новых бандыцкіх раёнаў[29].

Летам 1943 г. заўсёдныя бойні мірнага насельніцтва і іх вынікі прыцягнулі ўвагу і нямецкай цывільнай адміністрацыі Генеральнага камісарыята. Ляснічы Мінскага лясніцтва 6 чэрвеня 1943 г. скардзіўся на вынікі «акцый барацьбы з партызанамі» ў яго адміністрацыйным раёне:

[25] Загад генерала фон Шэнкендорфа ад 3 жніўня 1942 г. (BA-MA. RH 22/233, Bl. 66 і наст.). Вылучана ў арыгінале.

[26] Нарада камандуючых дывізій 8 кастрычніка 1942 г. (Тамсама. Bl. 272). Вылучана ў арыгінале.

[27] Афіцэр Іс 1-й пяхотнай брыгады СС пра дыслакацыю ворага падчас аперацыі «Нюрнберг», 19 лістапада 1942 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 54).

[28] Загад аб наступленні № 1 1-й пяхотнай брыгады СС па аперацыі «Нюрнберг», Іа, падпісаны штандартэнфюрарам СС Рыхардам Германам 20 лістапада 1942 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 48).

[29] Ваенны дзённік камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», што вёўся з 1 ліпеня да 31 снежня 1942 г., запіс ад 4 снежня 1942 г. (BA-MA. RH 22/232, Bl. 120v).



Усе буйныя акцыі дагэтуль не прынеслі ніякага змяншэння няўпэўненасці. Так, напрыклад, у раёне Лагойска і Плешчаніцаў, а таксама ў раёне Узды за шашой і ў блізкіх наваколлях нямногіх апорных пунктаў для нас абсалютна няма жыцця. У першых двух раёнах — гэта ў першую чаргу дзеянні батальёна Дырлевангера, які нясе з сабой што заўгодна, толькі не прымірэнне. Паслядоўнае спальванне вёсак вядзе толькі да знішчэння апошніх рэштак насельніцтва, якое нас падтрымлівае ці хаця б не выступае супраць нас. Бо сапраўды вінаватыя даўно ўжо своечасова ўцяклі ў лес. З часам і прыстойна настроенае насельніцтва пойдзе тым жа самым шляхам, таму што яно сёння ў партызанаў адчувае сябе куды больш небяспечна. — На жаль, батальён Дырлевангера разглядае сваю задачу толькі як задачу знішчэння. [...] Гэтая спусташальная вайна, якая вядзецца на поўначы ад Мінска на аснове спецзагадаў і якая галоўным чынам закранае толькі невінаватых людзей і матэрыяльныя каштоўнасці, дзейнічае як найлепшая варожая прапаганда[30].

Вільгельм Кубэ, генеральны камісар, таксама ў лісце ад 29 ліпеня 1943 г. крытыкаваў метады «барацьбы з бандамі» і іх вынікі:

Пасля кожнай буйной аперацыі можна адназначна канстатаваць, што найчасцей своечасова збеглыя сапраўдныя бандыты маленькімі групамі рассейваюцца па ўсёй краіне і што, акрамя таго, насельніцтва шматлікіх спаленых вёсак — наколькі яно магло ўратавацца — пераходзіць да партызанаў. Вядуцца масавыя расстрэлы жанчын і дзяцей, увесь час падпальваюцца вёскі, і абурэнне лаяльных дагэтуль частак насельніцтва ў адносінах да нас расце[31].

Гэтая крытыка мела той эфект, што з ліпеня 1943 г. насельніцтва партызанскіх зон у буйных аперацыях масава не знішчалася, а толькі вывозілася на прымусовую працу. І ўсё ж нямецкія і «мясцовыя» каманды працягвалі паліць населеныя пункты і рабаваць усё, што траплялася пад руку, асабліва жывёлу і збожжа, астатняе яны знішчалі. З пункту гледжання немцаў, жыхары партызанскіх зон былі па-за законам, незалежна ад таго, падтрымлівалі яны партызанаў ці не. Падобна абыходзіліся партызаны з жыхарамі тэрыторый, якія яны не кантралявалі ці дзе яны не гаспадарылі. Тут уволю можна было рабаваць, не клапоцячыся пра прызначаныя зоны і нормы забеспячэння. Прыклад мястэчка Давыд-Гарадок, якое Сабураў са сваімі партызанамі ў канцы ліпеня 1943 г. узяў штурмам і абрабаваў, гаворыць пра шмат што.

Зімой і вясной 1943 г. у Віцебскай і Мінскай абласцях знаходзіўся камсамольскі актывіст, які, сярод іншага, канстатаваў: у той час, калі ўнутры партызанскай зоны марадзёрства пераследуецца, значная частка партызанаў разглядае насельніцтва «нямецкай зоны» як ворагаў. Там напады набываюць масавы характар, супраць чаго

[30] Справаздача ляснічага Мінскага лясніцтва пра становішча за чэрвень 1943 г., 6 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 888, арк. 9—11).

[31] Вільгельм Кубэ, генеральны камісар Беларусі, міністэрыяльдырэктару Рыкэ, 29 чэрвеня 1943 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 62 і наст.).

нічога не робіцца. Адпаведна там такія ж адносіны і насельніцтва да партызанаў:

> Вораг выкарыстоўвае гэта, каб вербаваць сярод насельніцтва агентаў і мацаваць свае апорныя пункты. Насельніцтва паведамляе пра з'яўленне партызанаў, уцякае ад іх у гарнізоны і праганяе жывёлу. [...] Без рашучай змены адносін да насельніцтва барацьба супраць немцаў будзе натыкацца на вялікія цяжкасці[32].

Беларускае насельніцтва ў гэтых нападах бачыла рэакцыю савецкіх актывістаў і камуністаў на сваю ўяўную здраду. У лістападзе 1942 г. камісар Беларускай дыверсійнай брыгады асобага прызначэння скардзіўся:

> Партызаны кампраметуюць сябе ў вачах насельніцтва як банда рабаўнікоў, бо яны марадзёрнічаюць, абіраюць насельніцтва, крадуць і ў п'яным стане расстрэльваюць цывільных людзей. « Ім [бандзе рабаўнікоў] пасля разгрому Савецкай улады нічога больш не засталося, як ратавацца ад галоднай смерці праз рабаўніцтва і помсціць беларускім сялянам за тое, што яны адмовіліся паміраць за камуністаў і яўрэяў і гасцінна віталі часці вялікай Германіі»[33].

Гэтыя прыклады відавочна паказваюць, у якім бесперспектыўным становішчы знаходзілася сельскае насельніцтва Беларусі ў час нямецкай акупацыі. Яно трапіла паміж двух франтоў выключна брутальнай партызанскай вайны і, як ваенны закладнік, падвяргалася здзекам з абодвух бакоў. З аднаго боку стаялі партызаны, з другога — нямецкія акупанты, і кожны бок патрабаваў паслухмянасці, якой яны абодва дамагаліся сілай, інакш пагражалі знішчэннем. Абодва бакі паводзілі сябе паводле прынцыпу: «Хто не за мяне, той супраць мяне»[34].

Якое б рашэнне ні прымалі беларускія жыхары, выяўлялася, што яно няправільнае. Калі яны працавалі на нямецкіх акупантаў, іх у любы час маглі забіць партызаны; калі ж яны дзейнічалі на карысць партызанаў, іх знішчалі нямецкія акупанты. Заставацца нейтральным было немагчыма.

Гэтая акалічнасць прывяла да таго, што беларускае насельніцтва ў час нямецкай акупацыі мусіла несці вялікія страты, хоць нямецкая акупацыйная палітыка адносна этнічна беларускага насельніцтва ў прынцыпе ніяк не была накіравана на генацыд. Наадварот, нямецкія акупанты спрыялі беларускаму нацыяналізму і імкнуліся выкарыстаць яго для ўласных мэт. Без партызанскай вайны страты этнічна беларускага цывільнага насельніцтва ад непасрэднага нямецкага тэрору былі б, пэўна, адносна малымі, якія можна было б параўнаць з сітуацыяй у Літве, Латвіі, Эстоніі, Чэхіі ці ў заходніх краінах, акупаваных немцамі, вядома, без уліку яўрэйскага насельніцтва гэтых краін.

[32] Паведамленне лектара ЦК ЛКСМБ ад 19 ліпеня 1943 г. пра сваю службовую дзейнасць у перыяд з 3 лістапада 1942 г. да 20 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1336, воп. 1, спр. 45, арк. 40 і наст.).

[33] Камісар Беларускай дыверсійнай брыгады для надзвычайных даручэнняў В. Лобараў П. Панамарэнку, без даты, штэмпель паступлення ў ЦШПР 23 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 227 і наст.).

[34] Паведамленне Мінскага гебітскамісарыята пра бягучую сітуацыю, 31 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 888, арк. 42).



Атрымаць дакладную лічбу ахвяр, забітых немцамі і «тутэйшымі» ў ходзе барацьбы з партызанамі ў Беларусі, цяпер ужо немагчыма. Застаюцца толькі ацэнкі, а яны вагаюцца паміж 248 000 і 300 000 загінулых на тэрыторыі тылавога раёна групы армій «Цэнтр» і Генеральнага камісарыята Беларусі. Крысціян Герлах лічыць гэтыя падлікі заніжанымі і зыходзіць прыкладна з 345 000 чалавек, «забітых у барацьбе немцаў з партызанамі ў Беларусі»[35].

Апошняя лічба здаецца, аднак, занадта вялікай, тым больш што яна пераўзыходзіць нават савецкія ацэнкі, у якіх гаворка ідзе пра больш чым 300 000 ахвяр. Герлах пры гэтым называе савецкія «вынікі даследаванняў», далёкія ад праўдападобнасці, «беларускімі». Вядомы, напрыклад, факт, што савецкія органы, якія расследавалі фашысцкія злачынствы, выдавалі ахвяр савецкага тэрору за ахвяр фашысцкага. Самы вядомы выпадак — забойства польскіх ваеннапалонных вясной 1940 г. супрацоўнікамі НКУС у Катыні, якое перакладалі на нямецкі вермахт. І беларускіх ахвяр ад савецкіх партызанаў проста «спісвалі» на нямецкі рахунак, калі не выдавалі за «нямецкіх салдат і афіцэраў» ці «нямецкіх агентаў і памагатых».

Герлах таксама выявіў, што нямецкія акупанты ў ходзе 55 буйных аперацый забілі ў Беларусі мінімум 150 000 чалавек, сярод іх было 14 000 яўрэяў (9 %). Лічбы ахвяр у незлічоных дробных акцыях наўрад ці можна вызначыць. Лічба 40 000 чалавек, якія, паводле Герлаха, былі забітыя да пачатку 1942 г. толькі на беларускай частцы тэрыторыі тылу групы армій «Цэнтр» у ходзе барацьбы з партызанамі, здаецца, аднак, перабольшанай, тым больш што даволі рэдка гэта былі этнічныя беларусы[36]. Да пачатку аперацыі «Бамберг» у сакавіку 1942 г. нямецкія акупанты забівалі этнічных беларусаў даволі рэдка. Нямецкія карныя акцыі былі накіраваныя тады ў прынцыпе супраць савецкіх актывістаў і дзеячаў ды супраць яўрэяў.

Варта ўлічыць, што колькасць выяўленых ахвяр партызанскай вайны ўключае ў сябе і партызанаў, якія загінулі ў баях ці, узятыя ў палон, былі расстраляныя або павешаныя. Савецкія крыніцы гавораць у гэтай сувязі пра 35 000 загінулых і зніклых без вестак партызанаў (з іх амаль 20 000 беларусаў), і гэта — мінімальная лічба. Доля насельніцтва польскай нацыянальнасці сярод ахвяр партызанскай вайны таксама не была малой, і яна да сёння застаецца нявызначанай у савецкіх, сённяшніх беларускіх, ды і ў заходніх даследаваннях. Тое ж самае тычыцца і рускага ды ўкраінскага насельніцтва Беларусі. Такім чынам, лічба этнічных беларусаў, якія сталі ахвярамі нямецкага тэрору ў рамках барацьбы немцаў з партызанамі, хоць і пераўзыходзіць 100 000, аднак, мусіць, складае менш за 200 000.

[35] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 955—958.

[36] Тамсама.

## 2. Яўрэі і партызаны

У Беларусі ў чэрвені 1941 г. у тагачасных межах (з раёнамі Беластока і Ломжы) жыло каля 840 000 яўрэяў[37], а ў сённяшніх межах (без абодвух раёнаў, якія зноў належаць да Польшчы) прыблізна ад 650 000 да 680 000 яўрэяў, 6,5 % усяго насельніцтва. Прыкладна ад 150 000 да 180 000 з іх былі эвакуіраваныя пасля 22 чэрвеня 1941 г. ці ўцяклі ад нямецкіх войскаў на ўсход. Пры гэтым размова ішла перш за ўсё пра яўрэяў з усходніх абласцей. Астатнія яўрэі, каля 0,5 мільёна ў сённяшніх межах Беларусі, былі забітыя ў час нямецкай акупацыі[38].

Забойствы беларускіх яўрэяў пачалося з увахоаджаннем нямецкіх войскаў. У першыя тыдні вайны расстрэльныя каманды айнзацгрупы «В», паліцэйскія батальёны і кавалерыя СС забівалі галоўным чынам яўрэйскіх мужчын, так званую «яўрэйскую інтэлігенцыю». У жніўні і верасні 1941 г. масавае забойства пашырылася на яўрэйскіх жанчын і дзяцей і былі знішчаныя першыя дробныя яўрэйскія абшчыны колькасцю да 1 000 чалавек. У пачатку кастрычніка 1941 г. пачалося татальнае знішчэнне яўрэяў ва ўсходніх частках Беларусі. Заходнія вобласці таксама не ацалелі, там нямецкія айнзацкаманды моцна скарачалі яўрэйскія абшчыны, аднак спачатку не цалкам. Сельскія раёны (большасць яўрэяў жылі ў гарадах) да канца 1941 г. у большасці зрабіліся «свабоднымі ад яўрэяў». Ахвяры былі часткова забітыя, часткова перасеrange ў арганізаваныя ў гарадах гета. Ва ўсходніх частках Беларусі да пачатку 1942 г. яшчэ заставаліся жывымі каля 30 000 яўрэяў[39].

Астатнія яўрэі з лета 1941 г. былі пазаганяныя ў гета і прыцягнутыя да прымусовай працы. Да лета 1942 г. расстрэльныя каманды вынішчылі большасць яшчэ жывых яўрэяў з усходніх абласцей Беларусі. У заходняй частцы Беларусі з пачатку 1942 г. таксама адбыліся масавыя забойствы яўрэяў. Там у маі 1942 г. пачалася вялікая знішчальная хваля. У пачатку 1943 г. у Беларусі яшчэ жылі каля 30 000 яўрэяў у біткам набітых гета ў вялікіх гарадах, як, напрыклад, у Мінску, Лідзе ці Навагрудку. Да канца 1943 г. і гэтыя гета былі «ачышчаныя», г. зн. іх зняволеныя былі расстраляныя на месцах перад расстрэльнымі ямамі ці вывезеныя ў знішчальныя лагеры (галоўным чынам у Траблінку, а таксама ў Асвенцім) і там забітыя. Мяркуецца, што ахвярамі Халакосту сталі мінімум 500 000 беларускіх яўрэяў. Выжылі тыя, што паспелі ўцячы да прыходу нямецкіх войскаў, і некалькі тысяч у схованках, найчасцей у лясах як партызаны ці пры партызанскіх атрадах[40].

[37] Mironowicz E. Kształtowanie się struktury... S. 56; Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 28 і наст., 48 і наст.; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 45 і наст., 63 і наст. К'яры піша, што на час нямецкага нападу на БССР у тагачасных межах пражывала каля 940 000 яўрэяў.

[38] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 91 і наст., 1158.

[39] Тамсама. S. 536—627, 683 і наст.

[40] Тамсама. S. 733—743; Munoz A., Romanko O. V. Hitler's White Russians... P. 304—310.



*а) «Яўрэі — усе партызаны, без усялякага выключэння». Барацьба з партызанамі і вынішчэнне яўрэяў*

Для нямецкіх акупантаў у Беларусі «яўрэйскае пытанне» з самага пачатку было непарыўна звязана з барацьбой супраць беларускіх партызанаў. Яўрэі ў сваёй супольнасці лічыліся ў іх вачах носьбітамі савецкай сістэмы і, разам з тым, савецкага супраціву. Летам і восенню 1941 г. сярод акупантаў панавала ўпэўненасць, што яўрэі — асноўная апора савецкіх партызанаў, дыверсантаў, стралкоў з засады, вайскоўцаў, якія адбіліся ад сваіх часцей, у тым выпадку, калі яны самі не былі партызанамі і дыверсантамі. Ва ўсякім разе, нямецкія акупанты з вопыту ведалі, што неяўрэйскае насельніцтва, у адрозненне ад яўрэяў, выяўляла задаволенасць, нават радасць з нагоды выгнання савецкіх і прыходу нямецкіх войскаў. Каб «уціхамірыць» акупаваную краіну, для гэтага, з пункту гледжання немцаў, было неабходна «выдаліць» яўрэяў, і нямецкія акупанты сістэматычна рабілі гэта з самага пачатку.

9 ліпеня 1941 г. камандуючы тылавым раёнам групы армій дакладваў:

> Каб адрэзаць рускіх салдат, якія яшчэ захаваліся на лясных і балоцістых тэрыторыях [у раёне Белавежскай пушчы], ад падвозкі прадуктаў харчавання, была праведзена эвакуацыя мужчын-яўрэяў з усіх населеных пунктаў гэтай мясцовасці[41].

Праз адзінаццаць дзён, 20 ліпеня, той самы орган дакладваў:

> На аснове інфармацыі ад жыхароў, 19 і 20.7. былі праведзеныя новыя паліцэйскія акцыі ў мясцовасці на поўдзень ад участка 1 на чыгуначнай лініі Баранавічы — Лунінец. У першы дзень пры актыўнай дапамозе жыхароў былі захопленыя 88 рускіх і каля 200 яўрэяў, якія займаліся забеспячэннем рускіх[42].

3 верасня 1941 г. афіцэр Іс кавалерыйскай брыгады СС абмалёўваў вопыт брыгады ў барацьбе з партызанамі на Палессі:

> Сувязь партызанскіх атрадаў паміж сабой падтрымліваецца перш за ўсё праз яўрэяў. Вёскі і хутары, дзе не жылі яўрэі, дагэтуль ніколі не былі апорнымі пунктамі партызанаў, на іх жа банды часта нападалі і рабавалі[43].

Таму не здзіўляе, што ў час курсаў на тэму «Барацьба з партызанамі», якія адбыліся 24—26 верасня 1941 г. у Магілёве пры штабе каманду-

[41] Афіцэр Іа камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр» у Галоўнае камандаванне сухапутных войскаў, 9 ліпеня 1941 г. (BA-MA. RH 22/227, Bl. 5).

[42] Дзённая зводка камандуючага тылавым раёнам групы армій ад 20 ліпеня 1941 г. (BA-MA. RH 22/226, Bl. 11 і наст.).

[43] Справаздача пра дзейнасць кавалерыйскай брыгады СС у перыяд з 25 жніўня да 3 верасня 1941 г., 3 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 22/224, Bl. 241 і наст.).

ючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», на парадку дня меўся пункт: «Яўрэйскае пытанне з асаблівым улікам партызанскага руху». Па гэтым пункце дакладваў генерал Артур Небэ, камандзір айнзацгрупы «В»[44]. Да нас не дайшло, што сказаў Небэ па гэтым пункце. Аднак нельга меркаваць, каб ён гаварыў, што большасць партызанаў — яўрэі, хутчэй пра тое, што яўрэі падтрымлівалі партызанаў. Бо нават ягоны начальнік Гімлер у сваім загадзе ад 18 лістапада 1941 г. наконт барацьбы з партызанамі сцвярджаў:

> Атрыманы вопыт барацьбы з партызанамі дае ясную карціну пра структуру і задачы партызанскіх груп. [...] Партызаны фарміруюцца з разбітых рускіх палкоў, камуністаў, у прыватнасці камісараў і работнікаў, а таксама з загадзя падрыхтаваных у партызанскіх школах цывільных, якіх на парашутах скідваюць за лініяй нямецкага фронту[45].

У загадзе Гімлера няма ніводнага слова пра адмысловую ролю яўрэяў у савецкім партызанскім руху. Асновай для загада Гімлера абсалютна відавочна паслужыла распрацоўка: «Звесткі пра метады дзейнасці партызанаў і барацьба з імі», якая ўтрымлівае ўзровень ведаў немцаў пра савецкі партызанскі рух восенню 1941 г.[46]. І ў гэтым дакуменце на ўсіх 23 старонках нават не згадваецца слова «яўрэй» ці «яўрэйскі», наадварот, распрацоўка вытрымана ў дзелавым тоне.

У Беларусі, аднак, здаецца, што шматлікія даклады з рэгіёнаў пацвярджаюць меркаванне пра масіўную падтрымку партызанаў яўрэямі. Напрыклад, рэзервовы паліцэйскі батальён 11 і 12 кастрычніка 1941 г. дакладваў пра спецаперацыю ў Мінску:

> Беларускае насельніцтва паводзіць сябе ўвогуле спакойна. [...] Яўрэі ж, наадварот, нібыта сімпатызуюць партызанам і падтрымліваюць іх, наколькі гэта магчыма. Паўсюль, дзе яўрэі абясшкоджаныя, здаецца, наступіў спакой[47].

Цяпер нямецкія акупанты «ачышчалі» ад яўрэяў у першую чаргу сельскія мясцовасці і населеныя пункты на самых важных магістралях. Камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі 10 лістапада 1941 г. дакладваў:

> У яўрэяў назіралася, што яны шматкроць зыходзяць са свайго жытла ў вёсках, магчыма, на поўдзень, тым самым спрабуючы пазбегнуць пачатых

[44] Парадак дня для курса «Барацьба з партызанамі» з 24 верасня да 26 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 22/225, Bl. 70—75); загад па корпусе № 53 камандуючага тылавым раёнам групы армій ад 16 верасня 1941 г. аб абмене вопытам (Тамсама. Bl. 63 і наст.).

[45] Загад № 42 рэйхсфюрара СС ад 18 лістапада 1941 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 25, л. 458—461).

[46] Распрацоўка «Вопыт партызанскіх метадаў дзейнасці і барацьба з імі», без даты, [пасля 18 кастрычніка 1941 г. і да 18 лістапада 1941 г.] (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 25, л. 444—457).

[47] Сітуацыйная справаздача 11-га рэзервовага паліцэйскага батальёна адносна спецаперацый у Мінску за перыяд з 14 да 21 кастрычніка 1941 г., 21 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 651, воп. 1, спр. 1, арк. 3).



> супраць іх акцый. З улікам, што яны, як і раней, заадно з камуністамі і партызанамі, праводзіцца поўнае вынішчэнне гэтага антынароднага элемента. Праведзеныя раней у гэтым накірунку акцыі адбыліся на ўсходзе раёна на старой савецка-рускай памежнай тэрыторыі і на чыгуначнай лініі Мінск — Брэст-Літоўск. Акрамя таго, у сферы дзейнасці камандуючага ў Беларусі праведзены збор яўрэяў у гета на адкрытых месцах буйных населеных пунктаў[48].

Прыходзілі таксама звесткі пра ліквідаваныя «ўзброеныя яўрэйскія банды» і яўрэйскіх дыверсантаў. Напрыклад, камандуючы тылавым раёнам групы армій дакладваў 12 лістапада: «*339 пях. дыв.:* на ўсх. Любань (33 км паўдн. зах. Старыя Дарогі) узброеная банда яўрэяў знішчана ў час бою»[49]. Камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі паведаміў 2 кастрычніка 1941 г.: «У Янушкавічах (15 км на паўн. зах. ад Лагойска) узброенымі яўрэямі быў падпалены смалзавод»[50]. А праз шэсць дзён, 8 кастрычніка:

> 4.10.41 г. на чыгуначнай лініі Мінск — Бабруйск быў пушчаны пад адхон таварны цягнік праз выдаленне адной рэйкі. Вялікай шкоды не адбылося. Тайнай палявой паліцыі ўдалося схапіць злачынцаў, *16 яўрэяў*. Яны былі расстраляныя[51].

Па меншай меры апошняя акцыя абсалютна верагодна з'явілася «класічнай» акцыяй адплаты за напад партызанаў. Сідзякін, камандзір 6-й партызанскай групы, што летам 1941 г. дзейнічала на ўсход ад Мінска, паведамляў пра падрыў чыгункі 6 верасня 1941 г., які партызаны здзейснілі на ўчастку Мінск — Орша (Слаўнае — Бобр). Немцы заявілі, што адказнасць за гэта нясуць крупскія яўрэі і, паводле Сідзякіна, расстралялі 1 500 яўрэяў[52]. 18 верасня 1941 г. айнзацкаманда 8 сапраўды расстраляла ў Крупках 912 яўрэяў[53].

Агульны загад па «выдаленні» яўрэяў з сельскай мясцовасці, каб пазбавіць савецкіх партызанаў базы, даў камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі ўжо 28 верасня 1941 г.[54]. 16 кастрычніка 1941 г. ён загадаў:

[48] Месячная зводка афіцэра Ia камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, з 11 кастрычніка да 10 лістапада 1941 г., 10 лістапада 1941 г. (BA-MA. RH 26-707/2, Bl. 1 і наст.).

[49] Дзённая зводка афіцэра Ia камандуючага тылавым раёнам групы армій «Цэнтр», 12 лістапада 1941 г. (BA-MA. RH 22/226, Bl. 126).

[50] Афіцэр Ia камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, 2 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 698, арк. 2 і наст.).

[51] Афіцэр Ia камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, 8 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 698, арк. 7). Вылучана ў арыгінале.

[52] Паведамленне камандзіра 6-й групы Сідзякіна, 25 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1081, л. 79).

[53] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 586.

[54] Гэта вынікае з загада № 24 камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, Ia, ад 24 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 698, арк. 32 і наст.).

Новыя падраздзяленні, паступаючыя ў распараджэнне каманды «В», павінны як мага грунтоўней пазнаёміцца з атрыманымі дагэтуль загадамі і распараджэннямі адносна баявых метадаў, неабходных для барацьбы з партызанамі. На абодвух участках, даручаных сельскім ахоўным батальёнам 332 і 336, як і на ўсёй тэрыторыі каманды «В» увесь час наладжваць патруляванні, кароткія і працяглыя. Што тычыцца гэтых патруляванняў, то трэба паклапаціцца, каб *з вёсак усе да аднаго былі выдаленыя яўрэі. Заўсёды пацвярджаецца, што яны — адзіная апора, якую знаходзяць партызаны, каб утрымацца цяпер і перазімаваць. З гэтай прычыны іх неабходна бязлітасна знішчаць*[55].

Загад на «выдаленне яўрэяў з вёсак» камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі паўтараў некалькі разоў, што, з пункту гледжання немцаў, падкрэслівала яго значэнне і неадкладнасць. Так, у загадзе № 24 ад 24.11.1941 г. пад пунктам 5 гаворыцца:

*Яўрэі і цыганы:* (гл. загад № 9 ад 28.9.41 г., пункт 6, № 11 ад 4.10.1941 г. пункт 2 b, № 13 ад 10.10.1941 г. пункт 18). Як прадпісана ў папярэдніх загадах, яўрэі павінны зінкнуць з вёсак, цыганоў таксама неабходна знішчыць. Правядзенне *буйных* (анты)яўрэйскіх акцый не з'яўляецца задачай дывізіі. Яны праводзяцца цывільнымі ўладамі ці паліцыяй, у дадзеным выпадку па распараджэнні камандуючага ў Беларусі, калі ў яго распараджэнне для гэтага будуць дадзеныя спецыяльныя падраздзяленні, або з прычыны небяспекі і ў час калектыўных мерапрыемстваў. Калі сустракаюцца меншыя ці большыя групы яўрэяў, іх можна знішчаць самастойна ці збіраць у гета на асобных вялікіх плошчах, прызначаных для гэтага[56].

Загад на знішчэнне цыганоў камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі аддаў ужо 10 кастрычніка 1941 г.[57] Аднак акцыя «яўрэі ў вёсцы» сутыкнулася з цяжкасцямі, бо колькасць нямецкіх акупантаў была малая, а яўрэяў, якія разрозненa жылі ў вёсках, адносна вялікая[58]. Зіма таксама не спрыяла хуткаму ажыццяўленню масавага знішчэння. Кіраўнік СД

[55] Камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі, Ia, 16 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 130, арк. 11 і наст.). Вылучана аўтарам.

[56] «Пры напатканні цыганоў адразу ж на месцы расстрэльваць. Пры выяўленні якіх-небудзь буйных лагераў ці вандроўнных табараў неабходна як найхутчэй інфармаваць камандаванне вермахта ці СС і паліцэйскае камандаванне з паведамленнем пра самае дакладнае месца і час». Гл.: Загад № 24 камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, Ia, ад 24 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 698, арк. 32 і наст.).

[57] Камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі, Ia, 10 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 698, арк. 4 і наст.).

[58] У загадзе № 29 ад 15 снежня 1941 г. камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі гаворыцца: «Яўрэі ў вёсцы. З прычыны таго, што збор у адно месца яўрэйскіх груп, выяўленых у вёсках, увесь час натыкаецца на цяжкасці, генеральны камісар Беларусі распарадзіўся паведаміць усім гебітскамісарам пра неабходнасць вызначэння месцаў для збору. Мясцовыя камендатуры таму павінны наладзіць сувязь з гебітскамісарамі і паведаміць пра вызначаныя месцы ўчастковым камендатурам». Гл.: Загад № 29 камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, Ia, ад 15 снежня 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 698, арк. 46 і наст.). Вылучана ў арыгінале.



у Беларусі, штурмбанфюрар СС Гофман, заяўляў падчас пасяджэння кіраўнікоў галоўных аддзелаў і аддзелаў Генеральнага камісарыята Беларусі 29 студзеня 1942 г.:

Колькасць яўрэяў невызначальная, але на вёсцы яшчэ вельмі вялікая. Якраз на вёсцы насельніцтва ўсё яшчэ тэрарызуецца яўрэямі. Канчатковая ліквідацыя яўрэяў зараз немагчымая з прычыны маразоў, бо зямля занадта моцна замерзла, каб капаць ямы, якія потым могуць быць масавымі магіламі для яўрэяў. Поўнае вынішчэнне яўрэяў немагчыма і з той прычыны, што з шэрагаў яўрэяў усё яшчэ будзе патрэбна працоўная сіла. […] Вясной зноў пачнуцца буйныя карныя акцыі. Да таго часу трэба як след праверыць паліцэйскіх-латышоў [якія па даручэнні немцаў праводзілі расстрэлы], прызначаных для гэтага[59].

Аднак папярэднімі вынікамі знішчальнай акцыі нямецкія ўлады, здавалася, былі задаволеныя. Камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі дакладваў 8 студзеня 1942 г.:

Выявілася, што збор яўрэяў у гета паўсюды спрые добраму самаадчуванню і прымірэнню вёскі. Неспакой насельніцтва ад чутак ды пераследаў і падтрымка партызанаў былі гэтым моцна аслабленыя. Тым не менш, прыходзяць паведамленні, з якіх вынікае, што яўрэі і партызаны робяць сумесную справу і, узброеныя, ствараюць партызанскія банды, нават у вялікай колькасці. Яўрэі ўдзельнічаюць таксама ў актах дыверсій[60].

Гэтыя паведамленні служылі нагодай працягваць знішчэнне яўрэяў. 20 лютага 1942 г. камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі дакладваў:

Наконт яўрэяў і палякаў да сказанага ў папярэдніх справаздачах пра становішча варта дадаць, што яны толькі ўсякім спрыяльным чынам дзейнічаюць на руку камунізму і арганізацыі партызаншчыны і прасоўваюць іх. Таму без выключэння ўсе яўрэі адпавядаюць паняццю партызанаў[61].

Цяпер паўстае пытанне, ці справядлівыя былі сцвярджэнні немцаў, што яўрэі масава падтрымлівалі партызанаў, альбо тут уся справа палягала ў вар'яцкіх уяўленнях, абумоўленых фанатычным антысемітызмам. Сёння бездакорна высветліць гэта немагчыма. Аднак фактам з'яўляецца тое, што яўрэйскае насельніцтва па зразумелых прычынах баялася нямецкіх акупантаў і таму, відаць, хутчэй было схільнае падтрымліваць савецкі супрацiў. Большасць жа савецкіх актывістаў, партыйных работнікаў, міліцыянераў ці супрацоўнікаў НКУС яўрэйскай

[59] Пратакол аб ходзе пасяджэння кіраўнікоў галоўных аддзелаў і аддзелаў, 29 студзеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 53, арк. 164 і наст.).

[60] Справаздача начальніка тэрыторыі забеспячэння Беларусь (аддзел 770-й пяхотнай дывізіі), Ia, ад 8 студзеня 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 1 і наст.).

[61] Справаздача начальніка тэрыторыі забеспячэння Беларусь (аддзел 770-й пяхотнай дывізіі), Ia, ад 20 лютага 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 4).

нацыянальнасці, як правіла, уцякла ці эвакуіравалася разам з Чырвонай Арміяй, а найчасцей яшчэ да гэтага разам з таварышамі-неяўрэямі. Некаторыя з іх сапраўды былі ў партызанскіх атрадах, але нічога не сведчыць пра тое, што яны вельмі ўжо моцна былі прадстаўленыя сярод партызанаў у першыя тыдні і месяцы. Ва ўсякім разе, з разгледжаных у рамках гэтага даследавання крыніц такога не вынікае. І нямецкі бок восенню 1941 г. не меў ніякай інфармацыі, якая сведчыла б пра адмысловую ролю яўрэяў у савецкім партызанскім руху[62].

Затое няма сумненняў у тым, што нямецкі тэрор схіліў многіх яўрэяў уцякаць у лес і далучацца да партызанаў. Афіцэр Іа 339-й пяхотнай дывізіі распаўсюдзіў 24 верасня 1941 г. заяву жыхара з наваколля мястэчка Бацэвічы, каля 15 км на поўнач ад Бабруйска:

> У працяг маёй заявы, зробленай наконт партызанаў, гэтым я дакладваю наступнае: бясчынствы партызанаў у апошні час павялічыліся. Я змог выявіць, што з мястэчка Бацэвічы яўрэі збеглі ў прылеглыя лясы, а таксама — з мястэчак Свіслач і Клічаў, каб аб'яднацца з камуністамі і партызанамі, якія жывуць у лясах[63].

Забойствы яўрэяў у гэтай мясцовасці пачалося найпазней у жніўні 1941 г. Сяргей Мазур, кіраўнічы супрацоўнік НКУС і партызан з самага пачатку, распавёў у лістападзе 1942 г. пра наступны выпадак, які здарыўся ў верасні 1941 г. у той самай мясцовасці, у Лапічах, каля 60 км на паўночны захад ад Бабруйска:

> Гэта было ў верасні 1941 г. [У Лапічы] прыйшлі два мужчыны і засталіся там. Праз чатыры дні яны заявілі, што яны лейтэнанты Чырвонай Арміі і хочуць арганізаваць партызанскі атрад. Яны пачалі вербаваць яўрэяў, большасць з іх выказала гатоўнасць. У дзень адыходу з'явіўся карны атрад, акружыў мястэчка, сагнаў усіх яўрэяў у мястэчка Бор і расстраляў іх з кулямёта, 180 чалавек, у асноўным мужчын. Жанчын яны пакінулі. У сакавіку [1942 г.] яны расстралялі і ўсіх жанчын. Як правіла, гэта рабілі [забойства яўрэяў] паліцыя і мясцовыя здраднікі[64].

З паведамлення Мазура нельга зрабіць выснову, была гэта правакацыя ці здрада. Але Мазур паведамляў, што ў мясцовасці, гэтаксама як і ў іншых, тэрор супраць яўрэяў пачаўся з прыходам немцаў. Выпадак у Лапічах, аднак, паказвае, што ў яўрэяў гатоўнасць далучацца да партызанаў, у адрозненне ад беларусаў, была адносна моцнай. Гэ-

[62] Параўн. распрацоўку «Практычны вопыт партызанскіх метадаў і барацьбы з імі», без даты, [пасля 18 кастрычніка 1941 г. і да 18 лістапада 1941 г.] (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 25, л. 444—457). У гэтай распрацоўцы ніводнага разу не сустракаюцца нават паняцці *«Jude»* («яўрэй») ці *«jüdisch»* («яўрэйскі»).
[63] Афіцэр Іа 339-й пяхотнай дывізіі у 692-гі пяхотны полк, 24 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 26-221/21, Bl. 337).
[64] Стэнаграма размовы з С. Мазурам ад 12 лістапада 1942 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 120, арк. 46 і наст.).



тая гатоўнасць была, аднак, абумоўлена ў першую чаргу забойствамі яўрэяў, што прыцягнула ўвагу і нямецкіх улад. Камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі дакладваў 13 лістапада 1941 г.: «З вынікаў апошніх аперацый [расстрэлаў яўрэяў] можна бачыць, што колькасць яўрэяў у партызанах значна павялічылася»[65].

Сярод яўрэяў, якія вырашылі аказваць актыўны супраціў, была ў першую чаргу моладзь. Напрыклад, восенню 1941 г. у Брэсцкім гета з'явілася падпольная камсамольская арганізацыя, якая падпарадкоўвалася гаркаму[66]. У лістападзе 1942 г. В. Лобараў, камісар партызанскай брыгады ва Усходняй Беларусі, настойліва дамагаўся ад Панамарэнкі пакінуць у партызанскім руху інстытут камісараў. Пры гэтым Лобараў даводзіў:

> Пры гэтым я не магу не нагадаць, як цяжка было напачатку, асабліва восенню 1941 г. і зімой 1941/42 гг. арганізаваць партызанскую барацьбу. Даволі сказаць, мой атрад, які дзейнічаў зімой 1941/42 гг., складаўся галоўным чынам з камуністаў, камсамольцаў і яўрэйскай моладзі. Многія ж, нават старшыя камандзіры, адседжваліся ў варожым тыле[67].

Аднак восенню і зімой 1941 г. большасць партызанскіх атрадаў і груп развалілася або была разгромлена, так што для большасці яўрэяў было амаль немагчыма далучыцца да партызанаў. Ва Усходняй Беларусі да канца 1941 г., за выключэннем Мінска і Слуцка, большасць яўрэяў была вынішчана. У заходняй частцы Беларусі нямецкія акупанты забілі да канца 1941 г. прыблізна ад 15 % да 20 % пражываўшых там яўрэяў[68]. Зімой 1941/42 гг. забойствы працягваліся. Але самае горшае было яшчэ наперадзе. У маі 1942 г. і Беларусь была накрыта вялізнай знішчальнай хваляй, што цягнулася да канца 1942 г. і ахвярамі якой стала большасць яўрэяў, што жылі там. Каманды нямецкай паліцыі бяспекі і СД, нямецкай жандармерыі і камандаў паліцыі сістэматычна вынішчалі цэлыя яўрэйскія абшчыны, як правіла, праз масавыя расстрэлы. Але забойныя каманды выкарыстоўвалі і газавыя машыны[69].

Да канца 1942 г. большасць яўрэяў была вынішчана і ў Беларусі, некалькі тысяч яшчэ жылі ў гета як прымусовыя рабочыя ці былі на ўцёках. Яўрэі, падвергнутыя татальнаму знішчэнню, актыўна і пасіўна

[65] Камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі, Іа, 13 лістапада 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 130, арк. 31).
[66] Справаздача Рыгора Рэві пра дзейнасць Брэсцкай падпольнай партыйнай арганізацыі і пра партызанскі рух у Брэсцкай вобласці, 19 жніўня 1942 г. (копія ў дакладзе сакратара Мінскага абкама Казлова пра партызанскі рух у заходніх раёнах БССР, [пасля 19 жніўня 1942 г.]) (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 185 і наст.).
[67] Камісар Беларускай дыверсійнай брыгады для надзвычайных даручэнняў В. Лобараў П. Панамарэнку, без даты, штэмпель паступлення ў ЦШПР 23 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 227 і наст.).
[68] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 606, 608—628.
[69] Параўн. на гэты конт: Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 536—554, 609—627, 688—708.

супрацоўнічалі, але адзіным рэальным шанцам выжыць для іх былі ўцёкі. Многія ўцяклі з гета ў навакольныя лясы і спрабавалі там выжыць. Аднак акупанты адразу ж пачалі паляванне на іх. Гебітсфюрар упраўлення жандармерыі ў Баранавічах унтэр-афіцэр паліцыі бяспекі Шульц дакладваў 26 жніўня 1942 г. свайму начальніку ў Мінску:

> Ад гебітскамісара ў Баранавічах мне даручана, наколькі дазволяць мае сілы, ачысціць ад яўрэяў вобласць, асабліва вёскі. Праведзеныя ў апошнія месяцы буйныя акцыі пацягнулі за сабой тое, што яўрэі пачалі масава ўцякаць і пераходзіць у бандыцкія групы. Каб прадухіліць далейшыя ўцёкі, я знішчыў яўрэяў, якія яшчэ меліся ў мястэчках Палонка і Мір. Усяго было расстраляна 719. Між тым, жандарскія пасты змаглі затрымаць яшчэ 320 яўрэяў, і іх расстралялі па законах ваеннага часу. Акцыі, праведзеныя ў Палонцы і Міры, прайшлі ўвогуле гладка і адпаведна плану. У Палонцы адзін паліцэйскі быў паранены ў шыю рэжучым прадметам і змешчаны ў шпіталь[70].

Праз месяц, 23 верасня, Шульц са сваімі людзьмі правёў (анты) яўрэйскую акцыю ў Баранавіцкім гета, там трэба было расстраляць каля 1 600 «непрацаздольных яўрэяў».

> З гэтых яўрэяў 750 расстраляныя 23.09. [...], у той час як рэшта, каля 850 чалавек, схавалася ў падземных схованках у гета альбо дзесьці яшчэ. Частка ўжо выйшла ноччу з 22 на 23.9., а частка з іх да сёння [18.10.1942 г.] яшчэ не вярнулася[71].

Адразу ж пачалося паляванне на збеглых і тых яўрэяў, што схаваліся. З 24 верасня да 1 кастрычніка 1942 г. сышчыкі схапілі агулам 458 яўрэяў, «большасць жанчын і дзяцей [...], якія вечарам на грузавіках былі прывезеныя да месца катаванняў і там пад наглядам былі расстраляныя», далажыў унтэр-афіцэр Шульц 18 кастрычніка. Пасля гэтага ў гета вярнуліся яшчэ 130 яўрэяў, і 11 кастрычніка унтэр-афіцэр Шульц загадаў учыніць у гета яшчэ адзін масавы расстрэл. Гэтым разам былі расстраляныя 350 яўрэяў.

> Астатнія рэшткі з 210 яўрэяў, палова мужчын, палова жанчын, працуюць на фірме «Шцёр Вайсковае жытло», на складзе паставак люфтвафэ і пры Цэнтральным гандлёвым таварыстве «Ост». Дзяцей, як і непрацаздольных, больш няма,

— дакладваў Шульц[72].

У ноч на 29 студзеня 1943 г. з працоўнага лагера лесапільні Новы Свержань пад Стоўбцамі ўцяклі каля 200 яўрэяў, таму што ў лагеры папаўзлі чуткі, што іх арыштантаў 31 студзеня расстраляюць. Аднак

[70] Упраўленне жандармерыі ў Баранавічах камандзіру жандармерыі Беларусі, 26 жніўня 1942 г. (ДАГВ. Ф. 955, воп. 1, спр. 10, арк. 237).
[71] Паведамленне унтэр-афіцэра паліцыі бяспекі Шульца пра антыяўрэйскую акцыю ў Стоўбцах ад 18 кастрычніка 1942 г. (ДАГВ. Ф. 955, воп. 1, спр. 4, арк. 138).
[72] Тамсама.



неўзабаве частка збеглых яўрэяў (каля 50 чалавек) вярнулася назад[73]. Гебітсфюрар Баранавіцкага жандарскага ўпраўлення 5 лютага 1943 г. дакладваў:

> Факт, што 200 яўрэяў уцяклі з лесапільні Новы Свержань, і блізкае да праўды меркаванне, што збеглыя яўрэі перабеглі ў банды, дало нам падставу са згоды тутэйшага СД правесці неадкладнае знішчэнне яўрэяў, якія засталіся ў Стоўбцах і на лесапільні[74].

Знішчальная акцыя прайшла наступным чынам:

> Акцыя, якая пачалася 31.1.43 г. каля 9.45 гадзін, закончылася пераводам астатніх яўрэяў з Новага Свержаня каля 15.00. Усяго былі расстраляныя 31.1 разам з тымі, якія яшчэ былі злоўленыя ў познія гадзіны вечарам, 254 яўрэі абодвух полаў. Пошукавая акцыя ў самім Стаўбцоўскім гета, падрыхтаваная мной [унтэр-афіцэрам Шульцэ], выявіла яшчэ 18 яўрэяў, ды трэба дадаць яшчэ 6 яўрэяў, якія хаваліся ў гета, і ноччу, калі яны выходзілі з яго, былі застрэленыя вартавым. Часцямі вермахта да 4.2 былі перададзеныя 15 яўрэяў, захопленых у лясах каля Акінчыцаў разведвальнымі і патрульнымі падраздзяленнямі. [...] Такім чынам, да сённяшняга дня расстраляна агулам 293 яўрэі. Горад Стоўбцы, дзе было зарэгістравана каля 200 яўрэяў, ад яўрэяў ачышчаны[75].

Злачынныя выканаўцы ў сваіх запланаваных знішчальных акцыях павінны былі ўлічваць масавыя ўцёкі яўрэяў. 9 ліпеня 1943 г. у Навагрудак прыбыла са спецзаданнем каманда паліцыі бяспекі і СД. На месцы старшы каманды штурмбанфюрар СС Траўб даведаўся, што каманда, сярод іншага, павінна «перасяліць» 250 яўрэяў з Навагрудскага працоўнага лагера. Рабіць гэта старшы каманды адмовіўся,

> бо паводле маёй ацэнкі гэта не можа адбыцца без адначасовай акцыі, датычнай звыш 2 000 яўрэяў у Лідзе. Бо немагчыма ў Н. [Навагрудак] перасяліць 250 яўрэяў, каб на наступны дзень [sic] у Лідзе, як сведчыць вопыт, напэўна, 1 000 яўрэяў не пайшлі ў лес да бандытаў[76].

Тысячы яўрэяў былі забітыя ў гета на той падставе, што гэта перадухіліць іх уцёкі да партызанаў. Такім чынам гратэскава блыталіся

[73] Паведамленне унтэр-афіцэра паліцыі бяспекі камандзіра жандарскага паста ў Стоўбцах Шульца ад 30 студзеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 389, воп. 1, спр. 4, арк. 23).
[74] Паведамленне гебітсфюрара жандарскага ўпраўлення ў Баранавічах камандзіру жандармерыі Беларусі ў Мінску ад 5 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 389, воп. 1, спр. 4, арк. 22).
[75] Паведамленне унтэр-афіцэра паліцыі бяспекі камандзіра жандарскага паста ў Стоўбцах Шульца пра антыяўрэйскую акцыю ў Стоўбцах ад 5 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 389, воп. 1, спр. 4, арк. 24 і наст.).
[76] Пазнака на дакуменце аб аперацыі 9 ліпеня 1943 г. у Навагрудку, ад 11 ліпеня 1943 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 174 і наст.). Апошняй старонкі ці апошніх старонак дакумента няма.

прычына і вынік. Большая частка тых, хто сапраўды імкнуўся збегчы ад забойчых камандаў, усё роўна неўзабаве гінула. Іншыя аб'ядноўваліся ў «групы выжывання» і спрабавалі сцвердзіць сябе ў надзвычайна цяжкіх умовах. Яны часцей за ўсё былі дрэнна ўзброеныя альбо ўвогуле не мелі зброі і таму рабіліся лёгкай здабычай сваіх праследнікаў — жандармерыі, патрульных вермахта і перш за ўсё тутэйшай паліцыі, якая адыгрывала ў гэтым паляванні галоўную ролю. Яе людзі ведалі мясцовасць і па колькасці былі даволі моцнымі ў процілегласць сваім нямецкім замоўцам і начальнікам.

Вось некалькі прыкладаў з наваколля Міра, каля 30 км на ўсход ад Баранавічаў: 9 верасня 1942 г. знешні вартавы Мірскай жандармерыі (Баранавіцкая жандарская акруга) далажыў:

> 8.9.42 г. каля 16.00 г. апорны пункт Старына Стаўбцоўскай паліцыі бяспекі накіраваўся патруляваць. Каля вёскі Зуберава [...] патруль у колькасці 1 камандзіра апорнага пункта і 19 чалавек сутыкнуўся з больш моцнай бандай, у ходзе сутычкі былі застрэленыя 13 яўрэяў і 2 партызаны. Астатнія партызаны ці яўрэі збеглі, схаваўшыся ў густым лесе ў заходнім напрамку. Як дакладна было выяўлена, у збеглых бандах ёсць нейкая колькасць яўрэяў. Большая частка яўрэяў была няўзброенай. Уласных страт няма[77].

Праз тры тыдні, 1 кастрычніка 1942 г., са знешняга паста Мірскай жандармерыі паведамлялася:

> 29.9.42 г., каля 7.30 гадзін, патрулём раённай паліцыі пад камандаваннем старшага фельдфебеля паліцыі Ротэ [...] затрыманыя 6 яўрэяў (4 мужчыны і 2 жанчыны) у ляску паблізу маёнтка Уша. Яўрэі збеглі ў час папярэдняй яўрэйскай акцыі і бязмэтна блукалі ў лесе. Адзін з яўрэяў меў пры сабе расійскую вінтоўку без затвора. Яны па законах вайны былі на месцы расстраляныя і, як належыць, закапаныя на асабліва прыдатным для гэтага месцы. Расстраляныя не мелі на сабе, акрамя парванай вопраткі, ніякіх каштоўных рэчаў[78].

14 лістапада 1942 г. са знешняга паста Мірскай жандармерыі 3 жандары і 60 паліцэйскіх накіраваліся на знішчэнне «банды яўрэяў». Гэтая група хавалася ў лесе на адлегласці каля 6 км ад жандарскага паста. Пра месцазнаходжанне гэтай «яўрэйскай банды» паведаміў ляснік Мірскага лясніцтва.

> Яны [жандары і паліцэйскія аховы] упэўніліся, што дадзеныя, якія паведаміў ляснік, правільныя. Была знойдзена нара ў зямлі, прыкрытая драўлянай накрыўкай і замаскаваная. Пасля таго як знялі крышку, ад людзей, што сядзелі там, запатрабавалі выходзіць без зброі, інакш у нару будзе кінута граната. Яны выканалі гэтае патрабаванне, і з нары выйшлі тры яўрэі, у тым ліку член мірскага юдэнрата, і 2 яўрэйкі. Пасля кароткага допыту яны былі па законах ваеннага часу расстраляныя і, як належыць, закапаныя. На іх, акрамя пары лахманоў, каштоўных прадметаў не было. [...] Зброя і боепрыпасы не знойдзеныя[79].

[77] Паведамленне унтэр-афіцэра паліцыі бяспекі і камандзіра Мірскага знешняга жандарскага паста Баранавіцкай жандарскай акругі Гейна, 9 верасня 1942 г. (ДАГВ. Ф. 955, воп. 1, спр. 10, арк. 326).

[78] Паведамленне унтэр-афіцэра паліцыі бяспекі і камандзіра Мірскага знешняга жандарскага паста Баранавіцкай жандарскай акругі Гейна, 1 кастрычніка 1942 г. (ДАГВ. Ф. 955, воп. 1, спр. 4, арк. 33).



Праз тыдзень, 26 лістапада 1942 г., падраздзяленне роты вермахта ў Моўчадзі Баранавіцкага гебітскамісарыята (фельдфебель, 2 унтэр-афіцэры і 18 салдат) і 7 паліцэйскіх знішчылі 38 «бандытаў ці яўрэяў». Яны хаваліся ў дзвюх зямлянках у лесе каля 4 км на поўнач ад Моўчадзі. Пасля кароткай перастрэлкі «бандытаў» загналі зноў у зямлянкі «і звязкай зарадаў былі падарваны», дакладваў гаўптфельдфебель паліцыі Вюрстляйн 2 снежня 1942 г.:

> Гэтымі выбухамі былі абсалютна знішчаныя абедзве зямлянкі з бандытамі, якія знаходзіліся там, галоўнае — яўрэі. Дзеянне выбухаў было такое моцнае, што былі таксама цалкам панішчаныя вінтоўкі і іншае ўзбраенне бандытаў. Можна было ўпэўніцца, што большасць бандытаў былі ў цывільнай вопратцы, і толькі маленькая частка была апранута ў чорную савецкую форму. Апранутыя ў цывільнае бандыты былі даўно збеглымі яўрэямі з Моўчадзі, Гарадзішча і наваколля. Захопленыя былі 2 вінтоўкі, 2 пісталеты, якія знаходзіліся па-за лагерам. Страт мы не панеслі[80].

Па некаторых ацэнках, у Беларусі было прыблізна ад 30 000 да 50 000 яўрэяў-уцекачоў, і толькі малая частка з іх перажыла вайну. Тым не менш, сцвярджаецца, што ў Беларусі праяўлялася больш салідарнасці з яўрэямі, чым у іншых краінах Еўропы. Пры гэтым спасылаюцца на адносна вялікую колькасць яўрэяў-уцекачоў, якія ў час Халакосту выжылі ў лясах[81].

Для выжывання гэтых уцекачоў, аднак, вырашальную ролю адыгралі вялізныя і непраходныя лясы, у якіх яны маглі схавацца, а не меркаваная салідарнасць неяўрэяў. Большасць яўрэяў-уцекачоў, каб выжыць, не магла спадзявацца на салідарнасць неяўрэяў. Наадварот, яны павінны былі здабываць сабе харч і вопратку, як правіла, сілай, ці пагражаючы ёй, як і савецкія партызаны. Уяўленне, што мясцовыя сяляне самахоць і дабрачынна на працягу двух гадоў кармілі б тысячы яўрэйскіх уцекачоў, прычым яны да таго ж рызыкавалі сваім жыццём (дапамога яўрэям каралася смерцю), супярэчыць усякаму жыццёваму вопыту. Гэта, вядома, здаралася, але толькі ў адзінкавых выпадках.

[79] Паведамленне Мірскага знешняга жандарскага паста, 15 лістапада 1942 г., подпіс нечытэльны (ДАГВ. Ф. 955, воп. 1, спр. 4, арк. 396).

[80] Паведамленне афіцэра паліцыі бяспекі і камандзіра Гарадзішчанскага жандарскага паста Баранавіцкай жандарскай акругі Вюрстляйна пра знішчэнне 38 бандытаў ці яўрэяў, 2 снежня 1942 г. (ДАГВ. Ф. 955, воп. 1, спр. 7, арк. 472а).

[81] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 743—747.

*б) Дваякія адносіны — савецкія партызаны і яўрэі*

Найбольшы шанц выжыць, здаецца, мелі тыя яўрэі-ўцекачы, якія пайшлі ў партызанскія атрады. У заходнім даследаванні дагэтуль меліся толькі меркаванні пра колькасць партызанаў-яўрэяў у Беларусі. Леанід Смілавіцкі ацэньваў іх лік як каля 15 000[82]. Але гэтая лічба перабольшаная. Паводле дадзеных ліквідацыйнай групы Беларускага штаба, з Чырвонай Арміяй аб'ядналіся 5 077 партызанаў яўрэйскай нацыянальнасці, 2,6 % усіх савецкіх партызанаў у Беларусі. Сюды дадаюцца 721 загінулы (2,88 % ад усіх загінулых) і 124 зніклыя без вестак (1,06 % ад усіх зніклых)[83]. Пры гэтым трэба ўлічыць, што колькасць загінулых партызанаў-яўрэяў, напэўна, была большай, бо за 1941 і 1942 гг. статыстыкі аб загінулых партызанах не мелася; ды і дадзеныя за 1943 і 1944 гг. не з'яўляюцца беспраблемнымі[84].

Малая доля партызанаў яўрэйскай нацыянальнасці сярод савецкіх партызанаў Беларусі ў першую чаргу здзіўляе на фоне вялікай колькасці яўрэяў-уцекачоў, якія ацэньваюцца лічбай ад 30 000 да 50 000 чалавек. Сюды яшчэ дадаецца, што гатоўнасць далучыцца да савецкіх партызанаў у яўрэяў была большай, чым у беларусаў, якіх у большасці выпадкаў забіралі сілай. Цікава, што савецкія ўлады трымалі ў тайне дадзеныя пра колькасць партызанаў-яўрэяў аж да распаду Савецкага Саюза.

Калі Панамарэнка працаваў над сваёй кнігай пра савецкі партызанскі рух, ён занатаваў: «Гэтыя лічбы [нізкі працэнт яўрэяў і палякаў сярод савецкіх партызанаў Беларусі] паказваюць, што палякі і яўрэі не бралі актыўнага ўдзелу ў партызанскім руху». Закранаючы прычыны нязначнага працэнту яўрэяў і палякаў (толькі 0,85 %) сярод савецкіх партызанаў, ён пісаў: «Для гэтага ёсць гістарычныя прычыны: ні палякам, ні яўрэям не ўласцівы такі патрыятызм», як беларусам ці рускім[85]. Пад «патрыятызмам» Панамарэнка разумеў «савецкі патрыятызм». Але Панамарэнка не апублікаваў ні гэтыя радкі, ні іх інтэрпрэтацыю. Было б лішнім дыскутаваць наконт гэтых сумніўных савецкіх прапагандысцкіх тэзісаў, тым больш, што Панамарэнка даволі добра ведаў сапраўдныя прычыны нізкага ўдзелу яўрэяў і палякаў у савецкім партызанскім руху.

Прычыны адносна малой колькасці яўрэяў сярод савецкіх партызанаў палягалі часткова ў антысемітызме, шырока распаўсюджаным сярод савецкіх партызанаў, часткова ў рацыянальных развагах. Многія савецкія партызаны ў прынцыпе не верылі ў жаданне яўрэяў ваяваць. З другога боку, сярод яўрэяў-уцекачоў было шмат жанчын, дзяцей і старых, якія не маглі ваяваць. Яны былі для партызанаў цяжарам, бо

[82] Smilovitsky L. Righteous Gentiles, the Partisans, and Jewish Survival in Belorussia 1941—1944 // Holocaust and Genocide Studies. Vol. 11. 1997. № 3. P. 318.

[83] Зводка колькасці партызанаў, якія дзейнічалі на беларускай тэрыторыі падчас Айчыннай вайны, падрыхтаваная Раманавым і Разанавым з ліквідацыйнай групы БШПР, 1 жніўня 1946 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 8).

[84] Параўн. на гэты конт раздзел «Страты партызанаў».

[85] Рукапісныя нататкі і заўвагі П. Панамарэнкі, якія ён рабіў пры напісанні сваёй кнігі пра савецкіх партызанаў, [1970-я гг.] (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 371).



гэтых людзей трэба было карміць і абараняць. Ад гэтага партызаны трацілі сваю мабільнасць.

У верасні 1942 г. Мінскі падпольны абкам КП(б)Б накіраваў у Вілейскую вобласць разведвальна-сувязную групу пад камандаваннем Карпава. Яго заданне палягала ў разведцы становішча ў вобласці і наладжванні сувязі з партызанскімі атрадамі і групамі, якія дзейнічалі там. Група прабыла ў Вілейскай вобласці з 9 верасня да 19 лістапада 1942 г. У сваёй выніковай справаздачы Карпаў абмаляваў становішча яўрэйскага насельніцтва наступным чынам:

> Яўрэйскае насельніцтва — тэрарызаванае і няўзброенае — марнее ў лясах. Яно харчуецца і апранаецца за кошт мясцовых сялян, часам — гвалтоўна. Непадалёк ад вёскі Няверы знаходзіцца група з 300 яўрэяў, каля Краснага — 250, у раёне Панышоў — 63, у Зачарной — 87 і г. д. Часам да іх далучаюцца байцы, якія ўцяклі з палону, і апошнія праводзяць так званыя «гаспадарчыя аперацыі». […] Партызанскія атрады не дапамагаюць ім [яўрэям], яўрэйскую моладзь яны неахвотна бяруць у свае шэрагі. Былі выпадкі, калі партызаны атрада Багатырова забіралі зброю ў тых [яўрэяў], якія прыходзілі да іх і адсылалі, бо сярод партызанаў даволі моцна распаўсюджаны антысемітызм. Станоўчую працу ў дапамозе яўрэйскаму насельніцтву праводзіў камісар атрада «Мсцівец» Цімчук. Ён арганізаваў у Малінаўскім лесе гарбарню, у якой працуюць яўрэі, уцекачы з гета. Яўрэйская моладзь і мужчыны выяўляюць жаданне ўступаць у партызанскія атрады. Аднак галоўнае іх жаданне: пайсці за лінію фронту. Наконт лёсу яўрэйскага насельніцтва ў Вілейскай вобласці неабходна прымаць рашэнне як мага хутчэй, не толькі каб палегчыць іх пакуты, але і каб вызваліць сялянства ад утрымання непрадуктыўнай масы[86].

Панамарэнка даведаўся пра гэта найпазней у канцы студзеня 1943 г.[87]. Падобнае па змесце паведамленне ён атрымаў у верасні 1942 г. ад Судаплатава, начальніка 4-га ўпраўлення НКУС. Ён жа 3 верасня 1942 г. пераслаў Панамарэнку наступную радыёграму аднаго свайго супрацоўніка з ваколля Роўна:

> Вакол нас хаваюцца групы яўрэяў па 15—20 чалавек, якія збеглі ад расстрэлаў. Іх жонкі і дзеці расстраляныя. Яны прагнуць помсты. Можна стварыць партызанскі атрад, неабходныя зброя і боепрыпасы[88].

Панамарэнка рэагаваў грунтоўна. На палях паведамлення Судаплатава ёсць нататка ад 7 верасня 1942 г., якая належыць супрацоўніку

[86] Паведамленне Карпава пра партызанскія атрады і акупацыйны рэжым у Вілейскай вобласці ад 27 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 241 об. і наст.).

[87] Л. Цанава, кіраўнік НКУС БССР, 20 кастрычніка 1943 г. паведамляў П. Панамарэнку пра становішча ў БССР, сярод іншага: «Яўрэі вымушаныя хавацца ў лясах. Так, напрыклад, паблізу мястэчка Нэўлер [правільна Няверы] — 300 чалавек, мястэчка Краснае — 250, у раёне Панышоў — 63, у Зачарной — 87 і ў іншых». Гл.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 855, л. 10. Гэтыя дадзеныя ўзятыя з цытаванага вышэй паведамлення Карпава ад 27 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 241 об. і наст.).

[88] Судаплатаў П. Панамарэнку, 3 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 746, л. 220).

Цэнтральнага штаба (подпіс неразборлівы): «Маёру [неразборліва] наладзіць сувязь з гэтымі людзьмі і арганізаваць самастойны атрад». Ці з'явіўся потым атрад сапраўды, у рамках гэтага даследавання не высветлена.

Аднак дапамога яўрэям у лясах Вілейскай вобласці прыйшла, відавочна, занадта позна, калі ўвогуле нейкая была распачата. Бо з 22 да 26 лістапада 1942 г. у мясцовасцях, дзе хаваліся гэтыя яўрэі, была праведзена аперацыя «Нюрнберг». Загад на наступ № 1 наконт аперацыі «Нюрнберг» вызначыў партызанскія групы, якія неабходна было знішчыць: «Ворагам неабходна разглядаць кожнага бандыта, яўрэя, цыгана і падазронага, што ён належыць да банды»[89]. Акрамя таго, камандаванне аперацыі «Нюрнберг» адрознівала «уніфармаванага» і «неўніфармаванага ворага». «Уніфармаваныя ворагі» — гэта «па-вайсковаму арганізаваныя банды, пад строгім камандаваннем рускіх афіцэраў. [...] Яўрэі і цыганы дзейнічаюць як неўніфармаваныя банды»[90].

1-я пяхотная брыгада СС і іншыя падраздзяленні, што ўдзельнічалі ў аперацыі «Нюрнберг», «знішчылі» агулам 2 974 чалавекі, з іх 7 цыганоў і 1 826 яўрэяў[91]. Няясна, колькі з іх былі «ляснымі яўрэямі», бо ў час аперацыі «Нюрнберг» былі забітыя і яўрэі, якія яшчэ жылі ў асобных населеных пунктах. Але варта зыходзіць з таго, што большая частка згаданых у справаздачы Карпава яўрэяў былі забітыя ў час аперацыі. У пазнейшых партызанскіх дакладах з той тэрыторыі пра іх больш няма ніякіх звестак. Затое партызанскія атрады маглі своечасова пакінуць тую тэрыторыю, як гэта здарылася з атрадам «Спартак». Непадалёк ад яго лагера знаходзіўся сямейны лагер з яўрэйскімі бежанцамі з Ёдаў (каля 50 км на паўночны захад ад Глыбокага) і іншых населеных пунктаў мясцовасці. Калі паблізу лагера з'явіліся нямецкія каманды, заспетыя знянацку партызаны рассыпаліся на маленькія групкі і ўцяклі. Засталіся жанчыны, дзеці і старыя, якія ўсе былі забітыя як партызаны ці «бандыты»[92].

Падобныя абставіны, як у наваколлі Вілейкі, панавалі ў Баранавіцкай і Пінскай абласцях. Пра гэта паведамляе Кірыл Арлоўскі. Арлоўскі восенню 1942 г. па заданні 4-га ўпраўлення НКУС прыбыў з групай у гэтыя вобласці. Ён арганізаваў тры атрады НКУС, якія дзейнічалі ў Баранавіцкай і Пінскай абласцях, адзін з іх складаўся выключна з яўрэяў:

> Я арганізаваў атрад імя Кірава з адных яўрэяў, якія ўцяклі ад гітлераўскіх расстрэлаў. Я ведаў, што мяне чакаюць неверагодныя цяжкасці. Але я не

[89] Загад аб наступленні № 1 1-й пяхотнай брыгады СС па аперацыі «Нюрнберг», Ia, падпісаны штандартэнфюрарам СС Р. Германам 20 лістапада 1942 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 47).

[90] Афіцэр Ic 1-й пяхотнай брыгады СС пра дыслакацыю ворага падчас аперацыі «Нюрнберг», 19 лістапада 1942 г. (РГВА. Ф. 500, оп. 1, д. 769, л. 52).

[91] Cüppers M. Wegbereiter der Shoah... S. 278 і наст.

[92] Рукапіс успамін Давіда Зільвермана, [1990-я гг.] (АЯВ. 3/2656, С. 95 і наст.). Давід Зільверман паходзіць з Ёдаў, уцёк у 1942 г. з гета і далучыўся да партызанскага атрада «Спартак».



> збаяўся. Я толькі таму адважыўся на такое, што *усе партызанскія атрады і злучэнні ў Баранавіцкай і Пінскай абласцях адмовіліся ад гэтых людзей* [*яўрэяў*]. Да таго ж над імі ўчынялі забойствы. Напрыклад, «партызаны»-антысеміты з атрада Цыганкова забілі 11 яўрэяў, сяляне вёскі Раздзялавічы Пінскай вобласці забілі 17 яўрэяў, партызаны атрада імя Шчорса забілі 7 яўрэяў. Калі я ўпершыню сустрэў гэтых людзей, яны былі няўзброеныя, неапранутыя, босыя і галодныя. Яны заявілі мне: «Мы хочам помсціць Гітлеру, але ў нас няма магчымасці». [...] Былыя спекулянты, дробныя гандляры, рамеснікі і іншыя жадалі помсціць нямецкім вылюдкам за пралітую [яўрэйскую] кроў. Пад маім камандаваннем яны за 2,5 месяца правялі 15 баявых аперацый, кожны дзень яны разбуралі тэлефонную і тэлеграфную сувязь, знішчалі гітлераўцаў, паліцаяў, здраднікаў нашай Радзімы[93].

Эстэр Мархвінская, тады яшчэ яе прозвішча было Свяжынская, уцякла ў лес летам 1942 г. з гета ў Міры разам з прыблізна 200 яўрэямі. Большасць партызанскіх атрадаў адмаўлялася дапамагаць уцекачам, тым больш браць іх у атрад. Толькі Юзаф Мархвінскі, польскі камуніст, які стварыў у гэтай мясцовасці партызанскі атрад і камандаваў ім, дапамог уцекачам абсталяваць лясны лагер. Яны, Эстэр і Юзаф, потым ажаніліся. Эстэр Мархвінская пазней абмалёўвала падзеі з жыцця яўрэйскіх уцекачоў з савецкімі партызанамі восенню 1942 г. і зімой 1942/43 гг. наступным чынам:

> Спачатку партызаны глядзелі на нас толькі з незадавальненнем, але потым яны паказалі, на што яны здольныя. [...] Калі яны захоплівалі ў раёне яўрэяў, то яны іх забівалі. [...] Такіх выпадкаў было шмат. Пазней мы пачалі пазнаваць іх па вопратцы. Мы даведаліся, што гэты застрэліў гэнага, таму што на ім была ягоная куртка. Той забраў гадзіннік. Між іншымі, такім чынам былі забітыя Абрамскі, Моталь Грынвальд і Ізраэль Рэзнік. Іх забілі партызаны. Гэта былі рускія, якія ўцяклі з палону і іх нельга было назваць партызанамі, бо гэта былі розныя групы. Яны заходзілі толькі на хутары, пілі гарэлку і рабавалі насельніцтва. Гэта яшчэ быў час вялікай анархіі, і для нас ён таксама быў цяжкі. [...] Гэта быў пачатак партызанскага руху, і таму кожны мог рабіць, што хацеў, і патураць свайму жывёльнаму інстынкту. Яны напалі таксама на асобную групу, якая была разам з намі. Яна схавалася ў лесе, выкапала сабе зямлянку. А яны [гэтыя партызаны] даведаліся пра гэта, прыйшлі, вывелі іх і забілі. Шмат хто загінуў такім чынам[94].

Да гэтых антысемітаў належаў Андруша Сайфевіч, які камандаваў камсамольскім партызанскім атрадам; Сайфевіч быў членам камсамола і беларусам з гэтай мясцовасці. Юзаф Мархвінскі сцвярджаў, што Сайфевіч намерваўся напасці на лагер яўрэяў-уцекачоў з Міра і наваколля (больш за 150 чалавек) і ліквідаваць іх жыхароў. Мархвінскі сво-

[93] Стэнаграма размовы з Кірылам Арлоўскім ад 4 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 6).

[94] Сведчанне Эстэр Мархвінскай, запісанае ў лістападзе 1970 г. у Тэль-Авіве (АЯВ. 3/ 3567).

ечасова пра гэта даведаўся, распусціў лагер і перавёў яго ў Налібоцкую пушчу[95].

У верасні 1943 г. «капітан Бабкоў», партызанскі камандзір са Слонімскага раёна, загадаў расстраляць шэсць яўрэяў-уцекачоў з Беластоцкага гета як «падазроных элементаў», пяць мужчын і адну жанчыну[96]. Гэта быў Мікалай Бабкоў, камандзір атрада «Савецкая Беларусь», якога сапраўды баяліся з-за яго мужнасці, але і з-за гвалтоўных дзеянняў у адносінах да цывільных. І перад гэтым ён застрэліў шмат яўрэяў і неяўрэяў[97].

І ў іншых абласцях была такая ж карціна. Менашэ Перчык з Каменя-Каширскага, мястэчка каля 50 км на поўнач ад Ковеля (сёння Украіна), вясной 1942 г. разам са сваімі братамі, бацькам і сябрамі ўцёк у лес. Яны хаваліся непадалёк ад Грубешава (Польшча), а потым недалёка ад возера Белае, каля 50 км на ўсход ад Брэста. Перчык пасля вайны апісваў свой вопыт адносінаў з савецкімі партызанамі наступным чынам:

> Праблема палягала ў тым, што савецкія партызаны, якія былі ў той мясцовасці, забівалі яўрэяў, што паўцякалі з гета. [...] Такім чынам, яўрэям, якія ўцяклі з гета, небяспека пагражала з двух бакоў, а дакладней кажучы — з трох: ад немцаў, украінскіх сялян і рускіх партызанаў. Усе гоі [неяўрэі] у навакольных вёсках даведаліся пра гэта і забівалі яўрэяў, дзе б толькі ні сустракалі іх[98].

Вясной 1942 г. Перчыка забраў з гета бацька, які ўжо абсталяваў у лесе пры дапамозе польскіх сяброў, членаў польскага супраціву, лагер:

> Па дарозе мой бацька распавёў мне, што я мушу хавацца ад рускіх партызанаў, бо яны ўжо знішчылі шмат яўрэяў. Яўрэі жылі ў лесе, у палатцы, якая была схавана ў кустах. Група налічвала 11 чалавек. Мы пачалі капаць зямлянку. Мой старэйшы брат здабываў разам з Ёзэкам Сегалам і Іцхакам Фельдманам у вёсцы ежу, часам ім шанцавала купіць зброю. Аднойчы мой брат не вярнуўся з такой аперацыі. Тыя, хто вярнуўся, распавядалі, што іх акружылі рускія партызаны, мой брат не мог страляць, таму што яго патроны адсырэлі. Аднойчы рускія акружылі нашу зямлянку, загадалі нам усім выйсці. Яны забралі ў нас абутак, штаны, пабілі нас. Некаторых яны застрэлілі, дзвюх жанчын і трох мужчын. Потым яны пайшлі, забраныя ў нас рэчы ўзялі з сабой. [...] Пасля гэтага нападу мы вырашылі памяняць сваё месцазнаходжанне. Мы пайшлі ў ваколіцы Грубешава. Нас тады было 22 чалавекі, мужчын і жанчын. [...] Там мы прабылі некалькі месяцаў. У сакавіку 1943 г. адзін украінец знайшоў нашу зямлянку. [...] Вечарам мы ўцяклі. [...] Мы прыйшлі ў вёску непадалёк ад возера Белае [Брэсцкая вобласць]. Непадалёк мы выкапалі зямлянку. [...] Рускія партызаны даведаліся пра нашую зямлянку і аднойчы акружылі нас. [...] Тады яны забілі дваіх нашых. [...] Партызаны збілі нас усіх, а жанчын яны згвалцілі. Прыкладна ў той жа самы час мой бацька пакінуў зямлянку, але гэтым разам ён не вярнуўся. Яго забілі ў вёсцы Падбер'е разам з некалькімі палякамі-«бульбаўцамі» [украінцамі-нацыяналістамі][99].

[95] Запіс інтэрв'ю з Юзафам Мархвінскім, узятага ў Тэль-Авіве ў лістападзе 1970 г. (АЯВ. 3/3568, С. 25 і наст.).

[96] Паведамленне відавочцы Яшы Кліна ад 17 лістапада 1946 г. (АЯВ. М-49/2002).

[97] Радыёграма Сцяпанава Калініну, № 4922 ад 21 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 10, арк. 272); Alpert N. The Destruction of Slonim Jewry. The Story of the Jews of Slonim during the Holocaust. New York, 1990. P. 349 і наст.; Всенародная борьба в Белоруссии... Т. 3. С. 131.

[98] Паведамленне відавочцы Менашэ Перчыка, запісанае 15 ліпеня 1960 г. у Тэль-Авіве (АЯВ. 3/2053).



Распаведы пра такія забойствы і напады адпуджвалі многіх яўрэяў ад таго, каб шукаць прытулак у лясах. Гарц Тайц, лекар-яўрэй з Мінскага гета, які партызаніў санітарным лекарам у Баранавіцкім партызанскім злучэнні, 26 жніўня 1944 г. распавёў пад пратакол:

> Да партызанаў уцякла [з Мінскага гета] невялікая колькасць людзей, менш за 1 %. [...] Спачатку было так, што сярод партызанаў меліся і сапраўдныя патрыёты, і бандыты. Калі яўрэі ўцякалі з гета, то іх знішчалі бандыты. Сярод яўрэяў гета распаўсюдзілася ўпэўненасць, што да партызанаў бегчы нельга, бо там цябе чакае тое самае, што і ў гета. І лепш было загінуць у гета[100].

Тайц восенню 1942 г. уцёк з гета, калі зразумеў, што немцы знішчаць у гета ўсіх яўрэяў, без выключэння. Яго ўзялі лекарам у атрад імя Чапаева, які пазней дзейнічаў у Баранавіцкай вобласці.

Падобны вопыт займеў і Анатоль Вертгейм, што восенню 1942 г. са сваімі сябрамі ўцёк з Стаўбцоўскага гета і перазімаваў у зямлянцы ў лесе. Іх мэтай было далучыцца да савецкіх партызанаў. Вясной 1943 г. яны сустрэлі ў лесе двух іншых яўрэяў-уцекачоў, якіх яны спыталі пра партызанаў. Адказ быў такі: «"Партызаны? Ды яны горш за немцаў!"— і яны пачалі распавядаць пра забойствы, згвалтаванні і рабаўніцкія напады, што партызаны ўчынялі ў адносінах да яўрэяў, якія хаваліся ў лясах»[101].

Праблема даследаванняў да сённяшняга часу ўсё тая самая: забойствы і напады савецкіх партызанаў адносна яўрэйскага насельніцтва хоць і прызнаюцца, але падрабязнага расследавання на гэты конт няма, між іншым, таму, што доступ да крыніц вельмі цяжкі[102]. Але не

[99] Тамсама.

[100] Стэнаграма размовы з Гарц Тайц ад 26 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 66 і наст.).

[101] Wertheim A. Żydowska partyzantka... S. 136.

[102] Tec N. Bewaffneter Widerstand... S. 115—119. У 2006 г. з'явіўся артыкул: Smilovitsky L. Antisemitism in the Soviet Partisan Movement, 1941—1944: The Case of Belorussia // Holocaust and Genocide Studies. Vol. 20. 2006. № 2. P. 207—234 (беларускамоўная версія: Сміловіцкі Л. Антысемітызм у савецкім партызанскім руху на прыкладзе Беларусі (1941—1944) // ARCHE. 2008. № 5. С. 386—418), які закранае гэтую тэматыку. Доступ да савецкіх крыніц на працягу дзесяцігоддзяў быў закрыты. У паведамленнях жа яўрэяў, якія выжылі і былі прынятыя ў камуністычнай Польшчы ці ў Савецкім Саюзе, гэтыя забойствы і напады па палітычных прычынах з'яўляліся вельмі рэдка. Толькі ў Ізраілі выжыўшыя маглі гаварыць пра гэта адкрыта.

можа быць і гаворкі пра тое, што гэтыя забойствы і напады савецкіх партызанаў былі толькі «асобнымі» выпадкамі, пабочнымі з'явамі. Беларусь ні ў якім разе не была «бліскучым» прыкладам салідарнасці з яўрэямі сярод краін Еўропы[103].

Лёс яўрэяў-бежанцаў у лясах заходніх абласцей Беларусі палепшыўся з вясны 1943 г. Цэнтральнаму і Беларускаму штабам паступова ўдалося наладзіць сувязь з дзейнымі там атрадамі і арганізаваць іх у адзіныя злучэнні і брыгады. Адной з першых мер, як ужо згадвалася, была барацьба з партызанамі-рабаўнікамі і марадзёрамі. Паралельна з гэтым пачалі барацьбу з шырока распаўсюджаным антысемітызмам сярод савецкіх партызанаў, хоць сёння часта сцвярджаецца, што савецкае партызанскае камандаванне нічога супраць гэтага не рабіла[104].

Уладзімір Царук, намеснік Чарнышова, камандзіра Баранавіцкага партызанскага злучэння, 3 снежня 1944 г. распавёў пад пратакол: «У партызанскім руху антысемітызм быў вельмі шырока распаўсюджаны. Нам давялося змагацца з ім. Мы хутка з гэтым справіліся»[105]. Але гэтая ацэнка, была, здаецца, залішне аптымістычнай, бо маецца шмат паведамленняў пра выпадкі антысемітызму ў другой палове 1943 г. і ў 1944 г. Адзін толькі псіхоз у партызанаў наконт яўрэйскіх шпіёнаў выклікаў шматлікія ахвяры сярод бежанцаў[106].

Увесь час антысеміцкія забабоны рабілі свой уплыў. Барыс Булат, партызанскі камандзір у Баранавіцкай вобласці, які выступаў у абарону яўрэяў і змагаўся з антысемітызмам у партызанскіх шэрагах, паведамляў у жніўні 1944 г.:

> Спачатку партызаны не хацелі браць яўрэяў у атрады, таму што яны скампраметавалі сябе ў іх вачах: немцы заключылі ўсіх яўрэяў у гета, і яны без супраціўлення пайшлі ў [расстрэльныя] ямы, яны і пальцам не паварушылі супраць немцаў. Не толькі партызаны, але і насельніцтва гаварыла: «Таварышы, не прымайце да сябе яўрэяў, яны вас прададуць»[107].

Нягледзячы на гэтыя папярэджанні, Булат сфармаваў яўрэйскі атрад з баяздольных яўрэяў-уцекачоў пад камандаваннем Атласа, лекара-яўрэя і, здаецца, быў вельмі задаволены яго дасягненнямі. Атлас памёр у снежні 1943 г., паранены[108]. Аднак сам Булат загадаў расстраляць некалькі партызанаў-яўрэяў за парушэнні дысцыпліны,

[103] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 747.

[104] Smilovitsky L. Antisemitism...; Смілавіцкі Л. Антысемітызм... У той жа час аўтар піша, што савецкае партызанскае камандаванне нічога не рабіла супраць распаўсюджанага антысемітызму. Аднак разгледжаныя ў рамках гэтага даследавання крыніцы абвяргаюць гэтае сцверджанне.

[105] Стэнаграма размовы з Уладзімірам Царуком ад 3 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 103).

[106] Гл. раздзел «Нямецкая "разведка бандаў" і шпіёнаманія сярод партызанаў».

[107] Стэнаграма размовы з Барысам Булатам ад 19 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 54).

[108] Тамсама. Арк. 54 і наст.



і некаторыя партызаны-яўрэі ў гэтай сувязі абвінавачвалі яго ў антысемітызме[109].

Забабоны, што яўрэі нібыта дрэнныя байцы, былі сярод беларускіх партызанаў шырока распаўсюджаны. 17 жніўня 1942 г. Георгій Дзімітраў, кіраўнік Камінтэрна, прымаў сакратара мінскага камсамола Аляксея Мальчэўскага, які паведамляў пра партызанскі рух у Беларусі. Пра яўрэяў, паводле Дзімітрава, Мальчэўскі сказаў:

> Немцы амаль цалкам вынішчылі яўрэйскае насельніцтва. У адным толькі Мінску знішчана 16 000, у Барысаве — 8 000. Характэрным з'яўляецца факт, што яўрэі нідзе не аказалі ні кроплі супраціўлення. Іх, як авечак, гналі на смерць. Шмат хто з іх лічыў гэта «божай карай»... Толькі асобныя яўрэі пайшлі ў партызаны. Нават яўрэі-камсамольцы адмаўляліся, калі нашы людзі прапаноўвалі ім уцякаць з месцаў, куды іх гналі карныя атрады: яны нібыта не хацелі кідаць свае сем'і[110].

Агульны папрок Мальчэўскага, якога самога абвінавачвалі ў баязлівасці, пасіўнасці і дэзерцірстве[111], што яўрэі ішлі на бойню без супраціву, некарэктны[112]. Выказванне Мальчэўскага, што нават камсамольцы адмаўляліся ўцякаць, таму што не хацелі пакідаць сваіх сем'яў, не доказ меркаванай баязлівасці яўрэяў, а наглядна паказвае трагедыю яўрэйскага насельніцтва ў час Халакосту. Па-першае, уцёкі цэлых груп насельніцтва ў лясы ў 1941—1942 гг. часта былі нерэальнымі. Толькі маладыя і дарослыя мужчыны і жанчыны мелі рэальны шанц выжыць. Пакінуць бацькоў ці малых дзяцей на волю забойцаў было надзвычай цяжкім рашэннем. Паўстае пытанне, ці не больш мужным было менавіта рашэнне застацца са сваімі дзецьмі ці бацькамі перад абліччам смерці.

Філіп Філіпаў (Гранатштайн) жыў са сваёй жонкай і маленькім дзіцём, якое нарадзілася ў 1940 г., у Слонімскім гета. Ён браў удзел у падрыхтоўцы супраціву ў гета, збіраў і перапраўляў з гета зброю, шукаў і наладжваў кантакты з савецкімі партызанамі. Калі ўсё было

[109] Zissman H. The Warriors... P. 127 і наст.

[110] Dimitroff G. Tagebücher 1933—1943... S. 575 (запіс ад 17 жніўня 1942 г.).

[111] Так, Мальчэўскага, сярод іншага, папракалі, што ён усю зіму 1941/42 гг. праседзеў у адной вёсцы і хаваўся больш ад партызанаў, чым ад немцаў, каб не выявіць. Калі партызаны наладзілі з ім кантакт, ён адразу папрасіў даць яму праваднік, які правядзе яго праз лінію фронту, быццам бы для атрымання падтрымкі. Ягоны ж брат быў расстраляны партызанамі як дэзерцір. Гл.: Справаздача сакратара Мінскага абкама Клімава пра дзейнасць абкама ад 15 верасня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1081, л. 17—26). Пасля яго прыезду ў Маскву Мальчэўскага спачатку ўзнагародзілі, аднак неўзабаве ўзнагароду адмянілі і вызвалілі ад пасады. Хоць ён і застаўся жывым, але з партыйнай кар'ерай было скончана. Мальчэўскі памёр у 1967 г. ад туберкулёзу. Гл.: Ліст жонкі Мальчэўскага П. Панамарэнку ад 1 снежня 1975 г. (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 10, л. 94—100).

[112] Параўн. на гэты конт, напрыклад: Cholawsky Sh. The Jews of Belorussia During World War II. Amsterdam, 1998. Тут прыведзеныя шматлікія прыклады супраціўлення: падпольныя арганізацыі ў гета, уцёкі, сховы, партызаны.

гатова, Філіпаў паспрабаваў угаварыць сваю жонку ўцячы, але аднагадовае дзіця трэба было пакінуць у гета. Ён аргументаваў: «Калі мы выжывем у вайне, мы народзім дзяцей яшчэ, калі мы застанёмся ў гета, то загінем усе». Жонка адмовілася, яна засталася з дзіцём у гета, і яны абое былі пазней забітыя. Філіпаў жа ўцёк з гета ў лес з яшчэ 1 200 яўрэямі[113]. Мала хто з іх выжыў.

Песя Левіт жыла са сваімі бацькамі ў Жалудку, каля 50 км на ўсход ад Гродна. Вясной 1942 г. бацькі настойвалі, каб яна ўцякла куды-небудзь у бяспечнае месца. Яна была маладая, здаровая і выглядала як «неяўрэйка», што давала магчымасць выжыць. Песя адмовілася, яна з любові да сваёй сям'і засталася ў гета. У маі 1942 г. нямецкія акупанты ліквідавалі гета, Песя схавалася ў зямлянцы, бацькоў расстралялі. «Як і многія маладыя людзі, Песя толькі пасля страты сям'і без пачуцця віны магла сканцэнтравацца на сваім выжыванні»[114].

На гэтым фоне недапушчальны агульны папрок, што яўрэі без супраціву ішлі на смерць. Лекар-яўрэй з Мінска Тайц спасылаецца таксама на тое, што ў 1941 г. тысячы савецкіх палонных былі забітыя ці памерлі з голаду, не супраціўляючыся, бо яны страцілі ўжо ўсякую надзею. Такі ж настрой напачатку панаваў і ў яўрэяў Мінскага гета[115]. Тут яшчэ трэба заўважыць, што ваеннапалонным пры магчымых спробах супраціву не трэба было клапаціцца пра сваіх дзяцей, жонак, бацькоў. Дзякуючы згаданым ужо дырэктывам і загадам Беларускага і Цэнтральнага штабоў, становішча яўрэйскіх уцекачоў з красавіка — мая 1943 г. у заходніх частках Беларусі палепшылася. Менашэ Перчык, які хаваўся вясной 1943 г. з групай яўрэяў-уцекачоў у лесе непадалёк ад возера Белае, пазней паведамляў:

> Вясной 1943 г. партызаны атрымалі загад з Масквы, што на яўрэяў нельга нападаць. Гэта паклала канец нападам на зямлянкі. Партызаны цяпер баяліся нападаць на яўрэяў. [...] З таго часу мы жылі з партызанамі ў згодзе, мы нават далучыліся да іх. [...] Партызаны належалі да атрадаў імя Арджанікідзэ. Нас у гэтых атрадах было каля 100 яўрэяў. Пазней мы належалі да атрада Фёдарава. Атрад падабраў некалькі яўрэяў, якія хаваліся ў лясах, і яны сталі партызанамі, як і мы[116].

У атрадзе — пазней брыгадзе — імя Шчорса (Баранавіцкая вобласць) ваявалі каля ста партызанаў-яўрэяў, большасць з іх у 51-й групе, у склад якой уваходзілі ў асноўным яўрэі-бежанцы. Пасады камандзіраў яны не займалі, але адыгрывалі важную ролю ў медычнай службе. Сюды дадаваліся яшчэ два сямейныя лагеры, у якіх жылі агулам больш за 1 000 яўрэяў-уцекачоў, жанчыны, дзеці і старыя.

[113] Стэнаграма размовы з Філіпам Філіпавым (Гранатштайнам) ад 14 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 112, арк. 50—53).
[114] Tec N. Bewaffneter Widerstand... S. 91—94.
[115] Стэнаграма размовы з Гарцам Тайцам ад 26 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 111, арк. 66 адв.).
[116] Сведчанне відавочцы Менашэ Перчыка, запісанае 15 ліпеня 1960 г. у Тэль-Авіве (АЯВ. 3/2053).



Атрад/брыгада імя Шчорса, як паведамляў пазней камандзір гэтага падраздзялення, падтрымлівалі гэтых бежанцаў[117]. Адносіны паміж партызанамі атрада імя Шчорса, аднак, не былі беспраблемнымі. Тут варта нагадаць выказванне Кірыла Арлоўскага, што партызаны атрада імя Шчорса застрэлілі сем яўрэяў[118].

У жніўні 1942 г. брыгада імя Шчорса была перакінутая ў Пінскую вобласць, а на месцы засталося адно падраздзяленне (каля 100 партызанаў), а ў сямейных лагерах — яўрэі-бежанцы. Неўзабаве пасля гэтага ў іх адбыліся вострыя канфлікты з партызанамі, якія засталіся. Апошнія спрабавалі прагнаць яўрэяў са свайго аператыўнага раёна. Бо, як сцвярджалі партызаны, прысутнасць вялікай колькасці яўрэяў у лесе правакуе немцаў на аперацыі, акрамя таго, яны — цяжар для мясцовага насельніцтва. Становішча абвастрылася яшчэ больш, калі ўжо згаданы капітан Бабкоў атрымаў камандаванне над партызанамі. Нахум Альперт канстатаваў: «Новыя яўрэйскія магілкі ў лесе разрасталіся». Толькі вясной 1943 г. становішча разрадзілася: «У сакавіку 1943 г. прысутнасць эмісараў з Масквы ахаладзіла Бабковых-антысемітаў, і сотні яўрэяў, якія выжылі, маглі пасяліцца ў былым сямейным лагеры»[119].

Паводле дадзеных Беларускага штаба, 12 020 савецкіх партызанаў з Брэсцкай вобласці аб'ядналіся з Чырвонай Арміяй, з іх 341 (2,81 %) былі яўрэі[120]. Як склаўся лёс большасці яўрэяў-бежанцаў, невядома. Нахум Альперт, які з 18 іншымі партызанамі-яўрэямі пасля выгнання немцаў вярнуўся ў разбураны Слонім, піша: «Мала іншых яўрэяў прыйшлі з лесу», і пералічвае імёны нямногіх, хто выжыў[121].

Яўрэйскім партызанскім злучэннем, самым вялікім у Беларусі ды і ў Еўропе ўвогуле ў час Другой сусветнай вайны, быў так званы атрад Бельскага, які дзейнічаў у пушчы і ў наваколлі Налібакаў. Гэта была «сямейная група»: большая частка, больш чым тры чвэрці, няўзброеная (жанчыны, дзеці, старыя)[122]. Па стане на 1 красавіка 1944 г. атрад Бельскага налічваў 955 чалавек, у тым ліку 388 жанчын, 26 дзяцей да 7 гадоў і 98 ва ўзросце ад 7 да 16 гадоў ды 167 чалавек старэй за 40 гадоў. Амаль усе (953) былі ўцекачамі з гета. Узброеныя члены атрада мелі задачу ахоўваць групу і займацца забеспячэннем[123].

[117] Стэнаграма размовы з камандзірам брыгады імя Шчорса Паўлам Пранягіным ад 20 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 112, арк. 82 і наст.); Alpert N. The Destruction... P. 233—244; стэнаграма размовы з Філіпам Філіпавым (Гранатштайнам) ад 14 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 112, арк. 50—53).
[118] Стэнаграма размовы з Кірылам Арлоўскім ад 4 верасня 1943 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 6).
[119] Alpert N. The Destruction... P. 342—357, цытата: p. 349, 356.
[120] Паведамленне пра стан партызанскага руху ў Брэсцкай вобласці, без даты, [лета 1944 г.] (РГАСПИ. Ф. 625, оп. 1, д. 18, л. 63 і наст.).
[121] Alpert N. The Destruction... P. 362.
[122] Tec N. Bewaffneter Widerstand... S. 217.
[123] Склад партызанскага атрада Бельскага па стане на 1 красавіка 1944 г. (НАРБ. Ф. 3623, воп. 1, спр. 4, арк. 21); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 209 і наст.

Група Бельскага была заснаваная вясной 1942 г. і налічвала спачатку каля 20 чалавек: Анатоль Бельскі, яго тры браты, а таксама ягоныя сваякі і знаёмыя. З часам група перарасла ў вялікі атрад, які налічваў каля 1 200 чалавек[124]. Спачатку група дзейнічала самастойна. У верасні 1942 г. яна наладзіла кантакт з партызанскім атрадам лейтэнанта В. І. Панчанкава. Яны сумесна правялі некалькі аперацый[125]. Вясной 1943 г. група Бельскага была ўключана як 2-я рота ў атрад «Кастрычнік» брыгады імя Кірава[126] Баранавіцкага злучэння. Камандзірам роты быў Анатоль/Туўе Бельскі[127]. У чэрвені 1943 г. група Бельскага пачала называцца атрадам імя Арджанікідзэ брыгады імя Кірава[128]. Восенню 1943 г. (канец кастрычніка — пачатак лістапада) Бельскага знялі з пасады камандзіра атрада імя Арджанікідзэ і прызначылі камандзірам «сямейнай групы», якая была вылучана з атрада імя Арджанікідзэ. Але група і надалей арганізацыйна падначальвалася атраду імя Арджанікідзэ[129].

Сямейная група Бельскага налічвала ў лістападзе 1943 г. каля 800 чалавек і знаходзілася ў трох розных лагерах: у зімовым лагеры, у бульбяным лагеры і ў летнім лагеры. Акрамя таго, Бельскі атрымаў ад Івянецкага міжраённага цэнтра заданне ўзяць пад сваё камандаванне ўсе сямейныя групы, каля 100 чалавек, 6—8 груп, якія раздроблена знаходзіліся ў лясах і наваколлі Міра і Стоўбцаў[130]. Жыццё ў атрадзе было строга адрэгулявана, і ў кожнага былі свае задачы. Каля 100 чалавек сямейнай групы працавалі ў розных цэхах, напрыклад, у хлебапякарні, шавецкім, збройным альбо мясным. Тры групы ў агульнай колькасці з 60 чалавек праводзілі так званыя гаспадарчыя аперацыі ў розных раёнах, займаліся забеспячэннем. У пачатку снежня 1943 г. былі закладзеныя наступныя зімовыя запасы: 200 тон бульбы,

[124] Тес N. Bewaffneter Widerstand... S. 74—87. У паведамленні за вясну 1943 г. Анатоль (Туўе) Бельскі сцвярджаў, што ягоная група была заснаваная ў ліпені 1941 г. Параўн.: Справаздача пра ўзброеныя акцыі другой роты атрада «Кастрычнік» за перыяд з ліпеня 1941 г. да вясны 1943 г., без даты, [вясна 1943 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 251, арк. 63). У сапраўднасці Бельскі і ягоныя браты хаваліся ў розных месцах і аб'ядналіся ў групу толькі ў маі 1942 г., як гэта вынікае з іх пасляваенных выказванняў. Гл: Тес N. Bewaffneter Widerstand... S. 74—87; Duffy P. The Bielski Brothers... P. 55—76.

[125] Справаздача пра ўзброеныя акцыі другой роты атрада «Кастрычнік» за перыяд з ліпеня 1941 г. да вясны 1943 г., без даты, [вясна 1943 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 251, арк. 63).

[126] Брыгада імя Кірава першапачаткова называлася брыгадай імя Леніна. Гл.: Duffy P. The Bielski Brothers... P. 169.

[127] Справаздача пра ўзброеныя акцыі другой роты атрада «Кастрычнік» за перыяд з ліпеня 1941 г. да вясны 1943 г., без даты, [вясна 1943 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 251, арк. 63).

[128] Загад упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і БШПР па Шчучынскім міжраённым цэнтры Шупені ад 7 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 82, арк. 2).

[129] Бельскі «Платону», 12 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 45, арк. 17).

[130] Паведамленне камандзіра сямейнага атрада А. Бельскага № 0011, без даты, [лістапад 1943 г.] (НАРБ. Ф. 3618, воп. 1, спр. 6, арк. 129).



3 тоны капусты, 5 тон буракоў, 5 тон збожжа, а таксама каля 3 тон мяса і 1 тона каўбасы. Для аховы групы былі прызначаныя 66 партызанаў з групай разведкі з 6 чалавек. Іншыя ўзброеныя акцыі партызаны групы ў той час не праводзілі[131].

З студзеня 1944 г. «Платон» вылучыў сямейную групу Бельскага з брыгады імя Кірава і ўтварыў самастойны атрад Бельскага, што падпарадкоўваўся непасрэдна яму. Адначасова Бельскі, якога «Платон» прызначыў камандзірам атрада, атрымаў загад сфармаваць баявую групу для выканання ўзброеных аперацый. 1 лютага 1944 г. Бельскі сфармаваў такую баявую групу з 180 партызанаў. 6 мая 1944 г. «Платон» загадаў перайменаваць атрад Бельскага яшчэ раз, на гэты раз у атрад імя М. І. Калініна. Праз два месяцы (12 чэрвеня 1944 г.), пасля таго як часці Чырвонай Арміі занялі гэтую тэрыторыю, Анатоль Бельскі расфармаваў атрад імя Калініна[132].

Згаданы ўжо атрад Зорына таксама быў «яўрэйскай сямейнай групай». Але калі атрад Бельскага складаўся з польскіх яўрэяў, то атрад Зорына даў прытулак «савецкім яўрэям», што жылі ў Беларусі ў межах да 1939 г. Атрад Зорына афіцыйна называўся атрадам № 106 Івянецкага міжраённага цэнтра, камандзірам якога быў прызначаны Сямён Зорын. Зорын атрымаў у канцы чэрвеня 1943 г. заданне сфармаваць з 40 партызанаў-яўрэяў партызанскі атрад, павялічыць яго і абараняць як тых яўрэяў, што ўжо былі ў лесе, так і тых, якія прыйдуць туды[133]. На 1 кастрычніка 1943 г. атрад налічваў каля 700 чалавек, з якіх 450 мелі зброю[134].

Акрамя таго, на тэрыторыі Беларусі меліся шматлікія меншыя яўрэйскія сямейныя групы і групы выжывання, што асобна падтрымлівалі кантакты з савецкімі партызанамі ці дзейнічалі самастойна. Яны складаліся, як і большасць іншых яўрэйскіх партызанскіх груп, з уцекачоў з гета. Гэтыя групы, як правіла, не праводзілі ніякіх баявых аперацый супраць ворага, а былі засяроджаныя на тым, як выжыць у лесе. Яны асабліва падвяргаліся небяспецы ў час нямецкіх аперацый супраць партызанаў, бо былі невялікія і часта дрэнна ўзброеныя.

У час аперацыі «Герман» нямецкія каманды знішчылі ў Налібоцкай пушчы мінімум 210 няўзброеных яўрэяў. У зводцы аб знішчаных «бандыцкіх лагерах» падчас аперацыі напісана: «*16.7.43 г.* [...] 1,5 км на паўночны ўсход ад Кроманя (84 / 98) разбураны яўрэйскі лагер.

[131] Справаздача пра дзейнасць камандавання сямейнай групы атрада імя Арджанікідзэ ад 5 снежня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3623, воп. 1, спр. 2, арк. 95 і наст.).

[132] Загад № 001 упаўнаважанага ЦШПР і ЦК КП(б)Б па Баранавіцкай вобласці ад 3 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 3423, воп. 1, спр. 1, арк. 1); загад № 6 ад 1 лютага 1944 г., загад № 33 ад 6 мая 1944 г., загад № 41 ад 12 ліпеня 1944 г., надрукаваныя ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 213—218.

[133] Нататка Дубава з Івянецкага міжраённага цэнтра ад 30 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 32, арк. 49); распараджэнне Дубава камандзіру брыгады імя Г. Жукава, старшаму лейтэнанту Ключко, ад 30 чэрвеня 1943 г. (Тамсама); Wertheim A. Żydowska partyzantka... S. 142.

[134] Паведамленне пра стан падполля і партызанскага руху ў Баранавіцкай вобласці на 1 кастрычніка 1943 г., няпоўныя дадзеныя (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 8, арк. 1—9, 15).

210 няўзброеных яўрэяў знішчаныя»[135]. Найверагодней гэта былі жыхары сямейнага лагера пад аховай атрада Зорына, утворанага некалькі тыдняў таму. Атрад на той час меў свой лагер паблізу возера Кромань, каля 9 км на захад ад мястэчка Налібакі[136]. Няхама Тэц піша: «Большасць партызанскіх падраздзяленняў мусілі [у час аперацыі "Герман"] несці цяжкія страты. Польскі атрад і яўрэйская група Зорына пацярпелі асабліва жорстка»[137].

З усходніх раёнаў Беларусі, якія знаходзіліся бліжэй да лініі фронту, маглі быць выведзеныя ў савецкі тыл некалькі соцень яўрэяў-уцекачоў. У студзені 1943 г. начальнік Беларускага штаба Калінін распарадзіўся ўзнагародзіць восем партызанаў атрада «Мсцівец» (Мінская вобласць) за тое, што яны «вывелі 210 яўрэйскіх сем'яў з нямецкага тылу»[138]. Гірш Смоляр піша, што некалькі тысяч яўрэяў з Мінскай вобласці былі перапраўленыя камуністычным падполлем праз лінію фронту і выратаваныя. Да гэтай ідэі прыйшоў «Дзядзька Вася», камандзір брыгады «Дзядзькі Васі», якая дзейнічала ў Бягомльска-Лепельскай зоне і ў Вілейскай вобласці[139].

Але гэтая лічба здаецца занадта вялікай і не пацвярджаецца даступнымі дакументамі Беларускага штаба. Ёфэ Гершзон, партызан-яўрэй з падраздзялення «Дзядзькі Васі», аднак, пацвярджае, што «Дзядзька Вася» сапраўды сабраў групу з 50 яўрэйскіх сем'яў, лясных уцекачоў і пераправіў у савецкі тыл, бо ахоўваць іх на месцы было наўрад ці магчыма[140].

Пераправіць тысячы чалавек, жанчын, дзяцей і старых, з глыбокага тылу ворага праз лінію фронту было амаль немагчыма, асабліва восенню 1942 г., калі «Суражскія вароты» былі «закрытыя». Такая аперацыя была вельмі рызыкоўнай, і не толькі з-за паліцыі і немцаў. У красавіку 1943 г. партызанская група пад камандаваннем Курачкіна накіравалася з Бягомльска-Лепельскай зоны да лініі фронту:

> Да яго групы далучылася група з 30 яўрэяў. [...] У вёсцы Кісялі ён [Курачкін] заявіў яўрэям, каб яны зніклі. Чатыры яўрэі аддалі Курачкіну гадзіннікі. Пасля гэтага ён узяў у групу за залатыя гадзіннікі трох яўрэяў і адну яўрэйку[141].

[135] Пералік знішчаных пры аперацыі «Герман» бандыцкіх лагераў, без даты, [пасля 9 жніўня 1943 г.] (РГАВА, ф. 500, оп. 1, д. 774, л. 46 і наст.). Вылучана ў арыгінале.
[136] Гісторыя ўзнікнення атрадаў брыгады «Першамайская», без даты, [другое паўгоддзе 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 250, арк. 89—121); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 98.
[137] Tec N. Bewaffneter Widerstand... S. 199.
[138] Загад № (90) 15 ад 14 студзеня 1943 г. начальніка БШПР Калініна (НАРБ. Ф. 3500, воп. 17, спр. 7, арк. 3). Гаворка, відавочна, ідзе пра тую ж самую групу, пра якую Смілавіцкі піша ў сваім тэксце «Антысемітызм у савецкім партызанскім руху...».
[139] Smolar H. The Minsk Ghetto. Soviet-Jewish Partisans Against the Nazis. New York, 1989. P. 154; Смоляр Г. Менскае гета: Барацьба савецкіх габрэяў-партызанаў супраць нацыстаў / Пераклад з анг. М. Гілевіча. Мінск, 2002. С. 161.
[140] Паведамленне відавочцы Ёфэ Гершзона, запісанае 20 чэрвеня 1959 г. у Ізраілі (АЯВ. 3/1293).
[141] Паведамленне кіраўніка міжраённага цэнтра Барысаўскай зоны Гулі, [красавік—май 1943 г.) (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 270, арк. 96).



Змены ў адносінах да яўрэяў-уцекачоў з вясны 1943 г. з боку савецкіх партызанаў выратавалі жыццё сотням, калі не тысячам. Не толькі забойства і рабаўніцтва ў дачыненні да іх было забаронена, але і быў загад дапамагаць ім, і такая дапамога была арганізавана, як гэта зрабіў, напрыклад, камандзір брыгады «Першага мая» ў чэрвені 1943 г. Ён даў сваім партызанам загад дапамагаць усім яўрэйскім сем'ям, што хаваліся на аператыўнай тэрыторыі (паўночна-заходнія раёны Баранавіцкай вобласці) брыгады[142]. Як ужо гаварылася, атрад Зорына сфармавалі спецыяльна абараняць яўрэяў-уцекачоў. Усе гэтыя захады асаблівы ўплыў мелі ў Баранавіцкай вобласці, і тут доля партызанаў-яўрэяў была асабліва вялікай, 8,7 % паводле, праўда, няпоўных дадзеных ад 1 ліпеня 1944 г.[143]. Сярэдні працэнт па Беларусі складаў 2,6 %.

Але гэта не азначае, што сумеснае жыццё яўрэйскіх партызанаў і ўцекачоў разам з савецкімі партызанамі праходзіла з таго часу бясхмарна. У пачатку чэрвеня 1943 г. члены падрыўной групы брыгады імя Жукава (Баранавіцкае злучэнне) расстралялі групу партызанаў-яўрэяў з сямі чалавек, бо да гэтага адзін з іх памылкова застрэліў партызана падрыўной групы. Пасля гэтага людзі з падрыўной групы напалі на яўрэйскі сямейны лагер і спустошылі яго[144].

Асабліва цяжкім, здаецца, было становішча партызанаў-яўрэяў у брыгадзе імя Фрунзэ. У час партыйнага сходу атрада імя Кутузава, былога імя Лазо брыгады імя Фрунзэ, які адбыўся 14 ліпеня 1943 г., разглядалася пытанне адносін да партызанаў-яўрэяў у брыгадзе імя Фрунзэ. Камандзір атрада імя Лазо пры гэтым скардзіўся:

> Я прызначаны камандзірам атрада імя Лазо. Камандаванне брыгады імя Фрунзэ папракала мяне, што атрад імя Лазо — дрэнны, бо там шмат яўрэяў. Падобнай думкі прытрымліваліся ўсе партызаны брыгады.

Таксама выявілася: «Яўрэяў праганялі з атрадаў [брыгады імя Фрунзэ], спасылаючыся на іх непрыдатнасць». Акрамя таго, партызанам-яўрэям прыпісвалі злачынствы (рабаўніцтва, згвалтаванні), якія ўчынялі партызаны-неяўрэі. Больш таго: «Камандаванне брыгады спрабавала ізаляваць яўрэяў і пераследуе іх. Яно спрабавала адбіраць у яўрэяў каштоўнасці (золата, манеты, пярсцёнкі) і прысвойваць іх»[145].

[142] Паведамленне камандзіра брыгады «Першамайская» капітана Кавалёва ўпаўнаважанаму ЦК КП(б)Б і прадстаўніку Генеральнага штаба Чырвонай Арміі ад 19 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 1, спр. 250, арк. 8); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 54 і наст.
[143] Паведамленне пра склад партызанскіх брыгад і атрадаў у Баранавіцкай вобласці па стане на 1 ліпеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 17, арк. 5—9); Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 35 і наст.
[144] Загад № 023 ад 12 чэрвеня 1943 г. упаўнаважанага ЦШПР па Баранавіцкай вобласці «Платона» (Чарнышова) (НАРБ. Ф. 1329, воп. 1, спр. 29, арк. 20); апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 191 і наст.
[145] Пратакол № 4 сходу членаў і кандыдатаў партыі атрада імя Кутузава, запратакаляваны Шусландам, 14 ліпеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 469, арк. 247—251).

Камісарам атрада імя Лазо/Кутузава з 1 сакавіка да 1 верасня 1943 г. быў Гірш Смоляр[146]. Смоляр, які, мусіць, браў удзел у гэтым сходзе, у сваіх успамінах замоўчвае гэтыя непаладкі[147]. Праўда, не ўсе яўрэі-ўцекачы перажылі такія дрэнныя варункі. Ёфэ Гершзон, былы партызан брыгады «Дзядзькі Васі», распавёў у 1959 г. пад пратакол:

> Сёння часта чуеш ад розных людзей, што яны баяліся савецкіх партызанаў, што шмат хто з іх перажыў ад савецкіх партызанаў вялікія непрыемнасці. Я павінен сказаць, калі гаварыць пра мой вопыт і вопыт маёй групы, з якой я пайшоў у лес, што з намі ўсё было наадварот. Цяжка сказаць, у чым была справа. Я думаю, што ўсё залежала ад таго, на якога камандзіра ты натыкаўся. Па волі выпадку камандзірам групы, якую мы ў час нашых непрацяглых блуканняў [па лесе] сустрэлі, быў мой былы дырэктар Варанецкі, якога звалі «Дзядзька Вася». [...] Яны [партызаны «Дзядзькі Васі»] даведаліся, што да іх ідзе група з 24 яўрэяў. Пасля гэтага Варанецкі выслаў партызанаў знайсці яе[148].

Іншыя камандзіры таксама без запрашэння выступілі за яўрэяў-бежанцаў. Сярод іх быў і камандзір атрада/брыгады «Ленінскі камсамол», які дзейнічаў недалёка ад Ліды, Станкевіч. Ён узяў у атрад яўрэяў-бежанцаў і клапаціўся пра сямейныя лагеры ў лясах[149]. У паўднёвай зоне Баранавіцкай вобласці меўся вялікі сямейны лагер, які складаўся выключна з уцекачоў-яўрэяў, жанчын, дзяцей, старых і мужчын, больш за 200 чалавек. Камандзір зоны Рыгор Румянцаў паведамляў у снежні 1944 г.:

> Партызаны вельмі крыўдзілі іх. Каб быць залічанымі ў атрад, яны [яўрэі] павінны былі прынесці зброю. Калі яны прыходзілі са зброяй, іх абяззбройвалі. Зброю партызаны забіралі сабе, а іх праганялі[150].

Румянцаў са сваім штабам клапаціўся пра яўрэяў-уцекачоў, ён забяспечваў іх харчаваннем, а баяздольных адсылаў у атрады.

> Я ўзяў у атрады нямала яўрэяў. Але камандзірам я нашэптваў на вушка, каб яны пасылалі іх на заданні: калі пабягуць — расстрэльваць. Ведаеце, яны паказваюць сябе вельмі добрымі байцамі, асабліва маладыя жанчыны[151].

[146] Даведка Баранавіцкага абкама для Рыгора (Гірша) Смоляра пра ягоны ўдзел у савецкім партызанскім руху, падпісаная Васілём Чарнышовым, ад 17 жніўня 1944 г., польскі пераклад ад 14 ліпеня 1968 г. (копія ў прыватным архіве аўтара).
[147] Smolar H. The Minsk Ghetto... P. 125—133; Смоляр Г. Менскае гета... С. 133—141.
[148] Паведамленне відавочцы Ёфэ Гершзона, запісанае 20 чэрвеня 1959 г. у Ізраілі (АЯВ. 3/1293). Варанецкі быў савецкім функцыянерам і дырэктарам саўгаса ў Даўгінаве (былое Віленскае ваяводства).
[149] Пратакол сведчанняў сведкі Беньяміна Рагоўскага, нар. 19 верасня 1919 г. у Лідзе, запісаных у Хайфе 14 сакавіка 1964 г. (АЯВ. 3/2820).
[150] Стэнаграма размовы з Рыгорам Румянцавым ад 2 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 98).
[151] Тамсама.



Сямейны лагер існаваў да прыходу Чырвонай Арміі.

Тым не менш, у Баранавіцкай вобласці да канца нямецкай акупацыі рэгулярна здараліся канфлікты паміж яўрэйскімі і савецкімі партызанамі, якія нярэдка мелі крывавы зыход[152]. Бася Левіна, што была пры штабе Баранавіцкага злучэння, скардзілася на антысемітызм партызанаў, які меў месца да самага канца. «Пытанне нацыянальнасці разглядалася партызанамі не паводле камуністычных прынцыпаў. Яўрэйскія юнак ці дзяўчына мусілі шмат што выслухоўваць»[153].

Амаль гэтаксама было ў іншых абласцях. У канцы жніўня 1943 г. камандзір атрада імя Кагановіча (Вілейскае партызанскае злучэнне) скардзіўся: «Яўрэяў у атрады не прымалі. [...] Іх абяззбройвалі пад рознымі хлуслівымі падставамі. Яны [яўрэі] былі вымушаныя хавацца як ад немцаў, так і ад партызанаў»[154]. Манохін, партыйны і партызанскі кіраўнік з Вілейскай вобласці, пацвярджаў:

> Партызаны брыгады імя Варашылава нападалі на партызанаў-яўрэяў з літоўскіх атрадаў і адбіралі ў іх зброю: «Навошта вам зброя, вы ваюеце дрэнна, вы дрэнныя байцы, вы не можаце ваяваць»[155].

З другога боку, у шэрагах брыгады імя Варашылава было нямала партызанаў-яўрэяў. Так, звыш 150 яўрэяў-уцекачоў з Віленскага гета былі прынятыя ў шэрагі брыгады[156]. У брыгадзе імя Варашылава служыў, сярод іншага, Іцхак Арад, будучы дырэктар мемарыяла Яд Вашэм[157]. Шалом Ёран, таксама былы партызан брыгады, у сваю чаргу, апісвае некалькі сваіх няўдалых спроб уступіць у атрад і штодзённы антысемітызм некаторых з яго таварышаў-неяўрэяў[158].

### *в) Рэакцыя яўрэяў на генацыд*

У тагачасных польскіх дакладах часта бываюць скаргі, што партызаны-яўрэі, ці «яўрэйскія банды», асабліва жорстка абыходзіліся з неяўрэйскім цывільным насельніцтвам. У сакавіку 1943 г. аддзел «Карвета» Арміі Краёвай паведаміў пра частыя бандыцкія напады ў раёнах Навагрудка і Баранавічаў і дадаваў: «Да бандаў далучаюцца яўрэі. Яны бязлітасныя і помслівыя. У рэгіёне вакол Навагрудка быва-

[152] Параўн. на гэты конт: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 190—217.
[153] Стэнаграма размовы з Басяй Левінай ад 8 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 111, арк. 171 адв.).
[154] Паведамленне камандзіра атрада імя Кагановіча Пінцова сакратару Вілейскага абкама ад 31 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 58, арк. 67 і наст.).
[155] Стэнаграма размовы з капітанам Віктарам Манохіным ад 17 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 115, арк. 22).
[156] Характарыстыка брыгады імя Варашылава камісарам брыгады Яўмененкам, 14 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 492, арк. 24).
[157] Arad Y. The Partisan: From the Valley of Death to Mount Zion. New York, 1979. P. 113 і наст.
[158] Yoran Sh. The Defiant. A True Story of Escape, Survival & Resistance. NewYork, 2003. P. 121—140.

юць частыя рабаўніцкія напады, у прыватнасці яўрэйскіх бандаў, што вельмі жорсткія і бязлітасныя»[159].

У маі і чэрвені 1943 г. праходзілі перамовы паміж камандзірамі польскай Арміі Краёвай і камандаваннем савецкай партызанскай брыгады імя Леніна. Адно з патрабаванняў, якія настойліва выстаўляў польскі прадстаўнік 8 чэрвеня 1943 г., было:

> Не накіроўваць яўрэяў на рэквізіцыю. Насельніцтва скардзіцца на іх, яно спантанна хапаецца за зброю, каб абараніцца, бо яўрэі бязлітасныя, гвалтуюць жанчын і малых дзяцей, дарослым пагражаюць будучай помстай Саветаў, яны не ведаюць меж у сваёй беспадстаўнай злосці і драпежніцтве[160].

Адміністрацыя Мядзведзіцкай гміны летам 1942 г. запатрабавала неадкладнай дапамогі ў жандарскага ўпраўлення ў Баранавічах:

> Адміністрацыя гміны дакладвае, што бандыты (большасцю яўрэі) кожную ноч разбойнічаюць і грабяць. Насельніцтва апранута толькі ў сподняе і кашулі, таму што бандыты забралі ўсё. [...] Просім неадкладнай дапамогі супраць гэтых бандаў (яўрэяў)[161].

Гэтыя скаргі не былі выключэннем. І нямецкія ўлады называлі «блукаючых у канцы 1942 г. яўрэйскіх уцекачоў "вясковай бядой"»[162]. Сёння амаль немагчыма зверыць гэтыя абвінавачванні; антысеміцкія паводзіны і прыклады іх успрыняцця, якія часта сустракаюцца ў фармулёўках і звестках, і фактычнасць абскарджаных падзей трэба таксама разглядаць асобна. Але можна меркаваць, што партызаны-яўрэі, якія змагаліся ў савецкіх партызанскіх атрадах, паводзілі сябе не інакш, чым іх таварышы-неяўрэі. Тое, што партызаны-яўрэі сямейных груп забіралі больш, чым проста баявыя падраздзяленні, ясна, як божы дзень. 60 партызанаў групы Бельскага ажыццяўлялі канфіскацыі для саміх сябе, але ў першую чаргу для астатніх удзельнікаў групы. Тое, што яны часам дзейнічалі гвалтоўна, можна заключыць ужо з іх уласных дакладаў.

> Гэта была брудная праца [забеспячальныя аперацыі], якая патрабавала гатоўнасці быць бязлітасным, гатоўнасці пагражаць смерцю сялянам, якія адмаўляліся аддаваць прадукты харчавання[163].

[159] Справаздача «Карветы» аб стане «К» за перыяд з 20 лютага да 20 сакавіка 1943 г. (AAN. MF 423, k. 356).

[160] Пратакол перамоў паміж дэлегатамі Галоўнага штаба польскіх партызанаў «Усход» і камандаваннем партызанскай брыгады імя Леніна ад 8 чэрвеня 1943 г., надрукаваны ў: Studia Podlaskie. T. VI. Białystok, 1996. S. 232.

[161] Ліст гміннай управы ў Мядзведзічах камандзіру паліцыі бяспекі і СД Баранавіцкага галоўнага знешняга паста жандармерыі, без даты, [канец жніўня 1942 г.], копія з перакладам (AAN, F 76, без нумарацыі аркушаў).

[162] Gerlach K. Kalkulierte Morde... S. 746.

[163] «Трэба было выканаць брудную працу [аперацыі па забеспячэнні], якая патрабавала гатоўнасці быць жорсткім, гатоўнасці пагражаць жыццю селяніна, які



Туўе Бельскі пасля вайны называў «забеспячальныя аперацыі» сваіх партызанаў «разбойніцкімі набегамі»[164].

Ва ўспамінах яўрэяў, што выжылі, знаходзіш нярэдка такія ж сведчанні бязлітаснага абыходжання некаторых партызанаў-яўрэяў з неяўрэйскім насельніцтвам. Лейб Райзэр камандаваў яўрэйскай партызанскай групай, якая падпарадкоўвалася атраду імя Ленінскага камсамола і дзейнічала ў мясцовасці вакол Навагрудка:

> Камандзір загадаў маім хлопцам канфіскаваць у сялян толькі столькі харчовых сродкаў, колькі было неабходна, а менавіта хлеб, бульбу, мяса. Сярод нас, яўрэяў, былі і такія, якія паводзілі сябе як ваўкі. Гэтыя дзікуны адбіралі ў сялян больш прадуктаў харчавання, чым было дазволена. Яны забіралі таксама вопратку і іншыя рэчы, якія нашым людзям былі непатрэбныя[165].

Чым большымі былі яўрэйскія сямейныя лагеры, тым большымі былі і цяжкасці з забеспячэннем, а таксама і канфлікты з мясцовым неяўрэйскім насельніцтвам. Хаім Лазар, былы партызан атрада «Мсціўец», які дзейнічаў у Рудніцкай пушчы, пісаў: «Чым больш людзей было ў партызанскім лагеры, тым больш востра стаяла пытанне з забеспячэннем харчамі. Кожную ноч групы партызан вырушалі ў харчовыя рэйды»[166]. Ёэзф Гармац, былы партызан атрада «За перамогу», згадвае:

> Паходы ў навакольныя вёскі па харчы, аднак, былі іншай справай. Мы прыходзілі туды як бандыты і адбіралі ў мясцовых сялян сродкі да існавання, спачатку — мех мукі, затым свінню альбо каня. Напачатку нам удавалася схіляць мясцовых на свой бок, пераконваючы іх даць нам прадукты добраахвотна, аднак у хуткім часе нам быў патрэбен чарговы мех мукі, чарговая карова альбо курыца. Да таго ж колькасць партызан, што жылі ў лесе, узрастала, папаўняючыся ўцекачамі з гета. Гэтаму ж спрыяў і рух Чырвонай Арміі на Захад. Расійскія салдаты, якія ўцяклі з нямецкага палону, таксама імкнуліся далучыцца да партызан. [...] У выніку згаданага «нашэсця» на лясы вяскоўцы, што жылі непадалёк ад нашых баз, хутка аказваліся без харчовых прыпасаў, бо ўсе выкарыстоўвалі адныя і тыя ж крыніцы забеспячэння. Паступова вяскоўцы , з якімі мы напачатку спрабавалі дамаўляцца, рабіліся нашымі ворагамі. Мы тлумачылі ім нашыя патрэбы і рабілі ўсё магчымае, каб не забіраць у іх асабліва шмат жывёлы і хлеба, але гэта было ўсё, што яны маглі нам даць, і ўрэшце мы скончылі тым, што пачалі не браць усяго адну карову, а пакідаць усяго адну карову. Мы маглі прыехаць у вёску і нагрузіць цэлыя вазы, а ўзімку сані, якія цягнулі коні, якіх мы таксама маглі ўзяць у іх і часта не вярталі. У рэшце рэшт само іх існаванне залежала ад

супрацiўляўся забiранню ежы». Гл.: Duffy P. The Bielski Brothers... P. 134. Параўн. на гэты конт таксама: Tec N. Bewaffneter Widerstand... S. 123 і наст., 173, 180, 227, 271.

[164] Tec N. Bewaffneter Widerstand... S. 151.

[165] Паведамленне Лейба Райзэра, без даты (Żydowski Instytut Historyczny (ZIH). 301/552/2).

[166] Lazar Ch. Destruction and Resistance... P. 142.

хатняй жывёлы. Часам мы маглі нават узяць селяніна або дваіх з сабой, каб яны маглі прыгнаць свайго каня і воз, якімі мы карысталіся, назад у вёску. Гэта таксама зніжала верагоднасць іх звароту ў паліцыю з заявай пра тое, што мы былі ў іх вёсцы і забралі іх прадукты. [...] Харчовыя экспедыцыі ў вёску цягнуліся гадзінамі і звычайна праходзілі ўдзень. Абозу з нагружаных падвод, які, натуральна, рухаўся па гразкіх дарогах вельмі павольна, патрабаваліся цэлыя гадзіны, каб дасягнуць базы, і нярэдка па шляху нам даводзілася сутыкацца з сялянамі, якія беглі паведаміць пра нас немцам, якія чакалі ў засадзе на зваротным шляху ў лагер[167].

Цві (Генрык) Іслер, партызан атрада Бельскага, паведамляў пра цяжкасці забеспячэння яго атрада:

Меліся вялікія цяжкасці з забеспячэннем сродкамі харчавання, таму што вёска была не ў стане самахоць пастаўляць колькасць сродкаў харчавання, каб забяспечыць такую вялікую групу. Пачаліся канфлікты з рускімі партызанскімі атрадамі з наваколля і з кіраўніцтвам партызанскага руху, якое сцвярджала, і справядліва, што мясцовае насельніцтва робіцца варожым да партызанаў з прычыны канфіскацыі такой колькасці прадуктаў харчавання. Тым больш, што сярод нас былі і такія, хто забіраў у сялян, якія былі зычліва настроены да нас, і прадукты раскошы, як курэй, масла, мёд, хоць гэта было строга забаронена. Такія прадукты дазволена было канфіскоўваць толькі ў вёсках, аддаленых ці варожа настроеных, што знаходзіліся недалёка ад гарадоў ці прыслужвалі беларускай паліцыі[168].

У пачатку 1944 г. партызаны атрада Зорына мелі намер забраць у адной удавы, якая жыла са сваімі некалькімі дзецьмі ў вёсцы Куль (Валожынскі павет), апошнія прадукты харчавання. Удава выбегла на вуліцу і пачала крычаць. У гэты момант міма праязджала разведвальная група брыгады імя Сталіна.

Яны спыталі: «Што здарылася?» Яна ім сказала, што яе рабуюць. Партызаны злезлі з саней, паставілі яўрэяў да сцяны і расстралялі. [...] Праз некалькі гадзін прыехаў Зорын і хацеў забіць абрабаваную жанчыну. Але неяк абышлося[169].

Паводле выказванняў сведак, партызаны атрадаў Бельскага і Зорына забіралі прадукты харчавання ў мястэчку Налібакі і вёсцы Кляцішча, нават пасля таго як гэтыя мястэчкі былі спаленыя ў ліпені 1943 г. падчас аперацыі «Герман». Толькі некалькім жыхарам уда-

[167] Harmatz J. From the Wings. Sussex (England), 1998. P. 84 і наст.
[168] Пратакол размовы з Цві (Генрыкам) Іслерам у жніўні 1961 г. (АЯВ. 3/1786, С. 38).
[169] Bondarewicz K. Mój Kul // Europa Nie prowincjonalna. Przemiany na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczpospolitej (Białoruś, Litwa, Łotwa, Ukraina, wschodnie pogranicze III Rzeczypospolitej Polskiej w latach 1772—1999) = Non-provincial Europe. Changes on the Eastern Territories of the former Polish Republic (Belarus, Latvia, Lithuania, Ukraine, eastern borderland of the III Republic) in 1772—1999 / Red. K. Jasiewicz. Warszawa—London, 1999. S. 890.



лося збегчы ў лес. Неўзабаве яны вярнуліся, выкапалі сабе зямлянкі, адшукалі ацалелыя рэчы на вогнішчах і палавілі хатнюю жывёлу, якая блукала ў лесе. Тыя, хто выратаваўся, паскардзіліся партызанскаму камандаванню наконт канфіскацый з боку партызанаў-яўрэяў, пасля чаго Чарнышоў забараніў такія дзеянні. Нягледзячы на гэта, партызаны-яўрэі працягвалі рабаваць. Тады Чарнышоў выклікаў Бельскага і Зорына да сябе і паўторна забараніў забіраць што-небудзь у знішчаных вёсках, у адваротным выпадку ён загадае іх расстраляць. Пасля гэтага паспакайнела[170].

Гэтыя выпадкі пацвярджаюцца і тагачаснымі савецкімі дакументамі. Камісар брыгады імя Фрунзэ Каробкін пісаў Бельскаму 9 снежня 1944 г.:

Ноччу на 9.12.1943 г. ваша п'яная група партызанаў з пяці чалавек пад камандаваннем Сімановіча Ківы ўварвалася на хутар грамадзяніна Шэмета, [...] у якога жывуць 4 сям'і пагарэльцаў. Партызаны загналі ўсіх мужчын у свіран і, пагражаючы зброяй, забралі 40 пудоў пшаніцы, каля 40 пудоў ячменю ў снапах [неабмалочанага] і карову. Калі гаспадар паспрабаваў паведаміць гэта нашаму паставому, яны далі стрэлы і пакінулі двор[171].

Каробкін патрабаваў ад Бельскага прыняць захады да марадзёраў і неадкладна спыніць такія драпежніцкія налёты, а то ён будзе дзейнічаць па законах вайны. Праз тры тыдні, ноччу на 26 снежня 1943 г., у мястэчку Налібакі зноў з'явіліся партызаны-яўрэі з атрада Бельскага, на гэты раз 18 чалавек. У селяніна Каржэнкі яны запатрабавалі гарэлкі і мяса, пры гэтым яны збілі яго старую маці. Нарэшце яны забілі апошнюю свінню, забралі яе і паехалі[172]. Камандзір брыгады імя Фрунзэ тады яшчэ раз запатрабаваў ад Бельскага спыніць гэтыя напады, інакш яны будуць расстраляныя на месцы[173].

Апублікаваныя ў 2004 г. дакументы па гісторыі партызанаў-яўрэяў у Баранавіцкім партызанскім злучэнні сведчаць пра тое, што самавольныя рабаўніцтвы і іншыя гвалтоўныя дзеянні партызанаў-яўрэяў здараліся нярэдка, як і з боку іншых савецкіх партызанаў[174].

Падставай для нападаў партызанаў-яўрэяў, якую нельга недаацэньваць, была помста. Сярод савецкіх партызанаў, мабыць, яўрэі былі найбольш траўматызаваныя і бязлітасна закранутыя наяўным

[170] Інтэрв'ю аўтара з Леакадзіяй Ланкевіч... 4 жніўня 2004 г.; інтэрв'ю аўтара з Леанардай Нямцэвіч...
[171] Камандзір брыгады імя Фрунзэ капітан Каробкін Анатолю Бельскаму, 9 снежня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3623, воп. 1, спр. 2, арк. 53).
[172] Паведамленне дзяжурнага па гарнізону Налібакі, партызана атрада імя Кутузава брыгады імя Фрунзэ Макрудзіна, 26 снежня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3623, воп. 1, спр. 2, арк. 64); скарга селяніна Каржэнкі на дзеянні партызанаў-яўрэяў, 26 снежня 1943 г. (Тамсама. Арк. 65).
[173] Камандзір брыгады імя Фрунзэ старшы лейтэнант Ключко камандзіру атрада імя Арджанікідзэ Бельскаму, без даты, [26 ці 27 снежня 1943 г.] (НАРБ, ф. 3623, воп. 1, спр. 2, арк. 69).
[174] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 190—220.

сістэматычным знішчэннем. Усе яўрэі былі асуджаныя на смерць і адначасова аб'яўленыя па-за законам. Практычна кожны неяўрэй мог паздзекавацца з іх. Нямала хто рабіў гэта па сваёй волі. Іншых да гэтага падштурхоўвалі, нават абавязвалі. Таму не здзіўляе, што яўрэі, якія хоць і выжылі, але страцілі сваіх блізкіх, часта прагнулі помсты, помсты сапраўдным ці меркаваным злачынцам, саўдзельнікам ці карыстальнікам масавага знішчэння яўрэяў[175]. На фоне памераў злачынстваў, учыненых датычна да яўрэйскага насельніцтва, гэта не павінна здзіўляць.

Беньямін Рагоўскі ўцёк у маі 1942 г. ад «акцыі» ў Радунскім гета (каля 20 км на паўночны захад ад Ліды) разам з двума братамі ў Начскую пушчу, як і яшчэ 600 яўрэяў з Радуні. Аднак частка іх неўзабаве зноў вярнулася назад. У першыя тыдні знаходжання ў лесе браты накіраваліся да літоўскага селяніна, у якога захоўваліся такія-сякія рэчы іх сям'і, каб узяць што-небудзь з вопраткі. Аднак адзін з сыноў селяніна пачаў страляць у братоў. Яны кінуліся наўцёкі, аднак у малодшага брата пацэлілі, ён памёр, а Беньямін быў паранены. Іншы літоўскі селянін дапамог Беньяміну, перавязаў яму раны. Яго старэйшы брат, у якога было двое дзяцей, пасля гэтага забойства пайшоў з лесу, патлумачыўшы: «Калі тут у лесе нас не заб'юць немцы, то гэта зробяць сяляне». Ён пайшоў у Гродзенскае гета, дзе быў праз год забіты.

А Беньямін стаяў на тым, каб адпомсціць за брата і застаўся ў лесе. Ён здабыў сабе зброю і ўвесь час падпільноўваў забойцаў свайго брата. Але тыя былі асцярожнымі ды пад аховай немцаў, таму што ваявалі супраць партызанаў і яўрэяў. Толькі ў лютым 1943 г., пасля таго як з большасці яўрэйскіх бежанцаў быў заснаваны атрад імя Ленінскага камсамола, надарылася магчымасць адпомсціць. Савецкі камандзір падраздзялення Станкевіч, якому Рагоўскі абмаляваў справу, паслаў да селяніна групу. Рагоўскі пайшоў таксама:

> Мы прыйшлі ноччу і забілі яго так бязлітасна, як толькі было магчыма. Мы знішчылі ўсю яго сям'ю і спалілі іх трупы. Для мяне гэта было вялікае задавальненне. Гэта адбылося ў вёсцы Кавалькі на ўскраіне Начскай пушчы[176].

Якаў Сягальчык, партызан атрада «Народны мсцівец», пісаў пасля вайны:

> Прага помсты ўсім забойцам у цывільным, якія бегаюць на свабодзе, людзям, якія ўчора былі нашымі суседзямі, а цяпер сталі нашымі забойцамі, не пакідала мяне. Таму я выкарыстоўваў кожную вольную часіну, каб помсціць[177].

[175] Параўн. на гэты конт: Tec N. Bewaffneter Widerstand...; Duffy P. The Bielski Brothers...

[176] Пратакол сведчанняў сведкі Беньяміна Рагоўскага, нар. 19 верасня 1919 г. у Лідзе, запісаных 14 сакавіка 1964 г. у Хайфе (АЯВ. 3/2820, С. 9—12).

[177] Segalchick Y. Eternal Testament: Memoirs of a Partisan by Yakov Segalchick / Translated and transliterated by Eliot Gordon // http://shtetlinks.jewishgen.org/Myadel/eternal_testament.htm.



Юлія Баброва была партызанкай у партызанскім атрадзе, які дзейнічаў у Пінскай вобласці. Аднойчы партызаны прывялі сем мясцовых сялян, што нібыта былі нямецкімі шпіёнамі:

> Калі яны прыбылі ў лагер, то ўбачылі, што ўсе іх таварышы, мужчыны і жанчыны, стаяць вялікім колам вакол канавы. Сем сялян, усе мужчыны, сядзелі на краі канавы. Міця стаяў перад канавай. «Вы працавалі на нацыстаў», — сказаў ён сялянам, якія проста калаціліся. «І цяпер вы пажнеце тое, што пасеялі» [...] Адзін з мужчын стаў на калені і сказаў: «Дазвольце мне памаліцца Богу». Адзін з партызанаў здзекліва кінуў: «Самы час маліцца». Соня [яўрэйская партызанка] раптоўна ўзняла вінтоўку і накіравала ў бок мужчыны, што маліўся на каленях. Яна плакала, але святая нянавісць ўзяла ў яе вачах. «За маіх бацькоў... За маіх сясцёр і братоў... за ўсю яўрэйскую абшчыну». Яна ўдарыла селяніна штыком у сэрца. Адзін за адным былі заколатыя і астатнія здраднікі. Патроны былі занадта дарагімі, каб на іх марнаваць[178].

У Налібацкай Рудні, вёсцы ў Налібоцкай пушчы, жылі дзве яўрэйскія сям'і. Нямецкія акупанты вывезлі іх, а потым забілі. Толькі адзін з іх, Пейсах, змог уцячы да партызанаў. У адзін з пустых яўрэйскіх дамоў усяліўся Караль Шурко, прыкладна сарака гадоў, са сваёй жонкай і некалькімі дзецьмі. Калі партызаны разграмілі ў вёсцы самаахову, Пейсах, які прымаў удзел у аперацыі, застрэліў Шурко на вачах яго сям'і, бо ён усяліўся ў дом ягоных бацькоў[179].

Доў Левін, ізраільскі гісторык і былы яўрэйскі партызан, які ваяваў у савецкім партызанскім атрадзе ў Рудніцкай пушчы (сёння на мяжы паміж Літвой і Беларуссю), апісвае паводзіны партызанаў-яўрэяў з Рудніцкай пушчы такім чынам:

> Норавы паўсюдна рабіліся больш жорсткімі [...], што ў асноўным мела наступныя праявы: а) выключнае шаленства ў баі, б) узрастанне выпадкаў жорсткага абыходжання з нямецкімі ваеннапалоннымі, *в) адкрытая нянавісць і варожасць да мясцовага насельніцтва,* г) поўнае непрыманне ўсяго, што было звязана з Літвой [і Польшчай] [...] і д) распаўсюджванне дэпрэсіі, сыходу ў сябе ды істэрыі [*вылучана Б. М.*][180].

[178] Paper S. E. Voices from the forest. The true story of Abram and Julia Bobrow. Bloomington, 2004. P. 220 і наст.

[179] Інтэрв'ю аўтара з Вацлавам Кавалеўскім...

[180] Levin D. Some Facts and Problems About the Fighting of Lithuanian Jews against the Nazis and Their Collaborators (1941—1945) // The Days of Memory: International Conference in Commemoration of the 50th Anniversary of the Liquidation of the Vilnius Ghetto. October 11—16, 1993 / Ed. by E. Zingeris. Vilnius, 1995. P. 276 і наст. У той жа час Анатоль Кракоўскі, таксама партызан, прапануе ідэалістычную версію паводзін партызан-яўрэяў, якая быццам бы была абумоўленая яўрэйскімі традыцыямі. Гл.: Krakowski A. Le Ghetto dans la forêt. Résistance en Lituanie 1939—1945. Paris, 2002. P. 87.

## 3. Палякі і савецкі партызанскі рух: варожасць і ўзброеныя канфлікты

Палякі былі пасля беларусаў у Беларусі (у сённяшніх межах) другой па колькасці групай насельніцтва. Палякі ў прынцыпе віталі нямецка-савецкую вайну. «Biuletyn Informacyjny» («Інфармацыйны бюлетэнь»), самы важны падпольны друкаваны орган польскага руху супраціву, 26 чэрвеня 1941 г. каментаваў пачатак нямецка-савецкай вайны: «Слава і дзякаваць Богу»[181]. Вайна паміж двума ворагамі давала надзею на паляпшэнне становішча ў акупаванай як немцамі, так і саветамі Польшчы. У апошняй частцы нямецкія войскі, што прыйшлі, часам віталіся як вызваліцелі.

### а) Палітыка немцаў у адносінах да польскага насельніцтва

Ва ўсходніх абласцях Беларусі было зусім мала палякаў, большасць з іх яшчэ ў 1930-я гг. загінулі як ахвяры савецкага тэрору. 21-я ахоўная дывізія, што ў верасні 1941 г. «уціхамірвала» паўднёва-ўсходнія тэрыторыі Беларусі, дакладвала 19 верасня:

> Палякі складаюць на цяперашняй аператыўнай тэрыторыі дывізіі [Гомель, Рагачоў, Жлобін] зусім нязначную меншасць, якая, праўда, выяўляе свой звычайны нацыянальны гонар, аднак пра імкненні да самастойнасці ў гэтым рэгіёне не можа быць і гаворкі. Да таго ж, палякі ў справаздачны перыяд сустракаліся вельмі разрознена[182].

У заходніх жа абласцях, якія раней належалі да Польшчы, палякі складалі каля 36 % усяго насельніцтва. Рэгіянальныя нямецкія акупацыйныя органы ўлады ў першыя тыдні і месяцы давалі працу многім палякам у акупацыйнай адміністрацыі на больш нізкім узроўні, а таксама ў дапаможнай паліцыі, таму што ў іх быў моцны антысавецкі настрой і яны мелі вопыт адміністравання. Шмат хто з іх з ахвотай падтрымліваў нямецкія акцыі, накіраваныя супраць савецкіх актывістаў, каб адпомсціць за сябе і савецкі тэрор амаль двух апошніх гадоў. Палякі нават атрымлівалі ад польскага падполля ўказанні займаць па магчымасці пасады, каб, з аднаго боку, хоць часткова адваяваць пазіцыі, страчаныя праз саветызацыю, а з другога боку, змяншыць уплыў нямецкай акупацыі[183].

Гэты працэс натыкнуўся, аднак, на прынцыпы тагачаснай нямецкай палітыкі, накіраванай на тое, каб знішчыць польскія кіраўнічыя слаі, а астатніх палякаў зрабіць рабамі нямецкага народа. Цэнтральныя органы, у прыватнасці служба бяспекі ды СС і паліцыя, рашуча выказваліся

[181] Biuletyn Informacyjny. Część I. Przedruk roczników 1940—1941 // Przegląd Historyczno-Wojskowy. R. II (LIII). Numer specjalny 1 (190). Warszawa, 2001. S. 556.
[182] Паведамленне пра становішча ў раёне дыслакацыі 221-й ахоўнай дывізіі ад 19 верасня 1941 г. (BA-MA. RH 24—221/84, без нумарацыі аркушаў).
[183] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 28—33.



супраць прыцягнення палякаў да акупацыйнага кіравання і зацята паўтаралі пра польскую пагрозу. Камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі папярэджваў 10 кастрычніка 1941 г.: «Ужо неаднаразова ў загадах і распараджэннях выказвалася, што з палякамі, якія ёсць у краіне, трэба абыходзіцца з вялікім недаверам. Па іх варожасці да немцаў іх можна параўнаць з яўрэямі»[184].

Нямецкая служба бяспекі ўжо ў першыя месяцы акупацыі мела намер «знішчыць» рэшткі «польскай інтэлігенцыі», якія яшчэ не былі забітыя ці дэпартаваныя пры савецкім панаванні. Альберт Гофман, упаўнаважаны Марціна Бормана, які ў маі 1942 г. быў у Мінску, скардзіўся: «На жаль, у свой час цывільная адміністрацыя не ўпрэглася разам з намі»[185]. Аднак неўзабаве ў «польскім пытанні» знайшлі кансэнсус. На пасяджэнні галоўных кіраўнікоў і кіраўнікоў аддзелаў Генеральнага камісарыята, якое адбылося 29 студзеня 1942 г. у Мінску, пастанавілі:

> Польскае пытанне ў Беларусі таксама вельмі важнае. [...]. Кожнага паляка неабходна разглядаць як праціўніка, што спрабуе замаскавацца сервільнымі паводзінамі і старанная працавітасцю. З гэтай прычыны неабходна як мага хутчэй адхіліць палякаў-бургамістраў, якія ў вёсках яшчэ займаюць гэтую пасаду[186].

Палякаў абвінавачвалі не толькі ў тым, што яны стварылі польскія структуры супраціву, але і ў тым, што яны падтрымлівалі савецкіх партызанаў і камуністаў. 20 лютага 1942 г. начальнік тэрыторыі забеспячэння Беларусь дакладваў:

> Пра яўрэяў і палякаў да сказанага ў папярэднім дакладзе наконт становішча варта дадаць, што яны, як толькі могуць, садзейнічаюць камунізму і арганізацыі партызаншчыны для іх руху наперад[187].

Рэйхскамісар Остланда дакладваў 15 чэрвеня 1942 г. пра партызаншчыну ў «Остландзе», у тым ліку ў Беларусі:

> Пры гэтым варта падкрэсліць, што дзейнасць партызанаў не абмяжоўваецца толькі Беларуссю. У Літве асабліва небяспечным складнікам у падтрымцы элементаў і хрыбтом камуністычных пярвічных груп неабходна разглядаць палякаў. [...] Выяўлена, што бургамістры-палякі сімпатызуюць камуністычным інтрыгам. Рымска-каталіцкае духавенства выкарыстоўвае

[184] Камандуючы сіламі вермахта ў Беларусі, Ia, 10 кастрычніка 1941 г. (НАРБ. Ф. 378, воп. 1, спр. 698, арк. 4 і наст.).
[185] Даклад № 4 Альберта Гофмана рэйхсляйтару Марціну Борману з Мінска, 26 мая 1942 г. (IfZ. Fa 91/4, Bl. 866, 868).
[186] Пратакол аб ходзе пасяджэння кіраўнікоў галоўных аддзелаў і аддзелаў 29 студзеня 1942 г. (НАРБ. Ф. 370, воп. 1, спр. 53, арк. 164 і наст.).
[187] Паведамленне начальніка тэрыторыі забеспячэння Беларусь (аддзел 770-й пяхотнай дывізіі), Ia, ад 20 лютага 1942 г. (BA-MA. RH 26-707/15, Bl. 4).

таксама польскія богаслужэнні для нацкоўвання насельніцтва на Германію і хавае былых польскіх афіцэраў у кляштарах і духоўных семінарыях[188].

Альфрэд Розенберг зрабіў высновы і асабіста сам як рэйхсміністр акупаваных усходніх тэрыторый распарадзіўся 26 лістапада 1942 г.: «Пальшчызну неабходна хутка і татальна пазбавіць становішча, якое дазваляла б ёй зазіраць у корань значных і эканамічных узаемасувязяў і ў пэўнай форме рабіць уплыў на адміністрацыю, культуру і эканоміку»[189].

У Беларусі нямецкія акупанты пачалі ўжо восенню 1941 г. «ачышчаць» ад палякаў шэрагі дапаможнай паліцыі і мясцовых улад. Адначасова яны змагаліся з палякамі, якія выклікалі падазрэнне, што ўдзельнічаюць у польскім супраціве ці падтрымліваюць яго, асабліва з прадстаўнікамі польскіх вядучых колаў. Напрыклад, нямецкія акупанты ў снежні 1941 г. і студзені 1942 г. праводзілі ў рэгіёне вакол Гродна расстрэлы польскіх дапаможных паліцэйскіх, частка іх потым збегла ў лес, прыхапіўшы з сабой зброю[190]. У Глыбокім і наваколлі ў мясцовай адміністрацыі спачатку вядучую ролю адыгрывалі палякі і дапамагалі немцам высочваць савецкіх актывістаў. Ва ўстановах зноў была ўведзена польская мова. У снежні 1941 г., аднак, палякаў замянілі беларусамі, і, як гаворыцца ў адным савецкім дакладзе, палітыка немцаў адносна палякаў зрабілася «больш строгай»[191].

У Баранавічах «польская адміністрацыя» існавала толькі на працягу аднаго месяца, потым немцы звольнілі польскіх супрацоўнікаў, некаторыя з іх былі арыштаваныя і расстраляныя. Іх месцы занялі беларускія нацыяналісты, і, як дакладваў у снежні 1944 г. Янкелевіч, яўрэй, жыхар Баранавічаў, а з восені 1942 г. — савецкі партызан, пачалася прабеларуская палітыка немцаў. Цяпер у Баранавічах пачаўся пераслед палякаў; прыйшлі публічныя катаванні і масавыя расстрэлы. Каля 2 000 палякаў былі расстраляныя і закапаны па-за горадам. Тады палякі ўжо супрацоўнічалі з немцамі толькі ў асобных выпадках. Беларускія супрацоўнікі гарадской управы канчаткова выцеснілі палякаў і польскую культуру. Так сцвярджае Янкелевіч[192].

У Навагрудку і ў яго наваколлі нямецкія акупанты забілі летам 1942 г. больш за 1 000 прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі. Беларускія нацыяналісты падтрымлівалі гэтыя вынішчальныя акцыі,

[188] Рэйхскамісар Остланда рэйхсміністру акупаваных усходніх тэрыторый, 15 чэрвеня 1942 г. (BA-MA. RW 31/252, Bl. 8—11).

[189] Рэйхсміністр па акупаваных тэрыторыях пра абыходжанне з палякамі на акупаваных усходніх тэрыторыях, Берлін, 26 лістапада 1942 г. (копія) (Archiwum Instytutu Pamięci Narodowej (AIPN). Sygn. NTN 253/7, k. 140—142).

[190] Справаздача Лахтанава і Пыжа (Мінская група) пра становішча ў заходніх абласцях Беларусі ад 16 чэрвеня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 105).

[191] Справаздача Блата і Фейгельмана пра становішча ў Глыбокім і Вілейскай вобласці ад 25 жніўня 1942 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 181, арк. 69 і наст.).

[192] Стэнаграма размовы з Самуілам Янкелевічам ад 5 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 112, арк. 18—23).



складаючы спісы з прозвішчамі[193]. Але і ў іншых выпадках беларускія нацыяналісты падтрымлівалі пераслед польскага насельніцтва. Іх мэтай было «абмежаванне "польскага элемента" ва ўсіх сферах грамадства. Яно ўключала ў сябе і этнічныя чысткі»[194]. Яны клапаціліся, сярод іншага, і пра тое, каб палякаў вывозілі на прымусовую працу, а беларусаў аберагалі[195].

Яшчэ незадоўга да прыходу Чырвонай Арміі нямецкія акупанты правялі вялікую хвалю арыштаў сярод палякаў, многія з іх былі расстраляныя[196]. І гэта здарылася, хоць з канца 1943 г. польскі супраціў часткова цесна супрацоўнічаў з нямецкімі акупантамі ў барацьбе з савецкімі партызанамі. Пасля прыходу Чырвонай Арміі савецкія органы без змен працягнулі сваю палітыку адносінаў да Польшчы з 1939 да 1941 г., а таксама палітыку адносна палякаў на гэтых тэрыторыях, а ў наступныя гады «вырашылі» «польскае пытанне» ў Заходняй Беларусі канчаткова пры дапамозе дэпартацый, «перасяленняў», арыштаў і расстрэлаў. Сёння ў Заходняй Беларусі жывуць толькі каля 400 000 палякаў.

На шкале ахвяр нямецкага тэрору ў Беларусі палякі пасля яўрэяў займалі другое месца. Гарц Тайц, лекар-яўрэй з Мінска, які восенню 1942 г. уцёк з гета да савецкіх партызанаў, канстатаваў у жніўні 1944 г.: «Пасля яўрэяў на першым месцы былі палякі, за імі ішлі маскалі [рускія]». Тайц паведамляе пра выпадкі, калі палякі «набывалі» паперы, якія сведчылі быццам пра беларускую нацыянальнасць. «Гэта сведчыць, што палякаў таксама праследавалі», — піша Тайц[197].

Але палякі былі не толькі ахвярамі, яны ў час нямецкай акупацыі былі ў Беларусі і вінаватымі ці саўдзельнікамі. Праўда, пры гэтым нельга забывацца, што многія ў час нямецкай акупацыі вярталі сваю ўласнасць, якую раней у іх адабралі Саветы. Вось тыповая справа аднаго савецкага інжынера. Ён з'явіўся ў Баранавічах пасля прыходу Саветаў у верасні 1939 г. Там ён засяліўся ў кватэру палякаў. Пасля прыходу немцаў уласніца-полька зноў усялілася ў сваю кватэру і забараніла інжынеру і яго сям'і ўваход у яе. Інжынер, у якога, відаць, не было адчування, што праўда не на яго баку, паскардзіўся ў гарадскую

[193] Krajewski K. Der Bezirk Nowogrodek der Heimatarmee. Nationalitatenkonflikte und politische Verhaltnisse 1939—1945 // Die polnische Heimatarmee. Geschichte und Mythos der Armia Krajowa seit dem Zweiten Weltkrieg (= Beiträge zur Militärgeschichte. Bd. 57) / Hrsg. von B. Chiari. München—Oldenbourg, 2003. S. 575.

[194] Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 102; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 118.

[195] 23 сакавіка 1944 г. у Вілейцы засядала Беларуская Цэнтральная Рада, якая, сярод іншага, прыняла рашэнне пра рэзкае выступленне супраць палякаў. «Шкодныя» палякі падлягалі «мабілізацыі» на прымусовыя працы ў рэйху. Гл.: Справаздача пра пасяджэнне Беларускай Цэнтральнай Рады ў Вілейцы 23 сакавіка 1944 г., ад 1 мая 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 485, арк. 42).

[196] Стэнаграма размовы з Навумам Кавалёвым ад 1 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 11).

[197] Стэнаграма размовы з Гарцам Тайцам ад 26 жніўня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 111, арк. 70).

ўправу, дзе з ім не захацелі размаўляць па-руску і нават адлупцавалі. Савецкі інжынер палічыў сябе «ахвярай» польскага шавінізму[198].

У Брэсце сотні ўласнікаў, якія перажылі савецкі тэрор і дэпартацыі, запатрабавалі вярнуць ім іх кватэры і дамы ад савецкіх работнікаў і служачых ці іх сем'яў, што засяліліся ў іх пасля верасня 1939 г. Савецкія работнікі і служачыя палічылі гэта, вядома, вялікай несправядлівасцю, якую ім учынілі старыя польскія ўласнікі. Адзін партыйны работнік з Брэста скардзіўся ў пачатку ліпеня 1941 г. на цяжкі лёс сем'яў савецкіх работнікаў, афіцэраў, супрацоўнікаў НКУС, што не здолелі ўцячы з Чырвонай Арміяй на сваю радзіму:

> Сем'і, якія засталіся ў Брэсце, жывуць у цяжкіх умовах. Спачатку іх прагналі з кватэр. Цяпер яны па 8—10 сем'яў жывуць разам у маленькіх кватэрках. Ежы таксама няма, хлеба ім не выдзяляюць. [...] Іх рэчы разрабавалі мясцовыя жыхары ў першы ж дзень вайны[199].

Рыгор Рэві, кіраўнічы савецкі дзяржаўны служачы, якога прызначылі на працу ў Брэст, таксама скардзіўся на лёс ці не 13 000 сямейных савецкіх вайскоўцаў, работнікаў і служачых, якія прыехалі пасля верасня 1939 г. з Савецкага Саюза і засталіся ў горадзе пасля нападу немцаў. Ён таксама абураўся тым, што іх выгналі з «іх» кватэр і «разрабавалі» ўсё[200].

На самай справе старыя ўласнікі толькі зноў вярнулі сабе свае кватэры. Тое самае тычыцца і як быццам «зрабаванай» маёмасці. Ранейшыя гаспадары толькі забралі сабе назад свае рэчы, «канфіскаваныя» ў іх да гэтага Саветамі. Савецкія работнікі, вайскоўцы, супрацоўнікі НКУС і іх сем'і прыехалі ў тагачасныя ўсходнія польскія ваяводствы, як правіла, толькі з малымі валізкамі. Толькі на месцы яны «забяспечылі сябе» ці іх «забяспечылі» абстаўленымі мэбляю кватэрамі і дамамі. Іх законныя ўласнікі былі дэпартаваныя, застрэленыя ці, у лепшым выпадку, выкінутыя на вуліцу.

### *б) Змена настрою ў польскага насельніцтва*

Летам 1941 г. большасць польскага насельніцтва вітала прыход немцаў на былыя ўсходнія польскія тэрыторыі. Палітыка немцаў адносна палякаў у Беларусі, аднак, неўзабаве прывяла да працверажэння палякаў. Антысавецкі настрой палякаў неўзабаве быў перасілены антынямецкім. Справа палягала, аднак, не толькі ў нямецкім тэроры, а і ў тым, што пасля 22 чэрвеня 1941 г. польскі ўрад у эміграцыі

[198] Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 276; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 289—290. Праз гэты інцыдэнт К'яры даводзіць сваю тэзу: «Шмат дзе палякі [...] намагаліся ўсталяваць кантроль над цэлымі тэрыторыямі».

[199] Паведамленне Новікавай сакратару Брэсцкага абкама ад 3 ліпеня 1941 г., подпіс аўтара нечытэльны (РГАСПИ. Ф. 17, оп. 88, д. 480, л. 123 і наст.).

[200] Справаздача сакратара Мінскага абкама Казлова пра партызанскі рух у заходніх раёнах БССР, [пасля 19 жніўня 1942 г.) (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 184).



і Савецкі Саюз усталявалі дыпламатычныя адносіны, а 31 ліпеня 1941 г. заключылі польска-савецкую саюзніцкую дамову. Савецкі Саюз гэтай дамовай аб'явіў чацвёрты падзел Польшчы, які яны сумесна з Германіяй ажыццявілі ў верасні 1939 г., нядзейным і вызвалі тысячы палякаў з лагераў і высылак. З былых дэпартаваных на савецкай тэрыторыі была сфармаваная польская армія[201].

Раптам Савецкі Саюз са смяротнага ворага Польшчы ператварыўся ў саюзніка. Гэтыя звесткі імгненна распаўсюдзіліся сярод палякаў на акупаваных немцамі тэрыторыях. Казлоў, партыйны і партызанскі кіраўнік з Мінска, дакладваў Цэнтру летам 1942 г.:

> Пасля падпісання польска-нямецкай дамовы адбыўся паварот у настроі насельніцтва заходніх абласцей Беларусі, у прыватнасці польскага. Сярод яго былі такія людзі, хто ў першыя дні вайны выдаваў немцам чырвонаармейцаў, камандзіраў і савецкіх служачых. [...] Пасля падпісання польска-савецкай дамовы насельніцтва заходніх абласцей Беларусі, асабліва палякі, пачало дапамагаць чырвонаармейцам, камандзірам і палітычным работнікам, якія засталіся ў тыле ворага[202].

З восені 1941 г. антынямецкі настрой палякаў радыкалізаваўся яшчэ больш і нарэшце перасіліў антысавецкія пачуцці. У Маскву прыходзілі шматлікія даклады і паведамленні пра дапамогу палякаў збеглым ваеннапалонным, байцам, якія адбіліся ад сваіх часцей, партызанам ды пра першых польскіх партызанаў.

Паводле аднаго савецкага даклада за лета 1942 г., у Клецкім раёне дзейнічаў польскі партызанскі атрад пад камандаваннем ксяндза. Ён, паводле звестак, налічваў 150 чалавек, праўда, толькі напалову ўзброеных вінтоўкамі. Польскія партызаны імкнуліся наладзіць кантакт з савецкімі партызанамі[203]. Лейтэнант Ананіч летам 1941 г. трапіў у палон да немцаў і працаваў на пашырэнні шашы Мінск — Шацк. Польскія рабочыя дапамаглі яму ўцячы з палону. У запратакаляванай размове ад 28 жніўня 1942 г. Ананіч падкрэсліваў антынямецкі

[201] Гл., сярод іншага: Wieczorkiewicz P. Historia polityczna Polski 1935—1945. Warszawa, 2005. S. 227—239. Летам 1941 г., пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз, савецкі ўрад сфармаваў з палякаў, якія ў 1940—1941 гг. былі дэпартаваныя ў Савецкі Саюз, польскія ўзброеныя сілы, якія на падставе дамовы падпарадкоўваліся польскаму ўраду ў выгнанні. Іх камандуючым стаў генерал Уладзіслаў Андэрс, які восенню 1939 г. трапіў у палон да Саветаў. З той прычыны, што савецкі бок недастаткова пастаўляў прадуктаў харчавання і ўзбраення, Андэрс ужо ў 1942 г. эвакуіраваў гэтыя падраздзяленні праз Іран на Блізкі Усход.

[202] Справаздача Рыгора Рэві пра дзейнасць Брэсцкай падпольнай партыйнай арганізацыі і пра партызанскі рух у Брэсцкай вобласці, 19 жніўня 1942 г. (копія ў дакладзе сакратара Мінскага абкама Казлова пра партызанскі рух у заходніх раёнах БССР, [пасля 19 жніўня 1942 г.]) (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 70, арк. 185 і наст.).

[203] Паведамленне невядомага аўтара пра партызанскі рух у БССР, [меркавана 1942 г.], копія (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 153, арк. 7—8 адв.). Аўтар доўгі час быў у розных атрадах Брэсцкай і Мінскай абласцей і потым запісаў свае назіранні.

настрой сярод палякаў[204]. Рафаэль Бромберг, які паходзіў з Мінска і належаў да брыгады Нікіціна, дакладваў у кастрычніку 1942 г., што ў Мінску і суседніх раёнах было расстраляна шмат польскіх святароў, таму што яны прамаўлялі антынямецкія казанні[205].

Былі і галасы, якія перасцерагалі. Цімчук, партыйны работнік і партызанскі кіраўнік з Мінскай вобласці, папярэджваў Панамарэнку 26 кастрычніка 1942 г.: палякі — нацыяналісты, хоць і праводзяць антынямецкую агітацыю, але гэтым не абмяжоўваюцца. Яны, маўляў, хоць і настроеныя супраць немцаў, але не ёсць «нашымі сябрамі». Таму Цімчук рэкамендаваў: «У заходніх абласцях неабходна стварыць побач з беларускім [партызанскім] рух, па сутнасці бальшавіцкі, а па форме — польскі»[206].

Да падобных высноў прыйшоў Карпаў, які з верасня да лістапада 1942 г. па даручэнні Беларускага штаба разведваў абставіны ў Вілейскай вобласці (Віленская акруга). У сваім дакладзе Карпаў канстатаваў, што палякі ў заходніх абласцях настроеныя супраць немцаў, польскія каталіцкія святары прапаведуюць антынямецкія настроі, рускія праваслаўныя святары, наадварот, падтрымліваюць нямецкіх акупантаў. Таксама ёсць польскае падполле, з цэнтрам у Вільні. Палякі хоць і дапамагаюць савецкім партызанам, але самі ваяваць не хочуць, яны не хочуць бессэнсоўна праліваць польскую кроў, бо фронт далёка. Іх мэта — разам з СССР змагацца супраць Германіі, а пазней з дапамогай Англіі стварыць Вялікую Польшчу. Таму неабходна пасылаць польскія (мяркуецца: савецка-польскія) атрады на гэтыя тэрыторыі, каб прыцягнуць палякаў да партызанскай вайны[207].

Такія даклады са стала Панамарэнкі траплялі да Сталіна і яго самых блізкіх паплечнікаў. У снежні 1942 г. Панамарэнка паведаміў Сталіну, што, паводле паведамленняў Сабурава (савецкі партызанскі кіраўнік ва Украіне), у Заходняй Беларусі маецца польскае падполле з цэнтрамі ў Варшаве, Кракаве і Славуце (сёння Заходняя Украіна). Польскае насельніцтва настроена супраць немцаў і хоча змагацца. Дробныя партызанскія групы ўжо здзейснілі напады на чыгуначныя лініі і асобныя ўстановы. Савецкія партызаны, паводле паведамлення, падтрымліваюцца польскім насельніцтвам, але здараюцца канфлікты паміж украінскімі і польскімі нацыяналістамі. Увогуле, польскае насельніцтва не антысавецкае. Панамарэнка палічыў гэтую ацэнку верагоднай і прапанаваў Сталіну накіраваць правераных актывістаў для арганізацыі партызанскага руху на гэтых тэрыторыях, што б «мог дзейнічаць на нашую карысць»[208].

[204] Пратакол размовы з лейтэнантам Ананічам ад 28 жніўня 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 935, л. 31).

[205] Інтэрв'ю з Рафаэлем Бромбергам ад 15 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9. д. 4, л. 17).

[206] Цімчук П. Панамарэнку, 26 кастрычніка 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 222 і наст.).

[207] Справаздача Карпава пра партызанскія атрады ў Вілейскай вобласці ад 27 лістапада 1942 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1067, л. 241 об.).

[208] П. Панамарэнка Сталіну пра пазіцыю палякаў, без даты, [да 15 снежня 1942 г.] (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 19, л. 154 і наст.).



Праз некалькі дзён, 23 снежня 1942 г., Панамарэнка напісаў дакладную запіску «аб настроях палякаў у заходніх абласцях Украіны і Заходняй Беларусі», якая была накіравана Сталіну, Малянкову, Берыі, Андрэеву і Дзімітраву (старшыні Камінтэрна):

> З інфармацыі з розных крыніц вынікае, што сярод польскага насельніцтва на акупаваных немцамі тэрыторыях назіраецца нарастаючы антынямецкі рух. Кіраўнічыя цэнтры знаходзяцца ў Варшаве, Кракаве і Вільні, якія маюць сетку падпольных ячэек і вялікую колькасць узброеных членаў. [...] На аснове [прыведзеных у дакладной запісцы паведамленняў] можна сцвярджаць, што эмісары Сікорскага [тагачаснага прем'ер-міністра польскага ўрада ў выгнанні ў Лондане] пранікаюць на тэрыторыю заходніх абласцей Украіны і Заходняй Беларусі і дзейнічаюць там, разглядаючы гэтыя тэрыторыі як частку польскай дзяржавы. Афіцыйная лінія кіраўнічых колаў Сікорскага — выдавочна, вынік стратэгіі збору і канцэнтрацыі сіл польскага нацыяналістычнага падполля. Яны абмяжоўваюцца распаўсюджваннем антынямецкай прапаганды сярод польскага насельніцтва і стрымліваюць польскі народ ад актыўнага ўдзелу ва ўзброенай партызанскай барацьбе супраць немцаў. Але ўся атрыманая інфармацыя сведчыць, што польскае насельніцтва ненавідзіць немцаў. Яно гатова змагацца з нямецка-фашысцкімі агрэсарамі. Больш таго, польскія патрыёты далучаюцца, нягледзячы на забарону Сікорскага брацца за зброю, да ўзброенай барацьбы партызанаў. Цэнтральны штаб партызанскага руху рыхтуе з польскіх камуністаў і былых членаў Камуністычнай партыі Польшчы вопытных арганізатараў для разгортвання партызанскага руху сярод польскага насельніцтва ў заходніх абласцях Украіны і ў Беларусі[209].

Пры гэтым варта заўважыць наступнае: па-першае, польска-савецкая дамова ад 30 ліпеня 1941 г. давала абсалютнае права польскаму боку на тое, каб разглядаць былыя ўсходнепольскія тэрыторыі (сённяшнія заходнія вобласці Украіны і Беларусі) як інтэграваную частку Польшчы. Такім чынам, «эмісары Сікорскага» нават паводле савецкага права не парушалі наяўныя ў той час польска-савецкія дамовы.

Па-другое, кіраўніцтва польскай падпольнай дзяржавы спачатку сапраўды не прадугледжвала фармавання партызанскіх падраздзяленняў. Нямецкія акупанты рэагавалі на ўзброеныя акцыі жорсткімі карнымі мерамі адносна цывільных людзей, якія ў іх не ўдзельнічалі. З гэтай прычыны кіраўніцтва польскага руху супраціву ўжо ў канцы 1939 г. адмовілася ад узброенай партызанскай барацьбы, каб пазбегнуць ахвяр сярод цывільнага насельніцтва.

Усё было сканцэнтравана на стварэнні падпольных структур, ліквідацыі асабліва небяспечных калабарантаў, на ваеннай разведцы і дыверсіях. Дэвізам быў пасіўны супраціў. Аднак камандаванне Арміі Краёвай планавала масавае народнае паўстанне. Паўстанне павінна было ўспыхнуць у момант ваеннага паражэння Германіі. Яшчэ ў па-

[209] Дакладная запіска П. Панамарэнкі Сталіну, Малянкову, Андрэеву, Берыі і Дзімітраву пра настроі палякаў у заходніх абласцях Украіны і Беларусі, 23 снежня 1942 г. (Тамсама. Л. 170—173).

чатку верасня 1942 г. галоўнакамандуючы польскімі ўзброенымі сіламі генерал Уладзіслаў Сікорскі папярэджваў:

> Вайсковая арганізацыя на Радзіме прызначаная для падрыхтоўкі паўстання супраць немцаў, якое можа адбыцца толькі падчас нямецкага краху. Ажно да таго моманту вайсковая арганізацыя стварае свае структуры, збірае зброю і рыхтуецца да будучай барацьбы.
> Усялякія партызанска-дыверсійныя акцыі на тэрыторыі Польшчы — заўчасныя. Яны не надта адцягнуць сілы з нямецка-савецкага фронту, але прывядуць да хуткага расходвання сіл вайсковай арганізацыі[210].

На мяжы 1942/43 гг. Панамарэнка атрымаў новую інфармацыю пра настрой польскага насельніцтва[211]. Усе гэтыя звесткі пацвярджалі антынямецкі настрой і гатоўнасць дапамагаць савецкім партызанам. Пра варожасць да савецкіх партызанаў там і намёкаў не было. Адначасова польскі ўрад у выгнанні і вайсковае камандаванне польскага супраціву ў Польшчы заклікалі польскае насельніцтва да спакою і разважлівасці, каб не праліваць дарма польскую кроў.

*в) Савецкая палітыка датычна палякаў і пытанне польскіх усходніх тэрыторый у 1943 г.*

Але ў канцы 1942 г. савецкія правадыры думалі не толькі пра тое, як выйграць вайну пры дапамозе зброі, але і як замацаваць бяспеку сваіх заваёў верасня 1939 г. ды як саветызаваць рэшткі Польшчы пасля выйгранай вайны. І зноў ініцыятыву ў гэтым пытанні ўзяў на сябе Панамарэнка. 20 студзеня 1943 г., калі ўжо было забяспечана паражэнне немцаў пад Сталінградам, Панамарэнка напісаў яшчэ адну дакладную запіску датычна польскага пытання і партызанскага руху, накіраваную Сталіну, Молатаву, Андрэеву і Берыі[212].

Гэтай дакладной запісцы надаецца вялікае значэнне як гістарычнай крыніцы, бо яна, з аднаго боку, паказвае ўзровень інфармаванасці савецкіх кіраўнікоў пра становішча ў акупаванай Польшчы і паводзіны палякаў у нямецкай акупацыі і ў выгнанні. З другога боку, яна дазваляе зірнуць на савецкую пазіцыю ў польскім пытанні вясной 1943 г. Ва ўступе Панамарэнка закрануў радыёпрамову тагачаснага намесніка прэм'ер-міністра польскага ўрада ў выгнанні Станіслава Мікалайчыка, звернутую да польскага народа, які заклікаў палякаў захоўваць спакой і самавалоданне, каб зберагчы сілы для канчатковага этапу вайны. Акрамя таго, Панамарэнка сцвярджаў, што палякі ў выгнанні, як і ў акупаванай немцамі Польшчы, зыходзяць з таго, што пасля вайны будзе адноўлена ўсходняя мяжа Польшчы 1939 г.:

> У пытанні ўсходніх меж Польшчы палякі непарушна трымаюцца пункту гледжання, што Рыжская дамова [паводле якой у 1921 г. была вызначана польска-савецкая мяжа] павінна мець сілу і надалей. Гэта — канон сённяшняй польскай палітыкі. [...] У гэтым пытанні ў іх няма ніякага страху адносна Вялікабрытаніі і ЗША. Усходні сусед — Савецкі Саюз — наадварот, лічыцца ва ўсіх сэнсах самай небяспечнай дзяржавай, бо ён не прызнае меж, вызначаных у Рыжскай дамове. Акрамя таго, палякі вельмі баяцца магчымасці, што ў выніку вайны і паражэння Германіі ў Польшчы будзе ўсталявана савецкая сістэма і Польшча будзе ўключана ў Савецкі Саюз. Таму палякі з вялікай трывогай назіраюць за сімптомамі радыкалізацыі польскага рабочага класа і аддаюць загады забіваць прадстаўнікоў савецкага партызанскага руху[213]. Палякі ўпэўнены, што паражэнне немцаў непазбежнае, і гэта адбудзецца дзякуючы сумесным намаганням Савецкага Саюза, ЗША і Вялікабрытаніі. Таму ў іх няма намеру ахвяраваць на гэтую мэту ўласныя людскія рэзервы. Польскія сілы зберагаюцца і арганізуюцца ў першую чаргу супраць нас. Польскія людскія рэзервы трэба разглядаць як даволі салідныя. Пасля разгрому польскай арміі [у верасні 1939 г.] большасць польскіх баяздольных мужчын засталіся на тэрыторыі Польшчы.
> У інтарэсах дзяржавы мы павінны прыняць пэўныя неабходныя меры. Непамысна, калі немцы захаваюць на польскай тэрыторыі базы для сваіх майстэрняў, фабрык, шпіталяў і іншых установаў. Гэтак жа дрэнна, што ўсе нямецкія камунікацыйныя лініі, якія праходзяць па Польшчы, не падвяргаюцца партызанскім дзеянням. У Польшчы абавязкова неабходна разгарнуць партызанскую вайну. Побач з ваенным эфектам гэта прывядзе да справядлівых людскіх ахвяр і адначасова паўплывае, каб Польшчы не ўдалося зберагчы ўсе свае сілы. Улічваючы гэта, лічу неабходным:
> 1) Скарыстаць антынямецкія пачуцці польскага насельніцтва, каб разгарнуць на польскай тэрыторыі партызанскую вайну.
> 2) Вясной [1943 г.] накіраваць туды 80—90 як след падрыхтаваных агентаў, якія выдатна валодаюць польскай мовай і маюць кантакты сярод польскага насельніцтва. У нас ёсць такія людзі сярод членаў Камуністычнай партыі

[210] Распараджэнне генерала Сікорскага — партызанская вайна і перасцярога датычна НКУС, 9 верасня 1942 г. Надрукавана ў: Armia Krajowa w dokumentach 1939—1945. T. 2. Szczecin, 1989. S. 56 і наст.

[211] Напрыклад, начальнік УШПР Стракач 14 снежня 1942 г. паведамляў П. Панамарэнку пра палякаў ва Заходняй Украіне і на захад ад Буга (Цэнтральная Польшча). Змест паведамлення: у палякаў настрої антынямецкія, яны дапамагаюць і хочуць дапамагаць савецкім партызанам, шукаюць кантактаў з імі. Гл.: РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 1027, л. 141—144. 20 студзеня 1943 г. Л. Цанава, кіраўнік НКУС БССР, пісаў П. Панамарэнку, што польскае насельніцтва ў Вілейскай вобласці падтрымлівае партызанаў, але палякі не хочуць ваяваць, яны збіраюцца з сіламі. Гл.: Тамсама. Д. 855, л. 9—11.

[212] Дакладная П. Панамарэнкі Сталіну, Молатаву, Малянкову, Берыі, Андрэеву «Аб паводзінах палякаў і некаторых нашых задачах» ад 20 студзеня 1943 г., (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 27—33); асобнік Малянкову (РГАСПИ. Ф. 83, оп. 1, д. 28, л. 3—9).



[213] Але на гэты час у П. Панамарэнкі, па ўсёй верагоднасці, не было доказаў меркаваных нападаў на прадстаўнікоў савецкага партызанскага руху ў Польшчы. Гэта П. Панамарэнка відавочна прыдумаў. У снежні 1942 г. у кіраўніцтве Польскай рабочай партыі, якая была заснавана НКУС і Камінтэрнам летам 1941 г. па загадзе Сталіна, адбыліся моцныя ўнутраныя канфлікты. Правадыры ж, прызначаныя Саветамі, знішчалі адзін аднаго, і савецкае кіраўніцтва пра гэта ведала. Гл.: Gontarczyk P. Polska Partia Robotnicza. Droga do władzy 1941—1944. Warszawa, 2003. S. 146—166.

Польшчы, Камуністычнай партыі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. 3) Варта было б дазволіць Цэнтральнаму штабу партызанскага руху заняцца гэтай задачай — незалежна і паралельна з іншымі органамі [маючца на ўвазе НКУС і Камінтэрн][214].

У тагачаснай Цэнтральнай Польшчы ў гэты час дзейнічала Польская рабочая партыя (ПРП), якая была створана НКУС і Камінтэрнам у жніўні 1941 г. па загадзе Сталіна. ПРП спачатку мела заданне разгортваць у Польшчы партызанскі рух на карысць Саветаў. Аднак польскі супраціў з самага пачатку дэталёва ведаў пра паходжанне і задачы гэтай як быццам польскай партыі[215].

Больш познія падзеі паказалі, што працытаваная вышэй дакладная запіска Панамарэнкі ад 20 студзеня 1943 г. атрымала ўхвалу Сталіна і яго самых блізкіх паплечнікаў. Бяспека тэрытарыяльных заваёў восені 1939 г. і планы далейшай экспансіі вызначалі з канца 1942 г. і пачатку 1943 г. савецкую пазіцыю ў польскім пытанні, а разам з тым і дзеянні савецкіх партызанаў у Беларусі. 28 лютага 1943 г. Панамарэнка ў сваёй заключнай прамове на 5-м пленуме Цэнтральнага камітэта КП(б)Б закрануў польскае пытанне, прычым месцамі слова ў слова выкарыстаў фармулёўкі сваёй дакладной запіскі ад 20 студзеня 1943 г. Пры гэтым ён павучаў сваіх таварышаў:

> Таварышы, прааналізаваўшы ўсю польскую палітыку, упэўніваешся, што яны [палякі] хочуць, каб Заходняя Беларусь засталася іхняй. А мы кажам, што яна — наша, бо гэта Заходняя Беларусь [sic]. […] Мы павінны разлічваць на тое, што справа не закончыцца размовамі. […] Палякаў можна браць у партызанскія атрады толькі з вялікімі абмежаваннямі і вельмі выбарачна[216].

У канцы красавіка 1943 г. Савецкі Саюз парваў дыпламатычныя адносіны з польскім урадам у выгнанні. Падставай для Сталіна паслужыла патрабаванне польскага ўрада дазволіць незалежнай камісіі Міжнароднага Чырвонага Крыжа абследаваць выяўленыя толькі што немцамі масавыя пахаванні польскіх афіцэраў у лесе пад Катынню, забітых па яго загадзе супрацоўнікамі НКУС. Такім чынам, Сталін канчаткова развязаў сабе рукі ў вырашэнні польскага пытання, і яму ўжо больш непатрэбна было зважаць на польскі ўрад у выгнанні[217].

[214] Дакладная П. Панамарэнкі Сталіну, Молатаву, Малянкову, Берыі, Андрэеву «Аб паводзінах палякаў і некаторых нашых задачах» ад 20 студзеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 25, л. 27—33); апублікавана ў польскім перакладзе ў: Musiał B. Memorandum Pantelejmona Ponomarienki z 20 stycznia 1943 r. «O zachowaniu się Polaków i niektórych naszych zadaniach» // Pamięć i Sprawiedliwość. 2006. Nr. 1. S. 379—385.

[215] Падрабязна і грунтоўна гл.: Gontarczyk P. Polska Partia Robotnicza...

[216] Заключная прамова П. Панамарэнкі падчас 5-га пленума ЦК КП(б)Б 28 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 4, воп. 20, спр. 213, арк. 278 і наст.); часткова надрукавана ў польскім перакладзе ў: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 235 і наст.

[217] Гл. сярод іншага: Wieczorkiewicz P. Historia polityczna... S. 260—280.



### *г) Стварэнне польскіх партызанскіх атрадаў вясной 1943 г.*

У пачатку 1943 г. у савецкіх партызанскіх камандзіраў у Беларусі яшчэ не было канкрэтных дырэктыў з Масквы наконт польскага пытання, і яны дзейнічалі па сваім разуменні. Напрыклад, у пачатку 1943 г. Клічаўскі аператыўны цэнтр (Магілёўская вобласць) накіраваў старшага лейтэнанта Севярына Ключко і групу партызанаў з разведвальнай місіяй у раёны на поўдні і захадзе ад Мінска (Дзяржынскі, Уздзенскі, Стаўбцоўскі, Івянецкі і Налібацкі раёны). У канцы лютага 1943 г. Ключко дакладваў аператыўнаму цэнтру, што ў раёне Налібоцкай пушчы няма польскіх атрадаў. Больш таго, палякі, паводле яго слоў, баяліся арганізоўвацца, бо мясцовыя савецкія партызаны вельмі груба абыходзіліся з польскім насельніцтвам. Яны, мясцовыя партызаны, марадзёрствавалі, займаліся п'янствам. Ключко і яго ўзвод, наадварот, прымалі ў польскіх раёнах вельмі сардэчна, таму што яны абыходзіліся з польскімі сялянамі ветліва. Ключко працягваў:

> Потым яны [польскія сяляне] пачалі нам ва ўсім дапамагаць. Цяпер я наладзіў сувязь з шэрагам польскіх афіцэраў, якім я даў заданне да 1.03.43 г. стварыць у трох польскіх раёнах польскія нацыянальныя атрады. Я спадзяюся, што гэтае палітычнае мерапрыемства будзе ажыццёўлена і пакладзе пачатак польскаму масаваму руху[218].

За тыдзень да таго, 17 лютага, Ключко напісаў такі ж па змесце даклад пра ход сваёй місіі, які, аднак, трапіў у рукі немцаў і быў перакладзены на нямецкую мову, праўда, недакладна[219].

Да польскіх афіцэраў, з якімі вёў перамовы Ключко, належаў паручнік запасу Каспер Мілашэўскі, селянін з вёскі Брынічава Стаўбцоўскага павета. Ён з лютага 1942 г. удзельнічаў у фармаванні польскага руху супраціву ў раёне Стоўбцаў[220]. Дзеянні Ключко, з польскага пункту гледжання, здаваліся паваротам у польска-савецкіх адносінах у раёне Баранавічаў і Навагрудка. Папярэднія польскія ініцыятывы змагацца сумесна супраць нямецкіх акупантаў мясцо-

[218] Паведамленне старшага лейтэнанта Ключко маёру Яхантаву ад 25 лютага 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 89, арк. 65—68 адв.).

[219] «У раёнах, дзе я знаходжуся, ёсць 3 групы партызанаў, кожная з іх па 30—50 чалавек, і дзве групы па 80—100 чалавек кожная. Супраць ворага яны не праводзяць увогуле ніякіх дзеянняў, яны толькі рабуюць дабро. […] Польскае насельніцтва задаволена нашым прыходам, таму што нашыя адносіны з гэтым народам лепшыя, чым з тутэйшымі партызанамі. Зараз я ўсталяваў сувязь з некалькімі польскімі афіцэрамі. Я спадзяюся, што з іх дапамагой мы зможам падняць польскі народ на барацьбу супраць агульнага ворага. Палякі вельмі незадаволеныя цяперашнімі парадкамі і рыхтуюцца да паўстання, для гэтага патрэбна толькі наша кіраўніцтва». Гл.: Справаздача старшага лейтэнанта С. Ключко ад 17 лютага 1943 г. (копія перакладу на нямецкую мову) (НАРБ. Ф. 389, воп. 1, спр. 4, арк. 31).

[220] Juchniewicz M. Na Wschód od Bugu. Polacy w walce antyhitlerowskiej na ziemiach ZSRR 1941—1945. Warszawa, 1985. S. 146; Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 105 і наст.

выя партызанскія камандзіры часцей за ўсё адхілялі. Хоць у 1942 г. польскія супрацiўленцы і савецкія партызаны правялі некалькі сумесных акцый, справа далей не рушылася. У той жа самы час савецкія партызаны ажыццяўлялі шматлікія напады на польскіх памешчыкаў, якія часта ўваходзілі ў шэрагі польскага супраціву, і некалькіх нават забілі. Да таго ж адбываліся масавыя рабаўніцтвы і іншыя злоўжыванні савецкіх партызанаў, якія адпуджвалі польскае насельніцтва[221].

Вясной 1943 г. у рэгіёнах Навагрудка і Баранавічаў ды ў раёне вакол Налібоцкай пушчы з'явіліся польскія партызанскія атрады. Аднак яны не скарысталіся згаданай ініцыятывай Ключко. Наадварот, ягонае пранікненне на тэрыторыю адбылося ў той час, калі польскі бок меў намер па ўласнай ініцыятыве ствараць у гэтым рэгіёне партызанскія атрады. Гэта грунтавалася на распараджэнні генерала Стэфана Равецкага, кіраўніка Арміі Краёвай, выдадзеным у верасні 1942 г., наконт фармавання партызанскіх атрадаў на ўсходніх тэрыторыях Польшчы. Праўда, польскія структуры супраціву ў раёнах Навагрудка, Баранавічаў і на іншых тэрыторыях пачалі ажыццяўляць на практыцы гэтае распараджэнне толькі ў пачатку 1943 г.[222].

І ўвогуле, польскі супраціў быў актыўным на ўсёй тэрыторыі Беларусі, як і ў астатніх акупаваных немцамі рэгіёнах СССР у межах 1941 г. У першую чаргу справа палягала ў даволі эфектыўнай польскай ваеннай разведцы, што праводзілася як на свае ўласныя патрэбы, так і на патрэбы заходніх саюзнікаў, з чаго меў карысць і савецкі бок[223]. Польскі супраціў праводзіў таксама шырокамаштабныя дыверсійныя акцыі, у тым ліку ў рамках СУБ / АК (Саюза ўзброенай барацьбы / Арміі Краёвай) *«Wachlarz»* («Веер»), накіраваныя на разбурэнне нямецкіх ліній падвозу і ваенных збудаванняў на тылавых тэрыторыях Усходняга фронту[224].

У канцы 1942 г. нямецкія сілы бяспекі выкрылі адну з гэтых арганізацый у Мінску. 15 снежня 1942 г. камандуючы паліцыяй бяспекі і СД паведамляў:

> *У пачатку снежня* выкрыццё падраздзялення польскай тайнай арганізацыі «Керунэк» («Накірунак») у Мінску. Галоўны штаб гэтай арганізацыі знаходзіцца ў Варшаве. Дагэтуль 68 арыштаў, уключаючы кіраўніка. Задачы арганізацыі: разбурэнне нямецкіх паставак на фронт. Была выяўлена вялікая колькасць выбуховых матэрыялаў і спраўная радыёстанцыя англійскай вытворчасці з тайным шыфрам. Вядомыя і іншыя меншыя склады выбухоўкі, якія будуць ліквідаваныя[225].

[221] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 90—99.
[222] Тамсама. S. 35—41.
[223] Pepłoński A. Wywiad na zapleczu frontu wschodniego // Polsko-brytyjska współpraca wywiadowcza podczas II wojny swiatowej. T. 1: Ustalenia Polsko-Brytyjskiej Komisji Historycznej / Red. T. Dubicki, D. Nałęcz, T. Stirling. Warszawa, 2004. S. 415—432.
[224] Параўн.: Chlebowski C. Wachlarz. Monografia wydzielonej organizacji dywersyjnej Armii Krajowej, wrzesień 1941 — marzec 1943. Warszawa, 1990.
[225] Кароткае паведамленне ад 14 снежня 1942 г. пра дзейнасць паліцыі бяспекі ў барацьбе з бандамі і парашутыстамі, 1 кастрычніка 1942 г. (РГВА. Ф. 504, оп. 1, д. 8, л. 5).



Так што не можа быць і гаворкі пра тое, што польскі супраціў у 1942 г. і вясной 1943 г. не падтрымліваў Чырвоную Армію ў барацьбе з нямецкімі войскамі.

Але вернемся назад да падзей у Баранавіцкай вобласці вясной 1943 г. Трэба выходзіць з таго, што Ключко не абмяркоўваў сваю ініцыятыву схіліць Польшчу на стварэнне партызанскіх атрадаў ні з Беларускім штабам, ні з Цэнтральным. Наадварот, яго ініцыятыва супярэчыла тагачаснай савецкай палітыцы адносна палякаў у гэтым рэгіёне, накіраванай на тое, каб не дапусціць стварэння незалежнага польскага руху супраціву.

У красавіку 1943 г. у Налібоцкую пушчу прыбыў Васіль Чарнышоў, прызначаны Панамарэнкам камандзір Баранавіцкага партызанскага злучэння і ўпаўнаважаны КП(б)Б па Баранавіцкай вобласці. Забяспечаны палітычнымі дырэктывамі, Чарнышоў пасля свайго прыбыцця прынёс змены ў польска-савецкія адносіны ў рэгіёне. З красавіка 1943 г. у рэгіёне паслядоўна пачала расці колькасць членаў польскага супраціву, забітых савецкімі партызанамі. 9 мая 1943 г. у Налібаках адбылася крывавая бойня[226]. 15 мая 1943 г. Панамарэнка пераслаў Сталіну радыёграму ад Чарнышова:

> У Лідскім, Нясвіжскім і іншых раёнах з'явіліся дробныя, добра ўзброеныя групы палякаў. Яны страляюць у партызанаў, здзекуюцца з насельніцтва, якое мае сувязь з партызанамі. За апошнія 10 дзён былі забітыя 8 нашых партызанаў і пяць сем'яў, што падтрымлівалі партызанаў. Групы хаваюцца ў вёсках. Мы зрабілі крокі, каб абяззброіць і знішчыць гэтыя групы. Польскаму насельніцтву мы тлумачым, што гэта ёсць фашысцкія агенты[227].

Калі польскія партызаны сапраўды знішчалі савецкіх партызанаў, то гэта, па ўсёй верагоднасці, былі савецкія партызаны-рабаўнікі. У польскіх партызанаў было заданне абараняць цывільнае насельніцтва ад рабаўніцтваў і іншых злоўжыванняў з боку крымінальных бандаў і партызанаў, што рабуюць. Захопленыя рабаўнікі і бандыты, як правіла, расстрэльваліся на месцы, падобна дзейнічалі савецкія партызаны ў барацьбе з імі[228].

Але адна з першых акцый, што распачаў Чарнышоў супраць польскіх партызанаў, пацярпела крах. Пры гэтым жанчына, якая быццам падтрымлівала польскіх партызанаў, была забітая[229]. Больш паспяховым супраць польскіх партызанаў было Пінскае злучэнне. У красавіку 1943 г. яго камандаванне даведалася праз аднаго агента асобага аддзела, што ў Лунінецкім і Ленінскім раёнах фарміруюцца польскія падпольныя структуры. Асобы аддзел злучэння правёў разведку і выкрыў групу, якой кіраваў настаўнік Казлоўскі. Ноччу на 9 мая 1943 г. асобы аддзел расстраляў кіраўніцтва гэтай групы, агулам

[226] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 100—106.
[227] П. Панамарэнка Сталіну, 15 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 20, л. 65).
[228] Параўн. на гэты конт: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 225—240.
[229] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 101—105.

дзевяць чалавек[230]. 21 мая 1943 г. Панамарэнка дакладваў Сталіну пра ход акцыі, прычым ён пісаў, што былі расстраляныя шэсць польскіх нацыяналістаў на чале з памешчыкам[231].

У рэгіёне ж вакол Баранавічаў і Навагрудка польскія структуры былі занадта вялікія і ўмацаваныя, каб іх можна было знішчыць у падобнай акцыі. Моцным быў і польскі супраціў у Вілейскай вобласці (Віленшчына). Сакратар Вілейскага падпольнага абкама КП(б)Б Клімаў дакладваў Панамарэнку 6 мая 1943 г. пра становішча ў вобласці, пры гэтым ён закрануў моц структур польскага нацыянальнага супраціву. Ён паведамляў, што польскія арганізацыі шукаюць кантактаў з савецкімі партызанамі, падтрымліваюць іх і дапамагаюць разведвальнай інфармацыяй. Але актыўна змагацца яны не хочуць. Пра антысавецкія акцыі польскіх супраціўленцаў у Клімава звестак не было[232]. Даклад такога ж зместу зрабіў Беларускі штаб у разведвальнай справаздачы № 27 ад 5 мая 1943 г.[233].

У маі і чэрвені 1943 г. камандаванне Навагрудскай акругі АК (адпавядала прыблізна тэрыторыі Баранавіцкай вобласці) пачало перамовы з савецкімі партызанамі Баранавіцкага злучэння, што працягваліся да пачатку жніўня 1943 г. Такія ж перамовы адбыліся ў Вілейскай вобласці, пра ход якіх дакладна паведамлялі Панамарэнку[234].

10 чэрвеня 1943 г. Панамарэнка пераслаў Сталіну радыёграму ад Чарнышова наступнага зместу: у апошні час, паводле яго слоў, польскія арганізацыі сталі больш актыўнымі. У шматлікіх населеных пунктах былі мабілізаваныя палякі. У Стаўбцоўскім раёне з'явіўся атрад Мілашэўскага з 300 байцамі. Іх мэта — барацьба за Польшчу. Мілашэўскі заявіў, што яны зараз ваюють не супраць савецкіх партызанаў. Рост польскай арганізацыі хутка прасоўваецца наперад. Акрамя таго, перахоплена распараджэнне «Партыі грэнадзёраў»[235], з якога вынікае, што яны хоць і не хочуць ваяваць непасрэдна супраць савецкіх партызанаў, але прыхаваным чынам, напрыклад, праз даносы, яны — з немцамі. Чарнышоў заканчваў сваю радыёграму просьбай: «Я прашу даць загад, як нам паводзіць сябе з такімі фармаваннямі»[236].

[230] Стэнаграма размовы з камандзірам Пінскага злучэння Аляксеем Кляшчовым ад 24 лістапада 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 29, л. 149).

[231] П. Панамарэнка Сталіну, 21 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 20, л. 68).

[232] Паведамленне сакратара Вілейскага абкама Клімава П. Панамарэнку ад 6 мая 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 183, арк. 31 і наст.).

[233] Разведвальнае паведамленне № 27 БШПР ад 5 мая 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 849, л. 102—107).

[234] Ход гэтых перамоў, між тым, вельмі добра задакументаваны. Параўн. на гэты конт, сярод іншага: Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 228—240; Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 114—125; Gnatowski M. Dokumenty o stosunku radzieckiego kierownictwa do polskiej konspiracji niepodległościowej na północno-wschodnich Kresach Rzeczypospolitej w latach 1943—1944 // Studia Podlaskie. T. V. Białystok, 1995. S. 211—317; Gnatowski M. Kontrowersje i konflikty między polskim i radzieckim podziemiem na północno-wschodnich Kresach Rzeczypospolitej w latach 1943—1944 w świetle dokumentów // Studia Podlaskie. T. VI. Białystok, 1996. S. 219—326; Armia Krajowa na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie...

[235] Зыгмунт Барадзін, эксперт у справе польска-савецкай партызанскай вайны, мяркуе, што гэтае прадпісанне магло быць нямецкай правакацыяй ці фальшыўкай Саветаў, бо не было ніякай «Партыі грэнадзёраў», ды і няма арыгінала гэтага прадпісання. Гл.: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 102—104.



Праз чатыры дні, 14 чэрвеня 1943 г., Сталін прыняў Панамарэнку ў сваім крамлёўскім кабінеце. У сустрэчы, якая цягнулася агулам амаль дзве гадзіны, удзел бралі яшчэ 10 чалавек, у тым ліку Молатаў, Берыя, Малянкоў[237]. Там, магчыма, абмяркоўвалася і пастаўленае Чарнышовым «польскае пытанне». Праз тыдзень, 22 чэрвеня 1942 г., Панамарэнка паслаў канфідэнцыйны ліст Беларускаму штабу і абласным камітэтам КП(б)Б, у тым ліку і Чарнышову, «пра ваенна-палітычныя задачы работы ў заходніх абласцях БССР»[238].

Ліст утрымліваў дырэктывы, як вырашаць польскае пытанне ў заходніх частках Беларусі. Асноўным элементам савецкай палітыкі Панамарэнка назваў перадумову, што «заходнія вобласці Савецкай Беларусі ёсць трывалая складовая частка Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, непарушная частка Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік»[239]. Акрамя таго, Панамарэнка пісаў, што ў заходніх абласцях з'яўляюцца польскія некамуністычныя падпольныя структуры і партызанскія атрады, якія шукаюць кантактаў з савецкімі партызанамі. Пры гэтым Панамарэнка выразна заявіў:

> Існаванне любых арганізацый, якімі кіруюць польскія нацыяналістычныя цэнтры (у Вільні, Любліне, Варшаве і г. д.), неабходна разглядаць як умяшанне ў справы і інтарэсы нашай краіны. […] У раёнах, дзе ўжо існуюць нацыяналістычныя атрады, створаныя польскімі рэакцыйнымі коламі, неабходна, па-першае, заняцца высвятленнем іх стварэннем нашых партызанскіх атрадаў і груп, а, па-другое, прымаць меры, каб засылаць у іх нашых агентаў, разведваць іх сувязі, задачы, арганізацыі, метады дзейнасці, выяўляць сапраўдных прадстаўнікоў польскіх нацыяналістаў ці нямецкай разведкі. Пры дапамозе надзейных палякаў, спецыяльна накіраваных намі, неабходна разварваць такія атрады і групы, а працоўных палякаў прыцягваць на наш бок. […] У раёнах, у якіх нашы партызанскія атрады і падпольныя цэнтры ўжо маюць уплыў, нельга дапускаць аперацый нацыяналістычных польскіх рэакцыйных колаў. Іх кіраўнікоў неабходна непрыкметна ліквідоўваць. Атрады трэба ці распускаць і забіраць іх базы зброі, ці, па магчымасці, прымаць іх пад наш надзейны ўплыў, […] далучаць іх да іншых буйных атрадаў і рабіць адпаведнае прыхаванае ачышчэнне ад варожых элементаў[240].

[236] П. Панамарэнка Сталіну ў крамлёўскім кабінеце Сталіна 10 чэрвеня 1943 г. (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 1, д. 20, л. 93).

[237] Кніга прыёму наведнікаў у крамлёўскім кабінеце Сталіна з 22 чэрвеня 1941 г. да 9 мая 1945 г., запіс ад 14 чэрвеня 1942 г., надрукаваны ў: Горьков Ю. Государственный комитет обороны... С. 381.

[238] Канфідэнцыйны ліст П. Панамарэнкі ў БШПР і абкам КП(б)Б «Аб ваенна-палітычных задачах работы ў заходніх абласцях БССР» ад 22 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 397, арк. 2—4); надрукаваны ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland… S. 241—247.

[239] Тамсама.

[240] Тамсама.

Праз два дні, 24 чэрвеня 1943 г., засядала Бюро Цэнтральнага камітэта КП(б)Б сумесна з кіраўнікамі савецкага падпольнага руху ў заходніх абласцях Беларусі, у тым ліку наконт польскага пытання. У вусным дакладзе Панамарэнка быў куды больш адкрыты. Ён інструктаваў сваіх падначаленых:

> Нашы партызанскія атрады і партыйныя арганізацыі павінны працаваць над тым, каб выяўляць [у заходніх абласцях Беларусі] усе польскія падпольныя арганізацыі, якія ствараюцца, і ўсімі магчымымі сродкамі падстаўляць іх пад удары нямецкіх акупантаў. Немцы не будуць цягнуць з расстрэлам партызанаў, калі яны даведаюцца, што гэта завадатары польскага падпольнага руху ці іншых польскіх ваенных арганізацый. Тут неабходна каардынацыя. Як гэта рабіць. Пры выбары сродкаў не павінна быць сумненняў. Гэта павінна ажыццяўляцца шырокамаштабна і так, каб было ўсё гладка[241].

Маюцца сведчанні, што савецкія партызаны і партыйныя актывісты сапраўды даносілі немцам пра прадстаўнікоў польскага кіруючага слоя[242]. Дырэктывы Панамарэнкі ад 22 і 24 чэрвеня, якія былі ўхваленыя ці рэкамендаваныя Сталіным, далі Чарнышову зялёнае святло, каб прыняць захады супраць польскіх партызанскіх атрадаў на сваёй тэрыторыі дзейнасці. Аперацыя «Герман» з ліпеня да жніўня 1943 г. спачатку, праўда, перакрэсліла гэтыя планы[243]. У той час, калі аперацыя «Герман» раптам прыпыніла эскалацыю польска-савецкага канфлікту, задуманую Масквой, савецкія партызаны ў Вілейскай вобласці дзейнічалі паводле дырэктыў Панамарэнкі.

### *д) Знішчэнне атрада «Кміціца» і пачатак польска-савецкай партызанскай вайны ў Віленскай акрузе*

У сакавіку 1943 г. паручнік Антоні Бужынскі, мянушка «Кміціц», арганізаваў у Пастаўскім раёне (Вілейская вобласць) партызанскі атрад Арміі Краёвай. 3 чэрвеня 1943 г. «Кміціц» сустрэўся з Фёдарам Маркавым, у той час камісарам брыгады імя Варашылава, якая была размешчана недалёка ад возера Нарач. Два партызанскія камандзіры абмяркоўвалі будучае супрацоўніцтва і сышліся на тым, што польскі атрад размесціць свой лагер непадалёк ад лагера брыгады імя Варашылава. У ліпені 1943 г. атрад «Кміціца» налічваў ужо 300 партызанаў,

[241] Пратакол пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 24 чэрвеня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 254, арк. 30—50); надрукавана ў: Studia Podlaskie. T. V. Białystok, 1995. S. 243.

[242] Напрыклад, Армія Краёва паведамляла 1 верасня 1943 г. пра сітуацыю ў Ашмянскай акрузе (каля 50 км на паўночны ўсход ад Ліды): «Па існуючай інфармацыі арыштаваныя ў Смаргоні камуністычныя актывісты абвінавачвалі шмат каго з прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі ў тым, што яны ўдзельнічаюць у дыверсійных акцыях, арганізаваных польскім падполлем». Гл.: AAN. Mf M-B582/1—2 (f. R—601, ap. 1, vien. 27, l. 1 і наст.). Гэтак жа дзейнічалі польска-савецкія камуністы ў Цэнтральнай Польшчы, выдаючы прадстаўнікоў польскага падполля нямецкім акупантам. Гл. на гэты конт таксама: Gontarczyk P. Polska Partia Robotnicza...

[243] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 131.



якія правялі шматлікія акцыі супраць нямецкіх акупантаў і літоўскіх беларускіх паліцаяў[244].

Але «Кміціц» не здагадваўся, што Маркаў з самага пачатку махляваў. 15 кастрычніка 1943 г. Маркаў дакладваў Панамарэнку пра сустрэчу з «Кміціцам» і пра свае намеры супраць польскіх партызанаў:

> У маі 1943 г. член польскай [вайсковай] арганізацыі Антон Нурма (Кміціц)[245] пачаў арганізоўваць у раёне Мядзела—Свіры польскі легіён. Я з усіх сіл намагаўся наладзіць з ім сувязь. 3 чэрвеня 1943 г. на возеры Нарач адбылася сустрэча з польскім камандзірам Кміціцам. У час гэтай сустрэчы Кміціц прапанаваў мне каардынаваць выступленні супраць немцаў і падтрымліваць цесную сувязь. Пра свае мэты, пра межы будучай Польшчы ён нічога не гаварыў, ён толькі адказаў, што гэтае пытанне пасля вайны адрэгулююць урады, а мы павінны разам ваяваць. Я пагадзіўся з прапановай Кміціца. Адначасова я заслаў у польскі атрад Кміціца сваіх агентаў. Я вырашыў заваяваць яго поўны давер, падтрымліваць з ім цесную сувязь, праз сваіх агентаў даведвацца пра ўсе іх сакрэты і адначасова разваліць атрад з сярэдзіны і перацягнуць яго на наш бок. [...] Але я пераканаўся, што засылкі нашых агентаў у атрад для яго развалу недастаткова. 1 жніўня я вырашыў арганізаваць польска-савецкі партызанскі атрад пад камандаваннем [Мрачэўскага], які я супрацьпаставіў польскаму легіёну Кміціца[246].

Справа не спынілася на фармаванні «польска-савецкага» атрада, бо Маркаў вырашыў знішчыць атрад «Кміціца». 16 жніўня Маркаў сумесна з іншымі камандзірамі брыгады імя Варашылава звярнуўся па радыё ў Цэнтральны штаб, просячы дазволу раззброіць атрад «Кміціца»[247]. 21 жніўня 1943 г. Маркаў атрымаў дазвол ад Панамарэнкі, таксама па радыё, ліквідаваць польскі атрад[248].

І вось як дзейнічаў пры гэтым Маркаў: ён запрасіў штаб польскага атрада ў лагер сваёй брыгады, на той падставе, што хоча павесці размову пра далейшае супрацоўніцтва. 25 жніўня палякі на чале з «Кміціцам» даверліва з'явіліся ў лагер брыгады імя Варашылава. Савецкія «гаспадары» ўмела раззброілі іх і арыштавалі. Адначасова партызаны брыгады імя Варашылава і двух атрадаў імя Ракасоўскага знянацку напалі

[244] Piskunowicz H. Działalność zbrojna Armii Krajowej na Wileńszczyźnie w latach 1942—1944 // Armia Krajowa na Nowogródczyźnie i Wileńszczyźnie... S. 22 і наст.

[245] Ягонае сапраўднае імя — Антоні Бужынскі. Мянушкай «Нурма» Бужынскі карыстаўся дзеля канспірацыі.

[246] Паведамленне камісара брыгады імя Варашылава Маркава П. Панамарэнку пра польскі легіён «Кміціца» ад 15 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 488, арк. 189—191).

[247] Радыёграма Маркава, Оргіса, Яўмененкі, Альшанскага ў ЦШПР, 16 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 432, арк. 116). На палях дакумента П. Панамарэнка напісаў: «Дазволіць, але выконваць асцярожна». Надрукавана ў: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 292 і наст.

[248] Радыёграма начальніка ЦШПР П. Панамарэнкі Маркаву, № 1055/4192 ад 21 жніўня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 35, арк. 378); надрукавана ў: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 293.

на астатніх польскіх партызанаў у іх лагерах, раззброілі іх і ўзялі ў палон. Каля 100 польскіх партызанаў, што ў час савецкай аперацыі не знаходзіліся ў лагеры, пазбеглі палону[249].

Пра далейшы лёс 200 польскіх партызанаў, якіх вераломна забралі ў палон, паведамляе Маркаў:

> Абяззброеную і арыштаваную польскую брыгаду на аснове расследаванняў, што правёў начальнік аператыўнай групы таварыш Бер (НКУС), падзялілі на тры катэгорыі: першая катэгорыя, 50 чалавек, была расстраляна разам з камандаваннем брыгады; другая катэгорыя, 80 чалавек, была адпушчана без зброі дамоў; трэцяя катэгорыя, 70 чалавек, была ўключана ў атрад Мрачэўскага, які атрымаў заданне сабраць астатніх 100 чалавек легіёна; [...] Перадача 70 чалавек атраду Мрачэўскага, як выявілася, была памылкай. Мы вырашылі не расстрэльваць усіх, бо баяліся, што палякі і немцы маглі праз прапаганду пабіць нас як другую «Катынь». [...] Мрачэўскі даведаўся пра расстрэл палякаў і пад уплывам гэтага перайшоў да нацыяналістаў. Ён загітаваў 60 польскіх партызанаў і перайшоў на бок [польскіх] нацыяналістаў. 30 польскім партызанам, якія засталіся, далі заданне атрымаць ад нас зброю і потым перабегчы. Гэтыя 30 чалавек былі расстраляныя. Усяго было расстраляна 80 польскіх легіянераў. Цяпер польскія групы адкрыта ваююць супраць савецкіх партызанаў і, у прыватнасці, супраць маёй брыгады. У баях з палякамі загінулі 4 партызаны[250].

Агулам савецкія партызаны застрэлілі 85 польскіх «легіянераў». Яшчэ да 25 жніўня 1943 г. камандаванне Віленскай акругі АК накіравала ротмістра Зыгмунта Шэндзелажа, мянушка «Лупашка», у атрад «Кміціца». Ён павінен быў узяць на сябе камандаванне атрадам «Кміціца». «Лупашка» прыбыў са сваёй партызанскай групай у раён дзеяння атрада «Кміціца» неўзабаве пасля яго знішчэння. Ён сабраў тых, хто выжыў, у тым ліку 60 «дэзерціраў» пад камандаваннем Мрачэўскага, і арганізаваў новы атрад, які ў канцы 1943 г. налічваў каля 100 партызанаў. Атрад «Лупашкі» адразу ж пачаў барацьбу супраць савецкіх партызанаў, у прыватнасці супраць брыгады імя Варашылава. Падзеленыя на малыя групы, рухавыя і рашучыя, яны наносілі савецкім партызанам адчувальныя страты. У першую чаргу польскія партызаны змагаліся з савецкімі партызанамі-рабаўнікамі. Усе спробы савецкіх партызанаў знішчыць партызанаў «Лупашкі» праваліваліся[251].

Польскія партызаны ў наступны час так прыціснулі савецкіх партызанаў, што кіраўніцтва партызанскай брыгады імя Гастэлы (Вілейская вобласць) у лістападзе 1943 г. заклікала да сумесных перамоў, каб спыніць «братнія бai»[252]. Польскі бок прыняў прапанову,

---

[249] Piskunowicz H. Działalność zbrojna... S. 23 і наст.

[250] Паведамленне камісара брыгады імя Варашылава Маркава П. Панамарэнку пра польскі легіён «Кміціца» ад 15 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 488, арк. 189 і наст.).

[251] Piskunowicz H. Działalność zbrojna... S. 23 і наст.

[252] Улётка камандзіра партызанскай брыгады імя Гастэлы Манохіна ад 17 лістапада 1943 г. да камандавання польскіх так званых легіёнаў, якія дзейнічалі ў Вілейскай



але на гэты раз праявіў асцярожнасць, і меў рацыю, бо і на гэты раз савецкія партызаны махлявалі. Іх мэтай было вярнуць давер палякаў, каб пры спрыяльным выпадку знішчыць. І ўвогуле савецкі бок масава насаджваў сваіх агентаў, каб выкрываць «польскіх нацыяналістаў», а потым знішчаць іх. Польскія партызаны адказвалі нападамі на савецкіх партызанаў, актывістаў і іх памагатых. Восенню 1943 г. у Вілейскай вобласці бушавала савецка-польская партызанская вайна, якую выклікаў савецкі бок праз падступную бойню 25 жніўня 1943 г.[253].

25 лістапада 1943 г. адбыліся першыя перамовы паміж прадстаўнікамі брыгады «Лупашкі» і партызанскай брыгады імя Гастэлы. На адпаведнае пытанне польскага боку, ці атрымалі яны нейкія загады з Масквы, Саветы, вядома, адказалі адмоўна, сцвярджаючы, што Маркаў дзейнічаў самавольна. Пасля гэтага палякі запатрабавалі вярнуць назад зброю і спыніць масавае рабаўніцтва, забойствы, згвалтаванні і здзекі з польскага насельніцтва з боку савецкіх партызанаў. Польскі бок пры гэтым падкрэсліваў, што польскія партызаны плацяць за прадукты харчавання і іншыя неабходныя рэчы. Але яны пагадзіліся б, каб савецкія партызаны пакідалі распіскі наконт канфіскаваных неабходных прадуктаў харчавання. Пытанне ж дзяржаўных меж польскія партнёры па перамовах хацелі пакінуць на вырашэнне ўрадаў СССР і Польшчы. Польскі бок выказаў гатоўнасць спыніць усе напады на савецкіх партызанаў і сумесна з імі ваяваць супраць немцаў[254].

Другі раўнд перамоў адбыўся 14 снежня 1943 г., таксама без канкрэтных вынікаў, бо савецкі бок заявіў, што без узгаднення з цэнтрам не можа падпісваць афіцыйныя дамовы наконт пазіцый варожасці ці супрацоўніцтва. Пагадзіліся весці перамовы далей. Манохін, які 22 снежня 1943 г. пісаў справаздачу пра гэта, зрабіў у канцы выснову:

> Польскія партызаны карыстаюцца вялікім аўтарытэтам сярод насельніцтва заходніх раёнаў [Вілейскай] вобласці. Таму мы павінны абавязкова з усёй строгасцю змяніць паводзіны ў адносінах да мясцовага насельніцтва і рашуча забараніць п'янства і марадзёрства пэўнай часткі нашых партызанаў. [...] Адносна легіянераў і іх камандзіраў неабходна весці знешне добразычлівую палітыку. Адначасова неабходна падрыхтаваць для палякаў такі ўдар, які знішчыць не толькі іх узброеныя сілы, але і карані глыбока закансп іраваных падпольных структур. Трэба прыпомніць урок «Нарачы», дзе белапалякаў толькі «пужанулі», а іх арганізацыя засталася непарушнай[255].

---

вобласці (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 49, арк. 90 і наст.); надрукавана ў: Studia Podlaskie. T. V. Białystok, 1995. S. 259 і наст.

[253] Piskunowicz H. Działalność zbrojna... S. 23 і наст.

[254] Паведамленне Валасных пра ход перамоў паміж камандаваннем партызанскай брыгады імя Гастэлы і прадстаўнікамі брыгады «Лупашкі» ад 25 лістапада 1943 г., 26 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 487, арк. 63—68); надрукавана таксама ў: Studia Podlaskie. T. VI. Białystok, 1996. S. 255—260.

[255] Паведамленне Манохіна пра перамовы з прадстаўнікамі «так званых польскіх партызанаў» ад 22 снежня 1943 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 487, арк. 69—73); надрукавана ў: Studia Podlaskie. T. VI. Białystok, 1996. S. 266—271.

Манохін у гэтых адносінах меў поўную падтрымку з Масквы, пра што клапаціўся Панамарэнка. Яшчэ 22 лістапада 1943 г. Панамарэнка напісаў дадатковую дакладную запіску па польскім пытанні, а менавіта пра «польскія спробы арганізаваць у Заходняй Беларусі Армію Краёву». Ва ўводзінах Панамарэнка звяртаў увагу на моц польскага руху супраціву: у Вільні — 3 000 членаў, у Вілейскай вобласці — да 6 000, у Баранавіцкай вобласці — да 5 000, у тым ліку 2 000 у атрадах і 3 000 чалавек як рэзерв, у Беластоцкай вобласці — звыш 7 000 членаў і рэзервістаў. Ім супрацьстаяць 24 835 савецкіх партызанаў і больш за 43 000 рэзервістаў. Панамарэнка аргументаваў, што польскі супраціў выключна антысавецкі і настойвае на межах 1939 г.[256].

Улічваючы гэта, Панамарэнка прапанаваў:

> Неабходна знішчыць польскія атрады і групы, што дзейнічаюць у Заходняй Беларусі і нападаюць на савецкіх партызанаў. Усе іншыя групы, якія трымаюцца згаданай вышэй пазіцыі [пытанне мяжы], неабходна дыскрэдытаваць і развaліць, а камандны склад — знішчыць[257].

Аднак Панамарэнка быў даволі асцярожным і прасіў бласлаўлення ягоных планаў вышэйшым кіраўніцтвам[258], заканчваючы дакладную наступнай просьбай:

> Улічваючы, што згаданая вышэй справа з'яўляецца важным пытаннем, бо яна абазначае пераход ад асобных інцыдэнтаў да планамернай барацьбы з варожым польскім нацыянальным падполлем, я прашу даць указанні[259].

Варта зыходзіць з таго, што вышэйшае кіраўніцтва ўхваліла прапанову Панамарэнкі. Праз тыдзень, з 28 лістапада да 1 снежня 1943 г., адбылася сустрэча «Вялікай тройкі» ў Тэгеране. У час перамоў Сталін запэўніваў Чэрчыля і Рузвельта, што польскі супраціў варожа настроены да савецкіх партызанаў, палякі забіваюць савецкіх партызанаў і выдаюць іх немцам. 1 снежня Сталін, між іншым, заявіў: «Агенты польскага ўрада, якія знаходзяцца ў Польшчы, звязаныя з немцамі. Яны забіваюць [савецкіх] партызанаў. Вы не можаце сабе ўявіць, што яны там вытвараюць»[260]. Гэта гучыць як прапагандысцкае прыкрыц-

[256] Дакладная П. Панамарэнкі ад 22 лістапада 1943 г. «Аб спробах палякаў арганізаваць Армію Краёву ў Заходняй Беларусі», асобнік для Малянкова (РГАСПИ. Ф. 83, оп. 1, д. 28, л. 20—27).

[257] Тамсама. Л. 27.

[258] У рамках даследавання былі выяўленыя два асобнікі дакладной запіскі, адзін Малянкову (РГАСПИ. Ф. 83, оп. 1, д. 28, л. 20—27) і адзін Л. Берыі (РГАСПИ. Ф. 69, оп. 9, д. 13, л. 21—28). Трэба меркаваць, што ва ўсялякім выпадку запіску атрымалі яшчэ Сталін і Молатаў.

[259] Тамсама. Л. 27.

[260] Савецкі пратакол перамоў паміж Сталіным, Рузвельтам і Чэрчылем у Тэгеране ад 1 снежня 1943 г. (Пасяджэнне за Круглым сталом адносна польскага і германскага пытання, з 16.00 да 19.40) (РГАСПИ. Ф. 558, оп. 11, д. 234, л. 93); параўн. таксама: Pobóg-Malinowski W. Najnowsza historia... T. 1. S. 479.



цё запланаваных нападаў на польскае падполле. Неўзабаве польска-савецкі канфлікт у Заходняй Беларусі перарос у брутальную вайну паміж партызанамі, выйгрыш ад якой мелі выключна толькі нямецкія акупанты.

Адным з метадаў дыскрэдытацыі польскіх партызанаў на месцах было стварэнне спецыяльных груп, якія складаліся з савецкіх партызанаў, што валодалі польскай мовай і, падрабляючыся пад «польскіх партызанаў», рабавалі тутэйшае насельніцтва і здзекаваліся з яго. Такім чынам савецкія ўладары імкнуліся нашкодзіць аўтарытэту польскіх партызанаў. Гарольд Зісман (Гірш Цукерман), партызан-яўрэй з атрада імя Суворава (Баранавіцкае партызанскае злучэнне), быў членам адной з такіх «белапольскіх партызанскіх» груп, прычым ён запісаўся ў яе добраахвотна:

> Мы збіраліся выдаваць сябе за «белых палякаў» і з гэтай мэтай пераапрануліся ў форму польскай арміі. [...] Кожная група павінна была таксама «разбамбіць» двор мясцовага калабарацыяніста [sic] — гэта значыць уварвацца ў хату і набраць адзежы і харчоў на ўсю групу. [...] Я быў з Сяргеем і Валодзем, двума мясцовымі яўрэйскімі байцамі, і яшчэ некалькімі мясцовымі. [...] Падчас правядзення «бамбардзіроўкі» мы выдавалі сябе за байцоў польскага падполля; мэтай была дыскрэдытацыя «белых палякаў» у вачах сялян. З двароў апрача адзежы і харчоў мы забіралі газу, пілы і сякеры — тое, у чым сяляне мелі найбольшую патрэбу[261].

Згаданыя ўжо польска-савецкія перамовы ў Вілейскай вобласці працягваліся да 1944 г., а трэці раўнд адбыўся 25 студзеня 1944 г. Для савецкага боку гэтыя перамовы, як і папярэднія, мелі толькі мэту атрымаць найбольш падрабязныя дадзеныя пра структуру і моц «белапольскіх бандаў» і іншых польскіх арганізацый, заваяваць давер палякаў, каб у спрыяльны момант знішчыць іх[262].

Спрыяльны момант, здаецца, прыйшоў 31 студзеня 1944 г. У гэты дзень адбыўся крывавы бой паміж брыгадай «Лупашкі» і нямецка-ўкраінскім атрадам у вёсцы Варняны. З польскага боку загінула 20 партызанаў, 9 былі параненыя, нямецка-ўкраінскі бок таксама панёс адчувальныя страты[263]. Пасля бою польскія партызаны адышлі ў Свірскі раён, каб адпачыць там. Гэта выкарысталі савецкія «партнёры па перамовах» і аб'яднанымі сіламі брыгад імя Варашылава, імя Ракасоўскага і атрада імя Суслава, агулам больш за 1 500 чалавек, напалі на польскіх партызанаў. Аднак раптоўны напад не атрымаўся, і партызаны «Лупашкі» адступілі з малымі стратамі (два тапельцы пры пераправе праз раку), але не былі знішчаныя. Напаўшыя з двух бакоў савецкія партызаны, аднак, памылкова ўзаемна абстралялі сваіх

[261] Zissman H. The Warriors... P. 144 і наст., 149.

[262] Паведамленне пра перамовы паміж прадстаўнікамі Віленскага цэнтра і савецкімі партызанамі 25 студзеня 1944 г. у Сыраватках, падпісанае Манохіным і Фернандэсам, 27 студзеня 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 571, арк. 24—34).

[263] Piskunowicz H. Działalność zbrojna... S. 29.

і прычынілі сабе вялікія страты, паведаміла Лідзія Львова-Эберле. Пані Львова-Эберле была ў польскім атрадзе з ліпеня 1943 г., таксама ў гэты дзень. Яна была раней параненая ў баі з нямецка-ўкраінскімі войскамі[264].

Шалом Ёран, былы партызан брыгады імя Варашылава, які браў удзел у гэтай аперацыі, наадварот, сцвярджае, што напад прайшоў вельмі паспяхова і што прычынай для яго былі папярэднія польскія напады на савецкіх партызанаў, адначасова ён замоўчвае забойства 85 польскіх партызанаў у жніўні 1943 г.:

> Групы савецкіх партызан, да якіх належала і наша брыгада, на свае аперацыі часта рухаліся праз лясы ў раёне Свянцянаў і Ашмянаў. Іх пастаянна атакавалі размешчаныя тут групы АК. [...] Камандзір брыгады Маркаў вырашыў ачысціць гэтую тэрыторыю ад небяспечных элементаў. Наша брыгада ў поўным складзе накіравалася ў раён у непасрэднай блізкасці ад баз АК. Мы акружылі і атакавалі іх. Пасля трох дзён баёў уся тэрыторыя была ачышчана ад АК. Многія з іх былі забітыя, многія — трапілі ў палон, а астатнія ўцяклі ў раёны бліжэй да Вільні, дзе дыслакавалася іншая брыгада АК[265].

У сапраўднасці ж нашмат меншае па колькасці падраздзяленне польскіх партызанаў неўзабаве перайшло ў контратаку і прагнала савецкіх партызанаў з паўднёва-заходняга раёна Вілейскай вобласці. Манахаў, сакратар Вілейскага падпольнага абкама КП(б)Б, дакладваў у сакавіку 1944 г.:

> Пасля выгнання белапольскіх бандаў са Свірскага раёна яны сабралі і сканцэнтравалі свае сілы ў Ашмянскім раёне, на другім беразе ракі Вілейка. Белапалякі вядуць адкрытую барацьбу супраць савецкіх партызанаў і наладзілі сувязь з немцамі. Палякі атрымліваюць ад немцаў зброю, амуніцыю і вучацца ў іх ваеннай справе[266].

У барацьбе супраць савецкіх партызанаў палякі дасягнулі значных поспехаў. 1 сакавіка яны разбілі атрад «Барадача» з 95 чалавек, пры гэтым 32 партызаны загінулі, 10 былі параненыя і 6 узятыя ў палон, як Манахаў скардзіўся ў сакавіку 1944 г.:

> У нас няма дастатковых сіл, каб заняць раёны Вілейскай вобласці, якія знаходзяцца на другім беразе ракі Вілейкі [паўднёва-заходняя частка вобласці].

[264] Piskunowicz H. Działalność zbrojna... S. 50; паведамленне Манохіна П. Панамарэнку пра дзейнасць «белапалякаў» у Вілейскай вобласці ад 23 лютага 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 571, арк. 1—25).

[265] Yoran Sh. The Defiant... P. 165. Ёран піша пра забойства 85-ці польскіх партызанаў (с. 164 і наст.): «У канцы лета 1943 г. польскі атрад у складзе нашай савецкай партызанскай брыгады быў распушчаны, а ягоныя байцы размеркаваныя па савецкіх атрадах».

[266] Паведамленне Манахава Клімаву пра становішча ў Вілейскай вобласці, без даты, [пасля 10 сакавіка 1944 г.] (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 489, арк. 109).



> Гэтыя раёны зараз літаральна перапоўненыя белапольскімі бандытамі, што займаюцца там антысавецкай агітацыяй і забруджваюць насельніцтва ўласнымі агентурнымі сеткамі. Калі і надалей трываць такія стасункі, тады з часам будзе куды цяжэй завалодаць гэтымі тэрыторыямі, чым гэта можна зрабіць цяпер, бо значная частка насельніцтва будзе апрацавана нацыяналістамі[267].

З пачатку 1944 г. польскі супраціў сапраўды вельмі хутка стварыў свае партызанскія падраздзяленні, у іх прасілася больш добраахвотнікаў, чым — з-за недахопу зброі — яны маглі прыняць. Мясцовае насельніцтва падтрымлівала польскіх партызанаў у барацьбе супраць савецкіх партызанаў, літоўскіх паліцаяў (якія таксама непакоілі гэтыя раёны), а таксама супраць нямецкіх акупантаў. Дзякуючы гэтай шырокай падтрымцы вясной 1944 г. у паўднёва-заходніх раёнах Вілейскай вобласці была ўтворана польская партызанская рэспубліка[268].

Савецкае партызанскае кіраўніцтва, скрыгочучы зубамі, пацвярджала шырокую падтрымку польскіх партызанаў большасцю польскага насельніцтва, нягледзячы на масавую антыпольскую прапаганду, у якой польскіх партызанаў абзывалі памагатымі нямецкіх акупантаў і здраднікамі польскага народа. Манохін, камандзір брыгады імя Гастэлы, скардзіўся 28 лютага 1944 г. Панамарэнку:

> Насельніцтва разглядае белапалякаў польскімі партызанамі-патрыётамі, а гэтыя за прадукты харчавання, што яны бяруць, плацяць грашыма, і насельніцтва сімпатызуе гэтым бандытам і глядзіць на іх як на польскіх партызанаў — ворагаў немцаў[269].

Нямецкі бок таксама аддаваў належнае добрай дысцыпліне і падрыхтоўцы, высокаму баявому духу і шырокай падтрымцы насельніцтвам польскіх партызанаў, маўляў, таму яны больш небяспечныя, чым савецкія партызаны[270]. «Добра дысцыплінаваныя і грунтоўна падрыхтаваныя» байцы Арміі Краёвай з'яўляліся куды большай небяспекай, чым савецкія групоўкі, бо яны «дзякуючы падтрымцы, якую яны маюць ад насельніцтва, і фанатычнай волі і тэмпераменту ў сувязі з вялікім узроўнем інтэлігентнасці павядуць барацьбу супраць нашых [нямецкіх] сіл з зусім іншым размахам, чым гэта могуць рабіць савецкія банды ў гэтым раёне»[271].

Савецкія партызаны ў Вілейскай вобласці не дасягнулі пастаўленай імі мэты знішчыць польскі партызанскі рух і польскае падполле яшчэ да прыходу Чырвонай Арміі. Наадварот, яны справакавалі польска-

[267] Тамсама. Арк. 110.

[268] Piskunowicz H. Działalność zbrojna... S. 29—54.

[269] Паведамленне Манохіна П. Панамарэнку пра дзейнасць «белапалякаў» у Вілейскай вобласці ад 23 лютага 1944 г. (НАРБ. Ф. 4-п, воп. 33а, спр. 571, арк. 8).

[270] Piskunowicz H. Działalność zbrojna... S. 35.

[271] Нататкі для нарады ў групе армій «Цэнтр» афіцэра Іа камандуючага сіламі вермахта ў Беларусі, 5 мая 1944 г. Цыт. паводле: Chiari B. Kriegslist oder Bundnis mit dem Feind? Deutsch-polnische Kontakte 1943/44 // Die polnische Heimatarmee... S. 513.

савецкую вайну, а польскія партызаны паказалі сябе пры гэтым больш небяспечным праціўнікам, чым нямецкія акупанты. Замест таго, каб нападаць на нямецкія лініі забеспячэння і падтрымліваць Чырвоную Армію, ім давялося ваяваць супраць польскіх партызанаў.

*е) Польска-савецкая партызанская вайна ў Баранавіцкай вобласці*

І ў Баранавіцкай вобласці савецкае кіраўніцтва справакавала польска-савецкую партызанскую вайну. Чарнышоў, камандзір Баранавіцкага партызанскага злучэння, меў намер ужо летам 1943 г. разбіць атрад Мілашэўскага. Спачатку ягоныя планы перакрэсліла аперацыя «Герман». Да восені 1943 г. Баранавіцкае партызанскае злучэнне, як і польскія атрады, ачухваліся ад аперацыі «Герман». У пачатку лістапада 1943 г. Чарнышоў зноў вярнуўся да планаў знішчэння польскіх падраздзяленняў на сваёй аператыўнай тэрыторыі. Усе датычныя да гэтага захады ён узгадніў з Панамарэнкам[272].

4 лістапада 1943 г. Чарнышоў прасіў у Панамарэнкі дазволу на раззбройванне атрада Мілашэўскага[273]. 15 лістапада Панамарэнка даў справе зялёнае святло:

> Я дазваляю раззброіць атрад [Мілашэўскага], але асцярожна. Неабходна ўлічваць адносіны насельніцтва да іх [польскага атрада] і вашу працу з насельніцтвам. Ці не надасць гэта ім [польскім партызанам] арэолу барацьбітоў і не ўскладніць справу? Аднак гэта ўсё мела б сэнс[274].

Чарнышоў дзейнічаў супраць Стаўбцоўскага батальёна на той жа ўзор, як і Маркаў супраць атрада «Кміціца». Савецкае камандаванне запрасіла 27 лістапада камандаванне польскіх партызанаў на перамовы. Без падазрэнняў, бо такія перамовы ўжо часта адбываліся раней, 1 снежня 1943 г. 10 польскіх афіцэраў з'явіліся ў савецкім лагеры і адразу ж былі раззброеныя і арыштаваныя іх «гасціннымі гаспадарамі». Адначасова савецкія атрады раптоўна напалі на астатніх польскіх партызанаў у іх лагерах і арыштавалі іх. Акцыя, праўда, прайшла не так крывава, як супраць атрада «Кміціца», але і тут сярод палякаў былі шматлікія ахвяры; былі забітыя як мінімум 10 партызанаў, бо яны аказалі супраціў[275].

1 снежня і неўзабаве пасля савецкія партызаны схапілі каля 290 «польскіх легіянераў», некаторых з іх адразу расстралялі. Ад-

[272] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 151—154.

[273] Радыёграмы Чарнышова і Армянінава начальніку ЦШПР П. Панамарэнку, № 11228 і 11229 ад 4 кастрычніка 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 41, арк. 374); надрукаваныя ў: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 295 і наст.

[274] Радыёграма П. Панамарэнкі Чарнышову і Армянінаву, № 11717 ад 15 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3500, воп. 23, спр. 23, арк. 18); надрукавана ў: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 296.

[275] Зыгмунт Барадзін на грунце савецкіх і польскіх крыніц у дэталях рэканструяваў падрыхтоўку і правядзенне аперацыі. Гл.: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 151—173.



нак каля 70 польскіх партызанаў змаглі ўратавацца. Пяць з дзесяці польскіх афіцэраў, арыштаваных разам з паручнікам Мілашэўскім, пасля допытаў на месцы былі 14 студзеня 1944 г. вывезеныя самалётам у Маскву і перададзеныя «Смершу». Пяць іншых афіцэраў былі на месцы расстраляныя савецкімі партызанамі. Астатнія польскія партызаны былі прымусова залічаныя ў савецкія атрады, многія, у першую чаргу камандзіры, былі паступова падступна забітыя. Большасць прымусова залічаных у наступныя тыдні і месяцы дэзерціравалі ці спрабавалі дэзерціраваць. Каля 70 з іх удалося ўцячы, прыблізна 50 былі расстраляныя[276].

Освальд Руфайзен[277], які ў снежні 1943 г. далучыўся да атрада імя Панамарэнкі (Баранавіцкае злучэнне), таксама апісвае дзеянні савецкіх партызанаў у адносінах да польскіх партызанаў атрада Мілашэўскага:

> Калі я прыйшоў у лес [у снежні 1943 г.], якраз праходзіла ліквідацыя польскіх партызан, іх раззбройванне, роспуск атрадаў і размеркаванне асабовага складу па іншых падраздзяленнях. [...] Некаторыя з тых, каго я сустракаў у нашым лагеры, былі падступна застрэленыя ззаду. Гэта адбывалася, калі іх нібыта перавозілі ў іншае месца. Тыя, хто сядзеў за імі, расстрэльвалі іх аднаго за адным. [...] Гэта было подла. Я думаю, што гэта была частка спланаванай акцыі па ліквідацыі польскага падполля. [...] Гэта была брудная праца Саветаў, такая ж як у Катыні і падчас Варшаўскага паўстання[278].

Сталін асабіста цікавіўся ходам і вынікамі аперацыі[279]. Пасля разгрому атрада Мілашэўскага польска-савецкі канфлікт перарос у лакальную польска-савецкую партызанскую вайну і ў Баранавіцкай вобласці. Некаторыя атрады АК, якім асабліва пагражалі савецкія партызаны, спынілі барацьбу супраць нямецкіх акупантаў і нават прынялі ад іх забеспячэнне зброяй і амуніцыяй. Гэтыя атрады сканцэнтраваліся цяпер

[276] Тамсама.

[277] Освальд Руфайзен, польскі яўрэй, працаваў перакладчыкам на Мірскім жандарскім знешнім пасце (Баранавіцкая жандарская акруга), прычым ён выдаваў сябе за паляка. У жніўні 1942 г. яго выкрылі, пасля чаго яму давялося ўцякаць. Рэйнгольд Гейн з Мірскага жандарскага знешняга паста паведаміў 20 жніўня 1942 г., як быў выкрыты Руфайзен: «11.8.42 г. у другой палове дня мне адзін яўрэй з тутэйшага гета паведаміў, што Руфайзен выдаў запланаваную на 13.8.42 г. у Міры акцыю супраць яўрэяў і перасцярог іх наконт яе. Яўрэй пры гэтым сказаў, што ён лічыць Руфайзена палякам. З-за гэтага Руфайзен быў адразу мной дапытаны з патрабаваннем, каб ён мне гаварыў праўду». Руфайзен на допыце прызнаўся, што ён яўрэй, быў арыштаваны і мусіў быць расстраляны. Пасля гэтага Руфайзен уцёк. Гл.: Данясенне афіцэра паліцыі бяспекі і камандзіра Мірскага жандарскага паста Гейна жандарскаму гебітсфюрару пра ўцёкі былога перакладчыка Освальда Руфайзена, 20 жніўня 1942 г. (ДАГВ. Ф. 955, воп. 1с, спр. 7, арк. 215 і наст.).

[278] Tec N. In the Lion's Den: The Life of Oswald Rufeisen. New York, 1990. P. 183 і наст.

[279] Спецпаведамленне Абакумава Сталіну за люты 1944 г. пра Армію Краёву, надрукавана ў: Лубянка. Сталин и НКВД... С. 410—413. Абакумаў у паведамленні падагульніў вынікі допытаў вывезеных у Маскву пяці афіцэраў атрада Мілашэўскага.

на барацьбе з савецкімі партызанамі, прычым яны дзейнічалі насуперак адназначным загадам Цэнтра[280].

Асабліва добра дапякаў савецкім партызанам атрад АК харужага Здзіслава Нуркевіча. Камандаванне атрада імя Жукава моцна скардзілася на гэта вясной 1944 г.:

> Банда Нуркевіча прычыняе нам больш шкоды, чым немцы. Яна беспакарана перамяшчаецца па Стаўбцоўскім і Івянецкім раёнах, падчас паліцэйскіх нападаў на вёскі яна забівае і забірае ў палон [савецкіх] партызанаў і людзей, што звязаныя з партызанамі[281].

Харужы Нуркевіч, у якога была мянушка «Ноц» («Ноч»), са сваімі коннікамі належаў да Стаўбцоўскага батальёна АК (пад камандаваннем Каспера Мілашэўскага) і пазбегнуў знішчэння 1 снежня 1943 г., бо размяшчаўся ў іншым месцы, чым астатні батальён. Пасля гэтага ён адразу ж распачаў барацьбу з савецкімі партызанамі. Паводле савецкіх дадзеных, ягоныя коннікі непасрэдна пасля 1 снежня за кароткі час узялі ў палон ад 70 да 120 савецкіх партызанаў[282].

Для камандавання Навагрудскай акругі АК канфлікт з савецкімі партызанамі азначаў вайну на два франты, супраць нямецкага і савецкага ворага. Паводле Зыгмунта Барадзіна, гісторыка з Мінска, страты ў гэтай рэгіянальнай польска-савецкай партызанскай вайне склалі з савецкага боку 400 забітых і 120 параненых, а з польскага — 300 забітых і 230 параненых. Барадзін канстатуе: «Нязначная колькасць параненых у параўнанні з забітымі сведчыць пра асабліва зацяты характар баёў: ворага, як правіла, у палон не бралі»[283]. Паводле няпоўных дадзеных, польскія партызаны Навагрудскай акругі АК бралі ўдзел агулам у 459 акцыях супраць немцаў і 355 — супраць савецкіх партызанаў[284].

Савецкія партызаны нападалі не толькі на «польскіх легіянераў», але і забівалі сем'і «белапалякаў» і іх «памагатых». Пры гэтым яны рабавалі іх гаспадаркі і дамы, а потым падпальвалі. Польскія ж партызаны дзейнічалі са свайго боку супраць «савецкіх агентаў» і «памагатых» савецкіх партызанаў такімі ж самымі жорсткімі метадамі. Пры гэтым загінулі сотні цывільных людзей, у тым ліку дзяцей. Паводле даследаванняў Зыгмунта Барадзіна, савецкія партызаны забілі мінімум 500 цывільных палякаў, найчасцей членаў сем'яў акаўцаў; польскі бок «адказаў» забойствам каля 200—250 цывільных, якія нібыта падтрымлівалі савецкіх партызанаў[285].

[280] Krajewski K. Der Bezirk Nowogrodek... S. 581; падрабязна: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 173—187.
[281] Ліст камандавання брыгады імя Г. Жукава «Платону», без даты, [магчыма, сакавік 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 4, спр. 252, арк. 72).
[282] Загад камандавання брыгады імя Сталіна ад 2 снежня 1943 г. (НАРБ. Ф. 3603, воп. 1, спр. 31, арк. 85).
[283] Падрабязна на гэты конт: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 231.
[284] Krajewski K. Der Bezirk Nowogrodek... S. 571.
[285] Падрабязна: Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 202—210, 275—281.



На іншых тэрыторыях Заходняй Беларусі таксама здараліся польска-савецкія канфлікты, што, аднак, не праходзілі так крывава, як у мясцовасці вакол Вілейкі, Ліды, Навагрудка і Баранавічаў. У Пінскай вобласці пасля забойства прадстаўніка польскага супраціву ў маі 1943 г. не дайшло, відавочна, да адкрытага польска-савецкага канфлікту. У савецкіх партызанаў была перавага, і там не сфармаваліся моцныя польскія структуры супраціву, тым больш, што польскі супраціў асцерагаўся распачынаць нейкі канфлікт з савецкімі партызанамі[286]. На поўдні ж Пінскай вобласці дамінаваў савецка-ўкраінскі канфлікт, прычым украінскія нацыяналісты выступалі і супраць польскага цывільнага насельніцтва.

Пра стасункі ў Брэсцкай вобласці ёсць мала звестак, а ў Беластоцкай вобласці шырока дамінаваў польскі супраціў, які, нягледзячы на намаганні савецкага боку, пасляхова перашкаджаў наладжванню савецкага партызанскага руху[287]. Вось польскі даклад на гэты конт з лета 1943 г.:

> У адрозненне ад іншых усходніх абласцей [даваеннай Польшчы], у Беластоцкай акрузе маецца густая сетка і моцная арганізацыя польскіх атрадаў, якія на сваю рызыку змагаюцца супраць бальшавіцкіх дыверсантаў, увогуле настроеных варожа да палякаў. Польскім жа арганізацыям варожа супрацьстаяць, без выключэння, бальшавіцкія дыверсанты. Польскія атрады займаюць абсалютна ўсю Беластоцкую тэрыторыю (вядома, за выключэннем гарадоў)[288].

У Беластоцкай вобласці Саветам паміж 1939 і 1941 гг. не ўдалося цалкам разграміць польскае падполле. Гэтым займаўся палкоўнік Сяргей Бельчанка, які потым быў начальнікам разведкі пры Цэнтральным штабе. На гэтым грунце польскае падполле пасля прыходу немцаў змагло хутка ачуняць і развіваць свае структуры далей. Дзякуючы вопыту 1939—1941 гг. моцна настроенае супраць Саветаў і вельмі недаверлівае польскае падполле ў гэтай мясцовасці не ішло ні на якія перамовы і згоду з савецкімі партызанамі[289].

### *ё) Нямецка-польскае супрацоўніцтва ў барацьбе супраць савецкіх партызанаў*

Ад польска-савецкай партызанскай вайны выйгравалі выключна нямецкія акупанты, якія імкнуліся выкарыстаць гэты канфлікт для сваіх мэт. Гэты аспект, між тым, адносна добра даследаваны. Адбываліся нават нямецка-польскія перамовы і абмеркаванні на рэгіянальным узроўні. Ініцыятыва на гэты конт зыходзіла ад польскага боку пасля

[286] Chiari B. Alltag hinter der Front... S. 287; К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту... С. 301.
[287] Заключны даклад БШПР пра вынікі партызанскай барацьбы партызанскіх атрадаў Беларусі з нямецкімі агрэсарамі ў 1943 г., [пачатак 1944 г.] (НАРБ. Ф. 3500, воп. 3, спр. 73, арк. 24).
[288] Паведамленне «Карветы» пра становішча «К» на перыяд з 20 чэрвеня да 20 ліпеня 1943 г. (AAN. Mf 423, k. 487).
[289] Strzembosz T. Antysowiecka partyzantka i konspiracja nad Biebrzą X 1939 — VI 1941. Warszawa, 2004. S. 186—211.

таго, як польскія спробы перамоў з савецкімі партызанамі пацярпелі крах і на палякаў савецкімі «партнёрамі па перамовах» вераломна рабіліся напады.

Пасля разгрому атрада Мілашэўскага падпаручнік Чэслаў Заянчкоўскі, мянушка «Рагнер» (таксама «Вагнер» і «Рагнар»), камандзір 312-га атрада АК Навагрудскай акругі, які дзейнічаў пад Лідай, наладзіў сувязь з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў Лідзе, каб пазбегнуць знішчэння савецкімі і нямецкімі сіламі. 30 снежня 1943 г. у горадзе Ліда адбыліся першыя перамовы. «Рагнер» быў прадстаўлены сваім намеснікам, нямецкі бок быў прадстаўлены сярод іншага лідскім гебітскамісарам Гонвегам, штандартэнфюрарам СС доктарам Эрляйгнерам і оберштурмфюрарам Гёнам з лідскага СД:

> У ходзе перамоў Л. [Тэафіль Лепчыновіч, польскі прадстаўнік] выказаў сваё рэзка адмоўнае стаўленне да бальшавікоў. Ён разумеў сваю арганізацыю як самаабарону ад гвалтоўных дзеянняў савецкіх бандаў. […] Кіраўнік банды «Рагнар» бачыць сваю задачу ў тым, каб ачысціць тэрыторыі на поўдзень і захад ад Ліды ад груп дыверсантаў, выдатна ўзброеных, а таксама ад бандаў рабаўнікоў. […] Банда мае, паводле выказвання Л., каля 1000 вінтовак. Ёсць недахоп вінтовачных патронаў і ручных гранат. Цяжка таксама лячыць параненых, бо прыязным да банды сялянам нельга даверыць параненых для размяшчэння. Параненыя, паводле выказвання Л., практычна мёртвыя. […] Пры заканчэнні перамоў штандартэнфюрар СС зрабіў наступныя прапановы:
> 1) На час перамоваў заключаецца перамір'е.
> 2) Немцы забяспечваюць банду амуніцыяй і медыкаментамі, прычым яны будуць дастаўляцца ў абумоўленыя часы і месцы.
> 3) Лячэнне параненых, якія таксама будуць прывозіцца праз пэўныя прамежкі часу і ў абумоўленыя месцы.
> 4) Неабходна перадаваць немцам звесткі пра вялікія перамяшчэнні банды.
> 5) Пра баявыя дзеянні супраць савецкіх бандаў і іншыя падзеі паведамляць немцам.
> 6) Тэрыторыі на поўдзень і захад ад Ліды павінны быць ачышчаныя.
> 7) Паведамляць немцам пра магчымыя баявыя дзеянні[290].

Польскі бок пагадзіўся з гэтымі прапановамі і пацвердзіў іх на наступных перамовах, якія адбыліся 4 студзеня 1944 г. у Лідзе[291]. Такія самыя перамовы адбыліся ў Вільні ў лютым 1944 г. Пасля няўдалых перамоў і масіраванага нападу савецкіх партызанаў Вілейскага партызанскага злучэння на польскія атрады камандаванне Віленскай акругі АК пачало перамовы з вермахтам (віленскім філіялам абвера)[292].

[290] Пратакол перамоў з «кіраўніком банды» «Рагнарам» ад 30 снежня 1943 г., копія (IfZ. M 248, foto 1576 і наст.).
[291] Фельдкамендатура 551 Галоўнай фельдкамендатуры 392 у Вільні пра «кіраўніка банды» «Рагнара», 4 студзеня 1944 г. (IfZ. M 248, foto 1579 і наст.).
[292] Wołkonowski J. Wileńskie rozmowy niemiecko-polskie w lutym 1944 r. // Mars. 1995. Nr. 2. S. 181—201; Piskunowicz H. Działalność zbrojna... S. 29 і наст.; Chiari B. Kriegslist... S. 518—529.



Атрад Адольфа Пільха, мянушка «Гура» («Гара»), які Пільх стварыў з рэштак разбітага атрада Мілашэўскага, таксама наладзіў сувязь і супрацоўніцтва з немцамі[293].

Цэнтральнае камандаванне АК са знешнепалітычных меркаванняў забараніла польска-нямецкія перамовы і дамовы. Але ж для партызанаў атрадаў «Рагнера», «Гуры» ці, напрыклад, «Лупашкі» справа ішла пра выжыванне. Адрэзаных ад усялякага забеспячэння амуніцыяй і зброяй, іх за самы кароткі час знішчылі б ці савецкія партызаны, ці нямецкія акупацыйныя сілы[294]. Праўда, і нямецкія органы глядзелі на лакальныя нямецка-польскія перамовы і ўзгадненні з падазронасцю. Яны баяліся далейшага ўмацавання польскіх партызанаў, якіх яны лічылі больш баяздольнымі і таму больш небяспечнымі за савецкіх партызанаў[295].

З гэтых прычын польска-нямецкія дамовы абмяжоўваліся на лакальным узроўні, яны былі дакументаваныя для Навагрудскай і Віленскай акруг АК. Нямецкі бок забяспечваў польскіх партызанаў зброяй і амуніцыяй[296], а тыя змагаліся супраць савецкіх партызанаў і часам былі больш паспяховымі, чым нямецкія акупанты.

Здаецца, асабліва цесна супрацоўнічаў з немцамі і адначасова змагаўся з савецкімі партызанамі атрад Адольфа Пільха («Гуры»). Пільх быў адным з афіцэраў атрада Мілашэўскага і выпадкова выратаваўся ад арышту жандармерыяй 1 снежня 1943 г. Затым ён з рэштак разбітага атрада арганізаваў новы польскі партызанскі атрад і зацята змагаўся з савецкімі партызанамі. У польскі партызанскі атрад уваходзіў і згаданы ўжо конны атрад Нуркевіча. У ваенным дзённіку польскіх партызанскіх атрадаў знаходзяцца, сярод іншага, наступныя запісы:

> 13.I.1944: […] На самалёце з Мінска прыляцеў маёр СД, каб праінспектаваць нашыя атрады. Інспекцыя скончылася станоўча. Ён, задаволены, паляцеў і абяцаў дапамогу зброяй. […]
> 24.I.1944: […] Папаўдні ў 4.00 гадзіны мы натыкнуліся на савецкую групу каля 50 чалавек на некалькіх дзясятках саней. Пачаўся бой, 7 бальшавікоў загінулі, у тым ліку маёр разведкі. […] У нас страт не было. […]

[293] Boradyn Z. Niemen rzeka niezgody... S. 173—177.
[294] Тамсама; Piskunowicz H. Działalność zbrojna... S. 9 і наст.
[295] Chiari B. Kriegslist... S. 512 і наст., 526.
[296] «Гура» паведаміў 25 мая 1944 г. камандзіру раёна «L» (Навагрудак), што ягоны атрад у перыяд з 1 красавіка да 25 мая атрымаў ад немцаў сярод іншага: 110 000 шт. патронаў, 181 вінтоўку, 522 ручныя гранаты, 12 лёгкіх і 3 цяжкія кулямёты і іншыя прадметы рыштунку, такія як карты, абутак, веласіпеды, матацыклы, бялізну. Гл.: AIPN Katowice. Sygn. 1/143 (дадатак), без нумарацыі аркушаў (копія). 26 сакавіка 1944 г. польскі партызанскі атрад паведаміў камандзіру раёна «L» (Навагрудак): «Я дакладваю, што мы дагэтуль атрымалі наступныя рэчы [відавочна ад немцаў]: патроны да рускіх вінтовак — 60 000, да французскіх вінтовак — 7 000, […] патроны да нямецкіх вінтовак — 3 000, […] ручных гранат — 500, снарадаў да гранатамётаў — 280, […] гранатамётаў — 4, цяжкіх кулямётаў — 4, лёгкіх кулямётаў — 9, вінтовак — 193». Гл.: Паведамленне польскага партызанскага атрада камандзіру раёна «L» ад 26 сакавіка 1944 г. (Тамсама).

27.I.1944: [...] 300 м ад маёнтка [Дудка, 5 км ад Івянца] быў забіты агент і агітатар бальшавікоў па Івянецкім раёне таварыш Мішка Столяр. Шкада, што мы не ўзялі яго ў палон жывога — ён змог бы нам тое-сёе распавесці. [...]
9.II.1944: Серада. Раніцай паездка ў Пільніцу. У аперацыі ўдзел бяруць і немцы. [...] У Пільніцы пачаўся бой, 3 бальшавікі забітыя. З нашага боку страт не было. [...]
24.II.1944: 2 узводы ў 6.30 гадзін раніцы накіраваліся ў напрамку Валны — Тэклі — Поля*. Удзельнічала нямецкая жандармерыя. Вяртанне ў той самы дзень. Баёў не было[297].

Атрад «Гуры» налічваў у красавіку 1944 г. каля 500 чалавек, якія, пры падтрымцы і забеспячэнні амуніцыяй і зброяй з боку немцаў, ускладнілі жыццё савецкім партызанам у Налібоцкай пушчы, што налічвалі некалькі тысяч чалавек. «Гура» дакладваў 25 красавіка 1944 г.:

Бальшавіцкія сілы ў Налібоцкай пушчы складаюць каля 6—10 тысяч. [...] Да нядаўняга часу прыходзілі паведамленні, што ў іх недахоп амуніцыі. Зараз яны забяспечваюцца паветраным шляхам, амаль кожную ноч над нашымі галовамі пралятаюць савецкія самалёты. [...] Пастаўкі амуніцыі пацвярджаюцца іх вялікай актыўнасцю і смеласцю. Раней яны пазбягалі баёў з намі і адразу ўцякалі. Сёння яны прымаюць бой ці спрабуюць атакаваць нашыя невялікія групы. Пасля апошняй паразы, калі яны страцілі больш за 20 чалавек, яны зноў робяць стаўку на прапаганду. Камандаванне [польскага атрада] атрымала некалькі заклікаў, якія патрабуюць ад палякаў задумацца і далучыцца да іх, бо неўзабаве будзе запозна. Аднак зараз гэта немагчыма. Абодва бакі зайшлі так далёка і настолькі варожыя, што нейкія дамовы, якія маглі б абапірацца на ўзаемадавер, выключаныя. Ім [савецкім партызанам] абыходзіць адлучыць нас ад немцаў, каб потым было шмат лягчэй біць нас. Пра супрацоўніцтва яны і не думаюць[298].

Генадзь Будай, адзін з партызанскіх камандзіраў Баранавіцкага злучэння, дакладваў пазней: «У 1944 г. адбываліся вялікія баі з імі [палякамі], мы ваявалі амаль толькі з польскімі легіянерамі, ад іх рук загінула шмат людзей»[299].

Нямецкая дапамога зброяй і амуніцыяй зрабіла значны ўнёсак у тое, што савецкія партызаны не дасягнулі заяўленай імі мэты «ачысціць» заходнія вобласці Беларусі ад польскіх падпольных структур і партызанскіх атрадаў. Польскія атрады з вясны 1944 г. узмацніліся

[297] Вытрымкі з ваеннага дзённіка польскага партызанскага атрада, 1 студзеня — 15 красавіка 1944 г. (копія) (AIPN Katowice. Sygn. 1/143, дадатак, без нумарацыі аркушаў).
[298] Паведамленне пра становішча польскага партызанскага атрада ад 25 красавіка 1944 г. (копія) (Тамсама).
[299] Стэнаграма размовы з Генадзем Будаём ад 8 снежня 1944 г. (НАРБ. Ф. 750, воп. 1, спр. 119, арк. 34).
* Так у арыгінале кнігі (*Wałny — Tekli — Pola*). Пра якія менавіта населеныя пункты ідзе тут гаворка, высвятліць не ўдалося. Сёння вёсак з такімі назвамі ў рэгіёне не існуе. — *Заўв. рэд.*



і пачалі рабіць значны ціск на савецкіх партызанаў. Летам 1944 г. частка польскіх атрадаў адышла на тэрыторыю Цэнтральнай Польшчы, дзе яны змагаліся супраць нямецкіх акупантаў, а пазней супраць савецкіх «вызваліцеляў» і іх мясцовых памагатых. Самым вядомым быў «Лупашка», які аж да 1947 г. змагаўся з савецка-камуністычнымі ўладарамі ў Польшчы[300]. Астатнія засталіся на радзіме і змагаліся на месцах супраць савецкіх «вызваліцеляў»[301].

Савецкі бок і польскія камуністы выкарыстоўвалі як падчас, так і пасля вайны кантакты партызанаў АК у Навагрудскай і Віленскай акругах з немцамі дзеля прапагандысцкіх мэт, каб дыскрэдытаваць Армію Краёву як фашысцкіх калабарацыяністаў і нямецкіх агентаў. Яны пры гэтым замоўчвалі паводзіны савецкіх партызанаў, напады на цывільнае насельніцтва, мэтанакіраваныя даносы ў гестапа і здрадніцкія напады на польскія партызанскія атрады. Заходнія даследчыкі некрытычна, масава пераймалі гэтую скажоную версію падзей.

З пачатку 1990-х гг. у Польшчы з'явіліся шматлікія, датуль засакрэчаныя дакументы і публікацыі на гэтую тэму, якія абмалёўваюць гэтыя падзеі інакш, чым гэта рабілася раней. Аднак на гэтыя публікацыі па-за межамі Польшчы, як на Захадзе, так і на Усходзе, амаль не звярталася ўвага. Так, напрыклад, на Армію Краёву ў Беларусі дагэтуль пераважае савецкі пункт гледжання[302]. У Германіі ў 2003 г. з'явіўся артыкул Бернгарда К'яры, які разглядае нямецка-польскія перамовы 1944 г. у Вільні[303]. Аднак К'яры не ўлічвае самыя новыя даследаванні і абмяжоўваецца нямецка-польскімі кантактамі, не закранаючы перадгісторыі, то бок шматлікіх няўдалых польска-савецкіх перамоў, загадаў Панамарэнкі наконт знішчэння польскага падполля, нападаў на польскія падраздзяленні і масавых злоўжыванні савецкіх партызанаў адносна цывільнага насельніцтва. Польскія даследаванні, якія ўжо на працягу гадоў займаюцца гэтым, ён, наадварот, лічыць неверагоднымі, бо іх мэта — «крыміналізаваць савецкае падполле як смяротнага ворага нацыянальнага польскага падполля і паплечнікаў Сталіна ў канчатковай саветызацыі Усходняй Польшчы»[304].

Савецкія адпаведныя крыніцы і таксама падзеі сведчаць, аднак, што гэтыя высновы ці абвінавачванні павінны быць праўдзівымі і

[300] Kozłowski P. Działalność szwadronów majora Zygmunta Szendzielarza «Łupaszki» na terenie południowej Warmii i Mazur od maja 1946 do stycznia 1947 roku // Rocznik Mazurski. T. IX. Szczytno, 2005. S. 73—97.
[301] Падрабязна: Niwiński P. Okręg Wileński AK w latach 1944—1948. Warszawa, 1999.
[302] Параўн.: Kren' I. P. Der Einsatz der Armia Krajowa auf dem Territorium Weißrußlands aus weißrußischer Sicht. Versuch einer Ortsbestimmung // Die polnische Heimatarmee... S. 585—597; крытыка: Borodin S. P. Die weißrussische Geschichtsschreibung und Publizistik und die Heimatarmee in den nordostlichen Gebieten der Republik Polen 1939 bis 1945 // Тамсама. S. 599—616.
[303] Chiari B. Kriegslist... S. 497—527.
[304] Chiari B. [Рэцэнзія на кнігу] «Sowjetische Partisanen in Weißrußland. Innenansichten aus dem Gebiet Baranoviči 1941—1944» // Jahrbücher für die Geschichte Osteuropas. Bd. 54. Stuttgart, 2006.

мець бездакорныя доказы. У 2004 г. з'явіўся неаднаразова ўжо цытаваны зборнік дакументаў пра савецкі партызанскі рух у Беларусі, у якім некаторыя з гэтых матэрыялаў апублікаваныя ў нямецкім перакладзе[305]. Ды і крыніцы, падрабязна прыведзеныя і разгледжаныя ў дадзенай працы, з'яўляюцца вынікам ранейшых польскіх даследаванняў і высноў, нават і дапаўняючы іх.

*ж) Польска-савецкая партызанская вайна ў даследаваннях Халакосту*

Польска-савецкая партызанская вайна часта разглядаецца ў даследаваннях Халакосту, у прыватнасці пры апісанні яўрэйскага супраціву на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Літвы. Першаснову тут утвараюць успаміны і паведамленні былых партызанаў-яўрэяў з савецкіх партызанскіх атрадаў. Пры гэтым у даследаванні Халакосту агульным месцам лічыцца, што польскія партызаны правакавалі ўзброеныя канфлікты па заданні польскага ўрада ў выгнанні. Шалом Халяўскі, былы партызан і гісторык, піша:

> У пачатку верасня 1943 г. польскія атрады атрымалі загад нанесці ўдар па рускіх і яўрэйскіх партызанскіх атрадах. Цяпер мы вялі вайну і супраць немцаў, і супраць палякаў, прычым байцы нашай брыгады сутыкнуліся з новым ворагам даволі хутка. Гаркаві і яго група была атакаваная бандай узброеных палякаў, калі знаходзілася на заданні ў раёне Налібакаў. [...] Весткі пра гэты бой і здраду палякаў хутка распаўсюдзіліся па Налібоцкай пушчы[306].

Цытаваны ўжо былы партызан і пазнейшы гісторык Доў Левін распавядае ў сваёй кнізе пра супраціў яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны:

> Па меры набліжэння фронту да Літвы варожая актыўнасць польскага падполля, звязанага з польскім лонданскім урадам і вядомага як АК (Армія Краёва), рэзка ўзрасла. На гэтай тэрыторыі АК дзейнічала пад назвай «белыя палякі». Адной з іх мэт было ўзяць пад кантроль Віленшчыну пасля адыходу немцаў, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для фактычнай польскай анексіі [sic] гэтай тэрыторыі пасля вайны. Нягледзячы на спробы перамоў [sic] з імі, палякі ва ўсходняй Літве ператварыліся ў небяспечных і жорсткіх ворагаў савецкіх партызан, асабліва яўрэяў у іх складзе[307].

Шмуэль Кракоўскі, ізраільскі эксперт па гісторыі яўрэйскіх партызанаў падчас Другой сусветнай вайны, дае такую ж самую ацэнку:

> Галоўныя сілы польскага падполля, падначаленыя Дэлегатуры і падтрымания правымі групоўкамі, змагаліся за аднаўленне Польшчы з захаваннем

[305] Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 221—255.
[306] Cholawski Sh. Soldiers from the Ghetto. San Diego, 1980. P. 162.
[307] Levin D. Fighting Back... P. 182.



> даваенных усходніх меж. Каб дасягнуць гэтай мэты, на ўсходзе была распачата жорсткая барацьба з савецкімі партызанамі[308].

Як можна растлумачыць гэтыя паведамленні і агульныя абвінавачванні польскіх партызанаў, калі даступныя сёння савецкія крыніцы даводзяць якраз супрацьлеглае? Відавочна, тут дзейнічае савецкая ваенная і пасляваенная прапаганда, мэтай якой было перакласці прычыну пачатку канфліктаў на палякаў. Панамарэнка ўвесь час даводзіў, што неабходна шляхам прапаганды выгароджваць савецкія напады на польскіх партызанаў і пакідаць як мага менш слядоў ад здзейсненых злачынстваў. У простых партызанаў, канешне, не было інфармацыі пра сакрэтныя загады і дырэктывы з Масквы. Яны павінны былі верыць камандзірам і слухаць іх, а тыя тлумачылі, што партызаны АК — гэта нямецкія агенты, здраднікі і маюць намер нападаць на савецкіх партызанаў і знішчаць іх[309].

«Узровень інфармаванасці», сфармаваны гэтай прапагандай, былыя партызаны захоўвалі і працягваюць захоўваць у сваіх успамінах і сведчаннях, як гэта робіць, напрыклад, былы партызан з Налібоцкай пушчы Якуб Грынштэйн. Алан Левін цытуе яго так:

> Па-першае, як адзначае Якуб Грынштэйн, партызаны АК у Налібоцкай пушчы імкнуліся дзейнічаць пляча ў пляча з яўрэйскімі і савецкімі байцамі. Затым, у снежні 1943 г. палякі атрымалі загад з Лондана «пазбавіцца ад чырвоных партызан, асабліва яўрэяў»[310].

Такіх прыкладаў шмат[311].

Але гэта не азначае, што высунутыя пры гэтым масавыя абвінавачванні ў антысемітызме польскіх партызанаў былі безгрунтоўныя. Не без прычыны ў шэрагах Арміі Краёвай было мала партызанаў яўрэйскай нацыянальнасці, прычым гэта былі ў асноўным асіміляваныя польскія яўрэі-інтэлігенты. У 1942 г., калі пачаліся першыя ўцёкі з гета, меліся толькі асобныя партызанскія атрады АК, якія маглі прыняць да сябе ўцекачоў з гета. Падраздзяленні АК, што

[308] Krakowski Sh. The Attitude of the Polish Underground to the Jewish Question during the Second World War // Contested Memories: Poles and Jews during the Holocaust and Its Aftermath / Ed. by J. D. Zimmerman. New Brunswick — New Jersey — London, 2003. P. 103. Адначасова Кракоўскі папракае польскіх гісторыкаў за іх «нацыяналістычную блізарукасць»: «На жаль, вялікая колькасць літаратуры носіць апалагетычны характар, што вельмі перашкаджае разабрацца ў складаных праблемах гэтай трагічнай старонкі мінулага». Гл.: Тамсама. P. 104.
[309] Шматлікія прыклады ўдзелу партызанаў-яўрэяў у акцыях супраць падраздзяленняў АК, якія, як правіла, падаюцца ў скажоным выглядзе, у: Paul M. A Tangled Web. Polish-Jewish Relations in Wartime Northeastern Poland and the Aftermath (part two). Toronto, 2005 (рукапіс) (раздзел «Далучэнне яўрэйскіх партызан да савецкіх акцый супраць польскіх партызан»).
[310] Levine A. Fugitives of the Forest: The Heroic Story of Jewish Resistance and Survival during the Second World War. Toronto, 1998. P. 191.
[311] Параўн.: Paul M. A Tangled Web...

пачалі фармавацца з вясны 1943 г., сустракалі яўрэяў-уцекачоў з недаверам, бо яўрэям увогуле прыпісваліся антыпольскія і прасавецкія пазіцыі. Камандзір Стаўбцоўскай групоўкі АК, у якую ўваходзіў і атрад Мілашэўскага, заяўляў, што «ён прымае ўсіх яўрэяў, што паходзяць з Цэнтральнай Польшчы». Аднак ён забараняў прымаць мясцовых яўрэяў, бо яны праз калабарацыянізм з Саветамі і антыпольскае стаўленне ў 1939—1941 гг. дыскрэдытавалі сябе[312].

Былі напады польскіх партызанаў на партызанаў-яўрэяў. Самы вядомы выпадак адбыўся ў вёсцы Дубнікі пад Івянцом. Забеспячальны атрад з 13 чалавек з атрада Зорына меў намер правесці ноччу на 18 лістапада 1943 г. у Дубніках «гаспадарчую аперацыю». Але ў вёсцы знаходзіліся польскія партызаны, якія забаранілі забеспячальнаму атраду «забяспечвацца» там. Пасля гэтага партызаны-яўрэі накіраваліся ў суседнюю вёску. Праз нейкі час адзін з жыхароў вёскі даў сігнал польскім партызанам у Дубніках: «Яўрэі рабуюць вёску». Камандзір польскіх партызанаў, магчыма, харужы Здзіслаў Нуркевіч, паслаў групу вершнікаў у вёску, якія яшчэ па дарозе адкрылі агонь. Партызаны-яўрэі ў паніцы пабеглі і пакінулі чатыры вазы з шасцю конямі і «канфіскаваным» дабром[313].

Калі партызаны-яўрэі ачунялі ад страху, яны вярнуліся і хацелі забраць назад вазы з конямі. Тады польскія партызаны раззброілі іх як рабаўнікоў, абзываючы камуністамі і жыдоўскімі рабаўнікамі і здзекваючыся з іх. Затым група польскіх партызанаў вывела палонных яўрэяў за вёску і расстраляла ў ляску. Адзін партызан-яўрэй выжыў, паранены, і далажыў пра інцыдэнт. Усяго было забіта 10 партызанаў, два да гэтага ўцяклі[314].

Гірш Смоляр у сваёй кнізе «Менскае гета» сцвярджае, што гэты выпадак быў прычынай «роспуску» атрада Мілашэўскага[315]. Але гэта не адпавядае фактам, бо Чарнышоў ужо 5 лістапада 1943 г. прасіў у Панамарэнкі адпаведнага дазволу, які той даў яму 15 лістапада 1943 г. Смоляр падчас разгрому польскага атрада быў адказны за савецкую прапаганду ў Стаўбцоўскім раёне, адгэтуль і абгаворванне атрада Мілашэўскага. Атрад імя Кутузава, у якім ён да таго быў палiткамісарам, удзельнічаў у акцыі супраць польскіх партызанаў[316].

---

[312] Krajewski K. Der Bezirk Nowogrodek... S. 568 і наст.

[313] Паведамленне камісіі па расследаванні інцыдэнту ў вёсцы Дубнікі ад 21 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3601, воп. 1, спр. 8, арк. 77 і наст.). Камісія складалася сярод іншага з Зорына, Мілашэўскага і Вертгейма, таму вынікі яе расследавання можна ацаніць як аднасна аб'ектыўныя. Гл. таксама: пратакол допыту партызана Чарняка ад 24 лістапада 1943 г. (НАРБ. Ф. 3601, воп. 1, спр. 8, арк. 70 і наст.), апублікаваны ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 195 і наст.; паведамленні пра інцыдэнты ў вёсцы Дубнікі 17—18 лістапада 1943 г., без даты (НАРБ. Ф. 3601, воп. 1, спр. 8, арк. 79), надрукаваныя ў перакладзе на нямецкую мову ў: Sowjetische Partisanen in Weißrußland... S. 194 і наст.

[314] Тамсама.

[315] Smolar H. The Minsk Ghetto... P. 126; Смоляр Г. Менскае гета... С. 134.

[316] Даведка Баранавіцкага абкама для Рыгора (Гірша) Смоляра пра яго ўдзел у савецкім партызанскім руху, падпісаная Васілём Чарнышовым, ад 17 жніўня 1944 г., польскі пераклад ад 14 ліпеня 1968 г. (копія ў прыватным архіве аўтара).



У паведамленнях тых, хто выжыў, якія (паведамленні) захоўваюцца ў архіве Яўрэйскага гістарычнага інстытута, маюцца шматлікія сведчанні пра іншыя напады партызанаў АК на яўрэяў-бежанцаў і партызанаў, а таксама савецка-польскія баі[317]. Джэймс Глас у сваёй кнізе пра яўрэйскі супраціў падчас Халакосту і становішча партызанаў-яўрэяў у лясах Заходняй Беларусі канстатуе:

> Да таго ж партызаны Польскай нацыянальнай арміі (АК) часта аддавалі перавагу нападам на яўрэяў і рускія партызанскія групы, а не барацьбе супраць немцаў. Як мне неаднаразова казалі выжыўшыя ўдзельнікі супраціўлення, «палякі ненавідзелі яўрэяў не менш, чым немцы»[318].

Толькі некалькі гадоў таму Ізраэль Гутман, ізраільскі гісторык з мемарыяла Яд Вашэм, звярнуў увагу на тое, што акцыі партызанаў АК супраць партызанаў-яўрэяў нельга тлумачыць толькі антысеміцкімі настроямі:

> Нельга заплюшчваць вочы перад фактам, што падраздзяленні АК у Віленскай акрузе змагаліся супраць савецкіх партызанаў за вызваленне Польшчы. Таму яўрэі, якія знаходзіліся на савецкім баку і гінулі ад рук жаўнераў АК, паміралі як ворагі Польшчы, а не як яўрэі[319].

Але такія галасы — выключэнне.

---

[317] Bańkowska A. Partyzantka polska lat 1942—1944 w relacjach żydowskich // Zagłada Żydów. Studia i materiały. 2005. Nr. 1. S. 148—164.

[318] Glass J. M. Jewish Resistance during the Holocaust. Moral Uses of Violence and Will. London, 2004. P. 97.

[319] Gutman I. Uczmy się być razem // Znak (Kraków). 2000. Czerwiec. Nr. 254. S. 66.

# Заканчэнне

Афіцыйна прапагандаваны пасля Другой сусветнай вайны гістарычны вобраз савецкага партызанскага руху павінен быў служыць легітымацыі камуністычнага панавання ў СССР. Гістарычныя падзеі ў адлюстраванні адпаведна з дырэктывамі Камуністычнай партыі фальсіфікаваліся і замоўчваліся такім чынам, каб дагадзіць палітычна-ідэалагічным патрэбам. Архіўныя матэрыялы, якія маглі паставіць пад пытанне гэты прапагандысцкі вобраз, трымаліся пад найстражэйшым сакрэтам. Толькі крах камунізму і адкрыццё архіваў далі магчымасць пачаць крытычнае і навукова абгрунтаванае адлюстраванне гісторыі савецкага партызанскага руху.

Тагачасная савецкая прапаганда, як і пазней савецкая гістарыяграфія, зрабілі ўсё, каб «даказаць», што савецкі партызанскі рух падчас Другой сусветнай вайны быў усенародным і добраахвотным. Згодна з гэтым і ў Беларусі ўвесь народ спантанна, але адначасова пад кіраўніцтвам партыі ўзяў у рукі зброю і павёў зацятую, самаахвярную і ў рэшце рэшт пераможную барацьбу супраць нямецкіх захопнікаў. Адкрытыя і выкарыстаныя ў рамках гэтага даследавання крыніцы абвяргаюць гэтыя да сёння пашыраныя прапагандысцкія тэзісы.

Так, партызаны 1941 г. фармаваліся з супрацоўнікаў НКУС і НКДБ, міліцыянераў, партыйных і іншых савецкіх актывістаў і работнікаў, а таксама камсамольцаў. Такім чынам, размова ідзе пра людзей, якія яшчэ раней падтрымлівалі савецкі рэжым і мелі ад гэтага карысць. Акрамя таго, летам і ранняй восенню 1941 г. спантанна ўзніклі шматлікія групы і атрады, якія складаліся з афіцэраў і салдат Чырвонай Арміі, што паадбіваліся ад сваіх часцей, а часткова з савецкіх актывістаў, якіх накрыла хваля вермахта.

Людзей «з народа», калгаснікаў і рабочых, сярод савецкіх партызанаў 1941 г. амаль нельга было знайсці. Наадварот, мясцовае насельніцтва адыграла важную ролю ў разгроме савецкага партызанскага руху ў 1941 г. Яно дапамагала нямецкім акупантам высочваць партызанаў, камуністаў і камсамольцаў, супрацоўнікаў НКУС і міліцыі, а таксама іншых савецкіх актывістаў, якія засталіся. Падтрымка мясцовага насельніцтва ў барацьбе супраць партызанаў вырашальным чынам садзейнічала поспехам немцаў у барацьбе з партызанамі летам і восенню 1941 г. Гэтая падтрымка адначасова выкрывае хлусню прапагандысцкага тэзіса пра ўсенародную партызанскую барацьбу.

Паварот у Беларусі адбыўся вясной 1942 г., калі тысячы збеглых або вызваленых ваеннапалонных ды салдат і афіцэраў, якія адбіліся ад сваіх часцей, што да таго часу жылі і працавалі на вёсцы, у сувязі з рэкрутаваннем на працу ў Германіі паўцякалі ў лясы. Яны далучаліся да ўжо наяўных груп і атрадаў ці стваралі іх самі. У гэтым спантанным працэсе значную ролю адыгрывалі некаторыя моцныя асобы, якія ўмелі дамагчыся прызнання і ідэалагічна былі загартаваныя ў савецкім духу. Гэты працэс падрабязна выкладзены ў дадзенай працы на прыкладзе падраздзялення палкоўніка Уладзіміра Нічыпаровіча.



Далейшы пераломны момант у развіцці партызанскага руху склала стварэнне Цэнтральнага штаба партызанскага руху (ЦШПР) 30 мая 1942 г., начальнікам якога быў прызначаны партыйны дзеяч Панцеляймон Панамарэнка. Цэнтральны штаб атрымаў заданне аб'яднаць партызанскі рух пад адзіным кіраўніцтвам, інтэнсіфікаваць і развіваць далей яго барацьбу. Заснаванне Цэнтральнага штаба дало магчымасць скласці план адзінай стратэгіі партызанскай вайны, якую можна было ажыццявіць на практыцы. Гэта прынесла змены ў вядзенне барацьбы савецкіх партызанаў.

Зімой 1942/43 гг. і вясной 1943 г. у асноўным склалася арганізацыйная структура савецкага партызанскага руху, што існавала да канца нямецкай акупацыі. Арганізацыйная структура, якая, паводле афіцыйных дакладаў, была комплекснай і шчыльнай, не азначала, аднак, што адпаведныя штабы сапраўды і паступова ажыццяўлялі аператыўнае кіраванне падраздзяленнямі, якія дзейнічалі на іх тэрыторыях. Гэтаму перашкаджала ў першую чаргу нерэгулярнасць ці адсутнасць сувязі. Адзінай рэальнай магчымасцю наладжвання кантактаў была радыёсувязь. Цэнтральны штаб з самага пачатку намагаўся пашырыць яе. Аднак, нягледзячы на такія-сякія поспехі ў гэтай сферы, радыёсувязь, якая ў большасці выпадкаў не працавала, была адным з галоўных слабых месцаў савецкага партызанскага руху ў Беларусі.

Савецкі партызанскі рух у Беларусі разгортваўся тэрытарыяльна вельмі нераўнамерна і быў адметны стварэннем зон, занятых партызанамі, у якіх яны нават стварылі савецкія ўладныя структуры. Праўда, вобласці, занятыя партызанамі, увогуле былі эканамічна мала эфектыўнымі ці неэфектыўнымі і нават для беларускіх умоў рэдка заселенымі. У гэтых зонах канцэнтравалася найбольшая частка атрадаў і партызанаў Беларусі.

У ліпені 1942 г. Панамарэнка як начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху галоўнай задачай савецкіх партызанаў аб'явіў дыверсіі на камунікацыйных шляхах, найперш на чыгуначных лініях. Нягледзячы на першапачаткова значныя поспехі, агульныя вынікі, з савецкага пункту гледжання, былі далёка нездавальняючымі. Шырокамаштабныя планы на ліпень 1942 г. нельга было ажыццявіць, бо існавалі вялікія цяжкасці дастаўкі пільна патрэбных партызанам мін, выбухоўкі і ўзбраення.

Пасля арганізацыйных пертурбацый у сакавіку і красавіку 1943 г. Панамарэнка ў ліпені 1943 г. распарадзіўся распрацаваць вялікі план для «Рэйкавай вайны», у якой павінны былі прыняць удзел усе партызанскія падраздзяленні, з якімі мелася сувязь. У пачатку жніўня 1943 г. план быў прыняты. Паводле нямецкіх дадзеных, савецкія партызаны разбурылі са жніўня да лістапада 1943 г. рэйкавыя шляхі агульнай даўжынёй крыху больш за 600 км, што ёсць роўным аднакалейнаму чыгуначнаму ўчастку ў 300 км.

